# ПРАДМОВА

Слоўнік фразеалагізмаў значна адрозніваецца ад выдадзенага ў свой час Фразеалагічнага слоўніка беларускай мовы (ФСБМ) у 2 тамах (1993).

Новы Слоўнік дапоўнены, у ім дадаткова апісваюцца з семантычнага, граматычнага і стылістычнага боку каля 800 фразеалагічных адзінак, якія склаліся нядаўна і сталі актыўна ўжывацца ў перыядычным друку і мастацкіх тэкстах, а таксама такія, якія існавалі ў беларускай літаратурнай мове, відаць, і раней, але па розных прычынах не трапілі ў папярэдняе выданне: **выціраць ногі** *аб каго*, **галаўны боль**, **дах паехаў** *у каго*, **зайцы поле гнояць** *у каго, каму*, **з пекла родам**, **не прасыхаць**, **перакрываць кісларод** *каму*, **так бы мовіць**, **уставаць з каленяў**, **цягнуць коўдру на сябе** і г.д.

У Слоўніку ўнесена шмат паправак, удакладненняў, дапаўненняў або скарачэнняў у семантычную характарыстыку раней апісаных фразеалагізмаў (мнагазначнасць, варыянтнасць, сінанімічнасць і інш.), іншым спосабам пададзены тыя дзеяслоўныя фразеалагізмы (іх каля 1200), якія маюць суадносныя пары незакончанага і закончанага трывання.

У Слоўніку выяўлены і па магчымасці поўна апісаны фразеалагічны склад беларускай мовы ў яго сучасным стане. Тут пададзена каля 7 тысяч фразеалагічных адзінак, а з улікам суадносных трывальных пар дзеяслоўных зваротаў — каля 8 тысяч. Кожны фразеалагізм мае трохбаковую характарыстыку — семантычную, граматычную і стылістычную.

Гэта тлумачальны слоўнік. Аднак у ім не толькі раскрываецца сэнсавы змест таго ці іншага фразеалагізма. Гэты даведнік бярэ на сябе функцыі іншых філалагічных слоўнікаў: акцэнталагічнага (над кампанентамі ў фразеалагізме абазначана месца націску), арфаграфічнага, сінанімічнага, антанімічнага і г.д.

Паводле адбору матэрыялу, а таксама па яго граматычнай і стылістычнай ацэнцы гэта нарматыўны слоўнік. У яго ўключаны выразы актыўнага фразеалагічнага фонду, якія па сферы ўжывання адносяцца да агульнамоўных, агульнаўжывальных. У Слоўнік увайшлі таксама асобныя выразы пасіўнага саставу, пададзеныя з паметай *устар.* (устарэлы); напрыклад: **на пасад садзіць** *каго.* Зусім нязначная частка фразеалагізмаў уключана з паметай *абл.* (абласны): **без дай рады**, **шашкі ў мяшкі** і пад.

Граматычная норма фразеалагізма фіксуецца паказам яго марфалагічных і сінтаксічных асаблівасцей, лексіка-граматычнай спалучальнасці са словамі ў

сказе. Так, дзеяслоўны фразеалагізм незакончанага трывання **ставіць у адзін рад** *каго з кім* здольны ўжывацца і ў форме закончанага трывання (**паставіць у адзін рад** *каго з кім*), у сказе выступае ў ролі выказніка, мае абавязковае лексічнае акружэнне, па-першае, суб'ектнае (ужываецца пры дзейніку са значэннем асобы), па-другое, аб'ектнае, прычым падвойнае (на нарматыўную спалучальную сувязь «справа» паказваюць прыведзеныя склонавыя формы, якімі кіруе гэты фразеалагізм: **ставіць у адзін рад** *каго з кім*).

Кожны фразеалагізм у Слоўніку мае стылістычную характарыстыку, якая падаецца ў выглядзе памет — функцыянальна-стылёвых і экспрэсіўна-ацэначных. Напрыклад: **ад зямлі не адрос** — *разм., іран.*; адзін чорт <*каму, для каго*> — *праст., часта незадав.*; **адзіным фронтам** — *функц. не зам.*; **адкрываць новую старонку** *ў чым* — *кніжны.*

Крыніцай Слоўніка стала картатэка, створаная аўтарам шляхам франтальнага і выбарачнага распісвання мастацкай, публіцыстычнай, навукова-папулярнай і навуковай літаратуры галоўным чынам XX ст.

Перш чым гаварыць пра структуру Слоўніка, ёсць неабходнасць спыніцца на некаторых агульных пытаннях фразеалогіі, якія пакуль што ў навуцы не маюць адназначнага адказу, паказаць, як яны вырашаліся практычна пры складанні Слоўніка. Адно з такіх пытанняў — само паняцце фразеалагічнай адзінкі.

Ф р а з е а л а г і з м — гэта ўстойлівая, узнаўляльная, не менш як двухкампанентная моўная адзінка, якая спалучаецца са словамі свабоднага ўжывання і мае цэласнае значэнне, не роўнае суме значэнняў яе кампанентаў (калі іх разглядаць на ўзроўні слоў). Галоўная, вызначальная прыкмета фразеалагізма — яго семантычная цэласнасць, унутранае сэнсавае адзінства, нераскладальнае на асобныя значэнні кампанентаў. Супаставім, напрыклад, значэнні полісемантычнага фразеалагізма **трымаць вуха востра** 'апасаючыся чаго-н., быць вельмі пільным, быць напагатове', 'не давярацца каму-н., быць асцярожным з кім-н.' са значэннямі слоў *трымаць, вуха, востра.* Усе гэтыя тры словы мнагазначныя. У якой бы камбінацыі ні складваліся паасобныя значэнні гэтых слоў (прамыя, вытворна-прамыя, пераносныя, адценні), мы ніколі не атрымаем таго значэння, якім перадаецца змест фразеалагізма **трымаць вуха востра**, бо кампаненты ў складзе фразеалагізма не маюць самастойнага лексічнага значэння і ў спалучэнні даюць не суму значэнняў, а зусім іншы, новы сэнс.

Зыходзячы са сказанага, нельга лічыць фразеалагізмам, напрыклад, такое ўстойлівае, узнаўляльнае, двухкампанентнае словазлучэнне, як *каторая пара,* хоць у некаторых лексікаграфічных і іншых працах яно разглядаецца ў якасці фразеалагічнай адзінкі. Гэта словазлучэнне не мае семантычнай цэласнасці, а яго састаўныя часткі захоўваюць свае лексічныя значэнні: *каторы* — 'доўгі, працяглы', *пара* — 'час'. Тое самае можна сказаць і пра словазлучэнне прэдыкатыўнага тыпу *пайшла пагалоска,* дзе кожнае слова рэалізуе сваё слоўнікавае значэнне.

Варта, аднак, адзначыць, што ў зусім невялікай групе фразеалагізмаў адзін з кампанентаў выконвае сэнсаўтваральную функцыю, выступае як сэнсавы

цэнтр пэўнага выразу. Так, у фразеалагізме **на скорую руку** 'паспешліва, наскара, не трацячы часу' сэнсавым цэнтрам з'яўляецца прыметнікавы кампанент, які семантычна суадносіцца з такім жа словам свабоднага ўжывання. Яшчэ некалькі прыкладаў з выдзеленым у іх сэнсаўтваральным кампанентам: **пад з л о с н у ю руку, пад п ' я н у ю руку, на ш ы р о к у ю нагу, з г а л о д н а г а краю прыехаў, с я р э д н я й рукі, г а р а ч а я галава**.

Нязначную, перыферыйную групу ў фразеалагічнай сістэме складаюць выразы, у якіх кожны кампанент выступае як сэнсаўтваральны і семантычна суадносіцца (але не супадае!) з адпаведным словам у яго свабодным ужыванні. Напрыклад, у фразеалагізме **адбіваць хлеб**, што значыць 'пазбаўляць каго-н. заробку, беручыся за тую ж работу, справу', дзеяслоўны кампанент суадносіцца з перыферыйным значэннем 'сілком адабраць што-н.', а назоўнікавы — са значэннем 'сродкі існавання'. Такіх фразеалагізмаў — лічаныя адзінкі: **па́даць духам, браць верх, даваць знаць** і некаторыя іншыя.

У святле выказаных меркаванняў застаюцца за межамі фразеалогіі і не ўключаюцца ў Слоўнік:

а) словазлучэнні, у якіх лексічнае значэнне аднаго са слоў рэалізуецца толькі ў спалучэнні са строга акрэсленым словам ці словамі. Такія значэнні называюцца фразеалагічна звязанымі, ці валентна абмежаванымі. Існуе нямала аднавалентных паводле спалучальнасці слоў. Так, прыметнік *прасёлачная* ўступае ў кантакт толькі са словам *дарога* і абазначае 'грунтавая, паміж невялікімі населенымі пунктамі'; прыметнік *рабінавая* 'навальнічная' спалучаецца толькі са словам *ноч*. Мнагазначнаму прыметніку *кароткі* ўласцівы такія валентна абмежаваныя значэнні: у словазлучэнні *кароткая памяць* — 'кепская', у словазлучэннях *кароткі прысуд, кароткае рашэнне* — 'рашучы і суровы'. Прыметнік *траскучы* ў словазлучэнні *траскучы мароз* абазначае 'вельмі моцны; які ўтварае трэск', а ў спалучэнні са словамі *фраза, рэзалюцыя* і некаторымі іншымі — 'напышлівы, высакамоўны'. Некаторыя словы ўступаюць у сувязь з двума і больш словамі: *расквасіць нос (твар), закадычны сябар (таварыш), страх (жах, зайздрасць, смех, злосць) бярэ*;

б) апісальныя дзеяслоўна-іменныя звароты тыпу *аказваць дапамогу, даваць згоду, прымаць рашэнне, ствараць уражанне*. Тут кожнае слова захоўвае сваё лексічнае значэнне і граматычную характарыстыку;

в) састаўныя тэрміны, у складзе якіх словы не страчваюць лексіка-семантычнай самастойнасці: *актыўны баланс, белы мядзведзь, вуглякіслы газ, карболавая кіслата, лімонная кіслата* і пад. Калі ж састаўныя тэрміны ўзніклі са свабодных словазлучэнняў у выніку іх метафарычнага пераасэнсавання або развілі пераносны сэнс і сталі агульнаўжывальнымі ў гэтым значэнні, то яны павінны адносіцца да разраду фразеалагізмаў: **баранчык божы, божая кароўка, брат-сястрыца, воўчае лыка, гусіныя лапкі, зязюльчын лён** і інш.; **абсалютны нуль, выводзіць на арбіту** *каго,* **выходзіць у тыраж, залаты фонд** *чаго, чый,* **камандаваць парадам, кульмінацыйны пункт** *<чаго, у чым>,* **удзельная вага** *чаго, каго, чыя ў чым,* **цэнтр цяжару** *чаго* і пад.;

г) неперааснсаваныя крылатыя выразы тыпу *быць або не быць*; *лепш менш, ды лепш*; *прыйшоў, убачыў, перамог,* а таксама пераасэнсаваныя, калі яны маюць форму закончанага простага ці складанага сказа і канструктыўна не могуць спалучацца са словамі свабоднага ўжывання: *А Васька слухае ды есць*; *Апетыт прыходзіць у часе яды*; *Каб сонца засланіць, вушэй асліных мала.* Крылатыя выразы, якія набылі метафарычны сэнс і ў маўленні канструктыўна звязваюцца са словам, выступаючы ў ролі якога-небудзь члена сказа, павінны разглядацца як звычайныя фразеалагізмы: **ахілесава пята** *<чыя, каго, у каго>*; **выпускаць джына з бутлі**, **высцебаць самога сябе**, **дамоклаў меч**, **дражніць гусей**, **жаба ў каляіне**, **людзьмі звацца**, **пракрустава ложа** *чаго,* **рукі прэч** *ад каго, ад чаго,* **рыльца ў пушку** *ў каго,* **рыцар ночы**, **свінтус грандыёзус**, **хадзіць на задніх лапках** *перад кім* і г.д.;

д) прыказкі. Калі іх разглядаць з семантычнага боку, то аказваецца, што гэта далёка не аднародныя моўныя адзінкі. Адны прыказкі заўсёды ўжываюцца з прамым значэннем іх кампанентаў, напрыклад: *Брат любіць сястру багатую, а мужык жонку здаровую*; *Госць госця ненавідзіць, а гаспадар абодвух.* У другой групе прыказак частка слоў пераасэнсавалася, а частка захоўвае сваё літаральнае значэнне: *Не такі чорт страшны, як яго малююць*; *Яйка курыцу вучыць.* Трэцяя група прыказак мае алегарычны сэнс, г.зн. у іх гаворыцца пра адно, а маецца на ўвазе зусім іншае: *З песні слова не выкінеш*; *Куй жалеза, пакуль гарачае*; *Рука руку мые*; *Смачны жабе арэх, ды зубоў бог не даў*; *Яблык ад яблыні недалёка падае.* Толькі прыказкі трэцяй групы набліжаюцца ў семантычным плане да фразеалагізмаў, але разам з тым і адрозніваюцца ад іх па ўсіх параметрах: называюць не паняцце, а суджэнне, валодаюць сэнсавай і інтанацыйнай закончанасцю, не ўступаюць у сувязь са словамі свабоднага ўжывання і не з'яўляюцца будаўнічым матэрыялам для сказаў.

Не менш істотнай, чым папярэдняя, з'яўляецца і праблема с т ы л і с т ы ч н а й характарыстыкі фразеалагізмаў. В.У.Вінаградаў, гаворачы пра акадэмічны Слоўнік рускай літаратурнай мовы, пісаў, што яго складальнікі вызвалілі сябе «ад стылістычнага аналізу фразеалагічных зваротаў, нягледзячы на тое, што экспрэсіўна-стылістычныя адценні многіх з іх яўна звязаны з абмежаванай галіной іх ужывання, з прыстасаванасцю іх да строга акрэсленых разнавіднасцей літаратурнага маўлення»[1]. Тое самае бачым і ў акадэмічным Тлумачальным слоўніку беларускай мовы (ТСМБ). У ім зусім няма стылістычных памет пры фразеалагізмах, у выніку ствараецца ўражанне, быццам усе фразеалагізмы толькі нейтральныя, міжстылёвыя і могуць ужывацца ў любым стылі. Адсутнасць адпаведнай стылістычнай ацэнкі фразеалагізмаў у нарматыўным слоўніку зніжае яго ролю як даведніка па культуры маўлення.

Сэнсавая структура фразеалагізма ўключае ў сябе як фразеалагічнае, так і стылістычнае значэнне. Апошняе складаецца з двух кампанентаў, што выступаюць як розныя бакі адной з'явы: а) экспрэсіўна-ацэначнай афарбоўкі, якая на-

---

[1] Виноградов В.В. Избр. тр.: Лексикология и лексикография. — М., 1977. С.262—263.

дае фразеалагізму ацэначныя, эмацыянальныя і іншыя адценні, б) функцыянальна-стылёвай афарбоўкі, якая паказвае на прыналежнасць фразеалагізма да пэўнага стылю.

Для значнай часткі фразеалагізмаў уласцівы ім пэўны від экспрэсіўна-ацэначнай афарбоўкі (адабрэнне, неадабрэнне, іранічнасць, жартаўлівасць і г.д.) з'яўляецца іх пастаяннай прыметай. Ёсць і такія фразеалагізмы, стылістычная афарбоўка якіх змяняецца ў залежнасці ад маўленчай сітуацыі. Экспрэсіўна-ацэначная афарбоўка фразеалагізмаў звычайна адчуваецца носьбітамі мовы, выразна ўсведамляецца імі.

Што да функцыянальна-стылёвай афарбоўкі, то яна не заўсёды паддаецца адназначнай інтэрпрэтацыі. Існуюць, аднак, аб'ектыўныя паказчыкі, крытэрыі функцыянальна-стылёвага размежавання фразеалагізмаў. Гэта ў першую чаргу значнасць унутранай формы[2] фразеалагізма, або яе здольнасць ствараць пэўнае ўражанне, і этымалагічны крытэрый, пад якім разумеюцца генетычныя асаблівасці фразеалагізма, яго паходжанне, першапачатковая сфера ўжывання, шляхі пранікнення ў літаратурную мову, час узнікнення. Апрача гэтага, істотнымі паказчыкамі стылёвай прыналежнасці фразеалагізма выступаюць такія крытэрыі, як семантычны, структурны, эўфанічны, кампанентны (г. зн. стылеўтваральныя магчымасці асобных кампанентаў фразеалагізма) і колькасны (г. зн. колькасныя паказчыкі частаты ўжывання фразеалагізма ў тым ці іншым стылі)[3].

Пры функцыянальна-стылёвай дыферэнцыяцыі фразеалагізма ўлічваюцца ўсе магчымыя крытэрыі, што дае найбольш аб'ектыўныя вынікі. Пакажам гэта на двух прыкладах. Толькі 7 ужыванняў фразеалагізма **кідацца ў вочы** з 80 (у нашай картатэцы) — з мовы персанажаў, астатнія — або з аўтарскай мовы мастацкіх твораў, або з навуковых і публіцыстычных тэкстаў. Нават і без іншых крытэрыяў, а толькі на падставе колькасных паказчыкаў відаць, што гэты фразеалагізм не замацаваны за пэўным стылем.

Стылёвая прыналежнасць фразеалагізма **драць нос** вызначаецца з улікам такіх крытэрыяў, як этымалагічны (выраз узнік у народнай мове), семантычны (мае грубавата-зніжаны змест 'вельмі важнічаць, зазнавацца, фанабэрыцца'), колькасны (з 39 ужыванняў у мастацкіх тэкстах 33 прыпадаюць на мову персанажаў, амаль усе астатнія — у стылізаванай аўтарскай мове), ацэначнасць (выраз адмоўна характарызуе асобу), значнасць унутранай формы (фразеалагізм з жывым вобразным стрыжнем, які стварае ўражанне іранічнасці). Найбольш вызначальнымі паказчыкамі прастамоўнасці гэтага выразу з'яўляюцца семантычны, ацэначнасць і значнасць унутранай формы.

---

[2] Унутранай формай называюць вобраз, які ляжыць у аснове фразеалагізма, «вобразнае ўяўленне, якое спадарожнічае значэнню» (В.У.Вінаградаў) фразеалагічнай адзінкі.

[3] Гл. пра гэта больш падрабязна ў кн.: Лепешаў І.Я. Праблемы фразеалагічнай стылістыкі і фразеалагічнай нормы. — Мн., 1984. С. 22—37.

Звычайна, калі гаворка ідзе пра функцыянальна-стылёвае расслаенне фразеалагізмаў, традыцыйны, агульнапрыняты ў лексіцы падзел яе на міжстылёвую, кніжную, размоўную і прастамоўную механічна пераносяць на фразеалогію і таксама вылучаюць аналагічныя чатыры разрады. Думаецца, што пры такім падыходзе не ўлічваецца своеасаблівасць функцыяніравання фразеалагізмаў у адрозненне ад слоў.

Словы *вада*, *дом*, *горад* і іншыя маюць нулявую стылістычную афарбоўку, яны стылістычна нейтральныя ў экспрэсіўна-ацэначных адносінах і міжстылёвыя з функцыянальнага пункту гледжання. Яны могуць ужывацца і ўжывацца ва ўсіх стылях мовы, у тым ліку і ў справавым. Сярод фразеалагізмаў толькі адзінкавыя (тыпу **ўсё роўна**) могуць свабодна функцыяніраваць ва ўсіх стылях, не ўносячы ў маўленне дысанансу. І гэта зразумела, бо ў галіне фразеалогіі няма «стэрыльна чыстай нейтральнасці» (В.Д.Дзеўкін). Напрыклад, фразеалагізмы **заўтрашні дзень**, **з рук у рукі**, **станавіцца на ногі** не маюць ацэначнасці і эмацыянальнасці, але ім уласціва экспрэсіўнасць, непасрэдна звязаная з іх вобразнасцю. Таму іх нельга кваліфікаваць як стылістычна нейтральныя, а значыць, і як міжстылёвыя.

Фразеалагізмы можна падзяліць з боку іх функцыянальна-стылёвай афарбоўкі на дзве групы: функцыянальна замацаваныя за пэўным стылем (з трыма падгрупамі: кніжныя, размоўныя і прастамоўныя) і функцыянальна не замацаваныя за пэўным стылем. Апошнія выкарыстоўваюцца ў двух-трох стылях (напрыклад, у гутарковым і якім-небудзь кніжным). Стылёвы разрад функцыянальна не замацаваных фразеалагізмаў[4] актыўна папаўняецца за кошт былых, як кніжных (**белая пляма**, **іграць першую скрыпку**, **умываць рукі** і інш.), так і размоўных (**адзін на адзін**, **бабіна лета**, **бачыць наскрозь** і пад.). Найбольш аб'ектыўным паказчыкам функцыянальнай незамацаванасці тых ці іншых фразеалагізмаў павінен быць колькасны крытэрый, частата ўжывання ў розных тыпах маўлення.

Заслугоўвае ўвагі яшчэ адно пытанне — размежаванне фразеалагічнай сінаніміі і варыянтнасці.

Фразеалагізмы-сінонімы маюць тоеснае ці гранічна блізкае значэнне, найчасцей аднолькавую ці падобную сінтаксічную спалучальнасць, суадносяцца з адной і той жа часцінай мовы, але звычайна адрозніваюцца адценнямі значэння, экспрэсіўна-ацэначнай, функцыянальна-стылёвай афарбоўкай і іншымі адметнымі адзнакамі. Так, у адзін сінанімічны рад аб'ядноўваюцца прыметнікавыя фразеалагізмы з агульным значэннем 'вельмі ціхі, лагодны, пакорлівы' **вады не замуціць**, **мухі не пакрыўдзіць**, **цішэй вады <і> ніжэй травы** (у 1 знач.). Параўнаем таксама: **абразаць крылы** *каму, у каго,* **завязваць свет** *каму* (у 1 знач.), **за-**

[4] Гл. пра гэта больш падрабязна: Лепешаў І.Я. Функцыянальна не замацаваныя фразеалагізмы // Беларуская лінгвістыка. — 1983. — Вып. 23. С. 23—29; Яго ж. О функционально не закрепленных фразеологизмах в современном белорусском языке// Фразеологизмы в системе языковых уровней. — Л., 1986. С. 72—78.

**сланяць <увесь, божы> свет** *каму* (у 2 знач.), **звязваць па руках і нагах** *каго,* **звязваць рукі** *каму,* **падразаць крылы** *каму.*

Што да варыянтаў, то гэта агульнамоўныя разнавіднасці фразеалагізма, якія адрозніваюцца пэўнай структурнай зменнасцю плана выражэння пры нязменнасці плана зместу: **абводзіць (абкруціць) вакол (кругом) пальца** *каго,* **чорная кошка прабегла** *паміж кім* — **чорны кот прабег** *паміж кім.*

Як відаць з прыведзеных азначэнняў, паміж сінонімамі і варыянтамі ёсць шмат агульнага, а таму іх даволі часта змешваюць. Так, у ТСБМ пададзены як варыянты аднаго фразеалагізма **браць за горла** і **браць за жабры, бокам вылезці** і **вомегам вылезці, бог (пярун, чорт, ліха, халера) ведае**; у іншых слоўніках варыянтамі прызнаюцца **бокам вылезці** і **праз бок вылезці, мяшаць з граззю** і **мяшаць з зямлёй** і пад. Аднак гэта не варыянты. Ёсць некалькі моўных паказчыкаў варыянтнасці і сінаніміі, якія дазваляюць адрозніць адну з'яву ад другой.

1. Крытэрыем адрознення варыянтаў ад сінонімаў з'яўляецца непарушнасць унутранай формы фразеалагізма з пераменным складам кампанентаў. Напрыклад, у дзвюх разнавіднасцях фразеалагізма **пападаць пальцам у неба** і **трапляць пальцам у неба** нязменна захоўваецца першапачатковы этымалагічны вобраз, таму гэта варыянты аднаго фразеалагізма. Зусім іншае назіраем пры супастаўленні выразаў **браць за горла** *каго* і **браць за жабры** *каго.* Хоць яны маюць гранічна блізкае значэнне 'сілай прымушаць да чаго-н.', але кожнаму з іх уласціва свая непаўторная ўнутраная форма. Фразеалагізм **вылазіць (выходзіць) бокам** *каму* агульны для ўсходнеславянскіх моў, са сваёй вобразнай асновай, а фразеалагізм **вомегам вылазіць** *каму* — уласна беларускі, унутраная форма якога мае непасрэдную сувязь з *вомегам* — другой назвай балігалову.

2. Экспрэсіўна-ацэначная афарбоўка варыянтаў аднаго фразеалагізма заўсёды аднолькавая. З тоесным адценнем неадабрэння функцыяніруюць, напрыклад, варыянты **дурыць (тлуміць, марочыць, чмурыць, чмуціць) галаву** *каму.* Вельмі часта і сінанімічныя фразеалагізмы маюць аднатыпную стылістычную афарбоўку, але сустракаюцца і неаднародныя ў гэтых адносінах сінонімы. Пры параўнанні, напрыклад, фразеалагізмаў-сінонімаў **лезці (ісці) на ражон** і **перці (перціся) на ражон** відаць, што паміж імі няма экспрэсіўна-ацэначнай тоеснасці, што фразеалагізм **перці (перціся) на ражон** надзелены большым канатацыйным патэнцыялам, больш зніжанай афарбоўкай, чым фразеалагізм **лезці (ісці) на ражон.** Большая доля адмоўнай ацэнкі ў фразеалагізме **перці на ражон** ствараецца, відаць, за кошт прастамоўнага на лексічным узроўні кампанента *перці,* які захоўвае стылеўтваральную функцыю. Дарэчы, фразеалагізм **перці на ражон** і генетычна значна ранейшы, чым **лезці на ражон**: гэта запазычанне з царкоўнаславянскай мовы.

3. Варыянты аднаго і таго ж фразеалагізма заўсёды аднатыпныя па функцыянальнай замацаванасці за пэўным стылем. Напрыклад, варыянты **гнуць <сваю> спіну** і **гнуць < свой > горб** — размоўныя, **дулю з маслам, кукіш з маслам, фігу з маслам** — прастамоўныя, **закрываць вочы** *на што* і **заплюшчваць вочы** *на што* — функцыянальна не замацаваныя. Фразеалагічныя ж сінонімы могуць быць ад-

натыпнымі і неаднатыпнымі. Так, фразеалагізмы аднаго сінанімічнага рада **адзін на адзін** (у 1 знач.), **вока на вока** (у 1 знач.), **з вока на вока, сам-насам** (у 1 знач.) аднатыпныя, функцыянальна не замацаваныя, а ў сінанімічным радзе **усё роўна** *каму* (у 4 знач.), **хоць патоп, абы дзень да вечара** *каму* (у 2 знач.), **і гора мала** *каму,* **і не шум баравы** *каму,* **ні горача ні холадна** *каму ад чаго,* **усё адно** *каму* (у 2 знач.), **хоць бы што** (у 3 знач.), **хоць воўк траву еш, хоць трава не расці** <*каму*>, **што з гусі вада** *з каго, каму,* **адзін чорт** <*каму, для каго*>, **адна трасца** <*каму*>, **адна халера, адно ліха, хоць бы хны** (у 3 знач.) першы і другі фразеалагізмы — функцыянальна не замацаваныя, трэці — адзінаццаты — размоўныя, а астатнія пяць — прастамоўныя. Фразеалагізмы-сінонімы **бог нясе** *каго* і **чорт нясе** *каго* непадобныя паводле многіх паказчыкаў. Яны перадаюць неаднолькавую, процілеглую рэакцыю на нечаканы прыход каго-небудзь і адрозніваюцца экспрэсіўна-ацэначнай і функцыянальна-стылёвай афарбоўкай. Сэнсавая структура фразеалагізма **бог нясе** *каго* ўскладняецца афарбоўкай здзіўлення, недаўмення, спачування, станоўчых адносін да нечаканага госця, у той час як кампанентам зместу фразеалагізма **чорт нясе** *каго* з'яўляецца афарбоўка незадавальнення, прыкрасці, злосці, адмоўных адносін да каго-небудзь. Першы фразеалагізм — размоўны, а другі — прастамоўны. Яны стылістычна несумяшчальныя і не дапускаюць узаемазамяняльнасці.

4. Варыянты аднаго фразеалагізма не адрозніваюцца паміж сабой якімі-небудзь сэнсавымі ці стылістычнымі адценнямі, таму заўсёды ўзаемазамяняльныя ў любых кантэкстах. Фразеалагізмы-сінонімы таксама могуць замяняць адзін аднаго, але толькі пры ўмове, калі яны стылістычна сумяшчальныя. Возьмем такі сінанімічны рад: **хто ведае** *(разм.),* **бог ведае** *(разм.),* **адзін алах ведае** *(разм., часцей жарт.),* **адзін бог <святы> ведае** *(разм.),* **ліха ведае** *(праст.),* **адзін чорт ведае** *(праст.),* **чорт ведае** *(праст.),* **чорт ведама** *(праст).* Першыя чатыры фразеалагізмы хоць і функцыянальна аднатыпныя, але адрозніваюцца экспрэсіўна-эмацыянальнымі адценнямі і далёка не заўсёды ўзаемазамяняльныя. Напрыклад, у наступным кантэксце нельга замяніць фразеалагізм **хто ведае** ніводным з сінанімічнага рада: «Але *хто ведае,* ці не залежыць шчаслівы іх лёс ад таго, як памрэ на гэтай дарозе дваццацідвухгадовы камандзір узвода лейтэнант Іваноўскі?» (Быкаў).

5. Розныя варыянтныя відазмяненні фразеалагізма (фанетычныя, марфалагічныя, словаўтваральныя і лексічныя) заўсёды адбываюцца ў рамках адной і той жа сінтаксічнай канструкцыі. Калі фразеалагізмы, тоесныя ў сэнсавых і стылістычных адносінах, маюць неаднолькавую сінтаксічную структуру, то гэта ўжо не варыянты, а сінонімы. Як свабодныя словазлучэнні тыпу *васьмігадовы хлопчык — хлопчык васьмі гадоў, ісці дарогай — ісці па дарозе* слушна лічацца сінтаксічнымі сінонімамі, так і фразеалагізмы тыпу **бочка з порахам — парахавая бочка, вылазіць бокам** *каму* **— вылазіць праз бок** *каму,* **карона з галавы не спадзе** *у каго, каму* **— карона не спадзе** *з каго,* **рассыпацца драбней маку** *перад кім* **— рассыпацца < дробным > макам** *перад кім* павінны кваліфікавацца не як варыянты, а як рознаструктурныя фразеалагічныя сінонімы.

6. Калі мнагазначны фразеалагізм мае пераменны склад кампанентаў ва ўсіх сваіх значэннях, то перад намі з'ява варыянтнасці. Калі ж у адных значэннях фразеалагізм здольны вар'іравацца, а ў другіх замена аднаго кампанента другім не адбываецца, то мы маем справу ўжо не з варыянтнасцю, а з сінаніміяй. Прыкладам варыянтнасці можа быць фразеалагізм **хоць ваўкоў (сабак) ганяй**, у якім назоўнікавы кампанент свабодна замяняецца ў абодвух значэннях ('вельмі холадна дзе-н.' і 'вельмі вялікі, займае значную прастору'). Прыкладам сінаніміі з'яўляюцца фразеалагізмы **разяўляць рот** і **раскрываць рот**: першы мае 6 значэнняў, а другі — толькі два ('пачынаць гаварыць што-н., выказваць свае думкі' і 'не згаджацца, пярэчыць'), ідэнтычныя з першымі двума значэннямі фразеалагізма **разяўляць рот**. У гэтых двух значэннях фразеалагізмы звязаны паміж сабой сінанімічнымі адносінамі. Выраз **мяшаць з зямлёй** трохзначны, але толькі адно яго значэнне сінанімічнае са значэннем адназначнага фразеалагізма **мяшаць з граззю** *каго, што*.

Нярэдка межы паміж варыянтамі і сінонімамі вельмі хісткія і рухомыя. У такіх выпадках, «калі цяжка або немагчыма вызначыць, ці з'яўляюцца канкрэтна гэтыя звароты варыянтамі адной фразеалагічнай адзінкі або выступаюць як сінонімы, пытанне вырашаецца на карысць сінаніміі»[5].

Застаецца адкрытым пытанне, як падаваць у фразеалагічных слоўніках дзеяслоўныя фразеалагізмы, у якіх стрыжнёвы кампанент-дзеяслоў, выступаючы граматычным цэнтрам і носьбітам формаў асобы, ліку, ладу, часу, мае таксама суадносныя пары незакончанага і законченага трывання: **рабіць з мухі слана — зрабіць з мухі слана**. У адных слоўніках абедзве трывальныя формы прыводзяцца (праз кропку) у загалоўку артыкула: **Рабіць з мухі слана**. **Зрабіць з мухі слана**. У другіх — пасля дзеяслоўнага кампанента даецца ў круглых дужках форма законченага трывання: **Рабіць (зрабіць) з мухі слана**. Сэнс фразеалагізма ў абодвух выпадках тлумачыцца па дзеяслоўнай форме незаконченага трывання: 'беспадстаўна перабольшваць што-н.'. У ФСБМ пададзены ў дужках і варыянты фразеалагізма, таму калі яго дзеяслоўнаму кампаненту ўласціва лексічная варыянтнасць, а яго граматычна галоўны кампанент здольны ўжывацца ў незаконченым і законченым трыванні, то ў загалоўку трывальныя формы аддзяляюцца адна ад адной кропкай з коскай: **Выходзіць (вылазіць) наверх; выйсці (вылезці) наверх**.

У тлумачальных жа даведніках слоў абедзве трывальныя формы займаюць сваё алфавітнае месца ў слоўніку. Звычайна апісваецца дзеяслоў у форме законченага трывання (напрыклад, *звязаць*), а ў адпаведным іншым месцы слоўніка даецца суадносны дзеяслоў незаконченага трывання, напрыклад: **Звязваць**... **1.** *Незак. да* звязаць (у 1—8 і 10 знач.). **2.** ...

---

[5] Жуков В.П., Сидоренко М.И., Шкляров В.Т. Словарь фразеологических синонимов русского языка. — М., 1987. С. 10.

Думаецца, і ў фразеалагічных слоўніках абедзве трывальныя формы павінны змяшчацца на сваіх алфавітных месцах, а распрацоўку фразеалагізма трэба даваць у адным слоўнікавым артыкуле: спачатку апісваецца загаловачны выраз у форме незакончанага трывання (з паметай «незак.»), а пасля (у сярэдзіне артыкула) прыводзіцца гэты ж выраз у форме закончанага трывання — без тлумачэння, але з паметай «зак.» і адпаведным ілюстрацыйным матэрыялам.

Як вядома, далёка не ўсе дзеясловы маюць суадносную трывальную пару. Параўн., напрыклад, *ісці* і *пайсці*. У ТСБМ (т. 2, с. 562—564) апісваецца дзеяслоў незакончанага трывання *ісці* (ён мае найбольшую колькасць значэнняў сярод слоў беларускай мовы: 28 значэнняў і 35 адценняў). Дзеяслоў *пайсці* (т. 3, с. 605—606) апісаны так: «**1**. *Зак. да* ісці (у 2, 3, 7, 16, 24, 25 знач.). **2**. Пачаць ісці (у 1, 4, 5, 8, 15, 26 і 27 знач.). **3**. Пачаць расці, вырасці... **4**. *з інф. незак.* Пачаць рабіць што-н.».

У ФСБМ, як, дарэчы, і ў рускіх і ўкраінскіх фразеалагічных слоўніках, сустракаюцца недакладнасці пры падачы трывальных пар. Так, паміж **вадзіць за нос** і **павадзіць за нос** няма трывальнай суадноснасці, як няма яе і паміж дзеясловамі *вадзіць* і *павадзіць*. **Павадзіць за нос** — гэта самастойны выраз са значэннем мнагакратнасці, ён мае ў сваёй сэнсавай структуры семы 'нейкі час, звычайна працяглы' і 'неаднаразова': «*Павадзіла* партызанка тых фашыстаў *за насы*» (Панчанка).

Нельга таксама лічыць трывальнымі формамі аднаго фразеалагізма выразы **біць крыніцай** і **забіць крыніцай**, бо другі з іх паказвае не на завяршэнне дзеяння, а на пачатак, мае адценне пачынальнасці: «*Забіла крыніцай* культурнае жыццё» (Шкраба). Загаловак аднаго слоўнікавага артыкула ў ФСБМ (т. 1, с. 269) мае такі выгляд: **глытаць (глынуць, паглытаць) сліну**. Але тут таксама не варыянтны рад і не трывальныя суадносіны, а тры выразы. Другі з іх **глынуць сліну** мае адценне аднакратнасці, а трэці **паглытаць сліну** — мнагакратнасці. Кожны з гэтых выразаў варта апісваць у асобных слоўнікавых артыкулах. Параўн., напрыклад, як падаюцца ў ФСБМ выразы **гуляць у маўчанку** (т. 1, с. 298), **заліваць вочы** (т. 1, с. 402), **каціць бочку** (т. 1, с. 500) і адпаведна ў новым Слоўніку не супрацьпастаўленыя па трыванні **пагуляць у маўчанку**, **пазаліваць вочы**, **пакаціць бочку**.

Як відаць, у некаторых выпадках, параўнальна нешматлікіх, словаўтваральныя афіксы, асабліва прыстаўкі *па-*, *за-*, не страчваюць свайго рэальнага значэння, утвараюць у адносінах да зыходнай формы фразеалагічныя дэрываты, якія павінны апісвацца ў слоўніках на сваіх алфавітных месцах.

У новым Слоўніку ўлічаны згаданы словаўтваральны фактар асобных марфем дзеяслоўнага кампанента і выпраўлены ўсе ранейшыя недакладнасці ў падачы трывальных пар. Асобна апісаны каля 90 дзеяслоўных фразеалагічных адзінак вытворнага характару (**бакі пападрываць**, **ваўком завыць**, **запець лазара** і інш.), а таксама больш за 10 несуадносных фразеалагізмаў з дзеяслоўным кампанентам у іх складзе (**галава закружылася** *у каго*, **душа заныла** *у каго*, *чыя*, *каго*, **чорт пацягнуў за язык** *каго* і г.д.).

Асобна трэба закрануць пытанне аб а р ф а г р а ф і і некаторых фразеалагізмаў.

Структурна-семантычная спецыфіка фразеалагізмаў, своеасаблівасць іх моўнай прыроды становіцца істотнай перашкодай пры спробе механічна перанесці існуючыя правілы напісання слоў на напісанне фразеалагічных кампанентаў. Гэта ў першую чаргу адносіцца да ўжывання вялікай літары.

Няма падставы пісаць з вялікай літары фразеалагічныя кампаненты-прыметнікі, этымалагічна звязаныя з уласнымі назоўнікамі, такія, напрыклад, як **антонаў агонь, варфаламееўская ноч, мамаева пабоішча, на ўсю іванаўскую**[6] і пад.

Пытанне аб напісанні фразеалагічных кампанентаў — былых уласных назоўнікаў больш складанае. Тут вялікую ролю адыгрывае сіла прывычкі. Так, хоць ніколі не было цара з імем *Гарох,* аднак пішуць **за царом Гарохам**. Фразеалагізм **як пііп з канапель** склаўся ў асяроддзі паляўнічых, дзе *пілін* — другая назва зайца. Забыццё першапачатковай вобразнасці прывяло да пераасэнсавання слова *пілін,* якое стала ўспрымацца як уласнае імя.

Становячыся часткай фразеалагізма, «імя ўласнае страчвае сувязь з канкрэтнай асобай ці аб'ектам, г. зн. вычэрпвае сваю анамастычную функцыю. Яно перастае быць «перадачай гранічнай адзінкавасці»... і пачынае абагульняць, значыць, выконваць функцыю імя агульнага»[7]. Такі кампанент (з былога ўласнага назоўніка) не мае ў складзе фразеалагізма свайго самастойнага значэння і павінен пісацца з малой літары, калі трымацца логікі, а не традыцыі і «фанатычнага кансерватызму» (Л.А.Булахоўскі) у арфаграфіі.

Менавіта такая арфаграфічная норма рэкамендуецца ў нашым Слоўніку. Аналагічнае знаходзім у адным з даведнікаў рускай мовы[8].

У маўленчай практыцы і ў лексікаграфічных працах назіраюцца недакладнасці пры напісанні пэўных літар у фразеалагічным кампаненце. Генетычна другі кампанент фразеалагізма **было не было** — адмоўная часціца *не* (як і ў падобных выразах **рад не рад, хочаш не хочаш, воляй-няволяй**). Аднак незразумела, чым выкліканы хістанні ў складальнікаў акадэмічных слоўнікаў пры кадыфікацыі гэтага фразеалагізма: **было не было** (РБС, БРС) і **было ні было** (ТСБМ).

У выразе **браць на цугундар** *каго* слова *цугундар,* неўжывальнае па-за фразеалагізмам, узнікла, паводле М.І.Міхельсона, шляхам зрашчэння двух нямецкіх слоў: zu + hundert (к + сотня), успрынятых ад немцаў як частка каманды-загаду даць каму-небудзь сто ўдараў (палак, розгаў, шпіцрутэнаў). Этымалагічная невыразнасць, нематываванасць гэтага выразу спараджае яго арфаграфічную няўстойлівасць: **браць на цугундар (цугундры, цугундзер, цыгундар)**. Думаецца,

---

[6] Аднак у ТСМБ: *на ўсю Іванаўскую;* параўн. у Руска-беларускім слоўніку (РБС) і Беларуска-рускім слоўніку (БРС): *на ўсю іванаўскую.*

[7] Мокиенко В.М. О собственном имени в составе фразеологии // Перспективы развития славянской ономастики. — М., 1980. С.60

[8] Жуков В.П. Школьный фразеологический словарь русского языка. — М.,1980. Гл., напрыклад: *петь лазаря, как швед под полтавой, куда макар телят не гонял.*

што нормай гэтага фразеалагізма павінна быць **браць на цугундар** *каго,* а не **браць на цыгундар**, як даецца ў Слоўніку беларускай мовы (СБМ, 1987) і ў ТСМБ. Параўн., дарэчы, у рускай мове: **брать на цугундер** *кого,* ва ўкраінскай мове: **брати на цугундер** *кого.*

Аналагічныя выпадакі, калі ў слоўніках назіраецца неадэкватнасць кадыфікацыі і рэальна існуючай нормы або разнабой пры ацэнцы адных і тых ці роднасных моўных з'яў, не адзінкавыя. Распаўсюджваюцца яны і на напісанне фразеалагічных кампанентаў разам ці асобна. Так, у ТСБМ вынесены за ромб як фразеалагізмы **на віду** і **на воку, а на відавоку** падаецца як прыслоўе *(навідавоку)*; тое самае і ў СБМ. У літаратуры ж гэты выраз звычайна ўжываюць як двухэлементны, прычым са структурнай пранікальнасцю. Таму ў загалоўку слоўнікавага артыкула гэты выраз аформлены такім чынам: **на <самым> відавоку**.

Мнагазначны фразеалагізм **на дзіва**, агульны для ўсходнеславянскіх моў (руск. *на диво,* укр. *на диво),* па-рознаму фіксуецца ў ТСБМ: то як аднaзначнае прыслоўе *надзіва* (т. 3, с. 237), то як фразеалагізм *на дзіва* (т. 2, с. 172). Параўн. таксама: *надзіва* (СБМ, с. 407) і *на дзіва* (РБС, т. 1, с. 209). Нельга пагадзіцца са злітным напісаннем і яшчэ некаторых фразеалагізмаў, зафіксаваных у слоўніках апошніх гадоў у якасці прыслоўя: **на ліха** (параўн. аналагічныя выразы з сінанімічнага рада: **на д'ябла, на халеру, на хваробу, на чорта**); **ні за што** (параўн. **ні за што на свеце, ні за што ні пра што**) і інш.

Вылучэнне фразеалогіі ў асобную лінгвістычную дысцыпліну, натуральна, зрабіла надзённай неабходнасцю выдзеліць у пунктуацыйных правілах спецыяльны раздзел аб з н а к а х п р ы п ы н к у пры фразеалагізмах.

Як вядома, за кожным знакам прыпынку замацавана пэўная функцыя. Раздзяляльная коска раздзяляе адну значымую ў сэнсавых і граматычных адносінах частку ад другой, а выдзяляльныя коскі служаць для выдзялення пэўнай сінтаксічнай канструкцыі. У фразеалагізме ж з яго цэласнай, непадзельнай семантыкай часткі-кампаненты не маюць самастойнага лексічнага значэння і не могуць выконваць ролю якога-небудзь члена сказа (гэта — функцыя ўсяго фразеалагізма). Пастаўленая паміж кампанентамі коска не дапамагае правільна зразумець тэкст, як у сказе, пабудаваным са слоў свабоднага ўжывання, а толькі перашкаджае ўспрыманню фразеалагізма, бо штучна нібы аднаўляе этымалагічнае значэнне яго частак — асобных слоў, раздзяляе непадзельнае, сігналізуе пра інтанацыйную паўзу, якая, аднак, тут недарэчы. Фразеалагізм **ні жывы ні мёртвы** абазначае 'страшэнна спалоханы; у стане вялікага страху, знямення'; параўн. яго ўжыванне з непатрэбнай коскай паміж кампанентамі: *«Ні жывы, ні мёртвы,* клыпаю далей ад жудаснага рова» (Аношкін). Параўн. таксама ў ТСБМ: **і так, і гэтак; што будзе, тое будзе**.

Са сказанага нельга, аднак, рабіць вывад, што замацавалася ці замацоўваецца тэндэнцыя зусім не ўжываць пры фразеалагізмах знакі прыпынку. Як сведчаць маўленчая практыка і нарматыўныя слоўнікі апошніх гадоў, раздзяляльная коска традыцыйна ставіцца ў сярэдзіне фразеалагізма, калі ён структурна арганізаваны як спалучэнне аднародных членаў, звязаных пры дапамозе супра-

ціўнага злучніка *а*: **не на жыццё, а на смерць**; **не па днях, а па гадзінах** і пад. Коска ставіцца і ў наступных выпадках:

1. Калі фразеалагізм ужываецца ў значэнні пабочных слоў: **адным словам, вядомая рэч, дзякаваць богу** (у 2 знач.), **дзякуй богу** (у 4 знач.), **калі ласка** (у 1 знач.), **між іншым** (у 2 знач.), **між намі <кажучы>, не тут казана, нічога не скажаш, няма чаго граху таіць, няма чаго казаць, слава алаху, чаго добрага, што называецца, як той казаў** і пад.

2. Калі фразеалагізм мае структуру даданага сказа і ўжываецца толькі ў значэнні даданага сказа, рэалізуючыся пры строга акрэсленых дзеясловах-суправаджальніках: *не ведаць,* **дзе (куды) вочы дзяваць** 'што рабіць, як паступіць у няёмкім становішчы'; *ведаць,* **дзе ракі зімуюць** 'як зрабіць найлепш, больш выгадна'; *ведаць, знаць, пазнаць,* **пачым фунт ліха** 'якія бываюць цяжкасці, выпрабаванні ў жыцці' і пад.

І яшчэ адна заўвага. Пры абмеркаванні праспекта гэтага Слоўніка выказваліся пажаданні завяршаць слоўнікавы артыкул, прысвечаны таму ці іншаму фразеалагізму, этымалагічнай даведкай. Зразумела, што такая даведка садзейнічала б лепшаму асэнсаванню фразеалагізма, апісанага ў слоўнікавым артыкуле. Аднак ажыццявіць гэта пакуль што немагчыма, бо на сённяшні дзень толькі параўнальна невялікая частка фразеалагізмаў растлумачана з гістарычна-этымалагічнага боку. Да таго ж гэтыя этымалагічныя растлумачэнні і рэальна-гістарычны каментарый не могуць быць такімі кароткімі, якія даюцца пры словах. А гэта значна павялічыла б памер Слоўніка. Як піша М.М.Шанскі, «наўрад ці правільна ўключаць у слоўнікавыя артыкулы такога — тлумачальнага па сваёй сутнасці — фразеалагічнага слоўніка таксама і звесткі аб паходжанні таго ці іншага фразеалагічнага звароту... Паходжанне фразеалагічных зваротаў у сістэме... мовы павінна быць прадметам асобнай працы — этымалагічнага слоўніка фразеалагізмаў»[9].

[9] Шанский Н.М. Фразеология современного русского языка. — М., 1969. С.13.

## СТРУКТУРА СЛОЎНІКА

Кожны фразеалагізм апісваецца ў асобным слоўнікавым артыкуле, які складаецца з наступных элементаў: а) загаловачнага фразеалагізма; б) граматычнай характарыстыкі; в) стылістычнай характарыстыкі; г) семантычнай характарыстыкі (з паказам, дзе гэта магчыма, сінанімічных і антанімічных сувязей пэўнага фразеалагізма з іншымі); д) ілюстрацыйнага матэрыялу.

**Загаловачны фразеалагізм і яго граматычная характарыстыка.** Фразеалагізм прыводзіцца (з паказам месца націску) у сваім мінімальным складзе і найбольш тыповай форме. Фанетычныя, марфалагічныя, словаўтваральныя і лексічныя варыянты фразеалагізма ўключаюцца ў загаловак і даюцца ў круглых дужках:

**АГАРОД (ГАРОД) ГАРАДЗІЦЬ.**

**ЛЕГЧЫ КАСЦЬМІ (КАСЦЯМІ).**

**З ВЕТРАМ (З ВЕТРЫКАМ, З ВЕЦЯРКОМ) У ГАЛАВЕ.**

**ЛАСКАВАЕ (ЛІСЛІВАЕ) ЦЯЛЯ (ЦЯЛЯТКА).**

Калі трэба паказаць, што фразеалагізм мае зменлівы парадак кампанентаў, або калі варыянтнасць фразеалагізма нельга адлюстраваць у загалоўку якім-небудзь іншым чынам, у такім разе выкарыстоўваецца кропка з коскай:

**ГАДЫ Ў РАДЫ; РАДЫ Ў ГАДЫ.**

**З ЛЁГКАЙ ДУШОЙ; З ЛЁГКІМ СЭРЦАМ.**

Факультатыўная частка фразеалагізма бярэцца ў ломаныя дужкі:

**ЗМАГАЦЦА < САМОМУ > З САБОЙ.**

**<МАТЧЫНА (МАМЧЫНА, МАМІНА) > МАЛАКО НА ГУБАХ НЕ АБСОХЛА (НЕ ВЫСАХЛА, НЕ ПАВЫСЫХАЛА)** *у каго.*

**ГЛЯДЗЕЦЬ ПРАМА Ў ВОЧЫ** <*каму*>.

Месца націску абазначаецца ва ўсіх кампанентах, у тым ліку і аднаскладовых, калі яны суадносяцца з адпаведнымі паўназначнымі часцінамі мовы: **<як> ко́т напла́каў, то та́м то ту́т, пад спу́дам.**

Умовы граматычнага функцыяніравання фразеалагічнай адзінкі адлюстроўваюцца ў Слоўніку паказам яе парадыгматычных асаблівасцей, сінтаксічнай функцыі ў сказе, а таксама граматычнай і лексічнай спалучальнасці са словамі свабоднага ўжывання.

Нязменныя фразеалагізмы (пераважна прыслоўныя, выклічнікавыя і мадальныя) даюцца ў загалоўку ў сваёй адзінай форме. Назоўнікавыя і прыметнікавыя выразы прыводзяцца ў форме назоўнага склону.

Многія назоўнікавыя фразеалагізмы маюць ацэначнае значэнне і замацаваліся ў функцыі выказніка або зваротка ці прыдатка; адпаведная памета пра іх сінтаксічную ролю адначасова з'яўляецца паказчыкам іх нулявой парадыгмы. Калі ж назоўнікавыя фразеалагізмы здольныя ўжывацца ў ролі розных членаў сказа, то яны маюць поўную ці адносна поўную парадыгму. Непаўната парадыгмы адзначаецца адпаведнымі паметамі тыпу «мн. не ўжыв.», «адз. не ўжыв.»:

**АДНАГО ПОЛЯ ЯГАДА (-Ы, -КА, -КІ).** *Вык.*

**БАБІНА ЛЕТА.** *Мн. не ўжыв. Часцей у ролі дзейн. і дап.*

**БОЖЫ АДУВАНЧЫК.** *Адз. і мн. Часцей у знач. вык.*

**<З> АДНАГО БАЛОТА ЧЭРЦІ.** *Адз. не ўжыв. Вык.*

**КВЕТКІ З ЧУЖЫХ ПАЛЁЎ.** *Адз. не ўжыв. У ролі розных чл. ск.*

**КОСТКА (-АЙ) У ГОРЛЕ** *каму, у каго, для каго. Часцей у знач. вык.*

**КОСЦЬ АД КОСЦІ.** *Мн. не ўжыв. Вык.*

**НОЖ ВОСТРЫ** *каму, для каго. Мн. не ўжыв. Вык. і азн.*

Пераважная большасць дзеяслоўных фразеалагізмаў падаецца ў неазначальнай форме, і гэта з'яўляецца паказчыкам таго, што іх дзеяслоўны кампанент можа ўжывацца і ў асабовых формах:

**АДКРЫВАЦЬ ДАРОГУ** *каму куды.*

**АДКРЫВАЦЬ (РАСКРЫВАЦЬ) <СВАЮ> ДУШУ** *каму, перад кім.*

Аднатрывальныя дзеяслоўныя фразеалагізмы, г.зн. такія, якія ўжываюцца толькі ў незаконченым або толькі ў закончаным трыванні, пазначаюцца паметай *незак.* ці *зак.*:

**БРАХАЦЬ НА ВАДУ.** *Незак.*

**ЦЯГАЦЬ КАШТАНЫ З АГНЮ.** *Незак.*

**АБЛАМАЦЬ (ПАЛАМАЦЬ) ЗУБЫ** *на чым. Зак.*

**ЗАГАВЕЦЬ ДУШОЙ.** *Зак.*

Астатнія дзеяслоўныя фразеалагізмы, якія маюць суадносную трывальную пару, у загалоўку слоўнікавага артыкула прыводзяцца ў форме незаконченага трывання, атрымліваюць граматычную, стылістычную і семантычную характарыстыку, ілюструюцца адпаведнымі прыкладамі. Затым, як ужо гаварылася ў «Прадмове», у сярэдзіне артыкула падаецца гэты ж фразеалагізм у форме закончанага трывання — з паметай «зак.» і ілюстрацыйным матэрыялам. Разам з тым фразеалагізм закончанага трывання змяшчаецца на сваім алфавітным месцы ў Слоўніку з паказам яго граматычнай сувязі з адпаведным фразеалагізмам незаконченага трывання:

**ЗГУБІЦЬ СЯБЕ.** *Зак. да* **ГУБЛЯЦЬ СЯБЕ.**

**ПАЙСЦІ (СЫСЦІ) У ПЯСОК.** *Зак. да* **ІСЦІ (СЫХОДЗІЦЬ) У ПЯСОК.**

**УЗЯЦЬ ЗА ЖАБРЫ** *каго. Зак. да* **БРАЦЬ ЗА ЖАБРЫ** *каго.*

У Слоўніку паслядоўна адлюстроўваецца парадыгматычная непаўната дзеяслоўных фразеалагізмаў, якія ўжываюцца толькі ў адной трывальнай форме або маюць іншыя абмежаванні граматычнага характару. Гэта адносіцца і да фразеалагізмаў іншых разрадаў, асабліва да выразаў, утвораных па мадэлі сказа. Часта тыя нешматлікія формы, у якіх ужываецца той ці іншы фразеалагізм, прыво-

дзяцца ў загалоўку; выкарыстоўваюцца і іншыя паказчыкі парадыгматычных асаблівасцей:

**АДБІРАЕ (-ЮЦЬ, -Ў, -ЛА, -ЛІ) ВОЧЫ**. *Незак.*

**АД ЗЯМЛІ АДАРВАЦЦА І НЕБА НЕ ДАСТАЦЬ**. *Зак. Часцей у форме пр. адз. і мн.*

**АЖ ГАЙ ШУМІЦЬ (ШУМЕЎ, ШУМЕЎ БЫ)**. *Незак.*

**АКЦЫІ ПАДНІМАЮЦЦА (ПАВЫШАЮЦЦА)** *чые, каго. Незак. Цяп., пр., буд. Адз. не ўжыв.*

**БЛЁКАТУ НАЕЎСЯ (-ЛАСЯ, -ЛІСЯ); БЛЁКАТУ АБ'ЕЎСЯ (-ЛАСЯ, -ЛІСЯ)**. *Зак. Цяп. і буд. не ўжыв.*

**ЗУБЫ З'ЕЎ (-ЛА, -ЛІ)** *на чым, у чым. Зак.*

**<І> КАСЦЕЙ НЕ ЗБЯРЭ (НЕ ЗБЯРЭШ)**. *Зак. Часцей ужыв. у 2-й і 3-й ас.*

**І (НАВАТ) ВОКАМ (БРЫВОМ) НЕ ВЯДЗЕ**. *Незак. Адз. і мн.; м., ж., н.*

**МУРАШКІ ЗАБЕГАЛІ (ПАБЕГЛІ, ЗАХАДЗІЛІ, ПАЙШЛІ) ПА ЦЕЛЕ (ПА СПІНЕ, ПА СКУРЫ)** *у каго, каго, чыім. Зак.*

**САРВІ ДЫ ПАДАЙ**. *Толькі ў заг. л.*

Фразеалагізмы, якія пастаянна ўжываюцца ў адной і той жа сінтаксічнай функцыі, суправаджаюцца адпаведнымі паметамі *(вык., акал., у безас. ужыв., у знач. пабочн. сл.* і г.д.). Такія паметы адначасова паказваюць і на катэгарыяльнае значэнне выразу, яго прыналежнасць да пэўнага агульнаграматычнага разраду фразеалагізмаў. Адпаведна з гэтым ажыццяўляецца і лагічнае азначэнне фразеалагічнай адзінкі, знешняя форма выражэння самога тлумачэння таго ці іншага фразеалагізма. Напрыклад, выраз **да густу** *каму* ўжываецца ў ролі выказніка пры дзейніку са значэннем асобы, канкрэтнага ці абстрактнага прадмета і тлумачыцца дзеясловам у форме цяперашняга часу — 'падабаецца'. Фразеалагічны зварот з аднолькавай гукавой абалонкай **да густу** заўсёды ўжываецца толькі пры дзеяслове *прыйсціся,* спецыялізуецца ў ролі акалічнасці, мае прыслоўнае значэнне 'даспадобы', а таму разглядаецца не як другое значэнне папярэдняга выразу і не як амонім, а як самастойны фразеалагізм са сваім уласным абавязковым слоўным акружэннем і сваёй пастаяннай функцыяй.

Невялікая група фразеалагізмаў з колькасным значэннем ('вельмі многа', 'вельмі мала') тыпу **хоць адбаўляй** *каго, чаго,* **<як> кот наплакаў** *каго, чаго* падаецца ў Слоўніку з сінтаксічнай паметай *у безас. ужыв.* І гэта матывуецца, у прыватнасці, тым, што галоўны член такіх безасабовых канструкцый абазначае колькасную прыкмету ў плане пэўнага часу, на які паказвае дзеяслоўная звязка *быць* (у форме цяперашняга часу яна апускаецца): «Затое у мяне якраз па вушы работы...» (Гартны); «Работы было па вушы» (Дамашэвіч); «Работы на новым месцы будзе па вушы» (Кулакоўскі). Часам аналагічныя канструкцыі разглядаюцца ў лінгвістычнай літаратуры не як безасабовыя, а ў якасці аднасастаўных намінатыўных з галоўным членам — колькасна-іменным спалучэннем або як двухсастаўныя генітыўна-колькасныя, у якіх дзейнік выражаны назоўнікам у форме роднага склону, а выказнік — фразеалагізмам з колькасным значэннем.

Калі фразеалагізм здольны ўжывацца не ў адной сінтаксічнай функцыі, а ў некалькіх, на гэта паказваюць, напрыклад, такія паметы: выказнік і азначэнне;

часцей у значэнні выказніка і зваротка; у ролі галоўнага сказа ці акалічнасці, у ролі розных членаў сказа.

У структуры полісемантычнага фразеалагізма прыватныя значэнні нярэдка маюць разыходжанне ў сінтаксічнай функцыі і, значыць, у катэгарыяльным значэнні і тлумачэнні. Так, першае значэнне фразеалагізма **на жабін скок** 'вельмі малы (па даўжыні, плошчы)' рэалізуецца ў функцыі выказніка ці азначэння, другое 'вельмі мала' — у ролі акалічнасці.

З'яўляючыся структурным элементам сказа, фразеалагізм уступае ў пэўныя сувязі і адносіны са словамі кантэксту, падпарадкоўваючыся заканамернасцям лексіка-граматычнай спалучальнасці з другімі моўнымі адзінкамі, найчасцей словамі. Гэтыя спалучальныя ўласцівасці фразеалагізма знаходзяць адлюстраванне ў Слоўніку.

Пры фразеалагізмах, якія ўжываюцца ў функцыі выказніка, даецца іх суб'ектнае і аб'ектнае акружэнне ці семантыка-граматычная сувязь «злева» і «справа» (сінтаксічная памета *вык.* у такіх выпадках не ставіцца):

**АБРАЗАЦЬ КРЫЛЫ (КРЫЛЛЕ)** *каму, у каго. Незак.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета.

**КАЦІЦЬ БОЧКУ (-І)** *на каго. Незак.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.

**КІДАЦЦА Ў ВОЧЫ** *каму. Незак.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета.

Калі фразеалагізм па форме не дзеяслоўны, але мае выказнікавае значэнне, то ён суправаджаецца паметай *вык., у знач. вык.* або *вык. і азн.:*

**АДЗІН У АДЗІН; АДНА Ў АДНУ; АДНО Ў АДНО.** *Вык. і азн.* Ужыв. пры дзейн., выраж. наз. назоўн. скл. мн., са знач. асобы, адуш. ці канкр. прадмета.

У мнагазначным фразеалагізме кантэкстуальныя сувязі яго значэнняў часцей за ўсё неаднолькавыя; напрыклад, усе чатыры значэнні фразеалагізма **ўбірацца ў сілу** рэалізуюцца пры розным суб'ектным акружэнні: першае — пры дзейніку са значэннем асобы, другое — пры дзейніку са значэннем неадушаўлёнага прадмета (назвы раслін), трэцяе — пры дзейніку са значэннем абстрактнага прадмета *(вясна, зіма, дзень* і пад.), чацвёртае — пры дзейніку са значэннем асобы ці сукупнасці асоб.

Дарэчы, толькі ўлік лексіка-граматычнай спалучальнасці і сінтаксічнай функцыі, замацаванай за фразеалагізмам, дазваляе правільна размежаваць знешне падобныя выразы. Так, фразеалагізм **з калена выламаць** *што* ўжываецца пры дзейніку са значэннем асобы і абазначае 'прыдбаць, дастаць, знайсці нерэальным спосабам'; фразеалагізм **з калена не выламіш** *каго, што* ўжываецца ў функцыі безасабовага выказніка і мае значэнне 'каго-, чаго-н. няма ў наяўнасці, немагчыма мець каго-, што-н.'; фразеалагізм **хоць з калена выламі** ўжываецца перад супраціўным злучнікам *а* і мае акалічнаснае значэнне 'абавязкова, не зважаючы ні на што, любымі сродкамі (а зрабі што-н.)'.

Выразы, якія самастойна, толькі сваім кампанентным складам не могуць праявіць свайго рэчыўнага значэння і не ўжываюцца без аб'ектнага акружэння («справа»), уваходзяць у вялікую групу фразеалагізмаў з канструктыўна абмежа-

ваным значэннем. Іх значэнне заўсёды рэалізуецца толькі ў строга акрэсленай канструкцыі. Гэта абавязковая лексіка-граматычная сувязь «справа» падаецца ў Слоўніку:

**АБІВАЦЬ ПАРОГІ** *чые, каму, каго, чаго.*

**ВАДА НЕ ЎСТОІЦЬ** *на кім.*

**ДУША НЕ ЛЯЖЫЦЬ** *чыя, у каго, каго да каго, да чаго.*

**ЖАБА НА ЯЗЫКУ НЕ СПЯЧЭЦЦА** *ў каго.*

**МОРА ПА КАЛЕНА** *каму.*

**МЯДЗВЕДЗЬ (СЛОН) НА ВУХА НАСТУПІЎ** *каму.*

**НА ВЯРБЕ ГРУШЫ РАСТУЦЬ** *у каго.*

Многія фразеалагізмы маюць валентна абмежаванае значэнне. Яно выяўляецца толькі ў спалучэнні фразеалагізма са строга акрэсленымі словамі. Напрыклад, фразеалагізм **куры не клююць** 'вельмі многа' ўступае ў кантакт толькі са словам *грошай.* Некаторыя фразеалагізмы спалучаюцца з двума і больш словамі: *бачыць, пераконвацца, упэўнівацца* **на свае вочы**. Хоць гэтыя словы-суправаджальнікі заўсёды ўзнаўляюцца разам з фразеалагізмам, але ў яго кампанентны склад не ўваходзяць, бо захоўваюць сваю семантычную і граматычную самастойнасць, маюць непасрэдную накіраванасць на прадметы і з'явы рэчаіснасці, выконваюць у сказе сваю самастойную сінтаксічную функцыю.

Пры фразеалагізмах з валентна абмежаваным значэннем, пераважна прыслоўных, у Слоўніку прыводзіцца іх абавязковае слоўнае акружэнне. Словы-суправаджальнікі, без якіх той ці іншы выраз не можа рэалізавацца ў маўленні, падаюцца ў адных выпадках перад фразеалагізмам, у другіх — пасля яго, у трэціх, калі фразеалагізм мнагазначны, — пасля тлумачальнай часткі артыкула ў дужках, асобна да кожнага значэння:

*Збіць, стаўчы* **НА ГОРКІ ЯБЛЫК.**

*Хата, хатка* **НА КУРЫНЫХ НОЖКАХ (НА КУРЫНАЙ НОЖЦЫ).**

**НА ГАРМАТНЫ (ПУШАЧНЫ) СТРЭЛ (ВЫСТРАЛ)** *не падпускаць; нельга (не трэба) падпускаць.*

**ЯК ГАРОХ ПРЫ ДАРОЗЕ. 1.** Ненадзейна, трывожна, з неспакоем (жыць). **2.** Адзінока і без догляду (расці, заставацца, жыць і пад.).

Даюцца і іншыя тлумачэнні, якія паказваюць на сувязь з кантэкстам; напрыклад, фразеалагізм **ад сілы** ўжываецца перад лічэбнікам; **бог бацька** — часцей ужываецца пасля слоў *а там*; **з гакам** — у 1-м значэнні ўжываецца пасля лічэбніка (калі прыблізна вызначаецца велічыня, даўжыня, колькасць чаго-небудзь).

**Стылістычная характарыстыка**. Стылістычнае значэнне фразеалагізма, як ужо гаварылася ў «Прадмове», складаецца з функцыянальна-стылёвай і экспрэсіўна-ацэначнай афарбоўкі. І гэта адлюстроўваецца ў Слоўніку ў выглядзе стылістычных памет, якія ставяцца ўслед за граматычнымі.

**АСІНА <ГОРКАЯ, СУХАЯ> ПЛАЧА** *па кім. У безас. ужыв. Разм. Пагард.*

**БЕГ НА МЕСЦЫ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Іран.*

**ПЯТАЯ КАЛОНА.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн. Неадабр.*

**ХРЭН У ВОЧЫ** *каму. Выкл. Праст. Груб.*

**ЧОРТ ДЗЯЦЕЙ КАЛЫША** *каму. У безас. ужыв. Разм. Жарт.*

У некаторых выпадках, там, дзе гэта магчыма, зніжанасць фразеалагізма, яго замацаванасць, напрыклад, за гутарковым стылем знаходзіць сваё адпаведнае слоўнае выражэнне ў разгорнутым азначэнні выразу — шляхам увядзення размоўных слоў у формулу тлумачэння: **лахі пад пахі** — 'схапіць з сабой свае манаткі'; **нарадзіцца ў сарочцы** — 'быць шчаслівым, удачлівым, вязучым, быць шчасліўчыкам'; **падкладваць свінню** *каму* — 'цішком падстройваць непрыемнасць, подласць каму-н.'. Але і ў такіх выпадках пры фразеалагізме ставіцца адна з памет: *кніжн., разм., праст., функц. не зам.*

Памета *кніжн.* выкарыстоўваецца пры характарыстыцы фразеалагізмаў, якія маюць ярка выражаную афарбоўку кніжнасці і ўжываюцца ў публіцыстычным, навуковым стылях, а таксама ў мастацкіх тэкстах: **апошні акт** *<чаго>*, **брацца на ўзбраенне** *кім,* **кульмінацыйны пункт** *<чаго, у чым>*, **пад уладай** *чаго,* **рубікон пяройдзены** і пад.

Паметай *разм.* (размоўны) пазначаюцца фразеалагізмы, якія выкарыстоўваюцца ў бытавых зносінах, літаратурна-гутарковым маўленні і ў мастацкай літаратуры і ўжыванне якіх паказвае на неафіцыйнасць адносін паміж гаворачымі асобамі: **адзін крок** *ад чаго да чаго,* **апошняя ў папа жонка, везці на валах** *што,* **гром грымнуў, хадзіць на задніх лапках** *перад кім,* **хлебам не кармі** *каго,* **хоць па ветры пускай, чым хата багата** і г. д.

Паметай *праст.* (прастамоўны) пазначана найбольш зніжаная частка фразеалагізмаў, якая знаходзіцца на перыферыі літаратурнай мовы. Яны рэалізуюцца ў вусным маўленні, а таксама ў мастацкай літаратуры, але звычайна ў мове персанажаў, нярэдка перадаюць грубавата-зніжаны змест, часам маюць унутраны вобраз, які выклікае негатыўныя асацыяцыі: **без фігі ні да носа, блёкату наеўся, кішкі марш іграюць** *у каго,* **пляваць супраць ветру, халера не бярэ** *каго,* **чорт гоніць** *каго* і інш.

У Слоўніку нярэдка выкарыстоўваецца таксама памета *функц. не зам.:* ёю пазначаюцца пераходныя, прамежкавыя з'явы, якія ў галіне фразеалагічнай стылістыкі трэба называць функцыянальна не замацаванымі за пэўным стылем фразеалагізмамі. Яны, аднак, не павінны ацэньвацца як міжстылёвыя ці стылістычна нейтральныя, бо не могуць ужывацца ва ўсіх сферах зносін і не пазбаўлены экспрэсіўнасці. Напрыклад: **адкрываць вочы** *каму <на каго, на што>*, **вастрыць зброю, даць адстаўку** *чаму,* **зрыванне масак** *з каго, з чаго,* **хлеб надзённы, хмары згушчаюцца** *над кім, над чым,* **ход канём** і пад.

Калі ацэначнасць ці эмацыянальнасць з'яўляецца пастаяннай прыметай, характэрнай уласцівасцю фразеалагізма, то яго экспрэсіўна-ацэначны бок пазначаецца адпаведнай паметай. Напрыклад, падаюцца з паметай *адабр.* (адабральны): **хоць куды, як на заказ, як уліты**; з паметай *неадабр.* (неадабральны): **зладзейка з наклейкай, капейка не запарыцца** *у каго*; з паметай *асудж.* (асуджальны): **папоўскае вока** *у каго,* **што сліна на язык прынясе, як жаба грязі**; з паметай *іран.* (іранічны): **адарваць гнілому цяляці хвост, ехаць на валах, цешчын язык**; з паметай *жарт.* (жартаўлівы): **як аршын праглынуў, як заблоцкі на мыле** і інш.

Фразеалагізмы ж з ацэначнай рухомасцю, стылістычная афарбоўка якіх змяняецца ў залежнасці ад маўленчай сітуацыі, такіх памет не маюць або суправаджаюцца паказчыкамі тыпу «часцей адабр.», «адабр. ці неадабр», «жарт. ці іран.» і г. д. Напрыклад, прыводзяцца без экспрэсіўна-ацэначнай паметы: **зямлёй пахнуць, хадзіць па адной маснічыне** *ў каго,* **цыганскае сонца**; з паметай *адабр. і неадабр.*: **чорт сядзіць** *у кім,* **што ні <на> ёсць, яечка з галавы не скоціцца**; з паметай *часцей неадабр.*: **закручванне гаек, хоць трава не расці, ціхая завадзь**; з паметай *часцей жарт.*: **ні млён ні таўкач, хварэць на кішэньковыя сухоты** і г. д.

Пераважная большасць полісемантычных фразеалагізмаў характарызуецца стылістычнай аднароднасцю, маналітнасцю іх стылістычнага значэння, тая ці іншая канатацыя звычайна ахоплівае ўсе іх значэнні. Калі ж прыватныя значэнні фразеалагізма разыходзяцца ў функцыянальна-стылёвых ці экспрэсіўна-ацэначных адносінах, то пры такіх значэннях даюцца адпаведныя паметы. Так, у фразеалагізме **бабіна лета** першае значэнне ('ранняя восень з яснымі цёплымі днямі') функцыянальна не замацаванае, а астатнія тры ('серабрыстае павуцінне, што плыве над зямлёй у дні бабінага лета', 'астра новабельгійская', 'час прыліву новых сіл, творчай энергіі або ўзнікненне кахання ў пажылыя гады') — размоўныя. Размоўны фразеалагізм **віць <сваё, сабе> гняздо** мае тры значэнні, сярод іх першае ('уладкоўваць сямейнае жыццё') падаецца без экспрэсіўна-ацэначнай паметы, другое ('уладкоўвацца, ствараючы дамашнюю ўтульнасць') мае памету *часцей неадабр.,* трэцяе ('знаходзіць прыстанішча') прыводзіцца з паметай *неадабр.*

У Слоўніку, апрача ўласна стылістычных, зрэдку выкарыстаны паметы *ўстар.* і *абл.*

Паметай *устар.* (устарэлы) пазначаюцца фразеалагізмы, якія належаць да пасіўнага саставу: **чорная костка, адбіваць паклоны** і інш. Фразеалагізмы, пададзеныя ў Слоўніку без названай паметы, паводле актуальнасці ўжывання ў сучаснай беларускай літаратурнай мове адносяцца да актыўнага запасу.

Памета *абл.* (абласны) выкарыстана пры ацэнцы фразеалагізмаў па сферы іх ужывання. З такой паметай пададзены, напрыклад, фразеалагізмы *гаварыць* **як гусь з парасём, як слова**. Гэта выразы, якія сустракаюцца ў творах аднаго ці некалькіх аўтараў — ураджэнцаў пэўнага рэгіёна — і звычайна адзначаюцца ў працах па народна-дыялектнай фразеалогіі. Паколькі гэтыя выразы не маюць у сваім складзе пазалітаратурных слоў-кампанентаў і нярэдка вылучаюцца самастойнай, непаўторнай унутранай формай, іх можна лічыць рэзервам літаратурнай мовы.

**Семантычная характарыстыка**. Толькі нязначная частка фразеалагізмаў (каля 5%) абазначае тое самае, што і пэўнае слова, а таму іх сэнс можа быць раскрыты з дапамогай асобнага слова-адпаведніка. Так, ні семантычна, ні стылістычна не адрозніваюцца фразеалагізм **заўтрашні дзень** 'блізкая будучыня' і слова *заўтра* (у адным са сваіх значэнняў). Усе астатнія фразеалагізмы (іх каля 95%) тлумачацца шляхам разгорнутага апісання іх сэнсу. Пры гэтым формула тлумачэння, тып дэфініцыі залежаць ад катэгарыяльнага (найбольш абагуль-

ненага, часцінамоўнага) значэння фразеалагізма, ад яго прыналежнасці да пэўнага семантыка-граматычнага разраду — дзеяслоўнага, назоўнікавага, прыслоўнага і г.д.

У адных выпадках катэгарыяльнае значэнне фразеалагізма сігналізуецца граматычна галоўным кампанентам, а ў другіх — можа быць вызначана толькі па сінтаксічнай ролі фразеалагізма ў сказе. Напрыклад, выраз **вазіць ваду** *на кім* 'абцяжарваць каго-н. непасільнай, зневажальнай работай' дзеяслоўны і па апорным кампаненце, і па семантыцы. Зусім іншае назіраем у такіх выразах, як **вадой не разальеш** *каго* 'вельмі дружныя, неразлучныя', **мухі не пакрыўдзіць** 'вельмі ціхі, лагодны, пакорлівы'. Па наяўнасці дзеяслова ў якасці апорнага кампанента — гэта дзеяслоўныя фразеалагізмы, а па іх пастаяннай сінтаксічнай функцыі — прыметнікавыя. Таму іх фразеалагічнае значэнне перадаецца не дзеясловам, а словазлучэннем з прыметнікам у ролі галоўнага кампанента.

Амаль кожны семантыка-граматычны разрад фразеалагізмаў мае свой тып дэфініцыі.

1. Назоўнікавыя фразеалагізмы тлумачацца назоўнікавымі словазлучэннямі:

**АБІВАННЕ ПАРОГАЎ**. Настойлівы зварот з просьбамі да каго-н.

**АГУЛЬНАЕ МЕСЦА**. Збіты выраз, агульнавядомая, неарыгінальная думка.

**БАБУЛІНЫ КАЗКІ**. Беспадстаўныя чуткі, выдумкі, лухта.

2. Прыметнікавыя фразеалагізмы растлумачваюцца пры дапамозе прыметнікавых словазлучэнняў:

**АДНАГО ПОЛЯ ЯГАДА (-Ы, -КА, -КІ)**. Вельмі падобныя адзін на аднаго ў якіх-н. адносінах.

**БОЙКІ (-АЯ, -АЕ, -ІЯ) НА ЯЗЫК**. Знаходлівы ў размове, красамоўны.

**ЛЁГКІ (-АЯ, -АЕ, -ІЯ) НА ЯЗЫК**. Схільны да балбатлівасці, залішне гаваркі.

3. Дзеяслоўныя фразеалагізмы тлумачацца праз дзеяслоўныя словазлучэнні:

**ВАЛІЦЬ У АДНУ КУЧУ** *каго, што. Незак.* Змешваць неаднолькавыя прадметы, з'явы, не бачачы розніцы паміж імі.

**ВАРУШЫЦЬ БРУДНУЮ БЯЛІЗНУ**. *Незак.* Праяўляць залішнюю цікавасць да непажаданых падрабязнасцей чыйго-н. асабістага жыцця, узаемаадносін, дзейнасці і пад.

**НЕСЦІ <СВОЙ> КРЫЖ**. *Незак.* Цярпліва пераносіць жыццёвыя цяжкасці, выпрабаванні.

4. Прыслоўныя фразеалагізмы растлумачваюцца пры дапамозе прыслоўных словазлучэнняў:

**НА ВЕРАБ'ІНЫ СКОК**. Зусім нязначна, няшмат.

**НАГА ЗА НАГУ** *ісці, плесціся* і пад. Вельмі марудна, павольна, з нежаданнем.

**НАПРАМІЛЫ БОГ** *прасіць, заклікаць.* Вельмі шчыра і настойліва.

5. Фразеалагізмы, несуадносныя з часцінамі мовы і даволі часта структурна аформленыя па мадэлі сказа, тлумачацца прэдыкатыўным словазлучэннем, у складзе якога граматычным ці лагічным дзейнікам выступае няпэўны займеннік:

**ДУША НЕ ПРЫМАЕ** *чыя чаго.* Што-н. не падабаецца каму-н., непрыемнае, непрымальнае для каго-н.

**ЖАБА НА ЯЗЫКУ НЕ СПЯЧЭЦЦА** *ў каго*. Хто-н. вельмі балбатлівы, не ўмее трымаць сакрэты.

**ЯЗЫК КАЛЯ (ЛЯ) ВУШЭЙ МАТЛЯЕЦЦА** *ў каго*. Хто-н. празмерна балбатлівы, гаворыць многа лішняга.

Некаторыя фразеалагізмы гэтага структурна-граматычнага разраду растлумачваюцца прэдыкатыўным словазлучэннем, у якім у ролі дзейніка выступае не займеннік, а назоўнік:

**ЗАКЛАДВАЮЦЦА АСНОВЫ** *чаго*. Даецца пачатак чаму-н.; ствараецца тое, што з'яўляецца зыходным для чаго-н.

**КАША ЗАВАРВАЕЦЦА**. Распачынаецца складаная, клопатная ці непрыемная справа.

**РУБІКОН ПЯРОЙДЗЕНЫ**. Адказны, рашаючы крок зроблены, прынята беспаваротнае рашэнне.

6. Выклічнікавыя фразеалагізмы характарызуюцца значнай структурнай разнастайнасцю, а таму для іх немагчыма знайсці адзіны тып дэфініцыі. Яны тлумачацца па-рознаму:

**АВОХЦІ МНЕ**! Выказванне здзіўлення, задавальнення, захаплення, спачування, абурэння і інш.

**ВОСЬ ДЫК ТАК**! Вокліч здзіўлення з-за чаго-н. нечаканага.

**ПРАВАЛІЦЦА МНЕ НА ГЭТЫМ МЕСЦЫ**. Клянуся, што гэта так. Клятвеннае запэўненне ў справядлівасці сказанага.

7. Мадальныя фразеалагізмы таксама не маюць адзінай формулы тлумачэння. У кожным выпадку падбіраецца сэнсавы адпаведнік, выражаны словам ці словазлучэннем:

**ВЯДОМАЯ РЭЧ (СПРАВА)**. Зразумела, несумненна.

**МІЖ НАМІ <КАЖУЧЫ>**. Пад сакрэтам. Пра што-н. такое, чаго не варта гаварыць іншым.

**СЛАВА АЛАХУ**. На шчасце. Выказванне радасці, задавальнення, супакою з якой-н. прычыны.

У складзе назоўнікавых, прыслоўных і несуадносных з часцінамі мовы фразеалагізмаў ёсць нямала выразаў, якія ўзніклі на базе ўнутраных фразеалагічных рэсурсаў, склаліся на аснове ўжо існуючых фразеалагічных адзінак. Параўнаем, напрыклад, дзеяслоўны фразеалагізм **перамываць костачкі** *чые, каго, каму* і ўтвораны на яго аснове назоўнікавы выраз **перамыванне костачак** *каго, чыіх*. Апошні адрозніваецца ад суадноснага дзеяслоўнага фразеалагізма семантыкай, катэгарыяльным значэннем, марфалагічнымі формамі, сінтаксічнай характарыстыкай. Таму дзеяслоўны і суадносны назоўнікавы фразеалагізмы разглядаюцца не як дзве формы адной і той жа моўнай адзінкі, а як два самастойныя ўтварэнні[1]; яны падаюцца ў Слоўніку на сваіх алфавітных месцах і тлумачацца ў адпавед-

[1] Гл. пра гэта больш падрабязна: Лепешаў І.Я. Унутрыфразеалагічная дэрывацыя // Беларуская лінгвістыка. — 1988. Вып. 33. С. 49—53.

насці з іх катэгарыяльным значэннем і сінтаксічнай функцыяй. Некалькі аналагічных прыкладаў: **вочы адкрываюцца** *ў каго, каму <на што>* (параўн.: **адкрываць вочы** *каму <на каго, на што>*), **выхад у свет** (параўн.: **выходзіць у свет**), **гульня ў хованкі** (параўн.: **гуляць у хованкі**), **з заміраннем сэрца** (параўн.: **сэрца замірае** *ў каго, чыё*), **кот у мяшку** (параўн.: **купляць ката ў мяшку**), **на скрут галавы** (параўн.: **скруціць <сабе> галаву**), **першая скрыпка** (параўн.: **іграць першую скрыпку**), **свет завязаны** *каму* (параўн.: **завязаць свет** *каму*), **цераз пень калоду** (параўн.: **валіць цераз пень калоду**), **чырвоны певень** (параўн.: **пускаць <чырвонага> пеўня**) і пад.

Шмат якія фразеалагізмы здольны ўступаць у сінанімічныя і антанімічныя сувязі з іншымі фразеалагізмамі. Выяўленнем гэтых сістэмных сувязей і іх паказам у Слоўніку забяспечваецца больш глыбокае пранікненне ў сэнсавую структуру растлумачанага фразеалагізма, значна паўнейшы яго каментарый. Сінонімы прыводзяцца ўслед за тлумачальнай часткай слоўнікавага артыкула, затым падаюцца, калі яны ёсць, антонімы. Напрыклад:

**АБЫ З РУК.** *Акал. Разм. Неадабр.* Вельмі нядбала, недабраякасна, без ахвоты і старання (працаваць, рабіць і пад.). **Сін.**: абы дзень адбыць; абы дзень да вечара (у 1 знач.); з плеч ды ў печ (у 2 знач.); з пятага на дзесятае (у 2 знач.); на канец рук; праз пятае ў дзесятае (у 2 знач.); пусці павалюся (у 1 знач.); спусціўшы рукавы; сяк-так (у 2 знач.); сяк-так накасяк <абы не па-людску>; цапам-лапам; цапу-лапу; цераз пень калоду (у 1 знач.); цяп ды ляп. **Ант.**: душы паслухаючы; з аганьком; закасаўшы рукавы; не пакладаючы рук.

**СОНЦА ЗАЙШЛО** *чыё. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Скончылася чыё-н. шчасце, поспехі і пад. **Сін.**: зорка закацілася *чыя*; песенька спета *чыя, каго* (у 2 знач.). **Ант.**: сонца ўзыходзіць *<каму, для каго>*.

**ХАДЗІЦЬ ПА НІТАЧЦЫ** *перад кім, у каго. Незак. Разм. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дрыжаць перад кім-н., без адгаворак падпарадкоўваючыся ва ўсім. **Сін.**: на цырлах *перад кім* (у 1 знач.); скакаць пад дудку *чыю, каго*, хадзіць па адной маснічыне *ў каго*; хадзіць па струнцы *перад кім, у каго.*

Прыкладна сёмая частка фразеалагізмаў, уключаных у Слоўнік, належыць да мнагазначных. Кожнае значэнне аддзяляецца парадкавай лічбай і, апрача першага, даецца з чырвонага радка. Паслядоўнасць размяшчэння значэнняў абумоўліваецца рознымі фактарамі: лагічнай сувяззю паміж значэннямі, ступенню нарастання абстрактнасці, тыпам фразеалагічнага значэння па лексіка-граматычнай спалучальнасці і інш.

Фразеалагізм **аддаваць канцы** мае тры значэнні. Адно з іх ужываецца толькі ў прафесійнай мове маракоў (замест афіцыйнага *аддаваць швартовыя*). Яно больш канкрэтнае, чым астатнія, якія развіліся на яго аснове. Таму гэтыя значэнні падаюцца ў такой паслядоўнасці: 1. Адвязваць канаты, трос або ланцуг, калі судна адыходзіць ад прычала ў плаванне. 2. Уцякаць. 3. Паміраць.

З улікам нарастання абстрактнасці размяшчаюцца значэнні фразеалагізма **разяўляць рот**, прычым першыя пяць значэнняў — адносна свабодныя, а шостае — канструктыўна абмежаванае (**разяўляць рот** *на што*).: 1. Пачынаць гава-

рыць што-н., выказваць сваю думку. 2. Не згаджацца, рэзка пярэчыць. 3. Крайне здзіўляцца, быць моцна ўражаным. 4. Быць крайне няўважлівым. 5. Зазяваўшыся, пераставаць рабіць што-н. 6. *на што.* Выяўляць прагнасць, хціваe жаданне да чаго-н.

У двухзначнага фразеалагізма **віляць хвастом** першае значэнне — адносна свабоднае (яно ацэньваецца як зыходнае), а другое — канструктыўна абмежаванае: 1. Хітраваць, крывадушнічаць, ашукваць. 2. *перад кім.* Лісліва дамагацца чыёй-н. прыхільнасці.

Асобныя выразы пададзены ў Слоўніку не як мнагазначныя, а як фразеалагізмы-амонімы. Так, **зялёная вуліца**[1] 'свабодны шлях, без перашкод і затрымак' і **зялёная вуліца**[2] 'строй салдат са шпіцрутэнамі' не маюць нічога агульнага ў сэнсавых адносінах, адрозніваюцца паміж сабой этымалагічна і па спалучальнасці з кантэкстам. Гэтак жа разыходзяцца па ўсіх параметрах і таму ацэньваюцца як амонімы **адным словам**[1] ('добры, варты ва ўсіх адносінах'; ужываецца пры назоўніку са значэннем асобы) і **адным словам**[2] ('карацей кажучы, завяршаючы сказанае'; ужываецца ў значэнні пабочных слоў).

**Ілюстрацыйны матэрыял**. Прыклады-цытаты ў тлумачальным фразеалагічным слоўніку з'яўляюцца неад'емнай часткай слоўнікавага артыкула[2]. Яны выступаюць дадатковым сродкам семантычнай інфармацыі аб фразеалагізме, садзейнічаюць асэнсаванню фразеалагічнага значэння, пераконваюць у сапраўдным існаванні ў фразеалагізма таго значэння ці значэнняў, якія сфармуляваны ў дэфініцыях. Ілюстрацыйны матэрыял паказвае тыповыя сінтаксічныя сувязі фразеалагізма са словамі, дае поўнае ўяўленне пра нарматыўнае функцыяніраванне фразеалагізма ў маўленні. Апраўдальныя цытаты-ілюстрацыі пацвярджаюць у слоўнікавым артыкуле звесткі семантычнага, граматычнага і сінтаксічнага плана.

Значэнне (ці значэнні) кожнага фразеалагізма і іншая інфармацыя аб ім звычайна ілюструюцца ў Слоўніку дзвюма цытатамі. Калі ж фразеалагізму ўласцівы такія з'явы, як варыянтнасць ці факультатыўнасць кампанентаў, або калі ён характарызуецца разнастайнай спалучальнасцю са словамі, то колькасць ілюстрацыйных прыкладаў адпаведна павялічваецца з разлікам, каб усе ці амаль усе асаблівасці фразеалагізма знайшлі адлюстраванне ў цытатах. Гл., напрыклад: **глядзець (заглядаць, заглядваць) у бутэльку (у чарку)**.

У некаторых выпадках большая колькасць ілюстрацый тлумачыцца іншымі прычынамі, часцей за ўсё неабходнасцю пацвердзіць шырокае выкарыстанне ў сучаснай беларускай літаратурнай мове пэўнага фразеалагізма, які ў асобных лінгвістычных або літаратуразнаўчых працах беспадстаўна кваліфікуецца як «непатрэбнае запазычанне», «не вельмі зграбная калька» і г.д. Менавіта па гэтай прычыне, напрыклад, двухзначны выраз **ні к сялу ні к гораду**, занатаваны, дарэчы, яшчэ ў пазамінулым стагоддзі І.І.Насовічам, ілюструецца ў Слоўніку не ча-

---

[2] Вальтэр пісаў: «Слоўнік без прыкладаў – гэта шкілет!»

тырма, а васьмю цытатамі з твораў Я.Купалы, Я.Коласа, К.Чорнага, М.Лынькова, А.Чарнышэвіча, М.Лобана і інш.

Большая колькасць цытат падаецца і да фразеалагізмаў — былых крылатых выразаў, якія паходзяць з твораў беларускіх пісьменнікаў: **асадзі назад, хварэць на пана, захварэць на пана** (Я.Колас), **жаба ў каляіне, выдраць лысаму валоссе, ні бэ ні мя, свінтус грандыёзус, ездзіць на левым баку** (К.Крапіва), **людзьмі звацца** (Я.Купала), **рыцар ночы** (З.Бядуля), **кветкі з чужых палёў** (Ю.Гаўрук), **сена на асфальце** (М.Стральцоў).

Калі форма фразеалагізма не ўскладнена варыянтнасцю, факультатыўнасцю кампанентаў і г.д., то ілюстрацыі размяшчаюцца ў храналагічным парадку. У іншых выпадках парадак падачы прыкладаў-цытат звязаны з паслядоўным адлюстраваннем формы фразеалагізма, пададзенага ў загалоўку слоўнікавага артыкула.

Скарачэнні ў цытатах адзначаюцца дзвюма кропкамі.

Часам пры цытаванні выкарыстоўваюцца квадратныя дужкі. Імі адзначаюцца ўстаўкі асобных слоў (звычайна назваў дзейных асоб, замененых у тэксце асабовым ці прыналежным займеннікам), праўкі арфаграфічных і іншых неадпаведнасцей норме. У квадратных дужках даецца таксама імя дзейнай асобы, якой належыць рэпліка з драматургічнага твора ці з дыялога празаічнага твора.

Некалькі фразеалагізмаў ці іх асобных значэнняў пададзены без ілюстрацый: у прыкладах, якія ёсць у нашай картатэцы, гэтыя выразы або абыграныя аўтарамі, або па іншых прычынах непрыдатныя як ілюстрацыйны матэрыял.

**Размяшчэнне фразеалагізмаў у Слоўніку**. Спроба размяшчаць фразеалагізмы ў алфавітным парадку паводле іх першага кампанента не дае жаданых вынікаў, ускладняе пошукі пэўнай фразеалагічнай адзінкі ў Слоўніку, абцяжарвае знаходжанне, напрыклад, такіх шматлікіх фразеалагізмаў:

а) якія дапускаюць свабодную перастаноўку сваіх кампанентаў; гэта амаль усе дзеяслоўныя, многія назоўнікавыя, прыметнікавыя і іншыя выразы: **біць лынды — лынды біць; таўчы ваду ў ступе — ваду ў ступе таўчы; млын пусты — пусты млын; вострыя на язык — на язык вострыя; папалам з горам — з горам папалам**;

б) у якіх першы кампанент можа мець лексічныя варыянты: **дурыць (тлуміць, марочыць, чмурыць, чмуціць) галаву** *каму*;

в) у якіх першы кампанент факультатыўны: **<вясёлыя> чорцікі скакалі ў вачах** *чыіх, каго*; **<і> у агні не гарыць і ў вадзе не тоне**; **<усе> шышкі сыплюцца (валяцца, ляцяць)** *на каго*.

Найбольш прымальным з'яўляецца такі парадак падачы фразеалагізмаў, калі «кожны фразеалагізм змяшчаецца ў слоўніку столькі разоў, колькі ў яго складзе кампанентаў, уключаючы ўсе лексічныя і трывальныя варыянты. Выключэнне складаюць кампаненты, якія з'яўляюцца генетычна службовымі словамі»[3]. Так, фразеалагізм **леташні снег** падаецца ў двух месцах: на кампанент **леташні** ў літа-

[3] Фразеологический словарь русского языка /Под ред. А.И. Молоткова. – М., 1967. С. 22.

ры Л і на кампанент **снег** у літары **С**; фразеалагізм **<матчына (мамчына, маміна)> малако на губах не абсохла (не высахла, не павысыхала)** *у каго* змешчаны ў васьмі месцах: на кампаненты **матчына, мамчына, маміна, малако, губах, абсохла, павысыхала**. Дзякуючы гэтаму, у Слоўніку можна знайсці фразеалагізм па любым з кампанентаў.

Хоць фразеалагізм змяшчаецца ў Слоўніку столькі разоў, колькі ў ім кампанентаў, распрацоўка яго даецца адзін раз і толькі ў пэўным месцы (гл. пра гэта ніжэй). У астатніх выпадках пададзены адсылкі да месца распрацоўкі фразеалагізма. Напрыклад, у літары **Л** ёсць адсылка: **ЛЕТАШНІ СНЕГ**. Гл. снег. Значыць, апісанне гэтага выразу трэба шукаць у літары **С**, дзе фразеалагізмы размешчаны ў алфавітным парадку кампанентаў, якія пачынаюцца на гэту літару, незалежна ад іх месца ў фразеалагізме. На пэўным алфавітным месцы знаходзім кампанент **снег**. Ён вынесены светлым вялікім курсівам перад групай фразеалагізмаў, у складзе якіх ёсць гэты кампанент. Фразеалагізмы ўнутры гэтай групы таксама падаюцца ў алфавітным парадку:

*СНЕГ* • **ЛЕТАШНІ СНЕГ...**
**ЯК ЛЕТАШНІ СНЕГ...**
**ЯК (НІБЫ) СНЕГ НА ГАЛАВУ...**

Месца распрацоўкі фразеалагізма вызначаецца яго структурнай арганізацыяй.

1. Фразеалагізм, які мае структуру словазлучэння, распрацоўваецца пад граматычна галоўным кампанентам, напрыклад: **абводзіць вакол пальца** *каго* — пад **абводзіць**; **адамаў яблык** пад **яблык**; **адзін бок медаля** — пад **бок**; **лёгкі на нагу** — пад **лёгкі**; **у вочы** — пад **вочы**.

2. Фразеалагізм са структурай двухсастаўнага сказа распрацоўваецца пад кампанентам, які адпавядае дзейніку: **аж гай шуміць** — пад **гай**; **вецер гуляе ў кішэнях** *у каго* — пад **вецер**; **дух выйшаў** *з каго* — пад **дух**; **жаба цыцкі дасць** *каму* — пад **жаба**; **жывот да спіны прырос** *чый, у каго* — пад **жывот**.

3. Фразеалагізм са структурай аднасастаўнага сказа распрацоўваецца пад кампанентам, які адпавядае галоўнаму члену аднасастаўнага сказа: **да трох не гавары** *з кім, каму* — пад **гавары**; **кашы не зварыш** *з кім* — пад **зварыш**; **у пяткі кальнула** *каму, каго* — пад **кальнула**; **як вадой змыла** — пад **змыла**.

4. Фразеалагізм, структурна арганізаваны як спалучэнне аднародных членаў, распрацоўваецца пад першым кампанентам — генетычна самастойным словам: **і смех і грэх** — пад **смех**; **<і> так і сяк** — пад **так**; **ні горача ні холадна** *каму ад чаго* — пад **горача**; **ні два ні паўтара** — пад **два**; **то там то сям** — пад **там**.

5. Фразеалагізм са структурай параўнальнага звароту распрацоўваецца пад граматычна галоўным кампанентам: **як апошняе ў печ усыпаўшы** — пад **усыпаўшы**; **як без рук** *без каго, без чаго* — пад **рук**; **як божы дзень** — пад **дзень**; **як вока ў ілбе** — пад **вока**; **як горкая рэдзька** — пад **рэдзька**.

Фразеалагізмы, у якіх парадак кампанентаў свабодны ці адносна свабодны, распрацоўваюцца на сваім алфавітным месцы і прыводзяцца ў найбольш тыповай форме. Напрыклад, фразеалагізм **вадзіць за нос** *каго* ўжываецца і з перастаноўкай кампанентаў (**за нос вадзіць** *каго*), але часцей — з прамым парадкам кампанентаў, таму і падаецца ў форме **вадзіць за нос** *каго*. Для фразеалагізма ж **вераб'ям дулі паказваць** іменна гэта форма найбольш тыповая.

Высокая частотнасць, найбольшая ўжывальнасць — вызначальныя фактары і пры падачы фразеалагізмаў, ахопленых з'явай варыянтнасці, а таксама слоў-суправаджальнікаў пры фразеалагізмах з валентна абмежаваным значэннем. Гэтым вытлумачваецца менавіта такая форма наступных загаловачных фразеалагізмаў:

**БРАЦЦА (ІСЦІ) У РОЖКІ** *з кім*.

**ЛАВІЦЬ (ХАПАЦЬ, БРАЦЬ) ЗА РУКУ** *каго*.

**ШТО (ЯК, НІБЫ) З ГУСІ ВАДА** *з каго, каму*.

*Карысці, толку, помачы* і пад. **ЯК (ШТО) АД (З ) КАЗЛА МАЛАКА.**

**ЯК БОЖЫ ДЗЕНЬ** *ясна, зразумела (ясны, зразумелы)*.

*Глядзець, берагчы, шанаваць* і пад. **ЯК (ШТО) ВОКА Ў ІЛБЕ.**

На заканчэнне адзначым, што пры адсылках (дзеля эканоміі месца) фразеалагізмы з валентна абмежаваным значэннем прыводзяцца без слоў-суправаджальнікаў. У слоўнікавых артыкулах загаловачны фразеалагізм, як ужо гаварылася, падаецца так:

*Спадзявацца, апірацца* і пад. **ЯК НА КАМЕННУЮ СЦЯНУ (ГАРУ).**

Параўн. у адсылках:

**ЯК НА КАМЕННУЮ СЦЯНУ**. Гл. сцяну.

**ЯК НА КАМЕННУЮ ГАРУ**. Гл. сцяну.

## СПІС АЎТАРАЎ,
### творы якіх выкарыстаны ў Слоўніку

Абуховіч — Альгерд Абуховіч
Агіевіч — Уладзімір Агіевіч
Агняцвет — Эдзі Агняцвет
Адам — Мікола Адам
Адамовіч — Алесь Адамовіч
Адамчык — Вячаслаў Адамчык
А.Александровіч — Андрэй Александровіч
С.Александровіч — Сцяпан Александровіч
Алексютовіч — Мікалай Алексютовіч
Алешка — Антон Алешка
У.Аляхновіч — Уладзімір Аляхновіч
Ф.Аляхновіч — Францішак Аляхновіч
Андзілеўка — Людміла Андзілеўка
Андраюк — Серафім Андраюк
Анісаў — Сяргей Анісаў
Аношкін — Іван Аношкін
Арабей — Лідзія Арабей
Аркуш — Алесь Аркуш
Арочка — Мікола Арочка
Асіпенка — Алесь Асіпенка
Асташонак — Алесь Асташонак
Астрэйка — Анатоль Астрэйка
Аўрамчык — Мікола Аўрамчык
Багданава — Галіна Багданава
Багдановіч — Максім Багдановіч
Багун — Міхась Багун
Багушэвіч — Францішак Багушэвіч
Бадак — Алесь Бадак
Бажко — Алесь Бажко
Баравікова — Раіса Баравікова
Барадулін — Рыгор Барадулін
Баранавых — Сымон Баранавых
Бароўскі — Анатоль Бароўскі
Барсток — Марыя Барсток
Бачыла — Алесь Бачыла
Бельскі — Алесь Бельскі
Беразняк — Пампей Беразняк
Беркутаў — Мікола Беркутаў
Бітэль — Пятро Бітэль
Бічэль-Загнетава — Данута Бічэль-Загнетава
Блакіт — Валянцін Блакіт
Блатун — Сымон Блатун
Бондар — Таіса Бондар
Брава — Алена Брава
Броўка — Пятрусь Броўка
Брыль — Янка Брыль
Бугаёў — Дзмітрый Бугаёў
Буйло — Канстанцыя Буйло
Бураўкін — Генадзь Бураўкін
Бур'ян — Барыс Бур'ян
Бутрамееў — Уладзімір Бутрамееў
Бутэвіч — Анатоль Бутэвіч
Быкаў — Васіль Быкаў
Бычкоўскі — Алесь Бычкоўскі
Бяганская — Ядвіга Бяганская
Бядуля — Змітрок Бядуля
Бязлепкіна — Святлана Бязлепкіна
Бялевіч — Антон Бялевіч
Бярозкін — Рыгор Бярозкін
Бяспалы — Змітро Бяспалы
Ваданосаў — Мікола Ваданосаў
І.Валасевіч — Ігар Валасевіч
Э.Валасевіч — Эдуард Валасевіч
Варановіч — Адольф Варановіч
Васілевіч — Алена Васілевіч
Васілеўская — Галіна Васілеўская
Васілеўскі — Пятро Васілеўскі
Васілёк — Міхась Васілёк
Васілёнак — Яўген Васілёнак

Васючэнка — Пётр Васючэнка
Вераб'ёў — Павел Вераб'ёў
Ветах — Алесь Ветах
Вітка — Васіль Вітка
А.Вольскі — Артур Вольскі
В.Вольскі — Віталь Вольскі
Воранаў — Мікола Воранаў
Вышынскі — Міхась Вышынскі
Вялюгін — Анатоль Вялюгін
Вярба — Вера Вярба
Вярцінскі — Анатоль Вярцінскі
Галавач — Платон Галавач
Л.Галубовіч — Леанід Галубовіч
Я.Галубовіч — Янка Галубовіч
Галубок — Уладзіслаў Галубок
Гальпяровіч — Навум Гальпяровіч
Гамолка — Мікола Гамолка
Гарбацэвіч — Васіль Гарбацэвіч
Гарбук — Вісарыён Гарбук
Гардзей — Віктар Гардзей
Гарун — Алесь Гарун
Гарэлікава — Таццяна Гарэлікава
Гарэцкі — Максім Гарэцкі
Гаўрусёў — Сцяпан Гаўрусёў
Герцовіч — Якаў Герцовіч
Герчык — Міхаіл Герчык
Гігевіч — Васіль Гігевіч
Гілевіч — Ніл Гілевіч
Гіль — Мікола Гіль
Глебка — Пятро Глебка
Глушакоў — Уладзімір Глушакоў
Глыбінны — Уладзімір Глыбінны
Гніламёдаў — Уладзімір Гніламёдаў
Гойтан — Уладзімір Гойтан
Голуб— Юрка Голуб
Грамовіч — Іван Грамовіч
Грамыка — Міхаіл Грамыка
Грахоўскі — Сяргей Грахоўскі
Грачанікаў — Анатоль Грачанікаў
Гроднеў — Мікола Гроднеў
Грышкевіч — Сяргей Грышкевіч
Губарэвіч — Кастусь Губарэвіч
Гурскі — Ілья Гурскі
Давідовіч — Сяргей Давідовіч
Давыдаў — Алесь Давыдаў
Дадзіёмаў — Уладзімір Дадзіёмаў
Дайліда — Віктар Дайліда
Дайнека — Леанід Дайнека
Далідовіч — Генрых Далідовіч
Дамашэвіч — Уладзімір Дамашэвіч
Даніленка — Міхась Даніленка
Дзелянкоўскі — Мікалай Дзелянкоўскі
Дзмітрыеў — Генадзь Дзмітрыеў
Дзялендзік — Анатоль Дзялендзік
Дзяргай — Сяргей Дзяргай
Дзятлаў — Алесь Дзятлаў
Дранько-Майсюк — Леанід Дранько-Майсюк
Дубінка — Вячаслаў Дубінка
Дубоўка — Уладзімір Дубоўка
Дубоўскі — Мікола Дубоўскі
Дуброўскі — Ігнат Дуброўскі
Дубянецкі — Міхал Дубянецкі
Дудар — Алесь Дудар
Дудараў — Аляксей Дудараў
Дудзюк — Зінаіда Дудзюк
Дудо — Пятро Дудо
Дунін-Марцінкевіч — Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч
Дыла — Язэп Дыла
Емяльянаў — Алесь Емяльянаў
Ермакоў — Мікола Ермакоў
Ермаловіч — Якуб Ермаловіч
Жалязоўскі — Анатоль Жалязоўскі
А.Жук — Алесь Жук
І.Жук — Ігар Жук
К.Жук — Кастусь Жук
Жуковіч — Васіль Жуковіч
Жураўскі — Аркадзь Жураўскі
Журба — Янка Журба
Жылка — Уладзімір Жылка
Жычка — Хведар Жычка
Забэйда-Суміцкі — Міхась Забэйда-Суміцкі
Зарыцкі — Аляксей Зарыцкі
Зарэмба — Міхась Зарэмба
Зарэцкі — Міхась Зарэцкі
Захаранка — Мікола Захаранка
Звонак — Алесь Звонак
Зуб — Валянцін Зуб
Зуёнак — Васіль Зуёнак
Зяньковіч — Мікалай Зяньковіч
Івашын — Васіль Івашын
Іверс — Анатоль Іверс

Ігнаценка — Рыгор Ігнаценка
Ільюшчыц — Кастусь Ільюшчыц
Іпатава — Вольга Іпатава
Ісачанка — Іван Ісачанка
Каваленка — Віктар Каваленка
Кавалёў — Павел Кавалёў
Каваль — Васіль Каваль
Кавыль — Міхась Кавыль
Каганец — Карусь Каганец
Кадзетава — Валянціна Кадзетава
Кажадуб — Алег Кажадуб
Казбярук — Уладзімір Казбярук
Казека — Янка Казека
Казлоў — Анатоль Казлоў
Казько — Віктар Казько
Калачынскі — Міхась Калачынскі
Калеснік — Уладзімір Калеснік
Каліна — Клаўдзія Каліна
Калодзежны — Леанід Калодзежны
Калюга — Лукаш Калюга
Камейша — Казімір Камейша
Кананові́ч — Іван Кананові́ч
Кандрусевіч — Аркадзь Кандрусевіч
Кантылёў — Яўген Кантылёў
Капусцін — Аляксандр Капусцін
І.Капыловіч — Іван Капыловіч
М.Капыловіч — Мікола Капыловіч
Карамазаў — Віктар Карамазаў
Караткевіч — Уладзімір Караткевіч
Каржанеўская — Галіна Каржанеўская
Каробкіна — Святлана Каробкіна
Карпаў — Уладзімір Карпаў
Карпюк — Аляксей Карпюк
Каршукоў — Яўген Каршукоў
Карызна — Уладзімір Карызна
Катляроў — Ігар Катляроў
Каўка — Аляксей Каўка
Каўрус — Алесь Каўрус
Кацюшэнка — Міхась Кацюшэнка
Кенька — Міхась Кенька
Кірылаў — Герман Кірылаў
Кірэенка — Кастусь Кірэенка
Кірэйчык — Іван Кірэйчык
Кісліцына — Ганна Кісліцына
Кісялёў — Генадзь Кісялёў
Клаз — Ілья Клаз
Клебановіч — Міхась Клебановіч
Клімковіч — Міхась Клімковіч
Кляўко — Генадзь Кляўко
Кляшторны — Тодар Кляшторны
Кобец — Рыгор Кобец
Кобец-Філімонава — Алена Кобец-Філімонава
Козел — Іван Козел
Конан — Уладзімір Конан
Колас — Якуб Колас
Корбан — Уладзімір Корбан
Коўтун — Валянціна Коўтун
Крапіва — Кандрат Крапіва
Краснапёрка — Ганна Краснапёрка
Краўчанка — Усевалад Краўчанка
Крупенька — Яўген Крупенька
Крывец — Сяргей Крывец
Крывіцкі — Аляксандр Крывіцкі
Крыга — Алесь Крыга
Крэйдзіч — Анатоль Крэйдзіч
Кудласевіч — Анатоль Кудласевіч
Кудравец — Анатоль Кудравец
Кудраўцаў — Іван Кудраўцаў
Кузьмянкоў — Уладзімір Кузьмянкоў
Кулакоўскі — Аляксей Кулакоўскі
Кулеш — Міхась Кулеш
Куляшоў — Аркадзь Куляшоў
Купала — Янка Купала
Купрэеў — Мікола Купрэеў
Курбека — Іван Курбека
Куртаніч — Вольга Куртаніч
Курто — Яўген Курто
Кусянкоў — Мікола Кусянкоў
Кухараў — Сцяпан Кухараў
Кучар — Алесь Кучар
Лазуркін — Рыгор Лазуркін
Лапцік — Вячаслаў Лапцік
Ласкоў — Іван Ласкоў
Ластоўскі — Вацлаў Ластоўскі
Лаўшук — Сцяпан Лаўшук
Левановіч — Леанід Левановіч
Лецка — Яўген Лецка
Лёсік — Язэп Лёсік
Ліпскі — Уладзімір Ліпскі
Ліс — Арсень Ліс
Лобан — Мікола Лобан
Лобач — Святлана Лобач
Лойка — Алег Лойка

Лось — Еўдакія Лось
Лужанін — Максім Лужанін
Лукша — Валянцін Лукша
Лупсякоў — Мікола Лупсякоў
Лучына — Янка Лучына
Лынькоў — Міхась Лынькоў
Лыч — Леанід Лыч
Лялько — Хрысціна Лялько
Ляпёшкін — Уладзімір Ляпёшкін
Маеўская — Ніна Маеўская
Маеўскі — Васіль Маеўскі
Макаёнак — Андрэй Макаёнак
Макаль — Пятрусь Макаль
Макарэвіч — Васіль Макарэвіч
Мальдзіс — Адам Мальдзіс
Маляўка — Мікола Маляўка
Маракоў — Леанід Маракоў
А.Марціновіч — Аркадзь Марціновіч
Ал.Марціновіч — Алесь Марціновіч
Марчук — Георгій Марчук
Масарэнка — Алесь Масарэнка
Матукоўскі — Мікалай Матукоўскі
Маўзон — Аркадзь Маўзон
Маўр — Янка Маўр
Махнач — Алесь Махнач
Машара — Міхась Машара
Мележ — Іван Мележ
Мехаў — Уладзімір Мехаў
Міклашэўскі — Яўген Міклашэўскі
Мікуліч — Барыс Мікуліч
Міраковіч — Міхась Мірановіч
Міровіч — Еўсцігней Міровіч
Міско — Якуб Міско
Міська — Павел Міська
Міхно — Уладзімір Міхно
Мрый — Андрэй Мрый
Мурашка — Рыгор Мурашка
Мушынская — Тацццяна Мушынская
Мушынскі — Міхась Мушынскі
Мысліевец — Валянцін Мысліевец
Мядзёлка — Паліна Мядзёлка
Мяжэвіч — Уладзімір Мяжэвіч
Мяснікоў — Анатоль Мяснікоў
Мятліцкі — Мікола Мятліцкі
Навaрыч — Алесь Наварыч
Навуменка — Іван Навуменка
Наўроцкі — Алесь Наўроцкі
Нафрановіч — Аркадзь Нафрановіч
Непачаловіч — Янка Непачаловіч
Нёманскі — Янка Нёманскі
Ніканoвіч — Мікола Ніканoвіч
Новікаў — Іван Новікаў
Нядзведскі — Уладзіслаў Нядзведскі
Няхай — Рыгор Няхай
Палескі — Вячаслаў Палескі
Палтаран — Вера Палтаран
Палітыка — Панас Палітыка
Палуян — Сяргей Палуян
Пальчэўскі — Алесь Пальчэўскі
Панізнік — Сяргей Панізнік
Панчанка — Пімен Панчанка
Парахневіч— Міхась Парахневіч
Паслядовіч — Макар Паслядовіч
Паўлаў — Уладзімір Паўлаў
Паўлікава — Людміла Паўлікава
Паўловіч — Альберт Паўловіч
Пашкоў — Генадзь Пашкоў
Перкін — Навум Перкін
Пестрак — Пілiп Пестрак
Петрашкевіч — Алесь Петрашкевіч
Пісьмянкоў — Алесь Пісьмянкоў
Правасуд — Уладзімір Правасуд
Прануза — Паўлюк Прануза
Праскураў — Васіль Праскураў
Праўдзін — Віктар Праўдзін
Прокша — Леанід Прокша
Пруднікаў — Павел Пруднікаў
Прыгодзіч — Зіновій Прыгодзіч
Прыходзька — Пятро Прыходзька
Пташнікаў — Іван Пташнікаў
Пушча — Язэп Пушча
Пысін — Аляксей Пысін
Пянкрат — Міхась Пянкрат
Пяткевіч — Аляксей Пяткевіч
Рагойша — Вячаслаў Рагойша
Радкевіч — Яўген Радкевіч
Разанаў — Алесь Разанаў
Райчонак — Міхась Райчонак
Ракаў — Віктар Ракаў
Ракітны — Мікола Ракітны
Раманаў — Аляксандр Раманаў
Рамановіч — Яўген Рамановіч
Родзевіч — Леапольд Родзевіч
Рубанаў — Уладзіслаў Рубанаў

Рублеўская — Людміла Рублеўская
Рублеўскі — Сяргей Рублеўскі
Рунец — Пятро Рунец
Русак — Адам Русак
Русецкі — Аляксей Русецкі
Рыбак — Алесь Рыбак
Рыбік — Ніна Рыбік
Рылько — Алесь Рылько
Сабаленка — Раман Сабаленка
Сабалеўскі — Анатоль Сабалеўскі
Савіцкі — Алесь Савіцкі
Саламаха — Уладзімір Саламаха
Саламевіч — Янка Саламевіч
Салтук — Алег Салтук
Самуйлёнак — Эдуард Самуйлёнак
Санько — Валерый Санько
Сачанка — Барыс Сачанка
Свірка — Юрась Свірка
Семашкевіч — Рыгор Семашкевіч
Семяжон — Язэп Семяжон
Сергіевіч — Мікола Сергіевіч
Сіманоўскі —Іван Сіманоўскі
Сіняўскі — Іван Сіняўскі
Сіпакоў — Янка Сіпакоў
Сіўко — Франц Сіўко
Сіўцоў — Іван Сіўцоў
Скрыган — Ян Скрыган
Скрыпка — Міхась Скрыпка
Смагаровіч — Марк Смагаровіч
Ставер — Алесь Ставер
Стадольнік — Іван Стадольнік
Станкевіч — Юры Станкевіч
Станюта — Аляксандр Станюта
Б.Стральцоў — Барыс Стральцоў
М.Стральцоў — Міхась Стральцоў
Стрыгалёў — Міхась Стрыгалёў
Стэльмах — Уладзімір Стэльмах
Супрунчук — Віктар Супрунчук
Сушко — Пятро Сушко
Сцяпан — Уладзімір Сцяпан
Сямёнава — Ала Сямёнава
Сяргей — Сцяпан Сяргей
Сяргейчык — Цімох Сяргейчык
Сяркоў — Іван Сяркоў
Танк — Максім Танк
Тарасаў — Кастусь Тарасаў
Тармола-Мірскі — Раман Тармола-Мірскі
Таўлай — Валянцін Таўлай
В.Ткачоў — Васіль Ткачоў
Мік. Ткачоў — Мікола Ткачоў
Міх. Ткачоў — Міхась Ткачоў
П.Ткачоў — Павел Ткачоў
Трахімёнак — Сяргей Трахімёнак
Трус — Паўлюк Трус
Трухан — Мікалай Трухан
Тычка — Галіна Тычка
Тычына — Міхась Тычына
Федарэнка — Андрэй Федарэнка
Федасеенка — Уладзімір Федасеенка
Філімонава — Любоў Філімонава
Філіповіч — Марыя Філіповіч
Фядосік — Анатоль Фядосік
Хадановіч — Андрэй Хадановіч
Хадкевіч — Тарас Хадкевіч
Хадыка — Уладзімір Хадыка
Хацкевіч — Рыгор Хацкевіч
Хведаровіч — Мікола Хведаровіч
Хомчанка — Васіль Хомчанка
Цвірка — Кастусь Цвірка
Цётка — Цётка
Цікоцкі — Міхась Цікоцкі
Цыпіс — Навум Цыпіс
Цыхун — Апанас Цыхун
Цяжкі — Артур Цяжкі
Чавускі — Міхась Чавускі
Чаркасаў — Анатоль Чаркасаў
Чарняўскі — Мікола Чарняўскі
Чарнышэвіч — Аркадзь Чарнышэвіч
Чарняўская — Леаніла Чарняўская
Чаропка — Вітаўт Чаропка
Чарот — Міхась Чарот
Чобат — Алесь Чобат
Чорны — Кузьма Чорны
Чыгрын — Сяргей Чыгрын
Чыгрынаў — Іван Чыгрынаў
Чэрня — Хведар Чэрня
Шабалтас — Васіль Шабалтас
Шабан — Яўген Шабан
Шальманаў — Іван Шальманаў
Шамякін — Іван Шамякін
Шапран — Сяргей Шапран
Шарахоўскі — Янка Шарахоўскі
Шаўцоў — Сяргей Шаўцоў
Шахавец — Уладзімір Шахавец

Шашкоў — Алесь Шашкоў
Шкраба — Рыгор Шкраба
Шлег — Алесь Шлег
Шупенька — Генадзь Шупенька
Шушкевіч — Станіслаў Шушкевіч
Шчарбатаў — Георгій Шчарбатаў
Шыбут — Павел Шыбут
Шыловіч — Георгій Шыловіч
Шымук — Віктар Шымук
Шынклер — Хвядос Шынклер
Шырко — Васіль Шырко
Шырма — Рыгор Шырма
Шыцік — Уладзімір Шыцік
Юрчанка — Георгій Юрчанка
Юрэвіч — Уладзімір Юрэвіч
Ягоўдзік — Уладзімір Ягоўдзік
Ядвігін Ш. — Ядвігін Ш.
Якавенка — Васіль Якавенка
Якімовіч — Алесь Якімовіч
Якутаў — Уладзімір Якутаў
Ялоўчык — Лідзія Ялоўчык
Янішчыц — Яўгенія Янішчыц
Янкоўскі — Фёдар Янкоўскі
Яновіч — Сакрат Яновіч
Янушкевіч — Язэп Янушкевіч
Ярашэвіч — Эдуард Ярашэвіч
Яскевіч — Алесь Яскевіч

## СПІС ІНШЫХ КРЫНІЦ СЛОЎНІКА

«Бел. думка» — часопіс «Беларуская думка»
«Бел. лінгвістыка» — штогоднік «Беларуская лінгвістыка»
«Бел. мова і л-ра » — часопіс «Беларуская мова і літаратура»
«Беларусь» — часопіс «Беларусь»
«Весці» — часопіс «Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук»
«Вожык» — часопіс «Вожык»
Гіст. бел. сав. літ. — Гісторыя беларускай савецкай літаратуры, т. 1.—1965.
«Дзядзька Антон» — ананімная гутарка «Дзядзька Антон»
«Жарты» — Жарты, анекдоты, гумарэскі.—1984.
«Звязда» — газета «Звязда»
«Крыніца» — часопіс «Крыніца».
«ЛіМ» — газета «Літаратура і мастацтва»
«Маладосць» — часопіс «Маладосць»
«Нар. асвета»— часопіс «Народная асвета»
«Нар. газ.» — газета «Народная газета»
«Настаўн. газ.» — «Настаўніцкая газета»
«Полымя» — часопіс «Полымя»
«Роднае сл.» — часопіс «Роднае слова»
«Тарас на Парнасе» — ананімная паэма «Тарас на Парнасе»
«Чырв. змена» — газета «Чырвоная змена».
«Энеіда навыварат» — ананімная паэма «Энеіда навыварат»

* * *

У нешматлікіх выпадках (у канцы слоўнікавага артыкула) скарочана паказваюцца (у квадратных дужках) крыніцы, дзе ўжо фіксаваўся пэўны фразеалагізм, або супастаўленні-параўнанні. Вось спіс гэтых скарачэнняў:

Даніловіч — Даніловіч М.А. Слоўнік дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны. — Гродна, 2000.

Лепешаў — Лепешаў І.Я. З народнай фразеалогіі: Дыферэнцыяльны слоўнік. — Мінск, 1991.

Мяцельская — Мяцельская Е.С., Камароўскі Я.М. Слоўнік беларускай народнай фразеалогіі. — Мінск, 1972.

Насовіч — Словарь белорусских пословиц, составленный И.И.Носовичем. — СПб., 1874.

Раманаў — Романов Е. Белорусский сборник. Т. 1. Вып. 1—2. — Киев, 1886.

Федароўскі — Lud białoruski na Rusi Litewskiej. T. IV. — Warszawa, 1935.

Юрчанка — Юрчанка Г.Ф. І коціцца і валіцца. — Мінск, 1972; І сячэ і паліць. — Мінск, 1974; Слова за слова. — Мінск, 1977.

Янкоўскі — Янкоўскі Ф. Беларуская фразеалогія: Фразеалагізмы, іх значэнне, ужыванне. — Мінск, 1968.

## ФРАЗЕАЛАГІЧНЫЯ І ЛЕКСІКАГРАФІЧНЫЯ ПРАЦЫ

Батюк Н.О. Фразеологічний словник. — Київ, 1966.

Беларуска-рускі слоўнік /Пад рэд. К.Крапівы. — М., 1962.

Бирих А.К., Мокиенко В.М., Степанова Л.И. Словарь русской фразеологии. Историко-этимологический справочник. — СПб., 1998.

Гаўрош Н.В., Лепешаў І.Я., Янкоўскі Ф.М. Фразеалагічны слоўнік для сярэдняй школы. — Мн., 1973.

Жуков А.В. Лексико-фразеологический словарь русского языка. — М., 2000.

Жуков В.П. Школьный фразеологический словарь русского языка. — М., 1980.

Жуков В.П., Сидоренко М.И., Шкляров В.Т. Словарь фразеологических синонимов русского языка.—М., 1987.

Лепешаў І.Я. Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў.—Мн., 2004.

Русско-белорусский словарь: В 2 т. / Под ред. К.Крапивы.—Мн., 1982.

Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: У 5 т. / Пад рэд. К.Крапівы. — Мн., 1977—1984.

Удовиченко Г.М. Фразеологічний словник української мови: В 2 т.— Київ, 1984.

Фразеологический словарь русского литературного языка. Т. 1—2 / Сост. А.И.Федоров. — Новосибирск, 1995.

Фразеологический словарь русского языка / Под ред. А.И.Молоткова.— М., 1967.

Фразеологічний словник українскої мови. Т. 1—2. — Київ. 1999.

Skorupka S. Słownik frazeologiczny języka polskiego. T. 1—2.— Warszawa, 1985.

## ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

абаг.-асаб. — абагульнена-асабовы
абл. — абласны
абстр. — абстрактны
адабр. — адабральны
адз. — адзіночны лік
адмоўн. — адмоўны
аднакр. — аднакратны
адуш. — адушаўлёны
азн. — азначэнне
акал. — акалічнасць
ант. — антонім
ас. — асоба дзеяслова
асаб. — асабовы
асудж. — асуджальны
безас. — безасабовы
буд. — будучы час
вык. — выказнік
выкл. — выклічнікавы
выраж. — выражаны
галоўн. — галоўны
груб. — грубы
дадан. — даданы
дап. — дапаўненне
дзейн. — дзейнік
дзеясл. — дзеяслоў, дзеяслоўны
ж. — жаночы род
жарт. — жартаўлівы
заг. л. — загадны лад
займ. — займеннік
зак. — закончанае трыванне
зборн. — зборны
знач. — значэнне
імен. — іменны
інф. — інфінітыў
і пад. — і падобнае
іран. — іранічнае
канкр. — канкрэтны
кніжн. — кніжны
лічэбн. — лічэбнік
м. — мужчынскі род
мн. — множны лік
мнагакр. — мнагакратны
н. — ніякі род
-н. — небудзь
наз. — назоўнік
назоўн. — назоўны
неадабр. — неадабральны
неадуш. — неадушаўлёны
недапас. — недапасаваны
незадав. — незадавальняльны
незак. — незакончанае трыванне
нескл. — нескланяльны
пабочн. сл. — пабочнае словазлучэнне
пагард. — пагардлівы
паэт. — паэтычны
пр. — прошлы час
праст. — прастамоўны
прэдык. — прэдыкатыўны
разм. — размоўны
састаўн. — састаўны
сін. — сінонім
ск. —сказ
скл. — склон
скл.-злуч. — складаназлучаны
сцвярдж. — сцвярджальны
тр. — трыванне
ужыв. — ужываецца, ужыванне
узмацн. — узмацняльны
узнёсл. — узнёслы
устар. — устарэлы
функц. не зам. — функцыянальна не замацаваны
цяп. — цяперашні час
чл. — член

## УМОЎНЫЯ ЗНАКІ

.. — скарачэнне ў цытаце

// — адценне значэння

# А

*А* • **АД А́ДА Я́**. *Акал. Функц. не зам.* Ад пачатку да канца; цалкам. **Сін.**: ад альфы да амегі; ад слова да слова. *Сяргей злаваў на сябе, на начальства, нават на сваю работу, якую, здавалася яму, ён ведаў ад а да я.* Кажадуб. *Пакрыўлю душой, калі скажу, што прачытваю газету, як кажуць, ад а да я.* «Звязда».

**НІ А́ НІ БЭ́** не ведаць, не разумець і пад. *Акал. ці ў знач. вык. (пры апушчаным дзеясл.). Разм. Неадабр.* Зусім нічога. **Сін.**: ні бельмеса; ні бум-бум; ні бэ ні мэ <ні кукарэку>; ні бэ ні мя; ні вуха ні рыла; ні ў зуб < нагой >; ні цэ ні бэ. *Вядома, муж, Фама, ці Хомка — усяк звалі, — старастам быў у Мужанцы. Не хацеў, адмаўляўся ад такой пасады. Але ж каго выбраць, калі Марта гаварыла па-нямецку? Таго, што ні а ні бэ з захопнікамі не разумеў?* Мыслівец. *Я хоць крыху вучыўся. Васілёк жа — ні а ні бэ... Непісьменны што сляпы.* Аношкін.

*АБАБІЦЬ* • **АБАБІЦЬ ПАРОГІ** *чые, каму, каго, чаго. Зак. да* **АБІВАЦЬ ПАРОГІ** *чые, каму, каго, чаго.*

*АБАРАНКА* • **ДЗІРКА АД АБАРАНКА**. Гл. дзірка.

*АБАРАНКАМ* • **ТРЫМАЦЬ ХВОСТ АБАРАНКАМ**. Гл. трымаць.

*АБАРАНКІ* • Даставацца (дастацца), атрымаць і пад. **НА АБАРА́НКІ**. *Акал. Разм.* (Даставацца і пад. каму-н.) здорава, як след. Звычайна пра пакаранне, наганяй. **Сін.**: на арэхі. *За сялом Ціхон крыкнуў на пярэдні воз: — Цішэй там, пакуль не атрымаў на абаранкі... Дома былі і будзем, а каня ахапіць не доўга.* Мыслівец. *Ёлуп кудлаты! Ці язык бы адваліўся, каб сказаў на гэтага Хведаронка? Хай бы атрымаў на абаранкі, ёсць за што...* Дудараў.

*АБАРВАЦЬ* • **АБАРВАЦЬ ТЭЛЕФОН**. *Зак. да* **АБРЫВАЦЬ ТЭЛЕФОН**.

*АБАРДАЖ* • **БРАЦЬ НА АБАРДАЖ** *каго, што.* Гл. браць.

*АБАРОТ* • **БРАЦЬ У АБАРОТ** *каго.* Гл. браць.

*АБВЕСЦІ* • **АБВЕСЦІ ВАКОЛ ПАЛЬЦА** *каго. Зак. да* **АБВОДЗІЦЬ ВАКОЛ ПАЛЬЦА** *каго.*

**АБВЕСЦІ ВАЧАМІ** *каго, што. Зак. да* **АБВОДЗІЦЬ ВАЧАМІ** *каго, што.*

*АБВОДЗІЦЬ* • **АБВО́ДЗІЦЬ (АБКРУ́ЧВАЦЬ) ВАКО́Л (КРУГО́М) ПА́ЛЬЦА** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Спрытна, хітра ашукваць, падманваць каго-н. **Сін.**: абуваць у лапці *каго*; бакі забіваць *каму*; браць на арапа *каго*; браць на бога *каго*; браць на вудачку *каго*; браць на пушку *каго*; вадзіць за нос *каго*; вешаць лапшу < на вушы > *каму*; віляць хвастом (у 1 знач.); выводзіць у поле *каго*; гнуць дугі;

гуляць у ката і мышку; дурыць галаву *каму* (у 1 знач.); задурыць галаву *каму*; замазваць вочы *каму*; замыльваць вочы *каму*; запраўляць арапа; кампасціраваць мазгі *каму*; корчыць дурня (у 1 знач.); круціць хвастом (у 1 знач.); муціць галаву *каму*; настаўляць акуляры *каму*; прадаць *каго* і грошы палічыць; пудрыць мазгі *каму*; пускаць пыл у вочы *каму*; сляпіць вочы *каму* (у 1 знач.); травіць баланду (у 2 знач.); туманіць вочы *каму*; туманіць галаву *каму*. *Гледачу робіцца як бы і сорамна і крыўдна за Канягіна, які не можа здагадацца, як лоўка Чарскі абводзіць яго вакол пальца.* Вітка. **АБВЕСЦІ (АБКРУЦІЦЬ) ВАКОЛ (КРУГОМ) ПАЛЬЦА** *каго. Зак. Недарэчна і несур'ёзна ўсё гэта. Не такі ён [Загацкі] маладзенькі і дурны, каб абвесці яго кругом пальца.* А.Жук. *Таго Міканора каморнік сорак разоў абкруціць вакол пальца!* Мележ. *Пакуль я сямідзесяцікілёвы мех падыму, мая жонка дзесяць разоў па дзесяць кілаграмаў гайсане... пакуль я падумаю, як абдурыць яе, дык яна мяне незлічона разоў вакол пальца абвядзе...* Пашкоў.

**АБВО́ДЗІЦЬ ВАЧА́МІ (ВАЧЫ́МА)** *каго, што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Аглядваць, акідваць позіркам. — *Будуемся, — кажа Сцяпан Адамавіч, абводзячы вачыма калгасныя будынкі, нібы запрашаючы мяне ацаніць праробленую працу.* Крапіва. **АБВЕСЦІ ВАЧАМІ (ВАЧЫМА)** *каго, што. Зак. Лабановіч абвёў вачамі зняволеных, што покатам ляжалі на нарах, цяжка храпучы і ўскрыкваючы цераз сон.* Колас.

*АБДАЛО* • **ЯК ВА́РАМ АБДАЛО́** *каго. У безас. ужыв. Разм.* Раптоўна ўразіла, збянтэжыла, напалохала. **Сін.**: як агнём апякло *каго*. *Алеся як варам абдало, ён пачырванеў, што рак.* Шамякін. *Цягну на бераг — парашут. І каменне ў ім, каб не ўсплываў, мабыць. І там яшчэ ў вадзе штосьці бялее. А далей, на беразе, слядоў поўна. Як варам мяне абдало.* Савіцкі. *Стасіка як варам абдало. «Відаць, цётка пра ўсё здагадваецца», — мільганула ў галаве.* Няхай.

*АБДЗЯЛІЎ* • **БОГ НЕ АБДЗЯЛІЎ** *каго чым.* Гл. бог.

*АБДЫМАЦЬ* • **АБДЫМА́ЦЬ НЕАБДЫ́МНАЕ**. *Незак. Функц. не зам. Часам з адценнем іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ставіць рэальную задачу вельмі шырокага ахопу чаго-н. *Лепш, па-мойму, не абдымаць неабдымнае. Нам будзе дарага ўсё, напісанае табой, але каб нешта выйшла на людзі.* Ярашэвіч. **АБНЯЦЬ НЕАБДЫМНАЕ**. *Зак. Адначасова дэманструюцца чатыры конкурсныя праграмы... Дадаць сюды рэтраспектыўны паказ фільмаў мінулых гадоў, шматлікія сустрэчы і творчыя дыскусіі, і будзе зразумела, што на справе значыць «абняць неабдымнае».* «ЛіМ».

*АБДЫМКАМІ* • **З АБДЫ́МКАМІ** <u>*прымаць, сустракаць.*</u> *Акал. Разм.* Прыветна, гасцінна, з вялікім задавальненнем. **Сін.**: з распасцёртымі рукамі. *Кіну ўсё да д'ябла і паеду... З маімі заслугамі, з маёй галавой і рукамі — усюды сустрэнуць з абдымкамі, з дарагой душой...* Шамякін. *Вас тут з абдымкамі прымуць.* «Полымя».

*АБДЫМКІ* • **У АБДЫ́МКІ (АБДО́ЙМЫ) МАРФЕ́Я** <u>*ісці, пайсці*</u> і пад. *Акал. Кніжн.* Спаць. **Сін.**: на бакавую (у 2 знач.); на бок. *Я проста скептык, якому да таго ж вельмі хочацца спаць і які не дачакаецца сустрэчы са Швальбе, каб пасля адправіць яго да д'ябла, пачытаць штосьці вясёлае з твораў тутэйшых паэтаў... І пайсці ў абдоймы Марфея.* Караткевіч. *Мне гэта месца падабаецца. Мяркуйце самі: адыходзім у абдымкі Марфея — гучыць гадзіннік ратушы.* Шаўцоў.

*АБЕДЗВЕ* • **ЗА АБЕДЗВЕ ШЧАКІ**. Гл. шчакі.

**КЛАСЦІ НА <АБЕДЗВЕ> ЛАПАТКІ** *каго, што.* Гл. класці.

**КУЛЬГАЦЬ НА АБЕДЗВЕ НАГІ**. Гл. кульгаць.

*АБЕДЗВЮМА* • **АБЕДЗВЮМА РУКАМІ**. Гл. рукамі.

**ГАЛАСАВАЦЬ АБЕДЗВЮМА РУКАМІ** *за каго, за што.* Гл. галасаваць.

**ПАДПІСВАЦЦА АБЕДЗВЮМА РУКАМІ** *пад чым.* Гл. падпісвацца.

**ТРЫМАЦЦА АБЕДЗВЮМА РУКАМІ** *за каго.* Гл. трымацца.

**ХАПАЦЦА АБЕДЗВЮМА РУКАМІ** *за што.* Гл. хапацца.

*АБ'ЕДЗЕШ* • **НА КРЫВО́Й КАБЫ́ЛЕ (КАЗЕ́) НЕ АБ'Е́ДЗЕШ** *каго. Зак. У абаг.-асаб. знач. Разм.* Не ашукаеш, не перахітрыш. **Сін.**: на мякіне не правядзеш *каго. Зразумела, што Калеснікаў «кампрамат» дорага каштуе і гэтага чалавека на крывой кабыле не аб'едзеш, Караленя пайшоў тым жа шляхам, што і шантажыст-вымагальнік.* Праўдзін. *Барысевіча на крывой кабыле не аб'едзеш, хітрун, якіх пашукаць. І прынцыповы.* «ЛіМ». *А ты яго на крывой казе не аб'едзеш.* Юрчанка.

*АБЕДНЮ* • **ПСАВАЦЬ АБЕДНЮ** *каму.* Гл. псаваць.

**САПСАВАЦЬ УСЮ АБЕДНЮ**. Гл. сапсаваць.

*АБ'ЕСЦІ* • **АБ'ЕСЦІ ВУШЫ** *каму.* Гл. аб'ядаць.

*АБ'ЕЎСЯ* • *Муж* **АБ'Е́ЎСЯ ГРУ́Ш <І ЛО́ПНУЎ>**. *Азн. Прасг. Іран.* Незаконны, не аформлены юрыдычна або які знік, прапаў. — *У мяне муж ёсць, — упэўнена адказала Алімпа. — Быў у цябе муж, ды аб'еўся груш і лопнуў,— зласліва пажартавала Агата.* Сабаленка. — *А яна што? Замуж выйшла? — Якое там замуж... Муж аб'еўся груш.* Арабей. — *Ёсць муж? — Калі б ён быў... Два дні пасядзеў — і як скрозь зямлю праваліўся. Спахапіўся, што сваё засудзяць, ці без суда... З таго часу ані почуту. Муж-смуж, аб'еўся груш.* Карамазаў. *[Марыя:] Усё-такі ён быў табе мужам. [Альбіна:] Мой муж аб'еўся груш.* Каржанеўская.

**БЛЁКАТУ АБ'ЕЎСЯ**. Гл. наеўся.

*АБІВАННЕ* • **АБІВА́ННЕ ПАРО́ГАЎ**. *Мн. не ўжыв. Дзейн. ці дап. Разм. Часцей неадабр.* Настойлівы зварот з просьбамі да каго-н. *Мае хлопцы-выпускнікі разумнейшыя за мяне. Яны не трацілі час на абіванне парогаў мясцовых улад, каб дамагчыся патрэбнага памяшкання для арцелі...* Кулакоўскі. *Відаць, сноўданне ды абіванне парогаў у пошуках лёгкага хлеба збіла яму [Івану] рогі.* Васілевіч. — *Маладыя, нявопытныя [аўтары] заўсёды чагосьці баяцца... — Журналісту лягчэй, бо прафесія журналіста — гэта абіванне парогаў рэдакцыі.* Васючэнка.

*АБІВАЦЬ* • **АБІВА́ЦЬ БАКІ́ (БО́КІ)**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** *дзе. Часцей неадабр.* Знаходзіцца дзе-н. без пэўнага занятку. *За гэты час, што Панас бакі абіваў на небе, ён асвоіўся нібы на сваім сенакосе.* Бядуля. — *Ты во што,— сказаў Мікіта,— давай выпісвай мяне адсюль [з бальніцы]. Хопіць мне тут бакі абіваць.* Дудараў.

**2.** *Асудж.* Нічога не рабіць, гультаяваць, лодарнічаць. **Сін.**: адлежваць бакі (у 2 знач.); акалочваць грушы <з вербаў>; біць байды; біць бібікі; біць лынды (у 1 знач.); біць тылылы; брынды біць; валяць дурня (у 2 знач.); вераб'ям дулі паказваць; ганяць сабак <*па чым*>; корчыць гультая; лічыць варон (у 2 знач.); ляжаць на баку; пляваць у столь; сабакам сена касіць (у 1 знач.); сачка давіць. — *А вы што стаіце, як вешкі. Годзе абіваць бокі! — накінулася раптам на ўсіх Маланння.* Мележ.

**АБІВА́ЦЬ ПАРО́ГІ** *чые, каму, каго, чаго. Незак.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Настойліва хадзіць куды-н., просячы, дамагаючыся чаго-н. **Сін.**: стукацца ў дзверы (у 1 знач.); стукаць у дзверы (у 1 знач.). *Нарыхтовачку так-сяк здалі? Здасце і падатак. Нічога. У калгас трэба ісці, а не абіваць фінаддзелаўскія парогі.* Лобан. *Не пайшоў малы*

*Якім у вандроўку са старым абіваць людзям парогі.* Колас. *З бальніцы Іван спяшаўся ў трэст: ужо каторы дзень ён абіваў парогі пабудкома і ўпраўляючага трэста.* Грахоўскі. **АБАБІЦЬ ПАРОГІ** *чые, каму, каго, чаго. Зак. Задача наша — выбіць рэспубліканскія ліміты пад атрыманыя ад Масквы грошы. Паверце, вельмі складаная задача! Колькі парогаў прыйшлося абабіць...* Шамякін.

*АБКІДАЦЬ* • **АБКІДАЦЬ ГРАЗЗЮ** *каго.* Гл. закідваць.

*АБКЛАСЦІ* • **АБКЛА́СЦІ ЧЫРВО́НЫМІ СЦЯЖКА́МІ** *каго. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. сукупнасці асоб ці абстр. прадмета. Стварыць крайне неспрыяльныя ўмовы для чыёй-н. жыццядзейнасці. *Я стратэг, мілая Ірына. Мяне тут спрабавалі абкласці чырвонымі сцяжкамі, ды я воўк біты. Таму рашыў абхітрыць усіх, і вас у тым ліку.* Бязлепкіна.

*АБКЛЕЙВАЙ* • **ХО́ЦЬ СЦЕ́НЫ Ў ХА́ЦЕ АБКЛЕ́ЙВАЙ (КЛЕ́Й)** *чаго. Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм.* Вельмі многа, у вялікай колькасці. Пра грошы. **Сін.**: куры не клююць. *Гэта яму, Хамянку, абы дзень да вечара, яму і заробак ні ішоў ні ехаў, і так грошай у бацькі з маткаю хоць сцены ў хаце абклейвай.* Кусянкоў.

*АБКРУЦІЦЬ* • **АБКРУЦІЦЬ ВАКОЛ ПАЛЬЦА** *каго.* Гл. абводзіць.

*АБКРУЧВАЦЬ* • **АБКРУЧВАЦЬ ВАКОЛ ПАЛЬЦА** *каго.* Гл. абводзіць.

*АБЛАМАЦЬ* • **АБЛАМА́ЦЬ (ЗБІ́ЦЬ) РО́ГІ** *каму. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Уціхамірыць, утаймаваць, прымусіць каго-н. пакарыцца; сагнаць пыху, перамагчы. **Сін.**: падпілоўваць рогі *каму*; паказваць месца *каму*; паставіць на <сваё> месца *каго*; скруціць рогі *каму. А мне, братачка, абламалі рогі. Было на вяку, што і па спіне, і па баку...* Місько. *[Гудзееў:] Вось прыехаў ваяваць з вашым Кавальчуком... Нічога. Абломім і яму рогі. Прывыкне.* Макаёнак. — *Чуў?— азірнуўся Павел у бакі. — Пад Сталінградам збілі ім [немцам] рогі.* Пальчэўскі.
**АБЛАМА́ЦЬ (ПАЛАМА́ЦЬ) ЗУ́БЫ** *на чым, дзе. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Пацярпець няўдачу ў якой-н. справе. *[Антаніна] — гэткая дурніца! — уявіла, быццам і сапраўды здольна зрушыць з месца справу, на якой абламаў зубы такі вопытны матэматык, як Ігар Белячкоў.* Радкевіч. — *Зрабіць трэба ўсё магчымае, каб Гофман паламаў зубы на подступах да Петраграда! — Так, немцы павінны паламаць зубы. Толькі ў такім разе яны згодзяцца на мір.* Шамякін.

*АБЛІВАЕЦЦА* • **ДУША КРЫВЁЙ АБЛІВАЕЦЦА** *чыя, у каго.* Гл. душа.

*АБЛІВАННЕ* • **АБЛІВА́ННЕ ГРА́ЗЗЮ** *<каго>. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Несправядлівае абвінавачванне, незаслужанае зневажэнне. **Сін.**: утоптванне ў гразь *каго, чаго.*

*АБЛІВАЦЦА* • **АБЛІВА́ЦЦА ГРА́ЗЗЮ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, сукупнасці асоб, абстр. і канкр. прадмета. Несправядліва абвінавачвацца, незаслужана зневажацца. *Сам граф Ельскі на свае ўласныя грошы выпісваў, напрыклад, для сваіх рабоў рэлігійна-цемрашальскі часопіс на польскай мове «Рыцэж непокалянэй», дзе культываваліся ўсялякія забабоны і граз[зю] абліваўся Савецкі Саюз.* Пестрак.
**АБЛІВА́ЦЦА (ЗАЛІВА́ЦЦА) СЛЯЗА́МІ (СЛЯЗЬМІ́)**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Горка, няўцешна плакаць. **Сін.**: бярозаю ліцца; вачэй не асушваць; выплакаць <усе> вочы; выціскаць слязу (у 1 знач.); ліць слёзы *<па кім>*; печь рэпку; пускаць слязу; разводзіць сырасць; распускаць нюні (у 1 знач.); умывацца слязамі. *Маладзіца слязамі абліваецца, а ў яе Хведзі рукі назад завязаны.* Лобан. *Яна [маці] трымала ў руках ліст і аблівалася слязамі.* Гарэцкі. **АБЛІЦЦА (ЗАЛІЦЦА) СЛЯЗАМІ**

**(СЛЯЗЬМІ)**. *Зак. Залілася слязьмі Зося, стукнуўшы локцямі аб стол.* Чорны. *Антаніна, як толькі пераступіла парог, так і залілася слязьмі.* Васілевіч. *А цяпер пайду — хлопец недзе слязьмі абліўся.* «Полымя».

**АБЛІВА́ЦЦА КРО́ЎЮ (КРЫВЕ́Й)**. *Незак. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знемагаць ад страты крыві пасля ранення ці пабояў. **Сін**.: умывацца кроўю (у 1 знач.). *«Можа, там Антось Дубіцкі абліваецца крывёю, — з жахам думаў [Сцяпан]. — А бандыты рвуць дамбу...»* Чарнышэвіч. *Яна [Люба] думала пра тое, што цераз яе ласку хлопец абліваецца крывёй.* Чорны. **АБЛІЦЦА КРОЎЮ (КРЫВЕ́Й)**. *Зак.*

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. сукупнасці асоб, а таксама са зборн. знач. Ваяваць, змагацца ў цяжкіх баях з ворагам. **Сін**.: умывацца кроўю (у 2 знач.). *Народ бачыць, што армія абліваецца крывёю і ніхто не здаецца.* Няхай. *Чамусьці ўсе прывыклі гаварыць і пісаць аб адказнасці пісьменнікаў перад гісторыяй. Апошнія — за рэдкім выняткам — заўсёды ўхвалялі мір, а свет няспынна абліваўся крывёй.* Танк. **АБЛІЦЦА КРОЎЮ (КРЫВЕ́Й)**. *Зак.*

*АБЛІВАЦЬ* • **АБЛІВА́ЦЬ ГРА́ЗЗЮ (БРУ́ДАМ, ПАМЫ́ЯМІ)** *каго, што. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Несправядліва абвінавачваць, незаслужана зневажаць. **Сін**.: вешаць сабак на *каго, на што*; выліваць памыі *на каго*; выліваць бруд на галаву *каго*; закідваць граззю *каго*; кідацца граззю; кідаць каменем *у каго*; кідаць цень *на каго, на што* (у 1 знач.); ліць бруд *на каго*; мазаць дзёгцем *каго, што*; мяшаць з граззю *каго, што*; мяшаць з зямлёй (у 3 знач.); наводзіць цень *на каго, на што*; падтоптваць пад ногі (у 2 знач.); таптаць у гразь *каго, што*. *Цяпер Міхальчук хадзіў па вёсках, збіраў падаткі і ў кожнай хаце, куды забрыдаў, абліваў граззю Савецкую ўладу і бальшавіцкія парадкі.* Навуменка. — *Чым сёння дыхаюць кадэты?.. — Як і ўчора.. абараняюць палітыку Часовага ўрада і, як звычайна, абліваюць бальшавікоў памыямі, — кінула газету Марыя Карпаўна.* Гурскі. **АБЛІЦЬ ГРАЗЗЮ (БРУДАМ, ПАМЫЯМІ)** *каго, што. Зак. Замест таго, каб спыніць нягодніка, які робіць подласць таварышам па рабоце, грэбліва адвярнуцца ад яго паслуг, вы штурхаеце яго на новую подласць — падтрымліваеце ў жаданні abліць брудам сваіх таварышаў.* Радкевіч.

*АБЛІЖАШ* • **ПА́ЛЬЧЫКІ АБЛІ́ЖАШ (-АЦЕ)**. *Вык. Разм.* **1**. Вельмі смачны, прыемны. Пра яду, пітво. **Сін**.: за вушы не адцягнеш (у 1 знач.); у роце растае; язык праглынеш. **Ант**.: расце ў роце; хоць на сабаку выплі. *Мне новую партыю віна прыслалі з Парыжа ды рознай рыбы з Нарвегіі — пальчыкі абліжаце.* Лынькоў. *Нічога, хлопцы, прыходзьце праз два гады. Такі будзе вінаград — пальчыкі абліжаце.* Васілеўская.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Вельмі добры, прывабны, выклікае захапленне. **Сін**.: адным словам[1]; без сучка і <без> задзірынкі (у 2 знач.); будзь-будзь (у 2 знач.); будзь здароў (у 4 знач.); дай бог (у 2 знач.); дай бог кожнаму (у 1 знач.); дзякуй богу (у 2 знач.); за маё-маё (у 2 знач.); за маліну (у 3 знач.); з бляскам (у 2 знач.); кругом сто дваццаць; на славу (у 2 знач.); на ўсе рукі; на ўсе сто (у 3 знач.); на ять (у 2 знач.); па крайняй меры (у 2 знач.); пашукаць такога; першай гільдыі (у 1 знач.); першай рукі (у 1 знач.); першы клас; першы сорт; разлюлі-маліна (у 1 знач.); рэдкай рукі; слава богу (у 2 знач.); хоць куды (у 1 знач.); хоць на выстаўку <вязі>; што трэба (у 2 знач.); як яечка. — *Прыйдзе і ён!.. Пабачыш, які хлопец. Пальчыкі абліжаш,—захаплялася Куля.* Сабаленка. *Смейцеся, смейцеся... Праз месяц такі зруб прывязу — пальчыкі абліжаце...* Шамякін. *У мяне такія кніжкі — пальчыкі абліжаш.* Машара. *[Гарлахвацкі:] І цікавая навіна? [Зёлкін:] Пальчыкі абліжаце.* Крапіва.

*АБЛІЦЦА* • **АБЛІЦЦА КРОЎЮ**. *Зак. да* **АБЛІВАЦЦА КРОЎЮ**.
**АБЛІЦЦА СЛЯЗАМІ**. *Зак. да* **АБЛІВАЦЦА СЛЯЗАМІ**.

*АБЛІЦЬ* • **АБЛІЦЬ ГРАЗЗЮ** *каго, што. Зак. да* **АБЛІВАЦЬ ГРАЗЗЮ** *каго, што.*

*АБЛУДНАЯ* • **АБЛУДНАЯ АВЕЧКА**. Гл. авечка.

*АБЛУПЛЕНАГА* • Ведаць **ЯК АБЛЎПЛЕНАГА (-УЮ, -ЫХ)**. *Акал. Праст.* Вельмі добра, да дробязей. **Сін.**: удоўж і ўпоперак (у 2 знач.); як ойча наш, як свае пяць пальцаў; як табліцу множання. *Я дзіўлюся запытанню. Маё ж прозвішча ведаюць усе... ведаюць усе як аблупленага... ведаюць вось і таварышы з райкома.* Лынькоў. — *Максімка, вазьмі мяне. Я гэтага Ермальчука як аблупленага ведаю,— папрасіўся Цярэшка.* Грахоўскі. *[Журавіна:] Хто не ведае Юшчыхі?! Ды яе ўвесь саўгас як аблупленую ведае.* Кобец. *[Навуменка:] Яны ў мяне літасці мець не будуць! Усіх ведаю як аблупленых. Пад корань іх трэба падразаць!* Радкевіч.

*АБМАЗАЦЬ* • **АБМАЗАЦЬ ДЗЁГЦЕМ** *каго, што. Зак. да* **МАЗАЦЬ ДЗЁГЦЕМ** *каго, што.*

*АБМЫВАЦЬ* • **АБМЫВАЦЬ ЯЗЫКОМ** *каго, што.* Гл. мыць.

*АБМЫЦЬ* • **АБМЫЦЬ ЯЗЫКОМ** *каго, што. Зак. да* **МЫЦЬ (АБМЫВАЦЬ) ЯЗЫКОМ** *каго, што.*

*АБНЯЦЬ* • **АБНЯЦЬ НЕАБДЫМНАЕ**. *Зак. да* **АБДЫМАЦЬ НЕАБДЫМНАЕ**.

*АБОДВА* • **У АБОДВА КАНЦЫ**. Гл. канцы.

*АБОЕ* • **АБО́Е РАБО́Е**. *Нескл. Вык. Разм. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. сукупнасці асоб. Абсалютна аднолькавыя, адны не лепшыя за другіх, адзін не лепшы за другога (часцей паводле адмоўных якасцей). **Сін.**: аднаго крою; аднаго поля ягада; адным лыкам шытыя; адным мірам мазаны; два боты пара; <з> аднаго балота чэрці; з аднаго цеста <спечаны>; зроблены на адзін капыл; на адзін капыл (у 1 знач.); на адзін лад; на адзін манер (у 1 знач.). **Ант.**: з іншага цеста <спечаны>; не з такога цеста зроблены. *Раздушыце інквізіцыю — усё адно, папоў ці ксяндзоў. Абое рабое.* Караткевіч. *Наста і Хадора былі, як кажуць, абое рабое: жылі адзінока, мужыкоў ні ў адной, ні ў другой няма, дзеці ў іх павырасталі, павербаваліся, паз'язджалі.* Сачанка. — *Вадзіцель «Жыгулёў» вінаваты. Не бойся, — суцяшалі маладыя пасажыры вадзіцеля тралейбуса. — Абое рабое. Абодва вінаваты, — буркнуў сівагаловы мужчына...* Левановіч. *З Данскім яго параўноўваць нельга. Абое рабое. Данскі і нерашучы быў, і нават трусаваты.* «Полымя».

*АБОЗЕ* • **У АБО́ЗЕ**. *Акал. Разм. Неадабр.* Ззаду ўсіх (заставацца, плесціся, цягнуцца і пад.). **Сін.**: у хвасце. *Мы пераходзім на прапашную сістэму. А ты застанешся ў абозе. Гаспадарка твая паказальная, што ж ты будзеш паказваць?* Дуброўскі. *[Анішчук:] Занадта ты рвешся наперад. [Бондар:] А ты цягнешся ў абозе.* Гурскі. *Ён павінен выбраць актуальную ў навуковых адносінах тэму і ўжо гэтым даказаць, што ён знаходзіцца не ў абозе, а на перадавых пазіцыях навуковай думкі.* Лобан.

*АБРАЗАЦЬ* • **АБРАЗА́ЦЬ КРЫ́ЛЫ (КРЫ́ЛЛЕ)** *каму, у каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Пазбаўляць магчымасці дзейнічаць, рабіць што-н. **Сін.**: завязваць свет *каму* (у 1 знач.); засланяць <увесь, божы> свет *каму* (у 2 знач.); звязваць па руках і нагах *каго*; звязваць рукі *каму*; падразаць крылы *каму*. **Ант.**: развязваць рукі *каму*. *Ну, вядома, шляхта, у якой абразаюць крылы, не з намі, ды яна нам і не патрэбна.* Нёманскі. **АБРЭЗАЦЬ КРЫЛЫ (КРЫЛЛЕ)** *каму, у каго. Зак. Усім*

*груганам.. абрэзалі крылле падзеі.* Куляшоў. *[Скаруба:] Па здольнасцях маіх, па таленту майму — я вунь дзе мог быць... Толькі не далі... Таксама, як Сяргею, крылы абрэзалі...* Маўзон.

*АБРАМА* • **АДПРАЎЛЯЦЦА ДА АБРАМА НА ПІВА**. Гл. адпраўляцца.
**ТРАПІЦЬ ДА АБРАМА НА ПІВА**. Гл. трапіць.

*АБРАСЛА* • **ДУША МОХАМ АБРАСЛА** *ў каго.* Гл. душа.

*АБРАСТАЦЬ* • **АБРАСТА́ЦЬ МО́ХАМ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. *Неадабр.* Адставаць ад жыцця, духоўна апускацца. *Вы не заўважаеце, што Пётр Іванавіч абрастае мохам, адмяжоўваецца ад калектыву «сямейнай сцяной».* «ЛіМ». — *Сядзеў бы і сядзеў на сваім месцы. — Мохам абрастаем, Рыгор. Старэем.* Караткевіч. **АБРАСЦІ МОХАМ**. *Зак. Сцяпан не помніць, калі, з якога часу той Жогла, якога баяліся ў наваколлі ўсе пасляваенныя зладзеі, самагоншчыкі і п'яніцы, аброс мохам, стаў тоўсты, мяккі, добры для ўсіх — для начальства, і для людзей.* А.Жук.
**2**. *Адабр. і неадабр.* Станавіцца багацейшым, разжывацца. **АБРАСЦІ МОХАМ**. *Зак. — Дык ты, напэўна, ужо даўно тут жывеш? — Не так і даўно, а мохам крыху аброс. Амаль два гады, як у гэты горад завітаў. А на адным месцы, як кажуць, і камень абрастае.* Аношкін.

*АБРАСЦІ* • **АБРАСЦІ МОХАМ**. *Зак. да* **АБРАСТАЦЬ МОХАМ**.

*АБРОЦЬ* • **НАДЗЯВАЦЬ АБРОЦЬ** *на каго, на што.* Гл. надзяваць.
**НАДЗЯВАЦЬ НА СЯБЕ АБРОЦЬ**. Гл. надзяваць.

*АБРЫВАЕЦЦА* • **СЭРЦА АБРЫВАЕЦЦА** *ў каго, чыё.* Гл. сэрца.

*АБРЫВАЦЬ* • **АБРЫВА́ЦЬ ТЭЛЕФО́Н**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Часта, доўга званіць па тэлефоне. **Сін.**: вісець на тэлефоне; сядзець на тэлефоне. *На хлебакамбінаце абрывалі тэлефоны, дамагаючыся ад млынзавода 185 тон харчовага жыта.* «Вожык». **АБАРВАЦЬ ТЭЛЕФОН**. *Зак. На стале ляжала запіска: «Ты, канечне, забыў, што ў Васіля дзень нараджэння. Ён абарваў тэлефон. Падарунак я купіла і чакаю цябе ў яго».* Кацюшэнка.

*АБРЭЗ* • **ПАД АБРЭ́З**. *Акал.* Да грані магчымага, мінімальна (даць, забраць і пад.). *[Валасны суддзя] бацькаву, матчыну і яшчэ нейчую — невядома чыю — частку прысудзіў Юстапу, а Віцэнтаму ўсяго ў падзеле даў пад абрэз.* Калюга.
**У АБРЭ́З** *чаго. Убезас. ужыв. Разм.* Малавата; не больш, чым трэба. *Хлеба таго ў цябе ў абрэз.* Лынькоў. *—Малавата купляюць... —Грошай, відаць, у абрэз.* Брыль. — *Ну, жарты жартамі,— паглядзеў Толік на гадзіннік. — У нас часу ў абрэз.* Гаўрылкін.

*АБРЭЗАЦЬ* • **АБРЭЗАЦЬ КРЫЛЫ** *каму, у каго. Зак. да* **АБРАЗАЦЬ КРЫЛЫ** *каму, у каго.*

*АБСАЛЮТНЫ* • **АБСАЛЮТНЫ НУЛЬ**. Гл. нуль.

*АБСЕВАК* • **АБСЕ́ВАК У ПО́ЛІ**. *Часцей адз. Часцей у знач. вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нявартыы чалавек, якім пагарджаюць; горшы за іншых. **Сін.**: адстаўной казы барабаншчык; апошняя спіца ў коле; дзесятая спіца ў коле (у 1 знач.); малая сошка; птушка невысокага палёту (у 1 знач.). **Ант.**: важная птушка; птушка высокага палёту. *Абсеўкам у полі жыла Агата ў сям'і Сымона Карпача.* Нёманскі. *Я ажаніўся маладым, але нельга сказаць, каб да гэтага не ведаў жанчын. Быў, як кажуць, не абсевак у полі, і дзяўчаты да маладыя кабеты ліплі да мяне самі.* «Нар. газ.»

*АБСОХЛА* • **<МАТЧЫНА> МАЛАКО НА ГУБАХ НЕ АБСОХЛА** *ў каго.* Гл. малако.

*АБСТРЭЛ* • **БРАЦЬ ПАД АБСТРЭЛ** *каго, што.* Гл. браць.

*АБСЫПАЦЦА* • **АБСЫПА́ЦЦА ЗО́ЛАТАМ**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі нажывацца, узбагачацца. **АБСЫ́ПАЦЦА ЗОЛАТАМ**. *Зак. На тваім месцы разумныя людзі золатам абсыпаліся б даўно, на чацвёрцы коней ездзілі б.* Дайнека.

*АБСЫПАЦЬ* • **АБСЫПА́ЦЬ ЗО́ЛАТАМ** *каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Шчодра абдорваць, абагачаць. **АБСЫ́ПАЦЬ ЗОЛАТАМ** *каго. Зак. Андрэй зірнуў у той бок, дзе быў лес. Яго аж скаланула: здаецца, цяпер, каб і золатам абсыпалі, не пайшоў бы туды...* Колас. *Я тут нікому не трэба. Не, тут я ні за што не застануся, хай мяне золатам абсыплюць. З мяне хопіць.* Гаўрылкін.

*АБТРЭСЦІ* • **АБТРЭ́СЦІ ПРА́Х** *чый, каго, чаго* **З <АД> НО́Г <СВАІ́Х, НА́ШЫХ>**. *Зак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Канчаткова, назаўсёды парваць з кім-, чым-н.; адрачыся ад каго-, чаго-н. *Пілат адсопваўся, надзімаў тоўстыя шчокі: — Абтрасём прах гэтага горада... ад ног нашых...* Караткевіч. *Калі рваць, дык рваць рашуча... Абтрасём яго прах з нашых ног!* Міська. *[Людзі] абтрэслі прах старога свету з ног і прыцягненне сіл яго парвалі.* Вярцінскі.

*АБУВАЦЬ* • **АБУВА́ЦЬ У ЛА́ПЦІ** *каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паступаць нядобрасумленна, ашукваць, хітраваць, падманваць. **Сін**.: абводзіць вакол пальца *каго*; бакі забіваць *каму*; браць на арапа *каго*; браць на бога *каго*; браць на вудачку *каго*; браць на пушку *каго*; вадзіць за нос *каго*; вешаць лапшу <на вушы> *каму*; віляць хвастом (у 1 знач.); выводзіць у поле *каго*; гнуць дугі; гуляць у ката і мышку; дурыць галаву *каму* (у 1 знач.); задурыць галаву *каму* (у 3 знач.); замазваць вочы *каму*; замыльваць вочы *каму*; запраўляць арапа; кампасціраваць мазгі *каму*; корчыць дурня (у 1 знач.); круціць хвастом (у 1 знач.); муціць галаву *каму*; настаўляць акуляры *каму*; прадаць *каго* і грошы палічыць; пудрыць мазгі *каму*; пускаць пыл у вочы *каму*; сляпіць вочы *каму* (у 1 знач.); травіць баланду (у 2 знач.); туманіць вочы *каму*; туманіць галаву *каму*. *Справадзіў мужа да астрога, а сам да жоначкі яго... Хіба ты ў сэрцы маеш бога? Каго ашукваеш, каго? Каго ж у лапці абуваеш?* Колас. **АБУЦЬ У ЛАПЦІ** *каго. Зак. [Палкоўнік:] Ты ж абула у лапці Пясецкую... Ажаніла студэнта, атлуміла Пясецкую, забрала грошы і рада.* Галубок. *Раніцой прачнуўся свежы, у добрым настроі, і з цвёрдым намерам — назад у Мінск, на злосць Саўчуку і ўсім гэтым бездарам. Хай пакруцяць насамі — не ўдалося абуць у лапці...* Блакіт.

*АБУХ* • **ПАДВОДЗІЦЬ ПАД АБУХ** *каго.* Гл. падводзіць.

**ПАДСТАЎЛЯЦЬ <СВАЮ> ГАЛАВУ ПАД АБУХ**. Гл. падстаўляць.

**СТАВІЦЬ ПАД АБУХ** *каго.* Гл. ставіць.

*Тупы* **ЯК АБУ́Х**. *Акал. Разм.* Вельмі, зусім. *Вучыць мяне ксёндз пасля вячэры. А я нічога не разумею з таго вучэння. «Тупы ты,— кажа, — Казюня, як абух».* Чарнышэвіч.

*АБУХА* • *Дабіваць (дабіць)* і пад. **ДА АБУХА́**. *Дап. Разм.* Да поўнай непрыгоднасці. **Сін**.: да ручкі *дабіваць*. *Варта табе.., шкодніку, от што! Пайшоў прэч ад мяне! Хто коней біў, да абуха дабіўшы?* Самуйлёнак. *Як гаспадарылі немцы ў часова захопленых імі абласцях, гэта сапраўды вядома ўсяму свету. Дагаспадарнічаліся, як гэта гаворыцца, да абуха...* Лынькоў.

**ЯК ВОЛ АБУХА**. Гл. вол.

*АБУХОМ* • **ЯК АБУХОМ ПА ГАЛАВЕ СТУКНУЦЬ** *каго.* Гл. стукнуць.

*АБУЦЬ* • **АБУ́ЦЬ <СВАЁ> СЭ́РЦА Ў ЛА́ПЦІ**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Страціўшы цярпенне, раззлавацца. *У Лаўрэна было такое адчуванне, што і ён, мабыць, здолеў бы нешта падобнае зрабіць са сваімі хлопцамі. Праўда, варожасць да іх адразу паменшала, калі падумаў аб Ніне. «Яна ж, булавешка, і зараз, абуўшы сваё сэрца ў лапці, іх, напэўна, шкадавала б», — паківаў Лаўрэн галавой.* Карпюк. [*Даніловіч*, с. 179: сэрца ў лапці абуць — 'змірыцца з чым-н'.]

**АБУЦЬ У ЛАПЦІ** *каго. Зак. да* **АБУВАЦЬ У ЛАПЦІ** *каго.*

*АБЦАС* • Пападаць, трапляць **ПАД АБЦА́С** *чый, каго, да каго. Акал. Разм. Іран.* У поўную залежнасць, падпарадкаванне. Звычайна пра залежнасць мужа ад жонкі. *Ён ці пачуў ад каго, ці вычытаў дзе, што ўсё якраз наадварот: не хлопец бярэ дзяўчыну.., а дзяўчына сама выбірае сабе мужа. Хто прыглянецца, той і трапляе да яе пад абцас.* Масарэнка.

*АБЦАСАМ* • Быць, трымаць, апынуцца **ПАД АБЦА́САМ** *чыім, каго, у каго. Вык. і акал. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У поўным падпарадкаванні. Звычайна пра залежнасць мужа ад жонкі. **Сін.**: пад ботам *чыім, каго, у каго* (у 1 знач.); пад каўпаком *каго, у каго*; пад пятой *у каго, чыёй, каго, чаго* (у 1 знач.); у кіпцюрах *чыіх, каго*; у кулаку; у лапах *каго, чыіх*; у руках *чыіх, каго, у каго* (у 1 знач.). *Той не глядзі, што ціхманы. Як каторая жонка: ціхенькая, а мужык у яе пад абцасам...* Быкаў. — *Як здароўе Наталлі Уладзіміраўны? — спытаўся Бонч-Бруевіч пра жонку Духоніна, пра якую казалі, што яна свайго мужа трымае пад абцасам.* Гурскі. — *Каця гаворыць, што яна першая напісала табе. Праўда? Гэта добра, што не ты першы напісаў, — філасофстваваў Валодзя. — Перад імі не рассцілайся, а то пад абцасам апынешся.* Шамякін.

*АБЦІРАЦЬ* • **АБЦІРАЦЬ ВУГЛЫ**. Гл. падпіраць.

*АБЦУГАХ* • **У АБЦУГА́Х** трымаць. *Акал. Разм.* Вельмі строга, сурова, абмяжоўваючы свабоду дзеянняў. **Сін.**: у цуглях; у чорным целе (у 2 знач.). *Ой, трымаў я іх дагэтуль у абцугах! Ой, кіраваў я гаспадаркай.* Бядуля. *Можа, чым дапамагчы, ну, падказаць, як вам падступіцца да новай справы, на каго з афіцэраў больш звярнуць увагу? Вось, напрыклад, як працаваць з тым жа Жураўлём, якога трэба трымаць у абцугах?* «Полымя».

*АБЫДЗІ* • **СВЕТ АБЫДЗІ, ДРУГОГА НЕ ЗНОЙДЗЕШ** *такога.* Гл. прайдзі.

*АБЫСЦІ* • **АБЫСЦІ БОКАМ** *каго, што. Зак. да* **АБЫХОДЗІЦЬ БОКАМ** *каго, што.*

**АБЫСЦІ ЗА ВЯРСТУ** *каго, што. Зак. да* **АБЫХОДЗІЦЬ ЗА ВЯРСТУ** *каго, што.*

*АБЫХОДЗІЦЬ* • **АБЫХО́ДЗІЦЬ БО́КАМ** *каго, што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. (звычайна ў пр. або ў 3-й ас. цяп.) пры дзейн. са знач. абстр. прадмета *(вайна, смерць* і пад.). Зусім не закранаць, мінаць каго-, што-н. *[Лобаў:] І скажы ты, добрых людзей смерць без разбору косіць, а гэтага злыдня бокам абыходзіць, даруй госпадзі.* Васілеўскі.
**АБЫСЦІ БОКАМ** *каго, што. Зак. Вайна абышла бокам Смірніцкую.* Шахавец. *[П.Броўка] бачыў, што вайна зачапіла не ўсіх, яна чамусьці бокам абышла панскія маёнткі.* Шкраба.

**АБЫХО́ДЗІЦЬ ЗА ВЯРСТУ́ (ЗА СЕМ, СТО ВЁРСТ)** *каго, што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Пазбягаць каго-, што-н. *І доўга потым абыходзіў [мядзведзь] за вярсту тыя месцы, дзе пахла мёдам ці пеўнямі.* Лынькоў.
**АБЫСЦІ ЗА ВЯРСТУ (ЗА СЕМ, СТО ВЁРСТ)** *каго, што. Зак. [Рыбак] праклінаў сябе за неасцярогу, за тое, што не абышоў за вярсту той крайняй хаты...* Быкаў. *На сваю галаву я вас сустрэў. Каб ведаў, за сто вёрст абышоў бы.* Асіпенка. *Калі б яна ў такой сям'і, як мая, расла, то, вядома ж, за сем вёрст абышла б таго Паўла.* Кадзетава.

*АБ'ЯДАЦЬ* • **АБ'ЯДА́ЦЬ ВУ́ШЫ** *каму. Незак. Разм. Незадав.* 1. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Надакучліва прыставаць з размовамі пра адно і тое ж. **Сін.**: мазоліць вушы *каму, чые*; пратрубіць <усе> вушы *каму <пра каго, пра што, аб кім>*. *«От выправіла мяне старая сёння на расу, — падумаў Вінцук, — от дык выправіла... А той гіцаль [унук] спіць і не ведае, што праз яго Пацук дзеду вушы аб'ядае...»* Чарнышэвіч. **АБ'ЕСЦІ ВУШЫ** *каму. Зак. [Сямёнаўна:] Аб'еў мне сын вушы, каб вашага бычка ўкрасці.* Петрашкевіч.

2. Ужыв. пры дзейн., які абазначае жывёлу (радзей чалавека). Наносіць вялікія страты на ўтрыманне каго-н. (пражэрлівага, але малакарыснага). *— Пагойсаюць па двары [адкормачнікі], то ў вазе страцяць. І корму ім не набрацца тады. Вушы аб'ядаюць, — замахала рукамі Баравая.* Дуброўскі. **АБ'ЕСЦІ ВУШЫ** *каму. Зак. Гэта ж як уссела, нягодніца: маўляў, я ў яе нахлебніца, аб'ела ёй вушы.* Сабаленка.

*АБЯЛІЦЬ* • **НІ АЧАРНІЦЬ НІ АБЯЛІЦЬ**. Гл. ачарніць.

*АБЯЦАНАЯ* • **АБЯЦАНАЯ ЗЯМЛЯ**. Гл. зямля.

*АБЯЦАНКА* • **АБЯЦА́НКА-ЦАЦА́НКА**. *Часцей ужыв. у мн. Звычайна дзейн. ці дап. Разм. Іран.* Ненадзейнае ці нездзяйсняльнае абяцанне. *— Дзяліць [зямлю] калі? — Падзялілі ўжо! — Гаварылі, дурылі.. Абяцанка-цацанка!..* Мележ. *Ясна было адно: гэтым «вызваленнем» з лагера.. канчалася ўся тая даўняя, таямнічая, зманлівая справа з запаўненнем анкет, перапісваннем, нават фатаграфаваннем, усе тыя размовы ды абяцанкі-цацанкі пра вяртанне на радзіму.* Брыль.

*АБЯЦАНКАМІ* • **КАРМІЦЬ АБЯЦАНКАМІ** *каго.* Гл. карміць.

*АВАЛОДАЦЬ* • **АВАЛОДАЦЬ САБОЙ**. *Зак. да* **АВАЛОДВАЦЬ САБОЙ**.

*АВАЛОДВАЦЬ* • **АВАЛО́ДВАЦЬ САБО́Й**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Спраўляючыся са сваімі пачуццямі, настроем і пад., вяртаць поўнае самавалоданне. **Сін.**: браць сябе ў рукі (у 1 знач.); саўладаць з сабой. *Купалаў твар на момант перасмыкаецца, няйначай абзываецца нядужасць. Але ён авалодвае сабой і дадае яшчэ адно пажаданне, напаўжартаўліва...* Лужанін. **АВАЛОДАЦЬ САБОЙ**. *Зак. Кароль ад нечаканасці спачатку разгубіўся, але хутка зноў авалодаў сабою.* В.Вольскі.

*АВЕЦ* • *Аддзяляць, адлучаць* **АВЕ́Ц АД КО́ЗЛІШЧ (-АЎ)**. *Дап. Кніжн.* Добрае ад дрэннага, карыснае ад шкоднага. *[Зміструк:] Дараваць неўміручасць бюракрату, дармаеду, злодзею, бандыту — хіба вы дзеля іх здзяйснялі свой подзвіг? [Дабрыян:] А хто будзе аддзяляць авец ад козліш? [Зміструк:] Няхай самі людзі назавуць вартых неўміручасці.* Крапіва. *Ці раз траплялася наглядаць, як чалавек, і ў крытыках не хадзіўшы, ёмка і трапна адлучае авец ад козлішчаў...* Лужанін.

*АВЕЧАЙ* • **ВОЎК У АВЕЧАЙ ШКУРЫ**. Гл. воўк.

*АВЕЧКА* • **БЛУ́ДНАЯ (ЗАБЛУ́ДНАЯ, АБЛУ́ДНАЯ) АВЕ́ЧКА**. *Адз. і мн. Часцей вык. Функц. не зам. Неадабр.* Чалавек, які збіўся з правільнага жыццёвага шляху. *Не сварыцеся на мяне больш, Андрэй, не глядзіце на мяне так... Ну што я магу зрабіць, калі я такая блудная авечка?* Лобан. *І калі блудныя авечкі.. трапілі ў плесню, то яна, плесня,— толькі пагібельная.* Лойка. *«Брат Міша» пакрыўджана, злосна маўчаў. Колькі надзеі паклаў ён на тое, што прывядзе, нарэшце, «к госпаду» гэтую «заблудную авечку».* Брыль. *— Хопіць!— скрывіўся Буднік, яму непрыемна было пра яе [Настассю] слухаць.— Аблудная авечка! Туды ёй і дарога!* Гурскі.

**БО́ЖАЯ АВЕ́ЧКА**. *Адз. і мн. Часцей у знач. вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. 1. Набожны, богабаязны чалавек. *Якраз адбывалася ў вёсцы падзея, якая*

*магла паслужыць добрым пачаткам паходу ксяндза да людзей сваіх, «божых авечак».* Кавалёў. *[Сіман:] Значыць, латынянка? адступніца?.. Хаця ў чым ты, божая авечка, тут павінна.* Клімковіч.

**2.** Вельмі ціхі, пакорлівы чалавек. *[Вольф:] Ты страшэнна хітрая бестыя, Турбіна. Хоць з твару божая авечка.* Навуменка.

*АВЕЧЫ* • **ЯК АВЕЧЫ ХВОСТ**. Гл. хвост.

*АВОСЬ* • **НА АВО́СЬ**. *Акал. Разм. Часцей неадабр.* З разлікам на шчаслівую выпадковасць; наўдачу (рабіць што-н.). **Сін.**: на авось ды нябось; на ўра (у 2 знач.). *Пагана адчувае сябе Саўка, а ўсё таму, што не дадумвае сваіх думак, робіць на авось, пакладаючыся на шчаслівы выпадак.* Колас. *Але і ў цемры яшчэ невядома, як ашукаць немцаў, якія, напэўна, перакрылі ўжо дарогу. А калі напралом, на авось?* Быкаў. *Што нам нясуць зямля і неба — вы адчуваць павінны скрозь. Бо нельга ўдалеч ехаць слепа ці шпарыць, хлопцы, на авось.* Грачанікаў.

**НА АВО́СЬ ДЫ НЯБО́СЬ**. *Акал. Разм. Неадабр.* З разлікам на шчаслівую выпадковасць, удачу (пакладацца, рабіць што-н.). **Сін.**: на авось; на ўра (у 2 знач.). *Кароў аслабелых падвязваць на вужышчы пад жываты бацька не збіраўся, падсмейваўся з гультаяватых «зімагораў», што пакладаліся на авось ды нябось.* Калеснік.

*АВОХЦІ* • **АВО́ХЦІ МНЕ́!** *Выкл. Разм.* Выказванне здзіўлення, задавальнення, захаплення, спачування, абурэння і пад. **Сін.**: бляха-муха; ёлкі зялёныя; ёлкі-маталкі; ёлкі-палкі; ё-маё; фу ты <ну ты>; халера ясная; цьфу ты нячыстая сіла; цьфу ты <чорт>; чорт бы яго ўзяў; чорт вазьмі; чорт ведае што такое. *Авохці мне! Як там прыгожа! Ну, быццам хто намаляваў!* «Тарас на Парнасе». *Раптам Арына пачула прыглушанае ўсхліпванне: «Авохці мне!.. — жахнулася яна. — Няўжо Лядок?»* Карпаў. *Авохці мне!.. Хто ж гэта тут нашкодзіў.* В.Вольскі.

*АГАНЬКОМ* • **З АГАНЬКО́М (З АГЕ́НЬЧЫКАМ)** *рабіць, працаваць*. *Акал. Разм.* Старанна, з вялікім уздымам. **Сін.**: з душой; з усёй душой (у 2 знач.). **Ант.**: цераз пень калоду (у 1 знач.) *Энергічны, актыўны хлопец, ён з аганьком узяўся за работу ў калгасе.* Шамякін. *На кожнага па 12 тон шчэбеню выходзіць за адну змену! З агеньчыкам рабілі!* Масарэнка. *Дзяўчаты працуюць старанна, з агеньчыкам.* «Чырв. змена».

*АГАРОД* • **АГАРОД ГАРАДЗІЦЬ**. Гл. гарадзіць.

**КАМЕНЬЧЫК У АГАРОД** *чый*. Гл. каменьчык.

**ПУСКАЦЬ КАЗЛА Ў АГАРОД**. Гл. пускаць.

*АГАРОДНАЕ* • **ПУДЗІЛА АГАРОДНАЕ**. Гл. пудзіла.

*АГЕНСТВА* • **РАДЫЁ (АГЕНСТВА) АБС**. Гл. радыё.

*АГЕНЬЧЫК* • **НА АГЕ́НЬЧЫК** *заходзіць (зайсці), завярнуць* і пад. *Акал. Разм.* Мімаходам (заходзіць да каго-н.). *[Скарапсей:] Ехаў міма — дай, думаю, завярну на агеньчык, павіншую старога друга.* Крапіва. *Айцец Васілій часта прыходзіў да настаўніка на агеньчык пагаварыць, абмеркаваць навіны, запрасіць на пульку.* С.Александровіч. *[Федзя:] Можна да вас на агеньчык? [Алена:] Калі ласка...* Губарэвіч.

*АГЛОБЛІ* • **ЗАВАРОЧВАЦЬ АГЛОБЛІ**. Гл. заварочваць.

**ЗАПРАГАЦЬ У АГЛОБЛІ** *каго*. Гл. запрагаць.

*АГЛОБЛЯХ* • **НІ ПА КАНІ НІ ПА АГЛОБЛЯХ**. Гл. кані.

*АГЛЯДАЦЦА* • **АГЛЯДА́ЦЦА (АЗІРА́ЦЦА) НАЗА́Д**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прыгадваць мінулае, ранейшае, пражытае, спрабуючы даць

яму ацэнку. *Аглядаючыся назад, пачынаю разумець, як шмат дала нам родная школа: выхавала веру ў чалавека, сумленнасць, праўдзівасць, дабрыню, усё тое, без чаго нельга жыць.* «Настаўн. газ.» *М.Вайцяшонак увесь час няўпэўнена — асцярожна і беражліва — усталёўваецца на сваім крэўным месцы, раз-пораз азіраючыся назад, у сваё праміналае, але яшчэ не да канца асэнсаванае жыццё...* Л.Галубовіч. **АГЛЯНУЦЦА (АЗІРНУЦЦА) НАЗАД**. *Зак. У жыцці вельмі важна час ад часу прыпыніцца, азірнуцца назад і задумацца: «А ці правільнай дарогай мы ідзём?»* «Маладосць».

*АГЛЯДВАЦЦА* • **АГЛЯДВАЦЦА НА КУСТЫ**. Гл. азірацца.

*АГЛЯДКАЙ* • **З АГЛЯ́ДКАЙ**. *Акал Разм.* Асцярожна, абачліва (рабіць што-н.). **Ант**.: без аглядкі (у 2 знач.). *Калінка пісаў з аглядкай, і ўсё ж Арсень зразумеў, што ад старога складу роты засталося з дзесятак чалавек.* Хадкевіч. *Салдаты.. часта прадавалі крадзенае з аглядкай. Баяліся ваеннай жандармерыі.* Шамякін. *Дзеці на возе крыху дурэюць, але не так, каб на іх цыкалі. Сваволяць з аглядкаю.* Пашкоў.

*АГЛЯДКІ* • **БЕЗ АГЛЯ́ДКІ**. *Акал. Разм.* **1**. Вельмі хутка, паспешліва (бегчы, імчацца і пад.) **Сін**.: без духу *бегчы*; без душы *бегчы*; без памяці (у 1 знач.); ва ўсе лапаткі (у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.); з усіх ног; колькі <было> духу; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на адным дыханні (у 1 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўвесь мах; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у 2 знач.); на ўсе ногі; на ўсіх парах; на ўсіх парусах; на ўсю моц (у 2 знач.); чуй дух; што ёсць духу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 2 знач.); як дуж; як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як мага (у 1 знач.); як на крыллях; як на пажар; як падсмалены. **Ант**.: як чарапаха. *Гітлераўцы адступаюць, а шмат на якіх участках фронту бягуць без аглядкі.* Купала. *Без аглядкі кінуўся я ад гэтага страшэннага месца.* Ядвігін Ш.

**2**. Рашуча, не вагаючыся (рабіць што-н.). **Ант**.: з аглядкай. *[Вуліцы] узведзены нядаўна як помнік тым, хто без аглядкі ўступіў у барацьбу з лютым і каварным ворагам за свабоду сацыялістычнай Айчыны і аддаў за перамогу сваё жыццё.* Новікаў. *О, не, Каця не такая: калі ўтрэскаецца, то дарэшты, а як на разрыў — то без аглядкі...* Міська.

**3**. Вельмі моцна, бязмежна, не раздумваючы (кахаць, верыць і інш.). **Сін**.: без памяці (у 2 знач.); да вар'яцтва (у 1 знач.); па <самыя> вушы (у 2 знач.). *Пазнаеш толькі адно: калі [героі фільма] кахаюць, дык без аглядкі; калі ненавідзяць, дык усёй душой; калі працуюць, дык зацята, не ведаючы стомы...*«ЛіМ».

**4**. Бесклапотна, не зважаючы ні на што (гаварыць, выказвацца і інш.). *Цяпер вольна, без аглядкі выказвалі свае думкі-меркаванні — адным словам, былі самі сабой.* Дамашэвіч.

*АГЛЯНУЦЦА* • **АГЛЯНУЦЦА НАЗАД**. *Зак. да* **АГЛЯДАЦЦА НАЗАД**.
**АГЛЯНУЦЦА НЕ ПАСПЕЕШ**. Гл. паспееш.

*АГНЁМ* • **АГНЁМ І МЯЧО́М**. *Акал. Кніжн.* Крайне сурова, бесчалавечна, з бязлітаснай лютасцю (знішчаць, разбураць, расправуляцца і пад.). *Гітлераўскія галаварэзы агнём і мячом уціхамірвалі ў нас бунтарскія вёскі.* Бажко. *[Наёмныя ваякі] па загаду князёў і гетманаў, а часта і па ўласнаму пабуджэнню агнём і мячом расправуляліся з людзьмі, што імкнуліся да волі.* «ЛіМ».
**ГАРЭЦЬ АГНЁМ**. Гл. гарэць.
**ГАРЭЦЬ СІНІМ АГНЁМ**. Гл. гарэць.
**ГУЛЬНЯ З АГНЁМ**. Гл. гульня.
**ГУЛЯЦЬ З АГНЁМ**. Гл. гуляць.

**ДНЁМ З АГНЁМ**. Гл. днём.
**ІСЦІ АГНЁМ**. Гл. ісці.
**ПУСКАЦЬ <З> АГНЁМ** *што, каго*. Гл. пускаць.
**ЯК АГНЁМ АПЯКЛО** *каго*. Гл. апякло.
**ЯК АГНЁМ СПАЛІЛА** *каго*. Гл. спаліла.

*АГНЁЎ* • **МІЖ (ПАМІ́Ж) ДВУ́Х АГНЁЎ**. *Акал. ці вык. Функц. не зам.* У цяжкім становішчы, калі небяспека пагражае з двух бакоў (быць, круціцца і пад.). **Сін.**: між молатам і кавадлам; між сцылай і харыбдай. *У вайну немцы паставілі Анікея на нейкі час старастам. Вялікім дыпламатам трэба было быць, каб круціцца між двух агнёў — займаць такую пасаду і не даваць у крыўду людзей.* Ракітны. *Так, паміж двух агнёў Чэсі было найцяжэй. Лёню здавалася нават, што бачыць, як яна пакутуе...* Брыль. *Данутся.. была паміж двух агнёў, але і ў яе пачаў прабівацца на сяброўку гнеў.* Карпюк.

*АГНІ* • **АГНІ ЯГО ВЕДАЮЦЬ**. Гл. агонь.
**<І> У АГНІ НЕ ГАРЫЦЬ І Ў ВАДЗЕ НЕ ТОНЕ**. Гл. гарыць.
**ЯК НА АГНІ ГАРЫЦЬ** *на кім*. Гл. гарыць.
**ЯК СКУРАТ НА АГНІ**. Гл. скурат.

*АГНЮ* • **З АГНЮ́ ДЫ Ў ПО́ЛЫМЯ** *трапляць, трапіць, кідаць, кідацца*. *Акал. Разм.* З адной непрыемнасці ў другую. *Ёсць мясціны, якія раней захлыналіся вадой, а зараз, пасля меліярацыі, пакутуюць ад смагі. Трапілі з агню ды ў полымя...* «ЛіМ». *«Поўны ход!» — загадаў я шаферу. Нялёгка было мне аддаваць такі загад. Гэта значыла, што мы трапляем з агню ды ў полымя.* Якімовіч. *— Кідаюць вас з агню ды ў полымя. — Нічога — трывалейшым буду.* Гурскі. *Удалося жонку ўладзіць на службу, і гэтак кідаюся... З агню ды ў полымя.* Гартны.
**ПАДКІНУЦЬ АГНЮ Ў ХАТУ**. Гл. падкінуць.
**ЦЯГАЦЬ КАШТАНЫ З АГНЮ** *для каго*. Гл. цягаць.
**ЯК АГНЮ́** *баяцца*. *Акал. Разм.* Вельмі моцна, панічна (баяцца каго-, чаго-н.). **Сін.**: як чорт крыжа; як чорт ладану. *З таго часу я не лезу ў вочы маладым, але і нявестка баіцца мяне як агню.* Ядвігін Ш. *Махнач як агню баяўся Бародкі, і таму Лемяшэвіч вырашыў пайсці на хітрыкі.* Шамякін. *І тут поўная няўдача — адвакаты як агню баяцца такіх спраў.* Новікаў.

*АГОНЬ* • **АГО́НЬ ЯГО́ (ЯЕ́, І́Х) ВЕ́ДАЕ; АГНІ́ ЯГО́ (ЯЕ́, І́Х) ВЕ́ДАЮЦЬ**. *Часцей у знач. галоўн. ск. Праст.* Невядома. **Сін.**: алах яго ведае; бог яго ведае; вятры яго ведаюць; кадук яго ведае; ліха яго ведае; немач яго ведае; нячысцік яго ведае; пярун яго ведае; трасца яго ведае; халера яго ведае; хвароба яго ведае; хрэн яго ведае; хто яго ведае; чамярыца яго ведае; чорт яго ведае. *[Кузьма:] Вось калі.. [слова] выкалупіць, узяць з гутаркі асобна, дык агонь яго ведае, што яно значыць.* Колас. *От і клаў жа, здаецца, у кішэню ці за пазуху, як выбіраўся, а дзе яна магла дзецца, дык агні яе ведаюць...* Чорны.
**АНТО́НАЎ АГО́НЬ**. *Мн. не ўжыв. Дзейн. ці дап. Разм.* Заражэнне крыві, гангрэна. *Там працаваў калісьці татка Варунькі і рукі пакінуў там... А памёр у бальніцы, антонаў агонь быў...* Лынькоў. *[Надзея:] Нагу параненую адмарозіў ён. А цяпер нібыта антонаў агонь прыкінуўся. [Валодзька:] Заражэнне крыві.* Макаёнак. *— Каб антонаў агонь не прыкінуўся, ратуй, божа,— перахрысцілася Тэкля.* Кобец-Філімонава.
**ВЫКЛІКАЦЬ АГОНЬ НА СЯБЕ**. Гл. выклікаць.
**КІДАЦЬ АГОНЬ У ХАТУ**. Гл. кідаць.
**ПАДЛІВАННЕ МАСЛА Ў АГОНЬ**. Гл. падліванне.
**ПАДЛІВАЦЬ МАСЛА Ў АГОНЬ**. Гл. падліваць.

**ПАДЛІВАЦЬ СМАЛЫ Ў АГОНЬ**. Гл. падліваць.

**ПРАЙСЦІ <ПРАЗ> АГОНЬ І ВАДУ І МЕДНЫЯ ТРУБЫ**. Гл. прайсці.

**ПРАМЕТЭ́ЕЎ АГО́НЬ**. *Мн. не ўжыв. Часцей дзейн. Кніжн.* Незгасальнае імкненне да высакароднай мэты. — *Хо! А вы малайчына, Рэндал, — усклікнуў рэдактар.— У вашай душы не патух праметэеў агонь.* Гамолка. *Знічкамі-іскрынкамі спадзе на вёскі і мястэчкі агнявая легенда, праметэеў агонь распаліць сэрцы, асвеціць шлях у будучыню.* Калеснік.

Ісці (пайсці), гатоў (гатовы) **У АГО́НЬ І <У> ВАДУ́**. *Акал. Разм.* Усюды і на ўсё, на любыя ўчынкі, безразважна і самаахвярна. *Партызаны рады былі ісці за ім [Чаравакам], як кажуць, у агонь і ваду.* Пестрак. *Пры абставінах, якія складваліся ў апошні час, Рымару неабходны былі людзі, якія, калі гэта спатрэбіцца, пайшлі б за яго ў агонь і ў ваду.* Арабей. *Максім ведаў, што менавіта такія грубаватыя афіцэры падабаюцца салдатам... За імі салдат пойдзе ў агонь і ў ваду.* Жалязоўскі. *Праўда, я не разумеў, навошта Лук'янчык паслаў у рэдакцыю дзяўчыну. Яна такая смелая, адважная, гатовая ў агонь і ваду, разумная.* Сабаленка. *Барані божа, за вас я гатоў у агонь і ваду, але сесці на ваша месца...* Прокша.

*АГУЛЬНАГА* • **ПРЫВОДЗІЦЬ ДА АГУЛЬНАГА НАЗОЎНІКА**. Гл. прыводзіць.

*АГУЛЬНАЕ* • **АГУЛЬНАЕ МЕСЦА**. Гл. месца.

*АГУЛЬНАЯ* • **АГУЛЬНАЯ МОВА** *<у каго з кім>*. Гл. мова.

**ЗНАЙШЛАСЯ АГУЛЬНАЯ МОВА** *ў каго з кім*. Гл. мова.

*АГУЛЬНУЮ* • **ЗНАЙСЦІ АГУЛЬНУЮ МОВУ** *з кім*. Гл. знаходзіць.

*АГУЛЬНЫХ* • **У АГУЛЬНЫХ РЫСАХ**. Гл. рысах.

*АДАЛЬЮЦЦА* • **АДАЛЬЮЦЦА СЛЁЗЫ** *каму чые*. Гл. слёзы.

*АДАМА* • **АД АДА́МА**. *Акал. Разм. Іран.* **1**. З даўніх часоў, здаўна. **Сін.**: ад веку да веку; век вечны; век-вяком (у 1 знач.); з веку ў век; здавён-даўна; спакон вякоў; як свет светам (у 1 знач.). *Бежанцы і голад на зямлі, ад Адама свет цяжэе страхамі.* Барадулін. *Што ад жонкі трэба: мыць, есці гатаваць, дзяцей глядзець, у кватэры прыбіраць — тое, што рабіла жанчына ад Адама.* Гігевіч.

**2**. Здалёк, не адразу прыступаючы да сутнасці справы. *Пачаў ён [Рахлюк] здалёк, як кажуць, ад Адама, гаварыў вельмі агульнымі фразамі, устаўляючы шмат незразумелых слоў, глытаючы іх канцы.* Крапіва. *Анатоль Аляксандравіч, пачнём, як кажуць, ад Адама. Якім чынам тайнае стала яўным?* «Звязда».

**СКІНУЦЬ З СЯБЕ ВЕТХАГА АДАМА**. Гл. скінуць.

**У КАСЦЮМЕ АДАМА**. Гл. касцюме.

*АДАМАЎ* • **АДАМАЎ ЯБЛЫК**. Гл. яблык.

*АДАМКНЁНЫЯ* • **АДМЫКАЦЬ АДАМКНЁНЫЯ ДЗВЕРЫ**. Гл. адмыкаць.

*АДАРВАЦЦА* • **АД ЗЯМЛІ́ АДАРВА́ЦЦА І НЕ́БА НЕ ДАСТА́ЦЬ**. *Зак. Часцей у форме пр. адз. і мн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прагадаць у жыцці, адышоўшы ад свайго, прывычнага і не прымкнуўшы да іншага, непрывычнага, чужога, але жаданага. *А Рыгор хіба не бяздомны? Ад зямлі адарваўся і неба не дастаў.* Міська. *Эміграцыя апошняга часу — трэцяя хваля — вельмі злосная. І гэта зразумела — ад зямлі ж адарваліся і неба не дасталі.* Сачанка. *Успамінаюцца словы мацеры: «Глядзі, ад зямлі адарвешся і неба не дастанеш...»* Гігевіч.

*АДАРВАЦЬ* • <u>*Не магчы, нельга*</u> **АДАРВА́ЦЬ (АДВЕ́СЦІ) ВАЧЭ́Й** *ад каго, ад чаго. Зак. Разм. Часцей адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. (Не магчы, нельга) перастаць глядзець на каго-, што-н. *Пабег шчаслівы Сцяпанка ў ток са сваёй птушачкай, ад якой вачэй адарваць не мог.* Бядуля. *Прысела [Хрысця] на камень побліз дарогі і як утаропілася ў цьмяную далеч, так і не магла адарваць вачэй.* Броўка. *Блішчыць вада. Я ж не магу вачэй адвесці ад яе.* Танк. *З распушчанымі валасамі, з залітымі агнём шчочкамі, яна была незвычайна прыгожая, і настаўнік не мог адвесці ад яе вачэй.* Колас.

**АДАРВА́ЦЬ ГНІЛО́МУ (У ГНІЛО́ГА) ЦЯЛЯ́ЦІ ХВО́СТ**. *Зак. Прост. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Зрабіць што-н. не вартае асаблівай увагі. *— Адно сапеш на ўсім гатовенькім і дома і ў сваім дзіцячым садзіку. —Ты надта перапрацаваўся,— з крыўдай адказаў Жэнька. — Адарваў гнілому цяляці хвост!..* Паслядовіч. *Кінь ты дурное! Таксама мне герой! — у гнілога цяляці хвост адарваў...* «Маладосць».

**АДАРВА́ЦЬ (САРВА́ЦЬ) ГАЛАВУ́** *каму. Зак. Прост. Незадав.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Забіць, знішчыць каго-н. **Сін**.: адкруціць галаву *каму* (у 1 знач.); адпраўляць на той свет *каго*; адпраўляць у магілёўскую губерню *каго*; вымаць душу *з каго, каму* (у 2 знач.); вымотваць жылы (у 3 знач.); вымотваць кішкі (у 2 знач.); выпусціць дух (у 3 знач.); выпусціць кішкі <*каму*>; вытрасці душу *з каго, каму* (у 2 знач.); гнаць у магілу *каго*; заганяць на той свет *каго*; зводзіць са свету *каго* (у 1 знач.); зводзіць у магілу *каго*; звярнуць галаву *каму*; зжываць са свету *каго*; знімаць галаву *каму* (у 1 знач.); прыбіраць з дарогі *каго*; скруціць вязы *каму*; скруціць шыю *каму*. *Няхай толькі што здарыцца! Мы яму галаву адарвём. Няхай ведае, з кім мае справу!* Карпаў. *— Прапала зброя! — Прапала? Ганс — расстраляю! Галаву сарву! Ты ўсё праспаў!* Гамолка.

**2**. Строга пакараць. Звычайна ўжыв. як пагроза. **Сін**.: адкруціць галаву *каму* (у 2 знач.); зняць галаву *каму* (у 2 знач.). — *Ну, ты, паасцярожней, — важна папярэдзіў Сяргей, — я табе за вадакачку галаву адарву.* Шыцік. *Маёр пра цябе пытаўся. Яму галаву сарвуць, калі з табой што здарыцца.* Навуменка.

**З РУКА́МІ АДАРВА́ЦЬ**. *Зак. Часцей ужыв. у форме буд. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы або ў абаг.-асаб. знач. **1**. <*што*>. З вялікай ахвотай прыдбаць, купіць што-н. **Сін**.: з рук ірваць *што*. *Урэшце, прадаць усё гэта можна, не выходзячы з дому, цяпер любыя прадукты з рукамі адарвуць, дзякуй скажуць.* Шамякін. *Там яны [яблыкі], чалавеча, па пяць рублёў за кіло... І толькі давай — з рукамі адарвуць.* М.Капыловіч.

**2**. *каго, дзе.* З вялікай ахвотай уладкаваць, узяць каго-н. куды-н. — *І пасведчанне [вадзіцеля] ёсць? — Маю. — Значыць, цябе ўсюды з рукамі адарвуць.* Чыгрынаў. *Камісіі ён [выпускнік інстытута] заявіў: «Нікуды я не паеду, мяне і ў Мінску з рукамі адарвуць».* «ЛіМ».

**НЕ АДАРВАЦЬ ВАЧЭЙ** *ад каго, ад чаго. Зак.* *да* **НЕ АДРЫВАЦЬ ВАЧЭЙ** *ад каго, ад чаго.*

*АДАРВІ* • **АДАРВІ́ ДЫ КІ́НЬ**. *Толькі ў заг. л. Вык. Прост. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нічога не варты чалавек, работнік. *Ну ж і работнічкі — адарві ды кінь, трасцу вам у бок.* Масарэнка. *Толькі ж, прызнацца, кашавары-кухары з нас — упэўнены ў гэтым! — такія, што адарві ды кінь, няўмекі...* «Маладосць».

**АДАРВІ́ ДЫ ПАДА́Й**. *Толькі ў заг. л. Вык. і азн. Часцей адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Надта вёрткі, спрытны, жвавы. **Сін**.: сарві ды падай (у 1 знач.). *Пакуль войкалі, той [Ганак] сажалку зрабіў, карасёў напускаў... Ганак — адарві ды падай.* Калодзежны. *Хіба ж мала ў горадзе хлопцаў? Ды і не такіх, як я, целяпнёў, а хлопцаў — адарві ды падай.* Сабаленка.

*АДБАЎЛЯЙ* • **ХÓЦЬ АДБАЎЛЯ́Й** *каго, чаго. Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм.* Вельмі многа. Пра людзей, канкр. ці абстр. прадметы. **Сін.**: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; *у* кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць ты махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. Гарманіст замарыўся ўжо спяваць і толькі старанна расцягваў гармонік. Спевакоў жа было тут хоць адбаўляй.* Лынькоў. *Хоць адбаўляй было прастору, ды ўсё куп'ёўнік ды пясок, і мара горкая пра мора — ну, хоць бы вузкі паясок!* Лужанін. *А варожасці, як адсюль здаецца, у вашых арганізацыях хоць адбаўляй.* Мележ.

*АДБІВАЦЦА* • **АДБІВА́ЦЦА АД ДÓМУ**. *Незак. Часцей ужыв. у форме пр. зак. тр. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рэдка бываць дома, не цікавіцца дамашнімі справамі. **АДБІЦЦА АД ДОМУ**. *Зак. З гэтымі белымі Манг можа зусім адбіцца ад дому.* Маўр. *А пасля, пры калгасах ужо, дык ён [Васіль] і зусім ад дому адбіўся: брыгадзірам зрабілі.* Гіль.

**АДБІВА́ЦЦА АД РУ́К**. *Незак. Часцей ужыв. у форме пр. зак. тр. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пераставаць слухацца каго-н., падпарадкоўвацца каму-н. *Пасля дзесяцігодкі хлопец пачаў адбівацца ад рук.* Шамякін. **АДБІЦЦА АД РУК**. *Зак. Лёнік зусім адбіўся ад рук. Не хацеў ні вучыцца далей, ні працаваць.* Каліна.

**АДБІВА́ЦЦА РУКА́МІ І НАГА́МІ** *ад чаго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рашуча адмаўляцца ад чаго-н., усімі сіламі супраціўляцца чаму-н. **Сін.**: адмахвацца рукамі і нагамі *ад чаго. Яна [Люба], праўда, адбівалася рукамі і нагамі ад гэтай пасады, але яе ўгаварылі.* Сабаленка. *Здагадваюся, што Аляксандр Кандратавіч рукамі і нагамі адбіваецца ад паездкі са студэнтамі ў падшэфны калгас.* Радкевіч. **АДБІЦЦА РУКАМІ І НАГАМІ** *ад чаго. Зак.*

*АДБІВАЦЬ* • **АДБІВА́ЦЬ ПАКЛÓНЫ**. *Незак. Устар. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачціва кланяцца. **Сін.**: біць паклоны (у 1 знач.); біць чалом (у 1 знач.). *Бабка Тэкля паставіла дзяцей на калені перад абразамі, а сама шчыра адбівала паклоны.* С.Александровіч. **АДБІЦЬ ПАКЛОНЫ**. *Зак.*

**АДБІВА́ЦЬ ХЛЕ́Б** *у каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пазбаўляць каго-н. заробку, беручыся за тую ж работу, справу і пад. *А ці не выйдзе так, што я ў вашых тлумачоў буду хлеб адбіваць? Яшчэ пакрыўдзяцца і напішуць на мяне скаргу.* «Полымя». **АДБІЦЬ ХЛЕБ** *у каго. Зак. — Нажыў сабе кучу непрыемнасцей, — жартаваў Чарвякоў. — Апрача таго, што спрабаваў адбіць хлеб у экскурсаводаў, дык яшчэ і на пасяджэнне спазніўся.* Мяжэвіч. *Ты хочаш хлеб адбіць у мяне... Ды ці толькі ў мяне, тут і па будаўнічай лініі ці мала чаго намудравана.* Зарэцкі.

*АДБІРАЕ* • **АДБІРА́Е (-ЮЦЬ, -Ў, -ЛА, -ЛІ) ВО́ЧЫ**. *Незак.* Асляпляе сваёй прыгажосцю, мноствам і г.д., неадчэпна прыцягвае ўвагу. **Сін**.: коле вочы; рве вока. *Эх, бязмежнае ты поле! — Адбірае вочы рунь...* Трус. *Яны ж [грыбы], ну, вочы адбіраюць...* Колас. *Вочы адбіраў белы нежывы абшар поля.* Адамчык.

*АДБІТАК* • **КЛАСЦІ <СВОЙ> АДБІТАК** *на каго, на што.* Гл. класці.
**ЛЯЖЫЦЬ АДБІТАК** *чаго на чым.* Гл. пячаць.

*АДБІЦЦА* • **АДБІЦЦА АД ДОМУ**. *Зак. да* **АДБІВАЦЦА АД ДОМУ**.
**АДБІВАЦА АД РУК**. *Зак. да* **АДБІВАЦЦА АД РУК**.
**АДБІЦЦА РУКАМІ І НАГАМІ** *ад чаго. Зак. да* **АДБІВАЦЦА РУКАМІ І НАГАМІ** *ад чаго.*

*АДБІЦЬ* • **АДБІЦЬ ПАКЛОНЫ**. *Зак. да* **АДБІВАЦЬ ПАКЛОНЫ**.
**АДБІЦЬ ХЛЕБ** *у каго. Зак. да* **АДБІВАЦЬ ХЛЕБ** *у каго.*
**НО́ГІ АДБІ́ЦЬ**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна натаміцца ад доўгай хады, беганіны. **Сін**.: набіваць ногі. *Чаго ты сюды забраўся? Я ўсе ногі адбіў, цябе шукаючы...* Шашкоў. *Ногі ўжо адбіла... І казалі ж мне аўтобуса пачакаць, дык не сядзіцца.* Пташнікаў.

*АДБОЙ* • **БІЦЬ АДБОЙ**. Гл. біць.
**ДАВАЦЬ АДБОЙ**. Гл. даваць.

*АДБОЮ* • **АДБОЮ НЯМА** *ад каго.* Гл. няма.

*АДБЫЦЬ* • **АБЫ́ ДЗЕ́НЬ АДБЫ́ЦЬ**. *Толькі ў форме інф. Акал. Разм. Неадабр.* Як папала, нядбала, без ахвоты і старання. **Сін**.: абы дзень да вечара (у 1 знач.); абы з рук; з плеч ды ў печ (у 2 знач.); з пятага на дзесятае (у 2 знач.); па канец рук; праз пятае ў дзесятае (у 2 знач.); пусці павалюся (у 2 знач.); спусціўшы рукавы; сяк-так (у 2 знач.); сяк-так накасяк <абы не па-людску>; цапам-лапам; цапу-лапу; цераз пень калоду (у 1 знач.); цяп ды ляп. **Ант**.: душы паслухаючы; закасаўшы рукавы; з аганьком; не пакладаючы рук. *Мала, мала кладзеш [бярвення на воз], Сямён, гэта ж зусім лёгка... Усё каб дарма грошы браць, абы дзень адбыць.* Галавач. *І ў горад [Ліда] не едзе, і ў калгасе абы дзень адбыць.* Асіпенка.

*АДБЯРЭШ* • **НЕ АДБЯРЭ́Ш (НЕ АДЫ́МЕШ)** *у каго, ад каго чаго. У безас. ужыв. Разм. Адабр.* Што-н. з'яўляецца неад'емнай якасцю каго-н. **Сін**.: не адмовіш *каму ў чым. Артыкул быў напісаны па-журналісцку хлёстка — гэтага ў Колі не адбярэш! — каму трэба, спадабаўся!..* Лецка. *Які б ён [Куц] там ні быў, а розуму ў яго не адбярэш.* Радкевіч. *«Так, умее Жэрах наладзіць справу. Умее. Гэтага ад яго не адымеш, — падумаў Сяргей. — І паказаць таксама ўмеў».* Дзятлаў.

*АДВАЛІЦЦА* • **ЯЗЫК НЕ АДВАЛІЦЦА** *ў каго.* Гл. язык.

*АДВАЛУ* • **ДА АДВА́ЛУ** <u>*есці, наесціся*</u> і пад. *Акал. Разм.* Уволю, без абмежаванняў, колькі захочацца. **Сін**.: ад пуза (у 1 знач.); еш не хачу *чаго*; за трох дурных; колькі душа жадае; колькі ўлезе (у 1 знач.); на поўную губу (у 1 знач.); на ўсю губу; не ў свой дух; хоць жывот распеража; хоць расперажыся; як дурны на памінках; як на дзяды (у 1 знач.); як не ў сябе; як у прорву. *Так што за якую гадзіну, паверыш, і наеліся [ягад] да адвалу, і назбіралі цэлую вялікую бляшанку з-пад каўбасы.* Карпаў. *І-го-го! Не бачыў, колькі іх [коней] валяецца? Да адвалу будзем есці каніну...* Навуменка.

*АДВАЛЯЦЦА* • **РУКІ НЕ АДВАЛЯЦЦА** *ў каго.* Гл. рукі.

*АДВАРОТНЫ* • **АДВАРОТНЫ БОК МЕДАЛЯ**. Гл. бок.

*АДВАРОТНЫМ* • **У АДВАРОТНЫМ ВЫПАДКУ**. Гл. выпадку.

*АДВАРОЧВАЦЬ* • **АДВАРО́ЧВАЦЬ МО́РДУ (РЫ́ЛА)** *<ад каго, ад чаго>. Незак. Праст. Груб.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Грэбуючы кім-, чым-н., адварочвацца ад яго, не заўважаць. **Сін**.: адварочваць нос *<ад каго, ад чаго>* (у 1 знач.); вярнуць нос *ад каго, ад чаго* (у 1 знач.); вярнуць рыла *ад каго, ад чаго*; паказваць спіну (у 1 знач.). *[Міканор:] К яму падыдзеш! Толькі загаворыш, морду адварочвае!* Мележ. **АДВЯРНУЦЬ МОРДУ (РЫЛА)** *<ад каго, ад чаго>. Зак. Сымон не адказаў. Узяў вёдры і пайшоў, а яна [Стэфа] стаяла і гула яму ўслед: — Яшчэ і морду адвярнуў!* Чарнышэвіч. — *Быў дагэтуль ты дурніла, а цяпер здурнеў зусім, — стаў тут лаяць Хама Сім. — Адвярнуў бы ўбок хоць рыла, дык ён, шэльма, зубы скаліць!* Крапіва.

**2**. З пагардай адмаўляцца, не згаджацца. **Сін**.: адварочваць нос *<ад каго, ад чаго>* (у 2 знач.); вярнуць нос *ад каго, ад чаго* (у 2 знач.); круціць носам (у 1 знач.). *Вельмі энергічна нападаў ён [Алесь] на тых, хто не разумее карысці ад пасёлка. — Ім жуюць і ў рот кладуць, а яны морды адварочваюць.* Крапіва. **АДВЯРНУЦЬ МОРДУ (РЫЛА)** *<ад каго, ад чаго>. Зак.*

**АДВАРО́ЧВАЦЬ НО́С** *<ад каго, ад чаго>. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Грэбуючы кім-, чым-н., адварочвацца ад яго, не заўважаць. **Сін**.: адварочваць морду *<ад каго, ад чаго>* (у 1 знач.); вярнуць нос *ад каго, ад чаго* (у 1 знач.); вярнуць рыла *ад каго, ад чаго*; паказваць спіну (у 1 знач.). **АДВЯРНУЦЬ НОС** *<ад каго, ад чаго>. Зак. Храпавіцкі адвярнуў нос, загледзеўшы Гарбача, каб не павітацца.* Мурашка.

**2**. З пагардай адмаўляцца, не згаджацца. **Сін**.: адварочваць морду *<ад каго, ад чаго>* (у 2 знач.); вярнуць нос *ад каго, ад чаго* (у 2 знач.); круціць носам (у 1 знач.). — *Спрыяю я табе, — прадаўжаў Тамаш сваю гаворку, калі зноў абодва селі на сена. — А ты нос адварочваеш.* Чарнышэвіч. **АДВЯРНУЦЬ НОС** *<ад каго, ад чаго>. Зак. І гэта каханая твая паглядзіць на цябе, галетніка, ды нос адверне.* Крапіва.

**3**. Пагарджаць кім-, чым-н. **Сін**.: вярнуць нос *ад каго, ад чаго* (у 3 знач.); круціць носам (у 2 знач.). *Даруй пагарду да твайго рамяства таму, хто здалёк адварочвае нос.* Бічэль-Загнетава. **АДВЯРНУЦЬ НОС** *<ад каго, ад чаго>. Зак. Круты ты, Тарасе, не дай божа. Але свой чалавек. Бо і за сталом з намі не пагрэбаваў. А другі, можа, і нос адвярнуў бы.* Асіпенка.

*АДВЕЙВАЦЬ* • **АДВЕ́ЙВАЦЬ (ВЕ́ЯЦЬ, АДСЕ́ЙВАЦЬ) ЗЕ́РНЕ АД ПАЛО́ВЫ (МЯКІ́НЫ)**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Аддзяляць добрае ад дрэннага, карыснае ад шкоднага, непатрэбнага. *Тую памяць, адлітую ў слова, час няўмольны не астудзіў. Зерне веялі мы ад паловы на Нямізе, 21.* Зуёнак. **АДВЕЯЦЬ (АДСЕЯЦЬ) ЗЕРНЕ АД ПАЛОВЫ (МЯКІНЫ)**. *Зак. Калі яны [копіі лістоў] для вас акажуцца непатрэбнымі, я тады, будучы ў Мінску, забяру назад. Але мне чамусьці здаецца, што Вы здолееце адвеяць зерне ад паловы.* Дубоўка. *Некаторыя аўтары спрабуюць правесці інвентарызацыю савецкага перыяду беларускай літаратуры, адсеяць зерне ад паловы.* «ЛіМ». *Прашу: «Дапамажы мне, Божа...» Ды прытчай ён пачаў вучыць: «Адвеюць зерне ад паловы над полем веснім жаўрукі, і, не ўвасобленая ў слова, бруіцца песня праз вякі...»* «ЛіМ». *Дарэмна адміністрацыя палезла са сваім кантролем, каб адсеяць зерне ад мякіны.* Чобат.

*АДВЕСЦІ* • *Не магчы* **АДВЕСЦІ ВАЧЭЙ** *ад каго, ад чаго.* Гл. адарваць.

**АДВЕСЦІ ВОЧЫ** *каму. Зак. да* **АДВОДЗІЦЬ ВОЧЫ** *каму.*

**АДВЕСЦІ ДУШУ**. *Зак. да* **АДВОДЗІЦЬ ДУШУ**.

**НЕ АДВЕСЦІ ВАЧЭЙ** *ад каго, ад чаго.* Гл. адрываць.

*АДВЕЯЦЬ* • **АДВЕЯЦЬ ЗЕРНЕ АД ПАЛОВЫ**. *Зак. да* **АДВЕЙВАЦЬ ЗЕРНЕ АД ПАЛОВЫ**.

*АДВОД* • **АДВО́Д ВАЧЭ́Й**. *Мн. не ўжыв. Часцей у ролі вык. Разм. Неадабр.* Маскіроўка, падман, наўмыснае адцягванне ўвагі ад чаго-н. **Сін.**: гульня ў ката і мышку, дымавая заслона; навешванне лапшы на вушы; пацёмкінская вёска; пусканне пылу ў вочы; пусканне туману; траянскі конь (у 1 знач.). *Прыпомніла [Стэпа], як пры спатканні з Рыгорам у яе хаце Пятрусь пільна распытваў пра Рыгу, пра жыццё ў ёй. А мо яшчэ тады згаварыўся з Рыгорам над'ехаць да яго [у Рыгу]. Пецярбург — проста адвод вачэй.* Гартны.

*АДВОДЗІЦЬ* • **АДВО́ДЗІЦЬ ВО́ЧЫ** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Хітруючы, адцягваць увагу ад чаго-н. **Сін.**: загаворваць зубы *каму*; зубы замаўляць *каму. [Кузьміч] Чаго ёй [Вікці] плакаць? [Барута:] Ты мне вачэй не адводзь, я сёе-тое заўважаю. Не абы-хто ты для яе.* Крапіва. **АДВЕСЦІ ВОЧЫ** *каму. Зак. [Ганна:] Ты што гэта, Гарошка, усур'ёз? Ці толькі каб начальству вочы адвесці? А?* Макаёнак.

**АДВО́ДЗІЦЬ ДУШУ́**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Выказваць каму-н. свае патаемныя думкі, дзяліцца перажываннямі, тым, што набалела. **Сін.**: адкрываць <сваё> сэрца *каму, перад кім* (у 2 знач.); адкрываць <сваю> душу *каму, перад кім*; выкладаць душу *каму, перад кім*; выліваць душу *каму. У гэту палату часта наведваўся [Арцём Ісакавіч] і адводзіў тут, як ён гаварыў, душу. Тут можна было гаварыць аб усім не тоячыся, не хаваючыся ад фашысцкага вока, ад паліцэйскага вуха.* Лынькоў. **АДВЕСЦІ ДУШУ**. *Зак. Пагаварыў, адвёў душу, і стала неяк лёгка-лёгка.* Свірка. **2**. Задавальняць якое-н. моцнае жаданне. *Пачыналася купанне, і тут ужо Ігар адводзіў душу, плёскаўся да таго часу, пакуль апошні конь не выходзіў з возера.* Быкаў. **АДВЕСЦІ ДУШУ**. *Зак. [Стары] насыпаў мне на газетны лісток дробныя шчопці мультану. — Адвядзі душу. Адразу адчуеш, што дома.* Брыль.

**НЕ АДВОДЗІЦЬ ВАЧЭЙ** *ад каго, ад чаго.* Гл. адрываць.

*АДВОДУ* • **ДЛЯ АДВО́ДУ ВАЧЭ́Й**. *Акал. Разм. Неадабр.* З мэтай адцягнуць увагу, стварыць знешняе ўражанне, падмануць. **Сін.**: дзеля гадзіся; для блізіру; для віду; для вока; для понту; для прыклёпу; для прыліку; з понтам. *Пасля той ночы Бакета зачасціў у нямецкі гарнізон — то цвікоў яму трэба, то сякеру новую прыдбаць захоча. Праўда, нічога гэтага ён не даставаў, а казаў так аднавяскоўцам для адводу вачэй.* Ставер. *Цётка Сцепаніда гэта плача так, для адводу вачэй.* Парахневіч.

*АДВЯРНУЦЬ* • **АДВЯРНУЦЬ МОРДУ** <*ад каго, ад чаго*>. *Зак. да* **АДВАРОЧВАЦЬ МОРДУ** <*ад каго, ад чаго*>.

**АДВЯРНУЦЬ НОС** <*ад каго, ад чаго*>. *Зак. да* **АДВАРОЧВАЦЬ НОС** <*ад каго, ад чаго*>.

**АДВЯРНУЦЬ РЫЛА** <*ад каго, ад чаго*>. *Зак. да* **АДВАРОЧВАЦЬ РЫЛА** <*ад каго, ад чаго*>.

*АДГАРАДЗІЦЦА* • **АДГАРАДЗІЦЦА КІТАЙСКАЙ СЦЯНОЙ** *ад каго, ад чаго. Зак. да* **АДГАРОДЖВАЦЦА КІТАЙСКАЙ СЦЯНОЙ** *ад каго, ад чаго.*

*АДГАРОДЖВАЦЦА* • **АДГАРО́ДЖВАЦЦА КІТА́ЙСКАЙ СЦЯНО́Й** *ад каго, ад чаго. Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Вельмі моцна, наглуха адасабляцца, адмяжоўвацца ад каго-, чаго-н. *Пакуль некато-*

*рыя кіраўнікі атрадаў будуць адгароджвацца кітайскай сцяной ад насельніцтва, не будуць клапаціцца пра няспынны рост сваіх атрадаў, пра шчыльныя і сталыя сувязі з кожнай вёскай, з кожным гарадком, да таго часу ў нас не будзе сапраўднага ўсенароднага партызанскага руху.* Лынькоў. **АДГАРАДЗІЦЦА КІТАЙСКАЙ СЦЯНОЙ** *ад каго, ад чаго. Зак. А чым вытлумачыць, што вы гэтак палохаецеся братання? Хочаце адгарадзіцца ад бальшавіцкіх ідэй кітайскай сцяною?* Гурскі.

*АДДАВАЦЬ* • **АДДАВА́ЦЬ АПО́ШНІ ДО́ЎГ** *каму. Незак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ушаноўваць памяць каго-н., прысутнічаць на яго пахаванні. **Сін.**: праводзіць у апошні шлях *каго.* **АДДАЦЬ АПОШНІ ДОЎГ** *каму. Зак. Грузчыкі падаліся на вуліцы і пайшлі ў гавань, каб аддаць апошні доўг трагічна загінуўшаму таварышу.* Лынькоў.

**АДДАВА́ЦЬ БО́ГУ ДУШУ́**. *Незак. Часцей зак. тр. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паміраць. **Сін.**: аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць на той свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць у іншы свет; адыходзіць (ісці) у лепшы; ажаніцца з сырою зямлёй; выпростваць ногі; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спусціць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць <каму> (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана > пясоцкага *збіраща*; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); канькі адкідаць; лажыцца ў магілу; на паповы сані *збіраща*; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. *Здаўна крыж на магіле ставіўся. Дзіцятка памірае, дык маленькі крыжык, а як сталы чалавек аддаваў богу душу, дык і крыж, адпаведна, большы ставіўся...* Гіль. **АДДАЦЬ БОГУ ДУШУ**. *Зак. Мазавецкі аддаў богу душу ў агні свайго падпаленага хутара.* Чорны. *Хіба ажывіш слязамі таго, хто богу душу аддаў?* Дайнека.

**АДДАВА́ЦЬ ДАНІ́НУ** *чаму. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паступаць у адпаведнасці з чым-н., прытрымлівацца чаго-н. *Вось і вырашылі, аддаючы даніну часу, арганізаваць настаўніцкі саюз.* Колас. **АДДАЦЬ ДАНІНУ** *чаму. Зак. Хрышчоны кулямі на фронце, даніну ты аддаў гадам...* Бураўкін.

**АДДАВА́ЦЬ ДУШУ́** *каму, чаму. Незак. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі моцна, бязмежна любіць каго-, што-н. *[Казік] жонку лае, брыдзіць, а дзіцяці душу аддае...* Дайліда. **АДДАЦЬ ДУШУ** *каму, чаму. Зак. Свет забыў цяпер Сымонка, скрыпцы душу ўсю аддаў.* Колас.

**АДДАВА́ЦЬ КАНЦЫ́**. *Незак. Часцей зак. тр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** *Разм. У прафесіянальнай мове маракоў* (замест афіцыйнага *аддаваць швартовы).* Адвязваць канаты, трос або ланцуг, калі судна адыходзіць ад прычала. **АДДАЦЬ КАНЦЫ**. *Зак. Даляцела каманда: — Па месцах! Аддаць канцы! Малы наперад!* Гурскі. — *Клыпу ўгору! — кажа боцман, свідруе пальцам у столь, а тады перакладае. — Падняць якар. Шпурляй вяроўкі! Аддаць канцы!* Пашкоў.

**2.** *Праст.* Уцякаць. **Сін.**: вастрыць лыжы *куды, адкуль* (у 2 знач.); выносіць ногі <*адкуль, ад каго*>; даваць дзёру; даваць драпака; даваць драла; даваць лататы; даваць махні-драла; даваць маху (у 2 знач.); даваць стракача *ад каго, адкуль, куды*; даваць ходу *адкуль, куды*; *даваць у ногі*; даваць цягу; змотваць вудачкі; зрабіць ногі (у 1 знач.); падмазваць пяткі; паказваць пяткі; паказваць спіну (у 2 знач.); рваць кіпці. *Марачок схапіў сваю гітару... — Будзьце здаровы, цётка Зося, я аддаю канцы.* Ваданосаў. **АДДАЦЬ КАНЦЫ**. *Зак. [Афіцэр:] Панове!.. Наш паважаны камандзір... Грыгорый Апа-*

*лінар'евіч... аддалі канцы!.. [Падпалкоўнік:] Як — аддалі канцы? [Афіцэр:] Уцяклі! Змыліся!* Мележ. *[Косця:] Жонка — не бесказырка табе. Другую не дадуць і не купіш... Калі шалавая якая — лепей адразу аддаць канцы і да другой швартавацца.* Кандрусевіч.
3. *Праст.* Паміраць. **Сін.**: аддаваць богу душу; аддаць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць на той свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць у іншы свет; адыходзіць (ісці) у лепшы; ажаніцца з сырою зямлёй; выпростваць ногі; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць <*каму*> (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага *збірацца*; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); канькі адкідаць; лажыцца ў магілу; на паповы сані *збірацца*; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. *Калі без пары аддаём мы канцы, вы [пісьменніцкія ўдовы] — нашы рэдактары і выдаўцы, даследчыкі нашы і музеі...* Вітка. **АДДАЦЬ КАНЦЫ**. *Зак. Прымі сына. Канае мой Васька. Калі не выхадзіш — канцы аддасць.* Карамазаў.

**АДДАВА́ЦЬ НАЛЕ́ЖНАЕ** *каму, чаму. Незак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ацэньваць у поўнай меры, як таго заслугоўвае хто-, што-н. *[Рыгор] з ліку тых, што аддаюць належнае вялікаму святу працы.* Гартны. **АДДАЦЬ НАЛЕЖНАЕ** *каму, чаму. Зак. Канечне, паважаны абвінавачаўца будуе сістэму сваіх доказаў умела, па-майстэрску, мы павінны аддаць яму належнае.* Радкевіч.

**АДДАВА́ЦЬ РУКУ́** *чыю, каго каму. Незак. Устар. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выдаваць замуж за каго-н. **АДДАЦЬ РУКУ** *чыю, каго каму. Зак. [Ганецкі:] І як [бацька] глядзіць на гэта? Згодзен ён аддаць мне руку сваёй [дачкі]?* Козел.

**АДДАВА́ЦЬ РУКУ́ І СЭ́РЦА** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Станавіцца жонкай каго-н., выходзіць замуж за каго-н. **АДДАЦЬ РУКУ І СЭРЦА** *каму. Зак. [Гарбачыо:] Я пачуць павінен, як Ева вуснамі сваімі пры арцыбіскупе мне скажа: «Я згодна...» Аддаць руку і сэрца, быць мне жонкай.* Клімковіч.

**АДДАВА́ЦЬ СЭ́РЦА** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Кахаць каго-н. **Сін.**: не чуць душы *ў кім*; сыходзіць з розуму *па кім* (у 2 знач.). **АДДАЦЬ СЭРЦА** *каму. Зак. — Пан Лабановіч аддаў сэрца сваёй бабцы! — сказала [Ядвіся] і залілася самым вясёлым сардэчным смехам.* Колас. *Канечне, на ліха табе хто, на ліха я! Лепшую знайшоў. Маладзейшая прываражыла. Ёй аддаў сэрца!* Калодзежны.

**АДДАВА́ЦЬ ЧЭ́СЦЬ** *каму. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вітаць каго-н. па-ваеннаму, прыклаўшы руку да галаўнога ўбору. **Сін.**: браць пад казырок. *[Духонін:] Гарнізон стаў непазнавальны. Салдаты нават чэсць аддаюць афіцэрам!* Губарэвіч. **АДДАЦЬ ЧЭСЦЬ** *каму. Зак. І калі Іваноўскі, аддаўшы чэсць, павярнуў групу на выхад, у ягонай душы незмаўканым маршам гучалі фанфары.* Быкаў.

**ГАЛАВУ́ Ў ЗАКЛА́Д АДДАВА́ЦЬ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. З поўнай упэўненасцю паручацца ў чым-н., браць на сябе адказнасць за што-н. **Сін.**: адказваць галавой *за каго, за што*; даваць галаву на адрэз <*каму*>; класці галаву на калодку; ручацца галавой *за каго, за што*. **ГАЛАВУ Ў ЗАКЛАД АДДАЦЬ**. *Зак. Наздрэйкі кон[ей] пакралі і больш ніхто. Я галаву магу ў заклад аддаць, што яны.* Крапіва.

*АДДАЛЕНЫЯ* • **МЯСЦІНЫ НЕ ВЕЛЬМІ АДДАЛЕНЫЯ**. Гл. мясціны.

*АДДАННЕ* • **АДДА́ННЕ ЧЭ́СЦІ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Вітанне каго-н. па-ваеннаму, з прыкладаннем рукі да галаўнога ўбору. *І заўважаецца адразу тут іншы край.., парадак, дысцыпліна, лад, адданне чэсці...* Колас. *Генерал.. будзе «рас-*

*пякаць» нас: «Я патрабую аддання чэсці... Я буду аддаваць пад суд...»* «Полымя». *Пачуўшы подых рэвалюцыі, змянілі свае адносіны да салдат унтэр-афіцэры і падпрапаршчыкі. Адменена адданне чэсці.* Гніламёдаў.

*АДДАЦЬ* • **АДДАЦЬ АПОШНІ ДОЎГ** *каму. Зак. да* **АДДАВАЦЬ АПОШНІ ДОЎГ**.

**АДДАЦЬ БОГУ ДУШУ**. *Зак. да* **АДДАВАЦЬ БОГУ ДУШУ**.

**АДДАЦЬ ДАНІНУ** *чаму. Зак. да* **АДДАВАЦЬ ДАНІНУ** *чаму.*

**АДДА́ЦЬ ДУХІ́**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Памерці. **Сін.**: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); адкідваць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адыходзіць з гэтага свету; адпраўляцца на той свет; адыходзіць на той свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць у іншы свет; выпростваць ногі; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць *<каму>* (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага *збірацца*; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); канькі адкідаць; лажыцца ў магілу; на паповы сані *збірацца*; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. *Тацццяна.. вяла махнула рукой і глуха вымавіла: — Ану вас... Чуць духі не аддала.* Новікаў.

**АДДАЦЬ ДУШУ** *каму, чаму. Зак. да* **АДДАВАЦЬ ДУШУ** *каму, чаму.*

**АДДА́ЦЬ ЗЯМЛІ́** *каго, што. Зак. Кніжн. Узнёсл.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пахаваць. *Не важным здавалася імя чалавека, які ўпаў побач, дастаткова было ведаць, што ён — свой, і адзіным клопатам жывых было своечасова аддаць ягонае цела зямлі.* Быкаў.

**АДДАЦЬ КАНЦЫ**. *Зак. да* **АДДАВАЦЬ КАНЦЫ**.

**АДДАЦЬ НАЛЕЖНАЕ** *каму, чаму. Зак. да* **АДДАВАЦЬ НАЛЕЖНАЕ** *каму, чаму.*

**АДДАЦЬ РУКУ** *чыю, каго каму. Зак. да* **АДДАВАЦЬ РУКУ** *чыю, каго каму.*

**АДДАЦЬ РУКУ І СЭРЦА** *каму. Зак. да* **АДДАВАЦЬ РУКУ І СЭРЦА** *каму.*

**АДДАЦЬ СЭРЦА** *каму. Зак. да* **АДДАВАЦЬ СЭРЦА** *каму.*

**АДДАЦЬ ЧЭСЦЬ** *каму. Зак. да* **АДДАВАЦЬ ЧЭСЦЬ** *каму.*

**ГАЛАВУ Ў ЗАКЛАД АДДАЦЬ**. *Зак. да* **ГАЛАВУ Ў ЗАКЛАД АДДАВАЦЬ**.

*АДДАЧАЙ* • **З ПО́ЎНАЙ АДДА́ЧАЙ**. *Акал. Функц. не зам.* Аддаючы чаму-н. усе сілы, уменне, руплівасць (працаваць, рабіць). *Работа ідзе цяжка: кніга выходзіць вельмі складаная, магу толькі сказаць: хачу напісаць яе з поўнай аддачай.* Мележ. — *Першачарговае вызначэнне задання і фонду зарплаты, — сцвярджае брыгадзір Якавенка, — абавязвае працаваць з поўнай аддачай.* Мыслівец.

*АД'ЕСЦІ* • **АД'ЕСЦІ ВАНТРОБЫ** *каму. Зак. да* **АД'ЯДАЦЬ ВАНТРОБЫ** *каму.*

**АД'ЕСЦІ ДУШУ** *каму. Зак. да* **АД'ЯДАЦЬ ДУШУ** *каму.*

**АД'ЕСЦІ КІШКІ** *каму. Зак. да* **АД'ЯДАЦЬ КІШКІ** *каму.*

**АД'ЕСЦІ ПЯЧОНКІ** *каму. Зак. да* **АД'ЯДАЦЬ ПЯЧОНКІ** *каму.*

**АД'ЕСЦІ СЭРЦА** *каму. Зак. да* **АД'ЯДАЦЬ СЭРЦА** *каму.*

*АДЖАВАЛА* • **ЦЯЛЯ ЯЗЫК АДЖАВАЛА** *каму.* Гл. цяля.

*АДЗЕЦЬ* • **АДЗЕЦЬ <САБЕ> ХАМУТ НА ШЫЮ**. Гл. надзяваць.

*АДЗІН* • **АДЗІН АЛАХ ВЕДАЕ**. Гл. алах.

**АДЗІН БОГ < СВЯТЫ > ВЕДАЕ**. Гл. бог.

**АДЗІН БОК МЕДАЛЯ**. Гл. бок.

**АДЗІ́Н ДА АДНАГО́**. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Зусім аднолькавыя (часцей пра якія-н. непрыемнасці).

**АДЗІН КАНЕЦ**. Гл. канец.

**АДЗІН КРОК** *ад чаго да чаго.* Гл. крок.

**АДЗІ́Н НА АДЗІ́Н**. *Акал. Функц. не зам.* **1**. Без сведак, без пабочных асоб (гаварыць, дамаўляцца, сустракацца з кім-н.); тэт-а-тэт. **Сін**.: вока на вока (у 1 знач.); з вока на вока; на чатыры вокі; сам-насам (у 1 знач.). *Я, панна Чэся, хацеў бы з вамі пагаварыць адзін на адзін. Справа вельмі важная. І для нас, і для вас...* Брыль.

**2**. Без саюзнікаў, памочнікаў, без падтрымкі з боку каго-н. (біцца, сустракаць небяспеку і пад.). **Сін**.: вока на вока (у 2 знач.); сам-насам (у 2 знач.). *[Дзеду Талашу] прыемна было адчуваць, што на яго плячах шчыльна прыліпла важкая «настаяшчая» стрэльба з ёмкім вострым штыхом, з якім не страшна выступіць адзін на адзін і супраць мядзведзя.* Колас. *[Бяссмертны] узняў галаву — у вачах яго з'явіўся азартны бляск, як у чалавека, які выходзіць адзін на адзін з небяспечным зверам.* Дамашэвіч.

**3**. У адзіночку, зусім адзін (заставацца, апынуцца з чым-н. і пад.). **Сін**.: сам-насам (у 4 знач.). *Андрэю было ўсё роўна, што рабіць, абы не заставацца адзін на адзін са сваімі думкамі.* Кудравец. *І тады Зазыба апынуўся адзін на адзін з усходнім небакраем.* Чыгрынаў. *І ты зноў адзін на адзін і з дарогай, і з полем, што завалена снегам, і з самім сабой.* Макарэвіч.

**АДЗІ́Н НА АДНЫ́М**. *Акал. Разм.* Ужыв. пры вык.-дзеясл. у форме мн. Гуртам, скучана, у цеснаце, вельмі блізка адзін ад другога (сядзець, стаяць і пад.). *Калісьці і жылі дрэнна. Вёска была вялікая, сядзелі адзін на адным. Калі ж даводзілася дах крыць, гной трэсці, дровы рэзаць, збіралі талаку.* Лобач.

**АДЗІ́Н ПАД АДЗІ́Н (АДНА́ ПАД АДНУ́, АДНО́ ПАД АДНО́)**. *Вык. і азн. Разм. Адабр.* **1**. Звычайна ўжыв. пры дзейн., выраж. наз. назоўн. скл. мн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Амаль роўныя па росце, сіле. *А іх жа [сыноў] трое, адзін пад адзін. І накармі, і прыглядзь за кожным.* Гроднеў. *Лёкса са сваёй таварышкай Яўланняй, у якой было ўжо тады трое дачок — адна пад адну, — хавалася ў старой сіласнай яме, за былым калгасным дваром.* Гаўрылкін.

**2**. Ужыв. пры дзейн., выраж. наз. назоўн. скл. мн. л. са знач. канкр. прадмета. Зусім аднолькавыя і добрыя паводле якіх-н. якасцей. **Сін**.: адзін у адзін; лоб у лоб (у 2 знач.); як адзін (у 3 знач.); як на падбор. *Усе [агуркі] — адзін пад адзін, не тое што ў спёку — заморкі.* Калодзежны. *Роўна, адна пад адну, стаялі накрытыя гонтам хаты.* М.Капыловіч.

**АДЗІ́Н ПАД АДНЫ́М (АДНА́ ПАД АДНО́Й, АДНО́ ПАД АДНЫ́М)**. *Вык. і азн. Разм.* Ужыв. звычайна ў адносінах да дзяцей пры дзейн., выраж. наз. назоўн. скл. мн. або колькасна-імен. спалучэннем. Адзін за другога меншы. *У вайну, калі наш горад захапілі немцы... і ёй [маці] не было як пракарміць нас — а нас было трое і ўсе адзін пад адным — мы пераехалі ў вёску...* Гаўрылкін. *У бацькі адна пад адною пяцёра дзяўчат, і ўсе на выданні.* Адамчык. *Дзяцей малых шмат. А дзеці — адно пад адным... Як боб, малыя ўсе.* Чорны.

**АДЗІ́Н ПРЫ АДНЫ́М (АДНА́ ПРЫ АДНО́Й, АДНО́ ПРЫ АДНЫ́М)**. *Акал. Разм. Часцей адабр.* Ужыв. пры вык.-дзеясл. у форме мн. Вельмі блізка, густа, шчыльна (сядзець, стаяць, знаходзіцца і пад.). *Былі ў Дуброве мясціны, у ельніку.., дзе адзін пры адным, адзін пры адным сядзелі рудагаловыя.. баравікі.* Васілевіч. *Бязвусыя чатырохкантовыя каласы ў паўтары далоні велічынёй стаялі адзін пры адным.* Краўчанка.

**АДЗІН РАЗ МАРКУ ЖАНІЦЬ**. Гл. жаніць.

**АДЗІ́Н У АДЗІ́Н (АДНА́ Ў АДНУ́, АДНО́ Ў АДНО́)**. *Вык. і азн. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн., выраж. наз. назоўн. скл. мн. са знач. асобы, адуш. ці канкр. прадмета. Зусім аднолькавыя і добрыя паводле якіх-н. якасцей. **Сін.**: адзін пад адзін (у 2 знач.); лоб у лоб (у 2 знач.); як адзін (у 3 знач.); як на падбор. *Здаровыя, ружатварыя, адзін у адзін, гвардзейцы выглядалі спакойнымі, нават жыцц[ярадаснымі].* Гартны. *«Паненак» было штук сто — пярэстыя красулі адна ў адну.* Крапіва. *Колькі там было гэтых яечак, — хто іх ведае, але кучка ладная, і ўсе адно ў адно: жаўтаваценькія, з тупаватымі пяткамі.* Ядвігін Ш.

**АДЗІН ЧОРТ** <*каму, для каго*>. Гл. чорт.

**АДЗІН ЧОРТ ВЕДАЕ**. Гл. чорт.

**ЗА АДЗІН ПРЫСЕСТ**. Гл. прысест.

**З'ЕСЦІ НЕ АДЗІН ПУД СОЛІ** *з кім.* Гл. з'есці.

**ЗРОБЛЕНЫ НА АДЗІН КАПЫЛ**. Гл. зроблены.

**МЕРАЦЬ НА АДЗІН АРШЫН** *каго, што.* Гл. мераць.

**МЕРАЦЬ НА АДЗІН КАПЫЛ** *каго, што.* Гл. мераць.

**НА АДЗІН ЗУБ** *каму.* Гл. зуб.

**НА АДЗІН КАПЫЛ**. Гл. капыл.

**НА АДЗІН ЛАД**. Гл. лад.

**НА АДЗІН МАНЕР**. Гл. манер.

**НА АДЗІН ТВАР**. Гл. твар.

**НІ АДЗІН САБАКА**. Гл. сабака.

**НІ НА <АДЗІН> ШЭЛЕГ**. Гл. шэлег.

**НУМАР АДЗІН**. Гл. нумар.

**ПАД АДЗІН РАНЖЫР**. Гл. ранжыр.

**СТАВІЦЬ У АДЗІН РАД** *каго з кім.* Гл. ставіць.

**СТРЫГЧЫ ПАД АДЗІН ГРАБЯНЕЦ** *каго.* Гл. стрыгчы.

**СТРЫЖКА ПАД АДЗІН ГРАБЯНЕЦ**. Гл. стрыжка.

**У АДЗІН ГОЛАС**. Гл. голас.

**У АДЗІН ДУХ**. Гл. дух.

**У АДЗІН МАХ**. Гл. мах.

**У АДЗІН МІГ**. Гл. міг.

**У <АДЗІН> МОМАНТ**. Гл. момант.

**ЯК АДЗІ́Н**. *Мн. не ўжыв. Разм.* **1**. *Акал.* Ужыв. пасля слова *ўсе.* Без выключэння, поўнасцю; абсалютна (усе). **Сін.**: ад мала да вяліка; ад малога да вялікага; да аднаго; да апошняга (у 3 знач.); *усе* да душы; як адзін чалавек. *[Афіцэр:] Гайда сядлаць, каб у момант былі ўсе як адзін гатовы!* Глебка. *І тады ўзняліся на ногі ўсе як адзін, нават Міхаіл Ганарджыя ўстаў...* Самуйлёнак. *Кажуць, што добра нам, калі ў брыгадзе ўсе як адзін спрактыкаваныя.* Карпаў.

**2**. *Акал.* Дружна, аднадушна (рабіць што-н.). *Скончыў граць ён — паны ў ладкі запляскалі як адзін.* Колас. *Ад машын закурэлых, з загону ідзе рабочы, а з ім селянін... Дружна песню пяюць, як адзін... І баіцца ўвесь свет іх разгону.* Чарот. *Можна ўправіцца і з уланамі, калі станем як адзін.* Галавач.

**3**. *Вык. ці азн. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш. ці канкр. прадмета. Зусім аднолькавыя і добрыя ў якіх-н. адносінах. **Сін.**: адзін пад адзін (у 2 знач.); адзін у адзін; лоб у лоб (у 2 знач.); як на падбор. *Бывала, Гняцецкі калі прыедзе на чацвёрцы да касцёла, дык усё мястэчка як на дзіва глядзіць: [коні] як адзін, сівыя ў яблыкі, аж мяняюцца.* Крапіва.

**ЯК АДЗІН ЧАЛАВЕК**. Гл. чалавек.

*АДЗІНАГА* • **ПРЫВЯДЗЕННЕ** *чаго* **ДА АДЗІНАГА НАЗОЎНІКА**. Гл. прывядзенне.

*АДЗІНЫМ* • **АДЗІНЫМ ФРОНТАМ**. Гл. фронтам.

*АДЗЯВАЦЬ* • **АДЗЯВАЦЬ САБЕ ХАМУТ НА ШЫЮ**. Гл. надзяваць.

*АДКАЗАЦЬ* • **АДКАЗАЦЬ ГАЛАВОЙ** *за каго, за што. Зак. да* **АДКАЗВАЦЬ ГАЛАВОЙ** *за каго, за што.*

*АДКАЗВАЦЬ* • **АДКА́ЗВАЦЬ ГАЛАВО́Й** *за каго, за што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Браць на сябе поўную адказнасць за каго-, што-н.; быць гатовым паплаціцца жыццём. **Сін.**: галаву ў заклад аддаваць; даваць галаву на адрэз <*каму*>; класці галаву на калодку; ручацца галавой *за каго, за што. [Пальцэр:] А наконт хворага папярэджваю: вы за яго галавой адказваеце.* Крапіва. **АДКАЗАЦЬ ГАЛАВОЙ** *за каго, за што. Зак. Ды за здзек з людзей, пакуты, брат і дружа мой, нам адкажа пан твой люты галавой сваёй!* Якімовіч.

*АДКАЗВАЮЦЬ* • **ТАРМАЗЫ АДКАЗВАЮЦЬ** *у каго.* Гл. тармазы.

*АДКАЗУ* • **ДА АДКА́ЗУ** *набіць, запоўніць* і інш. *Акал. Разм.* Поўнасцю, як толькі можна. **Сін.**: пад завязку (у 1 знач.); па <самую> завязку (у 1 знач.); як завязаць (у 1 знач.). *Оля Маслова несла кіслародную падушку, надзьмутую да адказу.* «Полымя». *Сэрца кожнага трывожна стукацела і нервы наструніліся да адказу.* С.Александровіч. *Дзень актрысы запоўнены да адказу: спектакль, рэпетыцыі, чытанне сцэнарыяў і паездкі ў навакольныя вёскі...* «Чырв. змена».

*АДКІДАЦЬ* • **АДКІДА́ЦЬ (АДКІ́ДВАЦЬ) КАНЬКІ́**. *Незак. Прает.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паміраць. **Сін.**: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаваць духі; адкідаць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць у іншы свет; адыходзіць у лепшы свет; выпроствацъ ногі; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; душой загавець; загадаць доўга жыць *каму* (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага *збірацца*; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); лажыцца ў магілу; на паповы сані *збірацца*; пайсці ў магілу; на паповы сані *збірацца*; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. — *Міця, а калі ён натварыў дзе-небудзь якой злыбеды і тут адлежваецца? — Дык па-твойму няхай лепш канькі адкідае ад холаду ў гэтай стайні?! — узлаваўся Міця.* А.Жук. **КАНЬКІ АДКІНУЦЬ**. *Зак.* [*Лепешаў*, с. 42: канькі адкінуць.]

*АДКІДВАЦЬ* • **АДКІ́ДВАЦЬ КАПЫТЫ́**. *Незак. Часцей у зак. тр. Праст.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паміраць. **Сін.**: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаць духі; адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць на той свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць у іншы свет; адыходзіць (ісці); у лепшы свет; выпроствацъ ногі; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць <*каму*> (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага *збірацца*; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); адкідваць канькі; лажыцца ў магілу; на паповы сані *збірацца*; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. *Я, брат ты мой, за*

*сваё жыццё разы чатыры спрабаваў капыты адкідваць... І на вайне, і пасля...* Дудараў. **АДКІНУЦЬ КАПЫТЫ**. *Зак. [Антон] даўно ведаў, што калі прыслухоўвацца да згрызотаў сумлення, дык хутка адкінеш капыты.* Быкаў. *Без гумару тут можна і капыты адкінуць. А смяешся, значыцца, жывы.* Гаўрылкін.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. адуш. прадмета. Здыхаць. Пра жывёлу. **Сін**.: адкідваць хвост (у 3 знач.); дух выпусціць (у 2 знач.); задзіраць капыты (у 1 знач.). *Гэта праўда, што крумкачы агалілі рэбры аднаму Булыгаваму ягняці, але ж яго не птушкі задзяўблі, само зняеглела і адкінула капыты.* Кандрусевіч. *— А калі ў мяне конь капыты адкінуў, ты, можа, мне жарабя даў, каб я зноў змог на ногі стаць? — перабіў старэйшы Пятро.* «Вожык».

**АДКІ́ДВАЦЬ ХВО́СТ**. *Незак. Праст.* **1**. *Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адпачываць лежачы. *[Лёшка:] Чаго хвост адкінула? [Гэлька:] Стамілася... Страшэнна стамілася, Лёша.* Губарэвіч. *— Дай паляжаць... — Яшчэ ўся дарога наперадзе, а яна ўжо хвост адкінула. Не была б то пані брыгадзірыха.* Лобан.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паміраць. **Сін**.: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць на той свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць у іншы свет; адыходзіць (ісці) у лепшы свет; выпростваць ногі; выцягнуць ногі; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць <*каму*> (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага *збірацца*; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); лажыцца ў магілу; на паповы сані *збірацца*; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. **АДКІНУЦЬ ХВОСТ**. *Зак. Так хочацца стукнуць гэту падлюку па макаўцы, каб і хвост адкінуў!* Мележ.

**3**. Ужыв. пры дзейн. са знач. адуш. прадмета. Здыхаць. Пра жывёлу. **Сін**.: адкідваць капыты (у 2 знач.); дух выпусціць (у 2 знач.); задзіраць капыты (у 1 знач.). **АДКІНУЦЬ ХВОСТ**. *Зак. [Алесь] глянуў на Гнядога. «Стары, падла, як грыб, пакуль цягне, але калі адкіне хвост, бяда. Жарабё трэба абавязкова. Але ці будзе за што купіць!»* Чарнышэвіч.

**4**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Хварэць, ляжаць хворым. **АДКІНУЦЬ ХВОСТ**. *Зак. Работы з яе, як з мятлы лісця, троху папоркалася ў гародзе і хвост адкінула.* Барадулін.

**КАНЬКІ АДКІДВАЦЬ**. Гл. адкідаць.

*АДКІНУЦЬ* • **АДКІНУЦЬ КАПЫТЫ**. *Зак. да* **АДКІДВАЦЬ КАПЫТЫ**.

**АДКІНУЦЬ ХВОСТ**. *Зак. да* **АДКІДВАЦЬ ХВОСТ**.

**КАНЬКІ АДКІНУЦЬ**. *Зак. да* **КАНЬКІ АДКІДАЦЬ**.

*АДКРУЦІЦЬ* • **АДКРУЦІ́ЦЬ ГАЛАВУ́** *каму. Зак. Праст. Незадав.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Забіць, знішчыць. **Сін**.: адарваць галаву *каму* (у 1 знач.); адпраўляць на той свет *каго*; адпраўляць у магілёўскую губерню *каго*; вымаць душу *з каго, каму*; вымотваць жылы (у 3 знач.); вымотваць кішкі (у 2 знач.); выпусціць дух (у 3 знач.); выпусціць кішкі <*каму*>; вытрасці душу *з каго, каму* (у 2 знач.); гнаць у магілу *каго*; заганяць на той свет *каго*; зводзіць са свету *каго* (у 1 знач.); зводзіць у магілу *каго*; звярнуць галаву *каму*; зжываць са свету *каго*; знімаць галаву *каму* (у 1 знач.); прыбіраць з дарогі *каго*; скруціць вязы *каму*; скруціць шыю *каму*. *— Галаву адкруціць трыбухатаму чорту! — Спаліць яго маёнтак разам з ім і з усім яго насеннем! — гудуць злосныя гала-*

сы. Колас. *Во не выберам бульбу, немцы галаву адкруцяць. Загадалі выбраць да бульбіны і адвезці на станцыю.* Быкаў.

2. Строга пакараць. Звычайна ўжыв. як пагроза. **Сін.**: адарваць галаву (у 2 знач.); зняць галаву *каму* (у 2 знач.). *«Ой, адкруцяць табе, Карнач, галаву». «Але раней, чым адкруцяць мне, я хачу адкруціць некаторым бракаробам».* Шамякін. *[Калібераў:] Пачнецца хлебаздача, каб на заводзе ніякай затрымкі не было. Зразумеў? І наогул... [Печкуроў:] Будзьце ўпэўнены, Сцяпан Васільевіч. Галаву адкруціце.* Макаёнак.

*АДКРЫВАЕЦЦА* • **СВЕТ АДКРЫВАЕЦЦА** *каму.* Гл. свет.

*АДКРЫВАЦЬ* • **АДКРЫВА́ЦЬ АМЕ́РЫКУ**. *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. 1. Гаварыць, аб'яўляць пра даўно ўсім вядомае. **Сін.**: вынаходзіць веласіпед. **АДКРЫЦЬ АМЕРЫКУ**. *Зак. — Ты робішся скептыкам. Дрэнныя прыметы. Старэем, Віця. — Адкрыў Амерыку! «Старэем!» Я часам адчуваю на сваіх плячах цяжар сотні гадоў.* Шамякін. *— Той толькі не памрэ, хто не нарадзіўся. — От Амерыку мне адкрыла!..* Місько.

2. Знаходзіць, выяўляць што-н. зусім новае. **Сін.**: адкрываць новую старонку *ў чым*; упісваць новую старонку. **АДКРЫЦЬ АМЕРЫКУ**. *Зак. Не адкрыю Амерыкі, калі скажу, што для нармальнага, гарманічнага развіцця школьніка патрабуецца мінімум пяць гадзін заняткаў фізічнай культурай у тыдзень.* «Настаўн. газ.» *Паэта персанальны крытык расхваліў — і, нос задзёршы, класікам той ходзіць, але яму напомніць не пашкодзіць: Амерыкі ў паэзіі ён не адкрыў.* Маеўскі.

**АДКРЫВА́ЦЬ ДАРО́ГУ** *каму куды. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даваць свабодны доступ, ствараць спрыяльныя ўмовы. **Сін.**: адчыняць дзверы *каму куды.* **АДКРЫЦЬ ДАРОГУ** *каму куды. Зак. [Бацька Троцкага] хадзіў у сінагогу, а дзяцей хрысціў — каб адкрыць ім дарогу ва універсітэт.* Шамякін. *І я даю табе слова — мы адкрыем дорогу ў навуку ўсім рабочым, сялянам і іх дзецям.* Хацкевіч.

**АДКРЫВАЦЬ ДЗВЕРЫ** *каму, чаму куды.* Гл. адчыняць.

**АДКРЫВА́ЦЬ НО́ВУЮ (СВЕ́ЖУЮ) СТАРО́НКУ** *ў чым. Незак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Рабіць адкрыццё ў якой-н. галіне. **Сін.**: адкрываць Амерыку (у 2 знач.); упісваць новую старонку. *«Слоўнік мовы Скарыны» адкрывае новую старонку ў беларускай лексікаграфіі.* «ЛіМ». *[Людміла:] І вось я ўношу штосьці новае ў мастацтва. Арыгінальна прачытаўшы Шэкспіра, адкрываю свежую старонку ў гісторыі тэатра.* Маўзон. **АДКРЫЦЬ НОВУЮ (СВЕЖУЮ) СТАРОНКУ** *ў чым. Зак.*

**АДКРЫВА́ЦЬ (РАСКРЫВА́ЦЬ) ВО́ЧЫ** *каму <на каго, на што>. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы або абстр. прадмета. Дапамагаць зразумець сапраўднае становішча; рабіць відавочнай праўду аб чым-, кім-н. **Сін.**: праціраць вочы (у 2 знач.); развязваць вочы *каму. Чытаў з захапленнем. Усё гэта з кожным днём усё больш і больш адкрывала мне вочы на свет.* Броўка. *Раскрываючы дзеткам вочы на навакольны свет, настаўніца вучыць іх быць знаходлівымі, эрудзіраванымі.* «Звязда». **АДКРЫЦЬ (РАСКРЫЦЬ) ВОЧЫ** *каму <на каго, на што>. Зак. Раскрыў Данілу Богут вочы: сумленнай працай, мазалём у панскай Польшчы люд рабочы не пабудуе сабе дом.* Колас. *Гутаркі з Галубовічам адкрылі вочы Лабановічу на многае...* Шкраба.

**АДКРЫВА́ЦЬ (РАСКРЫВА́ЦЬ) <СВАЕ́> КА́РТЫ** *каму. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачынаць дзейнічаць адкрыта, не хаваючы сваіх тайных намераў, планаў. *Праўда, Андрэй Капітонавіч свае карты Дарашэвічу пакуль не адкрываў — пагаварыў з ім аб настроі, спытаў, дзе будзе праводзіць свой чарговы адпачынак, пацікавіўся пра здароўе.* Гроднеў. *— Я размаўляў з міністэрствам... — нарэшце стаў*

*раскрываць карты Сымановіч. — З намі згадзіліся, што карысней будзе пакінуць Салавейчыка на месцы...* Блакіт. **АДКРЫЦЬ (РАСКРЫЦЬ) <СВАЕ> КАРТЫ** *каму. Зак. [Каліноўскі:] Казаць, Марыська? [Марыська:] Так. [Каліноўскі:] Раскрыем карты. Мы гэты тост, які не жартаў варты, адтэрміноўваем на два гады.* Куляшоў. *— І ўсё ж, — разважліва падтрымаў сябе Зубрыч, — ён не схібіў, што цалкам адкрыў карты.* Мележ.

**АДКРЫВА́ЦЬ РО́Т.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачынаць гаварыць што-н., выказваць свае думкі. **Сін.**: разяўляць рот (у 1 знач.); раскрываць рот (у 1 знач.). **АДКРЫЦЬ РОТ.** *Зак. Ледзь [Шура] адкрыў рот, з усіх бакоў пасыпаліся кпіны.* Навуменка. *Гэта баба хоць нагаворыць чаго трэба і чаго не трэба, а Змітрачыха што? Яна ж і рота там не адкрые.* Чарнышэвіч.

**АДКРЫВА́ЦЬ (РАСКРЫВА́ЦЬ) <СВАЁ> СЭ́РЦА** *каму, перад кім. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** Прызнавацца ў каханні. **АДКРЫЦЬ (РАСКРЫЦЬ) <СВАЁ> СЭРЦА** *каму, перад кім. Зак. [Барыс і Надзя] доўга трымалі ў тайне свае пачуцці, як дарагія здабыткі юнацтва, і толькі сёлетняй вясной.. адкрылі свае сэрцы адно аднаму.* Мік.Ткачоў. *[Маршалак:] Станіслаў любіць тваю дачку... [Сёння] ён раскрыў перад ёй сваё сэрца і, дастаўшы пазваленне, просіць у цябе яе рукі...* Дунін-Марцінкевіч.

**2.** Шчыра дзяліцца з кім-н. сваімі думкамі, пачуццямі, перажываннямі. **Сін.**: адводзіць душу (у 1 знач.); адкрываць <сваю> душу *каму, перад кім*; выкладаць <сваю> душу *каму, перад кім*; выліваць душу *каму.* **АДКРЫЦЬ (РАСКРЫЦЬ) <СВАЁ> СЭРЦА** *каму, перад кім. Зак. Сваё сябрам адкрыеш сэрца — душу сяброў пазнаеш лепш.* Непачаловіч.

**АДКРЫВА́ЦЬ (РАСКРЫВА́ЦЬ) <СВАЮ́> ДУШУ́** *каму, перад кім. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Шчыра дзяліцца з кім-н. сваімі думкамі, пачуццямі, перажываннямі. **Сін.**: адводзіць душу (у 1 знач.); адкрываць <сваё> сэрца *каму, перад кім* (у 2 знач.); выкладаць <сваю> душу *каму, перад кім* (у 2 знач.); выліваць душу *каму.* **АДКРЫЦЬ (РАСКРЫЦЬ) <СВАЮ> ДУШУ** *каму, перад кім. Зак. Аж сэрца заходзілася ад хараства і невыказнай тугі, ад пачуцця адзіноты, ад жадання некаму адкрыць душу, расказаць усё, што думаеш і адчуваеш.* Грахоўскі. *[Надзея:] Раскрый мне сваю душу. Можа, я буду тваёю шчыраю спадарожніцаю.* Гарбацэвіч. *Марыля душу перад Хведарам раскрыла: —Хлопцы вялікія параслі, ужо не слухаюцца.* Лобан.

*АДКРЫВАЮЦЦА* • **ВОЧЫ АДКРЫВАЮЦЦА** *у каго, каму <на што>.* Гл. вочы.

*АДКРЫТА* • **ДАРОГА АДКРЫТА** *каму, перад кім.* Гл. дарога.

*АДКРЫТАЙ* • **З АДКРЫТАЙ ДУШОЙ.** Гл. душой.

*АДКРЫТУЮ* • **У (НА) АДКРЫ́ТУЮ.** *Акал. Разм.* Нікольні не таячыся, не маскіруючыся, зусім адкрыта (рабіць што-н.). **Сін.**: адкрытым тэкстам; ва ўпор (у 2 знач.); вочы ў вочы (у 2 знач.); у вочы *казаць*; у лоб (у 2 знач.); у твар *гаварыць*. **Ант.**: за вочы (у 1 знач.). *[Целеш:] Што гэта ён? Спужаўся? [Сухадольскі:] Дыпламат. Не хоча ў адкрытую з Страміліным сварыцца.* Крапіва. *[Дворнік] зміры́ўся з роляю няўдачніка, стаў надакучлівым і не крыўдзіўся, калі яго ў адкрытую «адшывалі» ад кампаніі.* А.Жук. *Пасля валтузні з сабакамі рана на назе пачала ныць. Занылі плечы, грудзі. Ён [Кандрат] пайшоў на адкрытую: — Давайце зараз жа фурманку.* Чорны.

*АДКРЫТЫ* • **<УСЕ> ДАРОГІ АДКРЫТЫ** *каму, перад кім.* Гл. дарога.

*АДКРЫТЫМ* • **АДКРЫТЫМ ТЭКСТАМ.** Гл. тэкстам.

**З АДКРЫТЫМ ЗАБРАЛАМ.** Гл. забралам.

**ПАД АДКРЫТЫМ НЕБАМ**. Гл. небам.

*АДКРЫТЫМІ* • **З АДКРЫТЫМІ ВАЧАМІ**. Гл. вачамі.

*АДКРЫТЫХ* • *Дзень* **АДКРЫТЫХ ДЗВЯРЭЙ**. Гл. дзвярэй.

*АДКРЫЦЦЁ* • **АДКРЫЦЦЁ АМЕ́РЫКІ**. *Часцей вык. Разм. Часцей іран.* Вынаходніцтва, выяўленне чаго-н. новага. *А што тычыцца імперскай мовы, то і гэтае сцвярджэнне не адкрыццё Амерыкі...* «Нар. газ.»

*АДКРЫЦЬ* • **АДКРЫЦЬ АМЕРЫКУ**. *Зак. да* **АДКРЫВАЦЬ АМЕРЫКУ**.

**АДКРЫЦЬ ВОЧЫ** *каму <на каго, на што>. Зак. да* **АДКРЫВАЦЬ ВОЧЫ** *каму <на каго, на што>.*

**АДКРЫЦЬ ДАРОГУ** *каму куды. Зак. да* **АДКРЫВАЦЬ ДАРОГУ** *каму куды.*

**АДКРЫЦЬ ДЗВЕРЫ** *каму, чаму куды.* Гл. адчыняць.

**АДКРЫЦЬ НОВУЮ СТАРОНКУ** *ў чым. Зак. да* **АДКРЫВАЦЬ НОВУЮ СТАРОНКУ** *ў чым.*

**АДКРЫЦЬ РОТ**. *Зак. да* **АДКРЫВАЦЬ РОТ**.

**АДКРЫЦЬ <СВАЕ> КАРТЫ** *каму. Зак. да* **АДКРЫВАЦЬ <СВАЕ> КАРТЫ** *каму.*

**АДКРЫЦЬ <СВАЁ> СЭРЦА** *каму, перад кім. Зак. да* **АДКРЫВАЦЬ <СВАЁ> СЭРЦА** *каму, перад кім.*

**АДКРЫЦЬ <СВАЮ> ДУШУ** *каму, перад кім. Зак. да* **АДКРЫВАЦЬ<СВАЮ> ДУШУ** *каму, перад кім.*

**АДКРЫ́ЦЬ СВЕ́Т** *каму. Зак. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Даць радасць, шчасце, задавальненне. *[Дзед Цыбулька:] Спрадвеку мужык пад каўпаком жыў... А тут і радыё, і кіно, і [тэле]візар, і экскурсіі розныя такі свет адкрылі, што...* Макаёнак. *Дзякуем вам, мілыя сёстры, што свет нам адкрылі!..* Карпюк.

*АДКУЛЬ* • *Ведаць* і пад. **АДКУЛЬ ВЕЦЕР ДЗЬМЕ**. Гл. вецер.

**АДКУЛЬ НІ ВАЗЬМІСЯ**. Гл. вазьміся.

*Ведаць, вясвятляць* і пад. **АДКУЛЬ НОГІ РАСТУЦЬ**. Гл. ногі.

**ПАКАЗАЦЬ АДКУЛЬ НОГІ РАСТУЦЬ** *каму*. Гл. паказаць.

*АДЛЕГЛАСЦІ* • **ТРЫМАЦЦА НА АДЛЕГЛАСЦІ** *ад каго, з кім.* Гл. трымацца.

**ТРЫМАЦЬ НА АДЛЕГЛАСЦІ** *каго.* Гл. трымаць.

*АДЛЕЖВАЦЬ* • **АДЛЕ́ЖВАЦЬ БАКІ́**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Спаць. *[Даміцэля:] Трахім! Уставай! Годзе табе адлежваць бакі!* Купала. *Я б на тваім месцы, Любка, будзіла твайго пустадомка Грышку на золку, хай не адлежвае ўлетку бакі, а наладзіць касу [ды] з расой укосіць трохі...* І.Капыловіч.

**2**. Гультаяваць, пазбягаць працы. **Сін**.: абіваць бакі (у 2 знач.); акалочваць грушы з вербаў; біць байды; біць бібікі; біць лынды (у 1 знач.); біць тылылы; брынды біць; валяць дурня (у 2 знач.); вераб'ям дулі паказваць; ганяць сабак *<па чым>*; корчыць гультая; лічыць варон (у 2 знач.); ляжаць на баку; пляваць у столь; сабакам сена касіць (у 1 знач.); сачка давіць. *Такі здаравяка, а цэлымі днямі адлежвае бакі на гэтай станцыі... Ды яму лом трэба ў рукі даць, молат...* Радкевіч. *Добры дзень, Алесь. Чаго бакі адлежваеш? Кажуць, каласавікі пасля дажджу з'явіліся. Хадзем пашукаем.* Шамякін.

*АДЛЕЖЫЦЬ* • **НЕ АДЛЕ́ЖЫЦЬ МЕ́СЦА**. *Зак. Толькі ў форме 3-й ас. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Ніколькі не зашкодзіць (наяўнасць чаго-н.). — *Што? Падабедак табе, — як бы раўнадушна адказвае Караліна. — Не адлежыць месца. Пры тваёй рабоце як бач прагаладаешся. От тады і падсілкуешся...* Вышынскі.

*АДЛІЛА* • **КРОЎ АДЛІЛА АД ТВАРУ** *чыйго, у каго.* Гл. кроў.

*АДЛІЦЬ* • **АД ЯЙКА (АД ЯЙЦА́) АДЛІ́ЦЬ.** *Зак. Разм. Асудж.-іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Неверагодна спрытна ўкрасці, прысвоіць чужое нават тады, калі гэта здаецца немагчымым. **Сін.**: з-пад сучкі яйцо ўкрадзе; падшыты лісіцай. *[У Кацярыны] кватэра свая і, як ні кажы, не першы год доіць буфет. Па ўсім відаць, што ўмее ад яйка адліць...* Гроднеў. *[Хадыка:] Я — шкурнік? [Першы баначнік:] А то не! Ты і ад яйка адальеш!* Кобец. *Ніхто ў сям'і не разумее, чаму спалохаўся Варывончык. Той Варывончык, пра якога гаварылі, што ад яйка адалье...* «Полымя». *— Гэта ж такі обер-злодзей, што яго і з навучаным сабакам не ўпільнуеш! — захвалявалася старая... — Ён табе на тваіх вачах ад яйка адалье...* Шлег.

*АДЛУП* • **ДАВАЦЬ АДЛУП** *каму.* Гл. даваць.

*АДЛУПЦАВАЦЬ* • **АДЛУПЦАВАЦЬ САМОГА СЯБЕ.** Гл. высцебаць.

*АДЛЯГЛО* • **АДЛЯГЛО́ АД СЭ́РЦА (АД ДУШЫ́)** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. адчуў палёгку, супакой, каму-н. стала лягчэй. **Сін.**: адлягло на душы *ў каго*; як камень з плячэй зваліўся *ў каго*; як камень з сэрца зваліўся *ў каго*; <як> гара з плеч <звалілася> *у каго. Адлягло ад сэрца ў напалоханага натоўпу — каровы былі, здаецца, усе.* Мурашка. *У Цітка адлягло ад сэрца... Ён счакаў хвіліну, каб людзі ад'ехалі трохі, і выткнуўся.* Лобан. *Дзядзька ўставіў крыж у камень, заліў яго цэментам. Толькі тады ў мяне адлягло ад душы.* Карпюк.

**АДЛЯГЛО́ НА ДУШЫ́ (НА СЭ́РЦЫ)** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. адчуў палёгку, каму-н. стала лягчэй. **Сін.**: адлягло ад сэрца *ў каго*; <як> гара з плеч <звалілася> *у каго*; як камень з плячэй зваліўся *ў каго*; як камень з сэрца зваліўся *ў каго. Не, я не ўпушчу свайго шчасця! Ад гэтай думкі ў мяне адлягло на душы, і нават быў павесялеў.* Адамчык. *Ён зусім не злаваўся, і ў Зоські адлягло на душы — усё ж ён малайчына, гэты Антон Галубін.* Быкаў. *Калі поезд спыніўся і ў натоўпе.. [маці] згледзела Андрэя, на сэрцы адлягло.* Кузьмянкоў.

*АДМАХВАЦЦА* • **АДМА́ХВАЦЦА РУКА́МІ І НАГА́МІ** *ад чаго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рашуча, наадрэз адмаўляцца ад чаго-н., усімі сіламі супраціўляцца чаму-н. **Сін.**: адбівацца рукамі і нагамі *ад чаго. Ад напісання артыкулаў [Макаёнак] адмахваўся рукамі і нагамі.* Шамякін. **АДМАХНУЦЦА РУКАМІ І НАГАМІ** *ад чаго. Зак. Калі пачалі выбіраць дэлегацыю ў саўгас і выставілі яго кандыдатуру, ён [Кархажакевіч] адмахнуўся рукамі і нагамі, сказаўшы, што тут усе карты ў рукі беднаце, няхай яна сама для сябе стараецца.* Крапіва.

*АДМАХНУЦЦА* • **АДМАХНУЦЦА РУКАМІ І НАГАМІ** *ад чаго. Зак. да* **АДМАХВАЦЦА РУКАМІ І НАГАМІ** *ад чаго.*

*АДМОВІШ* • **НЕ АДМО́ВІШ** *каму ў чым. У безас. ужыв. Разм. Адабр. і неадабр.* Каму-н. уласціва якая-н. якасць. **Сін.**: не адбярэш *у каго, ад каго чаго. — Аднак, дзед, ты вострыя на язык, у гэтым табе не адмовіш... — праказаў Цайт, каб неяк змякчыць дзеда ліслівасцю.* Лынькоў. *Яму [Біліду] не адмовіш у энергічнасці і мэтанакіраванасці. Паслухаць яго — на кожны выпадак жыцця прывядзе нарматыўны акт.* «Звязда».

*АДМЫКАЦЬ* • **АДМЫКА́ЦЬ АДАМКНЁНЫЯ ДЗВЕ́РЫ.** *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Настойліва даказваць, сцвярджаць тое, што даўно ўсім вядома і не выклікае пярэчанняў. **Сін.**: ламацца ў адчыненыя дзверы. *— А ты сам падумаў, што гэта значыць. — Нашто думаць. Тут няма чаго і думаць — нашто адмыкаць адамкнёныя дзверы...* Чорны.

*АДНА* • **АДНА НАГА ТУТ ДРУГАЯ ТАМ**. Гл. нага.
**АДНА НАЗВА ЗАСТАЛАСЯ** *ад чаго*. Гл. званне.
**АДНА РУКА** <*з кім*>. Гл. рука.
**<АДНА> СКУРА ДЫ КОСЦІ**. Гл. скура.
**<АДНА> СКУРА ДЫ КОСЦІ ЗАСТАЛІСЯ** *на кім, у каго, ад каго*. Гл. скура.
**АДНА <ТОЛЬКІ> НАЗВА**. Гл. назва.
**АДНА ТРАСЦА** <*каму*>. Гл. трасца.
**АДНА ХАЛЕРА**. Гл. халера.
**АДНА ШАЙКА-ЛЕЙКА**. Гл. шайка.
**ТЫСЯЧА І АДНА НОЧ**. Гл. тысяча.
**ЯК АДНА МІНУТА**. Гл. мінута.

*АДНАГО* • **АДЗІН ДА АДНАГО**. Гл. адзін.
**АДНАГО КРОЮ**. Гл. крою.
**АДНАГО ПОЛЯ ЯГАДА**. Гл. ягада.
**АДНАГО ПТУШЫНАГА МАЛАКА НЯМА** *ў каго, дзе*. Гл. няма.
**АДНО ДА АДНАГО**. Гл. адно.
*Усе* **ДА АДНАГО́**. *Акал. Разм.* (Усе) без выключэння, поўнасцю; абсалютна (усе). **Сін.**: ад мала да вяліка; ад малога да вялікага; да апошняга (у 3 знач.); усе да душы; як адзін (у 1 знач.); як адзін чалавек. *Скажу, не бойся. Нешта ты сёння размахаўся надта... Усіх да аднаго грызеш...* Пташнікаў. *Некалькі разоў спрабаваў «выцягнуць» з Грудзінскага прыклад перавыхавання «цяжкіх» падлеткаў. Нарэшце ён сказаў: — Успомніў усіх да аднаго: не было ў нас такіх. Слова гонару, іх няма...* «Звязда». *Сёння на поле выйшлі ўсе да аднаго.* Прыгодзіч.
**ДА АДНАГО МЕСЦА** *каму*. Гл. месца.
**ДВА БАКІ АДНАГО МЕДАЛЯ**. Гл. бакі.
**<З> АДНАГО БАЛОТА ЧЭРЦІ**. Гл. чэрці.
**З АДНАГО БОКУ**. Гл. боку.
**З АДНАГО МАХУ**. Гл. маху.
**З АДНАГО ЦЕСТА <СПЕЧАНЫ>**. Гл. спечаны.

*АДНАМУ* • **АДНАМУ АЛАХУ ВЯДОМА**. Гл. вядома.
**АДНАМУ БОГУ ВЯДОМА**. Гл. вядома.
**БОГ СЕМЯРЫМ НЁС ДЫ АДНАМУ ДАСТАЎСЯ**. Гл. бог.
**НА ДВАІХ РОС, АДНАМУ ДАСТАЎСЯ**. Гл. рос.

*АДНЕСЦІ* • **АДНЕСЦІ ПІРАГІ** *каму. Зак. да* **АДНОСІЦЬ ПІРАГІ** *каму.*

*АДНО* • **АДНО́ ДА АДНАГО́**. *Акал. Разм.* Заадно ўжо. Часцей пра якія-н. непрыемнасці, што ідуць адна за адной. *Прычын многа, і якая важнейшая, цяжка нават сказаць. Усе адно да аднаго.* Дамашэвіч. *Другі год [дык] мы ўжо, лічы, канчалі такімі чысламі. А тут, як наўмысля.. адно да аднаго.* Чыгрынаў.
**АДНО ДЗЯРЖЫСЯ**! Гл. дзяржыся.
**АДНО ЗВАННЕ ЗАСТАЛОСЯ** *ад чаго*. Гл. званне.
**АДНО ЛІХА**. Гл. ліха.
**АДНО́ НА АДНО́ (НА ДРУГО́Е)** *выходзіць, выйдзе, атрымаецца* і пад. *Акал. Разм.* Амаль аднолькавае, без прыкметнага выйгрышу, перавагі ў чым-н. **Сін.**: так на так (у 2 знач.). — *Лесу мы вашага не чапаем, гэта вы дарэмна. — Дарэмна? Кажаш, дарэмна? А калі злаўлю, а? Вось яно адно на адно і выйдзе.* Галавач. *Сяргей на гэта адказаў бы про-*

*ста: у адным месцы прайграюць вучні, дык у другім месцы выйграюць — адно на другое і выйдзе.* Шахавец.

**АДНО СЛОВА**. Гл. слова.
**НА АДНО ВОКА**. Гл. вока.
**НА АДНО ІМГНЕННЕ ВОКА**. Гл. імгненне.
**НА АДНО СЛОВА**. Гл. слова.
**У АДНО ВУХА ЎЛЯТАЕ, А Ў ДРУГОЕ ВЫЛЯТАЕ** *<у каго, каму>*. Гл. улятае.
**У <АДНО> СЛОВА**. Гл. слова.
**УСЁ АДНО**. Гл. усё.
**УСЁ АДНО ЯК**. Гл. усё.

*АДНОЙ* • **АДНОЙ ВЯРОВАЧКАЙ ЗВЯЗАНЫ** *з кім*. Гл. звязаны.
**АДНОЙ НАГОЙ СТАЯЦЬ** *у чым, на чым*. Гл. стаяць.
**АДНОЙ НАГОЙ СТАЯЦЬ У МАГІЛЕ**. Гл. стаяць.
**АДНОЙ РУКОЙ** *валіць* і пад. Гл. рукой.
**ДВА КАНЦЫ АДНОЙ ПАЛКІ**. Гл. канцы.
**МЕРАЦЬ АДНОЙ МЕРКАЙ** *каго, што*. Гл. мераць.
**НА АДНОЙ НАЗЕ**. Гл. назе.
**НІ <АДНОЙ> ДУШЫ**. Гл. душы.
**ПАД АДНОЙ СТРАХОЙ**. Гл. дахам.
**СТАЯЦЬ НА АДНОЙ ДОШЦЫ** *з кім, з чым*. Гл. стаяць.
**У АДНОЙ МЕРЫ**. Гл. меры.
**ХАДЗІЦЬ ПА АДНОЙ МАСНІЧЫНЕ** *ў каго*. Гл. хадзіць.

*АДНОСІЦЬ* • **АДНОСІЦЬ ПІРАГІ** *каму*. Гл. адпякаць.

*АДНУ* • **БІЦЬ У АДНУ КРОПКУ**. Гл. біць.
**ВАЛІЦЦА Ў АДНУ КУЧУ**. Гл. валіцца.
**ВАЛІЦЬ У АДНУ КУЧУ** *каго, што*. Гл. валіць.
**ЗА АДНУ ШЧАКУ**. Гл. шчаку.
**ЗАЙГРАЦЬ У АДНУ ДУДКУ** *з кім*. Гл. зайграць.
**ІГРАЦЬ У АДНУ ДУДКУ** *з кім*. Гл. іграць.
**МЕРАЦЬ НА АДНУ МЕРКУ** *каго, што*. Гл. мераць.
**НА <АДНУ> МІНУТУ**. Гл. мінуту.
**НА АДНУ НАГУ**. Гл. нагу.
**НА <АДНУ> СЕКУНДУ**. Гл. секунду.
**НІ НА <АДНУ> МІНУТУ**. Гл. мінуту.
**СТАВІЦЬ НА АДНУ ДОШКУ** *каго з кім, што з чым, каго і каго, што і што*. Гл. ставіць.
**У <АДНУ> МІНУТУ**. Гл. мінуту.
**У АДНУ РУКУ** з *кім*. Гл. руку.
**У АДНУ СТОЛКУ**. Гл. столку.

*АДНЫ* • **АДНЫ СЛЁЗЫ**. Гл. слёзы.
**АДНЫ ЎСПАМІНЫ ЗАСТАЛІСЯ** *ад каго, ад чаго*. Гл. успаміны.
**ГУЛЬНЯ Ў АДНЫ ВАРОТЫ**. Гл. гульня.
**ГУЛЯЦЬ У АДНЫ ВАРОТЫ**. Гл. гуляць.
**<ТОЛЬКІ> АДНЫ ВОЧЫ ЗАСТАЛІСЯ** *ў каго*. Гл. вочы.
**У АДНЫ РУКІ**. Гл. рукі.

*АДНЫМ* • **АДЗІН НА АДНЫМ**. Гл. адзін.

**АДЗІН ПАД АДНЫМ**. Гл. адзін.
**АДЗІН ПРЫ АДНЫМ**. Гл. адзін.
**АДНЫМ ВОКАМ**. Гл. вокам.
*Спаць* **АДНЫМ ВОКАМ**. Гл. вокам.
*Хоць* **АДНЫМ ВОКАМ**. Гл. вокам.
**АДНЫМ ВУХАМ**. Гл. вухам.
*Жыць* **АДНЫМ ДНЁМ**. Гл. днём.
**АДНЫМ ДУХАМ**. Гл. духам.
**АДНЫМ ЛЫКАМ ШЫТЫЯ**. Гл. шытыя.
**АДНЫМ МАХАМ**. Гл. махам.
**АДНЫМ МАХАМ СЕМЯРЫХ МУХ ЗАБІЯХАМ**. Гл. забіяхам.
**АДНЫМ МІРАМ МАЗАНЫ**. Гл. мазаны.
**АДНЫМ РОСЧЫРКАМ ПЯРА**. Гл. росчыркам.
**АДНЫМ СЛОВАМ**[1]. Гл. словам.
**АДНЫМ СЛОВАМ**[2]. Гл. словам.
**<АДНЫМ СТРЭЛАМ> ЗАБІВАЦЬ ДВУХ ЗАЙЦАЎ**. Гл. забіваць.
**АДНЫМ ШВОМ**. Гл. швом.
**ЗА АДНЫМ ЗАХОДАМ**. Гл. заходам.
**ЗА АДНЫМ МАХАМ**. Гл. махам.
**ЗА АДНЫМ РАЗАМ**. Гл. разам.
**ЗА АДНЫМ СКРЫПАМ**. Гл. скрыпам.
**ЗА АДНЫМ ШВОМ**. Гл. швом.
**ЗІМОЙ І ЛЕТАМ АДНЫМ ЦВЕТАМ**. Гл. цветам.
**НА АДНЫМ ДЫХАННІ**. Гл. дыханні.
**НІ Ў АДНЫМ ВОКУ**. Гл. воку.
*Сну* **НІ Ў АДНЫМ ВОКУ**. Гл. воку.
**ПАД АДНЫМ ДАХАМ**. Гл. дахам.
**СТАЯЦЬ НА АДНЫМ**. Гл. стаяць.
**СТАЯЦЬ НА АДНЫМ МЕСЦЫ**. Гл. стаяць.
**ТАПТАЦЦА НА < АДНЫМ > МЕСЦЫ**. Гл. таптацца.
**ХОЦЬ БЫ Ў АДНЫМ ВОКУ** *ў каго.* Гл. воку.

*АДНЫХ* • **У АДНЫХ РУКАХ**. Гл. руках.

*АДНЯЎСЯ* • **ЯЗЫК АДНЯЎСЯ** *ў каго.* Гл. язык.

*АДПІЦЬ* • **АДПІ́ЦЬ МАЗГІ́**. *Зак. Праст. Асудж.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У выніку п'янства страціць здольнасць нармальна паводзіць сябе. *Цяпер кожны з іх з той жа згодай меркаваў і гадаў, чаму ж ён памёр: — Дзеўка тая яго і змучыла. Давяла да магілы. — Ад гарэлкі сканаў. Адпіў мазгі.* Казько. *Ты, бацька, часам хоць і вып'еш, але ні сям'і, ні работы не цураешся, а маё гора [муж]... Зусім мазгі адпіў. Яго ўжо нідзе на работу не бяруць.* І.Капыловіч. — *Што ты робіш, старая порхаўка... Ужо зусім мазгі адпіў... — Лявон ухапіў Гаўрыленку за чупрыну і адцягнуў яго ад жанчыны.* Я.Галубовіч.

*АДПЛАЦІЦЬ* • **АДПЛАЦІЦЬ ТОЙ ЖА МАНЕТАЙ** *каму. Зак. да* **ПЛАЦІЦЬ ТОЙ ЖА МАНЕТАЙ** *каму.*

*АДПЛАЧВАЦЬ* • **АДПЛАЧВАЦЬ ТОЙ ЖА МАНЕТАЙ** *каму.* Гл. плаціць.

*АДПЛЮШЧВАЦЬ* • **АДПЛЮ́ШЧВАЦЬ ВО́ЧЫ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Вызваляючыся ад памылковых поглядаў, пазнаваць сап-

раўдны сэнс чаго-н. **АДПЛЮШЧЫЦЬ ВОЧЫ**. *Зак. Ցцеханешся, вочы адплюшчыш, падумаеш міжволі: «Няўжо і праўда ўсё гэта было, перажыў, перабачыў ты гэта?»* Сачанка.

*АДПРАВІЦЦА* • **АДПРАВІЦЦА ДА АБРАМА НА ПІВА**. *Зак. да* **АДПРАЎЛЯЦЦА ДА АБРАМА НА ПІВА**.

**АДПРАВІЦЦА НА ТОЙ СВЕТ** *каго. Зак. да* **АДПРАЎЛЯЦЦА НА ТОЙ СВЕТ** *каго.*

*АДПРАВІЦЬ* • **АДПРАВІЦЬ НА ТОЙ СВЕТ** *каго. Зак. да* **АДПРАЎЛЯЦЬ НА ТОЙ СВЕТ** *каго.*

**АДПРАВІЦЬ У ШТАБ ДУХОНІНА** *каго. Зак. да* **АДПРАЎЛЯЦЬ У ШТАБ ДУХОНІНА**.

*АДПРАЎЛЯЦЦА* • **АДПРАЎЛЯ́ЦЦА (ІСЦІ́, Е́ХАЦЬ) ДА АБРА́МА (ДА АБРАГА́МА) НА ПІ́ВА**. *Незак. Разм. Жарт.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паміраць. **Сін.**: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца на той свет; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць на той свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць у іншы свет; адыходзіць (ісці) у лепшы свет; ажаніцца з <сырою> зямлёй; выпростваць ногі; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць *<каму>* (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага *збірацца*; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); канькі адкідаць; лажыцца ў магілу; на паповы сані *збірацца*; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. **АДПРАВІЦЦА (ПАЙСЦІ, ПАЕХАЦЬ) ДА АБРАМА (ДА АБРАГАМА) НА ПІВА**. *Зак. Лёгка, Сцяпанавіч, выдумляць, калі я цудам не адправіўся да Абрама на піва...* Масарэнка. *Сягоння еду ў Мінск і думаю пабываць у доктара, а то ўжо пачынаю баяцца, каб не пайсці да Абрагама на піва.* Купала. *Сёмка Халімона Бурага на вечарынцы гэтак галаву пабіў, што праз тры дні паехаў да Абрама на піва.* Бядуля.

**АДПРАЎЛЯ́ЦЦА (ІСЦІ́) НА ТО́Й СВЕ́Т**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паміраць. **Сін.**: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць на той свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць у іншы свет; адыходзіць (ісці) у лепшы свет; ажаніцца з <сырою> зямлёй; выпростваць ногі; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць *<каму>* (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага *збірацца*; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); канькі адкідаць; лажыцца ў магілу; на паповы сані *збірацца*; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. *[Ганна] нібы не замуж ідзе, а адпраўляецца на той свет...* Шкраба. *Бацькі стагналі ўчора, [і]шлі на той свет без пары.* Купала. **АДПРАВІЦЦА (ПАЙСЦІ) НА ТОЙ СВЕТ**. *Зак. Бяда не ходзіць адна. Услед за дзедам, мо праз год, адправіўся на той свет і Міхасёў бацька.* І.Капыловіч. *З імі [анархістамі] пайшло на той свет і трое левых эсэраў, Гаўрылавых сяброў па партыі.* Дайнека.

*АДПРАЎЛЯЦЬ* • **АДПРАЎЛЯ́ЦЬ (ПАСЫЛА́ЦЬ) НА ТО́Й СВЕ́Т** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Забіваць, знішчаць, даводзіць да смерці. **Сін.**: адар-

ваць галаву *каму* (у 1 знач.); адкруціць галаву *каму* (у 1 знач.); адпраўляць у магілёўскую губерню *каго*; вымаць душу *з каго, каму* (у 2 знач.); вымотваць жылы (у 3 знач.); вымотваць кішкі (у 2 знач.); выпусціць дух (у 3 знач.); выпусціць кішкі <*каму*>; вытрасці душу *з каго, каму* (у 2 знач.); гнаць у магілу *каго*; заганяць на той свет *каго*; зводзіць са свету *каго* (у 1 знач.); зводзіць у магілу *каго*; звярнуць галаву *каму*; зжываць са свету *каго*; знімаць галаву *каму* (у 1 знач.); прыбіраць з дарогі *каго*; скруціць вязы *каму*; скруціць шыю *каму*. *Тых, хто ахоўніку не падабаўся, ён адпраўляў на той свет адным стрэлам у патыліцу.* «Вожык». **АДПРАВІЦЬ (ПАСЛАЦЬ) НА ТОЙ СВЕТ** *каго. Зак. [Ракітны:] Але такога, каб урач наўмысна, па злосці адправіў на той свет хворага, я яшчэ не чуў.* Крапіва. *Ахоўнікі казалі, быццам іх збіраюцца вывезці ў Германію, але гэта хлусня, усіх тут нішчылі голадам і хваробамі. Не злічыць, колькі тут адправілі на той свет.* Мележ. — *Здорава мы папрацавалі — вырвалася ў Якубоўскага. — Двух фашысцкіх генералаў на той свет адправілі.* «Полымя». *Скончылася бойка тым, што Панцялей Казёл паслаў на той свет мужыка з Малога Хоцімска.* Чыгрынаў.

**АДПРАЎЛЯ́ЦЬ У МАГІЛЁЎСКУЮ ГУБЕ́РНЮ** *каго. Незак. Устар. Прост.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Забіваць, знішчаць. **Сін.**: адарваць галаву *каму* (у 1 знач.); адкруціць галаву *каму* (у 1 знач.); адпраўляць на той свет *каго*; вымаць душу *з каго, каму* (у 2 знач.); вымотваць жылы (у 3 знач.); вымотваць кішкі (у 2 знач.); выпусціць дух (у 3 знач.); выпусціць кішкі <*каму*>; вытрасці душу *з каго, каму* (у 2 знач.); гнаць у магілу *каго*; заганяць на той свет *каго*; зводзіць са свету *каго* (у 1 знач.); зводзіць у магілу *каго*; звярнуць галаву *каму*; зжываць са свету *каго*; знімаць галаву *каму* (у 1 знач.); прыбіраць з дарогі *каго*; скруціць вязы *каму*; скруціць шыю *каму*. **АДПРАВІЦЬ У МАГІЛЁЎСКУЮ ГУБЕРНЮ** *каго. Зак. Невядома, што чакае наперадзе. Завядуць у цёмны двор, паставяць тварам да сцяны і адправяць у Магілёўскую губерню.* Дайнека.

**АДПРАЎЛЯ́ЦЬ У ШТА́Б ДУХО́НІНА** *каго. Незак. Устар. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Расстрэльваць. **Сін.**: выводзіць у расход *каго*; пускаць да бога *каго*; пускаць кулю ў лоб *каму*; пускаць на той свет *каго*; пускаць у царства нябеснае *каго*; ставіць да сценкі *каго*. **АДПРАВІЦЬ У ШТАБ ДУХОНІНА** *каго. Зак. — А як вы ставіцеся да Дзянікіна, Каледзіна?.. — Таксама, як і да Карнілава і Краснова. Вылюдкі!.. Усіх іх трэба было адправіць у штаб Духоніна.* Гурскі. *[Следчы:] Раскажыце, хто вас зацягнуў у гэтае балота? За гэта сурова караць вас не будуць, дадуць гады тры, і ўсё. А інакш вас могуць у штаб Духоніна адправіць. Зразумелі?* Пруднікаў.

*АДПУСКАЦЬ* • **АДПУСКА́ЦЬ ГА́ЙКІ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Паслабляць патрабаванні да каго-н., рабіць іх менш строгімі. **Сін.**: адпускаць лейцы. **Ант.**: закручваць гайкі *каму*; падкручваць гайкі *каму*. — *Горай, думаеш, не будзе? — Горай быць не можа, — сказаў граф. — Хаця б таму, што кожнае новае цараванне спачатку на некалькі год адпускае гайкі, зарабляе сабе добрае імя.* Караткевіч. **АДПУСЦІЦЬ ГАЙКІ**. *Зак. [Садовіч:] Нацягне, разумееш, які-небудзь смаркач штаны-дудачкі, распусціць патлы да самых плячэй і пачынае крытыканстваваць! І тое яму не так, і гэтае яму не тое! Адпусцілі гайкі, вось і развінціліся.* Васілеўскі.

**АДПУСКА́ЦЬ (ПАПУСКА́ЦЬ) ЛЕ́ЙЦЫ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Змяншаць кантроль, паслабляць увагу, пільнасць, патрабаванні да каго-н. **Сін.**: адпускаць гайкі. **Ант.**: закручваць гайкі *каму*; падкручваць гайкі *каму*. *Маладым цяпер вальней, чым некалі было. Зусім вальней. Яно і добра. Але тым часам і бацькі, я б сказаў, не павінны лейцы адпускаць.* Ермаловіч. *Іван не хоча ніякага павышэння: бескарыслівы чалавек, за гэта нельга не паважаць. Але лейцы адпускаць нель-*

*га.* Шамякін. **АДПУСЦІЦЬ (ПАПУСЦІЦЬ) ЛЕЙЦЫ**. *Зак. Можа быць, маці ў чымсьці і мае рацыю — лейцы ён [бацька] папусціў.* Гіль.

*АДПУСЦІ* • **АДПУСЦІ́ (-ЦЕ) ДУШУ́ НА ПАКАЯННЕ**. *Зак. Толькі ў 2-й ас. адз. і мн. Устар. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пашкадуй, злітуйся. *[Карнейчык:] Ну, брат! Шчасце тваё, што ты мой друг, а так не ведаю, што з табой зрабіў бы. [Лютынскі:] Адпусці душу на пакаянне. І Наркамзем сіратою не пакінь.* Крапіва.

*АДПУСЦІЦЬ* • **АДПУСЦІЦЬ ГАЙКІ**. *Зак. да* **АДПУСКАЦЬ ГА́ЙКІ**.

**АДПУСЦІЦЬ ЛЕЙЦЫ**. *Зак. да* **АДПУСКАЦЬ ЛЕЙЦЫ**.

*АДПУШЧЭННЯ* • **КАЗЁЛ АДПУШЧЭННЯ**. Гл. казёл.

*АДПЯКАЦЬ* • **АДПЯКА́ЦЬ (АДНО́СІЦЬ) ПІРАГІ́** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Жорстка помсціць. **Сін.**: даваць адлуп *каму*; даваць здачы *каму*; зводзіць рахункі *з кім*. **АДПЯЧЫ (АДНЕСЦІ) ПІРАГІ** *каму. Зак. [У Блышынскага] яшчэ цеплілася надзея, а раптам сёння падвернецца нейкі зручны выпадак, авось яму ўсміхнецца ўдача, і тады ён усё ж адпячэ пірагі свайму заклятаму ворагу...* Дайліда. *[Галоўны бухгалтар:] Скампраметавана бухгалтэрыя. І гэтыя пяцьсот рублёў... Зачэпка ёсць фармальная, каб аднесці мне пірагі. Нехта і адносіць.* А.Жук.

*АДПЯКУЦЦА* • **АДПЯКУЦЦА ПІРАГІ** *каму.* Гл. пірагі.

*АДПЯЧЫ* • **АДПЯЧЫ ПІРАГІ** *каму. Зак. да* **АДПЯКАЦЬ ПІРАГІ** *каму.*

*АДРАБЛЯЦЬ* • **АДРАБЛЯ́ЦЬ ШАРВА́РКУ (-І)**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Марудліва, абыякава, без старання рабіць якую-н. справу. **Сін.**: цягнуць валынку (у 2 знач.); цягнуць каніцель (у 2 знач.); цягнуць ката за хвост (у 2 знач.); цягнуць рызіну (у 2 знач.). *Прыгадаўся тут, на лясной дарозе, наступны дзядулеў урок, на якім давучваў працаваць (не шарварку адрабляць!).* Янкоўскі. *Пяе [артыстка] — усё адно як на ўзгароду вешае... Як тыя шарваркі адрабляе... Як цераз пень калоду тралюе...* Гілевіч. *Каламыйка грае далей, грае доўга і нудна, слухачы пасалавелі і спяць, раты разявіўшы, а прачнуцца — і далей адрабляюць шарварку...* Чобат.

*АДРАС* • **НА А́ДРАС** *чый, каго. Акал. Функц. не зам.* У адносінах да каго-н., адносна каго-н. (гаварыць, выказвацца, прымаць і пад.). **Сін.**: на рахунак *чый*; па адрасу *каго, чыйму*; у адрас *чый, каго. Пракоп сумеўся, падумаў, што Кіра прыняла яго словы на свой адрас, і засмяяўся: — Я аднаго хачу, каб усе былі, як ты. Каб высока неслі сябе, разумныя былі.* Карпаў.

**У А́ДРАС** *чый, каго. Акал. Функц. не зам.* У адносінах да каго-н., адносна каго-н. (гаварыцца, выконвацца і пад.). **Сін.**: на адрас *чый, каго*; на рахунак *чый*, па адрасу *каго, чыйму. [Бабейка] пазбягаў сустрэч* з *нампалітам адзін на адзін і не прапускаў выпадку на якой-небудзь нарадзе пусціць у яго адрас шпільку.* Хадкевіч. *«Вось табе і страва...» — сказаў я сабе і дадаў у адрас настаўніка нешта такое, ад чаго яму абавязкова павінна было ікнуцца.* Васілёнак. *Я ведаю: некаторым таварышам маё выступленне здалося занадта смелым, таму і была ў мой адрас кінута рэпліка: хто, маўляў, я такая?* Кобец-Філімонава.

*АДРАСУ* • **НЕ ПА А́ДРАСУ**. *Акал. Разм.* Не туды, куды трэба; не да таго, да каго трэба (заходзіць, звяртацца і пад.). *[Жлукта:] Я ж не гаспадарнік. Вы не па адрасу звяртаецеся, я творчы работнік.* Крапіва. *Ігнатовічу даўно пачало здавацца, што той знарок лезе на яго «дарожку» — звоніць часцей, чым трэба. Не па адрасу.* Шамякін. *[Вера Карпаўна:] Не, не, лічыце, што размова скончана. Вы не па адрасу прыйшлі, відаць.* Гілевіч.

**ПА А́ДРАСУ** *каго, чыйму. Акал. Функц. не зам.* У адносінах да каго-н., адносна каго-н. (гаварыць, выказвацца і пад.). **Сін.**: на адрас чый, *каго*; на рахунак *чый*; у адрас *чый, каго. З іх гаворкі чулася Шклярскаму.. усмешка нейкая па яго адрасу.* Галавач. *— Цішэй ты, разбудзіш. Ты спаў, а яна вось пільнавала тут нас усю ноч. — Словы гэтыя, відаць, былі сказаны па адрасу жанчыны.* Лынькоў. *І чым часцей чуецца смех па адрасу Гарлахвацкага, тым менш небяспечнай робіцца яго «дзейнасць», тым бліжэй яго правал.* Шкраба.

*АДРОС* • **АД ЗЯМЛІ́ НЕ АДРО́С (-ЛА́, -ЛІ́)**. *Вык. і азн. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі нізкага росту; малы. **Сін.**: ад гаршка паўвяршка; аршын з шапкай; жабе па калена; з вузел; кату па пяту; пад стол пяшком ходзіць. **Ант.**: з каломенскую вярсту; хоць <ты> сабак вешай *на кім. На дыбкі становішся?.. Рана. Ад зямлі яшчэ не адрос.* Калодзежны. *— А што, паночку, бачылі? — кінуў услед Даніку Палуян... — Ад зямлі яшчэ не адрос, а ўжо, глядзіце, бальшавік!..* Брыль.

*АДРЫВАЕ* • **НА ХАДУ́ ПАДНО́СКІ (ПАДЭ́ШВЫ) АДРЫВА́Е (-ЮЦЬ, -Ў, -ЛА, -ЛІ)**. *Вык. і азн. Разм. Адабр. і неадабр.* Ужыв. пры наз. са знач. асобы. Вельмі знаходлівы, спрытны, лоўкі ў сваіх учынках, справах і пад. *[Рыгор] пайшоў да хлопцаў.., адчуваючы міжволі павагу да сына: «На хаду падноскі адрывае. От бы яму на агранома вывучыцца»...* Міська. *Сярод тых хлопцаў былі хваты — адрывалі падэшвы на хаду.* Навуменка. *І ён што захоча ў гэтай арцелі, тое і робіць. Мужык багаты і хітры — на хаду падноскі адарве.* Машара.

*АДРЫВАЦЬ* • **НЕ АДРЫВА́ЦЬ (НЕ АДВО́ДЗІЦЬ) ВАЧЭ́Й** *ад каго, ад чаго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** *Адабр.* Не пераставаць з замілаваннем глядзець на каго-, што-н. *Лабановіч глянуў ёй у вочы, у гэтыя акруглыя цёмныя і такія слаўныя, выразныя вочы... Здаецца, ніколі не адводзіў бы ад яе сваіх вачэй!* Колас. **НЕ АДАРВАЦЬ (НЕ АДВЕСЦІ) ВАЧЭЙ** *ад каго, ад чаго. Зак. А красуня — падзівіцца — век вачэй не адрывай.* Астрэйка. *Агонь заварожваў, ад яго не адвесці было вачэй.* Міська. *Добры дзень, Лявон Сцяпанавіч! Ух ты... які ты... Вачэй не адвесці.* Макаёнак.

**2.** Пільна, уважліва, не адрываючыся глядзець на каго-, што-н. **Сін.**: есці вачамі *каго, што*; не зводзіць вачэй *з каго, з чаго* (у 1 знач.); не спускаць вачэй *з каго, з чаго* (у 1 знач.); не спускаць з вачэй *каго, што* (у 1 знач.). *Быў момант, калі Вэня зірнуў на Стафанковічыка, той не адрываў вачэй ад выбранага пункту.* Чорны. *Лейтэнант паныла ляжаў на мерзлых, прысыпаных снегам лыжах і не адрываў вачэй ад шашы.* Быкаў. *Ганна села і не адводзіла ад Рыгора вачэй.* Гартны. *Сцёпка аклікнуў яе досыць громка. Аленка ж так захоплена чытаннем, што і вачэй ад кнігі не адводзіць, а сама думае, ці глянуць на Сцёпку ці не?* Колас. **НЕ АДАРВАЦЬ (НЕ АДВЕСЦІ) ВАЧЭЙ** *ад каго, ад чаго. Зак.*

*АДРЭЗ* • **ДАВАЦЬ ГАЛАВУ НА АДРЭЗ** <*каму*>. Гл. даваць.

*АДРЭЗАНА* • **ДАРОГА АДРЭЗАНА** *каму да каго, куды.* Гл. дарога.

*АДРЭЗАНАЯ* • **АДРЭЗАНАЯ СКІБА**. Гл. скіба.

*АДРЭЗАЎ* • **ЯК <НАЖО́М> АДРЭ́ЗАЎ (АДРЭ́ЗАЛА)**. *Разм.* **1.** *Акал.* Катэгарычна, як канчаткова вырашанае (сказаў, сказала). **Сін.**: як звязаў; як <сякерай> адсек. *— Нельга, — сказаў як адрэзаў Гарашчэня.* Гурскі. *Малашкін устаў і сказаў як адрэзаў: — Пакінем гэтае пытанне адкрытым да наступнага сходу.* Пестрак. *«Завалы і матчына хатка ніколі ад нас не ўцякуць. Паспеем яшчэ там нагаладацца і клапоў пакарміць», — сказала [дзяўчына] як адрэзала.* Машара. *Сын, тут жа махнуўшы рукой, сказаў рашуча, весела, як нажом адрэзаў: — Давай збывай ты гэтую хату!* Ракітны.

2. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці неадуш. прадмета. Што-н. раптоўна, адразу прыпынілася. *Усе гэтыя часы дагэтуль работы там было — хоць на дзесяцярых, а гэта — як нажом адрэзала.* Чорны. *Чаго занудзіўся так? От, чалавек — вясёлы быў, а тады — на табе, як адрэзаў.* Каваль. *[Валерка] хлопец дужа натурлівы. Выступаў на школьным вечары, калі сёмы канчаў, — ён зараз у дзевятым, — і нехта пажартаваў: артыст, маўляў, знайшоўся. Як адрэзаў пасля таго: да піяніна ані блізка.* Савіцкі.

*АДСЕЙВАЦЬ* • **АДСЕЙВАЦЬ ЗЕРНЕ АД ПАЛОВЫ**. Гл. адвейваць.

*АДСЕК* • **ЯК <СЯКЕ́РАЙ> АДСЕ́К (-ЛА)**. *Акал. Разм.* Катэгарычна, як пра канчаткова вырашанае (сказаў, сказала). **Сін.**: як звязаў; як <нажом> адрэзаў (у 1 знач.). — *Ну дык як, Сярога, даеш машыны з цэментам?.. — Не, — як сякерай адсек Занямонец. — Не магу. Не маю права.* Асіпенка. *«Не, не так!» — цвёрда сказаў як адсек Брытвін.* Быкаў. *[Сірата чытае:] «Прамовіла як сякерай адсекла. Нават камсамольцы разгубіліся».* Кобец.

*АДСЕЯЦЬ* • **АДСЕЯЦЬ ЗЕРНЕ АД ПАЛОВЫ**. *Зак. да* **АДСЕЙВАЦЬ ЗЕРНЕ АД ПАЛОВЫ**.

*АДСКОКВАЕ* • **<АЖ> АДСКО́КВАЕ АД ЗУБО́Ў** *у каго. Незак. Цяп., пр., буд. скл.; адз. і мн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Выдатна, жвава і энергічна, з добрым веданнем справы расказваецца, вымаўляецца. *Кніжныя словы і фразы ажно адскоквалі ў яго [Лічка] ад зубоў.* Калеснік. *Харошыя ў мяне мальцы растуць... Што па-польску, што па-нашаму сякуць — аж ад зубоў адскоквае.* Петрашкевіч.

*АДСОХ* • **КАБ ЯЗЫК АДСОХ** *каму*. Гл. язык.

*АДСОХЛІ* • **МАЗГІ АДСОХЛІ** *у каго*. Гл. мазгі.

*АДСОХНІ* • **АДСО́ХНІ МНЕ́ ЯЗЫ́К**. *Праст.* Клятвеннае запэўненне ў справядлівасці сказанага. **Сін.**: каб я з гэтага месца не сышоў; каб я <так> жыў; не сысці мне з гэтага месца; праваліцца мне на гэтым месцы. *[Хірт:] Калі ты скажаш дзе-небудзь хоць адно слова... [Бураўчык:] Адсохні мне язык... я нават забудуся пра слова мама.* Маўзон.

*АДСТАЎКУ* • **ДАВАЦЬ АДСТАЎКУ** *чаму*. Гл. даваць.

*АДСТАЎНОЙ* • **АДСТАЎНОЙ КАЗЫ БАРАБАНШЧЫК**. Гл. барабаншчык.

*АДСТУПАЦЬ* • **АДСТУПАЦЬ НА ЗАДНІ ПЛАН**. Гл. адыходзіць.

*АДСТУПІЦЬ* • **АДСТУПІЦЬ НА ЗАДНІ ПЛАН**. *Зак. да* **АДСТУПАЦЬ НА ЗАДНІ ПЛАН**.

*АДСЮЛЬ* • **АДСЮ́ЛЬ-АДТУ́ЛЬ (АДТУ́ЛЬ-АДСЮ́ЛЬ)**. *Акал. Разм.* З розных месцаў, бакоў. *Наогул, тэма параўнання «там і тут» — у вёсцы і горадзе — будзе ўсё жыццё спадарожнічаць мне. Адсюль-адтуль ды нагадае вёска, чый я сын, хто мае родзічы.* Пальчэўскі. *Адтуль-адсюль сыходзіліся людзі. Асабліва шмат збягалася жанчын.* Ермаловіч.
**НІ АДСЮ́ЛЬ НІ АДТУ́ЛЬ (НІ АДТУ́ЛЬ НІ АДСЮ́ЛЬ)**. *Акал. Разм.* Зусім нечакана, раптоўна, нечападзявана. **Сін.**: адкуль ні вазьміся; нечакана-негадана; як гром сярод яснага неба (у 1 знач.); як снег на галаву (у 1 знач.). *А мо раннія замаразкі [жыту] пашкодзяць?! А мо так ні адсюль ні адтуль выпадзе град, паб'е яго ці бура паломіць — і ўсё прапала!..* Гартны. *І не заўважыў, як ні адсюль ні адтуль нехта ля яго загаварыў. — Чалавеча... — пачуў Косцік голас. — Дапамажы, браце...* Баранавых. *Тады ні адтуль ні адсюль чуўся часамі стогн і енк.* Чорны.

*АДСЯЧЭННЕ* • **ДАВАЦЬ ГАЛАВУ НА АДСЯЧЭННЕ** <*каму*>. Гл. даваць.

*АДТУЛЬ* • **АДТУЛЬ-АДСЮЛЬ**. Гл. адсюль.
**НЕ АДТУЛЬ РАСТУЦЬ РУКІ** *чые, у каго.* Гл. рукі.
**НІ АДСЮЛЬ НІ АДТУЛЬ**. Гл. адсюль.

*АДУВАНЧЫК* • **БО́ЖЫ АДУВА́НЧЫК**. *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм. Іран.* Стары, нядужы чалавек. *[Міцька — старым:] Тужыцеся, божыя адуванчыкі? Рубель на «чарніла», і я аўтакранам падыму гэты кацялок на недасягальную вышыню.* Петрашкевіч. *Рэха не вярнула крыку, затое азваўся Пятро Базан: — Сціхні ты, божы адуванчык, без цябе на душы моташна...* Крыга. *— Ёсць на прымеце адзін цір... — Яго ж напэўна ахоўваюць. — Якія там вартаўнікі! Сядзяць божыя адуванчыкі, носа з памяшкання баяцца высунуць.* «Звязда».

*АДУМАМ* • **СВАІ́М АДУ́МАМ**. *Акал. Разм.* Самастойна рашыўшы, па ўласнай ініцыятыве (рабіць што-н.). **Сін.**: на сваю руку. *[Галубовіч:] Калі б я і паслухаў вас, дык сваім адумам не магу гэтага зрабіць. Ёсць яшчэ загадчык аддзялення, Мікалай Іванавіч.* Крапіва. *Нельга ж пайсці ў камеру сваім адумам, калі ўсё наўкол дрыжыць.* Баранавых. *Ніхто туды [на кірмаш] нанач не едзе... Але ж Іллюку па людзях малы клопат. Ён робіць сваім адумам.* Калюга. *Бязногі Піліп, узлезшы сваім адумам на верхатуру царквы, гасіў ва ўсе званы.* Лобан.

*АДУРЫЦЬ* • **АДУРЫ́ЦЬ ГАЛАВУ́** *каму. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Страшэнна надакучыць чым-н. (гаворкай, просьбай і інш.). **Сін.**: азяліць галаву *каму, чыю,* дурыць галаву *каму* (у 2 знач.); надурыць галаву *каму* (у 2 знач.). *Знаеш, мне за дарогу адурылі галаву...* Мыслівец. *Антоля нядаўна жалілася, што ты ёй галаву адурыў песнямі.* Пестрак. *Ідзі, ідзі. Адурыла галаву. Ідзі да маткі, ідзі. Потым прыйдзеш.* Баранавых.

*АДХЛЫНУЛА* • **КРОЎ АДХЛЫНУЛА АД ТВАРУ** *чыйго, у каго.* Гл. кроў.

*АДХОН* • **ІСЦІ ПАД АДХОН**. Гл. ісці.
**КАЦІЦЦА ПАД АДХОН**. Гл. каціцца.
**ПАКАЦІЦЦА ПАД АДХОН**. Гл. пакаціцца.
**ПУСКАЦЬ ПАД АДХОН** *што.* Гл. пускаць.

*АДЦЯГНЕШ* • **ЗА ВУ́ШЫ НЕ АДЦЯ́ГНЕШ**. *Разм.* **1**. *Вык. і азн. Адабр.* Вельмі смачнае, такое, што выклікае апетыт. Пра яду, пітво. **Сін.**: пальчыкі абліжаш (у 1 знач.); у роце растае; язык праглынеш (у 1 знач.). **Ант.**: расце ў роце; хоць на сабаку выллі. *Капуста і грэцкая каша з мясам — за вушы не адцягнеш.* «Звязда». *А пакуль суд ды справа, пойдзем абедаць. Жонка халадзец прыгатавала — за вушы не адцягнеш.* Аношкін. *Пакаштуй [квас], Міходавіч. За вушы не адцягнеш.* Калодзежны. **ЗА ВУШЫ НЕ АДЦЯГНУЦЬ**. *Ля берагоў з'явяцца буданы, задымяцца раніцай вогнішчы, на якіх у вялізных катлах будзе варыцца смачнае, за вушы не адцягнуць, сняданне...* Гігевіч. *[Морс] вельмі смачны. А з батонам — дык за вушы не адцягнуць...* Гіль.
**2**. *каго ад чаго. У абаг.-асаб. знач.* Нічым, ніяк не прымусіш адмовіцца ад чаго-н. прывычнага, любімага. *Мала ты, браток, чытаеш. А мо нават і зусім не бярэш кнігу ў рукі... А вось твайго суседа дык за вушы ад іх не адцягнеш.* Якімовіч. *Мой Мікодзь нашто быў пераборлівы на яду, а і то, бывала, як возьмецца за бульбу з агуркамі, як завінецца каля іх, то і за вушы не адцягнеш.* Макарэвіч.

*АДЧУВАННЕ* • **АДЧУВАННЕ ЛОКЦЯ**. Гл. пачуццё.

*АДЧУВАЦЬ* • **АДЧУВА́ЦЬ ГЛЕ́БУ (ГРУ́НТ) ПАД НАГА́МІ**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Мець цвёрдую ўпэўненасць у сабе. *Ганна Андрэеўна па сло-*

*ва ў кішэню не лезе і адбрыць можа кожнага. Дый грунт пад нагамі адчувае кабета — як-ніяк жонка дырэктара школы.* Навуменка. **АДЧУЦЬ ГЛЕБУ (ГРУНТ) ПАД НАГАМІ.** *Зак. [Георгій:] Ну, жонка, вось цяпер я пад нагамі глебу адчуў, нарэшце.* Клімковіч. *Мне нічога тады было не трэба, нічога... Толькі некалькі тваіх слоў, каб адчуць пад нагамі глебу.* Крыга.

**НЕ АДЧУВАЦЬ НІ РУК НІ НОГ.** Гл. чуць.

*АДЧУЦЬ* • **АДЧУЦЬ ГЛЕБУ ПАД НАГАМІ.** *Зак. да* **АДЧУВАЦЬ ГЛЕБУ ПАД НАГАМІ.**

*АДЧЫНЕНЫ* • **ДЗВЕРЫ АДЧЫНЕНЫ** *каму, для каго, перад кім.* Гл. дзверы.

*АДЧЫНЕНЫЯ* • **ЛАМАЦЦА Ў АДЧЫНЕНЫЯ ДЗВЕРЫ.** Гл. ламацца.

*АДЧЫНІСЯ* • **СЕЗАМ, АДЧЫНІСЯ!** Гл. сезам.

*АДЧЫНІЦЬ* • **АДЧЫНІЦЬ АКНО Ў СВЕТ** *<які> каму. Зак. да* **АДЧЫНЯЦЬ АКНО Ў СВЕТ** *<які> каму.*

**АДЧЫНІЦЬ ДЗВЕРЫ** *каму, чаму куды. Зак. да* **АДЧЫНЯЦЬ ДЗВЕРЫ** *каму, чаму куды.*

**АДЧЫНІЦЬ ІЛБОМ ДЗВЕРЫ.** *Зак. да* **АДЧЫНЯЦЬ ІЛБОМ ДЗВЕРЫ.**

*АДЧЫНЯЕЦЦА* • **СВЕТ АДЧЫНЯЕЦЦА** *каму.* Гл. свет.

*АДЧЫНЯЦЬ* • **АДЧЫНЯ́ЦЬ (АДКРЫВА́ЦЬ) ДЗВЕ́РЫ** *каму, чаму куды. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Даваць свабодны доступ, ствараць спрыяльныя ўмовы. **Сін.**: адкрываць дарогу *каму куды. Поспех п'есы.., здаецца, адкрывае ёй дзверы і ў другія тэатры краіны.* Макаёнак. **АДЧЫНІЦЬ (АДКРЫЦЬ) ДЗВЕРЫ** *каму, чаму куды. Зак. Дзе хабарам, а дзе паклонам сыну ў гімназію [бацька] дзверы адчыніў.* Зарыцкі. *Цяпер навука для ўсіх будзе. Рэвалюцыя ўсім дзверы адчыніла...* Галавач. *Рэкамендацыя падпольшчыкаў Санта-Фе адчыніла мне дзверы ў камсамольскую ячэйку.* Левановіч.

**АДЧЫНЯ́ЦЬ ІЛБО́М ДЗВЕ́РЫ.** *Незак. Праст. Незадав.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць выгнанаму. Часцей як пагроза. *[Рабочыя] апавядалі, што калі прыйшла брыгада, дык Гукаў спачатку не хацеў пускаць іх, гразіўся, што яны адчыняць ілбом дзверы, пляваўся, лаяўся, што гэта не рабочых справа, і ледзь згадзіўся паказаць ведамасці.* Броўка. **АДЧЫНІЦЬ ІЛБОМ ДЗВЕРЫ.** *Зак.*

**АДЧЫНЯ́ЦЬ (РАСЧЫНЯ́ЦЬ) АКНО́ Ў СВЕ́Т** *<які> каму. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Парадай, навіной і інш. прыносіць каму-н. вялікую радасць, палёгку на душы, паказваць выхад з цяжкага становішча. **АДЧЫНІЦЬ (РАСЧЫНІЦЬ) АКНО Ў СВЕТ** *<які> каму. Зак. [Гудовіч:] Гэта залатое дзяўчо. Яна мне адчыніла акно ў іншы свет.* Крапіва. *Ой, мой ты Хлорык, мая Юстынка, вы не можаце сабе ўявіць, як я зарадавалася, калі толькі пачула згоду, — Васілёву згоду на жаніцьбу; быццам мне хтось акно адчыніў у новы і няведамы мне свет — я ўся так і абмерла ад радасці.* Гартны. *Браткі, галубчыкі вы нашы! Мы ж вас чакалі так даўно, каб расчыніць у свет акно — даволі з нас той панскай пашы.* Колас.

**НАГО́Й АДЧЫНЯ́ЦЬ ДЗВЕ́РЫ** *дзе, каго, чаго. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Свабодна, бесперашкодна заходзіць куды-н., да каго-н. *Ёсць трывалае меркаванне, што я хаджу на тэлебачанне і ўсюды там нагой дзверы адчыняю.* «ЛіМ».

*АДЫГРАЦЬ* • **АДЫГРАЦЬ РОЛЮ** *<якую> у чым. Зак. да* **АДЫГРЫВАЦЬ РОЛЮ** *<якую> у чым.*

*АДЫГРЫВАЦЬ* • **АДЫ́ГРЫВАЦЬ РО́ЛЮ** *<якую> у чым. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Мець значэнне, аказваць уздзеянне на каго-, што-н. **Сін.**: іграць ролю (у 1 знач.). *Кожны адчуваў, што ў Зусевым жыцці, у ягонай дзейнасці адбываецца вялікая перамена і што яна не абмінае таксама і іх, што і яны пэўным парадкам уцягнуты сюды і адыгрываюць нейкую ролю ва ўсім.* Мурашка.
**АДЫГРАЦЬ РОЛЮ** *<якую> у чым. Зак. Лабановічу прыгадаліся словы жандарскага ротмістра: «Ваш почырк адыграе ролю ў вашым жыцці».* Колас.

*АДЫСЦІ* • **АДЫСЦІ З ГЭТАГА СВЕТУ**. *Зак. да* **АДЫХОДЗІЦЬ З ГЭТАГА СВЕТУ**.
**АДЫСЦІ НА ЗАДНІ ПЛАН**. *Зак. да* **АДЫХОДЗІЦЬ НА ЗАДНІ ПЛАН**.
**АДЫСЦІ НА ТОЙ СВЕТ**. *Зак. да* **АДЫХОДЗІЦЬ НА ТОЙ СВЕТ**.
**АДЫСЦІ Ў ВЕЧНАСЦЬ**. *Зак. да* **АДЫХОДЗІЦЬ У ВЕЧНАСЦЬ**.
**АДЫСЦІ Ў ІНШЫ СВЕТ**. *Зак. да* **АДЫХОДЗІЦЬ У ІНШЫ СВЕТ**.
**АДЫСЦІ Ў ЛЕПШЫ СВЕТ**. *Зак. да* **АДЫХОДЗІЦЬ У ЛЕПШЫ СВЕТ**.
**АДЫСЦІ Ў НЯБЫТ**. *Зак. да* **АДЫХОДЗІЦЬ У НЯБЫТ**.

*АДЫХОД* • **АДЫХО́Д (ЗЫХО́Д) У І́НШЫ СВЕ́Т** *каго, чый. Мн. не ўжыв. Дзейн. і дап. Функц. не зам.* Смерць каго-н. **Сін.**: адыход у лепшы свет *каго, чаго. Салаўіная захопленасць стала прычынай заўчаснага зыходу Ягайлы ў іншы свет. Бо і ў свае восемдзесят два гады ён не мог здрадзіць сабе і салаўям...* Бутэвіч. *Па адыходзе ў іншы свет Дразда і Драздзіхі сядзіба Пятроўскіх перайшла да Драздовай дачкі Веры і яе дачкі Валі, якія і цяпер тут гаспадараць.* «Полымя».
**АДЫХО́Д У ЛЕ́ПШЫ СВЕ́Т** *каго, чый. Мн. не ўжыв. Дзейн. і дап. Функц. не зам.* Смерць каго-н. **Сін.**: адыход у іншы свет *каго, чый. Адыход Антося Іосіфавіча ў лепшы свет з жалем успрынялі ўсе, хто яго ведаў і хто яшчэ пакуль застаўся на гэтым свеце.* Рагойша.
**АДЫХО́Д У НЯБЫ́Т** *<чаго>. Мн. не ўжыв. Часцей вык. Функц. не зам.* Знікненне чаго-н. назаўсёды. *Сумнае цяпер уражанне... Глядзіш на гэта і страчваеш волю жыць; растае радасць дзейнасці. Самыя Крынкі — могільнік памерлай культуры. Адыход у нябыт.* Яновіч.

*АДЫХОДЗІЦЬ* • **АДЫХО́ДЗІЦЬ (АДСТУПА́ЦЬ) НА ЗА́ДНІ ПЛА́Н**. *Незак. Функц. не зам.* Часцей ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Станавіцца нязначным, другарадным, не вельмі істотным. *Марылька ў думках неяк адыходзіць на задні план.* Сабаленка. *Слухаў дзед Талаш гэтыя навіны, і яго ўласная крыўда заціралася, адступала на задні план.* Колас. **АДЫСЦІ (АДСТУПІЦЬ) НА ЗАДНІ ПЛАН**. *Зак. І экзамены, і мірныя калгасныя палі, якія ўжо не ўсюды былі мірнымі, — усё адышло для Сяргея на задні план.* Шахавец. *У апошні час у Блышанскага крыху адлягло на сэрцы, і тая нехарошая чорная думка, якая, нібы здань, блукала за ім, адступіла на задні план.* Дайліда.
**АДЫХО́ДЗІЦЬ З ГЭ́ТАГА СВЕ́ТУ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паміраць. **Сін.**: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаваць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць у іншы свет; адыходзіць (ісці) у лепшы свет; ажаніцца з <сырою> зямлёй; выпростваць ногі; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць *каму* (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага *збірацца*; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); canькі адкідваць; лажыцца ў магілу; на паповы сані *збірацца*; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сы-

ходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. **АДЫСЦІ З ГЭТАГА СВЕТУ.** *Зак. Мабыць, так яна [Ганулька] і адышла з гэтага свету пад жаласны спеў дачушкі.* Быкаў. *Бліжэй да канца, больш бяссэнсу? Нясмутна паміраць, няшкода адысці з гэтага свету... Нашто ты на ім?* Яновіч.

**АДЫХО́ДЗІЦЬ (ІСЦІ́) У І́НШЫ СВЕ́Т.** *Незак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паміраць. **Сін.**: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адыходзіць з гэтага свету; адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць на той свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць (ісці) у лепшы свет; выпростваць ногі; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць <*каму*> (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага *збірацца*; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); канькі адкідваць; лажыцца ў магілу; на паповы сані *збірацца*; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. *Дружна жывуць муж з жонкаю шмат гадоў і ўжо нібы зрасліся між сабою — што баліць яму, тое баліць і ёй, што цяжка ёй — цяжка і яму. Ды вось адзін адыходзіць у іншы свет, і другі застаецца калекам — амярцвела частка яго самога.* Арабей. **АДЫСЦІ (ПАЙСЦІ) У ІНШЫ СВЕТ.** *Зак. Ты не быў пад Варшавай?.. У дваццатым. Калі наступалі... А я быў. Ледзь не пайшоў там... у іншы свет. Узводны Сарокін вывез.* Мележ. *Я сёння пакутліва думаў, хто возьме з маіх рук крыж, калі мне давядзецца адысці ў іншы свет.* Мальдзіс.

**АДЫХО́ДЗІЦЬ (ІСЦІ́) У ЛЕ́ПШЫ СВЕ́Т.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паміраць. **Сін.**: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаваць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць у іншы свет; ажаніцца з <сырою> зямлёй; выпростваць ногі; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць *каму* (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага *збірацца*; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); канькі адкідваць; лажыцца ў магілу; на паповы сані *збірацца*; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. **АДЫСЦІ (ПАЙСЦІ) У ЛЕПШЫ СВЕТ.** *Зак. У нас у лепшы свет ідзе болей, чым нараджаецца. Ніхто не хоча мець лішніх клопатаў — і гадаваць другое ці трэцяе дзіця, спыняецца на адным.* Дамашэвіч. *То добра яшчэ, калі ўдваіх старыя засталіся, ёсць з кім словам перакінуцца. А калі адна, як Адарка? Дзядуля яе колькі гадоў ужо як спіць. Пайшоў у лепшы свет...* Місько.

**АДЫХО́ДЗІЦЬ НА ТО́Й СВЕ́Т.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паміраць. **Сін.**: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць (ісці) у лепшы свет; адпраўляцца на той свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць у іншы свет; ажаніцца з <сырою> зямлёй; выпростваць ногі; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць <*каму*> (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага *збірацца*; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); канькі адкідваць; лажыцца ў магілу; на паповы сані *збірацца*; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва.

**АДЫСЦІ НА ТОЙ СВЕТ**. *Зак. Адзін за адным адышлі на той свет старыя, трохі падросшы, адляцелі дзеці, неўпрыкмет мінулася ўсё добрае і благое, што з імі звязана.* Быкаў.

**АДЫХО́ДЗІЦЬ У ВЕ́ЧНАСЦЬ**. *Кніжн. Незак.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паміраць: **Сін**.: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць на той свет; адыходзіць у іншы свет; адыходзіць (ісці) у лепшы свет; ажаніцца з <сырою> зямлёй; выпроствацьногі; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць <*каму*> (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага *збірацца*; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); канькі адкідваць; лажыцца ў магілу; на паповы сані *збірацца*; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. *Адыходзяць у вечнасць людзі, без якіх птушыныя спевы — не спевы...* «ЛіМ». **АДЫСЦІ Ў ВЕЧНАСЦЬ**. *Зак.* **2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. ці зборн. прадмета. Знікаць назаўсёды, забывацца. **Сін**.: адыходзіць у нябыт. **АДЫСЦІ Ў ВЕЧНАСЦЬ**. *Зак. Даўно адышлі ў вечнасць хвіліны сустрэчы іх — Казіміра і Мані.* Чорны.

**АДЫХО́ДЗІЦЬ У НЯБЫ́Т**. *Незак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. ці зборн. прадмета. Пераставаць існаваць, знікаць назаўсёды. **Сін**.: адыходзіць у вечнасць (у 2 знач.). *Усё адыходзіць у нябыт, астаюцца толькі плёны чалавечай працы.* Карпаў. *Мы не будзем варушыць таго, што адышло ў нябыт.* Крапіва. **АДЫСЦІ Ў НЯБЫТ**. *Зак.*

*АДЫШЛА* • **КРОЎ АДЫШЛА АД ТВАРУ** *чыйго, у каго.* Гл. кроў.

*АДЫШОЎ* • **НЕДАЛЁКА АДЫШО́Ў (-ЛА́)** *ад каго. Зак. Вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Амаль такі ж, як хто-н.; мала чым адрозніваецца ад каго-н. *Арлякін недалёка адышоў ад Натана. І ён па пяць жонак на год мяняе.* Корбан. *Барысок ад свайго дзядзькі недалёка адышоў.* Бажко. *Волька падумала, што бацька яе [Надзеі Мікалаеўны] быў скнара і дачка недалёка адышла ад яго.* Супрунчук.

**ПОЕЗД АДЫШОЎ**. Гл. поезд.

*АД'ЯДА* • **АД'Я́ДА ДУШЫ́ (СЭ́РЦА)**. *Мн. не ўжыв. Часцей у ролі вык. ці зваротка. Разм. Асудж.* Назойлівы, надакучлівы чалавек. **Сін**.: выяда душы; пераяда вантроб. *Потым Аўсюк званіў, прасіў прабачэння, запрашаў у кіно. Я адмаўлялася і адразу клала трубку. Тады ён, ад'яда душы, пачаў мяне страшыць...* Леванові́ч. *Сціхні ты, ад'яда сэрца! І без цябе млосна.* Каваленка. *Трапілася была такая побач — ну, ад'яда сэрца, дый годзе.* Янкоўскі.

*АД'ЯДАЦЬ* • **АД'ЯДА́ЦЬ (ПЕРАЯДА́ЦЬ) ВАНТРО́БЫ (КІ́ШКІ, ПЯЧО́НКІ)** *каму. Незак. Праст. Асудж.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Страшэнна хваляваць, даводзіць да адчаю каго-н., дакучаючы чым-н. непрыемным. **Сін**.: аб'ядаць душу *каму*; выядаць душу *каму*; пераядаць косці *каму,* плеш пераядаць *каму. [Адам:] Яна мне пустаслоўем гадзіны дзве вантробы ад'ядала, і я сказаў — адвесці да падвала.* Клімковіч. **АД'ЕСЦІ (ПЕРАЕСЦІ) ВАНТРОБЫ (КІШКІ, ПЯЧОНКІ)** *каму. Зак. — Якуб, пакінь ты, не пераядай бацьку вантроб, яму і без цябе хапае, — умяшалася, нарэшце, маці.* Крапіва. *— А, Іванаўна, адпусціш з намі [сына ў партызаны]? — А хай ідзе. Ён мне кішкі ўжо пераеў.* Кудравец. *Жонка пячонкі ад'ела: «Усе павыбіралі [бульбу] даўно, а твая ў полі!..»* Гіль.

**АД'ЯДА́ЦЬ (ПЕРАЯДА́ЦЬ) ДУШУ́ (СЭ́РЦА)** *каму. Незак. Разм. Асудж.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна хваляваць каго-н., дакучаючы чым-н. непрыемным. **Сін.**: ад'ядаць вантробы *каму*; выядаць душу *каму*; пераядаць косці *каму*; плеш пераядаць *каму*. *Я адно толькі кажу, пакуль хавалася ад бацькоў, пакуль не ведалі, што я ў камсамоле, датуль было ціха, а зараз сэрца пачнуць ад'ядаць, кпіны, дакоры, лаянка, — зусім загрызуць.* Галавач. *[Мар'я:] Паеду да бацькі ў Оршу, стану шпалы падмятаць на станцыі, і то ўжо лягчэй, чымся кожны салдат душу пераядаць будзе!* Губарэвіч.

**АД'ЕСЦІ (ПЕРАЕСЦІ) ДУШУ (СЭРЦА)** *каму. Зак. Сціхні, старая! Не пераядай сэрца!* Васілевіч. *Генерал не курыў. Ён нават за нашу доўгую сумесную паездку, як кажуць, пераеў мне душу, даводзячы, што курыць дужа шкодна.* Корбан. — *Ты ўжо за дарогу сэрца мне пераеў, — загарачыўся Мешкяліс і, устаўшы з табурэткі, закрочыў па цеснай бакоўцы.* Броўка.

*АЖАНІЦЦА* • **АЖАНІ́ЦЦА З <СЫРО́Ю> ЗЯМЛЁЙ**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Памерці, загінуць. **Сін.**: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць у вечнасць; адыходзіць у іншы свет; адыходзіць у лепшы свет; выпростваць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага *збірацца*; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); лажыцца ў магілу; на паповы сані *збірацца*; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. *На імправізаваных насілках прыносяць забітага і кладуць перад буданом... [Дзед Бадыль]: Вось і ажаніўся ты, сынок, з сырою зямелькаю.* Крапіва. *Цікавая бабулька... Але што ж тут дзіўнага — той і жыве куды прыгажэй, хто ў такім узросце не думае ажаніцца з зямлёй, бачыць нейкую мэту ў жыцці.* В.Ткачоў.

*АЖУРЫ* • **У АЖУ́РЫ**. *У знач. вык. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн., выраж. займ. *усё*. Добра, паспяхова, удала, як і павінна быць. **Сін.**: у парадку (у 1 знач.). *[Якавец:] А ў мяне ўсё ў ажуры і ніякага крыміналу.* Крапіва. — *Зараз, бабулька, усё будзе ў ажуры! — і хлапчынка хуценька дастаў з чамаданчыка інструменты.* Аношкін. *Ну, як нашы справы, лейтэнант? Усё будзе ў ажуры. Ад апендыцыту вы ўжо не памраце...* Левановіч.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Паспяховы, удалы, такі, як і павінны быць. **Сін.**: у парадку (у 2 знач.). *Вочы Пятра ззялі, і па іх, вачах, Валера, не дачакаўшыся адказу, зразумеў, што «справа ў ажуры».* Рубанаў. *Каб месячны план быў у ажуры, трэба было б перавезці яшчэ 9369 пасажыраў.* «Вожык».

*АЗІРАЦЦА* • **АЗІРАЦЦА НАЗАД**. Гл. аглядацца.

**АЗІРА́ЦЦА (АГЛЯ́ДВАЦЦА) НА КУСТЫ́**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Палохаючыся, старацца ўхіліцца ад адказнасці, ад справы. **Сін.**: глядзець у кусты; хаваць галаву ў пясок. *Ну, а калі кінуліся ўжо ў атаку, тады на кусты не азірайся, тут, брат, ламі, крышы, малаці фашыста па хрыбціне, не шкадуй яму агню.* Лынькоў.

*АЗІРНУЦЦА* • **АЗІРНУЦЦА НАЗАД**. *Зак. да* **АЗІРАЦЦА НАЗАД**.

**АЗІРНУЦЦА НЕ ПАСПЕЕШ**. Гл. паспееш.

*АЗОЎ* • <u>Пачынаць (пачаць)</u> **З АЗО́Ў**. *Акал. Разм.* З самага пачатку, з простага, элементарнага. **Сін.**: ад печкі (печы); ад яйца. *Як вядома, пачалі мы тут з азоў. Адна электраўстаноўка і тры пілы — вось і ўсё, што мелі спачатку.* Ваданосаў. *Зялёная агаро-*

*джа акрэслівала межы будучай станцыі метрапалітэна, пачынаць якую яму, Кільячэнку, давядзецца з азоў, з першага калочка.* «ЛіМ».

*АЗЯЛІЦЬ* • **АЗЯЛІ́ЦЬ ГАЛАВУ́** *каму, чыю. Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Страшэнна надакучыць чым-н. (гаворкай, просьбай і інш.). **Сін.**: адурыць галаву *каму*; дурыць галаву *каму* (у 2 знач.); надурыць галаву *каму* (у 2 знач.). *Дзед нічога не бачыць і не чуе. — Азялілі галаву! — злосна тузаецца ён усім целам. — Азялілі! Наста! Ці доўга ты яшчэ будзеш, га?!* Палітыка. *Азяліла ты маю галовушку...* Юрчанка. *«Азялілі вы маю галовачку...» (Можна: «Азяліла...», «Азяліў...»), пацягні за гэтую вяровачку — слова, нібы сонечны наліў...* Зуёнак.

*АКАЛОЧВАЦЬ* • **АКАЛО́ЧВАЦЬ (АКАЛА́ЧВАЦЬ) ГРУ́ШЫ <З ВЕ́РБАЎ>.** *Незак. Праст. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гультаяваць, займацца пустымі справамі. **Сін.**: абіваць бакі (у 2 знач.); адлежваць бакі (у 2 знач.); біць байды; біць бібікі; біць лынды (у 1 знач.); біць тылылы; валяць дурня (у 2 знач.); вераб'ям дулі паказваць; ганяць сабак <*па чым*>; корчыць гультая; лічыць варон (у 2 знач.); ляжаць на баку; пляваць у столь; сабакам сена касіць (у 1 знач.); сачка давіць. *Там яшчэ вучоны Свербаў акалочваў грушы з вербаў. Кажуць, скончыў быў той дзед ерундычны факультэт.* Крапіва.

*АКІНУЦЬ* • **АКІ́НУЦЬ ВО́КАМ (ВАЧА́МІ, -ЫМА)** *каго, што. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Агледзець каго-, што-н., глянуць на каго-, што-н. **Сін.**: кідаць вока *на каго, на што*; кідаць вокам *на каго, на што, куды. Каваль адступіў назад і акінуў вокам іх абодвух.* Чорны. *Зазыба акінуў вокам жылую палавіну — усё тут было, як і раней.* Чыгрынаў. *Лабановіч акінуў вачамі ваколіцы Цельшына: цесна, цёмна і пуста.* Колас.

**НЕ АКІ́НУЦЬ (НЕ СХАПІ́ЦЬ, НЕ СЦЯ́ЦЬ) ВО́КАМ.** *Азн. Разм.* Бязмежны, неабсяжны. *Роўная, як струнка, доўгая — вокам не акінуць — рассекла яна [чыгунка] лес сваім смелым махам на дзве палавіны, і хто яе ведае, куды яна дзяецца, выскачыўшы з лесу.* Колас. *Кажуць: на табольскіх плёсах не акінуць вокам шыр і прамыты, чысты жвір.* Пушча. *Там, дзе сінія прасторы, шырыня — не схопіш вокам, а бяды — няма навокал...* Дубоўка. *«Уся зямля павінна быць раздзелена», — казалі іншыя ўдзельнікі. — Як жа яна падзеліцца на роўныя, калі ў цябе матузок з авечы хвосцік, а ў пана і вокам не сцяць, — паказвалі на негрунтоўнасць гэтага сцвярджэння іншыя.* Мурашка.

**ЯК ВОКАМ АКІНУЦЬ.** Гл. кінуць.

*АКНЕ* • **ТОЛЬКІ СВЕТУ ШТО Ў АКНЕ** *у каго.* Гл. свету.

*АКНО* • **АДЧЫНІЦЬ АКНО Ў СВЕТ** <*які*> *каму. Зак. да* **АДЧЫНЯЦЬ АКНО Ў СВЕТ** <*які*> *каму.*

**ЧО́РТАВА АКНО́.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм.* Багністая бяздонная прорва, глыбокая ўпадзіна з вадой сярод балота. **Сін.**: чортава вока. *Голасцябляны цыбаты сітняк звешваецца над смаліста-чорнаю гладдзю «чортавых акон», аздобленых круглымі вадзянымі лопухамі.* Колас. *Ніводнага «чортавага акна» не засталося на балоце, па якім цяпер удоўж і ўпоперак хадзілі магутныя чэлябінскія трактары.* Паслядовіч. *Справа пачыналіся непраходныя смаленскія лясы з балотамі і вечна незамярзаючымі чортавымі вокнамі.* Асіпенка.

*АКОРД* • **ЗАКЛЮ́ЧНЫ АКО́РД** <*чаго, да чаго*>. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Тое, чым завяршаецца што-н. **Сін.**: апошні акт <*чаго*>. *Прыказку выкарыстоўваюць у ролі канцоўкі, своеасаблівага заключнага акорда да эпізоду, сцэнкі, раздзела ці нават цэ-*

*лага твора.* «Нар. асвета». *Такі цудоўны вечар павінен мець цудоўнае лагічнае завяршэнне, як кажуць, урачысты заключны акорд.* Дайнека. *Аптымістычна прагучаў хіба што заключны акорд у гэтым дакуменце.* «Вожык».

*АКРАЕЦ* • **АДРЭЗАНЫ АКРАЕЦ**. Гл. скіба.

*АКТ* • **АПО́ШНІ (ПЯ́ТЫ) А́КТ** <*чаго*>. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* З'ява, падзея і пад., якой завяршаецца што-н. **Сін.**: заключны акорд < *чаго, да чаго*>. *Не цешыла нават тое, што ў драме, разыгранай два тыдні таму назад, нарэшце ўжо заканчваецца апошні акт — надта многіх яна зачапіла, многім паламала лёс.* Шыцік. *Разумею: вы хочаце сваё апошняе слова сказаць у апошнім акце. Што ж, няхай будзе і так.* Крапіва. *Сёння рызыкаваць цікава, ласуну — шляхетная справа. Пяты акт, апошняя з'ява.* Хадановіч.

*АКУЛЯРЫ* • **ГЛЯДЗЕЦЬ ПРАЗ РУЖОВЫЯ АКУЛЯРЫ** *на каго, на што.* Гл. глядзець.

**ГЛЯДЗЕЦЬ ПРАЗ ЧОРНЫЯ АКУЛЯРЫ** *на каго, на што.* Гл. глядзець.

**НАСТАЎЛЯЦЬ АКУЛЯРЫ** *каму.* Гл. настаўляць.

**РУЖО́ВЫЯ АКУЛЯ́РЫ**. *Адз. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Ідэалізаванае бачанне, успрыманне чаго-н. *Часта [Пятро] смяяўся сам са сваіх ружовых акуляраў, бо жыццё штодня разбівала іх і прымушала весці змаганне супраць зла.* Шамякін. *Слухай, я ўсё думаю пра тое, якія мы былі тады. Ідэалізм, рамантызм, наіўнасць... Ружовыя акуляры...* М.Стральцоў.

*АКУНЁЎ* • **ВУДЗІЦЬ АКУНЁЎ**. Гл. вудзіць.

*АКУНУЦЦА* • **АКУНУ́ЦЦА З ГАЛАВО́Й** *у што. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Поўнасцю прысвяціць сябе чаму-н. *І ўжо з сумам і радаснай нецярплівасцю пазіраеш з акна палаты: там — жыццё, там — людзі, там — праца, у якую марыш акунуцца з галавой.* Каршукоў. *Калі хочаце, іменна па закліку душы акунуўся я з галавою ў гэтае пачынанне, і, відаць, надоўга.* Васілеўская.

*АКЦЫІ* • **А́КЦЫІ ПА́ДАЮЦЬ** *чые, каго. Незак. Адз. не ўжыв. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Чые-н. шансы на поспехі ці значэнне, уплыў каго-н. зніжаюцца. **Ант.**: акцыі паднімаюцца *чые, каго. Даўно не было сакрэту: калі Барушка ветлівы, фінціць, чакай добрага. Размінуўся, не заўважыў — значыць, акцыі твае падаюць.* Карпаў. **АКЦЫІ ЎПАЛІ (УПАДУЦЬ)** *чые, каго. Зак. Адчувае [Касцюшка]: нізка ўпалі ягоныя акцыі ў Сашыных вачах.* Навуменка. *— Вас ледзь не ўсе дзяўчаты ведаюць у горадзе, але гэта пакуль што. — Чаму?.. — Як толькі вернуцца ўсе з вайны, дык вашы акцыі ўпадуць.* Федасеенка.

**А́КЦЫІ ПАДНІМА́ЮЦЦА (ПАВЫША́ЮЦЦА)** *чые, каго. Незак. Цяп., пр., буд. Адз. не ўжыв. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Чые-н. шансы на поспех ці значэнне, уплыў каго-н. узрастаюць. **Ант.**: акцыі падаюць *чые, каго. — Ніколі нічыйго хлеба мы не елі, — закапыліў нос Ластоўскі. Яго акцыі паднімаліся.* Гурскі.

**УЗНІМАЦЬ АКЦЫІ** *чые, каго.* Гл. узнімаць.

*АКЦЫЙ* • **ПАДЗЕННЕ АКЦЫЙ** *каго, чаго.* Гл. падзенне.

*АЛАХ* • **АДЗІ́Н АЛА́Х ВЕ́ДАЕ**. *У знач. галоўн. ск. Разм. Часта жарт.* Нікому невядома. **Сін.**: адзін бог < святы > ведае; адзін чорт ведае; бог ведае; ліха ведае; хто ведае; чорт ведае; чорт ведама. *Кожны лішні дзень перадышкі для нас цяпер даражэй за ўсё. Троцкі з тым і паехаў у Брэст-Літоўск. Як ён там, небарака, выкручваецца — адзін алах ведае.* Губарэвіч. *Адзін алах ведае, колькі сцэн рэўнасці чакае цябе наперадзе.* Левановіч.

**АЛА́Х ВЕ́ДАЕ ШТО́**. *Часцей дап. Разм. Часта жарт.* Штосьці надзвычайнае. **Сін.**: бог ведае што; ліха ведае што; чорт ведае што. *Сакратар райкома прыехаў у калгас — табе здалося алах ведае што... Схамяніся, дружа!..* Шамякін.

**АЛА́Х З ТАБО́Й (З І́М, З ЁЙ, З ВА́МІ, З І́МІ)**. *Выкл. Разм. Часта жарт.* Няхай будзе так. Выказванне згоды, прымірэння, уступкі і пад. **Сін.**: бог з табой; кадук з ім; ліха з ім; ліха яго бяры; трасца яго бяры; халера з ім; халера яго бяры; хвароба з ім; хрэн з ім; чорт з ім; чорт яго бяры. *—Толькі на соль мяняю яйкі. — Во яшчэ фокус! Соль-соль!.. Ну, алах з табой! Давай у хату...* Мік.Ткачоў. *Вялікі камбінатар зараз заўпарціўся, ні за што не хацеў цягнуць фельетонны «ход». Ну і алах з ім. Не на ім сышоўся свет клінам...* Блакіт.

**АЛА́Х ЯГО́ (ЯЁ, І́Х, ЦЯБЕ́, ВА́С) ВЕ́ДАЕ**. *Узнач. галоўн. ск. Разм. Часта жарт.* Невядома. **Сін.**: агонь яго ведае; бог яго ведае; вятры яго ведаюць; кадук яго ведае; ліха яго ведае; немач яго ведае; нячысцік яго ведае; пярун яго ведае; трасца яго ведае; халера яго ведае; хвароба яго ведае; хрэн яго ведае; хто яго ведае; чамярыца яго ведае; чорт яго ведае. *Адкуль [грэк Кандаракі] узяўся, як сюды трапіў — алах яго ведае, але для Скота ён быў вельмі карысны.* Маўр. *— А што такое обер-пракурор сінода?.. — Алах яго ведае. Я чытаў, што быў такі чын.* Новікаў.

*АЛАХУ* • **АДНАМУ АЛАХУ ВЯДОМА**. Гл. вядома.

**СЛАВА АЛАХУ**. Гл. слава.

**ХВАЛА АЛАХУ**. Гл. хвала.

*АЛЁША* • **АЛЁША З БАТО́НАМІ**. *Часцей адз. Вык. Праст. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Някемлівы, няўмелы чалавек, недарэка ці разявака. **Сін.**: асёл маляваны; галава <і> два вухі; галава садовая; галава яловая; дубовая галава; конь божы; курыная галава; куст альховы; медны лоб; мех з саломай; пень асінавы; пустая галава. **Ант.**: з царом у галаве (у 1 знач.); светлая галава. *— І які ж гэта ў цябе сусед?.. — А, абы-што! — махае рукой Галена. — Каб было пра што казаць. Гэта ж Алёша... з батонамі...* Супрунчук. *[Лепешаў*, с. 18; *Даніловіч*, с. 25.*]*

*АЛМАЗАХ* • **НЕБА Ў АЛМАЗАХ**. Гл. неба.

*АЛТАР* • **КЛАСЦІ НА АЛТАР** *чаго, чый што.* Гл. класці.

**КЛАСЦІСЯ НА АЛТАР** *чаго, чаму.* Гл. класціся.

*АЛЬМА-МАТЭР* • **А́ЛЬМА-МА́ТЭР**. *Нескл., ж. Найчасцей дзейн. ці дап. Кніжн. Часта ўзнёсл.* Універсітэт. *«Дружа, — пісаў Каліноўскі. — Я скончыў сваю мачыху-прагімназію. Еду паступаць у альма матэр. У Маскву...»* Караткевіч. *Любоў наша да універсітэта ўсеагульная, і яна ж у кожнага з нас — свая, бо дванаццаць жа сыноў-факультэтаў мае наша альма матэр.* Лойка. *У Кракаве памятаюць бурныя дыскусіі ў залах старой ягелонаўскай alma mater на пачатку трыццатых гадоў.* Брыль.

*АЛЬФА* • **А́ЛЬФА І АМЕ́ГА** *чаго. Дзейн., дап., вык. Кніжн.* Аснова ўсяго, самае значнае. **Сін.**: краевугольны камень *чаго*; станавая жыла *чаго, чыя*; усяму галава. *Уся сіла каўпакоўцаў, можна сказаць, альфа і амега іх стратэгіі і тактыкі заключалася ў няспынным руху — усё наперад і наперад!* Краўчанка. *На кожным уроку павінен адчувацца саюз методыкі і псіхалогіі. Гэта сёння альфа і амега дзейнасці настаўніка.* «Настаўн. газ.»

*АЛЬФЫ* • **АД А́ЛЬФЫ ДА АМЕ́ГІ**. *Акал. Кніжн.* Ад пачатку да канца; цалкам. **Сін.**: ад а да я; ад слова да слова. *Я пачаў правяраць, і аказалася: усё — ад альфы да амегі — трэба мне вырашаць нанава.* Танк. *Бывае, здаецца, што вырашаны ўсе праблемы і супярэчнас-*

*ці, аднак ёсць дні, якія паэт называе шчаслівымі, калі, усумніўшыся ў нейкай драбніцы, пераконваешся, што «усё — ад альфы да амегі» — трэба вырашыць нанава.* Вітка.

*АЛЬХОВЫ* • **КУСТ АЛЬХОВЫ**. Гл. куст.

*АМБІЦЫЮ* • **КІДАЦЦА Ў АМБІЦЫЮ**. Гл. кідацца.

*АМБРАЗУРУ* • **ЗАКРЫВАЦЬ АМБРАЗУРУ**. Гл. закрываць.

*АМЕГІ* • **АД АЛЬФЫ ДА АМЕГІ**. Гл. альфы.

*АМЕРЫКІ* • **АДКРЫЦЦЁ АМЕРЫКІ**. Гл. адкрыццё.

*АМЕРЫКУ* • **АДКРЫВАЦЬ АМЕРЫКУ**. Гл. адкрываць.

*АНДРЭЙ* • **АНДРЭ́Й КУЗЬМЕ́ РО́ДНЫ ХВЕ́ДАР (ХВЕ́ДАР)**. *Мн. не ўжыв. Часцей вык. Разм. Неадабр.* Той, хто важнічае, хваліцца блізкасцю ці сваяцтвам з нераўнёй. *Ну як, пакуражыўся? І з гулёвай сваёй развітаўся? Родную душу знайшоў. Андрэй Кузьме родны Хвёдар.* Караткевіч. *[Малы] расце сабе, у вус не дзьме, наказ шануе дзеда: на Случчыне Андрэй Кузьме — заўсёды родны Хведар.* Вітка.

*АНЕКДОТ* • **ХАДЗЯ́ЧЫ АНЕКДО́Т**. *Мн. не ўжыв. Часцей у знач. вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Чалавек, дзеянні ці ўчынкі якога здаюцца дзівацкімі. *Цяпер, калі падумаць, то незразумела, з якой прычыны Федзя абазваў тады Любу імем вясковай жанчыны, якая была ў сяле хадзячым анекдотам.* Грамовіч. *Ён жа [шкаляр] і ёсць хадзячы анекдот, але праўдзівы...* Сяргейчык.

*АНТОНАЎ* • **АНТОНАЎ АГОНЬ**. Гл. агонь.

*АНТЫМОНІІ* • **РАЗВОДЗІЦЬ АНТЫМОНІІ**. Гл. разводзіць.

*АНУ* • **АНУ́ ЯГО́**. *Выкл. Разм.* Выказванне незадавальнення, адмаўлення, нежадання рабіць што-н. **Сін.**: ану яго к ліху; ану яго к чорту; ну яго к манахам. — *Пабудзеш з Алёшкам у лагеры. — Ану яго, усё сядзі ды сядзі, абрыдла!* Карпюк. *[Мальвіна, не вытрымала:] — Ой, не магу!.. Ану яго!* В.Вольскі.

**АНУ ЯГО К ЛІХУ**. Гл. ліху.

**АНУ ЯГО К ЧОРТУ**. Гл. чорту.

*АНУЧА* • **МО́КРАЯ АНУ́ЧА**. *Адз. і мн. Часцей вык. Праст. Пагард.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Слабавольны, бесхарактарны чалавек. **Сін.**: мокрая курыца (у 2 знач.). *Саша казала, што гарэлка зрабіла яго мокрай анучаю, слухмяным і бязвольным; загадае — і ён пакіне яе, а загадае — застанецца.* Карамазаў. *Прывыкнеш шукаць цёпленькага месцейка і станеш мокрай анучай.* Дзятлаў. *—Ды атаман наш усё дазваляе, — пракazаў усё той самы голас, — толькі вы хочаце быць святым, ідэ[йным] сярод нас. Шмат ужо мы бачылі гэтых ідэ[йных], і што яны варты? Мокрыя анучы... Вось вы хто.* Нёманскі.

*АНЮЦІНЫ* • **АНЮЦІНЫ ВОЧКІ**. Гл. вочкі.

*АПАДАЕ* • **СЭРЦА АПАДАЕ** *ў каго, чыё.* Гл. сэрца.

*АПАЛОСКВАЦЬ* • **АПАЛО́СКВАЦЬ (ПАЛАСКА́ЦЬ) КО́СЦІ (КО́СТАЧКІ)** *чые, каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Пляткарыць, абгаворваць каго-н. **Сін.**: малоць языком (у 2 знач.); мыць языком *каго, што*; мянціць языком (у 2 знач.); перабіраць <усе> костачкі *чые, каго, каму* (у 1 знач.); перамываць костачкі *чые, каго, каму* (у 1 знач.); часаць язык (у 2 знач.). *Людзі добрыя! Апалосквае чужыя косці ды яшчэ чаго вяжашся!* Чорны.

2. Асуджаць чые-н. недахопы. **Сін.**: перабіраць па костачках *каго*; перабіраць <усе> костачкі *чые, каго, каму* (у 2 знач.); перамываць костачкі *чые, каго, каму* (у 2 знач.). *[У Рыгора] іншых думак поўна. Бадай што і цяпер вось, калі тутака палошчам яго костачкі, ён там дэманструе з бастуючымі рабочымі.* Гартны.

*АПАРАНЫ* • **ЯК АПА́РАНЫ <КІ́ПНЕМ>**. *Акал. Разм.* **1**. Вельмі рэзка, імкліва (выскачыць, ускочыць і пад.). **Сін.**: як уджалены; як на спружынах. *[Целеш:] Ну і шуганулі вы яго. Выскачыў як апараны. Чуць мяне з ног не збіў.* Крапіва. *У кабінет урываецца Крандзялёў як апараны.* Макаёнак. *Лукашык як апараны выскачыў з зямлянкі.* Дамашэвіч.

2. Адчуваючы замяшанне, разгубленасць (стаяць). — *Што? Таварыш! Які я табе таварыш?! — гнеўна бліснуў вачыма камендант і аж падскочыў. Карага стаяў як апараны кіпнем.* Колас. *Паплеч.. стаяў як апараны Францкевіч і ўсё пакручваўся, як на ражне.* Чорны.

*АПЕЛЬСІНАХ* • **ЯК СВІННЯ Ў АПЕЛЬСІНАХ**. Гл. свіння.

*АПОСТАЛ* • **ЗАЦЮ́КАНЫ АПО́СТАЛ**. *Звычайна ўжыв. у адз. Разм. Неадабр. Часцей у знач. вык.* Увогуле някепскі чалавек, якога затуркалі абставіны, жыццё і пад. *Мае [дзеці] усю доўгую зіму марылі пра новую паездку вясной і летам. Я абяцаў. Але абяцання не выканаў. Чаму? З-за працы. Раней, чым назваць так п'есу, Андрэй [Макаёнак] мяне называў «зацюканым апосталам».* Шамякін. — *Па-мойму, ты ходзіш да маці калі не штодня, то штотыдня. — Насця, раўнуеш! Я караю сябе, што заглядваю да бацькоў усё радзей і радзей. Зацюканы апостал!* «Маладосць».

*АПОШНІ* • **АДДАВАЦЬ АПОШНІ ДОЎГ** *каму*. Гл. аддаваць.

**АПОШНІ АКТ** <*чаго*>. Гл. акт.

**АПОШНІ З МАГІКАН**. Гл. магікан.

**ПРАВОДЗІЦЬ У АПОШНІ ШЛЯХ** *каго*. Гл. праводзіць.

*АПОШНІХ* • **З АПОШНІХ СІЛ**. Гл. сіл.

**З АПО́ШНІХ СЛОЎ**. Гл. слоў.

*АПОШНЮЮ* • **У АПОШНЮЮ ДАРОГУ**. Гл. дарогу.

*АПОШНЯГА* • **ДА АПО́ШНЯГА**. *Акал. Функц. не зам.* **1**. Ахвяруючы ўсім, што ёсць, аддаючы ўсё, на што здольны (біцца, трымацца і пад.). *[Камандзір палка] загадаў больш узмацніць ахову грэблі, супраціўляцца да апошняга і чакаць падмацавання.* Каваль. *Раней у цябе не было такіх сумненняў. Ты не адступаў. Біўся да апошняга.* Шамякін. *Гэтым другім і быў Алесін брат — Андрэй. Ён адстрэльваўся да апошняга.* Пестрак.

2. Цалкам, поўнасцю (аддаць, перадаць, выматацца і пад.). **Сін.**: без астатку. *Мікульскі, хоць і выматаўся за дзень да апошняга, — выганялі, разбіўшы на каманды, будаваць дарогу, — засынаў не скора.* Міські.

3. *Акал. Разм.* (Усе) без выключэння, поўнасцю; абсалютна (усе). **Сін.**: ад мала да вяліка; ад малога да вялікага; *усе* да аднаго; *усе* да душы; як адзін (у 1 знач.); як адзін чалавек. *Пасля вайны вялікае мы школы паканчалі заўзята і, усе да апошняга, дарослымі ўраз зрабіліся.* Яновіч. *Мілаш ведае, што гэта не пачуты дзе трэба піск. Няхай. Найгорш, калі ўсе да апошняга маўчаць.* «Крыніца».

**ДА АПОШНЯГА ДЫХАННЯ**. Гл. дыхання.

**З АПО́ШНЯГА**. *Акал. Разм.* Прыкладаючы ўсе сілы, намаганні (рабіць што-н.). **Сін.**: аж пуп трашчыць; ва ўсе лапаткі (у 2 знач.); высалапіўшы язык (у 3 знач.); з апошніх сіл; з усёй сілы (у 1 знач.); з усіх жыл (у 1 знач.); з усіх чатырох (у 2 знач.); колькі <было> сілы (у 1 знач.); на поўную сілу (у 1 знач.); на ўсю моц (у 1 знач.); што ёсць сілы (у

1 знач.). *[Зоська:] Тата стары, мамка хворая, гэтыя — малыя яшчэ, дык што яны ўсе пачнуць без цябе і мяне? А так, пойдзем служыць, будзем як-колечы памагаць ім з апошняга.* Купала. *Смерць дыктатара была вялікая і канкрэтная радасць.., і з гэтай радасці бацькі паднапяліся, хто дык нават з апошняга, і прыадзелі бледных, знясіленых гасцей — як жаніхоў.* Брыль.

*АПОШНЯЕ* • **АПОШНЯЕ СЛОВА** *чаго.* Гл. слова.
**ЯК АПОШНЯЕ Ў ПЕЧ УСЫПАЎШЫ**. Гл. усыпаўшы.

*АПОШНЯЙ* • **ДА АПОШНЯЙ КРОПЛІ КРЫВІ**. Гл. кроплі.
**ДА < АПОШНЯЙ > НІТКІ**. Гл. ніткі.
*Ісціна* **Ў АПОШНЯЙ ІНСТАНЦЫІ**. Гл. інстанцыі.

*АПОШНЯМУ* • **ПА АПОШНЯМУ СЛОВУ** *чаго.* Гл. слову.

*АПОШНЯЯ* • **АПОШНЯЯ СПІЦА Ў КОЛЕ**. Гл. спіца.
**АПОШНЯЯ Ў ПАПА ЖОНКА**. Гл. жонка.

*АПТЭЦЫ* • **ЯК У АПТЭ́ЦЫ**. *Разм.* **1.** *Акал.* Вельмі дакладна. **Сін.**: ні даць ні ўзяць (у 2 знач.); ні ўбавіць ні прыбавіць. *Не, тут як у аптэцы, на сорак сем капеек і ні паўгроша болей.* Лынькоў. *Антон зачэрпнуў формай жывую рыбу, паставіў на вагі. — Як у аптэцы... — задаволена крыкнуў Старкоў.* Крыга.
**2.** *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Абсалютна дакладны. — *Я разлічваў: без чвэрці шэсць устаноўка будзе спынена. — Разлік дакладны? — Як у аптэцы.* «Маладосць». *У Віктара Міхайлавіча ўсё ў ажуры: парадачак у паперах — як у аптэцы. І правяральшчыкі ў захапленні, і сам вырастаеш ва ўласных вачах.* «Вожык».

*АПУСКАЦЦА* • **АПУСКА́ЦЦА НА ДНО́**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Маральна занепадаць, разбэшчвацца. **Сін.**: збівацца з дарогі; збівацца з панталыку (у 2 знач.); збівацца з толку (у 2 знач.); збівацца з тропу (у 2 знач.); ісці па крывой сцежцы; каціцца ўніз (у 1 знач.); пакаціцца (паляцець) пад адхон (у 1 знач.); сыходзіць з рэек (у 2 знач.). **АПУСЦІЦЦА НА ДНО**. *Зак. А трапляюцца і такія нягоднікі, якія канчаткова апусціліся на дно, спіліся, даўно перасталі быць нашымі людзьмі...* Лынькоў.

*АПУСКАЦЬ* • **АПУСКА́ЦЬ ВУ́ШЫ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даходзіць да адчаю, губляцца. — *Справімся! А што там спраўляцца? — Міша ніколі не апускаў вушэй — яму, як і маці яго, Лісаветцы, [заўсёды] і ўсё ясна і проста...* Рубанаў. **АПУСЦІЦЬ ВУШЫ**. *Зак. Як гэта ты адзін? Апусціў, брат, вушы! Я табе дваццаць хлопцаў даю... Ну, не дваццаць, вядома, а дам табе сёння адрас аднаго.* Брыль.
**АПУСКАЦЬ ГАЛАВУ**. Гл. вешаць.
**АПУСКА́ЦЬ КРЫ́ЛЫ (КРЫ́ЛЛЕ)**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Станавіцца пасіўным, страчваць энергію, бадзёрасць. **Сін.**: апускаць рукі. **АПУСЦІЦЬ КРЫЛЫ (КРЫЛЛЕ)**. *Зак. Канечне, перажыла нямала Ганна, пабачыла ўсялякага. Дык не толькі яна, а ўсе перажылі і пабачылі. Але ж жывуць, не апусцілі крылы.* Гаўрылкін. — *Ах ты, дзявочая душа! Кахаць — кахаеш, а як да справы даткнецца, дык і крылы апусціла. Не трэба напускаць смутку ў галаву.* Нёманскі. — *Чаго ты крылле апусціла? — крыкнуў на яе муж...* Бядуля.
**АПУСКАЦЬ НОС**. Гл. вешаць.
**АПУСКА́ЦЬ РУ́КІ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Станавіцца бяздзейным, бязвольным, страчваць жаданне займацца чым-н. **Сін.**: апускаць крылы. *Там, дзе лёгка спачатку, цяжка ў канцы — гэтак часта бывае. Таму нельга рас-*

*слабляцца, апускаць рукі.* Каваленка. **АПУСЦІЦЬ РУКІ**. *Зак. Хоць і ў неабдуманае, недарэчнае падарожжа вы пусціліся, але вас можна пахваліць за тое, што вы добра змагаліся за сваё існаванне, не апусцілі рук і, як відаць, засталіся такімі ж бадзёрымі і вясёлымі.* Маўр.

*АПУСКАЮЦЦА* • **РУКІ АПУСКАЮЦЦА** *ў каго.* Гл. рукі.

*АПУСЦІЦЦА* • **АПУСЦІЦЦА НА ДНО**. *Зак. да* **АПУСКАЦЦА НА ДНО**.

*АПУСЦІЦЬ* • **АПУСЦІЦЬ ВУШЫ**. *Зак. да* **АПУСКАЦЬ ВУШЫ**.
**АПУСЦІЦЬ ГАЛАВУ**. Гл. вешаць.
**АПУСЦІЦЬ КРЫЛЫ**. *Зак. да* **АПУСКАЦЬ КРЫЛЫ**.
**АПУСЦІЦЬ НОС**. Гл. вешаць.
**АПУСЦІЦЬ РУКІ**. *Зак. да* **АПУСКАЦЬ РУКІ**.

*АПУХЛІ* • **ВУШЫ АПУХЛІ** *ў каго.* Гл. вушы.

*АПУШЧАНЫ* • **ЯК (НІБЫ́) У ВАДУ́ АПУ́ШЧАНЫ (-АЯ, -АЕ, -ЫЯ)**. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, часцей у спалучэнні з дзеясл. *хадзіць, быць* і пад. Расстроены, засмучаны, прыгнечаны. **Сін.**: не ў сабе; сам не ў сабе; як не свой; як пад зямлёй; <як> сам не свой; як цень (у 2 знач.). *Алесь і Пётра Крушынскія адчувалі сябе спачатку як апушчаныя ў ваду.* Бядуля. *Пагараваў чалавек без сваё песні, гады з два хадзіў як у ваду апушчаны.* Лынькоў. *З тыдзень Ганначка хадзіла як у ваду апушчаная, а пасля вырашыла напісаць услед Міцю пісьмо.* Шарахоўскі. *[Мароз] выслухаў без усякага энтузіязму, але вінтоўку ўзяў. А сам нібы ў ваду апушчаны.* Быкаў.

*АПЯКЛО* • **ЯК АГНЁМ АПЯКЛО́** *каго. Часцей у безас. ужыв. Разм.* Раптоўна ўразіла, збянтэжыла, напалохала што-н. **Сін.**: як варам абдало *каго*. *— Яйкі?! — Багдана як агнём апякло — успомніў, што ўлетку некалькі дзён засаб на сняданак еў калочаную яечню з самай вялікай скаварады. — Дзе ж ты, сынок, браў гэтыя яйкі? — Пад Квасавым свірнам...* Кулакоўскі. *Прачытала я гэта — і мяне як агнём апякло: «моральные недостатки!» Што можна падумаць пра дзяўчыну, якой далі такую характарыстыку?* Палтаран. *Гэтая думка як агнём апякла Гапку. Яна падхапілася з палацяў і выбегла ў двор.* Лупсякоў.

*АРАЛЫ* • **ПЕРАКАВАЦЬ МЯЧЫ НА АРАЛЫ**. Гл. перакаваць.

*АРАПА* • **БРАЦЬ НА АРАПА** *каго.* Гл. браць.
**ЗАПРАЎЛЯЦЬ АРАПА**. Гл. запраўляць.

*АРАЦЬ* • **АРА́ЦЬ ДАРО́ГІ (-У)**. *Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гаварыць ці рабіць якое-н. глупства. **Сін.**: біць язык аб зубы (у 2 знач.); блынды правіць; гарадзіць плот <*каму*>; званіць у <разбіты> лапаць; круціць вала <за хвост> (у 2 знач.); ліць ваду; мазоліць язык; малоць языком (у 1 знач.); малоць не падсяваючы; мянціць языком; пераліваць з пустога ў парожняе (у 2 знач.); плесці кашалі <*каму, пра каго, пра што*>; плесці кашалі з лапцямі; плесці лапці; пляскаць языком; разводзіць антымоніі; разводзіць тары-бары; тары-бары <растабары> (у 2 знач.); таўчы ваду ў ступе (у 2 знач.); тачыць лясы <з *кім*>; травіць баланду (у 1 знач.); трапаць языком; часаць язык (у 1 знач.); часаць языком. *Стань гаварыць яму, як трэба жыць, дык ён і папёр араць дарогі, крычыць, што кіне сям'ю, што паломіць усё чыста.* Янкоўскі. — *На чарвя адпорная... Квасоля!.. — Тукі, тукі, гаспада, — асіпла перабівала яе такая ж нізенькая і кучаравая, што авечка, гандлярка. Ганчарперавёў здзіўлены позірк з адной на другую: — Іч, падлы, дарогу аруць!* Коўтун.

*АРБІТУ* • **ВЫВОДЗІЦЦА НА АРБІТУ** . Гл. выводзіцца.
**ВЫВОДЗІЦЬ НА АРБІТУ** *каго.* Гл. выводзіць.
**ВЫХОДЗІЦЬ НА АРБІТУ**. Гл. выходзіць.

*АРМАТУРА* • **СКУРА ДЫ АРМАТУРА**. Гл. скура.

*АРТЫЛЕРЫЯ* • **ЦЯ́ЖКАЯ АРТЫЛЕ́РЫЯ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Тое, што прытрымліваецца на крайні выпадак як самы дзейсны сродак для дасягнення чаго-н. *Ксеня Паўлаўна ўзяла ды заплакала. Гэта быў яе апошні козыр, свайго роду цяжкая артылерыя, якая звычайна разбівала непрыступныя пазіцыі Міхайлы Іванавіча.* Колас. *Цяпер ён [Ігар] хуценька напісаў запіску: «Дзед, трэба хутчэй класці Мамрука на лапаткі. Выступай, а я потым з цяжкай артылерыяй».* Гаўрылкін. *Упэўніўшыся, што тактыка «бліжняга бою» ў наступленні на бюракратаў малаэфектыўная, Базанаў прапанаваў прымяніць цяжкую артылерыю, ролю якой у гэтым выпадку выконвалі калектыўныя пісьмы.* «Звязда».

*АРХІЎ* • **ЗДАВАЦЦА Ў АРХІЎ**. Гл. здавацца.
**ЗДАВАЦЬ У АРХІЎ**. Гл. здаваць.
**СПІСВАННЕ Ў АРХІЎ** *чаго.* Гл. спісванне.
**СПІСВАЦЬ У АРХІЎ** *што.* Гл. спісваць.

*АРШЫН* • **АРШЫ́Н З ША́ПКАЙ**. *Мн. не ўжыв. Вык. Разм. Жарт.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі малы, невысокі, нізкарослы. **Сін.**: ад гаршка паўвяршка; ад зямлі не адрос; жабе па калена; з вузел; кату па пяту; пад стол пяшком хадзіць. **Ант.**: з каломенскую вярсту; хоць <ты> сабак вешай *на кім. Тады якраз засватаўся Радзівон Мондры. Які там хлопец — аршын з шапкаю, але выйсця не было.* Адамчык. *Ідзе па лужах і думае Сымон Пятровіч. Гэта яго так для саліднасці завуць, нават крыху з гумарком. Ну які ён там Пятровіч? Дваццаць шосты год, ростам, як кажуць, аршын з шапкаю, адукацыя восем класаў.* Грахоўскі. *Бач ты, жэўжык! Аршын з шапкай, а ўжо маніць!..* Шашкоў.
**МЕРАЦЬ НА АДЗІН АРШЫН** *каго, што.* Гл. мераць.
**МЕРАЦЬ НА АРШЫН** *які каго, што.* Гл. мераць.
**МЕРАЦЬ НА СВОЙ АРШЫН** *каго, што.* Гл. мераць.
**ЯК АРШЫН ПРАГЛЫНУЎ**. Гл. праглынуў.
**ЯК АРШЫН ПРАГЛЫНУЎШЫ** *сядзець, хадзіць.* Гл. праглынуўшы.

*АРШЫНАМ* • **АРШЫНАМ НОСА НЕ ДАСТА́ЦЬ** *у каго, каму.* Гл. дастаць.
**МЕРАЦЬ АРШЫНАМ** *якім каго, што.* Гл. мераць.

*АРЫФМЕТЫКА* • **ПРО́СТАЯ АРЫФМЕ́ТЫКА**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Нешта вельмі лёгкае для разумення, рашэння. **Ант.**: кітайская грамата; цёмны лес (*для каго*); цямна вада ва облацэх. *Чытачу, які звык глядзець на літаратуру як на простую арыфметыку, — гэта кніга [В. Адамчыка] можа аказацца цяжкаватай.* Мележ. *Простая арыфметыка, Андрэй. Міністэрства дало згоду, а Дзяржбуд узгадніў заданне на праектаванне рэканструкцыі завода на існуючай пляцоўцы.* Ярашэвіч. *[Вера:] Бачыш, Сярожа, простая арыфметыка. Няхай лепш будзе нешчаслівы адзін чалавек, чым трое.* Матукоўскі.

*АРЫШТАНТАЎ* • **БОЧКУ АРЫШТАНТАЎ** *нагаварыць* і пад. Гл. бочку.

*АРЫЯДНІНА* • **АРЫЯДНІНА НІЦЬ**. Гл. ніць.

*АРЭДАВЫ* • **АРЭДАВЫ ВЯКІ**. Гл. вякі.

*АРЭХІ* • <u>*Даставацца*</u> і пад. **НА АРЭ́ХІ**. *Акал. Разм.* (Даставацца, зарабіць і пад.) здорава, як след. Звычайна пра пакаранне, наганяй. **Сін.**: на абаранкі. *[Наташа:] Дастанецца табе ад бацькі на арэхі.* Макаёнак. *Гэта прапусці ад нас няспраўны вагон, не абярэшся тады ліха, будзе нам на арэхі да апошняга змазчыка.* Лынькоў. *Ты толькі сакратару аб гэтым не кажы. А то атрымаеш на арэхі.* Машара. *Андрэй маўчаў, прыкусіўшы язык: пярэчыць шэфу, калі той не ў гуморы, — утрая зарабіць на арэхі...* Блакіт. — *Будзе мне. Пападзе на арэхі! — весела прызнаўся Васіль.* Мележ. *Нават любімаму сыну Моську перападала на арэхі, калі Шолам заўважаў, што той ірве яблыкі з дрэва.* Корбан.

*АРЭШАК* • **РАСКУСІЦЬ АРЭШАК**. Гл. раскусіць.

**ЦВЁРДЫ (МО́ЦНЫ) АРЭ́ШАК**. *Часцей у адз. Разм. Часцей у знач. вык.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Што-н. недаступнае, цяжкае для авалодання ім. Пра горад, населены пункт і пад.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Стойкі ў сваіх перакананнях, намерах чалавек, які не паддаецца ўплыву іншых людзей. *Не спяшайцеся мяне шкадаваць! Папярэджваю — я яшчэ цвёрды арэшак; у мяне апломб, упартасць, вопыт.* Федарэнка.

*АРЭШКІ* • **ЛУСКАЦЬ ЯК АРЭШКІ** *што*. Гл. лускаць.

*АСАДАК* • **ВЫПАДАЦЬ У АСАДАК** <*ад чаго*>. Гл. выпадаць.

*АСАДЗІ* • **АСАДЗІ́ НАЗА́Д**! *Часцей у знач. вык. Разм.* Прэч. Як патрабаванне пазбавіцца ад каго-н. *[Лупадзёр:] Не толькі на кірмашы мяне слухаюць, калі я закамандую: асадзі назад!* Галубок. *[Даніла:] Вось ёй [Матруне] і будзе! Куды ні паткнецца — асадзі назад!* Зуб. *Не суцяшайся, суд будзе суровы... Пасадзяць — сапсаваў, лічы, сабе жыццё. Усюды будзе «асадзі назад».* Далідовіч. *Сорак першы помнім: быў суровы год! Вораг вераломна рушыў на Усход. На Маскву ён рвецца, прэ на Ленінград, толькі дзе ні ткнецца, — асадзі назад!* Гілевіч. *Для ваякоў збродных, хто знішчэнню рад, чуцен кліч народны: — Асадзі назад!* Скрыпка.

*АСАННУ* • **СПЯВАЦЬ АСАННУ** *каму, чаму*. Гл. спяваць.

*АСЕЧКУ* • **ДАВАЦЬ АСЕЧКУ** <*у чым*>. Гл. даваць.

*АСЁЛ* • **АСЁЛ МАЛЯВА́НЫ**. *Адз. і мн. Вык. Разм. Неадабр.* Тупы, неразумны чалавек. **Сін.**: алёша з батонамі; галава <і> два вухі; галава садовая; галава яловая; дубовая галава; конь божы; курыная галава; куст альховы; медны лоб; мех з саломай; пень асінавы; пустая галава. **Ант.**: светлая галава; у цемя не біты. *На іхніх хлопцаў гаварылі «аслы маляваныя».* Янкоўскі. *Дурні! Аслы маляваныя! Пасядзець бы паболей побач з дзядзькам Піліпам, навучыцца б плесці з лазы «фірмовыя» кошыкі.* «ЛіМ». — *Асёл маляваны! — крычыць радасна дурнаваты стрыечны дзядзька, сустракаючы мяне на шырокай і адзінай купрэеўскай вуліцы.* «Нар. газ.» *А жыў ён [Васіль] як чалавек, пры сям'і. У сваім калгасе не аслом маляваным быў, а пры дзеле — ветэрынарам працаваў.* Гроднеў.

**БУРЫДА́НАЎ АСЁЛ**. *Звычайна адз. Часцей вык. Кніжн. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Крайне нерашучы чалавек, які хістаецца, вагаецца ў выбары паміж двума раўнацэннымі рашэннямі ці раўназначнымі жаданнямі.

**ВАЛААМАЎ АСЁЛ**. Гл. асліца.

*АСІНА* • **АСІ́НА <ГО́РКАЯ, СУХА́Я> ПЛА́ЧА** *па кім. У безас. ужыв. Разм. Пагард.* Хто-н. заслугоўвае павешання. **Сін.**: вяроўка плача *па кім*; вісельня плача *па кім*. — *Судзіць гадаў!.. — Які там суд? Асіна па іх даўно плача, — закрычаў Цярэшка.* Грахоўскі. *Хойзер атрымаў 15 год турмы, хоць па ім даўно плача асіна...* Новікаў. *Па табе і твайму сынку*

*даўно сухая асіна плача.* Лобан. *Няма чаго з ім валаводзіцца. Па ім даўно плача горкая асіна...* Гурскі.

**ЯК АСІ́НА** *калаціцца, дрыжаць. Акал. Разм.* Вельмі моцна (калаціцца — часцей ад страху). **Сін.**: як авечы хвост; як асінавы ліст. *Не крычы ты на яго, Сёмка: ён і так увесь калоціцца як асіна.* Колас. *Аднаму баязліўцу давялося ісці ноччу цераз лес. У небаракі аж зубы ляскалі, і сам ён калаціўся як асіна.* Крапіва. *Як забралі майго ў армію, з таго часу нібы мне што зрабілася — як асіна калачуся.* Дамашэвіч.

*АСІНАВЫ* • **ЗАБІВАЦЬ АСІНАВЫ КОЛ У МАГІЛУ** *каго, чаго.* Гл. забіваць.

**ПЕНЬ АСІНАВЫ**. Гл. пень.

**ЯК АСІНАВЫ ЛІСТ**. Гл. ліст.

*АСІНАЕ* • **АСІНАЕ ГНЯЗДО**. Гл. гняздо.

*АСІНКУ* • **ЗАЛАМАЦЬ АСІНКУ**. Гл. заламаць.

*АСКОМІНУ* • **НАБІВАЦЬ АСКОМІНУ** *каму.* Гл. набіваць.

*АСКОМУ* • **НАБІВАЦЬ АСКОМУ** *каму.* Гл. набіваць.

*АСЛАБЕЛІ* • **УТОРЫ АСЛАБЕЛІ** *ў каго.* Гл. уторы.

*АСЛАБЛІ* • **АСЛАБЛІ ГАЙКІ** *ў каго, чые.* Гл. гайкі.

*АСЛІЦА* • **ВАЛАА́МАВА АСЛІ́ЦА (ВАЛАА́МАЎ АСЁЛ)**. *Мн. не ўжыв. У знач. вык. ці зваротка. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пакорны, маўклівы чалавек, які нечакана выказаў сваю думку або нязгоду, пратэст. *[Антох:] І лепей бы я з бесам піў, чым з папом, які з Бесавічаў. [Поп:] Ой, заклею я твой вобраз. [Антох:] Паспрабуй, асёл Валаамаў.* Караткевіч.

*АСМАЛЕНАЯ* • **ГУЛА АСМАЛЕНАЯ**. Гл. гула.

*АСНОВЫ* • **ЗАКЛАДВАЦЬ АСНОВЫ** *чаго.* Гл. закладваць.

**ЗАКЛА́ДВАЮЦЦА АСНО́ВЫ** *чаго*; **ЗАКЛА́ДВАЕЦЦА ФУНДА́МЕНТ** *чаго. У безас. ужыв. Кніжн.* Даецца пачатак чаму-н.; ствараецца тое, што з'яўляецца зыходным для чаго-н. *Ці не на гэтым галоўным этапе, які вызначае лёс будучага чалавека, і закладваюцца асновы ўзаемаразумення дзіцячага пісьменніка са сваім чытачом?* Вітка. *Пабываўшы на Лепельшчыне ў гэту гарачую пару, я ўбачыў, як закладваецца фундамент шчодрага гектара.* «Звязда».

*АСНОЎНЫМ* • **У АСНО́ЎНЫМ**. *Акал. Функц. не зам.* **1**. Пераважна. **Сін.**: галоўным чынам. *У шэсць гадзін раніцы ў асноўным тыя ж людзі, што хадзілі ў Чорны Яр будаваць буданы-падманкі, рушылі ў новую дарогу.* Шушкевіч. *Праз некалькі дзён пасля гэтага сходу дружына рабочых, узброеная ў асноўным косамі, сапраўды ўступала ў бойку з казакамі, ратуючы членаў арганізацыі ад новага арышту.* Арабей.

**2**. Збольшага, без падрабязнасцей (ведаць, расказваць, быць знаёмым і пад.). **Сін.**: у агульных рысах; у прынцыпе; у цэлым (у 2 знач.). *Няма патрэбы маляваць агульныя асаблівасці жыцця ў Парыжы, якія ў асноўным усім вядомы.* Мележ. *Сістэма аховы чыгункі ў асноўным была знаёма — не раз разведвалі, не раз прымалі і давалі баі.* Кудраўцаў.

*АСОБЕ* • **У АСО́БЕ** *каго. У ролі прыназоўніка. Кніжн.* У кім-н., у якім-н. канкрэтным чалавеку. *Лабановіч.. пераканаўся, што ў асобе Саханюка ён не будзе мець для сябе настаўніка, што супольнага між імі вельмі мала і што блізкімі сябрамі яны ніколі не будуць.* Колас. *І нават гэты невялікі зборнік дае нам падставу сказаць, што ў асобе Валерыя Маракова мы мелі здольнага паэта, талент якога пабачыў раннюю вясну і не дачакаўся свайго класічнага лета, свайго залатога пакосу.* Шушкевіч.

*АСОБЫ* • **НЕ ГЛЕДЗЯЧЫ НА АСОБЫ**. Гл. глядзячы.

*АСОЙ* • **КІДАЦЦА АСОЙ У ВОЧЫ** *каму*. Гл. кідацца.

*АСТАВАЦЦА* • **АСТАВАЦЦА БЕЗ НОГ**. Гл. заставацца.
**АСТАВАЦЦА БЕЗ РУК**. Гл. заставацца.

*АСТАТКУ* • **БЕЗ АСТА́ТКУ**. *Акал. Функц. не зам.* Поўнасцю, цалкам (аддаць, вычарпаць і пад.). **Сін.**: да апошняга (у 2 знач.). *Вы зрабілі ўсё, што маглі, аддалі народу і радзіме ўсе свае сілы, без астатку.* Дамашэвіч. *Упэўненай рукой трымаў Галубок паходню культурнага асветніцтва, штодзённай самаахвярнай працай змагаўся за лепшае заўтра. А ўрэшце, ён сам быў гэтай паходняй, узнятай над плынямі бурнага часу, якая без астатку аддала святло і цяпло роднай старонцы...* Лаўшук.

*АСТАТНІХ* • **З АСТАТНІХ СІЛ**. Гл. сіл.
**З АСТАТНІХ СЛОЎ**. Гл. слоў.

*АСТАТНЯЕ* • **ЯК АСТАТНЯЕ Ў ПЕЧ УСЫПАЎШЫ**. Гл. усыпаўшы.

*АСТАЦЦА* • **АСТАЦЦА БЕЗ НОГ**. Гл. заставацца.
**АСТАЦЦА БЕЗ РУК**. Гл. заставацца.

*АСТУДЗІЦЬ* • **АСТУДЗІ́ЦЬ ГАРА́ЧУЮ ГАЛАВУ́**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы і абстр. прадмета. Угаманіць, суняць, суцішыць каго-н. залішне нястрыманага, запальчывага, неразважлівага. *Дырэктар Хардзін думаў, што арышт двух дактароў, якія былі кіраўнікамі, астудзіць другія гарачыя галовы, што ў бальніцы, нарэшце, пацішэе.* Арабей. *Вялікі князь загадаў трубіць у трубы, астудзіць гарачыя галовы і вярнуць іх назад, бо некаторыя гатовы былі імчацца на край свету, каб вынішчыць усе палавецкія ўлусы.* Дайнека.

*АСТЫЛА* • **ГАЛАВА АСТЫЛА** *у каго*. Гл. галава.

*АСУШАЦЬ* • **АСУШАЦЬ СВАЕ СЛЁЗЫ**. Гл. асушваць.
**АСУШАЦЬ СЛЁЗЫ** *чые, каму*. Гл. асушваць.

*АСУШВАЦЬ* • **АСУ́ШВАЦЬ (АСУША́ЦЬ) СВАЕ́ СЛЁЗЫ (-КІ; ВО́ЧЫ, -КІ)**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пераставаць плакаць. **АСУШЫЦЬ СВАЕ СЛЁЗЫ (-КІ; ВОЧЫ, -КІ)**. *[Лабыш:] Так што асушы свае слёзкі і прымірыся, што ты ўжо не Ганецкая.* Козел. *[Панас:] Ціха, дачушка! Асушы вочкі свае.* Грамыка.

**АСУ́ШВАЦЬ (АСУША́ЦЬ) СЛЁЗЫ (ВО́ЧЫ)** *чые, каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, а таксама (пры ўвасабленні) канкр. ці абстр. прадмета. Суцяшаць, супакойваць таго, хто плача. **Сін.**: выціраць слёзы *каму*. **АСУШЫЦЬ СЛЁЗЫ (ВОЧЫ)** *чые, каму. Зак. Далёкае неба, сіняе неба!.. Чаму не асушыш нашы горкія слёзы?* Колас. *Ой ты, вольны віхар, развей наша ліха! Сонца-яснавочка, асушы нам вочы.* Панчанка.

**ВАЧЭ́Й НЕ АСУ́ШВАЦЬ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Несуцешна і часта плакаць. **Сін.**: абліваецца слязамі; бярозаю ліцца; выплакаць <усе> вочы; выціскаць слязу (у 1 знач.); ліць слёзы <*па кім*>; пецъ рэпку; пускаць слязу; разводзіць сырасць; распускаць нюні (у 1 знач.); умывацца слязамі. *Там Рыгорка, хто ведае, як маецца, а я тут усё плачу ды плачу па ім, вачэй не асушваю.* Гартны.

*АСУШЫЦЬ* • **АСУШЫЦЬ СВАЕ СЛЁЗЫ**. *Зак. да* **АСУШВАЦЬ СВАЕ СЛЁЗЫ**.
**АСУШЫЦЬ СЛЁЗЫ** *чые, каму. Зак. да* **АСУШВАЦЬ СЛЁЗЫ** *чые, каму*.

*АСФАЛЬЦЕ* • **СЕНА НА АСФАЛЬЦЕ**. Гл. сена.

*АСЬМІНАЙ* • **МЕРАЦЬ АСЬМІНАЙ** *грошы.* Гл. мераць.

*АСЯДЛАЦЬ* • **АСЯДЛАЦЬ ПЕГАСА.** *Зак. да* **СЯДЛАЦЬ ПЕГАСА.**

*АТМАСФЕРА* • **АТМАСФЕ́РА ЗГУШЧА́ЕЦЦА** <*дзе*>. *Мн. не ўжыв. Цяп., пр. і буд. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Узнікаюць напружаныя абставіны. **Сін.**: атмасфера накаляецца <*дзе*>. **Ант.**: атмасфера разраджаецца <*дзе*>. *Алена глянула скоса і нахмурылася, але нічога не сказала... Макар адчуў, што атмасфера можа згушчацца.* Пестрак.
**АТМАСФЕ́РА НАКАЛЯ́ЕЦЦА** <*дзе*>. *Мн. не ўжыв. Цяп., пр. і буд. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Узнікаюць напружаныя абставіны. **Сін.**: атмасфера згушчаецца <*дзе*>. **Ант.**: атмасфера разраджаецца <*дзе*>. *Паколькі атмасфера на пасяджэнні накалялася, зноў выступіў «голуб» Троцкі.* Шамякін. *Атмасфера на з'ездзе накалілася, калі эсэр Макрэеў унёс другую прапанову — выбраць старшынёй эсэра Несцерава.* «Звязда».
**АТМАСФЕ́РА РАЗРАДЖА́ЕЦЦА** <*дзе*>. *Мн. не ўжыв. Цяп., пр. і буд. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Знікае, паслабляецца напружанне ў якіх-н. абставінах. **Ант.**: атмасфера згушчаецца <*дзе*>; атмасфера накаляецца <*дзе*>. *Нехта пырснуў.., і раптам завіхрыў у натоўпе рэзкі нервовы смех. Атмасфера разрадзілася.* Зарэцкі.

*АТМАСФЕРУ* • **РАЗРАДЗІЦЬ АТМАСФЕРУ.** *Зак. да* **РАЗРАДЖАЦЬ АТМАСФЕРУ.**

*АТРАПАЦЬ* • **АТРАПАЦЬ РУКІ** *ад каго, ад чаго. Зак. да* **АТРЭПВАЦЬ РУКІ** *ад каго, ад чаго.*

*АТРАСАЦЬ* • **АТРАСАЦЬ РУКІ** *ад каго, ад чаго.* Гл. атрэпваць.

*АТРЫМАЦЬ* • **АТРЫМАЦЬ ГАРБУЗ.** *Зак. да* **АТРЫМЛІВАЦЬ ГАРБУЗ.**

*АТРЫМЛІВАЦЬ* • **АТРЫ́МЛІВАЦЬ ГАРБУ́З (-А́).** *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы мужчынскага полу. Абнеслаўляцца пры сватаўстве, не дабіўшыся згоды на шлюб. *Варона сватаецца да Янкоўскай, атрымлівае гарбуза і пасля, каб адпомсціць, пачынае выкідаць жарцікі з дзікім паляваннем.* Караткевіч. **АТРЫМАЦЬ ГАРБУЗ (-А).** *Зак. У Крушніках мяне кожны разглядаў з ног да галавы. Хто з усмешкай (што, брат, атрымаў гарбуза!), хто са шкадаваннем...* «Полымя».

*АТРЭПВАЦЬ* • **АТРЭ́ПВАЦЬ (АТРАСА́ЦЬ) РУ́КІ** *ад каго, ад чаго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** Рашуча пазбаўляцца ад каго-, чаго-н. **АТРАПАЦЬ (АТРЭСЦІ) РУКІ** *ад каго, ад чаго. Зак. Зыдор Пніцкі, атрапаўшы рукі ад усяго хатняга дробнага капеечнага клопату, зрабіўся нязменным спадарожнікам Адама Бародзіча і Курца.* Чорны. — *Следства, можна сказаць, яшчэ не пачыналася. Цяпер яшчэ можна яго куды хочаш павярнуць. — Дык вот, калі ты такі разумны, то вазьмі ды і павярні. Я нічога не ведаю. Я хачу атрапаць рукі ад гэтага.* Лобан.
**2.** Катэгарычна адмаўляцца ад каго-, чаго-н. *[Гаспадыня:] Ну што, возьмем падпаска? [Гаспадар:] Ты сабе бяры, а я атрасаю рукі. Хутка самому ў пастухі наймацца прыйдзецца.* Галубок. **АТРАПАЦЬ (АТРЭСЦІ) РУКІ** *ад каго, ад чаго. Зак. Ніхто мяне не чапае за маё мінулае багацце. Атрос я ад яго рукі...* Машара.

*АТРЭСЦІ* • **АТРЭСЦІ РУКІ** *ад каго, ад чаго. Зак. да* **АТРАСАЦЬ РУКІ** *ад каго, ад чаго.*

*АЎГІЕВЫ* • **АЎГІЕВЫ СТАЙНІ.** Гл. стайні.

*АЎЧЫНКУ* • **НЕБА З АЎЧЫНКУ ЗДАЕЦЦА** *каму.* Гл. неба.

*АХАПКУ* • **ШАПКУ Ў АХАПКУ.** Гл. шапку.

*АХІЛЕСАВА* • **АХІЛЕСАВА ПЯТА** <*чыя, каго, у каго*>. Гл. пята.

*АХНУЦЬ* • **І АХНУЦЬ НЕ ПАСПЕЎ.** Гл. паспеў.

*АЧАРНІЦЬ* • **НІ АЧАРНІ́ЦЬ НІ АБЯЛІ́ЦЬ**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прамаўчаць, ніяк не рэагуючы на чыё-н. выказванне. *«Каб больш і следу тут не палажыў!» Арсень зноў ні ачарніў ні абяліў. На гэтым іхняя першая стрэча і першая спрэчка й скончылася.* Калюга. *Кругаглядаў перасцярог гаспадара і сына-навабранца... І бацька, і сын ні абялілі ні ачарнілі. Моўчкі ішлі да калёс, дзе таптаўся збянтэжаны Мішка.* Далідовіч.

*АЧЫСТКІ* • **ДЛЯ АЧЫ́СТКІ СУМЛЕ́ННЯ**. *Акал. Функц. не зам.* У апраўданне сваіх учынкаў, каб потым не шкадаваць аб чым-н., не раскайвацца ў чым-н. *Напэўна, трэба было, пакуль яшчэ заставаўся час, хоць бы ў адзін штык перакапаць гэты зарослы быльнягом куток, каб канчаткова пераканацца, што там нічога няма. Хоць бы для ачысткі сумлення.* Быкаў. *[Пасько] хацеў пайсці ўжо і толькі так, для ачысткі сумлення, апошні раз павёў ліхтарыкам уздоўж сховішча.* Шыцік.

# Б

*БАБА* • **БАЗА́РНАЯ БА́БА**. *Часцей адз. Часцей вык. Праст. Неадабр.* Крыклівы, сварлівы, грубы чалавек. *— Спыніся! — жорстка прамовіла Алена Аляксандраўна. — Не ператварайся ў базарную бабу.* Кацюшэнка. *Не будзь базарной бабай.., глядзяць усе.* Юрчанка.

*БАБАХ* • **НА БАБА́Х** застава́цца (заста́цца) і пад. *Акал. Разм.* Без таго, на што разлічваў, спадзяваўся хто-н., чаго дамагаўся. **Сін**: без штаноў; з голымі рукамі (у 1 знач.); з носам; з такам; ля разбітага карыта; ні з чым; несолана хлябаўшы; перад разбітым карытам; пры пікавых інтарэсах. *Здалі мы насенне, а яно дзяржаве не дасталося, калгас з яго не спажыў, і мы, як кажуць, на бабах засталіся.* Каваленка. *Самі бацькі з маткамі вінаваты, што не прывучаюць вас да сваёй работы... Вось і застаюцца пад старасць на бабах, адны.* Рубанаў. *Ёсць кармы — ёсць малако і мяса, хоць, праўда, іншы раз і з кармамі можна застацца, як кажуць, на бабах. Бо кармы трэба не толькі мець, але і рацыянальна іх выкарыстаць.* «Вожык». *Прапануем Лазаруку тваю [кватэру]. Хацеў асобную, няхай яе атрымае. Адмовіцца — на бабах так і застанецца.* Марчук.

**СЯДЗЕЦЬ НА БАБАХ**. Гл. сядзець.

*БАБЕ* • **ЯК СТАРОЙ БАБЕ СЕСЦІ**. Гл. сесці.

*БАБЁР* • **ДАБЁР БАБЁР**. Гл. бабры.

Плакаць, расплакацца **ЯК БАБЁР**. *Акал. Разм.* Доўга і жаласліва. *Адзін просіцца, другі плача як бабёр, трэці лаецца апошнімі словамі.* Дамашэвіч. *Пагляджу, бывала, у люстэрка — галава круглая, белая, быццам качан капусты. Плачу як бабёр.* Дайнека. *Годзе! Расплакаўся як бабёр!* Праскураў.

*БАБІНА* • **БАБІНА ЛЕТА**. Гл. лета.

*БАБКА* • **БА́БКА НАДВО́Е (НА́ДВАЕ) ВАРАЖЫ́ЛА (ГАДА́ЛА)**. *Узнач. вык. Разм.* 1. Невядома, ці ўдасца ажыццявіць жаданае. **Сін**.: віламі па вадзе пісана. *— А пра сена з Волі не чуў? — Гэта яшчэ бабка надвое варажыла! Калі заплачу за малацьбу, то за што я буду вазіць яму [Хаіму] сена?* Чарнышэвіч. *Дык от: дабераецеся вы [да сваіх, праз лінію фронту] ці не — бабка надвое гадала.* Міська.

2. Невядома, ці адпавядае сапраўднасці тое, пра што гавораць. — *Трэба было шпокнуць абодвух, — з лёгкасцю зазначыў Ляўчук. — А што? Раз сумненне, дык і абодвух. Каб не было сумнення. Як кажуць, бабка надвое варажыла: можа, чэсны, а можа, і агент. — Не, так нельга, — ціха сказала Клава.* Быкаў. *Тут, бачыш, на каго нарвешся... Ёсць.. і разявы. Ёсць і ласыя да грошай. Ёсць і такія, што спачуваюць нам. У такіх выпадках кажуць: бабка надвое варажыла.* Няхай.

**ВОСЬ ТАБЕ < БАБКА > І ЮР'ЕЎ ДЗЕНЬ**! Гл. вось.

*БАБКІ* • **БА́БКІ ПАДБІВА́ЮЦЦА (ПАДБІВА́ЛІСЯ)**. *У безас. ужыв. Разм.* Падсумоўваецца зробленае, падводзяцца вынікі. **Сін**.: рыса падводзіцца *пад чым. У канцы месяца падбіваліся бабкі, і ў таго, хто набраў большы каэфіцыент за сваю працу, была большая зарплата, адпаведна і прэміяльныя.* І.Капыловіч.

**ПАДБІВАЦЬ БАБКІ**. Гл. падбіваць.

*БАБРЫ* • **ДАБРЫ́ БАБРЫ́; ДАБЁР БАБЁР**. *Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Хітры, выкрутлівы чалавек. *[Юлія:] Хадзі, я уж[о] цябе навучу, як маеш з ім абайціцца [Навум:] Ой, цікунка ты, цікунка! відна, што дабры бабры.* Дунін-Марцінкевіч. *Таксіст пазяхнуў: — Не магу [узяць пасажыра]. Бачыце, які ён у вас харошы! — Не хамі! Сам ты дабёр бабёр!.. Я пехатою пайду, Лёдзя!* Карпаў.

*БАБУЛІНЫ* • **БАБУЛІНЫ КАЗКІ**. Гл. казкі.

*БАБЫ* • **СЕСЦІ НА БАБЫ**. Гл. сесці.

*БАВІЦЬ* • **БА́ВІЦЬ ДУ́Х** <*чым*>. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Перабівацца, карміцца, каб толькі пражыць. *Чым той Сёмка дух бавіў? На людзях дзе, на далёкай рабоце ніхто ніколі не бачыў, што ён з торбы дастае. Адыдзецца ўбок і з рукава нешта ўкусіць.* Клебановіч. **ПРАБАВІЦЬ ДУХ** <*чым*>. *Зак. І ён, Яўхім, то прасіў, каб хоць дух прабавіць, у такіх жа, як сам, вясковых, але багацейшых, хлопцаў, і ў Піліпа, вядома, то прылаўчыўся быў патроху красці, абіраць людскія каморы і кубельцы, наведваючыся па начах у суседнія вёскі.* Сачанка.

*БАГАТА* • **ЧЫМ ХАТА БАГАТА**. Гл. хата.

*БАЗАРНАЯ* • **БАЗАРНАЯ БАБА**. Гл. баба.

*БАЗАРНЫ* • **ГРОШ ЦАНА <У БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ>** *каму, чаму.* Гл. цана.

*БАЙДЫ* • **БІЦЬ БАЙДЫ**. Гл. біць.

*БАКАВУЮ* • **НА БАКАВУ́Ю**. *Разм.* 1. *У безас. ужыв.* Ужыв. пры слове *пара.* (Пара) лажыцца спаць каму-н. *Ужо нехта зазначыў, што і так цэлую ноч прагаварылі ды ўсё дарэмна, што пара б і на бакавую, бо заўтра не свята.* Крапіва. *Вы, дзеці, забаўляецеся, а мне пара і на бакавую.* Машара. *І вам, маладзёны, я кажу, пара на бакавую.* Аношкін.

2. *У знач. простага ці састаўн. дзеясл. вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы (пасля аднароднага вык. ці ў складзе састаўн. дзеясл. вык.). Спаць. **Сін**.: на бок. *[Сандалік:] Пройдземся яшчэ разок алеяй дый на бакавую.* Гілевіч. *Спі... Паеў і — на бакавую. Так і ад вайны адвыкнеш. Праўда, Лазняк?* Быкаў. *Цяпер ужо дваццаць тры мінуты пасля чатырох... Пайду вось зараз на бакавую.* Брыль. *Мы зараз вось як завалімся на бакавую — да раніцы будзем спаць...* Масарэнка.

*БАКІ* • **АБІВАЦЬ БАКІ**. Гл. абіваць.

**АДЛЕЖВАЦЬ БАКІ**. Гл. адлежваць.

**БАКІ ЗАБІВАЦЬ** *каму.* Гл. забіваць.

**БАКІ РВАЦЬ**. Гл. рваць.

**БОКІ (БАКІ) ПАПАДРЫВАЦЬ**. Гл. пападрываць.

**ВЫКЛАДАЦЬ БАКІ**. Гл. выкладаць.

**ДВА́ БАКІ́ АДНАГО́ МЕДАЛЯ́**. *Вык. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Вельмі блізкія ці аднолькавыя ў якіх-н. адносінах з'явы. **Сін.**: два канцы адной палкі. *Напачатку ён [Пісарчук], адукаваны чалавек, проста не давяраў ідэі прагнага камуністычнага кіравання жыццём і, ігнаруючы яго, нават не адрозніваў партыйныя камітэты, створаныя бальшавікамі, ад саветаў: яму здавалася, што гэта — два бакі аднаго медаля...* Якавенка.

**НАМЯЦЬ БАКІ** *каму*. Гл. намяць.

**НА ЎСЕ́ БАКІ́ (БО́КІ)**. *Акал. Разм.* Усяляк, усебакова. **Сін.**: на ўсе лады (у 1 знач.). *Хітрыя зайчыкі заскакалі на губах і ў вачах цёртага на ўсе бакі пана Ліўшыца.* Нёманскі. *Наскочыць камандзір палка ці ротны кадравы — марока. Усіх абляюць на ўсе бокі, не пашкадуюць языка.* Колас. *Хоць бы хутчэй ужо дапасці да таго, калі можна будзе на ўсе бокі паказаць душу Канстанціна Прыбыткоўскага.* Чорны.

**НА ЎСЕ́ ЧАТЫ́РЫ <БАКІ́, СТАРАНЫ́>** <u>ісці (пайсці), адпускаць (адпусціць)</u> і пад. *Акал. Разм.* У любое месца, абы-куды, куды захочацца. **Сін.**: на край свету (у 2 знач.); хоць на край свету. *Сілцы — то ж яны нам, прывязаным да загонаў, да сахі, а Рыгору — на ўсе чатыры бакі.* Гартны. *Ці ты скажаш, ці не? Вырашай! Нашто цяганіна? Мы пусцім цябе на ўсе чатыры бакі.* Баранавых. *— А я ўжо ў бацькі прасіўся, — пачаў Гарась, — адпусці ты, кажу, родны, любага сына твайго на ўсе чатыры стараны.* Каваль. *У мяне так, скора прыйдуць на трылёўку трактары, тады хоць на ўсе чатыры стараны...* Пташнікаў. *[Іван:] Значыць, я — вольны казак? Магу на ўсе чатыры?* Макаёнак. *Ужо колькі разоў ён гаварыў Надзі, што кіне-рыне ўсё і пойдзе на ўсе чатыры.* Кузьмянкоў.

*БАКОЎ* • **З УСІ́Х БАКО́Ў**. *Акал. Разм.* Адусюль. *[Старац:] Калісь і мяне цiскалі няшчасці з усіх бакоў, а цяпер... І! Што казаць? Жыву сабе і гора ніякага не знаю.* Купала. *— Ты мо сюды адпачываць? — Ды не, бягу! Я жду бяды з усіх бакоў.* Крапіва.

*БАКУ* • **ЕЗДЗІЦЬ ПА ЛЕВЫМ БАКУ**. Гл. ездзіць.

**ЗАСТАВАЦЦА Ў БАКУ** *ад чаго*. Гл. заставацца.

**ЛЯЖАЦЬ НА БАКУ**. Гл. ляжаць.

**ПА БАКУ́**. *Вык. Прост.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Перастаць займацца чым-н., рабіць што-н. *— Шмат людзей пасылаем. — Значыць... Спаборніцтва па баку... — Чаму па баку? Вернуцца і будуць прадаўжаць яго ў новых умовах.* Чарнышэвіч. *А Маня ўчора прыязджала сюды. Паўсумкі яечак прывезла і мне навіну — ты прыехаў! Ну, і капцы, усё па баку, пацiснуў дахаты...* Ярашэвіч.

**СКУЛА Ў БАКУ** *<для каго>*. Гл. скула.

**СТАЯЦЬ НА БАКУ** *каго, чым*. Гл. стаяць.

**СТАЯЦЬ У БАКУ** *ад чаго*. Гл. стаяць.

**ТРЫМАЦЦА Ў БАКУ** *ад каго*. Гл. трымацца.

*БАЛАНДУ* • **ТРАВІЦЬ БАЛАНДУ**. Гл. травіць.

*БАЛЕЦЬ* • **БАЛЕ́ЦЬ (ХВАРЭ́ЦЬ) ДУШО́Й (СЭ́РЦАМ)** *за каго, за што, па кім, па чым. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна перажываць, хвалявацца, трывожыцца за каго-, што-н. **Сін.**: браць <блізка> да сэрца *<што>* (у 1 знач.); браць да галавы *<што>*; браць <сабе> у галаву *<што>*. *І доўгімі днямі і яшчэ даўжэйшымі ў крыўднай бессані начамі думаў [Васіль], балеў душой па дамоўцы, па недамалочаным жыцце, па небараку Гузу...* Мележ. *Так сутыкнуліся ў жыцці дзве розныя пазіцыі: адна — грамадская пазіцыя чалавека, які душою хварэе за кожнае каліўца калгаснага даб-*

*ра, а другая — вузка асабістая.* Палтаран. *Клімёнак, гледзячы на ўсе разбурэнні, хварэў душою за простых людзей...* Дамашэвіч. **ЗБАЛЕЦЬ (СХВАРЭЦЬ) ДУШОЙ (СЭРЦАМ)** *за каго, за што, па кім, па чым. Зак. Пакуль будавалася [маці] — пакуль хату гэту агорала, ды хлеў, ды адрынку, — зусім змарнавалася, збалела сэрцам, прыстала.* Васілевіч. *[Гудовіч:] Юлінька!.. Я тут душою збалеў па вас.* Крапіва.

*БАЛІЦЬ* • **ГАЛАВА БАЛІЦЬ** *чыя, у каго, каму пра што, аб чым, па кім, па чым.* Гл. галава.
**ДУША БАЛІЦЬ** *чыя, у каго, каму.* Гл. душа.

*БАЛОТА* • **<З> АДНАГО БАЛОТА ЧЭРЦІ**. Гл. чэрці.
**ЧОРТ З БАЛОТА**. Гл. чорт.

*БАЛОЦЕ* • *Ляпнуць* **ЯК ЛАПЦЕМ ПА БАЛОЦЕ**. Гл. лапцем.

*БАЛЬ* • **БА́ЛЬ У ЧА́СЕ ЧУМЫ́**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Неадабр.* Вясёлае, бестурботнае існаванне каго-н. у бядотную для іншых часіну. **Сін.**: валтасараў баль.
**ВАЛТАСА́РАЎ БА́ЛЬ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн. Неадабр.* Вясёлае, легкадумнае існаванне каго-н. у бядотную для іншых часіну. **Сін.**: баль у часе чумы.
**З КАРАБЛЯ НА БАЛЬ**. Гл. карабля.
**ПРАВІЦЬ БАЛЬ** <*дзе, у чым*>. Гл. правіць.

*БАЛЮЧАЕ* • **<САМАЕ> БАЛЮЧАЕ МЕСЦА**. Гл. месца.

*БАЛЯСЫ* • **ТАЧЫЦЬ БАЛЯСЫ** <*з кім*>. Гл. тачыць.

*БАРАБАНІЦЬ* • **БАРАБА́НІЦЬ КАСЦЬМІ́**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы і адуш. прадмета. Вельмі схуднець. *Нічога, нічога. Вашы хлопцы з млына нас не крыўдзяць. Канечне, ад нямецкага пайка касцьмі будзеш барабаніць...* Няхай.

*БАРАБАНУ* • **ПА БАРАБА́НУ** *каму. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Абсалютна нічога не значыць для каго-н., не заслугоўвае ніякай увагі. **Сін.**: да аднаго месца *каму*; да лямпачкі *каму*; да фені *каму*; ні ішоў ні ехаў *каму*; трын-трава *для каго, каму. Я ёй сапраўды, як кажуць, па барабану, яна падгульвае са мною, як хлопец з дзяўчынаю, каб пасля кінуць...* Федарэнка.

*БАРАБАНШЧЫК* • **АДСТАЎНО́Й КАЗЫ́ БАРАБА́НШЧЫК**. *Мн. не ўжыв. Часцей вык. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Чалавек, з якім не лічацца, які займае невысокае становішча. **Сін.**: абсевак у полі; апошняя спіца ў коле; дзесятая спіца ў коле (у 1 знач.); малая сошка, птушка невысокага палёту. **Ант.**: важная птушка; птушка высокага палёту. *Я ўжо — адстаўной казы барабаншчык. Два мае сыны пажаніліся. Старшы.. жаніўся... калі я быў ў бальніцы.* Колас. *Хаця хто я тут? Адстаўной казы барабаншчык...* Радкевіч. *[Сымон:] Ясна, што ты тут — адстаўной казы барабаншчык.* Э.Валасевіч. *Што і казаць, сын — маладзец, а сам ён, Паўлюк Лапатка? Хто ён такі? Аніхто. Прышый кабыле хвост. Адстаўной казы барабаншчык. Перад сынам Паўлюк сябе толькі так і называе. Бо і праўда — хто ён такі. Саўгасны пенсіянер.* Гіль. *А якога чорта ты лазіш як рэвізор? Хто ты такі? Адстаўной казы барабаншчык! Пісака! Дапісаўся! Я папрашу камандуючага выселіць цябе з пасёлка.* Шамякін.

*БАРАВЫ* • **І НЕ ШУМ БАРАВЫ** *каму.* Гл. шум.

*БАРАДОЙ* • **З БАРАДО́Й**. *Вык. і азн. Разм.* Часцей ужыв. пры словах *анекдот, навіна, жарты* і пад. Няновы, нясвежы, ужо вядомы. *Амаль усе анекдоты былі «з бародамі», чутыя-перачутыя, але рогату хапала.* Шахавец. *Разведчыкі, стараліся не сёрбаць, не*

*шпурляць, куды папала, касцей, пачуліся жарты — хоць і з барадой.* Карпюк. — *Твая навіна, Міхась, з вельмі доўгай барадой, — усміхнуўся Ігнат.* Гаўрылкін.

*БАРАДУ* • **БРАЦЬ БОГА ЗА БАРАДУ**. Гл. браць.

**У БАРАДЎ** *смяяцца (засмяяцца). Акал. Разм.* Ціха і непрыкметна. **Сін.**: у вус; у кулак; у рукаў. *[Янка] сына хрысціць не захацеў. Вінцук засмяяўся ў бараду. Не захацеў, дык і не трэба. Але і па сённяшні дзень не ведае, што мы з Юзэфай употай Валодзьку ахрысцілі.* Чарнышэвіч.

*БАРАЗНУ* • **ПРАКЛАДАЦЬ ПЕРШУЮ БАРАЗНУ**. Гл. пракладаць.

*БАРАН* • *Глядзець, уставіцца* **ЯК БАРА́Н НА НО́ВЫЯ ВАРО́ТЫ**. *Акал. Праст.* Нічога не разумеючы, тупа, разгублена. **Сін.**: як гусь на бліскавіцу. *Нічога не ведаю. Гляджу на ўсё як баран на новыя вароты.* Машара. *Глядзеў Алег тады на станок, да якога падвёў яго майстар, як баран на новыя вароты.* Васілеўская. *[Сцяпан:] Для цябе, спрактыкаванага, гэтая справа, як плюнуць, зразумелая, а я вось гляджу як баран на новыя вароты, і боязна робіцца.* Махнач. *Шавец уссунуў акуляры на лоб, недаўменна ўставіўся на Міхася, як баран на новыя вароты.* Асіпенка.

*Разбірацца, разумець* **ЯК (ШТО) БАРА́Н У БІ́БЛІІ**. *Акал. Праст. Іран.* Зусім нічога не (разбірацца, разумець). **Сін.**: як свіння ў апельсінах. *Гітлер — пігмей, авантурыст. У рускай гісторыі ён разбіраецца як баран у біблії.* Навуменка. *Шэф у гэтай справе як баран у біблії разумее.* Няхай. *І, скарыстаўшы свой высокі сан, Сынка цягнуў ён у навуку, хоць разбіраўся той у ёй што у біблії баран.* Э.Валасевіч.

*БАРАНА* • **НА БАРА́НА** *браць, несці. Абл. Акал. Разм.* На плечы (на плячах), падтрымліваючы ззаду (браць, несці дзіця). *Старая зноў брала дзяўчынку на плечы, «на барана», і толькі папыталася: — Не холадна табе?* Брыль.

*БАРАНІ* • **БАРАНІ БОЖА**. Гл. божа.

*БАРАНКУ* • **КРУЦІЦЬ БАРАНКУ**. Гл. круціць.

**ПАКРУЦІЦЬ БАРАНКУ**. Гл. пакруціць.

*БАРАНОЎ* • **ГНУЦЬ У БАРАНОЎ РОГ** *каго.* Гл. гнуць.

*Вернемся* **ДА НА́ШЫХ БАРАНО́Ў**. *Дап. Разм.* (Вернемся) да асноўнай тэмы, да прадмета гаворкі. *Шмат хто з нас, відаць, у дзяцінстве не раз трымаў на языку гэтае найменне-далікатэс, чароўнае і недарэчнае ў нашых лінгвістычных рэаліях... Але ж вернемся да нашых бараноў.* Хадановіч. *Згадайце нашу далёкую ці нават зусім нядаўнюю гісторыю... Але вернемся, як кажуць, да нашых бараноў.* «Настаўн. газ.» *Ведаю толькі, што мы на парозе неверагоднейшай з таямніц. Але ж вернемся, так бы мовіць, да нашых баранаў. Я хацеў бы зірнуць на здымкі, калі вы не супраць.* Станкевіч.

**СТАТАК БАРАНОЎ**. Гл. статак.

*БАРАНЧЫК* • **БАРА́НЧЫК БО́ЖЫ**. *Адз. і мн. Часцей дзейн. ці дап. Разм.* Балотная птушка з голасам, падобным на бляянне; бакас. *Баранчык божы ў паднябессі бляе маркотна над балотам.* Колас. *Што прытаіліся цішком? Чуеце, як мяркеча баранчык божы: бэ-э-э, бэ-э-э?* С.Александровіч.

*БАРКІ* • **ШАРКІ НА БАРКІ**. Гл. шаркі.

*БАРСУК* • **ПАКАЗАЦЬ ЯК БАРСУК <СВАІХ> ДЗЯЦЕЙ ГЛАДЗІЦЬ** *каму.* Гл. паказаць.

*БАТОНАМІ* • **АЛЁША З БАТОНАМІ**. Гл. алёша.

*БАТЫЙ* • **ЯК БАТЫЙ ПРАЙШОЎ**. Гл. мамай.

*БАЦЬКА* • **БОГ БАЦЬКА**. Гл. бог.

**ХРО́СНЫ БА́ЦЬКА**. *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм.* **1**. Чалавек, які дапамагае каму-н. на пачатку дзейнасці, ухваляе што-н. *Нейкі час модна было друкаваць першыя творы маладых з добрым словам ветэранаў нашай літаратуры. Праўда, часта потым «хросныя бацькі» забывалі аб сваіх падапечных.* Танк. *Нездарма да газеты, да яе рэдактара, нашага хроснага бацькі гарнулася столькі шчырых юнацкіх сэрцаў.* Вітка.

**2**. *Часцей неадабр.* Натхняльнік і кіраўнік чаго-н. негатыўнага. *Грамадзянін П. быў, мяркуючы па сабраных у справе доказах, так сказаць, хросным бацькам шматходавай афёры.* «ЛіМ».

*БАЦЬКУ* • **ЛЕЗЦІ РАНЕЙ ЗА БАЦЬКУ Ў ПЕКЛА**. Гл. лезці.

*БАЧ* • **БАЧ ТЫ**. Гл. ты.

**ЯК БА́Ч**. *Акал. Разм.* Ужыв. пры дзеясл.-вык. зак. тр. Вельмі хутка (зрабіць што-н.). **Сін**.: у адзін мах; у адзін міг; у <адзін> момант; у <адну> мінуту; у імгненне вока; у міг вока; у момант вока; як бачыш (у 1 знач.); як вокам згледзець (у 1 знач.); як га; як слова сказаць; як стой. *Ну, тут ужо Пацяробу работа. Ён як бач суніме ўвесь гэты гармідар, на гэта ён майстра.* Зарэцкі. *Маруся выйшла і як бач унесла насыпаную з коптурам вазу клубнікі.* Лобан. *Не гаруй, Стась. Мы яго [вядро] як бач дастанем.* Вітка. *Шчупак пагнаўся за Жучком і як бач злавіў яго.* Сачанка.

*БАЧУ* • **КАГО Я БАЧУ**! Гл. я.

*БАЧЫЛІ* • **ВОЧЫ Б МАЕ НЕ БАЧЫЛІ** *каго, што.* Гл. вочы.

**КАБ ВОЧЫ МАЕ НЕ БАЧЫЛІ** *каго.* Гл. вочы.

**ТО́ЛЬКІ І БА́ЧЫЛІ (БА́ЧЫЎ)** *каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. хутка знік, схаваўся, прапаў і пад. **Сін**.: <і> след прастыў *чый, каго*; як вадой змыла (у 1 знач.); як ветрам здзьмула (у 1 знач.); як <і> не было (у 1 знач.); як маланкай спаліла *каго. Многа ў той школьной кватэры перавярнулася. Зіму павучаць — толькі іх і бачылі.* Грахоўскі. *Кастуся толькі і бачылі. Ён шмарлануў на печ і, сеўшы спінай да коміна, пачаў адшпіляць і перашпіляць раменьчыкі.* Кудравец. *А што тады? Паедзеш, толькі цябе і бачыў, а тут маці адна.* Гартны. *Ці не хітрыць дырэктар? Сказаў, што ў сталоўку, а сам на машыну — толькі яго і бачыў.* Кузьмянкоў.

*БАЧЫЎ* • **ДЗЕ <ТЫ> БАЧЫЎ**. Гл. ты.

**САВЫ́ СМА́ЛЕНАЙ НЕ БА́ЧЫЎ (-ЛА, -ЛІ)**. *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не сустракаўся з жыццёвымі цяжкасцямі, не зведаў нягод у жыцці. *Мы ўсё на «ўра» прывыклі. Усё на паніку спадзяваліся. Смаленай, савы не бачылі...* Шамякін. *Канечне, навошта ёй участак? Каб не было чаго есці, схапіла б. А то, канечне. Квадрацікі кле[іць] на сцены. Савы смаленай не бачылі...* Гаўрылкін. *Раней [маці] усё дакарала: што ты перабіраеш? Савы смаленай не бачыла, гора не ведала. Глядзі, дачушка, з вялікага гурту выбераш курту...* Левановіч. *Пабойся бога — не бачыў ты савы смаленай і не наступаў табе на нагу чорны вол. Вайны ты не помніш, і век бы табе яе не знаць...* Кусянкоў.

**СВЕТ НЕ БАЧЫЎ** *якога, такога (якіх, такіх).* Гл. свет.

**У ТРУНЕ́ БА́ЧЫЎ (-ЛА, -ЛІ)** *каго. Незак. Прост. Зламоўны.* Ужыв. пры дзейн.-займ. «я». Страшэнна ненавідзячы каго-н., жадаю яму смерці. *«А божа, — падумалася са скрухай... — На д'ябла мне ўсё гэта здалося... У труне я яго бачыў, гэтага хлюсціка».* Калеснік. *Ступак нешта мармытаў у адказ, што мала разумеў сам, але думаў: «У труне я хацеў бачыць тое НАТА разам з табой».* Быкаў.

**БА́ЧЫЦЬ НА РАЖНЕ́** *каго, што. Незак. Праст. Зламоўны.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Страшэнна ненавідзячы каго-, што-н., жадаць яму пагібелі. *Прыходзіцца [Соміку] ехаць у лес, выконваць загад таго, каго ён рад бы бачыць на ражне.* Крапіва.

**БА́ЧЫЦЬ НАСКРО́ЗЬ (НАВЫЛЁТ)**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** *каго.* Вельмі добра ведаць чые-н. думы, намеры і пад. *Слухай, хлопча! Ты перада мной не круці... Я цябе бачу наскрозь.* Шамякін. *Простымі словамі сын гэтага не гаварыў, але без слоў бацька бачыў свайго Міколу навылёт.* Чорны.

**2.** *што.* Глыбока разумець, ведаць што-н., пранікаць у сутнасць чаго-н. *Чужых цялят бярэш на пашу? Наскрозь я бачу службу вашу!* Колас. *Шэмет навылёт бачыць, хто што думае...* Лобан.

**БА́ЧЫЦЬ НА ТРЫ́ СА́ЖНІ (МЕ́ТРЫ) ПАД ЗЯМЛЁЙ (У ЗЯМЛЮ́)**. *Незак. Разм. Часта іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вызначацца вялікай праніклівасцю, прадпрымальнасцю. **Сін.**: глядзець < далёка > наперад. *Вы не глядзіце, што [цётка Палуся] трохі падслепаватая.., але бачыць на тры сажні пад зямлёю. А ведае ж яна дык усё, што толькі ёсць на свеце, і шмат яшчэ з таго, чаго няма, не было і быць не магло.* Крапіва. *Аграфена Мікалаеўна Недаверка, як кажуць, бачыць на тры сажні пад зямлёй.* «ЛіМ». *А былі сярод тых гаспадынь і свае следчыя, ды яшчэ якія, на тры метры пад зямлёй усё бачылі.* Казько. *Ленін на рэвалюцыю ў Германіі і разлічваў, калі пасылаў дэлегацыю падпісваць Брэсцкі дагавор. Ён на тры сажні ў зямлю бачыць.* Гурскі. *Дзедка быў няпросты, на тры метры ў зямлю ўсё бачыў.* Казько.

**БА́ЧЫЦЬ СА СВАЁЙ ЗВАНІ́ЦЫ** *што. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ацэньваць што-н. аднабакова, толькі са сваіх пазіцый. **Сін.**: глядзець са сваёй званіцы *на каго, на што*; мераць на свой аршын *каго, што*; мераць на свой капыл *каго, што*; стрыгчы пад свой грабянец *каго.* *«Вы са сваёй званіцы адно бачыце, мы — другое. Ваша мужыцкая праўда не супадае з нашай, чыноўніцкай. Інтарэсы супярэчлівыя. Вось такая яна, дыялектыка, брат Мікола», — думаў Багушэвіч.* Хомчанка.

**БА́ЧЫЦЬ СЯБЕ́ ВАЧА́МІ (-Ы́МА)** *каго, чыімі. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ацэньваць свае ўчынкі, паводзіны і пад. з пазіцый каго-н. **УБАЧЫЦЬ СЯБЕ ВАЧАМІ (-ЫМА)** *каго, чыімі. Зак. Неразвітасць эмацыянальнай культуры, няздольнасць убачыць сябе вачамі іншых людзей, упэўненасць, што табе абавязаны ўсе, а ты нікому — адзнака не толькі духоўнай кволасці, але і фізічнай няздатнасці самыя простыя рэчы рабіць сваімі рукамі.* Вітка. *Васіль раптам убачыў сябе яе вачамі: звычайны хлопец, якіх тысячы, мільёны, апрануты так сабе — з магазіна гатовага адзення...* Іпатава.

**БА́ЧЫЦЬ ШКЛЯНО́ГА БО́ГА**. *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выпіваць, напівацца спіртнога. **Сін.**: браць у губу; вадзіць казу; глядзець у бутэльку; закідаць за гальштук; закідваць за каўнер; закладваць за каўнер; заліваць вочы <*чым*> (у 1 знач.); заліваць за каўнер; заліваць чарвяка; наліць горла; мокнуць у гарэлцы; наступіць на корак; не прасыхаць; панюхаць корак; прамачыць горла. **Ант.**: не браць у рот *што, чаго* (у 2 знач.). *А то ў вас ёсць такі дзядзька Дзяніс, ён, мусіць, учора бачыў шклянога бога, бо крычаў: «Сваімі рукамі Бокуця задушу...»* Гурскі. **УБАЧЫЦЬ ШКЛЯНОГА БОГА**. *Зак. Пакуль шклянога бога добра не ўбачыў, Антось казаў: — Ну што ж! Трэба ж пагрэцца.* Калюга.

**ГЛЯДЗІЦЬ У КНІГУ, А БАЧЫЦЬ ФІГУ**. Гл. глядзіць.

**ДАЙ БОГ ЧУТАЕ БАЧЫЦЬ**. Гл. бог.

**ЗА ДРЭ́ВАМІ (З-ЗА ДРЭ́Ў) НЕ БА́ЧЫЦЬ ЛЕ́СУ**. *Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. За чым-н. дробным не заўважаць значнага, вялікага. *Цяпер я ведаю, што азначалі твае словы «нас разбілі»... Але ты вельмі шырока бярэш, за дрэвамі не бачыш лесу. Толькі слабы чалавек можа разгубіцца ад першай няўдачы.* Дамашэвіч. *Чую голас той, некалі важнай асобы, а цяпер мо ўжо і пенсіянера: «Зноў абагульняеце? За дрэвамі не бачыце лесу?»* «ЛіМ». *— Сапраўды, — кажа, — сваю вапну топчам, а чужую возім. За дрэвамі лесу не бачым.* «Вожык». *Я і кажу пра наш прыбор. Бо мы з-за дрэў не бачым лесу... Варыянт, які прапаноўвае Дэйкун, лепшы па ўсіх тэхніка-эканамічных характарыстыках.* Радкевіч. *Як вы ведаеце, маладосці ўласцівы максімалізм, з-за якога яна часта ўпускае рацыянальнае зерне, можна сказаць, з-за дрэў лесу не бачыць.* Блакіт.

**НЕ БА́ЧЫЦЬ <БЕ́ЛАГА> СВЕ́ТУ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не ведаць спакою, пакутаваць (ад непасільнай працы, вялікага клопату і пад.). *Я не бачыў белага свету: клопаты забіралі ў мяне вольны час і салодкі сон.* Адамчык. *Пасля ад'езду залоўкі Марфа стала адна гаспадыняй у Зазыбавым доме, але, як кажуць, ад таго дня, бадай, і свету белага ўжо не бачыла з-за турботаў і працы.* Чыгрынаў. *Цярпела Арынка, не бачачы свету за работаю, і маўкліва цярпела несправядлівасць.* Колас. *Я за гэтым вяселлем свету не бачыў.* Мурашка. *Бацька кінуў сям'ю, маці цёмная, зарабляла грашы, хоць рабіла свету не бачачы.* Мележ.

**НЕ БА́ЧЫЦЬ ДАЛЕ́Й <СВАЙГО́> НО́СА**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Мець вузкі кругагляд, быць вельмі абмежаваным. **Сін.**: мелка плаваць (у 1 знач.). *Ім [панам] цёмна, нема кніга лёсу, яны не бачаць далей носу...* Колас. *Ён, Каршукоў, прадбачлівы. Гаспадару інакш і нельга. Які ты гаспадар, калі далей носа не бачыш.* Асіпенка. *Якія вы абмежаваныя людзі, далей свайго носа нічога не бачыце.* Сачанка.

**ПА ГАРЫ ХАДЗІЦЬ І СОНЦА НЕ БАЧЫЦЬ**. Гл. хадзіць.

**СПАЦЬ І <У СНЕ> БАЧЫЦЬ** *каго, што.* Гл. спаць.

*БАЧЫШ* • **БАЧЫШ ТЫ**. Гл. ты.

**ВОСЬ БА́ЧЫШ (-ЦЕ)**! *Выкл. Разм.* Выказванне згоды з пачутым, папроку і інш. *[Наста:] Верцы Салей на спіну рукаў прышылі. [Старшына:] Разбяромся, дзе што прышылі. Загадчыца вымову атрымала. [Ніна:] Вось бачыце!* Іпатава. *— Татка! Там хлопчык маленькі... На веласіпедзе ехаў... Яго забіў трамвай... — Вось бачыш! А ты ўвесь час просіш купіць веласіпед.* Дамашэвіч.

**ЯК БА́ЧЫШ**. *Разм.* **1**. *Акал.* Ужыв. пры дзеясл.-вык. зак. тр. Вельмі хутка (зрабіць што-н.). **Сін.**: у адзін мах; у адзін міг; у <адзін> момант; у <адну> мінуту; у імгненне вока; у міг вока; у момант вока; як бач; як вокам згледзець (у 1 знач.); як га; як слова сказаць; як стой. *Пасля работы ён [Андрэй] даў крыху адпачыць каню, і як бачыш у руцэ ў яго бліснула металам сякера.* Мурашка. *Мікола прыслухаўся: — Чакай, Капейка ідзе!.. Гэты справу як бачыш наладзіць.* Брыль.

**2**. *У знач. сцвярдж. часціцы.* Так, ага. *— Віця, ты-ы? — шчыра ўзрадаваўся я таварышу. — Як бачыш. Здароў! — падаў ён мне левую руку.* Карпюк. *— Няўжо ўсе ў Мінску? — не паверыў Іван. — Як бачыш... — адказаў за ўсіх Ігар.* Кудравец.

*БАШ* • **БА́Ш НА БА́Ш**. *Акал. Праст.* Рэч за рэч, без даплаты (мяняць, абменьваць). **Сін.**: вуха на вуха; кон на кон; так на так (у 1 знач.). *— Усё на дармаўшчыну хочаш, — дабрадушна ўсміхнуўся Павел Арцёмавіч. — Давай лепш баш на баш.* Васілёнак. *Я буду з вамі гаварыць па-сучаснаму: вы — нам, мы — вам. Баш на баш, як гаварыцца, чыста дзелавыя адносіны, ніякіх Фаўстаў і Мефістофеляў, ніякай містыкі.* Гігевіч.

*БАЯВОЕ* • **БАЯВОЕ ХРЫШЧЭННЕ**. Гл. хрышчэнне.

*БАЯЗЛІВАГА* • **НЕ БАЯЗЛІВАГА ДЗЕСЯТКА**. Гл. дзесятка.
**НЕ З БАЯЗЛІВАГА ДЗЕСЯТКА**. Гл. дзесятка.

*БАЯЦЦА* • **БАЯ́ЦЦА СВАЙГО́ (УЛА́СНАГА) ЦЕ́НЮ**. *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Трымацца занадта асцярожна, вельмі палахліва. *Дык я ж пра тых — «у футарале», што ў промнях сонца яснага баяцца ценю ўласнага.* Крапіва. — *Казлоўскі, пэўна, не пагодзіцца ехаць з незнаёмым чалавекам,— засумняваўся Дзіма. — Я ж кажу, што ён зараз свайго ценю баіцца.* Новікаў. *Эх, Станіслаў!.. Да чаго ты дажыў. Свайго ценю баішся.* Гурскі.

*БЕГ* • **БЕ́Г НА МЕ́СЦЫ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Іран.* Знешне энергічная, а сапраўды марная, бескарысная дзейнасць. **Сін.**: таптанне на месцы. *Трывожыць тое, што нярэдка паэту хапае пораху на першую кніжку... А з другой кніжкі часта пачынаецца няўцямнае таптанне, нейкі лірычны бег на месцы.* Танк.

*БЕГАЮЦЬ* • **МУРАШКІ БЕГАЮЦЬ ПА ЦЕЛЕ** *у каго, каго, чыім.* Гл. мурашкі.

*БЕЛАГА* • **ДА БЕЛАГА КАЛЕННЯ**. Гл. калення.
**КАЗКА ПРА БЕЛАГА БЫЧКА**. Гл. казка.
**НЕ БАЧЫЦЬ <БЕЛАГА> СВЕТУ**. Гл. бачыць.
**РАБІЦЬ З БЕЛАГА ЧОРНАЕ**. Гл. рабіць.

*БЕЛАЕ* • **РАБІЦЬ БЕЛАЕ ЧОРНЫМ**. Гл. рабіць.

*БЕЛАЯ* • **БЕЛАЯ ВАРОНА**. Гл. варона.
**БЕЛАЯ КОСТКА**. Гл. костка.
**БЕЛАЯ ПЛЯМА**. Гл. пляма.

*БЕЛЫ* • **БЕЛЫ СВЕТ**. Гл. свет.
**ВЫВОДЗІЦЬ НА БЕЛЫ СВЕТ** *каго, што.* Гл. выводзіць.
**У <БЕЛЫ, БОЖЫ> СВЕТ**. Гл. свет.
**У <БЕЛЫ> СВЕТ ЯК У КАПЕЙКУ**. Гл. свет.

*БЕЛЫМ* • **НА БЕЛЫМ КАНІ**. Гл. кані.
**НЕ ЖЫЛЕЦ <НА БЕЛЫМ СВЕЦЕ>**. Гл. жылец.
**ЧОРНЫМ ПА БЕЛЫМ**. Гл. чорным.

*БЕЛЫМІ* • **ШЫТА БЕЛЫМІ НІТКАМІ**. Гл. шыта.

*БЕЛЫХ* • **ДА БЕЛЫХ МУХ**. Гл. мух.
**ДА БЕЛЫХ МЯДЗВЕДЗЯЎ**. Гл. мядзведзяў.
**У БЕЛЫХ ПАЛЬЧАТКАХ**. Гл. пальчатках.

*БЕЛЫЯ* • **БЕЛЫЯ МУХІ**. Гл. мухі.

*БЕЛЬМЕСА* • **НІ БЕЛЬМЕ́СА** *не ведаць, не разумець* і пад. *Акал. ці ў знач. вык. (пры апушчаным дзеясл.). Прост. Неадабр.* Зусім нічога. **Сін.**: ні а ні бэ; ні бум-бум; ні бэ ні мэ <ні кукарэку>; ні бэ ні мя; ні вуха ні рыла; ні ў зуб <нагой>; ні цэ ні бэ. *Адразу [Рыгор] гаварыў па-свойму, але бачыць, што гэты немец ні бельмеса не разумее з яго гаворкі, і хочаш не хочаш, а давялося ламаць язык на чужы лад.* Лецка.

*БЕРАГА* • **ПРЫБІВАЦЦА ДА БЕРАГА** *якога.* Гл. прыбівацца.
**ПРЫСТАВАЦЬ ДА БЕРАГА** *якога.* Гл. прыставаць.

*БЕРАГАМІ* • **МАЛОЧНЫЯ РЭКІ <З КІСЕЛЬНЫМІ БЕРАГАМІ>**. Гл. рэкі.

*БЕРАГІ* • **УВАХОДЗІЦЬ У <СВАЕ> БЕРАГІ**. Гл. уваходзіць.

*БЕРЭТЫ* • **БЛАКІ́ТНЫЯ БЕРЭ́ТЫ**. *Звычайна мн. Разм. У ролі розных чл. ск.* Дэсантнікі, воіны мабільных сіл у савецкім і ў сучасным беларускім войску. *Хіба я ўпотай не згаджаўся з Галяй, што перадыслакацыя палка ў Ташкент — тактычная паўза для скачка блакітных берэтаў у Кабул, Гарат, Кандагар.* Шамякін. *Сваю задачу «блакітныя берэты» выканалі паспяхова.* «Настаўн. газ.»

**ЗЯЛЁНЫЯ БЕРЭ́ТЫ**. *Звычайна мн. Разм. У ролі розных чл. ск.* Дэсантнікі, воіны мабільных сіл у войску ЗША. *Высаджваюцца з караблёў вядомыя сваёй жорсткасцю і варварствам у В'етнаме «зялёныя берэты», марскія пехацінцы і парашутысты...* Кірэенка. *Акуратна выцершы акрываўлены цясак, Стывен пакінуў паміраючага брата і пабег у лес крокам «зялёных берэтаў».* «Настаўн. газ.» *На востраве Акінава размешчаны часці жандарскіх «сіл хуткага разгортвання» і дыверсійныя падраздзяленні «зялёных берэтаў».* «Звязда».

*Б'ЕЦЦА* • <u>*Пакуль*</u> **СЭРЦА Б'ЕЦЦА** *каго.* Гл. сэрца.

*БЗІК* • **З'ЕХАЦЬ НА БЗІК**. Гл. з'ехаць.

**СЫХОДЗІЦЬ НА БЗІК**. Гл. сыходзіць.

*БІ* • **НЕ БІ́ ЛЯЖА́ЧАГА**. *Толькі ў заг. л. Вык. і азн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Вельмі лёгкая, выгадная, не асабліва турботная (работа, служба і пад.). *Намажуць грымам, і ходзіш па сцэне, крычыш, калі трэба, або рукамі махаеш. Дужа мне тая работа падабалася. Хоць грошы невялікія, але і работа не бі ляжачага.* Асіпенка. *— Мама ў нас дома за гаспадыню, — адказаў за маці Віцік. — Работа — не бі ляжачага. Хіба што зварыць абед або вячэру ды калі дзяцей прыгледзіць — у школу, са школы.* Кудравец. *А ў нас тут работа на машыне — не бі ляжачага.* Мыслівец. *[Зося:] Ну, калі такая работка — не бі ляжачага, — дык, можа, і мне прыладзіцца да яе варта было б?* Козел.

*БІБІКАЎ* • **БІЦЦЁ БІБІКАЎ**. Гл. біццё.

*БІБІКІ* • **БІЦЬ БІБІКІ**. Гл. біць.

*БІБЛІІ* • **ЯК БАРАН У БІБЛІІ**. Гл. баран.

*БІЗУН* • **ГОЛЫ ЯК БІЗУН**. Гл. голы.

*БІЛІСЯ* • **<ЯШЧЭ> ЧЭРЦІ НА КУЛАЧКІ НЕ БІЛІСЯ**. Гл. чэрці.

*БІРУЛЬКІ* • **ГУЛЬНЯ Ў БІРУЛЬКІ**. Гл. гульня.

**ГУЛЯЦЬ У БІРУЛЬКІ**. Гл. гуляць.

*БІСЕР* • **СЫПАЦЬ БІСЕР ПЕРАД СВІННЯМІ**. Гл. сыпаць.

*БІСЯ* • **ХОЦЬ ГАЛАВО́Й АБ СЦЯНУ́ БІ́СЯ**. *Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм.* Выказванне безнадзейнасці, немагчымасці зрабіць што-н., каб выйсці з крайне цяжкага становішча. **Сін.**: хоць галавой у пятлю; хоць душой загавей; хоць лажыся і памірай; хоць <ты> вешайся; хаць <ты> галавой налажы; хоць <ты> жывы ў зямлю лезь; хоць <ты> у вір галавой; хоць у пятлю лезь; хоць у труну лажыся. *Настрой у Лаўрыка ўсе гэтыя дні быў вельмі цяжкі. Часам было яму так нудна — хоць галавою аб сцяну біся.* Гарэцкі. [*Юрчанка,* III, с. 167: хоць галавою аб сцяну біся.]

*БІТА* • **КАРТА БІТА** *чыя, каго.* Гл. карта.

**СТАЎКА БІТА** *чыя, каго.* Гл. стаўка.

*БІТАЯ* • **БІТАЯ ГАДЗІНА**. Гл. гадзіна.

*БІТВА* • **БІТВА З ВЕТРАКАМІ**. Гл. вайна.

*БІТЫ* • **БІТЫ ВОЎК**. Гл. воўк.

**КОЗЫР БІТЫ** *чый, каго.* Гл. козыр.

**У ЦЕ́МЯ НЕ БІ́ТЫ**. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі кемлівы, разумны, здагадлівы. **Сін.**: з галавой (у 1 знач.); з царом у галаве (у 1 знач.). **Ант.**: без галавы; без клёпкі ў галаве; без цара ў галаве; з прыветам; сямі пядзяў у лбе (лобе). *[Навум:] О гэтак! о! я ў цемя не біт. Добра кажа прымаўка: мужык, як варона, а хіцёр, як чорт.* Дунін-Марцінкевіч. *Радзівіла паглядзеў, што мужык не дурань, так даў яму жменю грошай, змяліўшы сам з дарогі, паехаў. От і мужык у цемя не біты.* «Жарты». **У ЦЕМЯ БІТЫ**. З супрацьлеглым знач. *Кожны гэты пэўна скеміў, што не ўсё ў нас так, як трэба, а не лжэ і біты ў цемя, што і сходзіць не ўсё з неба.* Купала.

*БІЦЦА* • **БІ́ЦЦА АБ ЗАКЛА́Д**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Спрачацца з абавязкам заплаціць пройгрыш; закласціся ў спрэчцы. **Сін.**: ісці ў заклад. **ПАБІЦЦА АБ ЗАКЛАД**. *Зак. — Я? Што я для вас значу? — Усё!.. — Праўда? — ціха спытала Ядвіся. — Гатоў пабажыцца, аб заклад пабіцца, — пачаў сыпаць Лабановіч словамі, узяўшы жартаўлівы тон, каб жартамі прыкрыць тое, што ішло ад самага сэрца.* Колас. *І раптам піск раздаўся з-пад стала: — З любым паб'юся аб заклад — я мемуары разнясу!* Э.Валасевіч.

**БІ́ЦЦА ЯК РЫ́БА АБ ЛЁД**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Без выніку і плёну намагацца, старацца, шукаючы выйсце з бядоты. **Сін.**: зацягваць паясы; свістаць у кулак. *Мужык б'ецца як рыба аб лёд усё сваё жыццё, але шчасця не мае.* Колас. *Земляроб быў дробны: біўся як рыба аб лёд на нізкай зямлі, падпраўляў кару мукой.* Чорны.

**ПЕРАСТАЛА БІЦЦА СЭРЦА** *каго.* Гл. сэрца.

*БІЦЦЁ* • **БІЦЦЁ БІ́БІКАЎ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Гультайства, бяздзейнасць.

*БІЦЬ* • **БІ́ЦЬ АДБО́Й**. *Незак. Разм. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адмаўляцца ад ранейшага намеру, рашэння, погляду. **Сін.**: даваць адбой; даваць задні ход; заварочваць аглоблі (у 2 знач.). *[Галя:] Мама, акрамя жартаў, я сапраўды запрасіла гасцей. Не біць жа адбой цяпер. Давай грошай. Палячу ў магазін.* Шамякін. *— Вы ж знаеце, што з самага пачатку гэта была мая ідэя... — А цяпер адбой б'яце? — у голасе Міколы пачулася іронія.* Арабей.

**БІ́ЦЬ БА́ЙДЫ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гультаяваць, займацца пустымі справамі. **Сін.**: абіваць бакі (у 2 знач.); адлежваць бакі (у 2 знач.); акалочваць грушы <з вербаў>; біць бібікі; біць лынды (у 1 знач.); біць тылылы; брынды біць; валяць дурня (у 2 знач.); вераб'ям дулі паказваць; ганяць сабак <*па чым*>; корчыць гультая; лічыць варон (у 2 знач.); ляжаць на баку; пляваць у столь; сабакам сена касіць (у 1 знач.); сачка давіць. *Як снег сойдзе, то нам у полі араць трэба, няма дурных байды біць па тваіх курганах ды скарбы шукаць.* Чыгрынаў. *— Каго чакаеце?.. — Нікога... — Значыць, байды б'яце.* Новікаў.

**БІ́ЦЬ БІ́БІКІ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гультаяваць, займацца пустымі справамі. **Сін.**: абіваць бакі (у 2 знач.); адлежваць бакі (у 2 знач.); акалочваць грушы <з вербаў>; біць байды; біць лынды (у 1 знач.); біць тылылы; брынды біць; валяць дурня (у 2 знач.); вераб'ям дулі паказваць; ганяць сабак <*па чым*>; корчыць гультая; лічыць варон (у 2 знач.); ляжаць на баку; пляваць у столь; сабакам сена касіць (у 1 знач.); сачка давіць. *Увесь я напоўніўся прагай да працы ды з жа-*

*хам падумаў: «О-ёй, як я мог цэлы месяц біць бібікі?!»* Карпюк. — *Дык чаго ж мы чакаем? — раптам загаманілі дружыннікі. — Там, можа, нашых пабілі, а мы тут бібікі б'ём... Гайда, хлопцы, у Лютае!* Сіняўскі.

**БІЦЬ ВА ЎСЕ ЗВАНЫ**. Гл. званіць.

**БІЦЬ З ГАРМАТЫ ПА ВЕРАБ'ЯХ**. Гл. страляць.

**БІ́ЦЬ КРЫНІ́ЦАЙ**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Бурна праходзіць, развівацца, праяўляцца. **Сін.**: біць цераз край. *Як толькі пачыналася раніца, у заезным доме Гірша Дрэйзіна пачынала крыніцаю біць жыццё.* Чорны. *Вельмі важна, каб паўсюдна біла крыніцай пазакласная і пазашкольная работа.* «Нар. асвета». *На вялікім свеце б'е жыццё крыніцай.* Купала. *Жыццё ў Мінску ідзе так шпарка, проста так і б'е крыніцаю.* Колас.

**БІ́ЦЬ КУЛАКА́МІ Ў ГРУ́ДЗІ**. *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі горача, настойліва даводзіць што-н., запэўніваць у чым-н. **Сін.**: біць сябе ў грудзі. *Вось так, шаноўныя мае: калі хто громка трубіць і кулакамі ў грудзі б'е, што ён прыроду любіць, не млейце ў радасці ад слоў, папробуйце праверыць: ці не крычыць у ім любоў глушыць, страляць, сякерыць?* Гілевіч. *Нейкіх «аб'ектыўных» прычын навыдумляў [Сурміла], зноў ходзіць, адкапыліўшы губу, начапурана, як індык, зноў кулакамі ў грудзі б'е: па чатыры тысячы кілаграмаў малака ад каровы надаю!* Блакіт.

**БІ́ЦЬ ЛЫНДЫ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Гультаяваць, займацца пустымі справамі. **Сін.**: абіваць бакі (у 2 знач.); адлежваць бакі (у 2 знач.); акалочваць грушы <з вербаў>; біць байды; біць бібікі; біць тылылы; брынды біць; валяць дурня (у 2 знач.); вераб'ям дулі паказваць; ганяць сабак <*па чым*>; корчыць гультая; лічыць варон (у 2 знач.); ляжаць на баку; пляваць у столь; сабакам сена касіць (у 1 знач.); сачка давіць. *[Кавальчук:] Калгасу абібокі не трэба. Становішча ў нас не такое, каб патураць аматарам біць лынды.* Макаёнак. — *Біць лынды прыйшлі? Галлё паліце! — загадаў нам дзядзька Лявон.* Аношкін.

**2**. Бяздзейнічаць, праяўляць пасіўнасць. **Сін.**: круціць вала <за хвост> (у 1 знач.); падпіраць вуглы; сядзець склаўшы рукі. *А да таго: нашы там кроў праліваюць, нашы ваююць, а я тут лынды б'ю, па завуголлю аціраюся, каб яны спарахнелі.* Лынькоў. — *Толькі адной такой радасцю свой абавязак перад народам не адбудзеш. Дзеянні патрэбны, новыя дзеянні! — Дык мы ж і не б'ём лынды. Кожны дзень, кожную ноч дзе-небудзь ды ўдарым... Вось і сёння нашы рушылі на Зарэчча...* Мік.Ткачоў.

**БІ́ЦЬ МІ́МА ЦЭ́ЛІ**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Не дасягаць жаданага выніку. **Ант.**: біць у цэль. *Бяда ў тым, што і гумар, і сатыра часам б'юць міма цэлі.* «ЛіМ». *Сапраўды, сёння крытычнае слова вельмі часта б'е міма цэлі. Гук, можа, часамі бывае даволі моцны, рэха чутно далёка, а вось рэальнае ўздзеянне крытыкі на літаратуру — нязначнае.* Мушынскі. *Папрокі ў недастаткова выяўленых інтымных пачуццях героя б'юць міма цэлі.* «ЛіМ».

**БІ́ЦЬ НО́ГІ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Хадзіць куды-н. доўгі час. *Васька захлынуўся, падавіўся словам і прысвіснуў: дарэмна б'е ногі малодшы лейтэнант...* Казько. — *Ці не дарэмна ногі біў?.. — Не дарэмна. На, вось казлякоў трохі назбіраў...* Даніленка.

**БІ́ЦЬ НЯМА́ КАМУ́** *каго. У безас. ужыв. Разм. Іран.* Хто-н. заслугоўвае асуджэння. *Ох, Андрэй Пятровіч, біць вас няма каму!.. Трэба ж хоць падлячыць вас.* Колас. — *Вось жа дурань! — казаў Лявон Свірыдавіч, абганяючы цяжка нагружаную старэнькую аўтамашыну. — Нагрузіў на адзін бок і ціsне што сілы. Біць няма каму.* Корбан. *Што ж гэта ты... Хворы яшчэ і з ложка падняўся. Біць цябе няма каму.* Кацюшэнка.

**БІЦЬ ПА ГАЛАВÉ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн., выраж. словамі *гарэлка, тытунь* і пад. Ап'яняць, адурманьваць. **Сін.**: стукнуць у галаву *каму* (у 3 знач.); ударадь у галаву <*каму*>. *Неўзабаве верамейкаўцы зрабіліся п'яныя — хоць Хвядос і разбаўляў спірт у Дзяржынкі адзін да трох, але і гэта прапорцыя моцна біла па галаве...* Чыгрынаў. *Тытун быў свой, а не куплены, і драў ён горла, як шалёны, і, як казаў у нас Дзямешка, па галаве біў, як даўбешка.* Колас.

**БІЦЬ ПАД ДЫХ** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Раптоўна ашаламляць якім-н. паведамленнем, дзеяннем, учынкам. — *А вось кніга Бугаёва «Талавечнасць». У ёй не знойдзеш класавага падыходу да аналізу літаратурнага жыцця, — б'е нас пад дых Зяньковіч. — Так і ў іншых выданнях.* Дубянецкі.

**БІЦЬ ПАКЛÓНЫ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Пачціва кланяцца, вітаючы каго-н. **Сін.**: адбіваць паклоны; біць чалом (у 1 знач.). *Князь у хораме жыў, слаўны свету ўсяму, недаступны і грозны, як хорам; хто хацеў, не хацеў — біў паклоны яму.* Купала.

**2**. Пачціва прасіць каго-н. **Сін.**: біць чалом (у 2 знач.); кланяцца ў ногі *каму*; падаць на калені *перад кім*; цалаваць рукі і ногі *каму*. *Каб, скажам, мачыха не хадзіла на работу, можна было б ёй завесці [дачку]... Але не, не павядзе [Каця], не хочацца ёй паклоны біць.* Місько.

**БІЦЬ СЯБÉ Ў ГРЎДЗІ**. *Незак. Разм. Часта неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі настойліва даводзіць што-н.; запэўніваць у чым-н. **Сін.**: біць кулакамі ў грудзі. *[Галубовіч:] Мы ж з табой не ў забягалаўцы размаўлялі, дзе б'юць сябе ў грудзі і крычаць: «Ты мяне паважаеш?»* Крапіва. — *Як я не даў яму ўбачыцца з бацькамі? Як я мог так зрабіць?.. — Чаго цяпер біць сябе ў грудзі... — сказаў нехта.* Кірэенка.

**БІЦЬ ТРЫВÓГУ**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Настойліва звяртаць усеагульную ўвагу на што-н. небяспечнае, заклікаць да барацьбы з ім. **Сін.**: біць у званы; біць у набат. *Гэта пісьмо прыгадзіцца [Чокану], як доказ таго, што ён своечасова сігналізаваў; своечасова біў трывогу.* Гаўрылкін. *Калі такое [памылкі] трапляе на старонкі друку, дык тут ужо трэба біць трывогу.* Крапіва.

**БІЦЬ ТЫЛЫЛЫ́**. *Незак. Абл. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гультаяваць, займацца пустымі справамі. **Сін.**: абіваць бакі (у 2 знач.); адлежваць бакі (у 2 знач.); акалочваць грушы <з вербаў>; біць байды; біць бібікі; біць лынды (у 1 знач.); брынды біць; валяць дурня (у 2 знач.); вераб'ям дулі паказваць; ганяць сабак <*па чым*>; корчыць гультая; лічыць варон (у 2 знач.); ляжаць на баку; пляваць у столь; сабакам сена касіць (у 1 знач.); сачка давіць. *Дык яму ж толькі тылылы біць. Яму каб гатовенькае.* Янкоўскі.

**БІЦЬ У АДНЎ КРÓПКУ**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Накіроўваць сваю энергію, дзеянні і пад. на што-н. адно. *Мацвей жа ведаў яго [Шахрая] і іншым і паважаў у ім таго іншага, настырнага, які б'е ў адну кропку, імгненна адсякае ўсё, што не тычыцца справы.* Казько. *Нам трэба біць у адну кропку. І словам, і справай, дарагі Уладзімір Леанідавіч.* «Полымя».

**БІЦЬ У ВÓЧЫ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Рэзка выдзяляцца, прыцягваць увагу. **Сін.**: кідацца ў вочы *каму*; лезці ў вочы *каму* (у 2 знач.). *Уся гэта стракатасць грамады біла ў вочы.* Колас. *У доказ — чорныя стрэлкі на картах, якія б'юць у вочы з кожнай сцяны, стрэлкі, што лезуць у сэрца ржавым жалезам — з кожным днём, з кожнай зводкай — глыбей ды глыбей...* Брыль.

**БІЦЬ (УДАРÁЦЬ) ПА КІШЭ́НІ** *чыёй, каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Прычыняць грашовую страту. *Тут панавалі свае жалезныя*

*парадкі і кожны мог прастойваць адно па ўласнай віне, біць па ўласнай кішэні.* Карамазаў. **УДАРЫЦЬ ПА КІШЭНІ** *чыёй, каго. Зак. А Іван даравацъ не мог, што па кішэні ўдарылі. Да Кашына хінуцца пачаў. Яму даравау, а нам не.* Карпаў. *Адны адкруціліся вымовамі, а некаторых балюча ўдарылі па кішэні.* «Звязда».

**БІ́ЦЬ У ЗВАНЫ́**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Настойліва звяртаць усеагульную ўвагу на тое, што выклікае трывогу, заклікаць да барацьбы з якой-н. небяспекай. **Сін.**: біць трывогу; біць у набат. *За культуру ў нас трэба нарэшце пачынаць змагацца па-сапраўднаму, трэба біць у званы!..* Брыль. *Мастацтва павінна будзіць, нястомна біць у званы, паказваць на небяспеку, асабліва ў крызісныя перыяды гісторыі.* Быкаў. *Нават сам факт, што ў інстытут сярод рабочага дня прыязджае нейкі прайдзісвет і ў інстытуцкім службовым кабінеце праводзіць афёру, павінен быў прымусіць кіраўнікоў інстытута біць у званы.* «ЛіМ».

**БІ́ЦЬ У ЛІТА́ЎРЫ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Празмерна хваліцца чым-н. **Сін.**: званіць ва ўсе званы (у 2 знач.); трубіць у фанфары. *Надзеі: дні якія праз два пераехаць пад свой дах. Голас асцярогі: не бі ў літаўры — ад тае праходкі за вушамі і то мокра.* Лужанін. *Нічога за год мы не зрабілі... І, як кажуць, няма чаго біць у літаўры, выхваляцца.* Даніленка. *Але і тут, я не стаў бы біць у літаўры. Па-першае, не ўсе творы, змешчаныя ў кнізе, можна назваць апавяданнямі...* «Маладосць».

**БІ́ЦЬ У НАБА́Т**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Настойліва звяртаць усеагульную ўвагу на што-н. небяспечнае, заклікаць да барацьбы з ім. **Сін.**: біць трывогу; біць у званы. *Нам давядзецца аб'ездзіць разам усю Беларусь, адшукаць тое, што забыта, вывучаць, біць у набат, калі штосьці занядбалі або бураць.* Караткевіч. *Ты выбачай, мой патомак, далёкі мой брат, песню, якая ў юнацтве сурова гучала, вуха не песціла, біла ў набат.* Куляшоў.

**БІ́ЦЬ У НО́С**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Востра, рэзка пахнуць, выклікаючы адмоўную рэакцыю. **Сін.**: даваць у нос; зрываць нос. *Аж грудзі ломяць залпы-стрэлы, а ў нос б'е дым парахавы.* Колас. *І пах аптэкарскі баржому б'е ў нос ад прэсных слоў.* Панчанка.

**БІ́ЦЬ У ХАМУ́Т**. *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рашуча не пагаджацца, упарціцца. **Сін.**: даваць у хамут; на хвост станавіцца; станавіцца на дыбкі. — *Ну што ж, калі мне такі недавер, то я гатоў пайсці і ў радавыя. — Ну вот, ужо б'е ў хамут. Крытыкі ты не любіш.* Лобан. *[Вадзім Сілавіч:] Сітуацыя. Здавалася б, правая рука, а ў хамут б'е. Вылучыў на сваю галаву...* Лукша.

**БІ́ЦЬ У ЦЭ́ЛЬ**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Дасягаць патрэбнага выніку. **Ант.**: біць міма цэлі. *Байцы і камандзіры Мінскага гарнізона, прагледзеўшы пастаноўку, прынялі рэзалюцыю, што «спектакль б'е ў цэль».* Вітка. *Якія толькі формы заняткаў не сустрэнеш у практыцы Ніны Міхайлаўны! І кожны такі ўрок б'е ў цэль.* «Настаўн. газ.»

**БІ́ЦЬ ЦЕ́РАЗ КРА́Й**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Праяўляцца з вялікай сілай. Пра пачуцці, энергію і пад. **Сін.**: біць крыніцай. *Я сачыў сёння за вамі. Надта сумна адчуваю сябе, калі бачу шчасце іншых. А ваша шчасце, Вера Васільеўна, б'е цераз край.* Мікуліч. *У маладога доктара філасофіі энергія, здаецца, б'е цераз край.* «ЛіМ».

**БІ́ЦЬ ЧАЛО́М**. *Незак.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** *каму. Устар. Разм.* Пачціва кланяцца, вітаючы каго-н. **Сін.**: адбіваць паклоны; біць паклоны (у 1 знач.). *Біце ж чалом тром сакалом, маладзіцы! Гэта ж кветкі з свойскай веткі, славянскай зямліцы!* Дунін-Марцінкевіч.

2. *каму. Разм. Часта жарт.* Пачціва прасіць каго-н. **Сін.**: біць паклоны (у 2 знач.); кланяцца у ногі *каму*; падаць на калені *перад кім*; цалаваць рукі і ногі *каму. [Уладзік:] Даруйце, пан вяльможны, б'ю чалом! [Пан Заянчкоўскі:] Ну, што ж, прасі, пакуль настрой вясёлы.* Клімковіч. *Завітаў неяк у калгас Мікалай Майсеевіч Сурма, прараб... — Прыйшоў чалом біць, — звярнуўся ён да Кляпца. — Дайце нашым меліяратарам сена накасіць.* Дуброўскі.

3. *чаму. Паэт.* З глыбокай пачцівасцю ставіцца да чаго-н., вітаючы што-н. *Хіба ж можна пачуцці стрымаць мне, не сказаць з крутавішчаў і стром: я табе, рэк зямлі маёй маці, б'ю, Бяроза, чалом, б'ю чалом!* Калачынскі. *Над Бесяддзю, у лясной акрузе, сялянскай хаце б'ю чалом.* Прыходзька. *Б'ю чалом, зялёны краю, дзе ў славянства ад душы з рук у рукі адплываюць перавозчыкі-каўшы.* Янішчыц.

**БІ́ЦЬ ЯЗЫ́К АБ ЗУ́БЫ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. 1. Дарэмна, безвынікова гаварыць з кім-н. *Не хацеў біць язык аб зубы. З вамі спрачацца — што ваду ў ступе таўчы, — даволі сярдзіта бубніў Рак, корпаючыся ў тумбачцы.* Дамашэвіч. *Іш, куды гнеш! Няма мне часу, стары, з табой язык аб зубы біць.* «ЛіМ».

2. *Неадабр.* Гаварыць пустое, пустасловіць. **Сін.**: араць дарогі; блынды правіць; гарадзіць плот <*каму*>; званіць у <разбіты> лапаць; круціць вала <за хвост> (у 2 знач.); ліць ваду; мазоліць язык; малоць языком (у 1 знач.); малоць не падсяваючы; мянціць языком; пераліваць з пустога ў парожняе (у 2 знач.); плесці кашалі <*каму пра каго, пра што*>; плесці кашалі з лапцямі; плесці лапці; пляскаць языком; разводзіць антымоніі; разводзіць тары-бары; тары-бары <растабары> (у 2 знач.); таўчы ваду ў ступе (у 2 знач.); тачыць лясы <з *кім*>; травіць баланду (у 1 знач.); трапаць языком; часаць язык (у 1 знач.); часаць языком. *Я сабе падумала: парабіла б ты, мілачка, у школе ды кантрольныя напісала, тады б ведала, што да чаго, і не біла б язык аб зубы.* Левановіч. *[Вартаўнік:] Ну, браце, годзе язык аб зубы біць.* Клімковіч.

**БРЫ́НДЫ БІ́ЦЬ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гультаяваць, займацца пустымі справамі. **Сін.**: абіваць парогі (у 2 знач.); адлежваць бакі (у 2 знач.); акалочваць грушы <з вербаў>; біць байды; біць бібікі; біць лынды (у 1 знач.): біць тылылы; валяць дурня (у 2 знач.); вераб'ям дулі паказваць; ганяць сабак; корчыць гультая; лічыць варон (у 2 знач.); ляжаць на баку; пляваць у столь; сабакам сена касіць (у 1 знач.); сачка давіць. *Кінь ты, Мікіта! Нам з табой трэба справай займацца. А брынды біць заўсёды паспеем! Хадзем!* Зарэцкі. *Абыякавасць трымала пры сабе ды адпускала на якую хвіліну толькі дзеля таго, каб даць мажлівасць упэўніцца, што небяспека ніадкуль не пагражае, ды дазволіць і надалей біць брынды.* Сіўко.

**НЕ ЗІРНУ́ЎШЫ (НЕ ПАГЛЯДЗЕ́ЎШЫ) У СВЯ́ТЦЫ БІ́ЦЬ У ЗВАНЫ́**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рабіць што-н. недарэчы, дачасна, не разабраўшыся у чым-н. *Кулінчык — чалавек стрыманы, удумлівы, разважлівы — не любіў не зірнуўшы ў святцы біць у званы.* Дуброўскі.

**ЯК У БУ́БЕН БІ́ЦЬ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Голасна расказваць, настойліва перадаваць ад аднаго да другога (якія-н. весткі, чуткі і пад.). **Сін.**: званіць ва ўсе званы (у 1 знач.); з языка не спускаць *каго, што*; як у званы званіць. — *Вы пачулі ўжо? — Усё мястэчка як у бубен б'е, гаворыць пра гэта...* Гартны. *[Пацієўскі:] Усе ўжо як у бубен б'юць, што пра цябе будзе ў газеце друкавацца.* Чорны. *Таго ж дня ўся вёска як у бубен біла. Вядома, і сам Сцяпан не кепскі язычок меў, а тут яшчэ якраз падскочыў Тодар Пошта.* Крапіва. *Плёткі хутка расходзяцца па вясковых ваколіцах. У гэты дзень пад вечар усе бабы ў Забор'і як у бубен білі пра Аўгіньчыну*

*споведзь.* Чарняўская. *Мы нядаўна, калі ўсюды сталі як у бубен біць пра гэты калгас, таксама перагаварыліся. Парашылі: як людзі, гэтак і мы.* Каваленка.

*БЛАГІ* • **НА БЛАГІ КАНЕЦ**. Гл. канец.

*БЛАГІМ* • **БЛАГІМ МАТАМ**. Гл. матам.

*БЛАКІТНАЯ* • **БЛАКІТНАЯ КРОЎ**. Гл. кроў.

*БЛАКІТНЫЯ* • **БЛАКІТНЫЯ БЕРЭТЫ**. Гл. берэты.

*БЛЁКАТУ* • **БЛЁКАТУ НАЕЎСЯ**. Гл. наеўся.

*БЛІЗІРУ* • **ДЛЯ БЛІЗІ́РУ**. *Акал. Праст.* З мэтай стварыць падманлівае ўражанне. **Сін**.: дзеля гадзіся; для адводу вачэй; для віду; для понта; для вока; для прыклёпу; для прыліку; з понтам. *[Прыстаў] прыводы ў халодную зрабіў для блізіру: абы не скампраметаваць сябе перад павятовым начальствам.* Гартны. *Той жа Стась Іванавіч, які ўгаворваў Зіну памірыцца з Андрэем, хутчэй за ўсё, гаварыў так для блізіру.* Арабей. *Не па закону ён абыходзіцца з людзьмі. Толькі для блізіру нібыта па закону, а папраўдзе — не...* Каваленка.

*БЛІЗКА* • **БРАЦЬ <БЛІЗКА> ДА СЭРЦА** <*што*>. Гл. браць.
**І БЛІЗКА НЕ СТАЯЎ** *каля каго, каля чаго.* Гл. стаяў.
**<І> НІ (АНІ) БЛІ́ЗКА**. *Вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ніяк не згаджаецца; і слухаць не хоча. *Ат, скруцілася дурніца... Я ўжо і лейцамі гразіўся, і замуж хацеў за Невяроўшчыка аддаць, дык і ні блізка.* Грахоўскі. *Не хацелася наймаць у Каржакевіча малатарню, але ён [Юзік] намякнуў быў раз бацьку. Ну, той — ні блізка.* Крапіва. *Прыйшла і Марылька. Я яе ўгаворваў, каб сыграла ролю кулацкай дачкі — Сынклеты. Дык яна ані блізка.* Сабаленка.

*БЛІЗКІ* • **БЛІЗКІ СВЕТ**. Гл. свет.
**ЗА БЛІЗКІ СВЕТ**. Гл. свет.

*БЛІЗКУЮ* • **НА БЛІЗКУЮ НАГУ**. Гл. нагу.

*БЛІЗНЯТЫ* • **СІЯ́МСКІЯ БЛІЗНЯ́ТЫ**. *Адз. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Аднадумцы, блізкія ў якіх-н. адносінах людзі ці неразлучныя сябры. *В.Бечык імкнецца паказаць непадобнасць кожнага майстра, знайсці такія рысы і дэталі ў іх творчай манеры, каб паэты той ці іншай генерацыі пры ўсёй іх ідэйна-эстэтычнай, грамадзянскай агульнасці не выглядалі «сіямскімі блізнятамі».* «ЛіМ». *— Я магу ўліпнуць. Цябе буду асцерагаць, як вока. — Мы звязаныя, што сіямскія блізняты.* Шамякін.

*БЛІН* • **ЗРАБІЦЬ БЛІН** *з каго.* Гл. зрабіць.
**РАЗБІВАЦЦА Ў БЛІН**. Гл. разбівацца.

*БЛІНЫ* • **ПЯЧЫ ЯК БЛІНЫ** *што.* Гл. пячы.

*БЛІСКАВІЦУ* • **ЯК ГУСЬ НА БЛІСКАВІЦУ**. Гл. гусь.

*БЛІСКАЦЬ* • **БЛІ́СКАЦЬ ВАЧА́МІ (-Ы́МА)** *на каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пазіраючы, выяўляць пачуццё гневу, незадавальнення і пад. *— Гэта яшчэ як мы цябе пусцім, — бліскала вачымі Насця.* Ярашэвіч. **БЛІСНУЦЬ ВАЧАМІ (-ЫМА)** *на каго. Зак. [Саша] і азірацца не думаў, але цяпер, зачэплены за жывое, не ўтрываў, бліснуў на Рэню вачыма...* Лецка. *Словы Савіцкага абурылі Міхаіла Андронавіча. Ён спыніўся перад рахункаводам. Бліснуў вачыма.* Шамякін.

*БЛІСНУЦЬ* • **БЛІСНУЦЬ ВАЧАМІ** *на каго. Зак. да* **БЛІСКАЦЬ ВАЧАМІ** *на каго.*
*БЛІШЧАЦЬ* • **<ТОЛЬКІ> ПЯТКІ БЛІШЧАЦЬ** *у каго.* Гл. пяткі.

*БЛОХ* • **КАРМІЦЬ БЛОХ** *дзе.* Гл. карміць.
**ЛАВІЦЬ БЛОХ**. Гл. лавіць.
**ЯК САБАКА БЛОХ** *набрацца.* Гл. сабака.

*БЛОХІ* • **<УСЁ> БЛО́ХІ ПАДО́ХЛІ (ПАМЕ́РЛІ)** *у каго. У безас. ужыв. Праст. Іран.* Хто-н. страшэнна спалохаўся, адчувае моцны жах. **Сін.**: аслаблі гайкі *ў каго, чые* (у 1 знач.); валасы становяцца дыбам *у каго*; вочы на лоб лезуць *у каго* (у 2 знач.); душа ў пятках *у каго, чыя*; душа ў пяткі <схавалася> *у каго*; калені дрыжаць *у каго*; кроў ледзянее *ў каго*; кроў у жылах стыне *ў каго*; мароз па скуры <прабягае> *у каго, каго, чыёй*; мурашкі бегаюць па целе *ў каго, чыім*; неба з аўчынку здаецца *каму*; паджылкі трасуцца *ў каго*; скура шэрхне *на кім*; сэрца абрываецца *ў каго, чыё*; сэрца ледзянее *ў каго*; у пяткі кальнула *каму, каго* (у 1 знач.). *Толькі гэта звечарэла, так яно і ёсць: коціць пан да Свяжынскага, а ў таго блохі ўжо падохлі.* Галубок. *[Базыль:] Бальшавікі ідуць. Чулі?! Я з горада цяпер. У паноў ад страху ўсе блохі падохлі. Хто куды ўцякаюць.* Козел. *Аднойчы пусцілі пагалоску, што немцы зноў ідуць. У нас і блохі ўсе памерлі ад страху.* Лявановіч.

*БЛУДЗІЦЬ* • **БЛУДЗІ́ЦЬ У ТРО́Х СО́СНАХ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не разбірацца ў самым простым, элементарным. *[Паўлюк] расказваў мне пра Ключэўскага: дзе вучоны блудзіў у трох соснах, а дзе і на роўную дарогу выбіваўся.* Гроднеў. **ЗАБЛУДЗІЦЬ, ЗАБЛУДЗІЦЦА Ў ТРОХ СОСНАХ**. *Зак. У час уборкі ажывіцца ўся кулацкая погань. Бачыце, бядняк, які заблудзіўся ў трох соснах, і то хіба супроць нас настаўляе.* Дайліда. *Як помста за гэтае нядбайства, за нежаданне кіравацца народнымі этычнымі меркамі, у творчасці пачынаюць праяўляцца маральная глухата, блытаніна маральных крытэрыяў. Тады бывае не цяжка заблудзіцца і ў трох соснах...* Гілевіч.

*БЛУДНАЯ* • **БЛУДНАЯ АВЕЧКА**. Гл. авечка.

*БЛУДНЫ* • **БЛУДНЫ СЫН**. Гл. сын.

*БЛУКАННЕ* • **БЛУКА́ННЕ (ХАДЖЭ́ННЕ) ПА ПАКУ́ТАХ**. *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Цяжкія жыццёвыя выпрабаванні, што выпалі на чыю-н. долю. *З'явіліся ў сцэнарыі і «гарадскія» сцэны: Лявонава «блуканне па пакутах», яго спробы даказаць чыноўнікам, што зямля, з якой яго зганяюць, спрадвеку належала яму, што на гэтай зямлі жылі і дзяды яго, і прадзеды.* «ЛіМ». *У наступных аповесцях.. паказаны блуканне па пакутах маладых герояў у час вайны, іх барацьба супраць ворага.* Палідовіч. *Ну, давай, Вадзім, расказвай пра свае блуканні па пакутах.* Гаўрылкін. *Цяжкія, знясільваючыя баі партызан з атрада Касача, «хаджэнне па пакутах» адарваных ад свайго атрада воляю выпадку юных партызан — усё гэта складае змест аповесці А.Адамовіча.* Мележ. *Але дачытвай, Іван, дачытвай свае блуканні па пакутах... Бяжы, ляці па старонках даўняга рукапісу.* Шамякін.

*БЛУКАЦЬ* • **БЛУКА́ЦЬ ПА ПАКУ́ТАХ**. *Незак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пераносіць цяжкія жыццёвыя выпрабаванні. *Рух характараў у дылогіі Л.Дайнекі адчуваецца да таго часу, пакуль героі «блукаюць па пакутах».* «ЛіМ».

*БЛЫНДЫ* • **БЛЫНДЫ ПРАВІЦЬ**. Гл. правіць.

*БЛЫТАЕЦЦА* • **ЯЗЫК БЛЫТАЕЦЦА** *ў каго, каго.* Гл. язык.

*БЛЫТАЦЦА* • **БЛЫ́ТАЦЦА ПАД НАГА́МІ** *ў каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Замінаць, перашкаджаць таму, з кім знаходзішся побач. **Сін.**: мазоліць вочы *каму*; муляць вочы *каму*; набіваць аскому *каму* (у 1 знач.); навязнуць у

зубах *каму. [Цярэшка:] І ведаеце, не блытайцеся пад нагамі ў нас. Мы сур'ёзной справай заняты.* Макаёнак. *Носьбіты маралі і псіхалогіі абываццеляў не перавяліся. Яны блытаюцца ў нас пад нагамі, стрымліваюць нашу хаду наперад.* «Маладосць».

*БЛЫТАЦЬ* • **БЛЫ́ТАЦЬ <УСЕ́> КА́РТЫ** *каму, чые, каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Разладжваць, разбураць чые-н. планы, намеры, разлікі. *Не збіраючыся ў адным якім-небудзь месцы, а разумна размяшчаючыся на шырокім лясным фронце, мы, што і казаць, здорава блыталі гітлераўцам карты.* Кавалёў. **ЗБЛЫТАЦЬ, ПЕРАБЛЫТАЦЬ <УСЕ> КАРТЫ** *каму, чые, каго. Зак. Не было сакрэтам: спачатку мецілі на пасаду [сакратара парткома] галоўнага тэхнолага. Але той за дзень да перавыбарнага сходу знячэўку выехаў у камандзіроўку на Яраслаўскі аўтамабільны і зблытаў усе карты.* Карпаў. *«Нечаканы разрыў» з буфетчыцай, падобна, канчаткова зблытаў карты яму [Кружліку].* Масарэнка. *[Вера Паўлаўна] падрыхтавалася да прызнання ў сваёй нявернасці.., але Сяргей Сяргеевіч пераблытаў яе карты.* Асіпенка. *Некалі прэзідэнт атамнай фірмы марыў пасласць сваю экспедыцыю на Месяц, адкрыць там першыя ўранавыя руднікі, але Уолтэр пераблытаў яго карты.* Гамолка.

*БЛЫХУ* • **ПАДКАВАЦЬ БЛЫХУ**. Гл. падкаваць.

*БЛЯСКАМ* • **З БЛЯ́СКАМ**. *Разм.* **1**. *Акал.* Вельмі добра, надзвычайна, бліскуча (рабіць, зрабіць што-н.). **Сін.**: будзь-будзь (у 1 знач.); будзь здароў (у 1 знач.); дай бог (у 1 знач.); дай бог кожнаму (у 2 знач.); дзякуй богу (у 1 знач.); за маё-маё (у 1 знач.); за маліну (у 2 знач.); кум каралю <і сват міністру> (у 3 знач.); люба-дарага; на дзіва (у 2 знач.); на поўнае вока; на пяць з плюсам; на славу (у 1 знач.); на ўсе сто (у 2 знач.); на яць (у 1 знач.); разлюлі-маліна (у 2 знач.); слава богу (у 1 знач.); хвала богу (у 1 знач.); хоць куды (у 2 знач.); што трэба (у 1 знач.); як не трэба лепш. *Хлопцы рагаталі да слёз. Ахад пастараўся. Праспяваў прыпеўкі з бляскам. Мастак!* Левановіч. *Нават радавыя гаспадаркі з бляскам — на 236 працэнтаў — выканалі план продажу насення міжгаспадарчаму прадпрыемству...* «Звязда».

**2**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Цудоўны, надзвычайны. **Сін.**: адным словам; без сучка і <без> задзірынкі (у 2 знач.); будзь-будзь (у 2 знач.); будзь здароў (у 4 знач.); дай бог (у 2 знач.); дай бог кожнаму (у 1 знач.); дзякуй богу (у 2 знач.); за маё-маё (у 2 знач.); за маліну (у 3 знач.); кругом сто дваццаць; на славу (у 2 знач.); на ўсе рукі; на ўсе сто (у 3 знач.); на яць (у 2 знач.); па крайняй меры (у 2 знач.); пальчыкі абліжаш (у 2 знач.); пашукаць такога; першай гільдыі (у 1 знач.); першай рукі (у 1 знач.); першы клас; першы сорт; разлюлі-маліна (у 1 знач.); рэдкай рукі; слава богу (у 2 знач.); хоць куды (у 1 знач.); хоць на выстаўку <вязі>; што трэба (у 2 знач.); як яечка. *Вы ўсе ў Маскву, у Ленінград, ва універсітэт, у акадэмію. І абавязкова, каб прафесія — з бляскам, відная!* Мележ.

*БЛЯХА* • **БЛЯ́ХА-МУ́ХА**. *Выкл. Праст. Неадабр.* Вокліч незадаволенасці, абурэння, прыкрасці і пад. **Сін.**: авохці мне; ёлкі зялёныя; ёлкі-маталкі; ёлкі-палкі; фу ты <ну ты>; халера ясная; цьфу ты <чорт>; чорт бы яго ўзяў; чорт вазьмі; чорт ведае што такое. *Хлопец пяцярнёй узяўся за яго [перавернуты крыж]. — Ой, бляха-муха! — вылаяўся ён уголас.* Казлоў. *Запалкі, як адна, не загараюцца. [Лысы] нервуецца. Злуецца: — Ды, чорт!.. Бляха-муха! Калі ўжо навучацца?! Рукі б ім, гадам!.. Бракаробы!..* В.Ткачоў.

*БОБ* • <u>*Блытаць, змешваць*</u> **БО́Б З ГАРО́ХАМ**. *Дап. Разм.* (Блытаць) розныя, несумяшчальныя рэчы. **Сін.**: божы дар з яешняй. *Караліцкі зморшчыўся, адтапырыў ніжнюю губу: — Вершы і хлеб — розныя рэчы. Не трэба, пане Самойла, блытаць боб з гарохам.* «Звязда». *Рая, неразбірака ты. Што ты блытаеш боб з гарохам! Гэта якія вучні? Нар-*

*мальныя. Звычайныя дзеці... А Галавацкі? Ён і на трактар, ён і пад трактор. Ён абавязкова што-небудзь адколе.* Ермаловіч. *Раптам Дзмітрыя ўзяла злосць: нечага змешваць боб з гарохам... — адкрыты крадзеж і прысваенне з дапамогай падробкі дакументаў, — не варта ўсё валіць у адну кучу.* Капусцін.

*БОБУ* • **ПАД'ЕСЦІ ЖАЛЕЗНАГА БОБУ**. Гл. пад'есці.

**ЯК БО́БУ** *каго. У безас. ужыв.* Вельмі многа. Звычайна пра дзяцей. **Сін.**: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не перастравіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *у каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* лёгіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; *у* кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго*. *Здароў і дуж быў сялянін Антось... Ды толькі лёс яго не гладзіў: дзве жонкі ўжо ляглі ў магілу, а пасля іх дзяцей — як бобу.* Крапіва. *[Пілip]: Мой бацька яшчэ жыў. А ў яго сыноў было як бобу. Трох на вайне забілі... А яшчэ двое нас братоў засталося.* Мрый.

*БОГ* • **АДЗІ́Н БО́Г <СВЯТЫ́> ВЕ́ДАЕ**. *У знач. галоўн. ск. Разм.* Нікому невядома. **Сін.**: адзін алах ведае; адзін-чорт ведае; бог ведае; ліха ведае; хто ведае; чорт ведае; чорт ведама. *— Ах, будзе, будзе... — уздыхнула мама. — Што там будзе яшчэ — адзін бог святы ведае.* Брыль. *Як яно ўсё будзе ў сапраўднасці — адзін бог ведае.* Вітка.

**БАРАНІ БОГ**. Гл. божа.

**БА́ЧЫЦЬ БО́Г**. *Часцей у знач. галоўн. ск. Разм.* Клянуся, запэўніваю ў чым-н. Ужыв. для пацвярджэння чаго-н., запэўнення ў праўдзівасці чаго-н. **Сін.**: бог сведка; ісцінны бог; слова гонару; чэснае слова; яй-богу; яй-права; як бог свят (у 2 знач.). *Круціш, Аляксей, ну прызнавайся? Бачыць бог, што круціш.* Хомчанка. *— Душа ў цябе прадажная: ты служыш і нам, і партызанам! — Не, не, не! — заенчыў бургамістр. — Бачыць бог... Я шчыра служу вам.* Якімовіч.

**БО́Г БА́ЦЬКА**. *У безас. ужыв. Разм.* Часцей ужыв. пасля слоў *а там.* Будзе відаць, як і што; неяк будзе, горш не будзе. Выказванне спадзявання на лепшае. *Паеду ў вёску, ёсць нейкая цётка, хату ёй памагаў ставіць. Можа, пусціць на печ. А не, дык свет не без добрых людзей, як-небудзь перазімую. А там — бог бацька, кожны куст дасць начлег.* Навуменка. *Трэ было дацягнуць да раніцы, а там — бог бацька. Так мы і спалі — спачатку я пільнаваў, потым Цыркін.* Чыгрынаў.

**БО́Г ВАЙНЫ́**. *У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Артылерыя як найбольш істотны фактар на полі бою. *І на яго [ліст] ён [Гукай] забыўся ў тую хвіліну, як дваццаць тысяч гармат залп далі па Берліну. Як бог вайны, уздыхнуўшы ў яго за спіною, усе дваццаць тысяч снарадаў пранёс над зямлёю.* Куляшоў. *— Вітаю бога вайны! — Салют, царыца палёў.* Быкаў. *— Добра дае бог вайны, — хваліў Барысаў работу артылерыстаў.* Дудо.

**БО́Г ВЕ́ДАЕ**. *Узнач. галоўн. ск. ці акал. Разм.* Невядома (што, хто, куды, які, як, колькі і інш.). **Сін.**: адзін алах ведае; адзін бог <святы> ведае; адзін чорт ведае; ліха ведае; хто ведае; чорт ведае; чорт ведама. *У Сядуры былі свае меркаванні: бог ведае, што будзе.* Лобан. — *Шанцуе сёлета на сена пакуль што. Бог ведае, як далей будзе, — млява гаворыць Грамабой...* Крапіва. *Ехалі туды бог ведае колькі часу...* Галавач. *Насця не пагледзела, што Іван не маладзён. І яе ўласная маладосць бог ведае дзе засталася ззаду...* Васілевіч.

**БО́Г ВЕ́ДАЕ ШТО́**. *Часцей дап. Разм.* Штосьці надзвычайнае. **Сін.**: алах ведае што; ліха ведае што; чорт ведае што. *«Панапісваў бог ведае што ў газеце... І ў брашуры... «Літаратурны запіс А.Баркуна»...* Місько. *[Клава:] Дзіма! Як табе не сорам! Таварыш пісьменнік бог ведае што можа падумаць.* Крапіва. — *О, цяпер добра. Дзякую, браце, — і ён паціснуў Драгуну рукі, нібы той зрабіў бог ведае што. — На здароўе! — сказаў Драгун.* Дамашэвіч.

**БО́Г ДА́СЦЬ**. *Узнач. пабочн. сл. Разм.* Як на шчасце, калі пашанцуе. Пра магчымасць добрага зыходу. *Уцякаюць людзі, праклінаюць усё, а мы сядзім; думалася: а можа, бог дасць, як абжывёмся.* Галавач. *Быў я калісь гаспадар, дасць бог — можа, і яшчэ пабуду, хоць на старасці год.* Брыль. *Можа, дасць бог, ачуняе твой чалавек.* Лобан.

**БО́Г ДА́Ў**. *Кампанент вык. Разм.* Прыйшлося, давялося (пазнаць, сустрэцца, убачыцца і інш.). *Мне мудрасці кніжнай не даў бог пазнаці, мой бацька не мог даць раскошаў такіх...* Купала. — *Добрая душа гэта паненка, — казала бабка і ўздыхала. — Уся ў матку пайшла... Не даў ёй бог яшчэ пажыць трошкі, дзетак пагадаваць.* Колас. *[Цiток:] І ні з кім я сваім шчасцем дзяліцца не буду, хай не спадзяюцца. Каб толькі бог даў спажыць добра.* Лобан.

**БО́Г ЖЫВЕ́** *дзе. У безас. ужыв. Разм.* Дзе-н. вельмі хораша, усё добра. **Сін.**: бог начуе *дзе*. — *Тут у вас бог жыве, — казаў Марка [наконт] таго, што поле на пасёлку вельмі ж блізка: на ганку стаўшы, можна з самае дальшае нівы палуднаваць у хату клікнуць. — Я кажу адно, што вельмі ж харашо ў вас.* Калюга. *І пра тое кожны пяе салавей росным кветкам у роднай траве: «На Беларусі Бог жыве», — і няхай давеку жыве.* Караткевіч. *«На Беларусі Бог жыве». І верыць хочацца нязменна, калі яна такой слыве, і ёй жыць вечна, благаславеннай.* Свірка. *У хаце ў нас Бог жыве, а на вуліцы такая юга — свету белага не відаць.* Барадулін.

**БО́Г З ТАБО́Й (З І́М, З ЁЙ, З ВА́МІ, З І́МІ)**. *Выкл. Разм.* **1**. Няхай будзе так. Выказванне згоды, прымірэння, уступкі і пад. **Сін.**: алах з табой; кадук з ім; ліха з ім; ліха яго бяры; трасца яго бяры; халера з ім; халера яго бяры; хвароба з ім; хрэн з ім; чорт з ім; чорт яго бяры. *[Данілка:] Як Сымон не хоча з гэтым няшчасным папяліішчам расстацца, то і бог з ім!* Купала. *[Рабіна:] Хадзем, дачушка, дахаты! Бог з ім, не падабаецца мне тут нешта.* В.Вольскі — *Нікуды, мама, я адсюль не пайду... — І праўда... Няма патрэбы ёй хадзіць сюды-туды... — Бог з вамі, — зусім палагаднела Якубіха.* Жычка.

**2**. Навошта, хіба так можна?! Выказванне здзіўлення, нязгоды, папроку і пад. — *Не, дзядок! не тое, дзедку! А ты вось скажы: чаму вецер песні пяе ўлетку, плача ж жаласна ўзімку? — Схамяніся, бог з табою! Унь ужо аб чым спытаў! — І круціў дзед галавою, і плячыма паціскаў.* Колас. — *Адумайся, суседзе! Бог з табою, — заёрзаў па лаве Спірыдон. — Ці ж не адной мы веры?* Пальчэўскі.

**БО́Г МІ́ЛАВАЎ (КРЫ́Ў)** <*каго*>. *У безас. ужыв. Разм.* Нічога дрэннага не здарылася з кім-н. — *Днём, калі ты застаешся адзін, сюды ніхто не заглядвае? — Сюды? Пакуль бог міламаў.* Няхай. — *У першыя месяцы вайны пакалацілі нас добра, разграмілі полк, у якім я служыў, і я трапіў у палон. Табе не давялося паспытаць гэтага? — Не, як кажуць, бог*

*мілаваў*... Новікаў. *[Салдат:] Пад Пярэмышлем... абоіх гранатай касянула. Самога бог крыў.* Лобан.

**БО́Г НАЧУ́Е** *дзе. У безас. ужыв. Разм.* Дзе-н. вельмі хораша, усё добра, удачна. **Сін.**: бог жыве *дзе. Вялікім дабром стала гарантаваная аплата. Але ўсё роўна сяло, зямля не прываблівае, уцякаюць людзі, хоць у Беларусі яшчэ, як кажуць, бог начуе.* Шамякін. — *Хочаце, каб дачка была здаровая, шукайце месца і з'язджайце. — А навошта нам шукаць... Лёня ж, стрыечнік мой, у Віцебску жыве. Няўжо не дапаможа [схаваць дачку ад радыяцыі]? — Шаноўныя бацькі! — засердавала доктарка. — Вы, можа, думаеце, што ў Віцебску дваццаць шостага красавіка восемдзесят шостага года Бог начаваў?* Кадзетава.

**БО́Г НЕ ПАКРЫ́ЎДЗІЎ (НЕ АБДЗЯЛІ́Ў)** *каго чым. Зак. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. вельмі адораны якімі-н. якасцямі, здольнасцямі, уласцівасцямі *Дзюбін быў прызваны з запасу. І, хоць характарам яго бог не пакрыўдзіў, невядома, ці хопіць у яго франтавога ўмельства?* Быкаў. *Сілаю Янку бог не пакрыўдзіў, толькі куды яе было дзяваць, гэтую сілу?* Дамашэвіч. *Курыцкіх дзяўчат бог не абдзяліў прыгажосцю, а Міхаліну сярод іх прыкмеціш адразу.* Палтаран. *І прывабнасцю многіх бог не абдзяліў, і нявесты відныя, а не асабліва знаходзяцца смельчакі, каб, страціўшы галаву, кідацца ў залёты.* Блакіт.

**БОГ ПАКРЫЎДЗІЎ** *каго чым, кім.* З супрацьлеглым знач. *Як кажа Ганульчына маці, от ужо каго бог пакрыўдзіў дык пакрыўдзіў: мала што калека, дык яшчэ трэба было і розум адабраць у няшчаснай...* Васілевіч. *Канешне, пакрыўдзіў мяне бог прозвішчам, але я ў гэтым... невінаваты...* Лынькоў. *Пакрыўдзіў бог мяне сынамі, ядзяць іх мухі з камарамі! Няма сыноў — няма падмогі, а сам я стаў слабы на ногі...* Колас.

**БО́Г НЕ СУДЗІ́Ў** *каму. У безас. ужыв. Разм.* Не наканавана і не давялося (зрабіць што-н). *[Міхал:] Бог не судзіў мне бачыць волі і кідаць зерні ў свае ролі...* Колас. *Як мала пажылі [Корсак з Каралінай], так мала і пацешыліся. Не судзіў бог.* Адамчык.

**БО́Г НЯСЕ́ (ПРЫНЁС)** *каго. У безас. ужыв. Разм.* Ужыв. у пытальных ск. пасля слоў *куды, адкуль, ці надоўга, з чым* і пад. (Куды, адкуль і пад.) хто-н. ідзе (прыйшоў)? **Сін.**: бура нясе *каго*; вецер нясе *каго*; ліха нясе *каго*; нячысцік гоніць *каго*; чорт нясе *каго. — Куды гэта вас бог нясе? — Пасля, Сымон, пасля, дай душу абагрэць з марозу, аж ногі пазаходзіліся.* Лынькоў. *Гэлька, няўжо ты? Адкуль бог нясе?* Грахоўскі. *[Ксёндз:] Як пан Болесь маецца? Ці надоўга бог прынёс сюды?* Крапіва. — *З чым бог прынёс, суседзе? — З горам, — адказаў Пётра.* Чорны.

**БО́Г ПАКАРА́Ў** *каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. нешчаслівы, трапіў у цяжкае становішча. *Злосць Янку агортвае. — І ўсё ў цябе не так, як у людзей. Вось пакараў мяне бог!* Крапіва. *[Маці] вырывала, хітаючы ўбакі, касу з дзірвану і войкала: — За што ж мяне бог так пакараў?!* М.Капыловіч.

**БО́Г ПАСЛА́Ў** *каму каго, што. У безас. ужыв. Разм. Часам іран.* Пашчасліліла займець. **Сін.**: сам бог паслаў *каго, каму, да каго. Цётка Аксіння змаўкае, пра штосьці думае. Можа, пра Тадзіка. Бо людзям бог і ўнукаў паслаў, а яна адна ў хаце.* Кузьмянкоў. *«Ну і кампанію мне бог паслаў: ні пакурыць, ні пагаварыць», — узмахваў рыдлёўкай Ясучэня.* Калодзежны. *[Язва:] Няўжо мне такое шчасце бог паслаў, што герой камедыі сам у рукі прыйшоў?* Крапіва.

**БО́Г ПРЫБРА́Ў** *каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. памёр. **Сін.**: дух вон *з каго*; дух выйшаў *з каго, у каго*; душа вон *з каго* (у 1 знач.); магіла возьме *каго*; перастала біцца сэрца *каго. У мяне клопат, каб дзіця голае не хадзіла. Як прыбярэ мяне бог з гэтага свету, дык яму і змяніцца не будзе ў што.* Крапіва. *Марыся пасля ўсяго сышла з Мышчыц, знайшла прытулак у сваёй цёткі Куліны, пакуль Граську бог не прыбраў.* Аношкін.

**БО́Г СВЕ́ДКА.** *Выкл. Разм.* Праўда, далібог. Ужыв. для пацвярджэння чаго-н., запэўнення ў праўдзівасці чаго-н. **Сін.**: бачыць бог; ісцінны бог; слова гонару; чэснае слова; яй-богу; яй права; як бог свят (у 2 знач.). *Мы з Элі пазнаёміліся да таго, як Фані разбіў паляруш. Сустракаліся ўпотай. Фані мы нічога не казалі, бо шкадавалі яе... Бог сведка, я быў цярплівы ўвесь гэты час, але ж колькі можна цярпець!* Сіўко.

*<u>Нос</u> у каго* **БО́Г СЕМЯРЫ́М НЁС ДЫ АДНАМУ́ ДАСТА́ЎСЯ (УДЗЯЛІ́Ў).** *У знач. прэдык. азн. Разм. Іран.* Вельмі вялікі. **Сін.**: на дваіх рос, аднаму дастаўся. *А ў яго нос, які бог семярым нёс, ды аднаму Мамулі ўдзяліў: вялікі, доўгі і скрыўлены ўбок.* Сяркоў.

**БО́Г** *каму* **СУДДЗЯ́.** *У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* **1.** Хто-н. паплаціцца за свае нядобрыя справы. — *А хто не згаджаецца з гэтаю пастановаю? — Я!.. — Ну і бог табе суддзя... Ты зусім не нашай вёскі чалавек, ты нейкі вырадак нашай прыгожай працоўнай сям'і...* Чарот.

**2.** Няхай гэта будзе на чыім-н. сумленні як яго маральная адказнасць за нядобры ўчынак. *Той самы крытык пра ягоную паэму пісаў некалі зусім іншае... Ну, дык Бог яму суддзя...* Арабей. *Відаць, старая тайная віна табе душу збалелую сціскае. Ды Бог табе суддзя.* Бураўкін. *Яе маці захварэе, дык я і ў бальніцу, і ў аптэкі. А мая быццам і не маці. Ну, ды ладна. Бог ёй суддзя.* Варановіч.

**БО́Г ЯГО́ (ЯЕ́, І́Х, ЦЯБЕ́, ВА́С) ВЕ́ДАЕ.** *Часцей у знач. галоўн. ск. Разм.* Невядома. **Сін.**: агонь яго ведае; алах яго ведае; вятры яго ведаюць; кадук яго ведае; ліха яго ведае; немач яго ведае; нячысцік яго ведае; пярун яго ведае; трасца яго ведае; халера яго ведае; хвароба яго ведае; хрэн яго ведае; хто яго ведае; чамярыца яго ведае; чорт яго ведае. — *Яшчэ бацька нашага старасты жывога медзвядзёнка з лесу прынёс, ад мядзведзіцы адабраў! — Як жа гэта ён? — А бог яго ведае. Смелы. Дый здаровы, як дуб.* Колас. *[Алена Максімаўна:] Вельмі ж кароўка ўдалая. Каб вы толькі глянулі на тое вымя. Але ўжо не маладая. Гадоў праз чатыры трэба будзе мяняць. А там якая ўдасца, бог яе ведае.* Крапіва.

**ВО́СЬ (ВО́Т) <ТАБЕ́> БО́Г, А ВО́СЬ (ВО́Т) ПАРО́Г.** *У знач. пэўна-асаб. ск. Разм. Неадабр.* Выбірайся вон. — *Вось чапяла крывая! — не ўтрываў Кастусь. — Гэта ж толькі ўзяць ды сказаць: вот бог, а вот парог. — За што, суседка, выганяць? — пляснула рукамі Зоська.* «Маладосць». *Каб са мной гэтакае здарэнне, я б адразу сказаў: «Не, дарагуша. Вось табе бог, а вось парог».* Філіповіч.

**ДАВА́Й (ДА́Й) БО́Г НО́ГІ.** *Толькі ў заг. л. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Паспешліва пабег (пабягу), знік (знікну). **Сін.**: памінай як звалі (у 2 знач.); хвастом накрыцца (у 2 знач.). *Паны за граніцу — давай бог ногі...* Чарот. *Усё ціха, ніякай трывогі. Няхай так і будзе. Цяпер паўзком за кусты, за дрэвы і давай бог ногі з гэтага месца.* Лобан. *Калі з нагі знялі гіпс, [Хведар] употай падумаў: «Ну, цяпер дай бог ногі адсюль».* Гроднеў. *Што ў яго [Сафрона] пад кажухом было — абрэз ці наган, — пальнуў раз і яшчэ раз бабахнуў. Конік той круць назад ды дай бог ногі...* Ракітны.

**ДА́Й БО́Г (БО́ЖА).** *Разм. Часцей адабр.* **1.** *Акал.* Вельмі добра (рабіць, зрабіць што-н.). **Сін.**: будзь-будзь (у 1 знач.); будзь здароў (у 1 знач.); дай бог кожнаму (у 2 знач.); дзякуй богу (у 1 знач.); за маё-маё (у 1 знач.); за маліну (у 2 знач.); з бляскам (у 1 знач); кум каралю <і сват міністру> (у 3 знач.); люба-дорага; на дзіва (у 2 знач.); на поўнае вока; на пяць з плюсам; на славу (у 1 знач.); на ўсе сто (у 2 знач.); на яць (у 1 знач.); разлюлі-маліна (у 2 знач.); слава богу (у 1 знач.); хвала богу (у 1 знач.); хоць куды (у 2 знач.); што трэба (у 1 знач.); як не трэба лепш. *Упарыць жа ясень трэба дай бог...* Пташнікаў. *Недарма Пушкін пісаў: «Чем меньше женщину мы любим, тем больше*

*нравимся мы ей». Так, здаецца, Лявон? А Пушкін разумеў у гэтай справе — дай бог!* Шамякін.

2. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. ці абстр. прадмета. Вельмі добры. **Сін.**: адным словам; без сучка і <без> задзірынкі (у 2 знач.); будзь-будзь (у 2 знач.); будзь здароў (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 1 знач.); за маё-маё (у 2 знач.); за маліну (у 3 знач.); з бляскам (у 2 знач.); кругом сто дваццаць, на славу (у 2 знач.); на ўсе рукі; на ўсе сто (у 3 знач.); на яць (у 2 знач.); па крайняй меры (у 2 знач.); пальчыкі абліжаш (у 2 знач.); пашукаць такога; першай гільдыі (у 1 знач.); першай рукі (у 1 знач.); першы клас; першы сорт; разлюлі-маліна (у 1 знач.); рэдкай рукі; слава богу (у 2 знач.); хоць куды (у 1 знач.); хоць на выстаўку <вязі>; што трэба (у 2 знач.); як яечка. *Разумею. Гаспадарка дай божа... Ёсць чым хваліцца ў гэтым годзе?* Хадкевіч. *[Дабрагост:] Жыццё — дай божа! І пры нашым спосабе дык можна б рай было зрабіць зямны.* Гілевіч. — *Павезлі ж у бальніцу. Там выхадзяць [Данілу]... Урачы цяпер — дай божа... — меркаваў Пятро.* М.Капыловіч.

3. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Вельмі вялікі. **Сін.**:дзякаваць богу (у 1 знач.). *Няма горш, як працаваць намеснікам. Самты нішто, а патрабаванні — дай божа.* «Полымя». *У Шэметавых як раз абедаць селі. Сямейка — дай божа, стол наўкруга цесна абсела...* Лобан.

4. *Акал. і ў безас. ужыв.* Вельмі многа чаго-н. **Сін.**: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму (у* 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што, *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. Марыя Дзмітраўна сушыць лясную здабычу, а часам і яна падключалася да ўсёй сям'і і таксама прыходзіла не з пустымі рукамі. Насушылі баравікоў дай божа!* С.Александровіч. *Дык я, Маруся, схаджу да лазні. Вады прынясу. Арсен, як запрашаў мяне, сказаў, што будуць яшчэ Гарасім і Лукіч. А талака вады выпье дай божа.* Карамазаў.

**ДА́Й БО́Г (БО́ЖА)** *каму. Выкл. Разм.* Выказванне пажадання чаго-н. — *Ну вось так! Павячэралі — дай бог паснедаць, — кажа Жаўтых, выціраючы вусы, і бярэцца за другі кацялок...* Быкаў. У *дзвярах дзед звярнуўся да жыхароў камеры: — Бывайце, дзеткі, здаровы! Дай божа і вам шчасліва дачакацца часу вызвалення.* Колас. *[Аўдоцця:] Чакаеш, значыцца? Дай божа табе шчасця. Хаця каб чалавек добры трапіўся.* Крапіва.

**ДА́Й БО́Г (БО́ЖА) КО́ЖНАМУ**. *Разм. Адабр.* 1. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. ці абстр. прадмета. Вельмі добры хто-н., што-н., ад чаго ніхто не адмовіцца. **Сін.**: адным словам; без сучка і <без> задзірынкі (у 2 знач.); будзь-будзь (у 2 знач.); будзь здароў (у 4 знач.); дай бог (у 2 знач.); дзякуй богу (у 2 знач.); за маё-маё

(у 2 знач.); за маліну (у 3 знач.); з бляскам (у 2 знач.); кругом сто дваццаць; на славу (у 2 знач.); на ўсе рукі; на ўсе сто (у 3 знач.); на яць (у 2 знач.); па крайняй меры (у 2 знач.); пальчыкі абліжаш (у 2 знач.); пашукаць такога; першай гільдыі (у 1 знач.); першай рукі (у 1 знач.); першы клас; першы сорт; разлюлі-маліна (у 1 знач.); рэдкай рукі; слава богу (у 2 знач.); хоць куды (у 1 знач.); хоць на выстаўку <вязі>; што трэба (у 2 знач.); як яечка. *Няйнакш, хто-небудзь са сваіх спакусіўся. Вядома, спакусіцца можна. Такі гадзіннік — дай божа кожнаму.* Пестрак. *[Пытляваны:] Ураджай сёлета быў, як даўней казалі, дай божа кожнаму...* Крапіва.

**2**. *Акал.* Вельмі добра (рабіць, зарабляць і пад.). **Сін.**: будзь-будзь (у 1 знач.); будзь здароў (у 1 знач.); дай бог (у 1 знач.); дзякуй богу (у 1 знач.); за маё-маё (у 1 знач.); за маліну (у 2 знач.); з бляскам (у 1 знач.); кум каралю <і сват міністру> (у 3 знач.); люба-дарагая; на дзіва (у 2 знач.); на поўнае вока; на пяць з плюсам; на славу (у 1 знач.); на ўсе сто (у 2 знач.); на яць (у 1 знач.); разлюлі-маліна (у 2 знач.); слава богу (у 1 знач.); хвала богу (у 1 знач.); хоць куды (у 2 знач.); што трэба (у 1 знач.); як не трэба лепш. *Дзеўка як дзеўка і тварам не горшая за другіх, і рукі ёсць. А цяпер зарабляе — дай бог кожнаму.* Кудравец. — *Ну, як там мая сям'я?.. — Жывуць! Дай бог кажнаму! І ў багацці, і ў славе.* Чарнышэвіч.

**3**. *У безас. ужыв.* Вельмі многа чаго-н. **Сін.**: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не перастáвіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго*. *[Каця] не такая, каб спаявядацца кожнаму... Не! Гордасці ў яе — дай божа кожнаму...* Міська.

**ДА́Й БО́Г (БО́ЖА) ПА́МЯЦЬ**. *Выкл. Разм.* Выказванне жадання, намагання ўспомніць што-н. *У нас, дай бог памяць, здаецца, перасеву не было. Сам зводку падпісваў.* Асіпенка. *[Сяргей Сяргеевіч] усіх ведае як аблупленых. З чорнаю барадой і лысы, як доўбня, Артур Адольфавіч. Прозвішча забыў... дай бог памяць, Шэлег. Так, Шэлег.* Супрунчук. *Ага, дай божа памяць!.. Яшчэ на тым тыдні гаспадарскі хлопец чытаў, я прыслухаўся — братачкі, пра Хурса пішуць, я ж яго бачыў! І як! За граніцай жыве, мільёны пражывае...* Чорны.

**ДА́Й БО́Г (БО́ЖА) ЧУ́ТАЕ БА́ЧЫЦЬ**. *Выкл. Разм.* Выказванне пажадання, каб абяцанае здзейснілася. — *Баюся я, каб не зачынілі зусім, як кажуць, нашае крамкі... — Не зачыняць, пойдзе. —Дай бог, як кажуць, чутае бачыць...* Галавач. — *Усё ж у Саляніках сёлетняй вясной пасею абпрамененую бульбу, хоць крыху, але пасею. І пастараюся вам даказаць. — Што ж, дай бог чутае бачыць...* Гроднеў. *Няўжо ёсць такія генералы, якія*

*спачуваюць людзям працы... — Ёсць... — Дай бог чутае бачыць, — гаварыў усё той жа салдат.* Гурскі.

**ДЗЕ́ БО́Г ПАШЛЕ́**. *Акал. Разм.* Там, дзе прыйдзецца, дзе здарыцца (жыць, начаваць і пад.). *— Дзе зямлянкі? — Ніякіх зямлянак. Жывём — дзе бог пашле.* Лобан.

**ЁСЦЬ БО́Г НА СВЕ́ЦЕ**. *Выкл. Разм.* Выказванне задавальнення, радасці з нагоды здзяйснення чаго-н. *Ёсць бог на свеце, знайшліся добрыя людзі, куток у хаце выдзелілі.* А.Жук. *Ёсць бог на свеце, нарэшце і мне пашэнціла.* Праўдзін. *Фруза ўзрадавалася: вось ён доўгачаканы выпадак адпомсціць — ні пісьма яму, ні здымка. «Начакалася я — начакаешся і ты. Ёсць бог на свеце, ёсць...»* Воранаў. *Ёсць, ёсць бог на свеце! З ног збіліся, шукаючы цябе.* Дубоўскі.

**І БО́Г ВЯЛЕ́Ў** *каму. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. мае неаспрэчнае права на што-н., варты, заслугоўвае чаго-н. *[Бондараў:] Ён [фашыст] прыйшоў у чужую хату ды не баіцца, а я ў сваёй павінен яго баяцца? Не, у сваёй хаце я ўжо яму морду наб'ю. [Перагуд:] А ты, землячок, што скажаш на гэта? [Родны:] У землячка і пытацца няма чаго. Яму і бог вялеў.* Крапіва. *Тут усякаму з рукі б адпачыць, а чалавеку з хворай нагой і бог вялеў.* Кулакоўскі.

**І́СЦІННЫ БО́Г**. *Выкл. Праст.* Праўда, далібог. Ужыв. для пацвярджэння чаго-н., запэўнення у чым-н. **Сін.**: бачыць бог; бог сведка; слова гонару; чэснае слова; яй-богу, яй-права; як бог свят (у 2 знач.). *— Мусіць, выдумляеш?.. — Ісцінны бог, толькі дагадайся — ад каго?* Васілевіч. *— Сцяпан, я вазіў бульбу ў Беласток! — спыніў дзед каня. — І бачыў там нейкіх, мусіць, бальшавікоў, ісцінны бог!* Карпюк. *Дзяцініцца чалавек — пісьмо гладзіць... Ісцінны бог, дзяцініцца!* Масарэнка. *— Ісцінны бог, задарма аддаю! — заўзята біла кулаком сабе ў грудзі, таргавалася цётка з нейкім дзецюком.* Аношкін.

**<І> ЦАР І БОГ І ВОІНСКІ НАЧАЛЬНІК**. Гл. цар.

**КРЫ́Й БО́Г (БО́ЖА)**. *Толькі ў заг. л. Выкл. Разм.* **1**. Выказванне папярэджання, засцярогі ад чаго-н. нежаданага, недапушчальнага. **Сін.**: барані божа (у 1 знач.); божа збаў (у 1 знач.); не давядзі бог (у 1 знач.); не дай бог (у 1 знач.); няхай бог крые; хавай божа (у 1 знач.). *Вясновы дождж ык ці ў раннюю восень — як золата з неба сыплецца. А от зімовы — крый бог!* Місько. *Калі, крый бог, і хлопчык не паступіць мой — тады зусім я пракляну свой лёс...* Гілевіч. *А Свіда стаў пароць гарачку і ўжо ў стрэльбе ўзвёў сабачку. — Не руш! не руш, пан! о, крый божа: пан сапсаваці справу можа!* Колас. *[Графіня:] Калі, крый божа, здарыцца што, я павінна ведаць, за што мой сын аддаў жыццё...* Губарэвіч.

**2**. Выказванне рашучага адмаўлення чаго-н. або нязгоды з чым-н. **Сін.**: барані божа (у 2 знач.); божа збаў (у 2 знач.); хавай божа (у 2 знач.). *Дзед, бывала, ніколі не дазваляў сабе сказаць грубае слова... Крый бог, каб ён калі зрабіў каму шкоду ці ўзяў не сваё з двара або з поля.* Быкаў. *Я не паэт, о крый мяне божа! Не рвуся я к славе гэткай ні мала.* Купала. *Знае маці — не жартуюць, судзяць суддзі строга, хоць сынок яе не злодзей, не зрабіў нічога: не забіў, не абняславіў, — о не, не! крый божа!* Колас.

**НАПРАМІ́ЛЫ БО́Г** <u>прасіць, заклікаць</u>. *Акал. Разм.* Вельмі шчыра і настойліва. **Сін.**: хрыстом-богам. *— Ну хто ў цябе там яшчэ, Астап? — спытаў ён [Мірон Іванавіч], выпускаючы жанчыну, якая на развітанне прасіла напрамілы бог не казаць нікому, чаго яна прыходзіла да яго.* Лынькоў. *У атрад іх прывяла Зойка, атрадная сувязная з пуцейскай казармы, казала, найперш яны прыбіліся да яе і напрамілы бог прасілі звязаць іх з партызанамі.* Быкаў. *[Антон:] Я цябе напрамілы бог прашу — ты не зводзь цяпер за сабой Надзю.* Гілевіч. *Першы паверх быў схаваны за паўкругам дробных крам, з якіх гандляры.. напраміл[ы] бог заклікалі да сябе людзей.* Чорны.

**НЕ БО́Г ВЕ́ДАЕ ДЗЕ́**. *Акал. Разм.* На не асабліва значных пасадзе, месцы і пад. *Няблага ўладкаваўся Карніла, хоць рабіў не бог ведае дзе — на пажарнай у мястэчку і, мабыць, меў часу.* Быкаў.

**НЕ БО́Г ВЕ́ДАЕ КО́ЛЬКІ**. *Акал. Разм.* Не вельмі, не асабліва многа (каго-, чаго-н.). *—Хутка спарадкуешся? — Клопатаў не бог ведае колькі. Так што спяшацца няма куды.* Цяжкі. *Аўтаматчыкі берaглі патроны, якіх таксама засталося не бог ведае колькі.* Быкаў.

**НЕ БО́Г ВЕ́ДАЕ ХТО́**. *Вык. і азн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не вельмі значны, не асабліва важны. *— Зіма ідзе, у чым ён хадзіць будзе? — Знойдзем, у чым хадзіць. Паходзіць і ў лапцях — не бог ведае хто.* Лобан.

**НЕ БО́Г ВЕ́ДАЕ ШТО́**. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Не вельмі значны, не асабліва важны. *Я вельмі высока цаню гэты раман [«Сумны дэтэктыў» В.Астаф'ева], хоць у літаратурных, стылявых адносінах ён не бог ведае што, ён надта звычайны, традыцыйны.* Быкаў.

**НЕ БО́Г ВЕ́ДАЕ ЯКІ́ (-А́Я, -О́Е, -І́Я)**. *Вык. і азн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Не асабліва добры, не вельмі значны. **Сін.**: з сярэдзінкі на палавінку (у 1 знач.); ні богу свечка ні чорту качарга; ні два ні паўтара (у 1 знач.); ні рыба ні мяса; ні сыры ні печаны; ні тое ні сёе (у 1 знач.); ні ў салдаты ні ў матросы; ні падмазваць калёсы; пасаліўшы можна есці; сюды-туды (у 3 знач.); чорт не чорт і два не выходзіць. *Стась.. падарыў Міхасю свой складанчык. Нож — не бог ведае які: са зрэзаным лязом, з драўлянымі абгарэлымі тронкамі.* Цяжкі. *Хоць сена не бог ведае якое, але сіўцу, вядома, не раўня!* Макарэвіч. *Спадчына.. складалася з шасці дзесяцін прыдатнай і непрыдатнай зямлі ды таго не бог ведае якога набытку, што на гэтай зямлі можна нажыць.* Крапіва. *Быць таго не можа, каб мы не знайшлі якую меліярацыйную арганізацыю выкапаць канал, разгарнуць некалькі латачын. Не бог ведае якая работа.* Дуброўскі. *Сымон, Язэп і я пісалі вершы. Вершы былі не бог ведае якія, іх ніхто асабліва не спяшаўся друкаваць, але з імі мы хадзілі па рэдакцыях, чыталі, прапаноўвалі.* Сачанка.

**НЕ ДАВЯДЗІ́ БО́Г (БО́ЖА)**. *Толькі ў заг. л. Выкл. Разм.* **1**. Выказванне папярэджання, засцярогі ад чаго-н. нежаданага, недапушчальнага. **Сін.**: барані божа (у 1 знач.); божа збаў (у 1 знач.); крый бог (у 1 знач.); не дай бог (у 1 знач.); няхай бог крые; хавай божа (у 1 знач.). *На твой розум, дык мы ўсе тут [на судне] роўныя: і старыя, і маладыя. Але калі, не давядзі божа, перакулімся, то акурат першы заенчыш на ўвесь акіян...* Крыга. *Самае большае гора я пабачыла, калі сюды прыйшлі немцы. Не давядзі божа, каб [гэ]та калі вярнулася...* Палтаран.

**2**. Выказванне адзнакі, характарыстыкі чаго-н. звычайна з боку сілы, ступені і пад. **Сін.**: не дай бог (у 2 знач.); не дай і не прывядзі. *Мне Якаў гаварыў, што сваркі там было — не давядзі бог, ледзь не пабіліся яны.* Чарнышэвіч.

**НЕ ДА́Й БО́Г (БО́ЖА)**. *Толькі ў заг. л. Выкл. Разм.* **1**. Выказванне папярэджання, засцярогі ад чаго-н. нежаданага, недапушчальнага. **Сін.**: барані божа (у 1 знач.); божа збаў (у 1 знач.); крый бог (у 1 знач.); не давядзі бог (у 1 знач.); няхай бог крые; хавай божа (у 1 знач.). *А што там свеціцца, нябожа? Няўжо гарыць хто, не дай божа?* Колас. *Яшчэ ад свірна [Ганна] выглядала, хто на двары; каб Яўхім, не дай бог, не тырчаў ужо.* Мележ. *[Пятро] пачаў думаць аб той нечуванай у гісторыі чалавецтва страшэннай помсце, якую ён здзейсніць, калі — не дай божа! — яна [Саша] здрадзіць яму.* Шамякін.

**2**. Выказванне ацэнкі, характарыстыкі чаго-н. звычайна з боку сілы, ступені і пад. **Сін.**: не давядзі бог (у 2 знач.); не дай і не прывядзі. *[Альжбета:] Дужа трудна паладзіць з цяперашняй моладдзю. Пайшло такое распуства на свеце, што не дай божа!* Ку-

пала. *Я чуў, што прынцыповы — не дай бог! Не падступіцца ні з якою ласкаю.* Гілевіч. *Зямля там была не дай бог — гліна, якая ў сухі год камянела, бы тая скала.* Быкаў.

**НЯХА́Й (ХА́Й) БО́Г КРЫ́Е (РАТУ́Е).** *Толькі ў заг. л. Выкл. Разм.* Выказванне папярэджання, засцярогі ад чаго-н. нежаданага, непрыемнага, недапушчальнага. **Сін.**: барані божа (у 1 знач.); божа збаў (у 1 знач.); крый бог (у 1 знач.); не давядзі бог (у 1 знач.); не дай бог (у 1 знач.); хавай божа (у 1 знач.). — *Трэба ж будзе неяк жыць. Неяк памірымся. — А што ж там, няхай бог крые.* Галавач. *Тады ўжо, бачыце, насмела можна пілаваць: «Я вось і то, а вы то што ж?» Жміндзіла — хай бог крые...* Брыль. *[Яська] дзярэцца нема, лямантуе, — такі там гвалт — хай бог ратуе!* Колас.

**ПАМАГА́Й БО́Г.** *Выкл. Разм.* Выказванне пажадання поспеху, удачы ў працы, у якой-н. справе. — *Памагай бог! — прасіпеў [Глушак], улучыўшы момант цішыні. Зайчык апусціў цэп, азірнуўся. — І вам — таго ж!* Мележ. *Глухі як пень, Пракоп сядзеў пад паветкаю ды палукашак падплятаў. — Памагай табе бог, Пракоп! — пад самае вуха пракрычаў Кандрат.* Лобан.

**СА́М БО́Г ПАСЛА́Ў** *каго, каму, да каго. У безас. ужыв. Разм.* Каму-н. вельмі пашанцавала ў сувязі з нечаканым прыходам, з'яўленнем каго-н. **Сін.:** бог паслаў *каму каго, што. Даражэнькі, вас сам бог нам паслаў! Ратуйце! Старонкі чатыры [напішыце для часопіса]...* «ЛіМ». *Таццяна Леанідаўна, даведаўшыся, што мы ў горадзе, была, як кажуць, на сёмым небе, прызналася пазней нам, што нас сам бог паслаў.* В.Ткачоў. — *Во — цябе сам бог паслаў, — звярнуўся ён да Віктара. — Не ў службу, а ў дружбу схадзі, Віця, у зону.* Трахімёнак.

**ЧЫ́М БО́Г ПАСЛА́Ў.** *Дап. Разм.* Тым, што ёсць (перакусіць, частавацца, сілкавацца, карміць і пад.). — *Вы ў нас найлепшая госця. Вось перакусіце трошкі чым бог паслаў, — прамовіў Несцер, — кіньце пісаць, напішаце потым.* Пестрак. *Бялізна парвалася. Медыкаментаў няма. Па тры разы мыем адны і тыя ж бінты. Хворых кормім чым бог пашле, як кажуць...* Шамякін. *Мігай жывіцца чым бог пашле, ніколі нічога сабе не варыць.* Сачанка. *То вы сядзелі б ужо... Пакуль тая бульба, то вы закусіце чым бог паслаў...* Місько.

**ШКЛЯНЫ́ БО́Г.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Іран.* Гарэлка, спіртное. **Сін.**: божая сляза; зладзейка з наклейкай; зялёны змей (у 1 знач.); малако ад шалёнай каровы; царскія слёзы; чортава зелле. *[Паэт] меў некаторую склоннасць да «шклянога бога».* Ластоўскі. *Толькі давядзецца яму з шкляным богам павесці лады, дык ад першай чаркі мякчэй пакачанай анучы робіцца: куды заўгодна круці — камечыцца.* Калюга. *Не, не трапіў на пару ты, не туды прывёў бог шкляны.* Купала. *Са шкляным богам здраджвалі пані Мельпамене многія ейныя служкі... Трупа страчвала чальцоў, як рота на полі бітвы.* Рублеўская. *Генік аказаўся пусты, як вецер. Да таго ж неўзабаве шкляны бог сціснуў яго за нос: спачатку радыяцыю «выганяў» чырвоным вінам, перайшоў і на гарэлку.* Лобач.

**ШТО́ БО́Г ПАСЛА́Ў.** *Дап. Разм.* Тое, што ёсць (есці, каштаваць, вячэраць і пад.). — *Давайце будзем вячэраць што бог паслаў, — сказаў Юлік.* Машара. — *Садзіся, Верачка, з'еш што бог паслаў,— проста і натуральна перайшла Трахімаўна на «ты».* Грахоўскі. *Кормім па трэцяй катэгорыі: шэсцьсот пяцьдзесят грамаў хлеба на дзень, дзесяць грамаў цукру, а на прыварак — што бог пашле.* Навуменка. *Сядайце, сядайце, пакаштуйце што бог паслаў.* Новікаў.

**ЯК БО́Г ДА́СЦЬ.** *Акал. Разм.* Часцей ужыв. пасля дзеясл.-інф. Як здарыцца, як прыйдзецца. **Сін.**: як бог на душу пакладзе. *Старое спявалі і жылі па-старому, як бог дасць. А цяпер мы новыя песні любім.* Радкевіч. *Даравалі б яму людзі чарку, каб ён не хва-*

*рэў на лянoту. А то паабяцае, авансам чарку возьме, а зрабіць — як бог дасць.* Цяжкі. *[Карней:] Тады наш калгас ледзь дыхаў... Працадні тады пісалі, а разлічваацца — як бог дасць.* Марчук.

**ЯК БО́Г НА ДУШУ́ ПАКЛАДЗЕ́ (ПАЛО́ЖЫЦЬ).** *Акал. Разм.* Як здарыцца, як прыйдзецца, бессістэмна. **Сін.**: як бог дасць. *А пану Луцкевічу як бог на душу пакладзе. Захоча — зробіць, не захоча — ніхто яго не прымусіць.* Машара. *Бадай, Лабудзін мае рацыю. Гной, кампосты, вадкія ўгнаенні ўлічваюцца на вока. Як бог на душу пакладзе.* Дуброўскі. *Трэба мець на ўвазе і тое, што ён [Жлукта] не проста выпадковы дробны жулік, які дзейнічае «саматугам», як дзе прыйдзецца ці як бог на душу паложыць.* Бугаёў.

**ЯК БО́Г СВЯ́Т.** *Разм.* **1.** *Акал.* Абавязкова, бясспрэчна. **Сін.**: за мілую душу (у 2 знач.); як двойчы два (у 1 знач.); як піць даць. *Не, тут нешта нейкае. Яны арудуюць за нечай спінай, маюць ад некага падтрымку — гэта як бог свят.* Каваленка.

**2.** *Выкл.* Праўда, сапраўды. Выраз запэўнення ў праўдзівасці чаго-н. **Сін.**: бачыць бог; бог сведка; ісцінны бог; слова гонару; чэснае слова; яй-богу; яй-права. *— Мы стараемся, — сказаў на гэта ксёндз Марцэвіч... — І студыйцы гэта адчуваюць. Мой метад самы правільны, як бог свят.* Бядуля. *— Як бог свят, падурэлі! Ярына, падай мне камендантаву шаблю, — жартуе дзед.* Бажко. *Я не адседжваўся, не хаваўся ад смерці — усе ваенныя гады адбыў на фронце, на самай перадавой і, як бог свят, не вінаваты ў смерці [аднавяскоўцаў].* «ЛіМ».

**ЯК БО́Г ЧАРАПА́ХУ.** *Акал. Разм.* Ужыв. пры дзеясл.-вык. зак. тр. Вельмі моцна, бязлітасна (знявечыць, распісаць, размаляваць і пад.). Часцей як пагроза. *Няўжо ўдарыш? Ну, паспрабуй. Я ж цябе тады як бог чарапаху знявечу.* Карпаў. *Глядзі, камандзір, не закруці амуры. Даведаюся — літасці не чакай. Размалюю на партсходзе як бог чарапаху. Не хапае нам яшчэ маральнага разлажэння.* Шамякін.

*БОГА* • **АД БО́ГА.** *Разм.* **1.** *Часцей у ролі вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. З нараджэння, па прыродных уласцівасцях. **Сін.**: ад прыроды. *— Як вы, Мікалай Мікалаевіч, ставіцеся да «спадчыннасці» ў тэатры? — Станоўча. У тым выпадку, калі дзеці таленавітыя. А талент — гэта, як кажуць, «ад бога».* «Беларусь». *На кожнай старонцы і ледзь не ў кожным вершы — нязмушанасць, імпульсіўнасць радка-вобраза, напасрэднасць пачуцця — усё тое, што, як кажуць, ад бога.* «ЛіМ». *Словам, [Гузоўскі] канспіратар быў выдатны, як кажуць, ад бога.* Новікаў.

**2.** *Азн. і вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выключна здольны, таленавіты. *Юзэф Пучынскі — мастак, што называецца, ад бога. Якое ўжо дзесяцігоддзе не стамляецца ён здзіўляцца жыццю, красе ягонай і не перастае здзіўляць гледачоў, прыхільнікаў свайго мастакоўскага таленту творамі, у якіх люструецца свет чалавечай душы.* Барадулін. *Пра Жору можна многа чаго расказваць. Гэта быў артыст, ад бога артыст.* Новікаў. *Начальнік плаўкі Астапенка, калі ў яго пытаюць пра Бялко і Шышко, усміхаецца: — Сталявары ад бога.* «ЛіМ».

**АД БОГА ВЫСПЯТКА!** Гл. выспятка.

**БАЧЫЦЬ ШКЛЯНОГА БОГА.** Гл. бачыць.

**БОЙСЯ БОГА.** Гл. бойся.

**БРАЦЬ БОГА ЗА БАРАДУ.** Гл. браць.

**БРАЦЬ НА БОГА** *каго.* Гл. браць.

**МАЛІЦЬ БОГА.** Гл. маліць.

**МЕЦЬ БОГА Ў СЭРЦЫ.** Гл. мець.

**НЕ ГНЯВІ БОГА.** Гл. гнявi.

**НЕ НА́ШАГА БО́ГА** <u>*чалавек, ірад*</u> і пад. *Азн. Разм. Асудж.* Паганы, подлы, дрэнны. — *Цесць, брат, не нашага бога чалавек... — Ну, ты ж так хваліў. — Хваліў... Тады было так. А цяпер, брат, каб чуў, што мне жонка пяе.* Мыслівец. *Не сцярпеў толькі ў адным: цэлую бутлю клею выліў акуратна пад [коўдру], на падушку, на сарочку тую, на штонікі купецкія... — Будзеш зубамі адгрызаць, ірад бога не нашага...* Лынькоў. — *Цягнеце княжацкае ў сваю кішэнь, бога не нашага чэрці! — злосна крычаў ён [ляснічы].* С.Александровіч.

**НЯМА ЧАГО БОГА ГНЯВІЦЬ**. Гл. няма.

**ПУСКАЦЬ ДА БОГА** *каго.* Гл. пускаць.

**ПУСКАЦЬ З ДЫМАМ ДА БОГА** *што, каго.* Гл. пускаць.

**У БОГА ЦЯЛЯ ЎКРАЎ**. Гл. украў.

**ХВАЛІЦЬ БОГА**. Гл. хваліць.

**ЯК БО́ГА** <u>*чакаць*</u>. *Акал. Разм.* З вялікім нецярпеннем чакаць каго-, што-н. **Сін.**: як манны нябеснай. *Падумай сам, ці ж лёгка ўгаварыць дзяцей, не даўшы ім куска булкі на святы. Яны ж чакаюць вялікадня як бога, думаючы, што гэтак, як у людзей, угледзяць і сёе і тое...* Гартны. — *І пачаставаць цябе, браточак, няма чым, — заплакала, сардэчна прызналася: — Мы хлеба вашага як бога чакалі.* Шамякін. *Жніво... Рана ўстань, позна ляж. Дажджу як бога чакаеш, каб адаспацца...* Мыслівец. *Як бога чакалі назаўтра раніцай работнікі кафэ першага кліента.* Стадольнік.

**ЯК У БО́ГА ЗА ДЗВЯРЫ́МА**. *Акал. Разм.* Спакойна і ў поўнай бяспецы (быць, знаходзіцца, сядзець і пад.). **Сін.**: як за каменнай сцяной; як у бога за пазухай (у 2 знач.); як у бога за плячыма. *Эй, вы, малінаўцы! На свеце жывяце... Вайна пачалася, а вы як у бога за дзвярыма.* Чарнышэвіч. — *Табе адна трасца — дзе сваё, дзе чужое, сядзіш як у бога за дзвярыма, абы не рабіць, — чапіўся ўжо да Ваўчка падкі на сварку Ікон Жыток.* Адамчык. *Жывём мы як у Бога за дзвярыма. Нас, дзяцей, чацвёра ды бацька з маці.* Лобач.

**ЯК У БО́ГА ЗА ПЛЯЧЫ́МА**. *Акал. Разм.* Спакойна і ў поўнай бяспецы (быць, знаходзіцца, сядзець і пад.). **Сін.**: як за каменнай сцяной; як у бога за дзвярыма; як у бога за пазухай (у 2 знач.). *[Скіба:] Вось даюць! І ўсё свату, а малады сядзіць сабе як у бога за плячыма. Гэта ж ён жэніцца, а не я. Што вы да мяне маеце?* Крапіва. *Але насцярожанасць паволі саступіла месца задуменнасці, якая апанавала Звяругу. Ён пашкадаваў, што цяпер разам з ім няма яго лепшага прыяцеля і настаўніка Мацея Балабэса. З ім Звяруга адчуваў сябе як у бога за плячыма.* Дамашэвіч.

**ЯК У БО́ГА (У ХРЫСТА́) ЗА ПА́ЗУХАЙ**. *Акал. Разм.* **1**. Вельмі добра, прывольна і бесклапотна (жыць, расці, адпачываць і пад.). *Бандзючыха не працавала нідзе, да вайны жыла са сваім Іванам як у бога за пазухай...* Навуменка. *Пагляджу, ці ўмееш ты хоць падмятаць, сабачы сын. Рос як у бога за пазухай. А вылупіўся на свет божы і не можаш кроку зрабіць па-чалавечы...* Шамякін. *Лезьце ў мой будан, бярыце коўдру.. і накрывайцеся. Будзеце пакуль як у бога за пазухай.* Чыгрынаў. *Спаць бы табе, Дубок, у цёткі Ганны на печы як у Хрыста за пазухай... Ці з тваёй рукой па лесе споўдацца, ды такім, можна сказаць, часам нязручным.* Лынькоў. *[Арцём:] Як у Хрыста за пазухай яна жыла за намі.* Куляшоў.

**2**. Спакойна і ў поўнай бяспецы (быць, знаходзіцца, сядзець і пад.). **Сін.**: як за каменнай сцяной; як у бога за дзвярыма; як у бога за плячыма. *Валодзю думалася, што ён перабудзе тут гэтую вайну як у бога за пазухай, а там, як той казаў, будзе свята, дык будуць і госці.* Сабаленка. — *Каб я не знаў дарогі, не павёў бы, — чуваць спераду той самы голас. — Давяду. Там мы як у бога за пазухай пасядзім.* Брыль. *Немцы не паказваліся не толькі на хутары, але нават і ў Выселках, а вёскі, што былі далей па гасцінцы, апынуліся*

*як у Хрыста за пазухай.* Быкаў. *Схаваліся сюды, думаюць — тут як у Хрыста за пазухай, ніхто іх не дастане.* Сачанка.

*БОГАВА* • **БОГАВА НЯВЕСТА**. Гл. нявеста.

*БОГАВАЙ* • **ПАД БОГАВАЙ СТРАХОЙ**. Гл. страхой.

*БОГАМ* • **БОГАМ ЗАБЫТЫ**. Гл. забыты.
**БОГАМ ПАКРЫЎДЖАНЫ**. Гл. пакрыўджаны.
**БОГАМ ПРАКЛЯТЫ**. Гл. пракляты.
**З БО́ГАМ**. *Разм.* **1.** *Выкл.* Вокліч пажадання поспеху, удачы ў якой-н. справе. **Сін.**: у добры час. *Мы вам ад інтэнданцтва даручым спецыяльна гэту справу, па дагавору. З богам, пачынайце.* Галавач. — *Цётка Мар'я, я ад вас, мабыць, выберуся. Замуж пайду. — З богам, дзевачка.* Навуменка.
**2.** *Акал.* Шчасліва (ісці, ехаць і пад.). *[Куліна:] А што будзе? Вядома, юрыста, — абдзярэ ўсіх дачыста дый паедзе з богам дахаты.* Дунін-Марцінкевіч. — *Бывайце ж, мілыя, здаровы! — Ну, час вам добры, едзьце з богам! — ім кажа маці за парогам, жадае шчасця і дабра.* Колас. — *Нам пара. Пойдзем. — Ага, ага, — пагадзіўся гаспадар. — Ідзіце з богам. Вазьміце бульбы з сабой.* Ставер.
**ЯК ПЕ́РАД БО́ГАМ**. *Акал. Разм.* Вельмі шчыра, нічога не ўтойваючы (гаварыць, расказваць і пад.). **Сін.**: паклаўшы руку на сэрца; як на духу; як на споведзі. *[Пані Яндрыхоўская:] Хто хоча сабе палёгкі, няхай выйдзе і скажа ўсю праўду як перад богам, хто яго падбухторваў на нядобрую справу.* Крапіва. *Дык чаму на допыт не выклікаюць?.. Я ўсё раскажу. Як перад богам.* Навуменка. *Даша, дочачка, скажы як перад богам. Хочаш ты, будзеш жыць з гэтым чалавекам? Толькі праўду...* Марчук.

*БОГУ* • **АДДАВАЦЬ БОГУ ДУШУ**. Гл. аддаваць.
**АДНАМУ БОГУ ВЯДОМА**. Гл. вядома.
**БО́ГУ ДУШО́Й** *не вінават (не вінен).* *Акал. Разм.* Зусім, абсалютна ні ў чым (не вінаваты). **Сін.**: ні сном ні духам. *Бывае, каторы богу душой не вінават, а тым часам зробяць яго на немаведама што.* Зарэцкі. *[Зоська:] Мамачка! Што хочаце рабіце са мною, толькі яго не чапайце: ён богу душой не вінен, як і я ні ў чым благім не вінна.* Купала. *[Лямэнт:] Даруйце мне. Я богу душою не вінен.* Чорны.
**БО́ГУ Ў ВО́КНЫ** *страляць, смаліць* і пад. *Акал. Разм. Часцей іран.* Абы-куды, не пападаючы ў цэль (страляць). **Сін.**: у <белы> свет як у капейку (у 2 знач.). *Танкісты ўбачылі, што смаляць богу ў вокны, страляніну спынілі.* Карпюк. — *Лупіце, бісавы душы, богу ў вокны, — цяжка дыхаючы, але з радасцю ў голасе сказаў Васіль. — Цяпер вы нам ні храна не зробіце...* Лeвановіч.
**ДЗЯКАВАЦЬ БОГУ**. Гл. дзякаваць.
**ДЗЯКУЙ БОГУ**. Гл. дзякуй.
**КАБ** *чые* **СЛОВЫ ДЫ БОГУ Ў ВУШЫ**. Гл. словы.
**НЕ ГРАШЫ БОГУ**. Гл. грашы.
**НІ БОГУ СВЕЧКА НІ ЧОРТУ КАЧАРГА**. Гл. свечка.
**НЯМА ЧАГО <БОГУ> ГРАШЫЦЬ**. Гл. няма.
**СЛАВА БОГУ**. Гл. слава.
**СТАВІЦЬ БОГУ СВЕЧКУ**. Гл. ставіць.
**ХВАЛА БОГУ**. Гл. хвала.
**ШТО БОГУ ГРАШЫЦЬ**. Гл. грашыць.
**ЯЙ-БО́ГУ (ЕЙ ЖА БО́ГУ)**. *Выкл. Прaст.* Праўда, далібог. Ужыв. для пацвярджэння чаго-н., запэўнення ў чым-н. **Сін.**: бачыць бог; бог сведка; ісцінны бог; слова гонару;

чэснае слова; яй-права; як бог свят (у 2 знач.). *А вам нудна! А вам шкада! Яй-богу, не чую. Не крычыце!* Купала. *Такой мясціны вы, яй-богу, наўрад ці знойдзеце больш дзе.* Колас. *Не прыставай ты, яй-богу, адчапіся.* Макаёнак. *— А якія ў вас сувязі з гэтай... Вокунь Аўгінняй? — Дзёмчыхай? Яй-богу, ніякіх. Проста зайшлі прыхавацца, паесці.* Быкаў. *Сэрца, прыглядзіся, ей жа богу, я — Катруся!* Купала. *З лістоўкі глядзеў — Лукаш аж губы вывернуў — ей жа богу, яго брат Андрэй у эсэсаўскай афіцэрскай форме.* Лобан.

**ЯКОМУ БОГУ МАЛІЦЦА**. Гл. маліцца.

*З БОЕМ* • **БРАЦЬ З БОЕМ** *што*. Гл. браць.

**З БО́ЕМ** <u>дабівацца, выбіваць</u> і пад. *Акал. Разм. Неадабр.* Энергічнымі дзеяннямі. — *Па заканчэнні камісіі павінны ўхваліць вопыт [чыгуначнікаў]. — А дарэмна!.. Ніхто так не зрывае планы, як яны. Вагоны выбіваем з боем.* Шамякін. *Амаль палова плана ўжо ёсць. Толькі б надвор'е не падвяло. І чыгуначнікі своечасова давалі б вагоны. А то даводзіцца вырываць з боем.* Левановіч.

**РАЗВЕДКА БОЕМ**. Гл. разведка.

*БОЖА* • **БАРАНІ́ БО́ЖА (БО́ЖАЧКА, БО́Г)**. *Толькі ў заг. л. Выкл. Разм.* **1**. Выказванне папярэджання, засцярогі ад чаго-н. нежаданага, недапушчальнага. **Сін**.: божа збаў (у 1 знач.); крый бог (у 1 знач.); не давядзі бог (у 1 знач.); не дай бог (у 1 знач.); няхай бог крые; хавай божа (у 1 знач.). — *Глядзі ж, бабка, не кажы панічу, што я тут была. Барані божа, бабка, не кажы! — сказала [Ядвіся] і бягом кінулася на двор.* Колас. *Вы, божа барані, не падумайце чаго на мяне!* Баранавых. *Не чапайся, кажу, няхай іх сарочка не чапае, а то калі, барані божачка, ды не ўтрымаецца гэта ўлада, дык тады ж са свету зжывуць.* Крапіва.

**2**. Выказванне рашучага адмаўлення чаго-н. або нязгоды з чым-н. **Сін**.: божа збаў (у 2 знач.); крый божа (у 2 знач.); хавай божа (у 2 знач.). *[Несцерка:] Хіба я ўмею сёдлы рабіць? Барані божа, ніколі не рабіў.* В.Вольскі. — *Можа, у хаце перасядзіш да раніцы, ці пойдзеш? — Барані божа, Сідорка, куды я цяпер пайду.* Лобан.

**БО́ЖА (БО́ЖАЧКА) МО́Й**. *Выкл. Разм.* Выказванне радасці, здзіўлення, абурэння, роспачы і інш. **Сін**.: божа <мой> літасцівы. *І — божа мой! — якім духмяным павее водарам яна [скарынка]!* Глебка. — *Пры паляках здымаўся ваш Анатоль?! — Божа мой, чаго вы хочаце ад мяне? Мы нічога не чулі пра нашага Толіка.* Чорны. *О, як холадна, божа мой, як мне холадна, як мне сумна!..* Брыль. *Божачка мой, гэта ж Чэкіна конь!* Лобан.

**БО́ЖА ЗБА́Ў**. *Толькі ў заг. л. Выкл. Разм.* **1**. Выказванне папярэджання, засцярогі ад чаго-н. нежаданага, недапушчальнага. **Сін**.: барані божа (у 1 знач.); крый бог (у 1 знач.); не давядзі бог (у 1 знач.); не дай бог (у 1 знач.); няхай бог крые; хавай божа (у 1 знач.). — *А то, глядзі, знойдзецца сярод іх [мужыкоў] які-небудзь Амелька Пугачоў... — Божа збаў... Страшна падумаць.* Якімовіч.

**2**. Выказванне рашучага адмаўлення чаго-н. або нязгоды з чым-н. **Сін**.: барані божа (у 2 знач.); крый божа (у 2 знач.); хавай божа (у 2 знач.). — *Дык вы кажаце, да воінскіх эшалонаў нашу абслугу не падпускаюць? — Божа збаў. Сваіх з Германіі выпісалі.* Лобан. — *Калі ў вас гэта так сур'ёзна... — А няўжо ж не сур'ёзна. Няўжо, думаеш, каб не сур'ёзна, я б пайшла на такое... Божа збаў, братка.* Кудравец.

**БО́ЖА <МО́Й> ЛІ́ТАСЦІ́ВЫ**. *Выкл. Разм.* Выказванне радасці, здзіўлення, абурэння, роспачы і інш. **Сін**.: божа мой. *[Пан Яндрыхоўскі:] А гэта што ў цябе? [Маргун:] Партрэт вашага таты-нябожчыка. Зайшоў гэта я ў палац... Бачу — валяецца. Божа мой літасцівы. Гэтакі здзек!* Крапіва.

**ДАЙ БОЖА**. Гл. бог.

**ДАЙ БОЖА** *каму*. Гл. бог.
**ДАЙ БОЖА КОЖНАМУ**. Гл. бог.
**ДАЙ БОЖА ПАМЯЦЬ**. Гл. бог.
**ДАЙ БОЖА ЧУТАЕ БАЧЫЦЬ**. Гл. бог.
**КРЫЙ БОЖА**. Гл. бог.
**НЕ ДАВЯДЗІ БОЖА**. Гл. бог.
**НЕ ДАЙ БОЖА**. Гл. бог.

**НІ (АНІ) БО́ЖА МО́Й**. *Акал. Разм.* **1**. Нікольki (не падыходзіць, не вяжацца і пад.). **Сін**.: на волас (у 2 знач.); на <ломаны> грош; на макулінку (у 2 знач.); на мезены палец; на панюх табакі (у 2 знач.); на сіні пазногаць (у 2 знач.); на шэлег (у 2 знач.); ні грама; ні каліва; ні кроплі; ні на <адзін> шэлег (у 1 знач.); ні на волас; ні на грам (у 1 знач.); ні на гран; ні на грош; ні на ёту; ні на каліва; ні на кроплю; ні на макава зерне; ні на макулінку. *Паненка — ні божа мой, крычаць хоча, адбіваецца, як замахнецца белай ручкай — усё ў месяц мне пападае.* Мрый. *Княскую казну пабралі. Неяк такі ўчынак з рамантычнай паэтыкай не вяжацца. А ўжо да іхняга маральнага кодэкса — ані божа мой!* Караткевіч.

**2**. Ні пры якіх умовах, абставінах. **Сін**.: ні за што; ні за што на свеце; ні за якія грошы; ні ў якім разе; ніякімі сіламі. — *Табе што доктар прыпісаў? — Сала нельга есці. Селядца нельга. Курыць трэба кінуць. Піць — ні божа мой...* Ліпскі.

**ХАВА́Й БО́ЖА**. *Толькі ў заг. л. Выкл. Разм.* **1**. Выказванне папярэджання, засцярогі чаго-н. нежаданага, недапушчальнага. **Сін**.: барані божа (у 1 знач.); божа збаў (у 1 знач.); крый божа (у 1 знач.); не давядзі бог (у 1 знач.); не дай бог (у 1 знач.); няхай бог крые. *Ногі мае не ходзяць, спіна не гнецца і сама ўся ледзьве цэгаю. Хавай божа, пamру — хто ж дагледзіць цябе, сірату?* Лёсік. — *Хавай божа! Ніякай крыўды не маю на вас. Кожны волен жыць, як знаходзіць лепей, — гаворыць дзяк і аглядае пакойчык [Лабановіча].* Колас.

**2**. Выказванне рашучага адмаўлення чаго-н. або нязгоды з чым-н. **Сін**.: барані божа (у 2 знач.); божа збаў (у 2 знач.); крый божа (у 2 знач.). *А пра тое, каб усякую брыду напаказ выкалупваць, хай Сымон Баран турбуецца. Мяне ад гэтага — хавай божа!* Калюга.

*БОЖАГА* • **СВЕТУ БОЖАГА** *не відаць*. Гл. свету.

*БОЖАЙ* • **БОЖАЙ МІЛАСЦЮ**. Гл. міласцю.
**З БОЖАЙ ЛАСКІ**. Гл. ласкі.
**НА БОЖАЙ ПАСЦЕЛІ**. Гл. пасцелі.

*БОЖАЧКА* • **БАРАНІ БОЖАЧКА**. Гл. божа.
**БОЖАЧКА МОЙ**. Гл. божа.

*БОЖАЯ* • **БОЖАЯ АВЕЧКА**. Гл. авечка.
**БОЖАЯ КАРОЎКА**. Гл. кароўка.
**БОЖАЯ СЛЯЗА**. Гл. сляза.
**ІСКРА БОЖАЯ** <у *каго, у кім*>. Гл. іскра.
**РАБА БОЖАЯ**. Гл. раба.

*БОЖЫ* • **БАРАНЧЫК БОЖЫ**. Гл. баранчык.
**БОЖЫ АДУВАНЧЫК**. Гл. адуванчык.
**БОЖЫ ДАР З ЯЕШНЯЙ**. Гл. дар.
**БОЖЫ ПАЛЕЦ**. Гл. палец.
**БОЖЫ СВЕТ**. Гл. свет.

**ЗАСЛАНЯЦЬ < УВЕСЬ, БОЖЫ > СВЕТ** *каму*. Гл. засланяць.
**КОНЬ БОЖЫ**. Гл. конь.
**РАБ БОЖЫ**. Гл. раб.
**У <БЕЛЫ, БОЖЫ > СВЕТ**. Гл. свет.
**ЯК БОЖЫ ДЗЕНЬ**. Гл. дзень.

*БОЗЕ* • **ПАЧЫЦЬ У БОЗЕ**. Гл. пачыць.

*БОЙ* • **БО́Й У ЛІТА́ЎРЫ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Неадабр.* Хвальба, выхваляннe. *[Перадавікі] робяць. Без шуміхі, параднасці, без бою ў літаўры з нагоды любога поспеху ці нават самай нязначнай прыкметы яго.* «Звязда».
**ДАВАЦЬ БОЙ**. Гл. даваць.

*БОЙКАЕ* • **БОЙКАЕ ПЯРО** *ў каго*. Гл. пяро.

*БОЙКІ* • **БО́ЙКІ (-АЯ, -АЕ, -ІЯ) НА ЯЗЫ́К**. *Адз. і мн. Часцей у знач. вык. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знаходлівы ў размове, красамоўны. **Сін.**: востры на язык; і сячэ і паліць; не лезе па слова ў кішэню; слова не пазычае. *Трымаецца [Аксана] строга, бойкая на язык, афіцэры яе паважаюць і нават шануюць.* Гамолка. *А жыў там адзін чалавек. З выгляду так сабе — недалужны, затое на язык бойкі...* Якімовіч.
**МАХАЦЬ ПАСЛЯ БОЙКІ КУЛАКАМІ**. Гл. махаць.

*БОЙСЯ* • **БО́ЙСЯ (ПАБО́ЙСЯ) БО́ГА**. *Толькі ў заг. л. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Май сумленне, пасаромейся. Выказванне жадання прысароміць, абразуміць каго-н. *[Куторга:] А прымеце ж чэсна маіх сватоў да вашай Марысі? [Куліна:] Бойся бога, пане Куторга, — яна ж яшчэ маладзенькая! Гэта ж дзіця горкае.* Дунін-Марцінкевіч. — *Зусім я п'яна, бойся бога! — Ну выпі ж, кумачка, нічога!* Колас. *[Агата:] Пабойся бога гэткія рэчы гаварыць напроць ночы!* Купала. — *Дурное плявузгаеш, — ціха, але цвёрда сказаў Пётра. — Пабойся бога.* Быкаў.

*БОК* • **АДВАРО́ТНЫ (ДРУГІ́) БО́К МЕДАЛЯ́**. *Мн. не ўжыв. Часцей дап. Функц. не зам.* Супрацьлеглы, ценявы, непажаданы бок якой-н. справы. **Ант.**: адзін бок медаля. *Ёсць і адваротны бок медаля. Разам са здольнымі, аддадзенымі хакею хлопцамі ў каманду майстроў трапляюць і тыя, хто імкнецца ў першую чаргу пабольш ухапіць ад яго, паверыўшы ва ўласную непаўторнасць.* «Настаўн. газ.» *Цяжкасці цяжкасцямі. Але ёсць другі бок медаля. Засеяць травамі семсот гектараў.. значыць, нейкім культурам месца не даць.* Ярашэвіч.
**АДЗІ́Н БО́К МЕДАЛЯ́**. *Мн. не ўжыв. Вык. і дап. Функц. не зам.* Знешняя, відавочная частка якой-н. справы. **Ант.**: адваротны бок медаля. *Прэміі, званні, ордэны, кнігі, слава! Гэта адзін бок, як кажуць, медаля. На другім жа — праца, барацьба.* Сачанка. *Безумоўна, калі глядзець з глабальных маштабаў,— мы тут рымляне XX стагоддзя, місіянеры. Аднак.. гэта толькі адзін бок медаля.* Карпюк.
**ВЫЛАЗІЦЬ ПРАЗ БОК** *каму, у каго*. Гл. вылазіць.
**І Ў ТОЙ БОК НЕ ГЛЯДЗЕЦЬ**. Гл. глядзець.
**НА БО́К**. *У знач. дзеясл. вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы (пасля аднароднага вык.). Спаць. **Сін.**: на бакавую (у 2 знач.); у абдымкі марфея. *Як прынясуць, бывала, есці, дык [угоднік] набярэцца моўчыкам ды зноў на бок.* Крапіва. *Сталі мы жыць у [мана]стыры. Праўда, манахі гладкія, і жыццё для іх прывольнае. Адпяюць, памоляцца і на бок.* Каваль.
**СКУЛУ Ў БОК** *каму*. Гл. скулу.
**СТАНАВІЦЦА НА БОК** *каго, чый*. Гл. станавіцца.

**ТО-БО́К**. *У знач. паясняльнага злучніка. Разм.* Гэта значыць. *Трэцяя [асоба] — Міхаіл Аляксандравіч Язва. То-бок я сам.* Крапіва. *Ты ручаешся сваім партыйным сумленнем за гэтага чалавека? То-бок за Маркевіча, прабачце.* Караткевіч. *Як у яго адносна шэрага рэчыва, то-бок інтэлекту? Трэба паглядзець.* Маракоў.

**ТРАСЦА ЯМУ Ў БОК**. Гл. трасца.

*БОКА* • **НЕ ГЛЯДЗЕЦЬ НІ ВОКА НІ БОКА**. Гл. глядзець.

**НІ ВОКА НІ БОКА**. Гл. вока.

*БОКАМ* • **АБЫХОДЗІЦЬ БОКАМ** *каго, што.* Гл. абыходзіць.

**БО́КАМ-СКО́КАМ (СКО́КАМ-БО́КАМ)**. *Акал. Разм.* Пераадольваючы цяжкасці (жыць,ісці, дабірацца і пад.). *Жыла Тэкля адна ў старой хатцы, на пагорку ля лесу, хадзіла на падзённую, бокам-скокам, туды-сюды і неяк гадавалася.* Бядуля. *Гарапашна, непрасветна і ў душы, і ў хаце. Стане горай непрыветна, калі будзеш спаці. Дык жывуча, скокам-бокам, покі сэрца точыш, рвіся, думка, ненарокам, — знойдзеш, чаго хочаш!* Купала. *Скокам-бокам выбралася [Муха-зелянуха] з лесу ды адразу да краўчыхі, каб тая пашыла ёй пазалочаную сукенку.* Шашкоў.

**ВЫЛАЗІЦЬ БОКАМ** *каму.* Гл. вылазіць.

**ДЗЕ БО́КАМ ДЗЕ СКО́КАМ (ДЗЕ СКО́КАМ ДЗЕ БО́КАМ)**. *Акал. Разм.* Па-рознаму, неаднолькава, як давядзецца, як выпадзе (жыць, ісці і пад.). **Сін**.: <і> так і гэтак (у 1 знач.); <і> так і сяк (у 1 знач.); і так і так (у 1 знач.); то бокам то скокам; то так то гэтак. — *Ага, паехаў і я шчасця шукаць... Еду дзе бокам, дзе скокам, дзе падвязуць, дзе падбягу.* Грахоўскі. — *Як жывеш, Хібенка?.. — Ды проста так, Іван Міхайлавіч. Дзе скокам дзе бокам.* Навуменка.

**ПА́Д БО́КАМ**. *Разм.* **1**. *Акал.* Зусім блізка, недалёка (жыць, адбывацца і пад.). **Сін**.: адзін крок *ад чаго да чаго*; за два крокі *ад каго, ад чаго*; за плячамі *каго, у каго* (у 2 знач.); не за гарамі (у 1 знач.); пад рукамі (у 2 знач.); пад рукой (у 2 знач.); пад <самым> носам *у каго, чым, каго*; перад вачамі *<чыімі>*; перад носам *<каго, чым>*; рукой падаць *да чаго.* — *А мы, як заўсёды, дрэмлем! Нямецкая рука арудуе ў нас пад бокам, — дадае.. сусед.* Гартны. *Пакутны, хрыплы нечалавечы крык чуцен недзе тут жа пад бокам.* Крапіва. *«Міцькаў атрад» быў гатовы да спраў больш складаных і слаўных. Загняздзіўся ён амаль зусім пад бокам у ворага.* Брыль. *Высяцца гмахі завода цукровага тут жа, ля Слуцка, пад бокам.* Непачаловіч. *Кожны блізка, недалёка, кожны з іх жыве пад бокам.* Шушкевіч.

**2**. *Вык.* Часцей ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Зусім блізка, побач, недалёка знаходзіцца. *Пад бокам паша, агароды, і лес, і поле — усе выгоды.* Колас. *Запасаў ежы было ў нас досыць на колькі дзён, аб гэтым не бедавалі. Бо сталоўка ж была пад бокам.* Гарэцкі. *Усе магчымасці ў вас, у вашай школе, для палітэхнізацыі ёсць: добры прышкольны ўчастак, а галоўнае — МТС пад бокам.* Шамякін. *Тэлефон у вас пад бокам. Звані ў любы час.* Чарнышэвіч. *А калі ўжо што часамі ды адбудзецца не так, тут жа мы пад бокам самі, дай тады нам, бацька, знак.* Астрэйка.

**СКУЛА ПАД БОКАМ** *<для каго>*. Гл. скула.

**ТО БО́КАМ ТО СКО́КАМ (ТО СКО́КАМ ТО БО́КАМ)**. *Акал. Разм.* Па-рознаму, усяк, як давядзецца, як выпадзе (жыць, ісці, рабіць і пад.). **Сін**.: дзе бокам дзе скокам; <і> так і гэтак (у 1 знач.); <і> так і сяк (у 1 знач.); і так і так (у 1 знач.); то так то гэтак. *Мінчука гэтага нашы не паспелі мабілізаваць у сорак першым, і ён кідаўся, як сам расказваў, то бокам то скокам...* Янкоўскі. *Дзякаваць богу, дагэтуль то скокам то бокам, то стрыжаны, то голены, але неяк жыву.* Сабаленка.

**ХОЦЬ БОКАМ КАЦІСЯ**. Гл. каціся.

**ХО́ЦЬ БО́КАМ ХО́ЦЬ СКО́КАМ**. *Акал. Разм.* Тым ці іншым спосабам; нягледзячы ні на што. **Сін.**: не кіем дык палкай (у 2 знач.); не сяк дык так; так ці інакш (у 1 знач.); хоць так хоць сяк; ці скокам ці бокам; ці так ці сяк (у 2 знач.). *I яшчэ многія дзеці прыняліся рабіць тое, што іх адсталыя бацькі не ўмелі рабіць: узяліся за разводы, якіх дагэтуль у сяле не было, хоць, праўда, і біліся ў сем'ях, і сварыліся, хоць бокам хоць скокам, ды ўсё ж — жылі сем'ямі, не разбягаліся...* Гігевіч.

**ЦІ СКОКАМ ЦІ БОКАМ**. Гл. скокам.

*БОКІ* • **АБІВАЦЬ БОКІ**. Гл. абіваць.

**БОКІ (БАКІ) ПАПАДРЫВАЦЬ**. Гл. бакі.

**БОКІ РВАЦЬ**. Гл. рваць.

**НА ЎСЕ БОКІ**. Гл. бакі.

*БОКУ* • **З АДНАГО́ БО́КУ**. *У знач. пабочн. сл. Функц. не зам.* Ужыв. пры супастаўленні двух фактаў, з'яў. Першы (з двух супастаўленых фактаў). **Ант.**: з другога боку. *Бой і нарада ўнеслі істотныя змены і ў партызанскае жыццё ўсяго раёна. З аднаго боку, дробныя адасобленыя групы былі аб'яднаны ў атрады. З другога — кожны атрад вылучыў ініцыятыўныя групы, у задачу якіх уваходзіла вырасці ў новы атрад.* Карпаў. *[Аксіння:] А цяжка збіраць маліны, ой, цяжка. З аднаго богу — леснікі панскія, а з другога — глядзіш, каб на сонную гадзюку не наступіць.* Галубок.

**ЗАЧЫНІЦЬ ДЗВЕРЫ З ТАГО БОКУ**. Гл. зачыніць.

**З ДРУГО́ГА БО́КУ**. *У знач. пабочн. сл. Функц. не зам.* Ужыв. пры супастаўленні двух фактаў, з'яў. Адначасова і ў той самы час. **Ант.**: з аднаго боку. *Хоць патуранне было і шкодна з педагагічнага боку і Лабановіч гэта ведаў, але падолець гэту сваю слабасць не мог ніякім чынам. З другога боку, трэба сказаць, што ад лепшых вучняў і вымагалася болей.* Колас. *Здымацца? Прасцей за ўсё. Але што потым? Што скажа камандаванне? А з другога боку, чаго чакаць? Праціўнік іх абышоў, пайшоў далей.* Дамашэвіч.

**НЕ З ТАГО́ БО́КУ** <u>пачынаць (пачаць), падыходзіць (падысці)</u> і пад. *Акал. Разм.* Не так, як трэба. **Сін.**: не з таго канца. *Мацей адчуваў, што пачаў ён не адтуль, не з таго боку.* Баранавых. *[Броня:] Ой, Марфа Пятроўна! З вамі гаварыць нельга. Вы ўсё не з таго боку падыходзіце. Хіба я пра гэта думаю?* Крапіва.

*БОЛЕЙ* • **БОЛЕЙ ТАГО**. Гл. больш.

**САМА БОЛЕЙ**. Гл. большае.

*БОЛЬ* • **ГАЛАЎНЫ́ БО́ЛЬ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Клопат, непакой, моцныя турботы. *Расследаванне, суд, пакаранне — гэта ўжо «галаўны боль» праваахоўных органаў.* «Звязда». *Недастатковае папаўненне кніжных фондаў — галаўны боль усіх бібліятэк і навуковых устаноў.* «ЛіМ».

*БОЛЬШ* • **БО́ЛЬШ (БО́ЛЕЙ) ТАГО́; БО́ЛЬШ ЗА ТО́Е**. *У знач. пабочн. сл. Функц. не зам.* Ужыв. для падкрэслівання важнасці таго, што будзе сказана далей. І яшчэ важней. **Сін.**: тым больш. *Алесь адчуў сябе старэйшым. Больш таго — адчуў, што страшны, халодны час раздарожжа закончыўся, можна хоць штосьці рабіць, хоць за штосьці ўчапіцца.* Брыль. *Рыгор.. прарабіў адзін і другі дзень, не астываючы, не губячы веры ў сваю здольнасць запаліць ваяўнічым настроем рабочыя гушчы. Болей таго, кожная гадзіна давала яму мажлівасць абагаціць змест прамовы...* Гартны. *Гэта навука і рамяство ў свой час былі не запатрабаваны. Больш за тое, да іх ставіліся як да нечага мужыцкага і непатрэбнага, абразліва і з пагардай...* Казько. *Участковы ўрач Шумілаў амаль два гады не меў заўваг па службе — да леташняга кастрычніка. Больш за тое, галоўны ўрач Сакалянскі неаднойчы карыстаўся ласкай Шумілава.* Якавенка.

**БОЛЬШ ЗА ТОЕ**. Гл. больш.

**БО́ЛЬШ-МЕ́НШ**. *Акал. Функц. не зам.* У пэўнай ступені. *Кандрат Гуга быў больш-менш незалежным гаспадаром у сваім доме. Маці яго, бедная ўдава, не ўмешвалася ў справы свайго сына.* Колас. *Федар Васільевіч, больш-менш вывучыў супрацоўнікаў райкома партыі, хто на што быў здатны.* Супрунчук.

**НІ БО́ЛЬШ НІ МЕ́НШ <ЯК>**. *Акал. Разм.* **1**. Ужыв. перад лічэбн. Роўна столькі, колькі названа. **Сін**.: мала-веля (у 2 знач.); ні многа ні мала (у 1 знач.); як лёду. *Бяру аршын і правяраю сам. Дык што ж вы думалі? Ну й чэрці! Недахапіла ў мяне там ні больш ні менш — тры чвэрці.* Крапіва.

**2**. Ужыв. перад наз. Якраз так, іменна так, як названа (дзейнічаць, рабіць). — *Праўда: па плану — зямля ваша, — сказаў настаўнік, — толькі, браце, не ведаю, ці паможа вам гэтая петыцыя. Гэта выйдзе ні больш ні менш, як стралянне вараным гарохам у цагляную сцяну.* Колас. *Ён [Носке] з'явіўся і паводзіць сябе ні больш ні менш як сам Напалеон.* Гамолка.

**3**. Ужыв. перад наз. Якраз той, што названы (быць, аказацца, бачыць і пад.). **Сін**.: ні мала ні многа (у 2 знач.). *І гэта не было звычайнай пахвальбой, тым звычайным захапленнем сваімі дзецьмі, што ўласцівы большасці бацькоў, схільных бачыць у сваіх нашчадках ні больш ні менш як вундэркіндаў.* Лынькоў. *Адміністрацыя аб'яднання і зараз лічыць, што далі мне гэты пакойчык у абыход закона і мая просьба аб пашырэнні ні больш ні менш як нахабнасць.* «Настаўн. газ.»

**ТЫМ БОЛЬШ**. Гл. тым.

*БОЛЬШАЕ* • **СА́МА БО́ЛЬШАЕ (БО́ЛЬШ, БО́ЛЕЙ)**. *Часцей акал. Разм.* Не больш таго (пра што гаворыцца). **Ант**.: сама меней; худа-бедна. *Самае большае, што маглі зрабіць камсамольцы, гэта агітаваць за таварыства, але не заўсёды гэта агітацыя мела поспех.* Крапіва. *Гасця, гавораць, грэх няволіць, ды часам трэба забрытаць. Паўзмены лішняй, сама болей, вам давялося адчытаць.* Лужанін.

*БОРТ* • **ВЫКІДАЦЬ ЗА БОРТ** *каго, што*. Гл. выкідаць.

**ВЫКІДВАЦЦА ЗА БОРТ**. Гл. выкідвацца.

*БОРТАМ* • **ЗА БО́РТАМ** *аказацца, апынуцца. Акал. Разм.* Без справы, без удзелу ў чым-н. *Бацька і мачыха дапытваліся, што са мною сталася. А што я мог расказаць, як мог растлумачыць тое, што апынуўся як бы за бортам жыцця.* Сабаленка. *Але ж за бортам Андрэй Захаравіч апынуўся па вашай віне, Алёна Міхайлаўна.* «Настаўн. газ.»

*БОРУ* • **З БО́РУ ПА САСО́НЦЫ** сабраць, набраць і пад. *Акал. Разм.* Зусім выпадкова, адкуль папала, без разбору. Пра выпадковы падбор людзей, прадметаў. *Лёс 4-га «А» пачаўся з таго, што клас гэты быў сабраны «з бору па сасонцы».* «Настаўн. газ.» *Укватэры Шугачовых мэбля была самага нізкага гатунку, устарэлых фасонаў, сабрана па прынцыпу «з бору па сасонцы»: з'яўлялася лішняя капейка — куплялі стол ці канапу.* Шамякін.

*БОРШЧ* • **СЁРБАЦЬ ЛАПЦЕМ БОРШЧ**. Гл. сёрбаць.

*БОСАМУ* • **ЯК БОСАМУ РАЗУЦЦА**. Гл. разуцца.

*БОСУЮ* • **НА БОСУЮ НАГУ**. Гл. нагу.

*БОТ* • Дурны **ЯК БО́Т <З ЛЕ́ВАЙ НАГІ́>**. *Акал. Разм.* Вельмі, надзвычай (дурны). Пра каго-н. **Сін**.: як пень; як сала без хлеба; як сабака да году. — *Няхай цяпер куча золата ляжыць на дарозе... не буду чапаць! — Дурны як бот!* Бядуля. *Я даўно ведаю гэту бабку:*

*даволі скупаватая і дурная як бот.* Караткевіч. *Лось паранены, дае кругі і ідзе ў вёску — да людзей. Не будзеш жа яго дабіваць на Выганчыку за ракой на вачах... І сабака дурны як бот — ніякай помачы...* Пташнікаў. *Ты, Моська, сказаў Рывіну праўду, усе мы дурныя як бот з левай нагі.* Чарнышэвіч. *Нездарма кажуць іншы раз і пра чалавека, што ён дурны як бот, ды яшчэ з левай нагі.* Дамашэвіч.

*БОТАМ* • **ПА́Д БО́ТАМ** *чыім, каго, у каго. Акал. і вык. Разм.* **1**. У поўнай залежнасці ад каго-н. (быць, знаходзіцца). **Сін**.: пад абцасам *чыім, каго, у каго*; пад каўпаком *каго, у каго*; пад пятой *у каго, чыёй, каго, чаго* (у 1 знач.); у кіпцюрах *чыіх, каго*; у кулаку; у лапах *каго, чыіх*; у руках *чыіх, каго, у каго* (у 1 знач.). *Але як бы ні было там ён [Сымон] паставіць на сваім, ён пралезе хоць бы кротам, бо пад Шлёмавым тут ботам ён не хоча быць зусім.* Колас.

**2**. Пад чыёй-н. уладай, пад прыгнётам (аказацца, стагнаць і пад.). **Сін**.: пад пятой *у каго, чыёй, каго, чаго* (у 2 знач.). *Ці ж на тое палівала ты зямліцу потам, каб яна цяпер стагнала пад фашысцкім ботам?* Крапіва. *Тады наш край стагнаў пад ботам царскіх сатрапаў.* Левановіч.

*БОТЫ* • **ДВА́ БО́ТЫ ПА́РА**. *Вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Абсалютна аднолькавыя, адзін не лепшы за другога. **Сін**.: абое рабое; аднаго крою; аднаго поля ягада; адным лыкам шытыя; адным мірам мазаны; <з> аднаго балота чэрці; з аднаго цеста <спечаны>; зроблены на адзін капыл; на адзін капыл (у 1 знач.); на адзін лад; на адзін манер (у 1 знач.). *Той раз рассталіся мы з Захаркам сябрамі, але я нікому не прызнаўся, што шкадую яго, што быў у садзе. Засмяялі б: «З Захаркам гуляе, значыць, два боты пара».* Грахоўскі. *Сабраліся: адзін сухарукі, другі суханогі. Два боты пара.* Шамякін. *— Каб усе ротныя такія былі, як Драніцын, дык ужо на вышыні паабедалі б. — Што? Абараняеш? Канечне, два боты — пара.* Быкаў. *Словам, два боты — пара: што гарманіст, што барабаншчык.* Сяркоў. *На камбінаце пайшла пагалоска: маўляў, яны з Салавейчыкам старыя закадычныя сябры, дырэктар спецыяльна выпісаў свайго сябрука — два боты пара.* Блакіт.

**ЛІЗАЦЬ БОТЫ**. Гл. лізаць.

*БОЧАК* • **СЕМ БОЧАК АРЫШТАНТАЎ** *нагаварыць*. Гл. бочку.

*БОЧКА* • **БО́ЧКА З ПО́РАХАМ**. *Мн. не ўжыв. Вык. Функц. не зам.* Неадступная пагроза, вялікая небяспека. **Сін**.: парахавая бочка. *[Гдаль:] Аддай чалавека. Ходзіць ночу — значыць, ён такі мужыцкая басяцкая морда і бандзюк. Наваколле й так бочка з порахам.* Караткевіч. *[Сваевіч:] Маса — гэта бочка з порахам. Досыць іскры, каб...* Рамановіч.

**БЯЗДО́ННАЯ БО́ЧКА**. *Мн. не ўжыв. Часцей у знач. вык. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Невычэрпная крыніца матэрыяльных даброт. **Сін**.: дойная карова. *І так, дзякуй дзяржаве, усю вёску ў крэдыт адбудавалі. А я так думаю, што дзяржава — не бяздонная бочка.* Шамякін. *[Шафёр] і ўчора ўгаворваў ехаць на «Волзе». Яму абы праехаць з шыкам. За адзін раз гатовы дабіць машыну. А што яму! Даб'е — калгас новую купіць. Калгас для яго бяздонная бочка.* «Полымя».

**2**. *Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Чалавек, які можа, не п'янеючы, выпіць шмат спіртнога. *А што яму тое паўлітра! Гэта ж — бяздонная бочка...* «Полымя».

**ПАРАХАВА́Я БО́ЧКА**. *Мн. не ўжыв. Вык. Функц. не зам.* Неадступная пагроза, вялікая небяспека. **Сін**.: бочка з порахам. *Паступілі звесткі аб магчымым выступленні нямецкіх ваеннапалонных. Трывожны сігнал. Палонных яўна падбухторваюць. Ленін разумеў, якая гэта парахавая бочка — многія тысячы немцаў і аўстрыйцаў...* Шамякін.

*Блізкі Усход. Пры першым жа дотыку да матэрыялаў з гэтага рэгіёна Кейсі ахапіла трасучка-ікаўка. Праклятае месца. Парахавая бочка.* «Полымя».

*БОЧКІ* • **АД КОЖНАЙ БОЧКІ ШПУНТ**. Гл. шпунт.

**АД ПУСТОЙ БОЧКІ ЗАТЫЧКА**. Гл. затычка.

**ПАД УСЕ БОЧКІ ШПУНТ**. Гл. шпунт.

**ТРЫ БОЧКІ АРЫШТАНТАЎ** *нагаварыць*. Гл. бочку.

**ЯК З БО́ЧКІ** *нясе (несла)*. *Акал. Разм. Неадабр.* Вельмі моцна. Пра адчуванне паху гарэлкі ад чалавека. *[Камароўскі:] Калі ён выцягнуў грошы, дык схіліўся нада мной. Я, праўда, цьмяна, як праз павалоку якую, пабачыў яго твар. І пачуў — гарэлкай як з бочкі нясе.* Капусцін. *Вочы яго былі ўжо, як у салавейчыка, а з губы нясло як з бочкі.* Колас.

*БОЧКУ* • **БО́ЧКУ (ТРЫ́ БО́ЧКІ; СЕ́М, СО́РАК, СТО́ БО́ЧАК) АРЫШТА́НТАЎ** *нагаварыць, навыдумляць* і пад. *Акал. Жарт.-іран.* Вельмі многа і абы-чаго (нагаварыць). **Сін.**: мех з торбай; мех і кайстру; сем вёрст да нябёс і ўсё лесам; сем карабоў. *[Нямтур] павесіць пінжак на сцяну і глядзіць адным вокам з-пад коўдры, як Алеся, нагаварыўшы бочку арыштантаў, шарыць па кішэнях, выграбае ўсё да капейкі.* Мыслівец. *Нагаварыў [Сцяпанаў] тры бочкі арыштантаў, нібы смехам, а на самай справе паспрабуй усё зрабі, што ён раіў.* Алешка. *Тут ён [Таўлай] прыгадаў ляпсусы аўтара, які не пайшоў ад жыцця, а ўхітрыўся ілюстраваць модныя схемы і навыдумляў «сем бочак арыштантаў»...* Калеснік. — *Табе.. сорак бочак арыштантаў нагаворань, — упікнуў Карпусь, — а ты усё будзеш разяўляць рот.* Баранавых. *[Каліберaў:] Як жа быць з гэтай.. з карэспандэнткай? [Моцкін:] А вы ёй нагаварыце сто бочак арыштантаў, а потым на машыну і павазіце па калгасах. Толькі туды, куды трэба. І ўсё. І галоўнае — нікога да яе не падпускайце.* Макаёнак.

**КАЦІЦЬ БОЧКУ** *на каго*. Гл. каціць.

**КЛАСЦІ НА БОЧКУ** *грошы*. Гл. класці.

*Грошы* **НА БО́ЧКУ**. *Разм.* Ужыв. пры адсутным дзейн. са знач. асобы. Тут жа, адразу, не адкладваючы плаці. Пра плату гатоўкай, наяўнымі грашамі. **Сін.**: класці на бочку. *[Пякарская:] Паспеем разлічыцца. [Байкач:] Грошы на бочку! Я заўтра ж змотваю вудачкі. Досыць.* Гурскі. *Адзін шукае кліентаў з грашамі, другі сам прапануе сябе «па дамоўленасці». А дамоўленасць вядома якая — грошы на бочку.* «Звязда». *Праўда, тыя шчэбень ці пясок можна выпісаць і на Цвёрдым завулку, але пакуль выстаіш чаргу, пакуль здабудзеш аўтатранспарт, пагрузчык... А тут без усякага клопату — грошы на бочку, і карыстайся.* «ЛіМ».

**ПАД КОЖНУЮ БОЧКУ ШПУНТ**. Гл. шпунт.

**ПАКАЦІЦЬ БОЧКУ** *на каго*. Гл. пакаціць.

*Бухаць, кашляць* **ЯК У БО́ЧКУ**. *Акал. Разм.* Вельмі моцна. *Дзядзька Ладзіслаў сталуецца ў нас. Ён хворы, страшэнна кашляе. Усю ноч бухае як у бочку і задыхаецца.* Шамякін. *Валошка еў, не перастаючы кашляць. Маці маўчала-маўчала і зноў прычапілася: — Бухаеш як у бочку. Палячыцца не можаш.* Карамазаў. — *Зноў ужо цмыгалку ў рот усунуў, — буркнула, збіраючы са стала посуд, яшчэ жвавая бабка Каця. — Цэлую ноч як у бочку бухае, а потым увесь дзень дыміць і дыміць...* Дудараў.

*БОЧЦЫ* • **ЛЫЖКА ДЗЁГЦЮ <У БОЧЦЫ МЁДУ>**. Гл. лыжка.

**ЯК СЕЛЯДЦОЎ У БОЧЦЫ** *ў чым*. Гл. селядцоў.

*БРАЗГАЦЬ* • **БРА́ЗГАЦЬ ДЗВЯРА́МІ (-Ы́МА, -МІ́)**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выяўляць рэзкі пратэст, не дабіўшыся свайго, жаданага. **БРАЗНУЦЬ ДЗВЯРАМІ (-ЫМА, -МІ)**. *Зак. Думалася: чым гэтак мучыцца, ці не ле-*

*пей адразу скончыць усе свае пакуты? А перад тым як скончыць, хацелася мне бразнуць мацней дзвярыма.* Гарэцкі. — *То ты.. усе дакументы забраў.. з інстытута? Бразнуў ўжо дзвярыма?! — Бацька скінуў газ, адруляваў на ўзбочку і стаў.* Місько.

**БРА́ЗГАЦЬ ЗБРО́ЯЙ**. *Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета ці сукупнасці асоб. Пагражаць вайной. *Варушацца гітлераўскія недабіткі, бразгаюць зброяй цемрашалы...* Лынькоў. *[Міхайлаў:] Пішыце! Загаловак дадзім так: «Контррэвалюцыйная зграя зноў бразгае зброяй».* Васілеўскі.

*БРАЗНУЦЬ* • **БРАЗНУЦЬ ДЗВЯРАМІ**. Гл. бразгаць.

*БРАКУЕ* • **ТОЛЬКІ ПТУШЫНАГА МАЛАКА БРАКУЕ** *ў каго, дзе.* Гл. няма.

*БРАЛІСЯ* • **<ЯШЧЭ> ЧЭРЦІ НА КУЛАЧКІ НЕ БРАЛІСЯ**. Гл. чэрці.

*БРАТ* • **БРА́Т-СЯСТРЫ́ЦА (БРА́Т-СЯСТРА́)**. *Мн. не ўжыв. Часцей дзейн. і дап. Разм.* Травяністая трохколерная расліна сямейства фіялкавых (Viola trikolor L.); браткі. **Сін.**: анюціны вочкі; іван-ды-мар'я. *На той магіле вырасла травіца, і людзі назвалі яе «Брат-сястрыца».* Дунін-Марцінкевіч. *Быццам спіць мятлюга, нявідна дрыжыць канапелька, дзятліна сядзіць, званочкі калышуцца, здалёку, з лесу брат-сястра бялее, сінее мясцінамі.* Гарэцкі.

**ВА́Ш БРА́Т**. *Мн. не ўжыв. Часцей дап. Разм.* Вы і падобныя да вас. Часцей пра мужчын. *Раскажы яму, каго кахаеш, каго ненавідзіш, а ён заўтра ўсё гэта ў апавяданне ці, яшчэ горш, — у нарыс. Ведаем мы вашага брата!* Шамякін. *Вот і казакі спатрэбіліся. Цяпер вашага брата-дэзерціра па лесе колькі хочаш знойдзеш.* Лобан. *[Батура:] Чулі, дзяўчаты, як з вашага брата здзекуюцца? Заспявайце сватам, каб ім моташна стала.* Крапіва.

**І́ХНІ (ІХ) БРА́Т**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Яны і падобныя да іх. Часцей пра мужчын. *Я не першы год служу, я многа іхняга брата бачыў.* Галавач. *«Ну, — кажа ён, — я ў Мінску бываў, я ведаю, што сярод іхняга брата ёсць [хлопцы] сапраўдныя...»* Брыль. *[Андрэй:] Жанчын паважаць трэба, уступаць ім месца, дарогу, бо яны, жанчыны, спрадвеку больш сціплыя, чым мужчыны. [Васіль:] Гэта было некалі, а цяпер і ў іхняга брата хапае смеласці, нават нахабства.* Козел. *Каб мела [Люся] жаніха — чаго б паперлася з ім [Андрэем]? Хм, чаго... Мо пасварыліся — во і рашыла падражніць, каб быў больш згаворлівы, пакладзісты... Іх брат гэта ўмее!* Блакіт.

**НА́Ш БРА́Т**. *Мн. не ўжыв. Часцей дап. Разм.* Мы і падобныя да нас. Пра мужчын. — *Едзь, браце, — парадзіў Рыгор. — Нашаму брату няможна доўга заседжвацца на адным месцы.* Гартны. *Гучны голас Андрэя крычаў: — Буржуі на вайне мільёны нажываюць, а нашага брата б'юць толькі, мы калецтва можам толькі нажыць.* Галавач.

**НІ СВАТ НІ БРАТ** *каму.* Гл. сват.

**САМ ЧОРТ НЕ БРАТ** *каму.* Гл. чорт.

**СВО́Й БРА́Т**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Чалавек, блізкі поглядамі, роўны становішчам. Пра мужчын. *Свой брат ляснік не прагоніць, не даўшы паесці.* Лобан. *Гэта «дай-но» пачуеш хіба толькі ад свайго брата — патомнага палешука.* Палтаран.

**ТВО́Й БРА́Т**. *Мн. не ўжыв. Дзейн. і дап. Разм.* Ты і падобныя да цябе. Пра мужчын. *І ўпраўляючы цябе лае, калі мала прыбытку, і твой жа брат селянін крыўдуе...* Лынькоў.

*БРАТА* • **НА БРА́ТА**. *Дап. Разм.* Кожнаму, на кожнага. **Сін.**: на нос; на рыла. —*Даеш, два сажні на брата? — Не гарачыцеся, таварышы! — спыняе Сцёпка. — Памалу, паволі возьмемся, каб не таміцца адразу — работы нам будзе.* Колас. *Канстанцін Міхайлавіч дас-*

*таў хлеб, паставіў сподачак з соллю, паклаў па вялікай цыбуліне на брата.* С.Александровіч.

**НІ СВАТА НІ БРАТА**. Гл. свата.

*БРАТЫ* • **БРАТЫ́ НА́ШЫ МЕ́НШЫЯ**. *Адз. не ўжыв. Часцей у ролі дап. Функц. не зам.* Звяры (свойскія ці прыручаныя чалавекам). *Мы наведалі заапарк.., паназіралі за жыццём «братоў нашых меншых».* «Настаўн. газ.»

*БРАХАЦЬ* • **БРАХА́ЦЬ НА ВАДУ́**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Бясконца многа піць, не могучы прагнаць смагу. *Ды дзякуй, дзякуй. Вобла — гэта добра. Але каб ад яе на ваду не брахаць.* Радкевіч. *[Лявон:] Не, Мітрафан Сазонавіч, сам навары́ў салёнага, сам і з'ясі і сам на ваду брахаць будзеш.* Макаёнак. *Я на ікры вырасла, калі бацька ў Астрахані служыў. Але там чорная, і яна абрыдла мне. А вось чырвоная... Ем і есці хочацца. А ўначы брашу на ваду...* Шамякін.

**БРАХА́ЦЬ НА ПЕ́НЬ** навучыцца, навучыць і пад. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гаварыць недарэчнае, неразумнае. **Сін.**: брахаць на сабак; на пень брахаць <ды> на калоду тукаць. — *Не надта дзядзькай, а скажы, чаго гэта з Верасава цябе прынясло ў Дварчаны. — Выгналі... — Бачу, што і ты ўжо навучыўся на пень брахаць.* Адамчык. — *Пытанне палітычнае. Мая думка — нямецкую зацею [адкрыць школы на акупаванай тэрыторыі] там, дзе можна, сарваць. Немцы хочуць пасеяць ілюзію мірнага жыцця... — Правільна!.. Ніякіх школ. — Навучаць на пень брахаць.* Навуменка.

**БРАХА́ЦЬ НА САБА́К** навучыцца, навучыць і пад. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гаварыць недарэчнае, неразумнае. **Сін.**: брахаць на пень; на пень брахаць <ды> на калоду тукаць... — *Наш настаўнік добры, ён так нас навучае. — Навучае... Навучыў вось цябе на сабак брахаць.* Крапіва. *А летась паслаў я яго [сына] у медыцынскі інстытут... А яму там узялі ды балаў не паставілі, колькі трэба. Дык вось і вывучыўся на сабак брахаць.* Брыль.

**НА ПЕ́НЬ БРА́ХАЦЬ <ДЫ> НА КАЛО́ДУ ТУ́КАЦЬ** вучыць, навучыць і пад. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. (Вучыць, навучыць каго-н.) гаварыць недарэчнае, неразумнае. **Сін.**: брахаць на пень; брахаць на сабак. — *Яна ж у нас толькі навучыцца. — Навучыцца... На пень брахаць ды на калоду тукаць. Досыць ужо навучылася...* Зарэцкі. — *Не хачу навукі Крэйдзінай... — Крэйдзіна тут збоку прыпёку. Упёрся ты ў яе, як баран у сцяну. Шырэй думай... Табе здаецца, што ў нас... навучаюць на пень брахаць, на калоду тукаць?* Масарэнка. [*Лепешаў*, с. 49: на пень брахаць, на калоду тукаць.]

*БРАЦЦА* • **БРА́ЦЦА ЗА ГАЛАВУ́**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Рабіцца разважлівым, станавіцца разумнейшым; спахапляцца, разумнець. **Сін.**: брацца за розум (у 1 знач.). **УЗЯЦЦА ЗА ГАЛАВУ**. *Зак. [Дзядзька] трымаў пісульку [падпольшчыкаў] перад сабою, гаварыў: — З такой работай, знаеш, захраснеш у дэфензіве, як кажу! Трэба, знаеш, узяцца за галаву!.. Калі б пісулька трапіла ў дэфензіву — я не ведаю!* Баранавых. *Кругом людзі як людзі, а на яго [Казіка] ніякія законы не дзейнічаюць. Пара было б і за галаву ўзяцца...* Дайліда.

**2**. Разгубіўшыся, не ведаць, што рабіць, даходзіць да адчаю. **Сін.**: хапацца за галаву. **УЗЯЦЦА ЗА ГАЛАВУ**. *Зак. — Работы хопіць! Абы ахвота! — турбавала [Ганну] Параска. — Дзяцей у нас ведаеш колькі? Сто семера! Як ні глядзі, а гразі за дзень нацягнуць — за галаву возьмешся!* Мележ. *[Крукоўскі:] Сказала мне Варвара Міхайлаўна,*

*што ў маім доме камуніст, — я ўзяўся за галаву! Вы, Ілья Цімафеевіч, разумееце, што можа быць ад палякаў і мне, і вам за камуніста?* Баранавых.

**БРА́ЦЦА ЗА́ГРУДКІ** *з кім. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** Біцца, весці бойку. **Сін.**: брацца за чубы (у 1 знач.). *Усе ў Казіным Бродзе баяліся [аб'ездчыка], і ніхто не адважваўся брацца з ім загрудкі.* Мурашка. **УЗЯЦЦА ЗАГРУДКІ** *з кім. Зак. Калі суддзя абвясціў перапынак, на брук высыпалі сваякі хлопца і дзяўчыны ды ўзяліся загрудкі.* Карпюк.

**2.** Задзірацца, спрачацца, сутыкацца. **Сін.**: брацца за чубы (у 2 знач.); брацца ў рожкі з *кім*; у дубкі ісці *з кім*; у рожкі з *кім*. *— Заўтра канферэнцыя, — паведамляе фізік. — Трэба ехаць, а тут з гэтым праклятым сенам звязаўся. Хіба прыемна брацца загрудкі з Гаркушам? Прападзі яно пропадам!* Навуменка. **УЗЯЦЦА ЗАГРУДКІ** *з кім. Зак.*

**БРА́ЦЦА ЗА ГУ́Ж.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачынаць якую-н. справу. *Можа ў скрутнай гадзіне, мой клопат узважыўшы, скажуць: рату яшчэ папрацуй, калі дуж. Я падумаю, мусіць, згаджуся, таварышы, як там, часе, з умовай? Бяруся за гуж.* Лужанін. **УЗЯЦЦА ЗА ГУЖ.** *Зак. Ну, а калі бярэшся за гуж, што ж, атрымаеш васемнаццаць гадзін на тыдні — і заўтра на ўрокі.* Гроднеў. *Але адступаць нам нельга. Узяліся за гуж, дык і павінны пабудаваць школу...* Васілевіч.

**БРА́ЦЦА ЗА ПЯРО́.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачынаць пісаць мастацкія і іншыя творы. *Ніяк нельга ўтлумачыць некаторым: непрыдатнасць да іншых прафесій не азначае, што ты маеш права брацца за пяро.* Лужанін. **УЗЯЦЦА ЗА ПЯРО.** *Зак. І, каб падбадзёрыць рабочага, які ўзяўся за пяро, я пачаў прыводзіць факты з жыцця вядомых паэтаў.* Прокша.

**БРА́ЦЦА ЗА РО́ЗУМ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** Рабіцца разважлівым, станавіцца разумнейшым; спахапляцца, разумнець. **Сін.**: брацца за галаву (у 1 знач.). *— За розум пара ўжо брацца! — не ўтрываў.. дзед.* Мележ. **УЗЯЦЦА ЗА РОЗУМ.** *Зак. Колькі за пасляваенныя гады я ўніжаўся, замольваў твае грахі ў начальства, паручаўся, што возьмешся за розум, перастанеш піць?* Карпюк.

**2.** Прыдумваць што-н., знаходзіць які-н. выхад. **УЗЯЦЦА ЗА РОЗУМ.** *Зак. [Гарлахвацкі:] Трэба абдумаць, за што раней узяцца. [Анна Паўлаўна:] За розум вазьміся. У цябе ж нейкае пасведчанне ёсць, што ты вучоны. Дык і дабівайся па вучонай лініі.* Крапіва. *Я садзіўся за плуг і стараўся, як кажуць, узяцца за розум. А потым зноў прасіў каня ісці, і ён ішоў, — мы цягнулі ў канец паласы баразну, нібы разам ужо зразумеўшы, што іншага выхаду з нашай пакуты пакуль што няма.* Брыль.

**БРА́ЦЦА (ІСЦІ́) У РО́ЖКІ** *з кім. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выяўляючы сваю самастойнасць, незалежнасць, задзірацца, спрачацца, сутыкацца. **Сін.**: брацца за чубы (у 2 знач.); брацца загрудкі *з кім* (у 2 знач.); у дубкі ісці *з кім*; у рожкі *з кім*. *Ладзяць [«маладнякоўцы»] шумлівыя сходы, вечары, бяруцца ў рожкі са старымі, не прызнаюць літаратурных аўтарытэтаў.* Бядуля. *А дарма ты ўвязалася ў гэтую гісторыю... Не табе з Кібрысам брацца ў рожкі. Кібрыса голымі рукамі не возьмеш.* Блакіт. **УЗЯЦЦА (ПАЙСЦІ) У РОЖКІ** *з кім. Зак. Настаўнік адзін.. дужа ўжо з папом у рожкі пайшоў.* Лынькоў. *— А чаго яны [паліцаі] прыходзяць да вас? — Ды ўсё да яе, да Танюшы. У рожкі з імі наважыла пайсці дзеўка. Ты б, Максімка, пагаварыў з ёю... Можа б, паслухала, уціхамірылася.* Машара.

**БРА́ЦЦА НА ЎЗБРАЕ́ННЕ** *кім. Незак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Дзейсна выкарыстоўвацца, прымяняцца ў чыёй-н. практыцы, дзейнасці. *Пісьменнікам бярэцца на ўзбраенне адно з самых важных паняццяў — катэгорыя чалавечнас-*

*ці, праз якую, бы праз своеасабліваеe павелічальнае шкло, высвечваюцца ўсе ўчынкі Ігната Сцяпанавіча.* «ЛіМ». **УЗЯЦЦА НА ЎЗБРАЕННЕ** *кім. Зак.*

**БРАЦЦА Ў СІЛУ**. Гл. убірацца.

**БРА́ЦЦА (ХАПА́ЦЦА) ЗА ЖЫВАТЫ́ (ЗА ЖЫВО́Т)**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці (часцей) сукупнасці асоб. Моцна смяяцца. **Сін.**: бакі рваць; качацца са смеху; надрываць жываты <ад смеху >; паехаць ад смеху; пакаціцца са смеху; паміраць ад смеху. *Пятрэсеву натуру ведалі ў Ясенях даўно. Пра яго скважнасць, бывае, мужчыны ў кузні расказваюць такое, што ўсе за жываты бяруцца.* Арочка. *Ільчык, стрэўшы хлопца, за жывот хапаўся: — Мой табе паклончык, атаман ягнячы.* Бажко. **УЗЯЦЦА (ХАПІЦЦА) ЗА ЖЫВАТЫ (ЗА ЖЫВОТ)**. *Зак. Што Цiток чуў, тое і напісаў: у калгасе «Зялёны гай» свінаматкі з усім сваім прыплодам сытыя таму, што ўволю атрымліваюць бульбы, мукі і пятрушкі... Ну ж і хапіліся назаўтра чытачы за жываты!* Аношкін.

**БРА́ЦЦА (ХАПА́ЦЦА) ЗА ЧУБЫ́ (ЗА ЧУБКІ́)**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Біцца, змагацца; весці бой. **Сін.**: брацца загрудкі *з кім* (у 1 знач.). **УЗЯЦЦА (ХАПІЦЦА) ЗА ЧУБЫ (ЗА ЧУБКІ)**. *Зак. Як памёр той князь, дык і ўзяліся тыя сыны за чубкі, усё роўна як у нас Тамаш Кірык з Тодарам Поштай. Такая каша выйшла, што сам чорт нагу зломіць.* Крапіва. *Цар Мікалай з царом Вільгельмам за чубкі ўзяліся, а ў Лаўрэнавых сыноў ілбы затрашчалі.* Сабаленка.

**2**. Задзірацца, даводзіць справу да сутычкі. **Сін.**: брацца загрудкі *з кім* (у 2 знач.); брацца ў рожкі *з кім*; у дубкі ісці *з кім*; у рожкі *з кім*. *Яны часта браліся за чубы — парторг са старшынёй, — і Вежнявец ужо хацела неяк памірыць іх...* Асіпенка. *За чубы хапаюцца прарабы, лаюцца, па-зімняму дрыжаць.* Панчанка. **УЗЯЦЦА (ХАПІЦЦА) ЗА ЧУБЫ (ЗА ЧУБКІ)**. *Зак.*

*БРАЦЬ* • **БРАЦЬ АГОНЬ НА СЯБЕ**. Гл. выклікаць.

**БРА́ЦЬ БЫКА́ ЗА РО́ГІ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Смела, энергічна пачынаць з самага галоўнага. *Я чалавек справы і, як гэта гаворыцца ў нас, люблю адразу браць быка за рогі, каб лішне не марнаваць часу. Якія прычыны майго арышту?* Лынькоў. **УЗЯЦЬ БЫКА ЗА РОГІ**. *Зак. — Я зараз вазьму быка за рогі, калега, — сказаў Каленбрун і павярнуўся да Дроба. — Адкажыце, малады чалавек, на мае пытанні, і ўсё будзе ў парадку.* Самуйлёнак.

**БРА́ЦЬ ВЕ́РХ**. *Незак. Функц. не зам.* **1**. *над кім.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Падпарадкоўваць каго-н. сваёй волі, панаваць над кім-н. **Сін.**: браць у <свае> рукі (у 1 знач.); віць вяроўкі *з каго*; выкручваць сырыцу *з каго*; ездзіць вярхом *на кім*; ездзіць на карку *чым*; запрагаць у аглоблі *каго*; надзяваць аброць *на каго, на што*; надзяваць хамут *на каго*; надзяваць ярмо на шыю *каму, каго*; падмінаць пад сябе *што, каго*; прыбіраць да рук (у 1 знач.); садзіцца на галаву *каму*; садзіцца на карак *каму, чый, каго* (у 1 знач.); сціскаць у кулак *каго*; убіраць у <свае> рукі (у 1 знач.). **УЗЯЦЬ ВЕРХ** *над кім. Зак. [Шыдлоўская:] Хоць адна баба верх над мужыком узяць сумела.* Козел. *Гаспадары ўзялі верх, маглі і на гэты раз панаваць.* Гартны.

**2**. *над чым.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Аказвацца больш значным, мацнейшым, чым што-н. іншае. *Хоць змарыліся [хлопцы] за час працы, але цікавасць бярэ верх над усім, — закідваюць Дзераша пытаннямі, просяць растлумачыць усё незразумелае, з чым спаткаліся на працы за дзень.* Шынклер. *Радасць недалёкай сустрэчы з роднымі, блізкімі людзьмі, перспектыва самастойнай працы бралі верх над смуткам расставання з любімым горадам.* Пальчэўскі. **УЗЯЦЬ ВЕРХ** *над чым. Зак. Жыццё возь-*

*ме верх над яго слабасцямі, бо мацней за жыццё на гэтым свеце нічога няма...* І.Капыловіч. *Няўжо ў Наталі над таварыскім пачуццём узялі верх пачуцці жаночыя?* Гартны.

3. <*над кім, над чым*>. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Дамагацца перавагі над кім-, чым-н., адольваць, перамагаць каго-, што-н. **Сін.**: класці на <абедзве> лапаткі *каго, што. Выходзіла так, што Аленка верх брала над Сцёпкам. Ён скончыў школу, і яна скончыла — ды яшчэ як! Кнігу нават падарылі ёй.* Колас. *[Старац:] Адвага наша — адно, а жыццё другое, і найбольш верх бярэ гэта апошняе.* Купала. *Вось рубцы, ад ран на спіне, але кожны раз паны бралі верх. Войска ім памагала.* Бядуля. **УЗЯЦЬ ВЕРХ** <*над кім, чым*>. *Зак. Старыя праці́віліся, але моладзь не ўтаймавалася, пакуль не ўзяла верх...* Чарот.

**БРА́ЦЬ ГО́ЛЫМІ РУКА́МІ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. 1. *каго, што.* Авалодваць кім-, чым-н., захопліваць каго-, што-н. без асаблівых цяжкасцей. *Варту з-за хат лёгка зняць можна, а тых голымі рукамі бяры. Спяць кучай усе.* Галавач. **УЗЯЦЬ ГОЛЫМІ РУКАМІ**. *Зак. — Хлопцы, глядзіце патроны! — крыкнуў [Бяссмертны] на сваіх. — А то нас голымі рукамі возьмуць.* Дамашэвіч.

2. *каго.* Лёгка падпарадкоўваць, прымушаць слухацца. *Яго, брат, голымі рукамі не бяры. Ён у нас яшчэ які спец.* Макаёнак. **УЗЯЦЬ ГОЛЫМІ РУКАМІ**. *Зак. [Нічыпар:] Чарнавуса таксама голымі рукамі не возьмеш. Моцна вучоны чалавек.* Крапіва. *«Не, Сцепаніду голымі рукамі не возьмеш, — можа, першы раз са шчырым захапленнем падумаў Пятрок. — Калі ўжо заўпарціцца, дык паякочаш».* Быкаў.

**БРА́ЦЬ ГО́РЛАМ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дабівацца чаго-н. крыкам, лаянкай. *Чаго там ціха! Што яны горлам бяруць, дык ім і паддавацца? Цярпення ўжо ад іх не стала!* Самуйлёнак. *Чаго падскокваеш, як на гарачым вуголлі?.. Толькі горлам, відаць, прывык браць. А які з цябе работнік, бачна адразу.* Макарэвіч. **УЗЯЦЬ ГОРЛАМ**. *Зак.*

**БРА́ЦЬ ДА ГАЛАВЫ́** <*што*>. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Многа думаць пра што-н., непакоячыся і хвалюючыся. **Сін.**: балець душой *за каго, за што, па кім, па чым*; браць <блізка> да сэрца <*што*>; браць <сабе> у галаву <*што*>. *Люба — разводніца... Але, відаць, не вельмі яна бярэ да галавы тое, што цяпер адна: кавалераў у яе хапае, ды Люба не спяшаецца...* І.Капыловіч. *Вось табе і інспектар. Замест таго, каб настаўляць Шуру, як трэба працаваць, кажа — не бярыце да галавы.* Арабей. **УЗЯЦЬ ДА ГАЛАВЫ** <*што*>. *Зак.*

**БРА́ЦЬ ЗА ЖА́БРЫ** *каго. Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прымушаць паступаць пэўным чынам. **Сін.**: браць за горла *каго*; браць за шчэлепы *каго*; наступаць на горла *каму, чаму*; станавіцца на горла *каму. Нават сам Верабей абурыўся сваім паплечнікам. Паклікаў да сябе ў кабінет і давай яго браць за жабры. — Я ж табе казаў дагледзець жыта. А ты што зрабіў?..* Пестрак. **УЗЯЦЬ ЗА ЖАБРЫ** *каго. Зак. Сёння п'яніц узялі за жабры, барматухі меней пачалі ў нас піць...* Панчанка.

**БРА́ЦЬ ЗА КАЎНЕ́Р** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прыцягваць да адказнасці, караць. **Сін.**: браць за шкірку *каго*; браць на цугундар *каго. Грахі свае ты, напэўна, лепш за мяне ведаеш... А ты не палохайся, за каўнер цябе ж яшчэ не бяруць.* Галавач. **УЗЯЦЬ ЗА КАЎНЕР** *каго. Зак. Няма каб памагчы злодзея за каўнер узяць, дык яшчэ пакрываюць. Усе сяло абыдзі, не ўпросіш чалавека за сведку пайсці.* Крапіва.

**БРАЦЬ ЗА РУКУ** *каго.* Гл. лавіць.

**БРА́ЦЬ ЗА ШКІ́РКУ** *каго. Незак. Прост.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прыцягваць да адказнасці, караць. **Сін.**: браць за каўнер; браць на цугундар *каго. А нелюдзю, ашуканцу не абавязкова верыць. Яго трэба браць за шкірку, як толькі ён пачынае паску-*

*дзіць.* «Вожык». **УЗЯЦЬ ЗА ШКІРКУ** *каго. Зак. [Мандрыкін:] А цяпер, калі прыйшлося, што самога зараз возьмуць за шкірку, «он украдкаю ківает на Петра», гэта значыць на Антона Мітрафанавіча.* Крапіва. *Засцянкоўцы рады, што злодзея гэтага за шкірку ўзялі.* Чарнышэвіч.

**БРА́ЦЬ ЗА ШЧЭ́ЛЕПЫ** *каго. Незак. Праст. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прымушаць пастулаць пэўным чынам. **Сін.**: браць за горла *каго*; браць за жабры *каго*; наступаць на горла *каму, чаму*; станавіцца на горла *каму. [Жора:] Пасля першай [чаркі] усе філасофствуюць, пасля другой звычайна пытаюцца: «Ты мяне паважаеш?», пасля трэцяй лезуць цалавацца. Вось пасля трэцяй ты яго і бяры за шчэлепы цёпленькага.* Петрашкевіч. **УЗЯЦЬ ЗА ШЧЭЛЕПЫ** *каго. Зак. А ўзялі б яго добра за шчэлепы — сказаў бы.* Янкоўскі.

**БРА́ЦЬ З БО́ЕМ (-Ю)** *што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дамагацца чаго-н. энергічнымі дзеяннямі. *Кожную найменшую драбніцу шчасця трэба здабываць і браць з боем.* Кучар. *Балота даводзілася браць з боем. Пад кожны аб'ект трэба было падсыпаць як не двухметровы пласт пяску.* Гардзей. *Гарыць тайга... Адбіць агонь цаной любою мы выйшлі ўсе да аднаго, і кожны крок мы бралі з бою ў пекле чортавым яго.* Звонак. **УЗЯЦЬ З БОЕМ (-Ю)** *што. Зак.*

**БРА́ЦЬ ЗМО́РАМ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Настойліва дамагацца чаго-н. назойлівымі просьбамі, дзеяннямі і пад. *У яго [Ротара Пятровіча] быў проста нейкі талент браць зморам. І заўжды дамагаўся свайго.* Блакіт. **УЗЯЦЬ ЗМОРАМ**. *Зак. Карацей кажучы, ад тактыкі ашаламлення ён [Карнач] перайшоў да тактыкі «ўзяць зморам».* Шамякін.

**БРА́ЦЬ ЛЕ́ЙЦЫ Ў <СВАЕ́> РУ́КІ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прымаць на сябе кіраванне чым-н. **Сін.**: браць у <свае> рукі (у 2 знач.). **Ант.**: выпускаць з <сваіх> рук (у 2 знач.); выпускаць лейцы з <сваіх> рук. *Ала, вядома, заўважыла метамарфозы і неяк натуральна карысталася абставінамі — брала ў рукі лейцы, падпарадкуючы ўсё сваёй волі і жаданню.* Карпаў. *Лейцы ў рукі бярэ Амалія Сідараўна. Выклікае з мястэчка Маргарыту, заводзіць асцярожную гаворку пра Сяргея Касцюшку.* Навуменка. *А я стары. Зусім стары. І хворы. І нядужы. У рукі лейцы ты бяры, кіруй разумна, дружа.* Бялевіч. **УЗЯЦЬ ЛЕЙЦЫ Ў <СВАЕ> РУКІ**. *Зак. Твая дачка дзяўчына разумная, можа, возьме лейцы ў свае рукі.* Машара.

**БРА́ЦЬ НА АБАРДА́Ж** *каго, што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рашуча дзейнічаць у адносінах да каго-, чаго-н. *Спяваў [продак] і вучыўся нідзе не падаць ніцма, жыць на Зямлі і неба браць на абардаж.* Дайнека. *Прыкідваю, быццам ніштаватая машына. Матор паслухаў, хадавую агледзеў, кузаў. Бяру яго [гаспадара] на абардаж. Купляю, бацька: васемсот цяпер, астатнія ў растэрміноўку.* Дзятлаў. **УЗЯЦЬ НА АБАРДАЖ** *каго, што. Зак. Гіві, здаралася, абяцаў: «Вазьму цябе, любанька, на абардаж...»* Мехаў.

**БРА́ЦЬ НА АРА́ПА** *каго. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дабівацца чаго-н. ашуканствам, хітрыкамі. **Сін.**: абводзіць вакол пальца *каго*; абуваць у лапці *каго*; бакі забіваць *каму*; браць на бога *каго*; браць на вудачку *каго*; браць на пушку *каго*; вадзіць за нос *каго*; вешаць лапшу <на вушы> *каму*; віляць хвастом (у 1 знач.); выводзіць у поле *каго*; гнуць дугі; гуляць у ката і мышку; дурыць галаву *каму* (у 1 знач.); задурыць галаву *каму* (у 3 знач.); замазваць вочы *каму*; замыльваць вочы *каму*; запраўляць арапа; кампасціраваць мазгі *каму*; корчыць дурня (у 1 знач.); круціць хвастом (у 1 знач.); муціць галаву *каму*; настаўляць акуляры *каму*; прадаць *каго* і грошы палічыць; пудрыць мазгі *каму*; пускаць пыл у вочы *каму*; сляпіць вочы *каму* (у

1 знач.); травіць баланду (у 2 знач.); туманіць вочы *каму*; туманіць галаву *каму*. *[Скрылёў:] На арапа браў [Шаталаў]? [Люба:] Здалёк заходзіў. Ну нібы любоў да мяне адчувае...* Кобец. — *Людзі ж бачылі, што ён прыбег быў дадому! — браў яе на арапа Яша.* Місько. **УЗЯЦЬ НА АРАПА** *каго. Зак.*

**БРА́ЦЬ НА БО́ГА** *каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дабівацца чаго-н. ашуканствам, хітрыкамі. **Сін.**: абводзіць вакол пальца *каго*; абуваць у лапці *каго*; бакі забіваць *каму*; браць на арапа *каго*; браць на вудачку *каго*; браць на пушку *каго*; вадзіць за нос *каго*; вешаць лапшу <на вушы> *каму*; віляць хвастом (у 1 знач.); выводзіць у поле *каго*; гнуць дугі; гуляць у ката і мышку; дурыць галаву *каму* (у 1 знач.); задурыць галаву *каму* (у 3 знач.); замазваць вочы *каму*; замыльваць вочы *каму*; запраўляць арапа; кампасціраваць мазгі *каму*; корчыць дурня (у 1 знач.); круціць хвастом (у 1 знач.); муціць галаву *каму*; настаўляць акуляры *каму*; прадаць *каго* і грошы палічыць; пудрыць мазгі *каму*; пускаць пыл у вочы *каму*; сляпіць вочы *каму* (у 1 знач.); травіць баланду (у 2 знач.); туманіць вочы *каму*; туманіць галаву *каму*. *Да іх [гестапаўцаў] дайшлі нейкія чуткі, вось яны і бяруць вас на бога.* Крапіва. — *На бога бярэш? Хто табе напеў? — падскочыў Паўлюк. — Па дзяшоўцы купляеш?* Калодзежны. **УЗЯЦЬ НА БОГА** *каго. Зак. Толькі ты не крыўдуй, што ўзяў цябе, як гаворыцца, на бога; хацеў праверыць, які ты спрытны.* Бажко.

**БРА́ЦЬ НА БУКСІ́Р** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дапамагаць таму, хто адстае. **Сін.**: падаваць руку <дапамогі> *каму*; падпіраць плячом *каго*; падстаўляць плячо *каму*; цягнуць за вушы *каго*. *Дык у Мікалая дачка выдатніца, свой кансультант у хаце. Калі што — на буксір бярэ.* Місько. **УЗЯЦЬ НА БУКСІР** *каго. Зак. Шчыра радавалася [Наталля Макараўна], калі ў яе класе лепшыя вучні па сваёй ініцыятыве ўзялі на буксір слабейшых.* «Настаўн. газ.» *Вясной 1931 года першамайцы адставалі з сяўбой, і камбайнаўцы іх узялі на буксір: паслалі на дапамогу самую лепшую брыгаду аратых.* Мяжэвіч.

**БРА́ЦЬ НА ВО́КА** *каго, што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Уважліва сачыць, назіраць за кім-, чым-н. *І двор асадніцкі няўзнакі бяруць на вока Петрушы, глядзяць за ім не абыяка, а па сумленню, ад душы.* Колас. **УЗЯЦЬ НА ВОКА** *каго, што. Зак. [Іван:] Каб ведаў, хто цябе засватаў, узяў бы я яго на вока.* Танк. — *Не падабаецца ён мне, — не згаджаўся нават і захмялелы Бязмен... — І Лёмаз узяў яго на вока.* Брыль.

**БРА́ЦЬ НА ВУ́ДАЧКУ (НА КРУЧО́К)** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Хітраваць, дабівацца чаго-н. ашуканствам. **Сін.**: абводзіць вакол пальца; абуваць у лапці *каго*; бакі забіваць *каму*; браць на арапа *каго*; браць на бога *каго*; браць на пушку *каго*; вадзіць за нос *каго*; вешаць лапшу <на вушы> *каму*; віляць хвастом (у 1 знач.); выводзіць у поле *каго*; гнуць дугі; гуляць у ката і мышку; дурыць галаву *каму* (у 1 знач.); задурыць галаву *каму* (у 3 знач.); замазваць вочы *каму*; запраўляць арапа; кампасціраваць мазгі *каму*; корчыць дурня (у 1 знач.); круціць хвастом (у 1 знач.); муціць галаву *каму*; настаўляць акуляры *каму*; прадаць *каго* і грошы палічыць; пудрыць мазгі *каму*; пускаць пыл у вочы *каму*; сляпіць вочы *каму* (у 1 знач.); травіць баланду (у 2 знач.); туманіць вочы *каму*; туманіць галаву *каму*. *Сцёпка не мог зразумець: ці Міхалка гаворыць шчыра, ці бярэ яго на вудачку.* Баранавых. *Гэта я на вудачку цябе браў, як таго шчупака. Вось ты са сваім звяном і набраў тэмпы, каб не адстаць.* Пянкрат. *Яўхім зніякавеў, але не падаў выгляду. Бач, падступае, на кручок бярэ.* Мележ. **УЗЯЦЬ НА ВУДАЧКУ (НА КРУЧОК)** *каго. Зак.*

**БРА́ЦЬ НА ЗАМЕ́ТКУ** *каго, што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Запамінаць, звяртаць увагу, запісваць для памяці. **Сін**: браць на карандаш *каго, што. Ведайце: нам вы тут, у бальніцы, патрэбны. Што да ўсякіх здраднікаў, адшчапенцаў... Бярыце на заметку, калі такія трапляюць.* Сачанка. *«Хто-о?» — запытаў Андрэй. Бацька назваў некалькі прозвішчаў, сын іх запісаў. «А навошта ты ўсё гэта бярэш на заметку?» — спытаўся бацька.* Гурскі. **УЗЯЦЬ НА ЗАМЕТКУ** *каго, што. Зак. Ксенінага бацьку заспелі ў бальніцы на прыхоўванні лекаў і перавязачных сродкаў; арыштаваць не арыштавалі, а на заметку ўзялі.* Лужанін.

**БРА́ЦЬ НА ЗЫ́ХЕР** *каго. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дзейнічаючы самаўпэўнена, правакаваць каго-н., выклікаць разгубленасць з мэтай дабіцца чаго-н. **Сін.**: браць на понт *каго. Саўка папаў у акрутнае становішча. Але ён быў упэўнены, што яго бяруць «на зыхер», як называецца на мове арыштантаў.* Колас. **УЗЯЦЬ НА ЗЫХЕР** *каго. Зак. — Не хочаш прызнавацца? Ну, добра. Павесіць яе! — загадвае Гудзілка і бярэ вяроўку. Гэта і ёсць Гудзілкаў следчы спосаб «узяць на зыхер».* «Полымя».

**БРА́ЦЬ НА КАРАНДА́Ш** *каго, што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Запамінаць, запісваць для памяці. **Сін.**: браць на заметку *каго, што. [Варонін] браў на карандаш тых, каго яму падказвалі.* Гурскі. **УЗЯЦЬ НА КАРАНДАШ** *каго, што. Зак. К з'яўленню Шэмета ён [Гаварушка] паспяваў абысці ўсе кабінеты райкома.. абзваніць усе ўстановы і калгасы, становішчам якіх можа сёння зацікавіцца сакратар, узяць неабходнае на карандаш...* Лобан.

**БРА́ЦЬ НА МУ́ШКУ** *каго, што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Засяроджваць увагу на кім-, чым-н., сачыць за кім-, чым-н. **Сін.**: браць на прыцэл *каго, што. — Зараз пабачым, вінен ты ці не. І сваёю злосцю ты на мушку каго не бяры, я тваю палітыку добра ведаю, — даказваў Гарасім...* Пальчэўскі. **УЗЯЦЬ НА МУШКУ** *каго, што. Зак. Кірэй, ці даўно тое было, што глядзеў смерці ў вочы і смяяўся? А цяпер... Нарэшце злы лёс узяў цябе на мушку.* Дамашэвіч.

**БРА́ЦЬ НА ПО́НТ** *каго. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дзейнічаючы з апломбам, правакаваць каго-н., выклікаць разгубленасць з мэтай дабіцца чаго-н. **Сін.**: браць на зыхер *каго. [Генадзь:] Гэта Пеця бярэ цябе на понт.* Петрашкевіч. *Добра так схаваўся, ажно ён праз хвіліну крычыць мне: вылазь, я цябе знайшоў, я цябе бачу. Не вылажу. Трасцу, думаю, ты бачыш. На понт бярэш?* Вpiarановіч. **УЗЯЦЬ НА ПОНТ** *каго. Зак. Прытвараешся, на понт хочаш мяне ўзяць. Што, надакучыў? Ён лепшы?* Ярашэвіч.

**БРА́ЦЬ НА ПРЫЦЭ́Л** *каго, што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Засяроджваць увагу на кім-, чым-н., сачыць за кім-, чым-н. **Сін.**: браць на мушку *каго. Некаторыя бралі на прыцэл хвосцікі Зусевага лапсердака, яго каўнерык, жылетку, а асабліва стаўбунаватую з гузікамі наверсе шапку.* Мурашка. **УЗЯЦЬ НА ПРЫЦЭЛ** *каго, што. Зак. — Ці не Раіну ўзяў ты на прыцэл? — Гарыдаўца спытаўся Мітрафан. І п'яны рогат паміж змрочных сцен узняўся, як з-пад могілак курган.* Танк.

**БРА́ЦЬ НА ПУ́П**. *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач асобы. Перанапружвацца фізічна. *«Сказаць ці не сказаць пра сваю здагадку?» — падумаў Аляксандр Андрыянавіч. Сказаць — значыць, даць згоду працаваць на помпавай-47. А гэта значыць, суткамі стаяць па пояс у ледзяной вадзе і браць на пуп.* Шальманаў. *Яны ўсе цяпер, маладыя, на пуп браць не ахвотнікі, хай трактары робяць, кажуць.* Гіль. **УЗЯЦЬ НА ПУП**. *Зак.*

**БРА́ЦЬ НА ПУ́ШКУ** *каго. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дабівацца чаго-н. ашуканствам, хітрыкамі. **Сін.**: абводзіць вакол пальца *каго*; абу-

ваць у лапці *каго*; бакі забіваць *каму*; браць на арапа *каго*; браць на бога *каго*; браць на вудачку *каго*; вадзіць за нос *каго*; вешаць лапшу <на вушы> *каму*; віляць хвастом (у 1 знач.); выводзіць у поле *каго*; гнуць дугі; гуляць у ката і мышку; дурыць галаву *каму* (у 1 знач.); задурыць галаву *каму* (у 3 знач.); замазваць вочы *каму*; замыльваць вочы *каму*; запраўляць арапа; кампасціраваць мазгі *каму*; корчыць дурня (у 1 знач.); круціць хвастом (у 1 знач.); муціць галаву *каму*; настаўляць акуляры *каму*; прадаць *каго* і грошы палічыць; пудрыць мазгі *каму*; пускаць пыл у вочы *каму*; сляпіць вочы *каму* (у 1 знач.); травіць баланду (у 2 знач.); туманіць вочы *каму*; туманіць галаву *каму*. *Баец перастаў ужо ўсміхацца — не ведаў, што гаварыць. Мо камандзір бярэ яго на пушку?* Дамашэвіч. *— Аркадзь Міхайлавіч, я ніколі не бяру на пушку, — узмаліўся Корзун. — Не сварыцеся.* Шыцік. **УЗЯЦЬ НА ПУШКУ** *каго. Зак. — На пушку хочаце ўзяць? — Самае выгаднае ў тваім становішчы — адказваць на мае пытанні і гаварыць праўду.* Шабан.

**БРА́ЦЬ НА РО́ЗУМ** *што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Разумець, усведамляць што-н. **Сін.**: браць уцям *што*; узяць <сабе> у толк *што. — Каб даў бог здольнасці, ахвоты да вашай новае работы, панятнасць добрую і памяць усё браць на розум вам і цяміць, і каб да кнігі вас гарнула, — сказаў Міхал сынам прачула.* Колас. **УЗЯЦЬ НА РОЗУМ** *што. Зак. Загружаны вакзалы і станцыі... Што-а гэта робіцца? — не возьмеш на розум.* Гартны.

**БРА́ЦЬ НА СЯБЕ́** *што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. **1**. Згаджацца быць адказным за што-н. *[Бажашуткава:] Народ трэба арганізаваць, Якаў Фаміч. Арганізаваць і пераканаць. Я ж вам сказала: народ я бяру на сябе.* Матукоўскі. *Спатканне з Курачкам [Скашынскі] браў на сябе, а гутарку з Казікам меркаваў даручыць сястры.* Чарнышэвіч. **УЗЯЦЬ НА СЯБЕ** *што. Зак. І Сотнікаў проста і лёгка.. прыняў апошняе цяпер рашэнне: узяць усё на сябе.* Быкаў.

**2**. Рабіць што-н. непасрэдна самому. *Увесь час пракладаючы лыжню, камандзір браў на сябе найбольшую ў гэтым шляху нагрузку і недзе каля поўначы адчуў, што стаў выдыхацца.* Быкаў. **УЗЯЦЬ НА СЯБЕ** *што. Зак. Табе і самой цяжка, а ты лішні цяжар хочаш узяць на сябе.* Крапіва. *Самае цяжкае для перасяленца — перавезці і паставіць хату на новым селішчы. І гэтую цяжкасць калгас поўнасцю ўзяў на сябе.* Палтаран.

**БРА́ЦЬ НА ЎЗБРАЕ́ННЕ** *што. Незак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дзейсна выкарыстоўваць, прымяняць у сваёй практыцы, дзейнасці. *Зямля шчодра адорвае тых, хто працуе творча, мэтанакіравана, хто бярэ на ўзбраенне сучасную навуку, разумна выкарыстоўвае тэхніку.* «Звязда». **УЗЯЦЬ НА ЎЗБРАЕННЕ** *што. Зак. Каб вучні засвоілі тое ці іншае паняцце і ўзялі яго на ўзбраенне, урок павінен быць эмацыянальным, цікавым.* «Настаўн. газ.»

**БРА́ЦЬ НА ЎСЕ ЖЫЛЫ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рабіць што-н. з гранічным напружаннем. *Ужо відаць было, як задняя постаць, прыпадаючы на адну нагу, бярэ на ўсе жылы.* Крапіва. *Круцімся... Генеральны план, Паркавая магістраль, вуліца Пуліхава... Пакуль што грандыёзна выходзіць! Бяру на ўсе жылы, як той казаў.* Карпаў. **УЗЯЦЬ НА ЎСЕ ЖЫЛЫ**. *Зак.*

**БРА́ЦЬ НА ЦУГУ́НДАР** *каго. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прыцягваць да адказнасці, караць каго-н., распраўляцца з кім-н. **Сін.**: браць за каўнер *каго*; браць за шкірку *каго. — І ў рэвалюцыі прымалі ўдзел?.. А што вы рабілі? — Царскіх афіцэраў браў на цугундар...* Гурскі. **УЗЯЦЬ НА ЦУГУНДАР** *каго. Зак. А ўрэшце чорт яго ведае: можа, падгледзелі, як я з Янкам прыбіваў да крыжа пракламацыю? Не, тады і Янку ўзялі б на цугунд[а]р.* Колас. *У анкеце ўжо не напішаш, што ў палоне і акружэнні не быў. Цяпер чортаў знак. Ды яшчэ асобы аддзел на цугундар возьме. Разумееш?* Быкаў.

**БРА́ЦЬ НА ЯЗЫ́К (-І́)** *каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рабіць каго-н. аб'ектам размоў, насмешкі; асуджаць чые-н. недахопы. **Сін.**: падхопліваць на языкі *каго, што*; падымаць на языкі *каго, што. Божанька, колькі клапот! А тут старайся, каб цябе на языкі не бралі.* Бядуля. **УЗЯЦЬ НА ЯЗЫК (-І)** *каго. Зак. А хто ж ідзе з пустымі рукамі?.. А людзям толькі б узяць на язык...* Місько.

**<БРА́ЦЬ> НО́ГІ ЗА ПО́ЯС.** *Незак. Акал. Разм. Жарт.* Ужыв. перад вык. са знач. хуткага руху. Як можна хутчэй (бегчы, уцякаць і пад.). **Сін.**: <браць> ногі на плечы і...; <браць> ногі ў рукі і... **<УЗЯЦЬ> НОГІ ЗА ПОЯС.** *Зак. Слухай маю каманду. Убачыш ворага — чашы за трэцюю гару, там бахні раз пану богу па вокнах і — далей, ногі ўзяўшы за пояс, да самых казармаў.* Брыль.

**<БРА́ЦЬ> НО́ГІ НА ПЛЕ́ЧЫ І...** *Незак. Акал. Разм. Жарт.* Ужыв. перад вык. са знач. хуткага руху. Як можна хутчэй (бегчы, уцякаць і пад.). **Сін.**: <браць> ногі за пояс; <браць> ногі ў рукі і... *Алег Барысавіч! Давайце каманду: у паход! Ногі на плечы...* Шамякін. **<УЗЯЦЬ> НОГІ НА ПЛЕЧЫ І...** *Зак. — Праўду сказаў — ваўкі ў логаве... — Чаму ж ты тады ногі на плечы ды наўцёкі? Ваўкоў спужаўся?* І. Капыловіч.

**<БРА́ЦЬ> НО́ГІ Ў РУ́КІ І...** *Незак. Акал. Разм. Жарт.* Ужыв. перад вык. са знач. хуткага руху. Як можна хутчэй (бегчы, уцякаць і пад.). **Сін.**: <браць> ногі за пояс; <браць> ногі на плечы і... *Бярыце ногі ў рукі і бяжыце на пошту.* Корбан. *Слухай мяне ўважліва... бяры ногі ў рукі і бяжы адсюль. Чым хутчэй, тым лепш.* Марчук. **<УЗЯЦЬ> НОГІ Ў РУКІ І...** *Зак. Сустрэўся мне Шмацін толькі што. Стаў і глядзіць на пакунак мой. А вочы у яго, знаеш, рэнтген, праз упакоўку ўсё бачыць... Эх, я ногі ў рукі і ходу.* Масарэнка.

**БРА́ЦЬ ПАД АБСТРЭ́Л** *каго, што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Рэзка крытыкаваць. **Сін.**: браць у абарот *каго* (у 2 знач.); браць у пераплёт *каго* (у 2 знач.); браць у работу *каго* (у 2 знач.); браць у шоры *каго* (у 2 знач.); выганяць матыліцу *з каго*; выціскаць пот *з каго* (у 2 знач.); даваць гарту *каму* (у 1 знач.); даваць гонку *каму*; даваць дыхту *каму* (у 1 знач.); даваць жару *каму* (у 1 знач.); даваць перцу *каму* (у 1 знач.); даваць піць *каму*, даваць прыкурыць *каму* (у 1 знач.); даваць пытлю *каму* (у 1 знач.); даваць у косці *каму* (у 1 знач.); даваць чапаласу *каму* (у 1 знач.); даваць чосу *каму* (у 1 знач.); задаваць пары *каму*; здымаць стружку *з каго*; мыліць галаву *каму*; мыліць шыю *каму* (у 2 знач.); накруціць хвост *каму*; паддаваць жару *каму* (у 1 знач.); прадзіраць з пясочкам *каго*; спусціць скуру *з каго* (у 2 знач.); усыпаць перцу *каму*. **УЗЯЦЬ ПАД АБСТРЭЛ** *каго, што. Зак. Пад абстрэл яна [Бараноўская] узяла нейкага цяплічніка, які прадае на рынку агуркі па 5 рублёў за кілаграм і атрымлівае нібыта непрацоўны прыбытак.* «Звязда».

**БРА́ЦЬ ПАД КАЗЫРО́К.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вітаць каго-н. па-ваеннаму, прыклаўшы руку да галаўнога ўбору. **Сін.**: аддаваць чэсць *каму. [Рускія афіцэры] аддавалі чэсць нямецкім афіцэрам, якія ў сваю чаргу пагардліва бралі пад казырок.* Гурскі. **УЗЯЦЬ ПАД КАЗЫРОК.** *Зак. Ураднік паздароўкаўся, нават узяў пад казырок, і паціснуў прыяцелям рукі.* Колас.

**БРА́ЦЬ ПАД КРЫЛО́** *каго, што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Акружаць увагай, клопатамі, заступацца за каго-, што-н. **УЗЯЦЬ ПАД КРЫЛО** *каго, што. Зак. А кожнаму дагадзіць.. было цяжка: аднаго возьмеш пад крыло — другі касавурыцца.* Карамазаў. *Услед за зяцем пад бацькоўскае крыло Дзенісоўскі ўзяў дачку Наталлю.* «Звязда».

**БРА́ЦЬ ПРЫ́КЛАД** *з каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пераймаць у каго-н. што-н. *Сяргей злавіў сябе на думцы, што і ён хоча браць прыклад з*

*Фрунзе, а таму яму ўсё так дорага напісанае пра яго.* Гурскі. *Вунь з Валодзі Шапялёва бярыце прыклад: не толькі добра вучыцца, але і грошы бацькам памагае зарабляць.* Рубанаў. **УЗЯЦЬ ПРЫКЛАД** *з каго. Зак.*

**БРА́ЦЬ (ПРЫМА́ЦЬ) <БЛІ́ЗКА> ДА СЭ́РЦА (ДА ДУШЫ́)** <*што*>. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Уразліва, з павышанай пачуццёвасцю ўспрымаць што-н., моцна перажываць. **Сін.**: балець душой *за каго, за што, па кім, па чым*; браць да галавы <*што*>; браць <сабе> у галаву <*што*>. *— Ні пра што такое мы не гаварылі! — пачаў Іван, адчуваючы, што яна [Нона] усё роўна яму не верыць. — І ты не бяры так блізка да сэрца, не перажывай.* Кудравец. *Дырэктар зірнуў у акно, убачыў, што ўсе мінаюць двор, сеў на крэсла насупраць і, нібы просячы прабачэння, ціха загаварыў: — Не прымайце толькі ўсё да сэрца.* Грахоўскі. **УЗЯЦЬ (ПРЫНЯЦЬ) <БЛІЗКА> ДА СЭРЦА (ДА ДУШЫ)** <*што*>. *Зак. Ігнат Макаравіч.. нават расчаравана падумаў, што сын не надта прыняў да сэрца вестку аб пагрозе дубам, а проста, па маладосці, сказаў гарачыя словы.* Шамякін. *І нічога благога, што б ні казалі [Сяргею] пра яе, Валю, Ніна Вітальеўна і Віктар Іванавіч, не ўзяў ён да душы.* Ярашэвіч.

**2**. Шчыра, зацікаўлена ставіцца да чаго-н. **УЗЯЦЬ (ПРЫНЯЦЬ) <БЛІЗКА> ДА СЭРЦА (ДА ДУШЫ)** <*што*>. *Зак. — А мы гэта зробім працей і скарэй, — сказаў Міхась Барута. Ён таксама блізка да сэрца прыняў гэтую справу і дапамагаў сыну.* Колас.

**БРА́ЦЬ (ПРЫМА́ЦЬ) ГРЭ́Х НА <СВАЮ́> ДУШУ́**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паступаючыся сваім сумленнем, пераканannем, рабіць які-н. заганны ўчынак. *Беручы на сваю душу грэх, некаторыя трактарысты Верамееўскай МТС аралі не на тую глыбіню, што трэба.* Сабаленка. *— Браточкі, злітуйцеся, не сіраціце дзетак! — Граху на душу не бярыце.* Грахоўскі. *А цяпер я з табою і гаварыць не хачу. Граху на душу прымаць цераз цябе не хачу.* Галавач. **УЗЯЦЬ (ПРЫНЯЦЬ) ГРЭХ НА <СВАЮ> ДУШУ**. *Зак. «Слава богу, не давялося ўзяць грэх на душу», — задаволена падумаў Рыбак.* Быкаў.

**БРА́ЦЬ (ПРЫМА́ЦЬ) РУ́КУ** *каго, чыю. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Станавіцца прыхільнікам каго-н., падтрымліваючы яго. **УЗЯЦЬ (ПРЫНЯЦЬ) РУКУ** *каго, чыю. Зак. Між Апанасам і Аленаю завязалася спорка. Хлопцы і дзяўчаты ўзялі руку Алены. — Ну, Алена, не паддавайся Апанасу.* Колас. *Селівончык маўчаў, не ведаючы, чыю руку ўзяць, — пазіраў то на Сымоніху, то на Філезу.* Гардзей. *І гэты пагляд цвёрда, стала запаў у мыслі дзецюку. Цяпер ён ведаў, дзе навала, чыю прыняць яму руку.* Колас.

**БРА́ЦЬ РО́Т НА ЗАМО́К**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нічога не гаварыць, маўчаць. **Сін.**: і пары з рота не пусціць; прытрымліваць язык; трымаць пры сабе *што*; трымаць язык за зубамі; трымаць язык на замку; трымаць язык на прывязі. *А ўжо ён [каваль] там, дзе постаць займае жніўны серп, дзе да ракі наўпроста каса свой цешыць сверб... Тады трымайся ціха, рот на замок бяры, адно што толькі дыхай да нейкае пары.* Зуёнак. **УЗЯЦЬ РОТ НА ЗАМОК**. *Зак. Нават гаваркі Грыцько Мусіенка, які спачатку ўлучыў на хаду шапнуць што-кольвек Мечыку, пасля таго, як на іх два разы пагрозліва азірнуўся Кук'ян, мусіў узяць рот на замок.* Кірылаў. *— Скажыце, калі ласка, — па-змоўніцку загаварыў Патоліч, — два словы землякам, а мы рот на замок. Колькі тон канцэнтратаў з дзесяці тысяч размеркавалі на наш раён?* Супрунчук.

**БРА́ЦЬ <САБЕ́> У ГАЛАВУ́** <*што*>. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Многа думаць пра што-н., непакоячыся і хвалюючыся. **Сін.**: балець душой *за каго, за што, па кім, па чым*; браць <блізка> да сэрца <*што*> (у 1 знач.); браць да галавы

<*што*>. — *Дык я ж больш забыўся, як вы... — А трэба не забывацца... Не забывайся, а яшчэ больш у галаву бяры.* Калюга. **УЗЯЦЬ <САБЕ> У ГАЛАВУ** <*што*>. *Зак. Гэта вы толькі ўзялі сабе ў галаву. Проста вам адпачыць трэба.* Чыгрынаў. *А праз некалькі месяцаў Ганны не стала: узяла сабе ў галаву смерць дзяцей, уся ссохла, змарнела, толькі вочы свяціліся.* Дайнека.

**БРА́ЦЬ <СВАЁ> ВО́ЧЫ Ў ЖМЕ́НЮ (У РУ́КІ).** *Незак.* Часта ўжыв. у заг. форме *вазьмі вочы ў жменю (у рукі). Разм. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Уважліва, пільна глядзець, углядацца. **Сін.**: разуй вочы. *[Адзінота:] Хочаш абуджу [Пацука]?.. Ката паклічу. [Гапцуль:] Дурныя твае жарты. [Адзінота:] А вось глянь... Бяры вочы у жменю... Пацук, хавайся, Андрэй з нажом ідзе!* Галубок. — *Не мог Апаровіч збіць таго чалавека. — Апаровіч — гэта машыніст? — Ён... — А завіруха? — То-та ж, што завіруха! У такую пагоду Апаровіч вочы ў рукі бярэ. Кажу табе, нікога на пераездзе не было!* Шыцік. **УЗЯЦЬ <СВАЕ> ВОЧЫ Ў ЖМЕНЮ (У РУКІ).** *Зак. — Але нешта як накульгвае [конь], ці што?.. — Дзе? Што ты выдумаў?.. — А во, прыгледзься. — А то я не бачу, гэта ты свае вочы ў жменю вазьмі!..* Адамчык. — *Пачакай, у мяне ж было пяць білетаў! А тут толькі чатыры... — Сляпая курыца, — кажа Мікола. — Вазьмі вочы ў рукі і пашукай...* Васілёнак.

**БРА́ЦЬ <СВАЁ> СЛО́ВЫ (СЛО́ВА) НАЗА́Д.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Адмаўляцца ад дадзенага абяцання. *[Мікола:] Можа, каешся ўжо, што слова дала? [Насця:] Слова назад я не бяру, але хачу больш прыглядзецца да цябе...* Крапіва. *[Арцём:] Яна [Марыська] як пакахае, то ні вір не страшны ёй, ні жвір, ні манастыр... [Каліноўскі:] А пра мяне спытае, скажы — я слова не бяру назад!* Куляшоў. **УЗЯЦЬ <СВАЕ> СЛОВЫ (СЛОВА) НАЗАД.** *Зак.*

2. Адмаўляцца ад сказанага. **Сін.**: вярнуць назад <свае> словы. *Ці не дужа рана вы адмаўляецеся ад панства? Глядзіце, каб не давялося браць слова назад?* Губарэвіч. **УЗЯЦЬ <СВАЕ> СЛОВЫ (СЛОВА) НАЗАД.** *Зак. [Карнілаў:] Вы яшчэ возьмеце свае словы назад, пан Бонч-Бруевіч! Толькі баюся, што позна будзе!* Губарэвіч.

**БРА́ЦЬ СВАЁ.** *Незак. Функц. не зам.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дабівацца жаданага, не адступаючы ад пастаўленай мэты. **УЗЯЦЬ СВАЁ.** *Зак. — Не плач, Алена, яшчэ мы сваё возьмем! — крычаў на ўвесь лес Сцяпан.* Пестрак. *Лешак узяў бы сваё... Здаецца ж, быў такі намер: пакахаць няўдаліцу Яню, дачку Струмілоўскіх? Яшчэ гектараў з пяцьдзесят...* Брыль.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Аказваць сваё звычайнае ўздзеянне на каго-н. Пра стан, пачуцці і лад. **Сін.**: давацца ў знакі *каму*; даваць аб сабе знаць (у 2 знач.); даваць сябе знаць; уядацца ў косці *каму* (у 1 знач.); уядацца ў пячонкі каму. *Змора брала сваё, і лейтэнант усе часцей стаў заўважаць, што позірк яго ўпарта хіліцца ўніз.* Быкаў. *Незразумела толькі, чаму Глуздакоў даражыць гэтымі крэсламі: ці то ад беражлівасці, ці то душэўная прыхільнасць і прывычка да гэтай мэблі бяруць сваё.* Макаёнак. **УЗЯЦЬ СВАЁ.** *Зак. На раніцы капец быў мукам... Смерць узяла сваё.* Галубок.

**3**. Ужыв. пры дзейн. са знач. неадуш. прадмета. Выяўляць сябе ва ўсёй паўнаце. *Прырода таксама брала сваё.* Карпюк. **УЗЯЦЬ СВАЁ.** *Зак. [Даніла] пачаў даводзіць, што.. восень яшчэ не так моцна ўзяла сваё і замаразкі бываюць усяго ўначы і што трубы аніяк замярзаць не могуць.* Шынклер. *На ўсход не вельмі зірнеш — сонца ўзяло сваё!* Брыль.

**БРА́ЦЬ СЛО́ВА.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выступаць па сваёй ініцыятыве (на сходзе, мітынгу і пад.). *Пасля.. выступаюць Айзберг і Врон. Пасля іх бярэ слова Крамарчык.* Самуйлёнак. **УЗЯЦЬ СЛОВА.** *Зак. Я запрашаю вас, грамадзяне прадстаўнікі воласці, узяць слова і выказаць сваю разумную думку.* Лобан.

**БРА́ЦЬ СЛО́ВА** *з каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дамагацца ад каго-н. абяцання выканаць што-н. **УЗЯЦЬ СЛОВА** *з каго. Зак. [Маці] узяла з мяне слова, што я не буду ўваходзіць надта ў палітыку, бо не хоча, каб ты асталася без догляду...* Мурашка. *[Гарлахвацкі:] Я думаю, што мы будзем велікадушнымі і даруем яму на гэты раз, узяўшы слова, што больш нічога падобнага ён сабе не дазволіць.* Крапіва.

**БРА́ЦЬ СЯБЕ́ Ў РУ́КІ**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** Супакойваючыся, дабівацца поўнага самавалодання. **Сін.**: авалодваць сабой; саўладаць з сабой. *У вачах у Івана Дзямковіча на імгненне ўспыхваюць гнеўныя агеньчыкі, але ён тут жа бярэ сябе ў рукі і пачынае расказваць пра справу ў сваёй брыгадзе.* Палтаран. **УЗЯЦЬ СЯБЕ Ў РУКІ**. *Зак. Кінь, не думай ні пра што, давай жыць будзем, як людзі жывуць... Вазьмі сябе ў рукі, не злуй, не муч сябе і мяне ліха ведае якімі думкамі, словамі...* Чорны.

**2.** Станавіцца больш сабраным, валявым, дзейным. **УЗЯЦЬ СЯБЕ Ў РУКІ**. *Зак. Думаю пераводзіцца ў другое месца і ўзяць сябе ў рукі, а то гэтыя зборышчы, гарэлка, карты і ўся местачковая брыдота зацягнуць зусім.* Колас. *Падцягнуцца трэба, Надзя, у рукі сябе ўзяць, на свет глядзець весялей. А то гляджу на цябе, а ты на жураўліну стала падобна, такая кіслая!* Лынькоў.

**БРА́ЦЬ У АБАРО́Т** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** Рашуча ўздзейнічаць на каго-н., прымушаючы паступаць пэўным чынам. **Сін.**: браць у пераплёт *каго* (у 1 знач.); браць у работу *каго* (у 1 знач.); браць у шоры *каго* (у 1 знач.). *[Стары рабочы:] Абмішуліўся я, гэта праўда. Ну, яна [Насця] далікатна, але, бачу, бярэ мяне ў абарот. Я і не залюбіў быў тады: яйцо курыцу вучыць.* Крапіва. **УЗЯЦЬ У АБАРОТ** *каго. Зак. — Учора зноў аварыя ў стрыжневым. Наладзіць не можам! — каб паказаць Аляксееву на яго месца, паспрабаваў узяць механіка ў абарот Кашын.* Карпаў.

**2.** Лаяцца, прабіраць за што-н. **Сін.**: браць пад абстрэл *каго, што*; браць у пераплёт *каго* (у 2 знач.); браць у работу *каго* (у 2 знач.); браць у шоры *каго* (у 2 знач.); выганяць матыліцу *з каго*; выціскаць пот *з каго* (у 2 знач.); даваць гарту *каму* (у 1 знач.); даваць гонку *каму*; даваць дыхту *каму* (у 1 знач.); даваць жару *каму* (у 1 знач.); даваць перцу *каму* (у 1 знач.); даваць піць *каму*; даваць прыкурыць *каму* (у 1 знач.); даваць пытлю *каму (у* 1 знач.); даваць у косці *каму* (у 1 знач.); даваць чапаласу *каму* (у 1 знач.); даваць чосу *каму* (у 1 знач.); задаваць пары *каму*; здымаць стружку *з каго*; мыліць галаву *каму*; мыліць шыю *каму* (у 2 знач.); накруціць хвост *каму*; паддаваць жару *каму* (у 1 знач.); прадзіраць з пясочкам *каго*; спусціць скуру *з каго* (у 2 знач.); усыпаць перцу *каму. [Арыштаваныя] і разглядзецца не паспелі, бяруць іх тут жа ў абарот. Колас.* **УЗЯЦЬ У АБАРОТ** *каго. Зак. Падбягае майстра, тузануў за ручку, спыніў станок і ўзяў мяне ў абарот: — Эх ты, галава! Якім канцом ты разец уставіў?!* Стадольнік. *Як на тое ліха, рабочыя былі, бачылі і чулі ўсе гэта. Узялі Стэфана ў абарот.* Прокша.

**БРА́ЦЬ У ГУБУ́**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Піць спіртное. **Сін.**: бачыць шклянога бога; вадзіць казу; глядзець у бутэльку; закідаць за гальштук; закідваць за каўнер; закладваць за каўнер; залІваць вочы <*чым*> (у 1 знач.); заліваць за каўнер; заліваць чарвяка; наліць горла; мокнуць у гарэлцы; наступіць на корак; не прасыхаць; панюхаць корак; прамачыць горла. **Ант.**: не браць у рот *што, чаго* (у 2 знач.). *[Кажамяка:] Порхаўку трэба так страсянуць, каб выбіць з яго гультая. Дый Порхаўка залішне бярэ ў губу.* Гурскі. *Набулькаў мне яшчэ сто грамаў. Пі, манцёр. А я толькі — круць галавою: што, што вы, я і ў губу не бяру.* Наўроцкі. **УЗЯЦЬ У ГУБУ**. *Зак. А цверазеў дзед — і каяўся, кляў сам сябе: — Каб ты ўжо смалы напіўся... Калі яшчэ*

*раз пагляджу на гэтую гару, калі хоць раз вазьму ў губу...* Арабей. *А вось з тымі, хто любіў узяць у губу ці паспаць у цяньку, у яго была свая размова, кунцэвіцкая.* Кажадуб.

**БРА́ЦЬ У ПАЛО́Н** *каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Прывабліваючы, падпарадкоўваць свайму ўплыву, зачароўваць. *Чытача адразу бярэ ў палон шчырасць інтанацыі, глыбокі роздум паэта, улюбёнага ў жыццё.* Шкраба. **УЗЯЦЬ У ПАЛОН** *каго. Зак. [Дубоўка] выступаў з невялічкай паэмай «Студэнт». Узяў у палон нязвыклай шчырасцю інтанацыі, ледзь прыкметным грасіраваннем, да таго ж чытаў на памяць, без паперак...* Лужанін.

**БРА́ЦЬ У ПЕРАПЛЁТ** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Рашуча ўздзейнічаць на каго-н., прымушаючы паступаць пэўным чынам. **Сін**.: браць у абарот *каго* (у 1 знач.); браць у работу *каго* (у 1 знач.); браць у шоры *каго* (у 1 знач.). **УЗЯЦЬ У ПЕРАПЛЁТ** *каго. Зак. [Нодэльман:] Ты сваю дружбу ўсё-такі памацай. Можа, ад яе толькі футляр застаўся? [Карнейчык:] Вось і пагавары з ім! [Насця:] Узяў ён нас у пераплёт.* Крапіва. *Няхай Комлік — майстар сваёй справы, але няма незаменных! І калі ўзяць яго ў пераплёт, з трэскам выгнаць з цэха, астатнія будуць шаўковыя — вунь з кім не палічыліся, з Комлікам!* Карпаў.

**2**. Лаяць, крытыкаваць за што-н. **Сін**.: браць пад абстрэл *каго* (у 2 знач.); браць у абарот *каго* (у 2 знач.); браць у работу *каго* (у 2 знач.); браць у шоры *каго* (у 2 знач.); выганяць матыліцу *з каго*; выціскаць пот з *каго* (у 2 знач.); даваць гарту *каму* (у 1 знач.); даваць гонку *каму*; даваць дыхту *каму* (у 1 знач.); даваць жару *каму* (у 1 знач.); даваць перцу *каму* (у 1 знач.); даваць **піць** ***каму*****; даваць прыкурыць** *каму* (у 1 знач.); даваць пытлю *каму* (у 1 знач.); даваць **у косці** ***каму*** (у 1 знач.); даваць чапаласу *каму* (у 1 знач.); даваць чосу *каму* (у 1 знач.); **задаваць** пары *каму*; здымаць стружку *з каго*; мыліць галаву *каму*; мыліць шыю ***каму*** (у 2 знач.); накруціць хвост *каму*; паддаваць жару *каму* (у 1 знач.); прадзіраць з пясочкам ***каго***; спусціць скуру *з каго* (у 2 знач.); усыпаць перцу *каму*. **УЗЯЦЬ У ПЕРАПЛЁТ** *каго. Зак. Толькі сунуўся гэты самы Цёрты Калач да свайго Мадэста Сідаравіча, а Мадэст Сідаравіч узяў яго ў пераплёт: «Ах ты, сякі ды такі!.. Ніякага парадку на кухні і ў абедзенных залах...»* Аношкін.

**БРА́ЦЬ У РАБО́ТУ** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Рашуча ўздзейнічаць на каго-н., прымушаючы паступаць пэўным чынам. **Сін**.: браць у абарот *каго* (у 1 знач.); браць у пераплёт *каго* (у 1 знач.); браць у шоры *каго* (у 1 знач.). *[Стары рабочы:] А цяпер скажу: і заўсёды так рабі! Не глядзі, што стары гневаецца. Дрэнна робіць, дык і бяры ў работу. Ён яшчэ больш любіць цябе будзе за гэта.* Крапіва. **УЗЯЦЬ У РАБОТУ** *каго. Зак. Чаго ж маўчыце? Вялікая дарога? Ужо моташна стала? Можа, закульгала каторая? Яшчэ не? Гаварыце, заяўляйце, пакуль тут сама таварыш Сарока. Бо далей я вас у работу вазьму.* Лобан.

**2**. Прабіраць, крытыкаваць за што-н. **Сін**.: браць пад абстрэл *каго, што*; браць у абарот *каго* (у 2 знач.); браць у пераплёт *каго* (у 2 знач.); браць у шоры *каго* (у 2 знач.); выганяць матыліцу *з каго*; выціскаць пот *з каго* (у 2 знач.); даваць гарту *каму* (у 1 знач.); даваць гонку *каму*; даваць дыхту *каму* (у 1 знач.); даваць жару *каму* (у 1 знач.); даваць перцу *каму* (у 1 знач.); даваць піць *каму*; даваць прыкурыць *каму* (у 1 знач.); даваць пытлю *каму* <у 1 знач.); даваць у косці *каму* (у 1 знач.); даваць чапаласу *каму* (у 1 знач.); даваць чосу *каму* (у 1 знач.); задаваць пары *каму*; здымаць стружку з *каго*; мыліць галаву *каму*; мыліць шыю *каму* (у 2 знач.); накруціць хвост *каму*; паддаваць жару *каму* (у 1 знач.); прадзіраць з пасочкам *каго*; спусціць скуру *з каго* (у 2 знач.); усыпаць перцу *каму*. *[Вера Паўлаўна:] Колькі разоў мы яго бралі ў работу. Кляўся, што больш на*

*гарэлку і глядзець не будзе.* Крапіва. **УЗЯЦЬ У РАБОТУ** *каго. Зак. Пра райвыканкомаўца пасля было ў газетах. Узялі яго пасля ў работу.* Чорны.

**БРА́ЦЬ У <СВАЕ́> РУ́КІ.** *Незак. Функц. не зам.* **1.** *каго.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Падпарадкоўваць каго-н. сваёй волі, прымушаць быць паслухмяным, аказваць уплыў на каго-н. **Сін.**: браць верх (у 1 знач.); віць вяроўкі *з каго*; выкручваць сырыцу *з каго*; ездзіць вярхом *на кім*; ездзіць на карку *чыім*; запрагаць у аглоблі *каго*; надзяваць аброць *на каго, на што*; надзяваць хамут *на каго*; надзяваць ярмо на шыю *каму, каго*; падмінаць пад сябе *што, каго*; прыбіраць да рук (у 1 знач.); садзіцца на галаву *каму*; садзіцца на карак *каму, чый, каго* (у 1 знач.); сціскаць у кулак *каго*; убіраць у <свае> рукі (у 1 знач.). *«Ну і хітрая! — здзіўляўся ён [Павел], слухаючы яе [Таццяны Сяргееўны] спеставаныя размовы ды бачачы, як яна заляцаецца. — Хочаш не хочаш, а проста на вачах бярэ ў рукі...»* Далідовіч. **УЗЯЦЬ У <СВАЕ> РУКІ**. *Зак. — Не было такой жанчыны, якая ўзяла б мяне ў свае рукі. — А вы хацелі б гэтага? — Гм... Гледзячы, вядома, у чыіх руках быць. — Я пастараюся ўзяць вас у свае рукі, — жартуючы адказала Аксана, зразумеўшы прафесаравы словы, як жарт.* Галавач. *Таму я прыйшла менавіта да вас, Іван Мікалаевіч. І як да старшыні сельсавета, і як да старэйшага Косцікавага брата. Вазьміце ў рукі Косціка, інакш...* Сачанка.

**2.** *што.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Прымаць на сябе кіраванне чым-н. **Сін.**: браць лейцы ў <свае> рукі. **Ант.**: выпускаць з <сваіх> рук; выпускаць лейцы з <сваіх> рук. *Якое ж яно,гэтае трэцяе пакаленне камунараў, якое бярэ ў свае рукі вялікую справу бацькоў і дзядоў?* Палтаран. **УЗЯЦЬ У <СВАЕ> РУКІ**. *Зак. [Зубрыч] непрыкметна ўзяў кіраўніцтва сходам у свае рукі, аб'явіў, што слова мае старшыня камісіі па землеўпарадкаванню Дзяцел Міканор.* Мележ.

**3.** *што.* Ужыв. пры дзейн. са знач. сукупнасці асоб ці абстр. прадмета. Сілай авалодваць чым-н. (часцей пра ўладу). **Сін.**: залазіць у кішэнь *чыю, каго*; запускаць ляшча; запускаць руку *ў што, куды*; класці ў <сваю> кішэнь *што*; накладваць лапу (у 1 знач.); прыбіраць да рук (у 2 знач.); убіраць у <свае> рукі (у 2 знач.). **УЗЯЦЬ У <СВАЕ> РУКІ**. *Зак. Рабочых грамады ў свае возьмуць рукі заводы і фабрыкі, шахты і домны...* Купала. *Казаў Арон, што ад іх немцы таксама ўжо выходзяць і ўжо ён прыехаў на Варонюю прасіць інструкцый: ці абвясціць сябе ўладаю і ўсё ўзяць у свае рукі, ці пачакаць да прыходу Чырвонай Арміі.* Гарэцкі.

**БРА́ЦЬ УЦЯ́М** *што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Разумець, усведамляць што-н. **Сін.**: браць на розум *што*; узяць <сабе> у толк *што.* **УЗЯЦЬ УЦЯМ** *што. Зак. — Аднаго не вазьму ўцям: на якую трасцу спатрэбілася заварваць гэту кашу, на вясну гледзячы? — нібы прачытаў яго думкі Кунцэвіч.* Блакіт. *Я вось сяджу, думаю — і ніяк не магу ўзяць уцям, што вы з ім не падзялілі?* «Маладосць».

**БРА́ЦЬ У ШО́РЫ** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** Рашуча ўздзейнічаць на каго-н., прымушаючы паступаць пэўным чынам. **Сін.**: браць у абарот *каго* (у 1 знач.); браць у пераплёт *каго* (у 1 знач.); браць у работу *каго* (у 1 знач.). **УЗЯЦЬ У ШОРЫ** *каго. Зак. Ларыса і не агледзелася, як вылажыла ўсё чыста Ваню. І ён неўзаметку падказаў, як упраўіцца з садам і агародам, як тых неслухаў у шоры узяць.* Лужанін. *Старэйшы хлопец ужо ў армію пайшоў... Там яго добра возьмуць у шоры. Зробяць з хлопца чалавека...* Васілевіч.

**2.** Прабіраць, крытыкаваць за што-н. **Сін.**: браць пад абстрэл *каго, што*; браць у абарот *каго* (у 2 знач.); браць у пераплёт *каго* (у 2 знач.); браць у работу *каго* (у 2 знач.); выганяць матыліцу *з каго*; выціскаць пот *з каго* (у 2 знач.); даваць гарту *каму* (у 1 знач.); даваць гонку *каму*; даваць дыхту *каму* (у 1 знач.); даваць жару *каму* (у 1 знач.);

даваць перцу *каму* (у 1 знач.); даваць піць *каму*; даваць прыкурыць *каму* (у 1 знач.); даваць пытлю *каму* (у 1 знач.); даваць у косці *каму* (у 1 знач.); даваць чапаласу *каму* (у 1 знач.); даваць чосу *каму* (у 1 знач.); задаваць пары *каму*; здымаць стружку *з каго*; мыліць галаву *каму*; мыліць шыю *каму* (у 2 знач.); накруціць хвост каму; паддаваць жару *каму* (у 1 знач.); прадзіраць з пясочкам *каго*; спусціць скуру *з каго* (у 2 знач.); усыпаць перцу *каму*. **УЗЯЦЬ У ШОРЫ** *каго. Зак. Стары ўжо, але як узяў мяне ў шоры, дык ледзь адчапіўся я ад яго.* Лынькоў. *З Аслом не абышліся крута, яму для формы накруцілі хвост і даручылі новы пост: «Кіруй, брат, інстытутам!» І тут Асёл закіраваў так, што праз год каторы ізноў яго ўзялі ў шоры, бо ў інстытуце дроў ён наламаў...* Э.Валасевіч.

**БРА́ЦЬ У ШУ́Х**. *Незак. Абл. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Трывожыцца, непакоіцца. *— Ат, — з'явілася раптам Матыльда, — што тутака лішне браць у шух. Калі ўжо на тое пайшло, дык тут жа нельга сказаць у адкрытую.* Чорны. **УЗЯЦЬ У ШУХ**. *Зак. Чыталі мы газету.., дык там пра цябе чыталі, што ты нібыта там нейкі сход хацеў раскідаць і шкодную рэзалюцыю прапанаваў. Тут усе ўжо ўзялі ў шух вельмі. Я то не веру, што гэта было так, як надрукавана, але, прызнацца, адразу як прачытаў, дык жахнуўся.* «Полымя».

**БРА́ЦЬ (ХАПА́ЦЬ) БО́ГА ЗА БАРАДУ́**. *Незак. Разм. Часта іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дасягаць вяршынь беззаганнасці, бездакорнасці. **УЗЯЦЬ (СХАПІЦЬ, УХАПІЦЬ) БОГА ЗА БАРАДУ**. *Зак. [Казік:] Трэба было і з фермы звальняць [мяне], дык ён злітаваўся. Пашкадаваў... Не шкадуй... Глядзі, як сам адсюль уцякаць будзеш з торбачкай. Не думай, што ўзяў бога за бараду...* Дайліда. *І зноў не памагала — ці то па сваёй прасцякаватай наіўнасці [Андрэй] не разумеў, ці то разумець не хацеў, палічыўшы, што ўжо схапіў бога за бараду...* Блакіт. *На лятучках мы перасталі гаварыць пра якасць, бо на рабочых месцах якасць забяспечваецца з высокай адказнасцю... Вядома, гэта не значыць, што мы ўжо ўхапілі бога за бараду і можам спачываць на лаўрах.* «Вожык». *— Мы з табой закончылі тэатральна-мастацкі інстытут, дык, думаеш, прафесію атрымалі? — раптам гаворыць Сяргей з усмешкаю чалавека, які нарэшце ўзяў бога за бараду.* Гарэлікава.

**БРА́ЦЬ (ХАПА́ЦЬ) ЗА ГО́РЛА** *каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Сілай прымушаць да чаго-н. **Сін.**: браць за жабры *каго*; браць за шчалепы *каго*; наступаць на горла *каму, чаму*; станавіцца на горла *каму*. *[Карнейчык:] Кажы дакладней: кулакоў жывых мы бяром за горла.* Крапіва. *Гарлахвацкі не з тых, хто будзе ціха сядзець на чужым месцы. Ён каго толькі можа, хапае за горла.* «Полымя». **УЗЯЦЬ (СХАПІЦЬ) ЗА ГОРЛА** *каго. Зак. Усім цяжка цяпер, Дзяніс. Але неяк адужаем. Не можа быць, каб не адужалі. Прыйдзе час, возьмем фашыста за горла.* Чыгрынаў. *Калі не будзеш працаваць, голад за горла схопіць.* Галавач. *А доўг [Васька] не аддае, адгаворваецца, што ніяк не можа сабраць, што не кожны «чаўнок» удалы, на некаторых паездках гарыш. Узяць яго за горла: гані доўг!* Шамякін.

**БРА́ЦЬ (ХАПА́ЦЬ) ЗА ДУШУ́ (ЗА СЭ́РЦА)**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Моцна хваляваць, глыбока трывожыць, рабіць моцнае ўражанне. **Сін.**: за жывое браць *каго* (у 1 знач.); кранаць сэрца *чыё, каго*; наступаць на душу *каму*. *І казкі яе [маці] былі падобны на песні, а песня брала за сэрца сваёй шчырасцю.* Каваль. *За душу браў скрыпучы крык драча ў алешніку на рэчцы...* Алешка. *Акалічны народ гуслі знаў гусляра: песня-дума за сэрца хапала...* Купала. **УЗЯЦЬ (СХАПІЦЬ) ЗА ДУШУ (ЗА СЭРЦА)**. *Зак. Находзішся, нагледзішся, наслухаешся і зразумела, і не — ажно сумота возьме за душу...* Брыль.

**ЗА ЖЫВО́Е БРА́ЦЬ (КРАНА́ЦЬ)** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. **1.** Дзейнічаць на самалюбства, гордасць. **Сін.**: браць за душу; кранаць сэрца *чыё, каго*; наступаць на душу *каму. Цяпер ужо не назавеш беспасажніцай. А то хоць ты і жартам, бывала, зваў так, а мяне гэта заўсёды брала за жывое.* Пальчэўскі. **ЗА ЖЫВОЕ ЎЗЯЦЬ (ЗАБРАЦЬ, ЗАКРАНУЦЬ)** *каго. Зак. Пііп быў чалавек гарачы, і панская абраза закранула яго за жывое.* Якімовіч.

**2.** Моцна хваляваць, зачапіўшы што-н. важнае, балючае. **Сін.**: наступаць на мазоль *каму. Шкарубская расказвала так, што за жывое кранала.* Сабаленка. *Словы цёці Броні, такія простыя, звычайныя, бяруць за жывое, і ён забывае, дзе ён і што з ім...* І.Капыловіч. **ЗА ЖЫВОЕ ЎЗЯЦЬ (ЗАБРАЦЬ, ЗАКРАНУЦЬ)** *каго. Зак. Раз узрушыліся [жанчыны на сходзе], раз злуюць, крычаць, значыць — дадзела, узяло за жывое, значыць, добра, глыбока падумаюць над усім гэтым.* Зарэцкі. *[Чарнавус:] Кацярына Іванаўна, сёння пошты не было яшчэ? [Цеця Каця:] Не, не было. [Вера:] Ага, забрала за жывое! Правалілася ваша праца.* Крапіва. *Князь закрануў нас за жывое. Хацелася спрачацца, біцца...* Карпюк.

**МНО́ГА (ШМА́Т, ЗАМНО́ГА) БРА́ЦЬ НА СЯБЕ́**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дазваляць сабе больш, чым можна; дапускаць празмернасці ў чым-н. *Я абурыўся да шаленства. Многа на сябе бераце, шаноўны таварыш Пікулік! Хочаце, каб ляснічы выбег насустрач, сеў у машыну, дагаджаў, прыслужваў.* Навуменка. *Пра школы, пра кадры ёсць каму думаць без нас з табой. Многа на сябе бярэш, саколік. Глядзі, каб не падарваўся.* Ермаловіч. — *Віктар, хопіць! Наконт таго, насіць мне галаву ці не, не ад цябе залежыць. Ты шмат бярэш на сябе, — не на жарты ўзлаваўся я.* Гамолка. *Замнога на сябе бярэш, Прусава... І не маеш ты права сволаччу абзываць...* Асіпенка. **МНОГА (ШМАТ, ЗАМНОГА) УЗЯЦЬ НА СЯБЕ**. *Зак.*

**НЕ БРА́ЦЬ У РО́Т** *што, чаго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** Не есці. *[Халімон:] Выменці гэты кацялок бульбы, то яно недзе дзенецца.. Каб толькі як пісьмо напісала, а там хоць і ў рот нічога не бяры.* Крапіва. *Гаспадар усё скардзіўся: «Бяда з дачкою. Нічагутка ў рот не бярэ. Высахла, як былінка».* Адамчык.

**2.** Зусім не піць (спіртнога). **Ант.**: бачыць шклянога бога; браць у губу; глядзець у бутэльку; закідаць за гальштук; закладваць за каўнер; залiваць вочы <*чым*> (у 1 знач.); заліваць за каўнер; заліваць чарвяка; мокнуць у гарэлцы; наступіць на корак; панюхаць корак; прамачыць горла. *Змогся бедны хлопец і ў непрытомнасці ў хату ўвайшоў. Скажаце, п'яны быў, дык зроду ж не п'е Міхалка, у рот гарэлкі не бярэ.* Колас. *Альяш гарэлкі не браў і ў рот.* Карпюк. *Тыя ж, хто працаваў, маліліся на свайго старшыню: табе не дасць заспаць, але і сам не заспіць, сваякоў не прызнае ніякіх, гарэлкі ў рот не бярэ.* Васілевіч.

*БРУД* • **ВЫЛІВАЦЬ БРУД НА ГАЛАВУ** *каго.* Гл. выліваць.
**ЛІЦЬ БРУД** *на каго.* Гл. ліць.

*БРУДАМ* • **АБЛІВАЦЬ БРУДАМ** *каго, што.* Гл. абліваць.

*БРУДЗІЦЬ* • **БРУДЗІЦЬ РУКІ** *аб каго, аб што.* Гл. пэцкаць.

*БРУДНАЙ* • **КАПАННЕ Ў БРУДНАЙ БЯЛІЗНЕ**. Гл. капанне.

*БРУДНУЮ* • **ВАРУШЫЦЬ БРУДНУЮ БЯЛІЗНУ**. Гл. варушыць.

*БРУДЭРШАФТ* • Піць, цалавацца **НА БРУДЭРША́ФТ**. *Акал. Функц. не зам.* З правам дружыць і звяртацца адзін да аднаго на «ты». *Віця Шугачоў і Рамашэвіч памірыліся і, як*

*студэнты, пілі на брудэршафт.* Шамякін. У *рэстаране Паваляеў шмат танцаваў, спрабаваў нават закурыць і цалаваўся з жанчынамі на брудэршафт.* «Маладосць».

*БРЫВАХ* • **НА БРЫВА́Х**. *Акал. Разм. Іран.* У стане моцнага ап'янення. **Сін.**: на вушах; на падпітку; на ўзводзе; пад газам; пад градусам; пад мухай; пад хмяльком; пад чаркай; пад шафэ. *Супец з хаўруснікамі ў гатэлі так абмылі «гістарычныя дакументы», што Насця з ім дні тры не размаўляла. Не, вярнуўся ён не на брывах, але нагаварыў ёй такога...* Шамякін. *— Ладна, стаўлю лічыльнік. — Не ты паставіш, я табе пастаўлю лічыльнік. Яшчэ раз з'явішся на брывах, пайду ў гарком...* «Полымя».

*БРЫВО* • **НЕ Ў БРЫВО́, А Ў ВО́КА** *біць, пападаць* і пад. *Акал. Разм.* Вельмі трапна, дакладна, дасціпна. Пра ўдалае выказванне. *— Вы нічога не чытаеце. Самі пішаце, а нічога не чытаеце. — Правільна, Наташа. Не ў брыво, а ў вока бі, — ухваліла Валянціна Андрэеўна.* Шамякін. *[Звягіна:] Ці даўно ты перастаў хуліганіць? [Галасы:] От рэжа! — Не ў брыво, а ў вока.* Гурскі. *Падбіраў [Валодзя] словы, якія палілі б ворага, білі б яго не ў брыво, а ў вока. І словы такія знаходзіліся.* Новікаў. *— Трэст як не выконваў план, так і не выконвае. — Так-так, Мікола Пятровіч, не ў брыво, а ў вока! — гукнулі з залы.* Зуб.

*БРЫВОМ* • **І БРЫВОМ НЕ ВЯДЗЕ**. Гл. вядзе.

*БРЫДЗІЦЬ* • **БРЫ́ДЗІЦЬ СВЕ́ТАМ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Хітраваць, гаворачы няпраўду. *Ты мне верыш?.. Ты ж сам добра ведаеш, а брыдзіш тут мне светам!* Чорны. *[Стары:] Ёй гуляць трэба было. Ёй нават муж і сын заміналі. У іх парода такая, шалёная. Брат адзін у турме сядзіць, бацька век светам брыдзіў.* А.Жук.

*БРЫЛЬЯНТАВАЕ* • **БРЫЛЬЯНТАВАЕ ВЯСЕЛЛЕ**. Гл. вяселле.

*БРЫНДЫ* • **БРЫНДЫ БІЦЬ**. Гл. біць.

*БРЫТВА* • **ЯЗЫК ЯК БРЫТВА**. Гл. язык.

*БУБЕН* • **ЯК У БУБЕН БІЦЬ**. Гл. біць.

*Голы* **ЯК (ШТО́) БУ́БЕН**. *Акал. Разм.* Зусім, абсалютна (голы). Пра луг, поле, поплаў, выган і пад. *Кожны начлежнік вёз з дому па палену дроў, бо луг быў голы як бубен.* Колас. *Поплаў як бубен голы. Сена ўчора ўвечары скачалі ў валкі.* Асіпенка. *[Дробыш] цяпер нават і начаваць заставаўся тут, на гэтым сваім яшчэ як бубен голым падворышчы.* Васілевіч. *Нячутна, быццам не ступаў па шарпаку, а нізка плыў, ліс ішоў голым як бубен пагоркам.* Калодзежны.

*БУГОР* • **ЗА БУГО́Р**. *Акал. Праст.* У дзяржавы, якія знаходзяцца за межамі былога Савецкага Саюза. **Сін.**: за граніцу; за мяжу. *[Дзядзька, цётка] доўг савецкаму народу спраўна сплочвалі, абы не было вайны, буржуі не залапалі «калхоз» і апошняе кашулі з Ладзюка або Альжуні за бугор ніхто не звёз.* Панізнік. *Туды, за бугор, везлі посуд, інструмент, каляровы метал, гарэлку, ікру, футра, назад — скураныя курткі, джынсы, майкі з амерыканскай сімволікай ды іншае фірмавае шмоцце.* Глушакоў.

*БУГРОМ* • **ЗА БУГРО́М**. *Акал. Праст.* У дзяржавах, якія знаходзяцца за межамі былога Савецкага Саюза. **Сін.**: за граніцай; за мяжой. *Жыццё там, «за бугром», уяўлялася не тое што казачным, але наогул нейкім нерэальным.* Гігевіч. *У нас, канечне ж, дрэнна (тут і была тая «крамола»), але і ў іх там, за бугром, звычайнаму чалавеку і таму ж прафесару жывецца не лепш. Што гэта было? Няведанне ці дробязнае хітраванне?* Бугаёў.

*БУДАВАЦЬ* • **БУДАВА́ЦЬ НА ПЯСКУ́** *што. Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Засноўваць на ненадзейных дадзеных. Пра планы, разлікі, сцверджанні і пад. **ПАБУДАВАЦЬ НА ПЯСКУ** *што. Зак. Старыя пазіцыі светаразумення аказаліся хісткімі, пабудаванымі на пяску. Яны не вытрымлівалі напору крытычнай мыслі і рассыпаліся, паказваючы сваю нястатнасць і нікчэмства.* Колас. *[Аніщчук:] Розныя людзі і па-рознаму гаварылі. Адны казалі, што важна мець план, а другія, што пяцігодка калгаса пабудавана на пяску.* Гурскі.

**БУДАВА́ЦЬ ПАВЕ́ТРАНЫЯ ЗА́МКІ (ПАЛА́ЦЫ)**. *Незак. Функц. не зам. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Планаваць нерэальнае, нездзяйсняльнае, захапляцца нязбытнымі марамі. **Сін.**: лунаць у паднябессі. *Дробязей такіх вось прапаноўваць спецыяліст не будзе. Паветраных замкаў будаваць не стане — ён ведае рэальныя магчымасці сучаснасці.* Шынклер. *Ці не хацеў [сакратар], каб прысутныя цвяроза зірнулі на будучыню і не будавалі на папялішчы паветраных замкаў?* Карпаў. *Рыта ўсё гэта бачыла і разумела. Яна не любіла будаваць паветраных замкаў.* Васілевіч. *Памрэ Ігнат ад інтэлігентшчыны. Паміраючы, усё роўна будзе будаваць паветраныя палацы.* Пестрак.

*БУДЗЕ* • **АДБОЮ НЕ БУДЗЕ** *ад каго.* Гл. няма.

**БУДЗЬ ШТО БУДЗЕ**. Гл. будзь.

**ГЛЯДЗЕЦЬ НЕ БУДЗЕ НА ШТО**. Гл. глядзець.

**ЗНОСУ НЕ БУДЗЕ** *каму.* Гл. няма.

**< І > НАГІ́ НЕ БУ́ДЗЕ** *чыёй дзе. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. ніколі не прыйдзе куды-н., перастане бываць у каго-н. Звычайна як пагроза не наведваць ці забарона наведваць каго-н. **Сін.**: нага не ступіць *каго, чыя куды. — Бач ты, які ласы. Тваёй нагі больш тут не будзе, — з робленай злосцю казала дзяўчына.* Сабаленка. *Вось так ні за што ні пра што абняславілі чалавека. Думаў, нагі больш не будзе ў гэтых Лазіцах.* Аношкін. *Гвацыя, калі мірыўся з Сімонам, сказаў, што нагі ягонай не будзе ў гэтым доме...* Самуйлёнак. *Усё! Нагі маёй тут болей не будзе!* Карпаў.

**МА́ЛА НЕ БУ́ДЗЕ** *каму. У безас. ужыв. Разм.* Здорава пападзе, дастанецца каму-н. Пра пакаранне. *[Карнейчык:] Памятай, калі праз тваю ласку работа ў цэху стане, дык мала табе не будзе.* Крапіва. *Будзем мы скакаць з бабчыным парашутам. Толькі аб гэтым ні гу-гу! Пранюхае бабка — мала не будзе...* Лынькоў. *[Вальдэмар:] Супакойцеся, цяпер яму мала не будзе. Свае ж расстраляюць.* Губарэвіч.

**НІ КАЛІ <ТОЕ> БЫЛО НІ КАЛІ БУДЗЕ**. Гл. тое.

**ТАДЫ ТОЕ БУДЗЕ**. Гл. тое.

**ШТО́ БУ́ДЗЕ ТО́ (ТО́Е) БУ́ДЗЕ**. *Выкл. Разм.* Выказванне рашучасці, гатоўнасці да ўсяго. Што ні будзе, што ні здарыцца. **Сін.**: адзін раз Марку жаніць; будзь што будзе; было не было; дзе наша не прападала; трус у карты не гуляе. *[Паўлінка:] А калі не прыйдзе, то, значыцца, ён ужо мяне не любіць болей. Не, няхай прыйдзе лепей, а там — што будзе то будзе.* Купала. *Экзамены пачалі нечакана раней, чымся былі прызначаны... Што будзе то будзе, абы толькі хутчэй разлічыцца.* Каваль. *—Няма куды збягаць, — гаварыў Селівон, — куды ні кінься — паны вярнуліся з выраю. Што будзе тое будзе.* Баранавых. *«Заўтра ж, адразу, як Тася здасць экзамен, і паедзем. Што будзе тое будзе, а паедзем», — цвёрда вырашыла яна [Вера Сымонаўна].* Сачанка.

*БУДЗЬ* • **БУ́ДЗЬ-БУ́ДЗЬ**. *Праст. Адабр. і неадабр.* **1**. *Акал.* Выключна, у найвышэйшай ступені (жыць, рабіць што-н.). **Сін.**: будзь здароў (у 1 знач.); дай бог (у 1 знач.); дай бог кожнаму (у 2 знач.); дзякуй богу (у 1 знач.); за маё-маё (у 1 знач.); за маліну (у 2 знач.); з бляскам (у 1 знач.); кум каралю <і сват міністру> (у 3 знач.); люба-дорага; на дзіва (у 2 знач.); на поўнае вока; на пяць з плюсам; на славу (у 1 знач.); на ўсе сто (у 2

знач.); на яць (у 1 знач.); разлюлі-маліна (у 2 знач.); рэдкай рукі; слава богу (у 1 знач.); хвала богу (у 1 знач.); хоць куды (у 2 знач.); што трэба (у 1 знач.); як не трэба лепш. *Думаю, калі пайду, баба твая папрокамі загрызе... Я б задушыўся ад папрокаў гэтых: як на духу прызнаюся... Ад бабы тваёй і ёй [Мані] гонар перадаўся: будзь-будзь.* Марчук. *І засячы на носе: вертыкаль вышэй за райком. Маем мы ўладу заклікаць цябе паважаць законы. Будзь-будзь...* Шамякін.

**2.** *Вык. і азн.* Выключны, найвышэйшай ступені. **Сін.**: адным словам; без сучка і <без> задзірынкі (у 2 знач.); будзь здароў (у 4 знач.); дай бог (у 2 знач.); дай бог кожнаму (у 1 знач.); дзякуй богу (у 2 знач.); за маё-маё (у 2 знач.); за маліну (у 3 знач.); з бляскам (у 2 знач.); кругом сто дваццаць; на славу (у 2 знач.); на ўсе рукі; на ўсе сто (у 3 знач.); на яць (у 2 знач.); па крайняй меры (у 2 знач.); пальчыкі абліжаш (у 2 знач.); пашукаць такога; першай гільдыі (у 1 знач.); першай рукі (у 1 знач.); першы клас; першы сорт; разлюлі-маліна (у 1 знач.); слава богу (у 2 знач.); хоць куды (у 1 знач.); хоць на выстаўку <вязі>; што трэба (у 2 знач.); як яечка. — *У Малдавіі цяплынь да самай зімы... — сказаў Рачыцкі і па-змоўніцку падміргнуў: — А дзевачкі там — будзь-будзь!* «Маладосць».

**БЎДЗЬ ЗДАРО́Ў.** *Разм. Адабр.* **1.** *Акал.* Вельмі добра (ехаць, працаваць, выглядаць і інш.). **Сін.**: будзь-будзь (у 1 знач.); дай бог (у 1 знач.); дай бог кожнаму (у 2 знач.); дзякуй богу (у 1 знач.); за маё-маё (у 1 знач.); за маліну (у 2 знач.); з бляскам (у 1 знач.); кум каралю <і сват міністру> (у 3 знач.); люба-дорага; на дзіва (у 2 знач.); на поўнае вока; на пяць з плюсам; на славу (у 1 знач.); на ўсе сто (у 2 знач.); на яць (у 1 знач.); разлюлі-маліна (у 2 знач.); слава богу (у 1 знач.); хвала богу (у 1 знач.); хоць куды (у 2 знач.); што трэба (у 1 знач.); як не трэба лепш. *[Заслонаў:] Дарэчы, як там твае алхімікі працуюць? [Семяніхін:] Будзь здароў. Галоўны алхімік Сцяпан Крушына...* Маўзон. *Выглядаеце вы — будзь здароў! Чупрына густая, сівыя валасы — дзе-нідзе толькі...* А.Марціновіч. *[Жэня:] Гэта ж дапатопную палутарку, якую спісалі ўжо былі, адрамантаваў і — будзь здароў — як ездзіць на ёй!* Козел.

**2.** *У безас. ужыв.* Вельмі многа (ёсць, было каго-, чаго-н.). **Сін.**: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скурыне спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго*. *У Афрыцы ёсць малпы — гамадрылы. Даволі шчодра іх прырода адарыла. І спрытнасці хапае ў тых звяроў, і сілы — будзь здароў!* Корбан. *Канечне, Нёман ёсць Нёман. Увесну, як выйдзе з берагоў, не ракою — морам здаецца. Такі магутны, шырокі. І рыбы, скажу вам, раней вялося ў ім будзь здароў!* Ягоўдзік.

3. *Акал.* Вельмі моцна (ударыць, ушчыкнуць і пад.). *Віцік.. на калку пад памідоры спаймаў зялёную стракаҙу, якая ўшчыкнула яго будзь здароў.* Кажадуб.

4. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., абстр. ці канкр. прадмета. Вельмі добры. **Сін.**: адным словам[1]; без сучка і <без> задзірынкі (у 2 знач.); дай бог (у 2 знач.); дай бог кожнаму (у 1 знач.); дзякуй богу (у 2 знач.); за маё-маё (у 2 знач.); за маліну (у 3 знач.); з бляскам (у 2 знач.); кругом сто дваццаць; на славу (у 3 знач.); на ўсе рукі; на ўсе сто (у 3 знач.); на яць (у 2 знач.); па крайняй меры (у 2 знач.); пальчыкі абліжаш (у 2 знач.); пашукаць такога; першай гільдыі (у 1 знач.); першай рукі (у 1 знач.); першы клас; першы сорт; разлюлі-маліна (у 1 знач.); рэдкай рукі; слава богу (у 2 знач.); хоць куды (у 1 знач.); хоць на выстаўку <вязі>; што трэба (у 2 знач.); як яечка. *Праўда, [Міця] гімнастыку рабіў так сабе — памахваў рукамі, патупваў, каб разварушыцца. Невядома, ці страйнейшая рабілася постаць, але пасля гімнастыкі і душу і раніцою апетыт будзь здароў.* А.Жук.

**БУ́ДЗЬ ЗДАРО́Ў (-ВА); БУ́ДЗЬЦЕ ЗДАРО́ВЫ.** *Выкл. Разм.* **1.** Развітальны зварот з добрымі пажаданнямі. Да пабачэння. **Сін.**: бывай здароў; усяго добрага. *— Ну, Алёша, будзь здароў! — Міцька ляпае мяне па плячы з зайздрасцю. — І вы, таварыш, Скарыпін, бывайце...* Карпюк. *Не сумуй па мне, старая, будзь здарова, маці! Вораг край наш разбурае — ці ж сядзець мне ў хаце?* Крапіва. *Спявайце ж, братцы, смела і звонка: не згіне песня і Украіна. Будзьце здаровы!* Лучына.

**2.** Застольны зварот з добрымі пажаданнямі перад частаваннем віном, гарэлкай. *Будзьце здаровы, маладыя! Дай бог вам з сабою шчасліва пражыць!* Дунін-Марцінкевіч. *— Дык будзь здароў! — Ну, дай жа божа! — За ваша, госцейкі, здароўе! — І пасля гэтага прыслоўя Міхал куляе чарку гожа.* Колас.

**БУ́ДЗЬ (-ЦЕ) ДО́БРЫ (-Я).** *Узнач. пaбоч. сл. Разм.* Ветлівы зварот да каго-н. з просьбай ці патрабаваннем. Прашу. **Сін.**: будзь ласкаў; калі ласка (у 1 знач.); зрабі ласку. *Я свайго не ўпушчу і ўпускаць не хачу... зарабіў — аддай, будзь добры...* Кудравец.

**БУ́ДЗЬ (-ЦЕ) ЛА́СКАЎ (ЛА́СКА́ВЫ).** *У знач. пабочн. сл. Разм.* Ветлівы зварот да каго-н. з просьбай ці патрабаваннем. Прашу. **Сін.**: будзь добры; калі ласка (у 1 знач.); зрабі ласку. *Напішы ты, будзь ласкаў, ліст мне дадому, я табе аддзякую.* Чорны. *Тады, будзь ласкавы, бяры кантракт і зрабі па-другому.* Самуйлёнак. *— Дазвольце пазнаёміцца: ваш калега і сусед — Лабановіч... — Саханюк, тутэйшы педагог. Будзьце ласкавы, знімайце паліто, сядайце.* Колас.

**БУ́ДЗЬ ШТО́ БУ́ДЗЕ.** *Выкл. Разм.* Выказванне рашучасці перад прыняццем рашэння. Што ні будзе, што ні здарыцца. **Сін.**: адзін раз Марку жаніць; было не было; дзе наша не прападала; трус у карты не гуляе; што будзе то будзе. *«Будзь што будзе!» — вырашае сам сабе каваль. Булаву з плячэй знімае, аглядае даль.* Якімовіч. *Максім Пятровіч тым часам паціху зайшоў за шафу, а там вырашыў: будзь што будзе, — рыўком адчыніў дзверы і выйшаў з кабінета.* Кулакоўскі.

**ЗА БУ́ДЗЬ ЗДАРО́Ў.** *Акал. Праст.* **1.** Без усякай прычыны. **Сін.**: без дай рады; без нічога ніякага (у 3 знач.); без усякага-якага; за пусты мех <а ў мяху смех>; за так (у 2 знач.); з ласкі на пацеху; не знай не ведай; ні з таго ні з сяго; ні з чаго ні з якага; ні села ні пала; так сабе (у 1 знач.). *— Думаю, што за будзь здароў ты не стаў бы рызыкаваць. А? — Таксама праўда. За будзь здароў не стаў бы...* Асіпенка.

**2.** Беспярэчна, без адгаворак (рабіць што-н.). **Сін.**: без нічога ніякага (у 1 знач.). *[Цыбулька:] Я на пенсіі. Як месяц, так трыццаць два цалковыя адвальваюць за будзь здароў.* Макаёнак.

**НЕ БУ́ДЗЬ ДУ́РНЕМ**. *У знач. адасобленай акал. Праст.* Своечасова скеміўшы, як трэба пастуліць, у пэўнай сітуацыі. *Спраўнік, не будзь дурнем, саскочыў з каня, пайшоў следам за Бароўскім і ўзяў вучонага шчыгла. Жандар адмовіўся што-небудзь выбіраць.* Наварыч. *У гэты, маленькі, чамадан запакоўвай залатыя рэчы... Не грэбуй і срэбнымі. Трапіцца што добрае з медзі, не будзь дурнем — цягні таксама...* Лынькоў.

*БУДОЎЛЯ* • **БУДО́ЎЛЯ (БУДАВА́ННЕ) ПАВЕ́ТРАНЫХ ЗА́МКАЎ (ПАЛА́ЦАЎ)**. *Мн. не ўжыв. Часцей дап. Функц. не зам. Іран.* Прыдумванне нерэальных, фантастычных планаў. *[Каліноўскі:] Я чуў усё, але не хацеў да часу перапыняць будоўлі паветраных палацаў пана Серакорскага.* Міровіч. *З будаваннем паветраных замкаў у нас справа выглядае нашмат лепей, чым з адбудовак якіх іншых.* Хадановіч.

*БУДУ* • **ЖЫЎ НЕ БУ́ДУ**, <u>калі.</u> *У знач. галоўн. ск. Праст.* Ужыв. перад умоўным злучнікам. Інакш быць не можа (калі...). Клятвеннае запэўненне зрабіць, здзейсніць што-н. **Сін.**: не я буду. *Жыў не буду, калі Андрэй з ячэйкі не вылеціць.* Калюга. *Адраблю два, тры дні, колькі скажа, а шчанюка дастану. Жыў не буду, калі не дастану. Выгадую, вось будзе сабака!* Крапіва. *Жыў не буду, калі не прысачу, дзе ты знайшоў спрат свайму золату.* Лобан.

**НЕ Я БУДУ**. Гл. я.

*БУДУЦЬ* • **КУРЫ БУДУЦЬ СМЯЯЦЦА** *з каго.* Гл. куры.

*БУКСІР* • **БРАЦЬ НА БУКСІР** *каго.* Гл. браць.

*БУМ* • **НІ БУ́М-БУ́М** <u>не ведаць, не разумець</u> і пад. *Акал. ці ў знач. вык. (пры апушчаным дзеясл.). Праст. Неадабр.* Зусім нічога. **Сін.**: ні а ні бэ; ні бельмеса; ні бэ ні мэ <ні кукарэку>; ні бэ ні мя; ні вуха ні рыла; ні ў зуб <нагой>; ні цэ ні бэ. *Сам ні бум-бум, а прывык павучаць, хоць права на гэта ні кроплі ў самога.* Бачыла. *[Юра:] Я ў класічнай музыцы таксама ні бум-бум! Вось Оля...* Васілеўскі. *Вось і дрэнна: пра электрычнасць ужо ведаеш, а пра ваду ні бум-бум.* Казько. *Кожны твой аднакурснік скажа, што ты па-якуцку ні бум-бум.* Ласкоў.

*БУРА* • **БУ́РА НЯСЕ́ (НО́СІЦЬ, ГО́НІЦЬ, ГАНЯ́Е)** *каго. Незак. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Ужыв. у пытальных ск. пасля слоў *куды, адкуль, дзе* і пад. (Куды, дзе і пад.) хто-н. ідзе (ходзіць, прыйшоў)? **Сін.**: бог нясе *каго*; вецер нясе *каго*; ліха нясе *каго*; нячысцік гоніць *каго*; чорт нясе *каго*. *—Дзе гэта цябе бура носіць? — сярдзіта паглядзеў на мяне дзед і страсянуў торбу, на дне якой шалясцелі рэшткі сечкі.* Каліна. **БУРА ПРЫНЕСЛА (ПРЫГНАЛА)** *каго. Зак. — Чаго цябе бура прыгнала так рана? — незадаволена спытаўся ён [пан Вільчыцкі] у мужыка, які стаяў перад ганкам.* Брыль.

**БУ́РА Ў ШКЛЯ́НЦЫ ВАДЫ́**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Іран.* Моцнае хваляванне, шум, спрэчка з-за дробязных прычын. *Чым не бура ў шклянцы вады? З такога простага пытання зрабіць вялікую праблему, уцягнуць у яе многія арганізацыі і ведамствы!* «Звязда». *Давай лепш, Рыгор, згуляем і мы ў шахматы для заспакаення пасля буры ў шклянцы вады.* Машара. *Аднак лаяліся [карцёжнікі] незласліва, і не прайшло некалькі хвілін, як бура ў шклянцы вады сціхла.* Блакіт.

**ЯКА́Я БУ́РА НЯСЕ́** *каго. Незак. У безас. ужыв. Разм.* Чаму, з якой мэтай ідзе, едзе хто-н. куды-н. **ЯКАЯ БУРА ПРЫНЕСЛА** *каго. Зак. Мінуў Сцёпка сяло, у поле выйшаў. Бяскрайнія прасторы ляжаць перад ім, пазіраюць на яго незлічонымі вачыма, пазіраюць маўкліва і ўдумна, як бы пытаючыся: «Якая бура нясе цябе, хлопча?»* Колас.

*БУРБАЛКА* • **МЫ́ЛЬНАЯ БУ́РБАЛКА; МЫ́ЛЬНЫ ПУЗЫ́Р**. *Адз. і мн. Часцей вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Што-н. нетрывалае, пустое.

**Сін**.: картачны домік. *—Беднасць! Нядоля! Эксплуатацыя! Гераізм! Самаахвярнасць! Усё гэта мыльныя пузыры маладосці, — з позай паківаў галавою староста...* Пестрак.

<u>*Лопнуць*</u> **ЯК МЫ́ЛЬНАЯ БУ́РБАЛКА (МЫ́ЛЬНЫ ПУ́ЗЫР)**. *Акал. Разм.* Нечакана, аказаўшыся нетрывалым, нікчэмным, пустым. *Ягоны намер, які гэтак натуральна вынік уначы і прынёс яму заспакаенне, лопнуў як мыльная бурбалка.* Быкаў. *Сяргеева рызыка аказалася зусім непатрэбнай. Усе яго спадзяванні лопнулі як мыльная бурбалка.* Шахавец. *Хітрамудрыя планы адваката лопнулі як мыльная бурбалка.* Васілевіч. *Мары мае аб сямейным шчасці лопнулі як мыльны пузыр.* Машара. *Трэба па пунктах перабраць усё [абвінавачванне] і яно лопне як мыльны пузыр.* Лобан. *Рэндал збялеў, як мярцвяк. Яго апошняя надзея лопнула як мыльны пузыр.* Гамолка.

*БУРБАЛКІ* • **ПУСКАЦЬ БУРБАЛКІ**. Гл. пускаць.

*БУРЖУАЗІЮ* • **ЯК ЛЕНІН НА БУРЖУАЗІЮ**. Гл. ленін.

*БУРЫДАНАЎ* • **БУРЫДАНАЎ АСЁЛ**. Гл. асёл.

*БУСЕЛ* • **БУ́СЕЛ РЭ́ПУ ПАСЕ́ЯЎ (ПАСЕ́Е)** *у каго. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* У каго-н. цыпкі на нагах. *І тут жа [дзед] кліча: — Ляксандра, марш у хату, ногі толькі памый, а то яны ў цябе, як капаніцы, парэпаліся ад гразі, Бусел хутка рэпу пасее...* І.Капыловіч. [*Лепешаў*, с. 33: бусел рэпу пасеяў (пасее) — ‘ у каго-н. цыпкі на нагах’; *Даніловіч*, с. 33: бусел рэпу пасеяў (пасее) — ‘вельмі брудныя (рукі, ногі, вушы, твар)’].

*БУТЛІ* • **ВЫПУСКАЦЬ ДЖЫНА З БУТЛІ**. Гл. выпускаць.

*БУТЭЛЬКІ* • **ВЫПУСКАЦЬ ДЖЫНА З БУТЭЛЬКІ**. Гл. выпускаць.

*БУТЭЛЬКУ* • **ГЛЯДЗЕЦЬ У БУТЭЛЬКУ**. Гл. глядзець.
**ЛЕЗЦІ Ў БУТЭЛЬКУ**. Гл. лезці.
**ПАЛЕЗЦІ Ў БУТЭЛЬКУ**. Гл. палезці.

*БУХТЫ* • **З БУ́ХТЫ-БАРА́ХТЫ**. *Акал. Разм.* Раптоўна, зусім не падумаўшы (рабіць што-н.). **Сін**.: заплюшчыўшы вочы; з завязанымі вачамі; з кандачка; з налёту (у 3 знач.); з наскоку (у 2 знач.); на зламанне карка (у 1 знач.); на злом галавы (у 1 знач.); на скрут галавы (у 1 знач.); проста з моста. **Ант**.: з адкрытымі вачамі. *— Такой справы нельга рабіць з бухты-барахты. Трэба падумаць, абмазгаваць, — прыходзіць да вываду Мікалай...* Пальчэўскі. *Захінуўся [Іван] за вугал хлява, не зводзіў вачэй з дзвярэй хаты, чакаў — можа, выйдзе хто? Бо ісці так, з бухты-барахты, рызыкоўна было.* Сачанка. *Бач ты яго — з бухты-барахты не кідаецца ў наступ, асцярожнічае.* Масарэнка. *Так што ў нас інтарэс адзін. Не сумнявайся. Але не трэба з бухты-барахты. Неабходна ўлічыць розныя акалічнасці.* Чыгрынаў.

*БЫ* • **БЫ ЛЕНІН НА БУРЖУАЗІЮ**. Гл. ленін.
**БЫ НА КАНІ ПРАЕХАЦЬ**. Гл. праехаць.
**БЫ ШЧЫГРЫНАВАЯ СКУРА**. Гл. скура.

*БЫВАЙ* • **БЫВА́Й (-ЦЕ) ЗДАРО́Ў (-ВА, -ВЫ)**. *Выкл. Разм.* Развітальны зварот з добрымі пажаданнямі. Да пабачэння. **Сін**.: будзь здароў (у 1 знач.); усяго добрага. *[Ганна:] Ну, мой мілы! хоць і цяжка, што ж? бывай здароў! бывай!* Колас. *[Грышка:] Што хочаце, тое рабіце, а ўсё-такі Марыся будзе мая!.. Бывай здарова!* Дунін-Марцінкевіч. *Лістамі, дубровы, мой след замятайце!.. Бывайце здаровы, звароту чакайце!..* Куляшоў.

*БЫВАЛА* • **ЯК НІ Ў ЧЫМ НЕ БЫВА́ЛА**. *Акал. Разм.* Быццам нічога не здарылася; не зважаючы на тое, што адбылося. **Сін**.: як <і> не лыс; як нічога < і > не было. *[Паўлінка], напяваючы, падыходзіць да сцяны, хавае фатаграфію за абраз і як ні ў чым не бывала*

*садзіцца за шыццё.* Купала. *Бацька сунуў яшчэ раз рэвальвер у лоб «буржую» і, развітаўшыся са сваімі, пайшоў як ні ў чым не бывала з вагона.* Лынькоў. *Дзядзька Сцяпан як ні ў чым не бывала зноў карміў нас печанай бульбай, паіў сцюдзёнай вадой.* Парахневіч.

*БЫКА* • **БРАЦЬ БЫКА ЗА РОГІ**. Гл. браць.
**З БЫКА ЎПАСЦІ**. Гл. упасці.
**МЯНЯЦЬ БЫКА НА ІНДЫКА**. Гл. мяняць.

*БЫКАМ* • **КРУЦІЦЬ БЫКАМ ХВАСТЫ**. Гл. круціць.

*БЫЛА* • **БЫЛА НЕ БЫЛА**. Гл. было.
**БЫЛА Ў САБАКІ ХАТА**. Гл. хата.
**<І> НАГА НЕ БЫЛА** *чыя дзе.* Гл. нага.
**КАБ І НАГА НЕ БЫЛА** *чыя <дзе>.* Гл. нага.

*БЫЛІ* • **ДЗЕ БЫЛІ ВОЧЫ** *чые, у каго.* Гл. вочы.

*БЫЛЛЁМ* • **БЫЛЛЁМ ЗАРАСЛО**. Гл. зарасло.

*БЫЛО* • **АДБОЮ НЕ БЫЛО** *ад каго.* Гл. няма.
**БЫЛО́ НЕ БЫЛО́ (БЫЛА́ НЕ БЫЛА́).** *Выкл. Разм.* Паспрабую, трэба рызыкнуць (адважыцца зрабіць што-н. пасля разваг, нерашучасці). **Сін.**: адзін раз маля трэба марку жаніць; будзь што будзе; дзе наша не прападала; трус у карты не гуляе; што будзе то будзе. *Стаялі халады. У сырым адзенні нельга было ісці. — Эх, было не было, зойдзем у вёску, — адважыўся я.* Чыгрынаў. *Пасля [ліс] усё ж зварухнуўся: э, было не было, няма чаго губляць, не выпадае ўпускаць момант — трэба паспрабаваць, якраз і пашанцуе, можа, і разгавеецца.* Калодзежны. *«Эх, была не была!» Я скінуў шынель — і справа пачалася.* Брыль. *Станаўлюся ў новую чаргу і — была не была! — загадваю крамсаць мне на два плацці светлага маркізету...* Васілевіч.
**ГЛЯДЗЕЦЬ НЕ БЫЛО НА ШТО**. Гл. глядзець.
**ЖЫВОГА МЕСЦА НЕ БЫЛО**. Гл. няма.
**І КРО́ШКІ Ў РО́ЦЕ НЕ БЫЛО́** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. зусім нічога не еў. **Сін.**: макавай расінкі у роце не было *ў каго. Трэба сустрэць чалавека, пачаставаць. А то, можа, і крошкі ў роце не было ў яго.* Чыгрынаў. *У чалавека сёння і крошкі ў роце не было...* Лецка.
**КА́Б <І> ДУ́ХУ (СМУРО́ДУ, ПА́ХУ) НЕ БЫЛО́** *чыйго <дзе>. Выкл. Праст. Пагард.* Выказванне катэгарычнага патрабавання, каб хто-н. тут жа знік і больш не паказваўся. **Сін.**: каб і шныру не было *чыйго <дзе>. Вон, гадаўка, каб і духу твайго не было. Адкуль ты ведала пра жыта? Падглядаеш?* Чорны. *Я яму... гэтаму самаму так і сказаў, — дваццаць чатыры гадзіны, і каб духу твайго не было ў Забалоцці! Вось так.* Брыль. *Дык забірай свайго байструка і — марш з мае хаты! Вон, каб і смуроду твайго не было! Не трэба мне здрадніцы і ворага ў хаце! Вон!* Колас. *—Вон адсюль, паганы шэршань, каб і смуроду твайго не было, — гаркнуў ён на бацькавага «свата».* Грахоўскі. *Ану, выкідвайцеся з вагона, каб і паху вашага тут не было!* Лынькоў.
**КАБ І НАГІ НЕ БЫЛО** *чыёй <дзе>.* Гл. нага.
**КА́Б І ШНЫ́РУ НЕ БЫЛО́** *чыйго <дзе>. Выкл. Праст. Пагард.* Выказванне катэгарычнага патрабавання, каб хто-н. тут жа знік і больш не паказваўся. **Сін.**: каб <і> духу не было *чыйго <дзе>. Іх бы, свалачэй, з сяла трэба было выштырыць, каб і шныру іх тут не было. Але ж няма каму.* Крапіва. *Тахвіля слухала, слухала, а нарэшце, як хапіла памя-*

*ло з качарэжніка ды калі сунецца да стала. — Вон! Каб вашага і шныру тут не было.* Калюга.

**КА́Б ПУ́СТА БЫЛО́** *каму. Выкл. Праст.* Выказванне злосці, нядобразычлівасці. **Сін.**: гары ён гарам; ні дна ні пакрышкі *каму, чаму*; прападзі пропадам *што, хто. Бадай ты спух! ото распуста! А каб табе было, гад, пуста! Няма ні сораму, нічога...* Колас. *— Туман, каб яму пуста было, — вылаяўся другі матрос, — нічога не відаць...* Каваль.

**КАНЦА І КРАЮ НЕ БЫЛО** *чаму.* Гл. відаць.

**КО́ЛЬКІ <БЫЛО́> ДУ́ХУ** *бегчы, імчацца* і пад. *Акал. Разм.* Вельмі хутка. **Сін.**: без аглядкі (у 1 знач.); без духу *бегчы*; без душы *бегчы*; без памяці (у 1 знач.); ва ўсе лапаткі (у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.); з усіх ног; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на адным дыханні (у 1 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у 2 знач.); на ўсе ногі; на ўсю моц (у 2 знач.); чуй дух; што ёсць духу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 2 знач.); як дуж; як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як мага (у 1 знач.); як на крыллях; як на пажар; як падсмалены. **Ант.**: як чарапаха. *Аднаго разу я неяк злаўчыўся — ускочыў на каня і пагнаў яго колькі было духу.* Мяжэвіч. *А драпежнікі-звяругі, колькі сілы, колькі духу, з перапуду — хто куды. Уцякаюць ад бяды.* Якімовіч. *Падхоплівала [старая] падол спадніцы, колькі духу ляцела напрасткі, махала былінай, выскубненай на мяжы.* Калодзежны.

**КО́ЛЬКІ <БЫЛО́> СІ́ЛЫ (МО́ЦЫ, ЗМО́ГІ).** *Акал. Разм.* **1**. Напружваючы ўсю сваю энергію (рабіць што-н.). **Сін.**: аж пуп трашчыць; ва ўсе лапаткі (у 2 знач.); высалапіўшы язык (у 3 знач.); з апошніх сіл; з апошняга; з усёй сілы (у 1 знач.); з усіх жыл (у 1 знач.); з усіх чатырох (у 2 знач.); на поўную сілу (у 1 знач.); на ўсю моц (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 1 знач.). *Без канца, бесперастанку, колькі сілы цягнуць санкі цераз пушчы, цераз горы, праз даліны, праз азёры, без дарогі, без шляхоў — адзінаццаць пар ласёў.* А.Александровіч. *Тут.. давядзецца цяжэй за ўсё, бо гітлераўцы колькі змогі будуць ірвацца вярнуць дарогу...* Мележ. *Гунава.. колькі было сілы ударыў Тапурыя, добра ведаючы, што пасля такога ўдару не ўстаюць.* Самуйлёнак.

**2**. Вельмі хутка (бегчы, імчацца, кідацца і пад.). **Сін.**: без аглядкі (у 1 знач.); без духу *бегчы*; без душы *бегчы*; без памяці (у 1 знач.); ва ўсе лапаткі (у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.); з усіх ног; колькі <было> духу; на адным дыханні (у 1 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўвесь мах; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у 2 знач.); на ўсе ногі; на ўсю моц (у 2 знач.); чуй дух; што ёсць духу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 2 знач.); як дуж; як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як мага (у 1 знач.); як на крыллях; як на пажар; як падсмалены. **Ант.**: як чарапаха. *Сцяпан колькі было сілы імчаўся да става, на хаду зрываючы з сябе адзежу.* Чарнышэвіч. *Выбіраючы лагчынкі, тулячыся каля хмызу, бег Кандрат, прыгнуўшыся, колькі было змогі.* Колас.

**3**. Вельмі голасна, моцна (крычаць, гукаць і пад.). **Сін.**: благім матам; з усіх жыл (у 2 знач.); на поўную сілу (у 3 знач.); на поўныя грудзі (у 2 знач.); на ўвесь голас (у 1 знач.); на ўвесь свет (у 1 знач.); на ўсе грудзі (у 2 знач.); на ўсе застаўкі (у 1 знач.); на ўсё горла; на ўсю глотку; на ўсю іванаўскую (у 1 знач.); на ўсю моц (у 3 знач.); немым голасам; не сваім голасам; што ёсць духу (у 2 знач.); што ёсць сілы (у 3 знач.); <як> іерыхонская труба (у 2 знач.); як недарэзаны; як рэзаны. *— Я! — гукнуў дзядзька Марцін колькі моцы было.* Колас.

**КРЫЦЬ НЕ БЫЛО ЧЫМ**. Гл. крыць.

**МА́КАВАЙ РАСІ́НКІ (ЗЕ́РНЯ, ЗЯРНЯ́ЦІ) У РО́ЦЕ НЕ БЫЛО́** *ў каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. нічога не еў. **Сін.**: і крошкі ў роце не было *ў каго. З учарашняга не было ў роце макавай расінкі, і цяпер счарсцвелы хлебны кавалак здаўся надзвычай смачным.* Быкаў. *У яго сапраўды з раніцы, апрача куфля піва, і макавае расінкі ў роце не было.* Грахоўскі. *Вы б паелі... А то, пэўна, з самага ранку расінкі макавай у роце не было.* Каліна. *— Лёгка сёння гаварыць, — ужо быццам са злосцю сказаў Іван Кузьміч. — А тады... Калі ў лесе... Па тыдні, а то і пабольш галодны, макавага зерня ў роце не было...* Сачанка. *З вечара ж у роце і макавага зярняці не было.* Сабаленка.

**НЕ́БУ ГО́РАЧА БЫЛО́ (БУ́ДЗЕ, СТА́ЛА, СТА́НЕ).** *У безас. ужыв. Разм.* Мацней, актыўней, лепш і быць не можа. Пра самую высокую ступень інтэнсіўнасці якога-н. дзеяння або дзейнасці. *[Грэнка:] Шкода, брат, што ты спазніўся, а мы тут такі малебен адслужылі, што аж небу горача было...* Колас. *Уся іх брыгада, наваліўшыся на чыгунку, нарабіла такога тарараму, што небу было горача!* Кудраўцаў. *— Татачка, я хачу такі баль закаціць, каб небу горача стала, — кажа Галачка, зажмурыўшы ад асалоды вочкі.* Чавускі. *Падаспела яшчэ шэсць камбайнаў. Яны падстроіліся ззаду, рушылі чарадой. — Э-ге-гей! — азірнуўся Змітрок. — Небу горача стане! Дождж бы толькі дзянькоў дзесятак пачакаў.* Калодзежны.

**НЕ БЫЛО КУДЫ НОСА ЎБІЦЬ.** Гл. няма.

**НЕ БЫЛО ЎГАМОНУ** *на каго.* Гл. няма.

**НЕ ТУТ ТОЕ БЫЛО.** Гл. тое.

**НІ КАЛІ <ТОЕ> БЫЛО НІ КАЛІ БУДЗЕ.** Гл. тое.

**НОСА НЕ БЫЛО КУДЫ ЎБІЦЬ.** Гл. няма.

**ПРЫ ЦАРУ ГАРОХУ КАЛІ (ЯК) ЛЮДЗЕЙ БЫЛО ТРОХУ.** Гл. цару.

**СУХОГА РУБЦА НЕ БЫЛО** *на кім.* Гл. няма.

**ТВАРУ НЕ БЫЛО** *на кім.* Гл. няма.

**ШТО́ Б ТА́М НІ БЫЛО́ (СТА́ЛА).** *Акал. Функц. не зам.* Часцей ужыв. пры дзеясл.-вык. зак. тр. Абавязкова, нягледзячы ні на якія абставіны, цяжкасці і пад. **Сін.**: кроў з носа, а; любой цаной; <усімі> праўдамі і няпраўдамі; хоць з калена вылямі; хоць <ты> лопні (у 2 знач.). *Трэба дастаць гэты ключ што б там ні было!* Баранавых. *[Дабрыян:] Супакойся, прашу цябе. Што б там ні было ў нашых адносінах нічога не зменіцца.* Крапіва. *Трэба было вылазіць з вады, але Марцін што б там ні стала захацеў яшчэ раз паставіць сетку каля купінкі аеру.* Колас. *Было ясна — Шмігельскія пайшлі на адкрытую контррэвалюцыю. Трэба было іх што б там ні стала арыштаваць.* Лобан.

**ШТО БЫЛО ДУХУ.** Гл. духу.

**ШТО БЫЛО СІЛЫ.** Гл. сілы.

**ЯБЛЫКУ НЕ БЫЛО ДЗЕ ЎПАСЦІ.** Гл. упасці.

**ЯК БЫ ТА́М НІ БЫЛО́.** *Акал. Функц. не зам.* Нягледзячы ні на што, насуперак усяму. **Сін.**: што ні кажы; як ні круці; як-ніяк (у 1 знач.). *Як бы там ні было — трэба хутчэй даваць адгэтуль ходу.* Чорны. *Як бы там ні было, Мішка наважыўся пакінуць свой назіральны пункт і спусціцца ўніз, на зямлю, да сваіх.* Лынькоў. *Як бы там ні было, а перад хлопцамі ляжала туша сапраўднага мядзведзя, здабыча, якой ганарыўся б кожны паляўнічы.* Маўр. *Як бы там ні было, Хацяноўскі вырашыў абследаваць рану.* Чарнышэвіч.

**ЯК <І> НЕ БЫЛО́.** *У безас. ужыв. Разм.* **1.** *каго.* Хто-н. бясследна, імгненна знік. **Сін.**: <і> след прастыў *чый, каго*; толькі і бачылі *каго*; як вадой змыла (у 1 знач.); як ветрам здзьмула (у 1 знач.); як маланкай спаліла *каго. Жан хацеў і пацалункам Валю ўцешыць, як ласункам, а яна — за памяло, Жана — як і не было. Праз разоры, праз жыты даў дадо-*

*му лататы...* Сушко. *То ж паскуднае стварэнне — плотка! Каб жа ёй па-людску, дык не, тыркаецца, тыркаецца, а чарвяка як не было, нібы кот злізнуў...* Лынькоў.

2. *чаго.* Што-н. раптоўна знікла, перастала існаваць. **Сін.**: як вадой змыла (у 2 знач.); як ветрам здзьмула (у 2 знач.); як карова языком злізала *каго, што. — Вось паўбаханкі як і не было, — пашкадавала маці.* Крапіва. *Страху ў мяне цяпер як і не было. Ці мо проста не было калі думаць пра яго?* Якімовіч. *Маёй ранейшай радасці як не было.* Бядуля. *Аднойчы Наўмыснік, цяпер ужо брыгадзір цесляроў, распарадзіўся разабраць хату на апал барака. За вечар хаты як не было.* Чорны.

**ЯК НІЧО́ГА <І> НЕ БЫЛО́.** *Акал. Разм.* Не зважаючы на тое, што адбылося. **Сін.**: як <і> не лыс; як ні ў чым не бывала. *[Тася] схавала ад Марысі яе хваробу. Сказала, што яе прывезлі ў бальніцу з высокай тэмпературай. — Ты, пэўна, недзе прастудзілася, — як нічога не было сказала Тася.* Баранавых. *[Язэп] выйшаў з-за дуба і падаўся па дарозе як нічога і не было. Ідзе сабе звычайны падарожны, і ўсё.* Якімовіч. *— А дзе я табе грошы вазьму на тыя машыны?.. — А ты паслухай далей. Мы скажам — дзе, — і як нічога не было прадаўжаў сваю ролю.* Радкевіч.

*БЫТУ* • **НЕ ДАВАЦЬ БЫТУ** *каму.* Гл. даваць.

*БЫЎ* • **БЫ́Ў ДЫ СПЛЫ́Ў.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адсутнічае, пайшоў ці з'ехаў куды-н. *— Дык жа ў нас на Тураўшчыне ёсць свой чалавек, Янка Мялешка, дэлегат беларускага кангрэса. Ён нам пасадзейнічае ў гэтай справе. — Быў ды сплыў, — выпаліў Кастроўскі. — Янка Мялешка стаў праваю рукою Саўкі Касача. Ух, разбойнікі!* Гурскі. *— А дзе... містэр Крафт? — Быў ды сплыў, — неахвотна падняў галаву Судзір... — Праўда, заўтра яшчэ зможаш яго пабачыць.* Місько. *[Перагуд:] А харошая была дзяўчына. [Наталля:] Была ды сплыла... Так вам і трэба. [Перагуд:] Чаму? [Наталля:] Таму, што расцяпа. За харошае змагацца трэба.* Крапіва.

**ЯК ТУ́Т <І> БЫ́Ў (БЫЛА́, БЫЛІ́).** *Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адразу, раптоўна з'явіўся, аказаўся. **Сін.**: тут як тут. *Войт стадолу адчыніў, і аконам у стадоле — як тут быў.* Дунін-Марцінкевіч. *[Паўлінка:] Ай! нехта ідзе. Ён, ён, напэўна, ён! [Якім:] Вось і я — як тут быў!* Купала. *[Свацця:] Адна суседская дзяўчына-камсамолка дзве вярсты плыла пад лёдам — і жывая вылезла. [Бабка:] Вылезла? [Свацця:] Як тут была.* Галубок. *Бывала, што сарвецца ў каторага неасцярожнае слова. Барыс Рудзянка — як тут і быў.* Новікаў.

*БЫЦЦАМ* • **< БЫЦЦАМ > ГАРА З ПЛЕЧ <ЗВАЛІЛАСЯ>** *у каго, з чыіх.* Гл. гара.

**БЫЦЦАМ КАМЕНЬ З ПЛЯЧЭЙ ЗВАЛІЎСЯ** *ў каго.* Гл. камень.

**БЫЦЦАМ КАМЕНЬ З СЭРЦА ЗВАЛІЎСЯ** *ў каго.* Гл. камень.

**БЫЦЦАМ ЛЕНІН НА БУРЖУАЗІЮ.** Гл. ленін.

**БЫЦЦАМ ТАПЕЛЕЦ ЗА САЛОМІНКУ.** Гл. тапелец.

**БЫЦЦАМ ФЕНІКС З ПОПЕЛУ.** Гл. фенікс.

**<БЫЦЦАМ> ЧОРТАМ ПАДШЫТЫ.** Гл. падшыты.

**ЯК БЫЦЦАМ ЧОРТ ГАРОХ МАЛАЦІЎ** *на чым.* Гл. чорт.

**ЯК (БЫЦЦАМ) ЯЗЫК ПРАГЛЫНУЎ.** Гл. праглынуў.

*БЫЦЬ* • **НЕ МОЖА БЫЦЬ.** Гл. можа.

**ТАК І БЫЦЬ.** Гл. так.

**ЯК МАЕ БЫЦЬ.** Гл. мае.

*БЫЧКА* • **КАЗКА ПРА БЕЛАГА БЫЧКА.** Гл. казка.

*БЭ* • **НІ А НІ БЭ.** Гл. а.

**НІ БЭ́ НІ МЭ <НІ КУКАРЭ́КУ>** не ведаць, не разумець і пад. *Акал. ці ў знач. вык. (пры апушчаным дзеясл.). Прaст. Неадабр.* Зусім нічога. **Сін.**: ні а ні бэ; ні бельмеса; ні бум-бум; ні бэ ні мя; ні вуха ні рыла; ні ў зуб <нагой>; ні цэ ні бэ. *Нялоўка яму [Сцёпку] перад Аленкаю: яна комплексы праходзіць, а ён аб гэтых комплексах ні бэ ні мэ.* Колас. *[Курнеў:] Другі стаіць ля станка і ні бэ ні мэ, порк сюды, порк туды, а станок — ні з месца.* Кучар. *А гэты аболтус пасміхаецца: «Калі я не буду ведаць ні бэ ні мэ ні кукарэку, вы ўсё роўна двойку не паставіце. Вас жа будуць лаяць, а не мяне...»* Леванoвіч. *«Недарма яго ахрысцілі нелюдзімым, — нядобрым вокам акінуў згорбленага Шыманоўскага. — Прывалокся і скамянеў, што статуя. Ні бэ ні мэ табе ні кукарэку».* Калодзежны.

**НІ БЭ́ НІ МЯ́** не ведаць, не разумець і пад. *Акал. ці ў знач. вык. (пры апушчаным дзеясл.). Прaст. Неадабр.* Зусім нічога. **Сін.**: ні а ні бэ; ні бельмеса; ні бум-бум; ні бэ ні мэ <ні кукарэку>; ні вуха ні рыла; ні ў зуб <нагой>; ні цэ ні бэ. *Другі баран — ні «бэ» ні «мя», а любіць гучнае імя.* Крапіва. *[Стыляга] высакамерна і грэбліва прапаведуе і мне, і вам, і ўсім сумленным людзям нешта вельмі моднае, вельмі высокае, вельмі заходнееўрапейскае, і яшчэ далей, у чым, дарэчы, сам ён, бедненькі, часцей за ўсё — ні бэ ні мя.* Брыль. *Калісьці мамы сваіх дзяцей (найлепшых самых!), займеўшы там, дзе трэба «руку», сілком упхнулі ў навуку. Ды тыя ў ёй — ні бэ ні мя; чаго няма, таго няма!* «ЛіМ».

**НІ ЦЭ НІ БЭ**. Гл. цэ.

*Б'ЮСЯ* • **Б'Ю́СЯ АБ ЗАКЛА́Д**. *Незак. Толькі ў 1-й ас. адз. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Клянуся, што гэта так. *Б'юся аб заклад: у вас сёння адбылося нешта такое... што толькі раз бывае ў жыцці. Ці не так?* Блакіт.

*Б'ЮЦЬ* • **Б'Ю́ЦЬ І ПЛА́КАЦЬ НЕ ДАЮ́ЦЬ**. *Незак. Часцей у мн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці ў абаг.-асаб. знач. Бязмежна здзекуюцца з каго-н. *«Адам, сынок ты мой! Скажы, за што такая старасць паганая мая? За што такая кара? Як гэта кажуць, — б'юць і плакаць не даюць... А чаму?»* Бядуля. *[Данілка:] Кожны вас шчыпае, кожны вас ашуквае, кожны вас, як то кажуць, б'е і плакаць не дае.* Купала. *— Б'юць і плакаць не даюць [акупанты], — кажа адзін селянін. — Забіраюць лепшых людзей, а як заступішся за іх, дык і цябе разам цягнуць.* Мядзёлка. *— Няма на іх, аспідаў, управы! — А божачка, божачка!.. Б'юць і плакаць не даюць, — божкала бабка.* Аношкін.

**ЛЯЖА́ЧАГА НЕ Б'Ю́ЦЬ**. *Незак. У абаг.-асаб. знач. Разм.* Таго, хто трапіў у бяду, не караюць. *Цімафей Міронавіч, пэўна ўзяўшы на ўвагу, што ляжачага не б'юць, прайшоў паўз яе [жонку] у хмурым маўчанні і дэманстрацыйна ляпнуў дзвярмі ў чыстую палавіну хаты.* Зарэцкі. *З кучы трупаў каля машын выцягнулі аднаго жывога... Ён, бачыце, не толькі не фашыст, а нават і не немец... Прыгадаў нават тое, што бацькаўшчына яго, Італія, ужо не ваюе супроць Расіі і што яму вельмі б хацелася жыць... Ну, чорт з табой, ляжачага не б'юць.* Брыль.

*БЯГУ* • **НА БЯГУ́**. *Акал. Разм.* **1**. Мімаходам, адначасова з іншымі заняткамі (рабіць што-н.). **Сін.**: на хаду (у 1 знач.). *А як слала я лянок на зялёным на лугу, дзе папаўся Міхасёк, цалавала на бягу.* Купала. *Свінарнік абвясціў трывогу. Схапіўшы на бягу шматок пякучых строф, спяшаюся свінні на дапамогу.* Крапіва.

**2**. З лёгкасцю, без намаганняў (рабіць што-н.). *[Галіна] рабіла ўрокі на бягу — і ўсё запамінала ў момант.* Радкевіч. *Людскі плач, скаргаў шум ловіць мысль на бягу.* Купала.

*БЯГУЦЬ* • **МУРАШКІ БЯГУЦЬ ПА ЦЕЛЕ** *у каго, каго, чым.* Гл. мурашкі.

*БЯГУЧАГА* • **ЛАВІ БЯГУЧАГА ВАЎКА СЛЕД** *калі.* Гл. лаві.

*БЯДА* • **БЯДА́ ВЯЛІ́КАЯ (ВЯЛІ́КАЯ БЯДА́)**. *У безас. ужыв. Разм.* Няважна, не мае значэння; падумаеш. **Сін.**: клопат вялікі <*каму*>; не <вялікая> бяда; такой бяды. — *А што плятуць — няхай плятуць. На тое ў людзей языкі доўгія. — Ды яно ж так. Як сама ведаеш, што нічога, дык бяда вялікая.* Крапіва. — *Я ж дасюль не ведаю вашага прозвішча. — Бяда вялікая, падумаеш... прозвішча...* Зарэцкі. —*Выбіваемся з графіка. — Вялікая бяда. — Зборка стане. Ты такі абыякавы.* Мыслівец.

**БЯДА́ МАЛА́Я** *каму. У безас. ужыв. Разм.* Што-н. не датычыцца каго-н. — *Ах ты, ёлупень стары! — Баба Дзеда лае. — Стой жа тут, хоць ты згары! Мне бяда малая.* Крапіва. *[Шчырэц:] Ты — гарадскі, табе бяда малая: тваіх палёў жаўнеры не патопчуць.* Глебка.

**НЕ <ВЯЛІ́КАЯ> БЯДА́**. *У безас. ужыв. Разм.* Няважна, не мае значэння; падумаеш. **Сін.**: бяда вялікая; клопат вялікі <*каму*>; такой бяды. *[Шкуранкоў:] Гэта ж мазгоў трэба не мець, каб падвяргаць мяне такой небяспецы. Што там за камандзіры безгаловыя. Я ж ім не які-небудзь цюха-мацюха, што хоць і загіне, дык не вялікая бяда.* Крапіва. *Не бойся, а ўзарвецца — не вялікая бяда.* Быкаў. *Стараватая будзе жонка? Не бяда! Ён і сам не малады.* Чарнышэвіч.

*БЯДУ* • **ЯК НА БЯДУ́**. *У знач. пабочн. сл. Разм.* Быццам кімсьці падстроена. Выказванне шкадавання ў сувязі з чым-н. **Сін.**: як на грэх; як на злосць; як на ліха; як на тое; як на тое ліха. *Пажар той выбухнуў, як з грому, хоць ён і меў свае прычыны. Як на бяду, пайшлі мужчыны і Уладзік з імі ўрассыпную...* Колас. *А тут якраз, як на бяду, памёр раптоўна Баця.* Крапіва. *Пальчык.. асцярожна прайшоў праз адчыненыя дзверы ў сярэдзіну казармы. Днявальны, як на бяду, сядзеў на табурэце насупраць дзвярэй.* Дамашэвіч.

*БЯДЫ* • **ТАКО́Й БЯДЫ́**. *У безас. ужыв. Разм.* Няважна, не мае значэння; падумаеш. **Сін.**: бяда вялікая; клопат вялікі <*каму*>; не <вялікая> бяда. *Толькі я не адбіў тэлеграм — от і не сустракаюць. Не адбіў, і — такое бяды — і без іх давялі сюды незнаёмыя сцежкі — дзе машынай, дзе пешкі.* Куляшоў. *Калі не стане Анцік мой біёлагам — такой бяды!* Гілевіч. — *Нічога я ў цябе не ўмею. Во якую няўмеку ўзяў. — Такой бяды — навучымся, — супакойвае ён Лету.* Сіпакоў.

*БЯЗДОННАЯ* • **БЯЗДОННАЯ БОЧКА**. Гл. бочка.

*БЯЛІЗНЕ* • **КАПАННЕ Ў БРУДНАЙ БЯЛІЗНЕ**. Гл. капанне.

*БЯЛІ́ЗНУ* • **ВАРУШЫЦЬ БРУДНУЮ БЯЛІЗНУ**. Гл. варушыць.

*БЯЛЬМО* • *Як (нібы)* **БЯЛЬМО́ НА ВО́КУ** <*каму, у каго, для каго*>. *Вык. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. (Як) вялікая перашкода, што раздражняе сваёй прысутнасцю (наяўнасцю). **Сін.**: скула ў баку <*для каго*>; як скула <*для каго*>. *І Волька нешта злуецца. Усім я тут як бяльмо на воку.* Васаносаў. *З Мглёўскім гарнізонам трэба было канчаць — ён быў як бяльмо на воку.* Карпаў. *Неяк вясной зайшлі да мяне механізатары і кажуць: замінае хутарскі сад. Трэба выкарчаваць, а то як бяльмо на воку.* Леваневіч. *Гарнізон у Дражна для партызан быў нібы бяльмо на воку.* Сергіевіч.

*БЯЛЬМОМ* • *Быць, з'яўляцца, станавіцца* **БЯЛЬМО́М НА ВО́КУ** *каму, у каго, для каго. Кампанент вык. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абст. прадмета. (Быць і пад.) вялікай, непрыемнай перашкодай, якая раздражняе сваёй прысутнасцю (наяўнасцю). *Бяльмом на воку быў Яўхіму Пілiпаў зруб. Ідзе ў лес Яўхім — стаіць, красуецца зруб, ідзе з лесу Яўхім — стаіць зруб, красуецца.* Сачанка. *Стаў той*

*мост бяльмом на воку, разбірала хлопцаў злосць. На сваёй зямлі, пад бокам фашыстоўскі ягамосць.* Астрэйка.

*БЯРОЗАВАЯ* • **БЯРОЗАВАЯ КАША**. Гл. каша.

*БЯРОЗАВЫ* • **ПЕНЬ БЯРОЗАВЫ**. Гл. пень.

*БЯРОЗАЮ* • **БЯРОЗАЮ ЛІЦЦА**. Гл. ліцца.

*БЯРЫ* • **БЯРЫ́ НЕ ХАЧУ́** <*чаго*>. *Толькі ў заг. л. У безас. ужыв. Разм.* Вельмі многа, у вялікай колькасці (матэрыялу, ежы і інш.). **Сін**.: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); валіцца цераз горла *у каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць паваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; < хоць > плот гарадзі *кім, каго*; хоць < ты > махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. Гэты лес цяпер у добрага гаспадара пад нагамі валяецца. Бяры не хачу. Відацкая нешта пачула, калі за бесцань лес аддала.* Лобан. *На скрыжаваннях прадаўцы цытрусавых савалі апельсіны, лімоны, арахіс — бяры не хачу.* Левановіч. *— А памятаеш, як на караблі нас сухой бульбай кармілі? — Ніякага смаку. А тут — бяры не хачу.* «ЛіМ».

**БЯРЫ́ (-ЦЕ) ВЫШЭ́Й; ПАДЫМА́Й (-ЦЕ) ВЫШЭ́Й**. *Толькі ў заг. л. Акал. Разм.* Значна больш, чым мяркуе хто-н. *— Ты ў Каўпака радавым быў? — Бяры вышэй. Выбіўся ў камсоргі роты.* Навуменка. *— А мне здаецца... бачу па вачах... што радавы Сяржантаў даслужыцца да палкоўніка... не, да генерала! — сказаў генерал і павярнуўся да сястры. — Як вы думаеце — даслужыцца? — Бярыце вышэй, — падумаўшы, адказала сястра.* Васілёнак. *[Карнейчык:] Што ж ты там... сектарам якім загадваеш? [Лютынскі: ] Падымай вышэй — намеснік наркома.* Крапіва.

**КАДУК ЯГО БЯРЫ**. Гл. кадук.
**ЛІХА ЯГО БЯРЫ**. Гл. ліха.
**ТРАСЦА ЯГО БЯРЫ**. Гл. трасца.
**ХАЛЕРА ЯГО БЯРЫ**. Гл. халера.
**ЧОРТ ЯГО БЯРЫ**. Гл. чорт.

*БЯРЭ* • **ВАША БЯРЭ**. Гл. ваша.
**КАДУК НЕ БЯРЭ** *каго*. Гл. кадук.
**ЛІХА НЕ БЯРЭ** *каго*. Гл. ліха.
**МАЁ БЯРЭ**. Гл. маё.
**НАША БЯРЭ**. Гл. наша.
**НІЯКАЕ ЛІХА НЕ БЯРЭ** *каго*. Гл. ліха.
**НІЯКАЯ ТРАСЦА НЕ БЯРЭ** *каго*. Гл. трасца.
**НІЯКАЯ ХАЛЕРА НЕ БЯРЭ** *каго*. Гл. халера.

**НІЯКІ ЧОРТ НЕ БЯРЭ** *каго.* Гл. чорт.
**ТВАЁ БЯРЭ.** Гл. тваё.
**ХАЛЕРА НЕ БЯРЭ** *каго.* Гл. халера.
**ХВАРОБА НЕ БЯРЭ** *каго.* Гл. хвароба.
**ЧОРТ НЕ БЯРЭ** *каго.* Гл. чорт.
**ЧЫЯ БЯРЭ.** Гл. чыя.

*БЯСЦЭНАК* • **ЗА БЯСЦЭ́НАК; ЗА БЕ́СЦАНЬ** *прадаваць, купляць, аддаваць.* *Акал. Разм.* Вельмі танна, амаль задарма. *Цікавых кніг у Пекі было болей, чым у мяне, і раней ён іх вельмі шанаваў. Цяпер жа прадаваў проста за бясцэнак.* Навуменка. *Часцей за ўсё яго [Лявона] можна было сустрэць на рынку ці ў сваім райцэнтры, дзе ён скупляў за бясцэнак масла, яйкі і іншыя прадукты, ці ў Мінску, дзе ён прадаваў гэтыя прадукты значна даражэй.* Корбан. *Здарылася няшчасце — закульгаў конь, і прыйшлося яго за бесцань прадаць.* Чорны.

# В

*ВА-БАНК* • **ІСЦІ ВА-БАНК.** Гл. ісці.
**ПАЙСЦІ ВА-БАНК.** Гл. пайсці.

*ВАВЁРКА* • *Круціцца* **ЯК (ШТО́) ВАВЁРКА Ў КО́ЛЕ.** *Акал. Разм.* У пастаянных занятках, клопаце. — *У нас нявыкрутка, — нахмурыўся Косач, — Як той казаў: круцімся як вавёрка ў коле.* Гурскі. *Хвіліны супакою няма. З цёмнага да цёмнага як вавёрка ў коле круціцца...* Шамякін. *Круціўся [Вадзім] што вавёрка ў коле. Раніцай перапоўнены тралейбус, прахадная, подбегам шпарыў у сваё КБ, вешаў паліто ў металічную шэра-блакітную шафу, па цесным праходзе між сталоў прабіраўся да акна.* Левановіч.

*ВАВІЛОНСКАЕ* • **ВАВІЛОНСКАЕ СТОЎПАТВАРЭННЕ.** Гл. стоўпатварэнне.

*ВАГА* • **УДЗЕ́ЛЬНАЯ ВАГА́** *чаго, каго, чыя ў чым. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Пэўная роля, месца, значэнне чаго-, каго-н. у чым-н. *З улікам усяго гэтага можна меркаваць пра ўдзельную вагу кнігі ў сённяшнім культурным працэсе.* Мележ. *У паўнакроўным жыцці літаратуры кожны жанр мае сваю ўдзельную вагу, а проза — асабліва вялікую ў сілу самой сваёй прыроды.* Семашкевіч. *На жаль, у табліцы... не паказана асобна ўдзельная вага фабрычных рабочых.* «Весці».

*ВАГАВАЯ* • **ВАГАВАЯ КАТЭГОРЫЯ.** Гл. катэгорыя.

*ВАГУ* • **НА ВАГУ́ ЗО́ЛАТА.** *Разм. Адабр.* **1.** *Акал.* Вельмі высока, дорага (цаніць, каштаваць, абыходзіцца і пад.). *Клімковіч хоць і не пачынаючы аўтар, але яму ўласціва хвароба пачынаючага — даражыць кожным сваім словам і цаніць яго на вагу золата.* Крапіва. *Вы ж апрача ўсяго агнетрывалую дынасавую цэглу зможаце эканоміць. А яна, пэўна, на вагу золата каштуе.* Карпаў.
**2.** *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. ці абстр. прадмета. Вельмі значны, каштоўны, цэнны. *Змоўкні ты.., увесь настрой псуеш, заладзіў, як панамар, памру, памру. Такія, як ты, на вагу золата... Ты нам жывы патрэбны.* Марчук. *Гэты памідор на вагу золата!* Аношкін. *Цяпер ужо кожнае слова майго друга для мяне на вагу золата.* Вітка.

 • **ВАДА́ НА МЛЫ́Н** *каго, чый. Мн. не ўжыв. Часцей вык. Разм.* Дапамога, садзейнічанне каму-н. *Генерал-губернатар.. не мог адважыцца даць пазваленне памаліцца за душу палітычнага ссыльнага. Усё гэта было толькі вада на млын моладзі. Набожная Масква загудзела: бязбожнікі студэнты хочуць ісці ў царкву спраўляць паніхіду (па кім — добра не разбіраліся), а начальства не пушчае. Што за ліха?!* Ядвігін Ш.

**ВАДА́ НЕ ТРЫМА́ЕЦЦА (НЕ ТРЫМА́ЛАСЯ, НЕ Ў́СТО́ІЦЬ)** *на кім. У безас. ужыв. Разм. Адабр. і неадабр.* Хто-н. вельмі рухавы, непаседлівы. **Сін.**: скура гаворыць *у каго, на кім*; скура гарыць *на кім. На Улляне тады, як гаварыў мне хросны, «вада не трымалася», няўрымста была і рагатуха.* Брыль. *Шынкевіч і сам быў нечым падобны на Сібірака. Нізкі, шырокі ў плячах і рухавы, вада не ўстаіць, нават бровы ў яго хадзілі хадуном увесь час.* Пташнікаў.

**ДЗЕСЯ́ТАЯ (СЁМАЯ) ВАДА́ НА КІСЯЛІ́.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Жарт.* Вельмі далёкі сваяк. **Ант.**: свая кроў. *Марчук вам дзесятая вада на кісялі: ён пляменнік вашай стрыечнай цёткі.* Радкевіч. *[Хмара:] Радня! Хе-хе-хе!.. Ну і жартаўніца вы. Напэўна, дзесятая вада на кісялі!* Чавускі. *Антоні Плахінскі быў сын таго дзядзькі і даводзіўся ён дваюрадным ці траюрадным братам — адным словам, сёмая вада на кісялі...* Гарэцкі.

**ЦЯМНА́ ВАДА́ ВА О́БЛАЦЭХ.** *Устар. Часцей у знач. вык. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета ці пры дзейн., выраж. займ. *гэта.* Незразумелае, туманнае. **Сін.**: кітайская грамата; цёмны лес <*для каго*>. **Ант.**: простая арыфметыка. *[Грэнка:] І вы, едучы сюды, я думаю, не хваліліся, куды і чаго едзеце? [Гарнак:] Цямна вада ва облацэх.* Колас. — *Пачакай, мы ж не дагаварылі. — Я пазней мо зайду... — Цямна вада ва облацэх! — Цямна вада ва облацэх! — мнагазначна працягнуў Понтус.* Карпаў. *[Напорка:] Для мяне гэта мэта — «темна вода во облацех». Усю плошчу на клеткі парэзалі, а для чаго, і самі не ведаем.* Крапіва.

**ШТО (ЯК, НІБЫ́) З ГУСІ́ ВАДА́** *з каго, каму. У безас. ужыв. Разм. Часцей неадабр.* Абсалютна аднолькава, без розніцы, не мае значэння для каго-н., не хвалюе, не кранае каго-н. **Сін.**: абы дзень да вечара *каму* (у 2 знач.); адзін хрэн *каму*; адзін чорт <*каму, для каго*>; адна трасца <*каму*>; адна халера; адно ліха; і гора мала *каму*; і не шум баравы *каму*; ні горача ні холадна *каму ад чаго*; усё адно (у 2 знач.); усё роўна (у 4 знач.); хоць бы хны (у 3 знач.); хоць бы што (у 3 знач.); хоць воўк траву еш; хоць патоп; хоць трава не расці <*каму*>; як з гусака вада *з каго. З адзінокай Клаўдзі Рабертаўны — што з гусі вада, а Дабрамыслаў перажываў.* Лобан. *Во чартоўка! Выходзіць, з яе — што з гусі вада. Хацелася, каб яна плакала, а яна — смяецца.* Шамякін. *[Жанчыны] лаялі ўвесь мужчынскі род. І такія яны і сякія, гэтыя мужчыны, ім хоць бы што, з іх як з гусі вада...* Арабей. *І думаюць-гадаюць тады людзі — па якой жа гэта прычыне аднаго караюць па ўсёй строгасці, а другому ўсё сыходзіць з рук, усё яму як з гусі вада.* «Звязда». *[Фараон] загадвае Абраму: «За агіднае штукарства выбірайся з майго царства». А таму і не бяда: усё — нібы з гусі вада.* Крапіва.

**ЯК З ГУСАКА́ ВАДА́** *з каго. У безас. ужыв. Разм. Часцей неадабр.* Абсалютна аднолькава, без розніцы, не мае значэння для каго-н., не хвалюе, не кранае каго-н. **Сін.**: абы дзень да вечара *каму* (у 2 знач.); адзін хрэн *каму*; адзін чорт <*каму, для каго*>; адна трасца <*каму*>; адна халера; адно ліха; і гора мала *каму*; і не шум баравы *каму*; ні горача ні холадна *каму, ад чаго*; усё адно (у 2 знач.); усё роўна (у 4 знач.); хоць хны (у 3 знач.); хоць бы што (у 3 знач.); хоць воўк траву еш; хоць патоп; хоць трава не расці *каму*; што з гусі вада *з каго, каму. Ты сам добры гусак. Гэта ж пра цябе гавораць: «З яго як з гусака вада».* Крапіва. *Адлучыць [ад гарэлкі] хіба якая страшная хвароба. Ужо званоч-*

*кі былі, пару разоў вярталі яго з таго свету. Але са Шпулькі — як з гусака вада.* Гіль. *З яго як з гусака вада... А ад бутэлькі — за вушы не адцягнеш.* Кацюшэнка. *Усе смяяліся да слёз, а з Ані — як з гусака вада.* Бязлепкіна.

*ВАДЗЕ* • **ВІЛАМІ ПА ВАДЗЕ ПІСАНА**. Гл. пісана.
**<І> У АГНІ́ НЕ ГАРЫЦЬ І Ў ВАДЗЕ НЕ ТОНЕ**. Гл. гарыць.
**ЛАВІЦЬ РЫБУ Ў КАЛАМУТНАЙ ВАДЗЕ**. Гл. лавіць.
**ЛОЎЛЯ РЫБКІ Ў МУТНАЙ ВАДЗЕ**. Гл. лоўля.
**СЯДЗЕЦЬ НА ХЛЕБЕ І <ДЫ> <НА> ВАДЗЕ**. Гл. сядзець.
**У ГАРАЧАЙ ВАДЗЕ КУПАНЫ**. Гл. купаны.
**ЯК ПУГАЙ ПА ВАДЗЕ** *каму*. Гл. пугай.
**ЯК РЫБА Ў ВАДЗЕ**. Гл. рыба.

*ВАДЗІЦЬ* • **ВАДЗІ́ЦЬ ДЗЯДЫ́**. *Незак. Разм. Жарт.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Драмаць седзячы. **Сін.**: вудзіць акунёў; кляваць носам; табаку важыць. *Пакінула старая мода ад прыцемак вадзіць дзяды.* Хадыка. *Бывае, што другі на сходзе сядзе і давай вадзіць дзяды.* Янкоўскі.

**ВАДЗІ́ЦЬ ЗА НО́С** *каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Уводзіць у зман, ашукваць. **Сін.**: абводзіць вакол пальца *каго*; абуваць у лапці *каго*; бакі забіваць *каму*; браць на арапа *каго*; браць на бога *каго*; браць на вудачку *каго*; браць на пушку *каго*; вешаць лапшу <на вушы> *каму*; віляць хвастом (у 1 знач.); выводзіць у поле *каго*; гнуць дугі; гуляць у ката і мышку; дурыць галаву *каму (у* 1 знач.); задурыць галаву (у 3 знач.); замазваць вочы *каму*; замыльваць вочы *каму*; запраўляць арапа; кампасціраваць мазгі *каму*; корчыць дурня (у 1 знач.); круціць хвастом (у 1 знач.); муціць галаву *каму*; настаўляць акуляры *каму*; прадаць *каго* і грошы палічыць; пудрыць мазгі *каму*; пускаць пыл у вочы *каму*; сляпіць вочы *каму* (у 1 знач.); травіць баланду (у 2 знач.); туманіць вочы *каму*; туманіць галаву *каму*. *Рытвінскага вельмі злавала думка, што нейкі хлапчук колькі часу вадзіў яго за нос.* Баранавых. *Табе што, прыемна нас абодвух за нос вадзіць.* Караткевіч.

**ВАДЗІ́ЦЬ КАЗУ́**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Хадзіць гуртам у стане ап'янення. *[Грачоў гаворыць тром п'яным калгаснікам, якія ідуць абняўшыся:] Што вы сабе думаеце, хлопцы! Пасяўная не за гарамі, а вы ў рабочы дзень казу водзіце па сяле.* Макаёнак. *У Андрэя, халасцяка, яны рэзаліся ў «пульку» ... А пасля «пулькі» вадзілі казу: ад Андрэя да Паўла, ад Паўла да Максіма. І жонкі, гасцінныя, любілі, калі мужы бралі за губу дома.* «Крыніца».

**2**. П'янстваваць, напівацца. **Сін.**: бачыць шклянога бога; браць у губу; глядзець у бутэльку; закідваць за гальштук; закідваць за каўнер; закладваць за каўнер; заліваць вочы <*чым*> (у 1 знач.); заліваць за каўнер; заліваць чарвяка; мокнуць у гарэлцы; наліць горла; наступаць на корак; не прасыхаць; панюхаць корак; прамачыць горла. **Ант.**: не браць у рот *што, чаго* (у 2 знач.). *«Вадзілі казу» беларускія творцы і да вайны, натхніцелямі былі такія «геніі», як Алесь Кучар, і ён жа даносіў на п'яную «свабодалюбівую» балбатню сваіх калег, і некаторыя з іх паплаціліся за гэта жыццямі ці доўгай катаргай.* Шамякін. *Сцяпан Майхровіч з Міхасём Машарам і іншымі аўтарамі «вадзіў казу».* «ЛіМ».

*ВАДОЙ* • **ВАДОЙ НЕ РАЗАЛЬЕШ** *каго*. Гл. разальеш.
**<З> ВАДОЙ СПЛЫЎ**. Гл. сплыў.
**ПЛЫСЦІ ЗА ВАДОЙ**. Гл. плысці.
**ЯК ВАДОЙ ЗМЫЛА**. Гл. змыла.

*ВАДОЮ* • **ЧАСАМ З КВАСАМ, А ПАРОЮ З ВАДОЮ**. Гл. часам.

*ВАДУ* • **БРАХАЦЬ НА ВАДУ**. Гл. брахаць.
**ВАЗІЦЬ ВАДУ** *на кім.* Гл. вазіць.
**ВАРЫЦЬ ВАДУ** з *каго.* Гл. варыць.
**ВЫВОДЗІЦЬ НА ЧЫСТУЮ ВАДУ** *каго, што.* Гл. выводзіць.
**<І> КАНЦЫ Ў ВАДУ**. Гл. канцы.
**КАЛАМУЦІЦЬ ВАДУ**. Гл. каламуціць.
**ЛІЦЬ ВАДУ**. Гл. ліць.
**ЛІЦЬ ВАДУ НА МЛЫН** *чый, каго.* Гл. ліць.
**НАСІЦЬ ВАДУ РЭШАТАМ**. Гл. насіць.
**НОГІ МЫЦЬ** *каму, чые* **І ТУЮ ВАДУ ПІЦЬ**. Гл. мыць.
**ПРАЙСЦІ <ПРАЗ> АГОНЬ І ВАДУ І МЕДНЫЯ ТРУБЫ**. Гл. прайсці.
**САДЗІЦЬ НА ВАДУ** *каго.* Гл. садзіць.
**САДЗІЦЦА НА ХЛЕБ І ВАДУ**. Гл. садзіцца.
**ТАЎЧЫ ВАДУ Ў СТУПЕ**. Гл. таўчы.
**У АГОНЬ І <У> ВАДУ**. Гл. агонь.
**ХАВАЦЬ КАНЦЫ <У ВАДУ>**. Гл. хаваць.
**ЦЯГНУЦЬ ВАДУ НА СВАЁ КОЛА**. Гл. цягнуць.
**ЯК У ВАДУ АПУШЧАНЫ**. Гл. апушчаны.
**ЯК У ВАДУ ГЛЯДЗЕЎ**. Гл. глядзеў.
**ЯК У ВАДУ КАНУЎ**. Гл. кануў.
**ЯК У ВАДУ ЎПАЎ**. Гл. упаў.

*ВАДЫ* • **БУРА Ў ШКЛЯНЦЫ ВАДЫ**. Гл. бура.
**ВАДЫ НЕ ЗАМУЦІЦЬ**. Гл. замуціць.
**ВАДЫ НЕ ЗАМУЦІЦЬ** *каму.* Гл. замуціць.
*Шмат* **ВАДЫ СПЛЫЛО**. Гл. сплыло.
**ВЫХОДЗІЦЬ СУХІМ З ВАДЫ**. Гл. выходзіць.
**ПАПАВАРЫЦЬ ВАДЫ** *з каго.* Гл. папаварыць.
**У ЛЫЖЦЫ ВАДЫ ЎТАПІЦЬ** *каго.* Гл. утапіць.
**ХОЦЬ ВАДЫ НАПІСЯ**. Гл. напіся.
**ЦІШЭЙ ВАДЫ <І> НІЖЭЙ ТРАВЫ**. Гл. цішэй.
**ЧЫСТАЙ (ЧЫСЦЕ́ЙШАЙ, НАЙЧЫСЦЕ́ЙШАЙ) ВАДЫ́**. *Азн. Функц. не зам.* Самы сапраўдны. **Сін.**: з галавы да ног (у 2 знач.); да мозгу касцей (у 3 знач.); ні даць ні ўзяць (у 1 знач.); што ні <на> ёсць (у 1 знач.); як ёсць (у 2 знач.); як мае быць (у 2 знач.). *[Андрэй:] Ёй на ўсё напляваць... «Не падабаецца — кацися» — уся размова. Мяшчанка, чыстай вады мяшчанка.* Маўзон. *Гаварылі прапаведнікі прыгожа і, думалася Макару, чыстай вады праўду.* Асіпенка. *Сказа напісаць не можа, а бярэцца за раман, эпапею! Падумаць толькі — эпапею! Гігантаманія карлікаў, жульніцтва чыстай вады...* Сачанка. *Бабуля ў яе чыстай вады вядзьмарка. І яна такая ж.* Казько. *А пажары, у якіх загінулі тысячы жанчын, старых і дзяцей, — выдумка чысцейшай вады.* Бажко.
**<ЯК> ВАДЫ Ў РОТ НАБРАЎ**. Гл. набраў.
**ЯК ВАДЫ Ў РОТ НАБРАЎШЫ**. Гл. набраўшы.
**ЯК ДЗВЕ КРОПЛІ ВАДЫ**. Гл. кроплі.
**ЯК У КРОПЛІ ВАДЫ**. Гл. кроплі.

*ВАЖНАСЦЬ* • **ВА́ЖНАСЦЬ ВЯЛІ́КАЯ**! *Выкл. Разм.* Што ж тут асаблівага! Пра тое, чаму не варта прыдаваць значэнне, аб чым няма чаго і гаварыць. *[Рыбнікаў:] А я ўпэўнены,*

*што і яна вось так недзе пра цябе ўспамінае. Пасварыліся... Падумаеш, важнасць вялікая! Ці мала што бывае. Чаму вам зноў не памірыцца?* Крапіва. — *Ці ж ты ўмееш? — От, важнасць вялікая...* Чорны.

*ВАЖНАЯ* • **ВАЖНАЯ ПТУШКА**. Гл. птушка.

*ВАЖЫЦЬ* • **ТАБА́КУ ВА́ЖЫЦЬ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Драмаць седзячы ці стоячы, то апускаючы, то падымаючы галаву. **Сін**.: вадзіць дзяды; вудзіць акунёў; кляваць носам. *[Альжбета:] Што ты, табаку важыш? Ідзі ды кладзіся спаць. Гэта ж табе тут не карчма!* Купала.

*ВАЗАМІ* • **ХОЦЬ ВАЗАМІ ВАЗІ** *чаго*. Гл. вазі.

*ВАЗІ* • **ХО́ЦЬ ВАЗА́МІ ВАЗІ́** *чаго. Толькі ў гэтай форме. Убезас. ужыв. Разм.* Вельмі многа. Найчасцей пра ягады, грыбы. **Сін**.: хоць граблямі грабі *чаго, каго*; хоць касой касі *чаго*; хоць касу закладвай *чаго. А ягад у нашым Барку — хоць вазамі вазі...* Хадкевіч. *Гаварылі пра брусніцы — іх было гэтым летам хоць вазамі вазі.* Ермаловіч.

*ВАЗІЦЬ* • **ВАЗІ́ЦЬ ВАДУ́** *на кім. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Абцяжарваць каго-н. непасільнай, зневажальнай работай. **Сін**.: высмоктваць сок з *каго* (у 1 знач.); выціскаць пот *з каго* (у 1 знач.); выціскаць сокі *з каго*; драць скуру *з каго* (у 1 знач.); піць кроў *з каго, чыю (у* 1 знач.); цягнуць ґізунты *з каго*; цягнуць жылы *з каго*; цягнуць кішкі *з каго*; цягнуць сок *з каго. А на Белячковым, каму толькі ахвота была, — ваду вазілі.* Радкевіч. *Будуць на табе ваду вазіць, во пабачыш... У каго ты такі недарэка?* Дудараў. *Будзь чалавекам, не глуміся. Хопіць на ёй [жонцы] ваду вазіць.* Калодзежны.

*ВАЗЬМІ* • **КАДУК ЯГО ВАЗЬМІ**. Гл. кадук.
**ЧОРТ ВАЗЬМІ**! Гл. чорт.
**ЧОРТ ЯГО ВАЗЬМІ**. Гл. чорт.

*ВАЗЬМІСЯ* • **АДКУ́ЛЬ НІ ВАЗЬМІ́СЯ**. *Акал. Разм.* Зусім нечакана, раптоўна, неспадзявана. **Сін**.: ні адсюль ні адтуль; нечакана-негадана; як гром сярод яснага неба (у 1 знач.); як снег на галаву (у 1 знач.). *Іду за сваім батальёнам — адкуль ні вазьміся спыняецца на «опелі» Віктар Вядзёркін, наш батальённы шафёр.* Ракітны. *Учора, калі [Максімчык] вазіў сілас з поля на ферму, прычэп перакуліўся, а тут адкуль ні вазьміся старшыня, убачыў і прапясочыў як трэба, паабяцаў у слесары, на яму перавесці...* І.Капыловіч.

*ВАЙНА* • **ВАЙНА́ (БІ́ТВА, ЗМАГА́ННЕ) З ВЕТРАКА́МІ**. *Часцей вык. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Дарэмная трата сіл, здольнасцей у барацьбе з уяўнай небяспекай ці несапраўднымі цяжкасцямі. *Пакуль што, праўда, трохі супрацiўляюся, але выразней і выразней бачу, што гэта — вайна з ветракамі.* Блакіт. *Платон Восіпавіч.. са злой іроніяй адрэзаў: — Прынцыповасць у дадзеным выпадку — бітва з ветракамі.* Асіпенка. *У выступленні.. з'явіўся зборны вобраз — «наш крытык», у якім сабраны ўсе недахопы і якога выкрывае пафасна і саркастычна аўтар. Ці не змаганне гэта з ветракамі?* «ЛіМ».

**ХАЛО́ДНАЯ ВА́ЙНА**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Непрыязныя, варожыя адносіны паміж кім-н. *Час ішоў, і «халодная вайна» працягвалася. Праўда, быў момант, калі здавалася, што ўсё наладзіцца [у сям'і]. Гэта калі нарадзіўся Вадзік...* «Звязда». — *Там у нас цяпер халодная вайна.* — *Як гэта халодная вайна? Паміж кім і кім? — Паміж мамай і бацем. Ён на яе злуецца, крычаць пачынае, а яна быццам не заўважае яго.* Радкевіч. *Нягледзячы на халодную вайну, якая заставалася між ім і хлопцамі,*

*бацька не ўтрываў і заскочыў-такі да іх, нейкі быццам напалоханы і таму вельмі порсткі.* Семашкевіч.

*ВАЙНЫ* • **БОГ ВАЙНЫ**. Гл. бог.

*ВАЛ* • **ДЗЕВЯ́ТЫ ВА́Л**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* **1**. Самая моцная і небяспечная хваля ў часе марской буры. *Гаварыў Асілак брату: - Глянь, дзе хвалі пеніць шторм, ці то грывай вал дзевяты, ці то зломаным крылом птушка, тонучы, махае?* Танк. *З'езд пісьменнікаў — сур'ёзны экзамен для кожнага з нас. Давайце ж не ператворым яго ў мора з дзевятым валам, у балаган, у смешкі і жартачкі.* Ліпскі. *Быццам дзевятым валам паднятыя, каціліся яны [бежанцы] на ўсход, у глыбіню Расіі, да нейкага новага, нябачнага ў тумане берага, які павінен зрабіцца іх часовым прыстанішчам.* Гіламёдаў. *Хоць і не такія марскія гайданкі пераажыў мічман Доўбік, але жончын «шторм» гразнейшы за дзевяты вал.* Гроднеў.

**2**. Грозная, нязломная сіла. *[Грэнка:] Няхай не цешыць сябе стары лад тым, што дзевяты вал мінуў! Рэвалюцыя прыдушана, але не задушана.* Колас. *Дзевятым валам над Нявою паўстаў рабочы Петраград.* Сушко.

**3**. *чаго.* Найбольшае праяўленне чаго-н. *Ашалелыя вочы шафёра. Пераваλу дзевяты вал захлыне — пералічыш не скора кожны выступ каштавых скал.* Барадулін. *Не проста з моста скакаў рэдактар на дзевятым вале злосці. Ён зразумеў, што ўліп.* Палітыка.

*ВАЛА* • **КРУЦІЦЬ ВАЛА <ЗА ХВОСТ>**. Гл. круціць.

**НІ ВАЛА́ НІ КАНЯ́**. *У безас. ужыв. Разм.* Зусім нічога (няма, не было ў каго-н.). Пра крайнюю беднасць. **Сін.**: ні кала ні двара ў *каго*; <хоць> запалі не трэсне *чаго*; хоць шаром пакаці *дзе*. *Іван Мацвеевіч вунь заняў сабе асабнячок — і анігадкі. Заплаціць па цвёрдай цане за бэбахі райфінаддзелу і будзе жыць прыпяваючы. А я што? — ні вала ні каня! І ў запас мне таксама не трэба.* Карпаў.

*ВАЛААМАВА* • **ВАЛААМАВА АСЛІЦА**. Гл. асліца.

*ВАЛААМАЎ* • **ВАЛААМАЎ АСЁЛ**. Гл. асліца.

*ВАЛАВОДЗІЦЬ* • **ВАЛАВО́ДЗІЦЬ ВАЛАВО́ДЫ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Доўга і марудна рабіць што-н. *[Мароз:] Сцёпка! Чаго валаводы валаводзіш? Табе што, нямашака чаго рабіць! Вунь венцялі трэба.. паставіць.* Кобец. *Тыя тры дні [Рыгор], калі валаводзіў валаводы са страхой, па два разы хадзіў у сталоўку, наядаўся так, каб трэці раз не хацелася.* Місько.

*ВАЛАВОДЫ* • **ВАЛАВОДЗІЦЬ ВАЛАВОДЫ**. Гл. валаводзіць.

*ВАЛАМ* • **КРУЦІЦЬ ВАЛАМ ХВАСТЫ**. Гл. круціць.

*ВАЛАСАТАЯ* • **ВАЛАСАТАЯ РУКА**. Гл. рука.

*ВАЛАСКУ* • **ВІСЕЦЬ НА ВАЛАСКУ**. Гл. вісець.

**НА ВАЛАСКУ́** <*ад чаго*>. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. У вельмі небяспечным становішчы (быць, знаходзіцца). **Сін.**: на валасок *ад чаго*. *Ён будзе пытаць, а я скажу, што ты была на валаску ад смерці, што цябе выцягнулі амаль з-пад колаў цягніка.* Сабаленка. *Многа разоў маё жыццё было на валаску, але жыла нейкая дзіўная ўпэўненасць, што мяне не заб'юць.* Дамашэвіч. *Партызаны пасля ўжо дачуліся, што жыццё Ласакова было на валаску.* Ставер. *Прагуляць два дні, калі план на валаску, — гэта не жартачкі.* Стадольнік.

**ТРЫМАЦЦА НА ВАЛАСКУ**. Гл. трымацца.

*ВАЛАСОК* • **НА ВАЛАСО́К** *ад чаго. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У стане, вельмі небяспечным, блізкім да чаго-н. (быць). **Сін.**: на валаску <*ад чаго*>. *[Палкоўнік:] Ну, і пайшла рваць дружына! Толькі пыл ды дым. Смерць косіць направа і налева. Ні сваяк, ні знаёмы не пападайся пад рукі, усе на валасок ад смерці.* Галубок. *[Мікалай] не раз быў на валасок ад смерці, але застаўся жыць.* Галавач. *Ці можна сказаць, што Варчэцкі шчаслівы? Сёння — гэта праўда, бо ён быў на валасок ад смерці.* Дамашэвіч.

*ВАЛАСОЎ* • **ДА КАРЭННЯ ВАЛАСОЎ**. Гл. карэння.

**ДА СІВЫ́Х ВАЛАСО́Ў**. *Акал. Разм.* Да старэчага ўзросту, да глыбокай старасці (дажыць, застацца і інш.). *Няшчасны ідэаліст! Да сівых валасоў дажыў і не ўцяміў, што ж гэта за рэч — жыццё.* Шамякін. *Да сівых валасоў вунь хутка дарасцеш, а ўсё пустадомкам будзеш.* Сабаленка. *Дык і ты астанешся да сівых валасоў такая ж рагатуха і навек вясёлая.* Чорны.

*ВАЛАСЦЕЙ* • <u>*Гасцей*</u> **З УСІ́Х ВАЛАСЦЕ́Й**. *У безас. ужыв. Разм.* Вельмі многа і з розных мясцін. *Калі Куляшову надышоў 60-гадовы юбілей, натуральна, было гасцей з усіх валасцей.* Барадулін. *«Было гасцей з усіх валасцей», — пажартаваў Таццянка... Прысутныя адказалі на яго жарт рогатам: смелы.* Гніламёдаў.

*ВАЛАСЫ* • **ВАЛАСЫ́ (ВО́ЛАС) СТАНО́ВЯЦЦА (ПАДЫМА́ЮЦЦА, УСТАЮ́ЦЬ) ДЫ́БАМ (ДЫ́БА, ДУ́БА, ДУБКА́)** *у каго. Незак. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. адчувае моцны страх, жах. **Сін.**: аслаблі гайкі *ў каго, чые* (у 1 знач.); вочы на лоб лезуць *у каго* (у 2 знач.); душа ў пятках *у каго, чыя*; душа ў пяткі <схавалася> *у каго*; каленкі дрыжаць *у каго*; кроў ледзянее *ў каго*; кроў у жылах стыне *ў каго*; мароз па скуры <прабягае> *у каго, каго, чыёй*; мурашкі бегаюць па целе *ў каго, каго, чым*; неба з аўчынку здаецца *каму*; паджылкі трасуцца *ў каго*; скура шэркне *на кім, у каго*; сэрца абрываецца *ў каго, чыё*; сэрца ледзянее *ў каго*; у пяткі кальнула *каму, каго* (у 1 знач.); <усе> блохі падохлі *ў каго. Як падумаю аб бывалешнім, калі заўсёды Ермалай сцябаў мяне пугаю, злавіўшы ці ў агародзе, ці з канём, дык і цяпер валасы дыбам становяцца.* Гартны. *Андрэй пачуў, як у яго падымаюцца дыбам валасы і па спіне пабег шорах.* Пташнікаў. *Тоўшч і веліч — страх праймае, волас дыбам устае!* Колас. *Прыбег сюды з таго боку адзін дзяцюк. Ён гаварыў такія штукі, ад якіх валасы дуба становяцца.* Бядуля. *Ёсць на свеце стварэнні — так званыя фрыцы, — у якіх пры слове «кацёл» валасы становяцца дубка і вочы лезуць на лоб.* Крапіва. **ВАЛАСЫ (ВОЛАС) СТАЛІ (ПАДНЯЛІСЯ, УСТАЛІ) ДЫБАМ (ДЫБА, ДУБА, ДУБКА)** *у каго. Зак. І сталі валасы дубка ў небаракі Янука.* Крапіва. *Дзікар.. спужаўся хлопца, не паверыў... Аж дыбам сталі валасы.* Трус.

**ВЫДРАЦЬ ЛЫСАМУ ВАЛАСЫ**. Гл. выдраць.

**ПРЫЦЯГВАЦЬ ЗА ВАЛАСЫ** *што.* Гл. прыцягваць.

**РВАЦЬ НА САБЕ ВАЛАСЫ**. Гл. рваць.

*ВАЛАХ* • **ВЕЗЦІ НА ВАЛАХ** *што.* Гл. везці.

**ЕХАЦЬ НА ВАЛАХ**. Гл. ехаць.

*ВАЛАЧЫ* • **ЛЕДЗЬ НОГІ ВАЛАЧЫ**. Гл. цягаць.

*ВАЛІЦЦА* • **АД (З) ВЕ́ТРУ ВА́ЛІЦЦА (ПАВА́ЛІЦЦА, ВАЛЯ́ЕЦЦА)**. *Часцей у 2-й, 3-й ас. У знач. прэдык. азн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Вельмі слабы, знясілены. **Сін.**: хістаецца ад ветру (у 1 знач.). *Слабы ж. Ногі заплятаюцца. Ад ветру валішся. Не дабярэшся.* Калодзежны. — *Прымай новага работніка!.. Толькі, глядзі, не пясці хлопца!.. — Ён жа ад ветру паваліцца.* Якімовіч. *Дзеці ж выйшлі на павет-*

*ра, дык валяюцца ад ветру — ап'янелі, знаць, бясконца яны, гледзячы на сонца, на сінюсенькае неба (ап'янееш, брат, без хлеба!).* Крапіва. *— Воласць збірае нядоімкі, як крумкач косці, — гаварыў сядзелец, — а да мяне мужык сам нясе капейку. Голы, босы, адны косці, а бутэлькі гне. З ветру валяецца, а даход дае.* Колас. *Коней мала. Ды і слабыя яны, ад ветру валяцца.* Леванові́ч.

**ВАЛІ́ЦЦА З НО́Г** *<ад чаго>. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даходзіць да поўнай знямогі,ператамляцца. **Сін.**: выбівацца з сіл (у 1 знач.); высалапіць язык; заставацца без ног; збівацца з ног; зямлі не чуць пад сабой (у 2 знач.); ледзь ногі цягаць (у 1 знач.); ледзь стаяць на нагах (у 1 знач.); ледзь шоры цягаць; на нагах не трымацца; не чуць ног; не чуць ні рук ні ног. *У сшытках «Кніга ташкенцкага быція» і «Гаворыць Клязьма» расказваецца, як настойліва, ні на крок не адхіляючыся ад задумы, пісаў Якуб Колас, хоць і валіўся з ног ад бяссоння і малакроўнасці, але кожны дзень, не дазваляючы сабе адпачыць ні на адну хвіліну нават пасля аперацыі.* Лужанін. **ЗВАЛІЦЦА З НОГ** *<ад чаго>. Зак. Папрацавалі мы з азартам, ды з ног зваліліся мы ўсе.* Кусянкоў. *[Ганна Якаўлеўна:] Вось як звалішся з ног, дык і падвядзеш. [Гудовіч:] А чаго гэта я буду валіцца з ног? [Ганна Якаўлеўна:] Таго, што ты хворы.* Крапіва.

**ВАЛІЦЦА НА ГАЛАВУ** *чыю.* Гл. звальвацца.

**ВА́ЛІЦЦА (ПА́ДАЕ) З НЕ́БА** *каму, у каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Лёгка дастаецца каму-н. *«Бяры паперу і занатоўвай! — было сказана самому сабе. — Гэткія падарункі не так часта валяцца з неба».* Лужанін. *— Ты, гэта самае, — гаварыў Пракоп, — не бяры многа [яды]. Што ў вас з неба падае?* Цяжкі.

**ВАЛІ́ЦЦА (ПА́ДАЦЬ) З РУ́К**. *Разм. Незак.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Не ладзіцца, не атрымліваецца, не выходзіць, не ўдаецца (з-за адсутнасці настрою, жадання і пад.). Пра работу, справу і пад. *Сланяўся [Глушак] з кута ў кут. Усё валілася з рук. Дрыжалі калені, брала такая слабасць, што садзіўся.* Мележ. *Настаў дзень, пара было паліць у печы, але работа валілася з рук.* Чарнышэвіч. *Каля стала сядзела жонка Васіля, Алеся. Ёй нічога не хацелася рабіць, дый работа падала з яе рук.* Колас. *Трэба было даглядаць гаспадарку: даіць карову, карміць свіней, курэй. Спачатку ўсё падала з рук.* Дамашэвіч.

**ВАЛІ́ЦЦА Ў АДНУ́ КУ́ЧУ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Змешвацца без усякіх адрозненняў паміж з'явамі, дзеяннямі і пад. *Замест аналізу памылак, пралікаў усё валіцца ў адну кучу: «і зазнаўся, і зарваўся, і ўвогуле лягчэй знайсці новага сакратара, чым паверыць, што гэты паправіць справы».* «Звязда».

**ВА́ЛІЦЦА ЦЕ́РАЗ ГО́РЛА** *ў каго. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Празмерна многа чаго-н. у каго-н. **Сін.**: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу *<чаго>*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, ча-*

*го*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. У кватэру да Кашыных Комлік зайшоў ужо смела. «А чамаданаў, як у камеры для багажу. Валіцца цераз горла», — іранічна падумаў ён, гатовы ўжо на жарты.* Карпаў. — *Э-э-э, — Яша вяла павёў галавою, — першая [ты] падышла і то не дала зарабіць граша. — А я думала — у цябе цераз горла валіцца?* Лобан. *Усё ў яго ёсць, цераз горла валіцца, а яму аніяк не хапае, каб яго трасца хапіла!* Шлег.

**З ГОРЛА ВАЛІЦЦА** *ў каго.* Гл. лезе.

**ПА САБАКУ З РОТА ВАЛІЦЦА** *ў каго.* Гл. скача.

**ШАПКА ВАЛІЦЦА**. Гл. шапка.

*ВАЛІЦЬ* • **ВАЛІ́ЦЬ З НО́Г** *каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. **1**. Вымушаць падаць, даводзіць да стану расслабленасці. **Сін**.: скідаць з ног *каго. Хвароба папросту валіла [Міхаіла] з ног, ён ужо не мог стаяць.* Самуйлёнак. *Даймаў голад, страшэнная стома валіла з ног...* Кузьмянкоў. **ЗВАЛІЦЬ З НОГ** *каго. Зак. [Саўку] нагналі і аглушылі калом, звалілі з ног, білі і мялі, а потым чуць жывога прывалаклі ў хату...* Колас.

**2**. Даводзіць да хваробы. **Ант**.: падымаць на ногі (у 1 знач.); ставіць на ногі (у 1 знач.). **ЗВАЛІЦЬ З НОГ** *каго. Зак. [Наталля:] Я і так доўга цярпела, пакуль паставіла вас на ногі. Цяпер хоць душу адвесці. [Перагуд:] Але ж так вы можаце мяне зноў зваліць з ног.* Крапіва. *Аж бацьку гора з ног звапіла.* Купала.

**ВАЛІ́ЦЬ У АДНУ́ КУ́ЧУ** *каго, што. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Змешваць неаднолькавыя прадметы, з'явы, не бачачы розніцы паміж імі. *Трэба адрозніваць адно адмоўнае ад другога і не валіць у адну кучу людзей...* Крапіва. **ЗВАЛІЦЬ У АДНУ КУЧУ** *каго, што. Зак. Навошта нам гутарка пра ссяленне-рассяленне? Звалілі ўсё ў адну кучу.* Дуброўскі. *Старшыня, як мне здаецца, усё ў адну кучу зваліў: і тое ў нас дрэнна, і гэта не так.* Пянкрат.

**ВАЛІ́ЦЬ ЦЕ́РАЗ (ПРАЗ) ПЕ́НЬ КАЛО́ДУ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рабіць абы-як, няўмела, нядбайна. *Пасля ў закусачнай на памяць хлапец асмеліўся на верш... Яшчэ валіў праз пень калоду, але рабіў мяне раўнёй свае раўні, свайго завода, тае касыначкі рабой.* Лужанін.

**ГОРЫ ВАЛІЦЬ** *на каго.* Гл. вярнуць.

*ВАЛОВАЙ* • **НА ВАЛОВАЙ СКУРЫ НЕ СПІШАШ** *чаго.* Гл. спішаш.

*ВАЛОДАННЕ* • **ВАЛО́ДАННЕ ПЯРО́М**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Уменне свабодна і выразна выказваць свае думкі на паперы. *Гэта вельмі непрыемна і прымушае яшчэ раз напамінаць аб неабходнасці дасканальнага валодання пяром.* Колас.

**ВАЛО́ДАННЕ СЛО́ВАМ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Здольнасць выразна, красамоўна гаварыць, пісаць. **Сін**.: дар слова (у 2 знач.). *Творчую адоранасць Мікола Раманоўскі выявіў у Цімкавіцкім двухкласным вучылішчы, а пазней і ў гады вучобы ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Яго хвалілі за добрае валоданне словам.* Бельскі. *Некалі Максім Горкі настойліва заклікаў маладых вучыцца майстэрству валодання словам у народа — у яго вусна-паэтычнай творчасці.* Гілевіч.

*ВАЛОДАЦЬ* • **ВАЛО́ДАЦЬ ПЯРО́М**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Умець свабодна і выразна выказваць свае думкі на паперы. **Сін**.: валодаць словам. *Я па сваёй лініі, параіўшыся ў адпаведных інстанцыях, зраблю, што палічу магчымым і неабходным, а вас, як чалавека, які валодае пяром, і наогул паколькі вы цяпер у сталіцы, прашу дапамагчы гэтай справе па сваёй, так сказаць, лініі.* Брыль. *Я па стылю бачу, што пяром валодаеце добра.* С.Александровіч.

**ВАЛО́ДАЦЬ САБО́Й**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Трымацца спакойна, стрымліваць свае пачуцці, парывы. **Сін.**: стрымліваць сябе; трымаць нервы ў кулаку; трымаць сябе ў руках. *Паверыш, Рыгор, я сам не валодаю сабой. Змучаны, прыбіты няшчасцем, я згубіў сваю людскасць...* Гартны. *Тхарыны тварык следчага зноў перасмыкнуўся, але, здаецца, ён умеў валодаць сабой. Ён нават не павысіў голасу.* Быкаў.

**ВАЛО́ДАЦЬ СЛО́ВАМ**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Мець здольнасць выразна, красамоўна гаварыць, пісаць. **Сін.**: валодаць пяром. У *Краўчанкавых апавяданнях стройны сюжэт (калі браць пад увагу, што Краўчанка пачынаючы пісьменнік), умельства валодаць словам.* Чорны. *Не валодаючы словам, нельга навучыць ні веданню матэматыкі, ні веданню мовы.* Вітка.

*ВАЛОССЕ* • **ВЫДРАЦЬ ЛЫСАМУ ВАЛОССЕ**. Гл. выдраць.

*ВАЛТАРАСАЎ* • **ВАЛТАРАСАЎ БАЛЬ**. Гл. баль.

*ВАЛЫНКУ* • **ЦЯГНУЦЬ ВАЛЫНКУ**. Гл. цягнуць.

*ВАЛЯЕЦЦА* • **АД ВЕТРУ ВАЛЯЕЦЦА**. Гл.валіцца.

**НА ДАРО́ЗЕ (НА ВУ́ЛІЦЫ) НЕ ВАЛЯ́ЕЦЦА (НЕ ВАЛЯ́ЮЦЦА)**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці канкр. прадмета. Дастаецца з вялікай цяжкасцю; дарма, лёгка не возьмеш каго-, што-н. **Сін.**: не ў яйцы пішчыць; нідзе не валяецца. *Добрыя ды багатыя мужы для бедных дваранак на дарозе не валяюцца.* Караткевіч. — *А зяця Ляксейка пасля таго не прагнаў?.. — Дзе ты прагоніш яго! Ды і навошта? Што ні кажы, а настаўнік. Такія зяці на дарозе не валяюцца.* Чыгрынаў. *Але ж і пенсія мая, мае пяцьдзесят рублёў, таксама на дарозе не валяюцца!..* Брыль. *Служанства ў горадзе мусіла прайсці кожная дзяўчына, калі хацелася мець хоць які грош на пасаг, інакш — адкуль ты яго тады ўзяў бы? На вуліцы грошы не валяліся.* Карпюк.

**НІДЗЕ́ НЕ ВАЛЯ́ЕЦЦА (НЕ ВАЛЯ́ЮЦЦА)**. *Незак. Разм:* Часцей ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Нялёгка дастаецца, лёгка не возьмеш што-н. **Сін.**: на дарозе не валяецца; не ў яйцы пішчыць. *Тры пуды [хлеба] таксама нідзе не валяюцца. Хто б табе вельмі даў больш ды яшчэ наперад?* Крапіва. *Усё падабаецца Кольку: брыгада дружная і заработкі добрыя. Што ні кажы, а дзевяноста рублёў нідзе не валяюцца.* Грахоўскі. *Воўка бяжыць, не азіраецца, нічога не гаворыць. — І паўмаркі добра... Нідзе не валяюцца, — адказвае ён нарэшце.* Арабей.

*ВАЛЯЎСЯ* • **КОНЬ НЕ ВАЛЯЎСЯ** *дзе*. Гл. конь.

*ВАЛЯЦЦА* • **ВАЛЯ́ЦЦА ПАД НАГА́МІ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. і абстр. прадмета. Нікога не цікавіць, не знаходзіць прымянення з-за непатрэбнасці. — *Трохі не выкінуў [запіску парткантролю]. Чысціў шуфляду, знайшоў і... — шчыра прызнаўся: — Скарб, які валяўся пад нагамі.* Шамякін.

**<УСЕ> ШЫШКІ ВАЛЯЦЦА** *на каго*. Гл. шышкі.

*ВАЛЯЦЬ* • **ВАЛЯ́ЦЬ ВА́НЬКУ**. *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Весці сябе несур'ёзна, паступаць не так, як трэба. **Сін.**: валяць дурня (у 1 знач.). *У трубцы зацятае маўчанне. Нарэшце няўпэўнены голас камандзіра палка Мухіна: — Ты ваньку не валяеш? — Не валяю... З учарашняга вечара прайшоў дваццаць тры кіламетры.* Навуменка. — *Прыбег сустракаць, то хоць абняў бы, калі цалаваць саромеешся. Даўно ж не бачыліся. — Не валяй ваньку, друг! З табою па-людску, з адкрытым сэрцам, а ты — хаханькі ўсю дарогу.* Кандрусевіч.

**2**. Хітруючы, прытварацца, каб увесці каго-н. у зман. *Гэты барацьбіт усю вайну прасядзеў у пограбе, а калі нашы прыйшлі і пачалася мабілізацыя — прытварыўся эпілептыкам. Так і валяў ваньку ўсё жыццё, а цяпер стаў раптам барацьбітом за праўду і справядлівасць.* Супрунчук. *[Нейгаўз:] Слухайце, Заслонаў. Арыштаваны намі Касцюкевіч у часе допыту прызнаўся, што гэта вы.. што па вашаму загаду ён замарозіў усю вадзяную сістэму. Так што хопіць, як у вас тут кажуць, валяць Маньку. [Заслонаў:] У нас кажуць — Ваньку. [Нейгаўз:] Што? [Заслонаў:] У нас кажуць — валяць Ваньку. Што датычыцца Касцюкевіча... Я хацеў бы, каб ён усё паўтарыў тут, пры мне.* Маўзон. *Аднак і ў часе паўторнай сустрэчы Косараў імкнуўся «валяць ваньку», маўляў, абгаворваюць мяне, нічога не ведаю. І тады следчы прад'явіў яму доказы, а заадно і дазвол на арышт.* «Звязда».

**ВАЛЯ́ЦЬ ДУ́РНЯ**. *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Весці сябе несур'ёзна, паступаць не так, як трэба. **Сін**.: валяць ваньку (у 1 знач.). *— Панасевіч, не валяй дурня, — крычыць з машыны Гарманцін.* Супрунчук. *Не валяй дурня! Хіцер Зміцер, але і Ванька не дурны. Гані паўтары тысячы на нос — тады і гаварыць можна.* Блакіт.

**2**. Гультаяваць, займацца пустымі справамі. **Сін**.: абіваць бакі (у 2 знач.); адлежваць бакі (у 2 знач.); акалочваць грушы <з вербаў>; біць байды; біць бібікі; біць лынды (у 1 знач.); біць тылылы; брынды біць; вераб'ям дулі паказваць; ганяць сабак <*па чым*>; корчыць гультая; лічыць варон (у 2 знач.); ляжаць на баку; пляваць у столь; сабакам сена касіць (у 1 знач.); сачка давіць. *А ты вазьміся дый сам напішы [верш]. Чорт цябе ведае, можа, у табе вялікі талент сядзіць, а ты дурня валяеш.* Каваль.

**3**. Дурыцца, забаўляцца жартамі. **Сін**.: корчыць дурня (у 2 знач.). *[Драч:] Ну... проста духонінскі штабс-капітан, што на мяне наган настаўляў... [Дашынскі:] Ты мне тут не валяй дурня.* Губарэвіч. **ПАВАЛЯЦЬ ДУРНЯ**. *Зак. [Іван:] Ну, во што, старшыня: паваляў я перад вамі дурня, і хопіць.* Макаёнак.

*ВАМ* • **НАША ВАМ**. Гл. наша.

*ВАНТРОБ* • **ПЕРАЯДА ВАНТРОБ**. Гл. пераяда.

*ВАНТРОБАМІ* • **З'ЕСЦІ З ВАНТРОБАМІ** *каго*. Гл. з'есці.

*ВАНТРОБЫ* • **АД'ЯДАЦЬ ВАНТРОБЫ** *каму*. Гл. ад'ядаць.
**ЦЯГНУЦЬ ВАНТРОБЫ** *з каго*. Гл. цягнуць.

*ВАНЬКУ* • **ВАЛЯЦЬ ВАНЬКУ**. Гл. валяць.

*ВАРАЖЫЛА* • **БАБКА НАДВОЕ ВАРАЖЫЛА**. Гл. бабка.

*ВАРАМ* • **ЯК ВАРАМ АБДАЛО** *каго*. Гл. абдало.

*ВАРАНАГА* • **І ПАРАНАГА І ВАРАНАГА І ТАК КУСКАМІ** *было ў каго, дзе*. Гл. паранага.

*ВАРАНЫХ* • **ПРАКАЦІЦЬ НА ВАРАНЫХ** *каго*. Гл. пракаціць.

*ВАРАЦЬ* • **МАЗГІ ВАРАЦЬ** *у каго*. Гл. мазгі.

*ВАРОН* • **ЛАВІЦЬ ВАРОН**. Гл. лавіць.
**ЛІЧЫЦЬ ВАРОН**. Гл. лічыць.
**СТРАЛЯЦЬ ВАРОН**. Гл. страляць.

*ВАРОНА* • **БЕ́ЛАЯ ВАРО́НА**. *Мн. не ўжыв. Часцей у знач. вык. Разм.* Чалавек, рэзка непадобны на іншых людзей сваімі паводзінамі ці знешнім выглядам, не такі, як усе. *Каб не выглядаць за гэтым сталом белаю воронаю, правінцыялкаю, што трапіла ў вышэйшы*

*свет ды не ўмее сябе трымаць у гэтым свеце, і Валянціна пацягнулася па закускі...* Арабей. — *Я для нашага Бакуновіча з першых дзён службы белая варона, — з сумам у голасе абазваўся Шаметавец.* Ятоўдзік.

**ВАРО́НА ЗАГУМЕ́ННАЯ**. *Адз. і мн. Часцей у знач. вык. Праст. Асудж.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нерастаропны, нехлямяжы чалавек, разявака. — *Вароны мы, вароны загуменныя! — лаяў самога сябе і сваіх таварышаў адзін з трох.* Хацкевіч. —*Ш-ша! Замрыце, вароны загуменныя! — павысіў гаспадар голас.* Калодзежны. — *Ну што ты там нарабіла, дачка? — Варона ты загуменная... — сказала [Алімпіяда] і залілася слязамі.* Пташнікаў.

**ВАРО́НА З КАЛА́ ЗВА́ЛІЦЦА (ВА́ЛІЦЦА)** <*дзе*>. *У безас. ужыв. Разм.* Вельмі горача, спякотна (на вуліцы, на дварэ). *Ужо так пячэць, варона з кала зваліцца.* Барадулін. *Бывае, што сонца гуляе раніцай. Такая здараецца гарачыня, варона валіцца з кала.* Лобач.

**ВАРО́НА Ў ПАЎЛІ́НАВЫХ ПЁРАХ**. *Адз. і мн. Часцей у знач. вык. Разм. Пагард.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Чалавек, які марна імкнецца паказаць сябе лепшым, больш значным, чым ён ёсць на самай справе. — *Аднак з эсэрам Керанскім лічыцца ўвесь цывілізаваны свет... — Не вельмі. Керанскі — гэта варона ў паўлінавіх пёрах, — наступаў Сяргей.* Гурскі.

**НІ ПАВА НІ ВАРОНА**. Гл. пава.

**ПУ́ЖАНАЯ ВАРО́НА**. *Часцей у адз. Часцей у знач. вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Залішне асцярожны чалавек, які з-за перажытых выпрабаванняў баіцца нават таго, што не пагражае яму небяспекай. — *Хто Васіля пабіў, га, Шалькевіч? — Не я... — Дарэмна пабілі. Васіль нічога не ведаў. Тут ваш верхавод, хаця і папаў па галаве, моцна прамахнуўся. — Пужаная варона...* Шыцік.

*ВАРОТ* • **АД ВАРОТ ПАВАРОТ** *каму*. Гл. паварот.

**АД ВАРОТ ПАВАРОТ** *даць* і пад. Гл. паварот.

*ВАРОТЫ* • **ВАРО́ТЫ ПІРАГА́МІ (ПІРАГО́М) ПАДПЁРТЫ (-Я)** *у каго. У безас. ужыв. Разм. Іран.- жарт.* Усяго ўволю, колькі хочаш. Пра багатае жыццё. *У Кунцэвічаў для Лазовіка заўсёды вароты пірагамі падпёрты.* Блакіт. *Нікога не баіцца, нічога не стыдзіцца. Сам — пастронкам не падпяражаш, бо што ж, жыве — вароты пірагом падпёртыя.* Брыль.

**ВЫКІДВАННЕ ЗА ВАРОТЫ** *каго*. Гл. выкідванне.

**ВЫКІДВАЦЬ ЗА ВАРОТЫ** *каго*. Гл. выкідваць.

**ГУЛЬНЯ Ў АДНЫ ВАРОТЫ**. Гл. гульня.

**ГУЛЯЦЬ У АДНЫ ВАРОТЫ**. Гл. гуляць.

**НЕ ЛЕЗЕ НІ Ў ЯКІЯ ВАРОТЫ**. Гл. лезе.

**ЯК БАРАН НА НОВЫЯ ВАРОТЫ**. Гл. баран.

*ВАРОЧАЦЬ* • **ВАРО́ЧАЦЬ ГО́РЫ** <з *кім, з чым*>. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выконваць празмерна вялікую работу, справу. **Сін.**: пераварочваць свет (у 2 знач.); чорту рогі скруціць. *Пра Тоню Базількевіча прывыклі гаварыць, што ён можа варочаць горы.* Чорны. *Тады ў прасторным клубе сядзелі адны мужчыны, здаравякі, як на падбор. З такімі людзьмі можна было варочаць горы.* Асіпенка. — *Таварышы, — сказаў сакратар, — з гэткімі камсамольцамі мы можам варочаць горы!* Мікуліч. *Вось я, думаеш, знаходка для інстытута мікрабіялогіі? Прынамсі, невялікая. З табой не параўнаць. Ты б са сваім стараннем, заўзятасцю, даследчыцкай прагаю горы там варочаў.* Рубанаў. **ЗВЯРНУЦЬ (ЗРУШЫЦЬ, ПЕРАВЯРНУЦЬ) ГОРЫ** <з *кім, з чым*>.

*Зак. — Табе — што. Вы — удваіх. Дваім можна горы звярнуць, — хмурацца Варчыны бровы.* Калодзежны. *Людзі ў нас цудоўныя. З такімі людзьмі можна горы зрушыць.* Шамякін. *Калі рабочы ведае, што яго работа прынясе карысць, ён тады горы пераверне і другіх заразіць сваім энтузіязмам.* Лынькоў. *І чаго толькі не зробяць людзі, як возьмуцца грамадою, быццам адзін чалавек. Горы паравернуць.* Якімовіч.

**ВАРОЧАЦЬ МАЗГАМІ**. Гл. варушыць.

**ВАРО́ЧАЦЬ ЯЗЫКО́М**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вымаўляць словы, гаварыць. *— Гэ-эй, вы аб-болтусы, а н-ну, д-дайце мес-ца! — ледзь варочаючы языком, гукнуў ад парога пажылы, сярэдняга росту мужчына з мутнымі, амаль невідушчымі вачамі.* Палтаран. *[Перагуд:] Нам [палонны] абы языком варочаў, а там — чорт з ім. Камандуючы загадаў «языка» дастаць.* Крапіва.

*ВАРТА* • **КУДЫ́ ГЭ́ТА ВА́РТА**. *Выкл. Разм.* Хіба так можна?! Выказванне рэзкага асуджэння, адмоўных адносін да чаго-н. *Дык вось, Павел, прыязджай. Я цябе прыладкую. Куды гэта варта: хадзіў дзесяць гадоў у школу, цяпер ходзіш у лес з сякерай.* Воранаў.

**СМЕ́ХУ ВА́РТА**. *Выкл. Разм. Неадабр.* Выказванне здзіўлення, нязгоды, адмоўных адносін да чаго-н. *— Як жа гэта вы, бабуля, і пры старасці, і з хворымі нагамі, і ўдзень тут тупаеце — і яшчэ начою сад вартуеце? — Як трэба, дык што ты зробіш?.. — І не баіцёся?.. — Во, смеху варта! Чаго ж мне баяцца?* Гарэцкі. *Дайце рады, які ж старшыня з Барыса Барысавіча Фрахта? Смеху варта.* Мыслівец. *Жылка тоненькая, смеху варта, у вадзе і не бачна яе.* Казько.

*ВАРТЫ* • **НІКУ́ДЫ НЕ ВА́РТЫ**. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. ці абстр. прадмета. Вельмі дрэнны. **Сін.**: адны слёзы; глядзець няма на што; з рук вон (у 2 знач.); кату пад хвост (у 2 знач.); кульгаць на абедзве нагі (у 3 знач.); курам на смех (у 1 знач.); на ліхога казана; не вытрымлівае ніякай крытыкі; не лезе ні ў якія вароты; ні к чорту (у 1 знач.); ні к чорту неварты; ні самому паглядзець ні людзям паказаць; пусці павалюся (у 1 знач.); смеху варты. *Нашто ты гаварыла, што мая дачка нікуды не варта. Што яна і няўдалая, і дурная?..* Чорны. *Конь сапраўды быў нікуды не варты. Знясілены, схуднелы, ён вяла перасоўваў ногі...* Мік.Ткачоў. *Слабая ў цябе, брат, дысцыпліна. Проста нікуды не вартая.* Шахавец. *Сапраўды, ён [Казік] сам і сталяр, і цясляр, ды каб у яго хаце хісталася падлога, — не, гэта нікуды не варта, хай там грыб не грыб.* Дайліда.

**НІ К ЧО́РТУ НЕ ВА́РТЫ**. *Вык. Праст. Незадав.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Вельмі дрэнны. **Сін.**: адны слёзы; глядзець няма на што; з рук вон (у 2 знач.); кату пад хвост (у 2 знач.); кульгаць на абедзве нагі (у 3 знач.); курам на смех (у 1 знач.); на ліхога казана; не вытрымлівае ніякай крытыкі; не лезе ні ў якія вароты; нікуды не варты; ні к чорту (у 1 знач.); ні самому паглядзець ні людзям паказаць; пусці павалюся (у 1 знач.). *— Прабачце, дзевачкі, — раптам парушыла цішыню Леанора Лішчэня. — Жаніх мой ні к чорту не варты. Па новай модзе сватаецца, без барыша.* Мыслівец. *Ні к чорту не варты гэтыя плугі. Вось, бывала, Міхась-каваль калі зробіць плуг!..* Крапіва.

**СМЕ́ХУ ВА́РТЫ**. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. ці абстр. прадмета. Вельмі дрэнны, недарэчны, нікчэмны, смехатворны. **Сін.**: адны слёзы; глядзець няма на што; з рук вон (у 2 знач.); кату пад хвост (у 2 знач.); кульгаць на абедзве нагі (у 3 знач.); курам на смех (у 1 знач.); на ліхога казана; не вытрымлівае ніякай крытыкі; не лезе ні ў якія вароты; нікуды не варты; ні к чорту (у 1 знач.); ні к чорту не варты; ні самому паглядзець ні людзям паказаць; пусці павалюся (у 1 знач.). *— Яно то*

*так... Але, давайце, паеду! Якая ў вас справа? — Ды смеху проста вартая!* Шынклер. *[Скаромны:] Во гэты дзед — народ? Смеху варты такі народ. Падхалім ты, дзед.* Макаёнак. *Былі яшчэ іншыя ўцекачы.., дык тыя ўцёкі наогул смеху вартыя...* Брава. *Папрасі прабачэння ў забытай слязы, зразумей, што твае смеху варты турботы.* Барадулін.

*ВАРУХНУЦЬ* • <I> **ПА́ЛЬЦАМ НЕ ВАРУХНУ́ЦЬ (НЕ ПАВАРУШЫ́ЦЬ, НЕ ПАВАРУХНУ́ЦЬ)**. *Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нічога не зрабіць, не прыкласці ніякіх намаганняў (для ажыццяўлення чаго-н.). **Сін.**: палец аб палец не ўдарыць. *Разумныя людзі даўно пабудаваліся, а ў цябе, калі былі такія магчымасці, ты і пальцам не варухнуў...* Васілёнак. *Ніхто не пакінуў сваіх кароў, не паварухнуў пальцам, каб пасабіць гаротнай кабеціне знайсці сына.* Мурашка. *Не малое дзіця Грышка, як-небудзь мог бы і сам тое-сёе зрабіць... Дык не, і пальцам не паварушыць, чакае, калі заявіцца жонка...* І.Капыловіч. *Ёсць і такія таварышы па пяру, што гадамі не паварушаць пальцам для грамадскай справы.* Брыль.

*ВАРУШЫЦЬ* • **ВАРУШЫ́ЦЬ БРУ́ДНУЮ БЯЛІ́ЗНУ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Праяўляць залішнюю цікавасць да непажаданых падрабязнасцей чыйго-н. асабістага жыцця, узаемаадносін, дзейнасці і пад. *Цяпер будзе разглядаць гэтую справу начальства — непрыемнасці не абярэшся. Пачнуцца допыты, што ды як. Будуць варушыць брудную бялізну.* Машара. *[Дабрыян, чытае далей:] Звольнены за... [Дажывалаў:] Не трэба... Няма чаго варушыць брудную бялізну.* Крапіва.

**ВАРУШЫ́ЦЬ (ВАРО́ЧАЦЬ) МАЗГА́МІ**. *Незак. Праст. Часам жарт.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Сур'ёзна думаць, меркаваць, разважаць. **Сін.**: варушыць галавой; круціць мазгамі; раскідаць розумам. *[Юстын:] Тут трэба варушыць мазгамі. Дзеля такога цесця, як прафесар Аўсоў, можна пайсці на многае: акупіцца ўтрая.* Э.Валасевіч. *Ты чалавек граматны, мазгамі варушыць павінен. Калі да цябе прыходзяць, значыцца, трэба ты...* Сачанка. *Захара.. мазгамі зноў жа нядрэнна варочае.* Крапіва. **ПАВАРУШЫЦЬ (ПАВАРОЧАЦЬ) МАЗГАМІ**. *Зак. Ну, падумайце, паварушыце мазгамі: ці варта гэта юшка, каб з-за яе так клапаціцца?* Колас. *Не, браце. Кожная справа патрабуе клопатаў, ды яшчэ якіх! Трэба паварушыць мазгамі.* Хадкевіч. *Калі добра паварушыць мазгамі ды пашукаць патрэбныя слоўцы, то можна будзе тое-сёе з гэтага зубра калі не выцягнуць, дык змусіць яго паласкавець.* Далідовіч.

**ВАРУШЫ́ЦЬ ГАЛАВО́Й**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Сур'ёзна думаць, меркаваць, разважаць. **Сін.**: варушыць мазгамі; круціць мазгамі; раскідаць розумам. *З зямлёю клопат быў вялікі, прыйшлося ездзіць да Хадыкі ды варушыць і галавою над гэтай справай грашавою.* Колас. *Займеўшы сваю гаспадарку, трэба ж галавою варушыць.* Лобан. **ПАВАРУШЫЦЬ ГАЛАВОЙ**. *Зак.*

**ВАРУШЫ́ЦЬ ПО́РШНЯМІ**. *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Часцей ужыв. у форме заг. л. як пабуджэнне да дзеяння. Хутчэй ісці, рухацца. *На чарнявага, чыстага, пры касцюмчыку, сутулавата-рослага хлопца, што быў запярэчыў ім, медзведзяваты, густа кучаравы здаравіла, прыплюшчыўшы мройна-сонныя валошкавыя вочы, пагрозліва замахаў сцятым кулаком: — Ідзі-ідзі, варушы поршнямі!* Адамчык.

*ВАРФАЛАМЕЕЎСКАЯ* • **ВАРФАЛАМЕЕЎСКАЯ НОЧ**. Гл. ноч.

*ВАРЦЕ* • **СТАЯЦЬ НА ВАРЦЕ** *чаго.* Гл. стаяць.

*ВАРЫЦЦА* • **ВАРЫ́ЦЦА Ў СВАІ́М (УЛА́СНЫМ) САКУ́**. *Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Жыць ці працаваць без зносін з іншымі, не выкарыстоўваючы чужога вопыту. *Не так даўно ў газеце з'явіўся артыкул, які абвінавачваў*

*сектар у адрыве ад жыцця, у тым, што вучоныя інстытута вельмі мала дапамагаюць вытворчасці, варыцца ў сваім саку.* Арабей. *Нарэшце абрыдла абодвум бакам варыцца ва ўласным саку.* Панкрат.

*ВАРЫЦЬ* • **ВАРЫЦЬ ВАДУ** *з каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Здзекавацца з каго-н., прыдзіраючыся да яго. *Пятрок спярша, як з арміі вярнуўся, любіў варыць ваду з суседа, нізавошта чапляўся.* «Маладосць».

**ГАЛАВА ВАРЫЦЬ** *у каго.* Гл. галава.

**ГАЛАВА ВАРЫЦЬ** *у каго, чыя.* Гл. галава.

**КАЦЯЛОК ВАРЫЦЬ** *у каго.* Гл. кацялок.

*ВАР'ЯЦТВА* • **ДА ВАР'ЯЦТВА**. *Акал. Разм.* **1**. Вельмі моцна, бязмежна (любіць, ненавідзець і пад.). **Сін.**: без аглядкі (у 3 знач.); без памяці (у 2 знач.); па <самыя> вушы (у 2 знач.). *[Пан Вашамірскі] болей за ўсё цікавіўся сваёй новай справай — тэатрам. Гэта мастацтва ён да вар'яцтва палюбіў яшчэ ў Парыжы, калі закахаўся ў адну прыгожую француженку-акторку.* Бядуля. *— Ты разлюбіла яго. — Ды не! Усё не так. Я памятаю, я шаную і мо да вар'яцтва чакаю. Чакала. Стамілася... за вайну.* Марчук.

**2**. Да поўнага адчаю, да поўнай страты самавалодання (даводзіць). **Сін.**: да белага калення. *Маўчанне бежанцаў даводзіла Маркевіча да вар'яцтва.* Лобан. *Як лісткі.. календара, адлятаюць лісты гэтай паперы, бязгучнасцю даводзячы мяне да вар'яцтва.* Казько.

**3**. Выключна (які). *[Кунік:] Кожная новая ідэя авантурыстычная і да вар'яцтва рызыкоўная.* Марчук.

*ВАСТРЫІ* • **НА ВАСТРЫІ́ НАЖА́ (ЛЯЗА́)** *хадзіць. Акал. Разм.* У пастаяннай небяспецы для жыцця. *Вось хлопцы ўчора вярнуліся. Два месяцы яны хадзілі на вастрыі нажа, а верхні чыгуначны мост узарвалі.* Няхай. *Хопіць, што брат твой малы, пятнаццаць год, ходзіць у разведку, кожны дзень, можна сказаць, на вастрыі нажа.* Дамашэвіч. *Яна, Людміла, павінна выдаваць сябе не за таго чалавека, які яна ёсць на самай справе, прыкідвацца бесклапотнаю, вясёлаю, а хадзіць на вастрыі ляза.* Арабей.

*ВАСТРЫЦЬ* • **ВАСТРЫ́ЦЬ ВУ́ШЫ (ВУ́ХА)**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Напружана, уважліва прыслухоўвацца, насцярожвацца. **Сін.**: глядзець у рот *каму* (у 1 знач.); настаўляць вушы; натапырваць вушы; ператварацца ў слых; развешваць вушы (у 1 знач.); стрыгчы вушамі. *За перагародкай хадзіла гаспадыня і, відаць, вастрыла вушы, каб хоць што-небудзь пачуць.* Асіпенка.

**ВАСТРЫ́ЦЬ ЗБРО́Ю**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Рыхтавацца да ўзброенай барацьбы з кім-н. *«Вастрыце зброю!» — з такім заклікам звяртаецца [М. Танк] да воінаў, якія з цяжкімі баямі гналі ворага на захад.* Шкраба. *Газета набрана. За ноч на ручной машыне яе аддрукуюць, развязуць у навакольныя вёскі. Чытайце, людзі, радасныя весткі. Вастрыце зброю, біце фашыстаў!* Жычка.

**ВАСТРЫ́ЦЬ (НАСТРО́ЙВАЦЬ) ЛЫ́ЖЫ** *куды, адкуль. Незак. Разм. Часта іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Збірацца, намервацца ісці, ехаць, адпраўляцца куды-н. *— Куды лыжы вострыш? — запытаў Фядот Юрку перад экзаменамі. — У школу пагранічнікаў.* Мяжэвіч. *Наказ прынёс я да васпана! Наказ такі, каб заўтра рана твой брат Антось шоў да адбору, а сам Міхал аб гэту пору настройваў лыжы да сядзібы...* Колас. **НАВАСТРЫЦЬ (НАСТРОІЦЬ) ЛЫЖЫ** *куды, адкуль. Зак. Адным словам, пасля арміі навастрыў я лыжы ў горад... Навастрыў я, гэта, лыжы на горад, але ўздумаў прыехаць дадому, пагуляць з месяц.* Радкевіч.

2. Уцякаць куды-, адкуль-н. **Сін.**: аддаваць канцы (у 2 знач.); выносіць ногі <*адкуль, ад каго*>; даваць дзёру; даваць драпака; даваць драла; даваць лататы; даваць маху (у 2 знач.); даваць махні-драла куды, адкуль; даваць стракача *ад каго, адкуль, куды*; даваць ногі; даваць ходу *адкуль, куды,* даваць цягу; змотваць вудачкі; зрабіць ногі (1 знач.); падмазваць пяткі; паказваць пяткі; паказваць спіну (у 2 знач.); рваць кіпці. *Тут застаешся ці збіраешся куды вастрыць лыжы! Я зразумеў цябе так, нібы не збіраешся тут заставаца.* Гаўрылкін. **НАВАСТРЫЦЬ (НАСТРОІЦЬ) ЛЫЖЫ** *куды, адкуль. Зак. І як ні казаў Іуда, што разумны чалавек даўно б падумаў, як адсюль навастрыць лыжы, — ніхто пра гэта сур'ёзна не думаў, бо рэдкая гэта з'ява на зямлі — розум.* Караткевіч. *А што далей рабіў? Навастрыў лыжы дадому? У паліцыю спяшаўся!* Навуменка. — *Скажы, паночку, як далёка зямельны банк? — Пан кінуў вокам на дзядзьку скрыва так і строга: — Спытай аб тым гарадавога! — сказаў і кроку так прыбавіў... «Ото завіў, настроіў лыжы, як бы чарцяка той ад крыжа»*... Колас.

**ВАСТРЫ́ЦЬ (ТАЧЫ́ЦЬ) ЗУ́БЫ (ЗУ́Б)**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. 1. *на каго.* Ненавідзячы каго-н., рыхтаваць яму якую-н. непрыемнасць. **Сін.**: вастрыць нож *на каго*; капаць яму *каму, пад каго, для каго. — Калі прыйдуць бандзюкі, нас усіх пераб'юць, — сказаў аднойчы пасля сходу.. хтосьці з камсамольцаў. — Яны даўно вострацъ зубы...* Мележ. *Калі яшчэ калгасаў не было, ён [Філютчык] ужо тачыў на мяне зубы, у кулакі мяне за маю працу дабіваўся запісаць.* Лобан. *Вядома, ён [брыгадзір] не стаў бы на таго [хто крытыкаваў] вастрыць зуб, каб правучыць яго, але той усё роўна адчуваў бы непрыязь.* Макарэвіч.

2. *на што.* Старацца завалодаць чым-н. ці трапіць куды-н. *Яшчэ за месяц усё панства мястэчка В. знала, што пісар першага верасня імяніннік, і кожны мястэчковы пан ужо вастрыў зубы на гэтыя імяніны.* Колас.

**ВАСТРЫ́ЦЬ (ТАЧЫ́ЦЬ) НО́Ж** *на каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Задумваць што-н. нядобрае супраць каго-н. **Сін.**: вастрыць зубы (у 1 знач.); капаць яму *каму, пад каго, для каго. Не мне вастрыць на чалавека нож, мы ж кроўныя браты з табой па працы...* Панчанка. *[Паўлінка:] Нож точыць... родны мой татка на таго, каго сам калісь любіў і каго я палюбіла...* Купала.

**ВАСТРЫ́ЦЬ (ТАЧЫ́ЦЬ) ЯЗЫ́К (ЯЗЫКІ́)**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дазваляць сабе гаварыць лішняе. **Сін.**: даваць волю языку; развязваць язык (у 1 знач.); распускаць язык. *Стаялі перад ёй [Машай], як заварожаныя, ніводнага жарту, ніводнага слова, хоць звычайна хлопцы вастрылі языкі з любой нагоды.* Шамякін. *Калі ёсць ахвота, няхай языкі точаць.* Радкевіч. **ПАВАСТРЫЦЬ (ПАТАЧЫЦЬ) ЯЗЫК (ЯЗЫКІ)**. *Зак. Павастрыць язык цётка любіла.* Карамазаў.

*ВАСЬ* • **ВА́СЬ-ВА́СЬ**. *Акал. ці вык. Праст.* Бесцырымонна, як з роўным, запанібрата (быць з кім-н.). *Ва ўсякім выпадку, выконвалі той загад, які аддаў камендант гер Апфель, з якім Сцяпан Радзівонавіч быў амаль «вась-вась».* Сачанка. *Ну, думаю, пайду на нарад, папрашу ў Кірылы падмогі. Папрашу пры ўсіх, каб не думалі, што я з Кірылкай вась-вась.* «ЛіМ».

*ВАЎКА* • **ЛАВІ БЯГУЧАГА ВАЎКА СЛЕД** *калі.* Гл. лаві.
**ХОЦЬ <ТЫ> НА ВАЎКА ЎЗЛЕЗЬ**. Гл. узлезь.

*ВАЎКОМ* • **ВАЎКОМ ВЫЦЬ**. Гл. выць.
**ВАЎКОМ ЗАВЫЦЬ**. Гл. воўкам.
**ВАЎКОМ ПАДШЫТЫ**. Гл. падшыты.
**ХОЦЬ ВАЎКОМ ВЫЙ**. Гл. вый.

*ВАЎКОЎ* • **ХОЦЬ ВАЎКОЎ ГАНЯЙ**. Гл. ганяй.

*ВАЧАМ* • **НЕ ВЕРЫЦЬ <СВАІМ> ВАЧАМ**. Гл. верыць.
**НЕ ДАВАЦЬ ВЕРЫ <СВАІМ> ВАЧАМ**. Гл. даваць.

*ВАЧАМІ* • **АБВОДЗІЦЬ ВАЧАМІ** *каго, што*. Гл. абводзіць.
**АКІНУЦЬ ВАЧАМІ** *каго, што*. Гл. акінуць.
**БАЧЫЦЬ СЯБЕ ВАЧАМІ** *каго, чыімі*. Гл. бачыць.
**БЛІСКАЦЬ ВАЧАМІ** *на каго*. Гл. бліскаць.
**ГЛЯДЗЕЦЬ ВАЧАМІ** *чыімі, каго на каго, на што*. Гл. глядзець.
**ЕСЦІ ВАЧАМІ** *каго, што*. Гл. есці.
**ЗА ВАЧА́МІ (-Ы́МА)**. *Акал. Разм.* Далёка ад дому, без нагляду. *Незадоўга змерла цётка: стаў я круглая сіротка... Рос я гэтак за вачыма.* Багушэвіч. *Упачатку кастрычніка збіраюся паехаць у Маскву, праведаць Міхаську, падвезці сяго-таго з харчоў. За вачамі, адзін. Усё гэта вельмі непакоіць мяне.* Колас.
**З АДКРЫ́ТЫМІ ВАЧА́МІ (-Ы́МА)**. *Акал. Разм.* Выразна ўсведамляючы мэту; абачліва (рабіць што-н.). **Ант.**: заплюшчыўшы вочы; з бухты-барахты; з завязанымі вачамі; з кандачка; з налёту (у 3 знач.); з наскоку (у 2 знач.); на зламанне карка (у 1 знач.); на злом галавы (у 1 знач.); на скрут галавы (у 1 знач.); про́ста з моста. *Чакаць заўтрашняга рання, чакаць аналізаў, рэнтгенаскапіі — тады можна дзейнічаць з адкрытымі вачыма.* Радкевіч. *І не засумуецца патомак, калі дазнаецца аб нас, што нейкі з нас хоць быў не зломак.. не ішоў з адкрытымі вачыма ў свет і сцежкі не прастаў.* Купала.
**З ЗАВЯЗА́НЫМІ ВАЧА́МІ (-Ы́МА)**. *Акал. Разм.* Не раздумваючы, неабачліва (рабіць што-н.). **Сін.**: заплюшчыўшы вочы; з бухты-барахты; з кандачка; з налёту (у 3 знач.); з наскоку (у 2 знач.); на зламанне карка (у 1 знач.); на злом галавы (у 1 знач.); на скрут галавы (у 1 знач.); про́ста з моста. **Ант.**: з адкрытымі вачамі. *Сам Корзун не любіў, выконваючы даручэнне, дзейнічаць, як кажуць, з завязанымі вачамі, не ведаючы добра сутнасць задання.* Шыцік. *[Начдыў:] Я быў за тое, каб наступаць па бальшаку, — можа, меншы эфект, затое рызыкі менш. Лезці ў балота з завязанымі вачыма я не згодзен быў.* Крапіва.
**ЛЫПАЦЬ ВАЧАМІ**. Гл. лыпаць.
**ЛЫПНУЦЬ ВАЧАМІ**. Гл. лыпнуць.
**МЕРАЦЬ ВАЧАМІ**. Гл. мераць.
**ПАЎСТАВАЦЬ ПЕРАД ВАЧАМІ** *чыімі, у каго*. Гл. паўставаць.
**ПЕ́РАД ВАЧА́МІ (-Ы́МА)** <*чыімі*>. *Акал. і вык. Функц. не зам.* Побач, блізка, у непасрэднай блізкасці ад каго-н. **Сін.**: адзін крок *ад чаго да чаго*; за два крокі *ад каго, ад чаго*; за плячамі *каго, у каго* (у 2 знач.); не за гарамі (у 1 знач.); пад бокам (у 1 знач.); пад рукамі (у 2 знач.); пад рукой (у 2 знач.); пад <самым> носам *у каго, чым, каго*; перад носам < *каго, чым* >; рукой падаць *да чаго*. *На першых часах ён [Сцёпка] захапляўся яздою і тымі новымі малюнкамі, што мільгацелі перад яго вачыма.* Колас. *Чуць, як дзе-нідзе ў жыце стракочуць конікі, часам дзіка пракрычыць начная птушка ды раз-пораз мільгане перад вачамі кажан.* Галавач. *Перад вачамі зноў ціхая вуліца над задуменнаю рэчкаю Цною.* Палтаран.
**СВАІ́МІ (УЛА́СНЫМІ) ВАЧА́МІ (-Ы́МА)** *бачыць (убачыць), пераконвацца (пераканацца), чытаць. Акал. Функц. не зам.* Непасрэдна сам, без пасрэднікаў. **Сін.**: на свае вочы. *Тут зроблена спроба, каб паказаць сілу дружнай грамадскай працы, і вы бачыце вынікі яе, бачыце сваімі вачыма.* Колас. *[Скробат:] Я павінен убачыць яе сваімі вачамі. Пераканацца, што яна і дзеці жывыя.* Крапіва. *Ціток не стаў адразу дапытваць у Па-*

*раскі, ці праўда тое, што сказаў яму Хвядзько, ён сваімі вачамі хацеў пераканацца.* Лобан. *Вось тады сваімі вачыма пераканаешся, хто прыгажэйшы: ён ці твой кучаравы.* Машара. *Я сваімі вачамі чытаў тэкст тэлеграмы ў газеце «Дзянніца».* Гурскі. *Не люблю гаварыць пра тое, чаго не бачыў уласнымі вачыма.* Шамякін. *Учора наш Бляк вазіў у Гродна бульбу, дык уласнымі вачыма бачыў — каля сабора салдаты!..* Карпюк.

**СВЯЦІЦЬ ВАЧАМІ**. Гл. свяціць.

**СТАЯЦЬ ПЕРАД ВАЧАМІ** *ў каго, чыімі.* Гл. стаяць.

**СТРАЛЯЦЬ ВАЧАМІ**. Гл. страляць.

**СТРЫГЧЫ ВАЧАМІ**. Гл. стрыгчы.

**СТРЭЛІЦЬ ВАЧАМІ**. Гл. стрэліць.

**ЯКІМІ ВАЧАМІ ГЛЯДЗЕЦЬ** *на каго.* Гл. глядзець.

*ВАЧАХ* • **ВА ЎЛÁСНЫХ ВАЧÁХ**. *Акал. Функц. не зам.* У сваім уяўленні. *[Міцю] здавалася, што так, звычайна, не зрабіўшы нічога, што ўзвысіла б яго ва ўласных вачах, ён проста не мае права падысці да Сюзанны.* Навуменка. *Мая таямніца ўзнімала мяне ва ўласных вачах, усяляла ўпэўненасць і пачуццё перавагі над многімі прахожымі, якія некуды беглі, мітусіліся.* Карпюк.

**ВЫРАСТАЦЬ У ВАЧАХ** *каго, чыіх.* Гл. вырастаць.

**<ВЯСЁЛЫЯ> ЧОРЦІКІ СКАКАЛІ Ў ВАЧАХ** *чыіх, у каго.* Гл. чорцікі.

**КРУГІ Ў ВАЧАХ ПЛЫВУЦЬ** *у каго.* Гл. кругі.

**НА ВАЧÁХ**. *Функц. не зам.* **1**. *Акал.* Хутка, увачавідкі (адбываецца што-н.). *Горад пусцеў на вачах.* Грахоўскі. *Пачала на вачах худзець. Слабець пачала. І за паўгода, як на агні, згарэла дзяўчына...* Васілевіч. *З гары імчыцца і расце на вачах паравоз і ўвесь блішчыць на сонцы лакам.* Карпюк. *На вачах, адзін за другім, запальваліся ліхтары.* Гартны.

**2**. *чыіх, у каго, каго. Акал.* У прысутнасці каго-н., так, што відаць каму-н. (рабіць што-н.). **Сін**.: на віду *ў каго* (у 1 знач.). *[Хлопцы] бачылі толькі сваё няшчаснае вогнішча, якое гінула на іх вачах.* Маўр. *Тут жа і марудзіць няможна: скора людзей наедзе, то на вачах у іх не будзеш грабціся ў зямлі.* Лобан. *[Мучаідзе] не быў у дастатковай меры смелым, каб у ясны дзень, на вачах ста з лішнім сялян, падпальваць іхнія хаты.* Самуйлёнак.

**3**. *чыіх, у каго, каго. Вык. і акал.* Пад чыім-н. наглядам, доглядам (быць, гадавацца і пад.). *Трывожуся за іх [сыноў] у гэты час: яны адны, яны не на вачах.* Бічэль-Загнетава. *Хлопец гадаваўся ў іх на вачах, і благога пра яго ніхто сказаць не мог.* Палтаран.

**4**. *чыіх, у каго, каго. Акал.* Пры чыім-н. жыцці, у час дзейнасці каго-н. **Сін**.: за памяццю *чыёй*; за памяць *чыю*; на памяці *каго, чыёй*; пры памяці *чыёй*. *Так, роўна паўсотні раз на маіх вачах выходзілі хлопцы і дзяўчаты ў нялёгкую дарогу жыцця.* Шамякін. *Асаблівых запытанняў.. не было, бо і сапраўды амаль усё жыццё Заслонава прайшло на вачах у людзей, якія складалі ядро яго атрада.* Лынькоў.

**СВЕТ ПЕРАВАРОЧВАЕЦЦА Ў ВАЧАХ** *чыіх.* Гл. свет.

**СТАЯЦЬ НА ВАЧАХ**. Гл. стаяць.

**СТАЯЦЬ У ВАЧАХ** *чыіх, каго, каму.* Гл. стаяць. **ТРЫМАЦЬ НА ВАЧАХ** *каго, што.* Гл. трымаць.

**У ВАЧÁХ** *каго, чыіх. Акал. Функц. не зам.* У чыім-н. уяўленні, разуменні; на думку каго-н. *Гэты дубовы чурбанок з часам набываў у вачах дзядзькі Марціна значэнне пэўнай асобы: гэта не толькі яго сведка, але нават і адвакат.* Колас. *Падлетак.. імкнецца да самасцвярджэння ў вачах дарослых і сваіх аднагодкаў.* «Настаўн. газ.» *Пакінем гэтую непрыемную гутарку, сяржант. Вы ў маіх вачах застанецеся тым жа самым бравым легіянерам...* Самуйлёнак. *Вы ведаеце — я люблю людзей... Але дырэктар з першага дня дрэнна зарэкамендаваў сябе.. у маіх вачах...* Шамякін.

**ЦЯМНЕЕ Ў ВАЧАХ** *у каго, каго.* Гл. цямнее.

*ВАЧЫМА* • *Бегчы* **ЗА ВАЧЫ́МА**. *Акал. Разм.* Без пэўнага кірунку, невядома куды. **Сін.**: куды вочы вядуць; куды вочы глядзяць (у 1 знач.); куды ногі вядуць; куды ногі нясуць (у 1 знач.); у <белы, божы> свет (у 1 знач.); у <белы> свет як у капейку (у 1 знач.); у свет вочы. *Ухаце ж сена — ані звання, равець з голаду скаціна, хоць кінь, бяжы за вачыма.* Багушэвіч. *А цяпер такая нуда, хоць кінь ды бяжы ў свет, за вачыма.* Лынькоў.

*ВАЧЭЙ* • *Не магчы* **АДАРВАЦЬ ВАЧЭЙ** *ад каго, ад чаго.* Гл. адарваць.

**АДВОД ВАЧЭЙ**. Гл. адвод.

**ВАЧЭЙ НЕ АСУШВАЦЬ**. Гл. асушваць.

**ВЫПУСКАЦЬ З ВАЧЭЙ**. Гл. выпускаць.

**ГУБЛЯЦЬ З ВАЧЭЙ** *каго.* Гл. губляць.

**ДЛЯ АДВОДУ ВАЧЭЙ**. Гл. адводу.

**ЗАКРЫВАННЕ ВАЧЭЙ** *на што.* Гл. закрыванне.

**ЗАПЛЮШЧВАННЕ ВАЧЭЙ** *на што.* Гл. закрыванне.

**З ВАЧЭЙ ДАЛОЎ**. Гл. далоў.

**З ВАЧЭ́Й (З ВО́Ч, З ВО́КА)** *чыіх, каго. Акал. Разм.* **1**. Далей ад каго-н., каб не было відаць (прыбіраць, хавацца і пад.). **Сін.**: з вачэй далоў (у 1 знач.). — *Ай, хлопчыкі!.. Дзеньце вы яго дзе, — прасіў ззаду Зусь. — Звядзіце яго з маіх воч.* Мурашка. *На першых часах, пакі не адышлося з вачэй начальства, Булякін пакрыкваў, каб паказаць, што ён і сапраўды службу спаўняе і свае абавязкі выконвае строга.* Колас. *Кругом тут з'яўляюцца партызаны, трэба хутчэй прыбраць дуб з вока.* Чорны.

**2**. Прэч, вон (ісці, выбірацца і пад.). **Сін.**: да д'ябла (у 1 знач.); да чорта (у 1 знач.); з вачэй далоў (у 2 знач.); к чортавай матары (у 1 знач.); к чорту (у 1 знач.); на сухі лес. *І Шэмет правільна цябе распісаў... Ідзі з маіх вачэй!* Лобан. *З воч маіх шафёрскіх матай скарэй...* Пташнікаў.

**3**. З-пад нагляду (адпускаць, выпускаць і пад.). *[Каравай:] Я не трымаю яе, але... Адпускаць яе з вачэй цяпер... Можа па руках пайсці.. без нагляду...* Макаёнак. *Прыйшла! Нарабіла ўжо? Як з бацькавага вока, дык гуляць?* Галавач.

**ЗНІКАЦЬ З ВАЧЭЙ**. Гл. знікаць.

**З П'Я́НЫХ ВАЧЭ́Й (ВО́Ч)**. *Акал. Праст. Неадабр.* Будучы нецвярозым; у стане ап'янення (рабіць што-н.). **Сін.**: пад п'яную руку; па п'янай лавачцы. *Не помню ўжо, якую яшчэ лухту нёс я тады з п'яных вачэй, толькі бачу — Аня апранаецца і Генку таксама забірае.* Радкевіч. *Пад п'яную руку ўсё ішло, як угаворваў яго [Лупянка] багаты сват падпаліць калгасны кароўнік. Падпаліць падпаліў, а шапку сваю з п'яных воч ля кароўніка і пакінуў.* Лынькоў.

**ІСКРЫ З ВАЧЭЙ ПАСЫПА́ЛІСЯ** *ў каго.* Гл. іскры.

*Прапускаць (прапусціць)* **МІ́МА (МІ́Ж) ВАЧЭ́Й**. *Акал. Разм.* Без уважлівага агляду. *Алёнка нічога не прапусціла міма вачэй. Абышла, агледзела кожную кветку.* Кірэенка. *Рэшту дарогі да клінікі Віліе Рыгор праехаў крыху ў іншым настроі. Дзякуючы гэтаму, ён спакайней прапусціў між вачэй хараство Каменаастроўскага праспекта, Вялікае Нявы, Батанічнага саду.* Гартны.

**НЕ АДРЫВАЦЬ ВАЧЭЙ** *ад каго, ад чаго.* Гл. адрываць.

**НЕ ЗВОДЗІЦЬ ВАЧЭЙ** *з каго, з чаго.* Гл. зводзіць.

**НЕ ЗМЫКАЦЬ ВАЧЭЙ**. Гл. змыкаць.

**НЕ ПАКАЗВАЦЬ ВАЧЭЙ** *куды.* Гл. паказваць.

**НЕ СПУСКАЦЬ ВАЧЭЙ** *з каго, з чаго.* Гл. спускаць.

**НЕ СПУСКАЦЬ З ВАЧЭЙ** *каго, што.* Гл. спускаць.
**<НІБЫ> ЗАСЛОНА СПАЛА З ВАЧЭЙ** *у каго, чыіх.* Гл. заслона.
**ПРАПАДАЦЬ З ВАЧЭЙ**. Гл. прападаць.
**У САБАКІ ВАЧЭЙ ПАЗЫЧЫЦЬ**. Гл. пазычаць.
**ХОЦЬ ТЫ Ў САБАКІ ВАЧЭЙ ПАЗЫЧ**. Гл. пазыч.

*ВАШ* • **ВАШ БРАТ**. Гл. брат.
**ВАШ ПАКОРНЫ СЛУГА**. Гл. слуга.

*ВАША* • **ВА́ША БЯРЭ́ (УЗЯЛО́, УЗЯЛА́, ВО́ЗЬМЕ)**. *Узнач. асаб. ск. Разм.* Вы перамагаеце; выходзіць што-н. па-вашаму. Выказванне прызнання чыёй-н. перамогі. *Што ж? Ваша ўзяло? Нікуды не дзенешся!* Янкоўскі. *Сваіх людзей падсаджваў, сваіх суседзяў... Мяне, Мішу... Падсаджваў... Думаў, што ваша ўзяла.* Кудравец. *Ваша ўзяла!.. Пра ўсё раскажу, толькі да забойства Кузаўкова я ніякіх адносін не маю.* Праўдзін. *— А ўсё ж ваша возьме, — сцвярджае стары рабочы. — Куранят лічаць увосень, — не здаваўся чыгуначнік.* Гурскі.
**ВАША СЯСТРА**. Гл. сястра.
**ВОЛЯ ВАША**. Гл. воля.

*ВАШЫМ* • **І НАШЫМ І ВАШЫМ**. Гл. нашым.
**НІ НАШЫМ НІ ВАШЫМ**. Гл. нашым.

*ВАШЫМІ* • **ВАШЫМІ ВУСНАМІ МЁД ПІЦЬ**! Гл. піць.
**ВАШЫМІ МАЛІТВАМІ**. Гл. малітвамі.

*ВАШЫХ* • **ДА ВАШЫХ ПАСЛУГ**. Гл. паслуг.

*ВАЯВАЦЬ* • **ВАЯВА́ЦЬ (ЗМАГА́ЦЦА) З ВЕТРАКА́МІ**. *Незак. Функц. не зам. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дарэмна траціць сілы ў барацьбе з уяўнай небяспекай ці несапраўднымі цяжкасцямі. *Самі [бацька і Лёдзя] ускладняюць сабе жыццё... Ваююць з ветракамі, выдумляюць грозных, каверзных праціўнікаў.* Карпаў. *У кожнага чалавека ёсць частка Дон Кіхота — кожны хоць раз у жыцці паспрабуе змагацца з ветракамі.* Зарэцкі. *Упікалі [мяне] дагэтуль: залішне быў ціхманы ды сарамлівы, нават прыземлены і не ваяўнічы — не змагаўся з ветракамі. І мала шукаў барацьбы.* Далідовіч.

*ВЕДАЕ* • **АГОНЬ ЯГО ВЕДАЕ**. Гл. агонь.
**АДЗІН АЛАХ ВЕДАЕ**. Гл. алах.
**АДЗІН БОГ <СВЯТЫ> ВЕДАЕ**. Гл. бог.
**АДЗІН ЧОРТ ВЕДАЕ**. Гл. чорт.
**АЛАХ ВЕДАЕ ШТО**. Гл. алах.
**АЛАХ ЯГО ВЕДАЕ**. Гл. алах.
**БОГ ВЕДАЕ**. Гл. бог.
**БОГ ВЕДАЕ ШТО**. Гл. бог.
**БОГ ЯГО ВЕДАЕ**. Гл. бог.
**КАДУК ЯГО ВЕДАЕ**. Гл. кадук.
**ЛІХА ВЕДАЕ**. Гл. ліха.
**ЛІХА ВЕДАЕ ШТО**. Гл. ліха.
**ЛІХА ЯГО ВЕДАЕ**. Гл. ліха.
**НЕ БОГ ВЕДАЕ ДЗЕ**. Гл. бог.
**НЕ БОГ ВЕДАЕ КОЛЬКІ**. Гл. бог.
**НЕ БОГ ВЕДАЕ ХТО**. Гл. бог.

**НЕ БОГ ВЕДАЕ ШТО**. Гл. бог.
**НЕ БОГ ВЕДАЕ ЯКІ**. Гл. бог.
**НЕМАЧ ЯГО ВЕДАЕ**. Гл. немач.
**НЯЧЫСЦІК ЯГО ВЕДАЕ**. Гл. нячысцік.
**ПЯРУН ЯГО ВЕДАЕ**. Гл. пярун.
**ТРАСЦА ЯГО ВЕДАЕ**. Гл. трасца.
**ХАЛЕРА ЯГО ВЕДАЕ**. Гл. халера.
**ХВАРОБА ЯГО ВЕДАЕ**. Гл. хвароба.
**ХРЭН ЯГО ВЕДАЕ**. Гл. хрэн.
**ХТО ВЕДАЕ**. Гл. хто.
**ХТО ЯГО ВЕДАЕ**. Гл. хто.
**ЧАМЯРЫЦА ЯГО ВЕДАЕ**. Гл. чамярыца.
**ЧОРТ ВЕДАЕ**. Гл. чорт.
**ЧОРТ ВЕДАЕ ШТО**. Гл. чорт.
**ЧОРТ ВЕДАЕ ШТО ТАКОЕ!** Гл. чорт.
**ЧОРТ ЯГО ВЕДАЕ**. Гл. чорт.

*ВЕДАЙ* • **ВЕ́ДАЙ (ЗНА́Й) НА́ШЫХ!** *Выкл. Разм.* Вось мы якія, вось з кім маеце справу. Выказванне пачуцця задавальнення, гонару (як выхвалянне, самазадавальненне). *Калі дзяўчына, якая вяла трактар, смеючыся вачыма, аглядалася, хлопец за штурвалам камбайна вышэй узнімаў галаву, і яго выгляд нібы гаварыў: «Ведай нашых!»* Гурскі. — *Хапіліся! — задаволена кажа Жаўтых... — Усё ж абдурылі — ведай нашых!* Быкаў. *Выдатнік, братка, мой Іван. Прафесар будзе з Ячнага, — знай нашых!..* Брыль.
**НЕ ЗНАЙ НЕ ВЕДАЙ**. Гл. знай.

*ВЕДАМА* • **ЧОРТ ВЕДАМА**. Гл. чорт.

*ВЕДАЦЬ* • **ВЕ́ДАЦЬ (ЗНА́ЦЬ) МЕ́РУ**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Праяўляць умеранасць у чым-н., памяркоўнасць, устрымлівацца ад лішняга. *Трэба, бацька, ведаць меру! Хіба так ён вінават?* Колас. *Адам Бушыла, сціснуўшы кулакі, пагрозліва, ступіў да Арэшкіна. — Ты-ы.. педагог! Трэба ведаць меру!* Шамякін. — *А ты, браток, задавайся, ды меру знай, — адказаў Міхасю Шарэйка.* Брыль.
**ВЕ́ДАЦЬ (ЗНА́ЦЬ) САБЕ́ ЦАНУ́**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Правільна ацэньваць свае магчымасці, якасці. *[Язва:] Што ж пра яго казаць? Добры гаспадар горада. Мужык разумны і ведае сабе цану.* Крапіва. *Я прыглядзеўся. Гэта была ўжо не тая гімназісточка, якую я бачыў нядаўна на сцэне, а самаўпэўненая паненка, што ведала сабе цану.* Карпюк. *Кузьма Букрэеў звольніўся з-за жылля. Спецыяліст выдатны. Знаў сабе цану.* Мыслівец.
**ВЕДА́ЦЬ (ЗНА́ЦЬ) СВАЁ МЕ́СЦА**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паступаць, дзейнічаць адпаведна свайму становішчу. *Даўно ўжо трэба было даць адпор залішняй Сімонавай нахабнасці: купец, нарэшце, павінен ведаць сваё месца.* Самуйлёнак. *Я, сынок, маці тваю папярэдзіў. Каб, чуй, ведала сваё месца.* Капусцін.
**ВЕДА́ЦЬ (ЗНА́ЦЬ) ТО́ЛК** *у кім, у чым. Незак. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі добра разбірацца ў кім-, чым-н. *Дзед за працу ўзяўся смела, ён у кадках ведаў толк.* Астрэйка. *Струкач у гэтай справе зубы з'еў, ведае толк, і таму ён лезе на рыштаванне, зверху камандуе мужчынамі...* Гардзей. *Ой, разумніца-малышка гэта ўнучачка мая. Два гадкі ўсяго,а ў кніжках знае толк не менш, чым я!* Гілевіч.
**ВЕ́ДАЦЬ (ЗНА́ЦЬ) ЦАНУ́** *каму, чаму. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. **1.** Правільна, з улікам вартасцей ацэньваць каго-,

што-н. *Божа мілы, каб вы пражылі гады, то і вы маглі б разбірацца ў людзях і ведаць цану ім.* Лынькоў. *Стары ведае цану ўсім жаночым смехам.* Чорны.

**2.** Даражыць кім-, чым-н., надаваць належнае значэнне каму-, чаму-н. *Маючы вялікую паэтычную душу, беларускі народ заўсёды быў настолькі шчодры, што часта не знаў цаны сваім скарбам.* Вітка. *Некаторыя мясціны паэмы яму [Твардоўскаму] асабліва падабаліся, і ён рад быў выпадку прачытаць іх для мяне... Адчувалася, што паэт ведае цану кожнаму слову верша.* Броўка. *Маленькая паслуга, а не доблесць. Але цану ёй ведае ляснік.* Гілевіч.

*Пара* <I> **ЧЭСЦЬ ВЕДАЦЬ** *каму.* Гл. знаць.

**НЕ ВЕ́ДАЦЬ НА ЯКІ́М СВЕ́ЦЕ ЗНАХО́ДЗІЦЦА.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Адчуваць сябе незвычайна, перажываць моцнае пачуццё (ад страху, радасці і пад.). *Фурман чуць не зляцеў з воза, а потым прыпаў галавою ў перадок і смаліў пугаўём каню па клубах, які і так не ведаў на якім свеце знаходзіцца.* Крапіва. *[Дзед Струкач:] Ды я яшчэ каб абняў каторую ды пацалаваў, дык яна б не ведала ад шчасця на якім свеце знаходзіцца.* Козел. *Зусім па-другому павярнулася справа ў гаркоме. Валя не ведала ад радасці на якім свеце знаходзіцца...* Няхай.

**ЧУЦЬ ЗВОН ДЫ НЕ ВЕДАЦЬ ДЗЕ ЁН.** Гл. чуць.

*ВЕДАЮЦЬ* • **АГНІ ЯГО ВЕДАЮЦЬ.** Гл. агонь.

**ВЯТРЫ ЯГО ВЕДАЮЦЬ.** Гл. вятры.

*ВЕДЗЬМАЙ* • **ЧОРТ З ВЕДЗЬМАЙ ЖЭНІЦЦА** *дзе.* Гл. чорт.

*ВЕДЗЬМАЎ* • **ПАЛЯВАННЕ НА ВЕДЗЬМАЎ.** Гл. паляванне.

*ВЕДЗЬМІНА* • **ВЕДЗЬМІНА СТУПА.** Гл. ступа.

*ВЕЖА* • **ВЕ́ЖА СА СЛАНО́ВАЙ КО́СЦІ.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Кніжн. Часцей іран.* Індывідуалістычны свет. *А ўсякія спробы ўцячы ў вежу са слановай косці ад грамадства і тым самым ад сябе як асобы ва ўзаемаадносінах з часам канчаліся марна...* Лужанін. *Гэта гаворыць аб тым, што мы, таварышы, не замыкаемся ў рамках нейкай абмежаванасці, не хаваемся ў вежах са слановай косці, выходзім на вялікі прастор неабсяжнай нівы і сеем разам вялікае, добрае, вечнае...* Ваданосаў.

*ВЕЗЦІ* • **ВЕ́ЗЦІ НА ВАЛА́Х** *што. Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці няпэўнай сукупнасці асоб. Вельмі марудна дастаўляць што-н. *Э-э, Яўцэхавіч, у нас так не пойдзе. Да нас яшчэ пастанова не дайшла, на валах вязуць.* Шамякін. — *А дзе ты іх сустрэў? — Ля Сукаватых Плах. — Дык гэта ж не зусім далёка. — Няхай сабе, але ж Кузьма і Фока вязуць нам газу на.. валах.* Корбан. *Не везлі тую вестку на валах — яна ляцела тэлеграмай хуткай...* «ЛіМ».

**МАСЛЁНКУ ВЕ́ЗЦІ.** *Незак. Абл. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі марудна рухацца (на запрэжаным кані). **Сін.**: ехаць на валах. — *Эй, хто там маслёнку вязе? Паганяй! — пачуўся голос з-за каня.* Брыль.

*ВЕК* • **ВЕ́К ВЕ́ЧНЫ**; **ВЕ́КІ ВЕ́ЧНЫЯ.** *Акал. Разм.* Заўсёды, вечна. **Сін.**: ад адама (у 1 знач.); ад веку да веку; век-вяком (у 1 знач.); з веку ў век; здавён-даўна; спакон веку; як свет светам (у 1 знач.). — *От я табе зараз так дам папружку, што век вечны памятацьмеш яе смак! — абазваўся Скуратовіч.* Чорны. *Найшлі! Як ляжала зямля век вечны без карысці, д[ы]к ахвоты не было нікому да яе!* Мележ. *Ды не будз[е] ж так векі вечныя, а прыйдуць ніяк часы лепшыя.* Гурыновіч.

**ВЕ́К-ВЯКО́М.** *Акал. Разм.* **1.** Заўсёды, вечна, усе жыццё. **Сін.**: ад адама (у 1 знач.); ад веку да веку; век вечны; з веку ў век; здавён-даўна; спакон веку; як свет светам (у 1

знач.). — *Бедныя вы мае, родныя мае! — падумаў Лявон. — Век-вяком вы цяжка працуеце...* Гарэцкі. *[Стараста:] Хай лазы прывязуць, найлепшай, смачнай, два вазы... Каб мужык той быў удзячны век-вяком.* Дубоўка.

2. Ужыв. у адмоўн. ск. Ніколі. **Сін.**: ва векі вякоў (у 2 знач.); ва векі вечныя (у 2 знач.); па век вякоў; як свет светам (у 2 знач.); як свет стаіць (у 2 знач.). *Твой жа сын.. век-вяком нам не будзе сваяком.* Крапіва. *Не забудзеш век-вяком ты ў бары вячэру!* Гілевіч.

**З ВЕКУ Ў ВЕК**. Гл. веку.

**МАФУСАІЛАЎ ВЕ́К**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Вельмі доўгае жыццё, даўгалецце. *Няхай чалавек сам сабе ўстановіць мафусаілаў век. Няхай людзі прыдумаюць клей, каб прыклеіць адарваную галаву ці руку.* Мальдзіс. *Журналіст пераканаяны нават, што ідэальным такі слоўнік можа быць толькі тады, калі ён будзе падрыхтаваны адным аўтарам-падзвіжнікам. Можна заўважыць, аднак, што такому падзвіжніку, акрамя многага іншага, абавязкова спатрэбіцца яшчэ і мафусаілаў век.* «ЛіМ».

**ПА ВЕ́К ВЕ́ЧНЫ**. *Акал. Разм.* Назаўсёды, навечна. **Сін.**: ва векі вякоў (у 1 знач.); на векі вечныя (у 1 знач.); на векі вякоў. *Люблю я адвакатаў, от што... Мала што ў іх чыны ці назвы могуць мяняцца, а адвакат па век вечны застанецца...* Чорны. *З чатырох дылёвак будзеш мець мясціну, па век вечны поля роўна тры аршыны.* Купала.

**ПА ВЕ́К ВЯКО́Ў**. *Акал. Разм.* Ужыв. у адмоўн. ск. Ніколі. **Сін.**: ва векі вякоў (у 2 знач.); век-вяком (у 2 знач.); на векі вечныя (у 2 знач.); як свет светам (у 2 знач.); як свет стаіць (у 2 знач.). *Разлогі веснавыя — наш вольны, светлы край, красуеш ты ў снежань, красуеш ты ў май. Ніхто не пераможа цябе па век вякоў, калі ўзгадаваў ты вось гэтакіх сыноў.* Русак. *Грышка Пруцікаў, канешне, па век вякоў не падабаўся б Родчанку...* Рубанаў.

*ВЕКІ* • **ВА ВЕ́КІ ВЯКО́Ў**. *Акал. Функц. не зам.* **1**. Назаўсёды, навечна. **Сін.**: на векі вечныя (у 1 знач.); на векі вякоў; па век вечны. *[Маці:] Ой, лясы, вы не шуміце, майго мужа не будзіце, бо ён спіць вечным сном ва векі вякоў.* Кудравец.

**2**. Ужыв. у адмоўн. ск. Ніколі. **Сін.**: век-вяком (у 2 знач.); на векі вечныя (у 2 знач.); па век вякоў; як свет светам (у 2 знач.); як свет стаіць (у 2 знач.). *А Карла за Янку: «І сам жа ты мой. Горы варочаць ты ўмееш гарбом, будзеш нядрэнным нямецкім рабом». А Янка: «Ніколі, ва векі вякоў!»* Крапіва.

**ВЕКІ ВЕЧНЫЯ**. Гл. век.

**НА ВЕ́КІ ВЕ́ЧНЫЯ**. *Акал. Разм.* **1**. Назаўсёды, навечна. **Сін.**: ва векі вякоў (у 1 знач.); на векі вякоў; па век вякоў. *Я, прызнацца, думаў спачатку астацца тут на векі вечныя, спадабалася тут мне і зямля, і людзі...* Чорны. *[Сірата:] Кінь туды зелле або каціную костку, зрабі настойку і дай яму піць. Ды не чаркай, а конаўкай — і прысохне ён да цябе на векі вечныя.* Кобец.

**2**. Ужыв. у адмоўн. ск. Ніколі. **Сін.**: ва векі вякоў (у 2 знач.); век-вяком (у 2 знач.); па век вякоў; як свет светам (у 2 знач.); як свет стаіць (у 2 знач.). *[Максім:] Не зазнаць ужо мне на векі вечныя дабра і спакою са сваёй Паланейкай.* Купала.

**НА ВЕ́КІ ВЯКО́Ў**. *Акал. Разм.* Назаўсёды, навечна. **Сін.**: ва векі вякоў (у 1 знач.); на векі вечныя (у 1 знач.); па век вечны. *І адбылося тады, што сорам і казаць: начальніцкі гонар Салаўя-сакратара быў заплямлён на векі вякоў.* Мурашка. *А на сходзе людзей — не прабіцца. Ужо і рукі паднялі, галасуюць, каб новая вёска на векі вякоў назвалася...* Гроднеў.

*ВЕКУ* • **АД ВЕ́КУ ДА ВЕ́КУ**. *Акал. Разм.* На працягу ўсяго жыцця, заўсёды. **Сін.**: ад адама (у 1 знач.); век вечны; век вяком (у 1 знач.); з веку ў век; здавён-даўна; спакон вякоў;

як свет светам (у 1 знач.). *Як азірнуся назад, як гляну, так і бачу: ад веку да веку, усё жыццё аддадзена коням.* Ласкоў. *Давалася ў знакі яно [каменне] чалавеку, зямлю заціскала ад веку да веку.* Ляпёшкін.

**ДА ВЕ́КУ**. *Акал. Разм.* Да самай смерці, да канца жыцця (помніць, гараваць і пад.). **Сін**.: да апошняга дыхання; да канца дзён; да магілы; да скону дзён. **Ант**.: ад калыскі. *Мусіць, да веку гараваў бы Эдуард, калі б не трапіўся шчаслівы выпадак вярнуцца на Беларусь.* Шахавец. *Ці я ж да веку карміць цябе буду.* Юрчанка.

**З ВЕ́КУ Ў ВЕ́К**. *Акал. Разм.* Заўсёды, пастаянна, на працягу ўсяго жыцця. **Сін**.: ад адама (у 1 знач.); ад веку да веку; век вечны; век-вяком (у 1 знач.); здавён-даўна; спакон вякоў; як свет светам (у 1 знач.). *У простых людзей з веку ў век была нянавісць да таго, хто рагоча і гуляе, калі ўсе займаюцца работай.* Чорны. *Сонцу бачна сцяжынка любая, па якой з веку ў век мы ідзем.* Прыходзька.

**СТАЯЦЬ НАПРОЦІ СВАЙГО ВЕКУ**. Гл. стаяць.

*ВЕЛАСІПЕД* • **ВЫНАХОДЗІЦЬ ВЕЛАСІПЕД**. Гл. вынаходзіць.

*ВЕЛАСІПЕДА* • **ВЫНАХОДНІЦТВА ВЕЛАСІПЕДА**. Гл. вынаходніцтва.

*ВЕЛІКОДНЫМ* • **ЯК З ВЕЛІКОДНЫМ ЯЙКАМ**. Гл. яйкам.

*ВЕЛІЧЫНІ* • **ЗОРКА ПЕРШАЙ ВЕЛІЧЫНІ**. Гл. зорка.

*ВЕЛЬМІ* • **МЯСЦІНЫ НЕ ВЕЛЬМІ АДДАЛЕНЫЯ**. Гл. мясціны.

**НЕ ВЕЛЬМІ РАЗГОНІШСЯ**. Гл. разгонішся.

*ВЕНАХ* • *Чыя, якая* **КРОЎ ЦЯЧЭ Ў ВЕНАХ** *чыіх, каго.* Гл. кроў.

*ВЕНІКАМ* • **ЯК МЫШ ПАД ВЕНІКАМ**. Гл. мыш.

*ВЕНІКАЎ* • **ДА НО́ВЫХ ВЕ́НІКАЎ** *помніць, не забыць*. *Акал. Разм.* Вельмі доўга. *Яшчэ мінута — і я, далібог, не вытрымаю. Я так пагавару з гэтым Гарлюком, што будзе памятаць да новых венікаў!* Каршукоў. *Няхай толькі хто паспрабуе назваць яго так. Ляксандра пакажа яму, дзе ракі зімуюць. Да новых венікаў помніць будзе.* Кузьмянкоў.

*ВЕРАБЕЙ* • **СТАРЫ́ ВЕРАБЕ́Й**. *Часцей ужыв. у адз. Разм. Часцей у знач. вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі вопытны, спрактыкаваны чалавек. **Сін**.: біты воўк; стары воўк; стрэляная птушка; стрэляны верабей; стрэляны воўк. **Ант**.: жаўтаротае птушаня. *— А, стары верабей! — загаманіў вайсковы, убачыўшы старшыню. — Ну, як маешся, чорт барадаты?* Зарэцкі. *Без хвалявання ў нашай справе нельга. Я, так сказаць, стары верабей, і то хвалююся.* Брыль. *Што вы, Восіп Антонавіч!.. Я ў гэтых справах верабей стары, у пастку не палезу.* Шыцік. *Герф — стары верабей, яго на такіх рэляцыях не правядзеш.* Новікаў.

**СТРЭ́ЛЯНЫ ВЕРАБЕ́Й**. *Часцей ужыв. у адз. Разм. Часцей у знач. вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі вопытны, спрактыкаваны чалавек. **Сін**.: біты воўк; стары верабей; стары воўк; стрэляная птушка; стрэляны воўк. **Ант**.: жаўтаротае птушаня. *[Сцяпан Андрэевіч:] Не турбуйцеся, Дзям'ян Дзям'янавіч, наконт гэтага я стрэляны верабей.* Крапіва. *— Глядзі, сцеражыся, дачушка! — Цяпер не пападуся! Цяпер я — стрэляны верабей!..* Мележ.

*ВЕРАБ'ЁЎ* • **З ВЕРАБ'ЁЎ НОС**. Гл. нос.

*ВЕРАБ'ІНЫ* • **ВЕРАБ'ІНЫ ХАРЧ**. Гл. харч. **З ВЕРАБ'ІНЫ НОС**. Гл. нос. **НА ВЕРАБ'ІНЫ СКОК**. Гл. скок.

*ВЕРАБ'Ю* • **ВЕРАБ'Ю ПА КАЛЕНА**. Гл. калена.

*ВЕРАБ'ЯМ* • **ВЕРАБ'ЯМ ДУЛІ ПАКАЗВАЦЬ**. Гл. паказваць.

*ВЕРАБ'ЯХ* • **СТРАЛЯЦЬ З ГАРМАТЫ ПА ВЕРАБ'ЯХ**. Гл. страляць.

*ВЕРАЙ* • **ВЕ́РАЙ І ПРА́ЎДАЙ** *служыць*. *Акал. Функц. не зам.* Сумленна, аддана. *Вы верай і праўдай служыце сваім гаспадарам, абараняеце іх і іхнюю нарабаваную маёмасць.* Маўр. *Тых, хто верай і праўдай служыў гітлераўцам, цікавіла толькі адно: як бы хутчэй і зручней падацца з горада.* Лынькоў.

*ВЕРБАЎ* • **АКАЛОЧВАЦЬ ГРУШЫ <З ВЕРБАЎ>**. Гл. акалочваць.

*ВЕРНЕ* • **З ДУШЫ́ ВЕ́РНЕ**. *Разм. Неадабр. У безас. ужыв.* **1**. Каму-н. агідна, гідка, праціўна, моташна (часцей ад якіх-н. харчовых прадуктаў). *Ну, не будзе ў нас бульбы, дык гэта ж заўтра. А сёння ў нас пакуль што ёсць, мінулагодняя яшчэ, аж з душы ўжо верне.* Казько. *Пісала, бедная, што кормяць яе чарвямі, нейкімі пампушкамі, што ў кітайцаў лічылася смачнаю ядою, а ў яе ад гэтае яды вярнула з душы.* Гарэцкі.

**2**. Прыкра, невыносна, няма сіл трываць што-н. агіднае. *Як пойдзе [муж] раніцаю, дык толькі апоўначы вяртаецца. І заўжды на падпітку. «З патрэбнымі людзьмі п'ю». А зірнеш на тых «патрэбных» — з душы верне. Слізкія ўсе, нібы вужакі.* Кадзетава. *Урытме конга — малайцы! Палітыка пад сексуальным соусам альбо секс, прыпраўлены палітыкай. Нацыянальная, так бы мовіць, страва [на Кубе]. Толькі мяне ад яе ўжо з душы верне.* Брава.

*ВЕРХ* • **БРАЦЬ ВЕРХ**. Гл. браць.

*ВЕРЦІЦЦА* • **ВЕРЦІЦЦА НА ЯЗЫКУ** *у каго, каго*. Гл. круціцца.
**ВЕРЦІЦЦА Ў ГАЛАВЕ** *у каго*. Гл. круціцца. *ВЕРЦЬ* • **ХОЦЬ КРУЦЬ ХОЦЬ ВЕРЦЬ**. Гл. круць. *ВЕРЫ* • **ДАЙ <ТЫ> ВЕРЫ**. Гл. дай.
**НЕ ДАВАЦЬ ВЕРЫ < СВАІМ > ВАЧАМ**. Гл. даваць.
**НЕ ДАВАЦЬ ВЕРЫ СВАІМ ВУШАМ**. Гл. даваць.

*ВЕРЫЎ* • **ЧОРТ ВЕРЫЎ** *каму*. Гл. чорт.

*ВЕРЫЦЬ* • **НЕ ВЕ́РЫЦЬ < СВАІ́М > ВАЧА́М**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі здзіўляцца, убачыўшы што-н. нечаканае. **Сін.**: дзіву давацца; не даваць веры < сваім > вачам; рабіць вялікія вочы; разводзіць рукамі; разяўляць рот (у 3 знач.). *Загад вісеў на фанернай дошцы, на якой да вайны прыклейвалі плакат з рэкламаю, які будзе кінафільм у кінатэатры. Рая чытала і не верыла вачам сваім.* Арабей. *Мітынг скончан. Разышліся. І вачам не верыць Дрот: без прымусу, без камісій «апарат» нясе Хвядот!* Колас. **НЕ ПАВЕРЫЦЬ < СВАІМ > ВАЧАМ**. *Зак. Як уставалі з зямлі, Сцёпка не паверыў сваім вачам: недалёка ад яго, збоку, — польскі салдат.* Баранавых. *[Алена] не паверыла вачам — за сталом, прываліўшыся плячамі да сцяны, у расшпіленым кажушку спаў Іван.* А.Жук.

**НЕ ВЕ́РЫЦЬ <СВАІ́М> ВУША́М**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі здзіўляцца, пачуўшы што-н. нечаканае. **Сін.**: не даваць веры <сваім> вушам. *Казік не верыў сваім вушам. Такім лагодным тонам ніколі не гаварыла з ім бязносая.* Чарнышэвіч. *Ганька слухае Сашу і Варыну матку і вушам сваім не верыць: няўжо будзе такое шчасце, што яны з Варай пяройдуць ад Доўгае Сцёпы да Трыгубовічаў?..* Васілевіч. *Пан Галыга збіты з тропу, і не верыць ён вушам, ён вачэй не зводзіць з «хлопа», чарам тым паддаўся сам.* Колас. *Грушка слухаў і вушам не верыў. Каму гэта патрэбна і нашто?* Пестрак. **НЕ ПАВЕРЫЦЬ <СВАІМ> ВУШАМ**. *Зак. Я азірнуўся, застыў. І, вядо-*

*ма, у першую хвіліну не паверыў вушам сваім — ці не ўява гэта, што я чую бацькаў голас?* Сачанка.

*ВЕСЦІ* • **ВЕ́СЦІ (ВАДЗІ́ЦЬ) РЭ́Й**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць завадатарам, верхаводзіць, аказваць уплыў на ход чаго-н. **Сін.**: даваць тон <*каму, чаму, у чым*>; іграць першую скрыпку *ў чым*; камандаваць парадам; правіць баль <*дзе, у чым*>; рабіць пагоду <*у чым, дзе*>; трымаць лейцы ў <сваіх> руках. **Ант.**: іграць другую скрыпку *ў чым. Яўхім злаваўся на самога сябе, што баба рэй вядзе ў хаце.* Бядуля. *[Пытляваны:] Дзякую, дружына, што не даяце ў крыўду мяне і наш калгас. З вашай падтрымкай мне лягчэй будзе рэй весці...* Крапіва. *Важна рэй Ігнат Буйніцкі ў танцах нашых водзіць.* Купала.

**ВЕ́СЦІ КУРНЎ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. *кот, кошка.* Ціха і аднастайна вурчаць; муркаць. *Сядзіць [кот] гэтак сабе ціхенька, вочы заплюшчыць — быццам спіць. І курну сваю вядзе.* Гіль. *Добра кату: прыгрэецца, наеўшыся, і вядзе курну.* Янкоўскі.

**І ВЎХАМ НЕ ВЕ́СЦІ**. *Незак. Разм. Часцей неадабр. Часцей у 3-й і 2-й ас. адз. і мн., а таксама ў пр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ніяк не рэагаваць, не звяртаць ніякай увагі. **Сін.**: і вокам не вядзе; <і> не лыс; <і> у вус <сабе> не дзьмуць; не шманае; хоць бы хны (у 1 знач.); хоць бы што (у 1 знач.). *[Жыгліцкая:] Бо, як яна бэсціць мяне. А сынок і вухам не вядзе...* Козел. *[Лявон:] Увесь агарод зарос, палоць трэба, а ты і вухам не вядзеш!* Макаёнак. *Гэтыя думкі прыходзяць да Ганькі зноў і зноў, і так ёй робіцца ад іх цяжка. А малыя і вухам не вядуць: — Ганька, зрабі мне з стужак ляльку!..* Васілевіч.

**І ВУХАМ НЕ ПАВЕСЦІ**. *Зак. На маму маю нават і вухам не павялі, што яна там у хаце. Прывыклі, сволачы, за век папіхаць нашага брата.* Брыль.

*ВЕТРАЗЯЎ* • **БЕЗ РУЛЯ І БЕЗ ВЕТРАЗЯЎ**. Гл. руля.

*ВЕТРАКАМІ* • **ВАЙНА З ВЕТРАКАМІ**. Гл. вайна.

**ВАЯВАЦЬ З ВЕТРАКАМІ**. Гл. ваяваць.

*ВЕТРАМ* • **ВЕТРАМ НАДЗЬМУЛА** *каму*. Гл. надзьмула.

**З ВЕ́ТРАМ (З ВЕ́ТРЫКАМ, З ВЕЦЯРКО́М) У ГАЛАВЕ́**. *Азн. і вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Занадта легкадумны, несур'ёзны. **Сін.**: вецер у галаве <гуляе> *у каго*; гуляй-вецер; куды вецер дзьме; падбіты ветрам (у 2 знач.); узвей-вецер, як у полі вецер. *Трывульна аж зморшчыўся — які ўсё-такі несур'ёзны гэты Адзінец, з ветрам у галаве.* Дайнека. *[Федзя:] Ён-то хлопец харошы. Толькі трошкі з ветрыкам у галаве.* Губарэвіч. *За плячыма таты, мамы ён, як труцень той, жыве, апрануты па рэкламе, з вецярком у галаве.* Скрыпка.

**З ЛЁГКІМ ВЕ́ТРАМ!** *Выкл. Разм.* **1**. Пажаданне шчаслівай дарогі. **Сін.**: вецер у спіну (у 1 знач.). *[Гаворка:] З лёгкім ветрам, маэстра. Хлопцы завязуць вас на станцыю на маёй машыне.* Шамякін.

**2**. Пажаданне пазбавіцца ад каго-н. Няхай ідзе, куды хоча. **Сін.**: вецер у спіну (у 2 знач.). *— А ці ведаеце вы, што бальшавікі намераны стварыць самастойную арганізацыю? — павёў гарбатым носам Вайнштэйн. — Ужо і сход прызначылі, хочуць выйсці з «аб'яднанкі». — З лёгкім ветрам! — іранічна вымавіў Шумскі. — Меней будзе калатні.* Гурскі.

**ІСЦІ З ВЕТРАМ**. Гл. ісці.

**ПАДБІТЫ ВЕТРАМ**. Гл. падбіты.

**ПАДШЫТЫ ВЕТРАМ**. Гл. падшыты.

**ЯК ВЕТРАМ ЗДЗЬМУЛА**. Гл. здзьмула.

**ЯКІМ ВЕТРАМ < ЗАНЕСЛА >** *каго куды*. Гл. занесла.

*ВЕТРУ* • **АД ВЕТРУ ВАЛІЦЦА**. Гл.валіцца.

**ДА ВЕ́ТРУ** *ісці, хадзіць, пайсці* і пад. *Акал. Праст.* Па сваёй натуральнай патрэбе. **Сін.**: на двор; па патрэбе. *Нячутна адчыніліся дзверы «Каму да ветру?» —прагучаў сіплы голас.* Навуменка. *— Ах ты, божа мой! — завохкаў Кузьма. — Я ж на мінутачку адлучыўся, не пры вас гаворачы, — да ветру хадзіў...* Пянкрат. *Жак прытварыўся, што яму трэба да ветру. Ахоўнік паказаў яму: садзіся на дарозе. Але ён, цнатлівы чалавек, усё ж прысеў за прыдарожным кустом.* Шамякін.

**З ВЕТРУ ВЯРОЎКІ ВІЦЬ**. Гл. віць.

**ПЛЯВАЦЬ СУПРАЦЬ ВЕТРУ**. Гл. пляваць.

**ХІСТАЕЦЦА АД ВЕТРУ**. Гл. хістаецца.

**ШУКАЙ ВЕТРУ Ў ПОЛІ** <*калі*>. Гл. шукай.

*ВЕТРЫ* • **ТРЫМАЦЬ НОС ПА ВЕТРЫ**. Гл. трымаць.

**ХОЦЬ ПА ВЕТРЫ ПУСКАЙ**. Гл. пускай.

*ВЕТРЫКАМ* • **З ВЕ́ТРЫКАМ (З ВЕЦЯРКО́М)** *ехаць, пракаціць* і пад. *Акал. Разм.* На вялікай хуткасці. *Дуня ніколі не прапускала выпадку, каб падсесці да мужа ў кабіну і праляцець куды з ветрыкам.* Ракітны. *Ехалі ўсё-такі «з вецярком». Каця і агледзецца не паспела, як Віктар скіраваў матацыкл пад вяз, шмаруючы нагамі па зямлі.* Місько.

*ВЕТХАГА* • **СКІНУЦЬ З СЯБЕ ВЕТХАГА АДАМА**. Гл. скінуць.

*ВЕЦЕР* • *Ведаць, разумець* і пад. **АДКУ́ЛЬ (КУДЫ́) ВЕ́ЦЕР ДЗЬМЕ́**. *У ролі дадан. ск. Разм. Іран.* (Ведаць і пад.) на каго або на што трэба арыентавацца ў сваіх дзеяннях, учынках і інш. *Ведаеце, ёсць такія людзі: сваёй галавы ў яго на плячах няма, дык ён толькі тое і робіць, што прынюхваецца, адкуль вецер дзьме.* Палтаран. *Як толькі Галапёка назваў Фёдара Аляксандравіча, Занямонец адразу зразумеў, адкуль дзьме вецер.* Асіпенка. *Гендарсан наўрад ці пра нешта, здагадваецца, а гэты злодзей ведае, адкуль дзьме вецер.* Чарнышэвіч. *Слухаў я Пятра і не пазнаваў яго: не застаўся ўбаку, змагаўся і ён. Мусіць, жонка ўцягнула. Ды і само жыццё вучыла, выхоўвала. Мабыць, зміківіў Пятро, куды дзьме вецер.* Левановіч. *З бацькам жа яны... Хоць наўрад ці калі яны дружылі па-сапраўднаму. Інакш стары не папярэджваў бы: з Радзевічам трымай вуха востра, глядзі, куды падзьме вецер...* Блакіт.

**ВЕ́ЦЕР ГУЛЯ́Е (-Ў) <СВІ́ШЧА, -СТА́Ў> У КІШЭ́НЯХ (-І)** *у каго, чыіх. У безас. ужыв. Разм. Жарт.* У каго-н. няма грошай. *Вы, мабыць, думаеце, што на свеце няма людзей з грашыма? Ага! Гэта ў малінаўцаў.. у кішэнях вецер гуляе.* Чарнышэвіч. *Залонскі паблажліва пасміхаўся і адзін на адзін супакойваў ротмістра: маўляў, прапаршчыка трэба зразумець — сын фельчара атрымаў права вучыцца ва універсітэце, але ў кішэнях яго заўсёды гуляў вецер; ад гэтага злосць і зайздрасць да тых, хто меў большыя магчымасці.* Шамякін. *Э, галыцьба бясштанная... Робіце-робіце, служыце-служыце, а ў кішэні вецер свішча.* Місько. *[Жыгліцкая:] І дабрыцо з аруда, і адзёжку з куфра — усё на гарэлку цягнуў, як у кішэнях вецер свістаў.* Козел.

**ВЕ́ЦЕР НЯСЕ́** *каго. Незак. У безас. ужыв. Разм. Часцей неадабр.* Ужыв. у пытальных ск. пасля слоў *куды, адкуль* і пад. (Куды і пад.) хто-н. ідзе (прыйшоў)? **Сін.**: бог нясе *каго*; бура нясе *каго*; ліха нясе *каго*; нячысцік гоніць *каго*; чорт нясе *каго*. *— куды ж яе [Хрысцю] вецер нясе? — Да Літавара ў наймічкі ідзе.* Адамчык. **ВЕЦЕР ПРЫНЁС** *каго. Зак.*

**ВЕ́ЦЕР У ГАЛАВЕ́ <ГУЛЯ́Е, -Ў, СВІ́ШЧА, -СТА́Ў>** *у каго. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. вельмі легкадумны, несур'ёзны. **Сін.**: з ветрам у галаве; куды вецер дзьме; падбіты ветрам (у 2 знач.); як у полі вецер. *Калі вайна зацягнецца, і яго гадок падас-*

*пее. Забяруць Косціка. А ён жа зусім дурніца, вецер у галаве.* Сачанка. *Дык яна што! Яна маладая, у яе, можа быць, яшчэ вецер у галаве.* Чорны. — *Што ты з яго возьмеш, вецер гуляе ў галаве, — хмурыцца Рыгор.* Дзятлаў. *Здаровы ён у вас, кулаком быка можа зваліць, а ў галаве вецер свішча...* Міська.

**ВЕ́ЦЕР У СПІ́НУ** *каму. Выкл. Разм.* 1. Пажаданне шчаслівай дарогі. **Сін.**: з лёгкім ветрам (у 1 знач.). *I не агітаваць [я] прыйшла, каб тут астацца. Едзьце на здароўе. Вецер у спіну.* Мыслівец.

2. Пажаданне пазбавіцца ад каго-н. (Няхай) выбіраецца прэч, ідзе, куды хоча. **Сін.**: з лёгкім ветрам (у 2 знач.). *I адтуль, відаць, выкурылі [Сцяпана]. Цяпер да нас хацеў ушчаміцца. А павярнуў аглоблі, дык няхай яму вецер у спіну.* Гроднеў.

**КІДАННЕ СЛОЎ НА ВЕЦЕР**. Гл. кіданне.

**КІДАЦЬ НА ВЕЦЕР** *грошы* і пад. Гл. кідаць.

**КІДАЦЬ СЛОВЫ НА ВЕЦЕР**. Гл. кідаць.

**КУДЫ́ ВЕ́ЦЕР ДЗЬМЕ́**. *Вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Без цвёрдых перакананняў і прынцыпаў. **Сін.**: вецер у галаве < гуляе > *у каго*; з ветрам у галаве; падбіты ветрам (у 2 знач.); як у полі вецер. — *Бальшавік? — Так. А вы? — Куды вецер дзьме, — горка вымавіў Бонч-Бруевіч.* Гурскі. *Зося з пэўнымі перакананнямі! А мы — куды вецер дзьме...* «Полымя».

**ЛАВІ ВЕЦЕР У ПОЛІ**. Гл. лаві.

**НА ВЕ́ЦЕР** гаварыць, крычаць і пад. *Акал. Разм.* Дарэмна, упустую, безвынікова. **Сін.**: на ўзвей вецер. *Дзед Талаш гаварыў не на вецер. Вочы яго гарэлі неспакойным злавесным агнём і зачароўвалі Мартына, адбіралі яго волю.* Колас. *Што маўчыце? Крычу я каму, мо сабе самому? Ці на вецер крычу?..* Куляшоў. *Я не раскідваю свайго пачуцця на вецер...* Гартны.

**НА ЎЗВЕЙ ВЕЦЕР**. Гл. узвей.

**ПУСКАЦЬ НА ВЕЦЕР** *грошы і* пад. Гл. пускаць.

**ЯКІ́ ВЕ́ЦЕР ЗАГНА́Ў (ЗАНЁС)** *каго куды*; **ЯКІ́Я ВЯТРЫ́ ЗАГНА́ЛІ (ЗАНЕ́СЛІ)** *каго куды. У безас. ужыв. Разм.* Як, пры якіх абставінах аказаўся хто-н. дзе-н. Выказванне здзіўлення пры нечаканай сустрэчы. Часцей ужыв. у пытальных ск. **Сін.**: якім ветрам <занесла> *каго куды*; які чорт занёс *каго куды. Сегень аж сумеўся ад нечаканасці. Што за дзіва! Які вецер загнаў сюды хутарскога Сегенецкага?* Чорны. *О-о, каго бачу! Іван Васільевіч! Якія вятры занеслі ў нашы балоты?* Шамякін.

**ЯК У ПО́ЛІ ВЕ́ЦЕР**. *Вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Легкадумны, пусты, ветраны. **Сін.**: вецер у галаве <гуляе> *у каго*; з ветрыкам у галаве; куды вецер дзьме; падбіты ветрам (у 1 знач.). — *От Мікалай гаворыць, што ён вельмі вольны цяпер, седзячы тут на прызбе. Што такое вольны свет нідзе не бачыў. — Вольны? Як у полі вецер. Ні галавы, ні хваста. Хе-хе-хе. — Ну так, як у полі вецер.* Чорны. *Чаму ты такая, як у полі вецер? Спачатку ты Валерыю сімпатызавала, потым да Грышы прыліпла, а цяпер табе Герчык мілей за ўсіх.* Няхай.

*ВЕЧАР* • **ДО́БРЫ ВЕ́ЧАР!** *Выкл. Функц. не зам.* Прывітальны зварот пры сустрэчы вечарам. — *Добры вечар, — бабка па голасу пазнала Аўгінню.* Колас. — *Добры вечар!.. — Добры вечар! — адказала гаспадыня.* Лобан.

Яшчэ **НЕ ВЕ́ЧАР**. *Акал. Разм.* Не позна (зрабіць што-н.). *[Антаніна:] Паліна, апошні раз кажу табе, пайшлі замуж, яшчэ не вечар, падумай, паразмыслі.* Філімонава. *Сябры суцяшалі: яшчэ не вечар. З тваімі заслугамі напэўна можна дачакацца лепшага...* Быкаў.

*ВЕЧАРА* • **АБЫ ДЗЕНЬ ДА ВЕЧАРА**. Гл. дзень.

*ВЕЧНАСЦЬ* • **АДЫХОДЗІЦЬ У ВЕЧНАСЦЬ**. Гл. адыходзіць.

*ВЕЧНАЯ* • **ВЕЧНАЯ ГІСТОРЫЯ**. Гл. гісторыя.
**ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ** *каму*. Гл. памяць.

*ВЕЧНЫ* • **ВЕК ВЕЧНЫ**. Гл. век.
**ПА ВЕК ВЕЧНЫ**. Гл. век.

*ВЕЧНЫМ* • **ВЕЧНЫМ ПРАВАМ**. Гл. правам.
**ЗАСНУЦЬ ВЕЧНЫМ СНОМ**. Гл. заснуць.
**СПАЦЬ ВЕЧНЫМ СНОМ**. Гл. спаць.

*ВЕЧНЫЯ* • **ВЕКІ ВЕЧНЫЯ**. Гл. век.
**НА ВЕКІ ВЕЧНЫЯ**. Гл. векі.

*ВЕШАЙ* • **ХО́ЦЬ СЯКЕ́РУ (ТАПО́Р) ВЕ́ШАЙ**. *Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Дзе-н. няма чым дыхаць. *Пасля позняга снедання Рыгор так і не вылез з-за стала, толькі адсунуўся трохі і ўсё смаліў і смаліў цыгарэту за цыгарэтаю, у хаце ўжо было хоць сякеру вешай.* Міська. *Кантора біткам набіта людзьмі... Дыму — хоць сякеру вешай! Амаль усе кураць.* Макарэвіч. *Боты адцягні, а то ў нос дае. Распусціў свой дзёгаць ці варволь пад самым носам, хоць сякеру вешай.* Чорны. *Дым клубкамі віўся пад нізкай столлю... — Хутка тут хоць тапор вешай.* Галавач.

**ХО́ЦЬ <ТЫ> САБА́К ВЕ́ШАЙ** *на кім. Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм. Іран.* Хто-н. вельмі высокі, вялікага росту. **Сін.**: з каломенскую вярсту. **Ант.**: ад гаршка паўвяршка; ад зямлі не адрос; аршын з шапкаю; жабе па калена; з вузел; кату па пяту; пад стол пяшком ходзіць. *У свядомасць прыплыло зусім другое: «А высокія [немцы], хоць ты на іх сабак вешай».* Семашкевіч.

*ВЕШАЙСЯ* • **ХО́ЦЬ <ТЫ> ВЕ́ШАЙСЯ**. *Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм.* Выказванне безнадзейнасці, немагчымасці што-н. зрабіць, каб выйсці з крайне цяжкага становішча. **Сін.**: хоць ты галавой аб сцяну бісяя; хоць душой загавей; хоць галавой у пятлю; хоць лажыся і памірай; хоць <ты> галавой налажы; хоць <ты> жывы ў зямлю лезь; хоць <ты> у вір галавой; хоць у пятлю лезь; хоць у труну лажыся. *Такое жыццё было, што хоць ты вешайся!* Пестрак. *Я страшэнна.. у крытычным палажэнні, так што хоць вешайся.* Купала.

*ВЕШАЦЦА* • **ВЕ́ШАЦЦА НА ШЫ́Ю** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Навязвацца, настойліва дамагацца прыхільнасці, сімпатыі, узаемнасці. Пра жанчыну ў адносінах да мужчыны. **Сін.**: кідацца на шыю *каму*. *Спачатку ты вешалася мне на шыю, гатова была выйсці за мяне замуж, а сёння ты нешта пачынаеш віляць...* Дамашэвіч. *[Гарлахвацкі:] Я ведаю такіх старэнькіх, якім дзяўчаты на шыю вешаюцца.* Крапіва. **ПАВЕСІЦЦА НА ШЫЮ** *каму. Зак.*

*ВЕШАЦЬ* • **ВЕ́ШАЦЬ (АПУСКА́ЦЬ) ГАЛАВУ́ (ГАЛО́ВЫ)**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даходзіць да моцнага адчаю, адчуваць душэўнае хваляванне, маркоціцца. **Сін.**: вешаць нос; вешаць нос на квінту; занепадаць духам; падаць духам. *Думаў, што пражыву, абыдуся без вас я, вершы. Ды пачаў галаву я без вершаў вешаць.* Вярцінскі. *І ва ўмовах невясёлых мы не вешаем галоў.* Астрэйка. *Янка, трымайся! Не апускай галавы! Ідзі смела насустрач заўтрашняму дню!* Колас. **ПАВЕСІЦЬ (АПУСЦІЦЬ) ГАЛАВУ (ГАЛОВЫ)**. *Зак. Хадзілі браты сумныя, павесілі галовы.* Лынькоў. *—Відаць, невясёлыя весткі з дому, Максім, калі так апусціў галаву? — запытаў Серафім.* Машара.

**ВЕ́ШАЦЬ (АПУСКА́ЦЬ, СПУСКА́ЦЬ) НО́С (НАСЫ́).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даходзіць да моцнага адчаю, адчуваць душэўнае хваляванне, маркоціцца. **Сін.**: вешаць галаву; вешаць нос на квінту; занепадаць духам; падаць духам. — *Ніхто не ведае, калі памрэ, — ціха сказаў Мікіта Мінавіч. — А вельмі ўжо вешаць нос няма чаго.* Кулакоўскі. *Настойлівасць і вытрымка — галоўнае для рыбака. Няма ўдачы — не апускай носа, старайся, шукай, і яна, тая ўдача, нідзе не дзенецца...* Хадкевіч. **ПАВЕСІЦЬ (ЗВЕСІЦЬ, АПУСЦІЦЬ, СПУСЦІЦЬ) НОС (НАСЫ).** *Зак. Калі ж [лейтэнант] аб'явіў разліку задачу, хлопцы апусцілі насы.* Быкаў. *Дзяўчаты зусім павесілі насы, а хлопцы яшчэ спрабавалі жартаваць і казырыцца.* Грахоўскі. *Дык чаго ты нос павесіў? Вальку ўсё сніш?* Лынькоў. *Маўчаць яны [хлопцы], насы спусцілі, сядзіць дырэктар, як на шыле — нагналі ж чэрці ім занозу.* Колас. *Каб даў бог, унучкі былі такія, як дачка. Што б ні было, а рукі ў яе не ападуць, носа не спусціць, не будзе ратавацца кленічамі ды праклёнамі.* Янкоўскі.

**ВЕ́ШАЦЬ ЛАПШУ́ <НА ВУ́ШЫ>** *каму. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Падманваць каго-н., гаворачы няпраўду. **Сін.**: абводзіць вакол пальца *каго*; абуваць у лапці *каго*; бакі забіваць *каму*; браць на арапа *каго*; браць на бога *каго*; браць на вудачку *каго*; браць на пушку *каго*; вадзіць за нос *каго*; віляць хвастом (у 1 знач.); выводзіць у поле *каго*; гнуць дугі; гуляць у ката і мышку; дурыць галаву *каму* (у 1 знач.); задурыць галаву *каму* (у 3 знач.); замазваць вочы *каму*; замыльваць вочы *каму*; запраўляць арапа; кампасціраваць мазгі *каму*; корчыць дурня (у 1 знач.); круціць хвастом (у 1 знач.); муціць галаву *каму*; настаўляць акуляры *каму*; прадаць *каго* і грошы палічыць; пудрыць мазгі *каму*; пускаць пыл у вочы *каму*; сляпіць вочы *каму* (у 1 знач.); травіць баланду (у 2 знач.); туманіць вочы *каму*; туманіць галаву *каму*. *Дык чаго ж ты мне тут лапшу на вушы вешаеш? Пустазвон ты чортаў! Столькі часу задарма на цябе ўходаў!* Дудараў. *Паздзекавалася Паліна [з Паўла]. Лоўка лапшу вешала. Паўлу адно пляла — тварыла ж другое.* Калодзежны. — *Цырк, — ляпнуў сябе па каленях патлаты. — Вешаю ёй лапшу ўсялякую, аж душуся ад смеху — верыць.* Клімянкоў. **НАВЕШАЦЬ ЛАПШЫ <НА ВУШЫ>** *каму. Зак. — Паляцяць нашы слаўныя галовы вобзем. — Нічога, Аляксей Савіч [нашым жонкам] лапшы на вушы навешае. Да таго ж ён прыходзіць з нейкім адміністратарам ад навукі.* Кацюшэнка.

**ВЕ́ШАЦЬ (НАВЕ́ШВАЦЬ) ЯРЛЫКІ́ (ЯРЛЫ́К)** *<каму, на каго, на што>. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці няпэўнай сукупнасці асоб. Аднабакова, шаблонна ацэньваць, характарызаваць каго-н. **Сін.**: прыклейваць ярлык *<каму, на каго, на што>*; прышываць ярлык *каму*. *Дык не трэба так проста і вешаць ярлыкі! І не трэба крычаць на чалавека, калі ён хоча даказаць, што не вінаваты!..* Мележ. *Мяшчане... Прывыклі, не думаючы, гаварыць, ярлыкі вешаць...* Гігевіч. *Ні ў кога — у тым ліку і ў публіцыстаў — няма права зневажаць чалавека, навешваць на яго ярлыкі.* «ЛіМ». **НАВЕШАЦЬ ЯРЛЫКІ (ЯРЛЫК)** *<каму, на каго, на што>. Зак. Маладых паэтаў, пісьменнікаў Іван падтрымлівае, як можа. Нават тых, якім ужо навешаны ярлыкі.* Навуменка.

**ВЕ́ШАЦЬ НО́С (НАСЫ́) НА КВІ́НТУ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даходзіць да моцнага адчаю, маркоціцца, сумаваць. **Сін.**: вешаць галаву; вешаць нос; занепадаць духам; падаць духам. — *Але следу гэтае рэвалюцыі ніхто не затрэ ў гісторыі... — О не! — падхватвае Вольга Віктараўна. — І вешаць нос на квінту няма чаго.* Колас. — *Нічога, дзеткі, усё будзе добра, не вешайце насы на квінту, — суцяшала маці.* «Полымя». **ПАВЕСІЦЬ НОС (НАСЫ) НА КВІНТУ.** *Зак. І думаў [паніч], што кала-*

*ніст дасць яму за гэтыя мукі бог ведае колькі грошай, а калі ўвечары пасля цяжкай працы атрымаў тую плату, дык і нос павесіў на квінту.* Прокша.

**ВЕ́ШАЦЬ САБА́К** *на каго, каму. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нагаворваць на каго-н., лаяць, абвінавачваючы ў чым-н. **Сін.**: абліваць граззю *каго, што*; выліваць памыі *на каго*; выліваць бруд на галаву *каго*; закідваць граззю *каго*; кідацца граззю; кідаць каменем *у каго*; кідаць цень *на каго, на што* (у 1 знач.); ліць бруд *на каго*; мазаць дзёгцем *каго, што*; мяшаць з граззю *каго, што*; мяшаць з зямлёй (у 3 знач.); наводзіць цень *на каго, на што*; падтоптваць пад ногі (у 2 знач.); таптаць у гразь *каго, што. — Ты б паслухаў, як Прузына сабак вешае на нас усіх — не тое б загаварыў, — адказала, не маючы чым абараніцца, Зося.* Ядвігін Ш. **НАВЕШАЦЬ САБАК** *на каго, каму. Зак. [Канструктар] недасыпаў, недаядаў, цярпеў прыдзіркі экспертызы, масцітых знатакоў капрызы. Спец не адзін яму сабак навешаў, успомніць, дык не дай ты бог!* Крапіва. *Кожны з разумным выглядам гундосіць, за якія грахі прагналі Салавейчыка. Былі б тыя грахі! Былі б ці не былі, а цяпер — ого, якіх сабак навешаюць! Цяпер вешаць сабак аматараў знойдзецца!* Блакіт.

<u>*Есці*</u> **ЯК (ШТО́) НА ПЛО́Т (НА ПЛЯЦЕ́НЬ) ВЕ́ШАЦЬ**. *Акал. Разм.* Без апетыту, неахвотна. **Ант.**: аж за вушамі трашчыць; аж нос гнецца; за абедзве шчакі; за маліну (у 1 знач.); на поўную губу (у 2 знач.); на поўны рот; на ўвесь рот (у 1 знач.). *А еў [Мікіта] — што на плот вешаў. Не адчуваў ні патрэбы ў гэтай ядзе, ні смаку.* Ваданосаў. *Упарадкавалася яна [Сахвея] і села перакусіць. Але ела як на пляцень вешала.* Калодзежны.

*ВЕЯЦЬ* • **ВЕЯЦЬ ЗЕРНЕ АД ПАЛОВЫ**. Гл. адвейваць.

*ВЁРСТ* • **АБЫХОДЗІЦЬ ЗА СТО ВЁРСТ** *каго, што.* Гл. абыходзіць.

**СЕ́М ВЁРСТ ДА НЯБЁС І ЎСЁ ЛЕ́САМ**. *Акал. Разм. Жарт. Іран.* Вельмі многа і абы-чаго (нагаварыць, наплесці і пад.). **Сін.**: бочку арыштантаў; мех з торбай; мех і кайстру; сем карабоў. *Масалянка па-бабску магла наплесці сем вёрст да нябёс і ўсё лесам, а вы тут, у сваёй міліцыі, ад няма чаго рабіць вушы і развесілі, замест таго, каб толкова разабрацца!* Карпюк.

*ВЁСКА* • **ПАЦЁМКІНСКАЯ ВЁСКА**. *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Неадабр.* Ашуканства, паказуха, за якой хаваецца дрэнны стан чаго-н. **Сін.**: адвод вачэй; гульня ў ката і мышку; дымавая заслона; навешванне лапшы на вушы; пусканне пылу ў вочы; пусканне туману; траянскі конь (у 1 знач.). *[Галавач:] Мяне за гэты комплекс Матусевіч, ведаеш, колькі агітаваў? Выстаяў. Яму мода, пацёмкінская вёска патрэбна, каб дэлегацыі вазіць. А мужыку жыццё патрэбна.* Матукоўскі. *Юркевіч зусім не супраць прыгажосці. Ён толькі не хоча, каб у ёй нешта нагадвала пацёмкінскія вёскі.* Карпаў.

*ВІ* • **ХО́ЦЬ <ТЫ́> ВЯРО́ЎКІ ВІ́** *з каго. Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм. Часцей неадабр.* Хто-н. занадта пакорлівы, безадгаворачна падпарадкоўваецца каму-н. *[Гарлахвацкі:] Дагаварыліся? [Туляга:] Дагаварыліся. [Гарлахвацкі (адзін):] Гатоў. Цяпер хоць ты з яго вяроўкі ві.* Крапіва. *Чым жа яна магла акруціць так барона, што з яго хоць вяроўкі ві?* Машара. *Калі змяркалася, калі справа ішла да начы — тут яна [Клава] станавілася ласкавая, паслухмяная, хоць вяроўкі з яе ві.* Б.Стральцоў. *[Шчыгол] глядзеў на Гардуноўскага запытальна-лісліва, пакорна — ну хоць ты з яго вяроўкі ві.* Масарэнка.

*ВІД* • **СТАВІЦЬ НА ВІД** *каму.* Гл. ставіць.

*ВІДАВОКУ* • **НА <СА́МЫМ> ВІДАВО́КУ**. *Разм.* **1.** *Акал.* Так, што відаць усім. *[Сотнікаў] упаў тады непадалёк ад насыпу, якраз на самым відавоку, і немцы пачалі біць па ім ледзь не ва ўпор.* Быкаў. *Толькі цяпер [Вера Паўлаўна] успомніла пра два чамаданы і адразу ж убачыла іх ля сцяны, на самым відавоку.* Асіпенка. *Другая ваза атрымалася куды прыгажэйшая, і жонка, пахваліўшы — «заглядзенне», — паставіла яе на камодзе, на самым відавоку.* Воранаў. *Калі б у вёсцы былі немцы, разважаў Чубар, то наўрад ці стаялі б сяляне гэтак на відавоку.* Чыгрынаў. *Толькі рабі ўсё ціхом.., на відавоку і повідну не рабі, каб палякі не заўважылі.* Чорны.

**2.** *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці канкр. прадмета. Даступны агляду, назіранню і пад. **Сін.**: на віду *ў каго* (у 2 знач.); на воку *ў каго. У нас першы рад, першыя крэслы. Мы на самым відавоку.* Васілевіч. *Зямля, бы ў мацеры калыска, на відавоку, пад рукамі...* Колас. *Вёска ўся на відавоку, сям-там дымяцца каміны.* Крапіва.

*ВІДАНА* • **ДЗЕ́ ГЭ́ТА ВІ́ДАНА**. *Часцей у ролі галоўн. ці дадан. ск. Разм. Неадабр.* Хіба можа быць такое?! Ужыв. для выказвання адмоўных адносін да чаго-н. *Дзе гэта відана, каб вучаная па-гарадскому, праз колькі год, ды каб выйшла замуж за старца. Не будзе таго!* Мурашка. *— Дзякуй яму за такую навуку, — не сунімаўся Якуб. — Тры пуды на лета — дзе ж гэта відана? Ды яшчэ работу ўсялякую рабі яму, як сталы парабак.* Крапіва.

*ВІДАЦЬ* • **КАНЦА́-КРА́Ю (КА́НЦА І КРА́Ю) НЕ ВІДА́ЦЬ (НЯМА́, НЕ БЫЛО́)** *чаму. У безас. ужыв. Разм.* **1.** Што-н. бязмежна распасціраецца ўдалечыню. *Улетку тут канчалася возера і пачыналася непраходнае балота, якое цяпер было залітае вадой. Гэтай вадзе не відаць было канца-краю...* Маўр. *Дрыгве — канца і краю не відаць.* Куляшоў.

**2.** Што-н. вельмі доўга цягнецца, доўжыцца. *Гаворцы ды бяседзе канца-краю не відаць. — Што ж, пара, мае суседзі, час прыйшоў адпачываць.* Астрэйка. *Моцна прыціснула гора. Здавалася, канца і краю няма яму і ніколі ад яго не адкараскацца.* Крапіва. *І калі ўсе даведаліся, што дзед Астап — бацька памочніка машыніста Андрэя, а Міколка — сын Андрэеў, агульнай радасці не было канца-краю.* Лынькоў.

**3.** У вялікай колькасці, вельмі многа чаго-н. **Сін.**: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 2 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. Люстра было не адно, іх было многа — анфілада люстраных дзвярэй — канца і краю ім не відаць.* Шамякін. *Гавароўскія восем мяхоў навальцавалі, а з клункамі — канца-краю няма.* Грахоўскі.

**МАСКВА ВІДАЦЬ**. Гл. масква.

**ЯК ВІДА́ЦЬ.** *Узнач. пабочн. сл. Функц. не зам.* Напэўна, мабыць. **Сін.**: глядзі што; трэба думаць; хутчэй за ўсе. *Шырокі лоб і авал твару з вастраватым падбародкам казалі за тое, што Іван Тадорык, як відаць, чалавек з выдатнымі здольнасцямі.* Колас. *На ўсю зіму вось на гэту Ціт наш выпісаў газету — хоча ведаць, як відаць, што на свеце дзе чуваць.* Крапіва.

*ВІДНА* • **АД ВІДНА́ ДА ЦЯМНА́.** *Акал. Разм.* Увесь дзень, з усходу да заходу сонца. **Сін.**: ад зары да зары (у 1 знач.); ад расы да расы; ад цёмнага да цёмнага; ад цямна да цямна (у 1 знач.). **Ант.**: ад відна <і> да відна; ад зары да зары (у 2 знач.); ад цямна <і> да відна. *Камандзіры ад відна да цямна маршыравалі з новымі чырвонаармейцамі па Бярэзінскім фарштаце, вучылі калоць мяхі з пілавіннем і адбівацца прыкладам.* Грахоўскі. *[Мужчыны і жанчыны] ад відна да цямна працавалі на лузе.* Паслядовіч.

**АД ВІДНА́ <І> ДА ВІДНА́.** *Акал. Разм.* Усю ноч, з заходу да ўсходу сонца. **Сін.**: ад зары да зары (у 2 знач.); ад цямна <і> да відна. **Ант.**: ад відна да цямна; ад зары да зары (у 1 знач.); ад расы да расы; ад цёмнага да цёмнага; ад цямна да цямна (у 1 знач.). *[Ульяна:] А мой [муж] як памёр, заместа яго на старажоўства пайшла... Ад відна да відна. Ды ў кажусе. Ды ноч у ночку. Ды ўсю зімачку.* Петрашкевіч. *Я тады, дзяўчаткі, вам бы пеў такія дыфірамбы ад відна і да відна...* Крапіва.

**АД ЦЯМНА <І> ДА ВІДНА.** Гл. цямна.

*ВІДУ* • **ДЛЯ ВІ́ДУ.** *Акал. Разм.* З мэтай стварыць пэўнае ўражанне. **Сін.**: дзеля гадзіся; для адводу вачэй; для блізіру; для вока; для понту; для прыклёпу; для прыліку; з понтам. *Серж тады толькі для віду адбегся ад чалавека, а пасля павярнуўся і пайшоў за ім.* Чорны. *[Лукашык] быў перакана용ы чамусьці, што яны ўсё ведаюць, але пытаюць проста так, для віду.* Дамашэвіч.

**НА ВІДУ́** *ў каго. Функц. не зам.* **1.** *Акал.* У прысутнасці каго-н., так, што відаць каму-н. (рабіць што-н.). **Сін.**: на вачах (у 2 знач.). *Мацвей зайшоў, узяў Андрушку за руку і выцягнуў адтуль. А Андрушка быў ужо не такі маленькі, каб паддацца, на віду ва ўсіх пабіліся.* Лобан. *Не мог дзе пачакаць да ночы. Трэба ж было перціся на віду ў немцаў.* Быкаў.

**2.** *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Даступны агляду, назіранню, кантролю з боку каго-н. **Сін.**: на воку *ў каго*; на <самым> відавоку (у 2 знач.). *Імкнуцца быць на віду, самі сабой гуляюць, спяць. Усю не спакояць грамаду нягодных «камунараў» пяць.* Купала. *[Чарнавус:] Якая ж віна? Вось тут я сам, тут мая і праца ва ўсіх на віду.* Крапіва.

**НЕ ПАДАВАЦЬ ВІДУ.** Гл. падаваць.

**НЕ ЎПУСКАЦЬ З ВІДУ** *каго, што.* Гл. упускаць.

**УПУСКАЦЬ З ВІДУ** *каго, што.* Гл. упускаць.

*ВІЗІТНАЯ* • **ВІЗІТНАЯ КАРТКА** *каго, чаго.* Гл. картка.

*ВІЛАМІ* • **ВІЛАМІ ПА ВАДЗЕ ПІСАНА.** Гл. пісана.

*ВІЛЬНІ* • **ЯК ДЗЯДЗЬКА Ў ВІЛЬНІ.** Гл. дзядзька.

*ВІЛЯЦЬ* • **ВІЛЯ́ЦЬ ХВАСТО́М.** *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.

**1.** Хітраваць, крывадушнічаць, ашукваць. **Сін.**: абводзіць вакол пальца *каго*; абуваць у лапці *каго*; бакі забіваць *каму*; браць на арапа *каго*; браць на бога *каго*; браць на вудачку *каго*; браць на пушку *каго*; вадзіць за нос *каго*; вешаць лапшу <на вушы> *каму*; выводзіць у поле *каго*; гнуць дугі; гнуцца ў дугу; гуляць у ката і мышку; дурыць галаву

*каму* (у 1 знач.); задурыць галаву *каму* (у 3 знач.); замазваць вочы *каму*; замыльваць вочы *каму*; запраўляць арапа; кампасціраваць мазгі *каму*; корчыць дурня (у 1 знач.); круціць хвастом (у 1 знач.); муціць галаву *каму*; настаўляць акуляры *каму*; прадаць *каго* і грошы палічыць; пудрыць мазгі *каму*; пускаць пыл у вочы *каму*; сляпіць вочы *каму* (у 1 знач.); травіць баланду (у 2 знач.); туманіць вочы *каму*; туманіць галаву *каму*. *Усе пагадзіліся на тым, што другі фронт, мусіць, не скора будзе адкрыты: «Саюзнікі віляюць хвастом».* Гурскі. *Гавары, што ведаеш пра яго. А будзеш віляць хвастом, адразу кулю ў лоб.* Лынькоў.

**2.** *перад кім.* Ліслівасцю дамагацца чыёй-н. прыхільнасці. **Сін.**: гнуцца ў тры пагібелі *перад кім*; гнуць спіну *перад кім*; ламаць шапку *перад кім*; лізаць боты *каму*; падаць лістам *перад кім*; падпускаць лёстачкі *каму,* поўзаць на каленях *перад кім*; рассыпацца драбней маку *перад кім*; рассыпацца <дробным> макам *перад кім*; слацца лістам *перад кім*; станавіцца на заднія лапкі *перад кім*; хадзіць на задніх лапках *перад кім*; хадзіць на пальчыках *перад кім. [Газета] нядобра скакала пад панскую дудку, мала віляла хвастом перад панам, чуць-чуць спачувала рабочым, сялянам...* Крапіва. *Змяніўся і выгляд іх [рускіх эмігрантаў] хлёсткі, слухмяна віляюць хвастом, японскай чакаючы косткі пад бедным маньчжурскім сталом.* Куляшоў.

*ВІНО* • **УЛІВАЦЬ У СТАРЫЯ МЯХІ НОВАЕ ВІНО**. Гл. уліваць.

*ВІР* • **ХО́ЦЬ <ТЫ> У ВІ́Р (У ПЕ́ЛЬКУ) ГАЛАВО́Й**. *У безас. ужыв. Разм.* Выказванне безнадзейнасці, немагчымасці што-н. зрабіць, каб выйсці з крайне цяжкага становішча. **Сін.**: хоць ты галавой аб сцяну біся; хоць галавой у пятлю; хоць душой загавей; хоць лажыся і памірай; хоць <ты> вешайся; хоць <ты> галавой налажы; хоць <ты> жывы ў зямлю лезь; хоць у пятлю лезь; хоць у труну лажыся. *—Выганяць з камсамола, з пасады здымуць. Дзе яму тады дзецца, калеку. Хоць у вір галавой. — Не бойся, ён не з такіх.* Мурашка. *Трапіў, як кажуць, у нерат — ні ўзад ні наперад. Хоць ты ў вір галавой.* Машара. *Што было гаварыць на развітанне? Так раптоўна, так нечакана ўдарыла ты па самых напятых струнах маёй душы. Хоць у вір галавой.* Мыслівец. *Каб не Піліп, дык хоць у пельку галавой.* Навуменка. *Значыцца, усё ведала, а маўчала, таілася, а калі хоць у вір галавой, дык яна тут са сваімі кпінамі...* Гаўрылкін.

*ВІРУ* • **У ВІРУ́ (-Ы́) НА КАЛУ́**. *Акал. Разм.* Вельмі далёка, у аддаленым месцы (быць, знаходзіцца, будавацца і пад.). **Сін.**: блізкі свет; за дзесятай гарой; за светам; за тры-дзевяць зямель; на краі свету; у чортавых зубах; у чорта на кулічках; у чорта на рагах; у чорта ў зубах. *Дый калі як след падлічыць, гэта наўрад ці будзе даражэй, чым будавацца ў віру на калу.* Карпаў. *Так і знайсці тых мальцаў! У віры на калу чорт носіць. Дзе б паднеслі да станцыі, дык і блізка [няма].* Янкоўскі.

*ВІСЕЛЬНЯ* • **ВІ́СЕЛЬНЯ (ШЫ́БЕНІЦА) ПЛА́ЧА** *па кім. У безас. ужыв. Разм. Пагард.* Хто-н. заслугоўвае павешання. **Сін.**: асіна плача *па кім*; вяроўка плача *па кім*. *—Бунтаўшчыкі... Вісельня па вас плача, — прабурчаў ён [ураднік], прабіраючыся да дзвярэй корпуса.* Арабей. *Мабыць, [Фама] недзе жыве і лічыцца добрым чалавекам, ходзіць да суседзяў у госці і расказвае, як пакутаваў у акупацыі, а тут шыбеніца плача па ім.* Грахоўскі.

*ВІСЕЦЬ* • **ВІСЕ́ЦЬ (ВІ́СНУЦЬ, ПАВІСА́ЦЬ) У ПАВЕ́ТРЫ**. *Незак. Функц. не зам.* **1.** Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Знаходзіцца ў хісткім, няпэўным становішчы. **Сін.**: вісець паміж небам і зямлёй. *Ні ў вымаўленні, ні ў транскрыпцыі гэта рыса (характарыстыка) не знаходзіць свайго адлюстравання, яна проста неяк па-*

*вісае ў паветры.* «Нар. асвета». *Паставіць [гараж] у сваім двары нельга, а ў чужы хто пусціць? Так што, пытанне з гаражом пакуль што вісела ў паветры.* Шахавец. **ПАВІСНУЦЬ У ПАВЕТРЫ**. *Зак.*

2. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Не атрымліваць спачувальнага водгуку, падтрымкі іншых людзей. Пра меркаванні, думку, вывад і пад. *Нават у Астаповіча з'яўляліся ідэі, якія, як кажуць, павісалі ў паветры, і ён у такім разе стараўся хутчэй забыцца пра іх.* Шамякін. *Пагражае [Вырай] усімі карамі тым, хто ўцякае з лекцый і семінараў. Пагрозы віснуць у паветры.* Навуменка. **ПАВІСНУЦЬ У ПАВЕТРЫ**. *Зак. Шчыра кажучы, няма надзеі, што мой пратэст не павісне ў паветры, калі нават і дасягне вушэй незнаёмца.* «ЛіМ».

**ВІСЕ́ЦЬ НА ВАЛАСКУ́**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, абстр. ці канкр. прадмета. Аказвацца ў вельмі ненадзейным, небяспечным становішчы. **Сін.**: трымацца на валаску. *Зразумей ты, што хочацца часамі даведацца пра тое-сёе, асабліва зараз, калі на валаску вісім з працай.* Машара. *Тайную сваю просьбу, якую даверыў [К. Чорны] мне ў цяжкую хвіліну, калі жыццё яго вісела на валаску, я не споўніў.* Вітка. *Цяпер кожнаму ясна, што панская ўлада на валаску вісіць.* Бажко.

**ВІСЕ́ЦЬ НАД ГАЛАВО́Й (НАД ГАЛО́ВАМІ)** <*каго*>. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Пастаянна пагражаць. Пра небяспеку, смерць і пад. *Закон гэты не столькі, можа, дзейнічаў, колькі проста вісеў над галовамі немак чорнаю хмарай, якая час ад часу надавала больш ці менш суровы голас затоенага і вельмі пільнага грому.* Брыль.

**ВІСЕ́ЦЬ НАД ДУШО́Й**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Дакучаючы, патрабаваць неадкладнага выканання. **Сін.**: вісець на носе *ў каго. Нарэшце, праз вельмі доўгі дзеля такой справы час, [Волька] напісала тое, што вісела над душой.* Чорны. *Чалавек працуе куды лепш, калі дома ў яго ўсё дагледжана і над душой не вісяць непаладкі.* Шахавец.

**ВІСЕ́ЦЬ НА НО́СЕ** *ў каго. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Дакучаючы, патрабаваць неадкладнага выканання. **Сін.**: вісець над душой. *Рамонт кватэры вісеў на носе ў Гром-Кісельскага, і ён з цікавасцю глянуў на таўстуна.* «ЛіМ».

**ВІСЕ́ЦЬ НА ПЛЯЧА́Х**. *Незак. Разм.* 1. *у каго, чыіх.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даганяючы ці гонячы каго-н., ісці, рухацца следам за кім. **Сін.**: вісець на хвасце *ў каго*; садзіцца на хвост *каму, чый* (у 1 знач.). *Немцы не вытрымалі, пакаціліся назад. Савецкія байцы доўга віселі на іх плячах, расстрэльваючы з вінтовак і кулямётаў.* Гурскі.
2. *каго, чаго.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Быць прадметам чыіх-н. клопатаў. Сін.: ляжаць на плячах *чыіх, каго. Адкормачны комплекс толькі на тры працэнты міжгаспадарчы. Фактычна ўвесь комплекс вісіць на плячах адной гаспадаркі.* Дуброўскі.

**ВІСЕ́ЦЬ НА ТЭЛЕФО́НЕ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Часта званіць і доўга гаварыць па тэлефоне. **Сін.**: абрываць тэлефон; сядзець на тэлефоне. *Янковіч рашуча накіроўваецца да свайго стала, і я чую, як яна пачынае абурацца кімсьці, хто нібыта цэлымі днямі вісіць на тэлефоне, а іншым не дае пагаварыць і тры мінуты.* Радкевіч. — *Каб разабрацца, хто з нас вінаваты,* — *наступаў Юркевіч,* — *трэба, таварыш загадчык, не вісець на тэлефоне, а часцей бываць у калгасах...* Рылько.

**ВІСЕ́ЦЬ НА ХВАСЦЕ́** *ў каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Даганяючы ці гонячы каго-н., ісці, рухацца следам за ім. **Сін.**: вісець на плячах (у 1 знач.); садзіцца на хвост *каму, чый* (у 1 знач.). *Замест таго, каб нам, пар-*

*тызанам, адбіваць атакі ворага, які, канечне, будзе вісець на хвасце, мы павінны часта адцягваць увагу, каб навесці парадак у нашай калоне.* «Полымя».

**ВІСЕ́ЦЬ НА ШЫІ (НА КА́РКУ)** *у каго, чаго, чыёй. Незак. Разм. Неадабр.* **1.** Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Знаходзіцца на чыім-н. забеспячэнні, утрыманні. **Сін.**: есці хлеб (у 2 знач.); садзіцца на карак *каму, чый, каго* (у 2 знач.); сядзець на шыі *чыёй, у каго, каго.* **Ант.**: злазіць з карку *чыйго. [Пашка] кінуў вучобу і пайшоў у афіцэрскае вучылішча — каб не вісець на шыі ў маткі і ў малодшых братоў і сястры, якім тады самім патрэбна была дапамога...* Дамашэвіч. *— Адным словам, як ні павярні, свінакомплекс будзе вісець на шыі дзяржавы, — каменціруе Даленка маё паведамленне аб справах комплексу «Кастрычнік».* Дуброўскі. **ПАВІСНУЦЬ НА ШЫІ (НА КАРКУ)** *у каго, чаго, чыёй. Зак. Патрэбна мне твая ляля! Расшалопаў? Бяры сваю Любу! А то павісне на маёй шыі...* Грамовіч.

**2.** Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Быць абузай, вялікім цяжарам для каго-н. *Толькі вельмі ж ужо няёмка сябе адчуваеш, калі ў цябе даўгі вісяць на шыі...* Шахавец. *[Лось:] А на чыім жа карку доўг вісіць? На маім.* Галубок. *У іх [сялян] дзеці галодныя, голыя, босыя, подаці на шыі вісяць...* Галавач. **ПАВІСНУЦЬ НА ШЫІ (НА КАРКУ)** *у каго, чаго, чыёй. Зак.*

**ВІСЕ́ЦЬ ПАМІ́Ж (МІ́Ж) НЕ́БАМ І ЗЯМЛЁЙ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знаходзіцца ў хісткім, няпэўным становішчы. **Сін.**: вісець у паветры (у 1 знач.). *Няма нічога горшага, як нуднае, абрыдлае чаканне. Шура пяты дзень у лесе, а партызан у вочы не бачыў. Вісіць паміж небам і зямлёй...* Навуменка. *Не, калі ўжо вырашана, ехаць на ўзлессе трэба неадкладна. Няма чаго вісець паміж небам і зямлёй.* Шахавец. **ПАВІСНУЦЬ ПАМІЖ (МІЖ) НЕБАМ І ЗЯМЛЁЙ.** *Зак. Павіс я між небам і зямлёю... Далей вучыцца не хачу, а ў двары рабіць няма каму: бацька з маткаю — і ўсё.* Каваль.

**ВІСЕ́ЦЬ У ПАВЕ́ТРЫ** *калі. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Чакаць свайго вырашэння, набліжацца, надыходзіць. *У галоўным мы вас падтрымаем. Падтрымаем ідэю, бо за ёй будучае, яна даўно вісіць у паветры, пра гэта гавораць на розных нарадах, выступае і прэса за цэнтралізаванае кіраванне электронна-вылічальнай тэхнікай...* Радкевіч.

*ВІСКУ* • *Напівацца* **ДА ПАРАСЯЧАГА ВІСКУ**. Гл. піску.

*ВІСНУЦЬ* • **ВІСНУЦЬ У ПАВЕТРЫ**. Гл. вісець.

*ВІЦЦА* • **ВІ́ЦЦА ТРУБО́Й.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Вельмі добра расці. Пра жыта, пшаніцу і пад. *— Хай пшанічка ў вашым полі віецца трубою! — крычаў Захар Рудак на развітанне Мешкялісу.* Броўка. *У вашым калгасе шырокае поле, няхай жа для шчасця цвіце ваша доля... Каб жыта ў полі трубою вілося, а ў хаце каб сала кублямі вялося.* Русак.

*ВІЦЬ* • **ВІ́ЦЬ ГНЯЗДО́** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ствараць дамашнюю ўтульнасць для каго-н. **ЗВІЦЬ ГНЯЗДО** *каму. Зак. [Лявон:] Помні і пра тое, што ўсё гэта мы для цябе прысталаліся, табе мы звілі гняздо гэта.* Макаёнак.

**ВІ́ЦЬ <СВАЁ, САБЕ́> ГНЯЗДО́.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** Уладкоўваць сямейнае жыццё. **Сін.**: кідаць якар *дзе*; пускаць карэнне (у 1 знач.). **Ант.**: здымацца з якара. *Праз васемнаццаць дзён я дэзерціраую з войска халасцякоў. Хопіць, нахаласцякаваўся. Час віць гняздо.* Дайнека. *[Георгій:] Еду, маці! [Дарота:] Каб маткаю хацеў сапраўды зваць, каб быць хацеў сапраўдным зяцем, не ехаў бы, а віў сваё гняздо.*

Клімковіч. **ЗВІЦЬ <СВАЁ, САБЕ> ГНЯЗДО**. *Зак. А якая з дзяўчат не марыць, каб удачліва звіць сваё гняздо?* Праскураў.

2. *дзе. Часцей неадабр.* Уладкоўвацца, ствараючы дамашнюю ўтульнасць. **ЗВІЦЬ <СВАЁ, САБЕ> ГНЯЗДО**. *Зак. Каліну перанеслі ў кабінет дырэктара, дзе паспеў быў ужо звіць сабе гняздо камендант, і палажылі на мяккую канапу.* Няхай. *На кропельку не веру я паэту, які ў сталіцы звіў сабе гняздо, жыве ў раскошы, смачна есць і п'е, а ў вершах плача па жыцці сялянскім...* Жычка.

3. *дзе. Неадабр.* Знаходзіць прыстанішча. Пра шкоднікаў, ворагаў. **ЗВІЦЬ <СВАЁ, САБЕ> ГНЯЗДО**. *Зак. [Андрэй:] Галуза — пратэкцыя Лося. Лось, як мне здаецца, белы афіцэр. Вось бачыце, якое звілі гняздо на заводзе шкоднікі.* Галубок. *У першыя гады пасля рэвалюцыі ў нашым сельсавеце звілі сабе гняздо, па-простаму кажучы, варожыя элементы.* Сіняўскі.

**ВЯРО́ЎКІ (-У) ВІ́ЦЬ** *з каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паступаць з кім-н. так, як хочацца, поўнасцю падпарадкоўваць сабе каго-н. Часцей пра жанчын у адносінах да мужчын. **Сін.**: браць верх (у 1 знач.); браць у <свае> рукі (у 1 знач.); выкручваць сырыцу *з каго*; ездзіць вярхом *на кім*; ездзіць на карку *чыім*; запрагаць у аглоблі *каго*; надзяваць аброць *на каго, на што*; надзяваць хамут *на каго*; надзяваць ярмо на шыю *каму, каго*; падмінаць пад сябе *што, каго*; прыбіраць да рук (у 1 знач.); садзіцца на галаву *каму*; садзіцца на карак *каму, чый, каго* (у 1 знач.); сціскаць у кулак *каго*; убіраць у <свае> рукі (у 1 знач.). *У цябе вельмі мяккі характар. Вяроўкі з такога жонка будзе віць.* Сачанка. *Трэба паспрабаваць узяць яго абходным манеўрам. Кажуць, маладая жонка вяроўку можа віць з мужа.* Шамякін.

**З ВЕ́ТРУ ВЯРО́ЎКІ ВІ́ЦЬ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гаварыць, сцвярджаць што-н. без усякіх падстаў; выдумваць. **Сін.**: высмоктваць з пальца. *У вашай бальніцы, гляджу, ёсць аматары з ветру вяроўкі віць.* Савіцкі. *[Васіль] пазіраў на роўныя прыгожа выведзеныя літары, падумаў: «Такім почыркам толькі падзякі пісаць, а ён кляўзы строчыць. Бываюць жа зласліўцы, якія з ветру вяроўкі ўюць — смак у гэтым чуюць».* Капусцін. **З ВЕТРУ ВЯРОЎКІ ЗВІЦЬ**. *Зак.*

*ВОБЗЕМЛЮ* • **І ДУДЫ ВОБЗЕМЛЮ**. Гл. дуды.

*ВОБРАЗА* • **РЫЦАР ЖУРБОТНАГА ВОБРАЗА**. Гл. рыцар.

*ВОЗ* • **ВО́З І ЦЯПЕ́Р (ЗА́РАЗ, СЁННЯ) ТА́М**. *У ролі другой часткі скл.-злуч. ск. з супраціўнымі адносінамі. Функц. не зам. Неадабр.* Справа ніколькі не рухаецца ўперад. *Пераменіцца? Ды каб жа яно хутчэй?.. Бачыце, параспіхалі людзей немаведама куды і што, а воз і цяпер тамака.* Гартны. *За гэты час з калгаснай канторы на рахунак распрацоўшчыка-інстытута.. пералічана ні многа ні мала восем тысяч рублёў, але, як кажуць, воз і зараз там.* «Маладосць». *Колькі разоў гаварыў я пра гэта раённаму начальству, у тым ліку і Валынкіну, а воз, як кажуць, і сёння там.* Макарэвіч. *Пытанне разглядалася на розных узроўнях, усе, здаецца, былі згодны, але воз і цяпер там.* Мальдзіс.

**НЕ ПА КАНЮ́ ВО́З**. *У безас. ужыв. Разм.* Вельмі цяжка, зусім немагчыма (рабіць што-н.). **Сін.**: не пад сілу *каму* (у 1 знач.); не па сеньку шапка *<для каго>*; не ў дугу *<каму>*. *— Братка, разумееш, цяжка мне, — скардзіўся Пракоп, — не па каню воз.* Сабаленка. *Пасядзеў я крыху за партай ды бачу: не па каню воз... Настаўнік нешта расказвае, а мне яно як цёмны лес.* Б.Стральцоў.

**СТАВІЦЬ ВОЗ НАПЕРАДЗЕ КАНЯ**. Гл. ставіць.

**ЦЭ́ЛЫ ВО́З** *каго, чаго. Мн. не ўжыв. У безас. ужыв. Разм.* Вельмі многа, у вялікай колькасці. Пра людзей ці неадуш. прадметы. **Сін.**: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад

пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго*. *Мы расказваць будзем казкі — у мяне іх цэлы воз.* Колас. *Або вось Андрэй Парэмчык. Дзетак у яго цэлы воз, хоць і сам яшчэ малады.* Ракітны. *У мяне цэлы воз заказаў... Купі тое, прывязі гэта.* М.Капыловіч.

**ЦЯГНУЦЬ ВОЗ**. Гл. цягнуць.

*ВОЗА* • **ПРЫЙДЗЕ КОЗА ДА ВОЗА**. Гл. коза.

*ВОЗАМ* • **НА ВОЗЕ І ПАД ВОЗАМ** *быць* і пад. Гл. возе.

*ВОЗЕ* • **НА ВО́ЗЕ І ПАД ВО́ЗАМ** *быць, пабываць* і пад. *Часцей вык. Разм. Ужыв. са знач. асобы.* У самых разнастайных, прыемных і непрыемных сітуацыях (быць і пад.). **Сін.**: і ў коле і ў мяле; на кані і пад канём *быць* і пад. *Хто я — даліпан, не прызнаюся, людцы хрышчоныя! Быў я на возе і пад возам, упапярок, удоўж.* Цётка. *Не было ніякай боязі ні перад Еўропай, ні перад яе валадарамі і ў Ягайлы. Пабываўшы на возе і пад возам, ён ведаў, на чым свет стаіць, прытрымліваўся завядзёнкі: хто ўмее — робіць, а хто не ўмее, той крычыць і вучыць.* Бутэвіч.

**ЯК ПЯТАЕ КОЛА Ў ВОЗЕ**. Гл. кола.

*ВОЗЬМЕ* • **КАДУК НЕ ВОЗЬМЕ** *каго*. Гл. кадук.

**ЛІХА НЕ ВОЗЬМЕ** *каго*. Гл. ліха.

**МАГІЛА ВОЗЬМЕ** *каго*. Гл. магіла.

**НАША ВОЗЬМЕ**. Гл. наша.

**НІЯКАЕ ЛІХА НЕ ВОЗЬМЕ** *каго*. Гл. ліха.

**НІЯКАЯ ТРАСЦА НЕ ВОЗЬМЕ** *каго*. Гл. трасца.

**НІЯКАЯ ХАЛЕРА НЕ ВОЗЬМЕ** *каго*. Гл. халера.

**НІЯКІ ЧОРТ НЕ ВОЗЬМЕ** *каго*. Гл. чорт.

**ХАЛЕРА НЕ ВОЗЬМЕ** *каго*. Гл. халера.

**ХВАРОБА НЕ ВОЗЬМЕ** *каго*. Гл. хвароба.

**ЧОРТ НЕ ВОЗЬМЕ** *каго*. Гл. чорт.

*ВОЗЬМЕШ* • **НЕ ВО́ЗЬМЕШ ЗА РУ́Б (ЗА РУБЕ́ЛЬ) ДВА́ЦЦАЦЬ** *каго*. *У безас. ужыв. Разм. Адабр. і неадабр.* Хто-н. не абы-які, не такі ўжо просты, звычайны. *Праз чвэрць гадзіны яны скончылі перапісванне. — Ну, цяпер мяне не возьмеш за руб дваццаць, — гаворыць настаўніца, хаваючы расклад.* Колас. *Ну як? Цуд! Механізацыя! Горад! Цяпер*

*нас за руб дваццаць не возьмеш!* Асіпенка. *I што за мода пайшла: кожны стараецца пераплюнуць суседа. Глядзі, маўляў, які я. За рубель дваццаць не возьмеш.* Цяжкі.

*ВОІНСКІ* • **<I> ЦАР І БОГ І ВОІНСКІ НАЧАЛЬНІК**. Гл. цар.

*ВОЙКНУЦЬ* • **І (НАВАТ) ВОЙКНУЦЬ НЕ ПАСПЕЎ**. Гл. паспеў.

*ВОКА* • **БРАЦЬ НА ВОКА** *каго, што.* Гл. браць.

**ВО́КА ГАРЫ́ЦЬ (ГАРЭ́ЛА, ЗАГАРЭ́ЛАСЯ, ЗАГАРЫ́ЦЦА)** *у каго на што*; **ВО́ЧЫ ГАРА́ЦЬ (ГАРЭ́ЛІ, ЗАГАРЭ́ЛІСЯ, ЗАГАРА́ЦЦА)** *у каго на што. У безас. ужыв. Разм.* Каму-н. моцна захацелася нечага. **Сін.**: зубы гарацъ *у каго на што. Заранчук паморшчыўся, але вытрымаў ранейшую інтанацыю. — Гарыць жа ў цябе вока на Крапіўкі, Сцяпанавіч.* Ярашэвіч. *Шмат у каго гарэла вока на гэта пыльнае месца, але не было за што зачапіцца, каб зняць чалавека і паставіць другога.* Сабаленка. *На другое лета будаўніцтва паглядзець на [Максімаў] дом прыходзілі і прыязджалі агароднікі іншых кааператываў. У людзей гарэлі вочы, часцей за ўсё зайздрасцю. Гэта злавала Максіма.* Лобан. *[Максім:] А потым загарацца ў яго вочы на агуркі — стаў ад яго пугала і ў агародзе.* Макаёнак.

**ВО́КА ДЫ ВО́КА** <u>*трэба.*</u> *Разм. Кампанент вык. у безас. ск.* Строгі нагляд (трэба за кім-, чым-н.). *[Яўхім:] А дзе гэта трэці Васіль?.. [Магда:] За гэтым шалапутам вока ды вока...* Караткевіч. *Сярод людзей кажуць: старое што малое. За адным і за другім трэба вока ды вока.* Тычына. *Сам — на службе важнай. Дзяржаўнай... За ўсім вока ды вока трэба!* Бондар.

**ВО́КА ЗА ВО́КА <ЗУ́Б ЗА ЗУ́Б>**. *У знач. ск. Функц. не зам.* Адплата злом за прычыненае зло. **Сін.**: зуб за зуб. *Адсюль відаць, як шугаюць слупы агню і дыму, як дружна гарыць оперманаўская маёмасць. Вока за вока!..* Мікуліч. *Канечне, не дазволена, не трэба дазваляць, каб дакраналіся і непачціва, і тым больш груба, ніхто з нас гэтага не любіць... Але і такое нікуды не варта: вока за вока, зуб за зуб...* Радкевіч.

**ВО́КА НАБІ́ТА (-Е)** *у каго, чыё на чым. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. вельмі вопытны, каб беспамылкова вызначыць, ацаніць што-н. *[Язэп:] Неяк таўкуся я па базары, бачу, дзяўчына пад вясковую апранутая. Сноўдаецца, а нічога не прадае... Ага. У мяне вока набітае...* Жычка.

**ВО́КА НА ВО́КА**. *Акал. Функц. не зам.* **1.** Без сведак, без пабочных асоб (гаварыць, сустракацца, заставацца і пад.). **Сін.**: адзін на адзін (у 1 знач.); з вока на вока; на чатыры вокі; сам-насам (у 1 знач.); тэт-а-тэт. *Відаць, ёй [Ніне] было прыкра заставацца вока на вока з Гуторскім.* Зарэцкі. *Даўно маю намер пагутарыць з табою вока на вока, грунтоўна, па шчырасці.* Хадкевіч.

**2.** Без саюзнікаў, памочнікаў, без падтрымкі з боку каго-н. (быць, аказвацца, сустракаць небяспеку і пад.). **Сін.**: адзін на адзін (у 2 знач.); сам-насам (у 2 знач.). *Суцяшала толькі, што Косця сярод сваіх, а тут быў бы вока на вока з ворагамі. Тут і здароваму не лёгка выкручвацца.* Новікаў.

**ВОКА НЕ ЗАПАРУШЫЦЬ** *каму.* Гл. запарушыць.

**ВО́КА НЯПО́ЎНАЕ** *у каго. У безас. ужыв. Разм. Асудж.* Хто-н. вельмі прагны, хцівы, зайздрослівы. **Сін.**: горла шырокае *ў каго*; папоўскае вока *ў каго. [Якуб Малькевіч:] А ўсё ж горла шырокае, зайздроснае, вока няпоўнае. I сам сабе, гад, жытку атруціў, і дзяцей пастраціў.* Чорны.

**ВОКА Ў ВОКА**. Гл. вочы.

**ВЫКІДАЦЬ НА ВОКА** <*каму*>. Гл. выкідаць.

**ВЫПУСКАЦЬ З ВОКА**. Гл. выпускаць.

**ГУБЛЯЦЬ З ВОКА** *каго.* Гл. губляць.

**ДЛЯ (ДЗЕ́ЛЯ) ВО́КА.** *Акал. Разм.* З мэтай стварыць пэўнае ўражанне. **Сін.**: дзеля гадзіся; для адводу вачэй; для блізіру; для віду; для понту; для прыклёпу; для прыліку; з понтам. *— А я пасяджу яшчэ, усё адно не скора засну. — І для вока толькі яна [Агата] узялася за работу.* Мурашка. *[Толяк] аж жахнуўся вялікіх перспектыў, калі ўсё ўдасца. Тут можна і прыламаць сябе, хоць дзеля вока людскога. Дзеля вока!* Чорны.

**ЖАДЗЁН НА ВОКА.** Гл. жадзён.

**ЗАПАДАЦЬ У ВОКА** *каму.* Гл. западаць.

**З ВО́КА НА ВО́КА.** *Акал. Функц. не зам.* Без сведак, без пабочных асоб (гаварыць, пагаварыць, сустракацца з кім-н.; заставацца з кім-н. і пад.). **Сін.**: адзін на адзін (у 1 знач.); вока на вока (у 1 знач.); на чатыры вокі; сам-насам (у 1 знач.); тэт-а-тэт. *Калі нам хацелася пагаварыць з дзяўчынай з вока на вока, мы ішлі гуляць па маршруце, канчатковай кропкай якога быў мост.* Караткевіч. *Пясецкі з Міронам асталіся з вока на вока.* Гурскі. *Сустрэча [кіраўнікоў дзвюх дзяржаў] праходзіла з вока на вока.* «Звязда».

**КАЛОЦЬ У ВОКА** *каму.* Гл. калоць.

**КІДАЦЬ ВОКА** *на каго, на што.* Гл. кідаць.

**КЛАСЦІ ВОКА** *на каго.* Гл. класці.

**КРАЕМ ВОКА.** Гл. краем.

**МЕЦЬ ВОКА.** Гл. мець.

**МУЛЯЦЬ ВОКА** *каму.* Гл. муляць.

**НА АДНО́ ВО́КА.** *Разм.* **1.** *Акал.* Вельмі чутка, чуйна (спаць). **Ант.**: без задніх ног; мёртвым сном; сном праведніка; хоць зубы выберы; як пшаніцу прадаўшы. *Саша пастукаў у шыбу. Стукаў асцярожна, ногцем, пашкрабаў, як кошка. Але гаспадары, відаць, спалі на адно вока. Да шыбы прыпаў напалоханы жаночы твар...* Новікаў. *Прыйдзе [Хама], торбу наладуе, распытае ў Тэклі, хто прыязджаў ці прыходзіў, хто шукаў яго, і, ноч пераспаўшы, як заяц, на адно вока, раніцою, а то і на світанні знікаў зноў на ўвесь дзень у лес...* Сачанка.

**2.** *Вык.* Ужыв. пры дзейн.-наз. *сон.* Вельмі чуткі. *Зайздрошчу такому сну. У мяне ён на адно вока: хрусне галінка — прачынаюся.* Новікаў.

**НА АДНО ІМГНЕННЕ ВОКА.** Гл. імгненне.

**НАБІВАЦЬ ВОКА** *на чым.* Гл. набіваць.

**НА ВО́КА.** *Акал. Разм.* **1.** Прыблізна, прыкладна, без дакладнага падліку, вымярэння і пад. (прыкідваць, вызначаць, мерацць і пад.). *Ды як-ніяк зямлі валока, Міхал прыкідвае на вока рахункі гэтай важнай справы.* Колас. *Шляхам падліку ці проста на вока вызначаецца, ці многа ў аўтара параўнанняў, метафар або эпітэтаў.* Шкраба. *Замер дроў, ды яшчэ пры такой рабоце, калі не паспявалі скласці шурку, як яе грузілі ў кузаў, вёўся на вока...* Шамякін.

**2.** Знешне, паводле знешняга ўражання (пазнаваць, выбіраць і пад.). *На вока рэчы глядзяцца, аддзелка іх быццам нядрэнная.* «Звязда». *Пазнаваў Хвядос на вока сярод новых стыль калішні...* Крапіва. *Жандары абступілі невялікую купку, што не паспела разысціся. Выбіралі на вока, каго пусціць з круга.* Баранавых.

**НАКО́ЛЬКІ ХАПА́Е (ХАПА́ЛА) ВО́КА.** *Акал. Разм.* На вялікай прасторы ў наваколлі; як толькі можна далёка бачыць. **Сін.**: як вокам згледзець (у 2 знач.); як вокам кінуць. *Бачыце — наколькі хапае вока — у зямлі ход каменем абкладзены.* Дубоўка. *Наколькі хапала вока, зямля была ў сіневатай смузе.* Паўлаў. *А гэтая «наша дарога», наколькі вока хапала, свяціла вялікімі і малымі азерцамі лужын пасля дажджу.* Пестрак.

**НА ПЕ́РШАЕ ВО́КА**. *Акал. Разм.* Паводле першага ўражання. **Сін.**: з першага погляду (у 2 знач.); на першы погляд. *Арсен Курловіч на першае вока нават не падобны на дырэктара, да таго ён просты.* Скрыган. *Сказ сапраўды невялікі, сказ сапраўды стройны. Але такім ён здаецца толькі на першае вока, з першага позірку.* Янкоўскі. *Гэта здаецца толькі на першае вока і калі глядзець здаля, з дарогі. А калі падысці бліжэй і прыгледзецца, то адразу ўбачыш, што гэта зусім не так.* Кудравец.

<u>*Выспацца*</u> **НА ПО́ЎНАЕ ВО́КА**. *Акал. Разм.* Вельмі добра, уволю. **Сін.**: будзь-будзь (у 1 знач.); будзь здароў (у 1 знач.); дай бог (у 1 знач.); дай бог кожнаму (у 2 знач.); дзякуй богу (у 1 знач.); за маё-маё (у 1 знач.); за маліну (у 2 знач.); з бляскам (у 1 знач.); кум каралю <і сват міністру> (у 3 знач.); люба-дарага; на дзіва (у 2 знач.); на пяць з плюсам; на славу (у 1 знач.); на ўсе сто (у 2 знач.); на яць (у 1 знач.); разлюлі-маліна (у 2 знач.); слава богу (у 1 знач.); хвала богу (у 1 знач.); хоць куды (у 2 знач.); што трэба (у 1 знач.); як не трэба лепш. *На тапчане сядзіць ужо даўно не злосная на бабулю Ніна, а перад ёю галаногі, вясёлы Толік, які выспаўся на поўнае вока і вельмі хоча пагаварыць.* Брыль.

**НА СВЕ́ЖАЕ ВО́КА**. *Акал. Функц. не зам.* Пакуль што-н. не стане прывычным для зроку. *Яны ідуць побач, хоць ім і цесна ўдвух на цэментавым тратуарчыку, можна сказаць — не ідуць, а спяшаюцца на работу. Высокі і малы, што таксама, на свежае вока, смешна.* Брыль. *Назаўтра Канстанцін Міхайлавіч прачытаў на свежае вока напісанае і застаўся задаволены.* С.Александровіч. *Фон Крубер пакінуў пасля сябе шмат недаробленага. Нарабіў ён нямала і памылак — на свежае вока яны добра відаць.* Шахавец.

**НЕ ГЛЯДЗЕЦЬ НІ ВОКА НІ БОКА**. Гл. глядзець.

**НЕ МЕЦЬ ВОКА** *на каго за каго, за што.* Гл. мець.

**НЕ ПУСКАЦЬ НА ВОКА** *каго.* Гл. пускаць.

**НЕ СПУСКАЦЬ ВОКА** *з каго, з чаго.* Гл. спускаць.

**НЕ СПУСКАЦЬ З ВОКА** *каго, што.* Гл. спускаць.

**НЕ Ў БРЫВО, А Ў ВОКА**. Гл. брыво.

**НІ (АНІ́) НА ВО́КА (НА ВО́ЧЫ)**. *Вык. Разм. Неадабр.* **1.** *каго.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не цярпець, не хацець бачыць каго-н. *Як хвацка адпрэчыла была [Макрына] Юрку Лявончыка. Ні на вока!* Баранавых. *[Казак:] Перш, бывала, ён без мяне нікуды, а цяпер — ані на вочы.* Каганец. *І пайшлі па людзях перасуды пра заручыны Рэні й Міколы. Толькі маці яго — у сварку, ні на вочы Рэню: сын — адзін на ўсю гаспадарку, у дзеўкі — пяску жменя.* Бічэль-Загнетава.

**2.** *каму.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Не падабаецца як непрымальнае. Часцей пра ежу, пітво. *Шаляніца заўсёды магла падтрымаць хлапечую кампанію, не бочылася, як, скажам, Ядзя Фінік, што ні на вока ёй спіртное.* Мыслівец.

**НІ ВО́КА НІ БО́КА** <u>*не шкадаваць*</u>. *Акал. Разм.* Абсалютна нічога. *Ну, от! Пачубіліся — хопіць!.. Хто на старым спатыкнецца зноў — не пашкадую ні вока ні бока.* Мележ.

**ПАПО́ЎСКАЕ ВО́КА** *ў каго. У безас. ужыв. Разм. Асудж.* Хто-н. вельмі прагны, зайздрослівы. **Сін.**: вока няпоўнае *ў каго*; горла шырокае *ў каго.* — *Скарэй бы не было ні градак, ні агародаў. Ні ў кога не будзе, то і сваё вока не пазайздросціць. — У цябе, маладзіца, папоўскае вока.* Алешка.

**РВЕ ВОКА**. Гл. рве.

**СВЕ́ЖАЕ ВО́КА**. *Адз. і мн. Часцей дзейн. Функц. не зам.* Чалавек, які ўпершыню знаёміцца з чым-н., правярае што-н. *У рэдактарскай рабоце ўжываецца выраз: «свежае вока». Апошнюю карэктуру газеты прачытвае чалавек, які да гэтага свядома зусім і не чытаў матэрыялаў, што ўвайшлі ў нумар. Чалавека такога і называюць «свежае вока».*

*«Свежае вока» здольна лепш бачыць памылкі і промахі, чым тыя, што чыталі нумар, «зачыталі яго».* Адамовіч. *Яшчэ ўчора па тэлефоне Кліменка папярэдзіў, што да яго павінен прыехаць нехта з брыгады, як быццам правяраць артылерыю на плацдарме. Што ж, хай правяраюць, калі трэба. Свежае вока можа ўбачыць тое, чаго ўжо не ўбачыць ён сам.* Дамашэвіч. *Памылкі ў газетах — і цяпер з'ява нярэдкая. А паўстагоддзя назад і тэхніка была яшчэ недасканалая, і абсталяванне горшае, чым цяпер, і асвятленне, і арганізацыя працы... Хоць і прызначаліся там розныя «кантрольныя рэдактары», «свежыя вочы», ды чалавек ёсць чалавек... Ён не машына.* Жычка.

**У ІМГНЕННЕ ВОКА**. Гл. імгненне.

**У МІГ ВОКА**. Гл. міг.

**У МОМАНТ ВОКА**. Гл. момант.

**ХОЦЬ ВОКА ВЫКАЛІ**. Гл. выкалі.

**ЧО́РТАВА ВО́КА**. *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм.* Багністая бяздонная прорва, глыбокая яма з вадой сярод балота. **Сін**.: чортава акно. *Тут навакол траха не на 20 вёрст няма ні аднае вёскі, усё лес ды лес, балоціна з правалінамі, дзе вада чорная, як сажа, і дзе ніхто не мераў дна. Гэта — «чортавы вочы», як завуць іх старыя леснікі ды смалакуршчыкі. Разгоніцца лось ці воўк, сігае па лесе, наскочыць на «чортава вока» — і загіб.* Нёманскі. *Чорнай прорвай глядзела ў неба «чортава вока».* Чорны. *Трохі страху, нядоўга болю — і ні Карчоў, ні пакуты ніякай не будзе! Чортава вока на гліні́шчанскім возеры супакоіць ураз!..* Мележ.

<u>Поўны</u> **ЯК ВО́КА**. *Акал. Разм.* Вельмі (поўны), роўна з берагамі. Часцей пра пасудзіну. *Куксёнак паднёс мне поўную як вока шклянку.* Сабаленка. *Міса каля ганка была поўная як вока, кругом яе ўжо стаяла лужына, нібы з попелу луг, і ў пене.* Адамчык. *Перад імі чарнела канава, поўная як вока.* Ласкоў.

**ЯК ВО́КА Ў ІЛБЕ́ (У ЛО́БЕ)**. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн., выраж. спалучэннем *адно дзіця*. Самае дарагое, што ёсць, засталося ў каго-н. *[Пятрук:] У вас адно дзіцятка, — гэта, кажуць, як вока ў ілбе.* Дунін-Марцінкевіч. *«Адзіны — як вока ў ілбе», — пра сына [матуля] наўзрыд гаварыла...* Гаўрусёў.

<u>Адзін</u> **ЯК ВО́КА Ў ІЛБЕ́ (У ЛО́БЕ)**. *Акал. Разм.* Зусім (адзін). **Сін**.: як ёсць *адзін*; як палец; як перст (у 1 знач.). *Мама, я пастарэў без цябе, ля сцен адзіноты вырас. Мне зараз твой зразумелы выраз: адзін як вока ў ілбе.* Барадулін. *Ой, і не пытайся, любачка, адна я цяпер, як вока ў лобе... Усе мае за светам жывуць...* Л.Галубовіч.

**ЯК ВО́ЎЧАЕ ВО́КА**. *Разм.* **1**. *Акал.* Няярка, цьмяна (гарэць, блішчаць, свяціцца і пад.). *Агонь блішчыць як воўча вока. Паволі дрэўцы дагараюць і ціха іскрачкі ўзлятаюць і гаснуць борзда без слядочка.* Колас. *Здалёк было бачна, што ў хаце Блажэвіча як воўчае вока свяцілася акно.* Няхай.

**2**. *Азн.* Няяркі, цьмяны. *Настаўнік паказаў карткі дачок, уключыўшы як воўчае вока лямпачку.* Янкоўскі.

**ЯК ЗРЭНКУ ВОКА**. Гл. зрэнку.

<u>Глядзець, пільнаваць, берагчы</u> і пад. **ЯК <СВАЁ> ВО́КА**. *Акал. Разм.* Вельмі старанна, клапатліва. **Сін**.: *глядзець* як вока ў ілбе; як зрэнку вока. *[Антось:] Ты ж стой, брат, тут! Пільнуй як вока: ён тут, галубчык, недалёка.* Колас. *Беражы гэты запіс як вока. Унукам будзе пра што расказваць!* Гурскі. *Ці ж мы не глядзелі цябе як вока сваё! Не любілі, не шкадавалі хіба?!* Мележ. *Дык от, Вера, гэта цяпер твае дзеці, глядзі іх як сваё вока.* Сабаленка. *Калі ў таежнага падарожніка, павучаў Сінёў, ёсць які-небудзь посуд для пітной вады, яго трэба заўсёды трымаць як вока.* Масарэнка.

*Глядзець, берагчы, шанаваць* і пад. **ЯК (ШТО́) ВО́КА Ў ІЛБЕ́ (У ЛО́БЕ)**. *Акал. Разм.* Вельмі старанна, клапатліва. **Сін.**: як <сваё> вока; як зрэнку вока. *Шанавалі Андрука боты, шанаваў жа і ён іх як вока ў ілбе...* Калюга. *Адзіны сынок у бацькоў, адзіная ягадка, адзінае любімае дзіцятка, акружанае дзесяткам служанак, бабулек, цётак, якое берaглі і мамуся і татусь што вока ў ілбе, расло на дзіва непаслухмяным і ўпартым.* Дайнека. *Пакляўся Рабы, што будзе глядзець жонку і шанаваць як вока ў ілбе і нікуды з Глінак не выедзе, не вернецца да сваіх Карпат.* Каліна.

*ВОКАМ* • **АДНЫ́М ВО́КАМ**. *Акал. Разм.* **1**. Крыху, нядоўга, імгненна (глянуць, зірнуць і пад.). **Сін.**: краем вока. *Улучыўшы мінуціну, ляснік зірнуў адным вокам сабе пад ногі.* Колас. *[Вера Ігнатаўна] прысела ля стала. Адным вокам зірнула на яду, пастаўленую Несцерам, пачала пісаць.* Пестрак.

**2**. Спадцішка, адначасова з чым-н. (наглядаць за кім-н., паглядаць, пазіраць на каго-, што-н.). *Бывала, у нядзелю, як толькі забразгае маці скаварoдамі, усхопішся кулём з пасцелі ды скарэй за конаўку мыцца, а адным вокам усё на блін пазіраеш.* Крапіва. *Даніла ўсё моршчыў расчырванелы, у чорным валоссі твар, адным вокам пазіраючы на ўзрыўчатку.* Быкаў.

*Спаць* **АДНЫ́М ВО́КАМ**. *Акал. Разм.* Вельмі насцярожана, трывожна. *Перад тым як легчы, [Яўхім] прыгразіўся лесніку, што, калі той што намерыцца, на тым свеце дастане. Папярэдзіў, што спаць будзе адным вокам.* Мележ.

*Хоць (хоць бы)* **АДНЫ́М ВО́КАМ (ВО́ЧКАМ)** *глянуць, пабачыць* і пад. *Акал. Разм.* На кароткі час. *Чытае Ірка, і хочацца, ды як яшчэ хочацца паглядзець хоць адным вокам: што далей, якія рысункі, пра што гаворыць кніжка!* Шынклер. *«Петрусік, даражэнькі мой, які ты цяпер стаў! Хоць бы адным вочкам зірнуць на цябе», — пісала дзяўчына.* Каваль.

**АКІНУЦЬ ВОКАМ** *каго, што*. Гл. акінуць.

**ЗВЕСЦІ ВОКАМ**. Гл. звесці.

*Не паспее* **І ВОКАМ МІРГНУЦЬ**. Гл. міргнуць.

**І ВОКАМ НЕ ВЯДЗЕ**. Гл. вядзе.

**<І> ВОКАМ НЕ МАРГНУЎ**. Гл. маргнуў.

**КІДАЦЬ ВОКАМ** *на каго, на што, куды*. Гл. кідаць.

*Куды ні* **КІНЬ ВОКАМ**. Гл. кінь.

**МЕРАЦЬ ВОКАМ** *каго*. Гл. мераць.

**НЕ АКІНУЦЬ ВОКАМ**. Гл. акінуць.

**НЕ МАРГНУЎШЫ ВОКАМ**. Гл. маргнуўшы.

**НЯЎЗБРО́ЕНЫМ ВО́КАМ**. *Акал. Функц. не зам.* Адразу ж, без усякіх намаганняў (бачыць, убачыць, заўважыць і пад.). **Сін.**: з першага погляду (у 1 знач.). *Няўзброеным вокам можна заўважыць, што многае ў нас змянілася ў лепшы бок.* «Звязда». *Нават няўзброеным вокам можна заўважыць удзячную асаблівасць народнай казкі; з яе выцякае сама па сабе не толькі тэндэнцыя, а і малюнак, пэўная карціна са сваім жыццём, са сваімі падрабязнасцямі і дэталямі.* «Полымя».

**ЯК ВОКАМ ЗГЛЕДЗЕЦЬ**. Гл. зглeдзець.

*ВОКІ* • **НА ЧАТЫРЫ ВО́КІ**. *Акал. Разм.* Без сведак, без пабочных асоб (гаварыць, сустракацца, апынуцца і пад.). **Сін.**: адзін на адзін (у 1 знач.); вока на вока (у 1 знач.); з вока на вока; сам-насам (у 1 знач.); тэт-а-тэт. *Цярэшка сеў на канапу, утапіўся ў яе мяккасці, побач сеў чалавек з вачыма сфінкса, і на чатыры вокі Цярэшка здаў кароткую справаздачу.* Бядуля.

*ВОКНЫ* • **БОГУ Ў ВОКНЫ**. Гл. богу.

*ВОКУ* • *Быць* і пад. **БЯЛЬМОМ НА ВОКУ** *каму, у каго,* для *каго.* Гл. бяльмом.

*Як* **БЯЛЬМО НА ВОКУ** *<каму, у каго, для каго>*. Гл. бяльмо.

**МЕЦЬ НА ВОКУ** *каго, што.* Гл. мець.

**МЕЦЬ У ВОКУ** *каго, што.* Гл. мець.

**НА ВО́КУ** *ў каго. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Даступны агляду, назіранню, кантролю з боку каго-н. **Сін.**: на віду *ў каго* (у 2 знач.); на <самым> відавоку (у 2 знач.). — *За Косцікам Бранявіцкім зноў хадзіў «павук»... — Ён жа яшчэ нічога палякам не нашкодзіў, каб у іх быць на воку?* Баранавых. *Алёша падумаў, што Махорка кліча падысці. Хоча, каб ён, Алёшка, быў у яго на воку.* Пташнікаў. *Лейзар і Гірша краяць... аўчыны. Аўчыны параскіданы і паразвешаны на крэслах, на канапе. Каб не перакідаць іх, каб патрэбная аўчына была заўсёды на воку.* Васілевіч. *[Грушэўскі] углядаецца ў твар Яніне: у яе адкрытых вачах відна ўся яе душа, нічога не схавана, усё на воку.* Мурашка.

**НЕ Ў ВО́КУ** *ў каго. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не падабаецца каму-н., у няміласці ў каго-н. *[Ганька] беспамылкова адчувае матчыны адносіны да людзей — каго яна не любіць, каго не паважае. І тады ўжо Ганька за іх за дваіх злуецца на таго, хто ў маткі не ў воку.* Васілевіч.

**НІ Ў АДНЫ́М ВО́КУ**. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Зусім, нікольні не п'яны. **Сін.**: хоць бы ў адным воку. *— А чаму ты не ў Ліцчанкі?.. — Быў там, ды ўцёк. — І ні ў адным воку? — Не ўзяў ні кроплі.* Хадкевіч. *Пачалі падпойваць. Віскі, джын, брэндзі. Дзядзька п'е конаўкаю — і ні ў [а]дным воку.* Лужанін. *Час ад часу Кандрат з Анісімам прыкладваліся да бутэлькі і ўхвалялі сухач. Але былі яны ні ў адным воку, такім мужчынам бутэлька сухога што дзіцяці драбок цукру.* Казько.

*Сну* **НІ Ў АДНЫ́М ВО́КУ**. *У безас. ужыв. Разм.* Зусім няма, зусім не прыходзіць (сон). *Арыштаваныя змоўклі. Кожны быў заняты сваімі думкамі, успамінамі родных. У зняволеных сну ні ў адным воку.* Гурскі. *[Васіль] лавіў сябе на тым, што сну ў яго — ні ў адным воку, што, здаецца, не засне ён сёння да раніцы.* Гіль.

**ТРЫМАЦЬ НА ВОКУ** *каго, што.* Гл. трымаць.

**ХО́ЦЬ БЫ Ў АДНЫ́М ВО́КУ** *ў каго. Часцей у безас. ужыв. Разм.* Хто-н. зусім не п'яны. **Сін.**: ні ў адным воку. *Апусцела адна пляшка, другая, а ў таго [немца] хоць бы ў адным воку!* Новікаў. *А як п'е Гоша! І хоць бы ў адным воку.* «Вожык».

*ВОЛ* • *Прыйсціся, прыдацца* і пад. **ЯК ВО́Л ДА КАРЭ́ТЫ**. *Акал. Разм. Іран.* Зусім не (прыйсціся да чаго-н.). *[Паўлінка:] Не так, пан Адольф, бярэш шклянкі; трэба вось як. (Паказвае). Ну, і зграбны ж! не раўнуючы — як вол да карэты.* Купала. *Гэты і ўтрактарысты, і ў машыністы падыходзіць як вол да карэты.* Юрчанка.

*Чакаць* **ЯК ВО́Л ДО́ЎБНІ (АБУХА́)**. *Дап. Разм.* Чаго-н. няпэўнага, трывожнага ці трагічнага. *І адпала прыкрасць чакання нечага няяснага (як вол доўбні) і надвае варожанага: добра будзе ці блага?* Калюга. *А я, братка, адзін, як тая тросць на пажары. Ні вопраткі ў мяне цывільнае няма, ні гіргітаць не ўмею па-нямецку. Сядзі ў сваім млыне, валачы за вала і чакай як вол доўбні...* Брыль. *Гэй! Чаго чакаеш як вол абуха? Варушыся.* Шлег.

**ЯК <ЧО́РНЫ> ВО́Л** *рабіць, працаваць, цягнуць* і пад. *Акал. Разм.* Часцей ужыв. пры дзеясл.-вык. незак. тр. З крайнім напружаннем сіл. **Сін.**: як закляты; як папа карла. *Сагнуўшы плечы ў крук, араў зямлю Паўлюк, як чорны вол варочаў...* Купала. *Сцёпка некалі на пана працаваў як чорны вол, а сягоння сын Сцяпана запісаўся ў камсамол.* Кра-

піва. *[Жыгліцкая:] Во ты працуеш як вол чорны, а яна зайшла і тэлевізар глядзіць сабе.* Козел. *[Антаніна Цімафееўна:] Вы не ведаеце яго. Ён жа такі — хворы не хворы, а цягне як вол. І нікому не заікнецца.* Макаёнак. *Займеўшы сваю гаспадарку, трэба ж галавою варушыць. А так — рабі сабе як вол ды еш, што дадуць.* Лобан.

*ВОЛАС* • **ВО́ЛАС З ГАЛАВЫ́ НЕ ЎПАДЗЕ́ (НЕ ЎПА́Ў, НЕ СПАДЗЕ́, НЕ СПА́Ў)** *у каго, з чыёй. У безас. ужыв. Разм.* Ніхто не кране каго-н., не зробіць яму ніякай шкоды. *Хварэе маці, калі ён [сынок] не спаў, дрыжыць, каб волас з галавы яго не спаў.* Бічэль-Загнетава. *[Міхаіл] баяўся, мусіць, што калі вернуцца мужчыны, — беражыся! А тыя прыйшлі — у яго і волас з галавы не ўпаў.* Пташнікаў. *Не захочаш, каб на цябе падала падазрэнне — дазваляем застацца ў нас... З тваёй галавы не спадзе нават волас.* Баранавых.

**ВОЛАС СТАНОВІЦЦА ДЫБАМ** *у каго.* Гл. валасы.

**ВО́ЛАС У ВО́ЛАС <ГО́ЛАС У ГО́ЛАС>**. *Часцей у знач. вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Такія падобныя, што цяжка адрозніць. **Сін.**: <і> крошкі пабраў *чые, каго, у каго,* з *каго*; на адзін твар. *Пад'ехалі да шатра. Выходзяць адтуль тры статныя хлапцы-малайцы — твар у твар, волас у волас.* Якімовіч. *Я заўважыў ужо, што Віня надта падобная на вас... Калі б вы сталі дзяўчынкай, то, я думаю, былі б, як кажуць, волас у волас.* Іпатава. *[Стары слуга:] Удаўся сыночак у бацьку — волас у волас, голас у голас.* В.Вольскі.

**НА ВО́ЛАС**. *Акал. Разм.* **1**. Трошачкі, ледзь-ледзь. **Сін.**: на макулінку (у 1 знач.); на <сіні> пазногаць (у 1 знач.). *Я сама гатова ўсё гэтае перажыць, абы яму хоць на волас лягчэй было.* Сабаленка.

**2**. Ужыв. у адмоўн. ск. Нікольki, зусім (не заснуць, не прыбавіць і пад.). **Сін.**: на <ломаны> грош; на макулінку (у 2 знач.); на мезены палец; на панюх табакі (у 2 знач.); на <сіні> пазногаць (у 2 знач.); на шэлег (у 2 знач.); ні божа мой; ні грама; ні каліва; ні кроплі; ні на <адзін> шэлег (у 1 знач.); ні на волас; ні на грам (у 1 знач.); ні на гран; ні на грош; ні на ёту; ні на каліва; ні на кроплю; ні на макава зерне; ні на макулінку. *Далася ў знакі чалавеку гэтая ноч: ён не заснуў і на волас.* Сабаленка. *—Вага ж у вас спецыяльная. — Куды там, на волас не прыбавіш.* Лынькоў.

**НІ НА ВО́ЛАС**. *Акал. Разм.* Ужыв. у адмоўн. ск. Нікольki, зусім (не заснуць, не прыбавіць і пад.). **Сін.**: на волас (у 2 знач.); на <ломаны> грош; на макулінку (у 2 знач.); на мезены палец; на панюх табакі (у 2 знач.); на <сіні> пазногаць (у 2 знач.); на шэлег (у 2 знач.); ні божа мой; ні грама; ні каліва; ні кроплі; ні на <адзін> шэлег (у 1 знач.); ні на грам (у 1 знач.); ні на гран; ні на грош; ні на ёту; ні на каліва; ні на кроплю; ні на макава зерне; ні на макулінку. *Званю і чую я твой голас: «Заходзь! Чакаю, дужа рад!» Я не маруджу ні на волас, не азіраюся назад.* Колас. *На мулкай казарменнай падлозе я ў тую ноч не заснуў ні на волас.* Сабаленка. *Хомка, астаўшыся зноў адзін, спаць не мог — так і не звёў да самага світання ні на волас вачэй.* Сачанка.

*ВОЛЕНС* • **ВО́ЛЕНС-НО́ЛЕНС**. *Акал. Кніжн.* Незалежна ад жадання ці нежадання. **Сін.**: воляй-няволяй; рад не рад; хоцькі-няхоцькі; хочаш не хочаш. *Няважна, доктар. А пакольki ўсё, што ў вашых сілах, зроблена, не будзем больш пра гэта гаварыць. Як там па-латыні — воленс-ноленс, а трэба цярпець, сціснуўшы зубы...* Міська. *Уладзімір Паўлавіч сказаў шмат такога, што, воленс-ноленс, прымушае задумацца.* Дуброўскі. *— Ну што, дамовіліся? — Пішыце дакладную... Воленс-ноленс, як кажуць.* Карпаў.

*ВОЛІ* • **ПА ВО́ЛІ ЛЁСУ**. *Акал. Кніжн.* У выніку пэўных абставін, зусім выпадкова (трапіць куды-н., апынуцца, застацца дзе-н.). **Сін.**: воляй лёсаў. *Пасля вайны Ніна Іванаўна па волі лёсу апынулася ў Ленінградзе.* «Звязда». *Самую вялікую, можна сказаць, неацэнную дапамогу Чырвонай Арміі можам аказаць мы, тыя, хто пакінуты ці астаўся па волі лёсу ў нямецкім тыле.* Сачанка. *Мы, па волі лёсу, трапілі ў адзін і той жа канцлагер...* Шашкоў.

*ВОЛЬНА* • **ДЫХАЦЬ ВОЛЬНА**. Гл. дыхаць.
**УЗДЫХНУЦЬ ВОЛЬНА**. Гл. уздыхнуць.

*ВОЛЬНАЕ* • **ВОЛЬНАЕ ПЛАВАННЕ**. Гл. плаванне.

*ВОЛЬНАМУ* • **ВОЛЬНАМУ ВОЛЯ**. Гл. воля.

*ВОЛЬНАЯ* • **ВОЛЬНАЯ ПТАХА**. Гл. птаха.
**ВОЛЬНАЯ ПТУШКА**. Гл. птушка.

*ВОЛЬНЫ* • **ВОЛЬНЫ КАЗАК**. Гл. казак.
**ВОЛЬНЫ ПТАХ**. Гл. птах.

*ВОЛЬНЫМ* • **НА ВОЛЬНЫМ ПАВЕТРЫ**. Гл. паветры.

*ВОЛЮ* • **ДАВАЦЬ ВОЛЮ**. Гл. даваць.
**ДАВАЦЬ ВОЛЮ РУКАМ**. Гл. даваць.
**ДАВАЦЬ ВОЛЮ <СВАЙМУ> СЭРЦУ**. Гл. даваць.
**ДАВАЦЬ ВОЛЮ ЯЗЫКУ**. Гл. даваць.
**НА ВО́ЛЮ ЛЁСУ** *кідаць (кінуць), пакідаць (пакінуць)* і пад. *Акал. Кніжн.* Без нагляду, догляду, без падтрымкі, дапамогі. *У кожнага земляроба балела душа па кінутым на волю лёсу скарбе, здабытым нялёгкаю працаю за гарачае лета.* Якімовіч. *Паны, якія так любілі крычаць пра свой патрыятызм, пасля нападу фашысцкай Германіі на Польшчу кінулі народ на волю лёсу і разбегліся хто куды.* Шкраба. *Ніхто не возьме на сябе рызыкі, ні раённае, ні абласное кіраўніцтва, пакінуць дзесяткі тысяч галоў жывёлы на волю лёсу.* Дуброўскі. *Далей пакідаць дзяцей на волю лёсу мы не маглі.* «Маладосць».

*ВОЛЯ* • **ВО́ЛЬНАМУ ВО́ЛЯ**. *Выкл. Разм.* Як сабе хочаш. Гаворыцца пра таго ці таму, хто робіць што-н. па-свойму, не зважаючы на слушныя парады. *Што ж, Васіль, вольнаму воля, а я табе раю ўсё ж такі добра падумаць.* Брыль. — *А ты жанаты хоць?* — *Не.* — *Тады вольнаму воля.* Чыгрынаў.
**ВО́ЛЯ ВА́ША (ТВАЯ́)**. *Выкл. Разм.* Як хочаце, як лічыце патрэбным. Ветлівая форма выказвання згоды ці нязгоды з кім-н. —*Я вас арыштую.* — *Воля ваша, але я не вінаваты,* — *у Скуратовіча быў самы нявінны твар.* Чорны. — *Скажу табе шчыра, як на мяне, старога зубра, дык я цябе паставіў бы вось на гэты дыван побач з Карначом.* — *Воля ваша.* Шамякін. — *Ды я, ведаеце, і не вельмі утомлен, каб спачываць; спачыць яшчэ сумею.* — *Ну, воля твая.* Гартны.

*ВОЛЯЙ* • **ВО́ЛЯЙ ЛЁСАЎ (ЛЁСУ)**. *Акал. Кніжн.* Зусім выпадкова, у выніку пэўных абставін (трапіць куды-н., апынуцца дзе-н.). **Сін.**: па волі лёсу. *Ты, пэўна, ведаеш [Ліхадзіеўскага]. Воляй лёсаў гэты хлопец апынуўся ў Ташкенце.* Колас. *Воляй лёсу апынуўся я паміж вамі і хачу пагаварыць з вамі, як з братамі.* Дайнека. *У 20-х гадах Філіповіч воляй лёсу аказаўся на чужыне — у Шанхаі.* «Звязда».
**ВО́ЛЯЙ-НЯВО́ЛЯЙ**. *Акал. Функц. не зам.* Незалежна ад жадання ці нежадання. **Сін.**: воленс-ноленс; рад не рад; хоцькі-няхоцькі; хочаш не хочаш. *А то — воляй-няволяй будзеш думаць усялякую ўсялячыну, калі ад чалавека ні чуткі, ні пачуткі.* Гартны. *Ох, як*

*[муж] не любіць [фашыстаў], ну праз іх часам і на вялікую рызыку ідзе. Воляй-няволяй, а даводзіцца мне часам і адчытваць яго за гэта.* Лынькоў.

*ВОМЕГАМ* • **ВОМЕГАМ ВЫЛАЗІЦЬ** *каму.* Гл. вылазіць.

*ВОН* • **ДУХ ВОН** з *каго.* Гл. дух.

**ДУША ВОН** *з каго.* Гл. душа.

**ДУША ВОН** <*з каго*> **І КІШКІ НА ТЭЛЕФОН**. Гл. душа.

**З РУ́К ВО́Н**. *Разм.* **1**. *Акал.* Вельмі дрэнна. **Сін.**: ні к чорту (у 2 знач.); паўтара людскога. *І такая была бяда, Сымон Рыгоравіч, што з рук вон. На работу кожны дзень, спаць па паказаных гадзінах. Цьфу ты, ліха.* Самуйлёнак.

**2**. *Вык. і азн.* Вельмі дрэнны. **Сін.**: адны слёзы; глядзець няма на што; кату пад хвост (у 2 знач.); кульгаць на абедзве нагі (у 3 знач.); курам на смех (у 1 знач.); на ліхога казана; не вытрымлівае ніякай крытыкі; не лезе ні ў якія вароты; нікуды не варты; ні к чорту (у 1 знач.); ні к чорту не варты; ні самому паглядзець ні людзям паказаць; пусці павалюся (у 1 знач.); смеху варты. *Ледзь Морж прыпоўз назад і — плюх! — у мора. Адлежваўся, бядак, нямала дзён. Каханне атрымалася — з рук вон.* Корбан.

**З РУ́К ВО́Н** дрэнна, дрэнны. *Акал. Разм.* Вельмі, зусім. — *Што я думаю рабіць? — рэзка павярнуўся Быліч. — Служыць ісціне, якой пакуль што служыў дрэнна, з рук вон дрэнна.* Блакіт. *У цэху з рук вон дрэнна пастаўлена работа па барацьбе з бракам.* «Вожык».

*ВОРАН* • **ЧО́РНЫ ВО́РАН**. *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Аўтамашына для перавозкі арыштаваных. *Амаль да самых дзвярэй пад'ехаў «чорны воран». Звязанага падпольшчыка сунулі ў ненажэрнае нутро гэтай страшнай машыны. Другі «чорны воран» з гестапаўцамі стаяў побач.* Новікаў. *Допытаў не было, нікога не прывозілі, не арыштоўвалі, машыны — іх у народзе чорнымі воранамі называлі — стаялі ў гаражы, а шафёры былі адпушчаны на свята дамоў.* Хомчанка. *А на трэці дзень... Не, «чорны воран» уначы не прыехаў. Мяне ветліва выклікаў незнаёмец у цывільным з тае чытальнай залы. А ў калідоры стаяла два вайскоўцы і таксама ветліва прапанавалі: «Прайдзіце з намі».* Шамякін.

*ВОСЕМДЗЕСЯТ* • **НА СТО ВОСЕМДЗЕСЯТ ГРАДУСАЎ**. Гл. сто.

*ВОСТРА* • **ТРЫМАЦЬ ВУХА ВОСТРА**. Гл. трымаць.

*ВОСТРАЕ* • **ВОСТРАЕ ПЯРО** *у каго.* Гл. пяро.

*ВОСТРЫ* • **ВО́СТРЫ (-АЯ, -АЕ, -ЫЯ) НА ЯЗЫ́К**. *Вык. і азн. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знаходлівы ў размове, дасціпны. **Сін.**: бойкі на язык; і сячэ і паліць; не лезе па слова ў кішэню; слова не пазычае. *А гаворыць [Вінгель] удала, на язык востры, калі скажа слаўцо, ды прыкажа, дык доўга будзеш памятаць, навылёт ён пройме цябе сваім словам.* Чорны. *А як было весела ехаць на канікулы: цесна сядзелі крыху агаладалыя, стомленыя сесіяй, але заўсёды вясёлыя і вострыя на язык студэнты, смяяліся, дабрадушна жартавалі адзін з аднаго, спявалі песні аж да самага дому.* Грахоўскі.

**ВОСТРЫ ЯЗЫК** *у каго.* Гл. язык.

**НОЖ ВОСТРЫ** *каму, для каго.* Гл. нож.

*ВОСТРЫЯ* • **ВОСТРЫЯ ВУГЛЫ**. Гл. вуглы.

**ЗГЛАДЖВАЦЬ ВОСТРЫЯ ВУГЛЫ**. Гл. згладжваць.

*ВОСЬ* • **ВОСЬ БАЧЫШ**! Гл. бачыш.

**ВО́СЬ-ВО́СЬ (ВО́-ВО́, ВО́Т-ВО́Т)**. *Разм.* **1**. *Акал.* Ужыв. Пры дзеясл.-вык. зак. тр. У найбліжэйшы час, вельмі скора, зараз жа (адбудзецца, здарыцца што-н.). **Сін.**: з га-

дзіны на гадзіну; з мінуты на мінуту; з секунды на секунду; з часу на час (у 1 знач.). *Вось-вось павінен быў прачнуцца ў збожжы першы жаўранак і, атрасаючы свежыя крокелькі з шэрага, цёплага пер'я, узняцца над полем, абвяшчаючы захопленым шчэбетам пачатак новага дня.* Брыль. *Жарабё... імчыцца ўслед за цягнікам, амаль на адной хуткасці. Не глядзіць ні на шпалы, ні на пікетныя слупкі, во-во ногі паломіць.* Шынклер. *Вясна вот-вот. А ў вас [угнаенне] на конях возяць. На трактарах было б хутчэй.* Кузьмянкоў.

2. *У знач. часціцы.* Ужыв. у рэпліках пры адказе для выражэння згоды. Іменна так. — *Гэта твая тэорыя не заўсёды апраўдваецца жыццём... — Ліба праўду кажа. У некаторых выпадках... — Вось-вось, толькі ў некаторых выпадках, — уставіў Памыйка.* Гартны. — *Нябось, калі Сучка выбіралі, то лічылі, што ён справіцца? — Лічылі. Хто там вельмі лічыў. Выбралі, і ўсё. — Во-во. А трэба думаючы выбіраць.* Лобан.

**ВО́СЬ (ВУ́НЬ) <ЯНО́> ШТО́**! *Выкл. Разм.* Выкліч моцнага здзіўлення з выпадку чаго-н. нечаканага. **Сін.**: вось <яно> як; скажы калі ласка!; ну і ну! — *Ад купца Вендарава з Пецярбурга тэлеграму атрымалі, што цар маніфест падпісаў!.. «Вось яно што», — прамільгнула ў Аронавых думках...* Мурашка. *Алена расказвала, што Міхась Савіцкі — аўтар «Партызанскай мадонны» — ваяваў пад Севастопалем, параненага захапілі немцы ў палон, адправілі ў канцлагер у Бухенвальд, потым — у Дахау, і ён, можна сказаць, цудам застаўся жыць! — Вунь яно што! Адпакутаваў чалавек...* Левановіч. *Вунь што! Прыгадваю, прыгадваю, толькі ніколі не пазнаў бы вас.* Пальчэўскі.

**ВО́СЬ (ВУ́НЬ) <ЯНО́> Я́К**! *Выкл. Разм.* Выкліч моцнага здзіўлення з выпадку чаго-н. нечаканага. **Сін.**: вось <яно> што!; скажы калі ласка!; ну і ну! — *А што, што [Анежка] яшчэ казала!.. — Нічога... —Вось яно як... — нібы сам сабе сказаў Алесь і, не развітваючыся, пайшоў да баракаў.* Броўка. *[Ян Серафімавіч:] Гэты сабачка чыстакроўны бульдог. Кажуць, яго продкі яшчэ пры двары імператрыцы Кацярыны першыя прызы займалі. [Маланья Адамаўна:] Вось як!* Валасевіч. — *Чаго смех? — Ды пазнаў мяне, пазнаў ваш шафёр. — Як гэта пазнаў? — Пры арышце Карасіка мяне бачыў... — Вунь як!.. Дык што, мо ты з міліцыі? — З міліцыі, — пацвердзіў Валянцін.* Супрунчук.

**ВОСЬ ДЗЕ СЯДЗІЦЬ** *у каго, каму.* Гл. сядзіць.

**ВО́СЬ ДЫК ТА́К**! *Выкл. Разм.* Выкліч здзіўлення з-за чаго-н. нечаканага. **Сін.**: вось дык штука!; вось табе <бабка> і юр'еў дзень!; вось табе і на!; вось табе <і> маеш!; вось табе і раз! — *За героя я — гарой. Чым ён дрэнны? Рэж у вочы. — Тым і дрэнны, што станоўчы. — А станоўчасць хіба шкодзіць? — Устарэла, не гучыць. — Вось дык так! Тады выходзіць... — Трэба неяк падмачыць.* Крапіва. *Грымнуў лес вясёлым смехам. Вось дык справа! Вось дык так! Ну і нумар на пацеху хлопцам выкінуў Дубняк!* Астрэйка.

**ВО́СЬ ДЫК ШТУ́КА**! *Выкл. Разм.* Выкліч здзіўлення, расчаравання і інш. **Сін.**: вось дык так!; вось табе <бабка> і юр'еў дзень!; вось табе <і> маеш!; вось табе і на!; вось табе і раз! — *Ну, а калі гэта з Андрэем сталася? — Ды ўжо даўно... З год таму ці болей... — З год?! І не мог выстаяць... Цікава! Вось дык штука-а-а!* Гартны. — *Скуль жа вы? — пытае дзядзька з печы. Хлопец здзіўлена пазірае на печ, рагоча: — Вось дык штука! Аказваецца, гаспадар ёсць. А мы тут тары-бары з гаспадыняй.* Жычка.

**ВОСЬ І ЎСЁ**. Гл. усё.

**ВО́СЬ ТАБЕ́ < БА́БКА > І Ю́Р'ЕЎ ДЗЕ́НЬ**! *Выкл. Разм.* Выкліч здзіўлення, расчаравання і інш. **Сін.**: вось дык так!; вось дык штука!; вось табе <і> маеш!; вось табе і на!; вось табе і раз! *Тут падрыхтаваны ўчастак для баявой стральбы. Ці не таму ім [танкістам] загадалі ўзяць боепрыпасы? Вось табе, бабка, і Юр'еў дзень!* «Полымя». *Ведаў Канстанцін Міхайлавіч і пра тое, што ў Мінску ўжо гаспадараць немцы. Вось табе і на!*

*А яны з Марыяй Дзмітраўнай збіраліся ў маі ці чэрвені рушыць дахаты... Вось табе і Юр'еў дзень!* С.Александровіч.

**ВОСЬ <ТАБЕ> БОГ, А ВОСЬ ПАРОГ**. Гл. бог.

**ВО́СЬ ТАБЕ́ <І> МА́ЕШ**! *Выкл. Разм.* Вокліч здзіўлення, расчаравання і інш. **Сін.**: вось дык так!; вось дык штука!; вось табе <бабка> і юр'еў дзень!; вось табе і на!; вось табе і раз! *[Мішур:] Мне і дахаты час ужо ісці. [Семячка:] Вось табе і маеш. Не спяшайся, Міхей Макаравіч.* Шынклер. *Вось табе і маеш, чакалі гасцей з аднаго боку, а яны з другога.* Кудравец. — *Я толькі не ведаў, што там [у самалёце] людзі... Вось табе маеш! — сказаў Курыдзе. — А хіба ж можа машына без людзей?* Самуйлёнак.

**ВО́СЬ ТАБЕ́ І НА́**! *Выкл. Разм.* Вокліч здзіўлення, расчаравання і інш. **Сін.**: вось дык так!; вось дык штука!; вось табе <бабка> і юр'еў дзень!; вось табе <і> маеш!; вось табе і раз! — *Вось табе і на! — крыкнуў Віктар. — Навошта ж мы пакутавалі на балоце, калі тут ёсць такая добрая дарога!* Маўр. — *Дз-з-зын! — Ганьчыны думкі разбіваюцца ў друзачкі. Ад самае вялікае шыбы ў акне, дзе сядзіць Ганька, не застаецца і следу... Вось табе і на!* Васілевіч.

**ВО́СЬ ТАБЕ́ І РА́З**! *Выкл. Разм.* Вокліч здзіўлення, расчаравання і інш. **Сін.**: вось дык так!; вось дык штука!; вось табе <бабка> і юр'еў дзень!; вось табе <і> маеш; вось табе і на! *Вы ж самі добра ведаеце, што ніколі ў нас не было, дык хіба я вінаваты, што не вучыўся? — Вось табе і раз...* Лынькоў. *Не працуе [тэлефон]? Чаму не працуе? Вось табе і раз!* Лобан.

**<ВО́СЬ> ТО́-ТА Ж**! *Выкл. Разм.* Вокліч згоды з пачутым (часта з адценнем павучання ці дакору). **Сін.**: <вось> то-та і яно! *[Туміловіч:] У нас [на працадзень] менш... Тры кілаграмы і чатыры рублі. [Пытляваны:] Вось то-та ж!* Крапіва. — *Ты ж у мяне мудрэй за Напалеона... — То-та ж! — згадзіўся дзед і пайшоў раіцца да Сёмкі-матроса.* Лынькоў.

**<ВО́СЬ> ТО́-ТА І ЯНО́**! *Выкл. Разм.* Вокліч згоды з пачутым (часта з адценнем павучання ці дакору). **Сін.**: <вось> то-та ж! — *Сустрэча не з прыемных... — Вось то-та і яно. Без зброі тут не абыдзешся. Дый наогул Поўнач панібрацтва не прызнае.* Корбан. — *Мала толькі нешта такіх ахвотнікаў... — Вось то-та і яно, — пахмурна азваўся Алесь Корбут.* Васілевіч. — *Які гэта дурань у наш час стане адмаўляцца ад такога аб'екта? — То-та і яно. Любы горад за такі камбінацік сказаў бы дзякуй. А вашы больш нічога разумнага не прыдумалі, як ставіць палку ў кола.* Шамякін.

**ВОСЬ ТУТ І КУКУЙ**. Гл. кукуй.

**ВО́СЬ ЯШЧЭ́**! *Выкл. Разм.* Вокліч нязгоды з чым-н., адмоўных адносін да чаго-н. *[Канягін:] Таварышы! Давайце не крыўдзіць юбіляра. Даставім яму прыемнасць атрымаць сюрпрыз, а таварышам, якія рыхтавалі, паднесці яго. [Галасы:] Ну, вось яшчэ! — Выдумалі невядома што.* Крапіва. — *Шчырае дзякуй вам, таварыш Красачка! — Ну, вось яшчэ, знайшоў красачку!* Лынькоў.

*ВОСЬМЫ* • **ВОСЬМЫ ЦУД СВЕТУ**. Гл. цуд.

*ВОТ* • **ВОТ <ТАБЕ> БОГ, А ВОТ ПАРОГ**. Гл. бог.

*ВОЎК* • **БІ́ТЫ ВО́ЎК**. *Адз. і мн. Часцей у знач. вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вопытны, бывалы чалавек. **Сін.**: стары верабей; стары воўк; стрэляная птушка; стрэляны верабей; стрэляны воўк. **Ант.**: жаўтаротае птушаня. *Я нацэліўся на першы тур [конкурсу]. Была нейкая задаволенасць сабой. «Цяпер я біты воўк. Шмат чаго ведаю».* «Полымя». *Вопытны, біты воўк, следчы паверыў Мікіту.* Марчук.

**ВО́ЎК ДАРО́ГУ ПЕРАБЕ́Г** *каму. У безас. ужыв. Разм. Жарт.* Вельмі шанцуе каму-н. — *Яму, — Ігнат кіўнуў на Адася, — няйначай, сёння воўк дарогу перабег. Я быў пэўны, што ён прайграе, ажно не...* Кудравец.

**ВО́ЎК (МЯДЗВЕ́ДЗЬ) У ЛЕ́СЕ ЗДО́Х (ЗДО́ХНЕ).** *Выкл. Разм. Жарт.* Здарылася што-н. неспадзяванае. Выказванне здзіўлення чым-н. рэдкім, нечаканым. **Сін.**: нешта ў лесе здохла. *Я напісаў-такі Шахноўскаму. І ўжо добра часу прайшло, а ён маўчыць. Затое — божа, воўк у лесе здохне! — азвалася Ірына.* Масарэнка. *Храпавіцкі заказвае калгаснікам на работу... у нядзелю. Мядзведзь у лесе здох!* Мурашка. *[Каця]: Во дзіва! Валерка хакей не глядзіць. Воўк у лесе здохне.* Леванoвіч.

**ВО́ЎК У АВЕ́ЧАЙ ШКУ́РЫ (СКУ́РЫ).** *Адз. і мн. Часцей у знач. вык. Функц. не зам. Пагард.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Каварны, крывадушны чалавек. **Сін.**: двухаблічны янус. *[Смык:] Гэта двурушнік. Ён якшаецца з Жыгалкам, а хто такі Жыгалка?.. Воўк у авечай скуры. Былы бандыт.* Гурскі. — *Падліза панскі! — смяецца Якуб. — Чуў я такіх «сацыялістаў». Ваўкі ў авечай шкуры. Пан сам не асмеліцца сюды выйсці, дык свайго сацыяліста падаслаў...* Якімовіч. *Не, з гэтым ваўком у авечай шкуры трэба паводзіць сябе інакш.* «Маладосць».

**МАРСКІ́ ВО́ЎК.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм. Адабр.* Бывалы, вопытны марак. *Пасівелы ў плаваннях марскі воўк. Паходзім, хлапчына? Эх, сал-лага!* Караткевіч. *Адразу з'явілася думка, што лёс табе падараваў убачыць сапраўднага марскога ваўка.* Корбан. *Яшчэ ўчора [Ігнат] адчуваў сябе з Дзянісам Пятровічам амаль як з роўным, а хто ён цяпер для гэтага марскога воўка?* Крыга. *Я начытаўся кніжак Жуля Верна, Джэка Лондана, Станюкевіча і марыў зрабіцца «марскім воўкам».* Дайнека.

**СТАРЫ́ ВО́ЎК.** *Часцей ужыв. у адз. Разм. Часцей у знач. вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі вопытны, спрактыкаваны чалавек. **Сін.**: біты воўк; стары верабей; стрэляная птушка; стрэляны верабей; стрэляны воўк. **Ант.**: жаўтаротае птушаня. *Раманенка быў стары касмічны воўк, два стагоддзі назад ён пакінуў Зямлю на першым караблі з калясветавой хуткасцю.* Шыцік. *Вось недзе ў такім непрыглядным станоўішчы ён, гэты стары воўк у гітлераўскіх неданоскаў, мабыць, і трапіў у лапы тых, хто загнаў яго ў свае кашары...* Бажко.

**СТРЭ́ЛЯНЫ ВО́ЎК.** *Часцей ужыв. у адз. Разм. Часцей у знач. вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі вопытны, спрактыкаваны чалавек. **Сін.**: біты воўк; стары верабей; стары воўк; стрэляная птушка; стрэляны верабей. **Ант.**: жаўтаротае птушаня. *Гардзіенка ляжыць на ложку, паклаўшы забінтаваную галаву на рукі, маўчыць і думае сваю думку... Ён моргае мне адным вокам. Маўчы! Гэта стрэляны воўк.* С.Александровіч. *За яго [Марціна] баяцца нечага, воўк стрэляны, разумны і хітры.* Чарнышэвіч.

**ХОЦЬ ВОЎК ТРАВУ ЕШ.** Гл. еш.

*ВОЎКА* • **НА ВО́ЎКА.** *Акал. Праст.* Навошта. **Сін.**: да д'ябла (у 3 знач.); на ліха; на халеру; на хваробу; на храна; на чорта; на які хрэн; на які чорт; на якога чорта; на якое ліха; на якую трасцу; на якую халеру; якога ліха (у 1 знач.); якога ражна (у 1 знач.); якога хрэна (у 1 знач.); якога чорта (у 1 знач.). *На воўка табе гэтыя мацамэнды [прычандалле, рознае начынне]?* Барадулін. *Ну, падумай: на воўка табе карова? Даглядай яе, кармі. Ці пры тваёй сіле?* Калодзежны. [*Даніловіч*, с. 118: на воўка.]

**ХОЦЬ <ТЫ> НА ВОЎКА ЎЗЛЕЗЬ.** Гл. узлезь.

*ВОЎКАМ* • **ВОЎКАМ ВЫЦЬ.** Гл. выць.

**ВОЎКАМ ЗАВЫЦЬ.** Гл. завыць.

**ХОЦЬ ВОЎКАМ ВЫЙ.** Гл. вый.

*ВОЎЧАЕ* • **ВОЎЧАЕ ЛЫКА**. Гл. лыка.

**ВОЎЧАЕ МЯСА**. Гл. мяса.

**ЯК ВОЎЧАЕ ВОКА**. Гл. вока.

*ВОЦАТУ* • **ЯК КАБЫЛЕ ВОЦАТУ**. Гл. кабыле.

*ВОЧКАМІ* • **СТРАЛЯЦЬ ВОЧКАМІ**. Гл. страляць.

*ВОЧКІ* • **АНЮЦІНЫ ВО́ЧКІ**. *Адз. не ўжыв. Часцей дзейн. і дап. Разм.* Травяністая трохколерная расліна сямейства фіялкавых (viola trikolor L.); браткі. **Сін.**: брат-сястрыца; іван-ды-мар'я. — *Вось гэта ведаеш што?.. — Анюціны вочкі. Гэта браткі.* Ваданосаў. *Анюціны вочкі з маленства свайго ўпадабала маці, і штогод глядзяць на свет тыя вочкі з падваконня.* Ярашэвіч.

**СТРОІЦЬ ВОЧКІ**. Гл. строіць.

*ВОЧНАЯ* • **ВОЧНАЯ СТАЎКА**. Гл. стаўка.

*ВОЧЫ* • **АДБІРАЕ ВОЧЫ**. Гл. адбірае.

**АДВОДЗІЦЬ ВОЧЫ** *каму*. Гл. адводзіць.

**АДКРЫВАЦЬ ВОЧЫ** *каму <на каго, на што>*. Гл. адкрываць.

**АДПЛЮШЧЫЦЬ ВОЧЫ**. Гл. адплюшчыць.

**АСУШВАЦЬ ВОЧЫ** *чые, каму*. Гл. асушваць.

**АСУШВАЦЬ СВАЕ ВОЧЫ**. Гл. асушваць.

**БІЦЬ У ВОЧЫ**. Гл. біць.

**БРАЦЬ <СВАЕ> ВОЧЫ Ў ЖМЕНЮ**. Гл. браць.

**ВО́ЧЫ АДКРЫВА́ЮЦЦА (РАСКРЫВА́ЮЦЦА; АДКРЫ́ЮЦЦА, РАСКРЫ́ЮЦЦА; АДКРЫ́ЛІСЯ, РАСКРЫ́ЛІСЯ)** *у каго, каму <на што>. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Хто-н., вызваліўшыся ад памылковых поглядаў, пазнае сапраўдны сэнс чаго-н. **Ант.**: вочы заплюшчваюцца *ў каго на што. У людзей адкрываюцца вочы на жыццё, як адкрываліся ў нас у гады рэвалюцыі...* Хадкевіч. *Думаеце, самі падлеткі гэтага не разумеюць? Рана ці позна, але вочы ў іх раскрываюцца.* «Звязда». *На многае адкрыліся вочы на не так ужо і кароткім Хведаравым вяку.* Кудраўцаў. *Я часам зайздросціў Валодзьку, бо думаў, што маці любіць мяне менш. Толькі дарасламу мне адкрыліся вочы.* Карпюк. *І калі ў чалавека раскрыюцца вочы, ён сам сабе выбера дарогу і сам за сябе будзе несці адказ.* Колас.

**ВО́ЧЫ Б МАЕ́ НЕ БА́ЧЫЛІ** *каго, што. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Зусім не хочацца сустракаць, заўважаць, бачыць каго-, што-н. Пра непрыемнае, агіднае. **Сін.**: вочы б мае не глядзелі *на каго, на што. Абрыдзеў ён як горкая рэдзька. Вочы б мае яго не бачылі!* Мальдзіс. *Юзік неяк, хукаючы на сінія ад марозу рукі, нават ляпнуў Шумахеру: «Два злотых за мэтку!» На што той адказаў: «Я табе тры даў бы, каб толькі вочы мае не бачылі цябе».* Марчук.

**ВО́ЧЫ Б МАЕ́ НЕ ГЛЯДЗЕ́ЛІ** *на каго, на што. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Зусім не хочацца бачыць, сустракаць, заўважаць каго-, што-н. Пра непрыемнае, агіднае. **Сін.**: вочы б мае не бачылі *каго, што. Баіцца [свякроў] усё, хаця б гаспадаркі ў Піліпкі не адабралі. А па мне няхай бы яно згарэла тут усё. Вочы б мае не глядзелі.* Крапіва. — *Нябось, калі самі пазавуць у госці, дык сядзяць нібы на іголках і толькі і робяць, што зубы загаворваюць. — Гэта яны ўмеюць. — Вочы б мае на іх не глядзелі! — сказала Антаніна Арцёмаўна і бразнула талерку на сярэдзіну стала.* Васілёнак.

**ВО́ЧЫ ВЯЛІ́КІЯ ЗРАБІ́ЛІСЯ** *ў каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. быў вельмі здзіўлены, збянтэжаны, разгублены. *Толькі цяпер неяк усе звярнулі ўвагу, што каля агню з Дубалекавага атрада не было ні душы. Як вадою змыла. Калі і што? Ва ўсіх вочы вялікія зрабіліся. А Журавінку аж у пот кінула.* Лобан. *Я выклікаў начальніка базы ў калідор: «Я хачу глянуць на дазіметры». У яго зрабіліся вялікія вочы: — Ды ты што! Думаеш, сюды даляціць... У цябе атамная манія.* Шамякін.

**ВО́ЧЫ ГАРА́ЦЬ** *у каго на што.* Гл. вока.

**ВО́ЧЫ ЗАПЛЮ́ШЧВАЮЦЦА (ЗАКРЫВА́ЮЦЦА)** *у каго на што. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Хто-н. знарок не заўважае чаго-н. **Ант.**: вочы адкрываюцца *ў каго, каму* <*на што*>. *Часта заплюшчваюцца вочы і на парушэнні працоўнай дысцыпліны. Ці трэба гаварыць, як гэта непрыгожая з'ява падрывае нашы маральныя каштоўнасці, як уплывае на моладзь?* «Звязда».

**ВО́ЧЫ ЗЛІПА́ЮЦЦА (ЗЛІПА́ЛІСЯ)** *у каго, чые. У безас. ужыв. Разм.* Каму-н. моцна хочацца спаць. *[Жонка:] Не дуры галавы, цётка таксама адпачыць хоча. [Разносніца:] Праўду кажаце, за дзень натупалася, з вамі размаўляю, а вочы зліпаюцца.* Галубок. *Яшчэ цягнік не крануўся, а вочы ў Міколы зліпаюцца.* Гаўрылкін. *Адна прадаўшчыца сумавала ля касавага апарата, пазяхала, і вочы яе зліпаліся.* Гардзей.

**ВО́ЧЫ НА ЛО́Б ЛЕ́ЗУЦЬ (ЛЕ́ЗЛІ, ПАЛЕ́ЗУЦЬ, ВЫЛА́ЗЯЦЬ, ВЫЛА́ЗІЛІ)** *у каго. У безас. ужыв. Праст.* **1.** Хто-н. адчувае нясцерпны боль, мае вельмі непрыемныя адчуванні і пад. *Цяпер бацька адзін б'ецца, з ранку аж да ночы, так працуе, што пот льецца, лезуць на лоб вочы.* Колас. *І праўда: хоць вочы на лоб лезуць, але воз прыцягнуў [Іллюк] куды трэба было.* Калюга. *[Федзя:] Я ж не загадваў набіваць [мех] гэтак туга... [Жэня:] Ты сам пранясі яго, дык вочы на лоб палезуць.* Козел. *Пхала [Аўдотка] перад сабою [каляску] угору, чуючы, як вылазяць на лоб вочы...* Місько.

**2.** Хто-н. выказвае вялікае здзіўленне, моцны спалох, страх. **Сін.**: аслаблі гайкі *ў каго, чые* (у 1 знач.); валасы становяцца дыбам *у каго*; душа ў пятках *у каго, чыя*; душа ў пяткі <схавалася> *у каго*; каленкі дрыжаць *у каго*; кроў ледзянее *ў каго*; кроў у жылах стыне *ў каго*; мароз па скуры < прабягае > *у каго, каго, чыёй*; мурашкі бегаюць па целе *ў каго, каго, чым*; неба з аўчынку здаецца *каму*; паджылкі трасуцца *ў каго*; скура шэрхне *на кім, у каго*; сэрца абрываецца *ў каго, чыё*; сэрца ледзянее *ў каго*; у пяткі кальнула *каму, каго* (у 1 знач.); <усе> блохі падохлі *ў каго. Ад такіх «лекцый» вочы на лоб вылазілі ў студыйцаў.* Бядуля. *У Глушака вочы палезлі на лоб, так уразіўся чалавек. Перахрысціўся ад страху.* Мележ. *Гітлеравец любіў, каб пры яго паяўленні ў людзей ад жаху лезлі на лоб вочы.* Карпюк.

**ВО́ЧЫ НА МО́КРЫМ МЕ́СЦЫ** *ў каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. часта плача ці гатовы заплакаць. *— Ціха вы! — крычыць тата. — У вас вочы на мокрым месцы.* Бядуля. *Ну, дзяўчынкі хай сабе — у іх вочы на мокрым месцы. А што хлапчукі пусцілі слязу, гэта мяне вельмі здзівіла, а яшчэ болей узрадавала.* Леановіч.

**ВО́ЧЫ ПАВЫЛА́ЗІЛІ** *ў каго, чые. У безас. ужыв. Праст. Груб.* Хто-н. не бачыць, не заўважае чаго-н. *Ты, гаворыць, што ж гэта, антыхрыстава твая душа, у лесе робіш? А ці ў цябе вочы, кажу, павылазілі, не бачыш хіба?* Лынькоў. *— Грубая ж была ваша Полька. — Што ты пляцеш?.. Вочы ж мае яшчэ не павылазілі. Няўжо ж бы я не бачыла?!* Крапіва.

**ВО́ЧЫ РАЗБЯГА́ЮЦЦА (РАЗБЕ́ГЛІСЯ, РАЗБЯГА́ЛІСЯ)** *у каго, чые. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. не можа засяродзіцца на чым-н. адным з-за мноства прадметаў, разнастайнасці ўражанняў. *Перад [Рынінымі] вачыма столькі вёсак, гаёў і пералескаў, што вочы разбягаюцца...* Сабаленка. *Калі Люба зайшла ў залу, вочы яе разбегліся. Усе месцы*

*ўжо былі заняты, і яна, пад абстрэлам шматлікіх позіркаў, разгубілася і паспешна накіравалася ў самы канец.* Васілевіч. — *Праўда, харошае [палатно]?.. — Ай, харошае, — кіўнула Поля, у якой і праўда разбягаліся вочы.* Арочка.

**ВО́ЧЫ Ў ВО́ЧЫ (ВО́КА Ў ВО́КА)**. *Акал. Разм.* **1**. Вельмі блізка, у непасрэднай блізкасці (бачыць, сустракацца і пад.). **Сін**.: грудзі ў грудзі; лоб у лоб; носам к носу; носам у нос; нос у нос; тварам да твару (у 1 знач.); тварам у твар (у 1 знач.); твар у твар (у 1 знач.). *З вяртаннем гонару вярталася ўпэўненасць. Ужо як бы захацелася пабачыцца вочы ў вочы, выказаць годнасць сваю.* Мележ. *Люба намервалася абысці другі раз увесь фэст, калі павярнулася і сустрэлася вока ў вока з Дубам.* Мурашка. *З гэтага доміка на Тумано́ўскага вочы ў вочы зірнула смерць.* А.Жук.

**2**. З усёй шчырасцю, не тоячыся (сказаць, гаварыць і пад.). **Сін**.: адкрытым тэкстам; ва ўпор (у 2 знач.); у адкрытую; у вочы *казаць*; у лоб (у 2 знач.); у твар *гаварыць*. **Ант**.: за вочы (у 1 знач.). *[Вярэніч:] Я, можа, і не здолею складна, але затое вока ў вока скажу. Не люблю па шэрсці гладзіць.* Петрашкевіч.

**ВЫБІРАЦЬ ВОЧЫ** <*каму*>. Гл. выбіраць.

**ВЫПЛАКАЦЬ <УСЕ> ВОЧЫ**. Гл. выплакаць.

**ВЫЯДАЦЬ ВОЧЫ** <*каму*>. Гл. выядаць.

**ГЛЯДЗЕЦЬ <ПРАМА> У ВОЧЫ** *каму, чаму*. Гл. глядзець.

**ГЛЯДЗЕЦЬ ПРАЎДЗЕ Ў ВОЧЫ**. Гл. глядзець.

**ГЛЯДЗЕЦЬ СМЕРЦІ Ў ВОЧЫ**. Гл. глядзець.

**ДЗЕ́ БЫЛІ́ ВО́ЧЫ** *чые, у каго. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Чаму хто-н. не бачыў, не заўважыў чаго-н. *Для высокага дзеда шалашык быў вельмі нізкі... — Дзе былі мае вочы, калі я стаяў каля вашых расох! — дзівіўся дзед. — Я ж прывёз бы з лесу вышэйшыя!* Чарнышэвіч. *Людзі збіраліся купкамі, і ўсе дзівіліся: як, якім чынам мог ачмураць на працягу цэлых год гэты чалавек?.. — А дзе ж былі мае вочы?* Лынькоў. — *І дзе ў Юзіка вочы былі? — абураецца Папіха. — Казала не бяры! Хіба яна раўня нябожчыцы Анюце?* Гардзей.

**ДЗЕ ВОЧЫ ДЗЯВАЦЬ**. Гл. дзяваць.

**ЗА ВО́ЧЫ**. *Акал. Разм.* **1**. Пры адсутнасці каго-н., завочна (гаварыць, зваць, лаяць, насміхацца і пад.). **Ант**.: адкрытым тэкстам; ва ўпор (у 2 знач.); вочы ў вочы (у 2 знач.); у адкрытую; у вочы *казаць*; у лоб (у 2 знач.); у твар *гаварыць*. *[Дабрагост:] Цьфу! Проста брыдка слухаць, як за вочы вы людзей сумленных чэрніце дарма!* Гілевіч. *Дарма кажуць: «За вочы я гавару пра яго тое, што і ў вочы сказаць не пабаюся». Няпроста гэта. Цяжка сказаць у вочы хоць адзін раз тое, што за вочы даўно перагаворана, перарахавана.* Паўлаў.

**2**. Не бачачы чаго-н. (прадаць, купіць і пад.). *Слухай, Янка, што бунтуеш? Ты ж сядлом набіўся сам! За вочы прадаў і грошы ўзяў.* Колас.

**ЗАВЯЗВАЦЬ ВОЧЫ** *каму*. Гл. завязваць.

**ЗАКРЫВАЦЬ ВОЧЫ** *каму*. Гл. закрываць.

**ЗАКРЫВАЦЬ ВОЧЫ** *на што*. Гл. закрываць.

**ЗАЛІВАЦЬ ВОЧЫ** < *чым* >. Гл. заліваць.

**ЗАМАЗВАЦЬ ВОЧЫ** *каму*. Гл. замазваць.

**ЗАМЫЛЬВАЦЬ ВОЧЫ** *каму*. Гл. замыльваць.

**ЗАПАДАЦЬ У ВОЧЫ** *каму*. Гл. западаць.

**ЗАПЛЮШЧЫЎШЫ ВОЧЫ**. Гл. заплюшчыўшы.

**ЗА ПРЫГО́ЖЫЯ ВО́ЧЫ**. *Акал. Разм.* Бескарысліва, дарэмна, толькі з-за сімпатыі да каго-н. (рабіць што-н.). **Сін**.: за дзякуй; за так (у 1 знач.); на дурніцу (у 2 знач.). *Ён спадзяецца, што нейкі дзядзька гатуе яму недзе гатовенькае: ..на, значыцца, грамадзя-*

*нін Пархвіенка, от табе за прыгожыя вочы. Спажывай на здароўе!* Чорны. *Больш дасціпныя меркавалі, праўда, цішэй, што мітра айцу Міхаілу дасталася не за так, не за прыгожыя вочы.* Дубоўка. *А можа, і не давяралі Марыйцы — проста так, за прыгожыя вочы, з СД не выпускаюць.* Новікаў.

**ЗА СВЕТ ВОЧЫ**. Гл. свет.

**ЗАСЛАНЯЦЬ ВОЧЫ** *каму*. Гл. засланяць.

**ЗАСЦІЦЬ ВОЧЫ** *каму*. Гл. засціць.

**КАБ ВО́ЧЫ МАЕ́ НЕ БА́ЧЫЛІ** *каго. Выкл. Разм. Пагард.* Выказванне абурэння і рашучага нежадання бачыцца з кім-н. *Калі б дзед Талаш сказаў: «Смерць Саўку!» — то гэта не так уразіла б, як уразілі яго простыя, звычайныя словы суровага, але па істоце добрага, бясхітраснага чалавека: «Ідзі! Ідзі прэч, каб цябе не бачылі мае вочы!» і яго апошняе слова «Жыві!»* Колас. *Пераязджаючы пляц, мадам Гамрэкелі, не адварочваючыся да Сімона, тонам загаду сказала: — Каб яго мае вочы больш не бачылі! — Каго?.. — Гэтага вар'ята Гвацiя!* Самуйлёнак.

**КАЛОЦЬ ВОЧЫ** *каму*. Гл. калоць.

**КАЛОЦЬ У ВОЧЫ** *каму*. Гл. калоць.

**КІДАЦЦА РАП'ЁМ У ВОЧЫ** *каму*. Гл. кідацца.

**КІДАЦЦА Ў ВОЧЫ** *каму*. Гл. кідацца.

**КІДАЦЬ ВОЧЫ** *на каго, на што*. Гл. кідаць.

**КІДАЦЬ У ВОЧЫ** *каму, каго што*. Гл. кідаць.

**КОЛЕ ВОЧЫ**. Гл. коле.

*Ісці, пайсці* і пад. **КУ́ДЫ ВО́ЧЫ ВЯДУ́ЦЬ (ПАВЯДУ́ЦЬ)**. *Акал. Разм.* У няпэўным напрамку, не выбіраючы дарогі, абы-куды, невядома куды. **Сін.**: за вачыма *бегчы*; куды вочы глядзяць (у 1 знач.); куды ногі вядуць; куды ногі нясуць (у 1 знач.); у <белы, божы> свет (у 1 знач.); у <белы> свет як у капейку (у 1 знач.); у свет вочы. — *Куды ты, дзеўка? — толькі і спытаўся [Сямён]. — Не ведаю. Куды вочы вядуць.* Дайнека. *[Гапка:] Пойдзеш ты ў салдаты, я пакіну дом, сыду куды павядуць вочы.* Галубок.

*Ісці, пайсці* і пад. **КУДЫ́ ВО́ЧЫ ГЛЯДЗЯ́ЦЬ**. *Акал. Разм.* **1**. У няпэўным напрамку, не выбіраючы дарогі, абы-куды, невядома куды. **Сін.**: за вачыма *бегчы*, куды вочы вядуць; куды ногі вядуць; куды ногі нясуць (у 1 знач.); у <белы, божы> свет (у 1 знач.); у <белы> свет як у капейку (у 1 знач.); у свет вочы. — *Куды вы ідзяце? Скажыце праўду. —Куды вочы глядзяць, я ўжо сказаў вам.* Мурашка. *Не любіць [Ганна] Яўхіма. І ўсё ёй тут не люба. Вырвалася б з радасцю, пайшла б куды вочы глядзяць.* Мележ. — *Не ваш клопат! — рэзка абрывала Аня матку і ўцякала з хаты — куды вочы глядзяць: на гарод, у поле, да свайго лёну.* Васілевіч.

**2**. Адпаведна жаданням, куды захочацца, уздумаецца. **Сін.**: куды вочы нясуць; куды ногі нясуць (у 2 знач.); у <белы, божы> свет (у 2 знач.). *[Старац:] Мне ў маім жабрачым палажэнні ўсюды не кепска... Ідзі сабе куды вочы глядзяць, ані мяне хата свая затрымлівае, ані мяне радня звязвае, ані мяне зямелька свая к сабе цягне!..* Купала. *[Пан:] Дык пакіньце вы гэтую хату, пакіньце маю зямлю ды ідзіце сабе з богам, куды вочы глядзяць.* В.Вольскі. *Пішы, пакуль не позна, рапарт — і каціся куды вочы глядзяць...* Блакіт.

*Ісці, пайсці* і пад. **КУДЫ́ ВО́ЧЫ НЯСУ́ЦЬ (ПАНЯСУ́ЦЬ)**. *Акал. Разм.* Адпаведна жаданням, куды захочацца, куды ўздумаецца. Сін.: куды вочы глядзяць (у 2 знач.); куды ногі нясуць (у 2 знач.); у <белы, божы> свет (у 2 знач.). *У 1930 годзе Сяргей Крывец разам з братам пакінулі Дубна, пайшлі куды вочы нясуць.* Шырма. *[Пілін:] Нацешышся, налюбішся, як я буду нагамі адбівацца, а тады сабе пойдзеш куды вочы панясуць.* Радзевіч.

**ЛЕЗЦІ НА ВОЧЫ** *каму.* Гл. лезці.
**ЛЕЗЦІ СЛЯПІЦАЙ У ВОЧЫ** <*каму*>. Гл. лезці.
**ЛЕЗЦІ СМАЛОЙ У ВОЧЫ** *каму, да каго.* Гл. лезці.
**ЛЕЗЦІ Ў ВОЧЫ** *каму.* Гл. лезці.
**МАЗОЛІЦЬ ВОЧЫ** *каму.* Гл. мазоліць.
**МУЛЯЦЬ ВОЧЫ** *каму.* Гл. муляць.
*Глядзець, пазіраць* і пад. **НА (ВА) УСЕ́ ВО́ЧЫ**. *Акал. Разм.* Вельмі ўважліва, пільна, стараючыся нічога не прапусціць. **Сін.**: ва ўпор (у 1 знач.). *Грыневіч убачыў хлопчыка гадоў васьмі, сядзеў каля сасёнкі і на ўсе вочы глядзеў на яго, на новага чалавека.* Лобан. *Іван на ўсе вочы глядзеў на Федзю: жартуе ён ці ўсур'ёз гаворыць.* Кудравец. *Камандзір марудзіў, ва ўсе вочы ўзіраючыся праз дождж наперад, на мост.* Быкаў. *Ачмурэлы, я стаяў і ва ўсе вочы ўзіраўся на паненку. Убачыў нават сінія жылкі на ключыцы.* Карпюк.
**НАМАЗОЛІЦЬ ВОЧЫ** *каму.* Гл. намазоліць.
**НА СВАЕ́ <УЛА́СНЫЯ> ВО́ЧЫ; НА ЎЛА́СНЫЯ ВО́ЧЫ** *бачыць, (убачыць), пераконвацца (пераканацца), упэўнівацца (упэўніцца).* *Акал. Функц. не зам.* Непасрэдна сам, непасрэдна самому, без пасрэднікаў. **Сін.**: сваімі вачамі. *Усім хацелася на свае вочы бачыць, што робіцца, дзе каму які ўчастак адаб'юць.* Галавач. *Аўтар у гэтым не раз пераконваўся на свае вочы, не раз казалі яму пра гэта людзі, героі яго нявыдуманых апавяданняў.* Санько. *Што гэтая гаворка была патрэбная і карысная, мы пераканаліся на свае вочы.* Скрыган. *Можа, вы, Аркадзь Львовіч, пажадаеце на свае вочы ўпэўніцца?* Асіпенка. *А зараз, каб на свае вочы ўпэўніліся, што ўсё гэта — не сон, а самая што ні ёсць сапраўдная рэальнасць, я прадэманструю нашы навуковыя дасягненні.* Гігевіч. *Сілівон разам з іншымі калгаснікамі быў учора на бальшаку і на свае ўласныя вочы бачыў вялікі рух на дарозе.* Лынькоў. *Летась уначы, на тонях Нёмана, я на свае ўласныя вочы пераканаўся, як цяжка лавіць вугра...* Карамазаў. *Жукі гулялі як ніколі, і раз нават Марыся на ўласныя вочы бачыла карася.* Самуйлёнак. *Гулугай прысягае, што бачыў усё на ўласныя вочы.* Навуменка.
**НЕДЗЕ ВОЧЫ ДЗЯВАЦЬ** *каму.* Гл. недзе.
**НЕ ПУСКАЦЬ НА ВОЧЫ** *каго.* Гл. пускаць.
**НІЗКІ НА ВОЧЫ**. Гл. нізкі.
**НІ НА ВОЧЫ**. Гл. вока.
**ПАДЫМАЦЬ ВОЧЫ** *на каго, на што.* Гл. падымаць.
**ПАЗАЛІЦЬ ВОЧЫ**. Гл. пазаліваць.
**ПАКАЗВАЦЦА НА ВОЧЫ** *каму.* Гл. паказвацца.
**ПАПАДАЦЬ НА ВОЧЫ** *каму.* Гл. пападаць.
**ПАРОЦЬ ВОЧЫ** *каму.* Гл. пароць.
**ПАРОЦЬ У ВОЧЫ** *каму.* Гл. пароць.
**ПЛЮНУЦЬ У ВОЧЫ** *каму.* Гл. плюнуць.
**ПРАГЛЕДЗЕЦЬ <УСЕ> ВОЧЫ**. Гл. прагледзець.
**ПРАДЗІРАЦЬ ВОЧЫ**. Гл. прадзіраць.
**ПРАЦІРАЦЬ ВОЧЫ**. Гл. праціраць.
**ПУСКАННЕ ПЫЛУ Ў ВОЧЫ**. Гл. пусканне.
**ПУСКАЦЬ ПЫЛ У ВОЧЫ** *каму.* Гл. пускаць.
**ПЫЛ ПУСКАЕЦЦА Ў ВОЧЫ** *каму.* Гл. пыл.
**ПЫЛ У ВОЧЫ**. Гл. пыл.
**РАБІЦЬ ВЯЛІКІЯ ВОЧЫ**. Гл. рабіць.
**РАЗВЯЗВАЦЬ ВОЧЫ** *каму.* Гл. развязваць.

**РАЗУЙ ВОЧЫ**. Гл. разуй.
**РАСА ВОЧЫ ВЫЯДАЕ** *каму*. Гл. раса.
**РАСПЛЮШЧЫЦЬ ВОЧЫ** *каму на каго, на што. Зак. да* **РАСПЛЮШЧЫЦЬ ВОЧЫ** *каму на каго, на што.*
**РВЕ ВОЧЫ**. Гл. рве.
**РЭЖА ВОЧЫ** <*каму, чые, чым*>. Гл. рэжа.
**СЛЯПІЦЬ ВОЧЫ** *каму*. Гл. сляпіць.
**СОЛЬ У ВОЧЫ** *каму*. Гл. соль.
**СТАВІЦЬ КАЛОМ ВОЧЫ**. Гл. ставіць.
**<ТО́ЛЬКІ> АДНЫ́ ВО́ЧЫ ЗАСТАЛІ́СЯ** *ў каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. вельмі схуднеў. **Сін.**: <адны> скура ды косці засталіся *на кім, у каго, ад каго. «Як яна пахуднела», — падумаў Ігнась, седзячы з маткаю за мізэрным снеданнем... Сапраўды толькі вочы засталіся ў Агапы...* Мурашка. *[Бацьку] таксама з маёй хваробай хапіла, адны вочы засталіся.* Гігевіч.
**ТЫЦКАЦЬ У ВОЧЫ** *каму* <*кім, чым*>. Гл. тыцкаць.
**У ВО́ЧЫ** *казаць (сказаць), гаварыць, хваліць* і пад. *Акал. Разм.* Адкрыта і нічога не хаваючы, у прысутнасці каго-н. **Сін.**: адкрытым тэкстам; ва ўпор (у 2 знач.); вочы ў вочы (у 2 знач.); у адкрытую; у лоб (у 2 знач.); у твар *гаварыць*. **Ант.**: за вочы (у 1 знач.). *Шырокага лічылі іграком не зусім лаяльным, але аб гэтым яму ў вочы не казалі.* Колас. *І называлі ўсе яго і за вочы і ў вочы Міхаіл Іванавіч.* Крапіва. *Не буду хваліць у вочы. Гэта нікому не патрэбна. Важна, што пра вас самая чыстая ў нас думка.* Баранавых. *— Я, — кажа, — калі што на каго маю, у вочы выпалю.* Калюга. *[Альжбета:] Я люблю праўду ў вочы сказаць.* Козел.
**У ВО́ЧЫ** *не бачыць. Акал. Разм.* Зусім і ніколі (не бачыць каго-, што-н.). *Ото ж я і кажу... І бацькі не было, і маткі, сказаць, у вочы не бачыў...* Лынькоў. *Марына не ведае, колькі ў яе працадзён, яна кніжкі свае нават і ў вочы не бачыла.* Крапіва. *Гэта ж, мой божа, жывуць жа людзі век і ніколі грыба ў вочы не бачаць, ні ягады...* Васілевіч.
**У САБАКІ ВОЧЫ ПАЗЫЧЫЦЬ**. Гл. пазычаць.
**У СВЕТ ВОЧЫ**. Гл. свет.
**УСКІДВАЦЬ ВОЧЫ** *на каго*. Гл. ускідваць.
**УСКІДВАЦЬ НА ВОЧЫ** *каму*. Гл. ускідваць.
**ХАВАЦЬ ВОЧЫ**. Гл. хаваць.
**ХОЦЬ ТЫ Ў САБАКІ ВОЧЫ ПАЗЫЧ** *каму*. Гл. пазыч.
**ХРЭН У ВОЧЫ** *каму*. Гл. хрэн.

*ВОШ* • **СВАЯ́ ВО́Ш УКУ́СІЦЬ (УКУСІ́ЛА)** *каго. У безас. ужыв. Разм.* Каму-н. прыйдзецца непасрэдна самому сутыкнуцца з жыццёвымі клопатамі, адчуць жыццёвыя цяжкасці. **Сін.**: смажаны певень клюнуў <у зад> *каго, каму. — За бацькавай галавою ўсякі разумны. Нябось, як свая вош укусіць, то тады не будзе гэтакі разумны, — падтрымалі некаторыя Антося.* Крапіва. *Табе за бацькавай спінай добра «спасацца», а пачакай толькі, хай свая вош укусіць.* Брыль. *Кажуць, чалавек адразу сталее, як «свая вош укусіць», сваё кубло завядзецца...* Місько. *«Э-э! — думае Алтар, адагнаўшы трывогу, — нічога! Няхай вучыцца. Ён яшчэ малады. Свая вош яшчэ не ўкусіла. Пасталее — паразумнее».* Чарнышэвіч. *А цябе яшчэ як мае быць не ўкусіла свая вош, ты яшчэ жывеш кнігамі...* Арабей.
**ЯК ВО́Ш НА СТРУ́П** *лезці. Акал. Праст.* Настырна, назойліва. *Сам дык аж з скуры вылазіш, каб самому за Няхлебіча стаць, адно каб не раскулачылі... Як вош на струп ле-*

*зеш, каб аднаго сапхнуць ды каб самому сесці.* Чорны. *Во, яшчэ ў суддзі Прымачаку і Дзямідчыка не хапае — мала што начальства капае, а ён на кожнай нарадзе лезе як вош на струп са сваімі павучаннямі.* А.Жук.

*ВОШАЙ* • **КАРМІЦЬ ВОШАЙ** *дзе.* Гл. карміць.

*ВОШЫ* • **ГАЛАВА НЕ НА ВОШЫ** *у каго.* Гл. галава.

*ВУГАЛ* • **НЕПАЧАТЫ ВУГАЛ** *чаго.* Гл. край.

*ВУГЛА* • **З-ЗА ВУГЛА́** нападаць, шкодзіць і пад. *Акал. Разм.* Вераломна, спадцішка, без папярэджання. — *Значыцца, я цябе нарадзіў — я цябе і заб'ю? Так? — пахмурнее Платон Назаравіч. — І не ў адкрытым баі. З-за вугла.* Шамякін. *Баяцца [душманы] ужо ўступаць у адкрыты бой, а вось шкодзіць з-за вугла яшчэ працягваюць.* «Звязда».

*ВУГЛОМ* • **ЗА ВУГЛО́М; ЗА ВУГЛА́МІ.** *Акал. Разм. Неадабр.* Употай, скрытна, каб ніхто не чуў, не бачыў, не ведаў (гаварыць, пляткарыць і пад.). *Гаварыць за вуглом непрыстойна. Гаварыць трэба ў вочы. Пляткарства псуе людзей, крытыка ў вочы лечыць і згуртоўвае.* Ермаловіч. *Маўляў, чаго там, я ж такі, як і вы: выпіць за вуглом магу і брыдкасловіць.* «Звязда». *І хоць гаварылі пра Рудзіна living рознае за вугламі, у вочы паважалі яго.* Галавач.

*ВУГЛЫ* • **ВО́СТРЫЯ ВУГЛЫ́.** *Адз. не ўжыв. Дзейн. і дап. Функц. не зам.* Рэзкія бакі чаго-н.; тое, што выклікае рознагалоссі і супярэчнасці. *Прымаецца на выканкоме рашэнне, і трэба пракантраляваць, як яно выконваецца, Голуба там рэдка ўбачыш. Вострыя вуглы не па ім, абыходзіў ён вострыя вуглы.* Ярашэвіч. *Аўтар не абыходзіць вострых вуглоў, нявырашаных праблем творчага працэсу.* «ЛіМ».

**ЗГЛАДЖВАЦЬ ВОСТРЫЯ ВУГЛЫ.** Гл. згладжваць.

**ПАДПІРАЦЬ ВУГЛЫ.** Гл. падпіраць.

*ВУГОЛЛІ* • Сядзець, стаяць і пад. **ЯК (НІБЫ́) НА <ГАРА́ЧЫМ> ВУГО́ЛЛІ.** *Вык. ці акал.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У стане крайняга хвалявання, неспакою, трывогі і пад. **Сін.**: як на іголках; як на шыле. *На другі і на трэці дзень Вера таксама сядзела дома як на гарачым вуголлі.* Сабаленка. *Увесь апошні дзень Сцяпан правёў як на гарачым вуголлі і, можа, дарэмна не ўстрымаўся, даў волю нервам.* Карамазаў. *Пакуль немец разглядаў маё ліпавае пасведчанне, я стаяў нібы на гарачым вуголлі...* Левановіч. *Становішча мяняецца не штосуткі, а штогадзіны. Я сам сяджу як на вуголлі, чакаючы загаду здымацца адсюль...* Хадкевіч. *Сядзелі як на вуголлі, бо ў любы момант сюды маглі ўварвацца фашысты.* Новікаў.

*ВУГОЛЬЧЫКАМІ* • **НА ТЫМ СВЕЦЕ ВУГОЛЬЧЫКАМІ.** Гл. свеце.

*ВУДАЧКІ* • **ЗМОТВАЦЬ ВУДАЧКІ.** Гл. змотваць.

*ВУДАЧКУ* • **БРАЦЬ НА ВУДАЧКУ** *каго.* Гл. браць.

**ЗАКІДАЦЬ ВУДАЧКУ.** Гл. закідаць.

**ЗЛАВІЦЬ НА ВУДАЧКУ** *каго.* Гл. падчапіць.

**ІСЦІ НА ВУДАЧКУ** *чыю, каго.* Гл. ісці.

**КЛЮНУЦЬ НА ВУДАЧКУ.** Гл. клюнуць.

**ПАДДАВАЦЦА НА ВУДАЧКУ** *каго, чыю, каму.* Гл. паддавацца.

**ПАДЧАПІЦЬ НА ВУДАЧКУ** *каго.* Гл. падчапіць.

**ПАПАДАЦЬ НА ВУДАЧКУ** *каму, чыю, да каго.* Гл. пападаць.

*ВУДЗІЦЬ* • **ВУ́ДЗІЦЬ (ЛАВІ́ЦЬ) АКУНЁЎ (РЫ́БУ).** *Незак. Разм. Жарт.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Драмаць седзячы. **Сін.**: вадзіць дзяды; кляваць носам; табаку важыць. *Ля парку Горкага сышла адна пара, ля кінатэатра «Мір» — другая, п'янаваты дзядзька, што ўсю дарогу вудзіў акунёў, — на Камароўцы.* Блакіт. *[Пётр:] Я сёння спаць не буду! [Прося:] А заўтра будзеш акунёў лавіць і блытаць літары, а Товій будзе цябе шчаўчком па носе...* Клімковіч. *Антось сядзеў або сланяўся, балелі ногі, унікла сіла, а спаць так моцненька кланіла! — Ну, што, Антоні, рыбу вудзіш? Заснеш, брат, потым і не ўзбудзіш.* Колас.

*ВУДУ* • **ЗАКІДАЦЬ ВУДУ.** Гл. закідаць. **КЛЮНУЦЬ НА ВУДУ.** Гл. клюнуць. **ПАПАДАЦЬ НА ВУДУ** *каму, чыю, да каго.* Гл. пападаць.

*ВУДЫ* • **ЗМОТВАЦЬ ВУДЫ.** Гл. змотваць.

*ВУЖ* • **ВУ́Ж ГАЛАВЫ́ НЕ ЎТКНЕ́ (НЕ ЎТО́ЧЫЦЬ, НЕ ЎСУ́НЕ).** *Абл. Акал. Разм.* Занадта густа. Пра густа пароcлыя дрэвы, кусты, травы. *Пры спадзе груда густа, вуж галавы не ўткне, цямнеў малады, спярэшчаны жаўтлявай яснасцю шапаткога бярэзніку нізкі хвойнік.* «Полымя». *[Імполь азіраў] зверху да долу густа, вуж галавы не ўточыць, абвіты дзікім вінаградам голы.. сасновы камень.* Адамчык.

**ЯК ВУЖ НА <ГАРАЧАЙ> ПАТЭЛЬНІ.** Гл. уюн.

*ВУЖАМ* • **ЗВІВАЦЦА ВУЖАМ.** Гл. звівацца.

*ВУЗАМІ* • **ЗВЯЗВАЦЬ СЯБЕ ВУЗАМІ ГІМЕНЕЯ.** Гл. звязваць.

*ВУЗЕЛ* • **ВУ́ЗЕЛ (ВУЗЕ́ЛЬЧЫК) РАЗВЯ́ЗВАЕЦЦА (РАЗБЛЫ́ТВАЕЦЦА, РАЗВЯЗА́ЎСЯ, РАЗБЛЫ́ТАЎСЯ, РАЗВЯ́ЖАЦЦА, РАЗБЛЫ́ТАЕЦЦА).** *У безас. ужыв. Разм.* Вырашаецца што-н. складанае, заблытанае. **Сін.**: клубок разблытваецца. *Мне здаецца, трэба спачатку браць прасцейшыя рэчы, але з тых, што вырашаюць асноўную задачу... А там, заўтра, і ўвесь вузел развяжацца.* Грамовіч. *[Мікола:] Я зусім і не Мікола, імя і прозвішча маё зусім другое!.. [Ахрэм:] Вось калі вузельчык развязаўся!..* Галубок. *Каваль убачыў, што вузел пачаў разблытвацца, і яму ясна стала: не трэба нічога гаварыць, маўчанкаю можна цяпер ужо браць.* Чорны. *На пасяджэнні тройкі былі сабраны ўсе грахі Вадалея. Разблытваўся і вузел з Казючком, якога Вадалей сапраўды пасылаў з лістоўкамі ў пастарунак.* Пестрак.

**ГО́РДЗІЕЎ ВУ́ЗЕЛ.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Заблытаная справа, складаныя абставіны. *Заняты Верай, Максім не думаў пра свой «гордзіеў вузел», які наўрад ці ўдасца развязаць, прыйдзецца секчы.* Шамякін. *Не ўсё ясна і з дрэнажом. Дрэнаж — гордзіеў вузел меліярацыі...* Дуброўскі. *На жыццёвым шляху кожнага чалавека трапляюцца свае гордзіевы вузлы.* Карпюк.

**З ВУ́ЗЕЛ.** *Азн. і вык. Разм.* Ужыв. пры наз. са знач. асобы. Вельмі малы. **Сін.**: ад гаршка паўвяршка; ад зямлі не адрос; аршын з шапкай; жабе па калена; кату па пяту; пад стол пяшком хадзіць. **Ант.**: з каломенскую вярсту; хоць сабак вешай *на кім. Вось глядзі — музыка новы і які яшчэ скрыпач! Спрытны, здатны, адмысловы; з вузел сам, а ўжо пабач!..* Колас. *І я, маладзіца, бачыў. З вузел той хлапчук. Трынаццаць гадкоў.* Янкоўскі.

**РАЗВЯЗВАЦЬ ВУЗЕЛ.** Гл. развязваць.

**СЕКЧЫ ГОРДЗІЕЎ ВУЗЕЛ** <*чаго*>. Гл. секчы.

*ВУЗЕЛЬЧЫК* • **ВУЗЕЛЬЧЫК РАЗВЯЗВАЕЦЦА.** Гл. вузел.

*ВУЗКАЕ* • **ВУЗКАЕ МЕСЦА** <*дзе, у каго*>. Гл. месца.

*ВУЗКАЙ* • **СУСТРАКАЦЦА НА ВУЗКАЙ ДАРОЖЦЫ** *з кім*. Гл. сустракацца.

*ВУЗЯЛОК* • **ЗАВЯЗВАЦЬ ВУЗЯЛОК**. Гл. завязваць.

*ВУЛІЦА* • **ЗЯЛЁНАЯ ВУ́ЛІЦА**[1]. *Мн. не ўжыв. Часцей у ролі дап. пры дзеясл.* даваць (даць). *Функц. не зам.* Свабодны шлях, без перашкод і затрымак. **Сін.**: зялёнае святло. *Самыя прыдзірлівыя рэдактары, літаратурныя сакратары, стылісты артыкулам Юрыя давалі зялёную вуліцу.* Мяжэвіч. *Смяльчак ён усе-такі, сабака гэты, не пабаяўся, дарма што і пры зброі я. Асцярожна абнюхаў мяне, вільнуў хвастом і саступіў убок. Я правільна яго зразумеў: даў госцю зялёную вуліцу.* Масарэнка.

**ЗЯЛЁНАЯ ВУ́ЛІЦА**[2]. *Мн. не ўжыв. Устар. У ролі розных чл. ск. Разм.* Строй салдат са шпіцрутэнамі. *Сын бітага, хвастанага бацькі, чалавек, дзіцячым светам якога была казарма, а разважаю — дні, калі збеглых праганялі праз зялёную вуліцу, ён прагнуў кар'еры як адзінага сродку пазбавіцца ад навакольных жахаў, ад зубатычын, ад стаяння з цагельнай выкладкай пад ружжом.* Караткевіч.

*ВУЛІЦУ* • **ВЫКІДВАЦЬ НА ВУЛІЦУ** *каго*. Гл. выкідваць.

*ВУЛІЦЫ* • **З ВУ́ЛІЦЫ**. *Азн. Разм.* Выпадковы, зусім невядомы. Пра чалавека. *Што датычыць донараў добраахвотных, бясплатных, як мы іх часта называем, то тут кантроль таксама сур'ёзны. Па-першае, чалавек, як кажуць, з вуліцы не можа прыйсці і сказаць: хачу здаць кроў. У яго яе не возьмуць.* «Звязда». — *У мяне да вас чалавечая просьба: не гаварыце пры жонцы аб сваіх дзікіх падазрэннях. Уяўляеце, якая гэта для яе траўма?.. — У булачную не пойдзем. У офіс. — І зноў возьмеце панятых? Каго? З вуліцы. Хто мне будзе плаціць за маральную страту?* Шамякін.

**НА ВУ́ЛІЦЫ** <u>апынуцца, аказацца, быць</u> і пад. *Акал. Функц. не зам.* **1**. Без жылля. — *Божа мой, чалавек ужо трэці тыдзень на вуліцы! І маўчыць, нічога не кажа, голасу не падае... — Ды я не на вуліцы. У свайго сябра, у аспіранцкім інтэрнаце. Яшчэ які тыдзень магу там пажыць.* Дамашэвіч.

**2**. Без работы і сродкаў існавання. *Месяцы праз два муж Надзеі апынуўся на вуліцы. Ён працаваў потым кандуктарам трамвая, грузчыкам, афіцыянтам.* Васілёнак. *Адзін былы белагвардзеец данёс уладальніку дэпо. Маўляў, я чырвоны агітатар, бунтар. І я апынуўся на вуліцы.* Леванові́ч.

**НА ВУЛІЦЫ НЕ ВАЛЯЕЦЦА**. Гл. валяецца.

**НЕ НА ТО́Й ВУ́ЛІЦЫ** <u>жыць</u>. *Акал. Функц. не зам.* Не так, як трэба. *[М.Горкі] паказаў Булычова, які, нарэшце, зразумеў, што яму з гэтай поганню не па дарозе, што ён доўга-доўга жыў «не на той вуліцы».* «ЛіМ».

**СВЯТА НА ВУЛІЦЫ** *чыёй*. Гл. свята.

*ВУЛКАНЕ* • **ЯК НА ВУЛКА́НЕ**. *Вык. ці азн. Разм.* Часцей ужыв. пры словах *жыць, жыццё*. У пастаянным чаканні якіх-н. непрыемнасцей. *У рэдакцыі кожны дзень чакай непрыемнасцей: то недагледзелі пасля машыністкі нейкую лічбу, то не тую літару паставілі ў прозвішчы, то пакрытыкавалі не таго, каго трэба — ды хібы ўсё пералічыш! Жыццё — як на вулкане.* Блакіт.

*ВУНЬ* • **ВУНЬ <ЯНО> ШТО**! Гл. вось.

**ВУНЬ <ЯНО> ЯК**! Гл. вось.

*ВУС* • **<І> У ВУС <САБЕ> НЕ ДЗЬМУЦЬ**. Гл. дзьмуць.

**МАТАЦЬ <САБЕ> НА ВУС** *што*. Гл. матаць.

**У ВУ́С (-Ы)** <u>смяяцца, пасміхацца</u> і пад. *Акал. Разм.* Ціха і непрыкметна. **Сін.**: у бараду; у кулак; у рукаў. *Адны ходзяць ды ў вус пасміхаюцца: заядла штосьці адразу моладзь узяла-*

*ся, глядзі, каб назаўтра ж не астыла. Другія проста не даюць веры, каб можна было на работу столькі народу паставіць.* Колас. *Рабочыя прыглядаліся здалёк да абезгалоўленага бронецягніка, пасмейваліся ў вусы.* Лынькоў. *І тут Іван усміхнуўся ў вус ужо ад пачуцця ўласнай годнасці.* Пестрак.

*ВУСАМІ* • **САМІ З ВУСАМІ**. Гл. самі.

*ВУСНАМІ* • **ВАШЫМІ ВУСНАМІ МЁД ПІЦЬ**! Гл. піць.

*ВУСНАЎ* • **З ВУ́СНАЎ** *каго, чыіх. Дап. Функц. не зам.* Ад каго-н. (пачуць, даведацца і пад.). *Пачутае з вуснаў камісара ўзрадавала і адначасова спалохала Арсеня.* Хадкевіч. *Смех, жарты, вясёлыя пажаданні так і сыпаліся, так і іскрыліся з вуснаў кожнага.* Васілевіч. *Балюча было тое чуць Гілене. Каб жа хоць сам [муж] пісьмо напісаў, сам пра ўсё расказаў, а то — з чужых вуснаў, з тых пісьмаў, што да Васіля прыходзілі.* Гіль.

**З ВУ́СНАЎ У ВУ́СНЫ** *перадаваць, перадавацца. Акал. Функц. не зам.* У вуснай форме, ад аднаго да другога (перадаваць навіны, чуткі і пад.). *«Яна была ў партызанах!» — з вуснаў у вусны перадавалі падрабязнасці хлапчукі.* Карпюк. *Толькі паданне пра цудадзейную сякеру, а разам з паданнем і заклінанне Рохі знайсці яе перадавалася з вуснаў у вусны, з пакалення ў пакаленне.* Лобан.

**З ДРУГІ́Х (ТРЭ́ЦІХ) ВУ́СНАЎ** *чуць, слухаць, даведвацца* і пад. *Акал. Функц. не зам.* Праз пасрэднікаў, не непасрэдна. **Сін.**: з другіх рук (у 1 знач.). **Ант.**: з першых вуснаў; з першых рук (у 1 знач.). *Жанчыне хацелася паслухаць сынавы і нявестчыны словы з другіх вуснаў.* Паўлаў. *«Мікалай Іванавіч сказаў» — было для нас найвышэйшым загадам, нават калі гэты загад мы атрымлівалі з трэціх вуснаў.* Радкевіч.

**З ПЕ́РШЫХ ВУ́СНАЎ** *чуць, даведвацца* і пад. *Акал. Функц. не зам.* Непасрэдна ад сведкі, відавочніка, удзельніка; з самых дакладных крыніц. **Сін.**: з першых рук (у 1 знач.). **Ант.**: з другіх вуснаў. *[Скробат:] Я хачу сам сустрэцца з людзьмі. Хачу, каб людзі з першых вуснаў пачулі пра тыя задачы, якія Цэнтральны Камітэт ставіць перад партызанамі.* Крапіва. *Фёдар Мікалаевіч атрымліваў інфармацыю ад высокага начальства сам-насам, «з першых вуснаў».* «Полымя».

**ЗРЫВАЦЦА З ВУСНАЎ** *чыіх, каго.* Гл. зрывацца.

**НЕ СХОДЗІЦЬ З ВУСНАЎ** *чыіх, каго.* Гл. сходзіць.

*ВУСНАХ* • **З ПЕНАЙ НА ВУСНАХ**. Гл. пенай.

**НА ВУ́СНАХ** *у каго, каго. Вык. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Пастаянна паўтарацца кім-н., абмяркоўвацца і пад. **Сін.**: на языку *ў каго* (у 2 знач.). *Мінае ўжо два гады ад таго часу, як няма Малашкіна, а ён яшчэ ўсё на вуснах у людзей.* Пестрак. *Блакада! Цяпер ужо гэтае слова было на вуснах усіх, хто яшчэ знаходзіўся ў лагеры.* Няхай.

**НА ВУСНАХ МЁД, А НА СЭРЦЫ ЛЁД** *у каго.* Гл. мёд.

**У ВУ́СНАХ** *каго, чыіх. Дап. Функц. не зам.* У чыім-н. маўленні. — *Я не каменны! — гаварыў [Мяфодзій Паўлавіч]. Аднак гэтыя словы ў яго вуснах мелі рознае адценне.* Чарнышэвіч. *Наогул словы «тут будзе» вельмі часта гучаць у вуснах будаўнікоў Бярозаўскай ДРЭС, бо ўсё — у будучым.* Дадзіёмаў.

*ВУСНЫ* • **З ВУСНАЎ У ВУСНЫ**. Гл. вуснаў.

**УКЛАДВАЦЦА Ў ВУСНЫ** *каго, чые, каму.* Гл. укладвацца.

**УКЛАДВАЦЬ У ВУСНЫ** *каго, чые, каму што.* Гл. укладваць.

*ВУХА* • **ВАСТРЫЦЬ ВУХА**. Гл. вастрыць.

**ВУ́ХА НА ВУ́ХА.** *Акал. Праст.* Без даплаты, без прыдачы (мяняць, абменьваць і пад.). **Сін.**: баш на баш; кон на кон; так на так (у 1 знач.). *Мірошнікаў вельмі хутка пераканаў Пруцікава, што з выканкомам ён дамовіўся і ад Грышкі хоча толькі аднаго — каб ён.. дабром прывеціў гасцей, і ўжо толькі за гэта ён, Мірошнікаў, будзе яму вельмі «благадарным» і не паскупіцца на бочкі: як кажуць, вуха на вуха.* Рубанаў.

**ДАВІЦЬ ВУХА.** Гл. давіць.

**З ВУ́ХА НА ВУ́ХА** *гаварыць, перадаваць. Акал. Разм.* **1.** Шэптам, пад сакрэтам. **Сін.**: з вуха ў вуха; на вуха. *Ніхто вельмі нікому не верыў, гаварылі найбольш пошапкам, з вуха на вуха.* Сачанка. *З вуха на вуха перадавалі гараджане легенду пра герояў-танкістаў.* Новікаў.

**2.** Ад аднаго да другога. *Каманду трэба было перадаваць з вуха на вуха, бо слова знікала, глухла ў вялікіх грымотах, ад якіх злёгку дрыжала зямля.* Лынькоў.

**З ВУ́ХА Ў ВУ́ХА** *гаварыць, перадаваць, распаўсюджваць. Акал. Разм.* Шэптам, пад сакрэтам. **Сін.**: з вуха на вуха (у 1 знач.); на вуха. *«Сакрэтнае» гаварылася толькі з вуха ў вуха, з абавязковым заканчэннем: «Ты ж глядзі, кумка, нікому ў вушы не ўводзь што я сказала...»* Гігевіч. *Па сакрэту, з вуха ў вуха, шаптуны з таемнай мінай, як заразу тую мухі, распаўсюджваюць «навіны».* Скрыпка. *Польскія газеты маўчаць, быццам нічога новага не здарылася. А з вуха ў вуха перадаюць свежыя весткі: Глыбокае ўжо вызвалена, назаўтра — Докшыцы, Лепель...* Мядзёлка.

**КРАЕМ ВУХА.** Гл. краем.

**МЯДЗВЕ́ДЖАЕ ВУ́ХА (МЯДЗВЕ́ДЖЫЯ ВУ́ШКІ).** *Часцей дзейн. і дап. Разм.* Вечназялёная паўзучая расліна сямейства верасковых з бела-ружовымі кветкамі і чырвонымі ягадамі; талакнянка (Arctostaphylos Adans). *Паблізу раслі смолкі, мядзведжае вуха, дзікі кроп.* Даніленка.

**МЯДЗВЕДЗЬ НА ВУХА НАСТУПІЎ** *каму.* Гл. мядзведзь.

**НАВАСТРЫЦЬ ВУХА.** Гл. навастрыць.

**НА ВУ́ХА** *гаварыць, сказаць, шаптаць* і пад. *Акал. Разм.* Пад сакрэтам, ціха, каб ніхто не чуў. **Сін.**: з вуха на вуха (у 1 знач.); з вуха ў вуха. *[Пятрок] сябру прызнаваўся на вуха, што ёсць у яго пісталет.* Колас. *Суседзі-паны шапталі пану Вашамірскаму на вуха, што аканом купіў маёнтак за грошы, пакрадзеныя з гэтага ж маёнтка...* Бядуля. *Свякроў зноў пачала бубніць нешта старому на вуха і бубніла аж за поўнач, а ён усё маўчаў і час-часам уздыхаў.* Крапіва.

**НА ПАЛОВУ ВУХА** *слухаць.* Гл. палову.

**НІ ВУ́ХА НІ РЫ́ЛА** *не разумець, не ведаць* і пад. *Акал. ці ў знач. вык. (пры апушчаным дзеясл). Праст. Неадабр.* Зусім нічога. **Сін.**: ні а ні бэ; ні бельмеса; ні бум-бум; ні бэ ні мэ <ні кукарэку>; ні бэ ні мя; ні ў зуб <нагой>; ні цэ ні бэ. *Пятро зразумеў, што капітан у гісторыі, як кажуць, ні вуха ні рыла. Вось тут бы і паказаць яго невуцтва перад усімі гэтымі людзьмі.* Шамякін.

**РЭЖА ВУХА.** Гл. рэжа.

**СВІНО́Е ВУ́ХА.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм. Іран.* Рэпрадуктар вулічны, а таксама пакаёвы (радыёкропка). *Раптам [на чыгуначным вакзале] са свінога вуха, серабрыстага рэпрадуктара, ударыла па вушах: — Сто шосты... Сто шосты... Колькі табе паўтараць, сабака, гані на цукровы!..* «Нар. газ.»

**ТРЫМАЦЬ ВУХА ВОСТРА.** Гл. трымаць.

**ТУГАВАТЫ НА ВУХА.** Гл. тугаваты.

**ТУГІ НА ВУХА.** Гл. тугі.

**У АДНО ВУХА ЎЛЯТАЕ, А Ў ДРУГОЕ ВЫЛЯТАЕ** *<у каго, каму>.* Гл. улятае.

**ХОЦЬ У ВУХА КЛАДЗІ** *каго.* Гл. кладзі.
**ШАЛЁНАЯ МУХА ЎКУСІЛА <ЗА ВУХА>** *каго.* Гл. муха.

*ВУХАМ* • **АДНЫ́М ВУ́ХАМ**. *Акал. Разм.* **1.** Няўважліва, урыўкамі (слухаць што-н. пры занятасці іншай справай). **Сін.**: краем вуха (у 1 знач.); на палову вуха. *Вольга слухала адным вухам. Яна думала пра свой план.* Шамякін. *Бубновіч адным вухам слухала гэтыя перашэпты...* Карпюк.
**2.** Крыху, мімаходам (чуць пра што-, каго-н.). **Сін.**: краем вуха (у 2 знач.). — *Вось, як чую тут адным вухам, нехта там кажа, што савецкая ўлада вас на пасёлкі гоніць, — падхапіў рэпліку сакратар. — Ці праўда гэта?* Крапіва.
**І ВУХАМ НЕ ВЕСЦІ**. Гл. весці.
**НАД <СА́МЫМ> ВУ́ХАМ** <*чыім*> *гусці, крычаць, гаварыць* і пад. *Акал. Разм.* У непасрэднай блізкасці ад каго-н. *І не заўважыў Міколка, як над самым яго вухам грымнуў незвычайны стрэл.* Лынькоў. *[Каравай:] Слухай, стары, надакучыў ты мне. Гудзеш над вухам, як камар.* Макаёнак. *Сеў палуднаваць Хвядос. Тут над вухам калі гаркне, аж ён лыжкі не данёс, у прыладу ўпяўшы вочы.* Крапіва.

*ВУХІ* • **ГАЛАВА <І> ДВА ВУХІ**. Гл. галава.

*ВУХУ* • *Ціха, ціхі* **ЯК У ВУ́ХУ**. *Акал. Разм.* Выключна, вельмі. *У лесе было ціха як у вуху.* Лобан. *Сцяпан асцярожна, каб не разбудзіць Юрку, залез пад коўдру і лёг на спіну. Было ціха як у вуху.* Гіль.

*ВУШАМ* • **НЕ ВЕРЫЦЬ <СВАІМ> ВУШАМ**. Гл. верыць.
**НЕ ДАВАЦЬ ВЕРЫ СВАІМ ВУШАМ**. Гл. даваць.

*ВУШАМІ* • **АЖ ЗА ВУШАМІ ТРАШЧЫЦЬ**. Гл. трашчыць.
**СВАІ́МІ (УЛА́СНЫМІ) ВУША́МІ** *чуць (пачуць). Акал. Функц. не зам.* Непасрэдна сам, без пасрэднікаў. **Сін.**: на свае вушы. *Фурс гэта ведаў. Чуў сваімі вушамі, як чытаў Рытвінскі Барнявіцкаму прыгавор.* Баранавых. *Цяпер то я ведаю, што Яська напісаў, але хочацца пачуць гэта сваімі вушамі.* Якімовіч. *Антон часта ўжо думаў аб гэтым. А цяпер вось сваімі вушамі пачуў — з калгаса яго выключылі.* Ракітны. *Вы паверце, — чуў уласнымі вушамі я, — пакуль з'елі таго вераб'я, сорак бочак піва выпілі, сорак шыбак выбілі...* Зарыцкі.
**СТАЯЦЬ НА ВУШАХ**. Гл. стаяць.
**СТРЫГЧЫ ВУШАМІ**. Гл. стрыгчы.
**ХЛОПАЦЬ ВУШАМІ**. Гл. хлопаць.
**ЯЗЫК ПА-ЗА ВУШАМІ ХОДЗІЦЬ** *у каго.* Гл. язык.

*ВУШАХ* • **ГУЧАЦЬ У ВУШАХ** *чыіх, у каго.* Гл. гучаць.
**ЗВІНЕЦЬ У ВУШАХ**. Гл. звінець.
**НА ВУША́Х** *ісці, прыходзіць* і пад. *Акал. Праст. Іран.* У стане моцнага ап'янення. **Сін.**: на брывах; на падпітку; на ўзводзе; пад газам; пад градусам; пад мухай; пад хмяльком; пад чаркай; пад шафэ. *Гэтым разам падпітак сярэдні, і з Генкам можна гаварыць, бо калі прыходзіў на вушах, то, акрамя лаянкі, ад яго нічога не дачакаешся, чалавечыя словы да яго не даходзяць.* Арабей. *Скупымі і кепскімі ён лічыў тых, што ставілі мала. Шчодрымі і добрымі тых, ад каторых ішоў на вушах.* «Полымя».
**СТАЯЦЬ У ВУШАХ** *чыіх, у каго.* Гл. стаяць.

*ВУШКА* • **ЗА ВУ́ШКА ДЫ НА СО́НЕЙКА** *каго. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Распраўляцца з кім-н., выкрываць, прыцягваць да адказнасці. **Сін.**: выварочваць навыварат *каго, што*; выводзіць на белы свет *каго, што*; выводзіць на чыстую ваду *каго,*

*што*; зрываць маску *з каго. [Гарлахвацкі:] Калі ён сапраўдны вораг, дык праўвеца, — быць не можа. [Левановіч:] А мы яго, шэльму, за вушка ды на сонейка!* Крапіва. *Варта, мабыць, хоць зрэдку час ад часу ўспамінаць і тых, хто вылузваўся са скуры, каб даказаць, што чорнае — не чорнае, а белае — не белае. Як кажуць, за вушка іх ды на сонейка.* Сачанка.

*ВУШЫ* • **АБ'ЯДАЦЬ ВУШЫ** *каму*. Гл. аб'ядаць.

**АПУСКАЦЬ ВУШЫ**. Гл. апускаць.

*Слухаць* **ВА (НА) ЎСЕ́ ВУ́ШЫ**. *Акал. Разм.* Вельмі ўважліва, не прапускаючы ні аднаго слова, гука і пад. *Дзяўчаты ва ўсе вушы слухалі [Алаізу].* Арабей. *Значыць, з заўтрашняга дня вы ўжо вартаўнік. Ва ўсе вочы глядзіце, ва ўсе вушы слухайце.* Парахневіч. *Мы чулі ўсё і слухалі на ўсе вушы, але пакольні гаворка нас не тычылася, то і словы іх у адно вуха ўляталі, з другога вылятал.* Казько.

**ВАСТРЫЦЬ ВУШЫ**. Гл. вастрыць.

**ВЕШАЦЬ ЛАПШУ <НА ВУШЫ>** *каму*. Гл. вешаць.

**ВУ́ШЫ ВЯ́НУЦЬ** *<у каго, ад чаго>. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Прыкра, непрыемна слухаць што-н. (недарэчнае, непрыстойнае і пад.). *А сам [Рыгор] як пачне хлусіць, дык хто слухае, дык аж вушы вянуць.* Чорны. *Першы раз у жыцці Марыся пачула словы, ад якіх вянуць вушы.* Баранавых. *Паслухаеш [музыкаў] — вушы вянуць: хто ў лес, а хто па дровы.* Вітка.

**ВУ́ШЫ ПУ́ХНУЦЬ (ПУ́ХЛІ, АПУ́ХЛІ, ПАПУ́ХЛІ)** *у каго. У безас. ужыв. Праст.* Каму-н. вельмі хочацца курыць. *Смактануў бы цыгарку і капаў бы далей траншэю. Ды ў каго закурыш? Тут, мабыць, ужо не ў аднаго курца пухлі вушы.* Гроднеў. *Мабыць, ты, Барада, на закурку багаты?.. А то два дні не курыў — вушы апухлі.* Быкаў. *Я.. папрасіў дазволу закурыць, бо «аж вушы ў мяне ад жадання папухлі», раскрыў пачак.* Караткевіч.

*Слухаць* **ВУШЫ РАЗВЕСІЎШЫ**. Гл. развесіўшы.

**ЗА ВУШЫ НЕ АДЦЯГНЕШ**. Гл. адцягнеш.

**КАБ** *чые* **СЛОВЫ ДЫ БОГУ Ў ВУШЫ**. Гл. словы.

**МАЗОЛІЦЬ ВУШЫ** *каму, чые*. Гл. мазоліць.

**НАВАСТРЫЦЬ ВУШЫ**. Гл. навастрыць.

**НАВЕШВАННЕ ЛАПШЫ НА ВУШЫ** *каму*. Гл. навешванне.

**НА СВАЕ́ ВУ́ШЫ** *чуць (пачуць). Акал. Функц. не зам.* Непасрэдна сам, непасрэдна самому, без пасрэднікаў. **Сін.**: сваімі вушамі. *Я на свае вушы чуў, якія гэта былі авансы з мастком і псіхіятрам.* Караткевіч. *Дык жа праўда. Я ж на свае вушы чуў, як абвяшчалі ў воласці.* Галавач. *Вельмі ж хацелася Трахіму на свае вушы пачуць.* Калюга.

**НАСТАВІЦЬ ВУШЫ**. Гл. наставіць.

**НАСТАЎЛЯЦЬ ВУШЫ**. Гл. настаўляць.

**НАТАПЫРВАЦЬ ВУШЫ**. Гл. натапырваць.

**ПА ВУ́ШЫ** *ў даўгу, залезці (улезці) у даўгі. Акал. Разм.* Звыш усякай меры. **Сін.**: як у шаўку. — *А дзе яно, тое ў нас купіла?.. Усё, што ёсць, яму аддаць трэба. — [Самусевіч] даволі непрыязна глянуў на Алеся. — І яшчэ па вушы ў даўгу будзем!..* Броўка. *Ксёндз.. ухмыльнуўся: «Яшчэ толькі пачаўся калгас, і ўжо ў даўгу па вушы... І чым вы аддасце гэты доўг?»* Чарнышэвіч. *Калі б Слава і Аліна самі наладзілі такое пышнае застолле, яны залезлі б у даўгі па вушы.* Хадкевіч. *Зямля тут навокал — надзвычайная. Але да рэвалюцыі яна належала збяднеламу пану, які праз карты думаў збагацець і яшчэ больш улез у даўгі па вушы і церабіўся як мог.* Чорны.

**ПА <СА́МЫЯ> ВУ́ШЫ**. *Разм.* **1.** *Акал.* Вельмі моцна, зусім, наскрозь (вымачыцца, намокнуць, забрудзіцца і пад.). **Сін.**: да <апошняй> ніткі; да касцей; да мозгу касцей

(у 2 знач.). *Здавалася, зрабі толькі адзін крок па гародзе і адразу намокнеш па вушы.* Чыгрынаў. *Ты зноў на возеры быў?! Зноў прыйшоў мокры па вушы? Дзе я сушыць цябе буду?..* Ракітны. *І ўсё ж такі перамаглі, прыйшлі на зборны пункт, як сапраўдныя чэрці, па вушы ў балоце, — аднак гадзіны на дзве раней за конніцу...* Брыль. *У гразі байцы па вушы, дрэмлюць без агню ўначы.* Астрэйка.

2. *Акал.* Вельмі моцна, бязмежна (закахацца). **Сін.**: без аглядкі (у 3 знач.); без памяці (у 2 знач.); да вар'яцтва (у 1 знач.). *Закахаўся я ў гэтую самую Таню, як кажуць, па самыя вушы...* Сачанка. *Хама па вушы закахаўся. Ну што тут дзіўнага? Ён хлопец малады.* Э.Валасевіч.

3. *Акал.* Цалкам, поўнасцю (аддавацца чаму-н., уваходзіць у якую-н. справу). **Сін.**: з галавой (у 3 знач.). *[Хурс] цяпер па вушы сядзеў у сваёй роднай свінячай справе.* Чорны. *Сам Клімёнак па вушы ўвайшоў у сваю новую работу, начамі вывучаў сувязь, якую ў вучылішчы не вельмі любіў і лічыў прадметам не галоўным.* Дамашэвіч.

4. *чаго. У безас. ужыв.* Вельмі многа (работы, клопатаў, спраў; багацця, прадуктаў і пад.). **Сін.**: адбою няма *ад каго* (у 2 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не ханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; *у* кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго*. *— Рыгор заўсёды дома... — Затое ў мяне якраз па вушы работы...* Гартны. *Даруй, што затрымалася з адказам. Суткі такія кароткія, а работы па самыя вушы.* Левановіч. *— Так не пакіне, нешта прыдумае, — адказаў Салавей, — а тут і без яго клопатаў па самыя вушы.* Грахоўскі. *Уся гаспадарка была на маіх руках і добра ручыла; пенсію браў добрую; яды — па вушы, і пашанаванне меў.* Ядвігін Ш. *Каб малака было па вушы — выводзь карову з калатушы.* Трус.

**ПРАМАЗОЛІЦЬ ВУШЫ** *каму.* Гл. прамазоліць.

**ПРАСЛУХАЦЬ <УСЕ> ВУШЫ**. Гл. праслухаць.

**ПРАТРУБІЦЬ УСЕ ВУШЫ** *каму <пра каго, пра што, аб кім>.* Гл. пратрубіць.

**ПРЫЦЯГВАЦЬ ЗА ВУШЫ** *што.* Гл. прыцягваць.

**РАЗВЕСІЦЬ ВУШЫ**. Гл. развесіць.

**РАЗВЕШВАЦЬ ВУШЫ**. Гл. развешваць.

**РЭЖА ВУШЫ**. Гл. рэжа.

**СТАВІЦЬ НА ВУШЫ** *каго, што.* Гл. ставіць.

**СТАЦЬ НА ВУШЫ**. Гл. стаць.

**УВОДЗІЦЬ У ВУШЫ** *каму што.* Гл. уводзіць.

**ХОЦЬ <ТЫ> ВУШЫ ЗАТЫКАЙ**. Гл. затыкай.

**ЦЯГНУЦЬ ЗА ВУШЫ** *каго.* Гл. цягнуць.

Бачыць, убачыць, пабачыць **ЯК СВАЁ ВУ́ШЫ (СВАЁ ВУ́ХА)**. *Акал. Разм.* Ні пры якіх абставінах не (убачыць, бачыць каго-, што-н.). *Васіль марыў, а сам паліў сябе, прадракаў упэўнена, як бы ведаў загадзя: «Ага, чакай, так табе і дадуць яе [зямлю]! Пабачыш як свае вушы!»* Мележ. *Я думаю, калі вы яму пазвоніце, то ён нам не адкажа. Інакш мы метал убачым у гэтым квартале як свае вушы.* Гігевіч. *Я цярпліва стаяў і думаў: «Дай ты толькі работу, а далей будзеш мяне бачыць як сваё вуха!..»* Карпюк.

*ВУШЭЙ* • **ВЫШЭЙ ВУШЭЙ** *чаго.* Гл. вышэй.

**ДА ВУШЭ́Й**. *Разм.* **1.** *Акал.* Шырока, радасна, шчыра (усміхацца). *Усе ўжо ціха сядзелі за партамі, пасля мяне яшчэ забег Міша Грачухін: усміхнуўся ўсім да вушэй і падаўся ў другі рад недзе на апошнія парты.* Пташнікаў.

**2.** *Азн.* Шырокая, радасная, шчырая (усмешка). *— Добра, дзякую, — глядзіць [дзяўчына], а сама адно не спявае, ажно свеціцца радасцю. Жыццё: у адной слёзы на вачах, другая з усмешкай да вушэй.* Сіўко.

**ДАХОДЗІЦЬ ДА ВУШЭЙ** *чыіх, каго.* Гл. даходзіць.

Прапускаць (прапусціць), пускаць (пусціць), праходзіць (прайсці) **МІ́МА (МІ́Ж) ВУШЭ́Й**. *Акал. Разм.* Без увагі і рэагавання (прапускаць і пад. тое, што гаворыцца, што было сказана). *Сама гаспадыня маўчыць, але ніводнае слова наша міма вушэй не прапускае — ідаць па яе насцярожанасці.* Карамазаў. *Я прапусціў гэтыя словы міма вушэй.* Вітка. *Шура.. не зусім ёмка адчувала сябе сярод кабет, смяялася стрымана, занадта вольныя жарты пускала міма вушэй, быццам не чула...* Крапіва. *Рыгор уважліва слухаў, прапусціўшы між вушэй успомненае Артурам імя Камара.* Гартны. *Ляснік устаў, прапусціўшы між вушэй Васілёвы словы, і сказаў: — Дабранач, Ганна!* Колас. *Нехта.. гаварыў пра нейкую групу дыверсантаў-разведчыкаў, але гэта яго паведамленне прайшло неяк міма вушэй, ніхто не звярнуў асаблівай увагі.* Лобан.

**НЕ МІНУЦЬ ВУШЭЙ** *каго, чыіх.* Гл. мінуць.

**РОТ ДА ВУШЭЙ** *у каго.* Гл. рот.

**ЯЗЫК КАЛЯ ВУШЭЙ МАТЛЯЕЦЦА** *ў каго.* Гл. язык.

Не бачыць, не пабачыць **ЯК СВАІ́Х ВУШЭ́Й**. *Акал. Разм.* Ніколі і ні пры якіх абставінах (не бачыць каго-, што-н.). *«Ну, Мікола, лаві момант, — думаў сам сабе Цыбулька. — Калі цяпер не ўбярэш таварыша Сяргея, то не бачыць табе ціхага жыцця як сваіх вушэй».* Гурскі. *Калі не выплаціш сёлета, не пабачыш тады болей поля як сваіх вушэй.* Галавач.

*ВЫ* • **НА ВЫ́** быць, звяртацца і пад. *Акал. Функц. не зам.* **1.** У такіх адносінах, калі адзін аднаму кажуць «вы». *У Лёхі быў звычай да ўсіх, хто прыязджаў з горада — старэйшы ён за яго, раўня яму ці нашмат маладзейшы, звяртацца на «вы».* Кудравец.

**2.** Сур'ёзна, па-дзелавому. *Атамная энергія, апаратура рэактара патрабуюць, каб да іх звярталіся на вы.* Гроднеў. *Яна [Поўнач] патрабуе, каб да яе звярталіся на «вы».* Корбан. *Жыццё жартаў не разумее. Яно любіць, каб з ім былі на «вы».* Кудравец.

**ШТО ВЫ**! Гл. што.

*ВЫБЕРЫ* • Спаць **ХО́ЦЬ ЗУ́БЫ ВЫ́БЕРЫ**. *Толькі ў гэтай форме. Акал. Разм.* Вельмі моцна. **Сін.**: без задніх ног; мёртвым сном; сном праведніка; як забіты; як пшаніцу прадаўшы. **Ант.**: на адно вока. *— Спіць хоць зубы выберы, — паведаміла [маці], нібыта пра самае важнае.* Карпаў. *Характэрна, што верхаводы дрэмлюць хоць зубы выберы, калі гаворка ідзе пра цяжкую дзіцячую працу ў сельскай гаспадарцы.* «Настаўн. газ.»

*ВЫБІВАННЕ* • **ВЫБІВА́ННЕ КЛІ́НАМ КЛІ́НА.** *У ролі розных чл. ск. Разм.* Супрацьдзеянне тым жа сродкам, якім выкліканы пэўны стан ці дзеянне. *Мікалай за прыём браў залатымі рублямі і сваю методу лячэння называў «выбіваннем клінам кліна».* Карпюк.

*ВЫБІВАЦЦА* • **ВЫБІВА́ЦЦА З КАЛЯІ́НЫ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** Пераставаць весці прывычны спосаб жыцця. **Ант.**: уваходзіць у <сваю> каляіну (у 1 знач.). **ВЫБІЦЦА З КАЛЯІНЫ.** *Зак. А ў гэтых чаўнах, а ў гэтых чаўнах шнуруюць ад вёскі да вёскі суровыя, замкнёныя ў сабе сыны Палесся, патрывожаныя, выбітыя з каляіны жыцця ўварваннем ненавісных акупантаў.* Колас. *Раптам Андрэю захацелася паздзекавацца з гэтага выбітага з каляіны чалавека.* Лобан.

**2.** Выходзіць са стану раўнавагі. **ВЫБІЦЦА З КАЛЯІНЫ.** *Зак. [Якаў Фаміч:] Вы думаеце, як пойдзеце, я змагу працаваць? Не... Я ўжо да канца дня выбіты з каляіны.* Матукоўскі.

**ВЫБІВА́ЦЦА З СІ́Л (-Ы).** *Незак. Функц. не зам.* **1.** Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Вельмі стамляцца, знясільвацца, слабець ад якога-н. напружання. **Сін.**: валіцца з ног *<ад чаго>*; высалапіць язык; заставацца без ног; збівацца з ног; зямлі не чуць пад сабой (у 2 знач.); ледзь ногі цягаць (у 1 знач.); ледзь стаяць на нагах (у 1 знач.); ледзь шоры цягаць; на нагах не трымацца; не чуць ног; не чуць ні рук ні ног. *Відаць, чалавек выбіваўся з сіл, запыняў бег, ішоў прыцішанаю хадою, каб адпачыць і перадыхнуць.* Колас. *Плынь увесь час збівала мяне, я выбіваўся з сіл, і мяне панясло ў вір, закруціла.* Дамашэвіч. **ВЫБІЦЦА З СІЛ (-Ы).** *Зак. Як і ўсе ў групе, яе камандзір выбіўся з сілы за гэтую надзвычай цяжкую ноч.* Быкаў.

**2.** Ужыв. у галоўн. ск. пры дзейн. са знач. асобы. Прыкладаць усе намаганні для дасягнення чаго-н. *Маці з усіх сіл выбівалася, каб пракарміць і выгадаваць траіх дзяцей.* Шушкевіч. **ВЫБІЦЦА З СІЛ (-Ы).** *Зак.*

**ВЫБІВА́ЦЦА НА <СВАЮ́> ДАРО́ГУ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пераадольваючы цяжкасці, знаходзіць сваё месца ў жыцці, станавіцца самастойным. **Сін.**: выходзіць на дарогу *якую. Аднак жа ўсё гэта было шчасце, шчасце, шчасце... Бо разумеў [хлопец], што вось — выбіваецца-такі на дарогу.* Гарэцкі. **ВЫБІЦЦА НА <СВАЮ> ДАРОГУ.** *Зак. Я часта іх [Раўкоўскіх] наведвала і прасіла дапамагчы знайсці якую-небудзь работу, каб зарабіць на пражыццё, пакуль не выб'юся на сваю дарогу.* Мядзёлка. *[Родны:] Зусім я ўжо быў на дарогу выбіўся. Хату збудаваў, сын падрос — жонцы можна было на поле выходзіць.* Крапіва.

**ВЫБІВА́ЦЦА Ў ЛЮ́ДЗІ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. З вялікімі цяжкасцямі, пасля доўгіх намаганняў дабівацца высокага становішча ў жыцці, у грамадстве. **Сін.**: выходзіць на арбіту; выходзіць у людзі; ісці ўгору (у 1 знач.); ісці ў людзі; далёка пайсці; прабіваць сабе дарогу (у 1 знач.); пракладаць сабе дарогу (у 1 знач.); працярэбліваць сабе шлях *куды. Сёмка Фартушнік выбіваўся ў людзі з бруднай цеснай бацькавай крамкі.* Чорны. **ВЫБІЦЦА Ў ЛЮДЗІ.** *Зак. Выбіўся ў людзі Лычкоўскі без усялякай пратэкцыі і дапамогі, дзякуючы выключна сваёй цягавітасці і настойлівасці.* С.Александровіч. *Не суджана было мамцы парадавацца на цябе, дык хоць мы ўжо нацешымся, што і наш без бацькі і маці ў людзі выбіўся, што вунь якім чалавекам стаў.* Грахоўскі.

*ВЫБІВАЦЬ* • **ВЫБІВА́ЦЬ (ВЫГАНЯ́ЦЬ) З ГАЛАВЫ́** *чыёй, каму што. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прымушаць каго-н. адмовіцца ад чаго-н. (думак, намераў і пад.). **ВЫБІЦЬ (ВЫГНАЦЬ) З ГАЛАВЫ** *чыёй, каму што. Зак. [Дабровіч:] Абы толькі здолела ты выбіць яму з галавы тую франкаманію.* Дунін-Мар-

цінкевіч. *[Даміцэля:] Я зараз манеры выганю васпану з галавы! Дзесятаму закажаш, як чужых жонак поначы ашукваць.* Купала. — *Аж прыкра ўжо стала, — уваходзіў [Васіль] у злосць, — і не ведаю, што яна сабе думае да гэтага часу! Няўжо яшчэ бацькі не паспелі выбіць з галавы думкі аб тым валацузе?* Гартны.

**ВЫБІВА́ЦЬ (ВЫГА́НЯЦЬ) З ГАЛАВЫ́** *што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пазбаўляцца чаго-н. назойлівага, неадступнага. Пра думкі, уражанні і пад. **ВЫБІЦЬ (ВЫГНАЦЬ) З ГАЛАВЫ** *што. Зак. [Салавей] сумаваў па сваёй Зосьцы... Ён ніяк не мог аб ёй не думаць... Хаця шчыра стараўся выбіць з галавы гэтыя думкі.* Бядуля. *Адной вось думкі не ўтаймую, яе не выгнаць з галавы.* Крапіва.

**ВЫБІВА́ЦЬ ГЛЕ́БУ (ГРУ́НТ) З-ПАД НО́Г** *каго, чыіх, у каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Ствараць каму-н. хісткае, няўпэўненае становішча, выводзіць каго-н. са стану раўнавагі. **Сін.**: выбіваць з сядла *каго. — Пячыце мяне, — кажу, — крытыкай, шуруйце, выхоўвайце, калі лічыце, што я за дваццаць год кіруючай працы сапсаваўся. Навошта ж глебу з-пад ног маіх выбіваць?* Пянкрат. **ВЫБІЦЬ ГЛЕБУ (ГРУНТ) З-ПАД НОГ** *каго, чыіх, у каго. Зак. — Не шкодзіла б, — прыжмурыўся Фрунзе, — і ў гімназіі выбіць глебу з-пад ног нашых праціўнікаў.* Гурскі. *Пiлiп Тарасавіч.. гатовы цяпер ужыць любую метафару, абы выбіць з-пад ног грунт у праціўніка.* Ермаловіч.

**ВЫБІВА́ЦЬ З ГАЛАВЫ́ ДУ́Р (ДУ́РАСЦЬ, ДУРАТУ́)** *у каго, чыёй. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. предмета. Строга ўздзейнічаючы, адвучваць каго-н. ад дрэнных звычак, схільнасцей і пад. *Ніхто не супраць арміі, там вельмі ж скора дурату выбіваюць з галавы.* Міська. **ВЫБІЦЬ З ГАЛАВЫ ДУР (ДУРАСЦЬ, ДУРАТУ)** *у каго, чыёй. Зак. Раз так — забяру я цябе, Сашко, зараз жа і.. дур з тваёй галавы хутка выб'ю, я не дапушчу, каб мой унук неслухам рос.* І.Капыловіч. *Вось кончым інстытут — і ў вёску. Работа выб'е з яе [Нінінай] галавы ўсю дурасць.* Чарнышэвіч.

**ВЫБІВА́ЦЬ З КАЛЯІ́НЫ** *каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Прымушаць змяніць прывычны рытм жыцця, звычайны ход спраў. *Мяне ўсе гэтыя «драбніцы жыцця» (ой, не драбніцы!) не толькі выбіваюць з каляіны — яны мяне забіваюць насмерць!* Васілевіч. **ВЫБІЦЬ З КАЛЯІНЫ** *каго. Зак. Мяне смерць Тамаша страсянула ўсяго. Ніколі не думаў, што гэтак выб'е мяне з каляіны.* Чорны. *Тое, што гаварыў Антось, успамін пра Наронскага выбіў Сцяпана з каляіны.* А.Жук.

**ВЫБІВА́ЦЬ З СЯДЛА́** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Пазбаўляць каго-н. цвёрдай упэўненасці ў сабе, выводзіць са стану раўнавагі. **Сін.**: выбіваць глебу з-пад ног *каго, чыіх, у каго. Я ўжо навучыўся валодаць сабою, але любое спачуванне таварышаў па палаце адразу ж выбівала мяне з сядла...* Дамашэвіч. *Ніякія ярлыкі, наклейкі, ніякія арганізацыйныя вывады не выбівалі загартаванага байца з сядла.* Шамякін. **ВЫБІЦЬ З СЯДЛА** *каго. Зак. Калі стаіць добрае надвор'е, усё ладзіцца з камбайнам, рублі так і сыплюцца — дваццаць, трыццаць, а то і сорак на дзень. А Сташэвіч з Дзеньдобрым знарок выбілі яго з сядла, забралі камбайн.* Міська.

**ВЫБІВА́ЦЬ КЛІ́Н КЛІ́НАМ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Супрацьдзейнічаць тым самым сродкам, якім выкліканы пэўны стан ці дзеянне. *Не знаходзячы месца ад рэўнасці, падазрэнняў, [Андрэй] не мог зрабіць, як робяць у такіх выпадках некаторыя мужчыны: завесці на старане каханку, выбіваць, як кажуць клін клінам.* Навуменка. **ВЫБІЦЬ КЛІН КЛІНАМ**. *Зак. Адно што будзе трудна досыць — як кажуць, клінам выбіць клін: жанчына гэта ў сэрцы носіць якісьці сонечны ўспамін.* Гілевіч.

**ВЫБІВА́ЦЬ КО́ЗЫРЫ (КО́ЗЫР) З РУ́К** *каго, у каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пазбаўляць каго-н. перавагі ў чым-н. **Ант.**: даваць козыр у рукі *каму. Вось таму Ліндсей і пачаў як быццам самабічаванне. Але гэта зусім і зусім не самакрытыка, не прызнанне памылак свайго кіраўніцтва. Проста такім чынам ён выбівае козыры з рук сваіх праціўнікаў.* Кірэенка. **ВЫБІЦЬ КОЗЫРЫ (КОЗЫР) З РУК** *каго, у каго. Зак. Карызна далей не слухаў. Нечаканае прызнанне Рачкоўскага ашаламіла яго, выбіла з рук у яго апошні козыр і пагасіла ўсё ягонае абурэнне.* Зарэцкі.

*ВЫБІРАЦЬ* • **ВЫБІРА́ЦЬ (ВЫДЗІРА́ЦЬ) ВО́ЧЫ** *<каму>. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі здзекліва дакараць. **Сін.**: выядаць вочы *<каму>* (у 1 знач.). **ВЫБРАЦЬ (ВЫДРАЦЬ, ВЫДЗЕРЦІ) ВОЧЫ** *<каму>. Зак. [Паўлінка:] А што, калі зловяць? Гэта ж я не выжыву з сораму, людзі вочы выберуць, нельга будзе на свет паказацца.* Купала. *Але ж папробуй заікніся ў вёсцы пра камуну — вочы выдзеруць, выгаварыць не дадуць.* Крапіва.

*ВЫБІТЫ* • **КОЗЫР ВЫБІТЫ З РУК** *каго, чыіх.* Гл. козыр.

*ВЫБІЦЦА* • **ВЫБІЦЦА З КАЛЯІНЫ**. *Зак. да* **ВЫБІВАЦЦА З КАЛЯІНЫ**.
**ВЫБІЦЦА З СІЛ**. *Зак. да* **ВЫБІВАЦЦА З СІЛ**.
**ВЫБІЦЦА НА <СВАЮ> ДАРОГУ**. *Зак. да* **ВЫБІВАЦЦА НА <СВАЮ> ДАРОГУ**.
**ВЫБІЦЦА Ў ЛЮДЗІ**. *Зак. да* **ВЫБІВАЦЦА Ў ЛЮДЗІ**.

*ВЫБІЦЬ* • **ВЫБІЦЬ ГЛЕБУ З-ПАД НОГ** *каго, чыіх, у каго. Зак. да* **ВЫБІВАЦЬ ГЛЕБУ З-ПАД НОГ** *каго, чыіх, у каго.*
**ВЫБІЦЬ З ГАЛАВЫ** *што. Зак. да* **ВЫБІВАЦЬ З ГАЛАВЫ** *што.*
**ВЫБІЦЬ З ГАЛАВЫ** *чыёй, каму што. Зак. да* **ВЫБІВАЦЬ З ГАЛАВЫ** *чыёй, каму што.*
**ВЫБІЦЬ З ГАЛАВЫ ДУР** *у каго, чыёй. Зак. да* **ВЫБІВАЦЬ З ГАЛАВЫ ДУР** *у каго, чыёй.*
**ВЫБІЦЬ З КАЛЯІНЫ** *каго. Зак. да* **ВЫБІВАЦЬ З КАЛЯІНЫ** *каго.*
**ВЫБІЦЬ З СЯДЛА** *каго. Зак. да* **ВЫБІВАЦЬ З СЯДЛА** *каго.*
**ВЫБІЦЬ КЛІН КЛІНАМ**. *Зак. да* **ВЫБІВАЦЬ КЛІН КЛІНАМ**.
**ВЫБІЦЬ КОЗЫРЫ З РУК** *каго, у каго. Зак. да* **ВЫБІВАЦЬ КОЗЫРЫ З РУК** *каго, у каго.*

*ВЫБРАЦЬ* • **ВЫБРАЦЬ ВОЧЫ** *<каму>. Зак. да* **ВЫБІРАЦЬ ВОЧЫ** *<каму>.*

*ВЫБЫВАЦЬ* • **ВЫБЫВА́ЦЬ (ВЫХО́ДЗІЦЬ) СА СТРО́Ю**. *Незак. Функц. не зам.* 1. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Траціць працаздольнасць ці баяздольнасць. **Ант.**: вяртацца ў строй; станавіцца ў строй. **ВЫБЫЦЬ (ВЫЙСЦІ) СА СТРОЮ**. *Зак. [Лютынскі:] Пад Беластокам быў паранены і выбыў са строю.* Крапіва. *Яшчэ адзін эсэсаўскі батальён назаўсёды выбыў са строю.* Лынькоў. *Раскажы... калі ласка... як з табою ўсё было. Столькі людзей выйшла са строю!* Місько.
2. Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Пераставаць дзейнічаць, станавіцца непрыгодным; ламацца, псавацца. **Сін.**: гарэць сінім полымем (у 2 знач.). **Ант.**: уступаць у строй. *Разам з палівам міна трапляла на паравоз. Апынуўшыся ў топцы, яна ўзрывалася. Паравоз на доўгі час выходзіў са строю.* Лынькоў. **ВЫБЫЦЬ (ВЫЙСЦІ) СА СТРОЮ**. *Зак. На віцебскім вытворчым аб'яднанні «Даламіт» толькі-толькі здадзены ў эксплуатацыю новы цэх, а пылаўлоўныя ўстаноўкі выйшлі са строю.* «Звязда». *Выйшла са строю электрастанцыя, пагасла святло, перастаў дзейнічаць тэлефон.* «Настаўн. газ.»

*ВЫБЫЦЦЁ* • **ВЫБЫЦЦЁ СА СТРО́Ю** *чыё, каго. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Страта магчымасці працаваць, дзейнічаць. *[Нявідны] думае аб тым, у якой ступені выбыццё яго са строю работы адаб'ецца на самой рабоце.* Колас.

*ВЫБЫЦЬ* • **ВЫБЫЦЬ СА СТРОЮ**. *Зак. да* **ВЫБЫВАЦЬ СА СТРОЮ**.

*ВЫВАД* • **ВЫ́ВАД СА СТРО́Ю** *чаго. Мн. не ўжыв. Дзейн і дап. Функц. не зам.* Псаванне, прывядзенне ў непрыгоднасць чаго-н. *Асноўны ўпор рабіўся на вывад са строю паравозаў. Аграмадную ролю ў гэтым сыграла славутая заслонаўская вугальная міна.* Лынькоў.

*ВЫВАРОЧВАЦЦА* • **ВЫВАРО́ЧВАЦЦА НАВЫ́ВАРАТ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прыкладаць усе сілы, здольнасці, стараннe і пад., каб дабіцца жаданага. **ВЫВЕРНУЦЦА НАВЫВАРАТ**. *Зак. «Я навыварат вывернуся, але табе памагу, едзь, вучыся». І Ніна паехала, але на маці не вельмі насядала, старалася больш стыпендыяй абыходзіцца, не хацела, каб маці і праўда навыварат выварочвалася.* Арабей.

*ВЫВАРОЧВАЦЬ* • **ВЫВАРО́ЧВАЦЬ ДУШУ́ (НУТРО́)** *чыю, каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы і абстр. прадмета. Моцна трывожыць, хваляваць, мучыць каго-н. **Сін.**: вярэдзіць душу *каму, чыю*; вярэдзіць рану *каму, чыю*; муціць душу *каму, каго*; пераварочваць <усё> нутро ў *каго*; пераварочваць <усю> душу *чыю, каму, у каго*; скрэбці за душу *каго*; труціць душу *каму. Выварочваючы маю дзіцячую душу, вы ўпэўнівалі мяне, што нявінныя дзеці, змучаныя і сіратлівыя, як пакалечаныя птушкі, будуць бадзяцца па пакутных дарогах і з грымасамі на сваіх нявінных тварах піць усю прагорклaсць свету.* Чорны. *Усю зіму — перастрэлкі, сутычкі, агнявыя налёты проста душу выварочвалі.* Шарахоўскі. *— Нутро ты выварочваеш сваімі песнямі, — сказаў Хомчык...* Пестрак. **ВЫВЕРНУЦЬ ДУШУ (НУТРО)** *чыю, каму. Зак.*

**ВЫВАРО́ЧВАЦЬ НАВЫ́ВАРАТ** *каго, што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паказваць сапраўдны твар каго-н. ці сутнасць чаго-н. **Сін.**: выводзіць на белы свет *каго, што*; выводзіць на чыстую ваду *каго, што*; за вушка ды на сонейка *каго*; зрываць маску *з каго.* **ВЫВЕРНУЦЬ НАВЫВАРАТ** *каго, што. Зак. Ну, а калі хто мяне першы зачэпіць, тут ужо вы-ба-чай-це! Тут я за сябе пастаю. Тут я ўжо ўсё нутро яго выстаўлю напаказ людзям, навыварат выверну, як панчоху.* Крапіва.

**ВЫВАРО́ЧВАЦЬ <СВАЮ́> ДУ́ШУ** *перад кім. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выказваць самае запаветнае, шчыра дзяліцца з кім-н. сваімі думкамі, перажываннямі і пад. *— Няма чым хваліцца, Манечка. Усё [нявестка] маўчыць болей. — А ты хочаш, каб яна перад табой душу выварочвала?* Гіль. **ВЫВЕРНУЦЬ <СВАЮ> ДУШУ** *перад кім. Зак. Не, калі ласка, пасядзіце... Магу ж я хоць раз у жыцці душу сваю вывернуць? Ці вам брыдкі Зуёк?* Асіпенка. *[Скуратовіч] меў патрэбу вывернуць перад кім-небудзь сваю душу.* Чорны.

*ВЫВЕЗЕ* • **КУДЫ КРЫВАЯ ВЫВЕЗЕ** *каго.* Гл. крывая.

*ВЫВЕРНУЦЦА* • **ВЫВЕРНУЦЦА НАВЫВАРАТ**. *Зак. да* **ВЫВАРОЧВАЦЦА НАВЫВАРАТ**.

*ВЫВЕРНУЦЬ* • **ВЫВЕРНУЦЬ ДУШУ** *чыю, каму. Зак. да* **ВЫВАРОЧВАЦЬ ДУШУ** *чыю, каму.*

**ВЫВЕРНУЦЬ НАВЫВАРАТ** *каго, што. Зак. да* **ВЫВАРОЧВАЦЬ НАВЫВАРАТ** *каго, што.*

**ВЫВЕРНУЦЬ <СВАЮ> ДУШУ** *перад кім. Зак. да* **ВЫВАРОЧВАЦЬ <СВАЮ> ДУШУ** *перад кім.*

*ВЫВЕСЦІ* • **ВЫВЕСЦІ З СЯБЕ** *каго. Зак. да* **ВЫВОДЗІЦЬ З СЯБЕ** *каго.*
**ВЫВЕСЦІ НА АРБІТУ** *каго. Зак. да* **ВЫВОДЗІЦЬ НА АРБІТУ** *каго.*
**ВЫВЕСЦІ НА БЕЛЫ СВЕТ** *каго, што. Зак. да* **ВЫВОДЗІЦЬ НА БЕЛЫ СВЕТ** *каго, што.*
**ВЫВЕСЦІ НА ДАРОГУ** *каго. Зак. да* **ВЫВОДЗІЦЬ НА ДАРОГУ** *каго.*
**ВЫВЕСЦІ НА ЧЫСТУЮ ВАДУ** *каго, што. Зак. да* **ВЫВОДЗІЦЬ НА ЧЫСТУЮ ВАДУ** *каго, што.*
**ВЫВЕСЦІ СА СТРОЮ.** *Зак. да* **ВЫВОДЗІЦЬ СА СТРОЮ.**
**ВЫВЕСЦІ Ў ЛЮДЗІ** *каго. Зак. да* **ВЫВОДЗІЦЬ Ў ЛЮДЗІ** *каго.*
**ВЫВЕСЦІ Ў ПОЛЕ** *каго. Зак. да* **ВЫВОДЗІЦЬ Ў ПОЛЕ** *каго.*
**ВЫВЕСЦІ Ў РАСХОД** *каго. Зак. да* **ВЫВОДЗІЦЬ Ў РАСХОД** *каго.*
**ВЫВЕСЦІ Ў СВЕТ** *каго. Зак. да* **ВЫВОДЗІЦЬ Ў СВЕТ** *каго.*

*ВЫВЕСЦІСЯ* • **ВЫВЕСЦІСЯ СА СТРОЮ.** *Зак. да* **ВЫВОДЗІЦЦА СА СТРОЮ.**

*ВЫВОДЗІЦЦА* • **ВЫВО́ДЗІЦЦА НА АРБІ́ТУ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Станавіцца вядомым. *Мы тут гаворым пра больш сур'ёзнае: пра той агульны арыенцір у сучаснай літаратуры, па якім выводзяцца на арбіту ўсё новыя эпапеі аб Вялікай Айчыннай вайне.* Адамовіч.

**ВЫВО́ДЗІЦЦА СА СТРО́Ю.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Станавіцца непрыгодным, аказвацца разбураным, паламаным. *Частка нашых самалётаў паспявала ўзляцець і ўвязацца ў бой, некаторыя гарэлі на зямлі, а ўзлётнае поле выводзілася са строю ў самым пачатку варожага палёту, і яго аднаўлялі ледзь не пад бомбамі.* «Полымя». **ВЫВЕСЦІСЯ СА СТРОЮ.** *Зак.*

*ВЫВОДЗІЦЬ* • **ВЫВО́ДЗІЦЬ (ВЫЦЯ́ГВАЦЬ) НА БЕ́ЛЫ СВЕ́Т** *каго, што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці няпэўнай колькасці асоб. Даводзіць што-н. да ведама публікі; выкрываць. **Сін.**: выварочваць навыварат *каго, што*; выводзіць на чыстую ваду *каго, што*; за вушка ды на сонейка *каго*; зрываць маску *з каго.* **ВЫВЕСЦІ (ВЫЦЯГНУЦЬ) НА БЕЛЫ СВЕТ** *каго, што. Зак. Абуральныя факты. Але, як ні парадаксальна, яны да пары да часу, пакуль іх не выцягнулі на свет белы, нават часам натхнялі бешанковіцкіх гаспадарнікаў.* «Звязда». *Ваша гэтая «памылка» — гэта здзельшчыне магілка, па вытворчасці ўдар. А мы вас — на белы свет, да рабочай масы тварам, і ўжо ўдарым дык ударым, па-ўдарнаму, як след.* Крапіва.

**ВЫВО́ДЗІЦЬ З СЯБЕ́** *каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Пазбаўляць самавалодання, душэўнай раўнавагі; моцна раздражняць. **Сін.**: дзейнічаць на нервы *каму*, дражніць гусей; іграць на нервах <*чыіх, каму*>; псаваць кроў *каму. Ксеня сваёй прыроднай абмежаванасцю кожны раз выводзіць з сябе Булычова.* «ЛіМ». *Дробязі, паўз якія раней [Васіль Пятровіч:] праходзіў ухмыляючыся, цяпер раздражнялі, выводзілі з сябе.* Карпаў. **ВЫВЕСЦІ З СЯБЕ** *каго. Зак. Апошнія словы мужа канчаткова вывелі з сябе.* Рылько.

**ВЫВО́ДЗІЦЬ НА АРБІ́ТУ** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дапамагаць стаць вядомым, з трывалым месцам у жыцці. *Каб на мяне, дык я б паддаў каленцам не толькі Таўкачу, а і тым жа акружэнцам, якія застаюцца не пабіты, а Таўкачоў выводзяць на арбіту.* Скрыпка. **ВЫВЕСЦІ НА АРБІТУ** *каго. Зак.*

**ВЫВО́ДЗІЦЬ НА ДАРО́ГУ** *каго. Незак. Функц. не зам.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Дапамагаць каму-н. знайсці сваё месца ў жыцці. **Сін.**: выводзіць у людзі *каго*; выводзіць у свет *каго*; паказваць дарогу *каму* (у 1 знач.). **ВЫВЕСЦІ НА ДАРОГУ** *каго. Зак. Навучу я цябе жыць, сынок, бо сам, значыцца, шмат чаго*

*перажыў... Усе сілы пакладу, але выведу цябе на дарогу...* Каваль. *Свайго дэлегацтва Пракоп не судзіў строга, бо яно вывела яго на дарогу.* Колас.
2. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дапамагаць каму-н. знайсці, выбраць правільную лінію паводзін. *Спадзявалася [жонка], а мо паправіцца... Усё магло стацца, не такіх папраўлялі. І такіх, як Юрка, не лічылі прапашчымі людзьмі, і гэтых, траплялася, выводзілі на дарогу.* Лынькоў. **ВЫВЕСЦІ НА ДАРОГУ** *каго. Зак. Жыццё маладога хлопца будзе зламана канчаткова. А яго яшчэ можна вывесці на дарогу сумленнага жыцця. Таленавіты хлопец. Выдатны разведчык.* Шамякін.
**ВЫВО́ДЗІЦЬ НА ЧЫСТУЮ ВАДУ́** *каго, што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выкрываць чые-н. цёмныя справы, нядобрыя ўчынкі. **Сін.**: выварочваць навыварат *каго, што*; выводзіць на белы свет *каго, што*; за вушка ды на сонейка *каго*; зрываць маску *з каго. Дазорныя выводзяць на чыстую ваду дробных раскрадальнікаў сыравіны і гатовай прадукцыі.* «Звязда». *А ён, таварыш гэты, — малайчына! Усё на чыстую ваду выводзіць.* Аношкін. **ВЫВЕСЦІ НА ЧЫСТУЮ ВАДУ** *каго, што. Зак. Хамаў, падхалімаў і падліз мы выведзем на чыстую ваду.* Панчанка. — Накажу, зараз пакажу. Выведу я гэтую кулацкую каросту на чыстую ваду! А гэта што?! — *У руках Гаварушкі такі было каліва жыта.* Лобан.
**ВЫВО́ДЗІЦЬ (ПУСКА́ЦЬ, СПІ́СВАЦЬ) У РАСХО́Д** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Расстрэльваць. **Сін.**: адпускаць у штаб духоніна *каго*; пускаць да бога *каго*; пускаць кулю ў лоб *каму*; пускаць на той свет *каго*; пускаць у царства нябеснае *каго*; ставіць да сцяны *каго.* **ВЫВЕСЦІ (ПУСЦІЦЬ, СПІСАЦЬ) У РАСХОД** *каго. Зак. Ён, Адам, мае права хоць каго спісаць у расход — і ніякай адказнасці. Вось якую ўладу далі яму немцы.* Сіняўскі. *Войта Васіля Бусыгу ў расход вывелі як зацятага контррэвалюцыянера.* Колас. *Лагуцька пусціў у расход вашых пасланцоў як правакатараў.* Кулакоўскі. *«Калі, — кажа [Пэпік], — не выйдзеш за мяне замуж, усю сям'ю тваю ў расход пушчу».* Сачанка.
**ВЫВО́ДЗІЦЬ СА СТРО́Ю.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці канкр. прадмета. **1.** *каго.* Пазбаўляць працаздольнасці ці баяздольнасці. **ВЫВЕСЦІ СА СТРОЮ.** *Зак. [Гарлахвацкі:] Ганьбяць ваша чэснае імя, а вы маўчыце! Не, так нікуды не варта... Так жа сёння вас, а заўтра мяне могуць ашальмаваць і вывесці са строю.* Крапіва. *Прызнацца, Ратны не верыў, што хвароба надоўга вывела Дуброву са строю.* І.Капыловіч.
**2.** *што.* Рабіць непрыгодным, ламаць, псаваць. *Берагі Нямігі прынялі кроў незабыўнага паўстання 1905 года, тут пралілася святая кроў змагароў за Кастрычніцкую перамогу і незлічонай арміі байцоў невідочнага фронту, які безупынна, цвёрда і бязлітасна выводзіў са строю тылы ворага ў гады апошняй вайны.* Лужанін. **ВЫВЕСЦІ СА СТРОЮ.** *Зак. Вадакачка не працавала, яе яшчэ раней вывела са строю група Заслонава.* Шчарбатаў.
**ВЫВО́ДЗІЦЬ У ЛЮ́ДЗІ** *каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн са знач. асобы. Дапамагаць каму-н. заняць трывалае або высокае становішча ў жыцці. **Сін.**: выводзіць на дарогу *каго* (у 1 знач.); выводзіць у свет *каго*; паказваць дарогу *каму* (у 1 знач.). *Як вам, важакам, не сорамна падтрымліваць адсталых студэнтаў, якія выступаюць супраць сваіх настаўнікаў? Супраць тых, хто вас выводзіць у людзі?* Карпюк. **ВЫВЕСЦІ Ў ЛЮДЗІ** *каго. Зак. Сына свайго ў людзі вывеў бы Ігнат. — Вось мой сын, паночкі! — «Асадзі назад!»* Колас. *Дзякуй бальшавіку, чырвонаму партызану Янкоўскаму, які прыкмеціў яго, наблізіў да агульнае справы, можна сказаць, — вывеў у людзі.* Быкаў.

**ВЫВО́ДЗІЦЬ У ПО́ЛЕ** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Спрытна, хітра ашукваць, падманваць каго-н. **Сін.**: абводзіць вакол пальца *каго*; абуваць у лапці *каго*; бакі забіваць *каму*, браць на арапа *каго*; браць на бога *каго*; браць на вудачку *каго*; браць на пушку *каго*; вадзіць за нос *каго*; вешаць лапшу <на вушы> *каму*; віляць хвастом (у 1 знач.); гнуць дугі; гуляць у ката і мышку; дурыць галаву *каму* (у 1 знач.); задурыць галаву *каму* (у 3 знач.); замазваць вочы *каму*; замыльваць вочы *каму*; запраўляць арапа; кампасціраваць мазгі *каму*; корчыць дурня (у 1 знач.); круціць хвастом (у 1 знач.); муціць галаву *каму*; настаўляць акуляры *каму*; прадаць *каго* і грошы палічыць; пудрыць мазгі *каму*; пускаць пыл у вочы *каму*; сляпіць вочы *каму* (у 1 знач.); травіць баланду (у 2 знач.); туманіць вочы *каму*; туманіць галаву *каму*. **ВЫВЕСЦІ Ў ПОЛЕ** *каго. Зак. [Куторга:] Я чалавек бывалы, маю розум і патраплю ладам яго вывесці ў поле... [Кручкоў:] Дык ты мяне думаеш вывесці ў поле?* Дунін-Марцінкевіч. *А яшчэ, як успаміналa Аляксандра Бергман, ён разам з Ігнатам Дварчаніным і Антонам Мальцам вывелі ў поле высокіх чыноўнікаў Навагрудскага ваяводства! Ды што там аднаго ваяводства. Сарвалі путы, накладзеныя на ўсю Заходнюю Беларусь у выбарчай кампаніі ў сейм у 1928 годзе.* Чыгрын.

**ВЫВО́ДЗІЦЬ У СВЕ́Т** *каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дапамагаць каму-н. заняць трывалае або высокае становішча ў жыцці. **Сін.**: выводзіць на дарогу *каго* (у 1 знач.); выводзіць у людзі *каго*; паказваць дарогу *каму* (у 1 знач.). *Сярод настаўнікаў, якія мяне выводзілі ў свет, ёсць асабліва дарагія, навука іх як запавет.* Хацкевіч. **ВЫВЕСЦІ Ў СВЕТ** *каго. Зак. І Лёкса... Столькі сама нацярпелася, пакуль дзяцей вывела ў свет...* Кудравец.

*ВЫГАНЯЕ* • **СЛЯЗА СЛЯЗУ ВЫГАНЯЕ** *ў каго.* Гл. сляза.

*ВЫГАНЯЦЬ* • **ВЫГАНЯЦЬ З ГАЛАВЫ** *чыёй, каму што.* Гл. выбіваць.

**ВЫГАНЯЦЬ З ГАЛАВЫ** *што.* Гл. выбіваць.

**ВЫГАНЯ́ЦЬ МАТЫ́ЛІЦУ** *з каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Строга ўздзейнічаць на каго-н., правучваць каго-н. **Сін.**: браць пад абстрэл *каго, што*; браць у абарот *каго* (у 2 знач.); браць у пераплёт *каго* (у 2 знач.); браць у работу *каго* (у 2 знач.); браць у шоры *каго* (у 2 знач.); выціскаць пот *з каго* (у 2 знач.); даваць гарту *каму* (у 1 знач.); даваць гонку *каму*, даваць дыхту *каму* (у 1 знач.); даваць жару *каму* (у 1 знач.); даваць перцу *каму* (у 1 знач.); даваць піць *каму*; даваць прыкурыць *каму* (у 1 знач.); даваць пытлю *каму* (у 1 знач.); даваць у косці *каму* (у 1 знач.); даваць чапаласу *каму* (у 1 знач.); даваць чосу *каму* (у 1 знач.); задаваць пары *каму*; здымаць стружку *з каго*; мыліць галаву *каму*, мыліць шыю *каму* (у 2 знач.); накруціць хвост *каму*; паддаваць жару *каму* (у 1 знач.); прадзіраць з пясочкам *каго*; спусціць скуру *з каго* (у 2 знач.); усыпаць перцу *каму*. **ВЫГНАЦЬ МАТЫЛІЦУ** *з каго. Зак. Намесніку старшыні калгаса не тое каб вельмі хацелася распачынаць сярод поля сход.., але матыліцу выгнаць з дапамогай салдатак з такіх вось гарлапанаў, як Раман Сёмачкін, варта было б.* Чыгрынаў. *Ці з яго толк будзе? Чуць што — і закруціць, і пайшоў!.. Я з цябе матыліцу выганю!* Янкоўскі.

**ВЫГАНЯЦЬ ПОТ** *з каго.* Гл. выціскаць.

*ВЫГЛЯД* • **НА ВЫ́ГЛЯД**. *Акал. Разм.* Знешне, звонку. **Сін.**: з выгляду. *Цяпер Рудзіну 57 год, але на выгляд ён шмат маладзейшым здаецца.* Галавач. *На выгляд — нішто сабе людзі, а хворы на сверб языка, усё яны судзяць і гудзяць, скрывіўшыся з-пад казырка.* Лужанін. *Надзейцы ішоў чатырнаццаты год, але на выгляд наўрад ці можна было даць і дзесяць.* Ваданосаў. *Гаспадару на выгляд гадоў трыццаць пяць.* Пашкоў.

**РАБІЦЬ ВЫГЛЯД**. Гл. рабіць.

*ВЫГЛЯДАМ* • **ПАД ВЫ́ГЛЯДАМ**. *Акал. Функц не зам.* **1.** *чаго.* Прыкрываючыся якой-н. выдуманай прычынай (рабіць што-н.). **Сін.**: пад маркай (у 1 знач.). *[Напорка:] Таварыш Лютынскі казаў, што ён змагаўся з прышчэпаўшчынай, а на самай справе пад выглядам гэтага змагання звальняў з працы лепшых работнікаў.* Крапіва. *[Міхал:] Пад выглядам альтанак домікі будуюць, скляпы і чорт ведае што яшчэ там.* Карпаў.

**2.** *каго.* Выдаючы сябе за каго-н. **Сін.**: пад маркай (у 2 знач.). *Паехаў жа ён [Майбарада] да фронту пад выглядам нямецкага салдата.* Шамякін.

*ВЫГЛЯДЗЕ* • **У ВЫ́ГЛЯДЗЕ** *чаго. У знач. злучніка. Функц. не зам.* Як што-н. **Сін.**: у якасці *каго, чаго. [Нагель:] Прывесці сюды Шаўцова!.. Вось гэтага б нам уламаць. Але... А ўрэшце, ёсць некаторыя нечаканыя для яго акалічнасці... у выглядзе вось гэтага дакумента.* Крапіва.

*ВЫГЛЯДУ* • **З ВЫ́ГЛЯДУ**. *Акал. Разм.* Знешне, звонку. **Сін.**: на выгляд. *Гаспадар быў з выгляду моцны і дужы.* Чорны. *І дзіўна было Алесю, што і вахман, з выгляду мяшчаніс-ты, вастраносенькі акулярнік, — не клерк які-небудзь ды не дробны гандляр, а селянін таксама.* Брыль.

**НЕ ПАДАВАЦЬ ВЫГЛЯДУ**. Гл. падаваць.

*ВЫГНАЦЬ* • **ВЫГНАЦЬ З ГАЛАВЫ** *чыёй, каму што. Зак. да* **ВЫГАНЯЦЬ З ГАЛАВЫ** *чыёй, каму што.*

**ВЫГНАЦЬ З ГАЛАВЫ** *што. Зак. да* **ВЫГАНЯЦЬ З ГАЛАВЫ** *што.*

**ВЫГНАЦЬ МАТЫЛІЦУ** *з каго. Зак. да* **ВЫГАНЯЦЬ МАТЫЛІЦУ** *з каго.*

**ВЫГНАЦЬ ПОТ** *з каго. Зак. да* **ВЫГАНЯЦЬ ПОТ** *з каго.*

*ВЫДАВАЦЬ* • **ВЫДАВА́ЦЬ НА-ГАРА́** *што. Незак. Разм. Часта жарт.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** Рабіць што-н., займацца чым-н. *Мяне цікавіла іншае — што выдае на-гара гэты пяцідзесяцігадовы круглячок? Загадчык якой-небудзь гандлёвай базы? Адстаўнік?..* Парахневіч. **ВЫДАЦЬ НА-ГАРА** *што. Зак. Як ні дзіўна, але да гэтага часу найменш выдалі на-гара нашы кансультанты.* Танк.

**2.** Даваць жыццё чаму-н., спараджаць што-н. *Цяпер галоўная функцыя дырэктара заключалася ў тым, што ён «выдаваў на-гара» новыя ідэі.* Шамякін. **ВЫДАЦЬ НА-ГАРА** *што. Зак. Унь у фільмах Бабу-ягу мужчына іграе. Не знайшлося сярод артыстак ахвотнікаў на гэту роль. А я б такую Бабу-ягу выдаў на-гара! Дзеткі б ноччу падхопліваліся: «Ма-а-ма!»* Місько. *Праз колькі дзён гэты ж самы анекдот выдаў на-гара Шчыгол, і ўсё ў ім было: і дасціп, і вясёлы гумар, і настрой.* Масарэнка.

**3.** Стварыць у працэсе творчай дзейнасці; тварыць. *[Паэт] штодня на-гара радкі выдаваў, на словы быў шчодры — не жмінда.* Барадулін. *Ведаеш што, стары... Гэта тваё самае лепшае апавяданне, якое ты калі-небудзь выдаваў на-гара. Ты проста малайчына!* Зуб. **ВЫДАЦЬ НА-ГАРА** *што. Зак. [Байкар] пасля паходу месяц не вылазіў з дому і выдаў байку на-гара... пра Камара!* Юрчанка.

**ВЫДАВА́ЦЬ СЯБЕ́**. *Незак. Функц. не зам.* **1.** Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш. ці канкр. прадмета. Выяўляць сваю прысутнасць. **Сін.**: выдаваць сябе з галавой (у 1 знач.). **ВЫДАЦЬ СЯБЕ**. *Зак. Нясцерпна хочацца піць. Узнікае жаданне: устаць, пайсці ў хату, выпіць два кубкі халоднай, толькі што прынесенай са студні вады, але ён [Юрый] стрымліваецца. Выдаць сябе не штука.* Навуменка. *Строга-настрага забараняю атраду хоць адным выстралам выдаць сябе.* Гурскі. *Некалі падводныя лодкі выключалі рухавікі і клаліся на грунт — каб ніводным гукам не выдаць сябе.* Шыцік.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобн. Выяўляць свой стан, настрой, пачуцці перад кім-н. **Сін**.: выдаваць сябе з галавой (у 2 знач.). **ВЫДАЦЬ СЯБЕ**. *Зак. Не мог [Абабурка], калі вінаваты ў гібелі Рамейкі, чым-небудзь ды не выдаць сябе.* Шыцік. *Каб толькі не выдаць сябе, стрымаць... Ніхто, ніводзін чалавек у свеце не ведае Юльчынай таямніцы.* Гарэлікава.

**3**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выяўляць сваё дачыненне да якога-н. учынку, правіннасці і пад. **Сін**.: выдаць сябе з галавой (у 3 знач.). *Неверагоднае супадзенне. Ды і тэлефаністка штаба, што дзяжурыла ўначы, выдавала сябе страхам у вачах, хоць і адмаўляла, што малодшы лейтэнант Жмур з'яўлялася ў апаратнай.* Шамякін. **ВЫДАЦЬ СЯБЕ**. *Зак. Капітан [міліцыі] падсвядома адчуваў, амаль быў упэўнены, што хлопец нечым выдасць сябе. Так і здарылася.* Капусцін.

**ВЫДАВА́ЦЬ СЯБЕ́ З ГАЛАВО́Й**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Поўнасцю выяўляць сваю прысутнасць. **Сін**.: выдаваць сябе (у 1 знач.). **ВЫДАЦЬ СЯБЕ З ГАЛАВОЙ**. *Зак. Ці стане чалавек, калі ён пры добрым розуме, нападаць з пісталетам на атрад паліцыі? Ці стане ён страляць, каб выдаць і сябе з галавой ды і іншых... падвесці пад абух?* Лынькоў.

**2**. Поўнасцю выяўляць свой стан, настрой, пачуцці перад кім-н. **Сін**.: выдаваць сябе (у 2 знач.). *Калі Славу намякалі, што ён нераўнадушны да Веранікі, то хлопец адразу мяняўся з твару. Ён чырванеў, гарачыўся, бянтэжыўся і гэтым выдаваў сябе з галавой.* Навуменка. **ВЫДАЦЬ СЯБЕ З ГАЛАВОЙ**. *Зак. — Значыць, вырашылі ўсё ж у Берлін ехаць? — выдаў сябе з галавой Станіслаў.* Гурскі.

**3**. Поўнасцю выяўляць свае дачыненне да якога-н. учынку, правіннасці і пад. **Сін**.: выдаваць сябе (у 3 знач.). **ВЫДАЦЬ СЯБЕ З ГАЛАВОЙ**. *Зак. Калі мы збіралі ягады, ён трапіў у Скрыдлава да Лейбы. Цяпер, праўда, хлапчук разумее, што з галавой выдаў сябе. Думаю — шпікі зробяць данос — і на яго, і на Лейбу.* Бажко. *Але сам [Рыгор] які: узяў ды ляпнуў адразу, выдаў сябе з галавой.* Лецка.

*ВЫДАННІ* • **НА ВЫДА́ННІ**. *Вык. і азн. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн.-наз. *дачка, дзяўчына* і пад. У тым узросце, калі пара аддаваць замуж. *Старэйшая дачка была замужам. Астатнія дзяўчаты — на выданні.* Дубоўка. *Вольга была старэйшая, ужо на выданні, таму першыя дні трымалася далей ад нас.* Праскураў. *Пры чатырох гектарах зямлі з жонкай, дарослым сынам і дачкой на выданні чалавек мог бы нават добра жыць.* Машара.

*ВЫДАЦЬ* • **ВЫДАЦЬ НА-ГАРА** *што. Зак. да* **ВЫДАВАЦЬ НА-ГАРА** *што.*
**ВЫДАЦЬ СЯБЕ**. *Зак. да* **ВЫДАВАЦЬ СЯБЕ**.
**ВЫДАЦЬ СЯБЕ З ГАЛАВОЙ**. *Зак. да* **ВЫДАВАЦЬ СЯБЕ З ГАЛАВОЙ**.

*ВЫДЗЕРЦІ* • **ВЫДЗЕРЦІ ВОЧЫ** <*каму*>. *Зак. да* **ВЫДЗІРАЦЬ ВОЧЫ** <*каму*>.

*ВЫДЗІРАЦЬ* • **ВЫДЗІРАЦЬ ВОЧЫ** <*каму*>. Гл. выбіраць.

*ВЫДРАЦЬ* • **ВЫДРАЦЬ ВОЧЫ** <*каму*>. *Зак. да* **ВЫДЗІРАЦЬ ВОЧЫ** <*каму*>.

**ВЫ́ДРАЦЬ ЛЫ́САМУ ВАЛО́ССЕ (ВАЛАСЫ́)**. *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Зрабіць ці, выхваляючыся, мець намеры зраіць што-н. недарэчнае. — *Дык і я магу пад кіпець там якога Чэмберлена. Перад гэтым толькі выпіць дзеля смеласці нядрэнна... — Так, нішто з цябе ваяка — выдраць лысаму валоссе...* Крапіва. — *Ну што, выдраў лысаму валасы, вызначыўся? — Зраблю вывады, Сцяпанавіч...* Масарэнка. — *Было тваё, а цяпер будзе наша! — Напалохаў! Выдраў лысаму валасы! — глядзеў ваўком Пятро.* Далідовіч.

*ВЫДУМАЦЬ* • **ПОРАХУ НЕ ВЫДУМАЦЬ**. *Зак. да* **ПОРАХУ НЕ ВЫДУМЛЯЦЬ**.

*ВЫДУМЛЯЦЬ* • **ПО́РАХ (-У) НЕ ВЫДУМЛЯ́ЦЬ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нічога новага, свайго, арыгінальнага не ствараць. **Сін.**: зорак з неба не хапае. **Ант.**: хапаць зоркі з неба. — *Пра нас можна не гаварыць! — ужо крычыць Мудрык. — Мы порах не выдумляем. Але я казаў і буду казаць, што раўняць сапраўднага вучонага і няхай сабе найлепшага рабочага нельга.* Навуменка. **ПОРАХУ НЕ ВЫДУМАЦЬ**. *Зак.*

*ВЫЕДЗЕНАГА* • **ВЫЕДЗЕНАГА ЯЙЦА** *не варта*. Гл. яйца.

*ВЫЕДЗЕНАЕ* • **ВЫЕДЗЕНАЕ ЯЙЦО**. Гл. яйцо.

*ВЫЕСЦІ* • **ВЫЕСЦІ ВОЧЫ** *<каму>*. *Зак. да* **ВЫЯДАЦЬ ВОЧЫ** *<каму>*.
**ВЫЕСЦІ ДУШУ** *каму*. *Зак. да* **ВЫЯДАЦЬ ДУШУ** *каму*.

*ВЫЕХАЦЬ* • **ВЫЕХАЦЬ НА ГАРБЕ** *чыім*. *Зак. да* **ВЫЯЗДЖАЦЬ НА ГАРБЕ** *чыім*.

*ВЫЖЫВАЦЬ* • **ВЫЖЫВА́ЦЬ З РО́ЗУМУ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Траціць здольнасць цвяроза думаць, разважаць. Пра старога чалавека. *Старая графіня выжывала ўжо з розуму, ад старасці трэслася яе галава і левая рука...* Лынькоў. **ВЫЖЫЦЬ З РОЗУМУ**. *Зак. Для маладзейшых вяскоўцаў Антосева і Клаўдзіна жаніцьба была вартай смеху і жалю: выжылі з розуму, падзяцінелі, з'ехалі да ручкі.* Блакіт. *Міхал — вядомая справа, не ў сабе. З розуму даўно выжыў.* Бондар.

*ВЫЖЫЦЬ* • **ВЫЖЫЦЬ З РОЗУМУ**. *Зак. да* **ВЫЖЫВАЦЬ З РОЗУМУ**.

*ВЫЙ* • **ХОЦЬ ВО́ЎКАМ (ВАЎКО́М) ВЫ́Й (ЗАВЫ́Й)**. *Толькі ў заг. л. Акал. ці ў знач. вык. Разм.* Склалася цяжкае, бязвыхаднае становішча. Выказванне адчаю, бяссілля. **Сін.**: хоць рэпку спявай; хоць <ты> гвалт крычы; хоць макам садзіся; хоць <ты> плач. *Есці стала нечага, і на рынку ні да чаго не дакупішся... Хоць воўкам вый, хоць кладзіся на лаву ды сашчэплівай рукі.* Гарэцкі. *Мялешка тупаў на месцы, адлічваючы хвіліны, чакаў, калі яго зменяць. Сум неверагодны, хоць воўкам вый.* Асіпенка. *Увесь горад нагадвае казарму або бальніцу. І ад гэтай казарменна-бальнічнай дзейнасці хоць ты ваўком вый.* Караткевіч. *Вясной мужыку без насення хоць ваўком завый.* Чарнышэвіч.

*ВЫЙСЦІ* • **ВЫЙСЦІ БОКАМ** *каму*. *Зак. да* **ВЫХОДЗІЦЬ БОКАМ** *каму*.
**ВЫЙСЦІ З ГАЛАВЫ** *<у каго>*. *Зак. да* **ВЫХОДЗІЦЬ З ГАЛАВЫ** *<у каго>*.
**ВЫЙСЦІ З-ПАД ПЯРА** *каго, чыйго*. *Зак. да* **ВЫХОДЗІЦЬ З-ПАД ПЯРА** *каго, чыйго*.
**ВЫЙСЦІ З СЯБЕ**. *Зак. да* **ВЫХОДЗІЦЬ З СЯБЕ**.
**ВЫЙСЦІ НА АРБІТУ**. *Зак. да* **ВЫХОДЗІЦЬ НА АРБІТУ**.
**ВЫЙСЦІ НАВЕРХ**. *Зак. да* **ВЫХОДЗІЦЬ НАВЕРХ**.
**ВЫЙСЦІ НА ДАРОГУ** *<якую>*. *Зак. да* **ВЫХОДЗІЦЬ НА ДАРОГУ** *<якую>*.
**ВЫЙСЦІ ПРАЗ БОК** *каму, у каго*. *Зак. да* **ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ БОК** *каму, у каго*.
**ВЫЙСЦІ СА СТРОЮ**. *Зак. да* **ВЫХОДЗІЦЬ СА СТРОЮ**.
**ВЫЙСЦІ СУХІМ З ВАДЫ**. *Зак. да* **ВЫХОДЗІЦЬ СУХІМ З ВАДЫ**.
**ВЫЙСЦІ Ў ЛЮДЗІ**. *Зак. да* **ВЫХОДЗІЦЬ У ЛЮДЗІ**.
**ВЫЙСЦІ Ў СВЕТ**. *Зак. да* **ВЫХОДЗІЦЬ У СВЕТ**.
**ВЫЙСЦІ Ў ТЫРАЖ**. *Зак. да* **ВЫХОДЗІЦЬ У ТЫРАЖ**.

*ВЫЙШАЎ* • **ДУХ ВЫЙШАЎ** *з каго, у каго*. Гл. дух.

**РЫЛАМ НЕ ВЫЙШАЎ**. *Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не адпавядае якім- ці чым-н. патрабаванням; не гадзіцца па сваіх якасцях, здольнасцях для чаго-н. *Грабоўскі.. сядзеў, не зводзячы вачэй з танцуючай пары, на якую многія ў рэстаране пазіралі цяпер з адкрытым захапленнем. — А глядзіць як, — сказаў ён, — вось каб на мяне... — Рылам не выйшаў, — падкалоў крытык.* Караткевіч. *Сядзеў сабе Пацук і пісаў. Доўга пісаў. Год напінаўся, два соп, дваццаць гадоў уходаў, а толку — нуль, выніку — пшык: не адбыўся пераход колькасці ў якасць. Не пашанцавала па жыцці і Пацуку, не выйшаў рылам.* Маракоў.

*ВЫЙШЛА* • **СЕ́М (СО́РАК) ПАТО́Ў ВЫЙШЛА (ВЫЦЕКЛА, ВЫЛІЛАСЯ)** *з каго*; **СЕ́М (СО́РАК) ПАТО́Ў ВЫЙДЗЕ (ВЫЦЕЧА, ВЫЛЬЕЦЦА)** *з каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. затраціў шмат намаганняў для выканання чаго-н. *[Даніла:] Толька паглядаюць адзін на аднаго... А з мяне сем патоў выйшла...* Чарнышэвіч. *Колькі трэба абысці магазінаў, колькі трэба патаўчыся ў чэргах! Сорак патоў з нас выйшла, пакуль мы купілі ўсё, што нам патрэбна было.* Мік.Ткачоў. *З мяне выцекла сем патоў, пакуль я зваліў дрэва.* Карпюк. *Сем патоў выльецца з цябе, здранцвеюць рукі, знямеюць плечы ды спіна, пакуль ускапаеш гэты загон, перавернеш зямлю на ім.* А.Марціновіч.

*ВЫКАЛІ* • **ХО́ЦЬ ВО́КА ВЫКАЛІ**. *Толькі ў гэтай форме. Разм.* **1.** *дзе, калі. У безас. ужыв.* Зусім нічога не відаць з-за цемры. **Сін.**: хоць <ты> на воўка ўзлезь. **Ант.**: хоць <ты> іголкі збірай. *Дзе вы? Тут хоць вока выкалі.* Арабей. *У полі — хоць вока выкалі. Наш ліхтар кідае доўгую пляму на ржэўнік і раллю, выхоплівае з цемры то абымшэлы валун, то трапяткую асіну.* Аношкін. *Паглядзіце, за акном хоць вока выкалі...* Няхай. *Месяц крыху павісеў на дрэве і зноў схаваўся за хмару. Цяпер хоць вока выкалі.* Сяркоў.

**2**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн., выраж. словамі *вечар, ноч.* Такі цёмны, што немагчыма нічога ўбачыць. *Вечар цёмны — хоць вока выкалі.* Каваленка. *Ноч — хоць вока выкалі. Толькі ззаду, у Дабрадзееўцы, праз заслону дажджу свяціліся вокны хат і адзінокія электрычныя ліхтары.* Шамякін. *Ноч — хоць вока выкалі, завея — не прывядзі госпадзі.* Лупсякоў.

**3**.*Вык.* Ужыв. пры дзейн., выраж. словамі *цемень, цемра* і пад. Выключная, абсалютная, такая, што нічога не відаць. *Я іду паціху, бо цемра хоць вока выкалі...* Галавач. *Ехалі пасля дажджу мокрым чорным лесам, цемень — хоць вока выкалі, нават тых дрэў, што пры дарозе, не відаць.* Карамазаў. *Да вёскі кіламетраў пяць, а цемень хоць вока выкалі. Што рабіць? Пайшлі пехатой.* Левановіч.

*ВЫКАПАЦЬ* • **ВЫКАПАЦЬ МАГІЛУ** *каму, чаму. Зак. да* **КАПАЦЬ МАГІЛУ** *каму, чаму.*
**ВЫКАПАЦЬ ЯМУ** *каму, пад каго, для каго. Зак. да* **КАПАЦЬ ЯМУ** *каму, пад каго, для каго.*

*ВЫКІДАЦЬ* • **ВЫКІДА́ЦЬ (ВЫКІ́ДВАЦЬ) ЗА БО́РТ** *каго, што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Адхіляць што-н. ці выракацца каго-н. як непатрэбнага. — *А чалавек ён добры. — Гэтага мала... — Памыліўся, дык з кім гэтага не бывае. Няўжо ж яго выкідаць за борт?* Гурскі. **ВЫКІНУЦЬ ЗА БОРТ** *каго, што. Зак. Вы зразумейце, Пётр Аляксеевіч, мы жадаем вам толькі лепшага. Мы не хочам, каб само жыццё выкінула вас за борт...* Гаўрылкін. *Некалі яна [Глаша] так не фамільярнічала. А тут выкінула за борт усялякую субардынацыю.* Шамякін.
**ВЫКІДА́ЦЬ (ВЫКІ́ДВАЦЬ) КАЛЕ́НЦА (КО́НІКІ)**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рабіць ці гаварыць што-н. недарэчнае, нечаканае. *Хлопец быццам не дурны, на ляту ўсё ловіць... Але ж басяк, якіх і ў раду іхнім не было. Быццам маленькі, дурыкі строіць, конікі выкідае.* Сачанка. *За столікам сядзіць наш харошы і няст-*

*рымны Вараціла — прататып героя аповесці, які ў інтэрнаце з трэцяга паверха з'язджае па лесвіцы на лыжах. Гэ, ён і не такія конікі выкідваў!..* Карпюк. **ВЫКІНУЦЬ КАЛЕНЦА (КОНІКІ).** *Зак. [Люда] весела смяялася і хітра прыжмурвала адно вока, як бы заклікаючы дзядзьку ўступіць з ёй у змову і разам выкінуць каленца.* Шамякін. *Ты яшчэ дачакаешся, калі Надзя выкіне каленца. А ўсё з-за таго, што ты ёй патураеш.* Асіпенка.

**ВЫКІДА́ЦЬ ДУ́Р (ДУ́РАСЦЬ, ДУРАТУ́) З ГАЛАВЫ́** <*якую*>. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Абразумлівацца, пазбаўляцца ад якой-н. дрэннай звычкі, схільнасці. **ВЫКІНУЦЬ ДУР (ДУРАСЦЬ, ДУРАТУ) З ГАЛАВЫ** <*якую*>. *Зак. Змоўкні, зараз жа змоўкні! Зараз жа, калі хочаце быць у школе, выкіньце дур з галавы!..* Лецка. *[Юзаф:] Марына! Да пабачэння... І выкінь з галавы гэтую дурасць! Чуеш?* Васілеўскі. *Пагавары з ім [Марозам]. Каб ён гэтую дурату выкінуў з галавы. А не, дык на Шчару паганю. У сцюдзёнай вадзе пабоўтаецца — паразумнее.* Быкаў.

**ВЫКІДА́ЦЬ З ГАЛАВЫ́ (З ПА́МЯЦІ)** *каго, што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пераставаць думаць пра каго-, што-н., старацца забыць каго-, што-н. **Сін.**: выкрэсліваць з памяці *каго, што*; здаваць у архіў (у 1 знач.); спісваць з рахунку (у 1 знач.); спісваць у архіў *што*. **ВЫКІНУЦЬ З ГАЛАВЫ (З ПАМЯЦІ)** *каго, што. Зак. [Мальвіна:] Выкінуць яго трэба з галавы. Ён табе не раўня.* В.Вольскі. *Выкінь з галавы старасветчыну. А то пачнеш выбіраць жаніхоў на свой густ...* Шамякін. *Выкінуць з памяці Мартына або думаць аб ім зусім спакойна, як аб чалавеку, што адышоў ад нас у прошласць, Аўгіня не магла да гэтага часу.* Колас. *Людміла лічыла, што ўсё паміж Валодзем і ёю скончылася, яны проста знаёмыя, не больш. Так яно, мусіць, і было, але нельга ж выкінуць з памяці і мінулае.* Арабей.

**ВЫКІДА́ЦЬ (ЗМЯТА́ЦЬ) НА СМЕ́ТНІК ГІСТО́РЫІ** *каго, што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, сукупнасці асоб ці абстр. прадмета. Пазбаўляцца ад каго-, чаго-н. устарэлага, аджылага, нікому не патрэбнага і забываць пра існаванне каго-, чаго-н. **ВЫКІНУЦЬ (ЗМЕСЦІ) НА СМЕТНІК ГІСТОРЫІ** *каго, што. Зак. Ваш народ будзе жыць! А што да здраднікаў, дык яны будуць выкінуты на сметнік гісторыі.* Гурскі. *Магутнай бурай рэвалюцыі змецены былі на сметнік гісторыі троны і кароны.* Бялевіч.

**ВЫКІДА́ЦЬ З СЭ́РЦА (З ДУШЫ́)** *каго, што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пераставаць кахаць каго-н., любіць што-н. *Я заставаўся верны ўвесь час Данусі, не выкідаў яе з сэрца і цяпер з чыстым сумленнем глядзеў ёй у вочы.* Карпюк. **ВЫКІНУЦЬ З СЭРЦА (З ДУШЫ)** *каго, што. Зак. [Рыта] намеціла сабе рубеж — чакаць яшчэ тры дні, а калі [Сяргей] не прыедзе, перастаць пра яго думаць, выкінуць з душы...* Навуменка. *Сам [Алесь] не можа выкінуць з сэрца таго, што было. Яно ж не выдумана, заняло важную частку яго жыцця.* Новікаў.

**ВЫКІДАЦЬ НА ВЕЦЕР** *грошы* і пад. Гл. кідаць.

**ВЫКІДА́ЦЬ НА ВО́КА** <*каму*>. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Зласліва гаварыць каму-н. пра што-н. непрыемнае. *[Даміцэля:] Чужых мужыкоў адбівае ды яшчэ на вока выкідае, калі чалавек праз памылку зайшоў і заначаваў.* Купала. **ВЫКІНУЦЬ НА ВОКА** <*каму*>. *Зак. Ну й надаедная кабета: вось так і выкіне на вока.* Колас. *[Бладзік] калі добра ўгадае, а калі і сваіх слоў колькі прыкіне. Бывае, што яму гэта на вока выкінуць хлопцы ці настаўнік.* Калюга.

**ВЫКІДА́ЦЬ НА СМЕ́ТНІК.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. **1.** *што.* Дарэмна траціць, марнаваць што-н. **Сін.**: кідаць на вецер *грошы* і пад.; пускаць на вецер *грошы* і пад.; пускаць у трубу *што. Усяго толькі паўгода*

*нам засталося... А калі ты кінеш цяпер школу, то выкідаеш на сметнік тры гады свайго жыцця...* Дамашэвіч. **ВЫКІНУЦЬ НА СМЕТНІК** *што. Зак. Мы выкінулі нашы грошы на сметнік і вінавацім людзей, што яны не ўмеюць гаспадарыць.* Скрыган.
2. *каго, што.* Не лічыцца з кім-, чым-н., прызнаваць непатрэбным каго-, што-н. **ВЫКІНУЦЬ НА СМЕТНІК** *што. Зак. Чытаю вершы польскіх футурыстаў, якія збіраліся выкінуць на сметнік ўсіх класікаў і лічылі тэлеграфны апарат Морзе найбольшым творам мастацтва.* Танк. *Але калі пайсці далей па сцяжыне тых, хто займаецца доказамі ад абсурднага, куды мы выйдзем? Да патрабаванняў перагледзець ялцінскія рашэнні аб пасляваенных граніцах, выкінуць на сметнік хельсінскія пагадненні аб супрацоўніцтве і бяспецы ў Еўропе.* «ЛіМ». *[Бегер:] Выкіньце, Марбах, нямецкі сентыменталізм на сметнік.* Матукоўскі.

*ВЫКІДВАННЕ* • **ВЫКІ́ДВАННЕ ЗА ВАРО́ТЫ** *каго. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Звальненне з работы, пазбаўленне сродкаў існавання. *Выкарыстоўваючы слова «вызваленне», трэба мець на ўвазе, што гэта не выкідванне людзей за вароты прадпрыемстваў і ўстаноў, а перагрупоўка іх з улікам інтарэсаў грамадства ў цэлым.* «Звязда».

*ВЫКІДВАЦЦА* • **ВЫКІ́ДВАЦЦА ЗА БО́РТ**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Адхіляць як непатрэбнае, непрыдатнае.

*ВЫКІДВАЦЬ* • **ВЫКІ́ДВАЦЬ ЗА ВАРО́ТЫ** *каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці няпэўнай сукупнасці асоб. Звальняць з работы, пазбаўляць сродкаў існавання. **Сін.**: выкідваць на вуліцу *каго* (у 2 знач.). **ВЫКІНУЦЬ ЗА ВАРОТЫ** *каго. Зак. [Марка] мыў лесвіцы, туалеты ў невялікім атэлі, атрымліваючы за гэту брудную работу менш палавіны жалавання італьянца. Але быў ён задаволены і гэтым. Пакуль аднойчы, без усякага папярэджання і тлумачэнняў, яго не выкінулі за вароты.* «Звязда».
**ВЫКІ́ДВАЦЬ НА ВУ́ЛІЦУ** *каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці няпэўнай сукупнасці асоб. 1. Пазбаўляць жылля. *У практыцы нярэдка здараліся выпадкі, калі сваякі забіралі састарэлых [з дома-інтэрната] і выкідвалі іх потым на вуліцу, выцягнуўшы ўсе зберажэнні.* «Звязда». **ВЫКІНУЦЬ НА ВУЛІЦУ** *каго. Зак.*
2. Звальняць з работы, пазбаўляць сродкаў існавання. **Сін.**: выкідваць за вароты *каго.* **ВЫКІНУЦЬ НА ВУЛІЦУ** *каго. Зак. Калі вы нават якім-небудзь нахрапным парадкам станеце за старшыню гэтай камісіі, і тады я ніводнага слова не скажу вам з сваёй споведзі. Лепш быць выкінутым на вуліцу, чым спавядацца...* Чорны. *Дзесяткі тысяч рабочых былі выкінуты на вуліцу.* Анісаў.
**ВЫКІДВАЦЬ ЗА БОРТ** *каго, што.* Гл. выкідаць.
**ВЫКІДВАЦЬ КАЛЕНЦА**. Гл. выкідаць.

*ВЫКІНУЦЬ* • **ВЫКІНУЦЬ ДУР З ГАЛАВЫ** *<якую>. Зак. да* **ВЫКІДАЦЬ ДУР З ГАЛАВЫ** *<якую>.*
**ВЫКІНУЦЬ ЗА БОРТ** *каго, што. Зак. да* **ВЫКІДАЦЬ ЗА БОРТ** *каго, што.*
**ВЫКІНУЦЬ ЗА ВАРОТЫ** *каго. Зак. да* **ВЫКІДВАЦЬ ЗА ВАРОТЫ** *каго.*
**ВЫКІНУЦЬ З ГАЛАВЫ** *каго, што. Зак. да* **ВЫКІДАЦЬ З ГАЛАВЫ** *каго, што.*
**ВЫКІНУЦЬ З СЭРЦА** *каго, што. Зак. да* **ВЫКІДАЦЬ З СЭРЦА** *каго, што.*
**ВЫКІНУЦЬ КАЛЕНЦА**. *Зак. да* **ВЫКІДАЦЬ КАЛЕНЦА**.
**ВЫКІНУЦЬ НА ВЕЦЕР** *грошы* і пад. *Зак. да* **ВЫКІДАЦЬ НА ВЕЦЕР** *грошы* і пад.
**ВЫКІНУЦЬ НА ВОКА** *<каму>. Зак. да* **ВЫКІДАЦЬ НА ВОКА** *<каму>.*
**ВЫКІНУЦЬ НА ВУЛІЦУ** *каго. Зак. да* **ВЫКІДВАЦЬ НА ВУЛІЦУ** *каго.*
**ВЫКІНУЦЬ НА СМЕТНІК**. *Зак. да* **ВЫКІДАЦЬ НА СМЕТНІК**.

**ВЫКІНУЦЬ НА СМЕТНІК ГІСТОРЫІ** *каго, што. Зак. да* **ВЫКІДАЦЬ НА СМЕТНІК ГІСТОРЫІ** *каго, што.*

*ВЫКЛАДАЦЬ* • **ВЫКЛАДА́ЦЬ БАКІ́**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Есці што-н. апетытнае, смачнае. **ВЫКЛАСЦІ БАКІ**. *Зак. З такой шляхтай і чарку можна ўзяць, і абняцца, і песню праспяваць. А бывае, добра выклаўшы бакі, і паваляцца разам пад плотам.* Наварыч. [*Лепешаў*, с. 23: выкладаць бакі (бокі); *Даніловіч*, с. 30: бокі выкласці (вылажыць) — 'уволю наесціся'.]

**ВЫКЛАДА́ЦЬ (ВЫКЛА́ДВАЦЬ) <СВАЮ́> ДУШУ́** *каму, перад кім. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Шчыра дзяліцца з кім-н. сваімі думкамі, пачуццямі, перажываннямі. **Сін.**: адводзіць душу (у 1 знач.); адкрываць <сваё> сэрца *каму, перад кім* (у 2 знач.); адкрываць <сваю> душу *каму, перад кім*; выліваць душу *каму. — Анежка! Я хачу прызнацца табе... — Ён [Алесь] блытана пачаў выкладваць сваю душу. — Не магу без цябе.* Броўка. *Многа ты, хлопча, хочаш: душу перад табой выкладвай.* Ярашэвіч. **ВЫКЛАСЦІ <СВАЮ> ДУШУ** *каму, перад кім. Зак. Усё мне расказала [Святлана], усю душу выклала. І лягчэй ёй стала.* Гарэлікава.

*ВЫКЛАДВАЦЬ* • **ВЫКЛА́ДВАЦЬ <СВАЕ́, УСЕ́> КА́РТЫ (КО́ЗЫРЫ) <НА СТО́Л>**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гаварыць, паведамляць пра што-н. істотнае. *— Я гутарку вяду тут не на жарты. — Ну-ну, давай! Выкладвай карты.* Крапіва. *[Шаталаў:] Ну-ну, выкладвай свае козыры. Толькі глядзі, за кожнае слова будзеш адказваць.* Кобец. **ВЫКЛАСЦІ (ВЫЛАЖЫЦЬ) <СВАЕ, УСЕ> КАРТЫ (КОЗЫРЫ) <НА СТОЛ>**. *Зак. Ты ўстаў з-за машынкі і адразу выклаў карты. Галоўнае заключалася ў тым, каб усё паставіць на канвеер...* Кацюшэнка. *Дзіўна было б, каб яму адразу, з першай сустрэчы вылажылі ўсе карты на стол.* Шамякін. *Іншым разам Іван Ігнатавіч так і зрабіў бы. Вылажыў бы козыры на стол: глядзі сам, рабі вывады.* Кудравец.

**ВЫКЛАДВАЦЬ <СВАЮ> ДУШУ** *каму, перад кім.* Гл. выкладаць.

*ВЫКЛАСЦІ* • **ВЫКЛАСЦІ БАКІ**. *Зак. да* **ВЫКЛАДВАЦЬ БАКІ**.

**ВЫКЛАСЦІ НА БОЧКУ** *грошы. Зак. да* **КЛАСЦІ НА БОЧКУ** *грошы.*

**ВЫКЛАСЦІ <СВАЕ> КАРТЫ <НА СТОЛ>**. *Зак. да* **ВЫКЛАДВАЦЬ <СВАЕ> КАРТЫ <НА СТОЛ>**.

**ВЫКЛАСЦІ <СВАЮ> ДУШУ** *каму, перад кім. Зак. да* **ВЫКЛАДАЦЬ <СВАЮ> ДУШУ** *каму, перад кім.*

*ВЫКЛІКАЦЬ* • **ВЫКЛІКА́ЦЬ (БРА́ЦЬ) АГО́НЬ НА СЯБЕ́**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. **1**. Знарок адцягваць увагу ворага на сябе замест іншых. *Нашы гарады — гэта мужныя байцы, Валя. І тыя, якія трапляюць у рукі ворага, выклікаюць агонь на сябе. Таму іх паважаць трэба.* Карпаў. *Шалудзяк браў агонь на сябе, трэба зараз жа гэта выкарыстаць.* Быкаў. **ВЫКЛІКАЦЬ (УЗЯЦЬ) АГОНЬ НА СЯБЕ**. *Зак. Рашэнне выклікаць агонь на сябе прыйшло само сабой — другога выхаду не заставалася.* Новікаў.

**2**. Прымаць на сябе самае цяжкае, першаму трапляць у небяспеку. *Сяргей Сяргеевіч.. рэдка хаваецца за плечы сакратара парткома Уладзіміра Паўлавіча ці шафёра Аляксея, ён, як кажуць, выклікае агонь на сябе.* «ЛіМ». *Парушалі ж дысцыпліну і парадак, як выявілася, найперш і найбольш «пазваночнікі» — дзеці і ўнукі розных начальнікаў. Прымаць супраць іх нейкія меры пакарання — гэта выклікаць агонь на сябе.* Сачанка. **ВЫКЛІКАЦЬ (УЗЯЦЬ) АГОНЬ НА СЯБЕ**. *Зак. Раззлаваную жанчыну спрабавалі ўтаймаваць партнёры мужа па картачнай гульні, чым выклікалі агонь на сябе.* «Звязда».

*ВЫКРАСЛІЦЬ* • **ВЫКРАСЛІЦЬ З ПАМЯЦІ** *каго, што. Зак. да* **ВЫКРЭСЛІВАЦЬ З ПАМЯЦІ** *каго, што.*

*ВЫКРУЦІЦЬ* • **ВЫКРУЦІЦЬ СЫРЫЦУ** *з каго. Зак. да* **ВЫКРУЧВАЦЬ СЫРЫЦУ** *з каго.*

*ВЫКРУЧВАЙ* • **ХО́ЦЬ ВЫКРУ́ЧВАЙ.** *Толькі ў гэтай форме. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн., выраж. словамі *кашуля, сарочка* і пад. Вельмі мокры (ад цяжкай працы, шпаркай хады і пад.). *— Ды і нам пара адпачываць, — адгукнулася Аня, якая дагэтуль пакорліва ішла моўчкі. — Запарыла ты мяне, Шурачка: сарочка — хоць выкручвай.* Шамякін. *На таку — усе з запалам — мы зграбаем зерне ў кучы. Яшчэ й кроплі не упала, а кашулі — хоць выкручвай.* Барадулін. *У галаве гуло, кашуля на спіне — хоць выкручвай.* Ягоўдзік.

*ВЫКРУЧВАННЕ* • **ВЫКРУ́ЧВАННЕ РУ́К.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Неадабр.* Грубы націск на каго-н., каб дабіцца якіх-н. выгад для сябе. *Кіраўнікі адміністрацыі [ЗША] асабіста займаліся «выкручваннем рук» кангрэсменам, не грэбуючы макарцісцкімі прыёмамі.* «Звязда».

*ВЫКРУЧВАЦЬ* • **ВЫКРУ́ЧВАЦЬ РУ́КІ** *каму. Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Груба націскаць на каго-н., дамагаючыся выгаднага для сябе рашэння якога-н. пытання. *Як ні выкручвалі верхаводы Вашынгтона рукі заходнееўрапейцам, ніводзін васал ЗША, апрача ФРГ, так і не выканаў загаду павялічыць ваенныя выдаткі штогод на 3 працэнты.* «Полымя». **ВЫКРУ́ЧВАЦЬ СЫРЫ́ЦУ** *з каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Поўнасцю падпарадкоўваць сваёй волі, свайму жаданню; муштраваць. **Сін.**: браць верх (у 1 знач.); браць у <свае> рукі (у 1 знач.); віць вяроўкі *з каго*; ездзіць вярхом *на кім*; ездзіць ка карку *чыім*; запрагаць у аглоблі *каго*; надзяваць аброць *на каго, на што*; надзяваць хамут *на каго*; надзяваць ярмо на шыю *каму*; падмінаць пад сябе *каго, што*; прыбіраць да рук (у 1 знач.); садзіцца на галаву *каму*; садзіцца на карак *каму, чый, каго* (у 1 знач.); сціскаць у кулак *каго*; убіраць у <свае> рукі (у 1 знач.). **ВЫКРУЦІЦЬ СЫРЫ́ЦУ** *з каго. Зак. [Вярэніч:] Самі сабою толькі хвоі растуць. А ты, Вулляна, з свайго [сына] сырыцы не выкруціла.* Петрашкевіч. *Пападзецца ў мае рукі — выкручу сырыцу.* Янкоўскі.

*ВЫКРЭСЛІВАЦЬ* • **ВЫКРЭ́СЛІВАЦЬ З ПА́МЯЦІ** *каго, што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пераставаць думаць пра каго-, што-н., забываць каго-, што-н. **Сін.**: выкідаць з галавы *каго, што*; здаваць у архіў (у 1 знач.); спісваць з рахунку (у 1 знач.); спісваць у архіў *што.* **ВЫКРАСЛІЦЬ З ПАМЯЦІ** *каго, што. Зак. Не выкрасліць з памяці, не забыць маленькіх жабракоў. Іхнія высахлыя, як ад старасці, рукі.* Крыга. *Малады глядач эмацыянальны, бескампрамісны, катэгарычны. Пасля адной такой [няўдалай] сустрэчы з тэатральным мастацтвам выкрасліць яго са сваёй памяці.* «Настаўн. газ.»

*ВЫЛАЖЫЦЬ* • **ВЫЛАЖЫЦЬ НА БОЧКУ** *грошы. Зак. да* **КЛАСЦІ НА БОЧКУ** *грошы.* **ВЫЛАЖЫЦЬ <СВАЕ> КАРТЫ <НА СТОЛ>.** *Зак. да* **ВЫКЛАДВАЦЬ<СВАЕ> КАРТЫ <НА СТОЛ>.**

*ВЫЛАЗІЦЬ* • **ВО́МЕГАМ ВЫЛА́ЗІЦЬ** *каму. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. ці абстр. прадмета. Кепска канчацца для каго-н., не праходзіць бясследна. Звычайна пра расплату за які-н. учынак. **Сін.**: вылазіць бокам *каму*; вылазіць праз бок *каму, у каго. Домна аж плакала. Яна ж яму [Віктару] сёння хацела сказаць, што балаўство яго вомегам вылазіць.* Лобан. *Мая мама заўсёды кажа, што чужое*

*вомегам вылазіць.* Пальчэўскі. **ВОМЕГАМ ВЫЛЕЗЦІ** *каму. Зак. І надумаўся тут Данілка пайсці на хітрасць, хоць, можа, потым і вомегам вылезе гэтая хітрасць.* Кулакоўскі. *Калі ж бо ты патрапіш на сваё. То мо ж вомегам вылезуць слёзы нашы.* Юрчанка.

**ВЫЛА́ЗІЦЬ (ВЫХО́ДЗІЦЬ) БО́КАМ** *каму. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. ці абстр. прадмета. Кепска канчацца для каго-н., не праходзщь бясследна. Звычайна пра расплату за які-н. учынак. **Сін.**: вомегам вылазіць *каму*; вылазіць праз бок *каму, у каго. — Папішчаць немчыкі. — Палезлі, думалі, надурняка Расію схопяць, а яно вылазіць бокам.* Навуменка. *Для нас, браце, кожны спосаб важны, абы ён фашыстам бокам вылазіў.* Лынькоў. *Пачастунак твой, грыбавар, выходзіць бокам...* Місько. **ВЫЛЕЗЦІ (ВЫЙСЦІ) БОКАМ** *каму. Зак. [Лявон:] Бокам вылезе вам гэты дэпутат.* Макаёнак. *Хадзіць па прыклад — недалёка: трубіў адзін з нядаўніх крыкс, прасторы прагнуў... Выйшла бокам, і як узнік ён, так і знік.* Лужанін.

**ВЫЛА́ЗІЦЬ (ВЫХО́ДЗЩЬ) ПРАЗ БО́К** *каму, у каго. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. ці абстр. прадмета. Кепска канчацца для каго-н., не праходзіць бясследна. Звычайна пра расплату за які-н. учынак. **Сін.**: вомегам вылазіць *каму*; вылазіць бокам *каму. [Антаніна Цімафееўна:] Ты заўсёды так: табе нехта насоліць, а ў мяне гэта праз бок вылазіць.* Макаёнак. *Гэтыя заўчасныя хваляванні прыціхнуць самі па сабе, меншавікі ад рэпрэсій устрымаюцца, бо гэта ім праз бок ужо выходзіць пачынае...* Самуйлёнак. **ВЫЛЕЗЦІ (ВЫЙСЦІ) ПРАЗ БОК** *каму, у каго. Зак. — Каб вылезла дабро маё праз бок, — так лае дзядзька Шлёму.* Крапіва. *Ну, ён мне быў два бараны даў, няхай яны яму праз бок вылезуць.* Чорны.

**ВЫЛАЗІЦЬ НАВЕРХ**. Гл. выходзіць.

**ВЫЛАЗІЦЬ СА СКУРЫ**. Гл. вылузвацца.

*ВЫЛАМАЦЬ* • **З КАЛЕ́НА ВЫ́ЛАМАЦЬ** *што. Зак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прыдбаць, дастаць, знайсці нерэальным спосабам. Пра немагчымасць чаго-н. *— А зброю што, з калена выламіш? — Ёсць зброя. Ведаю дзе.* Караткевіч. *Я б з дарагой душой, паночак, [падаткі] аддала, дык дзе ж мне ўзяць, хіба з калена выламаць.* Сабаленка. *— Ну, раз няма, дык што? Што я яе з калена выламлю? Дабуду! — раптам рашуча заявіў Цімка. — Сваімі зубамі горла перагрызу немцу, а вінтоўку дабуду.* Ставер. *Эх, вы... дзівакі-рыбакі, не ведаеце, дзе знайсці бохан людскага хлеба... З калена выламім, а скажам, знайшлі...* Дайнека.

*ВЫЛАМІ* • **ХО́ЦЬ З КАЛЕ́НА ВЫ́ЛАМІ**. *Акал. Разм. Часцей ужыв. пры дзеясл.-вык. зак. тр.* Абавязкова, не зважаючы ні на што, любымі сродкамі (а зрабі што-н.). **Сін.**: кроў з носа, а; любой цаной; <усімі> праўдамі і няпраўдамі; хоць <ты> лопні (у 2 знач.); што б там ні было. *Яно ж так: адзін жыве і на лепшае спадзяецца, а другому хоць ты з калена вылами, а гатоўку дай.* Вітка. *І тут Марфа нечакана заявіла мужу, што яна ніяк не можа абыходзіцца без халадзільніка. Хоць забіся, хоць трэсні, хоць з калена вылами, а падавай Марфе беленькі халадзільнік.* Гігевіч. *[Сын] яшчэ і перабіраў: гэта не так, тое не гэтак. Малы енчыў, прасіў, а падрос — дай, хоць з калена вылами.* Грахоўскі. *[Маладыя] хочуць ісці на кватэру з інтэрната, — зноў давай бацька грошы! Хоць з калена вылами, а дай!* Дамашэвіч.

*ВЫЛАМІШ* • **З КАЛЕ́НА НЕ ВЫ́ЛАМІШ** *каго, што. У безас. ужыв. Разм. Іран.* Каго-, чаго-н. няма ў гэты момант, немагчыма мець каго-, што-н. *Я разумею райком. Ім трэба добрыя кіраўнікі. А з калена не выламіш.* Ермаловіч. *Хіба ж я не ведаю, хіба ж я сля-*

*пы, што не бачу, як дзяржаве хлеб трэба. Але дзе я яго вазьму, калі ён не нарос, яго ж з калена не выламіш...* Сабаленка.

*ВЫЛЕЗЦІ* • **ВОМЕГАМ ВЫЛЕЗЦІ** *каму. Зак. да* **ВОМЕГАМ ВЫЛАЗІЦЬ** *каму.*

**ВЫЛЕЗЦІ БОКАМ** *каму. Зак. да* **ВЫЛАЗІЦЬ БОКАМ** *каму.*

**ВЫЛЕЗЦІ НАВЕРХ.** *Зак. да* **ВЫЛАЗІЦЬ НАВЕРХ.**

**ВЫЛЕЗЦІ ПРАЗ БОК** *каму, у каго. Зак. да* **ВЫЛАЗІЦЬ ПРАЗ БОК** *каму, каго.*

**ВЫЛЕЗЦІ СА СКУРЫ**. *Зак. да* **ВЫЛАЗІЦЬ СА СКУРЫ**.

*ВЫЛЕЦЕЎ* • **ДУХ ВЫЛЕЦЕЎ** *з каго, у каго.* Гл. дух.

**ХМЕЛЬ ВЫЛЕЦЕЎ З ГАЛАВЫ** *ў каго.* Гл. хмель.

*ВЫЛЕЦЕЦЬ* • **ВЫЛЕЦЕЦЬ З ГАЛАВЫ** *<у каго>. Зак. да* **ВЫЛЯТАЦЬ З ГАЛАВЫ** *<у каго>.*

**ВЫЛЕЦЕЦЬ У ТРУБУ**. *Зак. да* **ВЫЛЯТАЦЬ У ТРУБУ**.

*ВЫЛІ* • **ХО́ЦЬ НА САБА́КУ ВЫ́ЛІ**. *Толькі ў гэтай форме. Вык. ці азн. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн., які абазначае назвы страў. Непрыемны на смак, зусім нясмачны. **Сін.**: расце ў роце. **Ант.**: за вушы не адцягнеш (у 1 знач.); пальчыкі абліжаш (у 1 знач.); у роце растае; язык праглынеш. *Спрабавалі кулінарыць па чарзе. Ды абеды дзядзькі Алампія — хоць на сабаку вылі, «бабскіх спраў», як ён кажа, гэты сялянскі патрыярх не разумее.* Шамякін. *Вось без солі — не жыццё. Усе такое нясмачнае, прэснае, як трава, хоць на сабаку вылі.* Сяркоў.

*ВЫЛІВАЦЬ* • **ВЫЛІВА́ЦЬ БРУ́Д (ПАМЫ́І) НА ГАЛАВУ́** *каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Несправядліва абвінавачваць, незаслужана зневажаць каго-н. **Сін.**: abліваць граззю *каго, што*; вешаць сабак *на каго, на што*; выліваць памыі *на каго*; закідваць граззю *каго*; кідацца граззю; кідаць каменем *у каго*; кідаць цень *на каго, на што* (у 1 знач.); ліць бруд *на каго*; мазаць дзёгцем *каго, што*; мяшаць з граззю *каго, што*; мяшаць з зямлёй (у 3 знач.); наводзіць цень *на каго, на што*; падтоптваць пад ногі (у 2 знач.); таптаць у гразь *каго, што. Даша высушыла слёзы і ўжо не столькі з гневам, як з нейкім непрыемным смакаваннем, увайшла ў ролю, вылівала бруд на галаву мужа...* Шамякін. **ВЫЛІЦЬ БРУД (ПАМЫІ) НА ГАЛАВУ** *каго. Зак.*

**ВЫЛІВА́ЦЬ ДУШУ́** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Шчыра дзяліцца з кім-н. пра тое, што хвалюе, набалела. **Сін.**: адводзіць душу (у 1 знач.); адкрываць <сваё> сэрца *каму, перад кім* (у 2 знач.); адкрываць <сваю> душу *каму, перад кім*; выкладаць душу *каму, перад кім. — Я не патрабаваць, а выліць душу прыйшоў... — Калі душу выліць, дык вылівай, — памякчэў камандзір.* Арабей. **ВЫЛІЦЬ ДУШУ** *каму. Зак. [Казіку] карцела хоць каму-небудзь выліць душу, пагаварыць, падзяліцца сваёй радасцю, што вось ён едзе дадому да сваіх дзяцей, да жонкі.* Дайліда.

**ВЫЛІВА́ЦЬ ПАМЫ́І** *на каго. Незак. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Несправядліва абвінавачваць, незаслужана зневажаць каго-н. **Сін.**: абліваць граззю *каго, што*; вешаць сабак *на каго, на што*; выліваць бруд на галаву *каго*; закідваць граззю *каго*; кідацца граззю; кідаць каменем *у каго*; кідаць цень *на каго, на што* (у 1 знач.); ліць бруд *на каго*; мазаць дзёгцем *каго, што*; мяшаць з граззю *каго, што*; мяшаць з зямлёй (у 3 знач.); наводзіць цень *на каго, на што*; падтоптваць пад ногі (у 2 знач.); таптаць у гразь *каго, што. Якіх толькі памыяў часцей за ўсё не выліваў такі дабразычлівец пад выглядам праўды.* Шыцік. **ВЫЛІЦЬ ПАМЫІ** *на каго. Зак. Па тым, як сябе паводзіць Кавылаў, Шэмет зразумеў, што ўсё кончана, што пленум склікаецца для таго, каб выліць на яго памыі.. і выбраць на яго месца другога сакратара.* Лобан.

*ВЫЛІЛАСЯ* • **СЕМ ПАТОЎ ВЫЛІЛАСЯ** *з каго.* Гл. выйшла.

*ВЫЛІЦЬ* • **ВЫЛІЦЬ БРУД НА ГАЛАВУ** *каго. Зак. да* **ВЫЛІВАЦЬ БРУД НА ГАЛАВУ** *каго.*

**ВЫЛІЦЬ ДУШУ** *каму. Зак. да* **ВЫЛІВАЦЬ ДУШУ** *каму.*

**ВЫЛІЦЬ ПАМЫІ** *на каго. Зак. да* **ВЫЛІВАЦЬ ПАМЫІ** *на каго.*

**СЕ́М ПАТО́Ў ВЫ́ЛІЦЬ**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. **1**. Вельмі стаміцца, знясіліцца. **Сін**.: гнуць <сваю> спіну (у 1 знач.); грэць лоб; ліць пот; мазоліць рукі; не разгінаць спіны; сем патоў сагнаць; цягнуць лямку <*каго, чаго*>; цягнуць ярмо <*каго, якое*>. *Стары накіраваўся да Сашы. Здалёк гукнуў: — Дай, маладзічка, вады напіцца. А то, пакуль усцягнуў свае старыя косці на кручу, сем патоў выліў.* Шамякін.

**2**. Затраціць многа сіл, напружання. *Каб вырасціць ураджай на такой зямельцы, трэба сем патоў выліць.* Б.Стральцоў.

*ВЫЛУЗАЦЦА* • **ВЫЛУЗАЦЦА СА СКУРЫ**. *Зак. да* **ВЫЛУЗВАЦЦА СА СКУРЫ**.

*ВЫЛУЗВАЦЦА* • **ВЫЛУ́ЗВАЦЦА (ЛУЗА́ЦЦА, ЛЕ́ЗЦІ, ВЫЛА́ЗІЦЬ) СА СКУ́РЫ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Празмерна шчыраваць, вельмі старацца, рабіць амаль немагчымае. **Сін**: выцягвацца ў нітку; зямлю грызці (у 1 знач.); разбівацца ў блін; разбівацца ў дошку; разрывацца на часткі. *Кавалеры вылузваліся са скуры, каб звярнуць на сябе агульную ўвагу і закасаваць усіх іншых.* Колас. *Захопленыя прывідам перамогі, фашысты аж са скуры лузаліся, крывёю сплывалі і ўсё лезлі наперад.* Крапіва. *[Кропля:] Ага.. вось і.. раблю я міны гэтыя.. раблю і не ведаю, якая карысць... Толькі Заслонаву лішняя работа. Ён са скуры лезе, а мы таго...* Маўзон. *[Конь] у ямах напінаецца, аж рыпяць гужы, і храпе, наглытаўшыся пылу. Дакраніся пугаўём — са скуры лезе.* Пташнікаў. *Як анёлы ні спяшаліся па справах сваіх, але бачачы, што чалавек проста са скуры вылазіць, што пот цуркам льецца з лысіны, дык кожны ахвотна тлумачыў яму.* Бядуля. **ВЫЛУЗАЦЦА (ВЫЛЕЗЦІ) СА СКУРЫ**. *Зак. Доўга Параска на вуліцу вачэй не паказвала. Бачачы яе гэты настрой, Ціток гатоў быў са скуры вылузацца.* Лобан.

*ВЫЛЯТАЕ* • **У АДНО ВУХА ЎЛЯТАЕ, А Ў ДРУГОЕ ВЫЛЯТАЕ** <*у каго, каму*>. Гл. улятае.

*ВЫЛЯТАЦЬ* • **ВЫЛЯТА́ЦЬ (ВЫСКА́КВАЦЬ) З ГАЛАВЫ́ (З ПА́МЯЦІ)** <*у каго*>. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Зусім забывацца. **Сін**.: выпадаць з галавы <*у каго*>; выходзіць з галавы <*у каго*>; сыходзіць з памяці *каму*; у адно вуха ўлятае, <а> у другое вылятае <*у каго, каму*>. *І доўга словы бабкі Евы не выляталі з галавы...* Колас. *На свае перажыванні таго часу я ужо забыўся. Даўно было. Патроху ўсякая вострасць прытупляецца. Усё патроху з памяці вылятае...* Гарэцкі. **ВЫЛЕЦЕЦЬ (ВЫСКАЧЫЦЬ) З ГАЛАВЫ (З ПАМЯЦІ)** <*у каго*>. *Зак. [Кароль:] О! Як яны [парыжанкі] ужо зусім вылецелі ў мяне з галавы.* Дунін-Марцінкевіч. *Міхал падняўся, нерашуча камячыў у руках шапку. Раптам выскачыла з галавы ўсё тое, што думаў, калі ішоў сюды.* Лялько. *— А бацька ж дзе? — Каня пайшоў напытваць — Ага... А ў мяне з галавы выскачыла. Гэта ж учора гаварыў...* Адамчык.

**ВЫЛЯТА́ЦЬ З ГНЯЗДА́** *якога, чыйго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пакідаць родны дом, станавіцца самастойным у жыцці. Пра дзяцей. **ВЫЛЕЦЕЦЬ З ГНЯЗДА** *якога, чыйго. Зак. Натуральна, што старая Лявончыха больш любіла адзіную дачку. Але не песціла, наадварот, Вользе даставалася, можа, больш, чым хлоп-*

*цам, бо тыя раней вылецелі з роднага гнязда, а Вольга заставалася...* Шамякін. *Старэйшы сын з вайны не вярнуўся... А тыя двое вылецелі з бацькоўскага гнязда, захацелася ім па свеце пабадзяцца...* Жалязоўскі.

**ВЫЛЯТА́ЦЬ У ТРУБУ́**. *Незак. Разм. Неадабр.* 1. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Траціць сваё багацце, заставацца без грошай, разарацца. **ВЫЛЕЦЕЦЬ У ТРУБУ**. *Зак. — А арэнду ўсё роўна плаціць. — Гэта Сцяпуры клопат. Без яго дапамогі мы даўно вылецелі б у трубу.* Гурскі. *[Антаніна:] І вызначыць цвёрдыя тэрміны здачы заказу. Мы не можам бясконца важдацца. Інакш вылецім у трубу.* Радкевіч.

2. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. предмета. Прападаць дарэмна. *Урэшце афармляюць акт на спісанне [трактара]. Вось вам і беражлівасць, і эканомія. Жывыя грошы, як кажуць, у трубу вылятаюць.* Сіняўскі. **ВЫЛЕЦЕЦЬ У ТРУБУ**. *Зак. Калі мы не возьмемся рабіць гэты варыянт, добрая капейка вылеціць у трубу.* «Полымя».

*ВЫМАЗАЦЬ* • **ВЫМАЗАЦЬ ДЗЁГЦЕМ** *каго, што. Зак. да* **МАЗАЦЬ ДЗЁГЦЕМ** *каго, што.*

*ВЫМАТАЦЬ* • **ВЫМАТАЦЬ ДУШУ** *каму. Зак. да* **ВЫМОТВАЦЬ ДУШУ** *каму.*
**ВЫМАТАЦЬ ЖЫЛЫ**. *Зак. да* **ВЫМОТВАЦЬ ЖЫЛЫ**.
**ВЫМАТАЦЬ КІШКІ** *каму. Зак. да* **ВЫМОТВАЦЬ КІШКІ** *каму.*

*ВЫМАЦЬ* • **ВЫМА́ЦЬ (ДАСТАВА́ЦЬ) ДУШУ́ (ДУХІ́)** *з каго, каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. 1. Моцна здзекавацца з каго-н., мучыць пагрозамі, прыставаннем і пад. **Сін**.: высмоктваць сок *з каго, з чаго* (у 2 знач.); вытрасці душу *з каго, каму* (у 1 знач.); даставаць гізунты *з каго*; дыхаць не даваць *каму* (у 2 знач.); есці поедам *каго*; напіцца крыві *чыёй*; піць кроў *з каго, чыю* (у 2 знач.). *Не дзеля таго саслабела [Тамашыха], што галодная была, бо.. Тамаш праз колькі-то год духі вымаў.* Ядвігін Ш. *Я з-за цябе важныя дакументы ледзьве не пагубляў! Душу ты мне вымаеш!* Самуйлёнак. **ВЫНЯЦЬ (ДАСТАЦЬ) ДУШУ (ДУХІ)** *з каго, каму. Зак. Карову то ты ад яго павінна ўзяць. Нечым дзіця трэба ж будзе карміць. Я б з яго душу дастала.* Лобан.

2. Даводзіць да смерці, знішчаць каго-н. **Сін**.: адарваць галаву *каму* (у 1 знач.); адкруціць галаву *каму* (у 1 знач.); адпраўляць на той свет *каго*; адпраўляць у магілёўскую губерню *каго*; вымотваць жылы (у 3 знач.); вымотваць кішкі (у *2* знач.); выпусціць дух (у 3 знач.); гнаць у магілу *каго*; заганяць на той свет *каго*; зводзіць са свету *каго* (у 1 знач.); зводзіць у магілу *каго*; звярнуць галаву *каму*; зжываць са свету *каго*; знімаць галаву *каму* (у 1 знач.); прыбіраць з дарогі *каго*; скруціць вязы *каму*; скруціць шыю *каму*. **ВЫНЯЦЬ (ДАСТАЦЬ) ДУШУ (ДУХІ)** *з каго, каму. Зак. [Машэка:] Каб ты не быў мне сябрам, дык за словы гэткія з цябе дастаў бы я душу, без страху, без кроплі жалю забіў бы я цябе.* Міровіч. *Гэтак ён [Рыгор] раз папаўся быў, што яму Банадысеў хлопец ледзь духоў не дастаў.* Чорны.

*ВЫМОТВАЦЬ* • **ВЫМО́ТВАЦЬ ДУШУ́ (ДУХІ́, ДУ́Х)** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Даводзіць каго-н. да знямогі, дапякаць, назаляць каму-н. *Мы, маракі-рыбакі, іншы раз любім пабурчаць на свой цяжкі лёс. І мора вымотвае душу. І па некалькі месяцаў не бачыш ні жонкі, ні дзяцей.* Корбан. **ВЫМАТАЦЬ ДУШУ (ДУХІ, ДУХ)** *каму. Зак. Пакуль ад гэтых пасёлкаў дабра прычакаеш, дык і духі выматаюць.* Крапіва. *— Адпачынку засталося тры дні, — кажу я. — А там работа. Адна таксацыя выматае дух.* Навуменка. *[Вера Карпаўна:] Ізноў? О, жах! Напэўна, звар'яцею я. Ужо мне тыя [наведвальнікі] выматалі дух!..* Гілевіч.

**ВЫМО́ТВАЦЬ ЖЫ́ЛЫ**. *Незак. Разм. Неадабр.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знясільвацца. *Узяць хаця б гаспадарыка свайго, Хапермана, — выліты буржуй... Ты на яго працуй, вымотвай жылы, а ён.. будзе сваю кішэнь набіваць, а табе — горкія капейчыны...* Лынькоў. **ВЫМАТАЦЬ ЖЫЛЫ**. *Зак.*

**2**. *з каго.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Мучыць, абяссільваць каго-н. чым-н. **Сін**.: вымотваць кішкі *каму* (у 1 знач.); гнаіць душу *чыю, каму*; кроіць сэрца *каму, чыё*; разануць <нажом> па сэрцы *каго*; раздзіраць душу *каму, чыю*; рваць душу *чыю, каму*; рэзаць па жывому (у 2 знач.); рэзаць сэрца *каму*; сушыць сэрца *чыё, каму*; цягнуць душу *з каго*; цягнуць за душу *каго*. **ВЫМАТАЦЬ ЖЫЛЫ** *з каго. Зак. Пакуль пачуеш кроплю сілы, то банк мо выматае жылы налогам, гербавым, там, зборам.* Колас.

**3**. *з каго.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даводзіць да смерці, забіваць каго-н. Звычайна як пагроза. **Сін**.: адарваць галаву *каму* (у 1 знач.); адкруціць галаву *каму* (у 1 знач.); адпраўляць на той свет *каго*; адпраўляць у магілёўскую губерню *каго*; вымаць душу *з каго, каму* (у 2 знач.); вымотваць кішкі (у 2 знач.); выпусціць дух (у 3 знач.); выпусціць кішкі <каму>; вытрасці душу з *каго, каму* (у 2 знач.); гнаць у магілу *каго*; заганяць на той свет *каго*; зводзіць са свету *каго* (у 1 знач.); зводзіць у магілу *каго*; звярнуць галаву *каму*; зжываць са свету *каго*; знімаць галаву *каму* (у 1 знач.); прыбіраць з дарогі *каго*; скруціць вязы *каму*; скруціць шыю *каму*. **ВЫМАТАЦЬ ЖЫЛЫ** *з каго. Зак. [Віцька] Мне твой пан не страшны, зачэпіць мяне, з дымам паляціць усё!.. А з цябе, калі даведаюся, жылы выматаю. З Віцькам жарты малыя!..* Галубок.

**ВЫМО́ТВАЦЬ КІ́ШКІ** *каму. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Моцна назаляць, мучыць каго-н. **Сін**.: вымотваць жылы (у 2 знач.); гнаіць душу *каму, чыю*; кроіць сэрца *каму, чыё*; разануць <нажом> па сэрцы *каго*; раздзіраць душу *каму, чыю*; рваць душу *чыю, каму*; рэзаць па жывому (у 2 знач.); рэзаць сэрца *каму*; сушыць сэрца *чыё, каму*; цягнуць душу *з каго*; цягнуць за душу *каго*. *«Родны брат» ні на крок не адыходзіў ад свайго парабка, усе кішкі вымотваў.* Бядуля. — *Ды кажы ты хутчэй. Не вымотвай кішкі. — Ну, ты ведаеш, усё пачалося з дзённіка Тані Ціханчук.* Радкевіч. **ВЫМАТАЦЬ КІШКІ** *каму. Зак.*

**2**. Даводзіць да смерці, забіваць каго-н. Звычайна як пагроза. **Сін**.: адарваць галаву *каму* (у 1 знач.); адкруціць галаву *каму* (у 1 знач.); адпраўляць на той свет *каго*; адпраўляць у магілёўскую губерню *каго*; вымаць душу *з каго, каму* (у 2 знач.); вымотваць жылы (у 3 знач.); выпусціць дух (у 3 знач.); выпусціць кішкі *<каму>*; вытрасці душу *з каго, каму* (у 2 знач.); гнаць у магілу *каго*; заганяць на той свет *каго*; зводзіць са свету *каго* (у 1 знач.); зводзіць у магілу *каго*; звярнуць галаву *каму*; зжываць са свету *каго*; знімаць галаву *каму* (у 1 знач.); прыбіраць з дарогі *каго*; скруціць вязы *каму*; скруціць шыю *каму*. **ВЫМАТАЦЬ КІШКІ** *каму. Зак. [Сомік:] Зладзюга! Прызнавайся, дзе коні? Кішкі выматаю! У зямлю заганю!* Крапіва.

*ВЫМУШАЕ* • **ВЫМУШАЕ ЖАДАЦЬ ЛЕПШАГА**. Гл. пакідае.

*ВЫНАЙСЦІ* • **ВЫНАЙСЦІ ВЕЛАСІПЕД**. *Зак. да* **ВЫНАХОДЗІЦЬ ВЕЛАСІПЕД**.

*ВЫНАС* • **ВЫ́НАС СМЕ́ЦЦЯ З ХА́ТЫ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Выдаванне таго, што не павінны ведаць іншыя, што нясlавіць каго-, што-н. (сям'ю, калектыў, вузкае кола асоб і пад.). *За вынас смецця з хаты па галоўцы не пагладзяць, але Міхаіл Васільевіч не раскайваўся.* «Звязда».

*ВЫНАХОДЗІЦЬ* • **ВЫНАХО́ДЗІЦЬ ВЕЛАСІПЕ́Д**. *Незак. Функц. не зам. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гаварыць, аб'яўляць пра даўно усім вядомае. **Сін**.: адкры-

ваць амерыку (у 1 знач.). *Усе людзі, здольныя гаварыць, утвараюць словы. Не абавязкова новыя, часцей паўтараюць, нанава «вынаходзяць веласіпед».* Лобан. **ВЫНАЙСЦІ ВЕЛАСІПЕД.** *Зак. Найлепш — чытаць як мага болей: і дзеля агульнага развіцця, і дзеля таго, каб не вынайсці веласіпед.* «Чырв. змена».

*ВЫНАХОДНІЦТВА* • **ВЫНАХО́ДНІЦТВА ВЕЛАСІПЕ́ДА.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Гумар.* Абвяшчэнне чаго-н. даўно вядомага ўсім у якасці нібыта новага. *Пра галоўны крытэрый, вынаходніцтва веласіпеда і кодэкс гонару настаўніка.* (Загаловак артыкула ў «Настаўн. газ.»)

*ВЫНЕСЕ* • **КУДЫ КРЫВАЯ ВЫНЕСЕ** *каго.* Гл. крывая.

*ВЫНЕСЦІ* • **ВЫНЕСЦІ ЗА ДУЖКІ** *чаго. Зак. да* **ВЫНОСІЦЬ ЗА ДУЖКІ** *чаго.*

**ВЫНЕСЦІ НА СВАІХ ПЛЯЧАХ** *што. Зак. да* **ВЫНОСІЦЬ НА СВАІХ ПЛЯЧАХ** *што.*

**ВЫНЕСЦІ НОГІ** *адкуль, ад каго. Зак. да* **ВЫНОСІЦЬ НОГІ** *адкуль, ад каго.*

**ВЫНЕСЦІ СМЕЦЦЕ З ХАТЫ.** *Зак. да* **ВЫНОСІЦЬ СМЕЦЦЕ З ХАТЫ.**

**ВЫ́НЕСЦІ ЎПЕ́РАД НАГА́МІ** *каго. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пахаваць (нябожчыка). *Ніхто не ўбачыць апошняй дзеі ў апошняй драме пра забойцу планеты — апошняга Каіна: некаму будзе з руін і развалін вынеці ўсіх уперад нагамі.* Вітка. *Сын ажно ў раён вазіў [старога], а там доктар кажа — гэта ў яго такая нуда старэчая, калі б, кажа, маладзейшы, дык лячылі б, а так, кажа, плюньце, гэта ўжо пакуль і ўперад нагамі вынесуць.* Кусянкоў.

*ВЫНОСІЦЬ* • <u>*Каго, што*</u> **ВЫНО́СІЦЬ ЗА ДУ́ЖКІ** *чаго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Не лічыць каго- ці што-н. састаўной часткай чаго-н., прадметам увагі, аналізу і пад. **ВЫНЕСЦІ ЗА ДУЖКІ** *чаго. Зак.*

**ВЫНО́СІЦЬ НА СВАІ́Х ПЛЯЧА́Х** *што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці зборн. знач. Выпрабоўваць на сабе якія-н. цяжкасці, самастойна вытрымліваць што-н. **ВЫНЕСЦІ НА СВАІХ ПЛЯЧАХ** *што. Зак. Дэлегаты гавораць аб сваіх крыўдах, аб усёй бядзе, якую вынесла на сваіх плячах сялянка за гады вайны і рэвалюцыі...* Чорны. *Старэйшыя за нас на сваіх плячах вайну вынеслі.* Шыцік. *А жонка — не кажы. Колькі яна, на сваіх плячах вынесла! Узяў я яе з бедных. Наймічкай была.* Няхай.

**ВЫНО́СІЦЬ НО́ГІ** *<адкуль, ад каго>. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Уцякаць, знікаць, выратоўваючыся ад небяспекі. **Сін.**: аддаваць канцы (у 2 знач.); вастрыць лыжы *куды, адкуль* (у 2 знач.); даваць дзёру; даваць драла; даваць драпака; даваць лататы; даваць махні-драла; даваць маху (у 2 знач.); даваць стракача *ад каго, адкуль, куды*; даваць ходу *адкуль, куды*; даваць ногі; даваць цягу; змотваць вудачкі, зрабіць ногі (у 1 знач.); падмазваць пяты; паказваць пяты; паказваць спіну (у 2 знач.); рваць кіпці. *Трэба як-небудзь выносіць адгэтуль [з бальніцы] ногі, бо потым самога вынесуць.* Колас. **ВЫНЕСЦІ НОГІ** *<адкуль, ад каго>. Зак. — Мусіць, не вынесці нам з гэтага пекла ногі, — сумна вымавіў Крыўдзін.* Гурскі. *Пад Полацкам [нас] акружылі. Ледзьве з дружбаком адным — Алёшкам Гарэлікам ногі вынеслі.* Быкаў.

**ВЫНО́СІЦЬ СМЕ́ЦЦЕ З ХА́ТЫ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выдаваць тое, чаго не павінны ведаць іншыя, няславіць каго-, што-н. (сям'ю, калектыў, вузкае кола асоб і пад.). *Вы трымаецеся правіл — не выносіць смецця з хаты. За апошнія два гады вы ніводнага разу не паведамілі ў пракуратуру аб фактах браканьерства.* «ЛіМ». *Не трэба смецця з хаты выносіць. Усё можна наладзіць сямейным парадкам.* Бядуля. *[Гарлахвацкі:] Спадзяюся, што смецця з хаты выносіць не будзеце, каб гэта не лягло бруднай плямай на нашу ўстанову.* Крапіва. **ВЫНЕСЦІ СМЕЦЦЕ З ХАТЫ.** *Зак.*

**НА КУЛАКА́Х ВЫНО́СІЦЬ** *каго адкуль. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Б'ючы, выправаджваць, выганяць. **НА КУЛАКАХ ВЫНЕСЦІ** *каго адкуль. Зак. Са знаёмымі хлопцамі ён [Пальчык] прагуляў усе свае грошы, добра выпіў і закусіў, пабыў на танцах у клубе і ўрэшце пабіўся. Яго на кулаках вынеслі з клуба, і ён рад быў, што ўсё так проста скончылася.* Дамашэвіч.

*ВЫНОСЬ* • **ХО́ЦЬ СВЯТЫ́Х ВЫНО́СЬ**. *Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Няма сіл цярпець што-н.; нязносна, нясцерпна для іншых. *Там такі лямант узняла жонка і дзеці, што хоць святых выносы!* Машара. *Гэта ж калі я была ў тым клубе? Ну але, як з Ільюшынага вяселля ішлі... Алёлячкі, што там толькі не выраблялі, хоць святых выносы...* Міська. *Лічы, што ў першы дзень, як Жэня засела ў сваім маленькім кабінеціку, прытрухалі сёстры Бурачэўскія і ўсчалі такі вэрхал, што хоць святых вынось.* Б.Стральцоў.

*ВЫНЬ* • **ВЫ́НЬ ДЫ ПАКЛАДЗІ́** <*каму*>. *Толькі ў заг. л. У знач. вык.* Зрабі ці падай зараз жа, безадкладна. *Сапраўды, калі ў паэзіі яшчэ можна схавацца за лірычнага героя, а ў прозе — за эпічнага, то ў публіцыстыцы схавацца, замаскіравацца немагчыма. Тут, як кажуць, вынь ды пакладзі, тут адразу выявіцца, хто ёсць хто, як хто арыентуецца ў сістэме грамадскіх каардынат.* Вярцінскі. *Таццяна ўсміхнулася сама сабе. Эге-ге, так ужо і немагчыма! Бач ты, да чаго дафантазіравалася. Проста вынь ды пакладзі ёй аўтамабіль.* Васілёнак.

*ВЫНЯЦЬ* • **ВЫНЯЦЬ ДУШУ** *з каго, каму. Зак. да* **ВЫМАЦЬ ДУШУ** *з каго, каму.*

*ВЫПАДАЕ* • **НЕ ВЫПАДА́Е (НЕ ВЫПАДА́ЛА)** *каму. У безас. ужыв. Разм.* **1**. Няма магчымасці (зрабіць што-н.). *— Дзве тысячы я вам дам. — Малавата, Аляксандр Рыгоравіч, хаця б тры... — Не выпадае больш.* Пальчэўскі.

**2**. Няма зручнага моманту. *Сустрэчныя, як на тое, траплялся пажылыя або ішлі купкамі, і чапаць іх не выпадала.* Карпаў. *Міхась яшчэ ні разу не ездзіў на электрычцы. Усё неяк не выпадала.* Зуб.

**3**. Нельга, не вельмі прыстойна. *Яму [семінарысту] нібы ўжо і не выпадае займацца гаспадарчымі справамі.* С.Александровіч. *Пакідаць жа Барушку і паехаць таксама не выпадала: гэта кінецца ў вочы...* Карпаў.

*ВЫПАДАК* • **НА ВЫ́ПАДАК**, *калі. Акал. Разм.* Пры магчымасці, пры неабходнасці (калі здарыцца, адбудзецца што-н.). *Асноўнае цяпер — угрызціся ў мёрзлую зямлю, акапацца, каб на выпадак, калі немцы спахопяцца, можна было, добра ўчапіўшыся, уседзець.* Дамашэвіч. *На верандзе стаяла і раскладушка — гэта на выпадак, калі мне захочацца падрамаць на свежым паветры.* Шахавец. *[Скробат:] Мне патрэбна пісьмо з турмы, напісанае жаночым почыркам. На выпадак, калі ён мяне пазнаў...* Крапіва.

**НА ВЫ́ПАДАК** *чаго. Акал. Разм.* Пры магчымасці, пры дапушчэнні чаго-н. *Займайце кругавую абарону на выпадак паяўлення праціўніка з тылу.* Лобан. *Чацвярых з трафейным МГ пад камандай Іваноўскага ён пакінуў на ўзлеску з задачай прыкрыць на выпадак адыходу, а сам з двума разведчыкамі, забраўшы ўсе гранаты, накіраваўся да базы.* Быкаў.

**НА ВЫ́ПАДАК ЧАГО́**. *Акал. Разм.* Калі ўзнікнуць якія-н. цяжкасці, непрыемнасці, калі здарыцца, адбудзецца што-н. **Сін.**: у выпадку чаго. *Гэты чалавек належыць да таго акружэння, якое ён, Вэня, стварыў навокал сябе і якое, на выпадак чаго, гатова стаць на абарону Вэневых заслуг, аўтарытэту, практычнасці, адданасці і ўсяго іншага падобнага.* Чорны. *Усе, хто ні прыедзе, любяць пачаставацца ў калгасе і вядома, у стар-*

*шыны. Гэта яму на выпадак чаго ў будучым залічыцца.* Пестрак. *Бяда з кніжкамі... З школьнай бібліятэкі не магу даць, бо на выпадак чаго — наедзе начальства...* Мурашка.

**НА КРА́ЙНІ ВЫ́ПАДАК**. *Акал. Разм.* У прадбачанні крайняй неабходнасці, дапускаючы магчымасць крайняй неабходнасці. **Сін.**: на благі канец; на ўсякі пажарны выпадак; у крайнім выпадку. *[Карнілаў:] Эшалоны пойдуць, не спыняючыся ў Оршы. [Духонін:] На крайні выпадак — у Пскове стаіць конны корпус.* Губарэвіч. *Сам ён [Сцяпан] можа пайсці ў лес, камандаванне яму гэта дазволіла на крайні выпадак.* Шыцік.

**НА ПЕ́РШЫ ВЫ́ПАДАК**. *Акал. Разм.* Для пачатку. *Зайдзіце на склад... Нямногае, але сёе-тое зможаце выбраць там. На першы выпадак.* Мік.Ткачоў. *— Ці маеце што паведаміць пра знікненне ці хаця б збліжэнне «нажніц» паміж тэхнічнай і маральнай культурай? — Дастаткова, на першы выпадак, пачуцця самазахавання.* Адамовіч.

**НА ЎСЯ́КІ (КО́ЖНЫ) ВЫ́ПАДАК**. *Акал. Разм.* У прадбачанні неабходнасці чаго-н., дапускаючы магчымасць чаго-н. *— Хто? Хто? — шаптаў хтосьці невядомы. — Салдат, — сказаў Пятро Тадаровіч і на ўсякі выпадак дадаў, падумаўшы, — ранены ў нагу.* Чорны. *Адзін ён [немец] нам тут не страшны, але на ўсякі выпадак я бяру з долу аўтамат і адцягваю назад рукаятку.* Быкаў. *[Сымон:] Не бойся! Гэта толькі закот здзіраюць... [Данілка:] А я ўсё-такі пайду адгэтуль на кожны выпадак.* Купала. *На кожны выпадак папярэдзіць трэба Вільгельміну, каб яна не ўпусціла, калі хто прыйдзе да яго.* Гартны.

**НА ЎСЯ́КІ ПАЖА́РНЫ ВЫ́ПАДАК**. *Акал. Разм.* У прадбачанні экстраннай неабходнасці, дапускаючы магчымасць экстраннай неабходнасці. **Сін.**: на благі канец; на крайні выпадак; у крайнім выпадку. *Узнікае пытанне: ці задумваліся над вынікамі праверкі? Няма сумнення — сур'ёзна іх не аналізавалі, трымалі на ўсякі пажарны выпадак.* «Звязда». *Пра сваю вялікую кватэру намякнула дачка: «Як што якое — бяры Паўліка, Кацю, Людачку — і да нас». Не верыць, ні кропелькі не верыць у тое, што маці можа падаць на развод, але, на ўсякі пажарны выпадак, запрашае.* Дайнека.

*ВЫПАДАЦЬ* • **ВЫПАДА́ЦЬ З ГАЛАВЫ́ (З ПА́МЯЦІ)** <*у каго*>. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш. ці абстр. прадмета. Зусім забывацца. **Сін.**: вылятаць з галавы <*у каго*>; выходзіць з галавы <*у каго*>; сыходзіць з памяці *каму*, у адно вуха ўлятае <а> у другое вылятае <*у каго, каму*>. *Усё неяк з памяці выпадае, што Валя даводзіцца вам унучкай.* Тычына. **ВЫПАСЦІ З ГАЛАВЫ (З ПАМЯЦІ)** <*у каго*>. *Зак.Выпала неяк з галавы, што гэта магла быць адна з дзяўчынак, якіх мы з Ігнатам Раманавічам сустрэлі неяк у полі каля Дзвіны.* Хадкевіч. *Добра, што нехта дадумаўся, а то ў мяне і з галавы выпала, што тут гэтулькі птушак.* Скрыган. *— А куды ж мы чацвёртую Зорку справадзілі? — успомнілася Дар'і. — Даўно было, з памяці выпала.* М.Капыловіч.

**ВЫПАДА́ЦЬ У АСА́ДАК** <*ад чаго*>. *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.

**1.** Празмерна здзіўляцца, востра рэагуючы на што-н. недарэчнае, дзіўнае, смешнае. **ВЫПАСЦІ Ў АСАДАК** <*ад чаго*>. *Зак. Ха-ха-ха, Эмачка, я табе зараз раскажу адну дзіўную гісторыю. Ты ад яе проста ў асадак выпадзеш... Паслухай.* Гігевіч.

**2.** Цярпець крах. **Сін.**: звярнуць <сабе> галаву (у 2 знач.); зламаць <сабе> галаву (у 2 знач.); ісці на дно. **ВЫПАСЦІ Ў АСАДАК** <*ад чаго*>. *Зак. Дзе толькі не пабываў [Сяргей Піліпавіч] апошнім часам, куды не саваўся. І ўсюды — адбой. Пазаўчора... згадаць сорамна. Выпаў у асадак — да астатняга. Хоць і петушыўся, канечне. Ён жа проста так і сабе не прызнаецца, што яму ад варот паварот далі.* Гарэлікава.

*ВЫПАДКУ* • **АД ВЫ́ПАДКУ ДА ВЫ́ПАДКУ**. *Акал. Функц. не зам.* Непастаянна, часамі. **Сін.**: не-не ды і; час ад часу (у 1 знач.); час-часам. *Ёсць аддзелы, якія слаба выконваюць*

*свае службовыя функцыі. Школы правяраюцца імі ад выпадку да выпадку.* «Настаўн. газ.» *— Лягчэйшую вам бы дзе-небудзь знайсці работу, — сказаў Сяргей. — Цяжкая справа — мыць бялізну, дый то ад выпадку да выпадку.* Гурскі. *Заезды ля варот гаражоў пазарасталі травой. Уладальнікі транспарту ад выпадку да выпадку з'яўляюцца там.* «Звязда».

**ВА ЎСЯ́КІМ (У КО́ЖНЫМ) ВЫ́ПАДКУ**. *Функц. не зам.* 1. *Акал.* Пры любых абставінах, безумоўна. **Сін.**: ва ўсякім разе (у 1 знач.); так ці сяк. *Няма на свеце такой хваробы, якой не знайшлося б належных лекаў... Ва ўсякім выпадку можна паспрабаваць.* Лынькоў. *Прынамсі, можна было не хваляваца — Верамеек у кожным выпадку не праменеш нават з завязанымі вачамі, абы ішоў паўз раку.* Чыгрынаў.

2. *У знач. пабочн. сл.* Прынамсі. **Сін.**: ва ўсякім разе (у 2 знач.); па крайняй меры (у 1 знач.). *Народ ужывае прыказкі на кожным кроку, але аб прыказках гаворыць вельмі рэдка і ўжо ва ўсякім выпадку не займаецца вызначэннем прыказкі, як віду творчасці.* Крапіва. *Данілка думаў, што на гэтым уся цырымонія і скончыцца, ва ўсякім выпадку, для яго.* Пестрак.

3. *У знач. злучніка або часціцы.* Усё ж, усё-такі. **Сін.**: ва ўсякім разе (у 3 знач.); так ці інакш (у 2 знач.). *Ва ўсякім выпадку Сцяпан Птах — пуцявы абходчык...* Навуменка. *У кожным выпадку Рыгор стаяў да Гэлінай долі на стыку цьмянай загадкі.* Гартны.

**З ВЫ́ПАДКУ** *чаго. Акал. Функц. не зам.* Па якой-н. прычыне, нагодзе. *З выпадку свята на Міколе абнова — сарочка ў вялікія кветкі і сіні фрэнч з тоўстага сукна — прыкметы яго ўзросшага дабрабыту.* Навуменка. *На ўрачыстым мітынгу з выпадку пуску Днепрагэса, выступіў і Анры Барбюс.* «Беларусь».

**ПРЫ ВЫ́ПАДКУ**. *Акал. Разм.* 1. Пры неабходнасці, калі ўзнікне патрэба. *Булай пры выпадку падкрэсліваў: — Мы — авангард завода! На нас раўняцца!* Шыцік.

2. У зручны момант, пры пэўных абставінах. *Поля прасіла, каб пры выпадку ён паўплываў і на Веру, і на Вадзіма.* Шамякін. *[Дзед Цыбулька:] Ты павінен прадставіць мяне да ўзнагароды. Можа, і не спецыяльна, а пры выпадку.* Макаёнак. *Ціток хоць і родзіч, а, вядома, не праміне пры выпадку сунуць палку ў спіцы яму, Міхалю.* Кандрусевіч.

**У АДВАРО́ТНЫМ ВЫ́ПАДКУ**. *Акал. Функц. не зам.* Калі такое не здарыцца, не атрымаецца; інакш. *Багушэвіч коса павярнуў аркуш і зноў прачытаў уголас: «Багушэвічу! Прашу, адклаўшы ўсе іншыя справы, выехаць тэрмінова на месца здарэння, бо ў адваротным выпадку сляды падпалу могуць быць знішчаны».* Хомчанка. *Злашчасныя старонкі ў Некрашэвіча яўна пераклікаліся з кавалкам работы яго вучаніцы. Як даказаць, што ён сам дайшоў да гэтага намнога раней? У адваротным выпадку застаецца толькі маральны аспект, але не доказны!* Кацюшэнка.

**У ВЫ́ПАДКУ ЧАГО́**. *Акал. Разм.* Калі ўзнікнуць якія-н. цяжкасці, непрыемнасці, калі здарыцца, адбудзецца што-н. **Сін.**: на выпадак чаго. *Аднак намер, у выпадку чаго, паехаць з Рыгі да Рыгоравай мацеры ў Сілцы і там застацца швачкай, заінтрыгаваў Наталю.* Гартны. *Думаю: людзі блізка, у выпадку чаго, пачуюць...* Чарнышэвіч. *Хутар маўчаў. Зусім побач цямнеў голы, засыпаны снегам хмызняк, у якім там-сям чарнелі маладыя елкі — у выпадку чаго, можна будзе схавацца.* Быкаў.

**У КРА́ЙНІМ ВЫ́ПАДКУ**. *Акал. Разм.* Пры вострай неабходнасці, калі не будзе іншага выхаду. **Сін.**: на благі канец; на крайні выпадак; на ўсякі пажарны выпадак. *Сцёпка, прыпыніўшыся ў больш-менш зацішным месцы, пастаяў крыху, разглядаючы публіку і разважаючы, што яму рабіць тут, дзе правесці ноч. У крайнім выпадку перабудзе як-небудзь тут.* Колас. *[Канцлер:] У крайнім выпадку мы адкупімся ад яго, даўшы яму ў падарунак сотню-другую сялян і багаты скарб.* В.Вольскі.

**У ЛЕ́ПШЫМ ВЫ́ПАДКУ**. *Акал. Разм.* Пры самых спрыяльных абставінах. *Дык вось скажы свайму.. старшыні... Я яго нарадзіў, я яго і.. зноў пасаджу за руль. У лепшым выпадку.* Шамякін. *За год на гектары, у лепшым выпадку, прырастае тры кубаметры драўніны.* Мяжэвіч.

*ВЫПАСЦІ* • **ВЫПАСЦІ З ГАЛАВЫ** <*у каго*>. *Зак. да* **ВЫПАДАЦЬ З ГАЛАВЫ** <*у каго*>. **ВЫПАСЦІ Ў АСАДАК** <*ад чаго*>. *Зак. да* **ВЫПАДАЦЬ У АСАДАК** <*ад чаго*>.

*ВЫПІЦЬ* • **ВЫ́ПІЦЬ <ГО́РКУЮ> ЧА́ШУ ДА ДНА́**. *Зак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Шмат выцерпець, выпакутаваць, перанесці якія-н. цяжкасці. *Нашы дзеці пакінулі быць дзецьмі [у часы вайны]. Яны да дна выпілі чашу страшнай горычы ў самыя шчаслівыя свае годы.* Чорны. *А ў маці ад гэтага ляманту як адарвалася сэрца. Відаць, ёй давядзецца выпіць чашу да дна. Яна ўскрыкнула і ў роспачы закрыла твар рукамі.* Шарахоўскі. *Да канца мы гатовы з вамі выпіць горкую чашу пакут.* Бачыла. **ВЫПІЦЬ КРОЎ** *з каго, чыю. Зак. да* **ПІЦЬ КРОЎ** *з каго, чыю.*

*ВЫПЛАКАЦЬ* • **ВЫ́ПЛАКАЦЬ (ПРАПЛА́КАЦЬ) <УСЕ́> ВО́ЧЫ**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі многа і часта плакаць. **Сін.**: абліваццa слязамі; бярозаю ліцца; вачэй не асушваць; выціскаць слёзы (у 1 знач.); ліць слёзы <*па кім*>; пець рэпку; пускаць слязу; разводзіць сырасць; распускаць нюні (у 1 знач.); умывацца слязамі. *А старая каторы дзень вунь ходзіць, выплакала ўсе вочы.* Лынькоў. *Андрэй усё зразумеў. Ён неяк чуў ад суседзяў па палаце, што адзіны сын няні не пісаў ёй доўга, нешта больш года. Яна выплакала вочы.* Васілевіч. *— Яшчэ як сумавала, — пачала бараніцца Марыля. — Сама ты вочы праплакала.* Галавач.

*ВЫПЛЫВАЕ* • **ЗЯМЛЯ ВЫПЛЫВАЕ З-ПАД НОГ** *у каго.* Гл. зямля.

*ВЫПЛЫВАЦЬ* • **ВЫПЛЫВА́ЦЬ (УСПЛЫВА́ЦЬ) НА ПАВЕ́РХНЮ (НАВЕ́РХ)**. *Незак. Функц. не зам.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нечакана набываць якую-н. вядомасць. *І да чаго, да чаго ўсё гэта прывядзе? Людзей з кожным годам большае, большае і неразбярыхі, мітрэнгі... А цяпер... Выплываюць на паверхню Бабаі...* Сачанка. **ВЫПЛЫСЦІ (УСПЛЫЦЬ) НА ПАВЕРХНЮ (НАВЕРХ)**. *Зак. Але ні Сабегі, ні яго сына знайсці не ўдалося, і пра іх доўгі час не было ніякіх звестак. Выплылі на паверхню яны толькі ў час вайны.* Шахавец.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Нечакана выяўляцца. **Сін.**: выходзіць наверх. *Але праўда, браток, усё ж усплывае наверх, і аб кожным такім выпадку людзі даведваліся, хоць і не зналі, хто і калі гэта бачыў.* Машара. **ВЫПЛЫСЦІ (УСПЛЫЦЬ) НА ПАВЕРХНЮ (НАВЕРХ)**. *Зак. Дагэтуль, слухаючы хлопцаў, [Саша] без страху, разважліва думала пра тое, што з арыштам Ганны могуць выплыць на паверхню асеннія здарэнні — уцёкі партызана з калодзежа, смерць Кузьмы.* Шамякін. *Жыццёвая праблема ўсплыла на паверхню, бо аўтар дакладна ўзнаўляе праўду жыцця.* Гніламёдаў. *Усплылі наверх не зусім чыстыя ўзаемаадносіны яго [Мароза] з Журавінкам.* Лобан.

*ВЫПЛЫСЦІ* • **ВЫПЛЫСЦІ НА ПАВЕРХНЮ**. *Зак. да* **ВЫПЛЫВАЦЬ НА ПАВЕРХНЮ**.

*ВЫПРАСІШ* • **ЗІМО́Й СНЕ́ГУ (ЛЁДУ) НЕ ВЫ́ПРАСІШ (НЕ ДАСТА́НЕШ)** *у каго. Убезас. ужыв. Разм.* Хто-н. страшэнна скупы. **Сін.**: снегу леташняга не дапросішся *ў каго. «Вот жа скнара!» — пачала злавацца Сцепаніда. Яна пазнавала колішняга Карнілу, у якога, казалі, зімой снегу не выпрасіш.* Быкаў. *Ці такі табе дапаможа?! У такога і снегу зімой не выпрасіш!..* Карпюк. *Пра гэтую цётку расказваюць, што ў яе зімой лёду не дастанеш.* Навуменка.

*ВЫПРАСТАЦЬ* • **ВЫПРАСТАЦЬ НОГІ**. *Зак.* да **ВЫПРОСТВАЦЬ НОГІ**. **ВЫПРАСТАЦЬ СПІНУ**. *Зак. да* **ВЫПРОСТВАЦЬ СПІНУ**.

*ВЫПРОСТВАЦЬ* • **ВЫПРО́СТВАЦЬ НО́ГІ**. *Незак. Праст. Пагард.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паміраць. **Сін.**: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць на той свет; адыходзіць (ісці) ў лепшы свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць у іншы свет; ажаніцца з <сырою> зямлёй; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць <*каму*> (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага *збірацца*; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); канькі адкідаць; лажыцца ў магілу; на паповы сані *збірацца*; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. **ВЫПРАСТАЦЬ НОГІ**. *Зак. А той [бандыт], што падстрэлены быў Арцёмам, пакуль яго там раздзявалі ды перавязвалі, і ногі выпрастаў. Аказваецца, атруту прыняў.* Чарнышэвіч. *[Старшыня] застаў іх вячэраючы. Убачыў сам чутае ад Анэты і сказаў, што па такой вячэры можна ногі выпрастаць.* Пальчэўскі.

**ВЫПРО́СТВАЦЬ СПІ́НУ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Пазбаўляючыся пасіўнасці, абыякавасці, пачынаць дзейнічаць на поўную сілу сваіх здольнасцей, магчымасцей. **Сін.**: распраўляць крылы; распраўляць плечы. **ВЫПРАСТАЦЬ СПІНУ**. *Зак.*

*ВЫПУСКАННЕ* • **ВЫПУСКА́ННЕ ПА́РЫ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Нядоўгае, узбуджанае, але супакойлівае рэагаванне на што-н. *Трэба перастаць спадзявацца, што пазачарговы з'езд неяк дапаможа. Выпусканне пары — рэч неканструктыўная ў тых умовах, што склаліся.* Каржанеўская.

*ВЫПУСКАЦЬ* • **ВЫПУСКА́ЦЬ ДЖЫ́НА З БУ́ТЛІ (З БУТЭ́ЛЬКІ)**. *Незак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выклікаць які-н. непрыемны неабарачальны працэс, рабіць што-н. неспадзяванае, рызыкоўнае. **Сін.**: выпускаць злога джына. **ВЫПУСЦІЦЬ ДЖЫНА З БУТЛІ (З БУТЭЛЬКІ)**. *Зак. [Генка:] Заварыў Барыс Пятровіч кашу, цяпер, відаць, і сам не рад. [Антаніна Васільеўна:] Чаму ж не рад? Найвялікшае адкрыццё ўсіх вякоў — як жа тут не радавацца? [Генка:] Адкрыццё то адкрыццё, але што з ім рабіць далей?.. Выпусціў джына з бутлі, з якім ніхто справіцца не можа.* Крапіва. *Што ты вярзеш, містэр Кейсі... Ні ў якім разе! Гэта ж усё роўна што выпусціць джына з бутэлькі.* «Звязда».

**ВЫПУСКАЦЬ З ВІДУ** *каго, што.* Гл. упускаць.

**ВЫПУСКА́ЦЬ З ГАЛАВЫ́ (З ПА́МЯЦІ)** *што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Забываць пра што-н. *Не трэба выпускаць з галавы вось што: не масы для нас існуюць, а мы для мас.* Мурашка. *У сваім апавяданні я тут запабег наперад, але пра ўсё гэта трэба ведаць і не выпускаць з памяці, пакуль апавяданне не дойдзе да самых важных сваіх падзей.* Чорны. **ВЫПУСЦІЦЬ З ГАЛАВЫ (З ПАМЯЦІ)** *што. Зак. Выпусціў [я] з галавы Шаўкуна. Заядлы рыбак. Дождж, вецер — усё роўна зловіць.* Воранаў.

**ВЫПУСКА́ЦЬ ЗЛО́ГА ДЖЫ́НА**. *Незак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выклікаць які-н. непрыемны неабарачальны працэс, рабіць што-н. неспадзяванае, рызыкоўнае. **Сін.**: выпускаць джына з бутлі. **ВЫПУСЦІЦЬ ЗЛОГА ДЖЫНА**. *Зак. — Парушыўшы поле, мы выпусцім злога джына, — падхапіў Атсан. У яго практыцы*

*ўжо былі ўцёкі з раёна зоркавага выбуху. — А ў цэнтры пустыні, абяцанай нам штурманам, успыхне новае сонца.* Шыцік.

**ВЫПУСКА́ЦЬ З <СВАІ́Х> РУ́К.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** *што.* Страчваць тое, што можна выкарыстаць. *Падбадзёраныя прыкладам знаходлівага і смелага ленінградца, мясцовыя партызаны ўжо да самага злучэння з Савецкай Арміяй ініцыятывы з рук не выпускалі.* Карпюк. **ВЫПУСЦІЦЬ З <СВАІХ> РУК.** *Зак. [Рыгор] не думаў выпусціць з рук тых магчымасцей, якія ў яго меліся.* Гартны. *Не, гэтыя хвіліны яна [Ніна] з сваіх рук не выпусціць. У гэтыя хвіліны яна што-небудзь запытае, ён [Андрэй] што-небудзь раскажа.* Лобан.

**2.** *што.* Пераставаць кіраваць чым-н. **Сін.**: выпускаць лейцы з <сваіх> рук. **Ант.**: браць лейцы ў <свае> рукі; браць ў <свае> рукі (у 2 знач.). **ВЫПУСЦІЦЬ З <СВАІХ> РУК.** *Зак. Апошнімі днямі, ездзячы па раёну, ён [Башлыкоў] зусім выпусціў з рук раённыя звенні.* Мележ.

**3.** *каго.* Не магчы прымусіць каго-н. падпарадкавацца каму-н. **ВЫПУСЦІЦЬ З <СВАІХ> РУК.** *Зак. Ужо і пра Слаўку трэба думаць, куды ўстроіць, — дзевяты клас, не ўспееш азірнуцца, як і дзесяты... Гэта Вінцэся на самахоць пусцілі, волю далі, дык і не паступіў нікуды... А Слаўку — не-е-е, Слаўку з рук не выпушчу.* Місько. *Відаць, зававіхаўся ён так знарок, каб не даць свайму седаку апамятавацца і не выпусціць яго з рук.* Колас.

**ВЫПУСКА́ЦЬ ЛЕ́ЙЦЫ З <СВАІ́Х> РУ́К.** *Незак. Разм. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Аслабляць кіраўніцтва чым-н., сілу улады над кім-н. **Сін.**: выпускаць з <сваіх> рук (у 2 знач.). **Ант.**: браць лейцы ў <свае> рукі; браць у <свае> рукі (у 2 знач.). *Мы не можам увесь час сядзець злажыўшы рукі ды глядзець, як яно само будзе рабіцца. Мы павінны нешта рабіць, а не выпускаць лейцы з сваіх рук...* Крапіва. *Круты і скупы чалавек дзед Грысь. Хоць сам і не гож ужо гаспадарыць, аднак лейцы з рук не выпускае. З печы камандуе ўдавой-нявесткай і ўнучкамі.* Васілевіч. **ВЫПУСЦІЦЬ ЛЕЙЦЫ З <СВАІХ> РУК.** *Зак. Прыйдзецца лейцы выпусціць з рук. Няма чаго валаводы валаводзіць; сыны мае — Янук і Міхалка — гарапашныя, абыдуцца і без мяне!* Бядуля.

**ВЫПУСКА́ЦЬ ПА́РУ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Узбуджана, як выбух раздражнення, рэагаваць на што-н. і пасля супакойвацца. *Гаворым, крычым — «выпускаем пару», плачам ужо не слязьмі — крывёю, а «Васька слушает да ест».* Сачанка. *І кулак пад «дружны бязлітасна-глумлівы рогат» таго натоўпу выпускае пару — душыць у сабе «звярыную злосць». «Пакорна схіліўшы галаву», ён ідзе «адмыкаць свае адрыны і свірны». Так нібыта «люты звер» ператвараецца ў ціхмянае ягня...* Бугаёў. **ВЫПУСЦІЦЬ ПАРУ.** *Зак. Качан не ўмешваўся, чакаў, калі скончацца сямейныя разборкі і Макрыцкі «выпусціць пару».* Праўдзін. *Учэпістыя хлопчыкі панура зніклі, і Дзімка падышоў да мяне. Самы раз было выпусціць пару: — Малайчына! Дзе цябе носіць?.. — Не крычы, тут я ўсё ж начальнік.* Маракоў.

**ВЫПУСКА́ЦЬ (СПУСКА́ЦЬ) З ВО́КА (З ВАЧЭ́Й).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** *каго.* Пераставаць назіраць, сачыць за кім-н. **ВЫПУСЦІЦЬ (СПУСЦІЦЬ) З ВОКА (З ВАЧЭЙ).** *Зак. Макарка маўчаў, баючыся хоць на момант спусціць з вачэй незнаёмага чалавека.* Колас.

**2.** *што.* Пераставаць улічваць што-н., пакідаць што-н. па-за ўвагай. **ВЫПУСЦІЦЬ (СПУСЦІЦЬ) З ВОКА (З ВАЧЭЙ).** *Зак. Куды накіруе свой пратэст распаленая грамада — Рыгор не ведаў і не даваў сабе ніякага адрахунку. Рыгор выпусціў гэта з вока — ён паддаўся настрою таварышаў.* Гартны.

**ВЫПУСКА́ЦЬ У СВЕ́Т** *што. Незак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Выдаваць, апублікоўваць (кнігу, брашуру і пад.). **ВЫПУСЦІЦЬ У СВЕТ** *што. Зак. Кнігі гэтыя выходзяць з друку нелегальна, трэба было ашукаць або абысці царскую цэнзуру, якая не выпусціла б гэтых кніг у свет і за змест, і за тое, што яны напісаны на беларускай мове.* Чорны.

**ДАВАЦЬ ДЫ З РУК НЕ ВЫПУСКАЦЬ** *што.* Гл. даваць.

*ВЫПУСЦІЦЬ* • **ВЫПУСЦІЦЬ ДЖЫНА З БУТЛІ**. *Зак. да* **ВЫПУСКАЦЬ ДЖЫНА З БУТЛІ.**

**ВЫПУСЦІЦЬ З ВІДУ** *каго, што.* Гл. упускаць.

**ВЫПУСЦІЦЬ З ВОКА.** *Зак. да* **ВЫПУСКАЦЬ З ВОКА.**

**ВЫПУСЦІЦЬ З ГАЛАВЫ** *што. Зак. да* **ВЫПУСКАЦЬ З ГАЛАВЫ** *што.*

**ВЫПУСЦІЦЬ ЗЛОГА ДЖЫНА**. *Зак. да* **ВЫПУСКАЦЬ ЗЛОГА ДЖЫНА.**

**ВЫПУСЦІЦЬ З <СВАІХ> РУК**. *Зак. да* **ВЫПУСКАЦЬ З <СВАІХ> РУК.**

**ВЫ́ПУСЦІЦЬ КІ́ШКІ** *<каму>. Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знішчыць, забіць ці зарэзаць каго-н. **Сін.**: адарваць галаву *каму* (у 1 знач.); адкруціць галаву *каму* (у 1 знач.); адпраўляць на той свет *каго*; адпраўляць у магілёўскую губерню *каго*; вымаць душу *з каго, каму* (у 2 знач.); вымотваць жылы (у 3 знач.); вымотваць кішкі (у 2 знач.); выпусціць дух (у 3 знач.); вытрасці душу *з каго, каму* (у 2 знач.); гнаць у магілу *каго*; заганяць на той свет; зводзіць са свету *каго* (у 1 знач.); зводзіць у магілу *каго*; звярнуць галаву *каму*; зжываць са свету *каго*; знімаць галаву *каму* (у 1 знач.); прыбіраць з дарогі *каго*; скруціць вязы *каму*; скруціць шыю *каму. [Стрыбульскі:] Уцячы? Уцячэш тут! Спаймаюць дзе-небудзь на дарозе, кішкі выпусцяць...* Мележ. *Я немца знаю... У германскую вайну сваім штыком не аднаму кішкі выпусціў...* І.Капыловіч.

**ВЫПУСЦІЦЬ ЛЕЙЦЫ З <СВАІХ> РУК**. *Зак. да* **ВЫПУСКАЦЬ ЛЕЙЦЫ З <СВАІХ> РУК.**

**ВЫПУСЦІЦЬ ПАРУ**. *Зак. да* **ВЫПУСКАЦЬ ПАРУ.**

**ВЫПУСЦІЦЬ У СВЕТ** *што. Зак. да* **ВЫПУСКАЦЬ У СВЕТ** *што.*

**ДУ́Х ВЫ́ПУСЦІЦЬ**. *Зак. Праст.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Памерці. **Сін.**: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць на той свет; адыходзіць (ісці) у лепшы свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць у іншы свет; ажаніцца з <сырою> зямлёй; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць *<каму>* (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага *збірацца*; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); канькі адкідаць; лажыцца ў магілу; на паповы сані *збірацца*; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. *Я ляжаў у ямцы наводдаль, дык мяне ад выбуховай хвалі спачатку як падыме, а пасля як бразне аб зямлю! Ледзь дух не выпусціў...* Мележ.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. адуш. прадмета. Здохнуць (пра жывёл). **Сін.**: адкідваць капыты (у 2 знач.); адкідваць хвост (у 3 знач.); задзіраць капыты (у 1 знач.). *Не паспеў вяпрук дух выпусціць — задаволены гаспадар адрэзаў храсткаватыя шчаціністыя вушы і ва ўзнагароду кінуў адно — аднаму [сабаку], другое — другому.* Калодзежны.

**3**. *з каго.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Забіць каго-н. Часцей як пагроза. **Сін.**: адарваць галаву *каму* (у 1 знач.); адкруціць галаву *каму* (у 1 знач.); адпраўляць на той

свет *каго*; адпраўляць у магілёўскую губерню *каго*; вымаць душу *з каго, каму* (у 2 знач.); вымотваць жылы (у 3 знач.); вымотваць кішкі (у 2 знач.); выпусціць кішкі <*каму*>; вытрасці душу *з каго, каму* (у 2 знач.); гнаць у магілу *каго*; заганяць на той свет; зводзіць са свету *каго* (у 1 знач.); зводзіць у магілу *каго*; звярнуць галаву *каму*; зжываць са свету *каго*; знімаць галаву *каму* (у 1 знач.); прыбіраць з дарогі *каго*; скруціць вязы *каму*; скруціць шыю *каму*. *Спакойна падышоў Аляшкевіч і выставіў няпрошанаму госцю пад нос пудовы кулак: — А гэту штуку ты смакаваў?.. Ды я з цябе дух выпушчу!* С.Александровіч. *[Рамановіч] пачаў лаяцца, пагражаў, што дух з мяне выпусціць.* Капусцін.

*ВЫРАЙ* • **У ВЫ́РАЙ** *збірацца. Акал. Разм.* На той свет, у магілу. **Сін.**: у магілёўскую губерню. *Мне не трэба зямлі. Я, брат, у вырай скора; досі таптал і мае ногі сырую зямлю. Вунь дзе мая зямля! — і стары Юрка паказаў рукою на могілкі з трухлявымі крыжамі.* Колас. *Дзе мне, Раману, старому ўжо, ехаць за свет? Тут роджаны, тут век звекаваў, тут і ў вырай збіраюся.* Аношкін.

*ВЫРАС* • **ЯК (НІБЫ́) З-ПАД (З) ЗЯМЛІ́ ВЫ́РАС (-ЛА, -ЛІ)**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Зусім нечакана, раптоўна з'явіўся. **Сін.**: як з неба зваліўся. *Калі захварэў япрук, адразу, як з-пад зямлі вырас Сёмка Фартушнік.* Чорны. *Толькі мне трэба было павярнуць на сваю вуліцу, як нібы з-пад зямлі выраслі два ўзброеныя цывільныя.* Сабаленка. — *І адкуль яна [дзяўчына] тут узялася?.. — Не ведаю... Нібы з-пад зямлі вырасла, — адказала Алена, вяртаючыся да салдат.* Каліна. *Нор не ўправіўся скончыць думку — перад ім як з зямлі вырас механік іх карабля.* Шамякін.

*ВЫРАСТАЦЬ* • **ВЫРАСТА́ЦЬ З ПЯЛЁНАК**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Станавіцца дарослым, самастойным. **ВЫРАСЦІ З ПЯЛЁНАК**. *Зак. Што ж ад яе хоча маці? Няўжо яна не разумее, што ў дачкі сваё жыццё, свая дарога, што яна, Святлана, ужо вырасла з пялёнак?* М.Капыловіч.

**ВЫРАСТА́ЦЬ У ВАЧА́Х** *каго, чыіх. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Заслугоўваць павагу, прызнанне ў каго-н., выйграваць у чыіх-н. поглядах. *Я адчуў, што праз гэты факт вырастаю ў яе [Дануціных] вачах яшчэ больш.* Карпюк. **ВЫРАСЦІ Ў ВАЧАХ** *каго, чыіх. Зак. Сцёпка яшчэ больш вырас у яе [Аленчыных] вачах.* Колас. *Што ў гэтай гісторыі мела пад сабой рэальны грунт, а што дадумана дзеля большай важнасці, каб вырасці у вачах прадстаўнікоў новай улады, сказаць цяжка.* Чыгрынаў.

*ВЫРАСЦІ* • **ВЫРАСЦІ З ПЯЛЁНАК**. *Зак. да* **ВЫРАСТАЦЬ З ПЯЛЁНАК**.

**ВЫРАСЦІ Ў ВАЧАХ** *каго, чыіх. Зак. да* **ВЫРАСТАЦЬ Ў ВАЧАХ** *каго, чыіх.*

*ВЫРВАЦЬ* • **ВЫРВАЦЬ З ЗУБОЎ** *што ў каго, з чыіх. Зак. да* **ВЫРЫВАЦЬ З ЗУБОЎ** *што ў каго, з чыіх.*

**ВЫРВАЦЬ З КОРАНЕМ** *што. Зак. да* **ВЫРЫВАЦЬ З КОРАНЕМ** *што.*

**ВЫРВАЦЬ З <СВАЙГО> СЭРЦА** *каго, што. Зак. да* **ВЫРЫВАЦЬ З <СВАЙГО> СЭРЦА** *каго, што.*

**З РУК ВЫРВАЦЬ** *што. Зак. да* **З РУК ІРВАЦЬ** *што.*

*ВЫРЫВАЦЬ* • **ВЫРЫВА́ЦЬ З КО́РАНЕМ (З КАРЭ́ННЕМ)** *што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Поўнасцю, канчаткова знішчаць. **Сін.**: зраўняць з зямлёй *што*; мяшаць з зямлёй (у 1 знач.); не пакідаць каменя на камені (у 1 знач.); сціраць з твару зямлі (у 2 знач.). **ВЫРВАЦЬ З КОРАНЕМ (З КАРЭННЕМ)** *што. Зак. Галодныя дні і бяссонныя ночы адбіралі ў Ігнася сілу, ды не*

*так прыкметна гэта было, а тут два словы доктара вырвалі з коранем нешта галоўнае, што давала яшчэ лёгкасць нагам.* Чорны. *Цяпер ён [Барцёўскі] хацеў адным махам вырваць з карэннем усе сляды ад таго, што было.* «Полымя».

**ВЫРЫВА́ЦЬ З <СВАЙГО́> СЭ́РЦА** *каго, што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прымушаць сябе забыць каго-н. блізкага, каханага ці што-н. запаветнае, дарагое. **ВЫРВАЦЬ З <СВАЙГО> СЭРЦА** *каго, што. Зак. Далёкія, шчаслівыя гады! Іх трэба праклясці, іх трэба вырваць з сэрца, іх трэба згнесці, растаптаць у пух і ў прах.* Зарэцкі. *Каб набыць душэўны спакой, [Тоха] павінна вырваць яго [Рустамава] са свайго сэрца.* Кобец-Філімонава.

**ВЫРЫВА́ЦЬ (РВА́ЦЬ) З ЗУБО́Ў (З ГО́РЛА)** *што ў каго, з чыіх. Незак. Праст. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дамагацца чаго-н. настырна і любымі сродкамі. *Цімох — ты ж уяўляеш, які ён, — навучыўся вырываць з зубоў у саўгаснага начальства патрэбны матэрыял.* Карпаў. *Ды няўжо ж так заўсёды і будуць ірваць адзін у другога з зубоў, таптаць другога ў гразь, каб самому вылезці з балота, стаўшы на спіну суседа?* Крапіва. **ВЫРВАЦЬ З ЗУБОЎ (З ГОРЛА)** *што ў каго, з чыіх. Зак. — Чаму ж вы не далі нам знаку? Мы б з іхняга горла вырвалі пратакол! — пачуўся грозны голас Мірона Шуські.* Колас. *А сенат адмовіць — пайду з прашэннем да самога цара!.. З горла вырву!* Гарэцкі.

*ВЫСАЛАПІЎШЫ* • **ВЫ́САЛАПІЎШЫ ЯЗЫ́К**. *Акал. Разм. Часцей іран.* **1**. Вельмі хутка, спяшаючыся (бегчы, бегаць і пад.). **Сін**.: без аглядкі (у 1 знач.); без духу *бегчы*; без душы *бегчы*; без памяці (у 1 знач.); ва ўсе лапаткі (у 1 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.); з усіх ног; колькі <было> духу; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на адным дыханні (у 1 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўвесь мах; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у 2 знач.); на ўсе ногі; на ўсіх парах; на ўсіх парусах; на ўсю моц (у 2 знач.); чуй дух; што ёсць духу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 2 знач.); як дуж; як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як мага (у 1 знач.); як на крыллях; як на пажар; як падсмалены. **Ант**.: як чарапаха. *[Алёшу] тады брала злосць на Насту: не можа нічым памагчы. Бегай толькі па яе босы гародамі язык высалапіўшы...* Пташнікаў. *— Хіба разам былі? — Разам ці не разам, а гадзін са дзве назад разам у гэту вёску прыходзілі хлеба прасіць. То я не вярнуўся. Не бачу сэнсу язык высалапіўшы бегчы перад танкамі. А ён — пайшоў.* Лобан.

**2**. У бясконцых турботах, да знямогі (бегаць). *Гэ, так за пятнаццаць дзён лёгка зараблю на вучобу, замест таго, каб цэлы месяц высалапіўшы язык бегаць па Вільні пасыльным.* Карпюк. *«Узяў бы лепш сумку ды ў магазін схадзіў...» Вунь што! Нібы ён [Іван] жаніўся дзеля таго, каб высалапіўшы язык бегаць з сумкамі па магазінах.* А.Марціновіч.

**3**. Не шкадуючы сіл, стараючыся (рабіць што-н.). **Сін**.: аж пуп трашчыць; ва ўсе лапаткі (у 2 знач.); з апошніх сіл; з апошняга; з усёй сілы (у 1 знач.); з усіх жыл (у 1 знач.); з усіх чатырох (у 2 знач.); колькі <было> сілы (у 1 знач.); на поўную сілу (у 1 знач.); на ўсю моц (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 1 знач.). *[Лушка:] Ды яшчэ і сваёй карове пасцілку з поля цягні язык высалапіўшы!* Макаёнак.

*ВЫСАЛАПІЦЬ* • **ВЫ́САЛАПІЦЬ ЯЗЫ́К (-І)**. *Зак. Разм. Часцей іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі заморыцца, знясіліцца ад якога-н. напружання. **Сін**.: валіцца з ног <*ад чаго*>; выбівацца з сіл (у 1 знач.); заставацца без ног; збівацца з ног; зямлі не чуць пад сабой (у 2 знач.); ледзь ногі цягаць (у 1 знач.); ледзь стаяць на нагах (у 1 знач.); ледзь шоры цягаць; на нагах не трымацца; не чуць ног; не чуць ні рук ні ног. —

*Чаму нам не пайсці пехатою? Толькі, вядома, без дзяўчат. — Ох, героі якія! Вы хутчэй за нас языкі высалапіце. Задавакі.* Шамякін.

*ВЫСАХЛА* • **<МАТЧЫНА> МАЛАКО НА ГУБАХ НЕ ВЫСАХЛА** *ў каго.* Гл. малако.

*ВЫСАХЛІ* • **МАЗГІ ВЫСАХЛІ** *ў каго.* Гл. мазгі.

*ВЫСКАКВАЦЬ* • **ВЫСКАКВАЦЬ З ГАЛАВЫ** <*у каго*>. Гл. вылятаць.

*ВЫСКАЛІЦЬ* • **ВЫСКАЛІЦЬ ЗУБЫ**. *Зак. да* **ВЫСКАЛЯЦЬ ЗУБЫ**.

*ВЫСКАЛЯЦЬ* • **ВЫСКАЛЯ́ЦЬ ЗУ́БЫ**. *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Смяяцца, рагатаць; насміхацца з каго-н. **Сін.**: зубы грэць на сонцы; прадаваць зубы; скаліць зубы (у 1 знач.); сушыць зубы. — *Што, брат, уцякаеш ад нас? Усё роўна мы ва ўсім вінаваты... — Махорка смяўся. Ён, недзе, выскаляў зубы з яго, Боганчыка, аж да самых могілак...* Пташнікаў. — *Годзе зубы выскаляць, — кажа [Гіляр] на дачку. — Хадзем у свіран — работу дам.* Калюга. **ВЫСКАЛІЦЬ ЗУБЫ**. *Зак.*

*ВЫСКАЧЫЎ* • **ДУХ ВЫСКАЧЫЎ** *з каго, у каго.* Гл. дух.

*ВЫСКАЧЫЦЬ* • **ВЫСКАЧЫЦЬ З ГАЛАВЫ** <*у каго*>. Гл. вылятаць.
**СЭРЦА ЯК НЕ ВЫСКАЧЫЦЬ** *у каго.* Гл. сэрца.

*ВЫСМАКТАЦЬ* • **ВЫСМАКТАЦЬ З ПАЛЬЦА** *што. Зак. да* **ВЫСМОКТВАЦЬ З ПАЛЬЦА** *што.*
**ВЫСМАКТАЦЬ КРОЎ** *з каго, чыю. Зак. да* **ВЫСМОКТВАЦЬ КРОЎ** *з каго, чыю.*
**ВЫСМАКТАЦЬ СОК** *з каго, з чаго. Зак. да* **ВЫСМОКТВАЦЬ СОК** *з каго, з чаго.*

*ВЫСМОКТВАЦЬ* • **ВЫСМО́КТВАЦЬ З ПА́ЛЬЦА** *што. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гаварыць, сцвярджаць што-н. без належных падстаў; выдумваць. **Сін.**: з ветру вяроўкі віць. *Навука павінна мець запатрабаванні практыкі, прастор. Базу для эксперыментаў. Безумоўна, калі там, у інстытутах, будуць высмоктваць вывады з пальцаў... Калі мы не дамо ніводнай комплекснай задачы...* Шамякін.
**ВЫСМАКТАЦЬ З ПАЛЬЦА** *што. Зак. [Моцкін:] А што вы думаеце? Гэту лічбу я з пальца высмактаў? У мяне ёсць квітанцыі.* Макаёнак. *Урэшце [Максім] патрабаваў, каб яму прад'явілі канкрэтныя доказы таго, у чым яго абвінавачваюць, а не высмактаныя з пальца невядома кім, бяздоказныя закіды.* Машара.
**ВЫСМОКТВАЦЬ КРОЎ** *з каго, чыю.* Гл. піць.
**ВЫСМО́КТВАЦЬ (СМАКТА́ЦЬ) СО́К (-І)** *з каго, з чаго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. **1**. Бязлітасна эксплуатаваць, прыгнятаць каго-н., даводзіць да беднасці. **Сін.**: вазіць ваду *на кім*; выціскаць пот *з каго* (у 1 знач.); выціскаць сокі *з каго*; драць скуру *з каго* (у 1 знач.); піць кроў *з каго, чыю* (у 1 знач.); цягнуць гізунты *з каго*; цягнуць жылы *з каго*; цягнуць кішкі *з каго*; цягнуць сок *з каго. Казачная, зданнёвая вужака-вайна высмоктвала сокі з вёскі абя[ссіль]ваючы яе і спустошваючы.* Гартны. *І тыя даўныя паны, як Хвастуноўскія, і тыя новыя панкі, як Ромусі Рабэйкі, — усю яе [вёску] абселі, абкружылі і смокчуць з яе сокі...* Гарэцкі.
**2**. Мучыць каго-н., прычыняць пакуты. **Сін.**: вымаць душу *з каго, каму* (у 1 знач.); вытрасці душу *з каго, каму* (у 1 знач.); даставаць гізунты *з каго*; дыхаць не даваць *каму* (у 2 знач.); есці поедам *каго*; напіцца крыві *чыёй*; гнаць кроў *з каго, чыю* (у 2 знач.).
**ВЫСМАКТАЦЬ СОК (-І)** *з каго, з чаго. Зак. Ой, лецейка гарачае, цяжкая пара, знудзіць яно бабу, высмакча сок з яе!* Каваль.

*ВЫСОКА* • **ВЫСОКА ЛЯТАЦЬ**. Гл. лятаць.
**НЕСЦІ СЯБЕ ВЫСОКА**. Гл. несці.

**ТРЫМАЦЬ ВЫСОКА СЦЯГ** *чаго, каго, чый.* Гл. трымаць.

*ВЫСОКАГА* • **ПТУШКА ВЫСОКАГА ПАЛЁТУ**. Гл. птушка.

*ВЫСОКАЙ* • **ВЫСОКАЙ ПРОБЫ**. Гл. пробы.
**НА ВЫСОКАЙ НОЦЕ**. Гл. нотах.
**НА ВЫСОКАЙ ХВАЛІ**. Гл. хвалі.

*ВЫСОКІХ* • **НА ВЫСОКІХ НОТАХ**. Гл. нотах.

*ВЫСОЎВАЦЬ* • **ВЫСО́ЎВАЦЬ (ВЫТЫКА́ЦЬ, ВЫТЫРКА́ЦЬ) НО́С** *куды, адкуль. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выходзіць куды-, адкуль-н., паказвацца. **Ант.**: не казаць носа *куды*; не паказваць вачэй *куды*; не патыкаць носа *куды, да каго. Сядзь ціха. Носа з горада не высоўвай.* Навуменка. *[Ізабела:] Па-твойму, я павінна насіць ватныя штаны і ўвогуле нікуды не вытыркаць носа, паколькі ў нас яшчэ ёсць хамы і нахабнікі? Так?* Матукоўскі. *Аўдоля сядзела з Алеськай на пярэдняй лаўцы і нешта перагаворвалася з Зосяй, якая, «загрыміраваная» ўжо, высунула нос з-за посцілкі.* Крапіва. *[Адась:] А паліцыя баялася і нос выткнуць на вуліцу.* Козел. **ВЫСУНУЦЬ (ВЫТКНУЦЬ, ВЫТЫРКНУЦЬ) НОС** *куды, адкуль. Зак.*

*ВЫСПЯТКА* • **АД БО́ГА ВЫ́СПЯТКА**! *Абл. Выкл. Разм. Асудж.* Невядома чаго! Ужыв. пры выказванні крайняга абурэння супраць таго, хто багата жыве, добра ўладкаваўся і пад., але, няўдзячны, яшчэ чагосьці хоча. *Ты чаго яшчэ хочаш? Ад бога выспятка?!* Караткевіч.

*ВЫССАЦЬ* • **ВЫССАЦЬ КРОЎ** *з каго, чыю. Зак. да* **ССАЦЬ КРОЎ** *з каго, чыю.*

*ВЫСТАВІЦЬ* • **ВЫСТАВІЦЬ ДУЛЮ** *каму. Зак. да* **ВЫСТАЎЛЯЦЬ ДУЛЮ** *каму.*
**ВЫСТАВІЦЬ НАПАКАЗ** *што. Зак. да* **ВЫСТАЎЛЯЦЬ НАПАКАЗ** *што.*

*ВЫСТАЎКУ* • **ХО́ЦЬ НА ВЫ́СТАЎКУ <ВЯЗІ́, ВЫСТАЎЛЯ́Й>**. *Часцей вык. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Вельмі добры, заслугоўвае самай высокай ацэнкі. **Сін.**: адным словам; без сучка і <без> задзірынкі (у 2 знач.); будзь-будзь (у 2 знач.); будзь здароў (у 4 знач.); дай бог (у 2 знач.); дай бог кожнаму (у 1 знач.); дзякуй богу (у 2 знач.); за маё-маё (у 2 знач.); за маліну (у 3 знач.); з бляскам (у 2 знач.); кругом сто дваццаць; на славу (у 2 знач.); на ўсе рукі; на ўсе сто (у 3 знач.); на яць (у 2 знач.); па крайняй меры (у 2 знач.); пальчыкі абліжаш (у 2 знач.); пашукаць такога; першай гільдыі (у 1 знач.); першай рукі (у 1 знач.); першы клас; першы сорт; разлюлі-маліна (у 1 знач.); рэдкай рукі; слава богу (у 2 знач.); хоць куды (у 1 знач.); што трэба (у 2 знач.); як яечка. *Ух, газета будзе, хоць ты на выстаўку вязі!* Каваль. *Твой участак, Васіліна, хоць на выстаўку...* Хадкевіч. *У Алеся ж хата была хоць на выстаўку выстаўляй. Дах.. роўненькі, як пад шнур, ні ўпадзіны на ім, ні ўспучын.* Ермаловіч. — *Гатова! — гукае Раман і адкідае бот на тапчан. — Цяпер Зміцерок пару ботаў мае — хоць на выстаўку.* Чорны. *Кузьмей стараўся, і прапелер выйшаў прыгожы. — Хоць на выстаўку, — усміхнуўся малому Верасоўскі.* Сіпакоў.

*ВЫСТАЎЛЯЙ* • **ХОЦЬ НА ВЫСТАЎКУ <ВЫСТАЎЛЯЙ>**. Гл. выстаўку.

*ВЫСТАЎЛЯЦЬ* • **ВЫСТАЎЛЯ́ЦЬ НАПАКА́З** *што. Незак. Функц. не зам. Часта неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паказваць, выяўляць што-н., каб звярнуць чыю-н. увагу на гэта. — *Вы цяпер выстаўляеце напаказ свае пакуты?! — абазваўся студэнт. — Чаму ж вы ў палон на полі бою не пайшлі, а на захад павалакліся?* Чорны. *З П.Глебкам можна было пагаварыць, паспрачацца па самых розных пытаннях літаратурнага жыцця, і ён ніколі не выстаўляў сваіх ведаў, як кажуць, напаказ.* А.Марціновіч. **ВЫСТА-**

**ВІЦЬ НАПАКАЗ** *што. Зак. — Зіма сёлета выдалася снежная.. — Вільгаці хопіць. Павінен быць добры ураджай, — выставіў я напаказ сваё сялянскае паходжанне.* Шахавец.

**ВЫСТАЎЛЯЦЬ (ПАКАЗВАЦЬ) ДУЛЮ (ФІГУ, КУКІШ)** *каму. Незак. Прает.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Рашуча і з насмешкай адмаўляць у чым-н., нічога не даваць каму-н. **ВЫСТАВІЦЬ (ПАКАЗАЦЬ) ДУЛЮ (ФІГУ, КУКІШ)** *каму. Зак. — У саўгасе былі? — Былі. — Што там сказалі? — Фігу выставілі.* Крапіва. *— Дык што, — дружна загаманілі мужчыны, — і ты заадно з Ліпаём і Пятровічам? Чакаць усерасійскага сходу? А ён табе фігу выставіць...* Якімовіч. *[Шлык] адзін ад чатырох адбіўся! І Вольгу потым звёз, і хлопцам тым дулю паказаў, і цяпер царом жыве!* Савіцкі. *Вітэ нам дакляраваў — помніце? — свабоду. Потым фігу паказаў «вернаму» народу.* Колас. *На знаёмства з адзіночкамі, тым болей на раскрыццё ім сваіх сакрэтаў, полюс ідзе неахвотна. Таму не падтрыманаму сваёй дзяржавай, адважнаму Пірсу полюс, уласна кажучы, паказаў кукіш.* Корбан.

*ВЫСТРАЛ* • **НА ГАРМАТНЫ ВЫСТРАЛ**. Гл. стрэл.

*ВЫСУНУЦЬ* • **ВЫСУНУЦЬ НОС** *куды, адкуль. Зак. да* **ВЫСОЎВАЦЬ НОС** *куды, адкуль.*

*ВЫСЦЕБАЦЬ* • **ВЫСЦЕБАЦЬ (АДЛУПЦАВАЦЬ) САМОГА СЯБЕ**. *Зак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Нашкодзіць сабе выяўленнем сваіх слабасцей, недахопаў, заган. *Рэдакцыя «Маладняка», надрукаваўшы гэты артыкул, сама сябе высцебала.* Чорны. *[Наталля:] Што гэта? Выклік? Я і прыняць магу. [Лютынскі:] Прымі, калі ласка! Высцебай сама сябе.* Крапіва. *Гэта гаворыць аб тым, што аўтар узяў на сваё ўзбраенне хлусню, беспардонную хлусню, і адлупцаваў сам сябе.* Лобан.

*ВЫТКНУЦЬ* • **ВЫТКНУЦЬ НОС** *куды, адкуль. Зак. да* **ВЫТЫКАЦЬ НОС** *куды, адкуль.*

*ВЫТРАСЦІ* • **ВЫТРАСЦІ ДУШУ** *з каго, каму. Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Замучыць пагрозамі, прыставаннем і пад. **Сін.**: вымаць душу *з каго, каму* (у 1 знач.); высмоктваць сок *з каго, з чаго* (у 2 знач.); даставаць гізунты *з каго*; дыхаць не даваць *каму* (у 2 знач.); есці поедам *каго*; напіцца крыві *чыёй*; піць кроў *з каго, чыю* (у 2 знач.). *— А нашто — цярпець?.. Ён — любіць?.. — Любіць! — Ганніны губы злосна скрывіліся. — Любіць!.. Як грушу! Вытрасе скора душу!* Мележ. *Заўсёды сэрца неспакойнае, глядзяць на цябе зверам, гатовыя за дзесятак агуркоў душу з цябе вытрасці.* Самуйлёнак.

**2**. Знішчыць, забіць каго-н. **Сін.**: адарваць галаву *каму* (у 1 знач.); адкруціць галаву *каму* (у 1 знач.); адпраўляць на той свет *каго*; адпраўляць у магілёўскую губерню *каго*; вымаць душу *з каго, каму* (у 2 знач.); вымотваць жылы (у 3 знач.); вымотваць кішкі (у 2 знач.); выпусціць дух (у 3 знач.); выпусціць кішкі <*каму*>; гнаць у магілу *каго*; заганяць на той свет *каго*; зводзіць са свету *каго* (у 1 знач.); зводзіць у магілу *каго*; звярнуць галаву *каму*; зжываць са свету *каго*; знімаць галаву *каму* (у 1 знач.); прыбіраць з дарогі *каго*; скруціць вязы *каму*; скруціць шыю *каму*. *Кажы, дзе Тышкевіч і ўся яго банда? Усё выкладвай, пакуль табе душу не вытраслі.* Асіпенка. *[Антаніна Васільеўна:] Уміручыя апанавалі [Дабрыяна]. З машыны выцягнулі. Давай неўміручасць, а то мы з цябе душу вытрасем!* Крапіва.

*ВЫТРЫМАЦЬ* • **ВЫТРЫМАЦЬ МАРКУ**. *Зак. да* **ТРЫМАЦЬ МАРКУ**.

**ВЫТРЫМАЦЬ ХАРАКТАР**. *Зак. да* **ВЫТРЫМЛІВАЦЬ ХАРАКТАР**.

*ВЫТРЫМЛІВАЕ* • **НЕ ВЫТРЫ́МЛІВАЕ (-ЮЦЬ) НІЯ́КАЙ КРЫ́ТЫКІ**. *Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Вельмі дрэнны па сваіх якасцях. **Сін.**: адны слёзы; глядзець няма на што; з рук вон (у 2 знач.); кату пад хвост (у 2 знач.); кульгаць на абедзве нагі (у 3 знач.); курам на смех (у 1 знач.); на ліхога казана; не лезе ні ў якія вароты; нікуды неварты; ні к чорту (у 1 знач.); ні к чорту не варты; ні самому паглядзець ні людзям паказаць; пусці павалюся (у 1 знач.); смеху варты. *Вырабы, якія прадаваліся з фургона, не вытрымліваюць ніякай крытыкі.* «Звязда». *Вымаўленне маё [па-англійску], зразумела, не вытрымлівала ніякай крытыкі.* Мальдзіс. *Гора-ідэолагі хочуць даказаць недаказальнае... Іх тэзіс не вытрымлівае ніякай крытыкі.* «Нар. асвета».

*ВЫТРЫМЛІВАЦЬ* • **ВЫТРЫ́МЛІВАЦЬ РО́ЛЮ** *каго, якую. Незак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не адступаць ад прынятай лініі паводзін. **ВЫТРЫМАЦЬ РОЛЮ** *каго, якую. Зак. [Драніцу] край як трэба было на вачах у аднавяскоўцаў вытрымаць ролю перакладчыка — няхай абы выгляд размовы, каб унікнуць на гады наперад іхняга рогату, бо на чужы рот гузіка не нашыеш.* Чыгрынаў. *Можна смела сказаць, што, каб Гальвас крыкнуў на [Амалію], яна не вытрымала б узятай на сябе ролі.* Чорны.

**ВЫТРЫ́МЛІВАЦЬ ХАРА́КТАР**. *Незак. Функц. не зам. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Праяўляючы стойкасць, заставацца адданым прынятаму рашэнню. *Настрой у мяне спакойна-журботны. Можа, таму, што Антаніна ў Кавальцах. Але я не хаджу да яе, вытрымліваю характар.* Навуменка. *Захацелася курыць, але я стрымліваюся. Калі ўжо кінуў, дык трэба вытрымліваць характар.* Васілёнак. **ВЫТРЫМАЦЬ ХАРАКТАР**. *Зак. [Захар] тут часова. Гэта толькі пазіцыя, каб вытрымаць характар, дабіцца прымірэння з Ліляй.* Дуброўскі.

*ВЫТЫКАЦЬ* • **ВЫТЫКАЦЬ НОС** *куды, адкуль.* Гл. высоўваць.

*ВЫТЫРКАЦЬ* • **ВЫТЫРКАЦЬ НОС** *куды, адкуль.* Гл. высоўваць.

*ВЫТЫРКНУЦЬ* • **ВЫТЫРКНУЦЬ НОС** *куды, адкуль. Зак. да* **ВЫТЫКАЦЬ НОС** *куды, адкуль.*

*ВЫХАД* • **ВЫ́ХАД З-ПАД ПЯРА́**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Напісанне, стварэнне кім-н. (літаратурнага твора). *Масаваму чытачу, мабыць, і не сніўся такі падарунак... Амаль праз трыццаць гадоў пасля выхаду з-пад пяра твор [«Сказ пра Лысую гару»] выйшаў у свет.* Жуковіч.

**ВЫ́ХАД СА СТРО́Ю** *чаго. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Псаванне, паломка. *Мы ведалі, што пры любой аварыі ці ў выпадку выхаду са строю якой-небудзь адной машыны калона доўга не затрымлівалася б.* Лынькоў. *Прычынай заўчаснага выхаду са строю тэхнікі ў першую чаргу сталі безадказныя адносіны механізатараў да замацаваных за імі машын.* «Звязда».

**ВЫ́ХАД У СВЕ́Т** *чаго. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Друкаванне, апублікаванне (кнігі, брашуры і пад.). *Ніна заказала Карбюзье задоўга да выхаду кнігі ў свет.* Шамякін. *Кнігі Б.Сачанкі, як цікавыя з'явы літаратурна-грамадскага жыцця, звярнулі на сябе ўвагу — на ўсіх узроўнях! — адразу ж пасля свайго выхаду ў свет.* Гніламёдаў. *З хваляваннем чакаў [я] выхаду ў свет першай кніжкі паэткі.* Л.Галубовіч.

*ВЫХАДЫ* • **<УСЕ>ХАДЫ І ВЫХАДЫ**. Гл. хады.

*ВЫХОДЗІЛІ* • **<ЯШЧЭ> ЧЭРЦІ НА КУЛАЧКІ НЕ ВЫХОДЗІЛІ**. Гл. чэрці.

*ВЫХОДЗІЦЬ* • **ВЫХОДЗІЦЬ БОКАМ** *каму.* Гл. вылазіць.

**ВЫХО́ДЗІЦЬ (ВЫЛА́ЗІЦЬ) НАВЕ́РХ**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Нечакана выяўляцца. **Сін.**: выплываць на паверхню (у 2 знач.). *Скуратовічыха старалася гаварыць спакойна, але праз яе стараннасць часта выходзіла наверх злосць і нянавісць.* Чорны. **ВЫЙСЦІ (ВЫЛЕЗЦІ) НАВЕРХ**. *Зак. За гэтай заклапочанай задуменнасцю адчувалася матчына крыўда, якая недзе глыбока захавана, але пасля некалі выйдзе наверх.* Крапіва. *Усё паскудства наверх вылезла. Злодзей Халуста, якому я «дзень добры» не даў бы, панам становіцца.* Чарнышэвіч.

**ВЫХО́ДЗІЦЬ З ГАЛАВЫ́** <*у каго*>. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Зусім забывацца. **Сін.**: выпадаць з галавы <*у каго*>; вылятаць з галавы <*у каго*>; сыходзіць з памяці *каму*; у адно вуха ўлятае <а> у другое вылятае <*у каго, каму*>. *Вось і гэтая жанчына з трыма дзецьмі, важатая калоны, рэдка калі выходзіла з галавы.* Кулакоўскі. **ВЫЙСЦІ З ГАЛАВЫ** <*у каго*>. *Зак. Да вяселля ўсё [благое] выйдзе з галавы... Няма чаго сумаваць: жэніцеся і пакахаеце адно другога.* Гартны.

**ВЫХО́ДЗІЦЬ З-ПАД ПЯРА́** *каго, чыйго. Незак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Быць напісаным кім-н. Пра твор, кнігу і пад. *Такое захапленне ўсім, што выходзіла з-пад пяра М.Зарэцкага-«маладнякоўца», сведчыла толькі аб непасрэднасці маладога чытача і аб тым, што проза наша не была яшчэ дастаткова багатай на творы высокай мастацкай культуры.* Адамовіч. **ВЫЙСЦІ З-ПАД ПЯРА** *каго, чыйго. Зак. Адных герояў яны [чытачы] прымаюць такімі, якімі яны выйшлі з-пад пяра аўтара, другіх хацелі б бачыць у нечым іншымі.* Шкраба. *З красавіка 1943 па лістапад 1944 з-пад яго [Коласавага] пяра выйшлі вершы вялікай сілы і хараства.* Лужанін.

**ВЫХО́ДЗІЦЬ З СЯБЕ́**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даходзіць да стану нервовай узбуджанасці, раздражнення; траціць самавалоданне. **Сін.**: лезці на сцяну; не знаходзіць <сабе> месца; не магчы знайсці <сабе> месца; не помніць сябе <*ад чаго*>. *Тады Мельнік выходзіў з сябе. Прыняўшы пыхлівую паставу, ён гатоў быў абвінаваціць працаўніка ва ўсіх зямных грахах.* Гамолка. *[Дзяніс, выходзячы з сябе:] Я ж сказаў — разбяромся?!* Дзялендзік. **ВЫЙСЦІ З СЯБЕ**. *Зак. Грынкевіч упершыню выйшаў з сябе. Узяў Марыю за запясце і сціснуў руку: — Ты не руш Яніса. Ён добры друг. Не руш яго, калі хочаш быць мне другам.* Караткевіч.

**ВЫХО́ДЗІЦЬ НА АРБІ́ТУ**. *Незак. Разм. Адабр. і неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Станавіцца прыкметным, вядомым, дабівацца больш высокага становішча ў жыцці. **Сін.**: выбівацца ў людзі; выходзіць у людзі; далёка пайсці; ісці ўгору (у 1 знач.); ісці ў людзі; прабіваць сабе дарогу (у 1 знач.); пракладаць сабе дарогу (у 1 знач.); працярэбліваць сабе шлях *куды*. *[Лявон:] Чулі? Мая Лушка выходзіць на арбіту!* Макаёнак. *Мікалай Васільевіч сказаў яму пра цябе, што ты ініцыятыўны і з галавой таварыш... Так што ты, браце, выходзіш на арбіту.* Гаўрылкін. **ВЫЙСЦІ НА АРБІТУ**. *Зак.*

**ВЫХО́ДЗІЦЬ НА ДАРО́ГУ** <*якую*>. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знаходзіць сваё месца ў жыцці, станавіцца самастойным. **Сін.**: выбівацца на <сваю> дарогу. *— Як ты жывеш? — Так і жыву... — Трэба выходзіць на дарогу, — параіў ён [Башлыкоў] шчыра. — На сваю. Сапраўдную.* Мележ. **ВЫЙСЦІ НА ДАРОГУ** <*якую*>. *Зак. Яна цяпер на вольную дарогу выйшла, час цяпер такі, шырокі, то яна і мяне з ямы выцягне...* Чорны. *Са шчырым словам удзячнасці за тое, што М.Лынькоў дапамог выйсці на літаратурную дарогу, не раз звярталіся да яго В.Вітка, А.Зарыцкі, С.Грахоўскі.* Шкраба.

**ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ БОК** *каму, у каго*. Гл. вылазіць.

**ВЫХОДЗІЦЬ СА СТРОЮ**. Гл. выбываць.

**ВЫХО́ДЗІЦЬ СУХІ́М З ВАДЫ́**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры. дзейн. са знач. асобы. Дзейнічаючы ашуканствам, заставацца непакараным. *Панскі суд ведаеш: каго хачу — караю, каго хачу — мілую. Як правіла, вінаватыя багацеі выходзяць з вады сухімі.* Машара. *[Юрка] заўсёды выходзіць сухім з вады.* Прокша. **ВЫЙСЦІ СУХІМ З ВАДЫ**. *Зак. [Гарлахвацкі:] Нюрачка, прашу цябе, не ўспамінай ты мне пра Кіеў! Я і так рад, што сухім з вады выйшаў.* Крапіва.

**ВЫХО́ДЗІЦЬ У ЛЮ́ДЗІ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дабівацца высокага становішча ў жыцці, у грамадстве. **Сін.**: выходзіць на арбіту; далёка пайсці; ісці ўгору (у 1 знач.); ісці ў людзі; прабіваць сабе дарогу (у 1 знач.); пракладаць сабе дарогу (у 1 знач.); працярэблівань сабе шлях *куды. Старэйшае пакаленне гэтых «сынкоў» выходзіла ў людзі: мешчанчукі і падпанкі выходзілі за чыноўнікаў, зіхацелі гузікамі і цэшкамі.* Чорны. **ВЫЙСЦІ Ў ЛЮДЗІ**. *Зак. Старанна сын вучыцца ў школе, а клопаты маці трывожаць: ці зможа навуку адолець, сын выйсці ў людзі ці зможа?..* Непачаловіч. *Нарадавацца не магла [маці] з Васіля: дабіўся свайго, дабіўся, чаго хацеў, — у людзі, лічы, выйшаў; сам выйшаў і сям'ю ўсю выцяг!* Мележ.

**ВЫХО́ДЗІЦЬ У СВЕ́Т**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Быць апублікаваным. Пра кнігу, брашуру і пад. **Сін.**: убачыць свет (у 2 знач.). **ВЫЙСЦІ Ў СВЕТ**. *Зак. Да рэвалюцыі выйшлі ў свет два зборнікі.. апавяданняў [Я.Коласа].* Крапіва. *У рэшце рэшт артыкул быў надрукаваны на другой паласе. Па шчырасці сказаць, то ён [Сяргей] быў дужа задаволены, што хоць і ў такім выглядзе матэрыял выйшаў у свет.* Дзятлаў.

**ВЫХО́ДЗІЦЬ У ТЫРА́Ж**. *Незак. Функц. не зам.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Становячыся непрыгодным да чаго-н., канчаць ранейшую дзейнасць. *І раптам непрыемная згадка: а ці не збіраюцца яму [Радзевічу] прапанаваць нейкую іншую работу?.. Няўжо на самай справе састарыўся, выходзіць у тыраж?..* Блакіт. **ВЫЙСЦІ Ў ТЫРАЖ**. *Зак. І вось ён [Іван Сцяпанавіч], яе кумір, раптам выйшаў у тыраж.* Якавенка. **2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Старэць, станавіцца непрыгодным для выкарыстання. **Сін.**: зжываць сябе; сыходзіць са сцэны (у 2 знач.). *Змены правапісу звязаны са значнай затратай дзяржаўных сродкаў: у тыраж выходзіць вялікая колькасць кніжнай прадукцыі (у першую чаргу школьныя падручнікі), і гэту прадукцыю трэба друкаваць нанава.* Крапіва. *У тыраж выходзяць не толькі аблігацыі.* «ЛіМ». **ВЫЙСЦІ Ў ТЫРАЖ**. *Зак.*

**НЕ ВЫХО́ДЗІЦЬ (НЕ ІДЗЕ́) З ГАЛАВЫ́ (З ПА́МЯЦІ, З ДУ́МАК)** <*чыёй, у каго*>. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Пастаянна прысутнічае ў свядомасці, не забываецца. **Сін.**: стаяць у галаве *каму, чыёй*; сядзець <цвіком> у галаве *у каго, чыёй*; урэзацца ў памяць *каму*. *— Косцік... — можа, дваццаты раз клікала Марыся. З яе галавы ні на хвіліну не выходзіў Косцік.* Баранавых. *Цудоўная машына, дзівосны аўтамабіль не выходзіў у яго з галавы.* Самуйлёнак. *Лукашык таксама прылёг, але з галавы ніяк не выходзіў крыклівы капітан.* Дамашэвіч. *З галавы не выходзіла пачутае ад Вяршкова пра бабінавіцкія падзеі.* Чыгрынаў. *[Гарасім:] Падаткі, падаткі. Думка не выходзіць з памяці, і ўстаю, і кладуся — усё падаткі, падаткі.* Галубок. *І сам не ведаю чаму, але не выходзіць з памяці той хлопец.* Блакіт. *Было відаць, аднак, што нешта яму няўпынна рупіць, не выходзіць з думкі.* Лужанін. *У Мішкі не ішла з галавы Краіна Цудаў, дзе ўсім працоўным людзям ёсць што есці і за што купляць.* Ялоўчык. *От прысушыў! Ні ўдзень, ні ноччу з галавы не ідзе...* Грахоўскі.

**У АДНО ВУХА ЎВАХОДЗІЦЬ, А Ў ДРУГОЕ ВЫХОДЗІЦЬ** <*у каго, каму*>. Гл. улятае.

**ЧОРТ НЕ ЧОРТ І ДВА НЕ ВЫХОДЗІЦЬ.** Гл. чорт.

*ВЫЦЕКЛА* • **СЕМ ПАТОЎ ВЫЦЕКЛА** *з каго.* Гл. выйшла.

*ВЫЦЕРЦІ* • **ВЫЦЕРЦІ НОГІ** *аб каго. Зак. да* **ВЫЦІРАЦЬ НОГІ** *аб каго.* **ВЫЦЕРЦІ СЛЁЗЫ** *каму. Зак. да* **ВЫЦІРАЦЬ СЛЁЗЫ** *каму..*

*ВЫЦІРАЦЬ* • **ВЫЦІРА́ЦЬ НО́ГІ** *аб каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Зняважліва адносячыся да каго-н., падпарадкоўваць сваёй волі, сваёй уладзе. **Сін.**: падтоптваць пад ногі (у 1 знач.). *Цяпер нас ніхто баяцца не будзе. Ногі аб нас выціраць пачнуць.* Марчук. **ВЫЦЕРЦІ НОГІ** *аб каго. Зак. Жывеш за мокрую анучу — кожны аб цябе імкнецца ногі выцерці.* Міхно. *[Аўдзей:] Я бацьку твайго помню — прайдоха ён, і ты прайдоха. [Другі мужык:] Хе-хе-хе, Аўдзей Усцінавіч, яно то гэтак, праўда твая... Што я? Аб мяне і ногі выцерці можна...* Бутрамееў.

**ВЫЦІРА́ЦЬ (УЦІРА́ЦЬ) СЛЁЗЫ** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Суцяшаць, абнадзейваць, супакойваць у горы каго-н. **Сін.**: асушваць слёзы *чые, каму. [Русаковіч:] Табе жартачкі, а мне горка слухаць папрокі, якіх я не заслужыў. [Страмілін:] Ну, паплач, а я табе слёзы вытру. [Русаковіч:] Я не прашу, каб ты мне слёзы выціраў...* Крапіва. **ВЫЦЕРЦІ (УЦЕРЦІ) СЛЁЗЫ** *каму. Зак.*

*ВЫЦІСКАЦЬ* • **ВЫЦІСКА́ЦЬ (ВЫГАНЯ́ЦЬ) ПО́Т (СЕ́М, ДЗЕ́СЯЦЬ ПАТО́Ў)** *з каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** *Пагард.* Бязлітасна прыгнятаць каго-н., эксплуатаваць, знясільваць цяжкай працай. **Сін.**: вазіць ваду *на кім*; высмоктваць сок *з каго, з чаго* (у 1 знач.); выціскаць сокі *з каго*; драць скуру *з каго* (у 1 знач.); піць кроў *з каго, чыю* (у 1 знач.); цягнуць гізунты *з каго*; цягнуць жылы *з каго*; цягнуць кішкі *з каго*; цягнуць сок *з каго.* **ВЫЦІСНУЦЬ (ВЫГНАЦЬ) ПОТ (СЕМ, ДЗЕСЯЦЬ ПАТОЎ)** *з каго. Зак. Які ён гаспадар ні добры, а ўсё роўна хоча з цябе сем патоў выціснуць.* Чарнышэвіч. *Калі ў цябе першы разрад, то трэнер з цябе сем патоў выцісне...* Ярашэвіч.

**2.** *Неадабр.* Моцна прабіраць каго-н. **Сін.**: браць пад абстрэл *каго, што*; браць у абарот *каго* (у 2 знач.); браць у пераплёт *каго* (у 2 знач.); браць у работу *каго* (у 2 знач.); браць у шоры *каго* (у 2 знач.); выганяць матыліцу *з каго*; даваць гарту *каму* (у 1 знач.); даваць гонку *каму*; даваць дыхту *каму* (у 1 знач.); даваць жару *каму* (у 1 знач.); даваць перцу *каму* (у 1 знач.); даваць піць *каму*; даваць прыкурыць *каму* (у 1 знач.); даваць пытлю *каму* (у 1 знач.); даваць у косці *каму* (у 1 знач.); даваць чапаласу *каму* (у 1 знач.); даваць чосу *каму* (у 1 знач,); задаваць пары *каму*; здымаць стружку *з каго*; мыліць галаву *каму*; мыліць шыю *каму* (у 2 знач.); накруціць хвост *каму*; паддаваць жару *каму* (у 1 знач.); прадзіраць з пясочкам *каго*; спусціць скуру *з каго* (у 2 знач.); усыпаць перцу *каму.* **ВЫЦІСНУЦЬ (ВЫГНАЦЬ) ПОТ (СЕМ, ДЗЕСЯЦЬ ПАТОЎ)** *з каго. Зак. Выклікаюць мяне ў раён. А я, не ведаючы чаго, узяў ды і не паехаў. Сыдзе — думаю. Аж трасцу, на другое бюро выклікалі і так ужо давалі, так давалі, дзесяць патоў выгналі з мяне.* Лобан.

**ВЫЦІСКА́ЦЬ СЛЯЗУ́ (СЛЁЗЫ).** *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** Плакаць для паказу, праз сілу, з намаганнем. **Сін.**: абліваца слязамі; бярозаю ліцца; вачэй не асушваць; выплакаць <усе> вочы; ліць слёзы <*па кім*>; пець рэпку; пускаць слязу; разводзіць сырасць; распускаць нюні (у 1 знач.); умывацца слязамі. *Кат Гейдрых ляжаў у труне. Кат Гімлер аплакваў яго. Кат Гітлер стаяў, як у сне.., слязу выціскаў, кракадзіл.* Колас. *Аўгіння выціскала слёзы і цёрла далонню сухія вочы.* Чорны. **ВЫЦІСНУЦЬ СЛЯЗУ (СЛЁЗЫ).** *Зак. Грамабоіха нават прабавала слязу выціс-*

*нуць, а Грамабой чухаў патыліцу.* Крапіва. *Пані Зінькевічова выціснула слязу, пагладзіла Вацака па галаве, дала цукерку-смактулёк.* «Маладосць».

2. *з каго, у каго.* Старацца выклікаць у каго-н. спачуванне, жаль. *На экзамены [Косця] заўсёды хадзіў у выцвілай чорнай кашулі і старых штанах. Гэта ён называў маскіроўкай. Выціскаў слязу з выкладчыкаў.* Крыга. **ВЫЦІСНУЦЬ СЛЯЗУ (СЛЁЗЫ).** *Зак.*

**ВЫЦІСКА́ЦЬ СО́КІ** *з каго. Незак. Разм. Пагард.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Бязлітасна прыгнятаць, эксплуатаваць, даводзіць да беднасці. **Сін.**: вазіць ваду *на кім*; высмоктваць сок *з каго, з чаго* (у 1 знач.); выціскаць пот *з каго* (у 1 знач.); драць скуру *з каго* (у 1 знач.); піць кроў *з каго, чыю* (у 1 знач.); цягнуць гізунты *з каго*; цягнуць жылы *з каго*; цягнуць кішкі *з каго*; цягнуць сок *з каго. Тады яны [рэгенты] пачынаюць рознымі спосабамі выціскаць з народа сокі на сваю карысць, так што нават галандскаму рэзідэнту нярэдка прыходзіцца абараняць народ ад «іхняга» уладара.* Маўр. **ВЫЦІСНУЦЬ СОКІ** *з каго. Зак. — А гэты Радкевіч адчувае сябе як рыба ў вадзе. Відаць, майстра выціснуць сокі з народа, — абураўся Ванькові*ч. Гурскі.

*ВЫЦІСНУЦЬ* • **ВЫЦІСНУЦЬ ПОТ** *з каго. Зак. да* **ВЫЦІСКАЦЬ ПОТ** *з каго.*
**ВЫЦІСНУЦЬ СЛЯЗУ**. *Зак. да* **ВЫЦІСКАЦЬ СЛЯЗУ**.
**ВЫЦІСНУЦЬ СОКІ** *з каго. Зак. да* **ВЫЦІСКАЦЬ СОКІ** *з каго.*

*ВЫЦЬ* • **ВАЎКО́М (ВО́ЎКАМ) ВЫ́ЦЬ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Горка скардзіцца на якія-н. нягоды, пакуты. *Ды зразумейце вы: уборачная пачынаецца, а ў мяне дванаццаць трактарыстаў стаяць як укопаныя. Што значыць не крычы? Тут ваўком выць трэба.* Макаёнак.

*ВЫЦЯГВАЕЦЦА* • **ТВАР ВЫЦЯГВАЕЦЦА** *у каго.* Гл. твар.

*ВЫЦЯГВАЦЦА* • **ВЫЦЯ́ГВАЦЦА Ў НІ́ТКУ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прыкладваючы ўсе намаганні, рабіць амаль немагчымае для ажыццяўлення чаго-н. **Сін.**: вылузвацца са скуры; зямлю грызці (у 1 знач.); разбівацца ў блін; разбівацца ў дошку; разрывацца на часткі. *Любка той парою ў нітку выцягвалася: даўгі ж віселі на ёй, і не малыя даўгі, і як найхутчэй хацелася ж аддаць іх, расплаціцца з людзьмі.* І.Капыловіч. **ВЫЦЯГНУЦЦА Ў НІТКУ**. *Зак. [Старшыня] цябе вывучыў лепш, чым ты сам сябе. Ведае: папрасі цябе, дык ты ў нітку выцягнешся, а зробіш. Дня мала, дык ноччу, пры лямпачцы.* Кудравец. *[Аксана:] Я ў нітку выцягнуся, а за яе зраблю.* Макаёнак.

**ВЫЦЯ́ГВАЦЦА Ў СТРУ́НКУ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Станавіцца навыцяжку. *Жаўнеры выцягваюцца ў струнку, бяруць пад казырок і заміраюць.* Крапіва. *Пан Зыгмунт выцягваецца ў струнку. Ён дакладвае.* Лынькоў. **ВЫЦЯГНУЦЦА Ў СТРУНКУ**. *Зак. Калі рыпнулі дзверы, паліцай спрасонку ўскочыў, ашалела вылупіў вочы на бургамістра і выцягнуўся ў струнку, трымаючы далонь пад казырком.* Новікаў.

*ВЫЦЯГВАЦЬ* • **ВЫЦЯГВАЦЬ НА БЕЛЫ СВЕТ** *каго, што.* Гл. выводзіць.

*ВЫЦЯГНУЦЦА* • **ВЫЦЯГНУЦЦА Ў НІТКУ**. *Зак. да* **ВЫЦЯГВАЦЦА Ў НІТКУ**.
**ВЫЦЯГНУЦЦА Ў СТРУНКУ**. *Зак. да* **ВЫЦЯГВАЦЦА Ў СТРУНКУ**.

*ВЫЦЯГНУЦЬ* • **ВЫЦЯГНУЦЬ ГІЗУНТЫ** *з каго. Зак. да* **ЦЯГНУЦЬ ГІЗУНТЫ** *з каго.*
**ВЫЦЯГНУЦЬ ЖЫЛЫ** *з каго. Зак. да* **ЦЯГНУЦЬ ЖЫЛЫ** *з каго.*
**ВЫЦЯГНУЦЬ ЗА ВУШЫ** *каго. Зак. да* **ЦЯГНУЦЬ ЗА ВУШЫ** *каго.*
**ВЫЦЯГНУЦЬ КІШКІ** *з каго. Зак. да* **ЦЯГНУЦЬ КІШКІ** *з каго.*
**ВЫЦЯГНУЦЬ НА БЕЛЫ СВЕТ** *каго, што. Зак. да* **ВЫЦЯГВАЦЬ НА БЕЛЫ СВЕТ** *каго, што.*

**ВЫЦЯГНУЦЬ (ПРАЦЯГНУЦЬ) НОГІ**. *Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Памерці. **Сін.**: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць на той свет; адыходзіць (ісці) у лепшы свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць у іншы свет; выпростваць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць <*каму*> (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); канькі адкінуць; лажыцца ў магілу; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. *У бальніцу я не пайду. Пайсці мне ў вашу бальніцу, значыць, і ногі там выцягнуць.* Галавач. *— Шалапуціна! — грымеў ён [бацька] на сына. — Яна ж табе, дурню, матку замяніла! Яна ж цябе, абібока, і зараз корміць... Па бацькавым адным жалаванні ты б ногі выцягнуў, дурань...* Васілевіч. *На гэта вашы шэфы разлічваюць, я не сумняваюся. Але можаце перадаць ім, што не дачакаюцца. Хутчэй ногі працягну з голаду.* Новікаў. *І ён бы [заяц] ногі працягнуў, каб цешча не ўвіхалася, як маці: начамі доўгімі, не ведаючы сну, кампрэсы клала, спіртам націрала, і выскрабаўся ён, нялёгкі, з лёгкае рукі!* Э.Валасевіч.

**ВЫЦЯГНУЦЬ СЛОВА** *з каго, ад каго. Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прымусіць каго-н. гаварыць. *Ад Бушмара слова цяпер больш як калі цяжка было выцягнуць.* Чорны. *Падумаць толькі, нейкі год назад з Піліпа цяжка было слова выцягнуць, а цяпер гаворыць ужо не менш гадзіны і ні разу нават вачэй не апусціў...* Пестрак. *А цікава, што там на дачы робіцца? Не муж, а нейкі тайны агент, слова з яго не выцягнеш...* Кулеш.

*ВЫШЫНІ* • **З ВЫШЫНІ ПТУШЫНАГА ПАЛЁТУ**. *Акал. Функц. не зам.* **1**. Зверху, з такой вышыні, што ўсё відаць (глядзець, бачыць, назіраць і пад.). *Каб нехта зірнуў у гэты час на зямлю з вышыні птушынага палёту, ён бы ўбачыў тры кавалькады, якія разбягаліся ў розныя бакі ад замкнёнага на ўсе завалы і нібыта бязлюднага кляштара.* Караткевіч. *Падымемся і паглядзім на горад з вышыні птушынага палёту. Вось здорава будзе!* Васілеўская. *Горад быў сфатаграфаваны белай балтыйскай ноччу з вышыні птушынага палёту.* Дайнека. *Вядома, з вышыні птушынага палёту Прыпяць і яе ваколіцы ўяўляюць цяпер экзатычнае відовішча.* Пашкоў.

**2**. Павярхоўна, не ўнікаючы ў сутнасць справы (рашаць, разглядаць што-н.). *Была спісана вялікая бухгалтарская кніга, дзе з вышыні птушынага палёту мы аглядалі гісторыю роднага сяла.* Навуменка.

**НА ВЫШЫНІ** *быць, аказацца, трымацца* і пад. *Вык. і акал. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. і абстр. прадмета. У стане задаволіць самыя строгія патрабаванні. **Сін.**: на высокай хвалі; на ўзроўні. *Апранацца [Карыца] умела з густам, па сучаснай модзе... І ў сэнсе адукаванасці была на вышыні.* Ермаловіч. *Хачу для справядлівасці згадаць і пра сябе нешта такое, калі і я быў, што называецца, не на вышыні, калі з кім абыходзіўся нячула, груба, нетактоўна. Не ўспамінаецца...* Радкевіч. *Факультэцкі сход, цэлы сход павярнулі па-свойму! Сход аказаўся не на вышыні.* Мележ. *Зрэшты, даруй, браток, і трымайся на вышыні!..* Караткевіч.

*ВЫШЫНЮ* • **УЗНІМАЦЦА НА ВЫШЫНЮ** *якую*. Гл. узнімацца.

**УЗНІМАЦЬ НА ВЫШЫНЮ** *якую што*. Гл. узнімаць.

*ВЫШЭЙ* • **БЯРЫ ВЫШЭЙ**. Гл. бяры.

**ВЫШЭ́Й ВУШЭ́Й** *чаго. У безас. ужыв. Разм.* Надзвычай многа. Часцей пра работу, клопаты і пад. **Сін.**: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго, чаго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. Прайшоў я, значыць, творчы конкурс у Літаратурны інстытут. Гонару — вышэй вушэй! Прыехаў у белакаменную здаваць уступныя экзамены...* Л.Галубовіч. *І не турбуйся, наўрад ці ў гэтыя выхадныя твае босы аб'явяцца. Напярэдзе жаночы дзень, мяркую, у іх праблем і без цябе вышэй вушэй...* Маракоў.

**ВЫШЭ́Й ГАЛАВУ́ (ГАЛО́ВЫ).** *Разм. З адценнем спачування ці натхнення.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы (звычайна перад зваротам). Не адчайвайся, не сумуй, будзь упэўнены ў сабе. *— Дзякуй табе, Максіме. — Вышэй галаву, Андрэй! Мы яшчэ пажывём!* Машара. *Каб я так сумаваў, як ты, даўно загнуўся б у крук. Выратоўвае работа, людзі. Вышэй галаву!* Алешка. *Што мы, як вахлакі! Самі сябе не паважаем. Вышэй галовы, арлы. Усё будзе добра.* Няхай.

**ВЫШЭ́Й ГАЛАВЫ́** *чаго. У безас. ужыв. Разм.* Надзвычай многа. Часцей пра работу, клопаты і пад. **Сін.**: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. Гэтымі днямі работы было вышэй галавы — цягала [Анэля] гарбузы і выбірала з іх семкі, сушыла бацвінне, падбірала бульбу...* Кажадуб. *Чакаў фэст, і тут ужо сваіх турбот вышэй галавы.* «Маладосць».

**НА ГАЛАВУ́ ВЫШЭ́Й** *за каго. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Намнога разумнейшы, значна больш вопытны (у параўнанні з кім-н.). *У адносінах да Асму-*

*гіна не было зроблена ніякіх сурёзных высадаў, бо ў галіне сваёй спецыяльнасці ён і сапраўды быў на галаву вышэй за іншых, больш памяркоўных і міралюбных.* Асіпенка. *— Я некалькі разоў чуў Скірмунта... Ён вораг моцны і небяспечны. — А нам трэба, каб кожны з нас быў на галаву вышэй за нашых праціўнікаў, — зазначыў Галуза.* Гурскі.

**ТРЫМАЦЬ ВЫШЭЙ ГАЛАВУ**. Гл. трымаць.

*ВЫШЭЙШАЙ* • **ВЫШЭЙШАЙ МАРКІ**. Гл. маркі.

**ВЫШЭЙШАЙ ПРОБЫ**. Гл. пробы.

*ВЫЯДА* • **ВЫЯ́ДА ДУШЫ́ (СЭ́РЦА)**. *Мн. не ўжыв. Часцей у ролі вык. ці зваротка. Разм. Асудж.* Назойлівы, надакучлівы чалавек. **Сін.**: ад'яда душы; пераяда вантроб. *І зноў, як там, у кабінеце, Зімаўцу захацелася турнуць ад сябе выяду душы.* Карамазаў.

*ВЫЯДАЕ* • **РАСА ВОЧЫ ВЫЯДАЕ** *каму*. Гл. раса

*ВЫЯДАЦЬ* • **ВЫЯДА́ЦЬ ВО́ЧЫ** *<каму>. Незак. Разм. Неадабр.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі здзекліва дакараць каго-н. **Сін.**: выбіраць вочы *каму*. **ВЫЕСЦІ ВОЧЫ** *<каму>. Зак. — Ды вы не саромейцеся! — Сораму мне не баяцца, і без яго вочы выелі...* Лынькоў. *Праўда, дзіцёнак у яе яшчэ [ёсць], але што ён табе, той дзіцёнак, вочы выесць, ці што.* Гігевіч.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Страшэнна дакучаць. **ВЫЕСЦІ ВОЧЫ** *<каму>. Зак. Так гэта зіма выела вочы. Няма ў чым выйсці ні самім, ні дзецям.* Міська.

**ВЫЯДА́ЦЬ ДУШУ́ (СЭ́РЦА)** *каму. Незак. Разм. Асудж.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці канкр. прадмета. Моцна хваляваць каго-н., дакучаючы чым-н. непрыемным. **Сін.**: ад'ядаць вантробы *каму*; ад'ядаць душу *каму*; пераядаць косці *каму*; плеш пераядаць *каму*. *А як будзе, дык будзе. Навошта выядаць душу.* Левановіч. *Яго [Ёсіпава] маленькая, сухенькая Анця, калі дзеці плачам пачнуць выядаць сэрца, крычала праз слёзы: — Людзі дык могуць кавалак хлеба расстарацца, а ты трымаешся за калгас... На, кармі іх сам!* Дуброўскі. **ВЫЕСЦІ ДУШУ (СЭРЦА)** *каму. Зак. За дарогу ўсю душу выеў пракляты дождж.* Мік.Ткачоў. *Душу выела гэта бальніца — то ляжыш, то сядзіш.* Цяжкі.

*ВЫЯЗДЖАЦЬ* • **ВЫЯЗДЖА́ЦЬ НА ГАРБЕ́ (-Ў)** *чыім. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Хітрыкамі выкручвацца з якога-н. становішча за кошт каго-н. *Не, нічога ў іх з Брытвіным не выйдзе. Хопіць хітрыць і выязджаць на чужым гарбе. Сцёпка вінаваты, яго, вядома, пакараюць, але раней ён раскажа, як усё гэта адбывалася, і назаве Міцю.* Быкаў. **ВЫЕХАЦЬ НА ГАРБЕ (-У)** *чыім. Зак. Няма добрых людзей сярод гэтых буржуяў. Усякі наровіць, каб на тваім гарбу выехаць, каб самому нічога не рабіць.* Галавач.

*ВЯДЗЕ* • **І (НА́ВАТ) ВО́КАМ (БРЫВО́М) НЕ ВЯДЗЕ́**. *Незак. Адз. і мн.; м., ж., н. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Ніяк не рэагуе, не звяртае ніякай увагі. **Сін.**: і вухам не весці; <і> не лыс; <і> у вус <сабе> не дзьмуць; не шманае; хоць бы хны (у 1 знач.); хоць бы што (у 1 знач.). *Філімонаў і Мерзлякоў знікаюць. Памкамузвода, старшына і брывом не вядуць. Як бы іх гэта не датычыць.* Навуменка. **І (НАВАТ) ВОКАМ (БРЫВОМ) НЕ ПАВЁЎ, (НЕ ПАВЯДЗЕ)**. *Зак. Васька якраз з мужчынамі сядзеў на мяжы і на сварку жанчын нават вокам не павёў.* Карпюк. *[Рыгор] схапіў з галавы капялюш і размахнуўся, але вавёрка і вокам не павяла, толькі хутка абкруцілася навакола сябе.* Гартны. *Канстанцін Міхайлавіч даваў сабе абяцанне, што зірне толькі зверху, апошні раз, і больш і вокам не павядзе.* Лужанін. *Барадка і брывом не павёў, быццам не*

*чуў*. Шамякін. *Гаспадыня і тут нават не павяла брывом — паслухмяна накінула на галаву вялікую гарусоўку* і.. *выкацілася з хаты*. Чыгрынаў.

*ВЯДОМА* • **АДНАМЎ АЛА́ХУ ВЯДО́МА**. *У знач. безас. ск. Разм. Жарт*. Нікому не вядома, ніхто не ведае. **Сін**.: аднаму богу вядома. *Даганяю строй. І раптам на мяне з воблака «хейнкель». Аднаму алаху вядома, куды ён ляцеў*. Алешка. *Чаму яна [Марыя Мікалаеўна] вылучыла Кабазу сярод іншых гвардзейцаў, аднаму алаху вядома, бо пад яе падладжваліся і камандзіры, і рухавыя старшыны*. Новікаў.

**АДНАМЎ БО́ГУ ВЯДО́МА**. *У знач. безас. ск. Разм*. Нікому не вядома, ніхто не ведае. **Сін**.: аднаму алаху вядома. *[Жлукта:] Можа, я выдатны артыст, можа, мастак ці паэт, гэта аднаму богу вядома*. Крапіва. *Так [цяжка] дабрацца да гэтага Скідзеля, а што будзе там — аднаму богу вядома*. Быкаў.

*ВЯДОМАЯ* • **ВЯДОМАЯ РЭЧ**. Гл. рэч.

*ВЯДРА* • Ліць (паліць), лінуць **ЯК (НІБЫ́) З ВЯДРА́**. *Акал. Разм*. Вельмі моцным струменем, суцэльным патокам. Аб праліўным дажджы. **Сін**.: як з луба; як з рэшата (у 1 знач.). *Дождж нібы з вядра лінуў*. А.Александровіч. *Дзень чацвёрты і пяты.. [дождж] лье як з вядра*. Куляшоў. *Згушчаліся хмары, аблажыла ўсё неба, стала цёмна, як у калодзежы, загрукацеў гром, бліснула маланка, і як з вядра лінуў дождж*. Гурскі. *Цяпер ён [дождж] ішоў з перапынкамі, быццам раздумваючы: пальё як з вядра паўгадзіны, а тады перастане*. Чыгрынаў.

*ВЯДУЦЬ* • **КУДЫ ВОЧЫ ВЯДУЦЬ**. Гл. вочы.
**КУДЫ НОГІ ВЯДУЦЬ**. Гл. ногі.
**НОГІ ВЯДУЦЬ** *каго*. Гл. ногі.

*ВЯЖА* • **ЛЫКА НЕ ВЯ́ЖА (НЕ ВЯЗА́Ў, НЕ ВЯ́ЖУЦЬ, НЕ ВЯЗА́ЛІ)**. *Праст*. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Такі п'яны, што ледзь гаворыць. *[Палажка:] А то Пракоп, баюся, каб не замёрз... На возе, у сене ляжыць... П'яны, лыка не вяжа*. Сачанка. *Ляснік не вязаў лыка, і пра Шашолкавы сады ў той вечар я нічога ў яго не дапытаўся б*... Кусянкоў. *Як толькі скончыў Ларывончык, трываўся ўстаць і нешта сказаць Анісім Папок. Але ён не вязаў лыка*. Сабаленка. *Вярыга з вустым Максімам п'яныя, лыка не вяжуць*. Новікаў.

*ВЯЗАЦЬ* • **ХАХЛЫ́ ВЯЗА́ЦЬ (ЗВЯ́ЗВАЦЬ)** *у каго, каму. Незак. Разм. Неадабр*. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даводзіць каго-н. да спрэчкі, правакаваць лаянку, непрыязнасць. *[Зазыбу] не.. вельмі хацелася распачынаць сярод поля сход ды хахлы вязаць у людзей*. Чыгрынаў. **ХАХЛЫ ЗВЯЗАЦЬ** *у каго, каму. Зак*.

*ВЯЗІ* • **ХОЦЬ НА ВЫСТАЎКУ <ВЯЗІ>**. Гл. выстаўку.

*ВЯЗЫ* • **СКРУЦІЦЬ ВЯЗЫ** *каму*. Гл. скруціць.
**СКРУЦІЦЬ САБЕ ВЯЗЫ**. *Гл*. скруціць.

*ВЯКІ* • **А́РЭДАВЫ ВЯКІ́** жыць (пражыць). *Устар. Акал. Функц. не зам*. Вельмі доўга. *Паглядзі вот тут, у гімнасцёрцы, ёсць нейкія паперы. Дастань іх. Гэта во мая Мар'я Васільеўна. Пражылі мы з ёю арэдавы вякі, а дзяцей і не займелі*. Лобан.

*ВЯКОЎ* • **ВА ВЕКІ ВЯКОЎ**. Гл. векі.
**НА ВЕКІ ВЯКОЎ**. Гл. векі.
**ПА ВЕК ВЯКОЎ**. Гл. век.
**СПАКОН ВЯКОЎ**. Гл. спакон.

*ВЯКУ* • **ЧАРВЯКУ НА ВЯКУ**. Гл. чарвяку.

*ВЯЛЕЎ* • **І БОГ ВЯЛЕЎ** *каму*. Гл. бог.

*ВЯЛІКА* • **АД МАЛА ДА ВЯЛІКА**. Гл. мала.

*ВЯЛІКАГА* • **АД МАЛОГА ДА ВЯЛІКАГА**. Гл. малога.
**ВЯЛІКАГА СЭРЦА**. Гл. сэрца.
**З ВЯЛІКАГА РОЗУМУ**. Гл. розуму.

*ВЯЛІКАЕ* • **ВЯЛІКАЕ СЭРЦА** *ў каго*. Гл. сэрца.

*ВЯЛІКАЙ* • *Бандыт* **З ВЯЛІКАЙ ДАРОГІ**. Гл. дарогі.
**ВЯЛІКАЙ ДУШЫ**. Гл. сэрца.
**З ВЯЛІКАЙ ЛІТАРЫ**. *Гл.* літары.

*ВЯЛІКАЯ* • **БЯДА ВЯЛІКАЯ**. Гл. бяда.
**ВАЖНАСЦЬ ВЯЛІКАЯ**. Гл. важнасць.
**ВЯЛІКАЯ МЯДЗВЕДЗІЦА**. Гл. мядзведзіца.
**КІШЭНЯ ВЯЛІКАЯ**. Гл. кішэня.
**НЕ <ВЯЛІКАЯ> БЯДА**. Гл. бяда.

*ВЯЛІКІ* • **КЛОПАТ ВЯЛІКІ** <*каму*>. Гл. клопат.
**ВЯЛІ́КІ РАСЦІ́!** *Выкл. Разм.* Выказванне дарослых, адрасаванае дзецям, як пажаданне ім удачы, поспеху, усяго добрага. *— Дзякуй табе, цётка. І вы — расціце вялікія, — пажадаў ён малым. — Можа, калі лепей будзе.* Быкаў. *— Дзякуй яшчэ раз. Шчасліва аставацца. — Будзь здароў. Расці вялікі.* Шамякін. *Гэта ж трэба — дажыць да сямідзесяці!.. Так, бацькі благаслаўлялі: «Вялікі расці!» Гадавалі, стаўлялі на ногі, рыхтавалі да другой дарогі.* Вярцінскі. [*Даніловіч*, с. 43: вялікі (велькі) расці — 'выказванне падзякі дзецям за паслугу; дзякуй' і 'адказ дзецям на словы падзякі; калі ласка'.]

*ВЯЛІКІМ* • **ПА ВЯЛІКІМ РАХУНКУ**. Гл. рахунку.

*ВЯЛІКІЯ* • **ВОЧЫ ВЯЛІКІЯ ЗРАБІЛІСЯ** *ў каго*. Гл. вочы.
**РАБІЦЬ ВЯЛІКІЯ ВОЧЫ**. Гл. рабіць.

*ВЯНУЦЬ* • **ВУШЫ ВЯНУЦЬ** <*у каго, ад чаго*>. Гл. вушы.

*ВЯРБЕ* • **ГРУШУ НА ВЯРБЕ** *вярзці*. Гл. грушу.
**ГРУШЫ НА ВЯРБЕ**. Гл. грушы.
**НА ВЯРБЕ ГРУШЫ РАСТУЦЬ** *у каго*. Гл. грушы.

*ВЯРБЛЮД* • *Даказваць, даводзіць, што* **НЕ ВЯРБЛЮ́Д**. *Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Зусім не вінават у тым, у чым абвінавачваюць. *[Тата першы:] Яшчэ пакруцішся, як вуж на вогнішчы, калі я ў пяць інстанцый чыркану — і пяць камісій па сігналу возьмуцца ў пяць заходаў высвятляць віну!.. Тады дакажаш ім, што не вярблюд!* Гілевіч.

*ВЯРНУЦЦА* • **ВЯРНУ́ЦЦА З ТАГО́ СВЕ́ТУ**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адратавацца ад смерці, выздаравець, ачуняць. **Сін**.: устаць з магілы. *Антон глядзеў на Ахахоніна, як на чалавека, што вярнуўся з таго свету. Гэты чалавек, па ўсіх законах прыроды, не павінен быў болей жыць, але вось ён — ляжыць побач, шумна дыхае, нават усміхаецца куточкамі вуснаў.* Дайнека. *Назаўтра Іван, аднак, прачнуўся здаровы... — З таго свету вярнуўся, цётка, — сказаў ён, звяртаючыся да маці сіплым, зусім не падобным на ранейшы, голасам.* Навуменка.
**ВЯРНУЦЦА Ў СТРОЙ**. *Зак. да* **ВЯРТАЦЦА Ў СТРОЙ**.

*ВЯРНУЦЬ* • **ВЯРНУ́ЦЬ З ТАГО́ СВЕ́ТУ** *каго. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адратаваць ад смерці, вылечыць. *Многа людзей выхадзіла [Яніна Варанковіч], вяр-*

*нула, можна сказаць, з таго свету.* Дамашэвіч. *Як я даставаў таго доктара — не помню... Шмат я іх пасля гэтага перацягаў, але, дай божа ім доўгі век, з таго свету вярнулі паненку...* Ядвігін Ш. — *Будзе жыць, — радуецца доктар. — Рэдкі выпадак. Можна сказаць, з таго свету вярнулі.* Пальчэўскі. *Яна [урач] не верыла, што можна штосьці змяніць, можна вярнуць карэспандэнта з таго свету... Ох, і сітуацыя — няхай бы яна правалілася...* І.Капыловіч.

**ВЯРНУ́ЦЬ НАЗА́Д <СВАЁ> СЛО́ВЫ.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адмовіцца ад сказанага. **Сін.**: браць <свае> словы назад (у 2 знач.). *І сказаць што ў сваё апраўданне не мае [Леанора], і не можа ісці. Як бы дарага заплаціла яна, каб вярнуць назад свае словы.* Мысліўец. *Смяяўся Богут, але позна, і слоў не вернеш тых назад.* Колас.

**ВЯРНУ́ЦЬ НО́С** *ад каго, ад чаго. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Грэбуючы кім-н. ці чым-н., адварочвацца ад яго, не заўважаць. **Сін.**: адварочваць нос <*ад каго, ад чаго*> (у 1 знач.); вярнуць рыла <*ад каго, ад чаго*>; паказваць спіну (у 1 знач.). *Няўжо мы такія непрыгожыя, што ты нос вернеш?* Ваданосаў.
**2**. З пагардай адмаўляцца, не згаджацца. **Сін.**: адварочваць нос <*ад каго, ад чаго*> (у 2 знач.); адварочваць морду <*ад каго, ад чаго*> (у 2 знач.); круціць носам (у 1 знач.). *Ці мо твая гаспадыня смачней варыць, [дык] ты ўжо і нос вернеш?* Міська. *Як толькі хлопец ці дзеўка кончыць школу, то ад простай работы верне нос.* Навуменка.
**3**. Пагарджаць кім-, чым-н. **Сін.**: адварочваць нос <*ад каго, ад чаго*>; круціць носам (у 2 знач.). — *Не, вы паглядзіце на гэтага піжона, — абурыўся Валодзя. — Тыдня не пажыў ў горадзе, а ўжо нос верне ад матчыных песень.* Прыгодзіч. *А Галя твая, як бы табе сказаць, нос ад нас верне. Яна мяне проста выгнала ад сябе, калі я зайшоў быў.* Лынькоў.

**ВЯРНУ́ЦЬ РЫ́ЛА** <*ад каго, ад чаго*>. *Незак. Праст. Груб.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Грэбуючы кім-, чым-н., адварочвацца ад яго, не заўважаць. **Сін.**: адварочваць нос <*ад каго, ад чаго*> (у 1 знач.); адварочваць морду <*ад каго, ад чаго*>; вярнуць нос <*ад каго, ад чаго*> (у 1 знач.); паказваць спіну (у 1 знач.). — *Чаго ж? Мужык відны.. чым не пара? А то даперабіраешся да сівых валасоў, як мая, — [Трахімаўна] дакорліва кіўнула на Хімку. — Цяпер бы рада хоць за казла, абы дома не была, а той рыла верне ды на ярачку аблізваецца.* Грахоўскі.

**ГО́РЫ (ГАРУ́) ВЯРНУ́ЦЬ (ВАЛІ́ЦЬ)** *на каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі няславіць каго-н., нагаворваючы, узводзячы паклёп. *Цяпер, як Банадыся выселілі, Рыгор на яго горы верне, нібы ён яго гэтак ненавідзіць!* Чорны. *Марозіха на Гаварушку горы верне.* Лобан. *Аб тым нямала ўжо трубілі, што кожны з цыганоў сваю кабылу хваліць, а на чужую горы валіць.* Крапіва. *Што ён мае да яго? Чаго ён гару верне на бязвіннага чалавека?* Зарэцкі.

*ВЯРОВАЧКАЙ* • **АДНОЙ ВЯРОВАЧКАЙ ЗВЯЗАНЫ** *з кім.* Гл. звязаны.
**ЗВЯЗАЎ ЧОРТ ВЯРОВАЧКАЙ** *каго.* Гл. чорт.

*ВЯРОЎКА* • **ВЯРО́ЎКА ПЛА́ЧА** *па кім. У безас. ужыв. Разм. Пагард.* Хто-н. заслугоўвае павешання. **Сін.**: асіна плача *па кім*; вісельня плача *па кім.* — *Па табе даўно вяроўка плача! — выгукнуў Прылепка...* Дуброўскі. *А солтыс лаецца, кажа, што па дзеду Лаўрэну вяроўка плача.* Каліна. — *Плача па табе вяроўка, — працадзіў праз зубы Шмігельскі.* Гурскі.

*ВЯРОЎКІ* • **ВЯРОЎКІ ВІЦЬ** *з каго.* Гл. віць.
**З ВЕТРУ ВЯРОЎКІ ВІЦЬ.** Гл. віць.
**ХОЦЬ <ТЫ> ВЯРОЎКІ ВІ** *з каго.* Гл. ві.

*ВЯРОЎКУ* • **ЛЕЗЦІ Ў ВЯРОЎКУ**. Гл. лезці.

*ВЯРОЎЦЫ* • **<І> НА ВЯРОЎЦЫ НЕ ЗАЦЯГНЕШ** *каго куды*. Гл. зацягнеш.

*ВЯРСТА* • **ВЯРСТА́ КАЛО́МЕНСКАЯ**. *Мн. не ўжыв. Часцей у знач. вык. ці зваротка. Разм. Жарт.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Чалавек вельмі высокага росту. *Зверху раздаўся глухаваты голас: — Гэй, вярста каломенская, прыгніся, калі кацялок табе дарагі. Тут хутка прадзіравяць.* Новікаў.

*ВЯРСТУ* • **З КАЛО́МЕНСКУЮ ВЯРСТУ́**. *Вык. Разм. Жарт.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі высокі. **Сін.**: хоць <ты> сабак вешай *на кім*. **Ант.**: ад гаршка паўвяршка; ад зямлі не адрос; аршын з шапкай; жабе па калена; з вузел; кату па пяту; пад стол пяшком ходзіць. *Адзін, як за Крычавам кажуць, з каломенскую вярсту, другі — карантыш.* Чыгрынаў.

*ВЯРТАЦЦА* • **ВЯРТА́ЦЦА Ў СТРО́Й**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Набываць працаздольнасць ці баяздольнасць. **Сін.**: станавіцца ў строй. **Ант.**: выбываць са строю (у 1 знач.). **ВЯРНУЦЦА Ў СТРОЙ**. *Зак. Далей [Алесь] павінен сам паклапаціцца пра сябе. Уласна кажучы, клопат у яго адзін — хутчэй вярнуцца ў строй, знайсці сваё месца ў вайне з фашызмам.* Шамякін.

*ВЯРХОМ* • **ВЯРХОМ ПАЕХАЦЬ** *на кім*. Гл. паехаць.

**ЕЗДЗІЦЬ ВЯРХОМ** *на кім*. Гл. ездзіць.

*ВЯРШКІ* • **ЗБІРАЦЬ ВЯРШКІ**. Гл. збіраць.

*ВЯРЭДЗІЦЬ* • **ВЯРЭ́ДЗІЦЬ ДУШУ́ (СЭ́РЦА)** *каму, чыю. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Выклікаць неспакой, хваляванне, трывогу. **Сін.**: выварочваць душу *чыю, каму*; вярэдзіць рану *каму, чыю*; муціць душу *каму, каго*; пераварочваць <усё> нутро *ў каго*; пераварочваць <усю> душу *чыю, каму, каго*; скрэбці за душу *каго*; труціць душу *каму*. *Спачатку думаў не заходзіць, каб не вярэдзіць душы ні табе, ні сабе. А потым...* Лобан. *Увогуле [Платонавы] расказы, простыя, жыццярадасныя, надзвычай вярэдзяць мне сэрца.* Шамякін. *Гэта былі б марныя клопаты, марныя спадзяванні — яны б толькі вярэдзілі сэрца, уносілі б неспакой.* Сачанка. **РАЗВЯРЭДЗІЦЬ ДУШУ (СЭРЦА)** *каму, чыю. Зак. Чужое неўладкаванае жыццё, чужая бяда развярэдзіла душу.* Дайнека.

**ВЯРЭ́ДЗІЦЬ РА́НУ (-Ы)** *каму, чыю. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Непакоіць, хваляваць каго-н., выклікаючы цяжкія ўспаміны. **Сін.**: выварочваць душу *чыю, каму*; вярэдзіць душу *каму, чыю*; муціць душу *каму, каго*; пераварочваць <усё> нутро *ў каго*; пераварочваць <усю> душу *чыю, каму, каго*; скрэбці за душу *каго*; труціць душу *каму*. *[Багушэвіч], прыгадаўшы тое далёкае, не стаў затрымліваць на ім увагу, адсек яго ад сябе, каб не вярэдзіць рану.* Хомчанка. **РАЗВЯРЭДЗІЦЬ РАНУ (-Ы)** *каму, чыю. Зак. Непатрэбная сустрэча з непажаданым чалавекам яшчэ больш развярэдзіла рану.* Карпаў.

*ВЯСЕЛЛЕ* • **БРЫЛЬЯ́НТАВАЕ ВЯСЕ́ЛЛЕ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Сямідзесяціпяцігадовы юбілей сямейнага жыцця. *Па-свойму адметнай і радаснай падзеяй не толькі для жыхароў вёскі Бондары стала брыльянтавае вяселле Алены Канстанцінаўны і Мікалая Мікалаевіча Паляковых.* «Нар. газ.»

**ЗАЛАТО́Е ВЯСЕ́ЛЛЕ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Пяцідзесяцігадовы юбілей сямейнага жыцця. *Дзе ж гэта мая гаспадыня? Загаварылася недзе... Мы з ёй ле-*

*тась справілі залатое вяселле.* Радкевіч. *Я помню, як ён спраўляў залатое вяселле.* Воранаў.

**СЯРЭ́БРАНАЕ ВЯСЕ́ЛЛЕ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Дваццаціпяцігадовы юбілей сямейнага жыцця. — *Колькі мы жывём з табой? — Многа. Неўзабаве сярэбранае вяселле давядзецца гуляць.* Карпаў. *Дваццаць чатыры гады! Божа мой! Чуеш, Маша? У нас сярэбранае вяселле ўжо на носе.* М.Капыловіч.

**ЧЭРЦІ ВЯСЕЛЛЕ СПРАЎЛЯЮЦЬ**. Гл. чэрці.

*ВЯСЕЛЬНЫ* • **ВЯСЕЛЬНЫ ГЕНЕРАЛ**. Гл. генерал.

*ВЯСЁЛАЯ* • **ВЯСЁЛАЯ МІНА ПРЫ ДРЭННАЙ ГУЛЬНІ**. Гл. міна.

*ВЯСЁЛУЮ* • **РАБІЦЬ ВЯСЁЛУЮ МІНУ ПРЫ ДРЭННАЙ ГУЛЬНІ**. Гл. рабіць.

*ВЯСЁЛЫЯ* • **<ВЯСЁЛЫЯ> ЧОРЦІКІ СКАКАЛІ Ў ВАЧАХ** *чыіх, у каго.* Гл. чорцікі.

*ВЯТРАХ* • **НА СЯМІ́ ВЯТРА́Х**. *Разм.* **1.** *Акал.* Адзінока і наводшыбе. *Трэба ж так, аднекуль семачка ўпала ў трэшчыну карніза, там пыл, крыху зямлі, занесенай ветрам, і парасло, карэньчыкі ўпіліся між цаглін. Трымалася дрэўца на сямі вятрах і расло, зелянела.* Хомчанка. *Станок давялося ратаваць ад іржы, бо стаяў ён на сямі вятрах.* «Звязда».

**2.** *Акал. і вык.* На адкрытай, нічым не заслоненай мясцовасці (быць, знаходзіцца і пад.). *Твой Баку на сямі вятрах, а на дні сем пагод на хвіліну.* Барадулін. *Ціхі домік на сямі вятрах, засаўка пісклявая ў дзвярах.* Камейша. *Астыглы на сямі вятрах барак — калоціць сцены кашаль перуновы.* «Маладосць».

**3.** *Акал.* Па (у) нічым не заслоненай прасторы (ляцець, імчацца, плысці і пад.). *Плывём мы на сямі вятрах, пад вастразвонны гоман косаў.* Пашкоў. *Імчыць дарога, пыл завейкай круціцца, ляціць аўтобус на сямі вятрах.* «Полымя».

*ВЯТРЫ* • **ВЯТРЫ́ ЯГО́ (ЯЕ́, І́Х, ЦЯБЕ́, ВА́С) ВЕ́ДАЮЦЬ (ЗНА́ЮЦЬ)**. *Часцей у знач. галоўн. ск. Праст.* Невядома. **Сін.**: агонь яго ведае; алах яго ведае; бог яго ведае; кадук яго ведае; ліха яго ведае; немач яго ведае; нячысцік яго ведае; пярун яго ведае; трасца яго ведае; халера яго ведае; хвароба яго ведае; хрэн яго ведае; хто яго ведае; чамярыца яго ведае; чорт яго ведае. *Вятры яго ведаюць, хто там будзе чакаць за той сцяною.* Шлег. — *А дзе ж сын быў, ці ён не бачыў? — Вятры яго знаюць, мо адлучыўся з дому.* Адамчык.

**ЯКІЯ ВЯТРЫ ЗАГНАЛІ** *каго куды.* Гл. вецер.

# Г

*ГА* • **ЯК ГА**. Гл. як.

*ГАВАРЫ* • **ГАВАРЫ́ З ЧО́РТАМ (З П'Я́НЫМ) ПА́ЦЕРЫ!** *Вык. Праст.* Выказванне абурэння, незадавальнення тым, з кім немагчыма весці размову, ніяк нельга дамовіцца. — *Ніхто вам зайздросціць не стане. — Вось і гавары з чортам пацеры! Відаць, не ўсякім вялікім пад святымі сядзець.* Махнач. — *Ды цябе сем сабак не перабрэша, а не то каб я адзін. Аднаго заводу з Тахвіляю. Чорт за д'ябла цягне. — Ат! Гавары з п'яным пацеры. Ты сваё, а ён сваё.* Калюга.

**ДА ТРО́Х (ДА ДВУ́Х) НЕ ГАВАРЫ́** *з кім, каму. У безас. ужыв. Разм. Часцей неадабр.* Хто-н. вельмі рашучы, строгі, прынцыповы, не церпіць пярэчання. **Сін.**: шалёны

поп хрысціў *каго. Пшавара быў ляснік сярдзіты, апроч таго, не лыкам шыты: шырок, плячыст, як дуб стары, і з ім да трох не гавары!* Колас. — *Давай капай,— пасуравеў нарэшце наглядчык,— а то вунь начальнік турмы ідзе. З ім да трох не гавары.* Дайнека. *[Міхаліна:] Яму ж, бывала, да трох не гавары. Што ні дзень — на лбе гуз на гузе і чатыры каўняры ў сарочцы.* Петрашкевіч. *Збяруцца [на вечарынцы] хлопцы са сваёй і іншых вёсак, хлопцы-зухі, хлопцы-адорвы, якім да двух не гавары...* Радкевіч. *І вучыцца [Юрка] іншым на зайздрасць! Праўда, як падрос, то ўжо характар у яго стаў такі — да двух не гавары.* Ярашэвіч.

**ШТО НІ ГАВАРЫ**. Гл. кажы.

*ГАВАРЫЦЬ* • **ГАВАРЫ́ЦЬ НА КАРЫ́СЦЬ** *каго, чаго, чыю. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Служыць доказам, пацвярджэннем якіх-н. станоўчых якасцей каго-, чаго-н. *Я згодна, я ведаю куды менш, чым ведаеце вы самі. Але сёе-тое і я ведаю. І, на жаль, яно іншы раз гаворыць не на вашу карысць.* Сачанка. *І тое, што аўтар унікае рыторыкі і гучных пустых фраз, гаворыць на яго карысць.* Бондар.

**ЁСЦЬ ПРА ШТО́ ГАВАРЫ́ЦЬ**! *Выкл. Разм.* Дробязь, не варта ўвагі. Вокліч здзіўлення, дакору, нязгоды з пачутым. *[Караўкін:] У вас заўсёды будзе, што душа жадае. Пра сям'ю таксама можаце не клапаціцца. [Дабрыян:] Сям'я ў мяне невялікая. Праўда, сабака ёсць. [Караўкін:] Ёсць пра што гаварыць!* Крапіва. — *Леанора галасавала некалі, каб Міцьку майго не прымалі ў камсамолію...* — *Божа, ёсць пра што гаварыць, — уздыхнула Дарка.* Мыслівец.

**ШТО <І> ГАВАРЫЦЬ**. Гл. казаць.

*ГАВОРАЧЫ* • **НЕ ТУТ ГАВОРАЧЫ**. Гл. казана.

*ГАВОРЫЦЬ* • **ГАВО́РЫЦЬ (ГАВАРЫ́Ў) СА́М (-А́, -О́, -І) ЗА СЯБЕ́**. *Незак. Адз. і мн. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. і абстр. прадмета. Выразна сведчыць пра што-н., не патрабуючы іншых пацвярджэнняў. *Цвердалобы, зблытаны ў падзеях урад вуснамі цара абвясціў маніфест аб прызыве ратнікаў апалчэння другога разраду... Размах здарэнняў гаварыў сам за сябе.* Гартны. *Ужо адзін факт, што Саід мае тры аўтамашыны, гаворыць сам за сябе.* Мяснікоў. *Надзвычайная інфармаванасць налётчыкаў і наяўнасць у іх міліцэйскай формы гаварылі самі за сябе.* Праўдзін.

**ГАВОРЫЦЬ З НЕБАМ**. Гл. гамоніць.

**СКУРА ГАВОРЫЦЬ** *у каго, на кім.* Гл. скура.

*ГАД* • **ГА́Д (ЗМЕ́Й) ПАДКАЛО́ДНЫ**. *Адз. і мн. Часцей у знач. вык. ці зваротка. Праст. Груб.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Агідны, шкодны, каварны чалавек, які дзейнічае спадцішка. Пра мужчыну. **Сін.**: гадзіна падкалодная; гадзіна паўзучая; гад паласаты; гад паўзучы; гад печаны. *На душы ў яе [Парaскі] закіпела, і свой гнеў яна ледзь стрымлівала. — Ах ты, гад падкалодны! Ты яшчэ дасюль па зямлі ходзіш?* І.Капыловіч. *Ага, ты за мной цікуеш? А цяпер прыйшоў? Гад ты няшчасны, гад падкалодны!* Гамолка. — *Ах ты, змей падкалодны! Колькі ж ты нявінных душачак загубіў? — ускінуўся самы рахманы ў атрадзе чалавек — дзед Ігнат Дубіцкі.* Грахоўскі.

**ГА́Д ПАЛАСА́ТЫ**. *Адз. і мн. Часцей у знач. вык. ці зваротка. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вылюдак, нягоднік, агідны, шкодны, каварны чалавек. Пра мужчыну. **Сін.**: гадзіна падкалодная; гадзіна паўзучая; гад падкалодны; гад паўзучы; гад печаны. *[Скаромны:] Рабочы клас вас не зразумее! Асудзіць! Закляймуе! [Каравай:] Ён хацеў накарміць рабочы клас! А? Гад паласаты! З каго скуру дзярэш? Жулік! Махляр! Спекулянт!* Макаёнак. *Чалавек сто прыбегла разам з ім на торжышча. Хто з кіем, хто з го-*

*лым кулаком. Жалезную зброю ваявода забараніў браць. — Дык гэта пярунніці, нехрысці! — закрычаў натоўп. — Ах, гады паласатыя!* Дайнека.

**ГА́Д ПАЎЗУ́ЧЫ**. *Адз. і мн. Часцей у знач. вык. ці зваротка. Праст. Груб.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вылюдак, нягоднік, агідны, шкодны, каварны чалавек. Пра мужчыну. **Сін.**: гадзіна падкалодная; гадзіна паўзучая; гад падкалодны; гад паласаты; гад печаны. *[Лобаў:] Курт пракляты! Дыхае яшчэ, гад паўзучы! Ён жа мне, трасца яму ў бок, таксама за цэлае лета не заплаціў.* Васілеўскі. *Міхася не чапай, гад паўзучы!* Машара. *Мы згняцём паўзучых гадаў, мы не пакінем іх следу на нашай зямлі*. Самуйлёнак.

**ГА́Д ПЕ́ЧАНЫ**. *Адз. і мн. Часцей у знач. вык. ці зваротка. Праст. Груб.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вылюдак, нягоднік, агідны, шкодны, каварны чалавек. Пра мужчыну. **Сін.**: гадзіна падкалодная; гадзіна паўзучая; гад падкалодны; гад паласаты; гад паўзучы. *Я быў гад печаны, што не дбаў аб табе, сынку мой.* Чорны. *Бацька выгнаў? бойся бога! Эге, ты, відаць, штукар! Што зрабіў ты, прызнавайся? Мусіць, печаны ты гад?* Колас. — *Ірады, гады печаныя, не чапайце чалавека! — крычалі мужчыны.* Сабаленка.

*ГАДАВАЎСЯ* • **У ЛЕ́СЕ ГАДАВА́ЎСЯ**. *Незак. Вык. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Няўмека, неспрактыкаваны чалавек. *Аляксей Пятровіч слухае, падтаквае, смяецца з Белым. Але ж ён не ў лесе гадаваўся, разумее, які той ваенспец... Альбо ён ніякі не афіцэр, альбо...* Кажадуб. [*Лепешаў*, с. 72: у лесе гадованы (гадаваны).]

*ГАДАВАЦЬ* • **ГАДАВАЦЬ ЗМЯЮ НА СВАІХ ГРУДЗЯХ**. Гл. грэць.

*ГАДАЛА* • **БАБКА НАДВОЕ ГАДАЛА**. Гл. бабка.

*ГАДАХ* • **НЕ ПА ГАДА́Х** *які. Акал. Функц. не зам.* Неадпаведна ўзросту. *Малец з чацвёртага класа піша ў піянерскую газету пра непаладкі ў іхняй школе. — Здольнасці ёсць, але ж залішне ён нейкі сур'ёзны, не па гадах, — кажа сваім супрацоўнікам цёця рэдактар, поўная строгая дама.* Брыль. *[Ключніца:] Не спяшайся і ў разлік вазьмі, што князь стары і асцярожлівы, а князёўна не па гадах разумная і наравітая...* Петрашкевіч.

**У ГАДА́Х**. *Вык. ці азн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Немалады, пажылога ўзросту. *У адказ на гэта з-за доўгага стала толькі скрыва зірнуў адзін чытач, сталы, у гадах.* Калюга. *Бацька, можа, таксама дзе ў арміі, на вайне; праўда, ён ужо ў гадах...* Марціновіч. *Акцызнік у гадах — яму недзе пад пяцьдзесят, а рухавы, відаць, з гумарам.* Пташнікаў.

*ГАДЗІНА* • **БІ́ТАЯ ГАДЗІ́НА**. *Мн. не ўжыв. Акал. Разм.* Вельмі доўга. — *Едзьце вы сабе дамоў, настаўніца тут застанецца. — Тут дык тут. Але чаго ж я бітую гадзіну стаяў? — фурман заварочвае каня, бубніць штось сам сабе і ад'язджае.* Колас. — *Я вас... падвяла? — А хіба ж не падвяла? Бітую гадзіну чакаў учора вечарам каля Палаца культуры.* Аношкін.

**ГА́ДЗІНА (ГАДЗЮ́КА, ЗМЯЯ́) ПАДКАЛО́ДНАЯ**. *Адз. і мн. Часцей у знач. вык. ці зваротка. Праст. Груб.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Агідны, шкодны, каварны чалавек, які дзейнічае спадцішка. Пра мужчыну ці жанчыну. **Сін.**: гадзіна паўзучая; гад падкалодны; гад паласаты; гад паўзучы; гад печаны. — *Пан хоча выгнаць Талочку. — Добра было б, гэту гадзіну падкалодную! Бізун толькі ведае! Па дзеўках на старасць лётае!* Мальдзіс. *Праўду ты казаў, што людзей трэба берагчы. Гадзюкі ёсць падкалодныя. Так і стараюцца ўкусіць цябе ціўком.* Няхай. *Такая маладая, такая, здаецца, добрая, а на самай справе для мяне яна змяя падкалодная, што крадком кусае, вось хто гэта*

*Марта.* Машара. *[Казліха:] А ты, змяя падкалодная, чаго тут тырчыш?* Матукоўскі. *Адцураўся сын, выракся... Гэта Альжбета так яго навучыла, змяя падкалодная...* Гіль.

**ГА́ДЗІНА ПАЎЗУ́ЧАЯ**. *Адз. і мн. Часцей у знач. вык. ці звароткa. Праст. Груб.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вылюдак, нягоднік, агідны, шкодны, каварны чалавек. Пра мужчыну ці жанчыну. **Сін.**: гадзіна падкалодная; гад падкалодны; гад паласаты; гад паўзучы; гад печаны. *Кліменка ў думках вылаяўся і падумаў: «Вось дзе тваё нутро адкрываецца, гадзіна паўзучая».* Быкаў.

**ЗО́РНАЯ ГАДЗІ́НА (ЧАСІ́НА, ЧА́С)** *чыя, для каго. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Узнёсл.* Вялікі поспех, трыумф. *[Рубайла:] Твая зорная гадзіна, Рубайла! Магнітафон, камеру...* Дзялендзік. *[Андрэй Іванавіч] адчувае: наступае яго зорная часіна. Позна наступае, на схіле жыцця, але шчасце асабістае і творчае яго ўсё-такі не абмінула.* Навуменка.

**МЁРТВАЯ ГАДЗІ́НА**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Час адпачынку пасля абеду (у бальніцы, санаторыі, піянерскім лагеры і пад.). *На абед і мёртвую гадзіну [Яджыма] знікла, потым з'явілася зноў.* Лобан. *Але вось і мёртвая гадзіна... Спачатку Клімёнак ніяк не мог прывыкнуць да яе, ляжаў з расплюшчанымі вачыма, думаў, варочаўся з боку на бок.* Дамашэвіч.

**ШЭ́РАЯ (ША́РАЯ) ГАДЗІ́НА**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Час, калі пачынае цямнець, на стыку дня і ночы; прыцемак. *А калі, бывала, захопіць яго [Міколу] у дарозе шэрая гадзіна, то каню — бяда.* Колас. *На шэрай гадзіне ўсе пайшлі з хаты, а я задрамаў.* Чорны. *Як толькі асядала на зямлю шэрая гадзіна, Сяргей, поўны радаснай нецярплівасці, бег да Тацяны.* Зарэцкі. *Вось апошні валасок пагас, прыцемак плыве ўжо над нізінай. Гэты час на Случчыне ў нас называюць шараю гадзінай.* Вітка. *У такую шарую гадзіну ўспамінаецца далёкае маленства, робіцца цёпла і крышку сумна на душы.* Грахоўскі. *Чубар чакаў шарай гадзіны, таму ляжаў на схоне спакойна, падкурчыўшы пад сябе ногі.* Чыгрынаў.

*ГАДЗІНАХ* • **НЕ ПА ДНЯХ, А ПА ГАДЗІНАХ**. Гл. днях.

*ГАДЗІНЕ* • **У ГАДЗІ́НЕ**. *Абл. Акал. Разм.* Даўнавата. *На стале ў хаце ляжала паперка, напісаная ад рукі. Ігнат заўважыў яе адразу. Падышоў, паглядзеў — павестка. — Даўно прынеслі? — А ўжо ў гадзіне, — адказала жонка і заплакала наўзрыд.* Чыгрынаў.

*ГАДЗІННІК* • Працаваць **ЯК ГАДЗІ́ННІК**. *Акал. Разм.* Дакладна і бесперабойна. *— Якія пачуцці пры гэтым узнікаюць? — Пачуццё зайздрасці... І злосць. — А яна пры чым? — На сябе. За тое, што яшчэ так мала зрабіў, каб усе і ўсё працавалі як гадзіннік.* «Звязда». *З маторам нічога сур'ёзнага стацца не магло. Перад выхадам у рэйс працаваў як гадзіннік.* Кацюшэнка.

*ГАДЗІНУ* • **З ГАДЗІНЫ НА ГАДЗІНУ**. Гл. гадзіны.

**У ГАДЗІ́НУ ПА ЧА́ЙНАЙ ЛЫ́ЖЦЫ**. *Акал. Разм. Часцей ужыв. пры дзеясл.-вык. незак. тр.* Вельмі марудна, павольна, не спяшаючыся (рабіць што-н.). *Дык яны ж страляюць, як той казаў, у гадзіну па чайнай лыжцы.* Машара. *Трактарысты стаяць, а яны на конях цыркаюцца, у гадзіну па чайнай лыжцы.* Кузьмянкоў. *Дзімку пачала ўжо злаваць гэтая жвачка, якую ў гадзіну па чайнай лыжцы цягнуў Сашка.* Рыбак. *У гадзіну па чайнай лыжцы — інакш не скажаш — камплектуюць кінаўстаноўку.* «Настаўн. газ.»

*ГАДЗІНЫ* • **ГАДЗІ́НЫ (-А) ПІ́К**. *Часцей мн. У ролі розных чл. ск. Разм.* Час найвышэйшага напружання ў рабоце транспарту, прадпрыемства і пад. *Былі гадзіны пік, ды пашанцавала. Да прыпынку падышлі два аўтобусы.* Карпаў. *Ранішнія гадзіны пік ужо адшуме-*

*лі, і па вуліцы снавалі паўпустыя трамваі.* «ЛіМ». *У магазіне было цесна і душна, як у тралейбусе ў гадзіну пік.* Крыга.

**З ГАДЗІ́НЫ НА ГАДЗІ́НУ** *чакаць, з'явіцца* і пад. *Акал. Функц. не зам.* У найбліжэйшы час, у найбліжэйшыя гадзіны. **Сін.**: вось-вось (у 1 знач.); з мінуты на мінуту; з секунды на секунду; з часу на час (у 1 знач.). *За якіх пару дзён мы ўжо былі гатовы да ад'езду, заставалася толькі атрымаць выязныя візы ў аргенцінскім пасольстве. Іх чакалі з гадзіны на гадзіну.* Лынькоў. *— Хлопцы, трэба быць напагатове, — папярэджваў ён [Марцін] партызан. — Напагатове, кажу, бо сувязныя з гадзіны на гадзіну з'явяцца...* Кавалёў.

*ГАДЗІСЯ* • **ДЗЕ́ЛЯ ГАДЗІ́СЯ**. *Акал. Разм.* Каб стварыць пэўнае ўражанне, з меркаваннямў прыстойнасці. **Сін.**: для адводу вачэй; для блізіру; для віду; для вока; для понту; для прыклёпу; для прыліку; з понтам. *[Гапон:] Калі што і было, дык толькі дзеля гадзіся, каб не пакрыўдзіць як.* Гарэцкі. *Вера Засуліч сказала некалькі слоў, ледзь стрымліваючы сваё ўзрушэнне ад нядаўняга скандалу, сказала без запалу, без энергіі, так дзеля гадзіся.* Зарэцкі.

*ГАДЗЮКА* • **ГАДЗЮКА ПАДКАЛОДНАЯ**. Гл. гадзіна.

*ГАДЗЮКУ* • **ГРЭЦЬ ГАДЗЮКУ НА СВАІХ ГРУДЗЯХ**. Гл. грэць.

*ГАДОЎ* • **ПА МАЛАДОСЦІ <ГАДОЎ>**. Гл. маладосць.

*ГАДЫ* • **ГАДЫ́ Ў РАДЫ́**; **РАДЫ́ Ў ГАДЫ́**. *Акалі. Разм. Часта неадабр.* Занадта рэдка, з вялікімі, працяглымі прамежкамі (бываць дзе-н., бачыцца, сустракацца з кім-н., зайсці куды-н. і пад.). *Ты з Кацярынаю хоць бы пагаварыў, сястра ж такі, — гады ў рады бачыцеся.* Крапіва. *Глядач гады ў рады бачыць глыбокія зместам сучасныя камедыі.* Вітка. *А кніжка ж не з тых, якія чытач бярэ і будзе браць у рукі толькі «рады ў гады».* Янкоўскі.

**РАДЫ Ў ГАДЫ**. Гл. гады

**УВАХОДЗІЦЬ У ГАДЫ**. Гл. уваходзіць.

*ГАЕК* • **ЗАКРУЧВАННЕ ГАЕК**. Гл. закручванне.

*ГАЗАМ* • **ПАД ГА́ЗАМ**. *Акал. і вык. Іран.* У стане лёгкага ап'янення. **Сін.**: на брывах; на вушах; на падпітку; на ўзводзе; пад градусам; пад мухай; пад хмяльком; пад чаркай; пад шафэ. *Усе добра ведалі, што абодва грузчыкі пастаянна ў час работы знаходзіліся «пад газам».* «Звязда». *«Мой заўсёды прыходзіць дадому пад газам»,— бедавала жонка работніка гаргаза.* «ЛіМ». *— А сам Завейнік у якім стане быў? — У нармальным. Канечне, быў пад газам, але трымаўся.* Радкевіч.

*ГАЗЕТА* • **ХАДЗЯ́ЧАЯ ГАЗЕ́ТА**. *Часцей адз. Часцей вык. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Чалавек, які распаўсюджвае розныя навіны і чуткі. *Пасля Лукавіцын стаў больш асцярожным у выяўленні свае прыхільнасці да ідэі «свабоднай любві», хоць нашы тутэйшыя хадзячыя газеты ніяк не хацелі забыцца аб яго існаванні, — праз нейкі час побач з Лукавіцыным упарта сталі называць імя выкладчыцы французскай мовы.* Крапіва. *«Ці тут падманулі, ці там?» — вырашалі адны заблытаную дылему, а другія, якіх звычайна называюць «хадзячай газетай», з палёгкай уздыхнулі, ніяк не маглі яны змірыцца з тым, што іншыя разнеслі навіну ў масах — такія ўвогуле ніколі, нікому і нічому не вераць, але вельмі крыўдзяцца, калі не вераць ім.* Кудласевіч.

*ГАЗЕТЫ* • **ЧЫТАЦЬ ГАЗЕТЫ**. Гл. чытаць.

*ГАЗУ* • **ДАВАЦЬ ГАЗУ** *каму*. Гл. даваць.

*ГАЙ* • **АЖ ГА́Й ШУМІ́ЦЬ (ШУМЕ́Ў, ШУМЕ́Ў БЫ, ЗАШУМІ́ЦЬ)**. *Незак. Акал. і ў знач. дадан. ск. Разм.* Лепей, мацней быць не можа. **Сін.**: аж пыл курыць. *Стараюцца мае дзяўчаты, працуюць, як той казаў, аж гай шуміць.* Кузьмянкоў. *Ужо ў сваіх першых вершах хацеў [Сымон Блатун] вясёлку «выкаціць цалюткім абручом», хацеў так пісаць, так ісці па жыццёвых сцежках — каб аж гай шумеў!* Барадулін. *Мы такія дыверсіі маглі б рабіць, аж гай шумеў бы! Не верыце?* Новікаў. *Раздабуду я, Рыгорка, сабе новага каня. Ды як пойдзем гойсаць па фашысцкіх тылах, аж гай зашуміць...* Гамолка.

*ГАЙКА* • **СЛАБІЦЬ ГАЙКА** *ў каго, чыя.* Гл. гайкі.

*ГАЙКІ* • **АДПУСКАЦЬ ГАЙКІ**. Гл. адпускаць.

**АСЛА́БЛІ ГА́ЙКІ** *ў каго, чые*; **СЛА́БІЦЬ ГА́ЙКА** *ў каго, чыя. Убезас. ужыв. Разм. Іран.*

**1**. Хто-н. вельмі спалохаўся. **Сін.**: валасы становяцца дыбам *у каго*; вочы на лоб лезуць *у каго* (у 2 знач.); душа ў пятках *у каго, чыя*; душа ў пяты <схавалася> *у каго*; калені дрыжаць *у каго*; кроў ледзянее *ў каго*; кроў у жылах стыне *ў каго*; мароз па скуры <прабягае> *у каго, каго, чыёй*; мурашкі бегаюць па целе *ў каго, каго, чыім*; неба з аўчынку здаецца *каму*; паджылкі трасуцца *ў каго*; скура шэрхне *на кім, у каго*; сэрца абрываецца *ў каго, чыё*; сэрца ледзянее *ў каго*; у пяткі кальнула *каму, каго* (у 1 знач.); <усе> блохі падохлі *ў каго. А на двары дзесь каля буды чагось брахнуў сабака чуткі, брахнуў і змоўк, бы страшна стала, і ноч брахаць не пазваляла. Аслаблі ў Яські ўсе тут гайкі.* Колас. *А самі [белапалякі] бегаюць як апараныя. Здагадаліся хлопцы, што слабіць у іх ужо гайка.* Нікановіч.

**2**. У каго-н. не хапае сіл, здольнасцей і пад. зрабіць што-н. **Сін.**: жыдкі лыткі *ў каго*; кароткі завароткі *ў каго, чые*; кішка тонкая *ў каго* (у 1 знач.); кароткі пяты *ў каго*; не адтуль растуць рукі *чые, у каго*; пораху не хапае *ў каго*; рукі кароткія *ў каго. [Сідар:] Тут ні «тпру» і ні «ну»! Аслаблі нашы гайкі... Даехалі да ручкі...* Махнач.

**ГА́ЙКІ ЗАКРУ́ЧВАЮЦЦА** *дзе. Убезас. ужыв. Разм. Часцей неадабр.* Строгасці ўзмацняюцца, патрабаванні павышаюцца.

**ЗАКРУЧВАЦЬ ГАЙКІ** *каму.* Гл. закручваць.

**ПАДКРУЧВАЦЬ ГАЙКІ** *каму.* Гл. падкручваць.

*ГАКАМ* • **З ГА́КАМ**. *Акал. Разм.* **1**. Ужыв. пасля лічэбн. (пры прыблізным вызначэнні велічыні, даўжыні, колькасці чаго-н.). З невялікім перавышэннем. **Сін.**: з капейкамі; з лішкам (у 1 знач.); з лішнім; з паходам; з хвосцікам. *Калі пойдзеш полем, напрост, — да мястэчка дванаццаць вёрст, а як пойдзеш шляхам — дванаццаць з гакам...* Куляшоў. *Вось мне ўжо і трыццаць з гакам, а ты па-ранейшаму маладая.* Барадулін.

**2**. Больш, чым трэба (мець, рабіць, зрабіць што-н.). **Сін.**: з ліхвой; з лішкам (у 2 знач.). *Ячменю няхай яшчэ прысылае — крупадзёрка ў спраўнасці. Надзяру з гакам...* Карпаў. *[Юля:] Мне за высокія ўдоі прэміяльнага малака выдаюць столькі, што хапіла б на нашу сям'ю з гакам.* Макаёнак.

*ГАЛАВА* • **ГАЛАВА́ АСТЫ́ЛА (АСТЫ́НЕ)** *у каго. Убезас. ужыв. Разм.* Хто-н. супакоіўся, перастаў гарачыцца. *Сяргей махнуў рукой. — Пакіньце вы яго, няхай у яго галава астыне. Няхай з ім бацька пагутарыць, у старога размова кароткая.* Шамякін. *[Віктар:] Мо збегаць і вярнуць яго, Васіль? [Васіль:] Сам вернецца, як галава астыне.* Лукша.

**ГАЛАВА́ БАЛІ́ЦЬ (БАЛЕ́ЛА)** *чыя, у каго, каму пра што, аб чым, па кім, па чым. Убезас. ужыв. Разм.* Хто-н. моцна турбуецца аб кім-, чым-н., перажывае, непакоіцца. **Сін.**: галава гарыць *у каго*; душа баліць *чыя, у каго, каму* (у 2 знач.); душа гарыць *чыя, у каго*; душа не на месцы *ў каго*; душа ные *чыя, каму, у каго* (у 2 знач.); кошкі душу скрабуць *у каго, каму*; кошкі на душы скрабуць *у каго, чыёй*; нутро гарыць *чыё, у каго*; сэрца ёк-

нула *ў каго*; сэрца заміpae *ў каго, чыё*; сэрца заходзіцца *ў каго*; сэрца як не выскачыць *у каго*. *— Ды табе ж якая трасца! — перайшла Тадора ў наступ на старога, распальваючы смаліну на камінку. — Твая галава па гэтым не баліць.* Крапіва. *Няхай у вас баліць галава па кім іншым.* Шамякін. *Каму, як не яму [Рамановічу], баліць галава па гэтых землях. Ён з надзеяй чакаў жыццёвай праверкі Кулінчыкавага метаду, каб скарыстаць яго і ў іншых гаспадарках.* Дуброўскі. *Затрымайся на Сажы фронт яшчэ на два тыдні — хоць пра гэта галава не балела б. Са жнівом паспелі б.* Чыгрынаў. *[Маланне Адамаўна:] Не твой, дзед клопат. Хай твая галава аб тым не баліць.* Э.Валасевіч. *— Што ён табе паможа, ветэрынар гэты! — засупярэчыла мама. Ды тата сказаў ёй, што «тут ужо няхай твая галава не баліць», — і паехаў.* Брыль.

**ГАЛАВА́ ВА́РЫЦЬ** *у каго. У безас. ужыв. Разм. Адабр.* Хто-н. разумны, кемлівы, знаходлівы. **Сін.**: <ёсць> <свая> галава на плячах *у каго*; галава не на вошы; кацялок варыць *у каго*; мазгі вараць *у каго*. **Ант.**: дурны поп хрысціў *каго*; зрух па фазе *ў каго*; шарыкі за ролікі заходзяць *у каго*. *«Не, галава ў яго, канешне, варыць... Ён умее загарацца тэмай, павярнуць яе...» — зазначыў абыякава Аляксей.* Місько. *[Ядзя:] Васька — маладзец: галава варыць у яго.* Козел. *[Макар:] Робіш на калгасных конях, даеш ім часам сваю бульбу, сена... Галава ў цябе не варыць... Лепш тое сваёй карове — малако будзе...* М.Капыловіч. *Ты думаеш, толькі вы, журналісты, пішаце... Я таксама, як маладзейшы быў ды галава лепш варыла, тое-сёе запісваў...* Рубанаў.

**ГАЛАВА́ ВА́РЫЦЬ (ВАРЫ́ЛА)** *у каго, чыя*; **ГАЛАВА́ ЗВАРЫ́ЦЬ (ЗВАРЫ́ЛА)** *у каго, чыя. У безас. ужыв. Разм. Адабр. і неадабр.* Хто-н. дадумваецца да чаго-н., прыходзіць да якога-н. вываду. *Мара ўвечары, калі трэба класціся спаць, садзіцца рабіць урокі. А як іх рабіць, калі ўжо галава нічога не варыць?* Бяганская. *Выказаўся [Іван Кірылавіч] — і нібы перахапіла дыханне, на большае галава не варыць.* Супрунчук. *Ну, і дурны ж ты хлопец, як я пагляджу!.. Гэта ж трэба — галава зварыла, пайшоў да Пшыбыльскага ў паслугачы!* Шынклер. *— Нешта выдумалі — сказаў Янка Ігнасю. — Юзікава галава ўжо зварыла. І дурное, от пабачыш.* Чарнышэвіч. *Судзіце, можа, чаго і не зрабіў, можа, чаго галава і не зварыла.* Лобан. *Хіба ж даўмеешся, як зварыла ў дзіцяці галава? А можа, і не так зусім было? Мог грошы ў пенал пакласці хто-небудзь з дарослых, каб зваліць з сябе віну.* Кандрусевіч.

**ГАЛАВА́ ГАРЫ́ЦЬ (ГАРЭ́ЛА)** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. моцна хвалюецца, перажывае. **Сін.**: галава баліць *чыя, у каго, каму пра што, аб чым, па кім, па чым*; душа баліць *чыя, у каго, каму* (у 2 знач.); душа гарыць *чыя, у каго*; душа не на месцы *ў каго*; душа ные *чыя, каму, у каго* (у 2 знач.); кошкі душу скрабуць *у каго, каму*; кошкі на душы скрабуць *у каго, чыёй*; нутро гарыць *чыё, у каго*; сэрца ёкнула *ў каго*; сэрца заміpae *ў каго, чыё*; сэрца заходзіцца *ў каго*; сэрца як не выскачыць *у каго*. *Спаць Язэпка не мог. Галава гарэла ад думак, ад крыўды на пана Якінскага.* Якімовіч.

**ГАЛАВА́ ЗАБІ́ТА** *ў каго, чыя чым. У безас. ужыв. Разм.* **1.** Хто-н. увесь у клопатах, думках пра каго-, што-н. **Сін.**: галава занята *ў каго, чыя чым. [Карнейчык:] Пры чым жа тут нарыхтоўкі? [Лютынскі:] А вось зразумей бабскую логіку! Выходзіць, што мая галава толькі гэтым і забіта.* Крапіва. *І ў нашага Макара не забіта галава, — для каровы, як на кару, не паправіў ён хлява.* Трус. *Каця не бачыла, куды ступала, нібы заставаў ёй дарогу інжынер Пакінька. Правільней, бачыць бачыла, ступала нават вельмі асцярожліва, але галава была забіта іншым.* Місько.

**2.** *Неадабр.* Хто-н. абцяжараны якімі-н. непатрэбнымі ведамі, звесткамі, звычкамі і пад. *Кожны ўдар выбіваў з яго [Янкі] ранейшую дурасць, ачышчаў ад усякага хламу, якім забіта была яго галава да гэтага часу.* Дамашэвіч. *[Радзівон] у сваю чаргу абурыўся,*

*абазваў Быліча дэмагогам, у якога галава забіта абстрактнымі формуламі і прынцыпамі.* Блакіт.

**ГАЛАВА́ ЗАКРУЖЫ́ЛАСЯ (ЗАКРУЦІ́ЛАСЯ)** *у каго. Зак. У безас. ужыв. Разм.* **1.** Хто-н. пачаў адчуваць галавакружэнне (ад стомленасці, перажыванняў і пад.). **Сін.**: закруцілася ў галаве *ў каго. — Вам дрэнна? — Галава закружылася.* Крапіва. *Нарэшце [Міхаська] стаў адчуваць, як некуды правальваецца, галава закружылася, і ён страціў прытомнасць.* Якімовіч. *Галава закружылася-закружылася, і Насця, баючыся, каб не ўпусціць з рук Іру, аперлася на некага плячом — не помніць на каго.* Пташнікаў.

**2.** Хто-н. пачаў траціць здольнасць цвяроза разважаць (ад мноства спраў, перажыванняў і інш.). *І ён [Лёвачка] бег. А куды? Да дзеда Сідора, што ў Ярках. Зусім закруцілася галава — хаты Сідоравай знайсці не можа.* Лобан. *Цяжка, Рыгор, ой, як цяжка!.. Часамі пачнеш думаць, ажно галава закружыцца... Вось дзе бядота, дык бядота...* Гартны.

**3.** Хто-н. стаў зазнавацца, пераацэньваць свае магчымасці. *— Вы, Касцянок, малады чалавек... У вас галава закружылася. — Сапраўды, — падхапіў Шапавалаў. — Што ж гэта вы, таварыш Касцянок! Мы вас падтрымлівалі, выцягвалі... А вы нас падводзіце.* Шамякін. *Той-сёй перастаў заўважаць зямлю пад нагамі. Галава закружылася з першых поспехаў.* Мележ. *Быў у нас на фронце такі выпадак: на наш бок перайшоў пад уплывам акопнай прапаганды венгерскі батальён. У хлопцаў галовы закружыліся...* Прокша.

**ГАЛАВА́ ЗАНЯ́ТА** *ў каго, чыя чым. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. увесь у клопатах, думках пра каго-, што-н. **Сін.**: галава забіта *ў каго, чыя чым* (у 1 знач.). *Але ні да якой работы ў яго [Петрака] не ляжала душа, галава была забіта зусім іншым клопатам.* Быкаў. *У Брава-Жыватоўскага галава была занята другім.* Чыгрынаў. *Больш маўчалі, ведалі, чым Кандратава галава занята.* Лобан.

**ГАЛАВА́ ЗВЯ́ЗАНА** *ў каго, чыя. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. абцяжараны якім-н. абавязкам, доўгам і пад., не мае магчымасці свабодна дзейнічаць. **Сін.**: рукі звязаны *ў каго*; свет завязаны *каму.* **Ант.**: рукі развязаны *ў каго, чые. Ну, бывай здаровенькі! Не крыўдзіся, што ў нас так здарылася... Я ж сказала табе: калі б не была мая галава звязана, пайшла б за табою.* Каваль.

**ГАЛАВА́ <І> ДВА́ ВУ́ХІ.** *Мн. не ўжыв. У знач. вык. ці зваротка. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нездагадлівы, прастакаваты чалавек. **Сін.**: алёша з батонамі; асёл маляваны; галава садовая; галава яловая; дубовая галава; конь божы; курыная галава; куст альховы; медны лоб; мех з саломай; пень асінавы; пустая галава. **Ант.**: светлая галава. *— Чым яго [трактар] рамантаваць? Казлоў і аддаў у МТС! — Галава і два вухі ваш Казлоў! Прыехалі б на аўтазавод. Запчастак тых...* Мысліўец. *— Ты — галава і два вухі! — Валера хацеў паляпаць далонню па Пятровым ілбе, але Пятро адхіліў галаву.* Рубанаў. *[Кавальчук:] Ды зразумей ты, галава два вухі, што, адкладваючы ўборку льну хоць на дзень, мы зніжаем якасць валакна, губляем тысячы!* Макаёнак.

**ГАЛАВА́ ІДЗЕ́ (ХО́ДЗІЦЬ, ПАЙШЛА́) КРУ́ГАМ** *у каго, чыя. У безас. ужыв. Разм.* **1.** Хто-н. адчувае галавакружэнне (ад стомленасці, паўнаты перажыванняў і пад.). **Сін.**: галава кружыцца *ў каго, чыя* (у 1 знач.); галава ходырам ходзіць *у каго* (у 1 знач); круціцца ў галаве *ў каго. Дубянеюць ногі, смыляць паабдзіраныя аб калючы снег рукі, кругам ідзе галава, нудзіць і смокча пад сэрцам.* Грахоўскі. *Я баяўся вышыні. Мне здавалася, што слупы не вытрымаюць майго цяжару і паваляцца. Глянеш, як кідае ў бакі верх апоры, дык і на зямлі галава кругам ідзе.* Супрунчук.

2. Хто-н. траціць здольнасць цвяроза разважаць (ад мноства спраў, перажыванняў і пад.). **Сін.**: галава кружыцца *ў каго, чыя* (у 2 знач.); галава пухне *ў каго* <*ад чаго*>; галава трашчыць *у каго*; галава ходырам ходзіць *у каго* (у 2 знач.). *Ад такой неспадзяванай навіны аж галава кругам пайшла.* Мяжэвіч. *З ім [Валодзькам] у нас былі запланаваны такія аперацыі, што галава кругам хадзіла і дух займала, калі я думаў пра гэта.* Карпюк. *У кухаркі галоўнай ходзіць кругам галава: як бы выдумаць найлепей, каб грымела слава ў свеце, з свежай сёлетняй пшаніцы паўпудовы каравай...* Звонак.

**ГАЛАВА́ КРУ́ЖЫЦЦА (КРУ́ЦІЦЦА)** *у каго, чыя. Незак. У безас. ужыв. Разм.* **1.** Хто-н. адчувае галавакружэнне (ад стомленасці, паўнаты перажыванняў і пад.). **Сін.**: галава ідзе кругам *у каго, чыя* (у 1 знач.); галава ходырам ходзіць *у каго* (у 1 знач.); круціцца ў галаве *ў каго. Ціха кружыцца галава ў Міколкі, развяваюцца валасы ад страшэннага ходу, ад імклівага ветру.* Лынькоў. *У Нора кружылася галава ад салёнага і цёплага марскога паветра, ад сонечнага святла...* Шамякін. *Дый нашто ёй лячыцца, калі ёй нічога не баліць! Галава толькі круціцца, іншым разам млосна крыху робіцца, — дык не дзіва: не спіць, зусім не спіць.* Ядвігін Ш.

**2.** Хто-н. траціць здольнасць цвяроза разважаць (ад мноства спраў, перажыванняў і пад.). **Сін.**: галава ідзе кругам *у каго, чыя* (у 2 знач.); галава пухне *ў каго* <*ад чаго*>; галава трашчыць *у каго*; галава ходырам ходзіць *у каго* (у 2 знач.). *Ад клопатаў галава кружылася. Нават ва сне пан бачыў свой тэатр.* Бядуля.

**3.** *Неадабр.* Хто-н. зазнаецца, пераацэньвае свае магчымасці. *Чырвоныя камандзіры прынялі яго ў сваю сям'ю іменна як камандзіра і свайго чалавека. Хіба гэта не гонар дзеду Талашу? Але дзедава галава знае меру і не пераходзіць той граніцы, ад якой галава пачынае кружыцца.* Колас.

**ГАЛАВА́ (ЛО́Б) ГУЗА́ ШУКА́Е (-ЛА)** *чыя, у каго. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. сваімі паводзінамі напрошваецца на непрыемнасці. — *Ай, мама, з табой няможна размаўляць, ты — як рэнтген, наскрозь бачыш. — Бачу, што галава твая гуза шукае.* Васілеўская. — *Ды што тут гаварыць! — падняўся і захадзіў па хаце Кастусь. — Шкада мне цябе, сынок. Але ж, як той казаў, галава гуза шукала...* «Маладосць». — *Нечага ганяцца, дзе не трэба... — загаварыла яна [Алімпіяда] раптам моцна, на ўвесь двор. — Лагоў мала? Лоб гуза ў старога шукае...* Пташнікаў.

**ГАЛАВА́ (ЛО́Б) ТРАШЧЫ́ЦЬ (РАСКО́ЛВАЕЦЦА)** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. траціць здольнасць цвяроза разважаць (ад мноства спраў, перажыванняў і пад.). **Сін.**: галава ідзе кругам *у каго, чыя* (у 2 знач.); галава кружыцца *ў каго, чыя* (у 2 знач.); галава пухне *ў каго* <*ад чаго*>; галава ходырам ходзіць *у каго* (у 2 знач.). *У мяне галава трашчыць. Дайце мне адпачыць.* Шамякін. — *А чорт яго ведае, як там па-вашаму, па-цяперашняму, хіба я, век са сваёй вёскі не выязджаючы, разбяруся. Як назавуць што, дык аж галава трашчыць, — сказала Наталля.* Далідовіч. — *Не ляскачы, а то галава расколваецца! — пакрычала яму Петрунея.*Міська. *У Янука сынок раптоўна захварэў — адзёр прыкінуўся к малому. Ён плакаў, полымем гарэў, чым справа скончыцца, нікому невядома. У бацькі лоб трашчыць, а чым дапамагчы?* Корбан.

**ГАЛАВА́ НЕ НА ВО́ШЫ** *ў каго. У безас. ужыв. Разм. Адабр.* Хто-н. разумны, кемлівы, знаходлівы. **Сін.**: галава варыць *у каго*; <ёсць> <свая> галава на плячах *у каго*; кацялок варыць *у каго*; мазгі вараць *у каго*; не галава, а дом саветаў *у каго*; светлая галава *ў каго*. **Ант.**: дах паехаў *у каго*; дурны поп хрысціў *каго*; зрух па фазе *ў каго*; клёпкі не хапае <у галаве> *у каго*; мазгі адсохлі *ў каго* (у 2 знач.); мазгі набакір *у каго*; мазгі не на месцы *ў каго*; мякіна ў галаве *ў каго*; не ўсе дома *ў каго*; салома ў галаве *ў каго, чыёй*; шарыкі за ролікі заходзяць *у каго*. *Настаўнік Фама Фаміч хваліў Лявонку: «Талковы ў*

*вас хлопец. Галава не на вошы. Такому вучыцца трэба!»* Гніламёдаў. [*Лепешаў*, с. 24: галава не на вошы *ў каго.*]

**ГАЛАВÁ ПЎХНЕ (РАСПЎХЛА)** *у каго <ад чаго>. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. траціць здольнасць цвяроза разважаць ад мноства клопатаў думак, шуму і пад.). **Сін.**: галава ідзе кругам *у каго, чыя* (у 2 знач.); галава кружыцца *ў каго, чыя* (у 2 знач.); галава трашчыць *у каго*; галава ходырам ходзіць *у каго* (у 2 знач.). — *Замоўкні! — павярнуўся тварам да жонкі, вызверыўся Яўхім. — Тутака і так галава ад думак пухне, а ты...* Сачанка. — *Адным словам, падумай... — А я што, не думаю... Галава пухне, — шчыра прызнаўся Рыгор.* Арабей. *Тут ад сваіх клопатаў галава пухне.* Гарэлікава. *І ў мяне распухла галава. І я ўжо больш не магу рыхтавацца.* Васілевіч.

**ГАЛАВÁ САДÓВАЯ**. *Мн. не ўжыв. У знач. вык. ці зваротка. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нездагадлівы, няўважлівы, рассеяны чалавек. **Сін.**: алёша з батонамі; асёл маляваны; без цара ў галаве; галава <і> два вухі; галава яловая; дубовая галава; конь божы; курыная галава; куст альховы; медны лоб; мех з саломай; пень асінавы; пустая галава. **Ант.**: светлая галава. *[Косця] разважаў сам з сабою: «Я ёй напісаў? Напісаў! А яна мне адпісала? Не!». Нехта другі ў ім пярэчыў: «Галава ты садовая, а ты думаў над тым, што ёй напісаў?..»* Карпюк. — *Прыйшоў да Парфена Марцінавіча, аж яго, калі гэтак, не скора дачакаешся. — Каго, Парфена Марцінавіча? Галава садовая, у яго ж на базары толькі што стралялі.* Лобан. *Толькі запомні, садовая галава, я — Аня!* Кузьмянкоў.

**ГАЛАВÁ ТЛУМÍЦЦА** *чыя, каго чым, кім. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. уводзіцца ў зман, заблытваецца кім- ці чым-н. *У маналозе даецца ясны адказ на ўсе гэтыя «быць альбо не быць», якімі ўжо каторае дзесяцігоддзе тлумяцца галовы неразумных людзей.* *Гігевіч.*

**ГАЛАВÁ ХÓДЫРАМ (ХÓДАМ) ХÓДЗІЦЬ** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* **1.** Хто-н. адчувае галавакружэнне (ад стомленасці, паўнаты перажыванняў і пад.). **Сін.**: галава ідзе кругам *у каго, чыя* (у 1 знач.); галава кружыцца *ў каго, чыя* (у 1 знач.); круціцца ў галаве *ў каго. За тачанкамі — гарматы — палявыя і мар[ці]ры, а пад небам — рой крылаты — самалётаў цэлы вырай. Як зірнеш, дык ажно люба, галава аж ходам ходзіць!* Купала. *Пабачыў ён [Алесь] цяпер цягнік як след... Мітусяцца ля вагонаў пасажыры: хто вылазіць, хто садзіцца — парадку аніякага. Проста галава ходырам ходзіць.* Шынклер. **2.** Хто-н. траціць здольнасць цвяроза разважаць (ад мноства клопатаў, думак і пад.). **Сін.**: галава ідзе кругам *у каго, чыя* (у 2 знач.); галава кружыцца *ў каго, чыя* (у 2 знач.); галава пухне *ў каго <ад чаго>*; галава трашчыць *у каго. І ў Карнея, як і вакол, галава ходырам ходзіць, — бо думае чалавек.* Каваль.

**ГАЛАВÁ ЯЛÓВАЯ**. *Мн. не ўжыв. У знач. зваротка. Праст. Неадабр.* Бесталковы, дурны чалавек. **Сін.**: алёша з батонамі; асёл маляваны; галава <і> два вухі; галава садовая; дубовая галава; конь божы; курыная галава; куст альховы; медны лоб; мех з саломай; пень асінавы; пустая галава. **Ант.**: светлая галава. — *Дагаджае! — злуецца Жаўтых. — Эх ты, галава яловая. Дагаджае! Не ведаеш ты яе. А я ведаю...* Быкаў. — *На, паглядзі, — тыцнуў пальцам у пісьмо Рокаш. — Галава яловая!* Гурскі. *Ідзі, галава яловая, гадзіннік дадуць пазалочаны.* Вышынскі.

**ГАРÁЧАЯ ГАЛАВÁ**. *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Нястрымны, неразважлівы чалавек, які захапляецца, дзейнічае паспешна. — *Сабе заваёўвайце! — кідала ў твар збянтэжаным мужыкам нечая гарачая галава.* Мурашка. *А Вася, вядома, гарачая галава, спяшаўся...* Дайнека. *Як камандзір я хачу быць бацькам для салдат... Бо хто пра іх паклапоціцца, абароніць ад такіх гарачых галоў, як ротмістр Ягашын?* Шамякін.

*Яшчэ раней, у ліпені сорак першага, «гарачыя галовы» Міхась і Джон прынеслі з падвала гарадской міліцыі скрыні з гранатамі і схавалі ў хлеўчыку ў Альфонса Навіцкага.* «Полымя».

**ГАРА́ЧАЯ ГАЛАВА́** *ў каго. Адз. і мн. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. залішне паспешны, неразважлівы, нястрымны. *Э-э, Пятровіч, у мяне некалі такая ж гарачая галава была.* А.Жук. *Галовы ў вас гарачыя, а жыцця не ведаеце.* Навуменка. *[Каця:] Скажы яму ўсю праўду, і, мабыць, сарвецца з месца, кінецца па свеце. Гарачая ў хлопца галава.* Лукша.

**ДЗІРА́ВАЯ ГАЛАВА́** *ў каго, чыя. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. забыўчывы, рассеяны, мае кепскую памяць. *Цётка Анэта нечакана ўспляснула рукамі: — Ой, я ж і забылася: дзіравая мая галава! Гэта ж закладаць [юшку] пара!* Гіль. *— І вы не ўспомніце, калі б прыйшлося? — Ну каб прыйшлося, можа б, што і ўспомніла, але — дзіравая галава, як сіта...* Гілевіч. *Цьфу ты! Зусім галава дзіравая, забыла, што сёння пятніца.* Цяжкі.

**ДУБО́ВАЯ ГАЛАВА́**. *Часцей у адз. У знач. зваротка. Праст. Неадабр.* Тупы, неразумны чалавек; тупіца. **Сін.**: алёша з батонамі; галава <і> два вухі; галава садовая; галава яловая; конь божы; курыная галава; куст альховы; медны лоб; мех з саломай; пень асінавы; пустая галава. **Ант.**: светлая галава. *— Няўжо ты, дубовая галава, не можаш дапяць, што пакой заняты? — чорныя вугельчыкі Ліпаёвых вачэй гарэлі такой злосцю, што Макрыцкі аж адступіў колькі крокаў назад.* Ягоўдзік. *Над бочкамі начальнікам паставіць!.. Тфу!.. Дубовыя галовы!* Колас. *—Немцы ж па-нашаму не разумеюць... — Галава дубовая! Не разумеюць! Ёсць такія, што спецыяльна сядзяць на нашых газетах. Разведка.* Шамякін.

**<ЁСЦЬ> <СВАЯ́> ГАЛАВА́ НА ПЛЯЧА́Х** *у каго. У безас. ужыв. Разм. Адабр.* Хто-н. дастаткова разумны, кемлівы. **Сін.**: галава варыць *у каго*; галава не на вошы *ў каго*; кацялок варыць *у каго*; мазгі вараць *у каго*; не галава, а дом саветаў *у каго*; светлая галава *ў каго.* **Ант.**: дурны поп хрысціў *каго*; зрух па фазе *ў каго*; клёпкі не хапае <у галаве> *у каго*; мазгі адсохлі *ў каго* (у 2 знач.); мазгі набакір *у каго*; мазгі не на месцы *ў каго*; мякіна ў галаве *ў каго*; не ўсе дома *ў каго*; салома ў галаве *ў каго, чыёй*; шарыкі за ролікі заходзяць *у каго. Але трэба разумець, што інструкцыі пішуцца для тыповых выпадкаў, а не для выключэнняў. Для выключэнняў у вас, кіраўнікоў, ёсць галава на плячах.* Лобан. *Я да свайго Цупрона не маю спраў. Я жыву асобна, а ў яго — свая галава на плячах.* Лупсякоў. *Ты вось тут паспрабуй як след галавой раскінуць: і кусты знойдзеш, цераб̆і колькі хочаш, абы ахвота, абы галава на плячах.* Лынькоў. *Дарма што [сакратар] мужыкаваты, пане-браце. А на плячах галава...* Мурашка.

**КУРЫ́НАЯ ГАЛАВА́**. *Мн. не ўжыв. У знач. вык. ці зваротка. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нездагадлівы, прастакаваты чалавек. **Сін.**: алёша з батонамі; асёл маляваны; галава <і> два вухі; галава садовая; галава яловая; дубовая галава; конь божы; куст альховы; медны лоб; мех з саломай; пень асінавы; пустая галава. **Ант.**: светлая галава. *Злосна паглядзеў на яе [Аўгіню] Васіль. — Не на паноў, а на цябе, курыная галава. На сябе буду старацца, на дзяцей, на сумленных гаспадароў...* Колас. *Ці ж я табе чаго шкадую, у чым адмаўляю, га? Падумай, курыная твая галава, які я жмінда? Нават ад ворага такога не чуў!* Мяжэвіч.

**НЕ ГАЛАВА́, А ДО́М САВЕ́ТАЎ** *у каго. У безас. ужыв. Разм. Адабр.* Хто-н. вельмі разумны, ясна і лагічна мысліць, разважае. **Сін.**: галава варыць *у каго*; галава не на вошы *ў каго*; <ёсць> <свая> галава на плячах *у каго*; кацялок варыць *у каго*; мазгі вараць *у каго*; светлая галава *ў каго.* **Ант.**: дурны поп хрысціў *каго*; зрух па фазе *ў каго*; клёпкі не хапае <у галаве> *у каго*; мазгі адсохлі *ў каго* (у 2 знач.); мазгі набакір *у каго*; мазгі не

на месцы *ў каго*; мякіна ў галаве *ў каго*; не ўсе дома *ў каго*; салома ў галаве *ў каго, чыёй*; шарыкі за ролікі заходзяць *у каго*. — *Мама, Генечка, нічога не мае супраць, наадварот, гэта яна ўдумала, — вяшчала Хрысця, — а ў яе, ого, не галава, а дом саветаў. Трэба слухаць маму.* Супрунчук. *У цябе, Ферапонт, не галава, а дом саветаў. Ты талент, геній, якому няма роўных...* Канановіч.

**ПУСТА́Я ГАЛАВА́**. *Часцей у адз. У знач. звароткa ці вык. Праст. Неадабр.* Нездагадлівы, прастакаваты чалавек. **Сін.**: алёша з батонамі; асёл маляваны; галава <і> два вухі; галава садовая; галава яловая; дубовая галава; конь божы; курыная галава; куст альховы; медны лоб; мех з саломай; пень асінавы. **Ант.**: светлая галава. *Сёння ты нарабіў столькі, колькі чатырыста ўзбунтаваных катаржнікаў зрабіць не здолеюць, не тое, што чатырнаццаць мужыкоў, і усё дарма, пустая твая галава.* Самуйлёнак. *Вы слухайце, пустыя вашы галовы! Гэта я вам кажу, як сказаў бы на сходзе!* Колас.

**САМ САБЕ ГАЛАВА**. Гл. сам.

**СВЕ́ТЛАЯ ГАЛАВА́**. *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Адабр.* Вельмі разумны чалавек. **Сін.**: з галавой (у 1 знач.); з царом у галаве (у 1 знач.); у цемя не біты. **Ант.**: алёша з батонамі; асёл маляваны; галава <і> два вухі; галава садовая; галава яловая; дубовая галава; конь божы; курыная галава; куст альховы; медны лоб; мех з саломай; пень асінавы; пустая галава; сямі пядзяў у лбе (лобе). *[Мірон:] А ў яго слова, як жалеза, аказалася; усё, што абяцаў, — зрабіў. Пра яго, ведаеш, як кажуць? Мудры чалавек, чулы дужа, светлая галава!..* Савіцкі. *І не ведаю, што было б, калі б не Юзік Заліўка з трэцяга пад'езда. Светлая галава гэты Юзік! Дадумаўся ж.* Лазуркін. *Там [у Пецярбургу] ёсць светлыя галовы і шчырыя народалюбцы, якія душою хварэюць за свой абяздолены народ.* Якімовіч.

**СВЕ́ТЛАЯ ГАЛАВА́** *ў каго. У безас. ужыв. Функц. не зам. Адабр.* Хто-н. ясна і лагічна мысліць, разважае. **Сін.**: галава варыць *у каго*; галава не на вошы *ў каго*; <ёсць> <свая> галава на плячах *у каго*; кацялок варыць *у каго*; мазгі вараць *у каго*; не галава, а дом саветаў *у каго*. **Ант.**: дурны поп хрысціў *каго*; зрух па фазе *ў каго*; клёпкі не хапае <у галаве > *у каго*; мазгі адсохлі *ў каго* (у 2 знач.); мазгі набакір *у каго*; мазгі не на месцы *ў каго*; мякіна ў галаве *ў каго*; не ўсе дома *ў каго*; салома ў галаве *ў каго, чыёй*; шарыкі за ролікі заходзяць *у каго*. *Добра, калі светлая галава ў чалавека і зоркія вочы — усё можна разумець, далёка можна бачыць, да шмат чаго можна прыйсці сваім розумам.* Каваль. *А я той самы матэматык, якому прарочылі не толькі аспірантуру, але і будучыню ў навуцы, той, у якога светлая галава матэматыка...* А.Жук.

**УСЯМУ́ ГАЛАВА́**. *Вык. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Самае галоўнае, найбольш важнае сярод іншага. **Сін.**: альфа і амега *чаго*; краевугольны камень *чаго*; станавая жыла *чаго, чыя*. *Будзе ўгнаенне — мець будзем ураджай. А добры ўраджай — гэта хлеб. А хлеб усяму галава.* Кавалёў. *Хіба не бачаць, колькі нас, Быкоўскіх, зараз развялося, што на нас, Быкоўскіх, усё тут трымаецца, што мы, Быкоўскія, усяму тут галава.* «Полымя». *Першая запаведзь: убраць ураджай! Тэхніка — усяму галава!* Макаёнак. *Скачы ад печы, жэўжык. Яна, як і хлеб, — усяму галава. Залазь. Азяб, бачу.* В.Ткачоў.

*ГАЛАВАХ* • **У ГАЛАВА́Х**. *Акал. Разм.* У тым месцы на пасцелі, куды кладуцца галавой; ва ўзгалоўі (сядзець, стаяць, знаходзіцца і пад.). *Тут стрэльбы нашы ў галавах — пяцьма патронамі набіты, каб не было часамі швах, калі абмацаюць бандыты.* Крапіва. *У штубе — толькі нары ды нары. Двухпавярховыя, засланыя шэрымі, шурпатымі, як вывернутыя трыбухі, коўдрамі «з крапівы». У галавах — шынялі, сумкі, чамаданы.* Брыль. *У га-*

*лавах з аднаго боку сядзела маці, яшчэ не старая па гадах, але пажыўшая ў горы жанчына.* Лобан.

*ГАЛАВЕ* • **БЕЗ КЛЁПКІ Ў ГАЛАВЕ**. Гл. клёпкі.

**БЕЗ ЦАРА Ў ГАЛАВЕ**. Гл. цара.

**БІЦЬ ПА ГАЛАВЕ**. Гл. біць.

**ВЕЦЕР У ГАЛАВЕ <ГУЛЯЕ>** *у каго*. Гл. вецер.

**ГЛАДЗІЦЬ ПА ГАЛАВЕ** *каго*. Гл. гладзіць.

**ЗАКРУЦІЛА Ў ГАЛАВЕ** *чыёй, каму, у каго*. Гл. закруціла.

**ЗАКРУЦІЛАСЯ Ў ГАЛАВЕ** *ў каго*. Гл. закруцілася.

**З ВЕТРАМ У ГАЛАВЕ**. Гл. ветрам.

**З ВЕЦЯРКОМ У ГАЛАВЕ**. Гл. ветрам.

**З ЦАРОМ У ГАЛАВЕ**. Гл. царом.

**КАША Ў ГАЛАВЕ** *ў каго*. Гл. каша.

**КЛЁПКІ НЕ ХАПАЕ <У ГАЛАВЕ >** *у каго*. Гл. хапае.

**КРУЦІЦЦА Ў ГАЛАВЕ** *ў каго*. Гл. круціцца.

**ЛІХА ЯГО ГАЛАВЕ**. Гл. ліха.

**МЯКІНА Ў ГАЛАВЕ** *ў каго*. Гл. мякіна.

**НЕ Ў ГАЛАВÉ** *каму. Вык. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Не цікавіць каго-н., не з'яўляецца прадметам чыіх-н. клопатаў, думак і пад. **Сін**.: не ў галаву *каму*. **Ант**.: на думках *у каго*; у галаве (у 2 знач.). *Мусіць, проста не ў галаве яму бацька.* Чорны. *Можа, і не ў галаве ёй цяперака былі Вязавічы, гэта вяселле.* Калюга. *Як толькі вольная часінка, дык.. [Любка] за кніжку, і ежа не ў галаве.* Мурашка. *Тым, хто атрымаў прадпісанне на мабілізацыю, ужо не ў галаве была работа.* Сабаленка. *[Аскольд:] Справы сынавы з-за спраў сваіх яму не ў галаве.* Гілевіч.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Не прыпамінаецца што-н. *Парсюка ці, можа, свінку (нешта мне не ў галаве) прадаў сёлета на рынку з гэтай вёскі чалавек.* Крапіва.

**НЕ ЎКЛАДВАЕЦЦА Ў ГАЛАВЕ** *чыёй, у каго*. Гл. укладваецца.

**ПЕРАБІРАЦЬ У ГАЛАВЕ** *каго, што*. Гл. перабіраць.

**САЛОМА Ў ГАЛАВЕ** *ў каго, чыёй*. Гл. салома.

**СТАЯЦЬ У ГАЛАВЕ** *каму, чыёй*. Гл. стаяць.

**СЯДЗЕЦЬ НА ГАЛАВЕ** *ў каго, чыёй*. Гл. сядзець.

**СЯДЗЕЦЬ <ЦВІКОМ> У ГАЛАВЕ** *ў каго, чыёй*. Гл. сядзець.

**ТРАСЦА ЯГО ГАЛАВЕ**. Гл. трасца.

**ТРЫМАЦЬ У ГАЛАВЕ** *каго, што*. Гл. трымаць.

**У ГАЛАВÉ**. *Разм.* **1**. *Акал.* Мысленна (называць, прыкідваць, праходзіць і пад.). **Сін**.: сам з сабой (у 3 знач.); сам сабе (у 4 знач.); у думках; у душы. *«Ах, вось што!» — мільганула ў галаве ў Сцёпкі. Можа, Брытвін яшчэ пачне папракаць яго за няўдзячнасць?* Быкаў. *У адно імгненне ў галаве яго [Казіка] прайшло ўсё, што ён заўважыў тут у клябані і за апошнія часы.* Чарнышэвіч. *Чубар пачаў прыкідваць у галаве, што ён павінен рабіць цяпер.* Чыгрынаў.

**2**. *каму. Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Цікавіць каго-н., з'яўляцца прадметам чыіх-н. клопатаў, думак і пад. **Сін**.: на думках *у каго*. **Ант**.: не ў галаве *каму* (у 1 знач.); не ў галаву *каму*. *Як табе не сорам? Гаспадар уміраць рыхтуецца, а табе вунь што ў галаве!* Ядвігін Ш. *Сумна, моташна ўдаве, усё мужчыны ў галаве, паглядае на іх ласа.* Крапіва. *Галілею не тое ў галаве. У Галілея сільнейшыя і*

*важнейшыя клопаты...* Зарэцкі. *«Усё Палессе табе ў галаве, сына забыць не можаш», — пашкадаваў я яго [Аніса].* Хомчанка.

**3**. *у каго. Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. адуш. ці неадуш. прадмета. З'яўляцца мэтай, намерам каго-н. *Вядома, каня лепш было б аддаць падлетку, але хто ведае, што ў таго ў галаве.* Быкаў. *А можа, звер не пойдзе — пабаіцца агню. Можа, зусім збяжыць за Вешкі ў пушчу... Толькі хто ведае, што ў звера ў галаве.* Пташнікаў.

**ХАДЖЭННЕ НА ГАЛАВЕ**. Гл. хаджэнне.

**ХАДЗІЦЬ НА ГАЛАВЕ**. Гл. хадзіць.

**ХОЦЬ КОЛ НА ГАЛАВЕ ЧАШЫ** *каму.* Гл. чашы.

**ЯК АБУХОМ ПА ГАЛАВЕ СТУКНУЦЬ** *каго.* Гл. стукнуць.

*ГАЛАВОЙ* • **АДКАЗВАЦЬ ГАЛАВОЙ** *за каго, за што.* Гл. адказваць.

**АКУНУЦЦА З ГАЛАВОЙ** *у што.* Гл. акунуцца.

**ВАРУШЫЦЬ ГАЛАВОЙ**. Гл. варушыць.

**ВІСЕЦЬ НАД ГАЛАВОЙ** <*каго*>. Гл. вісець.

**ВЫДАВАЦЬ СЯБЕ З ГАЛАВОЙ**. Гл. выдаваць.

**ДАХ НАД ГАЛАВОЙ**. Гл. дах.

**ЗА ГАЛАВО́Й** *чыёй. Акал. Разм.* На ўтрыманні каго-н. ці пад чыёй-н. аховай, апекай (жыць, быць і пад.). **Сін**.: за плячамі *каго, у каго* (у 4 знач.); за спінай *чыёй* (у 3 знач.); на руках *чыіх, у каго* (у 1 знач.); на шыі *ў каго, чыёй* (у 1 знач.); пад крылом *у каго, чыім, каго. Што ж ён яшчэ бачыў? Хіба ён ведае, як з людзьмі жыць? Вось жыве за бацькаваю галавою ды выдумляе трасцу з хваробаю.* Крапіва. *Калі яна маладзейшая сястра ды калі яна за нашымі галовамі была ў хаце за паненку, дык чаго яна яшчэ цяпер тут свае камэдыі паказвае.* Чорны.

**З ГАЛАВО́Й**. *Разм.* **1**. *Азн. і вык.* Ужыв. пры наз. са знач. асобы. Вельмі разумны, здольны, здатны. **Сін**.: з царом у галаве (у 1 знач.); у цемя не біты. **Ант**.: без галавы; без клёпкі ў галаве; без цара ў галаве; з прыветам; сямі пядзяў у лбе (лобе). *Што казаць, з галавой хлопец, дзялок-чалавек...* Лынькоў. *Валянцін Адамавіч — добры інжынер, вучоны, чалавек з галавой.* Шамякін. *«А ён, Кулага, з галавой!» — адкрываў новае і новае для сябе ў Васілю Іван Дарошка.* Сачанка. *Параска — баба з галавою, трэба яе слухаць, трэба памагаць ёй.* Лобан.

**2**. *Акал.* Абдумана, свядома (рабіць што-н.). **Сін**.: з розумам; з толкам. **Ант**.: без толку (у 2 знач.); ні складу ні ладу. *Не, брат, не так усё проста, як здаецца ды хочацца нам. Тут да ўсяго трэба з галавой падыходзіць.* Чыгрынаў. *Супраць такога ворага весці барацьбу трэба з галавою.* Лобан. *Вось так, лейтэнант... як цябе? Іваноўскі. З наскоку не возьмеш, з галавой трэба.* Быкаў.

**3**. *Акал.* Цалкам, поўнасцю (улягаць, углыбляцца і пад.). **Сін**.: па <самыя> вушы (у 3 знач.). *Васіль Пятровіч з галавою ўглыбіўся ў работу.* Карпаў. *Касцюшку за май-чэрвень трэба здаць філасофію і нямецкую мову. З галавою ўлягае ён у работу.* Навуменка.

**НАВЯРНУЦЬ ГАЛАВОЙ**. Гл. навярнуць.

**НАКЛАДАЦЬ ГАЛАВОЙ**. Гл. накладаць.

**ПАД ПЕЧ ГАЛАВОЙ**. Гл. печ.

**РАСКІДАЦЬ ГАЛАВОЙ**. Гл. раскідаць.

**РУЧАЦЦА ГАЛАВОЙ** *за каго, за што.* Гл. ручацца.

**ХМАРЫ ЗГУШЧАЮЦЦА НАД ГАЛАВОЙ** *чыёй, каго.* Гл. хмары.

**ХМАРЫ РАССЕЙВАЮЦЦА НАД ГАЛАВОЙ** *чыёй, каго.* Гл. хмары.

**ХОЦЬ ГАЛАВОЙ АБ СЦЯНУ БІСЯ**. Гл. біся.

**ХО́ЦЬ ГАЛАВО́Й У ПЯТЛЮ́.** *Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм.* Выказванне безнадзейнасці, немагчымасці зрабіць што-н., каб выйсці з крайне цяжкага становішча. **Сін.**: хоць душой загавей; хоць лажыся і памірай; хоць <ты> вешайся; хоць <ты> жывы ў зямлю лезь; хоць <ты> у вір галавой; хоць у пятлю лезь; хоць у труну лажыся. *Выходзіла так, што і ехаць яму [Дабрэню] няма куды, і тут заставацца няма сэнсу — хоць галавой у пятлю.* Асіпенка.

**ХОЦЬ <ТЫ> У ВІР ГАЛАВОЙ.** Гл. вір.

**ХОЦЬ ТЫ ГАЛАВОЙ НАЛАЖЫ.** Гл. налажы.

*ГАЛАВУ* • **АДАРВАЦЬ ГАЛАВУ** *каму.* Гл. адарваць.

**АДКРУЦІЦЬ ГАЛАВУ** *каму.* Гл. адкруціць.

**АДУРЫЦЬ ГАЛАВУ** *каму.* Гл. адурыць.

**АЗЯЛІЦЬ ГАЛАВУ** *каму, чыю.* Гл. азяліць.

**АСТУДЗІЦЬ ГАРАЧУЮ ГАЛАВУ.** Гл. астудзіць.

**БРАЦЦА ЗА ГАЛАВУ.** Гл. брацца.

**БРАЦЬ <САБЕ> У ГАЛАВУ** *што.* Гл. браць.

**ВЕШАЦЬ ГАЛАВУ.** Гл. вешаць.

**ВЫЛІВАЦЬ БРУД НА ГАЛАВУ** *каго.* Гл. выліваць.

**ВЫШЭЙ ГАЛАВУ.** Гл. вышэй.

**ГАЛАВУ Ў ЗАКЛАД АДДАВАЦЬ.** Гл. аддаваць.

**ГУБЛЯЦЬ ГАЛАВУ.** Гл. губляць.

**ДАВАЦЬ ГАЛАВУ НА АДРЭЗ** *<каму>.* Гл. даваць.

**ДЗЯЎБЦІ ГАЛАВУ** *каму, чыю.* Гл. дзяўбці.

**ДУРЫЦЬ ГАЛАВУ** *каму.* Гл. дурыць.

**ДУРЫЦЬ САБЕ ГАЛАВУ.** Гл. дурыць.

**ЗАБІВАЦЬ ГАЛАВУ** *каму чым.* Гл. забіваць.

**ЗАДУРЫЦЬ ГАЛАВУ** *каму.* Гл. задурыць.

**ЗВАЛЬВАЦЦА НА ГАЛАВУ** *чыю.* Гл. звальвацца.

**ЗВЯРНУЦЬ ГАЛАВУ** *каму.* Гл. звярнуць.

**ЗВЯРНУЦЬ <САБЕ> ГАЛАВУ.** Гл. звярнуць.

**ЗЛАМАЦЬ САБЕ ГАЛАВУ.** Гл. зламаць.

**ЗНАСІЦЬ ГАЛАВУ.** Гл. знасіць.

**ЗНІМАЦЬ ГАЛАВУ** *каму.* Гл. знімаць.

**КЛАСЦІ ГАЛАВУ** *за каго, за што, дзе.* Гл. класці.

**КЛАСЦІ ГАЛАВУ НА КАЛОДКУ.** Гл. класці.

**КРОЎ УДАРЫЛА Ў ГАЛАВУ** *каму.* Гл. кроў.

**КРУЖЫЦЬ ГАЛАВУ** *каму.* Гл. кружыць.

**КРУЦІЦЬ ГАЛАВУ** *каму.* Гл. круціць.

**ЛАМАЦЬ <САБЕ> ГАЛАВУ** *над чым.* Гл. ламаць.

**ЛЕЗЦІ Ў ГАЛАВУ** *каму.* Гл. лезці.

**МАЧА Ў ГАЛАВУ СТУКНУЛА** *каму.* Гл. мача.

**МУЦІЦЬ ГАЛАВУ** *каму.* Гл. муціць.

**НАБІВАЦЬ ГАЛАВУ** *каму, каго чым.* Гл. набіваць.

**НАБІРАЦЬ САБЕ Ў ГАЛАВУ** *<што>.* Гл. набіраць.

**НА ГАЛАВУ́** *чыю, каго. Дап. Разм. Неадабр.* **1**. На каго-н. — *Ах, каб цябе ж трасца! — шаптаў Лаўрэн, павольна брыдучы сцежкай. — От навязалася ліха на маю галаву!* Самуйлёнак. *Корч не стукнуўся аб човен, але затое яны сашчапіліся і далей паплылі ўжо*

*абодва разам. — Вось прынясло яго ліха на нашу галаву! — злаваў Віктар.* Маўр. *Ужо ён [Серж] пачынаў займацца новымі справамі, як на яго галаву ўпалі новыя непрыемнасці.* Чорны. *Часам на галаву Наталлі Пятроўны сыпаліся праклёны.* Шамякін.

**2**. На бяду, на клопаты каму-н. — *І няўжо ж асядуць яны [акупанты] тут на нашу галаву? — уздыхнула бабка Наста.* Колас. — *То здароў, братачка! Хіба ты жывы яшчэ? — Ды вот, як бачыш, жывы на тваю галаву. — Чаму гэта на маю? Не дай божа, ці ж мы ўвесь век з табою варагаваць будзем?* Лобан. — *Здароў, Васіль! — павітаўся я. — Ты ўсё возіш і варыш? — А-а, вярнуўся на маю галаву!* Карпюк.

**НА ГАЛАВУ ВЫШЭЙ** *за каго.* Гл. вышэй.

**НАДУРЫЦЬ ГАЛАВУ** *каму.* Гл. надурыць.

**НА СВАЮ ГАЛАВУ (ШЫЮ)**. *Акал. Разм.* Сабе на шкоду, на турботы (рабіць што-н.). *Гадаваў... думаў, выйдзе што-небудзь, чакаў. І... узгадаваў [сына] на сваю галаву...* Галавач. *[Гудзееў:] Вось прыехаў ваяваць з вашым Кавальчуком. [Самасееў:] Ён жа ваш, вы яго прывезлі. [Гудзееў:] На сваю галаву.* Макаёнак. *Ці даўно лейтэнант сам дабіваўся ў штабе гэтага загаду, які нарэшце і атрымаў на сваю галаву.* Быкаў. *Не цябе пашкадаваў, дзяцей тваіх малых пашкадаваў, і ўсё на сваю шыю прыняў, а цяпер кручуся, як бяроста на агні...* Чарнышэвіч. *І вас везлі туды ж! Везлі, каб вы памагалі Карнілаву вярнуць на сваю шыю цара...* Губарэвіч.

**НА СВЕЖУЮ ГАЛАВУ**. *Акал. Функц. не зам.* Пакуль яшчэ не стомлены ці пасля адпачынку. *[Ягор Максімавіч:] А ты што, сам ужо не цяміш? Можа, адкладзём да раніцы, на свежую галаву?* Матукоўскі. *Але чытаць гэты да драбніц знаёмы тэкст не хацелася. Лепш заўтра прыйсці і вычытаць на свежую галаву.* Гаўрылкін. *Да гэтай цвярозасці ў думках прымешвалася, аднак, і няўпэўненасць, якая прыйшла на свежую галаву.* Шыцік.

**НЕ ІДЗЕ Ў ГАЛАВУ** *каму.* Гл. ідзе.

**НЕ ЛЕЗЕ Ў ГАЛАВУ** *каму.* Гл. лезе.

**НЕ Ў ГАЛАВУ** *каму. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Не цікавіць каго-н., не з'яўляецца прадметам чыіх-н. клопатаў, думак і пад. **Сін.**: не ў галаве *каму* (у 1 знач.). **Ант.**: на думках *у каго*; у галаве (у 2 знач.). *Раз прарыў знішчылі, дык ужо і забыцца на яго трэба?! Нікому і не ў галаву, што калі гэтак будзе, дык зноў прарыў будзе...* Чорны. *Трэцца аб ногі [Лыска] то з аднаго, то з другога боку: лашчыцца захацеў. А Хвядосу не ў галаву яго пяшчоты, яму трэба адпачыць.* Калюга.

**ПАДСТАЎЛЯЦЬ ГАЛАВУ ПАД КУЛІ**. Гл. падстаўляць.

**ПАДСТАЎЛЯЦЬ <СВАЮ> ГАЛАВУ**. Гл. падстаўляць.

**ПАДСТАЎЛЯЦЬ <СВАЮ> ГАЛАВУ ПАД АБУХ**. Гл. падстаўляць.

**ПАДЫМАЦЬ ГАЛАВУ**. Гл. падымаць.

**ПАЙСЦІ Ў ГАЛАВУ ПА РОЗУМ**. Гл. пайсці.

**ПАЛАМАЦЬ ГАЛАВУ** *над чым.* Гл. паламаць.

**ПАЛЕЗЦІ Ў ГАЛАВУ** *каму.* Гл. палезці.

**ПАСЫПАЦЬ ГАЛАВУ ПОПЕЛАМ**. Гл. пасыпаць.

**ПАПРАВІЦЬ ГАЛАВУ**. Гл. паправіць.

**ПРАЗ (ЦЕРАЗ) ГАЛАВУ** *каго, чыю. Акал. Разм.* Не папярэдзіўшы каго-н., мінуўшы таго, да каго непасрэдна трэба звяртацца (рабіць, зрабіць што-н.). *Вы эфектна пакінулі перагаворы, ляпнуўшы дзвярыма, і тут жа, праз галаву ўрада аддалі загад аб поўнай дэмабілізацыі.* Губарэвіч. *Усе гэтыя дні Леніну было непрыемна размаўляць з Троцкім, па ўсіх замежных справах ён, цераз галаву наркома, звяртаўся да Чычэрына.* Шамякін. *Навошта ўсё рабіць цераз нашу галаву? Дзе ж дысцыпліна?!* Дуброўскі.

**ПРЫТУЛІЦЬ ГАЛАВУ** *дзе, да каго.* Гл. прытуліць.

**ПРЫХОДЗІЦЬ У ГАЛАВУ** *каму*. Гл. прыходзіць.
**САДЗІЦЦА НА ГАЛАВУ** *каму*. Гл. садзіцца.
**<САМ> ЧОРТ ГАЛАВУ СКРУЦІЦЬ** <*дзе, у чым*>. Гл. чорт.
**СКРУЦІЦЬ <САБЕ> ГАЛАВУ**. Гл. скруціць.
**СКРУЧВАЦЬ ГАЛАВУ** *каму*. Гл. скручваць.
**СТАВІЦЦА З НОГ НА ГАЛАВУ**. Гл. ставіцца.
**СТАВІЦЬ З НОГ НА ГАЛАВУ** *што*. Гл. ставіць.
**СТРЭЛІЦЬ У ГАЛАВУ** *каму*. Гл. стрэліць.
**СТУКНУЦЬ У ГАЛАВУ** *каму*. Гл. стукнуць.
**СУШЫЦЬ ГАЛАВУ**. Гл. сушыць.
**СХІЛЯЦЬ ГАЛАВУ**. Гл. схіляць.
**ТРЫМАЦЬ ВЫШЭЙ ГАЛАВУ**. Гл. трымаць.
**ТУМАНІЦЬ ГАЛАВУ** *каму*. Гл. туманіць.
**УБІВАЦЦА Ў ГАЛАВУ** *каму, чыю*. Гл. убівацца.
**УБІВАЦЬ САБЕ Ў ГАЛАВУ** *што*. Гл. убіваць.
**УБІВАЦЬ У ГАЛАВУ** *каму што*. Гл. убіваць.
**УДАРАЦЬ У ГАЛАВУ** <*каму*>. Гл. ударяць.
**УЗБРЫСЦІ Ў ГАЛАВУ** *каму*. Гл. узбрысці.
**УКЛАДВАЦЬ У ГАЛАВУ** *каму што*. Гл. укладваць.
**У ПЕ́РШУЮ ГАЛАВУ́**. *Акал. Разм.* Першапачаткова, раней за што-н. іншае. **Сін.**: першым дзелам; першым чынам; у першую чаргу. *Гэты астрожны замак у першую галаву кідаецца ў вочы, засланяючы сабою горад.* Колас. *Хараство мовы ў паэзіі ў агульным плане набірае вялікай вагі, і ў першую галаву чыстата яе мусіць быць без заганы і дакору.* Жылка. *Калі што-небудзь здарыцца, майце на ўвазе: у першую галаву будзеце цярпець вы.* Самуйлёнак.
**УРЭЗАЦЦА Ў ГАЛАВУ** *каму*. Гл. урэзацца.
**УСКРУЖЫЦЬ ГАЛАВУ** *каму*. Гл. ускружыць.
**ХАВАЦЬ ГАЛАВУ Ў ПЯСОК**. Гл. хаваць.
**ХАПАЦЦА ЗА ГАЛАВУ**. Гл. хапацца.
**ХМЕЛЬ УДАРЫЎ У ГАЛАВУ** *каму*. Гл. хмель.
**ЦЮКНУЦЬ У ГАЛАВУ** *каму*. Гл. цюкнуць.
**ЧЭМЕР НА ЯГО ГАЛАВУ**. Гл. чэмер.
**ШУКАЦЬ ГУЗА НА СВАЮ ГАЛАВУ**. Гл. шукаць.
**ЯК СНЕГ НА ГАЛАВУ**. Гл. снег.

*ГАЛАВЫ* • **АД МАЁЙ (МАЕ́) ГАЛАВЫ́**. *Дап. Разм.* Ужыв. пры дзеясл. *адкасацца, ісці, пайсці, забраць* і пад., калі гаворыцца пра што-н. непрыемнае, клапатлівае. Ад мяне. *Злавіце як-небудзь, хлопцы, яго [Віктара] ды забярыце ад мае галавы.* Лобан. *— Я быў бы вельмі рады, душка, — лагодна адказаў Сімон, — каб нячыстая сіла ўзяла вас усіх ад маёй галавы!* Самуйлёнак.

**БЕЗ ГАЛАВЫ́**. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Неразумны, тупаваты ці няўважлівы, рассеяны. **Сін.**: без клёпкі ў галаве; без цара ў галаве; з прыветам. **Ант.**: з галавой (у 1 знач.); з царом у галаве (у 1 знач.); светлая галава; у цемя не біты. *Мой [муж] быў, праўда, таксама з прыдурам, але трапяткі да работы... І што ні возьме — сталярку, мулярку, шавецкае. Залатыя рукі! Ды што ж, без галавы.* Брыль. *Ну, ты ведаеш, яна ў мяне стала ўжо зусім без галавы! Учора прасавала мне кофту і жалязкам пляму іржавую пасадзіла!..* Карпюк.

**БРАЦЬ ДА ГАЛАВЫ** <*што*>. Гл. браць
**ВОЛАС З ГАЛАВЫ НЕ ЎПАДЗЕ** *ў каго, з чыёй*. Гл. волас.
**ВУЖ ГАЛАВЫ НЕ ЎТКНЕ**. Гл. вуж.
**ВЫБІВАЦЬ З ГАЛАВЫ** *чыёй, каму што*. Гл. выбіваць.
**ВЫБІВАЦЬ З ГАЛАВЫ** *што*. Гл. выбіваць.
**ВЫБІВАЦЬ З ГАЛАВЫ ДУР** *у каго, чыёй*. Гл. выбіваць.
**ВЫКІДАЦЬ З ГАЛАВЫ** *каго, што*. Гл. выкідаць.
**ВЫЛЯТАЦЬ З ГАЛАВЫ** <*у каго*>. Гл. вылятаць.
**ВЫПАДАЦЬ З ГАЛАВЫ** <*у каго*>. Гл. выпадаць.
**ВЫПУСКАЦЬ З ГАЛАВЫ** *што*. Гл. выпускаць.
**ВЫХОДЗІЦЬ З ГАЛАВЫ** <*у каго*>. Гл. выходзіць.
**ВЫШЭЙ ГАЛАВЫ** *чаго*. Гл. вышэй.
**ГАЛАВЫ НЕ ДАБЯРУ**. Гл. дабяру.
**ГАЛАВЫ НЕ ПРЫКЛАДУ**. Гл. прыкладу.
**З (АД) ГАЛАВЫ́ ДА НО́Г (ДА ПЯ́Т); З НО́Г ДА ГАЛАВЫ́**. *Разм*. **1**. *Акал*. З усіх бакоў; поўнасцю, цалкам. *І ні слёз у мяне, ні голасу, толькі чую, як усю мяне з галавы да ног холадам праймае*. Палтаран. *[Казік] мокры ўвесь ад галавы да пят*. Чарнышэвіч. *Салавей устаў. Толькі цяпер Іван Мазалеўскі разгледзеў яго з ног да галавы*. Грахоўскі.
**2**. *Азн. Часцей ужыв. пасля наз., да якога адносіцца*. Самы сапраўдны, цвёрда перакананы ў чым-н. **Сін**.: да мозгу касцей (у 3 знач.); ні даць ні ўзяць (у 1 знач.); чыстай вады; што ні <на> ёсць (у 1 знач.); як ёсць (у 2 знач.); як мае быць (у 2 знач.). *«Бач, які хітры, халера, гэты Коўзік, — думаў дарогай Віктар. — Антыкукурузнік жа з галавы да пят. І першы алілуйшчык...»* Паўлаў. *Адным словам, гэты чалавек быў гарадскі ад галавы да пят*. Чарнышэвіч.
**ЗАДУРВАННЕ ГАЛАВЫ**. Гл. задурванне.
**ЗАМАРОЧАННЕ ГАЛАВЫ**. Гл. замарочанне.
**ЗБЫЦЬ З ГАЛАВЫ** *што*. Гл. збыць.
*Валіць, звальваць (зваліць), перакладаць (пералажыць), сапхнуць, вярнуць* **З ХВО́РАЙ ГАЛАВЫ́ НА ЗДАРО́ВУЮ**. *Акал. Разм. Неадабр*. З вінаватага на невінаватага. *[Моцкін:] Таварыш Гарошка, не валіце з хворай галавы на здаровую*. Макаёнак. *[Карнейчык:] Няма чаго звальваць з хворай галавы на здаровую...* Крапіва. *Бародка злосна кінуў яму [Стукаву]: — Вам хочацца зваліць з хворай галавы на здаровую...* Шамякін. *Ты, Халімон, з хворай галавы на здаровую не перакладай*. Асіпенка. *— Просіць жа начальства. Абавязкаў далі. — З хворай галавы на здаровую пералажылі абавязкі*. Мысліверц. *Дзічкоўскі смяяўся, успамінаючы, як Косцік выкручваўся, абараняў свайго наводчыка, хацеў справу з «пешкай» сапхнуць з хворай галавы на здаровую*. Алешка. *Пры чым тут фіначка, ды яшчэ і мая? Не вярні з хворай галавы на здаровую*. Машара.
**КАРОНА З ГАЛАВЫ НЕ СПАДЗЕ** *ў каго, каму*. Гл. карона.
**ЛАМАННЕ ГАЛАВЫ**. Гл. ламанне.
**НА ЗЛОМ ГАЛАВЫ**. Гл. злом.
**НА СКРУТ ГАЛАВЫ**. Гл. скрут.
**НЕ ВЫХОДЗІЦЬ З ГАЛАВЫ** <*чыёй, у каго*>. Гл. выходзіць.
**НЕ ЗНАСІЦЬ ГАЛАВЫ** *каму*. Гл. знасіць.
**СА СВАЕ́ ГАЛАВЫ́**. *Дап. Разм*. Складзенае, прыдуманае кім-н. самім (дыктаваць, расказваць і пад.). *Яму [старасту] давялося чуць некалькі разоў, як чыталі кантракты, але ён не хацеў паказваць гэтага: няхай знаюць палешукі, што ён дыктуе сам са свае галавы*. Колас. *А ёсць і такое: — Мама, хочаш, я табе са свае галавы раскажу?* Брыль.

**СТАВІЦЬ З ГАЛАВЫ НА НОГІ** *што.* Гл. ставіць.
**СХАДЗІЦЬ <ДА ГАЛАВЫ > ПА РОЗУМ**. Гл. схадзіць.
**ТЛУМЛЕННЕ ГАЛАВЫ** *каго.* Гл. тлумленне.
**ХМЕЛЬ ВЫЛЕЦЕЎ З ГАЛАВЫ** *ў каго.* Гл. хмель.
**ШАСТОМ ГАЛАВЫ НЕ ДАСТАЦЬ** *у каго, каму.* Гл. дастаць.
**ЯЕЧКА З ГАЛАВЫ НЕ СКОЦІЦЦА**. Гл. яечка.

*ГАЛАСАВАЦЬ* • **ГАЛАСАВА́ЦЬ АБЕ́ДЗВЮМА РУКА́МІ** *за каго, за што. Незак. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. З вялікай ахвотай і поўнасцю падтрымліваць каго-, што-н. **Сін.**: падпісвацца абедзвюма рукамі *пад чым. Я абедзвюма рукамі галасую за цярплівыя адносіны да людзей.* Лобан. *Пішы, Іван, заяву. Абедзвюма рукамі галасую за цябе.* Грахоўскі. — *Мы з мамай гаварылі тут... Дзеці, калі вы не пярэчыце, можа, нам цяпер лепей жыць разам? Усёй сям'ёй. — Я — за! Галасую абедзвюма рукамі. А ты, Каця?* Левановіч. **ПРАГАЛАСАВАЦЬ АБЕДЗВЮМА РУКАМІ** *за каго, за што. Зак.*

*ГАЛАСЫ* • **У СВІНЫ́Я ГАЛАСЫ́** *прыходзіць, пачынаць, выбірацца* і пад. *Акал. Разм. Неадабр.* З вялікім спазненнем. **Сін.**: к шапачнаму разбору; на разбор шапак; на шапачны разбор. *Якраз упору трапіў; ха-ха-ха, якраз явіўся на разбор шапак; прыйшоў, тым часам, браткі мае, у свіныя галасы.* Чорны. *Збегай паглядзі, ці пайшлі ўжо касіць. Будуць валачыцца ў свіныя галасы, каб усе бачылі.* Лобан. *Уставай. Заўсёды ў свіныя галасы выбіраемся...* Карамазаў. *Паспелі і солі некаторыя нацягаць, і газай заліцца. Яна, Ануля, прыбегла ў свіныя галасы.* Гіль.

*ГАЛАЎНЫ* • **ГАЛАЎНЫ БОЛЬ**. Гл. боль.

*ГАЛОВАХ* • **ХАДЖЭННЕ НА ГАЛОВАХ**. Гл. хаджэнне.
**ХАДЗІЦЬ НА ГАЛОВАХ**. Гл. хадзіць.

*ГАЛОВЫ* • **ПАСКРУЧВАЦЬ ГАЛОВЫ** каму. Гл. паскручваць

*ГАЛОДНАГА* • **З ГАЛОДНАГА КРАЮ <ПРЫЕХАЎ>**. Гл. прыехаў.

*ГАЛОДНЫ* • **НА ГАЛОДНЫ ЖЫВОТ**. Гл. жывот.

*ГАЛОПАМ* • **ГАЛО́ПАМ ПА ЕЎРО́ПАХ**. *Акал. Разм. Іран.* Павярхоўна, не сур'ёзна, не ўдаючыся ў дэталі (рабіць што-н.). *Аўтар нават не перагарнуў падручнікі, не кажучы ўжо пра тое, каб прайсціся па іх хоць бы ў сваёй манеры «галопам па еўропах».* Шкраба. *Азнаямленне з горадам вялося, як яны самі жартавалі, галопам па еўропах.* Гурскі. *Чытаючы [такія сказы з вялікай сэнсавай нагрузкай], нельга сабе дазволіць прайсціся па іх «галопам па еўропах».* Нафрановіч.

*ГАЛОЎКУ* • **ПАПРАВІЦЬ ГАЛОЎКУ**. Гл. паправіць.

*ГАЛОЎНЫМ* • **ГАЛОЎНЫМ ЧЫНАМ**. Гл. чынам.

*ГАЛОЎЦЫ* • **ГЛАДЗІЦЬ ПА ГАЛОЎЦЫ** *каго.* Гл. гладзіць.

*ГАЛОШ* • **САДЗІЦЦА Ў ГАЛОШ**. Гл. садзіцца.
**САДЗІЦЬ У ГАЛОШ** *каго.* Гл. садзіць.

*ГАЛЬШТУК* • **ЗАКІДАЦЬ ЗА ГАЛЬШТУК**. Гл. закідаць.
**ЗАЛІВАЦЬ ЗА ГАЛЬШТУК**. Гл. заліваць.
**СТАЛЫ́ПІНСКІ ГА́ЛЬШТУК**. *Адз. і мн. Устар. У ролі розных чл. ск. Разм.* Шыбеніца, пятля. *Лютуюць карныя экспедыцыі, шырока практыкуюцца ваенна-палявыя суды, расстрэлы, шыбеніцы, пакідаючы далёка за сабою эпохі мураўёўскіх шыбеніц і сталыпін-*

*скіх гальштукаў.* Колас. *Краіна пакрылася шыбеніцамі, якія народ называў сталыпінскімі гальштукамі.* Шкраба.

*ГАЛЬШТУКАЎ* • **БЕЗ ГА́ЛЬШТУКАЎ**. *Разм.* **1.** *Азн.* Нефармальная, у неафіцыйных абставінах (сустрэча). *Мы ўжо настолькі звыкліся з неафіцыйнымі, «без гальштукаў» сустрэчамі лідэраў СНД, што адносімся да іх часам, як да снегападу за акном ці чарговага галалёду пасля студзеньскай адлігі.* «ЛіМ».

**2.** *Акал.* У неафіцыйных абставінах (сустракацца).

*ГАМ* • **НА АДЗІН ГАМ** *каму.* Гл. зуб.

*ГАМБУРГСКІ* • **ГАМБУРГСКІ РАХУНАК**. Гл. рахунак.

*ГАМБУРГСКІМ* • **ПА ГАМБУРГСКІМ РАХУНКУ**. Гл. рахунку.

*ГАМОНІЦЬ* • **ГАМО́НІЦЬ (ГАВО́РЫЦЬ) З НЕ́БАМ**; **ГАМАНІ́Ў (ГАВАРЫ́Ў) З НЕ́БАМ**. *Адз. і мн. Азн. Разм. Адабр.* Вельмі высокі, выгоністы (лес, дрэвы, расліны). **Сін.**: шапка валіцца. *А тыя ліпы ці таполі! Такіх не бачылі ніколі, развіслы, тоўсты, сакавіты, гамоняць з небам — паглядзі ты!* Колас. *Цяпер там жыта, як гай, з небам гамоніць.* Грахоўскі. *Не, кажу ім, сам начальнік з рукі ў руку даў [дакумент] пры хлопцах і пры хвоях, што з небам гавораць, — таксама сведках.* Янкоўскі. *Калісь быў у нас тутака лес — з небам гаварыў.* Палтаран.

*ГАМОРА* • **САДОМ І ГАМОРА**. Гл. садом.

*ГАНЕБНАГА* • **ПРЫБІВАЦЬ ДА ГАНЕБНАГА СЛУПА** *каго.* Гл. прыбіваць.

*ГАННА* • **ПАСТУХО́ВА ГА́ННА**. *Мн. не ўжыв. Дзейн. Разм. Іран.* Кожны, нават някемлівы чалавек (разумее, зразумее, зробіць што-н.). **Сін.**: і жук і жаба; кожны сабака; кожны сустрэчны; першы-лепшы (у 1 знач.); першы сустрэчны; сустрэчны <і> папярэчны (у 1 знач.). — *Толькі б ляснуў і нічога болей. — Ну... — Эх, ты... І пастухова Ганна ляснуць можа, а ты, галоўка твая яловая, дадумайся. Разумееш — дадумайся.* Лынькоў. — *Цяпер ні адзін аўтобус за намі не ўгоніцца. — Дык гэта і пастухова Ганна разумее, раз на легкавушцы.* Чыгрынаў.

*ГАНЯЕ* • **БУРА ГАНЯЕ** *каго.* Гл. бура.

*ГАНЯЕЦЦА* • **КРУПІНА ЗА КРУПІНАЙ ГАНЯЕЦЦА З ДУБІНАЙ**. Гл. крупіна.

*ГАНЯЙ* • **ХО́ЦЬ ВАЎКО́Ў (САБА́К) ГАНЯ́Й**. *Толькі ў гэтай форме. Разм.* **1.** *дзе. У безас. ужыв.* Вельмі холадна (у хаце, у памяшканні і пад.). *У бацькавай хаце хоць ваўкоў ганяй, а на дрывотніку ні палена дроў.* Сабаленка. *Нарэшце [дзядзька] прыходзіць да брата. Адчыняе дзверы ў лазню, а там — хоць ваўкоў ганяй: ніхто і не збіраўся на той раз паліць у ёй...* Чыгрынаў. *[Іонаса] кінулі да мяне ў камеру, калі на дварэ стаялі лютыя маразы і ў турме было хоць ваўкоў ганяй.* Місько. *Як вярнуўся я ў вагон, пячурка паспела згаснуць... Хоць сабак ганяй у вагоне.* Шынклер. *Праз паўгадзіны ў пакоі стала хоць сабак ганяй.* Прыгодзіч.

**2.** *Часцей вык.* Ужыв. пры дзейн., выраж. словамі *хата, пакой* і пад. Вельмі вялікі. *З багацця за Янінай засталася вялікая — хоць ваўкоў ганяй — хата і акуты зялёнымі жалезнымі кантамі высокі куфар.* Кудравец. *Крутнуўся Паўлюк — далі ад лесапункта асобны пакойчык у інтэрнаце, у Дубравенцы. Самі прыкінулі: пакой — хоць ваўкоў ганяй, можна два зрабіць.* Карамазаў. *Новая лазня з часам стала занадта раскошнай для Кагутовай радзіны... Пойдуць сем «мужыкоў» у першую чаргу, дык месца — хоць сабак ганяй, і ад гэтай прасторы холадна.* Караткевіч.

*ГАНЯЎ* • **КУДЫ МАКАР ЦЯЛЯТ НЕ ГАНЯЎ**. Гл. макар.

*ГАНЯЦЬ* • **ГАНЯ́ЦЬ ГУСЕ́Й**. *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ісці хістаючыся. Пра п'янага. *Лядзяш, ацяжэлы, лічы, віснуў на Алесевым плячы і, як кажуць, ганяў гусей — хістаўся ўбакі, гроб нагамі зямлю, падаў. Каб кінуў яго, дык і не падняўся б, заснуў тут жа на двары.* Далідовіч. *Бачыце, як ідзе? Пабачце, ужо гусі ганяе, у бакі ходзіць.* Янкоўскі.

**ГАНЯ́ЦЬ САБА́К** <*па чым*>. *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Хадзіць дзе-н., сноўдацца без справы, лодарнічаць. **Сін.**: абіваць бакі (у 2 знач.); адлежваць бакі (у 2 знач.); акалочваць грушы <з вербаў>; біць байды; біць бібікі; біць лынды (у 1 знач.); біць тылылы; брынды біць; валяць дурня (у 2 знач.); вераб'ям дулі паказваць; корчыць гультая; лічыць варон (у 2 знач.); ляжаць на баку; пляваць у столь; сабакам сена касіць (у 1 знач.); сачка даваць. *Маці шыла местачковым паненкам модныя блузкі і сукенкі, а я ганяў сабак па мястэчку, балазе лета, цёпла, добра.* Гарэцкі. — *Я, Амяльянавіч, таксама думаю, што гэта мудра — прывучыць дзяцей да работы, — умяшаўся ў гаворку Вавіла. — Нечага да дваццаці гадоў па вуліцы сабак ганяць.* Кудравец. *Колькі таго лёну на вопытным участку, і той свірэпаю зарос... А дзеці сабак ганяюць.* Гурскі.

**МУ́Х ГАНЯ́ЦЬ** *каму. Незак. Разм. Жарт.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Караць каго-н., небалюча б'ючы, звычайна для выгляду. Пра дзяцей. *Дастаў Ясь каля 30 розаг.. Ясь, напрыклад, казаў, што яму «мухі ганялі», сляды таго «ганяння мух» прывёз нават дамоў з Кіева, і кіеўскі «незабуд» трываў цэлы месяц.* Абуховіч. **ПАГАНЯЦЬ МУХ** *каму. Зак.*

**ЧАРТО́Ў (ЧАРЦЕ́Й) ГАНЯ́ЦЬ**. *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Сурова расправляцца з кім-н., лупцаваць каго-н. **Сін.**: даваць гарту *каму* (у 2 знач.); даваць дыхту (у 2 знач.); даваць жару (у 2 знач.); даваць копаці *каму*; даваць перцу *каму* (у 2 знач.); даваць прыкурыць *каму* (у 2 знач.); даваць пытлю *каму* (у 2 знач.); даваць у косці *каму* (у 2 знач.); даваць у скуру *каму* (у 2 знач.); даваць чапаласу *каму* (у 2 знач.); даваць чосу *каму* (у 2 знач.); даваць па зубах *каму*; даць па карку *каму*; задаваць фефару *каму*; мыліць шыю *каму* (у 1 знач.); намяць бакі *каму*; па сцяне размазаць *каго*; прапісаць іжыцу *каму*; спусціць скуру з каго (у 1 знач.); усыпаць гарачых *каму*. *На добрым падпітку гераізм ягоны праяўляўся з яшчэ большай сілай — і тады ганяў і біў-лупіў ён сваю Апраметную, як сідараву казу... Вяскоўцы толькі спачувальнаківалі галовамі і канстатавалі: «Зноў Героім «чартоў ганяе».* Дзмітрыеў. [*Лепешаў*, с. 79: чорта (чарцей) ганяць.]

*ГАРА* • <**ЯК (БЫЦЦАМ, НІБЫ)**> **ГАРА́ З ПЛЕ́Ч (З ПЛЯЧЭ́Й)** <**ЗВАЛІ́ЛАСЯ (СКАЦІ́ЛАСЯ)**> *у каго, з чыіх. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. адчуў палёгку, пазбавіўшыся ад якіх-н. клопатаў, перажыванняў. **Сін.**: адлягло ад сэрца *ў каго*; адлягло на душы *ў каго*; як камень з плячэй зваліўся *ў каго*; як камень з сэрца зваліўся *ў каго*. *Дубрава вальней уздыхнуў, у яго як гара з плеч звалілася.* Гурскі. *Штруке па тэлефоне далажыў ваеннаму каменданту, што ўсе паравозы падрыхтаваны і могуць адпраўляцца ў рэйсы. У Заслонава нібы гара звалілася з плячэй.* «ЛіМ». *Потым на двары, пастукаўшы ў шыбу, напружана чакаеш, калі пачуецца лёгкі шоргат і жывое варушэнне на печы, і з плячэй быццам гара зваліцца.* Кудравец. *Адужаў нарэшце той экзамен. У самога як гара з плячэй скацілася.* Макарэвіч. *Можа, хутка адновім водаправод, тады з маіх плеч гара зваліцца.* Лынькоў. *Як з плеч звалілася гара, дык дружна крыкнулі «Ура-а-а!» І быў такі магутны гук, што аж не вытрымалі сцены.* Крапіва. *Мне чамусьці радасна ад таго,*

*што Кірыла такі няўклюдны. Як гара з плеч! На такога дзяўчаты заглядацца не стануць.* Асіпенка. *Я так рада — скончыўся навучальны год. Быццам гара з плеч.* Леванові́ч. *Пракурор пасвятлеў. Гара з плячэй.* Аношкін.

*ГАРАДЗІ* • **<ХО́ЦЬ> ПЛО́Т ГАРАДЗІ́** *кім, каго. Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм. Іран.* Вельмі многа, у вялікай колькасці. Пра людзей. **Сін.**: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго* >; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да лыса (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на воловай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. Падумаеш, хіба толькі ён адзін — хлапцамі плот гарадзі.* Лынькоў. *Нешта не туды, здаецца, лезе ён [Мар'ян] з гэтымі дай-вазьмі. І тых, і другіх развялося сёння хоць плот гарадзі.* Казько.

*ГАРАДЗІЦЬ* • **АГАРО́Д (ГАРО́Д) ГАРАДЗІ́ЦЬ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Задумваць ці распачынаць якую-н. клапатлівую справу. **Сін.**: заварваць кашу; нарварыць піва. **Ант.**: расхлёбваць кашу. *Вайна пакуль складваецца няўдала, Надзя. Сама разумееш. Ніхто не думаў, што будзе так. Але трэба ведаць, што выстаім. Інакш нечага агарод гарадзіць.* Навуменка. *А з камендантам гарнізона патрэбна было пабачыцца пры ўсіх абставінах. Інакш — для чаго было агарод гарадзіць, пачынаць перагаворы.* Місько. *— Ці ты спадзяешся, што Наста дазволіць яму [Хіжняку] забраць дачку дамоў? — Цяжка загадзя прадугледзець... Таму і не варта гарод гарадзіць, рызыкаваць здароўем дзіцяці.* Мяжэвіч.

**ГАРАДЗІ́ЦЬ ПЛО́Т** <*каму*>. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выкручваючыся ў размове, гаварыць глупства, выдумляць што-н. **Сін.**: араць дарогі; біць язык аб зубы (у 2 знач.); блынды правіць; званіць у <разбіты> лапаць; круціць вала <за хвост > (у 2 знач.); ліць ваду; мазоліць язык; малоць языком (у 1 знач.); малоць не падсяваючы; мянціць языком; пераліваць з пустога ў парожняе (у 2 знач.); плесці кашалі <*каму пра каго, пра што*>; плесці кашалі з лапцямі; плесці лапці; пляскаць языком; разводзіць антымоніі; разводзіць тары-бары; тары-бары <растабары> (у 2 знач.); таўчы ваду ў ступе (у 2 знач.); тачыць лясы <*з кім*>; травіць баланду (у 1 знач.); трапаць языком; часаць язык (у 1 знач.); часаць языком. *[Марыля:] Э! пачала ўжо плот гарадзіць... Сказала б адразу, што прадалася ў злыдневы рукі самахоць — і ўсё тут табе.* Купала.

*ГАРАМ* • **ГАРЫ ЁН ГАРАМ**. Гл. гары.

*ГАРАМІ* • **НЕ ЗА ГАРА́МІ (НЕ ЗА ГАРО́Й)**. *Вык. Функц. не зам.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Блізка, недалёка, побач знаходзіцца што-н. **Сін.**: адзін крок *ад чаго да чаго*; за два крокі *ад каго, ад чаго*; за плячамі *каго, у каго* (у 2 знач.); пад бокам

(у 1 знач.); пад рукамі (у 2 знач.); пад рукой (у 2 знач.); пад <самым> носам *у каго, чыім, каго*; перад вачамі <*чыімі*>; перад носам <*каго, чыім*>; рукой падаць *да чаго. Чаму ён [Міша] хоць напаследак не сказаў, што так хочацца бачыць яе [Полю]? А, урэшце, яе хутар не за гарамі.* Арочка. *Да змроку ён [дзед] ва Ўрэччы, і дом не за гарой... Рашыўся. Мех за плечы і ўрэзаў пехатой.* Лужанін.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Скора, неўзабаве, у хуткім часе наступіць, адбудзецца што-н. **Сін.**: на носе; на парозе (у 1 знач.). *Былыя сябры і самы блізкі з іх, Янка, зараз думаюць, як замацавацца ў якой-небудзь школе — восень не за гарамі.* Колас. *І можна не сумнявацца, што міжнароднае прызнанне Багдановіча ў маштабах непараўнальна большых, чым сёння, не за гарамі.* Гілевіч. *[Марыля:] Лета не за гарою, скора касьба пачнецца, жніво, работы гібель, а ты ляжы тут прыкаванай да ложка, як пакутніца якая.* Купала. *Не за гарой шчаслівыя вякі, ужо чуваць іх песні і гамонкі.* Пушча.

*ГАРАЦЬ* • **ЗУБЫ ГАРАЦЬ** *у каго на што.* Гл. зубы.

*ГАРАЧАЙ* • **У ГАРАЧАЙ ВАДЗЕ КУПАНЫ**. Гл. купаны.
**ЯК УЮН НА < ГАРАЧАЙ > ПАТЭЛЬНІ**. Гл. уюн.

*ГАРАЧАЯ* • **ГАРАЧАЯ ГАЛАВА**. Гл. галава.
**ГАРАЧАЯ ГАЛАВА** *ў каго.* Гл. галава.

*ГАРАЧКУ* • **ПАРОЦЬ ГАРАЧКУ**. Гл. пароць.

*ГАРАЧУЮ* • **АСТУДЗІЦЬ ГАРАЧУЮ ГАЛАВУ**. Гл. астудзіць.
**ПАД ГАРАЧУЮ РУКУ**. Гл. руку.

*ГАРАЧЫМ* • **НА ГАРА́ЧЫМ** *злавіць, захапіць* і пад. *Акал. Разм. Ужыв. пры дзеясл.-вык. зак. тр.* Пры яўных доказах, у момант учынення чаго-н. заганнага. **Сін.**: на месцы злачынства. *Не буду казаць і пра тое, як я быў сувязным. Для мяне, дванаццацігадовага падлетка, гэта было — у параўнанні з сувязнымі дарослымі — лічы, што бяспечна. Калі, вядома, не спаймаюць на гарачым.* Караткевіч. *[Цыбуля] калі спаймае кагось на гарачым, на глушэнні рыбы, на вытраўленні яе борным квасам, — проста б'е па мордзе.* «Маладосць».
**ЯК НА < ГАРАЧЫМ > ВУГОЛЛІ**. Гл. вуголлі.

*ГАРАЧЫХ* • **ПА ГАРАЧЫХ СЛЯДАХ** <*чаго*>. Гл. слядах.
**УСЫПАЦЬ ГАРАЧЫХ** *каму.* Гл. усыпаць.

*ГАРБЕ* • **ВЫЯЗДЖАЦЬ НА ГАРБЕ** *чыім.* Гл. выязджаць.
**СЯДЗЕЦЬ НА ГАРБЕ** *чыім, у каго, каго.* Гл. сядзець.

*ГАРБОМ* • **СВАІ́М ГАРБО́М**. *Акал. Разм.* Непасрэднай цяжкай працай (жыць, нажываць, здабываць і пад.). **Сін.**: сваім мазалём. *Не было ў нашым родзе людзей, якія з чужога мазаля жывіліся, кожны здабываў хлеб сваім гарбом.* Лынькоў. *Вось падумайце аб тым, чаму Якаў той святы. Мо таму, што меў рабоў, не рабіў сваім гарбом?* Крапіва. — *Ну, мне чужога не трэба, ніколі не браў, — падумаўшы адказаўВаўчок. — Сваім гарбом усё нажыву.* Дзятлаў.

*ГАРБУЗ* • **АТРЫМЛІВАЦЬ ГАРБУЗ**. Гл. атрымліваць.
**ДАВАЦЬ ГАРБУЗ** *каму.* Гл, надаваць.

*ГАРБУЗОЎ* • **НАДАВАЦЬ ГАРБУЗОЎ** *каму.* Гл. надаваць.

*ГАРМАТНАЕ* • **ГАРМАТНАЕ МЯСА**. Гл. мяса.

*ГАРМАТНЫ* • **НА ГАРМАТНЫ СТРЭЛ**. Гл. стрэл.

*ГАРМАТЫ* • **СТРАЛЯЦЬ З ГАРМАТЫ ПА ВЕРАБ'ЯХ**. Гл. страляць.

*ГАРОД* • **ГАРОД ГАРАДЗІЦЬ**. Гл. гарадзіць.
**КАМЕНЬЧЫК У ГАРОД** *чый*. Гл. каменьчык.

*ГАРОЙ* • **ЗА ДЗЕСЯ́ТАЙ ГАРО́Й** *апынуцца, быць* і пад. *Акал. Разм.* Вельмі далёка. **Сін.**: блізкі свет; за светам; за трыдзевяць зямель; на краі свету; у віру на калу; у чортавых зубах; у чорта на кулічках; у чорта на рагах; у чорта ў зубах. *Яўген разважаў, ідучы за плугам: — От жа ідзе [жонка]. От жа смешыць людзей... Як толькі не пазырыць бацька: каб аж за дзесятаю гарою апынулася. Яна хоча, каб я па яе пайшоў.* Баранавых. *Аб чым ні гаварылі за сталом, а думкі кожнага яшчэ беглі наўздагон за сябрамі, якія ўжо, мабыць, за дзесятай гарой апынуліся.* Машара.
**НЕ ЗА ГАРОЙ**. Гл. гарамі.
**СТАНАВІЦЦА ГАРОЙ** *за каго, за што*. Гл. станавіцца.
**СТАЯЦЬ ГАРОЙ** *за каго, за што*. Гл. стаяць.

*ГАРОХ* • **ЯК (БЫ) ГАРО́Х ПРЫ ДАРО́ЗЕ**. *Акал. Разм.* **1**. Ненадзейна, трывожна, з неспакоем (жыць). *Людзі жылі як гарох пры дарозе, людзі жылі ў штодзённай трывозе.* Дубоўка. *Ды якое там жыццё, Іван Яфімавіч... Жыву як гарох пры дарозе.* Васілевіч. **2**. Адзінока і без догляду (расці, заставацца, жыць і пад.). **Сін.**: на лес гледзячы (у 2 знач.). *Сам Радзівон жыве як гарох пры дарозе, без дагляду, без усякае, як той казаў, сталасці: от жыве сабе.* Чорны. *Даглядаць мяне не было каму. Маці чужая, а бацька — чалавек пануры, без літасці. І рос я сам па сабе, як гарох пры дарозе.* Адамчык. *А я меншага свайго з войска чакаю. Пакуль што адна — як гарох пры дарозе...* Семашкевіч. *Сіроткі вы мае няшчасныя! Засталіся вы цяпер адны, бы гарох пры дарозе...* Праскураў.
**ЯК ЧОРТ ГАРОХ МАЛАЦІЎ** *на чым*. Гл. чорт.
**ЯК (ШТО́) ГАРО́Х АБ СЦЯНУ́ (АБ СЦЕ́НКУ)** *каму, для каго. Часцей у знач. дзеясл.-вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Нічога не дзейнічае на каго-н. **Сін.**: як пугай па вадзе (у 1 знач.). *Грушка даводзіў Марыі, што капелюшы ёй непатрэбны, што яны ёй не да твару... Гэтыя довады былі Марыі як той гарох аб сцяну.* Пестрак. *[Каляда:] Месяц гавару Журу, каб адрамантаваў дах у інтэрнаце мантажнікаў — як гарох аб сцяну! Абяцае, а не робіць!* Васілеўскі. *Некалькі пакупнікоў са мной згадзіліся, заківалі галовамі, а для астатніх мае словы былі — што гарох аб сцяну.* Саламаха.
<u>Адскокваць, адлятаць</u> **ЯК (ШТО́) ГАРО́Х АД СЦЯНЫ́ (АД СЦЕ́НКІ)**. *Акал. Разм. Неадабр.* Безвынікова для каго-н. *Што ж, выходзіць, кленічы не маюць ніякай сілы? Яны адскокваюць ад пана як ад сцяны гарох.* Якімовіч. *[Гаворка:] Ды гаварыў я вам сто разоў, чэрці таўстаскурыя! Ды ад вас — што гарох ад сцяны.* Шамякін. *Ды хіба з ім пагаворыш? Бацькавы словы ад яго як гарох ад сценкі* Гіль.

*ГАРОХАВАЕ* • **ПУДЗІЛА ГАРОХАВАЕ**. Гл. пудзіла.

*ГАРОХАМ* • **БОБ З ГАРОХАМ**. Гл. боб.
**ЗА ЦАРОМ ГАРОХАМ**. Гл. царом.

*ГАРОХУ* • **ПРЫ ЦАРУ ГАРОХУ**. Гл. цару.

*ГАРТУ* • **ДАВАЦЬ ГАРТУ** *каму*. Гл. даваць.

*ГАРУ* • **ГАРУ ВЯРНУЦЬ** *на каго*. Гл. вярнуць.
**ЗА ДЗЕСЯ́ТУЮ ГАРУ́** <u>*ехаць, трапіць, закінуць*</u> і пад. *Акал. Разм.* Вельмі далёка. **Сін.**: дзе макар козы пасе (у 1 знач.); за блізкі свет; за свет; за свет вочы; куды крумкач кас-

цей не заносіў; куды макар цялят не ганяў (у 1 знач.); к чорту на рогі; на край свету (у 1 знач.). *Гэтыя гаротныя сярмяжнікі прыпаміналі яму бацькоў і панурую вёску, закінутую, як камок гразі, за дзесятую гару.* Галубок. *Што там [Янінаму бацьку] каштавала як след папрасіць падпалкоўніка закінуць жанішка-самазванца куды-небудзь за дзесятую гару, каб яго адтуль і бура не прынесла.* Ветах.

**НА КУДЫ́КІНУ ГАРУ́**. *Акал. Праст.* А табе не ўсё роўна? Ужыв. як ухіклівы адказ на пытанне: «Куды ідзеш (едзеш і пад.)?» — *Куды гэта вы?.. — Анікуды!.. — Так ужо і нікуды?.. — Ну, тады на кудыкіну гару, — для адчэпкі сказала Дуня Пракопкіна...* Чыгрынаў. — *Куды ты? Куды... вы?! — заскочыў наперад машыне Іван Іванавіч, падняў абедзве рукі. Нібы мячык хацеў злавіць. Дзверцы адчыніліся. — На кудыкіну гару!* Міська. *Запрог каня ў калёсы і наш бацька. Прывязаў да драбіны карову і паехаў. На пытанне мамкі «Куды?» — суха адказаў: — На кудыкіну гару.* Жычка. — *Куды гэта яны нас, дзядзька? — На кудыкіну гару, — горка ўсміхнуўся ён і заскакаў шпарчэй.* Сяркоў. — *Куды вы хадзілі? — На кудыкіну гару.* Аношкін.

**ЯК НА КАМЕННУЮ ГАРУ**. Гл. сцяну.

*ГАРШКА* • **АД ГАРШКА ПАЎВЯРШКА**. Гл. паўвяршка.

*ГАРШКІ* • **МЯНЯЦЬ ГАРШКІ НА ГЛІНУ**. Гл. мяняць.

*ГАРШКУ* • Кіпіць **ЯК У ГАРШКУ́ (У КАТЛЕ́)**. *Акал. Разм.* Імкліва і бесперапынна. *Там, дзе гушчар быў і балота, — муры глядзяцца ў раку, зіяюць вежы пазалотай, жыццё кіпіць як у гаршку.* Купала. *У гарадку цяпер усё кіпела як у катле.* Чорны. *Вы чалавек бывалы, самі ведаеце, што робіцца на свеце. Кіпіць як у гаршку.* Брыль. — *Свет кіпіць як у гаршку. На, чытай во, — Вайтовіч, азіраючыся на Міцю, выцягнуў з доўгае кішэні свайго суконнага паўшубка і кінуў на стол скручаныя ў некалькі столак газеты.* Адамчык.

*ГАРШЧОК* • **ПАД ГАРШЧО́К** падстрыгаць (падстрыгчы). *Акал. Разм.* Роўнай лініяй вакол галавы. *Некалі залівалася над вадою пастухоўская дудка хлопца ў лазовых лапцях, падстрыжанага «пад гаршчок».* Пестрак. *Аброс валоссем — страх. Старая падстрыгла пад гаршчок — ладна.* Пянкрат.

*ГАРЫ* • **ГАРЫ́ ЁН (ЯНА́, ЯНО́, ЯНЫ́) ГА́РАМ**. *Выкл. Праст.* Выказванне моцнага раздражнення, прыкрасці, абурэння чым-н. **Сін.**: каб пуста было *каму*; ні дна ні пакрышкі *каму, чаму;* прападзі пропадам *што, хто. Гары яно гарам! Тут заржавела ўсё, ключ дзвюма рукамі не павярнуць.* Міська. *[Валік] пойдзе туды, пойдзе дамоў, пагаворыць з бацькам — і гары яны гарам, шэсцьдзесят рублёў гэтыя.* Радкевіч.

**ПА ГАРЫ ХАДЗІЦЬ І СОНЦА НЕ БАЧЫЦЬ**. Гл. хадзіць.

*ГАРЫЗОНТА* • Знікаць, прападаць **З ГАРЫЗО́НТА** *чыйго, якога. Акал. Разм.* З пэўнага грамадства, з кола знаёмых, блізкіх і пад. **Ант.**: на гарызонце. *Маклэй нечакана знік з гарызонта. Праўда, знікненне гэта мела некалькі загадкавы характар. Жыў чалавек, працаваў чалавек, і раптам не стала чалавека.* Лынькоў. — *Танечка! — узрадавалася Вера, — сто лет, сто зім, як той казаў, прапала ты з майго гарызонта, учора я табе званіла, але цябе не было дома.* Арабей. *Выдалі поўны збор. Выдалі, хацелі павіншаваць аўтара і здзівіліся. Овіч раптам знік з сталічнага гарызонта.* «Вожык».

*ГАРЫЗОНЦЕ* • З'яўляцца (з'явіцца), паказвацца (паказацца) і пад. **НА ГАРЫЗО́НЦЕ**. *Акал. Разм.* Сярод знаёмых, блізкіх і пад. **Ант.**: з гарызонта *чыйго, якога. [Аўяр'ян:] Жыве на свеце жанчына. З мужам. Шэрым, невыразным жыццём. Але вось на гарызонце з'яўляецца постаць...* Дзяленд зік. *Сам Віцька Радзюк паказаўся на гарызонце.* Хадке-

віч. *Зайшоў Майбарада і ўрачыста паведаміў: — Таварыш камандзір! На гарызонце — камісар і разведчыкі.* Шамякін.

*ГАРЫЦЬ* • **ВОКА ГАРЫЦЬ** *у каго на што.* Гл. вока.

**ГАЛАВА ГАРЫЦЬ** *у каго.* Гл. галава.

**ГАРЫ́ЦЬ (ГАРЭ́ЛА) У РУКА́Х** *чыіх, у каго. Незак. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Выконваецца хутка і добра. Пра справу, работу і пад. *Як сказаў паважаны пан Штрыпке, з заўтрашняга дня становішся на работу. Але глядзі, каб работа, як гэта гаворыцца, гарэла ў руках.* Лынькоў. *Возьмецца [Клаўдзя] што рабіць, дык зробіць. І не абы-як. Усё ў руках у яе гарыць.* Сачанка. *Работа, як кажуць, гарэла ў яе [Кацiных] руках.* Далідовіч.

**ДУША ГАРЫЦЬ** *чыя, у каго.* Гл. душа.

**ЗУБ ГАРЫЦЬ** *у каго на што.* Гл. зуб.

**ЗЯМЛЯ ГАРЫЦЬ ПАД НАГАМІ** *каго, у каго, чыімі.* Гл. зямля.

**<І> У АГНІ́ НЕ ГАРЫ́ЦЬ І Ў ВАДЗЕ́ НЕ ТО́НЕ.** *Незак. Часцей у 3-й ас. адз. і мн. Разм. Часцей адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нідзе не прападае, выбіраецца з любых абставін. *Валера глядзеў на гэтага баявога рухавага хлопца і ніяк не мог уявіць, колькі ж яму год. Звычайна такія вясёлыя кампанейская хлопцы, як гаворыцца, і ў агні не гараць і ў вадзе не тонуць...* Гігевіч. *— Цэлы, глядзі! — пасмяяўся Шульц. — Вам пашанцавала. — У агні не гарымо, як кажуць, і...* Гартны. *У рамане Андрэя Мрыя на першым плане выразна пададзены характар, надзвычай жывучы сацыяльны тып, які, што называецца, і ў вадзе не тоне і ў агні не гарыць.* Лецка. **<І> У АГНІ НЕ ЗГАРЫЦЬ І Ў ВАДЗЕ НЕ ПАТОНЕ (НЕ ЗАТОНЕ).** *Зак. Хлопец з тых, пра каго кажуць: «І ў агні не згарыць і ў вадзе не патоне».* «ЛіМ». *— Якія там жарты, калі шукалі [Прузыну] увесь дзень і не знайшлі.. — Э-э-э, такое дабро і ў агні не згарыць і ў вадзе не затоне, — махнуўшы рукой, сказала Зося.* Ядвігін Ш.

**КРОЎ ГАРЫЦЬ У ЖЫЛАХ** *чыіх.* Гл. кроў.

**ЛІХА ГАРЫЦЬ** *з каго, праз каго.* Гл. ліха.

**НЕ ГАРЫ́ЦЬ** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Няма ніякіх прычын спяшацца. **Сін.**: дождж за карак не лье; за шыю не капае; не капае *над кім, над чым*; не на пажар; паспееш з козамі на торг. *Татка ж не гоніць яе. Ён цяпер такі добры з ёю! «Пагуляй, ты, кажа, Ядвіська: не гарыць жа там у цябе!»* Колас. *Чэрныш таксама можа пачакаць, і ў яго не гарыць.* Галавач. *— Я ж ужо пра пастаноўку, каб на сцэну даць пуцёўку, думаў сёння гаварыць. — Пачакаем. Не гарыць.* Крапіва.

**НІ ГАРЫ́ЦЬ НІ ТЛЕ́Е.** *Незак. Цяп. і пр. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Не ладзіцца, не атрымліваецца. **Сін.**: не куецца, а плешчацца; ні куецца <і> ні плешчацца. *[Жора:] Ух, язва! Ні гарыць ні тлее. Ад такіх толькі чад, нуда на свеце.* Васілеўскі. *Работа на полі ні гарэла ні тлела.* Асіпенка.

**НУТРО ГАРЫЦЬ** *чыё, у каго.* Гл. нутро.

**СВЕТ ГАРЫЦЬ** *з каго, праз каго, з-за каго.* Гл. свет.

**СКУРА ГАРЫЦЬ** *на кім.* Гл. скура.

**СЫР-БОР ГАРЫЦЬ** *з-за каго, з-за чаго, праз каго, з чаго.* Гл. сыр.

**ЯК МОКРАЕ ГАРЫЦЬ.** Гл. мокрае.

**ЯК НА АГНІ́ ГАРЫ́ЦЬ** *на кім. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн., які абазначае назвы адзення, абутку. Вельмі хутка рвецца, зношваецца. *[Ніна Паўлаўна:] Як на агні гарыць! Як на агні!.. Месяц назад купіла — і ўжо на табе! Гатова! І ўсё праз гэты хакей з футболам.* Гілевіч. *Як высыпле тая армія [дзяцей] на коўзалку, то ні адзежа не дзержыць, ні чаравікі — усё як на агні гарыць.* Палтаран. *Я паабяцаў сабе не быць такім*

*блазнам-свавольнікам, бо мяне вечна дакарала мама, што на мне ўсё гарыць як на агні.* Кухараў.

*ГАРЭЛЦЫ* • **МОКНУЦЬ У ГАРЭЛЦЫ**. Гл. мокнуць.

*ГАРЭЦЬ* • **ГАРЭ́ЦЬ АГНЁМ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць у стане гарачкі, ліхаманкі. Пра хворага. *Абулася [доктарка] у валёнкі і хутчэй з хаты. Вось толькі куды, у якую вёску, не паспела спытаць. Ды і не было калі пытацца — хлопчык жа агнём гарыць.* Гроднеў. *Хаіміха, золатца, родненькая... Сымонка мой захварэў. Агнём гарыць хлопчык.* Бядуля.

**ГАРЭ́ЦЬ СІ́НІМ ПО́ЛЫМЕМ (АГНЁМ)**. *Незак. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Знаходзіцца пад пагрозай невыканання, зрыву. *Спяшаліся і тое-сёе недарабілі. А тут якраз трэба заказчыку адпраўляць партыю новых вырабаў. А як пашлеш, калі недаробкі? Гарыць сінім полымем план рэалізацыі.* Мяжэвіч. *[Іван Мікалаевіч:] І хто ж табе дасць прэміі?! Міна Лаўравіч, нас можна зразумець — мы гарым сінім полымем. Без стымулаў мы...* Петрашкевіч.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Псавацца, станавіцца непрыгодным. **Сін**.: выбываць са строю (у 2 знач.). **Ант**.: уступаць у строй. *У горадзе асфальт, абутак на ім сінім агнём гарыць. Дзіўна, як ногі вытрымліваюць.* Супрунчук.

*ГАСПАДАР* • **ГАСПАДА́Р СВАЙГО́ СЛО́ВА (СВАЙМУ́ СЛО́ВУ)**. *Адз. і мн. Часцей вык. Функц. не зам. Адабр.* Чалавек, у якога слова не разыходзіцца са справай. *[Андрэй:] Будзеш рабіць тое, за што прагаласаваў. Трэба быць гаспадаром свайго слова.* Матукоўскі. *Коласу патрэбен быў памочнік: граматны — гэтай умове я адпавядаў, з пэўным літаратурным густам — у ім мне таксама не адмаўлялі; гаспадар свайму слову: сказана — зроблена; апошнюю якасць дапамог развіць Канстанцін Міхайлавіч.* Лужанін. *[Язэп:] Сумленне заела: паабяцаў — павінен быць гаспадаром свайму слову.* Чарнышэвіч.

**САМ САБЕ ГАСПАДАР**. Гл. сам.

*ГАСПАДЫНЯ* • **САМА САБЕ ГАСПАДЫНЯ**. Гл. сама.

*ГАТОВА* • **РАЗ-ДВА І ГАТОВА**. Гл. раз.

*ГАТУНАК* • **ПЕРШЫ ГАТУНАК**. Гл. сорт.

*ГАЎ* • **ГА́Ў ДЫЙ ЗУ́БЫ СЦЯ́Ў**. *Незак. Толькі ў гэтай форме. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Хто-н. не даводзіць пачатага да канца. *Стары правільна кажа: кідаемся ва ўсе бакі, а пэўнасці няма. То дазваляем, то забараняем, што дазволілі. Гаў дый зубы сцяў...* Карпаў.

*ГАЎКАЛА* • **ЗАТКНІ ГАЎКАЛА**! Гл. заткні.

*ГАЦІ* • **ХО́ЦЬ ГА́ЦЬ ГАЦІ́** *каго, чаго, кім, чым. Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм.* Вельмі многа. Пра людзей і неадуш. прадметы. **Сін**.: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па

<самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; *у* кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго*. *Мая Хімка — таўкач таўкачом засталася. Усё выбірала, чакала нечага. На табе, дачакалася! Баб цяпер хоць гаць гаці.* Грахоўскі. *[Бацька:] Вакол нас ворагаў хоць гаць гаці. Яны толькі таго і чакаюць, каб на нас зноў хамут усцягнуць.* Бяганская. *Шчыра кажучы, такімі персанажамі хоць гаць гаці.* «Полымя».

*ГАЦЬ* • **ХОЦЬ ГАЦЬ ГАЦІ** *каго, чаго, кім, чым.* Гл. гаці.

*ГВАЗДОМ* • **СЯДЗЕЦЬ ГВАЗДОМ У ГАЛАВЕ** *каго, чыёй.* Гл. сядзець.

*ГВАЛТ* • **НА ГВА́ЛТ**. *Акал. Разм.* **1**. Няўхільна, неадкладна, абавязкова (трэба рабіць што-н.). *Або насоўваецца, скажам, хмара навальнічная, дзядзьку Арэсю трэба на гвалт спяшацца па ячмень, які і не звязаны, у жменях ляжыць...* Брыль. *Званцом шастае ўжо сенажаць, цецярэе жытцо і ячмень; час на гвалт і касіці, і жаць: не на тое настаў Пятроў дзень.* Купала.

**2**. Па дапамогу пры небяспецы (крычаць, галасіць і пад.). *Бадай ты спрахла! Дзе ж дарога? На гвалт крычы гарадавога!* Колас. *Карэспандэнцыі з краю смешныя, літаратура — або казкі пра скарбы ды пра Паўлаў святых, або на манер Каганца на гвалт крычыць, каб не пакідалі сваёй шэрай апраткі і лапцей...* Рублеўская.

**ХОЦЬ <ТЫ> ГВАЛТ КРЫЧЫ**. Гл. крычы.

*ГЕАГРАФІЯЙ* • **ГІСТОРЫЯ З ГЕАГРАФІЯЙ**. Гл. гісторыя.

*ГЕНЕРАЛ* • **ВЯСЕ́ЛЬНЫ ГЕНЕРА́Л**. *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм. Іран.* Вядомая, важная асоба, запрошаная на якую-н. імпрэзу з мэтай надаць значнасць гэтай падзеі. *Пытанне пра падбор гасцей таксама адпадае: Любан — дырыжор, Вольфсан і Ляўкоў — на ролях вясельных генералаў.* «Крыніца». *Нібы вясельны генерал, ён узнікае на тэлеэкране па любой прычыне і без яе, даючы гледачам глыбакадумныя парады і настаўленні...* Кірэенка. *У заключэнне Іван Чыгрынаў уручыў пасведчанні выпускнікам... Напачатку запярэчыў: — Гэта ж роля вясельнага генерала.* «ЛіМ».

*ГЕНІЙ* • **ДО́БРЫ ГЕ́НІЙ** *чый, каго. Мн. не ўжыв. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Чалавек, які аказвае на каго-н. дабратворны ўплыў, прыносіць каму-н. карысць. **Ант.**: злы геній *чый. [Жарэс Ляхоўскі] зноў усміхнуўся: — Ты мой добры геній, я гэтага чакаў.* Дамашэвіч. *Мой добры геній — Яхімчык. Калі старшага блізка няма, дазваляе мне праехаць трошку на яго двухколцы...* Гарэцкі. *Добры геній нашай сям'і — сястра маёй маці.* «Полымя».

**ЗЛЫ ГЕ́НІЙ** *чый. Мн. не ўжыв. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Чалавек, які аказвае на каго-н. дрэнны ўплыў, прыносіць каму-н. шкоду, зло. **Ант.**: добры геній *чый. [Антаніна Пятроўна:] Спадзяюся, што шкоды табе не было ад майго таленту? [Сухадольскі:] Як сказаць. Можа, і я часамі глядзеў на рэчы тваімі вачамі. [Антаніна Пятроўна:] Злы геній твой.* Крапіва. *[Ліза:] Я сёння сама сумная! Мама мае незвычайную здольнасць псаваць настрой. Яна ў гэтым пытанні злы геній.* Шлег.

*ГЕРКУЛЕСАВЫ* • **ГЕРКУЛЕСАВЫ СЛУПЫ** *чаго.* Гл. слупы.

*ГЕРКУЛЕСАВЫХ* • **ДА ГЕРКУЛЕСАВЫХ СЛУПОЎ** *даходзіць* і пад. Гл. слупоў.

*ГІБЕЛІ* • **ДА ГІ́БЕЛІ** *каго, чаго. У безас. ужыв. Разм.* Вельмі многа. Пра адуш. і канкр. прадметы. **Сін.**: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да леса (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. За Сырніцай — крумкачы, вужы і дзікі. І грыбоў да гібелі...* Пташнікаў. *Бач, колькі сена накасілі. Да гібелі.* Воранаў. *Як травы да гібелі, то і дурань напасе...* Місько.

**НА КРАІ ГІБЕЛІ**. Гл. краі.

*ГІБЕЛЬ* • **ЧО́РТАВА ГІ́БЕЛЬ** *каго, чаго. У безас. ужыв. Разм.* Вельмі многа, у вялікай колькасці. Пра людзей ці неадуш. прадметы. **Сін.**: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. А даўней шмат пастоў людзі зналі і вялікіх шэсць тыдняў пасцілі ды дробных пастоў усякіх розных яшчэ была чортава гібель: пятроўскі, спасаўка, пiлiпаўка ды штотыдня серада з пятніцаю.* Калюга. *Там іх [зайцаў] чортава гібель сабралася.* Юрчанка.

*ГІЗУНТЫ* • **ДАСТАВАЦЬ ГІЗУНТЫ** *з каго.* Гл. даставаць.

**УСЕ ГІЗУНТЫ ПАВЫЦЯГВАЦЬ** *з каго.* Гл. павыцягваць.

**ЦЯГНУЦЬ ГІЗУНТЫ** *з каго.* Гл. цягнуць.

*ГІЛЬДЫІ* • **ПЕ́РШАЙ ГІ́ЛЬДЫІ**. *Азн. Разм.* Ужыв. пры наз. са знач. асобы. **1**. *Адабр.* Найвышэйшай якасці, адметны (майстар, штукар і пад.). **Сін.**: адным словам[1]; без сучка і <без> задзірынкі (у 2 знач); будзь-будзь (у 2 знач.); будзь здароў (у 4 знач.); дай

бог (у 2 знач.); дай бог кожнаму (у 1 знач.); дзякуй богу (у 2 знач.); за маё-маё (у 2 знач.); за маліну (у 3 знач.); з бляскам (у 2 знач.); кругом сто дваццаць; на славу (у 2 знач.); на ўсе рукі; на ўсе сто (у 3 знач.); на яць (у 2 знач.); па крайняй меры (у 2 знач.); пальчыкі абліжаш (у 2 знач.); пашукаць такога; першай рукі (у 1 знач.); першы клас; першы сорт; разлюлі-маліна (у 1 знач.); рэдкай рукі; слава богу (у 2 знач.); хоць куды (у 1 знач.); хоць на выстаўку <вязі>; што трэба (у 2 знач.); як яечка. — *А чыя ж то скрыпка гэта? — зноў спытаўся гаспадар. — А яго! О, грацьён мэта: першай гільдыі штукар!* Колас.

**2.** *Неадабр.* Самы заўзяты, з крайнім праяўленнем якіх-н. якасцей (махляр, дармаед і пад.). **Сін.**: вышэйшай маркі; з вялікай дарогі; першай рукі (у 2 знач.). *А тое, што я цябе, абібока, трымаю на ўчастку, дык гэта правільна? Ты ж дармаед першай гільдыі.* Супрунчук.

*ГІМЕНЕЯ* • **ЗВЯЗВАЦЬ СЯБЕ ВУЗАМІ ГІМЕНЕЯ**. Гл. звязваць.

*ГІСТОРЫІ* • **ВЫКІДАЦЬ НА СМЕТНІК ГІСТОРЫІ** *каго, што.* Гл. выкідаць.

**ПАВЯРНУЦЬ КОЛА ГІСТОРЫІ НАЗАД**. Гл. павярнуць.

*ГІСТОРЫЮ* • **УВАЙСЦІ Ў ГІСТОРЫЮ**. Гл. увайсці.

**УЛІПНУЦЬ У ГІСТОРЫЮ**. Гл. уліпнуць.

*ГІСТОРЫЯ* • **ВЕ́ЧНАЯ ГІСТО́РЫЯ**. *Мн. не ўжыв. Вык. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Тое самае, заўсёды адно і тое. Пра ўчынкі, справы і пад., якія пастаянна паўтараюцца. *Другая каса была пустая, і Таня раззлавалася — вечная гісторыя, у абедзенны перапынак, калі шмат людзей у магазіне, працуе толькі адна каса.* Арабей. — *Вечная гісторыя, — уздыхнуўшы, прамовіў Арсень Сымонавіч. — Не паспееш больш-менш наладзіць адно, як табе даручаюць другое, новае.* Хадкевіч.

**ГІСТО́РЫЯ З ГЕАГРА́ФІЯЙ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Часцей жарт.* Непрадбачаныя абставіны, нечаканы ход падзей. *Хто той клятваадступнік, якога прыехаў шукаць жандарскі ротмістр? Ведае ж таўстуха, а не сказала... Казала, што мы ўсе тэрарыста ведаем. Цікава, цікава... Вось дык гісторыя з геаграфіяй.* Хомчанка. — *Слухай, Свіст, а завошта ты ў лагер трапіў?.. — Ах, гэта доўгая гіторыя. Гісторыя з геаграфіяй. Была справа, ага.* Быкаў.

*ГЛАДЗІЦЬ* • **ГЛА́ДЗІЦЬ ПА ГАЛО́ЎЦЫ (ПА ГАЛАВЕ́)** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** Хваліць, адабраць; патураць каму-н. **Сін.**: гладзіць па шэрсці *каго.* **Ант.**: гладзіць супраць шэрсці *каго. — Мяне — пад суд?.. — А ты што думаў? Цябе дык па галоўцы будуць гладзіць! Герой знайшоўся!* Шамякін. **ПАГЛАДЗІЦЬ ПА ГАЛОЎЦЫ (ПА ГАЛАВЕ)** *каго. Зак. І такой сціпласці я не прымаю, Максім Рыгоравіч!.. Гэта не сціпласць, а лакейскі эгаізм. Гэта азначае — выслужыцца ў начальства, каб цябе па галоўцы пагладзілі.* Лобан.

**2.** *каго за што.* З адмоўем — у антанімічным знач. *Неадабр.* Караць, прыцягваць да адказнасці. *За тое, што ён, Яўхім Бабай, ад мабілізацыі збег, па галоўцы не гладзяць.* Сачанка. **ПАГЛАДЗІЦЬ ПА ГАЛОЎЦЫ (ПА ГАЛАВЕ)** *каго. Зак. — Ты ведаеш, што з табою зробяць немцы, калі даведаюцца, што сюды прыходзіў партызан, што ты з ім гаварыла?.. — Думаю, не пагладзяць па галоўцы.* Арабей. — *Увесь свой аўтарытэт у калгасе папсуеш, дзядзька Лаўрэн, — сказаў Васіль устаючы. — Мы цябе за разлажэнне дысцыпліны па галоўцы не пагладзім.* Самуйлёнак. *[Начдыў:] Калі гэта праўда, дык мы за гэта па галаве не пагладзім.* Крапіва.

**ГЛА́ДЗІЦЬ ПА ШЭ́РСЦІ** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ва ўсім дагаджаць, не пярэчыць каму-н. **Сін**.: гладзіць па галоўцы *каго* (у 1 знач.). **Ант**.: гладзіць супраць шэрсці *каго. Пятро зразумеў: стары хітрун ведае цану капылоўскім скаргам, але, як добры госць, гладзіць гаспадара па шэрсці.* Шамякін. **ПАГЛАДЗІЦЬ ПА ШЭРСЦІ** *каго. Зак. — Памажы ж, прашу дабром, покуль голад той міне. Над усімі ўладаром будзеш ты пасля мяне, — так Іосіфа па шэрсці фараон пагладзіў...* Крапіва.

**ГЛА́ДЗІЦЬ СУ́ПРАЦЬ (СУПРО́ЦЬ) ШЭ́РСЦІ** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ні ў чым не дагаджаць, рабіць наперакор каму-н. **Ант**.: гладзіць па галоўцы *каго* (у 1 знач.); гладзіць па шэрсці *каго. [Сцяпан:] Цар вывеў войска — незлічоны свет, ды ваяводы царскія, як ракі, куды хто хоча, той туды паўзе, пазабываліся, як цар іх супраць шэрсці гладзіў.* Клімковіч. *— Дык цябе, Янка, супроць шэрсці гладзяць? — звярнуўся Мікола Ярэмчык да Малеўскага пасля аднаго з гэтых вечароў. — Трымайся, матрос!* Бядуля. **ПАГЛАДЗІЦЬ СУПРАЦЬ (СУПРОЦЬ) ШЭРСЦІ** *каго. Зак. Малевіча толькі падумай супроць шэрсці пагладзіць, і ён ужо, вітаючыся, падае табе адзін палец і глядзіць міма.* Карпаў.

**ПАКАЗАЦЬ ЯК БАРСУК <СВАІХ> ДЗЯЦЕЙ ГЛАДЗІЦЬ** *каму.* Гл. паказаць.

*ГЛАДЗЬ* • **ЦІШ ДЫ ГЛАДЗЬ**. Гл. ціш.

*ГЛАДКА* • **ЯЗЫК ГЛАДКА ХОДЗІЦЬ** *у каго, чый.* Гл. язык.

*ГЛЕБА* • **ГЛЕБА ВЫПЛЫВАЕ З-ПАД НОГ** *у каго.* Гл. зямля.
**ГЛЕБА ХІСТАЕЦЦА** *пад кім.* Гл. грунт.
**ГЛЕБА ХІСТАЕЦЦА ПАД НАГАМІ** *чыімі, у каго.* Гл. грунт.

*ГЛЕБУ* • **АДЧУВАЦЬ ГЛЕБУ ПАД НАГАМІ**. Гл. адчуваць.
**ВЫБІВАЦЬ ГЛЕБУ З-ПАД НОГ** *каго, чыіх, у каго.* Гл. выбіваць.
**ЗАНДЗІРАВАЦЬ ГЛЕБУ**. Гл. зандзіраваць.
**НАМАЦВАЦЬ ГЛЕБУ**. Гл. намацваць.

*ГЛЕДЖАННЯ* • **З ПУНКТУ ГЛЕДЖАННЯ** *чыйго, каго, чаго.* Гл. пункту.
**ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ**. Гл. пункт.

*ГЛЕДЗІШЧА* • **З ГЛЕ́ДЗІШЧА** *чыйго, якога, каго, чаго. Акал. Разм.* З якой-н. пазіцыі, у адпаведнасці з чым-н. **Сін**.: з пункту гледжання *чыйго, каго, чаго*; у святле *чаго. Пагаворым аб першай юбілейнай даце. Канешне, дзесяць гадоў [часопісу «Беларуская думка»] з гістарычнага гледзішча — тэрмін невялікі.* «Бел. думка».

*ГЛЕДЗЯЧЫ* • **НА ЛЕ́С ГЛЕ́ДЗЯЧЫ** *расці (вырасці). Акал. Разм.* **1**. Вельмі хутка і значна па вышыні. Пра высокі рост. *Ладны ўдаўся хлапчук, рос на лес гледзячы.* Лобан. *Ці даўно быў падшыванцам, а цяпер вырас на лес гледзячы.* Гурскі.

**2**. *Неадабр.* Без нагляду і выхавання. Пра дзяцей. **Сін**.: як гарох пры дарозе (у 2 знач.). *— Нам бы школу адкрыць, таварышы, га? — Яно то добра было б, Мікалай Іванавіч... А то ж і праўда, растуць яны тут у нас на лес гледзячы.* Брыль. *А як ішоў дадому тата з атрада — чуў я за вярсту. Казаў, бывала, сумнавата, што гледзячы на лес расту...* Барадулін.

**НА НО́Ч ГЛЕ́ДЗЯЧЫ** *ісці (пайсці), ехаць (паехаць)* і пад. *Акал. Разм.* Позна вечарам, у позні час. *Сядайце, проша, во тут. Дый пераначуйце. Не ісці ж на ноч гледзячы.* Янкоўскі. *Куды ж ты пойдзеш на ноч гледзячы?* Лынькоў. *Адкуль гэта вы разам з маім прыехалі, Пятровіч? З Лісані да нас на ноч гледзячы не едуць.* Карамазаў. *Да сардэчнага болю хочацца ў лес. Але ж не кінешся туды на ноч гледзячы.* Шамякін.

**НЕ ГЛЕ́ДЗЯЧЫ НА АСО́БЫ**. *Акал. Функц. не зам.* Справядліва, не лічачыся з грамадскім, службовым і пад. становішчам каго-н. (крытыкаваць, лаяць і пад.). *У першым нумары, у перадавым артыкуле, была вызначана праграма газеты... Таксама ставіла сабе газета і задачы самакрытыкі, «не гледзячы на асобы».* Колас. *— Давайце матэрыял! — Сыпце не гледзячы на асобы! — Няма чаго цырымоніцца!* Бядуля. *Лаяў [дзядуля] усіх, каго ўздумаў, не гледзячы на асобы: паноў і рускае начальства, Пстрычку і Махлярчыка...* Гарэцкі.

*ГЛІНУ* • **МЯНЯЦЬ ГАРШКІ НА ГЛІНУ**. Гл. мяняць.

*ГЛІНЯНЫХ* • **КАЛОС НА ГЛІНЯНЫХ НАГАХ**. Гл. калос.

*ГЛОТКУ* • **ДРАЦЬ ГЛОТКУ**. Гл. драць.

**ЗАТЫКАЦЬ ГЛОТКУ** *каму, каго.* Гл. затыкаць.

**НАСТУПАЦЬ НА ГЛОТКУ** *каму, чаму.* Гл. наступаць.

**НА ЎСЮ ГЛО́ТКУ** *крычаць (закрычаць)* і пад. *Акал. Праст.* Вельмі моцна. **Сін.**: благім матам; з усіх жыл (у 2 знач.); колькі <было> сілы (у 3 знач.); на поўную сілу (у 3 знач.); на поўныя грудзі (у 2 знач.); на ўвесь голас (у 1 знач.); на ўвесь свет (у 1 знач.); на ўсе грудзі (у 2 знач.); на ўсе застаўкі (у 1 знач.); на ўсё горла; на ўсю іванаўскую (у 1 знач.); на ўсю моц (у 3 знач.); немым голасам; не сваім голасам; што ёсць духу (у 2 знач.); што ёсць сілы (у 3 знач.); <як> іерыхонская труба (у 2 знач.); як недарэзаны; як рэзаны. *Дзядуля ўзяў сабе за моду: ці толькі выпіў, зараз цягнуўся ўжо на людзі, ды дзе шумней, дзе больш народу. І там крычаў ён і лаяўся на ўсю глотку.* Гарэцкі. *— Ёсць доказы! — на ўсю глотку крычаў следчы.* Левановіч.

**РВАЦЬ ГЛОТКУ**. Гл. рваць.

*ГЛУЗДУ* • **З'ЯЗДЖАЦЬ З ГЛУЗДУ**. Гл. з'язджаць.

*ГЛУХАЯ* • **ГЛУХАЯ ЦЯЦЕРА**. Гл. цяцера.

*ГЛУХІ* • **ГЛУХІ ЦЕЦЯРУК**. Гл. цецярук.

*ГЛЫБЕЙ* • **ГЛЫБЕЙ КАПНУЦЬ**. Гл. капнуць.

*ГЛЫБІНІ* • **ДА ГЛЫБІНІ́ ДУШЫ́** *хваляваць, кранаць, уражваць* і пад. *Акал. Функц. не зам.* Вельмі моцна. *Дзён колькі хаджу сам не свой. Усхвалявала, да глыбіні душы растрывожыла мяне яна, тая кніга.* Сачанка. *З маленства ведаю і да глыбіні душы люблю гэты рамантычны край, дзе жывуць добрыя і працавітыя людзі.* Няхай. *Тут здарылася тое, што абразіла нас, падлеткаў да глыбіні душы.* Караткевіч.

**З ГЛЫБІНІ́ ДУШЫ́**. *Акал. Функц. не зам.* Чыстасардэчна, з найлепшымі намерамі. **Сін.**: ад <усёй> душы; ад <усяго> сэрца; ад чыстага сэрца; ад шчырага сэрца; з адкрытай душой. *— Дык трэба ж нешта рабіць, Казічак... — вырваліся з глыбіні душы [у Ганны] словы. — Як жа ты думаеш жыць далей?* Дайліда. *У гэты час, калі гаварыў, ён [Рак] сам рабіўся нейкім празрыста-адухоўленым, то звужаючы вочы, пазіраючы кудысьці ўдаль, то пераводзячы іх, цёплыя, з аднаго слухача на другога, злёгку ўхмыляючыся, шчыра, з глыбіні душы.* Ермаловіч.

**У ГЛЫБІНІ́ ДУШЫ́**. *Акал. Функц. не зам.* Унутрана, употайкі, падсвядома. **Сін.**: на дне душы; на сподзе душы. *І хаця я ўсё гэта зразумеў і пагарджаў сабою і ёй — я ў глыбіні душы быў шчаслівы і нават заспакоены.* Караткевіч. *Недзе ў глыбіні душы на момант закралася сумненне: а ці варта прымешваць асабістае да грамадскага?* Новікаў. *І ў глыбіні душы я кляў сябе самымі крыўднымі, самымі балючымі словамі.* Дайнека.

*ГЛЫБОКА* • **ГЛЫБОКА КАПАЦЬ**. Гл. капаць.

*ГЛЫНУЦЬ* • **ГЛЫНУ́ЦЬ (ГЛЫТНУ́ЦЬ) СЛІ́НУ (СЛІ́НКУ)**. *Незак. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. З зайздрасцю глянуць на што-н. спакуслівае, але недаступнае. Часцей пра яду. — *Эх, — цмокнуў дзядзька: — наямося! — Зірнулі хлопцы на Антося і сліну ўсе яны глынулі, паветра носам зацягнулі.* Колас. *Бывала, глянеш: там на нізкім рынку лакацей пропасць! Не раз глынеш слінку!* Дунін-Марцінкевіч.

*ГЛЫТАЦЬ* • **ГЛЫТА́ЦЬ ЖА́БУ (ЖА́Б)**. *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моўчкі, цярпліва зносіць крыўду, абразу, выслухоўваць непрыемнае. *[Тата:] У мяне нарэшце таксама лопаецца цярпенне!!! Да якога часу цераз цябе я мушу глытаць жаб?* Макаёнак.

**ГЛЫТА́ЦЬ СЛЁЗЫ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Старацца стрымаць плач. *Усціменка, белы як палатно, упаў на падушку. Ён глытаў слёзы: востры кадык яго хадзіў сюды-туды, нібы чалавек давіўся.* Дамашэвіч. *Паўлінка стаіць патупіўшыся, глытаючы слёзы, і скубе пальцамі фартух.* Купала. *Сёстры плачуць з гаротным адчаем, слёзы моўчкі мы з братам глытаем.* Хацкевіч.

**ГЛЫТА́ЦЬ СЛІ́НУ (СЛІ́НКУ, -І)**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. З зайздрасцю глядзець на што-н. спакуслівае, але недаступнае. Часцей пра яду. *Голад жа асабліва прыкра адчуваецца тады, калі нехта жарэ, а ты глядзіш яму ў вочы і глытаеш сліну...* Гарэцкі. *[Лук'янаў] грызе гэты кавалак, ледзь не вывіхваючы сківіцы пад тонкаю скураю худых, нездаровых шчок, а мы глытаем слінку і адводзім позіркі ўбок.* Быкаў. *Толік глытаў слінкі, колі бачыў Васіля на веласіпедзе, не вытрымліваў, прасіў: — Васіль, дай мне, га?* Гіль.

**ГЛЫТА́ЦЬ СЛО́ВЫ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гаварыць неразборліва, невыразна. *Вечарам ён [Казімер], глытаючы словы і стараючыся не заплакаць, гаварыў мацеры: — Я не пайду больш да дзядзькі.* Чорны. *Камандзір дывізіёна, глытаючы словы, далажыў, што бачыць немцаў.* Дамашэвіч.

*ГЛЫТНУЦЬ* • **ГЛЫТНУЦЬ СЛІНУ**. Гл. глынуць.

*ГЛЯДЗЕЛІ* • **ВОЧЫ Б МАЕ НЕ ГЛЯДЗЕЛІ** *на каго, на што.* Гл. вочы.

*ГЛЯДЗЕЎ* • **ЯК У ВАДУ́ ГЛЯДЗЕ́Ў (-ЛА, -ЛІ)**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Угадаў, нібы загадзя ведаў, нібы прадбачыў што-н. — *Адгадай, хто ў мяне быў перад табою?.. — Хто? Можа, Чаравака? — Як у ваду глядзеў. Так, ён...* Пестрак. *Яечкаў колькі зберагла, нібы ведала... Раптам, думаю, госць які з'явіцца. І на табе, як у ваду глядзела, — з'явіўся...* Мележ. *Твой бацька як у ваду глядзеў. Не пашэнціла мне. Памерла мая Зойка ў раддоме.* Марчук.

*ГЛЯДЗЕЦЬ* • **ГЛЯДЗЕ́ЦЬ ВАЧА́МІ (-ЫМА, -МІ́)** *чыімі, каго на каго, на што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знаходзячыся пад чыім-н. уплывам, ва ўсім падпарадкоўвацца чыёй-н. ацэнцы, думкам, поглядам. **Сін.**: іграць у дудку *чыю, каго, каму*; спяваць з голасу *чыйго*; цягнуць руку *чыю, каго. І ён [Богут] пачаў глядзець на рэчы вачамі ўжо гаспадара, — як свой інтэрас забяспечыць, патрэбу ўласнага двара.* Колас. *Крыўду яе [Галі] Стэфан адчуў і паступова, незаўважна для сябе, пачаў глядзець на жыццё Галінымі вачыма.* Прокша. *Я — сын зямлі, нашчадак хлебаробаў... Яе вачмі гляджу на свет сягоння.* Барадулін. **ПАГЛЯДЗЕЦЬ ВАЧАМІ (-ЫМА, -МІ)** *чыімі, каго на каго, на што. Зак.*

**ГЛЯДЗЕ́ЦЬ (ЗАГЛЯДА́ЦЬ) < ДАЛЁКА > НАПЕ́РАД**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Прадбачыць далейшы ход падзей, развіццё чаго-н.; задумвацца пра будучыню. **Сін.**: бачыць на тры сажні пад зямлёй. *Сам*

*аўтар трылогіі, трэба меркаваць, глядзеў далёка наперад, добра ўсведамляў патэнцыяльныя магчымасці роднай літаратуры.* «Полымя». *Погляд ваш рэтраспектыўны. Трэба больш фантазіі. Наперад глядзець трэба.* Дуброўскі. *Лёдзя не вельмі і заглядала наперад у сваіх адносінах з Юрам. Яна кахала яго.* Карпаў. **ЗАГЛЯНУЦЬ <ДАЛЁКА> НАПЕРАД**. *Зак. [Ева і Рыгор] паспелі ўжо шмат разоў перагаварыць і заглянуць наперад: а якая там хата будзе, дзе ім прыйдзецца жыць, і як яно ўсё пойдзе.* Чорны.

**ГЛЯДЗЕ́ЦЬ (ЗАГЛЯДА́ЦЬ, ЗАГЛЯ́ДВАЦЬ) У БУТЭ́ЛЬКУ (У ЧА́РКУ)**. *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выпіваць, напівацца. **Сін.**: бачыць шклянога бога; браць у губу; закідаць за гальштук; закідваць за каўнер; закладваць за каўнер; залiваць вочы *<чым> (у* 1 знач.); заліваць за каўнер; заліваць чарвяка; наліць горла; мокнуць у гарэлцы; наступіць на корак; не прасыхаць; панюхаць корак; прамачыць горла. **Ант.**: не браць у рот *што, чаго* (у 2 знач.). *Я лічу, што добрым брыгадзірам быў бы Рыгор Чэчат. І грамату знае, і зямлю ведае не горш за Шалестуна. І ў бутэльку не глядзіць...* Арочка. *Старшыня адразу: — Прымай, Андрэй, трэцюю брыгаду! Парадкі там, як той казаў — свінні мех калашмацяць, а брыгадзір усё ў чарку глядзіць...* Ваданосаў. *Ты не дзівіся, Сцяпан, — немцы навучылі мяне часта заглядаць у чарку.* Пестрак. — *А што здарылася? — Кажуць, апошнім часам у бутэльку пачаў заглядваць.* «Полымя».

**ГЛЯДЗЕ́ЦЬ ЗВЕ́РХУ ЎНІ́З** *на каго, на што. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адносіцца да каго-, чаго-н. пагардліва. **Ант.**: глядзець знізу ўверх *на каго, на што*; здымаць шапку *перад кім*; схіляць галаву (у 2 знач.). — *Хто яго ведае чаму, але так здарылася, — пачаў я, — што на нашу краіну і на яе людзей некаторыя глядзелі зверху ўніз. Казалі, што наш народ забіты, не мае характару, чаго ад яго чакаць?..* Гурскі. *І трымалася яна ўпэўнена, рухі былі прыгожыя, і, здавалася, Лёдзя глядзіць на ўсіх зверху ўніз. Хлопцы бянтэжыліся перад ёй.* Карпаў.

**ГЛЯДЗЕ́ЦЬ ЗНІ́ЗУ ЎВЕ́РХ** *на каго, на што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адносіцца да каго-, чаго-н. пачціва, з глыбокай пашанай. **Сін.**: здымаць шапку *перад кім*; схіляць галаву (у 2 знач.). **Ант.**: глядзець зверху ўніз *на каго, на што. Я раней на планы, як бы тут сказаць, знізу ўверх глядзеў. Глядзеў і шапку прытрымліваў, каб не ўпала.* Карпаў. *Дзіўны, канечне, быў Бальзак да жанчын: яму заўсёды падабаліся тыя жанчыны, якія пераўзыходзілі яго вопытнасцю і ўзростам і дазвалялі яму глядзець на іх знізу ўверх.* Рубанаў.

**ГЛЯДЗЕ́ЦЬ І́НШЫМІ (ДРУГІ́МІ, НО́ВЫМІ) ВАЧА́МІ (-Ы́МА, ВО́КАМ)** *на каго, на што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Інакш ацэньваць каго-, што-н., па-іншаму адносіцца да каго-, чаго-н. *Іншымі вачамі вы будзеце глядзець і на гасцінец у яго сучасных значэннях, калі звернеце ўвагу на тое, што слова паходзіць ад старажытнага госць — «купец, гандляр».* Крывіцкі. — *Бачыш ты яго, хоць немец, а разумее... — і сяляне ўжо глядзелі другім вокам на сваіх учарашніх ворагаў.* Лынькоў. **ПАГЛЯДЗЕЦЬ (ЗІРНУЦЬ) ІНШЫМІ (ДРУГІМІ, НОВЫМІ) ВАЧАМІ (-ЫМА, ВОКАМ)** *на каго, на што. Зак. Не сказаў бы што збоку, а новымі вачыма на нас паглядзеў нядаўна адзін гарадскі чалавек...* Брыль. *Панасава апавяданне зрабіла добрае ўражанне на дзеда Талаша і Нупрэя і змусіла зірнуць на польскага салдата іншымі вачыма.* Колас.

**ГЛЯДЗЕ́ЦЬ КО́СА** *на каго, на што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. З незадавальненнем адносіцца да каго-, чаго-н. *Тады-сяды стаў [баярын] заглядаць усё да Натальчыных акон, хоць і глядзелі бацька, маці на гэта коса з першых дзён.* Купала. *Я, прызнацца, трохі коса гляджу на твой набытак...* Шахавец. **ГЛЯНУЦЬ КОСА** *на каго, на што. Зак.*

**ГЛЯДЗЕ́ЦЬ НА РЭ́ЧЫ** *як. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ацэньваць што-н., адносіцца да чаго-н. пэўным чынам. *Шмат каго з вас можна было б пахваліць, і прэміраваць. Гэта ўсё будзе — і пахвальба, і прэміі. Але трэба глядзець на рэчы правільна.* Шахавец. *Трэба цвяроза глядзець на рэчы. Гэта — першае, хоць і не самае важнае.* Мік. Ткачоў. **ПАГЛЯДЗЕЦЬ НА РЭЧЫ** *як. Зак. [Шкуранкоў:] А мы давайце скінем акуляры: я — берлінскія, якія вы мне прыпісваеце, а вы — маскоўскія, і давайце паглядзім на рэчы цвяроза.* Крапіва.

**ГЛЯДЗЕ́ЦЬ НА ТО́Й СВЕ́Т**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дажываць свой век, быць блізкім да смерці. Пра старога ці хворага. **Сін**.: адной нагой стаяць у магіле; глядзець у магілу; дыхаць на ладан (у 1 знач.); з кірмашу ехаць; зямлёй пахнуць; ледзь дыхаць (у 1 знач). **Ант**.: стаяць напроці свайго веку. *Ды я ж ледзь ногі перастаўляю, старая таксама на той свет глядзіць, а ты з шарваркамі прыстаеш...* Аношкін.

**ГЛЯДЗЕ́ЦЬ НЯМА́ (НЕ БЫЛО́, НЕ БУ́ДЗЕ) НА ШТО́**. *Толькі ў форме інф. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш. ці канкр. прадмета. Кепскі, нязначны; такі, што выклікае пачуццё расчаравання. **Сін**.: адны слёзы; з рук вон (у 2 знач.); кату пад хвост (у 2 знач.); кульгаць на абедзве нагі (у 3 знач.); курам на смех (у 1 знач.); на ліхога казана; не вытрымлівае ніякай крытыкі; не лезе ні ў якія вароты; нікуды не варты; ні к чорту (у 1 знач.); ні к чорту не варты; ні самому пагля́дзець ні людзям паказаць; пусці павалюся (у 1 знач.); смеху варты. — *Грошы, шкурадзёр, бярэ такія, што дзе толькі сорам той дзяе пры гэтым, а рыбу возіць, дык глядзець няма на што, — бурчаў Ілья, ідучы ў ванную.* Васілёнак. *Неяк аднаго разу, пасля палучкі, Аляксей папрасіў жонку прайсціся з хлопцамі ў магазін. — Яны ж калі і купяць самі, дык не будзе на што глядзець... А ты ўмееш...* Карпаў. — *Рабілі, рабілі, а глядзець няма на што... Застаўкі ды невялічкая будыніна, — здзіўляўся Раднік.* Шамякін. *Другая жанчына пажалілася: у гэтым годзе бульба не завязалася, грэчка — адзін пустацвет, а ячмень — няма на што глядзець...* «ЛіМ».

**ГЛЯДЗЕ́ЦЬ (ПАЗІРА́ЦЬ) ПРАЗ (СКРОЗЬ) ПА́ЛЬЦЫ** *на каго, на што. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Свядома не заўважаць што-н., знарок не звяртаць увагу на што-н. (часцей адмоўнае). **Сін**.: закрываць вочы *на што*; прапускаць паміж пальцамі *што*; праходзіць міма *чаго*. *Малодшыя камандзіры глядзелі праз пальцы на ўсе выхадкі курсанта.* Дамашэвіч. *Вартаўніку цяжка было пражыць за грошы, якія плаціў арандатар, таму ён шмат на што глядзеў, як кажуць, праз пальцы.* Машара. *Шклярскі ніяк не мог зразумець, чаму гэта ўсё так робіцца, ён быў незадаволены тым, што сяляне нясуць ім «гасцінцы», незадаволены, што Драздоўскі на «гасцінцы» пазірае скрозь пальцы.* Галавач. **ГЛЯНУЦЬ (ЗІРНУЦЬ) ПРАЗ (СКРОЗЬ) ПАЛЬЦЫ** *на каго, на што. Зак. Даравуў ён [Ладуцька] усякую такую «актыўнасць» аднаму свайму сябру Сідорыку, ды і то толькі таму, што ён быў паляўнічы, ды і добры, заядлы паляўнічы. А за гэтыя яго паляўнічыя якасці можна на шмат што зірнуць скрозь пальцы.* Шынклер.

**ГЛЯДЗЕ́ЦЬ (ПАЗІРА́ЦЬ) У КУСТЫ́**. *Разм. Незак. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Палохаючыся, старацца ўхіліцца ад адказнасці, ад справы. **Сін**.: азірацца на кусты; хаваць галаву ў пясок. — *Без харчоў і без патронаў не стрымаць атак шалёных... — Дык мо здацца скажаш ты? Не глядзі, брат, у кусты.* Астрэйка. *Не трэба толькі пазіраць у кусты, трэба менш думаць пра арышты, а больш пра газету.* Машара.

**ГЛЯДЗЕ́ЦЬ ПРАЗ РУЖО́ВЫЯ АКУЛЯ́РЫ** *на каго, на што. Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не заўважаючы недахопаў у кім-, чым-н.,

ідэалізаваць каго-, што-н. **Ант.**: глядзець праз чорныя акуляры *на каго, на што. [Касцюшка] проста начытаўся кніг і глядзеў на жыццё, на свет праз ружовыя акуляры.* Навуменка. *Ты глядзіш праз ружовыя акуляры, Гэля. У яго шчырасці — самалюбаванне.* Карпаў.

**ГЛЯДЗЕ́ЦЬ ПРАЗ (ЦЕ́РАЗ) ЧО́РНЫЯ АКУЛЯ́РЫ** *на каго, на што. Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не заўважаючы нічога добрага ў кім-, чым-н., чарніць, ганьбаваць каго-, што-н. **Ант.**: глядзець праз ружовыя акуляры *на каго, на што. Адкуль у цябе гэтая хвароба? На ўсё глядзіш цераз чорныя акуляры.* Шамякін. *Проста ў ранішні мой «савіны» настрой сёння ўплялося шмат непрыемнага, і я зноў, як тое часам бывае, пачынаю глядзець на свет праз чорныя акуляры.* Кадзетава.

**ГЛЯДЗЕ́ЦЬ (ПРА́МА) У ВО́ЧЫ** *каму, чаму. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Не адчуваць дакораў сумлення перад кім-н., не саромецца чаго-н. *[Любка:] Як можаш ты нам у вочы глядзець? [Ганка:] Я нікому зла не зрабіла.* В.Вольскі. *Паслязаўтра каб узяў касу і разам з людзьмі касіць пайшоў... Каму-каму, а мне прама глядзі ў вочы...* Гроднеў.

**ГЛЯДЗЕ́ЦЬ ПРА́ЎДЗЕ Ў ВО́ЧЫ**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Цвяроза ацэньваць сапраўднае становішча. *Праўдзе трэба глядзець у вочы. Так вучыў мяне бацька — адказала Вера.* Ваданосаў. *Навошта нам ашукваць сябе? Трэба глядзець праўдзе ў вочы. І без панікі. Без страху. Так мы хутчэй мабілізуем свае сілы.* Шамякін. **ГЛЯНУЦЬ (ПАГЛЯДЗЕЦЬ) ПРАЎДЗЕ Ў ВОЧЫ**. *Зак. Міхась, нам час пагутарыць сур'ёзна, глянуць праўдзе ў вочы.* Блакіт. *Мы павінны смела паглядзець праўдзе ў вочы, а не толькі спадзявацца на новыя цэны.* Якавенка.

**ГЛЯДЗЕ́ЦЬ СА СВАЁЙ ЗВАНІ́ЦЫ** *на каго, на што. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Меркаваць аб кім-, чым-н. аднабакова, са сваіх пазіцый. **Сін.**: бачыць са сваей званіцы *што*; мерaць на свой аршын *каго, што*; мерaць на свой капыл *каго, што*; стрыгчы пад свой грабянец *каго. Мы хочам, каб усюды было лепш, чым ёсць. А ты глядзіш са сваёй званіцы і дбаеш толькі пра сябе.* Хадкевіч. *Зайшла Алена Пятроўна, і Лазовік ўзрадаваўся яе прыходу — не трэба будзе адказваць на няпростае Кунцэвічава пытанне, хоць, канечне, адказаць на яго і не так ужо складана: стары глядзіць на свет толькі са сваей званіцы...* Блакіт.

**ГЛЯДЗЕ́ЦЬ СМЕ́РЦІ Ў ВО́ЧЫ (У ТВА́Р)**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць у вялікай небяспецы, блізкай да смерці. *Цяпер перад ім сядзелі абветраныя дужыя мужчыны. Яны не раз глядзелі ў вочы смерці пад Сувалкамі і Баранавічамі, у некаторых яшчэ нылі раны ад нямецкіх куль і шрапнелі.* Грахоўскі. *[Бацька] быў салдатам, ваяваў у дзвюх войнах, не раз глядзеў смерці ў вочы.* Дамашэвіч. *Але ні на вайне, калі штодня глядзелі смерці ў твар, ні цяпер, у дні мірнага дабрабыту, Максім нікому не дараваў баязлівасці...* Шамякін. *[Карнейчык:] Тады, ратуючы мяне ад белапалякаў, Лютынскі сам зблізку глядзеў у вочы смерці...* Крапіва. **ГЛЯНУЦЬ СМЕРЦІ Ў ВОЧЫ (У ТВАР)**. *Зак.*

**ГЛЯДЗЕ́ЦЬ У ЗУ́БЫ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Праяўляць залішнюю мяккасць, далікатнасць у абыходжанні з кім-н.; цацкацца, цырымоніцца з кім-н. *[Лютынскі:] А калі заб'юць цябе ці мяне?.. [Карнейчык:] На вайне, вядома, у зубы не глядзяць.* Крапіва. **ПАГЛЯДЗЕЦЬ У ЗУБЫ** *каму. Зак. — Ты чалавек такі: ты чалавек гарачы. Ты можаш ліха ведае што нарабіць. — Як гэта? — А от так, што нікому ў зубы не паглядзіш.* Чорны. *Магло ж гэта дайсці да бацькі, а той бы, вядома, мне ў зубы не паглядзеў, а даў бы добрай лупцоўкі.* Сабаленка.

**ГЛЯДЗЕ́ЦЬ У КО́РАНЬ**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Унікаць у сутнасць чаго-н., звяртаць увагу на самае важнае, галоўнае ў чым-н. *[Жлукта:] Вось калі сатырык — ён зразу глядзіць у корань, а не лунае ў паднябессі, як некаторыя праменныя паэты.* Крапіва. *Дарагі мой Іван Аляксеевіч, давай глядзець у корань. Чаму Палашка пакваплілася на чужое, на калгаснае? Таму што калгас перад ёю ў даўгах...* Клебановіч. *А вы, Язэп Сымонавіч, глянулі б у корань, як казаў Кузьма Пруткоў.* Шынклер.

**ГЛЯДЗЕ́ЦЬ У ЛЕ́С**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Мець намер вярнуцца да ранейшага, прывычнага, свайго. *Ды і што ён, Журавінка, адзін зробіць, калі ўсе, як ваўкі, у лес глядзяць?..* Лобан. *— Добранькі ты, камісар! Каб я карміла немчуру, ваўка, які будзе ўвесь час глядзець у лес! — абурылася Лена.* Шамякін.

**ГЛЯДЗЕ́ЦЬ У МАГІ́ЛУ (У ТРУНУ́)**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дажываць свой век, быць блізкім да смерці. Пра старога ці хворага чалавека. **Сін.**: адной нагой стаяць у магіле; глядзець на той свет; дыхаць на ладан (у 1 знач.); з кірмашу ехаць; зямлёй пахнуць; ледзь дыхаць (у 1 знач.). **Ант.**: стаяць напроці свайго веку. *— Дзеўкі хай бы кароў даілі... — Даміруха хай падоіць. — Плявузгаеш немаведама што. Тая ў труну глядзіць.* Асіпенка.

**ГЛЯДЗЕ́ЦЬ У РО́Т** *каму. Незак. Разм. Часта неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Уважліва і лісліва, угодліва слухаць каго-н. **Сін.**: вастрыць вушы; настаўляць вушы; натапырваць вушы; ператварацца ў слых; развешваць вушы (у 1 знач.); стрыгчы вушамі. *І кідаў сталёвыя, палкія словы начальнік міліцыі Дрот. Сяляне журботна хілілі галовы, глядзелі ўвесь час яму ў рот.* Колас. *Жонку ў думках [Іван] папракаў, што яна так аддана, так шчыра глядзела ў рот перастарэламу жаніху...* Шамякін. *[Трубчык:] А дзе вы бачылі такія традыцыі, каб суддзя ў час працэсу глядзеў у рот пракурору?* Петрашкевіч.

**2**. Зайздросцячы, уважліва сачыць за тым, хто есць, п'е. *Прыгожы квас, і прыемна глядзець, як ён булькае, пераліваецца пад сонцам, калі наліваецца ў шклянкі. Хто ж небудзь ды п'е. А Вяруньки, Міцькі, Кацькі — у рот глядзяць.* Лынькоў. *— Малых нешта не бачу. — Скора папрыбягаюць. Можа, у Піліпіхі ў рот глядзяць: хлеб свой выйшаў, то сумна стала.* Лобан.

**І Ў ТО́Й БО́К НЕ ГЛЯДЗЕ́ЦЬ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Поўнасцю ігнараваць, не прызнаваць каго-, чаго-н., не рэагаваць на каго-, што-н. *— Эй ты, пасунься! — загадвае яна [Вера] кірпатаму хлапчуку ад краю... Хлапчук і ў той бок не глядзіць — як ляжаў на стале, так і ляжыць.* Васілевіч. *Сыны паз'язджалі ў горад. Яны цяпер і ў той бок не глядзяць, каб у зямлі калупацца.* Сабаленка. *— Вось ён і п'е, небарака... — Раней жа і не нюхаў яе, наш Ляксеевіч. — І ў той бок не глядзеў!* Ракітны.

**НЕ ГЛЯДЗЕ́ЦЬ НІ ВО́КА НІ БО́КА**. *Незак. Разм. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не зважаць ні на што, зусім не асцерагацца. *Вельмі ж ужо лютаваў канапаты, з тлустай мордаю Зігмунд Смальц. Ён не глядзеў ні вока ні бока: так хвастаў шомпалам, што аж пырскала кроў.* Грахоўскі. *Тут ужо Кавальскі і Гурэцкі пусцілі ў ход гумавыя палкі, не глядзелі ні вока ні бока.* Місько. *Па дарозе ў лагер палонным неяк удалося прыдушыць ахоўнікаў. Звярнулі на першы ж прасёлак. Шафёр не глядзеў ні вока ні бока — гнаў машыну як толькі мог.* Паўлаў.

**РО́ТАМ ГЛЯДЗЕ́ЦЬ**. *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць няўважлівым, недалёкім, някемлівым. *У памочнікі даюць мужыка-папіхайлу, які ў брыгадзе пры канях хадзіў ды ротам глядзеў. Не скажаш, што быў зусім недарэкам, але і разумным не назавеш.* Петрашкевіч.

**ЯКІ́МІ ВАЧА́МІ (-Ы́МА) ГЛЯДЗЕ́ЦЬ** *на каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Як адносіцца да каго-н., як трымацца, паводзіць сябе пры сустрэчы з кім-н. *Я самая агідная жанчына. Якімі вачыма на мяне будуць людзі глядзець?!* Лобан. *Якімі вачыма ён [Мікола] гляне на тых, хто даверыў яму першае заданне?* Лужанін. *Ды хто я такі? Якімі вачамі глядзяць на мяне людзі? Добрыя людзі..* Міська. *А калі раптам нашы вернуцца? Якімі вачамі тады на іх глядзець будзем?* Чыгрынаў.

*ГЛЯДЗІ* • **ГЛЯДЗІ́ ТЫ**! *Выкл. Разм.* Выказванне здзіўлення ад нечаканасці чаго-н. **Сін.**: бачыш ты. *Скора ж ты прафесарам стаў... З лекцыяй у Таўкачэнічы вярнуўся... Глядзі ты! Ці даўно за лейцы трымаўся?* Грамовіч. З *густой і пышнай піхты азвалася птушка. Сінічка? Глядзі ты!.. І дзінькае дакладна так, як гэта робяць яе сяброўкі недзе ў прамерзлых ды пранізаных наскрозь ледзянымі вятрамі нашых наднёманскіх Пышках.* Карпюк.

**ГЛЯДЗІ́ (-ЦЕ) У МЯНЕ́**! *Выкл. Разм.* Выказванне перасцярогі ці пагрозы. — *Глядзі ў мяне! — прыгразіў напаследак паліцай. — Калі што, і бургамістр не паможа.* Шыцік. — *Свалата вы, а не людзі... — Абаронца які.. Глядзі ў мяне! — крыкнуў яму ўслед Лагута, але Хадун не абярнуўся.* Каваль. *Глядзіце ж у мяне!.. Калі нават і мыш прабяжыць — дакладвайце зараз жа!* Якімовіч.

**ГЛЯДЗІ́ ШТО**. *Абл. У знач. пабочн. сл. Разм.* Відаць, напэўна. **Сін.**: трэба думаць; хутчэй за ўсё; як відаць. *Трэці год, глядзі што, возіць яе [Ульяну] Пятрок, а не звыкся з яе прыгажосцю.* Якавенка. *Глядзі што, ляжа ўжо зіма.* Юрчанка.

**ТАГО І ГЛЯДЗІ**. Гл. таго.

*ГЛЯДЗІЦЬ* • **ГЛЯДЗІ́ЦЬ У КНІ́ГУ, А БА́ЧЫЦЬ ФІ́ГУ**. *Незак.* Часцей у 3-й ас. адз. *Праст. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не разбіраецца ў відавочным; не разумее таго, што чытае. *[Дзед Цыбулька:] І транзістар у яго [Юркі] адабраў. А то ўключыць і — глядзіць у кнігу, а бачыць фігу.* Макаёнак. *Грамацей такі! Глядзіць у кнігу, а бачыць фігу. Каб і хацеў мацней кепскае што сказаць пра нас — не скажаш.* Каваленка.

*ГЛЯДЗЯЦЬ* • **КУДЫ ВОЧЫ ГЛЯДЗЯЦЬ**. Гл. вочы.

*ГЛЯНЕЦ* • **НАВОДЗІЦЬ ГЛЯНЕЦ** *на што, дзе.* Гл. наводзіць.

*ГЛЯНУЦЬ* • **ГЛЯНУЦЬ КОСА** *на каго, на што. Зак. да* **ГЛЯДЗЕЦЬ КОСА** *на каго, на што.*

**ГЛЯНУЦЬ ПРАЎДЗЕ Ў ВОЧЫ**. *Зак. да* **ГЛЯДЗЕЦЬ ПРАЎДЗЕ Ў ВОЧЫ**.
**ГЛЯНУЦЬ СМЕРЦІ Ў ВОЧЫ**. *Зак. да* **ГЛЯДЗЕЦЬ СМЕРЦІ Ў ВОЧЫ**.
**ГЛЯНУЦЬ У КОРАНЬ**. *Зак. да* **ГЛЯДЗЕЦЬ У КОРАНЬ**.
**ЯК ВОКАМ ГЛЯНУЦЬ**. Гл. кінуць.

*ГНАІЦЬ* • **ГНАІ́ЦЬ ДУШУ́ (СЭ́РЦА)** *каму, чыю. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Доўгі час прычыняць пакуты, хваляванні каму-н. **Сін.**: вымотваць жылы (у 2 знач.); вымотваць кішкі *каму* (у 1 знач.); кроіць сэрца *каму, чыё*; разануць <нажом> па сэрцы *каго*; раздзіраць душу *каму, чыю*; рваць душу *чыю, каму*; рэзаць па жывому (у 2 знач.); рэзаць сэрца *каму*; сушыць сэрца *чыё, каму*; цягнуць душу *з каго*; цягнуць за душу *каго*. *Дык ідзі ты к чорту на ўсе чатыры бакі. Хто цябе трымае? І не гнаі ты душы нам!* Шамякін. *[Раман:] До, дос ужо! Не стагні, не гнаі ты майго сэрца.* Гарэцкі.

*ГНАЦЦА* • **ГНА́ЦЦА ЗА ДВУМА́ ЗАЙЦА́МІ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Брацца адразу за дзве справы, дамагацца дзвюх розных мэт. **Сін.**: <адным стрэлам> забіваць двух зайцаў; злавіць двух зайцаў; мачаць <свой хлеб> у дзве

солі. *Нельга гнацца за двума зайцамі. Трэба выбіраць адно: работу ў газеце ці заняткі ў аспірантуры.* Навуменка. *Гоніцца [Маргарыта] хутчэй за ўсё за двума зайцамі. Калі адштурхне муж, то, можа, пашкадуе каханак.* «Полымя».

*ГНАЦЬ* • **ГНА́ЦЬ ГНЕ́Ў У ХЛЕ́Ў**. *Разм. Незак.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Супакойвацца, пераставаць злавацца. **Сін.**: змяняць гнеў на міласць. *Калі ж часам каторы з дзяцей капрызіў, яна [бабуля] спакойна гаварыла: «Значыць, ка́зак сёння не будзе». Тады Эдзік і Віця прыходзілі між сабой да згоды і адразу ж ішлі да бабулі на міравую. Руфіна гнала гнеў у хлеў, і ў хаце ўсталёўваўся парадак.* Пальчэўскі.

**ГНА́ЦЬ (ЗАГАНЯ́ЦЬ, УГАНЯ́ЦЬ) У МАГІ́ЛУ (У ТРУНУ́, У ЗЯМЛЮ́)** *каго. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Даводзіць да смерці. **Сін.**: адарваць галаву *каму* (у 1 знач.); адкруціць галаву *каму* (у 1 знач.); адпраўляць на той свет *каго*; адпраўляць у магілёўскую губерню *каго*; вымаць душу *з каго, каму* (у 2 знач.); вымотваць жылы (у 3 знач.); вымотваць кішкі (у 2 знач.); выпусціць дух (у 3 знач.); выпусціць кішкі *каму*; вытрасці душу *з каго, каму* (у 2 знач.); заганяць на той свет *каго*; зводзіць са свету *каго* (у 1 знач.); зводзіць у магілу *каго*; звярнуць галаву *каму*; зжываць са свету *каго*; знімаць галаву *каму* (у 1 знач.); прыбіраць з дарогі *каго*; скруціць вязы *каму*; скруціць шыю *каму*. *— Збілі да паўсмерці, здароўе аднялі, — шаптаў ён [Бакучава], усхліпваючы, — цяпер у турмах гнояць, гоняць у магілу...* Самуйлёнак. **ЗАГНАЦЬ (УВАГНАЦЬ) У МАГІЛУ (У ТРУНУ, У ЗЯМЛЮ)** *каго. Зак. У магілу загнала бамбёжка лесніка Ахрэма Мысліўца.* Бялевіч. *Прызнавайся, дзе коні?.. У зямлю ўганю.* Крапіва. *— Маці што? — Дык жа ён ледзь і мацеру ў труну не ўвагнаў — азіят нейкі быў, а не чалавек.* Чорны. *Вечна ты з бацькам з гэтымі ракамі носішся... Вось мог праз гэтага рака дзеда ў магілу загнаць...* Лынькоў. *— Апрану цябе, як паву, і пракачу па ўсіх вуліцах горада... — Пакуль тое, дык твая маці мяне ў труну загоніць.* Шлег.

*ГНЕВУ* • **НІ ГНЕ́ВУ НІ ЛА́СКІ** *ў каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. бесхарактарны. *Цялё ты і больш нічога! Ні гневу ў цябе ні ласкі.* Янкоўскі. *Муж у яе быў, ды кінуў з дзіцем. Новы адшукаўся. І ад яго дзіця. І той не мужчына, калі гэтак зрабіў, але ж і гэты — ні гневу ні ласкі. От, адно слова — мужчына ў хаце!* Тычына.

*ГНЕЎ* • **ГНАЦЬ ГНЕЎ У ХЛЕЎ**. Гл. гнаць.

**ГНЕ́Ў ПАЙШО́Ў У ХЛЕ́Ў**. *У безас. ужыв. Разм.* Трэба супакоіцца, не варта злавацца. *— Саша, я з табою гаварыць не буду. — От, гнеў пайшоў у хлеў.* Клебановіч.

**ЗМЯНЯЦЬ ГНЕЎ НА МІЛАСЦЬ**. Гл. змяняць.

*ГНЕЦЦА* • **АЖ НОС ГНЕЦЦА**. Гл. нос.

*ГНІЛОГА* • **АДАРВАЦЬ У ГНІЛОГА ЦЯЛЯЦІ ХВОСТ**. Гл. адарваць.

*ГНІЛОМУ* • **АДАРВАЦЬ ГНІЛОМУ ЦЯЛЯЦІ ХВОСТ**. Гл. адарваць.

*ГНІЛУЮ* • **ЗА ГНІЛУЮ РЫБУ**. Гл. рыбу.

*ГНОЯЦЬ* • **ЗАЙЦЫ ПОЛЕ ГНОЯЦЬ** *у каго, каму.* Гл. зайцы.

*ГНУЦЦА* • **ГНУ́ЦЦА (ЗГІНА́ЦЦА) У ТРЫ ПАГІ́БЕЛІ** *перад кім. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Празмерна ўгоднічаць, прыніжацца. **Сін.**: віляць хвастом (у 1 знач.); гнуць спіну *перад кім*; ламаць шапку *перад кім*; лізаць боты *каму*; падаць лістам *перад кім*; гнуцца ў дугу <*перад кім*>; падпускаць лёстачкі *каму*; поўзаць на каленях *перад кім*; рассыпацца драбней маку *перад кім*; рассыпацца <дробным> макам *перад кім*; слацца лютам *перад кім*; станавіцца на заднія лапкі *пе-*

*рад кім*; хадзіць на задніх лапках *перад кім*; хадзіць на пальчыках *перад кім. Падхалім, калі чалавек у славе, перад ім гнецца ў тры пагібелі, а калі што якое, — перабягае на другі бок вуліцы, каб не спаткацца.* Гурскі. *[Грамабой:] Загадаюць, і дасі. Ці даўно перад панам у тры пагібелі гнуўся...* Крапіва. *Няўжо ўвесь век жыць з панскай ласкі і перад ім чуць абавязкі? І слугаваць яму, старацца і ў тры пагібелі згінацца?* Колас.

**ГНУ́ЦЦА Ў ДУГУ́** <*перад кім*>. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прыніжацца, угодлічаць. **Сін**.: віляць хвастом (у 1 знач.); гнуцца ў тры пагібелі *перад кім*; гнуць спіну *перад кім*; ламаць шапку *перад кім*; падпусціць лёстачкі *каму*; поўзаць на каленях *перад кім*; рассыпацца драбней маку *перад кім*; рассыпацца <дробным> макам *перад кім*; слацца лістам *перад кім*; хадзіць на пальчыках *перад кім. Памаліцеся д'яблу ці Богу, каб ніколі не гнуцца ў дугу, а таму не хадзіце не ў ногу, крочце толькі, як я, у нагу.* Грахоўскі. *І Анікей страшэнна пакутуе, гнецца ў дугу ад сораму, што ў яго такія браты.* Ракітны.

*ГНУЦЬ* • **ГНУ́ЦЬ ДУ́ГІ**. *Незак. Абл. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Падманваць каго-н., гаворачы няпраўду. **Сін**.: абводзіць вакол пальца *каго*; абуваць у лапці *каго*; бакі забіваць *каму*; браць на арапа *каго*; браць на бога *каго*; браць на вудачку *каго*; браць на пушку *каго*; вадзіць за нос *каго*; вешаць лапшу <на вушы> *каму*; віляць хвастом (у 1 знач.); выводзіць у поле *каго*; гуляць у ката і мышку; дурыць галаву *каму* (у 1 знач.); задурыць галаву *каму* (у 3 знач.); замазваць вочы *каму*; замыльваць вочы *каму*; запраўляць арапа; кампасціраваць мазгі *каму*; корчыць дурня (у 1 знач.); круціць хвастом (у 1 знач.); муціць галаву *каму*; настаўляць акуляры *каму*; прадаць *каго* і грошы палічыць; пудрыць мазгі *каму*; пускаць пыл у вочы *каму*; сляпіць вочы *каму* (у 1 знач.); травіць баланду (у 2 знач.); туманіць вочы *каму*; туманіць галаву *каму. — Думаеш, другі вельмі рады будзе, калі я на яго кані ехаць буду? Ды ён зненавідзіць мяне за гэта... — Ну і гнеш ты, Хведар, дугі. Прывыкнуць людзі, — гаварылі мужыкі.* Каваленка.

**ГНУ́ЦЬ СВАЮ́ ЛІ́НІЮ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Настойліва ажыццяўляць задуманае, рабіць па-свойму. *Башлыкоў гне і будзе гнуць сваю лінію.* Мележ. *Маці, праўда, сумнявалася ў карысці такой навукі, але бацька, як кажуць, гнуў сваю лінію. — Няхай сабе вучыцца, — казаў ён.* Якавенка.

**ГНУ́ЦЬ <СВАЮ́> СПІ́НУ (ГО́РБ); ГНУ́ЦЬ <СВАЕ́> СПІ́НЫ (ГАРБЫ́)**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Выконваць цяжкую работу; мардаваць сябе працай. **Сін**.: грэць лоб; ліць пот; мазоліць рукі; не разгінаць спіны; сем патоў выліць (у 1 знач.); сем патоў сагнаць; цягнуць лямку <*каго, чаго*>; цягнуць ярмо <*каго, якое*>. *Цяпер рабочыя пакажуць, як з імі трэба абыходзіцца. Годзе гнулі свае спіны.* Гартны. *На дзвюх работах [Дзям'ян] спіну гнуў, каб сям'ю карміць.* Марчук. *— Чаго ж ты хочаш? — Жыць... Па-чалавечы... — Па-чалавечы — гэта сумленна, калі хочаш ведаць. Сумленна... Усё жыццё працаваць, гнуць спіну да магілы... Табе ж захацелася быць паняй.* Дамашэвіч. *// над чым.* Многа і цяжка працаваць, мардавацца над чым-н. *Ды мая баба не раз гнула спіну над тваім жытам.* Крапіва. *[Лушка:] Я колькі гадоў каровіным хвастом апутана была, горб гнула над лебядой.* Макаёнак.

**2**. *на каго.* Працаваць на каго-н., быць у каго-н. у заняволенні. *Парадак, пры якім адны пануюць, другія — гнуць на іх спіну, Рагамед лічыў асуджаным на пагібель і ганарыўся, што сам памагаў яго знішчэнню ў Заходняй Беларусі і тут, у Эстоніі.* Навуменка. *Некалі на крывасмокаў Свяжынскіх тут гнулі свае спіны яго продкі — прадзед, дзед, бацька.* Праскураў.

**ГНУ́ЦЬ <СВАЮ> СПІ́НУ (ШЫЮ, ГО́РБ)** *перад кім. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прыніжацца, угоднічаць. **Сін.**: віляць хвастом (у 2 знач.); гнуцца ў дугу <*перад кім*>; гнуцца ў тры пагібелі *перад кім*; ламаць шапку *перад кім*; лізаць боты *каму*; падаць лістам *перад кім*; падпускаць лёстачкі *каму*; поўзаць на каленях *перад кім*; рассыпацца драбней маку *перад кім*; рассыпацца <дробным> макам *перад кім*; слацца лістам *перад кім*; станавіцца на заднія лапкі *перад кім*; хадзіць на задніх лапках *перад кім*; хадзіць на пальчыках *перад кім. Не верылася, што цяпер яны такія заможныя, што ўсё гэта іх здабытак, што за яго ўжо не трэба нікому ні адрабляць, ні плаціць і наогул ні перад кім не гнуць спіну.* Якавенка. *Другія лясніцтвы не мелі палавіны нашага, а прэміі атрымлівалі. Будай пасмейваўся: — Не ўмееш шыі гнуць. Начальства любіць пакорлівых.* Навуменка. *А перад майстрам якім [Цімка] шыю гне, як цялятка тое.* Лынькоў. *Усе казалі, што й сын, як і бацька — мужык, перад панам свой горб дудзе гнуць...* Чарот.

**ГНУ́ЦЬ У БАРАНО́Ў (КАЗІ́НЫ) РО́Г** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Строгасцю, уціскам прымушаць пакарыцца, падпарадкавацца. **Сін.**: гнуць у дугу *каго*; гнуць у тры пагібелі *каго*. **САГНУЦЬ (СКРУЦІЦЬ) У БАРАНОЎ (КАЗІНЫ) РОГ** *каго. Зак. [Вальдэмар:] А немец не пашкадуе нас. Сагне ў бараноў рог... Зноў вернецца прыгон. Толькі ўжо нямецкі.* Губарэвіч. *Дай такому ўладу — ні з кім не будзе лічыцца, ніякай дэмакратыі не прызнае. Усіх скруціць у бараноў рог.* Шамякін. *Хлебароб.. верыць у сілу дэкрэта аб зямлі і міры. А ў яго хочуць адабраць гэта права, зноў скруціць мужыка ў бараноў рог. [Тодар:] Не такой ты натуры, каб цябе якісь прыблуда мог скруціць у казіны рог.* Родзевіч. *Каб гэта ўсе мы дружныя былі, то не толькі выпляжылі б панскія лясы, але і саміх паноў сагнулі б у казіны рог.* С.Александровіч.

**ГНУ́ЦЬ У ДУГУ́ (У КРУ́К)** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы і абстр. прадмета. Строгасцю, уціскам трымаць у поўным падпарадкаванні. **Сін.**: гнуць у бараноў рог *каго*; гнуць у тры пагібелі *каго*. **САГНУЦЬ У ДУГУ (У КРУК)** *каго. Зак. Бажак — як скамянеў: «У прымы ляцеў ты, дзядзька, ці ў тайгу?.. Перакуры — вунь колькі «Прымы», яшчэ сагне тайга ў дугу...»* Кусянкоў. *Ты будзеш у нашых руках, будзеш залежаць ад нас. Калі будзеш аскірзацца, праўды дабівацца — сагнём у крук.* Пестрак. *Час не пытае, хто ты, чаму жывеш няскладна, спярша падніме, потым у крук сагне ўладна і строга нагадае пра кожны твой учынак.* Бажко.

**ГНУ́ЦЬ У ТРЫ́ ПАГІ́БЕЛІ** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Трымаць у поўным падпарадкаванні, прымусіўшы пакарыцца; моцна прыгнятаць. **Сін.**: гнуць у бараноў рог *каго*; гнуць у дугу *каго*. **САГНУЦЬ У ТРЫ ПАГІБЕЛІ** *каго. Зак. Пачаў.. Гітлер выхваляцца на ўвесь свет — і па радыё гаварыць, у газетах пісаць: — Няма на свеце такой сілы, каб маю сілу змагла б адалець, і народа такого, якога б я не сагнуў у тры пагібелі.* «Вожык».

**НЕ ТУДЫ́ ГНУ́ЦЬ**. *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Рабіць што-н. не так, як трэба. **Сін.**: не туды заехаць. *[Максім:] Бач ты — да самога сакратара абкома дапёр, пісьмо напісаў на зяця... «Не туды гне!» «Прынцыпы!» А сам — законнік гэты? Сена крадзе калгаснае...* Макаёнак. *Сам іншы раз бачу, што не туды гну, але дурная натура прымушае рабіць па-свойму.* Ваданосаў. **НЕ ТУДЫ ЗАГНУЦЬ**. *Зак.*
**2**. Гаварыць што-н. недарэчы, не тое, што трэба. **Сін.**: пападаць пальцам у неба. **Ант.**: пападаць у цэль; пацэліць у дзесятку; як у сук уляпіў. *— Не выйдзе, — узбунтаваўся Грэчка. — Там, пад Сталінградам, паміраюць, а мы будзем адседжвацца, чакаць... Не, браце, не туды гнеш.* Няхай. **НЕ ТУДЫ ЗАГНУЦЬ**. *Зак. [Скіба:] Небяспечна ім паказвацца. Прыйшоў ён, скажам, да вас, а вы ўзялі ды жандарам на яго падказалі. [Дзед Ба-*

*дыль:] Гэта ты ўжо, чалавеча, не туды загнуў. Я табе не падбрэхіч які-небудзь панскі.* Крапіва. — *Не шэнціць мне ў жыцці, вось і ўсё! — Э-э, ды ты, брат, не туды загнуў, Каспар! Ты ведаеш, што такое шчасце? Не, мабыць, не...* Броўка.

*ГНЮСІЦЬ* • **ГНЮСІЦЬ РУКІ** *аб каго, аб што.* Гл. пэцкаць.

*ГНЯВІ* • **НЕ ГНЯВІ́ БО́ГА.** *Незак. Толькі ў заг. л. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дарэмна не наракай. Ужыв. для выражэння нязгоды з папярэднім выказваннем. **Сін.**: не грашы богу. — *А ты ўсё такая ж, цвіцеш... — Цвіту, як стары мухамор... — Не скажы... Дай божа кожнай так. Ды пасля ўсяго пераЖытага. Не гняві бога.* Новікаў. *[Арына Радзівонаўна:] Маня! Не гняві бога! У цябе чалавек ветлівы, добры, спакойны, ціхі.* Макаёнак.

*ГНЯВІЦЬ* • **НЯМА ЧАГО БОГА ГНЯВІЦЬ.** Гл. няма.

*ГНЯЗДА* • **ВЫЛЯТАЦЬ З ГНЯЗДА** *якога, чыйго.* Гл. вылятаць.
**ПАВЫЛЯТАЦЬ З ГНЯЗДА** *якога, чыйго.* Гл. павылятаць.

*ГНЯЗДО* • **АСІ́НАЕ ГНЯЗДО́.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Пагард.* Прыстанішча, зборышча небяспечных, шкодных людзей. — *Адсюль закідваюцца шпіёны на Смаленшчыну і ў савецкі тыл. Асінае гняздо, я вам скажу, гэтыя Красыні. — Дык што ж тут сакрэтнае!.. — А сакрэтнае вось што. У гэтым асіным гняздзе мы маем свайго чалавека.* Асіпенка. *Там жа не толькі склад, а і гарнізон, камендатура, паліцыя, зачэпім склад, дык усё асінае гняздо заварушыцца...* Арабей. *Немцы, захапіўшы Лагойшчыну, панатыкалі ўсюды валасці і паліцэйскія ўправы пры іх. Партызаны перш за ўсё пачалі знішчаць гэтыя асіныя гнёзды.* Кобец-Філімонава.
**ВІЦЬ ГНЯЗДО** *каму.* Гл. віць.
**ВІЦЬ <СВАЁ> ГНЯЗДО.** Гл. віць.

*ГОГ* • **ГО́Г І МАГО́Г.** *Часцей вык. Функц. не зам. Неадабр.* Люты чалавек, які выклікае страх. *Пяшчотны голас шаптаў над вухам Антося: — Вось яго прывялі... На пытанні аб прозвішчы адказаў. Абазваў нас гогам і магогам і яшчэ казалупамі...* Караткевіч.

*ГОГАЛЕМ* • **ХАДЗІЦЬ ГОГАЛЕМ.** Гл. хадзіць.

*ГОД* • **З ГОДУ Ў ГОД.** Гл. году.
**НА СТАРАСЦІ ГОД.** Гл. старасці.
**НЕ ПЕРШЫ ГОД ЗАМУЖАМ.** Гл. замужам.
**ПА МАЛАДОСЦІ <ГОД>.** Гл. маладосці.
**ЯК (ШТО) ГО́Д.** *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн., выраж. словамі *дзень, ноч.* Вельмі доўгі, здоўжыўся. *Дзень быў — што год, такі даўжэзны.* Лобан. *Пабягу Падласку даіць. Гэта ж на добры лад трэда было б дадому прыганяць, дзень як год, дык усё наўкол засеяна, няможна ганяць, увечары кругом гоняць дадому.* Гіль. — *А там дождж, слота, холад, там цяжка, тужліва, і дзень будзе як год, і вы разбяжыцеся хто куды... — сумна ківаў галавой Марат Васільевіч.* Гарэлікава.

*ГОДЗЕ* • **ДЫ (ДЫЙ, ДЫ І) ГО́ДЗЕ.** *Узнач. часціцы. Разм.* **1.** І ўсё. Ужыв. для паказу пастаянства, настойлівасці ў якім-н. дзеянні. *[Несцерка:] Няма дзе прытуліцца — ды годзе.* В.Вольскі. *А тут упёрліся, як наравістыя казлы. Не ўступаюць адзін аднаму — дый годзе!* Шамякін. *Фронт даўно ўжо праходзіць за намі далёка на ўсходзе, мы ж на месцы стаім на тым самым, стаім, ды і годзе.* Куляшоў.

**2**. Ужыв. пры наз. як сцвярджэнне, узмацненне выказвання. **Сін**.: ды і толькі. *А на стале тым — рай ды годзе...* Колас. *А Сымонка мог — скорчыць такую фізіяномію, зробіць такія вочы, што кожны гаварыў: — Певень дый годзе!* Бядуля.

**ПА СА́МАЕ (-ЫЯ) ГО́ДЗЕ**. *Акал. Разм.* **1**. Спаўна, як толькі можна (рабіць што-н., дастацца каму-н. і пад.). **Сін**.: на поўную катушку (у 3 знач.); на поўную сілу (у 2 знач.); на ўсе застаўкі (у 4 знач.); на ўсю жалезку (у 1 знач.); на ўсю іванаўскую (у 2 знач.); па самае не хачу; па самае нельга. *Шафёр, стараючыся нагнаць упушчанае, даваў газу па самае годзе — толькі мільгацелі паабапал.. кашлатыя яліны.* Лецка. *[Лаўрэн:] От, ваяваў, як усе... Усім дасталося па самыя годзе. Дасталося, вядома, і мне.* Карпюк.

**2**. Вельмі строга (караць, біць і пад.). **Сін**.: на поўную катушку (у 2 знач.); на ўсю жалезку (у 2 знач.). *[Піліпіха:] Забярыце яго ў сваю гміну і ўсыпце халеры бізуноў па самыя годзе...* Карпюк.

**3**. Вельмі глыбока (уваліцца, праваліцца куды-н.). *Ганна.. увалілася недзе па самыя годзе ў ваду, спадніца на марозе ўдубянела, ідзе — брэм, брэм, як бляха...* Брыль.

*ГОДУ* • **БЕЗ ГОДУ ТЫДЗЕНЬ**. Гл. тыдзень.

**З ГО́ДУ Ў ГО́Д**. *Акал. Разм.* Пастаянна, на працягу некалькіх гадоў. *Сям'я расла з году ў год. Толькі нас, дзяцей, было дзевяць.* Броўка. *Пра гэта смешнае здарэнне доўга гаварылі, а пасля з году ў год так і хадзіла пагалоска пра бойку чалавека з пеўнем.* Чорны.

*Дурны* **ЯК САБАКА ДА ГОДУ**. Гл. сабака.

*ГОЛ* • **ГО́Л ЯК САКО́Л**. *Вык. і азн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі бедны. **Сін**.: голы як бізун. *А мо і Ясь не багатыр, а гол як сакол?* Міська. *У прымы не возьмуць: гол як сакол. Аднак мяне гэта не вельмі турбуе.* Праскураў. *[Сухалета:] От прыехаў я, як стаю перад вамі, гол як сакол, з тае праклятае Амерыкі.* Вітка.

*ГОЛАМУ* • **ГО́ЛАМУ ЗА ПА́ЗУХУ**. *У безас. ужыв. Разм. Іран.* Зусім няма (чаго-н.). **Сін**.: дзірка ад абаранка; ні грана; ні сінь-пораху; ні фіга; ні халеры; ні храна; ні чорта; ні шыша. *Работа Івану Красоўскаму ўсё не траплялася, прыпасаў — голаму за пазуху, а голад — не цётка, кішкі марша гралі.* Новікаў.

*ГОЛАС* • **ВОЛАС У ВОЛАС <ГОЛАС У ГОЛАС>**. Гл. волас.

**МАРНЫ ГОЛАС У ПУСТЫНІ**. Гл. лямант.

**НА ЎВЕ́СЬ (ПО́ЎНЫ) ГО́ЛАС**. *Акал. Функц. не зам.* **1**. Вельмі гучна, моцна (крычаць, плакаць, спяваць і пад.). **Сін**.: благім матам; з усіх жыл (у 2 знач.); колькі <было> сілы (у 3 знач.); на поўную сілу (у 3 знач.); на поўныя грудзі (у 2 знач.); на ўвесь свет (у 1 знач.); на ўсе грудзі (у 2 знач.); на ўсе застаўкі (у 1 знач.); на ўсё горла; на ўсю глотку; на ўсю іванаўскую (у 1 знач.); на ўсю моц (у 3 знач.); немым голасам; не сваім голасам; што ёсць духу (у 2 знач.); што ёсць сілы (у 3 знач.); <як> іерыхонская труба (у 2 знач.); як недарэзаны; як рэзаны. *Бася спалохана крыкнула на ўвесь голас.* Быкаў. *Лёкса доўга пазірала на гэтыя цёмныя плямы, баючыся падмануцца, і раптам загаласіла — дзіка, сумна, на ўвесь голас.* Кудравец. *Мужчыны размаўлялі на поўны голас, смяяліся.* Шамякін. *Упершыню заспявалі на поўны голас шпакі — сакавіта, узахлёб.* Праскураў.

**2**. Адкрыта, шчыра, для агульнага ведама (гаварыць, заяўляць і пад.). *Яшчэ казку трэба скласці і расказваць на ўвесь голас пра цудоўны жытні колас.* Пушча. *Янка Купала на ўвесь голас заявіў аб праве працоўнага народа на лепшую долю.* «Настаўн. газ.» *Усе нечага чакалі, сустракаліся з даўнімі знаёмымі, якіх не бачылі ўсю акупацыю, і гаварылі на поўны голас, не баючыся і не азіраючыся.* Грахоўскі.

**ПАВЫШАЦЬ ГОЛАС** *на каго*. Гл. павышаць.

**ПАДАВАЦЬ ГОЛАС**. Гл. падаваць.

**ПАДЫМАЦЬ ГОЛАС**. Гл. падымаць.

**У АДЗІ́Н ГО́ЛАС**. *Акал. Функц. не зам.* **1**. Адначасова, разам (гаварыць, адказваць, крычаць і пад.). **Сін**.: як па камандзе. — *Ці не бачылі вы часамі Віктара? — Віктара? — у адзін голас перапыталі дзяўчаты.* Гартны. — *Іліко! Іліко! — у адзін голас крыкнулі Сімон з Макарам.* Самуйлёнак. — *Божа! — толькі і сказалі ў адзін голас важаты і Ролік.* Караткевіч.

**2**. Аднадушна, дружна, згодна (гаварыць, сцвярджаць, рашаць і пад.). **Сін**.: у адзін дух (у 1 знач.); у <адно> слова. — *Амуніцыю Мішку! Штаны Мішку! — у адзін голас крыкнулі чырвонаармейцы і без усякага лішняга галасавання пастанавілі абмундзіраваць Мішку, надаць яму выгляду баявога.* Лынькоў. *Нас просяць прачытаць вершы па-беларуску. Мы вагаемся: ці зразумеюць; спрабуем чытаць пераклады, але ўсе ў адзін голас гавораць: «Усё зразумела, чытайце яшчэ, яшчэ».* Грахоўскі.

*ГОЛАСАМ* • **НЕ́МЫМ ГО́ЛАСАМ** <u>*крычаць (закрычаць), вішчаць (завішчаць)*</u> і пад. *Акал. Разм.* Вельмі гучна, шалёна, роспачліва. **Сін**.: благім матам; з усіх жыл (у 2 знач.); колькі <было> сілы (у 3 знач.); на поўную сілу (у 3 знач.); на поўныя грудзі (у 2 знач.); на ўвесь голас (у 1 знач.); на ўвесь свет (у 1 знач.); на ўсе грудзі (у 2 знач.); на ўсе застаўкі (у 1 знач.); на ўсё горла; на ўсю глотку; на ўсю іванаўскую (у 1 знач.); на ўсю моц (у 3 знач.); не сваім голасам; што ёсць духу (у 2 знач.); што ёсць сілы (у 3 знач.); <як> іерыхонская труба (у 2 знач.); як недарэзаны; як рэзаны. *Жонка сядзельцава немым голасам крычала на вуліцы: — Людзі, ратуйце! Краму грабяць!* Лобан. *Раптам за акенцамі немым голасам завішчала кабета: — А-а!..* Карпюк.

**НЕ СВАІ́М ГО́ЛАСАМ** <u>*крычаць (закрычаць), галасіць*</u> і пад. *Акал. Разм.* Вельмі гучна, роспачліва, шалёна. **Сін**.: благім матам; з усіх жыл (у 2 знач.); колькі <было> сілы (у 3 знач.); на поўную сілу (у 3 знач.); на поўныя грудзі (у 2 знач.); на ўвесь голас (у 1 знач.); на ўвесь свет (у 1 знач.); на ўсе грудзі (у 2 знач.); на ўсе застаўкі (у 1 знач.); на ўсё горла; на ўсю глотку; на ўсю іванаўскую (у 1 знач.); на ўсю моц (у 3 знач.); немым голасам; што ёсць духу (у 2 знач.); што ёсць сілы (у 3 знач.); <як> іерыхонская труба (у 2 знач.); як недарэзаны, як рэзаны. *Раптам чую — крычыць нехта не сваім голасам.* Крапіва. — *Ай-й! — прарэзліва, не сваім голасам закрычала Вера і кінулася за коньмі.* Грахоўскі. — *Трывога! Тры-во-га! — не сваім голасам падхапіў я, выскачыўшы з зямлянкі.* Шамякін.

*ГОЛАСУ* • **З ГО́ЛАСУ** *чыйго. Акал. Функц. не зам.* У адпаведнасці з чыёй-н. думкай, поглядам (гаварыць, выступаць і пад.). *Нямногага хочацца ад свайго крытыка маладым — дапамагчы засяродзіць думку на галоўным, сказаць пра час і пра сябе. Пераканай, дай упэўненасці там, дзе не з чужога голасу гаворым.* «Маладосць». *Выходзіць, Куронь з чужога голасу сеяў мікробы заразнай ліхаманкі...* «Полымя».

**СПЯВАЦЬ З ГОЛАСУ** *чыйго*. Гл. спяваць.

**СПЯВАЦЬ З ЧУЖОГА ГОЛАСУ**. Гл. спяваць.

*ГОЛУБ* • **ЯК ГО́ЛУБ** <u>*сівы*</u>. *Акал. Разм.* Зусім (сівы). **Сін**.: як лунь. *Я сама бачыла. То дзе-нідзе пракідваліся сівыя валасы, а то як пабялілі яму ўзялі галаву. Як голуб сівы зрабіўся.* Мурашка. *Бацька старэнькі, сівы як голуб.* Навуменка. *Кіёк у руцэ, за спіной хатулёк, запылена хуста — прасёлкам, здалёк, сівая як голуб, ішла яна [бабка].* Свірка.

*ГОЛЫ* • **ГОЛЫ КАРОЛЬ**. Гл. кароль.

**ГО́ЛЫ ЯК БІЗУ́Н**. *Вык. і азн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі бедны. **Сін**.: гол як сакол. *Гумно спалілі, а дзеравякі на новую хату загадалі завезці ў гарнізон,*

*на дровы. Так і выйшаў Мурашка з вайны — голы як бізун.* Брыль. — *Што хочаце рабіце са мною, забралі ўсё, застаўся голы як бізун, — паўтараў адно і тое ж ён [стары].* Сяргейчык. *Пайшоў... [Шыбянок] — голы як бізун — у невядомы свет шукаць невядомае долі.* Зарэцкі.

*ГОЛЫМ* • **НА ГОЛЫМ МЕСЦЫ**. Гл. месцы.
**ПАД ГОЛЫМ НЕБАМ**. Гл. небам.
**СВЯЦІЦЬ ГОЛЫМ ЦЕЛАМ**. Гл. свяціць.

*ГОЛЫМІ* • **БРАЦЬ ГОЛЫМІ РУКАМІ**. Гл. браць.
**ГОЛЫМІ РУКАМІ**. Гл. рукамі.

*ГОЛЫЯ* • **ГОЛЫЯ РУКІ** *ў каго.* Гл. рукі.

*ГОЛЬ* • **ГО́ЛЬ ПЕРАКА́ТНАЯ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Бедны, збяднелы ці маральна заняпалы чалавек. *[Хрысціна — з пагардай, з нянавісцю:] Латруга ты! Голь перакатная! Недарэмна цябе Басяком ахрысцілі.* Гілевіч. *Жыве голь перакатная, капейчыны за душой няма.* Юрчанка. *Во, у яе, маці, якая радня пашанотная, не тое, што ў бацькі, — голь перакатная, нават дзеду якую скварку ніхто не прынясе.* Шырко.

*ГОНАР* • **МЕЦЬ ГОНАР**. Гл. мець.
**У ГО́НАР** *каго, чаго, чый. Акал. Функц. не зам.* Як сведчанне павагі да каго, чаго-н., прызнання, ушанавання памяці і пад. **Сін.**: у знак *чаго* (у 2 знач.). *Наша спадарожніца-чэшка тлумачыць — гэта святы Вацлаў, у гонар якога і названа плошча.* Мележ. *Хутка Васіль заблытаўся ў імёнах гасцей і толькі запамятаў, што бабулька, якая сядзіць насупраць яго, — бабуля Марыя-джан, і ў гонар яе сямідзесяцігоддзя — гэта свята.* Супрунчук. *[Тата] сёння сказаў маме, што ён у мой гонар закаціць такі баль, якіх яшчэ ніхто ніколі не бачыў.* Шашкоў.

*ГОНАРУ* • **ДА ГО́НАРУ** *каго, чыйго. Акал. Функц. не зам. Адабр.* Аддаючы належнае годнасці, заслугам каго-, чаго-н. *На жаль, і на VIII з'ездзе пісьменнікаў знайшліся такія, хто, на словах змагаючыся за перабудову, думаў перш за ўсё пра сябе... Але, да гонару нашай пісьменніцкай арганізацыі, такіх было няшмат.* Сачанка. *Да гонару вучоных, яны працягвалі непакоіць грамадскую думку.* Лапцік.
**СЛОВА ГОНАРУ**. Гл. слова.

*ГОНІЦЬ* • **БУРА ГОНІЦЬ** *каго.* Гл. бура.
**ЛІХА ГОНІЦЬ** *каго.* Гл. ліха.
**НЯЛЁГКАЯ ГОНІЦЬ** *каго.* Гл. нялёгкая.
**НЯЧЫСТАЯ <СІЛА> ГОНІЦЬ** *каго.* Гл. сіла.
**НЯЧЫСЦІК ГОНІЦЬ** *каго.* Гл. нячысцік.
**ТРАСЦА ГОНІЦЬ** *каго.* Гл. трасца.
**ЧОРТ ГОНІЦЬ** *каго.* Гл. чорт.

*ГОНКУ* • **ДАВАЦЬ ГОНКУ** *каму.* Гл. даваць.

*ГОРА* • **І ГОРА МАЛА** *каму.* Гл. мала.

*ГОРАДУ* • **НІ К СЯЛУ НІ К ГОРАДУ**. Гл. сялу.

*ГОРАМ* • **З ГОРАМ ПАПАЛАМ**. Гл. папалам.

*ГОРАЧА* • **НЕБУ ГОРАЧА БЫЛО**. Гл. было.

**НІ ГО́РАЧА НІ ХО́ЛАДНА** *каму ад чаго. У безас. ужыв. Разм.* Што-н. зусім абыякава для каго-н.; нікольki не хвалюе каго-н. **Сін.**: абы дзень да вечара *каму* (у 2 знач.); адзін хрэн *каму*; адзін чорт <*каму, для каго*>; адна трасца <*каму*>; адна халера; адно ліха; і гора мала *каму*; і не шум баравы *каму*; усё адно (у 2 знач.); усё роўна (у 4 знач.); хоць бы хны (у 3 знач.); хоць бы што (у 3 знач.); хоць воўк траву еш; хоць патоп; хоць трава не расці <*каму*>; што з гусі вада з *каго, каму*; як з гусака вада *з каго. [Зося:] А мне ад гэтага ні горача ні холадна! Зайздросцяць, і ўсё тут.* Козел. *Але Юрку ні горача ні холадна ад хмурых позіркаў.* Сяркоў. *Гэта быў адзін з тых гаваруноў, якім ад усіх тых спраў, якія тут так цікавяць людзей, не было ні холадна ні горача.* Чорны. — *Бюро гаркома зняло Карнача. — Ну і што? — Як — што? — Думаю, нікому ад гэтага ні холадна ні горача. Падумаеш — пасада!* Шамякін.

*ГОРБ* • **ГНУЦЬ <СВОЙ> ГОРБ**. Гл. гнуць.
**ГНУЦЬ <СВОЙ> ГОРБ** *перад кім*. Гл. гнуць.

*ГОРДЗІЕЎ* • **ГОРДЗІЕЎ ВУЗЕЛ**. Гл. вузел.
**СЕКЧЫ ГОРДЗІЕЎ ВУЗЕЛ** <*чаго*>. Гл. секчы.

*ГОРКАЙ* • **ГОРШ ГОРКАЙ РЭДЗЬКІ**. Гл. горш.

*ГОРКАЯ* • **АСІНА <ГОРКАЯ> ПЛАЧА** *па кім*. Гл. асіна.
**ГОРКАЯ ПІЛЮЛЯ**. Гл. пілюля.
**ЯК ГОРКАЯ РЭДЗЬКА**. Гл. рэдзька.

*ГОРКІ* • **НА ГОРКІ ЯБЛЫК**. Гл. яблык.

*ГОРКУЮ* • **ВЫПІЦЬ ГОРКУЮ ЧАШУ ДА ДНА**. Гл. выпіць.
**ПІЦЬ <ГОРКУЮ> ЧАШУ ДА ДНА**. Гл. піць.
**ПРАГЛЫНУЦЬ <ГОРКУЮ> ПІЛЮЛЮ**. Гл. праглынуць.

*ГОРЛА* • **БРАЦЬ ЗА ГОРЛА** *каго*. Гл. браць.
**ВАЛІЦЦА ЦЕРАЗ ГОРЛА** *ў каго*. Гл. валіцца.
**ВЫРЫВАЦЬ З ГОРЛА** *што ў каго, з чыйго*. Гл. вырываць.
**ГО́РЛА ШЫРО́КАЕ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Празмерная зайздрасць, сквапнасць. *[Нявада:] Я заўсёды казаў: чалавек не можа спажыць больш, чым можа. Шырокае горла заўсёды на згубу вядзе...* Чорны.
**ГО́РЛА ШЫРО́КАЕ** *ў каго. Адз. і мн. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. вельмі прагны, хцівы, зайздросны. **Сін.**: вока няпоўнае *ў каго*; папоўскае вока *ў каго*. *Не здаволіш яго ніяк. От горла шырокае. Здэцца, увесь свет загроб бы да сябе.* «Полымя». *У пана і папа горлы шырокія.., пры дзяльбе [снапоў] яны яшчэ і з трэцяга, Рыгоравага, стараюцца ўварваць жменю-другую.* Крапіва.
**ГРЫЗЦІ ГОРЛА** *каму*. Гл. грызці.
**ДРАЦЬ ГОРЛА**. Гл. драць.
**ЗАЛІВАЦЬ ГОРЛА** < *чым* > *каму, каго*. Гл. заліваць.
**ЗАТЫКАЦЬ ГОРЛА** *каму, каго*. Гл. затыкаць.
**З ГОРЛА ЛЕЗЕ** *ў каго*. Гл. лезе.
**З ГОРЛА ПРЭ** *ў каго*. Гл. прэ.
**З НАЖОМ ДА ГОРЛА**. Гл. нажом.
**КАМЯК ПАДКАЦІЎСЯ ДА ГОРЛА** <*каму*>. Гл. камяк.
**НАЛІЦЬ ГОРЛА**. Гл. наліць.
**НАСТУПАЦЬ НА ГОРЛА** *каму, чаму*. Гл. наступаць.

**НАСТУПАЦЬ САБЕ НА ГОРЛА**. Гл. наступаць.

**НА ЎСЁ ГО́РЛА** *крычаць (закрычаць), рагатаць* і пад. *Акал. Разм.* Вельмі моцна. **Сін.**: благім матам; з усіх жыл (у 2 знач.); колькі <было> сілы (у 3 знач.); на поўную сілу (у 3 знач.); на поўныя грудзі (у 2 знач.); на ўвесь голас (у 1 знач.); на ўвесь свет (у 1 знач.); на ўсе грудзі (у 2 знач.); на ўсе застаўкі (у 1 знач.); на ўсю глотку; на ўсю іванаўскую (у 1 знач.); на ўсю моц (у 3 знач.); немым голасам; не сваім голасам; што ёсць духу (у 2 знач.); што ёсць сілы (у 3 знач.); <як> іерыхонская труба (у 2 знач.); як недарэзаны; як рэзаны. *[Сімон] стаў вясёлым і рагатаў на ўсё горла, трымаючыся за плот.* Самуйлёнак. *— Сюды, сюды! — на ўсё горла закрычаў Сяславін.* А.Марціновіч.

**НЕ ЛЕЗЕ Ў ГОРЛА**. Гл. лезе.

**ПА <СА́МАЕ> ГО́РЛА**. *Разм.* **1**. *Акал.* Вельмі моцна, надзвычай (заняты, задаволены і пад. чым-н.). **Сін.**: па <самую> шыю (у 1 знач.). *Для студэнтаў настаў час экзаменацыйнай сесіі. Усе былі заняты па горла.* Карпюк. *І арэхі былі... Не залатыя, праўда, свінцовыя... Але нічога, гітлераўцы кажуць, што задаволены імі па горла.* Крапіва.
**2**. *Акал.* Звыш усякай меры (нацярпецца, наваявацца і пад.). **Сін.**: па <самую> шыю (у 2 знач.). *Удосталь мы з табой нагледзеліся вайны, хапіла нам яе з табой па самае горла, так што давай пагаворым лепш, што ты думаеш далей рабіць?* Лынькоў. *Я наваяваўся па горла. Хопіць...* Дамашэвіч.
**3**. *чаго. У безас. ужыв.* Вельмі многа (работы, клопатаў, спраў і пад.; багацця, прадуктаў і пад.). **Сін.**: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без лысу; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не перастáвіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе ў *каго*; з горла прэ ў *каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не ханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго*. *[Анатоль Іванавіч:] У мяне сваіх праблем па горла.* Шамякін. *Сёння ў нас яшчэ клопату па самае горла.* Чыгрынаў. *І хоць у самога [Зыдора] работы па горла, але нікому не адмаўляў.* Цяжкі. *Вядома, каму ж не жыць, як не ім: зямлі процьма, хлеба — па горла, грошы — не пералічыш...* Гартны.

**ПРАМАЧЫЦЬ ГОРЛА**. Гл. прамачыць.

**РВАЦЬ ГОРЛА**. Гл. рваць.

**СТАНАВІЦЦА НА ГОРЛА** *каму*. Гл. станавіцца.

**СТАНАВІЦЦА ПАПЯРОК ГОРЛА** *каму*. Гл. станавіцца.

**СТАЯЦЬ ПАПЯРОК ГОРЛА** *каму*. Гл. стаяць.

**СЫТЫ ПА ГОРЛА** *чым*. Гл. сыты.

*ГОРЛАМ* • **БРАЦЬ ГОРЛАМ**. Гл. браць.

*ГОРЛЕ* • **КОСТКА Ў ГОРЛЕ** *каму, у каго, для каго, для чаго*. Гл. костка.

**СТАНОВІЦЦА КАЛОМ У ГОРЛЕ**. Гл. станавіцца.
**СТАЯЦЬ КОСТКАЙ У ГОРЛЕ** *каму, у каго*. Гл. стаяць.
**ЯК КОСТКА Ў ГОРЛЕ** *каму*. Гл. костка.

*ГОРШ* • **ГО́РШ ГО́РКАЙ РЭ́ДЗЬКІ**. *Акал. Разм.* Вельмі моцна, нязносна (надакучыць, абрыдзець і пад.). **Сін.**: як горкая рэдзька. *[Сцяпан:] Каханенькія, родненькія, кіньце аб гэтым свінапасе гаварыць. Прыелася ўжо мне гутарка аб ім горш горкай рэдзькі.* Купала. *Не падабаецца мне ўся гэта калатня. Дый усё гэтае смаляное пекла надакучыла горш горкай рэдзькі.* Машара. *[Андрэй:] І наогул абрыдла мне ваша апека горш горкай рэдзькі.* Козел.

*ГОРЫ* • **ВАРОЧАЦЬ ГОРЫ** <з *кім, чым*>. Гл. варочаць.

*ГРАБЕ* • **ЯК КУРЫЦА ЛАПАЙ <ГРАБЕ>**. Гл. курыца.

*ГРАБІ* • **ХО́ЦЬ ГРА́БЛЯМІ ГРАБІ́ (ЗАГРАБА́Й)** *чаго, каго. Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм.* Вельмі многа. Часцей пра ягады, грыбы. **Сін.**: хоць вазамі вазі *чаго*; хоць касой касі *чаго*; хоць касу закладвай *чаго. Хадзілі за Кліманты, там іх [грыбоў] хоць граблямі заграбай.* Янкоўскі. *Іх жа [ягад] у нас хоць граблямі грабі.* Гіль. *Райка бачыла, што былі дзяўчаты, у якіх твары і постаці намнога горшыя, чым у Нэлкі, а хлопцаў ля іх — хоць граблямі грабі.* Гігевіч.

*ГРАБЛІ* • **НАСТУПАЦЬ НА ГРАБЛІ**. Гл. наступаць.
Рукі **ЯК ГРА́БЛІ**. *Вык. Разм.* **1**. Няўмелыя, не прыстасаваныя да работы. *Няпраўда, мама, гэта яна [разбіла талерку]. Рукі як граблі: так усё і валіцца з іх.* Крапіва. *Рукі ў цябе як граблі. Вечна ўсё валіцца...* Філіповіч.
**2**. Такія, што нельга свабодна сагнуць ці разагнуць пальцы (ад доўгай аднастайнай працы, ад холаду і пад.). *Спіна твая, браце мой, як горб, рукі як граблі.* Каваль. *Пакуль Лісавета кончыла паласканне, рукі сталі як граблі.* Чарнышэвіч. *Такое сёння надвор'е — наскрозь пранізала... Рукі дык і цяпер як граблі.* Лобан.

*ГРАБЛЯМІ* • **ХОЦЬ ГРАБЛЯМІ ГРАБІ** *чаго, каго*. Гл. грабі.

*ГРАБЦІ* • **ГРАБЦІ ЛАПАТАЙ** *грошы*. Гл. грэбці.
**ГРАБЦІ ПАД СЯБЕ** <*што*>. Гл. грэбці.

*ГРАБЯНЕЦ* • **СТРЫЖКА ПАД АДЗІН ГРАБЯНЕЦ**. Гл. стрыжка.
**СТРЫГЧЫ ПАД АДЗІН ГРАБЯНЕЦ** *каго*. Гл. стрыгчы.
**СТРЫГЧЫ ПАД СВОЙ ГРАБЯНЕЦ** *каго*. Гл. стрыгчы.

*ГРАДУСАМ* • **ПАД ГРА́ДУСАМ**. *Акал. і вык. Разм. Неадабр.* У стане ап'янення. **Сін.**: на брывах; на вушах; на падпітку; на ўзводзе; пад газам; пад мухай; пад хмяльком; пад чаркай; пад шафэ. *За старасту цяпер быў той самы Ціт Мірончык, часта хадзіў пад градусам, рыжы чалавек, з закручанымі рыжымі вусамі.* Кухараў. *У плакаце ўказваюцца «льготы» на выпадак парушэння працоўнай дысцыпліны, з'яўлення на работу пад градусам.* «Звязда». *Ты ж ведаеш, як ён гарэлку любіў. Кожны вечар пад градусам ды пад градусам. А пад градусам, то ці біцца, ці сварыцца.* Кудравец.

*ГРАДУСАЎ* • **НА СТО ВОСЕМДЗЕСЯТ ГРАДУСАЎ**. Гл. сто.

*ГРАЗЁЮ* • **МЯШАЦЦА З ГРАЗЁЮ**. Гл. мяшацца.

*ГРАЗЗЮ* • **АБКІДАЦЬ ГРАЗЗЮ** *каго*. Гл. закідваць.
**АБЛІВАННЕ ГРАЗЗЮ** <*каго*>. Гл. абліванне.
**АБЛІВАЦЦА ГРАЗЗЮ**. Гл. абліванцца.

**АБЛІВАЦЬ ГРАЗЗЮ** *каго, што.* Гл. абліваць.

**ЗАКІДВАЦЬ ГРАЗЗЮ** *каго.* Гл. закідваць.

**КІДАЦЦА ГРАЗЗЮ**. Гл. кідацца.

**МЯШАЦЬ З ГРАЗЗЮ** *каго, што.* Гл. мяшаць.

*ГРАЗІ* • **З ГРАЗІ́ ДЫ Ў КНЯЗІ́**. *Акал. Разм. Неадабр.* З нізоў у вялікае начальства (выбіцца, узняцца, трапіць і пад.). Пра хуткае ўзвышэнне каго-н. *Яго ж бацьку калісьці на канюшні розгамі сцябалі. А цяпер сын выбіўся з грaзі ды ў князі.* Хомчанка. *Яму гэта гаспадаранне вомегам вылезе. Знайшоўся!.. З гразі ды ў князі...* Гартны. *Гэта ж трэба, так пашанцавала. Цяпер от жыць будуць — што ў горадзе, з усімі выгодамі. З гразі ды ў князі.* «Полымя».

**ЯК ГРАЗІ́** *каго, чаго. У безас. ужыв. Разм.* Вельмі многа, у вялікай колькасці. Пра адуш. ці неадуш. прадметы. **Сін.**: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла ў *каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ ў *каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. Чаго добрага, а людзей як гразі...* Грахоўскі. — *А дзявок жа — як гразі, — прыцмоквае Палуян.* Наўроцкі. — *Грыбоў сёлета як гразі... — дзелавіта тлумачыла суседка.* Праскураў.

**ЯК ЖАБА ГРАЗІ**. Гл. жаба.

**ЯК З ГРАЗІ КУЛЯ**. Гл. куля.

*ГРАЗЬ* • **МЯСІЦЬ ГРАЗЬ**. Гл. мясіць.

**НЕ ЎДАРЫЦЬ ТВАРАМ У ГРАЗЬ**. Гл. ударыць.

**ПАДАЦЬ < ТВАРАМ > У ГРАЗЬ**. Гл. падаць.

**ПЛЯСНУЦЦА < ТВАРАМ > У ГРАЗЬ**. Гл. пляснуцца.

**ТАПТАЦЦА Ў ГРАЗЬ**. Гл. таптацца.

**ТАПТАЦЬ У ГРАЗЬ** *каго, што.* Гл. таптаць.

**УТОПТВАННЕ Ў ГРАЗЬ** *каго, чаго.* Гл. утоптванне.

**ЯК ГРА́ЗЬ** *<u>п'яны</u>. Акал. Разм. Неадабр.* Вельмі моцна. **Сін.**: да парасячага піску; да чорцікаў (у 2 знач.); у дрызіну; у дым (у 1 знач.); у дыміну; як зямля; як свіння. *А Міхась Крываносік дык прыйшоў дадому п'яны як гразь ды усе гаршкі паматлашыў.* Крапіва. — *Кожны божы дзень як гразь п'яны соваўся, — крычала рудая сухенькая жанчына з пагарэльцаў і стукала кулаком па далоні.* Грахоўскі. *І тутака прыязджаюць па мяне. Ігнат Крывазуб, а за ім яшчэ адзін, п'яны як гразь.* «Полымя».

*ГРАМ* • **НІ НА ГРА́М**. *Разм.* **1**. *Акал. Ужыв. у адмоўн. ск.* Нікольки, зусім (не даваць, не баяцца і пад.). **Сін.**: на волас (у 2 знач.); на <ломаны> грош; на макулінку (у 2 знач.);

на мезены палец; на панюх табакі (у 2 знач.); на сіні пазногаць (у 2 знач.); на шэлег (у 2 знач.); ні божа мой; ні грама; ні каліва; ні кроплі; ні на <адзін> шэлег (у 1 знач.); ні на волас, ні на гран; ні на грош; ні на ёту; ні на каліва; ні на кроплю; ні на макава зерне; ні на макулінку. *Мужычок знізу ўверх бліснуў на Валошку шчаслівымі вочкамі, ні на грам не спалохаўся.* Карамазаў. *Я калгас наш прама на маяк выведу, не дам з дарогі скрывіць ні на грам!* А.Жук. *[Салвесь] пайшоў нетаропка, нават патыліцай паказваючы, што ні на грам не баіцца старшыні, дый наогул сабе цану ён ведае.* Супрунчук.

**2.** *чаго. У безас. ужыв.* Зусім няма. Пра поўную адсутнасць чаго-н. **Сін.**: ні на <адзін> шэлег (у 2 знач.); ні на капейку *чаго*; ні на ломаны грош *чаго. — Жывы сведка перад намі, — Ражнікаў пастукаў сябе ў грудзі. — Ні на грам хлусні.* Алешка. *Людзям на смех, брат, не хочацца выстаўляцца. Усё за школу забыўся. І жадання — ні на грам. А жонка насядае...* Мыслівец.

*ГРАМА* • **НІ ГРА́МА**. *Акал. Разм.* Зусім нічога (не рабіць, не дапамагаць, не кранаць і пад.). **Сін.**: на волас (у 2 знач.); на <ломаны> грош; на макулінку ( у 2 знач.); на мезены палец; на панюх табакі (у 2 знач.); на сіні пазногаць (у 2 знач.); на шэлег (у 2 знач.); ні божа мой; ні каліва; ні кроплі; ні на <адзін> шэлег (у 1 знач.); ні на волас; ні на грам (у 1 знач.); ні на гран; ні на грош; ні на ёту; ні на каліва; ні на кроплю; ні на макава зерне; ні на макулінку. *І зноў жа, Іван, давай без прафілактыкі.. Мяне яна ні грама не кранае.* Кудравец. *А цяпер я адзін астаўся, без дапамогі, без сына... А яна мне ні грама памагаць не хоча.* А.Жук. *Спытайце нават маму — не дасць зманіць. Ні грама...* Кляўко.

*ГРАМАТА* • **КІТА́ЙСКАЯ ГРА́МАТА**. *Мн. не ўжыв. Часцей у знач. вык. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Што-н. зусім незразумелае, тое, у чым цяжка разабрацца. **Сін.**: цёмны лес *<для каго>*; цямна вада ва облацэх. **Ант.**: простая арыфметыка. *Усякія лічбы там, планы ды перспектывы — гэта для мяне кітайская грамата...* Крапіва. *[Балотны:] Нас нашы разумеюць. [Шчукін:] Я сам хоць у душы і паэт, але для мяне гэта кітайская грамата.* Гурскі. У *яе [Галі] прыстойнае вымаўленне, учэпістая памяць. Запомніла шмат слоў і зусім вольна адчувае сябе на старонцы, якая яшчэ ўчора была кітайскай граматай.* Навуменка.

**ФІ́ЛЬКАВА ГРА́МАТА**. *Часцей адз. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Пустая паперка, несапраўдны ці няправільна напісаны дакумент. *З'явілася на тых хвалях розная шума несусветная, усялякія фуражыры-драпежнікі, якія бралі ў сялян і пошар, і коні пад шарлатанскія распіскі, фількавы граматы, карыстаючыся ўласцівым для вайны бязладдзем, безначаллем.* Дубоўка. *З-за такіх вось аўралаў у матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні шмат дзе брыгадны падрад ператвараецца ў фількаву грамату.* «Звязда». *Як не паверыць начальніку? Вялічка і «вярнула» потым доўг, фількаву грамату падсунула. Нястачу ліквідавала прыпіскай тавараў.* «Вожык».

*ГРАН* • **НІ НА ГРА́Н**. *Акал. Разм. Ужыв. у адмоўн. ск.* Нікольки, зусім (не мець, не хваляваць і пад.). **Сін.**: на волас (у 2 знач.); на <ломаны> грош; на макулінку (у 2 знач.); на мезены палец; на панюх табакі (у 2 знач.); на сіні пазногаць (у 2 знач.); на шэлег (у 2 знач.); ні божа мой; ні грама; ні каліва; ні кроплі; ні на <адзін> шэлег (у 1 знач.); ні на волас; ні на грам (у 1 знач.); ні на грош; ні на ёту; ні на каліва; ні на кроплю; ні на макава зерне; ні на макулінку. *Маё нядаўняе мінулае, верыш, ніколечкі мяне, ну ні на гран не хвалюе — усё роўна, як і ты...* Масарэнка. *Цяпер табе, напэўна ж, лёгка па вёсцы плакаць і тужыць... Ды вёсцы ад тваёй любві няма карысці ні на гран.* Жычка.

*ГРАНА* • **НІ ГРА́НА.** *Акал. Функц. не зам.* Зусім нічога (няма, не было, не знайсці і пад.). Пра поўную адсутнасць чаго-н. **Сін.**: голаму за пазуху; дзірка ад абаранка; ні сінь-пораху; ні фіга; ні халеры; ні храна; ні чорта; ні шыша. *У Купалы мы не знойдзем ні грана.. той «чыстай духоўнасці», якая спадарожнічае паэзіі кансерватыўных рамантыкаў...* Навуменка. *Увогуле ты маеш рацыю... Але ўжо — ні грана хітрасці, Эма! Гэта — умова. Загад. Раскажаш там праўду.* Карпаў.

*ГРАНДЫЁЗУС* • **СВІНТУС ГРАНДЫЁЗУС.** Гл. свінтус.

*ГРАНІТ* • **ГРЫЗЦІ ГРАНІТ** *навукі.* Гл. грызці.

*ГРАНІЦАЙ* • **ЗА ГРАНІ́ЦАЙ.** *Акал. Функц. не зам.* У замежных дзяржавах. **Сін.**: за бугор; за бугром; за мяжой. *Аб гэтым вялікім тэатральным тварэнні [спектаклі «На дне»] напісаны тамы доследаў — і ў нас, і за граніцай.* Чорны. *Мне, як нашым спартсменам за граніцай, неабходна чыстая перамога. А то ўсё роўна не залічаць...* Карпаў.

*ГРАНІЦУ* • **ЗА ГРАНІ́ЦУ.** *Акал. Функц. не зам.* У замежныя дзяржавы. **Сін.**: за мяжу. *[Гаспадыня:] А так, прыйдзецца распрадаць усю маёмасць — і гайда за граніцу. [Студэнты:] За граніцу? А мяне? [Гаспадыня:] Як ні шкада, а прыйдзецца тут пакінуць.* Галубок. *Каморнік вучыцца збіраецца ехаць надоўга. За граніцу некуды паедзе.* Чорны.

*ГРАНІЦЫ* • **З-ЗА ГРАНІ́ЦЫ.** *Акал. Функц. не зам.* З замежных дзяржаў. **Сін.**: з-за мяжы. *[Лось:] Ды справа не ў грамадзе, а ў тым, што прэс замежны, часткі паламаліся такія, якіх нам тут не зрабіць. Трэба выпісваць іх з-за граніцы.* Галубок. *Ну, любачка, з-за граніцы не тое прывозілі, калі хацелі.* Грамовіч.

*ГРАТА* • **ПЕРСОНА НОН ГРАТА.** Гл. персона.

*ГРАХОМ* • **З ГРАХОМ ПАПАЛАМ.** Гл. папалам.

*ГРАХУ* • **ДАЛЕЙ АД ГРАХУ.** Гл. далей.
**НЯМА ЧАГО ГРАХУ ТАІЦЬ.** Гл. няма.
**ЧАГО ГРАХУ ТАІЦЬ.** Гл. таіць.

*ГРАШЫ* • **НЕ ГРАШЫ́ БО́ГУ.** *Незак. Толькі ў заг. л. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дарэмна не наракай. Ужыв. для выражэння нязгоды з папярэднім выказваннем. **Сін.**: не гняві бога. *Не грашы богу, Тарэнта, во што я табе скажу.* Галавач. *Не грашы богу, Лявон. Цані тое, што маеш...* Дамашэвіч.

*ГРАШЫЦЬ* • **НЯМА ЧАГО <БОГУ> ГРАШЫЦЬ.** Гл. няма.
**ШТО́ БО́ГУ ГРАШЫ́ЦЬ.** *Убезас. ужыв. Разм.* Няма падстаў крыўдзіцца на лёс, быць незадаволеным. **Сін.**: няма чаго бога гнявіць; няма чаго <богу> грашыць. *[Міхаліна:] [У магазіне] і цукар ёсць, і агуркі ў банках балгарскія з перцам, і рыбы гэтай вірлавокай невыводна, што богу грашыць.* Петрашкевіч.

*ГРОМ* • **ГРО́М ГРЫ́МНУЎ.** *Убезас. ужыв. Разм.* Узнікла небяспека, пагроза; здарылася бяда. *Доўгі час журнал здачы [машын] ніхто не запаўняў і не правяраў. Пакуль, як кажуць, не грымнуў гром.* «Звязда». *Гром, як кажуць, грымнуў у леташнім кастрычніку, калі адно з пісьмаў праверыў гарадскі камітэт народнага кантролю.* «Вожык».
**ЯК ГРО́М (ПЯРУ́Н) З (СЯРО́Д) Я́СНАГА НЕ́БА.** *Разм.* **1.** *Акал.* Зусім нечакана, раптоўна. Звычайна пра якое-н. здарэнне, няшчасце, бяду і пад. **Сін.**: адкуль ні вазьміся; нечакана-негадана; ні адсюль ні адтуль; як снег на галаву (у 1 знач.). *Для Ліпая гэты голас прагучаў як гром з яснага неба.* Якімовіч. *Вайна... Трэція суткі, як яна пачалася. Ударыла як гром з яснага неба, аглушыла, і я ніяк не магу апомніцца.* Шамякін. *Нават*

*родны дзядзька толкам нічога не ведаў. А тут як пярун з яснага неба — шась у двор на сваёй машыне, чысты, гладкі і, кажуць, начальнік вялікі.* Грахоўскі. *А мяне ж бацькі чакаюць дома. Даў тэлеграму, што еду. З 1940 года не бачыў сваіх. І тут, халера, як пярун з яснага неба — гэты апендыцыт...* Прокша. — *Шагам марш у клас! — як гром сярод яснага неба раздаецца раптам над галовамі ў дзяўчат.* Васілевіч.

**2.** *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Зусім нечаканы, раптоўны. Пра якую-н. падзею, навіну і пад. **Сін.**: як снег на галаву (у 3 знач.). *Як гром з яснага неба было для Малышава з'яўленне ўпаўнаважаных ад сельскага Савета.* Пальчэўскі. *Бацькава паездка на курорт, потым вяртанне — не дадому, а да Волькі Канапелькавай! — зноў былі як гром сярод яснага неба.* Місько. *Для Бойкі навіна была як гром з яснага неба.* Кудраўцаў.

*ГРОШ* • **ГРОШ ЦАНА <У БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ>** *каму, чаму.* Гл. цана.

**<І> У ГРОШ НЕ СТАВІЦЬ** *каго, што.* Гл. ставіць.

**ЛОМАНЫ ГРОШ ЦАНА** *каму, што.* Гл. цана.

**НА <ЛО́МАНЫ> ГРО́Ш.** *Акал. Разм. Ужыв. у адмоўн. ск.* Нікольki, зусім (няма, не верыць і пад). **Сін.**: на волас (у 2 знач.); на макулінку (у 2 знач.); на мезены палец; на панюх табакі (у 2 знач.); на сіні пазногаць (у 2 знач.); на шэлег (у 2 знач.); ні божа мой; ні грама; ні каліва; ні кроплі; ні на <адзін> шэлег (у 1 знач.); ні на волас; ні на грам (у 1 знач.); ні на гран; ні на грош; ні на ёту; ні на каліва; ні на кроплю; ні на макава зерне; ні на макулінку. *Ці дурань сам, ці ўсе дурніцы, ці проста кпяць з цябе, дурнога, бо ты не ведаеш нічога, а толькі грошы выцягаюць, але на грош не памагаюць.* Колас. *І выйшла, што з нашай працы ні дзяржаве, ні калгасу, ні вам самім тае карысці і на ломаны грош няма.* Сабаленка. — *Зломіш вясло! — не вытрымаў цесць. — Не падабаецца? Сур'ёзнасці на грош няма.* Брыль.

**НІ ЗА ГРО́Ш** <u>прападаць (прапасці), гінуць (загінуць)</u> і пад. *Акал. Разм.* Зусім дарэмна, без падстаў. **Сін.**: вечным правам; за гнілую рыбу; ні за капейку; ні за панюх табакі; ні за што ні пра што; як рудая мыш. *Далей-болей, бачу, ратавацца трэба. Ні за грош прападзём. Ноччу выбраўся са свірна ды наўцёкі.* Асіпенка. *Далёка Адэлі да Ганны, хоць яна і ў гімназіі вучылася. Таму і не хацеў Андрэй так ні за грош пакідаць гэтую дзяўчыну.* Чарнышэвіч. *Павёў [паліцэйскі] мяне ў хату, напісаў запіску. «Перадасі Франі»... І адпусціў... Але бачыш — усё ад выпадку залежыць. Не ведаў бы яе — ні за грош кокнулі б.* Навуменка.

**НІ НА ГРО́Ш.** *Акал. Разм. Ужыв. у адмоўн. ск.* Нікольki, зусім (не мець, не верыць і пад.). **Сін.**: на волас (у 2 знач.); на <ломаны> грош; на макулінку (у 2 знач.); на мезены палец; на панюх табакі (у 2 знач.); на сіні пазногаць (у 2 знач.); на шэлег (у 2 знач.); ні божа мой; ні грама; ні каліва; ні кроплі; ні на <адзін> шэлег (у 1 знач.); ні на волас; ні на грам (у 1 знач.); ні на гран; ні на ёту; ні на каліва; ні на кроплю; ні на макава зерне; ні на макулінку. *Тым часам, немцам нельга было верыць ні на грош.* Гарэцкі. *[Марцін] ненавідзеў Проньку і не верыў цяпер яму ні на грош.* Каваленка. *Новы географ сыпле лічбамі, нудна пералічвае, што ў якім горадзе вырабляюць — дзе крухмал і патоку, дзе тэкстыль, сельскагаспадарчыя машыны. Фантазіі не мае ні на грош.* Навуменка.

**НІ НА ЛО́МАНЫ ГРО́Ш** *чаго. Убезас. ужыв. Разм. Неадабр.* Зусім няма. Пра поўную адсутнасць чаго-н. **Сін.**: ні на грам (у 2 знач.); ні на капейку *чаго*; ні на <адзін> шэлег (у 2 знач.). *За словам не схаваешся. Іх дужа шмат можна нагаварыць, а карысці ні на ломаны грош.* Асіпенка. *Карысці з гэтае панскае выдумкі няма ні на ломаны грош.* Колас.

*ГРОША* • **ЛО́МАНАГА ГРО́ША** *не варта. Акал. Разм.* Зусім нічога (не варта). **Сін.**: выедзенага яйца *не варта. [Кунц:] І тады ўся справа, за якую вы змагаецеся, не варта будзе і ломанага гроша.* Крапіва. *Цяжка падлічыць, колькі часу, нерваў, энергіі запатрабавалася для вывучэння «фактаў», выкладзеных Караневічам, каб пераканацца: не варты яны ломанага гроша.* «Звязда».

*ГРОШЫ* • **ЗНО́Ў ЗА РЫ́БУ ГРО́ШЫ**. *У знач. вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Назойліва паўтараць ужо вядомае. *[Коцік:] Паўлавай [у лясніцтве] сказаў... Дык што ты хочаш з бабы! Баба ёсць баба! Зрабіла кіслую фізіяномію... Таксама паабяцала пазваніць... І зноў за рыбу грошы: пільнуйце лепш ад пажару [лес].* Шамякін. *— Што з табой? Што здарылася? — Глядзі: шляхцюк твой!.. — Хто? — Не бачыш? Аслеп? Таму і не бачыш, што і сам такі... — А пры чым я тут? Зноў за рыбу грошы? Бачу я, бачу. Ну і што? Мала з кім чалавек можа сябраваць...* «Маладосць».

**НІ ЗА ЯКІ́Я ГРО́ШЫ**. *Акал. Разм. Ужыв. у адмоўн. ск. (для ўзмацнення адмоўя) часцей пры дзеясл.-вык. зак. тр.* Ні пры якіх умовах, абставінах. **Сін.**: ні божа мой (у 2 знач.); ні за што; ні за што на свеце; ні ў жысць; ні ў якім разе; ніякімі сіламі. *Шумелі-гаманілі гандляры, суседзі перасталі іх клікаць «кутнікамі», шчыра шкадавалі і раілі не выбірацца з сваіх сяліб ні за якія грошы.* Бядуля. *Я ўжо ведаў, што думае пра яго Ніна, але ні за якія грошы не адкрыў бы гэтага Пеку.* Навуменка. *Кукаронак ні за якія грошы не вымавіць «р», а любімае яго слова — братка.* Дзятлаў.

**ПРАДАЦЬ** *каго* **І ГРОШЫ ПАЛІЧЫЦЬ**. Гл. прадаць.

**УСТАЎЛЯЦЬ СВАЕ ТРЫ ГРОШЫ**. Гл. устаўляць.

**ЯК ТРЫ ГРОШЫ ДАЎ**. Гл. даў.

*ГРУДЗЕЙ* • **СЭРЦА РВЕЦЦА З ГРУДЗЕЙ** *у каго.* Гл. сэрца.

*ГРУ́ДЗІ* • **БІЦЬ КУЛАКАМІ Ў ГРУДЗІ**. Гл. біць.

**БІЦЬ СЯБЕ Ў ГРУДЗІ**. Гл. біць.

**ГРУ́ДЗІ НА ГРУ́ДЗІ**. *Акал. Функц. не зам.* Ушчыльную адзін з адным (сутыкацца, сустракацца, сыходзіцца і пад. у баі). **Сін.**: сценка на сценку. *[Новыя сотні нукераў] раз'юшана лезлі ўперад і ў некаторых месцах паўзбіраліся ўжо на сцяну... І тут сустракаліся грудзі на грудзі з абаронцамі, якія біліся з імі бердышамі, баявымі сякерамі, дзідамі, рагацінамі, мячамі..* Дыла. *Мы на пярэднім краі хрысціянства застаўай орды варожыя грудзі на грудзі прымаем.* Семяжон.

**ГРУ́ДЗІ Ў ГРУ́ДЗІ**. *Акал. Функц. не зам.* Вельмі блізка, зусім побач (стаяць, знаходзіцца і пад.). **Сін.**: вочы ў вочы (у 1 знач.); лоб у лоб; носам к носу; носам у нос; нос у нос; тварам да твару (у 1 знач.); тварам у твар (у 1 знач.); твар у твар (у 1 знач.). *Яны стаялі цяпер адзін ля аднаго — грудзі ў грудзі, і Махорка бачыў, як у Боганчыка трасецца барада і слязяцца вочы.* Пташнікаў. *Валошка саскочыў з калёсаў. Агейчык таксама злез. Стаяць, адзін перад адным — грудзі ў грудзі.* Карамазаў. *Цяпер іх нічога не раздзяляла: няпэўная перашкода, веласіпеды ляжалі збоч дарогі, а яны, праціўнікі, грудзі ў грудзі стаялі...* Дамашэвіч.

**НА ПО́ЎНЫЯ ГРУ́ДЗІ**. *Акал. Разм.* **1**. З вялікім задавальненнем (удыхаць, дыхаць і пад.). **Сін.**: на ўсе грудзі (у 1 знач.). *З пад'езда на вуліцу, распранены, выходзіць Русаковіч. Ён на поўныя грудзі ўдыхае гаючы пах свайго дзяцінства.* Сабаленка.

**2**. Вельмі моцна (крычаць, гучаць, спяваць і пад.). **Сін.**: благім матам; з усіх жыл (у 2 знач.); колькі <было> сілы (у 3 знач.); на поўную сілу (у 3 знач.); на ўвесь голас (у 1 знач.); на ўвесь свет (у 1 знач.); на ўсе грудзі (у 2 знач.); на ўсе застаўкі (у 1 знач.); на ўсё горла; на ўсю глотку; на ўсю іванаўскую (у 1 знач.); на ўсю моц (у 3 знач.); немым

голасам; не сваім голасам; што ёсць духу (у 2 знач.); што ёсць сілы (у 3 знач.); <як> іерыхонская труба (у 2 знач.); як недарэзаны; як рэзаны. *Галасы мацнелі, выроўніваліся і рабіліся смялейшымі і, калі загучалі на поўныя грудзі, у іхнім агульным струмені Мілоўскі адрозніў дзявочыя.* Галавач. *Клаўдзя.. узяла моцна, сакавіта, на поўныя грудзі, аднак тут жа спынілася.* Ракітны.

**НА ЎСЕ́ ГРУ́ДЗІ**. *Акал. Разм.* **1**. З вялікім задавальненнем (удыхаць, дыхаць). **Сін**.: на поўныя грудзі (у 1 знач.). *Усю дарогу яны [Лясніцкі і Халіма] удыхалі на ўсе грудзі араматную свежасць роснага рання...* Зарэцкі. *Седзячы ля адчыненага акна, я ўдыхаў на ўсе грудзі парнаватае веснавое паветра.* Сабаленка.

**2**. Вельмі моцна (крычаць, лямантаваць і пад.). **Сін**.: благім матам; з усіх жыл (у 2 знач.); колькі <было> сілы (у 3 знач.); на поўную сілу (у 3 знач.); на ўвесь голас (у 1 знач.); на ўвесь свет (у 1 знач.); на ўсе застаўкі (у 1 знач.); на ўсё горла; на ўсю глотку; на ўсю іванаўскую (у 1 знач.); на ўсю моц (у 3 знач.); немым голасам; не сваім голасам; што ёсць духу (у 2 знач.); што ёсць сілы (у 3 знач.); <як> іерыхонская труба (у 2 знач.); як недарэзаны; як рэзаны. *Купала пазнаў: Амброжык. Амброжык на ўсе грудзі лямантуе.* Лойка.

**УЗДЫХНУЦЬ НА ПОЎНЫЯ ГРУДЗІ**. Гл. уздыхнуць.

*ГРУДЗЬМІ* • **СТАЯЦЬ ГРУДЗЬМІ** *за каго, за што.* Гл. стаяць.

*ГРУДЗЯХ* • **ГРЭЦЬ ЗМЯЮ НА СВАІХ ГРУДЗЯХ**. Гл. грэць.

*ГРУДНАЯ* • **ГРУДНАЯ ЖАБА**. Гл. жаба.

*ГРУЗАМ* • **МЁРТВЫМ ГРУ́ЗАМ** *ляжаць*. *Акал. Функц. не зам.* Без выкарыстання, як зусім непатрэбнае. *І золата мёртвым грузам ляжыць у зямлі.* Чорны. *Мёртвым грузам ляжаць яны [некаторыя творы], як муміі ў грабніцах, на пыльных стэлажах бібліятэк.* Жычка.

*ГРУНТ* • **АДЧУВАЦЬ ГРУНТ ПАД НАГАМІ**. Гл. адчуваць.

**ВЫБІВАЦЬ ГРУНТ З-ПАД НОГ** *каго, чыіх, у каго.* Гл. выбіваць.

**ГРУ́НТ (ГЛЕ́БА) ХІСТА́ЕЦЦА (ЗАХІСТА́ЎСЯ)** *пад кім. У безас. ужыв. Функц. не зам.* У каго-н. траціцца ўпэўненасць у сваіх сілах; чыё-н. становішча аказваецца хісткім, нетрывалым. **Сін**.: грунт хістаецца пад нагамі *ў каго*; зямля выплывае з-пад ног *у каго*; крэсла хістаецца *пад кім, чыё. Непрыязнасць [Макаеда] да чалавека, у дружбе якому неаднойчы кляўся, памацнела. Таму так узрадаваўся, зразумеўшы сёння ў гаркоме, што пад Карначом захістаўся грунт.* Шамякін.

**ГРУ́НТ (ГЛЕ́БА) ХІСТА́ЕЦЦА (ЗАХІСТА́ЎСЯ) ПАД НАГА́МІ** *чыімі, у каго. У безас. ужыв. Функц. не зам.* У каго-н. траціцца ўпэўненасць у сваіх сілах; чыё-н. становішча аказваецца хісткім, нетрывалым. **Сін**.: грунт хістаецца *пад кім*; зямля выплывае з-пад ног *у каго. Першае, што адчуў Лабановіч, прачытаўшы кніжачку, быў страх, як бы пад нагамі захістаўся грунт і перад ім расчынялася нейкае бяздонне.* Колас. *[Адшчапенцы] адчулі, што глеба хістаецца пад іх нагамі.* Прокша.

**ГРУ́НТ ПАД НАГА́МІ**. *Мн. не ўжыв. Часцей дап. Функц. не зам.* Ужыв. пры словах *ёсць, няма, не было, мець* і інш. Пэўная падстава, упэўненасць у сабе. *Я чую, што ў мяне няма грунту пад нагамі, бо я не намеціў сабе пэўнага плана работы.* Колас. *Вось на цябе нападаюць з-за рогу, з цёмных куткоў усякія паганцы, а ты не можаш абараніцца, як хацеў бы. Бо яны маюць якую-небудзь фармальную падставу, яны маюць пад нагамі грунт.* Мурашка.

**ГУБЛЯЦЬ ГРУНТ ПАД НАГАМІ**. Гл. губляць.

*ГРУШ* • *Муж* **АБ'ЕЎСЯ ГРУШ <І ЛОПНУЎ>**. Гл. аб'еўся.

*ГРУШКІ* • **ГРУШКІ НА ВЯРБЕ** *вярзці*. Гл. грушу.

*ГРУШУ* • **ГРЎШУ (-Ы, ГРЎШКІ) НА ВЯРБЕ́** *вярзці*. *Дап. Разм. Іран.* (Вярзці, гаварыць) небыліцы, недарэчнасць. **Сін.**: смаловы дуб плесці. *Гаспадыня маўкліва згаджаецца, дагадаўшыся, што пані Даміцэля «вярзе грушу на вярбе».* Колас. *Мо перастаў бы верзці грушкі на вярбе?* Янкоўскі.

*ГРУШЫ* • **АКАЛОЧВАЦЬ ГРУШЫ <З ВЕРБАЎ>**. Гл. акалочваць.

**ГРЎШЫ (ГРЎШКІ) НА ВЯРБЕ́**. *Часцей вык. Разм. Іран.* Недарэчнасць, несусвеціца. **Сін.**: трызненне сівой кабылы. *Фантазія неадлучная ад логікі, свайго фундамента. Іначай гэта — грушы на вярбе.* Караткевіч. *А табе вунь што падалося — на вярбе грушы...* Кусянкоў. *Усё гэта ваша выдумлянне — толькі грушы на вярбе.* Янкоўскі.

**НА ВЯРБЕ́ ГРЎШЫ РАСТЎЦЬ** *у каго. У безас. ужыв. Разм. Іран.* Хто-н. неймаверна хлусіць, выдумляе, расказвае небыліцы. *Ты, Надзя, аб гэтым нікому ні слова. А то нам пашкодзіш. Ведаеш, у людзей на вярбе грушы растуць.* Машара. *Дык жа гэты дзед — вядомы на ўсю акругу манюка Навум Бублік. У яго на вярбе грушы растуць...* Хацкевіч.

*ГРЫБ* • **ПРАЗ ГРЫБ НЕ ПЕРАПЛЮНЕ**. Гл. пераплюне.

*ГРЫБЫ* • *Расці, вырастаць, з'яўляцца* і пад. **ЯК ГРЫБЫ́ <ПАСЛЯ́ ДАЖДЖЎ>**. *Акал. Разм.* Вельмі хутка і ў вялікай колькасці. **Сін.**: не па днях, а па гадзінах; як на дражджах. *Ледзь выбраўся з нетраў рамантызму, сімвалізму, футурызму, імпрэсіянізму... як сустрэўся з новымі літаратурнымі напрамкамі, якія з'яўляліся як грыбы пасля дажджу.* Танк. *Як грыбы пасля дажджу з'яўляліся бургамістры, паліцыя.* Дамашэвіч. *Адны хаты становяцца нібыта ніжэйшымі, усё глыбей урастаюць у зямлю, затое побач як грыбы пасля дажджу вырастаюць новыя.* «Полымя». *Лазарэты і шпіталі выраслі як грыбы.* Гартны. *Пасяленні сталі расці як грыбы.* Левановіч.

*ГРЫВУ* • **<І> У ХВОСТ І Ў ГРЫВУ**. Гл. хвост.

*ГРЫЗЕ* • **ЧАРВЯК ГРЫЗЕ** *каго*. Гл. чарвяк.

*ГРЫЗЦІ* • **ГРЫ́ЗЦІ ГО́РЛА** *каму. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Жорстка, бязлітасна распраўляцца з кім-н. **Сін.**: зрабіць блін *з каго*; мяшаць з зямлёй (у 2 знач.); накладваць рукі *на каго*; сцерці ў парашок *каго*; сціраць з твару зямлі (у 1 знач.). *[Якаў Фаміч:] Дык мы ж самі на кожным сходзе за гэта адзін аднаму горла грызём!..* Матукоўскі. **ПЕРАГРЫЗЦІ ГОРЛА** *каму. Зак. Багацце прыйшло не адразу. За яго не аднаму саперніку давялося перагрызці горла.* Гамолка. *Я за план горла перагрызці магу.* Карпаў.

**ГРЫ́ЗЦІ ГРАНІ́Т** *навукі. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Старанна авалодваць ведамі (у галіне якой-н. навукі). *Ну што, рашыў Манькін, Спёка ці не Спёка, ды хлопец свой, разам у інстытуце, як гаворыцца граніт навукі грызлі. Толькі Манькін на хімфаку, а Спёка — на гістфаку.* Палітыка. *Працавала і маці, толькі я грыз граніт навукі, а таму працаваў толькі ўлетку, калі не было заняткаў у сямігодцы.* Кавыль. *Радасна, захоплена «грызлі граніт навукі» абодва. Сапраўды, радасна. Больш такой радасці не было.* Шамякін.

**ЗЯМЛЮ́ ГРЫ́ЗЦІ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** Прыкладваць усе намаганні, каб ажыццявіць што-н. **Сін.**: вылузвацца са скуры; выцягвацца ў нітку; разбівацца ў блін; разбівацца ў дошку; разрывацца на часткі. — *Гэта ж народныя пагаворкі, — аж зямлю грыз аўтар. — Пры чым тут палітыка?..* Бядуля. *Мне здаецца,*

*што пасля яго [Корабавых] слоў Сямён Бярозка павінен зямлю грызці, каб такога з ім больш не здарылася.* Паслядовіч. *Калі ты ўжо так крычаў, калі ты такі смелы, то зямлю грызі, а не адступай.* Навуменка.

**2.** Клятвенна абяцаць што-н. *[Капуста:] Вы зямлю грызіце, вы падайце лістам, — не веру!* Клімковіч. *[Барыс:] Буду працаваць, як вы. Трэба, значыць, трэба... Ну, што — на калені перад вамі станавіцца? Зямлю грызці?* Матукоўскі.

**3.** *Неадабр.* Затаіўшы злосць, ледзьве стрымліваць свае пачуцці. *— Мог ты мне галаву адсекчы, а мог і я табе. Хіба не верыш? — Але, мусіць, ажно зямлю грыз са злосці ўвесь час, пакуль жыў у нас ціха.* Чыгрынаў.

Чытаць, гаварыць і пад. **ЯК РЭ́ПУ ГРЫ́ЗЦІ**. *Акал. і вык. Разм. Адабр.* Бойка, гладка, без запінкі. **Сін.**: як па нотах (у 2 знач.); як па пісаным (у 1 знач.). *— Ого, ды ты, брат, як рэпу грызеш... табе і ў школу не трэба, — рассмяяўся Якуб Панасавіч і, падышоўшы да хлопца, пагладзіў яго па галаве.* Броўка. *Чытаў ён [Чухноўскі] з напісанага, не даючы ніякіх тлумачэнняў, — словам, чытаў як рэпу грыз.* Пестрак. *[Цыбулька:] Я ўжо ўвесь буквар як рэпу грызу, на памяць...* Вітка. *Вы чаго прысталі да Ўладзіка! Яму сем год, а чытае — як рэпу грызе.* Шушкевіч. *На трыбуне, бывала, як рэпу грызе: агітуе другіх за Савецкую ўладу. Сам жа ўпотайкі хабар дадому нясе — за пячаць і за подпіс начальніцкі плату.* Гілевіч.

*ГРЫМНУЎ* • **ГРОМ ГРЫМНУЎ**. Гл. гром.

*ГРЭБЕНЬ* • **СТРЫГЧЫ ПАД АДЗІН ГРЭБЕНЬ** *каго.* Гл. стрыгчы.
**СТРЫГЧЫ ПАД СВОЙ ГРЭБЕНЬ** *каго.* Гл. стрыгчы.

*ГРЭБЦІ* • **ГРЭ́БЦІ (ГРАБЦІ́, ЗАГРАБА́ЦЬ) ЛАПА́ТАЙ** *грошы. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Многа зарабляць, атрымліваць, нажываць (грошай). **Сін.**: купацца ў золаце; мераць асьмінай *грошы. Да таго ж, людзі, далёкія ад маёй прафесіі, думаюць, што архітэктары грабуць грошы лапатай.* Шамякін. *Знайсці сто пяцьдзесят рублёў, купіць шыфкарту і падацца з Рыгі ў той новы, багаты свет, дзе, як кажуць, грабуць грошы лапатаю...* Далідовіч. *— Відаць, лапатай грошы грабеш? — пацікавіўся Кандрат Статкевіч.* Калодзежны. *Часам сёй-той з парушальнікам, злачынцам дамаўляецца, вымагае хабар. А хто яго можа даць? Зноў жа не рабочы, а той, хто грошы лычыць заграбаць лапатай.* Якавенка.
**ГРЭ́БЦІ (ГРАБЦІ́, ЗАГРАБА́ЦЬ) ПАД СЯБЕ́** <*што*>. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. З прагнасцю нажывацца на чым-н., захопліваць што-н. **Сін.**: грэць рукі *на чым, каля чаго, аб што, дзе*; набіваць кашалёк; набіваць <сабе> кішэнь. *Яна складвалася вякамі, гэтая суровая, бязлітасная праўда дробнага прыватнага ўласніка: працуй, іրві жылы, грабі пад сябе ўсё, што можаш, у гэтым — тваё збавенне.* Палтаран. *[Кунцэвічы] граблі пад сябе што толькі маглі — і тое, што траплялася ў магазінах па зніжаных цэнах, і тое, што заставалася ў іх, нарыхтоўшчыкаў, ад выдзеленага ім для сустрэчнага продажу.* Шыцік. *Ведаю такіх куркулёў: напарабкаваўся ў іх змалку! Усё пад сябе заграбалі, цягнулі кроў з такіх гарапашнікаў, як Яцына.* Лецка.

*ГРЭХ* • **БРАЦЬ ГРЭХ НА <СВАЮ> ДУШУ**. Гл. браць.
**І СМЕХ І ГРЭХ**. Гл. смех.
**СМЯРО́ТНЫ (СМЯРТЭ́ЛЬНЫ) ГРЭ́Х**. *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм.* Вельмі вялікая загана, недаравальны ўчынак. *У лісце Васіль Пятровіч абвінавачваўся ва ўсіх смяротных грахах: і ў няправільным разуменні задач, што стаяць перад горадабудаўнікамі, і ў імкненні вырашаць горадабудаўнічыя праблемы за кошт насельніцтва, і нават у касмапалітызме і хабарніцтве.* Карпаў. *Міхаіл Іпалітавіч напісаў запіску ў*

*міністэрства. І добра, што напісаў. Там паспелі ўжо абвінаваціць яго ў самых смяротных грахах.* Кацюшэнка.

**ЦІ ГРЭ́Х ЦІ ДВА́**. *Выкл. Разм.* Паспрабуем, трэба рызыкнуць (адважыцца зрабіць што-н. пасля разваг, нерашучасці). *А тут якраз [уцякаючы ад радыяцыі] сабраліся ў дарогу некалькі сем'яў, сам старшыня калгаса выязджаў. Падумала [цётка Хрысціна] дый рызыкнула — ці грэх ці два.* Міхно. *Ці грэх ці два* (Назва зборніка сатырычных і гумарыстычных твораў Н.Гілевіча). [*Лепешаў*, с. 78: ці грэх ці два.]

**ЧАГО ГРЭХ ТАІЦЬ**. Гл. таіць.

**ЯК НА ГРЭ́Х**. *Узнач. пабочн. сл. Разм.* Быццам кімсьці падстроена. Выказванне шкадавання ў сувязі з чым-н. **Сін.**: як на бяду; як на злосць; як на ліха; як на тое; як на тое ліха. *А дзень канчаецца тым часам, пара падумаць пра начлег: ды дзе спыніцца для папасу? А лес абапал, як на грэх.* Колас. *У таго Шуляка, як на грэх, знайшлося ўсё — і тытунь, і запалкі.* Брыль.

*ГРЭЦЬ* • **ГРЭ́ЦЬ (ГАДАВА́ЦЬ) ЗМЯЮ́ (ГАДЗЮ́КУ) НА СВАІ́Х ГРУДЗЯ́Х**. *Незак. Разм. Асудж.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рабіць дабро чалавеку, які пасля адплачвае няўдзячнасцю. *Пад плотам знайшоў я цябе, сіратою ўзяў, думаў, за сына роднага будзе, ажно змяю гадаваў на сваіх грудзях...* Каваль. **ПРЫГРЭЦЬ ЗМЯЮ (ГАДЗЮКУ) НА СВАІХ ГРУДЗЯХ**. *Зак. Вось і рабі людзям дабро!.. Прыгрэеш змяю на сваіх грудзях, а яна цябе ўкусіць. Ці кепска жылося ў мяне Салаўю?.. А вось і аддзякаваў!* Бядуля. *[Заціруха:] І як я гэта так прамахнуўся? Чорта за анёла прыняў. Змяю на сваіх грудзях прыгрэў.* Зуб. *А я яму верыў, нават усынавіць хацеў... Ласкавым, пяшчотным такім прыкідваўся. Гадзюку я прыгрэў на сваіх грудзях, вось што!* Новікаў.

**ГРЭ́ЦЬ ЛО́Б**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Старанна, да поту працаваць. **Сін.**: гнуць <сваю> спіну (у 1 знач.); ліць пот; мазоліць рукі; не разгінаць спіны; сем патоў выліць (у 1 знач.); сем патоў сагнаць; цягнуць лямку <*каго, чаго*>; цягнуць ярмо <*каго, якое*>. *Раз за разам гоп ды гоп: над гарохам грэю лоб; як маланка, біч мільгае, трохі й жонка памагае.* Крапіва. *А навошта лоб мы грэем на пшаніцы і аўсе?* Астрэйка.

**ГРЭ́ЦЬ РУ́КІ** *на чым, каля чаго, аб што, дзе. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нажывацца несумленным спосабам. **Сін.**: грэбці пад сябе <*што*>; набіваць кашалёк; набіваць <сабе> кішэнь. *Адны гаварылі, што сама Сяркова доўгі час грэла рукі ля магазіннай касы і зараз хоча зваліць віну з хворай галавы на здаровую.* Шыцік. *Жылі браты, грэлі рукі аб судны купецкія...* Лынькоў. **ПАГРЭЦЬ РУКІ** *на чым, каля чаго, аб што, дзе. Зак. Добрыя людзі тужаць аб цудзе, як выпраменьваць святло і гарэць. Тым часам употай дрэнныя людзі шукаюць, дзе б ім рукі пагрэць.* Макаль. — *Спекуляцыя, — згадзіўся Белы. — У аснове якой вельмі часта кар'ерызм. Імкненне пагрэць рукі на сітуацыі: выскачыць на чужой бядзе.* Мележ.

**ЗУ́БЫ ГРЭ́ЦЬ НА СО́НЦЫ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Весела смяяцца, рагатаць, не займаючыся справай. **Сін.**: выскаляць зубы; прадаваць зубы; скаліць зубы (у 1 знач.); сушыць зубы. *Пастануць ды толькі зубы грэюць на сонцы.* Янкоўскі. — *Чаму не працуеце?.. — Няма матэрыялу, — ужо сур'ёзна адказаў дзяцюк. — Як падвязуць — адразу пачнём. Думаеш, нам цікава тырчаць тут без справы? Зубы грэць на сонцы...* Лазуркін.

*ГРЭЧАСКІХ* • **ДА ГРЭЧАСКІХ КАЛЯД**. Гл. каляд.

*ГРЭЧАСКІЯ* • **НА ГРЭЧАСКІЯ КАЛЕНДЫ**. Гл. календы.

*ГРЭШНЫМ* • **ГРЭШНЫМ ДЗЕЛАМ**. Гл. дзелам.

*ГУБА* • **ГУБА́ НЕ ДУ́РА** *ў каго. У безас. ужыв. Праст.* Хто-н. мае добры густ, умее выбраць найлепшае. *[Гарлахвацкі:] Бач ты, стары чорт! Губа не дура. Ды цяпер табе не да дзяўчат будзе, даражэнькі.* Крапіва. — *Што, ужо ўлюбіўся? Студэнтка трэцяга курса. — Мог бы, а што ты думаеш. — Хм. Губа не дура. Самая прыгожая дзяўчына ў тэхнікуме.* Лобан. *І хоць з яго, Андрэя, пачалі пасмейвацца, маўляў, губа ў цябе не дура, ведае, куды мецiць, аднак ён не зважаў ні на якія кепікі, смяшкі.* Сачанка.

*ГУБАХ* • **З ПЕНАЙ НА ГУБАХ.** Гл. пенай.

**<МАТЧЫНА> МАЛАКО НА ГУБАХ НЕ АБСОХЛА** *ў каго.* Гл. малако.

**НА ГУБАХ МЁД, А НА СЭРЦЫ ЛЁД** *у каго.* Гл. мёд.

*ГУБЕРНІ* • **У МАГІЛЁЎСКАЙ ГУБЕ́РНІ** *апынуцца, аказацца* і пад. *Устар. Акал. Праст.* У замагільным свеце, супрацьпастаўленым зямному жыццю. *Трэба было дзейнічаць, зыходзячы з канкрэтнасці, а будзеш, як сляпы плоту, трымацца нейкага плана, дык хутка апынешся ў Магілёўскай губерні і яшчэ пацягнеш за сабой іншых.* Быкаў.

*ГУБЕРНЮ* • **АДПРАЎЛЯЦЬ У МАГІЛЁЎСКУЮ ГУБЕРНЮ** *каго.* Гл. адпраўляць.

**У МАГІЛЁЎСКУЮ ГУБЕ́РНЮ** *трапіць, папасці, збірацца* і пад. *Устар. Акал. Праст.* У замагільны свет, супрацьпастаўлены зямному жыццю. **Сін**.: у вырай. *У нас, калі богу душу аддаў, кажуць: перасяліўся ў Магілёўскую губерню.* Гроднеў. *Які можа быць сябра на вайне? На дзень-два. Пасля ўсё роўна — разлука, разумееш? Хто ў Магілёўскую губерню, хто ў шпіталь.* Быкаў.

*ГУБЕРНЯ* • **ПАЙШЛА́ ПІСА́ЦЬ ГУБЕ́РНЯ**. *У безас. ужыв. Разм.* Усё заварушылася. Пра інтэнсіўнае разгортванне якіх-н. дзеянняў, пачатак перапалоху, розных плётак і пад. **Сін**.: і пайшло <і> паехала; пайшла пісаць. *[Пляткар] чуў — не чуў, а навіну скажа вам, ды не адну; што і чуў, дык пераверне, і пайшла пісаць губерня.* Крапіва. *Старшыня ў нас труслівы быў, адразу ў горад да пракурора. Так і так: бульба згніла, а што рабіць, не ведаю. Ну і пайшла пісаць губерня... Пачалі вінаватага шукаць.* Асіпенка. *Дубенскі павятовы спраўнік Рамешка.. нагнаў А.Незабытоўскага.. і загадаў вярнуцца ў Пінск, дзе здаў яго пад арышт мясцоваму гараднічаму. Пайшла пісаць губерня!* С.Александровіч. *[Булгарын] прыцягнуў на свой бок Нестара Кукальніка, які выступіў супроць Грэча з вялікім фельетонам у № 110 — і пайшла пісаць губерня...* Кісялёў.

*ГУБЛЯЦЬ* • **ГУБЛЯ́ЦЬ ГРУ́НТ ПАД НАГА́МІ (ПАД САБО́Й)**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пазбаўляцца ўсякай упэўненасці ў сабе, здольнасці цвяроза ацэньваць абставіны. — *Пачакай-пачакай, ты ж толькі два гады назад дзесяць «СК-4» купіў. Дзе яны? Навошта табе столькі камбайнаў? — «СК-4» маральна ўстарэлі. Спісалі... — зноў стаў губляць пад сабою грунт Сурміла.* Блакіт. **ЗГУБІЦЬ ГРУНТ ПАД НАГАМІ (ПАД САБОЙ)**. *Зак.*

**ГУБЛЯ́ЦЬ З ВАЧЭ́Й (З ВО́Ч, З ВО́КА)** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пераставаць бачыць каго-н. *Больш ні ў кога [Карзюк] не пытаў. Ішоў, не губляючы з вока гэтага бальшавіка.* Баранавых. **ЗГУБІЦЬ З ВАЧЭЙ (З ВОЧ, З ВОКА)** *каго. Зак. Нонка кінулася бегчы, каб не адстаць ад трамвая, не згубіць нас з вачэй.* Караткевіч. *Часам ён [Тарэнта] стукаў абухам сякеры па ствале вышэй камля, слухаў, як звініць сасна, і зноў ішоў. Хутка Марыля згубіла яго з воч.* Галавач.

**ГУБЛЯ́ЦЬ СЯБЕ́**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Пераставаць валодаць сабой. *Вымалёўваўся на твары сум, як невылечная хвароба, ад якой неабходна ратаваць чалавека, хаця і вядома, што ён безнадзейны. Гэта чалавек, які згубіў сябе.* «Маладосць».

2. Страчваць свае індывідуальныя рысы, асаблівасці характару і пад. *Ісці ў свет — і не губляць сябе.* Тычына. **ЗГУБІЦЬ СЯБЕ**. *Зак.*

**ГУБЛЯ́ЦЬ (ТРА́ЦІЦЬ, СТРА́ЧВАЦЬ) ГАЛАВУ́ (ГАЛО́ВЫ)**. *Незак. Разм.* 1. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Бянтэжыцца, пазбаўляцца развагі, не ведаць ад хвалявання, як паступіць, што рабіць. **Сін.**: збівацца з нагі; збівацца з панталыку (у 1 знач.); збівацца з толку (у 1 знач.); збівацца з тропу (у 1 знач.). *Пры небяспецы ён [Мялешка] не губляе, як другія, галаву. Наадварот, у такія хвіліны ён дзейнічае хутка, дакладна, прымае правільныя рашэнні.* Навуменка. *Кожны прыезд прарока ў Студзянскае надлясніцтва прыносіў туды свята, і ляснічыя гублялі ад шчасця галовы.* Карпюк. *[Хорашаў] не траціць галавы, калі трапляюцца выключныя ўдачы.* Лынькоў. **ЗГУБІЦЬ (СТРАЦІЦЬ) ГАЛАВУ (ГАЛОВЫ)**. *Зак. Але вышэйшае польскае камандаванне, трэба аддаць яму справядлівасць, не згубіла галавы. Тэрмінова і рашуча арганізавала ліквідацыю прарыву свайго фронту.* Колас. *— Я галавы не страціў і ведаю, што раблю! — прамовіў [Чаравака] з адценнем гневу.* Пестрак.

2. *Часцей у зак. тр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Безразважна, моцна ўлюбляцца ў каго-н. *[Чубару] падабалася гаспадыня, было ў ёй нешта такое багульнікавае, ад чаго мужыкі, як кажуць, страчваюць галовы...* Чыгрынаў. **ЗГУБІЦЬ (СТРАЦІЦЬ) ГАЛАВУ (ГАЛОВЫ)**. *Зак. [Домна:] Зусім дзеўка галаву згубіла... Дзень спіць, а ледзь толькі звечарэе, на пагулянку, да свайго Марымончыка на ўсю ноч бяжыць...* Сачанка. *Валя баялася, каб ён [Лукашык] па вачах не зразумеў яе патаемных думак і страхаў, каб не падумаў, што яна страціла ад яго галаву.* Дамашэвіч.

**НЯМА ЧАГО ГУБЛЯЦЬ** *каму.* Гл. траціць.

*ГУБУ* • **БРАЦЬ У ГУБУ**. Гл. браць.

**КАПЫЛІЦЬ ГУБУ**. Гл. капыліць.

**НА ПО́ЎНУЮ ГУБУ́**. *Акал. Разм.* 1. Уволю, колькі хочацца (есці). **Сін.**: ад пуза (у 1 знач.); да адвалу; еш не хачу *чаго*; за трох дурных; колькі душа жадае; колькі ўлезе (у 1 знач.); на ўсю губу; не ў свой дух; хоць жывот расперажы; хоць расперажыся; як дурны на памінках; як на дзяды (у 1 знач.); як не ў сябе; як у прорву. *— Працуй адно ды еш... — На поўную губу, — кажа нечакана Бойка.* Пальчэўскі. *Калі пачалі есці, жонка адразу адабрала ад мужа два кавалкі каўбасы сабе на талерку і пачала раскашавацца прысмакам на поўную губу.* Пестрак.

2. *Неадабр.* Прагна, папоўніцы (есці). **Сін.**: аж за вушамі трашчыць; аж нос гнецца; за абедзве шчакі; за маліну (у 1 знач.); на поўны рот; на ўвесь рот (у 1 знач.). **Ант.**: як на плот вешаць. *— Я есці захацела. — І я, — прызнаўся Міця.. І ён, згаладалы ўжо, трохі саромеючыся так па-мужчынску на поўную губу есці, усё цікаваў на яе...* Адамчык.

3. Вельмі багата, раскошна (жыць і пад.). **Сін.**: на ўсю нагу (у 2 знач.); на шырокую нагу (у 1 знач.). *На чорта было Батурэвічу гэтае пісарства, калі ён мог жыць сабе дома на поўную губу?* Чорны. У *адзін з бліжэйшых дзён высокі гурман абвясціў: «Сёння частую я!». Заказваў усё адменнае, ушчуваў афіцыянта, загадваў даваць такіх і такіх прысмакаў у рыбу, такіх і такіх у соус, нават чай зажадаў піць з самавара. Словам, людскаваўся, на поўную губу дэманстраваў кулінарны густ і асвечанасць.* Лужанін.

**НА ЎСЮ ГУБУ́** *есці, жэрці* і пад. *Акал. Разм.* Уволю, колькі хочацца. **Сін.**: ад пуза (у 1 знач.); да адвалу; еш не хачу *чаго*; за трох дурных; колькі душа жадае; колькі ўлезе (у 1 знач.); на поўную губу (у 1 знач.); не ў свой дух; хоць жывот расперажы; хоць расперажыся; як дурны на памінках; як на дзяды (у 1 знач.); як не ў сябе; як у прорву. *Яны будуць жэрці на ўсю губу, а мы з Алачкай...* Гамолка. *Не, не мужыцкі гэта фрукт, ягада,*

*не сялянская справа займацца ёю. Так разважалі тыя, хто не меў той ягады. А хто разжыўся ёю, маўчаў, збіраў, на ўсю губу еў сам, даваў дзецям, на базар вазіў.* Казько.
**ПРАЗ ГУБУ НЕ ПЕРАПЛЮНЕ**. Гл. пераплюне.

*ГУБЫ* • **КРЫВІЦЬ ГУБЫ**. Гл. крывіць.
**ПАВЕСІЦЬ ЗАМОК НА ГУБЫ** *каму*. Гл. павесіць.
**ПАВЕСІЦЬ <САБЕ> ЗАМОК НА ГУБЫ**. Гл. павесіць.
**ШТО СЛІНА ДА ГУБЫ ПРЫНЯСЕ**. Гл. сліна.

*ГУ-ГУ* • **НІ ГУ-ГЎ**. *Праст*. 1. *каму*. *Вык*. Не гавары, не расказвай. Як загад або просьба маўчаць, не расказваць пра што-н. **Сін**.: ні гуку (у 1 знач.); ні мур-мур; ні-ні; ні слова (у 1 знач.). *Будзем мы скакаць з бабчыным парашутам. Толькі аб гэтым ні гу-гу!* Лынькоў. *— Я ўжо табе паслала, сыночак, ідзі ў камору. — Што я дома, нікому ні гу-гу.* Грахоўскі. *Аб гэтым, глядзі, ні гу-гу... У наступленне ідзём. На нашым участку...* Ракітны.
2. *У безас. ужыв.* Вельмі ціха. Пра поўную цішыню, маўклівасць. **Сін**.: ні гуку (у 2 знач.). *Лес пакорна і набожна сціх, чакае — ні гу-гу!* Колас. *Пастукалася ў сенцы Палажка — ні гу-гу.* Лобан. *— Але ж і цярплівы, гад! — дзівіўся Віктар. — Смаліць руку разам з вяроўкай — і ні гу-гу!* Маўр.

*ГУЖ* • **БРАЦЦА ЗА ГУЖ**. Гл. брацца.

*ГУЖАМІ* • Прыставаць (прыстаць) **З КАРО́ТКІМІ ГУЖА́МІ (ГУЖКА́МІ)**. *Акал. Разм. Неадабр.* Вельмі настойліва, неадступна, рашуча. **Сін**.: з нажом да горла; як п'яны да плота; як сляпы да плота; як смала. *Той, у каго ўкралі, прыстае ўжо да мяне з кароткімі гужамі: «Аддавай!», хоць я таго алоўка і ў вочы не бачыў.* Сіпакоў. *А нешта месяцы за два перад вызваленнем Рыскі і яго дружкі прысталі з кароткімі гужкамі: «Давай у паліцыю, і ўсё тут!»* Макарэвіч.

*ГУЗ* • **НАБІВАЦЬ САБЕ ГУЗ НА ЛБЕ**. Гл. набіваць.

*ГУЗА́* • **ГАЛАВА ГУЗА ШУКАЕ** *чыя, у каго*. Гл. галава.
**ШУКАЦЬ ГУЗА НА СВАЮ ГАЛАВЎ**. Гл. шукаць.

*ГУК* • **ПУСТЫ́ ГЎК**. *Часцей у адз. Часцей вык. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Тое, што пазбаўлена сэнсу ці не заслугоўвае ніякай увагі. *Без гэтай якасці [здольнасці гаварыць праўду] крытыка — пусты гук, і займацца ёю проста не варта.* Гілевіч. *І я цяпер упэўніўся, што ёсць людзі, для якіх усе нашы палымяныя заклікі, ласкавыя словы, добрыя пажаданні — пусты гук.* Гроднеў. *Прыгожыя фразы аб выхаванні могуць застацца пустым гукам...* «Полымя».

*ГУКУ* • **НІ ГЎКУ**. *Разм*. 1. *каму*. *Вык*. Не гавары, маўчы. Загад або просьба маўчаць, не гаварыць пра што-н. **Сін**.: ні гу-гу (у 1 знач.); ні мур-мур; ні-ні; ні слова (у 1 знач.). *[Скробат:] Я цябе аб адным прашу: ёй ні гуку пра гэта.* Крапіва. *— Здавайся, нас тут многа! І ні гуку! — моцным шэптам загадаў Палікар.* Чорны.
2. *У безас. ужыв.* Вельмі ціха. Пра поўную цішыню, маўклівасць. **Сін**.: ні гу-гу (у 2 знач.). *Змоўкла радыё, ні гуку, і голас дыктара заціх.* Колас. *Нехта пастукаў у шыбу, мо сакратар. Цішыня... Яшчэ раз... Ні гуку...* Мурашка.

*ГУЛА* • **ГУЛА́ АСМА́ЛЕНАЯ (СМА́ЛЕНАЯ)**. *Мн. не ўжыв. Часцей дап. Праст. Іран.* Зусім нічога не (атрымаць, дастанецца, зрабіць і пад.). **Сін**.: дулю з макам (у 1 знач.); дулю з маслам (у 1 знач.); курыную сісю і тую не ўсю; трасцу з хваробай (у 1 знач.). *Каму пападаўся кубак, каму мыла, каму іншая рэч, а каму, як кажуць, гула асмаленая.* Ко-

лас. — *Ну то ці будзеш за алейню і сыраварню брацца, ці не?.. — Няма чаго лішняга гаварыць. Узяцца, дык і зробім... — Ну але, зробім. — Гулу ты асмаленую зробіш.* Чорны. *Лёха пасылае яе [рэцэнзію] не ў рэдакцыю, а ў інстанцыі. Так надзейней. Вядома, без подпісу. Гулу смаленую, а не прэмію, будзе мець той геній. І ніколі не здагадаецца, сівы пацук, хто гэтак удружыў...* Навуменка.

*ГУЛЬНІ* • **ВЯСЁЛАЯ МІНА ПРЫ ДРЭННАЙ ГУЛЬНІ**. Гл. міна.

**РАБІЦЬ ВЯСЁЛУЮ МІНУ ПРЫ ДРЭННАЙ ГУЛЬНІ**. Гл. рабіць.

*ГУЛЬНЯ* • **ГУЛЬНЯ́ (ЖА́РТЫ) З АГНЁМ**. *У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Неадабр.* Неасцярожныя, рызыкоўныя дзеянні без уліку магчымай небяспекі. — *А гульня ў вас была з агнём, — гаварыў нараспеў Высоцкі, пасміхваючыся сваімі чорнымі, як вугаль, вачыма.* Гурскі. *Людзі змаўкалі, але, як толькі ахоўнікі выходзілі з камеры, пачыналі спяваць зноў. Жарты з агнём маглі дрэнна скончыцца...* Сачанка.

**ГУЛЬНЯ́ СЛО́Ў**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Дасціпны, каламбурны выраз. *Знікла нават само слова «даярка», яго замянілі словы «аператар машыннага даення». А гэта, між іншым, не проста гульня слоў, гэта сапраўдная навукова-тэхнічная рэвалюцыя ў жывёлагадоўлі.* Герчык. *Усё сказанае Лепяшынскім не было гульнёй слоў, паказной дэманстрацыяй блізкасці сваёй да сельскага настаўніцтва.* Радкевіч.

**ГУЛЬНЯ́ Ў АДНЫ́ ВАРО́ТЫ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Неадабр.* Аднабаковая дзейнасць з непрыманнем чужых поглядаў, інтарэсаў і пад. *Англічане стрымана растлумачылі, што грошай у іх няма, а фірма — неплацежаздольная. Гэта акалічнасць не вельмі ўразіла нашых землякоў, бо яшчэ раней з імі такім жа чынам абышліся іншыя замежныя фірмы... Гульня ў адны вароты працягвалася.* «Вожык». *Сітуацыя цудоўна ілюструецца гісторыяй «гульні ў адны вароты», калі прымальны для рэдактара графаман-«аднадумец» атрымоўвае месца ў выданні, а ягоны апанент — толькі кляп у рот.* Агіевіч.

**ГУЛЬНЯ́ Ў БІРУ́ЛЬКІ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Марная трата часу, бескарысны занятак. **Сін.**: пераліванне з пустога ў парожняе (у 1 знач.). *Ананімшчына — гэта была не проста гульня ў бірулькі. Гэта была тактыка мярзотнікаў расправіцца з тымі, хто перашкаджае жываглотам, хто паўстае ў іх на шляху ў дасягненні сваіх мэт.* Петрашкевіч.

**ГУЛЬНЯ́ Ў ЖМУ́РКІ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Скрытыя дзеянні, утойванне чаго-н. ад каго-н. **Сін.**: гульня ў хованкі. *[Планы] вызначаліся без грунтоўнага разліку, нават без клопату, якую выгаду дасць выкананне іх дзяржаве і тым, хто націраў мазалі. Недарма Варанецкі называў такія планы гульнёй у жмуркі.* Дуброўскі.

**ГУЛЬНЯ́ Ў КАТА́ І МЫ́ШКУ (У КО́ШКІ-МЫ́ШКІ)**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Хітрасць, імкненне падмануць каго-н. **Сін.**: адвод вачэй; дымавая заслона; навешванне лапшы на вушы; пацёмкінская вёска; пусканне пылу ў вочы; пусканне туману; траянскі конь (у 1 знач.). *Лазавенка засмяяўся: — Глядзіце, Байкоў і Раднік памірыліся. Скончылася гульня ў ката і мышку.* Шамякін. *Гэтым ён [Змітровіч] хацеў паказаць, што Мяцельскаму няма чаго хаваць ад яго, і таму ён можа сваю гульню ў кошкі-мышкі кінуць.* Радкевіч. *Народы маюць права ў гэты пераломны і надзвычай адказны момант запатрабаваць, каб была спынена, нарэшце, гульня ў кошкі-мышкі пры вырашэнні такога найсур'ёзнейшага пытання, як ядзернае раззбраенне, умацаванне міру і бяспекі ў Еўропе.* «Звязда».

**ГУЛЬНЯ́ Ў МАЎЧА́НКУ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Адмоўчванне, ухіленне ад размовы. *Нарэшце фон Файт не вытрымаў. Магчыма, пераканаўся, што гульня ў маўчанку нічога не дасць, рашыў скампраметаваць сведку, злосна закрычаў: — Ты сама нам выдала Гузоўскага! Сама!* Новікаў. *Ні ён, ні яна не паступіліся сваім гонарам і ўвечары — гульня ў маўчанку зацягнулася на ўсе апошнія дні.* Б.Стральцоў.

**ГУЛЬНЯ́ Ў ПАДДАЎКІ́**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Іран.* Хітраватая згода, наўмысныя ўступы. *Дабрэню пачынала надакучваць гэтая гульня ў паддаўкі: што б ён ні сказаў, Лёнька адразу ж пагаджаўся...* Асіпенка.

**ГУЛЬНЯ́ Ў ХО́ВАНКІ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Скрытыя дзеянні, утойванне чаго-н. ад каго-н. **Сін.**: гульня ў жмуркі. *Адбываецца не вартая з абодвух бакоў — работнікаў АТК і вытворцаў прадукцыі — гульня ў хованкі: вось ён, брак, быў тут, а паспрабуйце знайдзіце, дзе цяпер?* «Звязда». *Здаецца, можна было ўжо да гэтага прывыкнуць, але Людміла не магла прывыкнуць. Яе абражаў гэты недавер, гэта гульня ў хованкі.* Арабей. *— У Голуба свая мудрасць, Андрэй. — Мудрасць... Я вось успамінаю размову з ім... Яна мне цяпер здаецца гульнёй у хованкі. У мяне было адчуванне, што нешта ён не дагаворвае, прытойвае.* Ярашэвіч.

*ГУЛЬТАЯ* • **КОРЧЫЦЬ ГУЛЬТАЯ**. Гл. корчыць.

*ГУЛЯЕ* • **ВЕЦЕР ГУЛЯЕ Ў КІШЭНЯХ** *у каго, чыіх.* Гл. вецер.

**ВЕЦЕР У ГАЛАВЕ < ГУЛЯЕ >** *у каго.* Гл. вецер.

**ТРУС У КАРТЫ НЕ ГУЛЯЕ**. Гл. трус.

*ГУЛЯЙ* • **ГУЛЯ́Й-ВЕ́ЦЕР**. *Мн. не ўжыв. Вык. ці азн. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Легкадумны, пусты чалавек; ветрагон. **Сін.**: узвей-вецер. *— А цікава было б пабачыць гэта, — задзіракавата падхапіў ліслівы гуляй-вецер Юзік.* Мурашка. *Ды ён [Сінеў] і не такі гуляй-вецер, як ты...* Масарэнка. *Аскольд казаў, што я па натуры гуляй-вецер і што ўсіх у семнаццаць [гадоў] некуды цягне.* Марчук.

*ГУЛЯЦЬ* • **ГУЛЯ́ЦЬ (ЖАРТАВА́ЦЬ) З АГНЁМ**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дзейнічаць неасцярожна, не лічачыся з небяспекай. *[Рунец:] Праваландзія, відаць, задумана шырока. [Алена:] Дачушка! Ты сюды больш не варочайся. Ідзі на Зарэчную да цёткі Надзі. Я таксама туды прыйду. А ты, Віця, з агнём не гуляй.* Крапіва. *— Смяешся ты — за паўвярсты чуваць, але з агнём не раджу жартаваць, — Гарыдавец пахмурна адказаў.* Танк. *Калі б яна [Лена] ведала, то не стала б жартаваць з агнём.* Ваданосаў.

**ГУЛЯ́ЦЬ У АДНЫ́ ВАРО́ТЫ**. *Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Дзейнічаць аднабакова з непрыманнем чужых поглядаў, інтарэсаў і пад. *Вось гэта жаданне паспрачацца, відаць, і не даспадобы прафесару, якому, пэўна ж, хочацца гуляць у адны вароты...* «Нар. газ.» *Рэдакцыя таксама прызвычаілася гуляць у адны вароты, заціскае рот апанентам...* Агіевіч.

**ГУЛЯ́ЦЬ У БІРУ́ЛЬКІ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Займацца пустымі справамі, дарма траціць час. **Сін.**: насіць ваду рэшатам; пераліваць з пустога ў парожняе (у 1 знач.); таўчы ваду ў ступе (у 1 знач.). *Гуляць у бірулькі, Лізура, не будзем. Лёс нас звёў, мусіць, надоўга і моцна. Ты і я будзем рабіць адну справу.* Ермаловіч. *А ты што ж думаў? У бірулькі тут вам гуляць?* Быкаў. *[Франкевіч:] А я што раблю? Што?.. У бірулькі гуляю?* Зуб. *Гэта справа заатэхніка. Вы прыехалі для таго, каб наводзіць парадак, а не ў бірулькі гуляць.* Сергіевіч.

**ГУЛЯ́ЦЬ У ЖМУ́РКІ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Утойваць што-н. ад каго-н. **Сін.**: гуляць у хованкі. *Дэлегаты да Лазаны панаехалі вазамі. Іх сабралася бясконца — і ангельцы, і японцы, і французы, італьянцы, нават тры амерыканцы, тут румынскія музыкі, тут баўгарчык невялікі, тут і грэкі, тут і туркі — і давай гуляць у жмуркі.* Крапіва. *Дык вось, таварыш Цімаховіч, мы тут галасавалі... даваць ці не даваць сваю згоду на звальненне Саевіч з работы... І, чаго там у жмуркі гуляць, галасы раскалоліся... Трое за звальненне і трое супраць...* Кавалёў.

**ГУЛЯ́ЦЬ У КАТА́ І МЫ́ШКУ (У КО́ШКІ-МЫ́ШКІ)**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Хітраваць, стараючыся падмануць каго-н. **Сін.**: абводзіць вакол пальца *каго*; абуваць у лапці *каго*; бакі забіваць *каму*; браць на арапа *каго*; браць на бога *каго*; браць на вудачку *каго*; браць на пушку *каго*; вадзіць за нос *каго*; вешаць лапшу <на вушы> *каму*; віляць хвастом (у 1 знач.); выводзіць у поле *каго*; гнуць дугі; дурыць галаву *каму* (у 1 знач.); задурыць галаву *каму* (у 3 знач.); замазваць вочы *каму*; замыльваць вочы *каму*; запраўляць арапа; кампасціраваць мазгі *каму*; корчыць дурня (у 1 знач.); круціць хвастом (у 1 знач.); муціць галаву *каму*; настаўляць акуляры *каму*; прадаць *каго* і грошы палічыць; пудрыць мазгі *каму*; пускаць пыл у вочы *каму*; сляпіць вочы *каму* (у 1 знач.); травіць баланду (у 2 знач.); туманіць вочы *каму*; туманіць галаву *каму*. *Не гуляйце, Ніна, у ката і мышку. Кажыце ўсё.* Мікуліч. *Ведаеш што, Вярунька, даволі ў ката і мышку гуляць і марнаваць сабе жыццё.* Лынькоў. *Надзя раней проста гуляла з ім [Васілём] у кошкі-мышкі.* Навуменка.

**ГУЛЯ́ЦЬ У МАЎЧА́НКУ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ухіляцца ад размовы. *Некаторы час гулялі ў маўчанку. Ніхто не хацеў загаварыць першым.* Гаўрылкін. *Гуляць у маўчанку не раю. Не помніце? Я памагу вам, завуць Сараеў Нікодзім?* А.Александровіч. — *Ну дык што ж мы будзем, таварышы, у маўчанку гуляць?— папракнуў прысутных Міхалёў. — Мы ж толькі дарэмна час трацім...* Дайліда.

**ГУЛЯ́ЦЬ У ПАДДАЎКІ́**. *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ісці на ўступы, хітравата згаджаючыся з кім-н. *Сотнікаў.. не ведаў, як лепш: гуляць у паддаўкі ці адразу адмовіцца ад паказанняў, каб не блытацца ў хлусні.* Быкаў.

**ГУЛЯ́ЦЬ У ХО́ВАНКІ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Утойваць што-н. ад каго-н. **Сін.**: гуляць у жмуркі. *Досыць гуляць у хованкі. Трэба, каб трэці ведаў усё. Застанецеся вы з ім альбо не — хай вырашаюць гэтыя дні. Бо я больш не магу.* Караткевіч. *Не прытварайся, Сяргей. Навошта гуляць у хованкі?* Цяжкі. — *Вядома, праўда. Што ж тут у хованкі гуляць, — вылучыўся звонкі голас Соміка.* Крапіва.

*ГУЛЯЮЦЬ* • **ЧЭРЦІ ВЯСЕЛЛЕ ГУЛЯЮЦЬ**. Гл. чэрці.

*ГУРТУ* • **КУРТУ З ГУРТУ**. Гл. курту.

*ГУСАКА* • **ЯК З ГУСАКА ВАДА** *з каго*. Гл. вада.

*ГУСЕЙ* • **ГАНЯЦЬ ГУСЕЙ**. Гл. ганяць.
**ДРАЖНІЦЬ ГУСЕЙ**. Гл. дражніць.

*ГУСІ* • **ШТО З ГУСІ ВАДА** *з каго, каму*. Гл. вада.

*ГУСІНЫ* • **ЯК ГУСІНЫ ПУП**. Гл. пуп.

*ГУСІНЫЯ* • **ГУСІНЫЯ ЛАПКІ**. Гл. лапкі.

*ГУСТ* • **ПАД ГУ́СТ** *каму. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. ці абстр. прадмета. Падабаецца. **Сін.**: да густу *каму*; да душы *каму*; да смаку *каму*; да сэрца *каму*; западаць у вока *каму* (у 2 знач.); па густу *каму*; па душы *каму*; па нутры *каму*;

па сэрцы *каму*; як маслам па душы *каму*. **Ант.**: не ў смак *каму*. *Мы знаем, ён [Антось] рыбак з уроды, і усякіх рыб ён знае ходы, калі якая нерастуе, што ёй пад густ, чаго бракуе.* Колас. *Дома.. Круковічу было ўсё нядобра, усё не пад густ.* Крапіва.

*Прыйсціся, рабіць* і пад. **ПАД ГУСТ** <*чый*>. *Акал. Разм.* Даспадобы (прыйсціся і пад. каму-н.). **Сін.**: *прыйсціся* да густу; *прыйсціся* да душы; *прыйсціся* да смаку; *прыйсціся* па густу; *прыйсціся* пад нораў; *прыйсціся* па душы; *прыйсціся* па нутры; *прыйсціся* па сэрцы; у масць. *І крупнік прыйдзецца пад густ.* Колас. *[Стары Верас:] Усё робіцца па-новаму, пад твой густ. Нават клуб пачалі будаваць.* Крапіва. *[Клепікаў:] І калі каторы тут дурань рабіць будзе мне не пад густ — не пацярплю!* Лынькоў.

*ГУСТУ* • **ДА ГУСТУ** *каму. Вык. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Падабаецца. **Сін.**: да густу *каму*; да душы *каму*; да смаку *каму*; да сэрца *каму*; западаць у вока *каму* (у 2 знач.); па густу *каму*; па душы *каму*; па нутры *каму*; па сэрцы *каму*; як маслам па душы *каму*. **Ант.**: не ў смак *каму*. *Я не аматар сярэднявечча, старое не надта да густу мне.* А.Вольскі. *[Стары рабочы:] Другі і ўбачыць, ды прамаўчыць, а яна зараз жа ў работу бярэ: няма ў яе ні кума, ні свата. Гультаю гэта, вядома, не да густу.* Крапіва.

*Прыйсціся* **ДА ГУСТУ**. *Акал. Разм. Адабр.* Даспадобы (прыйсціся каму-н.). **Сін.**: *прыйсціся* да душы; *прыйсціся* да смаку; *прыйсціся* па густу; *прыйсціся* пад нораў; *прыйсціся* па душы; *прыйсціся* па нутры; *прыйсціся* па сэрцы; у масць. *Шмігельскі выняў з кішэні каробку, пацацкаўся з ёю і зноў закурыў... Не да густу прыйшлася прамова Сарокі.* Лобан. *[Язва:] Адным словам, пацалуны ёй прыйшліся куды больш да густу, чым балетныя па. Гэта праца яе зусім стамляе.* Крапіва.

**ПА ГУСТУ** *каму. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Падабаецца. **Сін.**: да густу *каму*; да душы *каму*; да смаку *каму*; да сэрца *каму*; западаць у вока *каму* (у 2 знач.); пад густ *каму*; па душы *каму*; па нутры *каму*; па сэрцы *каму*; як маслам па душы *каму*. **Ант.**: не ў смак *каму*. *Нам заўсёды ўсё па густу: каша, бульба ці капуста.* А.Александровіч. *І раптам — у кватэры цішыня, і раптам у кватэры пуста... Івану гэта не па густу.* Э.Валасевіч.

*Прыйсціся* **ПА ГУСТУ**. *Акал. Разм. Адабр.* Даспадобы (прыйсціся каму-н.). **Сін.**: *прыйсціся* да густу; *прыйсціся* да душы; *прыйсціся* да смаку; *прыйсціся* пад густ; *прыйсціся* пад нораў; *прыйсціся* па душы; *прыйсціся* па нутры; *прыйсціся* па сэрцы; у масць. *Калі пачынаеш думаць, чаму яны [сюжэтныя штампы] так прыйшліся па густу некаторым аўтарам, то прыходзіш да невясёлых вывадаў.* «Полымя». *Гэтае здарэнне прыйшлося хлопцам па густу. Іх таксама пацягнула да вандраванняў.* «Маладосць».

*ГУСЬ* • *Гаварыць (пагаварыць)* **ЯК ГУСЬ З ПАРАСЁМ**. *Абл. Акал. Разм. Іран.* Не разумеючы адзін аднаго, па-рознаму адносячыся да прадмета размовы. **Сін.**: на розных мовах. *Гаворым мы з ім, братка, як гусь з парасём, а нябось, калі нешта самому трэба ці хоча табе дапячы, дык і пакажа, і скрывіцца, і паўторыць!..* Брыль.

**ЯК ГУСЬ НА БЛІСКАВІЦУ** *глядзець (паглядаць)*. *Акал. Разм.* Нічога не разумеючы, здзіўлена, разгублена. **Сін.**: як баран на новыя вароты. *Тым жа, што ані нічога ў галаве не маюць, што як гусь на бліскавіцу толькі паглядаюць.., наш вучыцель нуль стаўляе.* Паўловіч. *[Авечка:] А каршун яго ведае, няграматны я чалавек, прыйду да слупа і гляджу як гусь на бліскавіцу, ані ў зуб.* Галубок. *[Лізавета] задумваецца, чым пабіць ягоны козыр, а ён ужо смяецца: што глядзіш як гусь на бліскавіцу.* Радкевіч.

*ГУЧАЦЬ* • **ГУЧАЦЬ У ВУШАХ** *чыіх, у каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Неадчэпна чуцца, з'яўляцца ў слыхавым уяўленні. **Сін.**:

звінець у вушах *каму, чыіх, у каго*; стаяць у вушах *чыіх, у каго*; стаяць увушшу *каго. [Лабановіч] бяжыць, а ў вушах гучыць украінская песня: «Ой, не хадзі, Грыцю, тай на вечорныцю».* Колас. *[Казікава] апавяданне гучала ў яго вушах, стаяла ў думках, і Віця быў упэўнены, што яму яно не дасць спакою аж датуль, пакуль ён не перадасць яго бацьку.* Чарнышэвіч.

*ГЭТА* • **ДЗЕ ГЭТА ВІДАНА**. Гл. відана.
**КУДЫ ГЭТА ВАРТА**. Гл. варта.

*ГЭТАГА* • **АДЫХОДЗІЦЬ З ГЭТАГА СВЕТУ**. Гл. адыходзіць.
**ГЭТАГА ЯШЧЭ НЕ ХАПАЛА**! Гл. хапала.
**КАБ Я З ГЭТАГА МЕСЦА НЕ СЫШОЎ**. Гл. я.
**МАЛА ГЭТАГА**. Гл. мала.
**НЕ БЕЗ ГЭТАГА**. Гл. таго.
**НЕ СЫСЦІ МНЕ З ГЭТАГА МЕСЦА**. Гл. сысці.

*ГЭТАК* • **І ГЭ́ТАК ДАЛЕ́Й**. *Функц. не зам. Ужыв. у канцы пералічэння, паказваючы, што яно можа быць працягнута.* Іншае, падобнае да пералічанага. *Цяпер.. трэба наглядаць, збіраць, вывучаць і гэтак далей.* Крапіва. У *нас бясплатная медыцына, бясплатная адукацыя і гэтак далей, і гэтак далей, як кажуць некаторыя...* Сачанка.
**<І> ТАК І ГЭТАК**. Гл. так.
**ТО ТАК ТО ГЭТАК**. Гл. так.
**ЦІ ТАК ЦІ ГЭТАК**. Гл. так.

*ГЭТЫ* • **ГЭТЫ СВЕТ**. Гл. свет.
**НА ГЭТЫ КОНТ**. Гл. конт.

*ГЭТЫМ* • **НЕ ЖЫЛЕЦ <НА ГЭТЫМ СВЕЦЕ>**. Гл. жылец.
**ГЭТЫХ • НА <ГЭТЫХ> ДНЯХ**. Гл. днях.

# Д

*ДАБЁР* • **ДАБЁР БАБЁР**. Гл. бабры.

*ДАБРАЦЬ* • <u>*Не магчы*</u> **ДАБРА́ЦЬ РО́ЗУМУ**. *Зак. Кампанент вык. Разм.* (Не магчы) зразумець, уцяміць што-н., здагадацца аб чым-н. *Вядома, што і Анішчыку яна [жонка] таксама бажылася і клялася, што і пальцам не зачапіла ніводнага коласа, і адкуль яны ўзяліся ў мяшку, розуму дабраць не можа.* Мурашка.
**НЕ ДАБРА́ЦЬ ЛА́ДУ**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Разабрацца ў чым-н., зразумець што-н., здагадацца. *[Марцін] пашкадаваў, што яшчэ дагэтуль не дабраў ладу ва ўчынку на Далёкім полі.* Мележ. *А людзі ладу не дабяруць, куды тыя куры дзяюцца!* Лужанін. *Мая ты дачушка... А я ладу не дабяру ніяк... Хто гэта, думаю... Прыйшла... Рада я.* Пташнікаў.

*ДАБРЫ* • **ДАБРЫ БАБРЫ**. Гл. бабры.

*ДАБЯРУ* • **РО́ЗУМУ (ГАЛАВЫ́) НЕ ДАБЯРУ́ (НЕ ПРЫСТА́ЎЛЮ)**. *Зак. Толькі ў форме 1-й ас. адз. і (рэдка) 1-й ас. мн. Вык. Разм.* Не магу зразумець, уцяміць што-н., здагадацца аб чым-н. **Сін.**: галавы не прыкладу. — *Вось я і дачакаўся гасцей, — сказаў ён [Мікіта]. — Прыехаў, зна[чы]цца, брат. І як мне з ім цяпер давядзецца, розуму не дабя-*

*ру.* Галавач. *[Паланея:] Як гэта выйшла — розуму я не прыстаўлю.* Купала. *Ніяк не дабяру розуму: у чым жа тут вузел? Памажы мне, унучак, разабрацца...* Ягоўдзік. *Галавы не дабяру. Апошнімі днямі кабеціна ходзіць. Куды ж ёй гэткай ехаць?* Лобан. *I што з чалавекам сталася — галавы не дабяру!* Вышынскі. *Ідзём і бачым: на палянцы дзіцятка малое-малое сядзіць... I хто яго пакінуў у гэтым лесе, дык мы і розуму не дабяром.* Сіпакоў.

*ДАВАЙ* • **ДАВАЙ БОГ НОГІ**. Гл. бог.

*ДАВАЦЦА* • **ДАВА́ЦЦА Ў ЗНА́КІ (У ЗНА́К)** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. ці абстр. прадмета. Аказваць сваё ўздзеянне на каго-н., станавіцца адчувальным, непрыемным, даймаючы каго-н. і надоўга запамінаючыся. **Сін.**: браць сваё (у 2 знач.); даваць аб сабе знаць (у 2 знач.); даваць сябе знаць; уядацца ў косці *каму* (у 1 знач.); уядацца ў пячонкі *каму. Асабліва даваліся ў знак селяніну падпанкі, якія мелі непасрэднае да яго дачыненне...* Крапіва. **ДАЦЦА Ў ЗНАКІ (У ЗНАК)** *каму. Зак. [Кацярына:] Цётка, так не пужай дзядзьку, ужо яму мамчына мешалка далася ў знакі.* Купала. *Прачытаў Міхед афішу і сказаў унуку так: — Пра мяне фашысты пішуць, — значыць, даўся ім у знак.* Астрэйка. *Даліся ў знакі Мішку гэты няшчасны певень і пчолы.* Лынькоў. *— О, дык я вашы мясціны ведаю... — Чым жа яны даліся вам так у знакі? — Добра такі даліся ў знакі. Там мне кулю ўсадзілі пад рабро.* Сабаленка.

**ДАВА́ЦЦА Ў РУ́КІ** *каму. Незак. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Перастаўшы супраціўляцца, трапляць у поўную залежнасць ад каго-н. *[Калесніка] заўтра могуць арыштаваць і адаслаць у крэпасць... Значыць, не трэба давацца ў рукі ім.* Галавач. **ДАЦЦА Ў РУКІ** *каму. Зак. Хтосьці недзе чуў, як ён [Бушмар] гразіў некаму, нібыта гаварыў, што жывым у рукі не дасца, што страсяне ўсю акругу і вялікі след па сабе пакіне...* Чорны.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. адуш. ці абстр. прадмета. Станавіцца набыткам, здабыткам ці ўласнасцю каго-н. *Рыба зараз мудрая, вышэйшую асвету мае. Няўмеку яна ў рукі не даецца.* Корбан. *Умельства, брат, штука такая: гатовым само ў рукі не даецца.* Якімовіч. *З лодкой звязана нейкая тайна, гэта ён [Вадзім Мікалаевіч] адчуваў зусім пэўна. Але яна, глядзі, не даецца ў рукі.* Гамолка. **ДАЦЦА Ў РУКІ** *каму. Зак.*

**3**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Лёгка даставацца каму-н. *А ўсё ж няма толку ў нашай гаспадарцы, Алеська!.. Мы нават не бяром усяго, што нам само даецца ў рукі.* Броўка. **ДАЦЦА Ў РУКІ** *каму. Зак.*

**ДЗІ́ВУ ДАВА́ЦЦА**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Крайне здзіўляцца. **Сін.**: не верыць <сваім> вачам; не даваць веры <сваім> вачам; рабіць вялікія вочы; разводзіць рукамі; разяўляць рот (у 3 знач.). *А вось пісьмы ты пішаш вельмі красамоўныя. Хе-хе.. Там такое красамоўства ў цябе, што дзіву даешся, адкуль словы бяруцца.* Шамякін. **ДЗІВУ ДАЦЦА**. *Зак. I дом сам быў такі вялікі са столькімі дзвярыма і пакоямі, што дзіву можна дацца.* Мележ. *Цётка Наста дзіву далася, што прыйшоў пляменнік раннім досвіткам.* Баранавых.

*ДАВАЦЬ* • **ДАВА́ЦЬ АБ САБЕ́ ЗНА́ЦЬ**. *Незак. Функц. не зам.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выяўляць чым-н. сваю прысутнасць, наяўнасць, існаванне. **Сін.**: падаваць голас (у 2 знач.). *Вось праходзіць ужо два тыдні, а яны — галаварэзы — не даюць аб сабе знаць.* Пестрак. **ДАЦЬ АБ САБЕ ЗНАЦЬ**. *Зак. Не прайшло і два дні, як яны [партызаны] далі аб сабе знаць. Чыгуначны мост непадалёк ад Караліна зноў узляцеў у паветра.* Сабаленка.

2. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Аказваць сваё ўздзеянне на каго-н., станавіцца адчувальным для каго-н., выяўляцца на кім-н. **Сін.**: браць сваё (у 2 знач.); давацца ў знакі *каму*; даваць сябе знаць; уядацца ў косці *каму* (у 1 знач.); уядацца ў пячонкі *каму*. *Я такі адчуваюся не зусім добра. Даўно не ездзіў конна. Гады даюць аб сабе знаць. Калісьці не быў такім трухлявым.* Бядуля. *Нават слухаць не хацеў [Валодзя], што хворы на радыкуліт, што і цяпер часта давалі аб сабе знаць старыя раны з грамадзянскай.* Мяжэвіч. **ДАЦЬ АБ САБЕ ЗНАЦЬ**. *Зак.*

3. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Адчувацца па чым-н. *Не верыцца, што восень. А між тым яна дае аб сабе знаць рэдкімі набегамі ветру, які косіць з дрэў пажоўклае лісце.* Макарэвіч. **ДАЦЬ АБ САБЕ ЗНАЦЬ**. *Зак. Адно, па чым плакала Валя, было тое, што толькі ўчора дало аб сабе знаць. Як хочацца жыць, песціць малое, дачакацца мацярынскага шчасця...* Дамашэвіч.

**ДАВА́ЦЬ АДБО́Й**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адмаўляцца ад чаго-н., не згаджацца з кім-, чым-н. **Сін.**: біць адбой; даваць задні ход; заварочваць аглоблі (у 2 знач.). **ДАЦЬ АДБОЙ**. *Зак. Дык жа і мне пан казаў гэтак. Едзь у Храновае, буду цябе два гады вучыць.., пасля вернешся ў Лісань, зраблю сваім ляснічым. Дык я даў адбой. Не, кажу, мне навука вораг. Галава ў мяне слабая...* Карамазаў. *— Пойдзем, пойдзем, гэта я пажартаваў, — даў адбой, кінуўся ўгаворваць Валянціна Гарык.* Казько.

**ДАВА́ЦЬ АДЛУ́П** *каму. Незак.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рашуча аспрэчваць чыё-н. выказванне. **Сін.**: даваць здачы *каму*; адпякаць пірагі *каму*; зводзіць рахункі *з кім*. *[Іван Мацвеевіч] дараваў Паўлу ўсе яго «зігзагі»: пагоню за эфемерным шчасцем прадпрымальніцтва, бестактоўнасць, якую ён часам дапускаў не толькі ў адносінах да Насці і яго, цесця, але нават і ў адносінах да Таццяны, што абурала асабліва, і ён часам не вытрымліваў і даваў зяцьку адлуп.* Шамякін. **ДАЦЬ АДЛУП** *каму. Зак. Я там якраз і стаўся сведкам таго, як гэты Бузук схапіўся з Пазняком — наконт маючай адбыцца імпрэзы. Пазняк даў яму адлуп.* Быкаў. *Ёсіп толькі грэбаў пяцярнёю зліплую ад поту рыжаватую, з саламянымі свячэннем валасню... А на большае — каб даць адлуп належны — і ахвоты не было.* Зуёнак.

**ДАВА́ЦЬ АДСТА́ЎКУ** *чаму. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці няпэўнай сукупнасці асоб. Прызнаваць што-н. непрыгодным. **ДАЦЬ АДСТАЎКУ** *чаму. Зак. Звычайна азімыя размяшчалі па якіх папала папярэдніках. Летась такой практыцы далі адстаўку.* «Звязда». *Сіла Скарыны і заключаецца ў тым, што ён.. выдаў кнігі на даступнай свайму народу мове і тым самым даў адстаўку ў літаратуры як мёртвай лацыні, так і бяздушнай царкоўнаславяншчыне.* Алексютовіч.

**ДАВА́ЦЬ АСЕ́ЧКУ** *<у чым>. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Дапускаць памылку ў чым-н. **Сін.**: даваць маху (у 1 знач.); даваць пудла. **ДАЦЬ АСЕЧКУ** *<у чым>. Зак. Было ясна, што псіхалагічны ход з маўчаннем даў асечку, павярнуць размову ў пажаданым кірунку не ўдалося...* Блакіт. *І вось тут, на павароце, план даў першую асечку. Той, хто чакаў Баршчэўскага, не меў пароля, а вось сілу меў адметную і адкінуў ад сябе Гаршкова, нібы кацянё.* Шашкоў.

**ДАВА́ЦЬ БО́Й** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рашуча выступаць на абарону чаго-н. *Вельмі рашуча і часта паэт даваў бой адкрытым прыхільнікам прымітывізму ў літаратуры.* Бугаёў. **ДАЦЬ БОЙ** *каму. Зак. Бадай што гаворка на гэтым і скончылася б, каб не было камсорга. Ён пажвавеў і вырашыў усё ж даць бой карэспандэнту.* Кавалёў. *Быліч ведаў адно: сёння ён дасць бой Радзівону, чаго б там ні каштавала, а дасць бой.* Блакіт.

**ДАВА́ЦЬ ВО́ЛЮ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** *каму.* Дазваляць свабодна дзейнічаць, рабіць што-н. **Ант.**: трымаць на прывязі *каго. [Марыля:] Хоць забі яго — саступіць адгэтуль не хоча і нам нікому волі не дае.* Купала. **ДАЦЬ ВОЛЮ** *каму. Зак. [Любка:] Яна, каб ёй волю даць, хадзіла б у аксаміце жыта жаць, у золаце гуляць.* В.Вольскі.

**2.** *чаму.* Не стрымліваць што-н. (гнеў, рэўнасць, смех, слёзы і пад.). Пра пачуцці і іх выяўленне. *Сядзіць Мікола Браніборскі. Сквапны, хваткі, як у галаўня, рот усміхаецца. Не даваць волю ўласнай нелюбові нельга.* Караткевіч. *Оля харашылася за сталом, як пава, і давала волю свайму смеху, як некалі сярод дзяўчат і хлопцаў.* Пестрак. **ДАЦЬ ВОЛЮ** *чаму. Зак. Вочы Лізаветы пачырванелі, наліліся вільгаццю, але волі слязам яна не дала.* Казько.

**ДАВА́ЦЬ ВО́ЛЮ РУКА́М**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. 1. Біцца, збіваць каго-н. **Сін.**: лічыць зубы *каму, у каго*; лупіць скуру *з каго* (у 1 знач.); палічыць рэбры *каму*; распускаць рукі (у 1 знач.). **ДАЦЬ ВОЛЮ РУКАМ**. *Зак. Рыгор матнуў рукою і з лёгкай іроніяй праказаў: — Ну, другі раз няхай толькі паспрабуе даць волю рукам...* Гартны. *Дзед даў волю сваім рукам і без памяці біў і біў у адно месца...* Пестрак.

**2.** Чапаць, абдымаць каго-н. **Сін.**: распускаць рукі (у 2 знач.). *[Паўлінка:] Ого, скуль такая далікатнасць? Рукам каля дзяўчыны дае волю без пытання, а як папяросу закурыць, дык пазвалення просіць.* Купала. **ДАЦЬ ВОЛЮ РУКАМ**. *Зак. Бандыт у кажушку сеў каля Параскі, абняў яе за плечы.. Эх бы локцем заехаць — крывёю заліўся б. Хай толькі паспрабуе волю рукам даць.* Лобан.

**ДАВА́ЦЬ ВО́ЛЮ <СВАЙМЎ> СЭ́РЦУ**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дазваляць сабе расчуліцца. *Толькі моцныя, валявыя людзі могуць выстаяць супраць спакусы, не даваць волі свайму сэрцу.* Дамашэвіч. **ДАЦЬ ВОЛЮ < СВАЙМУ > СЭРЦУ**. *Зак. Гарык быў шчаслівы. Быў задаволены тым, што.. не даў волі сэрцу, калі сустрэўся першы раз з Валянцінам, і Мар'ян.* Казько.

**ДАВА́ЦЬ ВО́ЛЮ ЯЗЫКЎ (-А́М)**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дазваляць сабе гаварыць лішняе; лаяцца. **Сін.**: вастрыць язык; развязваць язык (у 1 знач.); распускаць язык. *[Пшэкін] увесь час нібыта спахопліваўся чаго, не даваў волі языку, хоць і даймаў роспытамі незнаёмага чалавека.* Чыгрынаў. **ДАЦЬ ВОЛЮ ЯЗЫКУ (-АМ)**. *Зак. Мацвей зразумеў, што захмялелы ён даў волю языку, не тым кірункам павёў гаворку, але цурацца сказанага было позна.* Воранаў. *Гэта лаялася Аўдоля Латачыха з жонкаю Мікіты, Акуляю. Яны даўно ўжо былі не ў ладах, цяпер жа гэта свята сталася зачэпкаю для таго, каб даць волю языкам.* Колас.

**ДАВА́ЦЬ ГАЛАВЎ НА АДРЭ́З (НА АДСЯЧЭ́ННЕ)** < *каму*>. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы; часцей у галоўн. ск. Браць на сябе поўную адказнасць за што-н. **Сін.**: адказваць галавой *за каго, за што*; галаву ў заклад аддаваць; класці галаву на калодку; ручацца галавой *за каго, за што. [Несцяровіч:] А што будзе, калі ў цябе нічога не выйдзе? [Бондар:] Галаву даю на адрэз.* Гурскі. *Галаву даю на адсячэнне, што з вас Паганіні не выйдзе...* Лынькоў. *Галаву табе даю на адрэз, дарагая мая, ад твайго палкага кахання толькі дым застанецца.* Гігевіч. **ДАЦЬ ГАЛАВУ НА АДРЭЗ (НА АДСЯЧЭННЕ)** <*каму*>. *Зак. Я магу даць галаву на адрэз, што ён [Метак] недзе тут сноўдаецца з хутара на хутар.* Бажко.

**ДАВА́ЦЬ ГА́ЗУ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прымушаць каго-н. быць больш энергічным. **ДАЦЬ ГАЗУ** *каму. Зак. — Правільна! Правільна... Харо-*

*шы будзе наш камандзір... — Дзякуй за выбары... А цяпер трымайцеся, я вам дам газу... — і [Пятрэнка] чамусьці прыўзняўся на пальчыках.* Пестрак.

**ДАВА́ЦЬ ГАРБУ́З** *каму. Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адмаўляць таму, хто сватаецца. **Сін.**: даваць нос *каму. Да яе [Настахі] прыходзілі ў сваты вясковыя хлопцы, але яна ўсім давала «па гарбузу» — наадрэз адмаўляла.* І.Капыловіч. **ДАЦЬ ГАРБУЗ** *каму. Зак. [Ганну] асабліва трывожыла тое, што Глушакі сваты былі не абы-якія, ім не так проста даць гарбуз, паказаць, як ісці туды, адкуль прыйшлі, ні з чым, — з Карчамі ў Куранях усе лічыліся, і бацька і матка таксама...* Мележ. *От вазьму і збяруся да цябе ў сваты, няўжо гарбуза дасі?* «Полымя».

**ДАВА́ЦЬ ГА́РТУ** *каму. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** Моцна сварыцца на каго-н., рэзка прабіраць каго-н. **Сін.**: браць пад абстрэл *каго, што*; браць у абарот *каго* (у 2 знач.); браць у пераплёт *каго* (у 2 знач.); браць у работу *каго* (у 2 знач.); браць у шоры *каго* (у 2 знач.); выганяць матыліцу *з каго*; выціскаць пот *з каго* (у 2 знач.); даваць гонку *каму*; даваць дыхту *каму* (у 1 знач.); даваць жару *каму* (у 1 знач.); даваць перцу *каму* (у 1 знач.); даваць піць *каму*; даваць прыкурыць *каму* (у 1 знач.); даваць пытлю *каму* (у 1 знач.); даваць у косці *каму* (у 1 знач.); даваць чапаласу *каму* (у 1 знач.); даваць чосу *каму* (у 1 знач.); задаваць пары *каму*; здымаць стружку *з каго*; мыліць галаву *каму*; мыліць шыю *каму* (у 2 знач.); накруціць хвост *каму*; паддаваць жару *каму* (у 1 знач.); прадзіраць з пясочкам *каго*; спусціць скуру *з каго* (у 2 знач.); усыпаць перцу *каму. — Змітрык учора позна затрымаў, — глядзіць мне ў вочы і ўсміхаецца Маруся. — Чуў, мама гарту давала...* Мыслівец. **ДАЦЬ ГАРТУ** *каму. Зак. А Кацярыне не да жартаў — дала яна ўсім тут гарту: адзін тапор нясе, другі начальству цягне абцугі.* Скрыпка.

**2.** Сурова распраўляцца з кім-н., караць каго-н. (часцей ворага). **Сін.**: даваць дыхту (у 2 знач.); даваць жару (у 2 знач.); даваць копаці *каму*; даваць перцу *каму* (у 2 знач.); даваць прыкурыць *каму* (у 2 знач.); даваць пытлю *каму* (у 2 знач.); даваць у косці *каму* (у 2 знач.); даваць у скуру *каму*; даваць чапаласу *каму* (у 2 знач.); даваць чосу *каму* (у 2 знач.); даць па зубах *каму*; даць па карку *каму*; задаваць фефару *каму*; мыліць шыю *каму* (у 1 знач.); намяць бакі *каму*; па сцяне размазваць *каго*; прапісаць іжыцу *каму*; спусціць скуру *з каго* (у 1 знач.); усыпаць гарачых *каму*; чартоў ганяць. **ДАЦЬ ГАРТУ** *каму. Зак. [Палкоўнік:] Будзеш грозны для ворага і мілы для салдата, скончыш акадэмію... Поле для працы, ну, дасі гарту ворагу!* Галубок.

**ДАВА́ЦЬ ГО́НКУ** *каму. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рэзка прабіраць каго-н. **Сін.**: браць пад абстрэл *каго, што*; браць у абарот *каго* (у 2 знач.); браць у пераплёт *каго* (у 2 знач.); браць у работу *каго* (у 2 знач.); браць у шоры *каго (у 2* знач.); выганяць матыліцу з *каго*; выціскаць пот *з каго* (у 2 знач.); даваць гарту *каму* (у 1 знач.); даваць дыхту *каму* (у 1 знач.); даваць жару *каму* (у 1 знач.); даваць перцу *каму* (у 1 знач.); даваць піць *каму*; даваць прыкурыць *каму* (у 1 знач.); даваць пытлю *каму* (у 1 знач.); даваць у косці *каму* (у 1 знач.); даваць чапаласу *каму* (у 1 знач.); даваць чосу *каму* (у 1 знач.); задаваць пары *каму*; здымаць стружку *з каго*; мыліць галаву *каму*; мыліць шыю *каму* (у 2 знач.); накруціць хвост *каму*; паддаваць жару *каму* (у 1 знач.); прадзіраць з пясочкам *каго*; спусціць скуру *з каго* (у 2 знач.); усыпаць перцу *каму*. **ДАЦЬ ГОНКУ** *каму. Зак. [Марыся:] Мы з Грышкам паклонімся ў пояс найяснейшай кароне, дык ён пагодзіць нашых бацькоў, а табе за крывое паказанне дасць харошую гонку.* Дунін-Марцінкевіч.

**ДАВА́ЦЬ ДЗЁРУ (ДЗЕРАКА́).** *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Кідацца наўцёкі, імкліва ўцякаць. **Сін.**: аддаваць канцы (у 2 знач.); вастрыць лыжы *куды, адкуль* (у 2 знач.); выносіць ногі <*адкуль, ад каго*>; даваць драла; даваць драпака; даваць лататы; даваць махні-драла; даваць маху (у 2 знач.); даваць стракача *ад каго, адкуль, куды*; даваць у ногі; даваць ходу *адкуль, куды*; даваць цягу; змотваць вудачкі; зрабіць ногі (у 1 знач.); падмазваць пяткі; паказваць пяткі; паказваць спіну (у 2 знач.); рваць кіпці. *Ён [Якаў] туды падходзіць стаў, дзе жыў брат яго Ісаў, ад якога ў сваю пору ён даваў таксама дзёру.* Крапіва. **ДАЦЬ ДЗЁРУ (ДЗЕРАКА).** *Зак. Зноў у ім [Рыбаку] аднавілася прыціхлае было, але ўпартае жаданне даць дзёру, прарвацца ў лес, трэба было толькі падлавіць адпаведны момант.* Быкаў. *Можа, праз якія месяцы тры — гэта мы вясною ў трыццаць дзевятым годзе з тым прашэннем хадзілі — войт дзерака даў.* Янкоўскі.

**ДАВА́ЦЬ ДРАЗДА́.** *Незак. Праст. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У поўнай меры выявіць свае магчымасці, якасці. **Сін.**: знайсці сябе; паказваць сваё; паказваць сябе. **ДАЦЬ ДРАЗДА.** *Зак. — Можна за дзесяты [клас] падрыхтавацца летам.. — А што ты думаеш! — Мікола нібы чуе гэта ўпершыню. — Дадзім дразда.* Навуменка. *— А наогул Мікола, ваш хлопец — во! — Аляксей паказвае вялікі палец левай рукі. — Ён тут да-а-аў дразда. Паказаў шахцёрскую хватку. Грошай прывёз цэлую торбу, частаваў, абы ў магазіне каго сустрэў.* Чыгрынаў.

**ДАВА́ЦЬ ДУ́БА.** *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паміраць. **Сін.**: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць на той свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць у іншы свет; адыходзіць у лепшы свет; ажаніцца з <сырою> зямлёй; выпростваць ногі; выцягнуць ногі; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць <*каму*> (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); канькі адкідаць; лажыцца ў магілу; на паповы сані збірацца; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. *— Вы на тым пяску-сыпуне праз год закукуеце, — прарочылі старэйшыя, — за імшарынай, на падзоле, напраўду дуба дасце. — І ўсё ж людзі падзяліліся. Адны перайшлі на пясок-сыпун, не збаяўшыся «праз год закукаваць», другія падаліся на падзол, разважаючы, якая розніца, дзе «дуба даваць», трэція, вядома, засталіся на месцы перадзелу.* Праскураў. **ДАЦЬ (УРЭЗАЦЬ) ДУБА.** *Зак. [Бараноўскі] дрэнна еў, амаль зусім не спаў, зблажэў і аднойчы пасля поўдня зусім нечакана даў дуба.* Гурскі. *Кінь, начальнік, не прыдзірайся. Каб не яна, дык камандзір наш ужо дуба ўрэзаў бы.* Асіпенка.

**ДАВА́ЦЬ ДЫ З РУ́К НЕ ПУСКА́ЦЬ (НЕ ВЫПУСКА́ЦЬ)** *што. Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Толькі абяцаць, але не выконваць абяцанага. *Тады ж свабоду па царскім маніфесце давалі ды з рук не пускалі. Паткнуліся абрэзаць панскую зямельку, а казакі па дзвюх палавінках як урэзалі, дык аж цяпер свярбяць.* Грахоўскі.

**ДАВА́ЦЬ (ЗАДАВА́ЦЬ) ДРА́ЛА.** *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Кідацца наўцёкі, імкліва ўцякаць. **Сін.**: аддаваць канцы (у 2 знач.); вастрыць лыжы *куды, адкуль* (у 2 знач.); выносіць ногі <*адкуль, ад каго*>; даваць дзёру; даваць драпака; даваць лататы; даваць махні-драла; даваць маху (у 2 знач.); даваць стракача *ад каго, адкуль, куды*; даваць у ногі; даваць ходу *адкуль, куды*; даваць цягу; змотваць вудачкі; зрабіць ногі (у 1 знач.); падмазваць пяткі; паказваць пяткі; паказваць спіну (у 2

знач.); рваць кіпці. *Перапалоханы ў першую хвіліну, Паўлік гатоў быў даваць драла ў чый-небудзь двор...* Лобан. **ДАЦЬ (ЗАДАЦЬ) ДРАЛА**. *Зак. Захацелася даць драла, толькі сорамна было перад сябрамі.* Карпюк. *Сцебануў тады Гамыра каня, каб задаць драла.* Колас.

**ДАВА́ЦЬ (ЗАДАВА́ЦЬ) ДРАПАКА́**. *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Кідацца наўцёкі, імкліва ўцякаць. **Сін**.: аддаваць канцы (у 2 знач.); вастрыць лыжы *куды, адкуль* (у 2 знач.); выносіць ногі <*адкуль, ад каго*>; даваць дзёру; даваць драла; даваць лататы; даваць маху (у 2 знач.); даваць стракача *ад каго, адкуль, куды*; даваць ходу *адкуль, куды*; даваць цягу; змотваць вудачкі; падмазваць пяткі; паказваць пяткі; паказваць спіну (у 2 знач.). *Дзед Хрушч падміргнуў сябрам. — Давялося прыставу даваць драпака.* Колас. **ДАЦЬ (ЗАДАЦЬ) ДРАПАКА**. *Зак. — Зараз дзяжурныя дэпоададуць драпака у бомбасховішча, — шапнуў Жэня.* Шчарбатаў. *[Фізік] затрымаў мяне на павароце: хацеў задаць я з школы драпака.* Хведаровіч.

**ДАВА́ЦЬ (ЗАДАВА́ЦЬ) ДЫ́ХТУ**. *Незак. Праст.* **1**. *каму*. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна сварыцца на каго-н., рэзка прабіраць каго-н. **Сін**.: браць пад абстрэл *каго, што*; браць у абарот *каго* (у 2 знач.); браць у пераплёт *каго* (у 2 знач.); браць у работу *каго* (у 2 знач.); браць у шоры *каго* (у 2 знач.); выганяць матыліцу *з каго*; выціскаць пот *з каго* (у 2 знач.); даваць гарту *каму* (у 1 знач.); даваць гонку *каму*; даваць жару *каму* (у 1 знач.); даваць перцу *каму* (у 1 знач.); даваць піць *каму*; даваць прыкурыць *каму* (у 1 знач.); даваць пытлю *каму* (у 1 знач.); даваць у косці *каму* (у 1 знач.); даваць чапаласу *каму* (у 1 знач.); даваць чосу *каму* (у 1 знач.); задаваць пары *каму*; здымаць стружку *з каго*; мыліць галаву *каму*; мыліць шыю *каму* (у 2 знач.); накруціць хвост *каму*; паддаваць жару *каму* (у 1 знач.); прадзіраць з пясочкам *каго*; спусціць скуру *з каго* (у 2 знач.); усыпаць перцу *каму*. *[Падабед:] Ну і інжынеры — халтуршчыкі... [Рабочы:] Правільна, давай ім дыхту.* Крапіва. **ДАЦЬ (ЗАДАЦЬ) ДЫХТУ** *каму. Зак. Мала што адзін на адзін, дык пры ўсіх, гэта сябар называецца, даў дыхту.* Кузьмянкоў. *Калі трэба — націсне кнопку, выкліча праз сакратарку і задасць дыхту. На тое дырэктар.* Аношкін.

**2**. *каму*. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш. ці канкр. прадмета. Сурова расправўляцца з кім-н., біць з бязлітаснасцю каго-н. **Сін**.: даваць гарту *каму* (у 2 знач.); даваць жару (у 2 знач.); даваць копаці *каму*; даваць перцу *каму* (у 2 знач.); даваць прыкурыць *каму* (у 2 знач.); даваць пытлю *каму* (у 2 знач.); даваць у косці *каму* (у 2 знач.); даваць у скуру *каму*; даваць чапаласу *каму* (у 2 знач.); даваць чосу *каму* (у 2 знач.); даць па зубах *каму*; даць па карку *каму*; задаваць фефару *каму*; мыліць шыю *каму* (у 1 знач.); намяць бакі *каму*; па сцяне размазваць *каго*; прапісаць іжыцу *каму*; спусціць скуру *з каго* (у 1 знач.); усыпаць гарачых *каму*; чартоў ганяць. *[Даніла] сарганізаваў, чуваць, такіх малайцоў, як сам, ды дае панам дыхту.* Крапіва. **ДАЦЬ (ЗАДАЦЬ) ДЫХТУ** *каму. Зак. Малы занёс і запёр лютага пеўня ў куратнік да Сашкі, і той, як траха развіднела, даў дыхту — парасклёўваў няпрошанаму кватаранту не толькі рукі, але і твар...* А.Жук. *Да болю крыўдна было, што няма нашых «ястрабкоў». Каб яны толькі паявіліся, дык далі б дыхту гэтым нахабнікам-фашыстам.* Сабаленка.

**3**. *чаму*. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Энергічна працуючы, хутка спраўляцца з чым-н. **Сін**.: даваць жару (у 3 знач.). **ДАЦЬ (ЗАДАЦЬ) ДЫХТУ** *чаму. Зак. [Маша:] Глянула сёння — а мамачкі! Папер повен стол. Не разнесеныя, не раскладзеныя. Ну, я ж ім і дала дыхту! Апошнія паперыны падшываю.* Крапіва.

**4**. *чаму*. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Натруджваць (рукі, ногі). **ДАЦЬ (ЗАДАЦЬ) ДЫХТУ** *чаму. Зак. Эх, і наскакалася ж Яніна ў нядзельку ў Манькоўцы! Ну, і дала дыхту нагам, што дала дык дала*. Мурашка.

**ДАВА́ЦЬ (ЗАДАВА́ЦЬ) ЖА́РУ**. *Незак. Праст*. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Моцна сварыцца на каго-н., распякаць каго-н. **Сін**.: браць пад абстрэл *каго, што*; браць у абарот *каго* (у 2 знач.); браць у пераплёт *каго* (у 2 знач.); браць у работу *каго* (у 2 знач.); браць у шоры *каго* (у 2 знач.); выганяць матыліцу *з каго*; выціскаць пот *з каго* (у 2 знач.); даваць гарту *каму* (у 1 знач.); даваць гонку *каму*; даваць дыхту *каму* (у 1 знач.); даваць перцу *каму* (у 1 знач.); даваць піць *каму*; даваць прыкурыць *каму* (у 1 знач.); даваць пытлю *каму* (у 1 знач.); даваць у косці *каму* (у 1 знач.); даваць чапаласу *каму* (у 1 знач.); даваць чосу *каму* (у 1 знач.); задаваць пары *каму*; здымаць стружку *з каго*; мыліць галаву *каму*; мыліць шыю *каму* (у 2 знач.); накруціць хвост *каму*; паддаваць жару *каму* (у 1 знач.); прадзіраць з пясочкам *каго*; спусціць скуру *з каго* (у 2 знач.); усыпаць перцу *каму*. **ДАЦЬ (ЗАДАЦЬ) ЖАРУ**. *Зак. [Ляснічы] натрапіў на такога, а каб наскочыў на другога, сказаць, хоць бы і на Пшавару: задаў бы ён там пану жару!* Колас. *Гаспадар не хацеў піць. Яшчэ каб вечарам, а то сярод белага дня. Сёння ж свята. А тут жонка прыйдзе — дасць жару...* Рылько.

**2**. Сурова распраўляцца з кім-н., караць каго-н. **Сін**.: даваць гарту *каму* (у 2 знач.); даваць дыхту (у 2 знач.); даваць перцу *каму* (у 2 знач.); даваць прыкурыць *каму* (у 2 знач.); даваць пытлю *каму* (у 2 знач.); даваць у косці *каму* (у 2 знач.); даваць у скуру *каму*; даваць чапаласу *каму* (у 2 знач.); даваць чосу *каму* (у 2 знач.); даць па зубах *каму*; даць па карку *каму*; задаваць фефару *каму*; мыліць шыю *каму*; (у 1 знач.); намяць бакі *каму*; па сцяне размазваць *каго*; прапісаць іжыцу *каму*, спусціць скуру *з каго* (у 1 знач.); усыпаць гарачых *каму*; чартоў ганяць. **ДАЦЬ (ЗАДАЦЬ) ЖАРУ**. *Зак. Ты ж ведаеш, што ў Лужасненскім млыне немцы гаспадараць? Мы сабраліся даць ім жару. Вернецца разведка, і пойдзем*. Новікаў. *[Ворагі] просяцца, на калені падаюць, а нашы штыком у пуза, на... Далі ім жару*. Галавач.

**3**. Рабіць што-н. хутка, энергічна. **Сін**.: даваць дыхту (у 3 знач.). *Захапіўшы ў першай пары Янка Маньку, Юрка Раю, даюць дыхту, даюць жару, «Сербіянку», «Польку» шпараць, а гармонік грае, грае*. Купала. **ДАЦЬ (ЗАДАЦЬ) ЖАРУ**. *Зак. Ну, хлопцы, зараз дамо жару! Саб'ем пасадаў яшчэ з пару*. Колас.

**ДАВА́ЦЬ (ЗАДАВА́ЦЬ) ЛАТАТЫ́**. *Незак. Праст*. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Кідацца наўцёкі, імкліва ўцякаць. **Сін**.: аддаваць канцы (у 2 знач.); вастрыць лыжы *куды, адкуль* (у 2 знач.); выносіць ногі <*адкуль, ад каго*>; даваць дзёру; даваць драла; даваць драпака; даваць махні-драла; даваць маху (у 2 знач.); даваць стракача *ад каго, адкуль, куды*; даваць у ногі; даваць ходу *адкуль, куды*; даваць цягу; змотваць вудачкі; зрабіць ногі (у 1 знач.); падмазваць пяткі; паказваць пяткі; паказваць спіну (у 2 знач.); рваць кіпці. *Пры запыленых будынках чуем плач мы беднаты: — Дзе ж цяпер шукаць прыпынку? Ці даваць мо ла-та-ты?* Чарот. **ДАЦЬ (ЗАДАЦЬ) ЛАТАТЫ**. *Зак. — Нічога! Страх — адзін раз страх, а пасля, — смяецца бацька. — Ну і задаў жа ты, брат, тады лататы*. Каваленка. *[Памешчык] выскачыў у адной сарочцы і цяпер пабег, засопшыся, наважыўшыся праскочыць сад і даць лататы да лесу*. Лынькоў.

**ДАВА́ЦЬ (ЗАДАВА́ЦЬ) ПЕ́РЦУ** *каму. Незак. Праст*. **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна сварыцца на каго-н., рэзка прабіраць. **Сін**.: браць пад абстрэл *каго, што*; браць у абарот *каго* (у 2 знач.); браць у пераплёт *каго* (у 2 знач.); браць у работу *каго* (у 2 знач.); браць у шоры *каго* (у 2 знач.); выганяць матыліцу *з каго*; выціскаць пот *з каго* (у 2 знач.); даваць гарту *каму* (у 1 знач.); даваць гонку *каму*; даваць дыхту

*каму* (у 1 знач.); даваць жару *каму* (у 1 знач.); даваць піць *каму*; даваць прыкурыць *каму* (у 1 знач.); даваць пытлю *каму* (у 1 знач.); даваць у косці *каму* (у 1 знач.); даваць чапаласу *каму* (у 1 знач.); даваць чосу *каму* (у 1 знач.); задаваць пары *каму*; здымаць стружку *з каго*; мыліць галаву *каму*; мыліць шыю *каму* (у 2 знач.); накруціць хвост *каму*; паддаваць жару *каму* (у 1 знач.); прадзіраць з пясочкам *каго*; спусціць скуру *з каго* (у 2 знач.); усыпаць гарачых *каму*. *Во, бачылі, Цар-баба пайшла. Кажуць, у школе калісь-то вучыла. О, то яна, кажуць, перцу давала.* Гігевіч. **ДАЦЬ (ЗАДАЦЬ) ПЕРЦУ** *каму. Зак. Усё, браткі! Марш па дамах! А то як нарвецца з поля цётка старшыніха, задасць яна ўсім перцу — і вам, і мне!..* Васілевіч. — *Цішэй. Глюга ідзе, дасць перцу... — гаварылі рабочыя.* Пестрак.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Сурова распраўляцца з кім-н., бязлітасна біць, караць каго-н. **Сін**.: даваць гарту *каму* (у 2 знач.); даваць дыхту *каму* (у 2 знач.); даваць жару (у 2 знач.); даваць копаці *каму*; даваць прыкурыць *каму* (у 2 знач.); даваць пытлю *каму* (у 2 знач.); даваць у косці *каму* (у 2 знач.); даваць у скуру *каму*; даваць чапаласу *каму* (у 2 знач.); даваць чосу *каму* (у 2 знач.); даць па зубах *каму*; даць па карку *каму*; задаваць фефару *каму*; мыліць шыю *каму* (у 1 знач.); намяць бакі *каму*; прапісаць іжыцу *каму*; спусціць скуру *з каго* (у 1 знач.); усыпаць гарачых *каму*; чартоў ганяць. **ДАЦЬ (ЗАДАЦЬ) ПЕРЦУ** *каму. Зак. От гэтыя хлопцы дадуць дык дадуць перцу фашыстам.* Сабаленка. *Канечне, армія адступала, адступалі потым і мы, але не ўцякалі, не. І ў першым баі далі ім [немцам] перцу.* Радкевіч. — *Трымайся! Задай яму [тыгру] перцу! — падахвочвалі буйвала з усіх бакоў.* Маўр.

**ДАВА́ЦЬ (ЗАДАВА́ЦЬ) ПЫ́ТЛЮ** *каму. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Моцна правучваць, распякаць каго-н., энергічна ўздзейнічаць на каго-н. **Сін**.: браць пад абстрэл *каго, што*; браць у абарот *каго* (у 2 знач.); браць у пераплёт *каго* (у 2 знач.); браць у работу *каго* (у 2 знач.); браць у шоры *каго* (у 2 знач.); выганяць матыліцу *з каго*; выціскаць пот *з каго* (у 2 знач.); даваць гарту *каму* (у 1 знач.); даваць гонку *каму*; даваць дыхту *каму* (у 1 знач.); даваць жару *каму* (у 1 знач.); даваць перцу *каму* (у 1 знач.); даваць піць *каму*; даваць прыкурыць *каму* (у 1 знач.); даваць у косці *каму* (у 1 знач.); даваць чапаласу *каму* (у 1 знач.); даваць чосу *каму* (у 1 знач.); задаваць пары *каму*; здымаць стружку *з каго*; мыліць галаву *каму*; мыліць шыю *каму* (у 2 знач.); накруціць хвост *каму*; паддаваць жару *каму* (у 1 знач.); прадзіраць з пясочкам *каго*; спусціць скуру *з каго* (у 2 знач.); усыпаць перцу *каму*. *А пытлю маці давала часта. Як толькі падымаўся Міколка з ложка, то маці тут як тут: — Ану, станавіся «ойча наш» чытаць!* Лынькоў. **ДАЦЬ (ЗАДАЦЬ) ПЫТЛЮ** *каму. Зак. — Дык вы едзеце [на будоўлю]? — Сёння ўначы! — Ну, і добра. Дайце там пытлю ўсім!* Шынклер. *[Паўлінка:] Задасць [бацька] такога пытлю і табе, і мне разам, што і жаніцьба ў галаву не палезе.* Купала.

**2**. Сурова распраўляцца з кім-н., біць, караць каго-н. (часцей ворага). **Сін**.: даваць гарту *каму* (у 2 знач.); даваць дыхту (у 2 знач.); даваць жару (у 2 знач.); даваць копаці *каму*; даваць перцу *каму* (у 2 знач.); даваць прыкурыць *каму* (у 2 знач.); даваць у косці *каму* (у 2 знач.); даваць у скуру *каму*; даваць чапаласу *каму* (у 2 знач.); даваць чосу *каму* (у 2 знач.); даць па зубах *каму*; даць па карку *каму*; задаваць фефару *каму*; мыліць шыю *каму* (у 1 знач.); намяць бакі *каму*; прыпісаць іжыцу *каму*; спусціць скуру *з каго* (у 1 знач.); усыпаць гарачых *каму*; чортаў ганяць. **ДАЦЬ (ЗАДАЦЬ) ПЫТЛЮ** *каму. Зак. Як толькі яны ўлезуць у гэты мех, — Салавей абвёў алоўкам тры бакі квадрата, — мы яго і завяжам. Уцякаць адна дарога — на мост. Тут мы ім дамо пытлю.* Грахоўскі. — *Гарадскія хлопцы пастараліся. Што ж, малайцы, і яны далі немцу пытлю!* Лынькоў.

**ДАВА́ЦЬ (ЗАДАВА́ЦЬ) СТРАКАЧА́** *ад каго, адкуль, куды. Незак. Прааст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Кідацца наўцёкі, імкліва ўцякаць. **Сін.**: аддаваць канцы (у 2 знач.); вастрыць лыжы *куды, адкуль* (у 2 знач.); выносіць ногі <*адкуль, ад каго*>; даваць дзёру; даваць драла; даваць драпака; даваць лататы; даваць махні-драла; даваць маху (у 2 знач.); даваць у ногі; даваць ходу *адкуль, куды*; даваць цягу; змотваць вудачкі; зрабіць ногі (у 1 знач.); падмазваць пяткі; паказваць пяткі; паказваць спіну (у 2 знач.); рваць кіпці. *[Адзінота:] Жарты жартамі, а Пацуку, брат, горача. [Кучма:] Як ноч, так ён з плытоў стракача дае.* Галубок. **ДАЦЬ (ЗАДАЦЬ) СТРАКАЧА** *ад каго, адкуль, куды. Зак. [Касценя:] Пагналі нас следам за адступаючымі, а ў дарозе немцы перахапілі. Ну, ноччу і даў я стракача.* Васілеўскі. *Дземух не варочаўся. У Бурліна закралася было нават падазрэнне, ці не задаў ён стракача.* Колас. *Максім Бенядзіктавіч задаў стракача ад небяспечнага месца.* Аношкін.

**ДАВА́ЦЬ (ЗАДАВА́ЦЬ) ТО́Н** <*каму, чаму, у чым*>. *Незак. Фунц. не зам. Часцей адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Паказваць прыклад у чым-н., станавіцца ўзорам для іншых; аказваць уплыў на ход падзей. **Сін.**: весці рэй; іграць першую скрыпку *ў чым*; камандаваць парадам; правіць баль <*дзе, у чым*>; рабіць пагоду <*у чым, дзе*>; трымаць лейцы <у сваіх руках>. **Ант.**: іграць другую скрыпку *ў чым. Бацькавы словы даюць тон грамадзе. З кожным словам лік Марысіных праціўнікаў расце.* Колас. *Вашы калгасы лепшыя ў раёне. Хто ж павінен задаваць тон, як не вы?..* Хадкевіч. **ДАЦЬ (ЗАДАЦЬ) ТОН** <*каму, чаму, у чым*>. *Зак. Ліда і Ева, хоць не бачыліся ўсяго пяць дзён, але абняліся і пацалаваліся. І першая задала тон Ева.* Чорны.

**ДАВА́ЦЬ (ЗАДАВА́ЦЬ) ХРАПАКА́.** *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна спаць. **Сін.**: давіць вуха; задаваць храпавіцкага; хварэць на пана (у 1 знач.). *Палонныя немцы сядзелі каля сцен, займаючыся сваімі салдацкімі справамі: папраўлялі боты.., лапілі.. адзенне, а то і проста давалі добрага храпака, рыхтуючыся да далёкай дарогі.* Лынькоў. *А хто храпака задаваў ля акна, калі ў катле булькала?.. Можа, прызнаешся ўсё ж?* Капусцін. **ДАЦЬ (ЗАДАВАЦЬ) ХРАПАКА.** *Зак. Сон жа, як на злосць, ніяк не змыкаў яму вочы. Праўда, удзень Мікола даў храпака і выспаўся.* Колас. *Калі б не трэба было снедаць, можна было б зноў задаць храпака.* Гроднеў.

**ДАВА́ЦЬ (ЗАДАВА́ЦЬ) ЧО́СУ** *каму. Незак. Праст.* 1. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна сварыцца на каго-н., рэзка прабіраць каго-н. **Сін.**: браць пад абстрэл *каго, што*; браць у абарот *каго* (у 2 знач.); браць у пераплёт *каго* (у 2 знач.); браць у работу *каго* (у 2 знач.); браць у шоры *каго* (у 2 знач.); выганяць матыліцу *з каго*; выціскаць пот *з каго* (у 2 знач.); даваць гарту *каму* (у 1 знач.); даваць гонку *каму*; даваць дыхту *каму* (у 1 знач.); даваць жару *каму* (у 1 знач.); даваць перцу *каму* (у 1 знач.); даваць піць *каму*; даваць прыкурыць *каму* (у 1 знач.); даваць пытлю *каму* (у 1 знач.); даваць у косці *каму* (у 1 знач.); даваць чапаласу *каму* (у 1 знач.); задаваць пары *каму*; здымаць стружку *з каго*; мыліць галаву *каму*; мыліць шыю *каму* (у 1 знач.); накруціць хвост *каму*; паддаваць жару *каму* (у 1 знач.); прадзіраць з пясочкам *каго*; спусціць скуру *з каго* (у 2 знач.); усыпаць перцу *каму*. **ДАЦЬ (ЗАДАЦЬ) ЧОСУ** *каму. Зак. Дадуць чосу бацькі і мне разам з вамі. Ну, ды покі той суд, пабалюем самі.* Колас. *[Фрося:] Вось каб пабачыла мама, ото ж бы задала мне чосу!* Галубок.

2. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Сурова распраўляцца з кім-н., біць, караць каго-н. **Сін.**: даваць гарту *каму* (у 2 знач.); даваць дыхту (у 2 знач.); даваць жару (у 2 знач.); даваць копаці *каму*; даваць перцу *каму* (у 2 знач.); даваць прыкурыць *каму* (у 2 знач.); даваць пытлю *каму* (у 2 знач.); даваць у косці *каму* (у 2 знач.); даваць у скуру *каму*; даваць чапаласу *каму* (у 2 знач.); даць па зубах *каму*; даць па карку *каму*;

задаваць фефару *каму*; мыліць шыю *каму* (у 1 знач.); намяць бакі *каму*; па сцяне размазваць *каго*; прапісаць іжыцу *каму*; спусціць скуру *з каго* (у 1 знач.); усыпаць гарачых *каму*; чартоў ганяць. *Вырасце [сын], дык будзе фашыстам даваць чосу.* Сабаленка. **ДАЦЬ (ЗАДАЦЬ) ЧОСУ** *каму. Зак. I вось дагнала [мядзведзіца]. I такога чосу задала, што Мішка доўга не мог ачухацца.* Лынькоў.

**ДАВА́ЦЬ ЗА́ДНІ ХО́Д**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адступаць ад раней сказанага, зробленага, адмаўляцца ад ранейшага намеру, рашэння. **Сін**.: біць адбой; даваць адбой; заварочваць аглоблі (у 2 знач.). **ДАЦЬ ЗАДНІ ХОД**. *Зак. Уступіць месца брыгадзіра Гоман не мог ні пры якіх абставінах і таму адразу ж даў задні ход пад рогат цесляроў і стрыманыя ўсмешкі членаў праўлення.* Шамякін. — *Ды я так... — даў задні ход Валодзя. — Я хацеў ведаць, што вы скажаце.* Рунец.

**ДАВА́ЦЬ ЗДА́ЧЫ (-У)** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адплачваць тым самым, адказваць ударам на удар, знявагай на знявагу і пад. **Сін**.: адпякаць пірагі *каму*; даваць адлуп *каму*; зводзіць рахункі *з кім*. *Растаў я, нібы дзіцем зрабіўся акурат. I сам таго не згледзеў, як выкажыў свае: што пераць нас суседзі, што здачы мы даём.* Лужанін. **ДАЦЬ ЗДАЧЫ (-У)** *каму. Зак. [Кандрат:] Мабыць, пан эсэр спадзяецца, што ніхто тут яму не дасць здачы?* Лобан.

**ДАВА́ЦЬ ЗНА́ЦЬ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Паведамляць пра што-н. **ДАЦЬ ЗНАЦЬ** *каму. Зак. Аўгіня прадумала ўсе спосабы і расказала аб іх бабцы Насце. Трэба даць знаць у Вепры жонцы Мартына Рыля.* Колас. — *Тады я вас абрадую — Пятрусь учора заходзіў да мяне; яго выпусцілі і... высылаюць... — I не даў мне знаць!* Гартны.

**2**. Намякаць на што-н. якім-н. чынам. *На яго запытанне Зося не азвалася ні словам, ні бедным, а яшчэ горай нахмурылася, нібы даючы знаць Васілю, што яна не намерана з ім гаварыць.* Гартны. *Не праходзіла і хвіліны, як на ганачку ў Барташэвічаў дзынкалі дзверы і нехта выходзіў і садзіўся на лаўку. Хвядзько ведаў, што гэта старэйшая з сясцёр-настаўніц, Ларыса, давала яму знаць, што яна дома і была б вельмі не супраць, каб ён падышоў.* Лобан. **ДАЦЬ ЗНАЦЬ** *каму. Зак.*

**ДАВА́ЦЬ <КАЛЁНКАМ> ПАД ЗА́Д** *каму. Незак. Праст. Груб.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выганяць каго-н., звальняць, здымаць з пасады. **Сін**.: даваць па шапцы *каму*; даваць па шыі *каму*. **ДАЦЬ <КАЛЕНКАМ> ПАД ЗАД** *каму. Зак. [Ігар:] Што яму да нашага горада? Прыехаў, бо думаў, што яму дадуць зрабіць пераварот у архітэктуры. А яму далі каленкам пад зад. Не лезь, куды не трэба!* Шамякін. *Пакуль мы збіраемся даць яму [Бадытчыку] пад зад, ён ужо нашкодзіў, ён ужо недадаў хлеба.* Лобан.

**ДАВА́ЦЬ КО́ЗЫР У РУ́КІ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Забяспечваць каму-н. перавагу ў чым-н. **Ант**.: выбіваць козыры з рук *каго, у каго. [Шугаеў:] Мне нявыгадна табе козыр у рукі даваць. [Шылаў:] Вось наладжу ліццё, тады пазмагаемся.* Крапіва. **ДАЦЬ КОЗЫР У РУКІ** *каму. Зак. Эма не ўтрывала, тут жа запытала, і Міхасю ў рукі козыр дала лішні: — Ну, а на парадзе ў дзіцячым садзе грушы ёсць і вішні?* Колас.

**ДАВА́ЦЬ КО́ПАЦІ** *каму. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Сурова распраўляцца з кім-н., караць, знішчаць каго-н. (часцей ворага). **Сін**.: даваць гарту *каму* (у 2 знач.); даваць дыхту (у 2 знач.); даваць жару (у 2 знач.); даваць перцу *каму* (у 2 знач.); даваць прыкурыць *каму* (у 2 знач.); даваць пытлю *каму* (у 2 знач.); даваць у косці *каму* (у 2 знач.); даваць у скуру *каму*; даваць чапаласу *каму* (у 2 знач.); даваць чосу *каму* (у 2 знач.); даць па зубах *каму*; даць па карку *каму*; задаваць фефару *каму*; мыліць шыю *каму* (у 1 знач.); намяць бакі каму; прапісаць іжыцу *каму*; спусціць ску-

ру *з каго* (у 1 знач.); усыпаць гарачых *каму*; чартоў ганяць. *Расла і грымела слава заслонаўцаў, якія так хвацка «рубілі» гітлераўскую нечысць, «давалі копаці» фашыстам.* Лынькоў. — *У нас камандзір баявы, — гаварыў другі хлопец, гэта быў Стралецкі. — Акупантам дае копаці.* Гурскі. **ДАЦЬ КОПАЦІ** *каму. Зак. «Рубануць», «даць копаці» — любімыя фразы Заслонава.* Лынькоў.

**ДАВА́ЦЬ ЛЕ́ЙЦЫ Ў РУ́КІ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ставіць каго-н. на кіраўнічую пасаду. **ДАЦЬ ЛЕЙЦЫ Ў РУКІ** *каму. Зак. Людзі з гэтай яго прагнасці да кар'еры кпілі, і, калі толькі заводзілася гаворка пра Андрэя, таго і чакалі, што хто-небудзь секане напрамкі: «А-а, Завацкага хлебам не кармі — толькі дай лейцы ў рукі».* Ваданосаў.

**ДАВА́ЦЬ МАХНІ́-ДРА́ЛА**. *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Кідацца наўцёкі, імкліва ўцякаць. **Сін.**: аддаваць канцы (у 2 знач.); вастрыць лыжы *куды, адкуль* (у 2 знач.); выносіць ногі <*адкуль, ад каго*>; даваць дзёру; даваць драла; даваць драпака; даваць лататы; даваць маху (у 2 знач.); даваць стракача *ад каго, адкуль, куды*; даваць у ногі; даваць ходу *адкуль, куды*; даваць цягу; змотваць вудачкі; зрабіць ногі (у 1 знач.); падмазваць пяткі; паказваць пяткі; паказваць спіну (у 2 знач.); рваць кіпці. **ДАЦЬ МАХНІ-ДРАЛА**. *Зак. Задам, не спускаючы воч з натоўпу, ён прапіхнуўся да брычкі, дзе ўжо сядзеў ураднік са старшынёю, ды даў махні-драла.* Лёсік. *А я, брат, толькі там затузаўся дарма, і як раней хацелася да іх, так потым рад быў даць ад іх махні-драла.* Брыль. *Развесялілі даўгавухія касыя, што на шашы, як на эстрадзе, танцавалі, з-пад самых фараў махні-драла даўшы.* Лойка.

**ДАВА́ЦЬ МА́ХУ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Дапускаць памылку, памыляцца. **Сін.**: даваць асечку; даваць пудла. *А чаму ж ты, Аляксандр Іванавіч, там, па-суседску жывучы, не падказаў Чыкуну, дзе ён маху дае?* Якавенка. **ДАЦЬ МАХУ**. *Зак. «Гм», — пашкадаваў цяпер Іван Дарошка, што даў маху, не пайшоў да вогнішчаў.* Сачанка.

**2**. Кідацца науцёкі, імкліва ўцякаць. **Сін.**: аддаваць канцы (у 2 знач.); вастрыць лыжы *куды, адкуль* (у 2 знач.); выносіць ногі <*адкуль, ад каго*>; даваць дзёру; даваць драла; даваць драпака; даваць лататы; даваць махні-драла; даваць стракача *ад каго, адкуль, куды*; даваць у ногі; даваць ходу *адкуль, куды*; даваць цягу; змотваць вудачкі; зрабіць ногі (у 1 знач.); падмазваць пяткі, паказваць пяткі; паказваць спіну (у 2 знач.); рваць кіпці. **ДАЦЬ МАХУ**. *Зак. — Мусіць, збег, каб я здароў! — І затросся дзед ад страху... «Абакраў, гад, і даў маху!»* Колас. *У лагеры прыбаўляўся яшчэ адзін працаздольны і вельмі карысны чалавек. Баяліся, праўда, каб ён не даў маху з жыта, як зрабілі некаторыя яго суседзі па кузаву.* Кулакоўскі.

**ДАВА́ЦЬ НО́С (-А)** *каму. Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адмаўляць таму, хто сватаецца. **Сін.**: даваць гарбуз *каму*. **ДАЦЬ НОС (-А)** *каму. Зак. Бацька даў нос яму, жаніху такому.* Барадулін. [Лепешаў, с. 56: *носа даваць (даць)* каму.]

**ДАВА́ЦЬ ПАДНО́ЖКУ** *каму. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знарок шкодзіць. **Сін.**: падстаўляць ножку *каму*; перабягаць дарогу *каму*; псаваць абедню *каму*; ставіць падножку *каму*; ставіць палкі ў кола *каму, чаго*; станавіцца на дарозе *чыёй, каму, чаму*; станавіцца папярок дарогі *каму, чыёй*; стаяць на дарозе *чыёй, у каго*; стаяць папярок дарогі *каму, каго*. **Ант.**: саступаць з дарогі (у 2 знач.); сыходзіць з дарогі. *З шостым «Б» у нас даўняя спрэчка. Так павялося, што яны заўсёды (аж з чацвёртага класа) даюць нам падножку.* Зарэмба. **ДАЦЬ ПАДНОЖКУ** *каму. Зак. — А мне

*тут казалі, што ты нам падножку хочаш даць, — загаварыў Сяргей Іванавіч. — Маўляў, сарву ім работу — сам наперадзе буду.* «Полымя».

**ДАВА́ЦЬ ПА РУКА́Х** *каму. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Вельмі рашуча выкараняць, спыняць якія-н. дзеянні. *Не квапся, Бусел, на чужое. Цяпер за гэта па руках даюць...* Каваленка. **ДАЦЬ ПА РУКАХ** *каму. Зак. — Можа, людзі знойдуцца і табе па руках дадуць, — падумаў Ціток...* Лобан.

**ДАВА́ЦЬ ПА ША́ПЦЫ** *каму. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, сукупнасці асоб ці абстр. прадмета. Выганяць, праганяць каго-н., звальняць, здымаць з пасады. **Сін.**: даваць <каленкам> пад зад *каму*; даваць па шыі *каму. [Буржуазія] усё можа! А бедны, просты чалавек гараваў. Дык рэвалюцыя дала ці дасць па шапцы гэтай самай буржуазіі, на карысць беднаму чалавеку.* Чорны. **ДАЦЬ ПА ШАПЦЫ** *каму. Зак.— Даскачацца Тарас... — Дадуць яму па шапцы, — пагадзіўся Мікола.* Калодзежны.

**ДАВА́ЦЬ ПА ШЫ́І** *каму. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Выганяць, праганяць каго-н., здымаць з работы. **Сін.**: даваць <каленкам> пад зад *каму*; даваць па шапцы *каму*. **ДАЦЬ ПА ШЫІ** *каму. Зак. Калі Зарэчны раён рэжуць як эксперыментальны — я адмаўляюся ад яго праектавання. Рашуча. Хопіць. Ведаю, што мне дадуць па шыі...* Шамякін.

**ДАВА́ЦЬ ПЕРУНО́Ў** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гнеўна, з абурэннем гаварыць, пагражаць. *Звычайна Рыгошка ніколі не даваў перуноў, толькі праткне вокам, як зазлуе, але ў незвычайны час, калі хваляванне раз'ятрыць яго марудную натуру, то ён мог нарабіць бяды.* Наварыч. **ДАЦЬ ПЕРУНОЎ** *каму. Зак. Прыехала матка — а ўсё недагледжанае. Ох і дала ж перуноў бацьку!* Янкоўскі.

**ДАВА́ЦЬ ПІ́ЦЬ** *каму. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна правучыць каго-н., энергічна ўздзейнічаць на каго-н. **Сін.**: браць пад абстрэл *каго, што*; браць у абарот *каго* (у 2 знач.); браць у пераплёт *каго* (у 2 знач.); браць у работу *каго* (у 2 знач.); браць у шоры *каго* (у 2 знач.); выганяць матыліцу *з каго*; выціскаць пот *з каго* (у 2 знач.); даваць гарту *каму* (у 1 знач.); даваць гонку *каму*; даваць дыхту *каму* (у 1 знач.); даваць жару *каму* (у 1 знач.); даваць перцу *каму* (у 1 знач.); даваць прыкурыць *каму* (у 1 знач.); даваць пытлю *каму* (у 1 знач.); даваць у косці *каму* (у 1 знач.); даваць чапаласу *каму* (у 1 знач.); даваць чосу *каму* (у 1 знач.); задаваць пары *каму*; здымаць стружку *з каго*; мыліць галаву *каму*; мыліць шыю *каму* (у 2 знач.); накруціць хвост *каму*; паддаваць жару *каму* (у 1 знач.); прадзіраць з пясочкам *каго*; спусціць скуру *з каго* (у 2 знач.); усыпаць перцу *каму*. **ДАЦЬ ПІЦЬ** *каму. Зак. Алесю ведала ўся акруга як партызанскую разведчыцу, як вясёлую ўвішную дзяўчыну, што якому хочаш мужчыну, як кажуць, дасць піць.* Пестрак.

**ДАВА́ЦЬ ПРЫКУРЫ́ЦЬ** *каму. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** Моцна сварыцца на каго-н., рэзка прабіраць каго-н. **Сін.**: браць пад абстрэл *каго, што*; браць у абарот *каго* (у 2 знач.); браць у пераплёт *каго* (у 2 знач.); браць у работу *каго* (у 2 знач.); браць у шоры *каго* (у 2 знач.); выганяць матыліцу *з каго*; выціскаць пот *з каго* (у 2 знач.); даваць гарту *каму* (у 1 знач.); даваць гонку *каму*; даваць дыхту *каму (у* 1 знач.); даваць жару *каму* (у 1 знач.); даваць перцу *каму* (у 1 знач.); даваць піць *каму*; даваць пытлю *каму* (у 1 знач.); даваць у косці *каму* (у 1 знач.); даваць чапаласу *каму* (у 1 знач.); даваць чосу *каму* (у 1 знач.); задаваць пары *каму*; здымаць стружку *з каго*; мыліць галаву *каму*; мыліць шыю *каму* (у 2 знач.); накруціць хвост *каму*; паддаваць жару *каму* (у 1 знач.); прадзіраць з пясочкам *каго*; спусціць скуру *з каго* (у 2 знач.); усыпаць перцу *каму*. — *Сам сёння «дае прыкурыць»... Грыміць! — сказаў адзін старшыня з нейкім своеасаблівым захапленнем. Лемяшэвіча непрыемна ўразіла гэ-*

*та «сам»*. Шамякін. *На лаўках смешкі, падраготкі: дае сяброўка прыкурыць! Падсып ім перчыку ў ахвотку, хай чухаюцца песняры.* Лужанін. **ДАЦЬ ПРЫКУРЫЦЬ** *каму. Зак.*

**2**. Сурова распраўляцца з кім-н., біць, караць каго-н. (часцей ворага). **Сін**.: даваць гарту *каму* (у 2 знач.); даваць дыхту (у 2 знач.); даваць жару (у 2 знач.); даваць копаці *каму*; даваць перцу *каму* (у 2 знач.); даваць пытлю *каму* (у 2 знач.); даваць у косці *каму* (у 2 знач.); даваць у скуру *каму*; даваць чапаласу *каму* (у 2 знач.); даваць чосу *каму* (у 2 знач.); даць па зубах *каму*; даць па карку *каму*; задаваць фефару *каму*; мыліць шыю *каму* (у 1 знач.); намяць бакі *каму*; прыпісаць іжыцу *каму*; спусціць скуру *з каго* (у 1 знач.); усыпаць гарачых *каму*; чартоў ганяць. *Пасля таго, як з Новасібірска цябе адправілі на ўсход, мяне накіравалі на захад, пад Маскву. Даваў я прыкурыць фрыцам.* Гроднеў. *Нам трэба стварыць дзесяткі дыверсійных груп і даваць ворагу прыкурыць, як дае Ратнікаў.* Шчарбатаў. **ДАЦЬ ПРЫКУРЫЦЬ** *каму. Зак. А я, і праўда, калі застануся — прападу. Заб'юць мяне ці немцы, ці белыя гвардзейцы. Мы ім тут пры Саветах добра далі прыкурыць. Запомняць нас.* Дайнека.

**ДАВА́ЦЬ ПУ́ДЛА (-Ы)**. *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дапускаць памылку, памыляцца. **Сін**.: даваць асечку; даваць маху (у 1 знач.). *Загадалі мне іграць: я і «лявоніху», я і «бычка», я і «юрку».. Але неяк пальцы мае пачалі дубець. Я і пачаў даваць пудлы ў музыцы.* Бядуля. **ДАЦЬ ПУДЛА (-Ы)**. *Зак. У настаўнікаў настрой быў зніжаны. І далі яны такога пудла! Варту знялі тады, калі яна была найболей патрэбна. Дапусціліся да таго, што пратакол папаў у рукі паліцыі.* Колас.

**ДАВА́ЦЬ РА́ДЫ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. *каму, чаму.* Спраўляцца з кім-, чым-н., адольваць каго-, што-н. *Калі пастухі пачыналі дужацца, Станкевічаў парабак даваў рады нават перарosткам.* Карпюк. **ДАЦЬ РАДЫ** *каму, чаму. Зак. Конь у хамуце ніколі не хадзіў. Нокалі, тпрукалі на ўсё поле і не маглі рады даць.* Лобан. *Кажучы па сакрэту, дзед Астап сапраўды толькі-толькі папалуднаваў, даў рады і капусце, і нейкай яшчэ там страве з цыбуляй.* Лынькоў.

**2**. *каму.* Аказваць дапамогу (часцей хвораму). **ДАЦЬ РАДЫ** *каму. Зак. Канстанцін Міхайлавіч вярнуўся з Барвіхі, ходзіць лягчэй, толькі жаліцца, што не далі рады і маскоўскія дактары.* Лужанін. *Толькі не далі яму [каню] рады лекары, хворага пакінулі на чужым двары.* Куляшоў. *Маладзіца слязамі абліваецца, а ў Хведзькі рукі назад завязаны. Што рабіць? Хто рады дасць?* Лобан.

**ДАВА́ЦЬ СЛО́ВА** *каму. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Цвёрда абяцаць што-н., запэўніваць у чым-н. *[Насця:] Тут казалі, што працавала я нядрэнна. Даю слова працаваць яшчэ лепш.* Крапіва. **ДАЦЬ СЛОВА** *каму. Зак. Пра што яны гаварылі, Андрэй ужо не помніў, ведаў толькі, што тады яны далі слова адно аднаму ніколі не разлучацца.* Грахоўскі.

**2**. Дазваляць выступіць на сходзе, мітынгу і пад. **ДАЦЬ СЛОВА** *каму. Зак. Калі Апейку далі слова, ён раптам пачуў, што не ведае, з чаго пачаць.* Мележ. — *Дайце мне слова!* — *гучна сказаў Кандрат і пачаў прабірацца наперад.* Лобан.

**ДАВА́ЦЬ СЯБЕ́ ЗНА́ЦЬ**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Аказваць уздзеянне на каго-н., станавіцца адчувальным для каго-н., выяўляцца на кім-н. **Сін**.: браць сваё (у 2 знач.); давацца ў знакі *каму*; даваць аб сабе знаць (у 2 знач.); уядацца ў косці *каму* (у 1 знач.); уядацца ў пячонкі *каму*. *Чалавек упарта не паддаецца гадам. Лясная ды былая марская загартовачка дае сябе знаць.* Вышынскі. *Вялікае ў яе [Лоры] было жаданне стаць за доктарку, а калі не выйдзе за доктарку, дык за настаўніцу. Праўда, за апошні час гэтае жаданне неяк прытупілася, але ўсё-такі яно яшчэ давала сябе знаць.* Сабаленка. *Праца тэлеграфіста ўсё больш становіцца працай*

*жаночай. Даюць сябе знаць, вядома, і [ваенныя] дні, якія перажывае наша краіна.* Шынклер. **ДАЦЬ СЯБЕ ЗНАЦЬ**. *Зак.*

**ДАВА́ЦЬ У КО́СЦІ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Моцна прабіраць каго-н. **Сін**.: браць пад абстрэл *каго, што*; браць у абарот *каго* (у 2 знач.); браць у пераплёт *каго* (у 2 знач.); браць у работу *каго* (у 2 знач.); браць у шоры *каго* (у 2 знач.); выганяць матыліцу *з каго*; выціскаць пот *з каго* (у 2 знач.); даваць гарту *каму* (у 1 знач.); даваць гонку *каму*; даваць дыхту *каму* (у 1 знач.); даваць жару *каму* (у 1 знач.); даваць перцу *каму* (у 1 знач.); даваць піць *каму*; даваць прыкурыць *каму* (у 1 знач.); даваць пытлю *каму* (у 1 знач.); даваць чапаласу *каму* (у 1 знач.); даваць чосу *каму* (у 1 знач.); задаваць пары *каму*; здымаць стружку *з каго*; мыліць галаву *каму*; мыліць шыю *каму* (у 2 знач.); накруціць хвост *каму*; паддаваць жару *каму* (у 1 знач.); прадзіраць з пясочкам *каго*; спусціць скуру *з каго* (у 2 знач.); усыпаць перцу *каму*. *Я ўпэўнены, што калі сакратар райкома даваў табе ў косці, то не спасылаўся на маё сведчанне супраць цябе.* Машара. **ДАЦЬ У КОСЦІ** *каму. Зак. [Пытляваны:] Не, не буду даказваць. Далі мне ў косці, і хопіць. Сам бачу, што не туды заехаў.* Крапіва.

**2**. Сурова распраўляцца з кім-н., біць, караць каго-н. (часцей ворага). **Сін**.: даваць гарту *каму* (у 2 знач.); даваць дыхту (у 2 знач.); даваць жару (у 2 знач.); даваць копаці *каму,* даваць перцу *каму* (у 2 знач.); даваць прыкурыць *каму* (у 2 знач.); даваць пытлю *каму* (у 2 знач.); даваць у скуру *каму*; даваць чапаласу *каму* (у 2 знач.); даваць чосу *каму* (у 2 знач.); даць па зубах *каму*; даць па карку *каму*; задаваць фефару *каму*; мыліць шыю *каму* (у 1 знач.); намяць бакі *каму*; прапісаць іжыцу *каму*; спусціць скуру *з каго* (у 1 знач.); усыпаць гарачых *каму*. **ДАЦЬ У КОСЦІ** *каму. Зак. Думаў чужаніца Волгу пераплыць, у шалёнай злосці лез на Сталінград, мы ж як далі ў косці, — асадзі назад!* Гілевіч. *[Кропля:] Пад Масквой ім [фашыстам] далі ў косці...* Маўзон.

**ДАВА́ЦЬ У НО́ГІ**. *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Кідацца наўцёкі, імкліва ўцякаць. **Сін**.: аддаваць канцы (у 2 знач.); вастрыць лыжы *куды, адкуль* (у 2 знач.); выносіць ногі <*адкуль, ад каго*>; даваць дзёру; даваць драла; даваць драпака; даваць лататы; даваць махні-драла; даваць маху (у 2 знач.); даваць стракача *ад каго, адкуль, куды*; даваць ходу *адкуль, куды*; даваць цягу; змотваць вудачкі; зрабіць ногі (у 1 знач.); падмазваць пяткі; паказваць пяткі; паказваць спіну (у 2 знач.); рваць кіпці. **ДАЦЬ У НОГІ**. *Зак. Васіль тут жа даў у ногі. Я бачыў, як замільгалі яго ружовыя пяткі.* Адамчык. *Зміцрок сядзеў тут чуткім насцярожаным зайцам, гатовы зноў даць у ногі...* «Полымя». [*Даніловіч*, с. 57: даць у ногі.]

**ДАВА́ЦЬ У НО́С**. *Незак. Часцей у 3-й ас. цяп. ці ў пр. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Востра, рэзка пахнуць, выклікаючы адмоўную рэакцыю. **Сін**.: біць у нос; зрываць нос. *Ядчэ крокаў праз сотню ён [Міхал] увайшоў у паласу ветру якраз з таго месца, над якім увівалася варанне. — Ого, — спыніўся чалавек, — у нос дае!* Чорны. *Дух стаіць цяжкі ў пакоі, дзіва ўсім тут — што такое ў нос дае, ну акурат, як даўней дэнатурат.* Крапіва. **ДАЦЬ У НОС**. *Зак.*

**ДАВА́ЦЬ У СКУ́РУ** *каму. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Сурова распраўляцца з кім-н., біць, караць каго-н. **Сін**.: даваць гарту *каму* (у 2 знач.); даваць дыхту (у 2 знач.); даваць жару (у 2 знач.); даваць копаці *каму*; даваць перцу *каму* (у 2 знач.); даваць прыкурыць *каму* (у 2 знач.); даваць пытлю *каму* (у 2 знач.); даваць у косці *каму* (у 2 знач.); даваць чапаласу *каму* (у 2 знач.); даваць чосу *каму* (у 2 знач.); даць па зубах *каму*; даць па карку *каму*; задаваць фефару *каму*; мыліць шыю *каму* (у 1 знач.); намяць бакі *каму*; па сцяне размазваць *каго*; прапісаць іжыцу *каму*; спусціць скуру *з каго* (у 1 знач.); усыпаць гарачых *каму*; чартоў ганяць. **ДАЦЬ У СКУРУ** *каму.*

*Зак. — Ну ты, купец, сто бочак, сып адгэтуль! — сказаў [Курыдзе]. — А то гаспадар дасць табе ў скуру.* Самуйлёнак.

**ДАВА́ЦЬ У ХАМУ́Т**. *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рашуча не пагаджацца, упарціцца. **Сін.**: біць у хамут; на хвост станавіцца; станавіцца на дыбкі. *На сябе больш глядзі, Валя. Будоўлю адна не перавернеш. А здароўе надарваць не доўга. Не даеш у хамут, дык нагружаюць.* Мыслівец. **ДАЦЬ У ХАМУТ**. *Зак.* **Сін.**: на хвост стаць; стаць на дыбкі; ударыць у хамут. *Чакалі, што Сурміла дасць у хамут, тады Сурмілу можна навешаць чорт ведае якіх сабак. А дулю вы не хацелі?* Блакіт.

**ДАВА́ЦЬ ФО́РУ** *каму. Незак. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Намнога апярэджваць, значна пераўзыходзіць каго-н. у чым-н. **Сін.**: заткнуць за пояс *каго*; настаўляць нос *каму*; падцерці нос *каму. Наступаюць мае вучні мне на пяты, у тым-сім ужо і фору даюць свайму настаўніку.* Гіль. **ДАЦЬ ФОРУ** *каму. Зак. Я ж ведаю, як ты хацеў стаць за штурвал. І факт — даў бы фору многім. Уяўляю цябе на мосціку: у цёмных акулярах, рукі на штурвале...* Радкевіч. *Хто-хто, а ты, Ігнатовіч, костку ад косткі адрозніш. Любому мясніку ў майстэрні фору дасі: прафесіянал, адным словам.* Бондар.

**ДАВА́ЦЬ ХО́Д**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** *каму.* Дапамагаць выявіць свае здольнасці, магчымасці, якасці. *— Крыўдна, айцец Палікарп, — скардзіўся далей Каржакевіч, — што той самы апошні абадранец у вёсцы гатоў цябе зараз дагнаць. Ход ім даюць. Падатку ён не плаціць, самааблажэння не знае, ільготы ўсялякія — яму.* Крапіва. **ДАЦЬ ХОД** *каму. Зак. Трэба даць чалавеку, які ўмее жыць, ход.* Чорны.

**2.** *чаму.* Садзейнічаць ажыццяўленню чаго-н., прасоўваць, рухаць наперад што-н. **Сін.**: зрушыць з месца *што.* **Ант.**: класці пад сукно *што. Дашынаму пісьму прыйдзецца даваць ход, назад яго не адашлеш. Зарэгістравана...* Шамякін. **ДАЦЬ ХОД** *чаму. Зак. Не дадуць ходу маёй задуме тут — знайду раён, знайду гаспадарку, дзе ўпоперак не стане ніхто. Свайго даб'юся!* Дуброўскі.

**ДАВА́ЦЬ ХО́ДУ** *адкуль, куды. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Кідацца наўцёкі, імкліва ўцякаць. **Сін.**: аддаваць канцы (у 2 знач.); вастрыць лыжы *куды, адкуль* (у 2 знач.); выносіць ногі <*адкуль, ад каго*>; даваць дзёру; даваць драла; даваць драпака; даваць лататы; даваць махні-драла; даваць маху (у 2 знач.); даваць стракача *ад каго, адкуль, куды*; даваць у ногі; даваць цягу; змотваць вудачкі; зрабіць ногі (у 1 знач.); падмазваць пяткі; паказваць пяткі; паказаць спіну (у 2 знач.); рваць кіпцi. *Як бы там ні было — трэба хутчэй даваць адгэтуль ходу.* Чорны. **ДАЦЬ ХОДУ** *адкуль, куды. Зак. Намацаў у кішэні запальнічку — калі што якое, дык пушчу пеўня, няхай агнём падымецца гэтае кодла, а сам ходу дам у лес.* Сабаленка. *Дзік, барсук з такой нагоды як далі са світы ходу.* Вітка.

**ДАВА́ЦЬ ЦЯ́ГУ**. *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Кідацца наўцёкі, імкліва ўцякаць. **Сін.**: аддаваць канцы (у 2 знач.); вастрыць лыжы *куды, адкуль* (у 2 знач.); выносіць ногі <*адкуль, ад каго*>; даваць дзёру; даваць драла; даваць драпака; даваць лататы; даваць маху (у 2 знач.); даваць стракача *ад каго, адкуль, куды*; даваць ходу *адкуль, куды*; змотваць вудачкі; падмазваць пяткі; паказваць пяткі; паказваць спіну (у 2 знач.). *Папытай у свайго палюбоўніка, няхай ён табе раскажа. Ды заадно папытай, што ён з табою зробіць, калі давядзецца самому, задраўшы лапсярдак, цягу даваць.* Лобан. **ДАЦЬ ЦЯГУ**. *Зак. — Уцёк?.. — Ага. Кузя званіць на станцыю пайшоў, раіцца з начальнікам ельніцкім. Дык я і даў цягу.* Сачанка. *Бацька адчуў, што зараз пачнецца нешта нядобрае, дастанецца Міцулю, дастанецца і яму, таму..*

*даў цягу.* Семашкевіч. *«Ты, пяюшка, — так ён кажа, — сорам май і ўвагу: шмат не пей, не пей і мала, не дай з клеткі цягу!»* Купала.

**ДАВА́ЦЬ ЧАПАЛА́СУ** *каму. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Моцна сварыцца на каго-н., рэзка прабіраць каго-н. **Сін**.: браць пад абстрэл *каго, што*; браць у абарот *каго* (у 2 знач.); браць у пераплёт *каго* (у 2 знач.); браць у работу *каго* (у 2 знач.); браць у шоры *каго* (у 2 знач.); выганяць матыліцу *з каго*; выціскаць пот *з каго* (у 2 знач.); даваць гарту *каму* (у 1 знач.); даваць гонку *каму* (у 1 знач.); даваць дыхту *каму* (у 1 знач.); даваць жару *каму* (у 1 знач.); даваць перцу *каму* (у 1 знач.); даваць піць *каму*; даваць прыкурыць *каму* (у 1 знач.); даваць пытлю *каму* (у 1 знач.); даваць у косці *каму* (у 1 знач.); даваць чосу *каму* (у 1 знач.); задаваць пары *каму*; здымаць стружку *з каго*; мыліць галаву *каму*; мыліць шыю *каму* (у 2 знач.); накруціць хвост *каму;* паддаваць жару *каму* (у 1 знач.); па сцяне размазваць *каго*; прадзіраць з пясочкам *каго*; спусціць скуру з *каго* (у 2 знач.); усыпаць перцу *каму.* **ДАЦЬ ЧАПАЛАСУ** *каму. Зак. Але дзе крыўда і махлярства — тады дзед меў адно лякарства — не паглядзіць ён, хто там ты: хоць чорт, хоць д'ябал знамяніты, пляваць яму на тваю масць, але ўжо чапаласу дасць.* Колас.

**2**. Сурова распраўляцца з кім-н., біць, караць каго-н. **Сін**.: даваць гарту *каму* (у 2 знач.); даваць дыхту (у 2 знач.); даваць жару (у 2 знач.); даваць копаці *каму*; даваць перцу *каму* (у 2 знач.); даваць прыкурыць *каму* (у 2 знач.); даваць пытлю *каму* (у 2 знач.); даваць у косці *каму* (у 2 знач.); даваць у скуру *каму*; даваць чосу *каму* (у 2 знач.); даць па зубах *каму*; даць па карку *каму*; задаваць фефару *каму*; мыліць шыю *каму* (у 1 знач.); намяць бакі *каму*; прапісаць іжыцу *каму*; спусціць скуру *з каго* (у 1 знач.); усыпаць гарачых *каму*; чартоў ганяць. **ДАЦЬ ЧАПАЛАСУ** *каму. Зак. [Гітлер] змітрэжыў панскую Польшчу, забраў Чэхаславакію, разлаташыў Францыю, Бельгію і даў чапаласу Англіі...* Колас.

**НЕ ДАВА́ЦЬ БЫТУ (ЗБЫТУ)** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. ці абстр. прадмета. Назаляць, дакучаць, парушаючы чый-н. спакой. **Сін**.: дыхаць не даваць *каму* (у 1 знач.); не даваць жыць *каму*; не даваць спакою *каму. Міколу таксама не давалі быту доўгі час, асабліва дзяўчаты.* Крапіва. — *Чаму ты не спіш?.. — Цвыркун, каб ён здох, быту не дае.* Лобан. *А прыгледзьцеся да свірэпы, той самай свірэпы, што быту не дае нашым паляводам: полюць, ірвуць, труцяць, чысцяць — а яна расце.* «Маладосць». *«Ведаю ўсё», — таксама вачыма адказвае яна [Зося]. Што яна ведае? Гэтае пытанне не дае яму быту? Што?* Мурашка. *Тут час такі — збыту матка не дае! Жаніся ды жаніся!.. От я і прыглядаюся!* Мележ. **НЕ ДАЦЬ БЫТУ (ЗБЫТУ)** *каму. Зак. Ох, дзеткі, дзеткі! Не будзе дабра ад твайго старога, не дасць ён збыту ні вам, ні нам.* Грахоўскі.

**НЕ ДАВА́ЦЬ ВЕ́РЫ <СВАІ́М> ВАЧА́М**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі здзіўляцца, убачыўшы што-н. нечаканае. **Сін**.: дзіву давацца; не верыць <сваім> вачам; рабіць вялікія вочы; разводзіць рукамі; разяўляць рот (у 3 знач.). *Вунь і тая паваротка, за якой знікла тады Зося.— Што гэта такое?! Горбач не дае веры сваім вачам. Няўжо гэта яна?!* Мурашка. *Бандыт... некалькі секунд не зварухнуўся, нібы не даваў веры сваім вачам.* Маўр. *Высокі, стройны [белапаляк] узяў з камода Міхалкаў гармонік, адшчапіў кручкі, адняў планку з галасамі і пасвяціў кішэнным ліхтарыкам. Яшчэ не даваў веры вачам — абмацаў мяхі пальцамі.* Баранавых. **НЕ ДАЦЬ ВЕРЫ <СВАІМ> ВАЧАМ**. *Зак.*

**НЕ ДАВА́ЦЬ ВЕ́РЫ <СВАІ́М> ВУША́М**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі здзіўляцца, пачуўшы што-н. нечаканае. **Сін**.: не верыць <сваім> вушам.

*Руфіна спынілася. Паволі павярнулася, нібы не даючы веры сваім вушам, і, пазнаўшы Віктара, які да яе падбег, здзіўлена, ні слова не кажучы, упала яму на грудзі.* Кобец-Філімонава. **НЕ ДАЦЬ ВЕРЫ <СВАІМ> ВУШАМ**. *Зак.*

**НЕ ДАВА́ЦЬ ЖЫ́ЦЬ (ЖЫЦЦЯ́)** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Назаляць, дакучаць каму-н., прыставаць да каго-н. **Сін.**: дыхаць не даваць *каму* (у 1 знач.); не даваць быту *каму*; не даваць спакою *каму. Камары і мошкі не даюць жыць... Цяжка адагнаца там ад камароў нават дымам. Звіняць увесь час над вухам, цягнуць душу з цела.* Гарэцкі. **НЕ ДАЦЬ ЖЫЦЬ (ЖЫЦЦЯ)** *каму. Зак. Ёй што, а мне Пецька Хохлік жыцця не дае. Чаму, кажа, не росціш сваю камсамольскую арганізацыю. У цябе ж база ёсць.* Кузьмянкоў.

**НА ДАВА́ЦЬ КРО́КУ СТУПІ́ЦЬ** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Усяк скоўваць, абмяжоўваць чые-н. дзеянні, дзейнасць. *[Бургамістр:] Я таксама ніколі не чакаў, што мы апынемся ў такім становішчы. Проста кроку не даюць ступіць [партызаны]. У мяне кожны дзень выводзяць са строю паліцэйскіх.* Стаховіч. **НЕ ДАЦЬ КРОКУ СТУПІЦЬ** *каму. Зак.*

**НЕ ДАВА́ЦЬ ПРАХО́ДУ** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даймаць каго-н. назойлівымі просьбамі, пытаннямі, размовамі і пад. *Сёмку, Петрусю, Іцку, дзяўчатам — не даю праходу: а мо той што ведае, а мо гэты чуў, а мо...* Гартны. *Як гэта бацьку зняславіла? Цераз цябе людзі не даюць праходу, цераз цябе сорамна мне на вуліцу выйсці.* Галавач. **НЕ ДАЦЬ ПРАХОДУ** *каму. Зак. — Чулі, як нашы суседзі з «Перамогі» ўзяліся за жывёлу? — гаворыць далей Федзя. — А мы хіба ўломачкі? Адстанем — праходу не дадуць.* Пальчэўскі.

**НЕ ДАВА́ЦЬ СПАКО́Ю** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. ці абстр. прадмета. Трывожыць, непакоіць каго-н. **Сін.**: дыхаць не даваць (у 1 знач.); не даваць быту *каму*; не даваць жыць *каму. Хоць не дае звеннявая спакою сваім жанчынам, але яны любяць яе за справядлівасць, за бясконцую прагавітасць да работы.* Палтаран. *Было душна, парыла зямля, шчодра напоеная ўчарашнім дажджом. Стукаў дзяцел. Не давалі спакою мухі.* Шамякін. *Каля таго часу Несцяровіч пачаў заўважаць, што старая краўцова хата не дае спакою Наўмысніку.* Чорны. *Наша грэчка, напэўна, і цяпер не дае спакою ім.* Пальчэўскі. *Тое, што ўчора сказалі мне бацькі, не давала спакою.* Броўка. **НЕ ДАЦЬ СПАКОЮ** *каму. Зак. Яго апавяданне гучала ў яго вушах, стаяла ў думках, і Віця быў упэўнены, што яму яно не дасць спакою аж датуль, пакуль ён не перадасць яго бацьку.* Чарнышэвіч. *[Надзя:] А ну іх, жанацікаў гэтых... Ім і там дзеці спакою не дадуць...* Кудравец.

**НЕ ДАВА́ЦЬ СПУ́СКУ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не патураць, не пакідаць без пакарання якія-н. дзеянні, учынкі і пад. *Ганька не дае спуску Кату: ні задач, ні пісьмовых работ па мове спісваць не дазваляе. Сам рашай!* Васілевіч. **НЕ ДАЦЬ СПУСКУ** *каму. Зак. Нічога, шкоды вялікай не будзе. Затое парадак будзе, дысцыпліна!.. Знаць кожны будзе як след, што спуску нікому не дадзім!* Мележ. *Кузьміч рэдка лаяўся, але калі ўжо хто яго раззлуе.., то ад Кузьміча ўцякай — спуску не дасць нікому, ні свату, ні брату, ні роднаму тату.* Кухараў.

**НЕ ДАВА́ЦЬ У КРЫ́ЎДУ** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Заступацца за каго-н., абараняць каго-н. *[Пытляваны:] Дзякую, дружына, што не даяце ў крыўду мяне і наш калгас.* Крапіва. **НЕ ДАЦЬ У КРЫЎДУ** *каго. Зак. І яшчэ ў словах, паводзінах Абабуркі было спадзяванне, што тыя, каму ад яго перападалі цукеркі, кветкі і парсюкі, нарэшце, у крыўду не дадуць.* Шыцік.

*ДАВЕР'Е* • **УВАХОДЗІЦЬ У ДАВЕР'Е** *да каго, каму, к каму.* Гл. уваходзіць.

*ДАВІЦЬ* • **ДАВІ́ЦЬ ВУ́ХА**. *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Спаць. **Сін.**: даваць храпака; задаваць храпавіцкага; хварэць на пана (у 1 знач.). *Трохі пасяджу і пайду ва ўзводы. А ты, Васюкоў, давай даві вуха. Прывыкай.* Быкаў. *Ну, тады давай даві вуха. А я паназіраю, як там мост.* «Полымя».

**САЧКА́ ДАВІ́ЦЬ**. *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гультаяваць, бяздзейнічаць. **Сін.**: абіваць бакі (у 2 знач.); акалочваць грушы <з вербаў>; адлежваць бакі (у 2 знач.); біць байды; біць бібікі; біць лынды (у 1 знач.); біць тылылы; брынды біць; валяць дурня (у 2 знач.); вераб'ям дулі паказваць; ганяць сабак <*па чым*>; корчыць гультая; лічыць варон (у 2 знач.); ляжаць на баку; пляваць у столь; сабакам сена касіць (у 1 знач.). *Дзядзька Кастусь адразу сказаў мне: — Будзеш старацца — брыгада паважаць будзе. А калі думаеш сачка давіць, дык лепей ідзі, цяпер жа ідзі і прасіся на другі паравоз.* Шальманаў.

*ДАВЯДЗІ* • **НЕ ДАВЯДЗІ БОГ**. Гл. бог.

*ДАГАРЫ* • **ДАГАРЫ́ НАГА́МІ**. *Акал. Разм.* **1**. У перавернутым, перакручаным становішчы (быць, аказацца, стаяць і пад.). *Увадзе адлюстроўваліся ліпы, дамы, рыштаванні. Але дагары нагамі!* Грамовіч. *[Стараста] браў сваю пячатку.., прыкладаў да паперы, папляваўшы на тое месца, дзе павінна быць пячаць. І «Яміцкі сельскі стараста» не раз стаяў дагары нагамі.* Колас.

**2**. Уніз галавой, кулём (падаць, ляцець і пад.). *Скончылася гэтая справа тым, што галіна абламалася, хлопец паляцеў у ваду дагары нагамі.* Маўр. *Як у нашым у сяле стараста паганы. Мы яго павесім хутка дагары нагамі.* Панчанка.

**3**. Не так, як трэба; інакш, чым было; у поўным беспарадку (ісці, станавіцца і пад.). Пра дзеянні, учынкі, ход спраў і пад. **Сін.**: дагары дном; сікась-накась; шыварат-навыварат. *Адбылася другая рэвалюцыя, і прадпрыемства пайшло дагары нагамі, а ўсе ўдзельнікі яго пашыліся ў свае норы, як рудыя мышы.* Чорны. *Досыць мне на паўдня адлучыцца з калгаса, як усё дагары нагамі становіцца.* Сабаленка.

**ДАГАРЫ́ (УВЕ́РХ) ДНО́М** <u>ісці, пайсці</u> і інш. *Акал. Разм.* Не так, як трэба; у поўным беспарадку. Пра дзеянні, ход спраў і пад. **Сін.**: дагары нагамі (у 3 знач.); сікась-накась; шыварат-навыварат. *[Пферц-Дабравольскі:] Сарвалі вайсковы заказ з завода. Дэманстрацыя і ў сувязі з гэтым — непарадкі ў горадзе, цэлыя два дні ўсё дагары дном.* Самуйлёнак. *[Марыля:] Як вярнуўся малады паніч недзе з далёкага краю, з навук, дык усё пайшло ўверх дном — усіх чыншавікоў сталі чысціць.* Купала.

**ПЕРАВАРОЧВАЦЦА ДАГАРЫ НАГАМІ**. Гл. пераварочвацца.

**ПЕРАВАРОЧВАЦЬ ДАГАРЫ ДНОМ** *што*. Гл. пераварочваць.

**ПЕРАВАРОЧВАЦЬ ДАГАРЫ НАГАМІ** *што*. Гл. пераварочваць.

**СТАВІЦЦА ДАГАРЫ НАГАМІ**. Гл. ставіцца.

*ДАДАТАК* • **У ДАДА́ТАК** *да чаго. Акал. Разм.* Апрача гэтага, звыш гэтага. **Сін.**: у прыдачу. *Калі гэта была толькі халодная развага, то ў дадатак да яе было яшчэ штосьці і іншае.* Чорны. *Так і хацелася кінуцца на гэтага адкормленага фашыста, які здзекуецца з яго і ў дадатак да ўсяго яшчэ гаворыць на рускай мове.* Шамякін.

*ДАЖДЖУ* • **ЯК ГРЫБЫ <ПАСЛЯ ДАЖДЖУ>**. Гл. грыбы.

*ДАЙ* • **БЕ́З ДА́Й РА́ДЫ**. *Абл. Акал. Разм.* Беспадстаўна, без усякіх прычын. **Сін.**: без нічога ніякага (у 3 знач.); без усякага-якага; за будзь здароў (у 1 знач.); за пусты мех <а ў мяху смех>; за так (у 2 знач.); з ласкі на пацеху; не знай не ведай; ні з таго ні з сяго; ні з чаго ні з якага; ні села ні пала; так сабе (у 1 знач.). *Ці гэта ўсе так [як бацька] на старасць знялюбліваюць людзей, ці хто яго ведае. Без дай рады — ні з таго ні з сяго — усё*

*адно як той, што абы за якую лучынку, дык знойдзе прычынку. Так і гэта. Ой, пакінь ты, бацька, не гавары лепш!* Мурашка.

**ДАЙ БОГ**. Гл. бог.

**ДАЙ БОГ** *каму*. Гл. бог.

**ДАЙ БОГ КОЖНАМУ**. Гл. бог.

**ДАЙ БОГ НОГІ**. Гл. бог.

**ДАЙ БОГ ПАМЯЦЬ**. Гл. бог.

**ДАЙ БОГ ЧУТАЕ БАЧЫЦЬ**. Гл. бог.

**ДА́Й <ТЫ́> ВЕ́РЫ**. *Выкл. Разм.* Выказванне нязгоды з чым-н. або нявер'я чаму-н. пачутаму ці ўбачанаму. — *Колькі табе паны заплацілі за нашу кроў, за здраду, стары сабака?! — Яму паны абяцалі многа зямлі даць! — Дай веры! Баяўся іх! — чалавек, які поўзаў на каленях, стараўся ўстаць на ногі.* Каваль. *Маслякоў тады тут процьма была, ды ўсе маладзенькія, чысценькія. А то ж во як выцягнуліся! Дай ты веры, як час бяжыць.* Гіль.

**ДА́Й <ТЫ́> РА́ДЫ; ДА́ЙЦЕ <ВЫ́> РА́ДЫ**. *Выкл. Разм.* Выказванне незадавальнення, абурэння, здзіўлення кім-, чым-н. *[Жыгліцкая:] Ты дома, не на рабоце сёння?.. [Шыдлоўская:] Дай ты рады, пакуль жа свайго п'янага спаць укладала, дык і на работу спазнілася.* Козел. — *Квас у цябе добры... — Быў, ды няма... — Дзе ж ён дзеўся? — Дай рады. Выцек, усе сенцы заліў.* Чорны. — *Вы не маракуйце, што нарабіў вам клопату. — Дайце рады — падумаеш, клопат!* Гартны.

**ДА́Й ТЫ́ СВЕ́Т** <*каму*>. *Выкл. Разм.* Адкасніся ад каго-н., перастань дакучаць. Выказванне незадавальнення, абурэння кім-н. — *Хоць бы ты пайшоў палавіў рыбы вудою. — Дай ты свет! — махнуў рукою Янка.* Колас. *[Міла] абышла асцярожна Падласку, зайшла ў траву і павісла ў бабулі на шыі. — А дай ты мне свет! — баронніца тая.* Брыль.

**НЕ ДАЙ БОГ**. Гл. бог.

**НЕ ДА́Й І НЕ ПРЫВЯДЗІ́**. *Толькі ў заг. л. Выкл. Разм. Неадабр.* Выказванне ацэнкі, характарыстыкі каго-, чаго-н. звычайна з боку сілы, ступені і пад. **Сін.**: не давядзі бог (у 2 знач.); не дай бог (у 2 знач.). *Вось вы пабіліся, засмэркаліся, і толькі. А ў нас бывала — не дай і не прывядзі..* Брыль. *Макараўна, чуеш? Ну і кліент трапіўся, не дай і не прывядзі!* Карпюк.

*ДАЙСЦІ* • **ДАЙСЦІ ДА ВУШЭЙ** *чыіх, каго. Зак. да* **ДАХОДЗІЦЬ ДА ВУШЭЙ** *чыіх, каго.*

**ДАЙСЦІ ДА ЛАДУ**. *Зак. да* **ДАХОДЗІЦЬ ДА ЛАДУ**.

**ДАЙСЦІ ДА ПАМЯЦІ**. *Зак. да* **ДАХОДЗІЦЬ ДА ПАМЯЦІ**.

**ДАЙСЦІ ДА РОЗУМУ**. *Зак. да* **ДАХОДЗІЦЬ ДА РОЗУМУ**.

*ДАЙШЛІ* • **РУКІ НЕ ДАЙШЛІ** *да чаго, да каго.* Гл. рукі.

*ДАКОРУ* • **РЫЦАР БЕЗ СТРАХУ І ДАКОРУ**. Гл. рыцар.

*ДАЛЕЙ* • **ДАЛЕ́Й АД ГРАХУ́ (АД ЛІ́ХА)**. *Убезас. ужыв. Разм.* Не быць сведкам ці ўдзельнікам чаго-н. непрыемнага. *І каб далей ад граху, Васька ідзе да цяпла і пячэ моўчкі ў прысаку яйкі, цярпліва перасыпае іх гарачым вуголлем.* Лынькоў. *Каб далей ад граху, Праскута палезла ў пасуднік, бразнула на загнет патэльню.* Аношкін. *Добра, што, калі ў бальніцу перабраліся немцы, хворыя перасталі хадзіць. І тыя, што ляжалі, і хто здолеў падняцца, стараюцца хутчэй выпісацца. «Далей ад ліха», — як кажа адна жанчына.* Шамякін. *[Лявон:] Можаш ты гэта зрабіць? Каб далей ад ліха.* Макаёнак.

**ДАЛЕ́Й-БО́ЛЕЙ**. *У знач. безас. ск. Разм.* Прайшоў некаторы час (і...). Ужыв. для паказу на нарастанне інтэнсіўнасці чаго-н. *Ён быў не толькі добрым цесляю... Далей-болей, і Васіль Талока зрабіўся найбольш вядомым з петрыкаўскіх майстроў і падрадчыкаў.* Нёманскі. *Здараецца, бачыце, што першыя гады не бывае дзяцей, потым і знойдуцца. Але далей-болей, пачалі [Яначка з Марыськай] непакоіцца ды адно на аднаго віну складаць; не ведалі, праз каго гэта ў іх так выходзіць.* Крапіва. *Добра сябе адчуваю, нічога не баліць. Неяк паспрабаваў устаць, на нагах утрымаўся, нават не пахіснуўся. Далей-болей, і ў калідор пачаў зазіраць.* Мяжэвіч.

**ДАЛЕЙ ЕХАЦЬ НЯМА КУДЫ**. Гл. ехаць.

**ДАЛЕЙ НЕКУДЫ**. Гл. некуды.

**І ГЭТАК ДАЛЕЙ**. Гл. гэтак.

**НЕ БАЧЫЦЬ ДАЛЕЙ <СВАЙГО> НОСА**. Гл. бачыць.

*ДАЛЁКА* • **ГЛЯДЗЕЦЬ < ДАЛЁКА > НАПЕРАД**. Гл. глядзець.

**ДАЛЁКА ЗАХОДЗІЦЬ**. Гл. заходзіць.

**ДАЛЁКА НЕ ЗАЕДЗЕШ** *на чым, з чым, без чаго.* Гл. заедзеш.

**ДАЛЁКА ПАЙСЦІ**. Гл. пайсці.

**ДАЛЁКА ХАДЗІЦЬ НЕ ТРЭБА** *за чым.* Гл. трэба.

*ДАЛЁКІ* • **ДАЛЁКІ ПРЫЦЭЛ**. Гл. прыцэл.

*ДАЛОНІ* • **ЯК НА ДАЛО́НІ**. *Разм.* **1**. *Акал.* Вельмі выразна, ясна (відаць, бачыць, выкладаць і пад.). **Сін**.: як на талерцы. *Горад з грудка на марской касе як на далоні відаць.* Навуменка. *З вышыні я як на далоні бачыў яр з усімі яго адгалінаваннямі, «абеліскамі» і «пірамідамі».* Караткевіч. *Вось гара. Прыціхлі коні, колы рэжуцца ў пясок, а з гары як на далоні разам выплыў гарадок...* Колас. *Тут я ім і выклаў як на далоні ўсе свае крыўды.* Каваль.

**2**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Вельмі выразна даступны зроку. *Грушэўскі адвярнуў яго [каня], узяўшы за морду, і зачыніў вароты. Увесь хутар Палявое быў перад ім як на далоні.* Мурашка. *Унізе раскінуўся горад — увесь як на далоні.* Шамякін. *З вокнаў кабінета ўпраўляючага трэстам Майдановіча Мікалая Фёдаравіча галоўны ўчастак будоўлі як на далоні.* Прокша.

**3**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Гранічна адкрыты, выразны, даступны для разумення. *[Гарлахвацкі:] Гэта дакумент! Проста пальцам паказваюць на ворагаў, двурушнікаў, усялякіх прахвостаў. Нам астаецца толькі руку працягнуць і за каўнер схапіць. Тут ён увесь як на далоні!..* Крапіва. *Усяго дзесятак радкоў, а ўжо відзён характар, значан нораў і ўвесь вояка — як на далоні.* Лужанін. *Напэўна, праўду я ў цябе знайду... Жыццё маё перад табой як на далоні.* Валасевіч. *Ляжу і думаю пра саўгас. Увесь яго пасляваенны перыяд у мяне як на далоні.* Макарэвіч.

*ДАЛОЎ* • **З ВАЧЭ́Й (З ВО́Ч) ДАЛО́Ў**. *Акал. Разм.* **1**. Далей ад каго-н., каб не быць бачным (хавацца, уцякаць і пад.). **Сін**.: з вачэй *чыіх, каго* (у 1 знач.). *Ядвіся.. звычайна маўчыць, ці насупіцца, перабіраючы пальцамі рог хусцінкі, ці агрызаецца, як і пабяжыць, каб з вачэй далоў, падалей ад крыўдзіцеля.* Лынькоў. *[Вера:] Паедзе яна, і добра. З вачэй далоў — сэрцу лягчэй.* Маўзон.

**2**. Прэч, вон адсюль (праганяць, выбірацца і пад.). **Сін**.: да д'ябла (у 1 знач.); да чорта (у 1 знач.); з вачэй *чыіх, каго* (у 2 знач.); к чортавай матары (у 1 знач.); к чорту (у 1 знач.); на сухі лес. *Вайда Толя на могілкі не пайшоў: прагналі бабы «з воч далоў».* Пташнікаў.

**З КАПЫЛО́Ў <ДАЛО́Ў>**. *Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Паваліцца, упасці. **Сін.**: заараць носам *што, у што*; зарыць носам *у што*; з капытоў <далоў>; з катушак далоў; рыць носам *што. А я адзін, нікога паблізу. Праўда, аўтамат пры мне. Злажыўся я ды як даў добрую чаргу, ну і ўсе з капылоў. Во, брат!* Лынькоў.
**2**. Памерці. **Сін.**: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць на той свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць (ісці) у лепшы свет; адыходзіць у іншы свет; ажаніцца з <сырою> зямлёй; выпростваць ногі; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць <*каму*> (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; канькі адкідаць; лажыцца ў магілу; на паповы сані *збіраццa*; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. *Эх, сэрца, сэрца!.. Сэрца, яно — матор. Сапсуецца — з капылоў далоў. Не беражэцеся вы, маладыя.* Быкаў.

**З КАПЫТО́Ў <ДАЛО́Ў>**. *Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паваліцца, упасці. **Сін.**: заараць носам *што, у што*; зарыць носам *у што*; з капылоў <далоў> (у 1 знач.); з катушак далоў; рыць носам *што. Дык я, раззлаваўшыся, наводмаш яму як смальну, то ён і з капытоў далоў.* Гурскі. *Маладзіцы як брусніцы... Але калі аплявуху залепіць — адразу з капытоў...* Леванові́ч. *[Цярэшка:] У мяне па дзве дранкулькі ў кожным патроне. Як урэжу, так і з капытоў далоў.* Грахоўскі.

**З КАТУ́ШАК ДАЛО́Ў**. *Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паваліцца, упасці ад удару. **Сін.**: заараць носам *што, у што*; зарыць носам *у што*; з капылоў <далоў> (у 1 знач.); з капытоў <далоў>; рыць носам *што. [Дзімка:] Бі адразу па мордзе! Так, каб з катушак далоў!* Матукоўскі.

**З ПЛЕ́Ч (З ПЛЯЧЭ́Й) ДАЛО́Ў**. *Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Што-н. перастае абцяжарваць каго-н. *Ім [арганізацыям] аддай заробленае, заплаці — і ўсё, як кажуць, з плеч, далоў. А будзе які толк, вынік дапамогі — іх не цікавіць.* Сачанка. *Успомні даўнюю навуку, якую чуў ты ад дзядоў: не выпускай жывой гадзюку, і сто грахоў — з плячэй далоў.* Лужанін.
**2**. *У безас. ужыв.* Не трэба больш думаць, непакоіцца, абцяжарваць сябе чым-н. Пра вызваленне ад якіх-н. абавязкаў, клопатаў. *Меліяратарам — што? Хлеб убіраць? Яны здалі — і з плеч далоў. А вы прынялі...* Шамякін. *— Пра што ты?.. — Ну, каб не думаць, не дратаваць сябе... Што загадана зрабіць — зрабіў. І, як кажуць, з плеч далоў...* Сачанка.

*ДАМАВІНУ* • **ЗВОДЗІЦЬ У ДАМАВІНУ** *каго*. Гл. зводзіць.
**ЛАЖЫЦЦА Ў ДАМАВІНУ**. Гл. лажыцца.
**ХОЦЬ У ДАМАВІНУ КЛАДЗІ** *каго*. Гл. кладзі.

*ДАМКАХ* • **РАЗ-ДВА І Ў ДАМКАХ**. Гл. раз.

*ДАМОКЛАЎ* • **ДАМОКЛАЎ МЕЧ**. Гл. меч.

*ДАНАЙСКІЯ* • **ДАНАЙСКІЯ ДАРУНКІ**. Гл. дарункі.

*ДАНАЙЦАЎ* • **ДАРУНКІ ДАНАЙЦАЎ**. Гл. дарункі.

*ДАНІНУ* • **АДДАВАЦЬ ДАНІНУ** *чаму*. Гл. аддаваць.

*ДАПАМОГІ* • **ПАДАВАЦЬ РУКУ <ДАПАМОГІ>** *каму*. Гл. падаваць.

*ДАПРОСІШСЯ* • **СНЕ́ГУ ЛЕ́ТАШНЯГА НЕ ДАПРО́СІШСЯ** *у каго. Убезас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. страшэнна скупы. **Сін**.: зімой снегу не выпрасіш *у каго. Кажуць, вайна людзей перарабіла. А Сідараў і на вайне застаўся скупярдзяем. У яго снегу леташняга не дапросішся.* Чыгрынаў. *«У цябе вып'еш, — падумаў пра Галоснага Пятро. — Снегу леташняга не дапросішся».* Навуменка.

*ДАР* • *<u>Блытаць, змешваць</u>* **БО́ЖЫ ДА́Р З ЯЕ́ШНЯЙ**. *Дап. Разм. Іран.* (Блытаць) розныя, несумяшчальныя рэчы. **Сін**.: боб з гарохам. *Ды грэшна блытаць дабро са злом, як кажуць, божы дар з яешняй.* Вярцінскі. *[Карпук:] Твой Лёшка таксама не тут. [Зязюля:] Не блытай божы дар з яешняй. Лёшка ў акадэміі, потым будзе ў калгасе.* Дзялендзік. — *Перажыткі.. — Ну так, — сказаў Шчука. — Змяшаў божы дар з яешняй. Перажыткі капіталізму ва ўсім, што яму не па душы, бачыць. А ён гэтага капіталізму і не нюхаў.* Караткевіч.

**ДА́Р СЛО́ВА (МО́ВЫ)**. *Мн. не ўжыв. Дзейн. ці дап. Функц. не зам.* **1**. Здольнасць гаварыць. *Пятрусь памалу крыху асвойваўся, і да яго вярнуўся дар слова.* Нёманскі. — *Браточкі! Навошта ў зялёнай дуброве? У нас начуйце! — бегучы за машынай, закрычаў старшыня, у якога зноў з'явіўся дар мовы.* Лазуркін.

**2**. Здольнасць гаварыць свабодна, выразна, прыгожа. **Сін**.: валоданне словам. *Галоўны сакрэт уздзеяння яго [Юркі Пружанскага] лістовак не ў дары слова, а ў пазіцыі і ў маральным аўтарытэце падполля, да якога ён належаў.* Калеснік.

*ДАРАГАЯ* • **ДАРАГАЯ ПАЛАВІНА**. Гл. палавіна.

*ДАРАГОЙ* • **ДАРАГОЙ ЦАНОЙ**. Гл. цаной.

**З ДАРАГОЙ ДУШОЙ**. Гл. душой.

*ДАРМА* • **ДАРМА ЕСЦІ ХЛЕБ**. Гл. есці.

**ДА́РМА ШТО́**. *У знач. уступальнага злучніка. Разм.* Хоць і; нягледзячы на тое, што. *Вось Верачку [Антаніна] павядзе ў музычную школу — дарма што там пачаліся заняткі, настаўнік спеваў абяцаў папрасіць, каб дзяўчынку ўзялі па класе скрыпкі.* Радкевіч. — *Вось кажуць: сватоў Пятровіч хоча заслаць — Ніну вашу нагледзеў... — Хацець-то ён хоча, Варвара, ды Ніна мая ў яго бок не пазірае, дарма што той пры пасадзе.* Бондар.

*ДАРОГА* • **ДАРО́ГА АДКРЫ́ТА** *каму, перад кім*; **<УСЕ́> ДАРО́ГІ АДКРЫ́ТЫ** *каму, перад кім. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Хто-н. мае свабодны доступ куды-н., для каго-н. створаны спрыяльныя ўмовы. **Сін**.: дзверы адчынены *каму, для каго, перад кім.* **Ант**.: дзверы зачынены *каму, перад кім. Што было — прайшло! Цяпер твой Ягор пойдзе ў людзі, пойдзе. Дарога яму адкрыта...* Броўка. *Пойдзеш вучаніцай. А там — майстрам станеш... Ну, а там і далей можна пайсці. Адтуль табе ўсе дарогі адкрыты.* Мележ. *Чалавек радзіўся, і перад ім адкрыты ўсе дарогі.* Чорны.

**ДАРО́ГА АДРЭ́ЗАНА (ЗАКРЫ́ТА)** *каму да каго, куды*; **<УСЕ́> ДАРО́ГІ АДРЭ́ЗАНЫ (ЗАКРЫ́ТЫ)** *каму да каго, куды. Убезас. ужыв. Функц. не зам.* Хто-н. пазбаўлены магчымасці вярнуцца да ранейшага. **Сін**.: масты спалены *<чаго, куды>. Мінулага не вернеш. Цяпер ужо ўсе дарогі да цябе адрэзаны, усе масты спалены. А як шкада!* Дайліда. *[Яўхім] толькі цяпер пачынаў па-сапраўднаму ўсведамляць сваё становішча. Усведамляць, што здарылася непапраўнае і што дарогі ўсе адрэзаны.* Мележ. *Калі ты «з'ехаў», як кажуць, у вучобе, то табе закрыта на трэніроўкі дарога, не гаворачы ўжо аб спаборніцтвах.* «Звязда».

**ДАРО́ГА РАСЧЫШЧА́ЕЦЦА (РАСЧЫ́ШЧАНА)** *каму, чаму. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Пераадоленнем перашкод ствараюцца спрыяльныя ўмовы для здзяйснення ча-

го-н. *Расчышчаецца дарога ўсяму смеламу і сумленнаму, цяжэй робіцца жыць рамеснікам ад мастацтва.* «ЛіМ». *Толькі дзякуючы двум салідным вучоным — адзін працаваў у Маскве, другі жыў у Кіеве — яго дысертацыі была расчышчана дарога да абароны.* Лецка. *О, як жа трэба ім нямнога — пасіўнасць наша, недагляд... Глядзіш, і ўжо пралаза рад: яму расчышчана дарога...* Бачыла.

**ТУДЫ́ І ДАРО́ГА** *каму. У безас. ужыв. Разм.* Няма чаго шкадаваць каго-н., таго ён і заслугоўвае. — *Што вы робіце, вы ж забіць можаце чалавека...* — *Туды яму і дарога.* Каваль. — *А дзе муж?* — *Памёр...* — *сказала і нахмурылася.* — *Туды яму і дарога.* — *Што так?* — *Дрэнны быў.* Пестрак. — *Чалавек от памірае.* — *Туды і дарога бандыту.* Быкаў.

*ДАРОГАЙ* • **ІСЦІ ДАРОГАЙ** *каго, чыёй.* Гл. ісці.

**ІСЦІ СВАЁЙ ДАРОГАЙ**. Гл. ісці.

*ДАРОГІ* • **АРАЦЬ ДАРОГІ**. Гл. араць.

**ДАРО́ГІ РАЗЫШЛІ́СЯ** *чые, каго, у каго. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Блізкія сувязі, адносіны спыніліся паміж кім-н. *У маладыя гады [Пятро] сябраваў з Мікалаем. Так здарылася, што пазней іхнія дарогі разышліся.* Навуменка. *Мы былі ўжо ў партызанах. А Броньку схавалі, завезлі ў Азарыцкі лагер смерці.. Так разышліся нашы дарогі на доўгія гады.* Жычка. *Надзі давялося сустрэць яго [Сямёна] некалькі разоў і пасля школы, але потым дарогі іх разышліся.* Лынькоў. *Сардэчнаю дружбай з табою сышліся, ды рана дарогі ў нас разышліся.* Русак.

**ЗБІВАЦЦА З ДАРОГІ**. Гл. збівацца.

**ЗБІВАЦЬ З ДАРОГІ** *каго.* Гл. збіваць.

**ЗВАРОЧВАЦЬ З ДАРОГІ**. Гл. зварочваць.

*Бандыт, разбойнік* **З ВЯЛІ́КАЙ ДАРО́ГІ**. *Азн. Функц. не зам.* Самы заўзяты, з крайнім праяўленнем кепскіх якасцей. **Сін.**: вышэйшай маркі; першай гільдыі (у 2 знач.); першай рукі (у 2 знач.). *Выходзіць, мы разбойнікі з вялікай дарогі, рабаваць вас хочам, праўда?* Іпатава. *Людзі, якія зрабілі злачынствы ў ЗША, — для арабаў не злачынцы, не бандыты з вялікай дарогі, а нацыянальныя змагары...* Якавенка. *Ты, гаспадыня, не зіркай спадылба... Мы не бандыты з вялікай дарогі. Так што варушыся, паказвай, чым багата.* Маракоў.

**З ДАРО́ГІ**. *Акал. Разм.* Адразу ж пасля паездкі, падарожжа. — *Сядайце ж, людзейкі-нябогі, ды падсілкуйцеся з дарогі,* — *да госцяў кажа гаспадыня, сама Фядосіха Аксіня.* Колас. — *Калі не ўтаміліся з дарогі, пройдзем паглядзім,* — *прапанаваў Цімафей Ягоравіч.* Крапіва. *Пагаворым, братка, потым пра гэта. Людзі, братка, з дарогі. Галодныя...* Мележ.

**ПРЫБІРАЦЬ З ДАРОГІ** *каго.* Гл. прыбіраць.

**САСТУПАЦЬ З ДАРОГІ**. Гл. саступаць.

**СТАНАВІЦЦА ПАПЯРОК ДАРОГІ** *каму, чыёй.* Гл. станавіцца.

**СТАЯЦЬ ПАПЯРОК ДАРОГІ** *каму, каго.* Гл. стаяць.

**СЫХОДЗІЦЬ З ДАРОГІ**. Гл. сыходзіць.

**<УСЕ> ДАРОГІ АДКРЫТЫ** *каму, перад кім.* Гл. дарога.

**<УСЕ> ДАРОГІ АДРЭЗАНЫ** *каму да каго, куды.* Гл. дарога.

*ДАРОГУ* • **АДКРЫВАЦЬ ДАРОГУ** *каму куды.* Гл. адкрываць.

**ВОЎК ДАРОГУ ПЕРАБЕГ** *каму.* Гл. воўк.

**ВЫБІВАЦЦА НА <СВАЮ> ДАРОГУ**. Гл. выбівацца.

**ВЫВОДЗІЦЬ НА ДАРОГУ** *каго.* Гл. выводзіць.

**ВЫХОДЗІЦЬ НА ДАРОГУ** <якую>. Гл. выходзіць.

**ЗАБЫВАЦЬ ДАРОГУ** *да каго, куды.* Гл. забываць.
**ЗАСТУПАЦЬ ДАРОГУ** *каму.* Гл. заступаць.
**НА ДАРО́ГУ.** *Акал. Разм.* **1.** Перад падарожжам, паездкай. *Усіх цягнула ў госці к цётцы: так узмацуе на дарогу — было што есці, дзякуй Богу!* Колас. *Антон Касабуцкі чухаецца: — Нешта смажыць мяне вельмі. Пахмяліцца б на дарогу.* Каваль.
**2.** Для выкарыстання ў падарожжы, паездцы. *Трапілася мне з ім бачыцца. На дарогу не прасіў ён у мяне хлеба, а прасіў даць яму, калі маю, «Жалейку» Янкі Купалы.* Гарэцкі. *Бацька даў яму [Івану] сваю бялізну, ватоўку. Маці — на дарогу — печанай бульбы, кавалак сала.* Навуменка.
**ПАКАЗВАЦЬ ДАРОГУ** *каму.* Гл. паказваць.
**ПЕРАБЯГАЦЬ ДАРОГУ** *каму.* Гл. перабягаць.
**ПРАБІВАЦЬ САБЕ ДАРОГУ.** Гл. прабіваць.
**ПРАКЛАДАЦЬ ДАРОГУ** *каму, чаму, куды.* Гл. пракладаць.
**ПРАКЛАДАЦЬ САБЕ ДАРОГУ.** Гл. пракладаць.
**РАСЧЫШЧАЦЬ ДАРОГУ** *каму, чаму.* Гл. расчышчаць.
**СЛУП ДАРОГУ ПЕРАБЕГ** *каму.* Гл. слуп.
**У АПО́ШНЮЮ ДАРО́ГУ (У АПО́ШНІ ШЛЯ́Х).** *Акал. Функц. не зам.* На цырымонію пахавання нябожчыка. *Толькі што сканала Сакольчыха. Трэба ісці прыбіраць яе ў апошнюю дарогу.* Вышынскі. *Народ расступіўся — і... [труна] паволі паплыла з двара школы на вуліцу, у апошні шлях.* Шамякін.
**УСЮ́ ДАРО́ГУ.** *Акал. Праст. Ужыв. пры дзеясл. незак. тр.* Пастаянна, заўсёды, у любы час. **Сін.**: на кожным кроку; што ні крок. *Уладзік Падольскі не з палахлівых хлопцаў. Ён проста заўсёды наступае з аглядкай. І ўсю дарогу — не так, як Мікола Міцюк: цапу-лапу, бух!..* Грамовіч. *— А ты чаго засумаваў?.. — Не звяртайце увагі, — сказаў Анікееў. — Ён усю дарогу такі. Маўчун!* Алешка. *— Ты не верыш Еве Піліпаўне. — Да Каладчыка ўсю дарогу верыў. Кожнае слова за чыстую валюту прымаў.* Кандрусевіч.

*ДАРОЖКУ* • **СТАНАВІЦЦА НА СЛІЗКУЮ ДАРОЖКУ.** Гл. станавіцца.

*ДАРОЖЦЫ* • **ІСЦІ ПА КРЫВОЙ ДАРОЖЦЫ.** Гл. ісці.
**ПАЙСЦІ ПА КРЫВОЙ СЦЕЖЦЫ.** Гл. пайсці.
**СУСТРАКАЦЦА НА ВУЗКАЙ ДАРОЖЦЫ** *з кім.* Гл. сустракацца.

*ДАРОЗЕ* • **НА ДАРОЗЕ НЕ ВАЛЯЕЦЦА.** Гл. валяецца.
**ПА ДАРО́ЗЕ.** *Акал. Функц. не зам.* **1.** Мімаходам (зайсці, заглянуць, заехаць і пад.). — *Зайдзі, зайдзі, — гаварыла ўсё яна. — Ты ў кузню спяшаешся? Дык табе ж па дарозе.* Чорны.
**2.** *каму з кім.* У адным і тым жа напрамку (ісці, ехаць і пад.). *— Дык мне ж будзе не па дарозе.. — Чаму? — Мне на Сердабольскую.* Гартны. *[Юстын:] Пачакайце мяне, Ян Серафімавіч, мне з вамі па дарозе.* Валасевіч.
**3.** *каму з кім.* Заадно, разам, супольна. Пра адзінства поглядаў, перакананняў, імкненняў і пад. *І — прабачце — вы ўсё ж паны, і нам па дарозе толькі зараз...* Караткевіч. *Не таварышы табе гэтыя мазутчыкі! Не па дарозе табе з імі!* Міська. *Лабановіч, які вельмі ўзрадаваўся, калі яго запрасілі ў газету, адразу адчуў, што яму з Лістоўскімі не па дарозе.* Шкраба.
**СТАНАВІЦЦА НА ДАРОЗЕ** *чыёй, каму, чаму.* Гл. станавіцца.
**СТАЯЦЬ НА ДАРОЗЕ** *чыёй, у каго.* Гл. стаяць.
**ЯК ГАРОХ ПРЫ ДАРОЗЕ.** Гл. гарох.

*ДАРОС* • **НОС НЕ ДАРОС** *у каго, чый.* Гл. нос.

*ДАРУНКІ* • **ДАНА́ЙСКІЯ ДАРУ́НКІ (ДАРЫ́).** *Часцей у мн. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Каварная паслуга з мэтай прычыніць зло. **Сін.**: дарункі данайцаў. *Арганізацыя была загадзя запраграмавана, спланавана за мяжой і ў якасці данайскіх дарункаў падкінута палякам.* «Полымя». *[Мікіта:] Добрыя людзі адчынілі склад з ёю [патакай] на Нізкім рынку і — бяры хто хочаш і колькі хочаш. Можаце і вы набраць... [Янка:] Дзякую за такія дары данайскія!* Купала.

**ДАРУ́НКІ ДАНА́ЙЦАЎ.** *Часцей у мн. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Каварная паслуга з мэтай прычыніць зло. **Сін.**: данайскія дарункі. *Пасажыры б'юць трывогу: іх збуцвелы каўчэг хіліцца набок і яшчэ, чаго добрага, перакуліцца ад перагрузкі. Не таварамі для народа, не багаццямі для працоўных. Дарункамі данайцаў — зброяй!* «Звязда».

*ДАРЫ* • **ДАНАЙСКІЯ ДАРЫ.** Гл. дарункі.

*ДАРЭМНА* • **ДАРЭМНА ЕСЦІ ХЛЕБ.** Гл. есці.

*ДАСТАВАЦЬ* • **ДАСТАВА́ЦЬ ГІЗУ́НТЫ** *з каго. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна здзекавацца з каго-н., мучыць пагрозамі, прыставаннем і пад. **Сін.**: вымаць душу *з каго, каму* (у 1 знач.); высмоктваць сок *з каго, з чаго (у* 2 знач.); вытрасці душу *з каго, каму* (у 1 знач.); дыхаць не даваць *каму* (у 2 знач.); есці поедам *каго*; піць кроў *з каго, чыю* (у 2 знач.). *А што калі раз'юшаны немец не спыніцца на Драніцы з Брава-Жыватоўскім ды пачне перабіраць плёткай астатніх, дастаючы з кожнага гізунты?* Чыгрынаў. **ДАСТАЦЬ ГІЗУНТЫ** *з каго. Зак.*

**ДАСТАВАЦЬ ДУШУ** *з каго, каму.* Гл. вымаць.

*ДАСТАНЕШ* • **ЗІМОЙ СНЕГУ НЕ ДАСТАНЕШ** *у каго.* Гл. выпрасіш.

*ДАСТАТКУ* • **ЯК З РОГА ДАСТАТКУ.** Гл. рога.

*ДАСТАЎСЯ* • **БОГ СЕМЯРЫМ НЁС ДЫ АДНАМУ ДАСТАЎСЯ.** Гл. бог.

**НА ДВАІХ РОС, АДНАМУ ДАСТАЎСЯ.** Гл. рос.

*ДАСТАЦЬ* • **АД ЗЯМЛІ АДАРВАЦЦА І НЕБА НЕ ДАСТАЦЬ.** Гл. адарвацца.

**ДАСТАЦЬ ГІЗУНТЫ** *з каго. Зак. да* **ДАСТАВАЦЬ ГІЗУНТЫ** *з каго.*

**ДАСТАЦЬ ДУШУ** *з каго, каму. Зак. да* **ДАСТАВАЦЬ ДУШУ** *з каго, каму.*

**КРУ́КАМ (КІ́ЕМ, АРШЫ́НАМ, СА́ЖНЕМ) НО́СА НЕ ДАСТА́ЦЬ** *у каго, каму. Часцей ужыв. у 2-й ас. адз. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. вельмі фанабэрыцца, зазнаецца; да каго-н. не падступішся. **Сін.**: без фігі ні да носа; фігай носа не дастаць *у каго, каму*; шастом галавы не дастаць *у каго, каму. [Нічыпар:] Усе так і выдыгаюць перад ім: «Таварыш Гарлахвацкі! Таварыш Гарлахвацкі». А ў таго Гарлахвацкага крукам носа не дастанеш.* Крапіва. *Заўтра пра Геньку будзе надрукавана ў газеце, і тады яму крукам носа не дастанеш!..* Паслядовіч. *На старасць яшчэ народнай артысткай станеш. Тады ўжо і мяне зганьбуеш, і Дуброву... Крукам носа не дастанеш!* Міська. *З'явяцца дзе-небудзь у газеце слабенькія радкі, а да аўтара не падступіцца, кіем носа не дастанеш.* Лужанін. *У старшыні аршынам носа не дастанеш з-за тых свінарнікаў ды кароўнікаў.* Паўлаў. *Калі ж пястунствам выкармім яго [малога] — глядзі, і сажнем не дастанеш носа.* Ляпёшкін.

**ФІ́ГАЙ (КУ́КІШАМ) НО́СА НЕ ДАСТА́ЦЬ** *у каго, каму. Часцей ужыв. у 2-й ас. адз. У безас. ужыв. Праст. Неадабр.* Хто-н. вельмі ганарыцца, фанабэрыцца, зазнаецца; да каго-н. не падступішся. **Сін.**: без фігі ні да носа; крукам носа не дастаць *у каго, каму*; шастом галавы не дастаць *у каго, каму. Вось крамнік, мне знаёмы, час прыйшоў свой ка-*

*ратаць, — што ўжо рызыкі ў Шлёмы — фігай носа не дастаць.* Крапіва. *[Ролік:] Як быццам мы горшыя. Ідуць — фігай носа не дастанеш.* Караткевіч. *Пяць летаў ён [Шабуня] напёкся, пагарбеў над градкамі — затое «Запарожца» купіў. Зараз яму фігай носа не дастанеш.* Калодзежны. *Далёка, чэрці, пайшлі! Амаль генералы, толькі цывільныя... Кукішам носа не дастанеш...* Пянкрат.

**ШАСТО́М (КРУ́КАМ) ГАЛАВЫ́ НЕ ДАСТА́ЦЬ** *у каго, каму. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. вельмі ганарыцца, фанабэрыцца, зазнаецца; да каго-н. не падступішся. **Сін.**: без фігі ні да носа; крукам носа не дастаць *у каго, каму*; фігай носа не дастаць *у каго, каму. Я, брат, ведаю іх лепш, чым ты. Ходзяць — галавы шастом не дастаць, а на самай справе — тое самае, што і ўсе.* Машара. — *Вось каб ускінуў [плуг] Міколу на воз, дык ён бы і падвёз, — пажартаваў Галаскок. — Дзе там цяпер плуг наўме! Таму крукам галавы не дастаць, — адказаў за Баранка Сцяпан.* Крапіва.

*ДАСЦЬ* • **БОГ ДАСЦЬ**. Гл. бог.

**ЖАБА ЦЫЦКІ ДАСЦЬ** *каму.* Гл. жаба.

**ЯК БОГ ДАСЦЬ**. Гл. бог.

*ДАЎ* • **БОГ ДАЎ**. Гл. бог.

**ЧОРТ ДАЎ** *каму.* Гл. чорт.

**ЯК (НІБЫ́) ТРЫ́ ГРО́ШЫ ДА́Ў (ДАЛА́)**. *Часцей акал. Разм. Неадабр.* Злосна, з непрыязнасцю (паглядзець, павіншаваць і пад.). *[Ганна Якаўлеўна:] Не любіць ён цябе. [Гудовіч:] Ведаю. Учора павіншаваў як тры грошы даў.* Крапіва. *Хацела [на нарах] заняць месца Марыся, дык Агапа кінула толькі адзін позірк. Нібы тры грошы дала.* Баранавых.

*ДАЎБНЁЙ* • **ДАЎБНЁЙ НЕ ПРЫБ'ЕШ** *каго.* Гл. прыб'еш.

*ДАЎГІ* • **ДАЎГІ РУБЕЛЬ**. Гл. рубель.

**ДАЎГІ ЯЗЫК**. Гл. язык.

*ДАЎГІМ* • **ЗА ДАЎГІМ РУБЛЁМ**. Гл. рублём.

*ДАЎГУ* • **НЕ ЗАСТАВАЦЦА Ў ДАЎГУ**. Гл. заставацца.

**У ДАЎГУ́** *ў каго, перад кім, перад чым. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Павінен адплаціць каму-, чаму-н. чым-н. добрым. *Хоць не модна гэта зараз, — я ў нашчадкаў не ў даўгу: у мяне дзяцей пад старасць — і злічыць іх не магу.* Кляўко. *Трэба мне хлеба, без якога пражыць не магу, хлеба жытняе праўды, — перад ёй мы заўсёды ў даўгу.* Макаль.

*ДАЎНО* • **ДАЎНО́ Б ТА́К**. *Выкл. Разм.* Урэшце-такі. Выказванне адабрэння дзеяння, якое чакалася і нарэшце здзейснена кім-н. *[Дзюрвіль:] Выклікаць мне зараз жа гэтых камітэтчыкаў. [Фларымон:] На перагаворы? Даўно б так.* Макаёнак. — *І я з вамі пайду. — Даўно б так, — пахваліў яго [Арцёма] Лінька.* Жалязоўскі.

*ДАХ* • **ДА́Х ПАЕ́ХАЎ (СТРАХА́ ПАЕ́ХАЛА; Е́ДЗЕ)** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* **1**. Хто-н. прыдуркаваты, ненармальны, псіхічнахворы. **Сін.**: дурны поп хрысціў *каго*; зрух па фазе *ў каго*; клёпкі не хапае <у галаве> *у каго*; мазгі адсохлі *ў каго* (у 2 знач.); мазгі набакір *у каго*; мазгі не на месцы *ў каго*; мякіна ў галаве *ў каго*; не ўсе дома *ў каго*; салома ў галаве *ў каго, чыёй*; шарыкі за ролікі заходзяць *у каго.* **Ант.**: галава варыць *у каго*; <ёсць> <свая> галава на плячах *у каго*; галава не на вошы *ў каго*; кацялок варыць *у каго*; мазгі вараць *у каго*; не галава, а дом саветаў *у каго*; светлая галава *ў каго. У яго «паехаў дах», як цяпер гавораць пра псіхічнахворых.* Рубанаў. *Глядзі, Зміцер, каб часам*

*не паехаў дах.* Міхно. *Вам смешна? Што магло здарыцца, пытаеце вы? У вас што, сястра ў войску служыць ці страха паехала? Пытаюцца яшчэ, іш ты? Нічога не магло б здарыцца? Вы што?!* Кудласевіч.

2. *Іран.* Хто-н. робіць ці гаворыць глупства, не разумеючы безразважнасці сваіх учынкаў. *Як пачынае ехаць дах, а з дахам заадно й падлога, няцяжка стаць, згубіўшы страх, кумірам у сябе самога.* Барадулін. *О, ведалі б вы, як пакутуе ваш калега!.. Дах у яго ўжо едзе.* Асташонак. [*Даніловіч*, с. 176: страха паехала.]

**ДА́Х (СТРАХА́) НАД ГАЛАВО́Й**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Дом ці кватэра, пакой. *Важна, што ў мяне ёсць дах над галавой. А ў людзей і таго няма.* Дамашэвіч. *[Насця:] Што можа быць горш, калі ў дзіцяці няма страхі над галавой.* Чорны. *Адзіны цеснаваты пакойчык, але ўсё ж свой куток, у якім можна дачакацца лепшай страхі над галавой.* Цяжкі.

*ДАХАМ* • **ПАД АДНЫ́М ДА́ХАМ (ПАД АДНО́Й СТРАХО́Й)** *жыць (пражыць). Акал. Разм.* У адным доме, у адной кватэры, разам. *У 1949 годзе мне пашчасціла амаль два тыдні жыць з Паўлам Рыгоравічам у Маскве пад адным дахам.* Лынькоў. *Скажыце вось, як вы лічыце: ці можна выходзіць замуж без глыбокага пачуцця? Ці можна жыць пад адным дахам без кахання?* А.Марціновіч. *Пад адною страхою з імі жыве настаўнік Ячны.* Крапіва. *Пасля, калі яны жылі, як кажуць, пад адной страхой, Зазыба таксама пазбягаў размоў.* Чыгрынаў.

*ДАХОДЗІЦЬ* • **ДАХО́ДЗІЦЬ ДА ВУШЭ́Й** *чыіх, каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Станавіцца вядомым каму-н. **Сін.**: не мінула вушэй *каго, чыіх. «Нарвецца дзяўчына», — казалі пра яе [Аўгіню] сталыя жанчыны і маладзіцы, калі гутаркі пра яе дурасці даходзілі да іх вушэй.* Колас. **ДАЙСЦІ ДА ВУШЭЙ** *чыіх, каго. Зак. Добра было б, каб гэтыя скаргі дайшлі да вушэй тых, ад каго залежыць аднаўленне руху на ветцы.* Крапіва. *Сэрца ў Гарбача падае глыбока: гэта.. плётка дайшла да яе [Зосіных] вушэй.* Мурашка.

**ДАХО́ДЗІЦЬ ДА ЛА́ДУ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Разбірацца ў чым-н., дабівацца толку. **Сін.**: даходзіць да памяці (у 2 знач.). **ДАЙСЦІ ДА ЛАДУ**. *Зак. — Сталяр такі-сякі, — адказаў Мікола. — Валочыцца тут хутка год. А хто, адкуль — так і не дойдзеш да ладу...* Брыль. *Прачнуўся і доўга не магу дайсці да ладу. Ляжу зусім блізка ля шашы, між свежых сажняў дроў. Як сюды забраўся, не магу ўспомніць.* Карпюк. *Даўно я да вас прыглядаюся: чалавек вы не кепскі, і людзі таксама вас хваляць, што дзяцей не б'яце, як другія, немцам вельмі не ладзіце. А вось чаму вы тут — ніяк да ладу не дайду.* Дамашэвіч.

**2**. *з кім.* Дамаўляцца. **ДАЙСЦІ ДА ЛАДУ** *з кім. Зак. За сталом у канцылярыі сядзеў стары ляснічы. Гэта быў няўступчывы чалавек, з якім было цяжка дайсці да ладу.* Колас. *Спярша [Сцёпка] падышоў да знаёмага гарадавога, але з ім аніяк не мог дайсці да ладу: буркне нешта пад нос ды адвернецца.* Ядвігін Ш.

**ДАХО́ДЗІЦЬ ДА ПА́МЯЦІ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Апрытомніваць. **Сін.**: прыходзіць у сябе (у 1 знач.). **ДАЙСЦІ ДА ПАМЯЦІ**. *Зак. Калі ён [Кастусь] дайшоў да памяці, то перш за ўсё падумаў, што прайшло ўсяго некалькі хвілін ад таго, як трапіў у гэтую хату і лёг на гэтую пасцель.* Чорны.

**2**. Разбірацца ў чым-н., дабівацца толку, асэнсоўваць. **Сін.**: даходзіць да ладу (у 1 знач.). **ДАЙСЦІ ДА ПАМЯЦІ**. *Зак. Прачнуўся Васіль і доўга не мог дайсці да памяці. Сон гэта ці недарэчнае трызненне?* Гіль.

**ДАХО́ДЗІЦЬ ДА РО́ЗУМУ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дадумвацца да чаго-н., разумець. **Сін.**: прыходзіць да розуму. **ДАЙСЦІ ДА РОЗУМУ**. *Зак. Выходзіць, Каця абараняла мяне, імя маё аберагала?! Верыла мне — хоць што?.. І дасюль верыць... І спадзяецца — дайду да розуму...* Міська. *Да зямлі прыціснулася і ляжала. А ўсіх маіх родных як аднаго... А за што — ніяк не дайду да розуму. Так і сіратую жыццё.* Васілеўская.

*ДАХОДЗЯЦЬ* • **РУКІ НЕ ДАХОДЗЯЦЬ** *да чаго, да каго.* Гл. рукі.

*ДАЦЦА* • **ДАЦЦА Ў ЗНАКІ** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЦА Ў ЗНАКІ** *каму.*
**ДАЦЦА Ў РУКІ** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЦА Ў РУКІ** *каму.*
**ДЗІВУ ДАЦЦА**. *Зак. да* **ДЗІВУ ДАВАЦЦА**.

*ДАЦЬ* • **ДАЦЬ АБ САБЕ ЗНАЦЬ**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ АБ САБЕ ЗНАЦЬ**.
**ДАЦЬ АДБОЙ**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ АДБОЙ**.
**ДАЦЬ АДЛУП** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ АДЛУП** *каму.*
**ДАЦЬ АДСТАЎКУ** *чаму. Зак. да* **ДАВАЦЬ АДСТАЎКУ** *чаму.*
**ДАЦЬ АСЕЧКУ** *<у чым>. Зак. да* **ДАВАЦЬ АСЕЧКУ** *<у чым>.*
**ДАЦЬ БОЙ** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ БОЙ** *каму.*
**ДАЦЬ ВОЛЮ**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ ВОЛЮ**.
**ДАЦЬ ВОЛЮ РУКАМ**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ ВОЛЮ РУКАМ**.
**ДАЦЬ ВОЛЮ <СВАЙМУ> СЭРЦУ**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ ВОЛЮ <СВАЙМУ> СЭРЦУ**.
**ДАЦЬ ВОЛЮ ЯЗЫКУ**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ ВОЛЮ ЯЗЫКУ**.
**ДАЦЬ ГАЗУ** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ ГАЗУ** *каму.*
**ДАЦЬ ГАЛАВУ НА АДРЭЗ** *<каму>. Зак. да* **ДАВАЦЬ ГАЛАВУ НА АДРЭЗ** *<каму>.*
**ДАЦЬ ГАРБУЗ** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ ГАРБУЗ** *каму.*
**ДАЦЬ ГАРТУ** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ ГАРТУ** *каму.*
**ДАЦЬ ГОНКУ** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ ГОНКУ** *каму.*
**ДАЦЬ ДЗЁРУ**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ ДЗЁРУ**.
**ДАЦЬ ДРАЗДА**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ ДРАЗДА**.
**ДАЦЬ ДРАЛА**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ ДРАЛА**.
**ДАЦЬ ДРАПАКА**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ ДРАПАКА**.
**ДАЦЬ ДУБА**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ ДУБА**.
**ДАЦЬ ДЫХТУ**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ ДЫХТУ**.
**ДАЦЬ ЖАРУ**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ ЖАРУ**.
**ДАЦЬ ЗАДНІ ХОД**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ ЗАДНІ ХОД**.
**ДАЦЬ ЗДАЧЫ** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ ЗДАЧЫ** *каму.*
**ДАЦЬ ЗНАЦЬ** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ ЗНАЦЬ** *каму.*
**ДАЦЬ <КАЛЕНКАМ> ПАД ЗАД** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ <КАЛЕНКАМ> ПАД ЗАД** *каму.*
**ДАЦЬ КОЗЫР У РУКІ** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ КОЗЫР У РУКІ** *каму.*
**ДАЦЬ КОПАЦІ** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ КОПАЦІ** *каму.*
**ДАЦЬ ЛАТАТЫ**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ ЛАТАТЫ**.
**ДАЦЬ ЛЕЙЦЫ Ў РУКІ** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ ЛЕЙЦЫ Ў РУКІ** *каму.*
**ДА́ЦЬ ЛЯШЧА́** *каму. Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна ўдарыць, выцяць каго-н. **Сін.**: партрэт папраўляць *каму*; прыкладваць руку (у 1 знач.). *[Слімак]*

*намогся з усіх сваіх астатніх сіл і даў такога ляшча супрацоўніку, што той аж падаўся назад, выпусціўшы з рук надарваную палавіну Слімаковага ватніка.* Лынькоў. *А калі дзяўчына за пэўную правіннасць, як кажуць у нашай мясцовасці, дасць ляшча? Што, і яе персанальную справу будзем слухаць на сходзе?* Б.Стральцоў.

**ДАЦЬ МАХНІ-ДРАЛА**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ МАХНІ-ДРАЛА**.

**ДАЦЬ МАХУ**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ МАХУ**.

**ДАЦЬ НОС (-А)** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ НОС (-А)** *каму.*

**ДАЦЬ ПАДНОЖКУ** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ ПАДНОЖКУ** *каму.*

**ДА́ЦЬ ПА ЗУБА́Х** *каму. Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна правучыць, пакараць, нанесці паражэнне каму-н. **Сін.**: даваць гарту *каму* (у 2 знач.); даваць дыхту (у 2 знач.); даваць жару (у 2 знач.); даваць копаці *каму*; даваць перцу *каму* (у 2 знач.); даваць прыкурыць *каму* (у 2 знач.); даваць пытлю *каму* (у 2 знач.); даваць у косці *каму (у* 2 знач.); даваць у скуру *каму*; даваць чапаласу *каму* (у 2 знач.); даваць чосу *каму* (у 2 знач.); даць па карку *каму*; задаваць фефару *каму*; мыліць шыю *каму* (у 1 знач.); намяць бакі *каму*; па сцяне размазваць *каго*; прапісаць іжыцу *каму*; спусціць скуру *з каго* (у 1 знач.); усыпаць гарачых *каму*; чартоў ганяць. *[Рунец:] Справы ў нас ідуць угору, таварыш Нёманскі. Народ заварушыўся. [Цётка:] Асабліва пасля таго, як пад Масквой фашыстам далі па зубах.* Крапіва. *Краіне трэба было выстаяць ва ўпорнай барацьбе, ёй трэба было набрацца сілы, каб даць па зубах, калі хто памкнецца на яе напасці.* Сабаленка.

**ДА́ЦЬ ПА КА́РКУ** *каму. Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна правучыць, пакараць каго-н. **Сін.**: даваць гарту *каму* (у 2 знач.); даваць дыхту (у 2 знач.); даваць жару (у 2 знач.); даваць копаці *каму*; даваць перцу *каму* (у 2 знач.); даваць прыкурыць *каму* (у 2 знач.); даваць пытлю *каму* (у 2 знач.); даваць у косці *каму* (у 2 знач.); даваць у скуру *каму*; даваць чапаласу *каму* (у 2 знач.); даваць чосу *каму* (у 2 знач.); даць па зубах *каму*; задаваць фефару *каму*; мыліць шыю *каму* (у 1 знач.); намяць бакі *каму*; па сцяне размазваць *каго*; прапісаць іжыцу *каму*; спусціць скуру *з каго* (у 1 знач.); усыпаць гарачых *каму*; чартоў ганяць. *Было гэта ўжо ў сорак трэцім, улетку, калі немцам далі па карку пад Арлом і Курскам і фронт набліжаўся да Гомельшчыны.* Шамякін. — *Колькі ж ён [Мікалай Мікалаевіч] тут будзе яшчэ ездзіць?.. — Пакуль не дадзім па карку і не спорам з панскага седала.* Грахоўскі.

**ДАЦЬ ПА РУКАХ** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ ПА РУКАХ** *каму.*

**ДАЦЬ ПА ШАПЦЫ** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ ПА ШАПЦЫ** *каму.*

**ДАЦЬ ПА ШЫІ** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ ПА ШЫІ** *каму.*

**ДАЦЬ ПЕРУНОЎ** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ ПЕРУНОЎ** *каму.*

**ДАЦЬ ПЕРЦУ** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ ПЕРЦУ** *каму.*

**ДАЦЬ ПІЦЬ** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ ПІЦЬ** *каму.*

**ДАЦЬ ПРЫКУРЫЦЬ** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ ПРЫКУРЫЦЬ** *каму.*

**ДАЦЬ ПУДЛА**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ ПУДЛА** *каму.*

**ДАЦЬ ПЫТЛЮ** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ ПЫТЛЮ** *каму.*

**ДАЦЬ РАДЫ**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ РАДЫ**.

**ДАЦЬ СЛОВА** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ СЛОВА** *каму.*

**ДАЦЬ СТРАКАЧА** *ад каго, адкуль, куды. Зак. да* **ДАВАЦЬ СТРАКАЧА** *ад каго, адкуль, куды.*

**ДАЦЬ СЯБЕ ЗНАЦЬ**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ СЯБЕ ЗНАЦЬ**.

**ДАЦЬ ТОН** <*каму, чаму, у чым*>. *Зак. да* **ДАВАЦЬ ТОН** <*каму, чаму, у чым*>.

**ДА́ЦЬ ТРЭ́ШЧЫНУ (РАСКО́ЛІНУ).** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Пачаць разладжвацца, парушацца. Пра дружбу, каханне, жыццё і пад. *Адвярнулася ад мяне прысуха мая! З сягонняшняга дня любоў мая дала трэшчыну!* Мележ. *Жонка.. чакала мужа. У апошні час, яна адчувала гэта добра, у іх адносінах нешта змянілася. Жыццё, як кажуць, дало трэшчыну.* Зуб. *І ўсё ж праз нішто дала дружба расколіну.* Лужанін.

**ДАЦЬ У КОСЦІ** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ У КОСЦІ** *каму.*

**ДАЦЬ У НОГІ**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ У НОГІ**.

**ДАЦЬ У НОС**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ У НОС**.

**ДАЦЬ У СКУРУ** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ У СКУРУ** *каму.*

**ДАЦЬ У ХАМУТ**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ У ХАМУТ**.

**ДАЦЬ ФОРУ** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ ФОРУ** *каму.*

**ДАЦЬ ХОД**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ ХОД**.

**ДАЦЬ ХОДУ** *адкуль, куды. Зак. да* **ДАВАЦЬ ХОДУ** *адкуль, куды.*

**ДАЦЬ ХРАПАКА**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ ХРАПАКА**.

**ДАЦЬ ЦЯГУ**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ ЦЯГУ**.

**ДАЦЬ ЧАПАЛАСУ** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ ЧАПАЛАСУ** *каму.*

**ДАЦЬ ЧОСУ** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ ЧОСУ** *каму.*

**ДЫХНУЦЬ НЕ ДАЦЬ** *каму. Зак. да* **ДЫХНУЦЬ НЕ ДАВАЦЬ** *каму.*

**НЕ ДАЦЬ БЫТУ** *каму. Зак. да* **НЕ ДАВАЦЬ БЫТУ** *каму.*

**НЕ ДАЦЬ ВЕРЫ <СВАІМ> ВАЧАМ**. *Зак. да* **НЕ ДАВАЦЬ ВЕРЫ <СВАІМ> ВАЧАМ**.

**НЕ ДАЦЬ ВЕРЫ <СВАІМ> ВУШАМ**. *Зак. да* **НЕ ДАВАЦЬ ВЕРЫ <СВАІМ> ВУШАМ**.

**НЕ ДАЦЬ ЖЫЦЬ** *каму. Зак. да* **НЕ ДАВАЦЬ ЖЫЦЬ** *каму.*

**НЕ ДАЦЬ КРОКУ СТУПІЦЬ** *каму. Зак. да* **НЕ ДАВАЦЬ КРОКУ СТУПІЦЬ** *каму.*

**НЕ ДАЦЬ ПРАХОДУ** *каму. Зак. да* **НЕ ДАВАЦЬ ПРАХОДУ** *каму.*

**НЕ ДАЦЬ СПАКОЮ** *каму. Зак. да* **НЕ ДАВАЦЬ СПАКОЮ** *каму.*

**НЕ ДАЦЬ СПУСКУ** *каму. Зак. да* **НЕ ДАВАЦЬ СПУСКУ** *каму.*

**НЕ ДАЦЬ У КРЫЎДУ** *каго. Зак. да* **НЕ ДАВАЦЬ У КРЫЎДУ** *каго.*

**НІ ДА́ЦЬ НІ ЎЗЯ́ЦЬ**. *Разм.* **1.** *Азн. Ужыв. перад. наз.* Абсалютна такі, як хто-, што-н. **Сін.**: з галавы да ног (у 2 знач.); да мозгу касцей (у 3 знач.); чыстай вады; што ні <на> ёсць (у 1 знач.); як ёсць (у 2 знач.); як мае быць (у 2 знач.). *Абчапляецца [Ліна] торбамі, накладзе ў іх акрайцаў і скарынак, кіёк возьме і шкандыбае дзе па дарозе, дзе па раллі — ні даць ні ўзяць убогае жабрачаня.* Грахоўскі. *Нават пры слабым святле перонных ліхтароў было відаць, як пачырванелі палкоўніцкія вушы. — Ні даць ні ўзяць петушыныя грабяні.* Хацкевіч.

**2.** *Акал.* Зусім дакладна. **Сін.**: ні ўбавіць ні прыбавіць; як у аптэцы (у 1 знач.). *[Галасы:] Ха-ха! Ні даць ні ўзяць — гадоў дваццаць пяць! Маладуха! Хоць замуж аддавай!* Кобец.

**ЯК ПІ́ЦЬ ДА́ЦЬ**. *Акал. Разм. Ужыв. пры дзеясл.-вык. зак. тр.* Абавязкова, бясспрэчна. **Сін.**: за мілую душу (у 2 знач.); як бог свят (у 1 знач.); як двойчы два (у 1 знач.). — *Паглядзі во, — пачаў першым Сёмка, калі яны ачуліся на вуліцы, — як піць даць Зося апыніцца ў Берагаў.* Гартны. *За хутар ён, як клешч за цела, трымаецца. Кінуць яго на хутары, цераз год, два як піць даць акулачыцца.* Галавач. — *Трэба неяк адыходзіць. На лугавіну выпаўзці. А там — і ў лес! — Але ж як! — Праз лугавіну. — На ёй жа мы як на далоньцы! Бы на талерачцы. Зрэжуць як піць даць.* Савіцкі.

*ДАЧКА* • **МА́МЧЫНА (МА́МІНА) ДАЧКА́ (ДАЧУ́ШКА).** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм. Іран.* Распешчаная, збалаваная дзяўчынка, дзяўчына. **Ант.**: мамчын сынок. *Гэтага мала, каб стаць кіназоркай. Проста ты грэбуеш сялянскай працай... Мамчына дачка. Пястуха...* Леванові́ч. *Пабольшаўшы, яна [Уля] стала асцерагацца бацькоўскай любві, — барані божа, празавуць «мамчынай дачушкай»!* Паўлаў. *Што ад яе хацець, яна яшчэ маміна дачка!* Карпюк. *Куды ёй, мамінай дачушцы, з белымі выпеставанымі рукамі, ды ў брудную халодную зямлю?* Прыгодзіч.

*ДАЧУШКА* • **МАМЧЫНА ДАЧУШКА**. Гл. дачка.

*ДАЮЦЬ* • **Б'ЮЦЬ І ПЛАКАЦЬ НЕ ДАЮЦЬ**. Гл. б'юць.
**ЛАЎРЫ СПАЦЬ НЕ ДАЮЦЬ** *каго, чые каму.* Гл. лаўры.

*ДВА* • **ГАЛАВА <І> ДВА ВУХІ**. Гл. галава.
**ДВА БАКІ АДНАГО МЕДАЛЯ**. Гл. бакі.
**ДВА БОТЫ ПАРА**. Гл. боты.
**ДВА КАНЦЫ АДНОЙ ПАЛКІ**. Гл. канцы.
**ДВА СЛОВЫ**. Гл. словы.
**ЗА ДВА КРОКІ** *ад каго, ад чаго.* Гл. крокі.
**НА ДВА КАНЦЫ**. Гл. канцы.
**НА ДВА СЛОВЫ**. Гл. словы.
**НА ДВА ФРАНТЫ**. Гл. франты.
**НА ЎСЕ ТРЫЦЦАЦЬ ДВА <ЗУБЫ>**. Гл. зубы.
**НІ ДВА́ НІ ПАЎТАРА́**. *Вык. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Такі, які нічым не вызначаецца; пасрэдны чалавек. **Сін.**: з сярэдзінкі на палавінку (у 1 знач.); не бог ведае які; ні богу свечка ні чорту качарга; ні рыба ні мяса; ні сыры ні печаны; ні тое ні сёе (у 1 знач.); ні ў салдаты ні ў матросы; пасаліўшы можна есці; сюды-туды (у 3 знач.); сярэдзінка на палавінку; сярэдняй рукі; так сабе (у 3 знач.); чорт не чорт і два не выходзіць. *Хай бесхацінцам быў нябога, ва ўсім — ні два ні паўтара, кананізуюць у святога — за незалежнасць змагара.* Лужанін.
**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Штосьці няпэўнае. *Ну і кухар! Куды столькі бульбы нагаціў? Трэба б было дзве-тры парэзаць. А ён... Атрымаецца ні два ні паўтара, ні суп, ні капуста.* Калодзежны.
**РАЗ-ДВА І ГАТОВА**. Гл. раз.
**РАЗ-ДВА І Ў ДАМКАХ**. Гл. раз.
**РАЗ-ДВА І ЎСЁ**. Гл. раз.
**У ДВА КАНЦЫ**. Гл. канцы.
**ЦІ ГРЭХ ЦІ ДВА**. Гл. грэх.
**ЧОРТА З ДВА**. Гл. чорта.
**ЧОРТ НЕ ЧОРТ І ДВА НЕ ВЫХОДЗІЦЬ**. Гл. чорт.
**ЯК ДВОЙЧЫ ДВА**. Гл. двойчы.

*ДВАІХ* • **НА ДВАІХ РОС, АДНАМУ ДАСТАЎСЯ**. Гл. рос.
**НА СВАІ́Х ДВАІ́Х** *дабірацца, адпраўляцца, ісці* і пад. *Акал. Разм. Жарт.* Пехатой, пешшу. **Сін.**: сваім ходам. *Хіба цяпер так ездзяць, як даўней? Лёг сабе ў вагоне, пан панам — цёпла, добра, і мухі не ядуць. А мы на сваіх дваіх дабіраліся.* Грахоўскі. *Волечка, скажы: «Мы без дзядзі абыдземся... Мы на сваіх дваіх прывыклі тэпаць».* Місько. *Кажуць, лінёў там, язёў — процьма. Мяшкамі бяры. А я, брат, на сваіх дваіх ніяк не дабяруся да азёр.* М.Капыловіч.

*ДВАРА* • **НІ КАЛА НІ ДВАРА** *ў каго.* Гл. кала.

*ДВАРЭ* • **НА ДВАРЭ́.** *Акал. Разм.* Па-за жыллём, не ў памяшканні, на адкрытым паветры; у прыродзе. *Тамаш апрануў наапашкі браварку і запытаў: — Што на дварэ сёння? — Галалёд.* Чорны. *Зіма. Толькі што нападаў снег. На дварэ — бела, аж вочы коле.* Сачанка. *У зямлянцы быў холад, як на дварэ, яе тут не абагравалі некалькі дзён.* Дамашэвіч.

*ДВАЦЦАЦЬ* • **КРУГОМ СТО ДВАЦЦАЦЬ.** Гл. кругом.
**НЕ ВОЗЬМЕШ ЗА РУБ ДВАЦЦАЦЬ** *каго.* Гл. возьмеш.
**РУБ ДВАЦЦАЦЬ.** Гл. руб.

*ДВОЙЧЫ* • **ЯК ДВО́ЙЧЫ ДВА́.** *Акал. Разм.* **1.** Бясспрэчна, абавязкова, без усякага сумнення. Ужыв. для пацвярджэння чаго-н., запэўнення ў чым-н. **Сін.**: за мілую душу (у 2 знач.); як бог свят (у 1 знач.); як піць даць. *Ведаеце, я чамусьці ўпэўнены, што ён абавязкова будзе ў Мінску. Калі толькі жывы... А калі будзе ў горадзе, то я змагу яго знайсці! Гэта — як двойчы два.* Мележ. — *Пайсці і не вярнуцца — справа не хітрая, — як двойчы два, — сказаў Антон.* Быкаў.
**2.** Абсалютна, вельмі добра (ясна, зразумела і пад.). **Сін.**: як божы дзень. *А што ён працаўнік, і гэтакі й такі, дык ясна тут як двойчы два: вы з ім, здаецца ж, сваякі — жывёлы з аднаго хлява.* Крапіва. *«Як двойчы два!» — успомніў Башлыкоў словы, што выраваліся ў яго ўчора. Удала сказаў: сапраўды, пасля прамовы ўсё — як двойчы два!* Мележ.

*ДВОР* • **НА ДВО́Р** *ісці, прасіцца* і пад. *Акал. Праст.* Па сваёй натуральнай патрэбе. **Сін.**: да ветру; па патрэбе. *А перад тым, як спаць лажыцца, ён [Яська] мусіў к хлопцам престіж падабрыцца, і хлопцы цёмнаю парою ішлі на двор з ім грамадою...* Колас. *А які ж ахайны быў [кот Вася]!.. Падыдзе, бывала, прытуліцца, у вочы гляне і пойдзе да дзвярэй. Гэта ведай, што яго ўжо на двор трэба пусціць.* Крапіва.

*ДВУКОССІ* • **У ДВУКО́ССІ.** *Часцей азн. Разм. Іран.* Ужыв. у адносінах да людзей ці неадуш. прадметаў. Не ў прамым сэнсе слова; які не заслугоўвае сваёй назвы. **Сін.**: так званы (у 1 знач.). *Гэты паварот лепшых людзей іх класа [старой тэхнічнай інтэлігенцыі] я разумею. Але сярод лепшых могуць быць і «лепшыя», лепшыя ў двукоссі.* Мікуліч. — *Я сама даю вызначэнне свай злой філасофіі. — Ты называеш гэта філасофіяй. — У двукоссі.* Шамякін. *Паэт дае нам добрыя парады, як абыходзіцца з «далікатнымі свіннюкамі», «дыпламаванымі баранамі», «воронамі-мітынгоўшчыкамі» і іншымі жывёлінамі ў двукосссі.* Петрашкевіч.

*ДВУМА* • **ГНАЦЦА ЗА ДВУМА ЗАЙЦАМІ.** Гл. гнацца.
**ПАГНАЦЦА ЗА ДВУМА ЗАЙЦАМІ.** Гл. пагнацца.
**ПАЛКА З ДВУМА КАНЦАМІ.** Гл. палка.

*ДВУХ* • **<АДНЫМ СТРЭЛАМ> ЗАБІВАЦЬ ДВУХ ЗАЙЦАЎ.** Гл. забіваць.
**ДА ДВУХ НЕ ГАВАРЫ** *з кім, каму.* Гл. гавары.
**ДВУХ СЛОЎ НЕ ЗВЯЗАЦЬ.** Гл. звязаць.
**ЗВЯЗАЦЬ ДВУХ СЛОЎ** *не магчы.* Гл. звязаць.
**ЗЛАВІЦЬ ДВУХ ЗАЙЦАЎ.** Гл. злавіць.
**МІЖ ДВУХ АГНЁЎ.** Гл. агнёў.
**СЯДЗЕЦЬ НА ДВУХ КРЭСЛАХ.** Гл. сядзець.
**У ДВУХ СЛОВАХ.** Гл. словах.

*ДВУХАБЛІЧНЫ* • **ДВУХАБЛІЧНЫ ЯНУС.** Гл. янус.

*ДЖЫНА* • **ВЫПУСКАЦЬ ДЖЫНА З БУТЛІ**. Гл. выпускаць.
**ВЫПУСКАЦЬ ЗЛОГА ДЖЫНА**. Гл. выпускаць.

*ДЗВЕ* • **ДЗВЕ ДЗЮРКІ Ў НОСЕ І СКАНЧЫЛОСЯ**. Гл. дзюркі.
**ЛУПІЦЬ ДЗВЕ СКУРЫ** з *каго*. Гл. лупіць.
**МАЧАЦЬ СВОЙ ХЛЕБ У ДЗВЕ СОЛІ**. Гл. мачаць.
**САПЦІ Ў ДЗВЕ ДЗІРКІ**. Гл. сапці.
**У ДЗВЕ СТОЛКІ**. Гл. столкі.
**ЯК ДЗВЕ КРОПЛІ ВАДЫ**. Гл. кроплі.

*ДЗВЕРЫ* • **АДМЫКАЦЬ АДАМКНЁНЫЯ ДЗВЕРЫ**. Гл. адмыкаць.
**АДЧЫНЯЦЬ ДЗВЕРЫ** *каму, чаму куды*. Гл. адчыняць.
**АДЧЫНЯЦЬ ІЛБОМ ДЗВЕРЫ**. Гл. адчыняць.
**ДЗВЕ́РЫ АДЧЫ́НЕНЫ (РАСЧЫ́НЕНЫ, ПАРАСЧЫНЯ́НЫ)** *каму, для каго, перад кім. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Хто-н. мае свабодны доступ куды-н., для каго-н. створаны спрыяльныя ўмовы. **Сін.**: дарога адкрыта *каму, перад* кім. **Ант.**: дзверы зачынены *каму, перад кім. — Значыцца, справа ясная! — троху падумаўшы і гледзячы ў глыб неба, сказаў Сымон. — Багатаму ўсюды дзверы адчынены. Яму ўсё можна...* Ніканові́ч. *У нас маладому чалавеку дзверы ўсюды адчынены. Хочаш — ідзі рабочым на завод, вытрымаеш конкурс у інстытут — вучыся, скажам, на інжынера.* Гроднеў. *Дзверы ў нас расчынены для ўсіх: для сяброў і для камендanta-дырэктара Давыда Аляксандравіча Чхарцішвілі.* Дайнека. *Дык перад табой усе дзверы парасчыняны. Ты скончыў рабфак, у цябе, відаць, добрая галава, куды захочаш, туды і паступіш.* Сабаленка.
**ДЗВЕ́РЫ ЗАЧЫ́НЕНЫ (ЗАЧЫНІ́ЛІСЯ)** *каму, перад кім. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Хто-н. не мае свабоднага доступу куды-н., пазбаўлены якіх-н. магчымасцей. **Ант.**: дарога адкрыта *каму, перад кім*; дзверы адчынены *каму, для каго, перад кім. — Ты ж маеш доступ у «вышэйшыя сферы», а нам туды зачынены дзверы, — даволі суха адказаў Лабановіч.* Колас. *Пілеўскі суха паведаміў, што адзінка рахункавода скарочана. Дзверы ў канцылярыю раённай управы перад Міцем зачыніліся.* Навуменка. *Ночы не спалі, грызлі граніт навукі, марылі. І калі ты, здавалася, дасягнуў таго, чаго хацеў, раптам перад табою зачыніліся дзверы. Э-э! Я ледзь перажыў той удар.* Алешка.
**ЗАСТУКАЦЬ ВА ЎСЕ ДЗВЕРЫ**. Гл. застукаць.
**ЗАЧЫНІЦЬ ДЗВЕРЫ З ТАГО БОКУ**. Гл зачыніць.
**ЛАМАЦЦА Ў АДЧЫНЕНЫЯ ДЗВЕРЫ**. Гл. ламацца.
**НАГОЙ ДЗВЕРЫ АДЧЫНЯЦЬ** *дзе, каго, чаго*. Гл. адчыняць.
**ПАКАЗВАЦЬ НА ДЗВЕРЫ** *каму*. Гл. паказваць.
**СТУКАЦЦА Ў ДЗВЕРЫ**. Гл. стукацца.
**СТУКАЦЬ У <ВА ЎСЕ> ДЗВЕРЫ**. Гл. стукаць.
**ЯК ДУРАНЬ ДЗВЕРЫ**. Гл. дурань.

*ДЗВЯРАМІ* • **БРАЗГАЦЬ ДЗВЯРАМІ**. Гл. бразгаць.
**ЯК ДУРАНЬ З ДЗВЯРАМІ**. Гл. дурань.

*ДЗВЯРАХ* • **ПРЫ ЗАЧЫ́НЕНЫХ ДЗВЯРА́Х**. *Акал. Функц. не зам.* У прысутнасці толькі зацікаўленых асоб, тайна ад іншых. *Чарговага «сведку» кангрэсмены вырашылі слухаць пры зачыненых дзвярах.* Паслядовіч. *Гэта размова адбылася пры зачыненых дзвярах, без сведкаў, і таму вострым на язык газетчыкам яна не дала тэмы для жарта.* Васілёнак.

*ДЗВЯРЫМА* • **ЯК У БОГА ЗА ДЗВЯРЫМА**. Гл. бога.

*ДЗВЯРЭЙ* • Дзень (дні) **АДКРЫ́ТЫХ ДЗВЯРЭ́Й**. *Кампанент дзейн. ці дап. Функц. не зам.* (Дзень, дні) вольнага доступу ў навучальную ўстанову ці на прадпрыемства (каб азнаёміцца з іх профілем). *Сталі традыцыйнымі дні адкрытых дзвярэй, калі бацькам паказваюць усё, пачынаючы з кухні, пральні і канчаючы пакоямі.* «Настаўн. газ.». *[Каравай:] Сёння ў нас дзень адкрытых дзвярэй.* Макаёнак.

*ДЗЕ* • **ВОСЬ ДЗЕ СЯДЗІЦЬ** *у каго, каму.* Гл. сядзіць.
**ДЗЕ БОГ ПАШЛЕ**. Гл. бог.
**ДЗЕ БЫЛІ ВОЧЫ** *чые, у каго.* Гл. вочы.
**ДЗЕ ВОЧЫ ДЗЯВАЦЬ**. Гл. дзяваць.
**ДЗЕ ГЭТА ВІДАНА**. Гл. відана.
**ДЗЕ МАКАР КОЗЫ ПАСЕ**. Гл. макар.
**ДЗЕ НАША НЕ ПРАПАДАЛА**. Гл. прападала.
**ДЗЕ РАКІ ЗІМУЮЦЬ**. Гл. ракі.
**ДЗЕ САБАКА ЗАКАПАНЫ**. Гл. сабака.
*На каго* **ДЗЕ СЯДЗЕШ ТАМ І ЗЛЕЗЕШ**. Гл. сядзеш.
**ДЗЕ́ ТАМ!** *Выкл. Разм.* Вокліч немагчымасці, адмаўлення чаго-н., пярэчання на чужое ці сваё выказванне. **Сін.**: каб хоць!; куды там! *Хацелася мне думаць, што, можа, гэта зноў жарцікі... Дзе там! Усё па форме і ўсур'ёз.* Гарэцкі. *[Буйкевіч:] Не дагнаў? [Максім:] Дзе там! Драпануў з касмічнай хуткасцю.* Макаёнак. — *Ох і добрая пуга будзе у цябе, Тонік. — Дзе там... Няма з чаго біч сплесці...* М.Капыловіч.
**ДЗЕ <ТЫ> БАЧЫЎ**. Гл. ты.
**ДЗЕ <ТЫ> ДЗЕНЕШСЯ**. Гл. ты.
**ДЗЕ ЎЗЯЛІСЯ І НОГІ** *ў каго.* Гл. ногі.
**КЛЯЙМА СТАВІЦЬ НЯМА ДЗЕ** *на кім.* Гл. няма.
**НЕ БОГ ВЕДАЕ ДЗЕ**. Гл. бог.
**НЕ ДЗЕ ДЗЕНЕШСЯ**. Гл. дзенешся.
**НОСА НЯМА ДЗЕ ЎБІЦЬ**. Гл. няма.
**ПАКАЗАЦЬ ДЗЕ РАКІ ЗІМУЮЦЬ** *каму.* Гл. паказаць.
**ХТО ДЗЕ**. Гл. хто.
**ЯБЛЫКУ НЯМА ДЗЕ ЎПАСЦІ**. Гл. упасці.

*ДЗЕВЯТЫ* • **ДЗЕВЯТЫ ВАЛ**. Гл. вал.

*ДЗЕДАМ* • **ЗА ДЗЕ́ДАМ ШВЕ́ДАМ**. *Акал. Разм. Жарт. Іран.* Вельмі даўно (было, будавалася што-н. і пад.). **Сін.**: за царом гарохам; пры цару гароху. *На месцы высветлілася раптам, што і рака такая, і мост на ёй адно лічылася на тапаграфічнай карце: відаць, нанесены яны былі на яе — і рака, і мост — яшчэ за дзедам шведам.* Чыгрынаў. *Шыкялеўскі млын быў стары, мусіць, пабудаваны яшчэ за дзедам шведам.* Новікаў. *Не так рэдка, на жаль, даводзіцца сутыкацца са знаёмай да прыкрасці артадаксальнай пазіцыяй: фальклор — ён быў добры ў вёсцы, дый то за дзедам шведам. А ў горадзе жывуць «па-гарадскому». І, значыць, нікому тут фальклор не патрэбны.* «ЛіМ».
**СЛЕДАМ ЗА ДЗЕДАМ**. Гл. следам.

*ДЗЕЙНІЧАЦЬ* • **ДЗЕ́ЙНІЧАЦЬ НА НЕ́РВЫ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Раздражняць, злаваць, хваляваць каго-н. **Сін.**: выводзіць з сябе *каго*; дражніць гусей; іграць на нервах *<чыіх, каму>*; псаваць кроў *каму.* *[Вялічка] ужо так дзейнічае мне на нервы, што я хіба звар'яцею ад гэтай вытрымкі.* Машара.

*ДЗЕЛА* • **І ДЗЕ́ЛА (СПРА́ВА) З КАНЦО́М**. *У безас. ужыв. Праст. Ужыв. у канцы складанага ск.* На гэтым усё закончана. Пра канчатковую развязку чаго-н. **Сін.**: і дуды вобземлю; <і> канцы ў ваду (у 2 знач.); і квіта <пане > мікіта; і не знайся; канцы з канцамі; па ўсім. *Толькі скажу адно — можна было абрэзаць частку зямлі, а то больш за палавіну адхвацілі, і дзела з канцом.* Чорны. *Можна было б зрабіць проста: зайсці ў аддзел кадраў, запісаць у кніжачку адрас, і, як кажуць, дзела з канцом.* Палтаран. *Скажы, хто з нас табе лепшы друг — і справа з канцом. Не круці! Не гуляй з намі! Скажы!* Караткевіч. *Каб дзе стрэў [Халусту] на вузкай сцежцы, скажам, у Маргах, ды зарад у чэрава — і справа з канцом.* Чарнышэвіч.

**ДЗЕЛА СТАРАНА**. Гл. справа.

**ІСЦІ Ў ДЗЕЛА**. Гл. ісці.

**ПУСКАЦЬ У ДЗЕЛА** *што*. Гл. пускаць.

*ДЗЕЛАМ* • **ГРЭ́ШНЫМ ДЗЕ́ЛАМ (ЧЫ́НАМ); ГРЭ́ШНАЙ СПРА́ВАЙ**. *У знач. пабочн. сл. Разм.* Трэба прызнацца; на жаль. Выказванне раскаяння, прызнання памылкі, прамашкі, віны і пад. **Сін.**: няма чаго граху таіць; чаго граху таіць. — *Змікіцілі, Сташкевіч, у час, — паківаў галавою старшыня, — а я ўжо думаў, грэшным дзелам, што прыйдзецца акт за ўтойванне пісаць.* Пальчэўскі. *Не ўтаю: калі ты, не збіраючыся дужа, за Пятровіча выйшла.., і я, грэшным дзелам, падумала, што дом яго, гаспадарку яго ты выбрала.* Бондар. *Паўлаў кудысьці адышоў, і Севярын, грэшным чынам, ужо думаў, што вы не прыйдзеце.* Крыга. *Мне думалася, грэшнай справай, што дзядзька далёкі ад маіх пачуццяў бескарыснага захаплення.* Брыль. — *А я, грэшнай справай, падумаў, што вы ўжо даўно на адпачынку, — сказаў я.* Пянкрат.

**ПЕ́РШЫМ ДЗЕ́ЛАМ**. *Акал. Разм. Часцей ужыв. пры дзеясл.-вык. зак. тр.* Спачатку, раней за што-н. іншае. **Сін.**: першым чынам; у першую галаву; у першую чаргу. *Загадала першым дзелам «рукі ўгору» мне падняць...* Колас. *Першым дзелам, як водзіцца, выбралі старшыню сходкі і сакратара.* «Настаўн. газ.»

*ДЗЕНЕШСЯ* • **ДЗЕ <ТЫ> ДЗЕНЕШСЯ**. Гл. ты.

**НЕ ДЗЕ́ ДЗЕ́НЕШСЯ**. *Зак. Часцей у 2-й ас. адз. і мн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Мусіш пагадзіцца і зрабіць што-н., бо іншага выхаду няма. **Сін.**: дзе <ты> дзенешся; нідзе не дзенешся; нічога не зробіш; нічога не папішаш; нічога не паробіш; што зробіш. *А калі ты папаўся — раскажы, што ведаеш. Усё адно не дзе дзенешся.* Баранавых. *[Яніна:] Хоць на кавалкі пасячыце мяне, усё адно не пайду за нялюбага!.. [Лабыш:] Прывыкнеш, не дзе дзенешся.* Козел. — *Ну як? Што ён [немец] там нагергетаў?.. — Не дзе дзенуцца. Будуць вымятацца, — коратка адказаў старшыня рэўкома.* Грахоўскі. *Ні роспытаў, ні звычайнай у такіх выпадках мітуслівасці — адна зычлівасць ды, схаваная недзе ў самай глыбіні вачэй, мужыцкая хітраватасць: маўляў, калі прыехалі, то не дзе дзенецеся, самі скажаце чаго...* Палтаран.

**НІДЗЕ́ (НІКУ́ДЫ) НЕ ДЗЕ́НЕШСЯ**. *Зак. Часцей у 2-й ас. адз. і мн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абаг.-асаб. знач. Мусіш пагадзіцца і зрабіць што-н., бо іншага выхаду няма. **Сін.**: дзе <ты> дзенешся; не дзе дзенешся; нічога не зробіш; нічога не папішаш; нічога не паробіш; што зробіш. — *Жыць будзеш! — звонка заявіў Хоня.. — Нідзе не дзенешся! І ў кал[ектыў] пойдзеш.* Мележ. *Пра лазню [Вера] падумала з пакутаю і страхам. Але нідзе не дзенешся — Трахімаўна зацягне.* Грахоўскі. *Падышоў камандзір роты. — Усё бачыў, — сказаў ён. — Што можна захаваць — захоўваем. Але што нельга — нікуды не дзенешся.* «Звязда». *Бабрукі прывыклі атрымліваць з працэнтам. Ну*

*што ж, — Сурмак пакосіць, а Сурмачыха пажне лішні дзень. Пакосяць, пажнуць, вядома, — нікуды не дзенуцца...* Брыль.

*ДЗЕНЬ* • **АБЫ ДЗЕНЬ АДБЫЦЬ**. Гл. адбыць.

**АБЫ́ ДЗЕ́НЬ ДА ВЕ́ЧАРА**. *Разм. Неадабр.* **1**. *Акал.* Як папала, нядбала, без ахвоты і старання (рабіць, працаваць і пад.). **Сін**.: абы дзень адбыць; абы з рук; з плеч ды ў печ (у 2 знач.); з пятага на дзесятае (у 2 знач.); па канец рук; праз пятае ў дзесятае (у 2 знач.); пусці павалюся (у 2 знач.); спусціўшы рукавы; сяк-так (у 2 знач.); сяк-так накасяк <абы не па-людску>; цапам-лапам; цапу-лапу; цераз пень калоду (у 1 знач.); цяп ды ляп. **Ант**.: душы паслухаючы; з аганьком; закасаўшы рукавы; не пакладаючы рук. *Муляры ў нас зарабляюць нядрэнна... А хто працуе абы дзень да вечара, дык самі ведаеце...* Няхай. *Нядаўна і яна [Крышталевіч] пабывала ў гэтым калгасе і бачыла, як нехаця там калгаснікі працавалі — абы дзень да вечара.* Якавенка.

**2**. *каму. Убезас. ужыв.* Абсалютна аднолькава, без розніцы, не вельмі істотна, не мае значэння для каго-н. **Сін**.: адзін хрэн *каму*; адзін чорт <*каму, для каго*>; адна трасца <*каму*>; адна халера; адно ліха; і гора мала *каму*; і не шум баравы *каму*; ні горача ні холадна *каму ад чаго*; усё адно (у 2 знач.); усё роўна (у 4 знач.); хоць бы хны (у 3 знач.); хоць бы што (у 3 знач.); хоць воўк траву еш; хоць патоп; хоць трава не расці <*каму*>; што з гусі вада *з каго, каму*; як з гусака вада *з каго*. *Гэта яму, Хамянку, абы дзень да вечара, яму заробак ні ішоў ні ехаў, і так грошай у бацькі з маткаю хоць сцены ў хаце абклейвай.* Кусянкоў. *Цяпер табе абы-дзе прыткнуцца, абы дзень да вечара, а там пашукаем якой рады.* Адамчык.

**ВОСЬ ТАБЕ < БАБКА > І ЮР'ЕЎ ДЗЕНЬ**! Гл. вось.

**ГРОШ ЦАНА <У БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ >** *каму, чаму.* Гл. цана.

**ДЗЕ́НЬ АДА ДНЯ́**. *Акал. Разм. Ужыв. пры дзеясл.-вык. незак. тр.* **1**. Паступова, з кожным новым днём. **Сін**.: дзень за днём (у 1 знач.); з дня на дзень (у 2 знач.); з дня ў дзень (у 1 знач.). *Дзень ада дня ўсё больш і больш давала сябе знаць надыходзячая вясна.* Галавач. *З таго часу дзень ада дня вароне жылося штораз лепей: набралася пэўнасці, смеласці.* Ядвігін Ш.

**2**. Штодзень, кожны дзень. **Сін**.: дзень за днём (у 2 знач.); дзень пры дні; дзень у дзень; з дня ў дзень (у 2 знач.). *Пятрусь злаваў, нерваваўся і дзень ада дня мерыўся шукаць іншага месца Рыгору.* Гартны. *Ты гары, ты рвіся дзень ада дня, з цямна да цямна, а ёй — хоць бы што!* Мележ.

**ДЗЕ́НЬ ДО́БРЫ**!; **ДО́БРЫ ДЗЕ́НЬ**! *Выкл. Функц. не зам.* Прывітальны зварот пры сустрэчы раніцай або днём. **Сін**.: маё шанаванне <*каму*>; наша вам. *[Куторга:] Дзень добры, пане Пратасавіцкі! Здарова, пані Пратасавіцкая!* Дунін-Марцінкевіч. *[Іван:] Іван я. Іван Швед. Добры дзень! Я да вас...* Макаёнак.

**ДЗЕ́НЬ ЗА ДНЁМ**. *Акал. Разм.* **1**. Паступова, з кожным новым днём. **Сін**.: дзень ада дня (у 1 знач.); з дня на дзень (у 2 знач.); з дня ў дзень (у 1 знач.). *Пакрысе ўляглася трывога, дзень за днём мацнела вера, што ўсё будзе добра.* Дамашэвіч. *Дзень за днём прызвычаіўся Мішка да вайсковай службы.* Лынькоў.

**2**. Штодзень, кожны дзень. **Сін**.: дзень ада дня (у 2 знач.); дзень пры дні; дзень у дзень; з дня ў дзень (у 2 знач.). *Зноў ісці жабрачым шляхам і жыць гэтак дзень за днём, калі тут, пад гэтым дахам, ён [Сымон] авеяны святлом!* Колас. *[Ганка:] А што гэта за жыццё ў нас будзе?.. Сядзець дзень за днём, адной-адзінюткай у хаце ля самай вады ды чакаць, калі мой любы вернецца, мокры ды галодны?* В.Вольскі.

**ДЗЕ́НЬ ПРЫ ДНІ́**. *Акал. Разм. Ужыв. пры дзеясл.-вык. незак. тр.* Штодзень, кожны дзень. **Сін**.: дзень ада дня (у 2 знач.); дзень за днём (у 2 знач.); дзень у дзень; з дня ў

дзень (у 2 знач.). *Дзень пры дні адна, як той таўкач, сноўдаюся па хаце, і слоўца няма каму сказаць.* Грахоўскі. *Не затрымаць і не спыніць яго [гадзінніка] размеранага стуку. Нібы лічыльнікамі, цюкае ён раўнадушна дзень пры дні.* Барадулін.

**ДЗЕ́НЬ У ДЗЕ́НЬ**. *Акал. Разм. Ужыв. пры дзеясл.-вык. незак. тр.* Штодзень, кожны дзень. **Сін.**: дзень ада дня (у 2 знач.); дзень за днём (у 2 знач.); дзень пры дні; з дня ў дзень (у 2 знач.). *Рыгор дзень у дзень, на працягу тыдня, не пакідаў вуліцы.* Гартны. *Амаль два тыдні дзень у дзень збіраліся куранёўцы на грэблі, капалі канавы, цягалі галлё, вазілі, раскідалі зямлю.* Мележ.

**ЗА́ЎТРАШНІ ДЗЕ́НЬ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Блізкая будучыня; тое, што будзе. *Паэт праз дым вайны ўзіраўся ў заўтрашні дзень, ён ужо бачыў той час, калі народ зноў вернецца да мірнай працы.* Шкраба. *Ты не загінеш бясследна — за табой твае дзеці ідуць. Твая радасць, твая ўцеха, твой заўтрашні дзень.* Цяжкі.

**З ДНЯ НА ДЗЕНЬ**. Гл. дня.

**З ДНЯ Ў ДЗЕНЬ**. Гл. дня.

**І ДЗЕ́НЬ І НО́Ч**. *Акал. Разм. Часцей ужыв. пры дзеясл.-вык. незак. тр.* Увесь час, пастаянна. **Сін.**: дзённа і ночна. *Пакуль мудрэц, сабраўшы кніжак стог, і дзень і ноч над імі сох, пакуль дабраўся да матрыярхату, прастак прывёў Чарнявую ў хату.* Крапіва. *Каб сказалі, што ты нічога не робіш, бяздзейнічаеш, дык жа і дзень і ноч прападаеш там на сваіх пасяджэннях і нарадах, днюеш і начуеш там. І сам спакою не ведаеш, і людзям не даеш.* Макаёнак.

**НАВОДЗІЦЬ ЦЕНЬ НА СВЕТЛЫ ДЗЕНЬ**. Гл. наводзіць.

**СЁННЯШНІ (СЯГО́ННЯШНІ) ДЗЕ́НЬ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Сучаснасць, сучаснае. *Аповесць — менавіта пра цяперашнюю нашу калгасную вёску, пра яе сённяшні дзень.* Гіль. *Пісьменнік падкрэслівае непадзельнасць, цесную перапляценасць праблем сённяшняга дня.* «ЛіМ». *Народ жа даў нам мову, каб усяму свету мы расказалі пра пакутны шлях да волі, пра поўны клопатаў і светлых памкненняў сягоннящні дзень...* Бондар.

**УЧАРА́ШНІ ДЗЕ́НЬ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Былое, мінулае; тое, што прайшло. *Я не з тых, каго цікавіць учарашні дзень. Я думаю пра заўтрашні.* Асіпенка. — *Значыць, сцвярджаеш, што Жэрах — учарашні дзень, — задумаўся Ясевіч.* Дзятлаў. *Пра ўчарашні дзень вёскі Мікіцка і яго сённяшнія справы гаварылі на свяце дырэктар васьмігодкі, першы старшыня калгаса...* «ЛіМ».

**ЧО́РНЫ ДЗЕ́НЬ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Цяжкі, змрочны час для каго-н. *Запасы Сымона Чарнюка на «чорны дзень», на «канец свету» запоўнілі хатку дзе-нідзе да самай столі.* Бядуля. *Была ў Міхала нейкая капейка, але ж ён берог яе на чорны дзень і аб тым, каб патраціць гэтыя грошы, не мог і думаць.* Чарнышэвіч.

**ЯК БО́ЖЫ ДЗЕ́НЬ** ясна, зразумела (ясны, зразумелы). *Акал. Разм.* Абсалютна, гранічна, вельмі, добра. Пра што-н. бясспрэчнае. **Сін.**: як двойчы два. *Што з гэтага дома, умеючы, можна больш мець прыбытку, дык гэта ясна як божы дзень.* Чорны. — *Нешта не даходзіць да мяне ваша праўда. — Яна ясная як божы дзень.* Лынькоў. *Некаторыя лічаць, што архітэктары плаваюць у воблаках і ўскладняюць ясныя як божы дзень задачы.* Шамякін. *Усякі чалавек жыве не так, як хочацца яму самому, а так, як дыктуюць умовы жыцця. Бо хто гэтага не ведае, той будзе дзіцём, якому ўсё здаецца простым і зразумелым як божы дзень.* Дамашэвіч.

*ДЗЕРАКА* • **ДАВАЦЬ ДЗЕРАКА**. Гл. даваць.

*ДЗЕРЦІ* • **ДЗЕРЦІ ГОРЛА**. Гл. драць.

**КАЗЛЫ ДЗЕРЦІ**. Гл. драць.

*ДЗЕСЯТАГА* • **ДА ДЗЕСЯТАГА ПОТУ**. Гл. поту.

*ДЗЕСЯТАЕ* • **З ПЯТАГА НА ДЗЕСЯТАЕ**. Гл. пятага.
**ПРАЗ ПЯТАЕ Ў ДЗЕСЯТАЕ**. Гл. пятае.
**ПЯТАЕ ПРАЗ ДЗЕСЯТАЕ**. Гл. пятае.

*ДЗЕСЯТАЙ* • **ЗА ДЗЕСЯТАЙ ГАРОЙ**. Гл. гарой.

*ДЗЕСЯТАМУ* • **ДЗЕСЯТАМУ ЗАКАЗАЦЬ**. Гл. заказаць.

*ДЗЕСЯТАЯ* • **ДЗЕСЯТАЯ СПІЦА Ў КОЛЕ**. Гл. спіца.

*ДЗЕСЯТКА* • **НЕ <З> ПАЛАХЛІ́ВАГА (БАЯЗЛІ́ВАГА, ПУЖЛІ́ВАГА) ДЗЕСЯ́ТКА**. *Вык. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Смелы чалавек. *Іларык быў не з палахлівага дзесятка. І, вядома, не спалохаўся.* Якімовіч. — *Я не з баязлівага дзесятка, — какетліва бліснула вачыма Ганна.* Макаёнак. *[Дабрыня:] А ключніца ў цябе не з пужлівага дзесятка...* Петрашкевіч. *У прыёмнай — «бах, бах..» Але салдаты не палахлівага дзесятка.* Аношкін.
**НЕ З ТАГО́ ДЗЕСЯ́ТКА**. *Вык. Разм. Адабр. і неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не так, як хто-н. думае, мяркуе пра яго. *О не, дзетка мая, Стась не з таго дзесятка, каб забыцца пра бацьку.* Сабаленка. — *Ці не пакрыўдзілі мы чалавека, хлопцы? — Не з таго дзесятка ён, — заўважыў Пятрусь Жулега.* Гроднеў.

*ДЗЕСЯТКУ* • **ПАЦЭЛІЦЬ У ДЗЕСЯТКУ**. Гл. пацэліць.

*ДЗЕСЯТУЮ* • **ЗА ДЗЕСЯТУЮ ГАРУ**. Гл. гару.

*ДЗЕСЯТЫМ* • **НА ДЗЕСЯТЫМ НЕБЕ** <*ад чаго*>. Гл. небе.

*ДЗЕСЯТЫЯ* • **ПРАЗ ДЗЕСЯТЫЯ РУКІ**. Гл. рукі.

*ДЗЕСЯЦЬ* • **ВЫЦІСКАЦЬ ДЗЕСЯЦЬ ПАТОЎ** *з каго*. Гл. выціскаць.
**НІ Ў ПЯЦЬ НІ Ў ДЗЕСЯЦЬ**. Гл. пяць.

*ДЗЕЎКАХ* • **СЯДЗЕЦЬ У ДЗЕЎКАХ**. Гл. сядзець.

*ДЗЕЦЬ* • **ДЗЕ ВОЧЫ ДЗЕЦЬ**. Гл. дзяваць.
Не ведаць, **КУДЫ́ ДЗЕ́ЦЬ (ПАДЗЕ́ЦЬ) <СВАЕ́> РУ́КІ**. *У знач. дадан. ск. Разм.* (Не ведаць) як паводзіць сябе ў няёмкім становішчы, пры адчуванні збянтэжанасці, сарамлівасці і пад. **Сін**: дзе вочы дзяваць. *У кватэру ўвайшоў Азаркевіч, ён па-ранейшаму хацеў трымацца проста, але адчуваў сябе скаваным і, нібы вучань, вінаватым. Ён не ведаў, куды дзець рукі.* Гурскі. *Анежка была разгубленая. Здавалася, што яна не ведала, куды падзець свае рукі.* Броўка. — *А ты сядай! — звярнуўся ён [Зімчук] да Валі, заўважыўшы, што яна глядзіць на яго шырока адкрытымі вачыма і не ведае, куды падзець рукі.* Карпаў.
Не ведаць, **КУДЫ́ СЯБЕ́ ДЗЕ́ЦЬ (ПАДЗЕ́ЦЬ)**. *У знач. дадан. ск. Разм.* (Не ведаць) чым заняцца, што рабіць ад нудоты, апатыі і пад. *Грышка стаяў, прысаджваўся і хадзіў, як непрыкаяны, не ведаў, куды сябе дзець.* Рубанаў. *Двое васьмікласнікаў уцяклі з урокаў. На вясеннім п'яным паветры ўцекачы неўзабаве ачмурэлі і не ведалі, куды сябе падзець.* Карпюк. *Гошкава змена ў піянерскім лагеры ўжо скончылася. І вось бадзяўся ён па двары, не ведаючы, куды падзець сябе.* Філімонава.
**НЕДЗЕ ВОЧЫ ДЗЕЦЬ** *каму*. Гл. недзе.

*ДЗЕЯННЯ* • **МІНА ЗАПАВОЛЕНАГА ДЗЕЯННЯ**. Гл. міна.

*ДЗЁГЦЕМ* • **МАЗАЦЬ ДЗЁГЦЕМ** *каго, што.* Гл. мазаць.

*ДЗЁГЦЮ* • **ЛЫЖКА ДЗЁГЦЮ <У БОЧЦЫ МЁДУ>**. Гл. лыжка.

*ДЗЁН* • **ДА КАНЦА ДЗЁН**. Гл. канца.
**ДА СКОНУ ДЗЁН**. Гл. скону.
**НА СХІЛЕ ДЗЁН**. Гл. схіле.

*ДЗЁННА* • **ДЗЁННА І НО́ЧНА**. *Акал. Кніжн. Ужыв. пры дзеясл.-вык. незак. тр.* Увесь час, пастаянна. **Сін.**: і дзень і ноч. *Каб узняць нашу мастацкую літаратуру на сусветны ўзровень, трэба не пакладаючы рук працаваць дзённа і ночна, як гэта рабілі рэпрэзентатары лепшых сусветных літаратур.* Глыбінны. *Збіраліся часцей у Барыса Сысы, які прыдбаў недзе за свае іконы прыёмнік і «дзённа і ночна» слухаў Маскву.* Марчук. *З яе [святой абіцелі] пойдзе ва ўсе куткі дзяржавы святло хрысціянскай веры, бо будуць там дзённа і ночна працаваць святары і летапісцы.* Дайнека.

*ДЗЁРУ* • **ДАВАЦЬ ДЗЁРУ**. Гл. даваць.

*ДЗІВА* • **ДЗІ́ВА ШТО**! *Разм.* **1**. *Узнач. узмацн. часціцы.* Так, безумоўна, няўжо ж не. **Сін.**: а нягож; а як жа; чаму <ж> не; яшчэ як. *[Скіба:] Мястэчка Гневань чулі? [Дзед Бадыль:] Уга! Дзіва што! Колькі разоў быў там.* Крапіва. — *Я-то гатоў, а старая усё божкае. — Баіцца... — Дзіва што!— заступілася за Хоневу матку Арына.* Мележ. *Каб жа знайшлася гэтакая добрая дзеўка, як ты, то дзіва што ажаніўся б.* Лобан.

**2**. *Выкл.* Інакш быць не можа. Выказванне захаплення, радасці, згоды і пад. *[Петрык:] Хораша ў вас тут! Цікавага колькі... Шмат! [Біруля:] Дзіва што! Гэта табе не які-небудзь раз'езд. Вузлавая станцыя!* Шынклер. *[Сымонка:] Народу ў нас цяпер колькі, дзядзька Рабіна. А-ей!.. Ды ўсё новыя прыходзяць. Як грыбы пасля дажджу... [Рабіна:] Дзіва што! Пакажы толькі дарогу. Гэта ж першаму трэба адважыцца ды пачатак пакласці, а тады ўжо і астатнія пойдуць.* В.Вольскі.

**НА ДЗІ́ВА**. *Акал. Разм.* **1**. *які, як.* Надзвычай, вельмі. **Сін.**: на рэдкасць; як ніколі *які* (у 2 знач.). *Заходзіць Мікалай Сяргеевіч, чалавек пажылы, невялікага росту, але на дзіва рухавы для сваіх год.* Макаёнак. *Мой новы гаспадар быў на дзіва гаваркім чалавекам.* М.Капыловіч. *На гэты раз на дзіва спакойна трымаў сябе Андрушка Шэмет.* Лобан.

**2**. Надзвычай добра, цудоўна, выдатна. **Сін.**: будзь-будзь (у 1 знач.); будзь здароў (у 1 знач.); дай бог (у 1 знач.); дай бог кожнаму (у 2 знач.); дзякуй богу (у 1 знач.); за маё-маё (у 1 знач.); за маліну (у 2 знач.); з бляскам (у 1 знач.); кум каралю <і сват міністру> (у 3 знач.); люба-дорага; на поўнае вока; на пяць з плюсам; на славу (у 1 знач.); на ўсе сто (у 2 знач.); на яць (у 1 знач.); разлюлі-маліна (у 2 знач.); слава богу (у 1 знач.); хвала богу (у 1 знач.); хоць куды (у 2 знач.); што трэба (у 1 знач.); як не трэба лепш. *А чорны грунт — дванаццаць цалей! Жыт[ы] там родзяцца на дзіва: як едзеш між хлябоў вясною, ў іх конь хаваецца з дугою!* Колас.

**3**. *каму.* Так, што хто-н. можа захапіцца, здзівіцца і пад. *Міхал напамінае, як летась ён усім на дзіва ўпаляваў зайца шчасліва, калі той здуру памыліўся і сам у яму заваліўся.* Колас.

*ДЗІВОСЫ* • **ДЗІВО́СЫ НА КАЛЁСАХ**. *Адз. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Штосьці неверагоднае, незвычайнае. **Сін.**: пацеха з пустога меха; цуд у рэшаце; цырк на дроце. *[Нарэйка:] Яго, як ініцыятыўнага, энергічнага і перспектыўнага работніка, прызначаюць — дырэктарам. Ура! [Максімаўна:] Ну і дзівосы на калёсах...* Зуб. — *Самы сапраўдны зялёны гарошак! Навучыліся, чэрці.. — Дзівосы на калёсах!* Гіль. *Дзівосы на ка-*

*лёсах, участковы кажа, што сям'я Малінцоў нармальная. Сам Малінец працуе шафёрам. Жонка ў п'янстве не зафіксавана.* Асіпенка.

*ДЗІВУ* • **ДЗІВУ ДАВАЦЦА**. Гл. давацца.

*ДЗІРАВАЯ* • **ДЗІРАВАЯ ГАЛАВА** *ў каго, чыя.* Гл. галава.

*ДЗІРАВЫМ* • **НАРАДЗІЦЦА Ў ДЗІРАВЫМ КОРАБЕ**. Гл. нарадзіцца.

*ДЗІРАК* • **ЗАТЫКАННЕ ДЗІРАК** *<у чым>*. Гл. затыканне.

*ДЗІРКА* • **ДЗІ́РКА АД АБАРА́НКА**. *Мн. не ўжыв. Часцей дап. Разм. Іран.* Зусім нічога. **Сін.**: голаму за пазуху; ні грана; ні сінь-пораху; ні фіга; ні халеры; ні храна; ні чорта; ні шыша. *Я стараўся, стараўся, а ты як шнурам адмераў — тут жа цюцелька ў цюцельку... А за мае старанні што — дзірка ад абаранка?* І.Капыловіч. *[Міхайлаў:] У руках народа, мілая мая рэвалюцыянерка, пакуль што дзірка ад абаранка, а не ўлада.* Васілеўскі. *З усяе сілы [я] вымагаўся, каб узбіцца на нейкую капейчыну ды агораць сваю гаспадарку — дзе там, дасяг гэта самае... дзірку ад абаранка.* Мік. Ткачоў.
*Патрэбны, трэба* **ЯК ДЗІ́РКА Ў МО́СЦЕ**. *Акал. Разм. Іран.* Зусім не, нікольні не (патрэбны хто-, што-н. каму-н.). **Сін.**: як зайцу стоп-сігнал; як леташні снег; як пятае кола ў возе; як рыбе парасон; як сабаку пятая нага. *Іван усміхнуўся, горка і злосна, і кінуў абразліва: — Пляваць я хачу на вас усіх! А спогадзь твая патрэбна мне як дзірка ў мосце!* Колас. *Ат, няма пра што гаварыць. Трэба мне тыя мужчыны як у мосце дзірка.* Грахоўскі. *«Ашчаслівілі» калгас. Калі такі завод не патрэбен наогул, то калгасу ён патрэбен як у мосце дзірка.* Дуброўскі.

*ДЗІРКІ* • **ЗАТЫКАЦЬ ДЗІРКІ** *кім, чым, у чым, дзе.* Гл. затыкаць.
**ЗАТЫЧКА ВА ЎСЕ ДЗІРКІ**. Гл. затычка.
**САПЦІ Ў ДЗВЕ ДЗІРКІ**. Гл. сапці.

*ДЗІРКУ* • **ЗАЛАТАЦЬ ДЗІРКУ** *кім, чым, у чым.* Гл. залатаць.

*ДЗІЎНАЯ* • **ДЗІЎНАЯ РЭЧ**. Гл. рэч.

*ДЗІЦЯЧЫ* • **ДЗІЦЯЧЫ ЛЕПЕТ**. Гл. лепет.

*ДЗІЧКІ* • **ХО́ЦЬ БЫ ДЗІ́ЧКІ** *каму. Абл. У безас. ужыв. Разм.* Нічога не робіцца з кім-н., нічога не ўздзейнічае на каго-н. **Сін.**: і не знайся (у 2 знач.); хоць бы цвік *<каму>*; хоць бы хны (у 2 знач.); хоць бы што (у 2 знач.). *Ну і выгляд у цябе, браце... Бы ў таго пана Вішпінга — дай ты веры! Столькі гадоў маеш, усё сваё жыццё таксама тыраў — на маіх вачах было, а — хоць бы дзічкі! Твар — бялявы! Сам — мажны!* Карпюк.

*ДЗЬМЕ* • **АДКУЛЬ ВЕЦЕР ДЗЬМЕ**. Гл. вецер.
**КУДЫ ВЕЦЕР ДЗЬМЕ**. Гл. вецер.
*Ведаць* і пад. **КУДЫ ВЕЦЕР ДЗЬМЕ**. Гл. вецер.

*ДЗЬМУЦЬ* • **ДЗЬМУЦЬ У АДНУ ДУДКУ** *з кім.* Гл. іграць.
**ДЗЬМУЦЬ У ДУДКУ** *чыю, каго, каму.* Гл. іграць.
**<І> У ВУ́С <САБЕ́> НЕ ДЗЬМУ́ЦЬ**. *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. *Часцей у 3-й ас. адз. і мн.* Не звяртаць ніякай увагі на што-н., не турбавацца. **Сін.**: і вокам не вядзе; і вухам не весці; <і> не лыс; не шманае; хоць бы хны (у 1 знач.); хоць бы што (у 1 знач.). *— На бок! — гукалі часамі Мікалаю, а Мікалай і ў вус сабе не дзьмуў, бо нічога не чуў.* Колас. *Жывуць і ў вус не дзьмуць прыстасаванцы хітрыя.* Панчанка. *Калі ласка, я так і ведаў, што ён дзе-небудзь вылежваецца і ў вус не дзьме!* Шамякін.

*ДЗЮРКІ* • **ДЗВЕ́ ДЗЮ́РКІ Ў НО́СЕ І СКАНЧЫЛО́СЯ**. *Убезас. ужыв. Прает. Жарт.* На гэтым і канец. Ужыв. як выказванне пра завяршэнне чаго-н. **Сін.**: вось і ўсё. *[Сцяпан:] Што ж, каханенькія, родненькія, зайграйце, калі ласка, яшчэ што-кольвечы на адходнае госцікам, а там дзве дзюркі ў носе і скончылося.* Купала. *[Адамейка:] Вось і ўся неўміручасць. Дзве дзюркі ў носе і скончылося, як той казаў. І зноў мы ўсе роўныя. І ніхто нас не дзеліць на вечных і абязвечаных.* Крапіва.

*ДЗЯВАЦЬ* • *Не ведаць,* **ДЗЕ́ (КУДЫ́) ВО́ЧЫ ДЗЯВА́ЦЬ (ДЗЕ́ЦЬ, ПАДЗЕ́ЦЬ)**. *Узнач. дадан. ск. Разм.* (Не ведаць) што рабіць у няёмкім становішчы, пры адчуванні сораму, збянтэжанасці, ганьбы. **Сін.**: куды дзець <свае> рукі. *Макрына выбегла з адрыны, як аблітая жарам. Яна не ведала, дзе дзець вочы, як сустрэцца з чалавекам.* Баранавых. *Здаралася, што ў аддзяленні заставаўся [Мацвей Захаравіч] адзін, як палец, і тады не ведаў, куды дзяваць вочы: усе хлопцы на дне ракі, а ты вось жывы, нават не паранены.* Парахневіч. *Сорамна нам было пасля гэтага, кожны не ведаў, дзе вочы падзець.* Дамашэвіч. *Ад няёмкасці я не ведаў, куды падзець вочы.* Карпюк.

**НЕДЗЕ ВОЧЫ ДЗЯВАЦЬ** *каму.* Гл. недзе.

*ДЗЯДЗЬКА* • **І КВІТА <ДЗЯДЗЬКА> МІКІТА**. Гл. квіта.

**ЯК ДЗЯ́ДЗЬКА Ў ВІ́ЛЬНІ**. *Акал. Разм.* Збянтэжана, непрывычна, ніякавата (адчуваць сябе, паводзіць сябе і пад.). *З усіх, хто ў зале, бадай адзін ён [Веньямін] парыцца ў чорным пінжаку з невялікімі адвіслымі лацканамі. «Як дзядзька ў Вільні», — мільганула думка.* Навуменка. *І жанчына за пультам, і дзяўчына ля акна смяшліва цікавалі за мной: маўляў, што за дзівак урываецца да іх у час работы ды яшчэ паводзіць сябе як дзядзька ў Вільні.* Радкевіч. *Праспект з патрэбай пільнай у два бакі імчыцца. Стаю як дзядзька ў Вільні, хоць і сяджу як быццам...* Зуёнак.

*ДЗЯДЫ* • **ВАДЗІЦЬ ДЗЯДЫ**. Гл. вадзіць.

**ЯК НА ДЗЯДЫ́**. *Разм.* **1**. *Акал.* Выдатна, уволю (наесціся, пад'есці). **Сін.**: ад пуза (у 1 знач.); да адвалу; еш не хачу *чаго*; за трох дурных; колькі душа жадае; колькі ўлезе (у 1 знач.); на поўную губу (у 1 знач.); на ўсю губу; не ў свой дух; хоць жывот расперажы; хоць распёражыся; як дурны на памінках; як не ў сябе; як у прорву. *[Скіба:] Ну як, таварыш Бадыль, накармілі вас? [Дзед Бадыль:] Дзякую. Наеўся як на дзяды.* Крапіва. *Са смакаваннем гаварыў Пестрак, што ў першую чаргу мы зойдзем у закусачную... — Пад'ямо як на дзяды, — цмокаў Пестрак і рагатаў на ўсю камеру.* Міско.

**2**. *чаго. Убезас. ужыв.* Вельмі многа. Пра яду. **Сін.**: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла ў *каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.), дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *у каго*; з горла прэ *у каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі

*каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. Праўду кажучы, найбольш вінават быў у гэтай бядзе сам Сцёпка: хоць любіў, каб яды было як на дзяды, але хацеў, каб работы было, як у нядзелю.* Ядвігін Ш. *Дрэмлючы, нічога не выдрамлеш. А то [іншым] хочацца, каб яды — як на дзяды, а каб рабіць — як у нядзельку.* «Полымя».

*ДЗЯКАВАЦЬ* • **ДЗЯ́КАВАЦЬ БО́ГУ**. *Толькі ў гэтай форме. Разм.* **1**. *Вык. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. ці абстр. прадмета. Вялікі, даволі значны. **Сін**.: дай божа (у 3 знач.). *Хатка наша маленькая, а пан Дабрадзей — дзякаваць богу, дык нам і павярнуцца няма дзе ў нашай хатцы.* Крапіва.

**2**. *У знач. пабочн. сл.* Выказванне радасці, задавальнення, палёгкі, супакою з якой-н. прычыны. **Сін**.: дзякуй богу (у 4 знач.); слава алаху; слава богу (у 3 знач.); хвала алаху; хвала богу (у 2 знач.); хваліць бога. *[Пісьмо] ад вашага Івана! Піша, што ўсё, дзякаваць богу, добра.* Брыль. *А не паслухаеце, штыкамі выпарам, бо, дзякаваць богу, ёсць цяпер каму за парадкам сачыць...* Лынькоў.

*ДЗЯКУЙ* • **ДЗЯ́КУЙ БО́ГУ**. *Толькі ў заг. л. Разм.* **1**. *Акал. ці ў знач. галоўн. ск.* Вельмі добра. **Сін**.: будзь-будзь (у 1 знач.); будзь здароў (у 1 знач.); дай бог (у 1 знач.); дай бог кожнаму (у 2 знач.); за маё-маё (у 1 знач.); за маліну (у 2 знач.); з бляскам (у 1 знач.); кум каралю <і сват міністру> (у 3 знач.); люба-дарага; на дзіва (у 2 знач.); на поўнае вока; на пяць з плюсам; на славу (у 1 знач.); на ўсе сто (у 2 знач.); на яць (у 1 знач.); разлюлі-маліна (у 2 знач.); слава богу (у 1 знач.); хвала богу (у 1 знач.); хоць куды (у 2 знач.); што трэба (у 1 знач.); як не трэба лепш. — *Усё табе расказаў як на духу... — казаў Цярэнцій. — Жыву — дзякуй богу.* Ракітны. *Ціток павесялеў: дзякуй богу, што не яго ловяць.* Лобан. *[Лобыш:] Ох, дзякуй богу, што ўсё ў парадку.* Козел.

**2**. *Вык. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. ці абстр. прадмета. Вельмі добры. **Сін**.: адным словам[1]; без сучка і <без> задзірынкі (у 2 знач.); будзь-будзь (у 2 знач.); будзь здароў (у 4 знач.); дай бог (у 2 знач.); дай бог кожнаму (у 1 знач.); за маё-маё (у 2 знач.); за маліну (у 3 знач.); з бляскам (у 2 знач.); кругом сто дваццаць; на славу (у 2 знач.); на ўсе рукі; на ўсе сто (у 3 знач.); на яць (у 2 знач.); па крайняй меры (у 2 знач.); пальчыкі абліжаш (у 2 знач.); пашукаць такога; першай гільдыі (у 1 знач.); першай рукі (у 1 знач.); першы клас; першы сорт; разлюлі-маліна (у 1 знач.); рэдкай рукі; слава богу (у 2 знач.); хоць куды (у 1 знач.); хоць на выстаўку <вязі>; што трэба (у 2 знач.); як яечка. *А так ён — сынок — дзякуй богу! Грэх паганае што сказаць!* Мележ. *[Язва:] Праўда, глянуўшы на вас, адразу можна сказаць, што справы ў вас — дзякуй богу.* Крапіва.

**3**. *У безас. ужыв.* Вельмі многа чаго-н. **Сін**.: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не ханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край

*чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. Каб вам не здавалася, што у вас нехта стаіць над каркам, — пайду. У мяне сёння работы — дзякуй богу.* Пташнікаў.

**4**. *У знач. пабочн. сл.* Выказванне радасці, задавальнення, палёгкі, супакою з якой-н. прычыны. **Сін**.: дзякаваць богу (у 2 знач.); слава алаху; слава богу (у 3 знач.); хвала алаху; хвала богу (у 2 знач.); хваліць бога. *Кажуць, бандыты па лясах ёсць. Каля нас-то пакуль, дзякуй богу, не чуваць нічога.* Чорны. *І такога гаротнага плачу мне, дзякуй богу, не давялося чуць больш у маім жыцці.* Караткевіч.

**ДЗЯ́КУЙ (-Ю) ЗА ЛА́СКУ**. *Выкл. Разм. Іран.* Выказванне нязгоды з чыёй-н. непрымальнай прапановай. **Сін**.: дзякуй у шапку *каму. — Прыехалі б на аўтазавод. Запчастак тых... — Дзякуй за ласку, — сказаў Жукавец. — За ламачыну ўзялі машыну мукі!* Мыслівец. *А можа, ваш гурток адзін з такіх, якімі кіруе набожная пані з Антокалю? Дык дзякую за ласку. Мне гэта не патрэбна.* Мядзёлка.

**ДЗЯ́КУЙ (-Ю) У ША́ПКУ** *каму. Выкл. Разм. Іран.* Выказванне нязгоды з чыёй-н. непрымальнай прапановай. **Сін**.: дзякуй за ласку. *— Не хочаце — скажыце. А то на ўсіх ляжа пляма. — Дзякуй у шапку, — ашчэрыўся Сізых. — Ведаем такіх субчыкаў. Прызнайся — хопіш дзевяць грамаў.* Навуменка. *— Ды ціха вы, во людзі! Папярэдзяць жа калі што... — Дзякую табе ў шапку. Я лепш сам сябе папярэджу.* Карпаў. *[Брыгадзір:] Камандзіруйце ў раён інжынера, дык ён і здабудзе ўсё, што трэба. [Старшыня:] Ага, дзякуй табе ў шапку. Пашлі інжынера, а ён не праверне справу, дык ты да мяне зноў будзеш хадзіць?* Пянкрат.

**ЗА ДЗЯ́КУЙ**. *Акал. Разм.* Бясплатна, дарэмна (рабіць, зрабіць што-н.). **Сін**.: за прыгожыя вочы; за так (у 1 знач.); на дурніцу (у 2 знач.). *Людзі параілі [папу] па гонтах саломаю пакрыць... Добрая людская рада. Гонтаў, хто іх дакупіцца. А кулёў за дзякуй можна сабраць з прыходу.* Калюга. *— Зразумейце нас правільна: мы — сезоннікі, і за дзякуй рабіць непрывычныя. — За дзякуй?.. А вы што, гуляць сюды прыехалі?* Масарэнка.

*ДЗЯЛІЦЬ* • **ДЗЯЛІЦЬ НЯМА ЧАГО** *каму*. Гл. няма.

**ДЗЯЛІ́ЦЬ ШКУ́РУ (СКУ́РУ) НЕЗАБІ́ТАГА МЯДЗВЕ́ДЗЯ**. *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Загадзя размяркоўваць прыбытак у яшчэ не зробленай справе. *Мікульскі напіраў на тое, што немцы часам любяць дзяліць шкуру незабітага мядзведзя.* Місько. *Кожны сабе хоча нешта ўварваць. А рваць пакуль што няма чаго... Дзелім шкуру незабітага мядзведзя...* Сачанка. *— Што будзем рабіць з голымі рукамі, калі спалім эшалон? На плячах многа не панясеш. Пра транспарт трэба думаць... — Скуру незабітага мядзведзя дзеліш, таварыш Васількевіч.* Навуменка.

*ДЗЯМ'ЯНАВА* • **ДЗЯМ'ЯНАВА ЮШКА**. Гл. юшка.

*ДЗЯРЖЫСЯ* • **АДНО́ ДЗЯРЖЫ́СЯ**! *Выкл. Разм. Часцей адабр.* Выказванне высокай ацэнкі сілы, якасці і пад. чаго-н. **Сін**.: толькі трымайся. *Гаворыць дзядзька на хлапчынку: — Няхай павараецца часінку, каб сокам добра праняліся, тады, брат, — эх! адно дзяржыся!* Колас. *Не бойся, дзядзька, так зажывём, адно дзяржыся!* Крапіва.

*ДЗЯРЫ* • **ХО́ЦЬ ХРЭ́Н ДЗЯРЫ́** *аб што. Толькі ў гэтай форме. Вык. ці азн. Разм.* Ужыв. пры дзейн., выраж. словам *твар*. Васпаваты, рабы (твар). **Сін**.: як чорт гарох малаціў *на чым. Выдзерыкуст адразу як мае быць пазнаўся на пекнасці хлапца, бо аб Міхася твар хоць хрэн дзяры. Сколькі вываратняў на ім воспа накачала.* Цётка.

*ДЗЯРЭ* • **МАРОЗ ПА СПІНЕ <ДЗЯРЭ>** *у каго, каго, чыёй.* Гл. мароз.

*ДЗЯЎБЦІ* • **ДЗЯЎБЦІ́ Ў ГАЛАВУ́** *каму, чыю. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Настойліва пераконваць каго-н. у чым-н. **Сін.**: капаць на мазгі *каму*; убіваць у галаву *каму што* (у 2 знач.); уводзіць у вушы *каму што* (у 2 знач.); укладваць у галаву *каму што* (у 2 знач.). *Я табе гэта і без людзей гаварыла, кожны дзень дзяўбла табе ў галаву, што зноў пасля пачнецца калатня ў хаце...* Чорны. **УДЗЯЎБЦІ Ў ГАЛАВУ** *каму, чыю. Зак. Маўчыць стары... Але чуе Тадора сваім нутром, што ўдзяўбла яму ў галаву. На нявестку яшчэ горш стаў ваўком глядзець.* Крапіва. *[Гарбач] хоча ўдзяўбці ў гэтыя галовы, што толькі яны самі гаспадары свайго лёсу, свайго шчасця і не павінны дазваляць каму брыдзіць у іх уласнай хаце.* Мурашка.

*ДЗЯЦЕЙ* • **ДЗЯЦЕЙ НЕ ХРЫСЦІЦЬ** *з кім.* Гл. хрысціць.
**ПАКАЗАЦЬ ЯК БАРСУК <СВАІХ> ДЗЯЦЕЙ ГЛАДЗІЦЬ** *каму.* Гл. паказаць.
**ЧОРТ ДЗЯЦЕЙ КАЛЫША** *каму.* Гл. чорт.

*ДНА* • **ВЫПІЦЬ ГОРКУЮ ЧАШУ ДА ДНА.** Гл. выпіць.
**ДА <СА́МАГА> ДНА́.** *Акал. Разм.* Поўнасцю, цалкам (зведаць, зразумець, скарыстаць і пад.). *Заспявай ты мне песню такую, каб душу мне паліла яна, каб у ёй ты нядолю людскую і ўсё вычарпаў гора да дна.* Колас. *І я зразумеў усё, да самага дна, у гэтай дзяўчыне.* Караткевіч. *Нам трэба да дна пазнаць кожнага чалавека ў сваей вёсцы, а таксама, каго можна, і ў бліжэйшых вёсках...* Пестрак.
**З ДНА́ МАРСКО́ГА** <u>*даставаць (дастаць).*</u> *Акал. Разм.* Пры любых умовах, любым спосабам і абавязкова. **Сін.**: з дна мора; з-пад зямлі на тым свеце; пад зямлёй. *Ах, шулер! Дарэмна я не пусціў яму кулю ў лоб за шулерства. Ну, гад, я цябе дастану з дна марскога!* Шамякін. *Я цябе з дна марскога дастану! З любога Эльбруса спару!* Місько. *[Вецер:] І калі вы бліжэй Слуцка спыніцеся — наракайце на сябе. З марскога дна дастанем.* Караткевіч.
**З ДНА́ (СА ДНА́) МО́РА** <u>*даставаць (дастаць).*</u> *Акал. Разм.* Пры любых умовах, любым спосабам і абавязкова. **Сін.**: з дна марскога; з-пад зямлі; на тым свеце; пад зямлёй. *Сакратару Малашкіну Харытон Бабёр сказаў пра Вераб'я: — Гэта такі чалавек, які з дна мора дастане, калі трэба.* Пестрак. *Казалі [салдаты], што са дна мора мяне дастануць, не схаваюся.* Гарэцкі.
**НІ ДНА́ НІ ПАКРЫ́ШКІ** *каму, чаму. Выкл. Праст.* Пажаданне ўсяго найгоршага. **Сін.**: гары ён гарам; каб пуста было *каму*; прападзі пропадам *што, хто. Дайце ж перадышкі, няхай «роя» спухне. Ні дна ні пакрышкі ёй, лацінскай кухні!* Колас. *— Усё хварэеш?.. — Так, ужо другі тыдзень, як скруціла... Каб гэтай немачы ні дна ні пакрышкі..* «Вожык». *Ён быў ці не ён — каб яму ні дна ні пакрышкі — зноў-такі Жораў добра не разгледзеў: ноч ужо была ў лесе, цёмна, магло і здацца.* Пташнікаў.
**ПІЦЬ <ГОРКУЮ> ЧАШУ ДА ДНА.** Гл. піць.

*ДНЕ* • **НА ДНЕ́ ДУШЫ́ (СЭ́РЦА).** *Акал. Разм.* Унутрана, употайкі, падсвядома. **Сін.**: на сподзе душы; у глыбіні душы. *На дне душы хавалася шкадоба да сваёй зямлі...* Пестрак. *І хоць было зусім ясна, што самалёты не мінуць Узлесся, дзесьці на дне душы ў Кастуся цеплілася надзея, што вёска ўцалее.* Шахавец. *Недзе на дне душы знаходзіў [Альшэўскі] задаволенасць, што вось собіла яму раздзяліць яе [Верын] лёс, яе цяжар.* Калеснік. *[Хрысціна] звыклася, але на дне сэрца яшчэ доўга хавала слабую надзею.., можа, і яе Хвёдар недзе жыве.* Каліна.

*ДНЁМ* • <u>*Жыць*</u> **АДНЫ́М (СЯГО́ННЯШНІМ, СЁННЯШНІМ) ДНЁМ.** *Акал. Разм.* Без клопату пра будучае, не задумваючыся пра наступствы, без разлікаў наперад. **Сін.**:

*жыць* як набяжыць. *Людзі сёння жывуць адным днём, хапаюць усё, што трапляецца пад рукі, што кепска ляжыць...* І.Капыловіч. — *Ці чуюць вось гэтыя людзі набліжэнне часу, калі мы выступім?.. — Што ім да таго: яны жывуць сягонняшнім днём — момантам.* Гартны. *На мяжы хмызнякоў і поля вырастаў з дошак і бярвення пасёлак, дзе людзі не асталёўваліся як мае быць, а жылі сённяшнім днём...* Чорны. *Збоку можна было падумаць, што Драгун жыве без ніякага плана, стыхійна, сённяшнім днём.* Дамашэвіч.

**ДЗЕНЬ ЗА ДНЁМ**. Гл. дзень.

**ДНЁМ З АГНЁМ** *не знойдзеш, не знайсці; шукаць, пашукаць. Акал. Разм.* **1**. Ніякім чынам, аніяк (не знойдзеш, не знайсці каго-, чаго-н.). **Сін**.: з сабакамі; са свечкай. *[Піліп:] Такога адважніка, як я, днём з агнём не знойдзеш.* Родзевіч. *Кавы ў горадзе днём з агнём было не знайсці.* Караткевіч.

**2**. З вялікімі цяжкасцямі, прыкладаючы значныя намаганні (шукаць, пашукаць каго-, што-н.). *Не ўзышла [кукуруза], не захацела ўзысці. Бяда. А хто вінаваты? Няма вінаватага. Днём з агнём шукай, а не знойдзеш.* Паўлаў. *Двое ж з вас толькі — меншых — і засталося ў мяне. А такой Мані, як наша, днём з агнём пашукаць...* Брыль.

**ЗАДНІМ ДНЁМ**. Гл. чыслом.

**НІ ДНЁМ НІ НО́ЧЧУ**. *Акал. Разм. Ужыв. у адмоўн. ск.* Ніколі, увесь час. **Сін**.: ні на адну мінуту; ні на міг; ні на секунду. *Масавыя экзекуцыі не спыняліся ні днём ні ноччу.* Лынькоў. *З паліцая вока не спускай. Ні днём ні ноччу.* Навуменка. *Лукіна пачала даймаць думка, што ён нешта ў расследаванні недагледзеў, праваронія, і гэтае «нешта», як насланнё, ні днём ні ноччу не давала спакою.* Праўдзін.

*ДНІ* • **ДЗЕНЬ ПРЫ ДНІ**. Гл. дзень.

**ДНІ́ ЗЛІ́ЧАНЫ** *чые, каго. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Каму-н. засталося зусім нядоўга жыць. **Сін**.: не жылец <на белым свеце>. *Так будзе лепш і табе, і мне, бо цягнуцца табе да Дубіны няма сэнсу — дні яго злічаны, так ці іначай.* Колас. *Бацька.. хварэў на рак печані, дні яго былі злічаны, і ліст яго быў развітаннем з сынам.* Гарэцкі. *[Ніна] ведала, што не вернецца, не будзе жыць Клава. Злічаны дні Клаўкі.* Мележ.

*ДНО* • **АПУСКАЦЦА НА ДНО**. Гл. апускацца.

**ЗАЛАТО́Е ДНО́**. *Мн. не ўжыв. Часцей дап. Функц. не зам.* Вельмі багатая крыніца даходу. **Сін**.: залатая жыла. *Трэба было ахапіць усё Палессе. Пошукі залатога дна разгортваліся ў шырокіх маштабах.* Дуброўскі. *Марта лічылася багатай нявестай. Пасля смерці бацькоў, па спадчыне, да яе пераходзіла ферма. А гэта лічылася ў Германіі залатым дном.* Машара.

**ЛЕГЧЫ НА ДНО**. Гл. легчы.

*ДНОМ* • **ДАГАРЫ ДНОМ**. Гл. дагары.

**ПЕРАВАРОЧВАЦЦА ЎВЕРХ ДНОМ**. Гл. пераварочвацца.

**ПЕРАВАРОЧВАЦЬ УВЕРХ ДНОМ**. Гл. пераварочваць.

*ДНЯ* • **ДЗЕНЬ АДА ДНЯ**. Гл. дзень.

**З ДНЯ́ НА ДЗЕ́НЬ**. *Акал. Функц. не зам.* **1**. У самы бліжэйшы час, у адзін з бліжэйшых дзён (чакаць, пачаць рабіць што-н.). **Сін**.: гэтымі днямі (у 1 знач.); на <гэтых> днях (у 1 знач.); не сёння-заўтра; не цяпер дык у чацвер; рана ці позна. *Варка-арматуршчыца з дня на дзень чакала, што яе выпішуць, і з ранку да ночы нешта вышывала.* Грахоўскі. *Ці чула ты — арыштавалі Петруся. І з дня на дзень можна чакаць...* Гартны.

**2**. Паступова, з кожным днём. **Сін**.: дзень ада дня (у 1 знач.); дзень за днём (у 1 знач.); з дня ў дзень (у 1 знач.). *З дня на дзень у зале ўсё больш пустых крэслаў.* Мележ.

**З ДНЯ́ Ў ДЗЕ́НЬ**. *Акал. Функц. не зам.* 1. Паступова, з кожным днём. **Сін**.: дзень ада дня (у 1 знач.); дзень за днём (у 1 знач.); з дня на дзень (у 2 знач.). *З дня ў дзень з начлегамі цяжэй.* Колас. *З дня ў дзень усё больш прывыкае [хлопец] да новай справы...* Палтаран.

2. Безупынна, штодзённа. **Сін**.: дзень ада дня (у 2 знач.); дзень за днём (у 2 знач.); дзень пры дні; дзень у дзень. *Праўда, потым яда трохі прыелася, што ўсё адно і адно з дня ў дзень.* Гарэцкі. *Сядзеў Хвошч усю зіму, з дня ў дзень, у гэтым пакоіку і панура прыслухоўваўся да гоману за сцяной.* Самуйлёнак.

**НА ЗЛОБУ ДНЯ**. Гл. злобу.

**НІ ДНЯ́ НІ НО́ЧЫ** няма, не было, не будзе. *Дап. Разм.* Ні хвіліны спачыну, перапынку ў працы, занятках і пад. *Апрануўся [Сцёпа], а матка, лежачы на ложку: — Поўнач!.. Божухна-бацюхна... Няма ні дня ні ночы! Як тыя непрыкаяныя.* Баранавых. *Жніво пачынаецца, ні дня ні ночы не будзе.* Мележ. *Ой і рабілі ж людзі! Як падумаеш, дык адкуль у іх столькі сілы бралася. Галодныя, халодныя, а не было ім ні дня ні ночы.* Палтаран.

**ПАРАДАК ДНЯ**. Гл. парадак.

**ШУКАЦЬ УЧАРАШНЯГА ДНЯ**. Гл. шукаць.

*ДНЯВАЦЬ* • <І> **ДНЯВА́ЦЬ І НАЧАВА́ЦЬ** *дзе, у каго. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Неадлучна ці амаль неадлучна знаходзіцца дзе-н. *Рыбак — гэта Тамаш, нездарма кожнае лета прападае ён на Дняпры, і днюе і начуе ў лугах.* Лупсякоў. *— Ты яшчэ не рыбак, — заўважыла Вера. — У нас у пасёлку заядлых рыбакоў хапае, яны на разліве і днююць і начуюць.* Ярашэвіч. *Прохар сыходзіў куды-небудзь з хаты, а найчасцей за ўсё ў сваю сукнавалку. Ён там дняваў і начаваў з парабкамі.* Сабаленка. *Днявала і начавала [Любка] на ферме. Захварэе хто з даярак — падмяняла.* І. Капыловіч.

*ДНЯМІ* • **ГЭ́ТЫМІ ДНЯ́МІ**. *Акал. Разм.* 1. Вельмі хутка, у самы бліжэйшы час (будзе што-н. зроблена). **Сін**.: з дня на дзень (у 1 знач.); на <гэтых> днях (у 1 знач.); не сёння-заўтра; не цяпер дык у чацвер; рана ці позна. *— Дык прыходзьце ж, таварыш, а то пакрыўдзімся. — Гэтымі днямі прыйду, цётачка.* Галавач. *Клава, я гэтымі днямі зусім, назаўсёды адгэтуль выеду.* Чорны.

2. Зусім нядаўна, некалькі дзён назад (адбылося што-н.). **Сін**.: на <гэтых> днях (у 2 знач.). *Арцель уся з маладых, толькі вось гэтымі днямі набраных з вёскі хлапцоў; звычкі да працы няма, і паказваць трэба.* Шынклер. *Тадору гэтымі днямі пазвалі, і больш яна ў камеру не прыйшла.* Баранавых.

*ДНЯХ* • **НА <ГЭ́ТЫХ> ДНЯ́Х**. *Акал. Разм.* 1. Вельмі хутка, у самы бліжэйшы час (будзе што-н. зроблена). **Сін**.: гэтымі днямі (у 1 знач.); з дня на дзень (у 1 знач.); не сёння-заўтра; не цяпер дык у чацвер; рана ці позна. *Новае месца, новыя людзі і тая работа ў школе, якую трэба было распачынаць на гэтых днях і да якой ён так доўга гатаваўся, — усё гэта займала яго думкі, і яму было лёгка і добра...* Колас. *Вось на днях павінен адбыцца паўторны.. сход дэлегатаў.* Гартны. *— Я пайду. Прыходзь да нас. — Прыйду на днях.* Галавач. *Чакаць жа няма куды: зіма на днях легчы можа.* Далідовіч.

2. Зусім нядаўна, некалькі дзён назад (адбылося што-н.). **Сін**.: гэтымі днямі (у 2 знач.). *Каля хаты старшыні калгаса Якуба яшчэ на днях расла высокая старая ліпа, шырока раскінуўшы свае густалістыя галіны.* Якімовіч. *Трэда клёпку канчаць. Прыязджаў жа на днях прадстаўнік з камбіната, прасіў паскорыць.* Кудравец.

**НЕ ПА ДНЯ́Х, А ПА ГАДЗІ́НАХ** расці, развівацца, павялічвацца і пад. *Акал. Разм.* Вельмі хутка. **Сін**.: як грыбы <пасля дажджу>; як на дражджах. *І на славу рос хлапчы-*

*на, не па днях, а па гадзінах.* Якімовіч. *Малады, здаровы, Чыгір папраўляўся не па днях, а па гадзінах.* Гурскі.

*ДОБРА* • **ЯЗЫК ДОБРА ПАДВЕШАНЫ** *ў каго.* Гл. язык.

*ДОБРАГА* • **УСЯГО ДОБРАГА!** Гл. усяго.
**ЧАГО ДОБРАГА.** Гл. чаго.

*ДОБРАЕ* • **ЗА ДОБРАЕ НАДВОР'Е.** Гл. надвор'е.

*ДОБРАЯ* • **ДОБРАЯ МІНА ПРЫ ДРЭННАЙ ГУЛЬНІ.** Гл. міна.

*ДОБРУЮ* • **РАБІЦЬ ДОБРУЮ МІНУ ПРЫ ДРЭННАЙ ГУЛЬНІ.** Гл. рабіць.

*ДОБРЫ* • **БУДЗЬ ДОБРЫ.** Гл. будзь.
**ДЗЕНЬ ДОБРЫ!** Гл. дзень.
**ДОБРЫ ВЕЧАР!** Гл. вечар.
**ДОБРЫ ГЕНІЙ.** Гл. геній.
**ДОБРЫ ІНТЭРАС!** Гл. інтэрас.
**НА ДОБРЫ ЛАД.** Гл. лад.
**НА ДОБРЫ РОЗУМ.** Гл. розум.
**У ДОБРЫ ЧАС!** Гл. час.

*ДОБРЫМ* • **НА ДОБРЫМ СЛОВЕ.** Гл. слове.
**ПАМІНАЦЬ ДОБРЫМ СЛОВАМ** *каго, што.* Гл. памінаць.

*ДОЖДЖ* • **ДО́ЖДЖ ЗА КА́РАК (ЗА ШЫЮ) НЕ ЛЬЕ́ (НЕ КА́ПАЕ).** *У безас. ужыв. Разм.* Няма прычын спяшацца. **Сін.**: за шыю не капае; не гарыць *у каго*; не капае *над кім, над чым*; не на пажар; паспееш з козамі на торг. — *Я добра падумаў ужо. Усё збіраўся табе сказаць. — Чаму ж не сказаў? — Дождж за карак не ліў.* Чорны. — *Так, так, пане Жукоўскі! Дождж за шыю не капае, часу хопіць. Трэба ўсё добра абдумаць, абмазгаваць...* Чарнышэвіч.
**ЗАЛАТЫ́ ДО́ЖДЖ.** *Часцей адз. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Вялікія грашовыя сумы, прыбыткі. *Я гавару аб Амерыцы прадпрыемцаў, бізнесменаў, пражорлівых і ненасытных манапалістаў, для якіх вайна была не чым іншым, як залатым дажджом, невычэрпнай крыніцай шалёных прыбыткаў і звышпрыбыткаў.* Лынькоў. *Будзем будаваць гідрастанцыю. Справа сур'ёзная, гонар для ўсяго раёна, але на залаты дождж не спадзявайся.* Шамякін. *Напрыклад, вось вы.., для якога ў маленстве калыску абсыпалі ўсю залатымі дажджамі, — вы бачылі хоць бы калі-небудзь зблізку, як плача няволя буйнымі слязамі?* Глебка.

*ДОЖДЖЫКУ* • **ПАСЛЯ́ ДО́ЖДЖЫКУ (ДО́ЖДЖЫЧКУ) У ЧАЦВЕ́Р.** *Акал. Разм. Жарт.-іран.* Невядома калі, ніколі. **Сін.**: калі рак <на гары> свісне; на грэчаскія календы; на святое ніколі; на святыя нігды. — *Калі прыйсці? — Заўтра... Паслязаўтра. Пасля дожджыку ў чацвер, — ужо весела жартуючы, сказаў Кавальчук, спадзеючыся, што рыбак усё роўна нічога не пачуе.* Ваданосаў. *Такую хароміну паставілі, а сама з нары не вылазіш! Каму, скажы, ты беражэш свае новыя сцены? Бадзею? Чакай яго пасля дожджыку ў чацвер.* І.Капыловіч. — *А я з табой і толькі з табой. — Са мной пасля дожджычку ў чацвер.* Казько.

*ДОЖДЖЫЧКУ* • **ПАСЛЯ ДОЖДЖЫЧКУ Ў ЧАЦВЕР.** Гл. дожджыку.

*ДОЛЮ* • <u>*Выпадаць, прыпадаць*</u> **НА ДО́ЛЮ** *каго, чыю. Дап. Разм.* Для каго-н. *У той незабыўны вечар на долю Наташы выпаў асаблівы, незвычайны поспех.* Краўчанка. *З усяго*

*добрага і дрэннага, што здараецца ў жыцці чалавека, на нашу долю прыпадала ў пераважнай большасці апошняе.* Самуйлёнак. — *Не ламайся, Аляксей, бяры.. Міша і на тваю долю паклаў, — адсунулася Паранька, даючы месца паміж сабою і Вераю.* Грахоўскі.

*ДОМ* • **КАЗЁННЫ ДО́М**. *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм.* Турма. **Сін**.: каменны мяшок (у 1 знач.); неба ў клетку. *А як жа яна пазнала, што я сапраўды з «казённага дома»? А казённы дом — гэта ж турма, даўно ведама ў народзе.* Глыбінны. *Можа б, лепш было, каб цыганка паваражыла... Можа, кінуўшы карты, выпаў бы для іхняга лёсу казённы дом, а ў «што будзе» ляжа далёкая халодная дарога.* Калюга. *Канчаліся гэтыя гулі заўсёды адным і тым жа. Міліцыя, пратакол, суд — і доўгая камандзіроўка ў казённы дом.* Федарэнка.

**НЕ ГАЛАВА, А ДОМ САВЕТАЎ** *у каго*. Гл. галава.

*ДОМА* • **І ДО́МА І ЗА́МУЖАМ**. *У безас. ужыв. Разм. Жарт.* Што-н. вельмі выгадна, зручна для каго-н. **Сін**.: і з мукой і не пыльна. *[Юрка:] Паехаць у горад і дамовіцца з якім-небудзь буйным заводам і арганізаваць тут, у нас, вялікі цэх па вырабу нейкіх там дэталяў... Узімку людзі ў нас свабодныя — даём двайны план, улетку ж... І дома і замужам. І завод, і калгас!* Макаёнак. — *От табе і маеш! І дома, як кажуць, і замужам! — уголас казаў Прыстром. «І ўчастак, калі ласка, здавай, і з месца не кратайся. Сядзі, як сядзеў...» — скончыў ён думку ўжо сам для сябе.* Шынклер. *Харошы куток! Шкада, калі рынак куды-небудзь перанясуць. І, галоўнае, у двух кроках ад «вёскі».. вулачка, далей бульвар і шумны вялікі горад. І дома і замужам.* Караткевіч.

**НЕ ЎСЕ ДОМА** *у каго*. Гл. усе.

**НІ ДО́МА НІ ЗА́МУЖАМ**. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У няпэўным становішчы. Часцей пра жанчыну. *[Лушка:] Падумайце самі, Мітрафан Сазонавіч, — вяселле не можам справіць. Упёрся, як бык. А дзяўчына — ні дома ні замужам.* Макаёнак. — *А цяпер рашыў пажыць адзін. Каб разабрацца ў сабе. — І я вымушана жыць адна, — уздыхнула Маша. — Атрымалася так, што ні дома ні замужам.* Гроднеў.

**ЯК ДО́МА**. *Акал. Разм.* Свабодна, проста, без сарамлівасці (адчуваць сябе, быць і пад.). **Сін**.: як рыба ў вадзе. *[Жлукта:] Вось ваш столік, таварышы. Будзьце як дома і прабачце, калі мы на хвіліну вас пакінем.* Крапіва. *Шпарка ж ідзе гэты цягнік! Прыгледзеўся, асвойтаўся і тут Алесь. Хутка адчуваў сябе ўжо як дома.* Шынклер. *[Лабыш:] Пан Станіслаў павінен адчуваць сябе ў нас як дома.* Козел.

*ДОМІК* • **КА́РТАЧНЫ ДО́МІК**. *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Што-н. нетрывалае, ненадзейнае. Пра планы, разлікі, меркаванні і пад. **Сін**.: мыльная бурбалка. *Уілбур Іўленд напісаў кнігу пад з'едлівай назвай: «Картачныя домікі: правалы Амерыкі на Блізкім Усходзе».* «Полымя».

*ДОМУ* • **АДБІВАЦЦА АД ДОМУ**. Гл. адбівацца.

*ДОЎБНІ* • **ЯК ВОЛ ДОЎБНІ**. Гл. вол.

*ДОЎГ* • **АДДАВАЦЬ АПОШНІ ДОЎГ** *каму*. Гл. аддаваць.

**У ДО́ЎГ**. *Акал. Разм.* З умовай звароту ці з далейшай аплатай (даваць, браць, рабіць што-н. і пад.). **Сін**.: у крэдыт. *Знаёмыя віншуюць, жонка робіць набыткі — у растэрміноўку і ў доўг.* Быкаў. *Кожны дзень ён [нампатэх] быў на ўзводзе — за свае, зробленыя, ці на халяву, у доўг.* «Полымя».

*ДОЎГА* • **ДОЎГА НЕ ДУМАЮЧЫ**. Гл. думаючы.

**ЗАГАДАЦЬ ДОЎГА ЖЫЦЬ** <*каму*>. Гл. загадаць.

**НЕ ПРЫМУСІЦЬ < ДОЎГА > СЯБЕ ЧАКАЦЬ**. Гл. прымусіць.

*ДОЎГАЯ* • **ДОЎГАЯ ПЕСНЯ**. Гл. песня.

*ДОЎГІ* • **ДОЎГІ РУБЕЛЬ**. Гл. рубель.
**ДОЎГІ ЯЗЫК**. Гл. язык.
**ЯЗЫК ДОЎГІ** *ў каго*. Гл. язык.

*ДОЎГІМ* • **ЗА ДОЎГІМ РУБЛЁМ**. Гл. рублём.

*ДОЎГІЯ* • **ДОЎГІЯ РУКІ**. Гл. рукі.
**РУКІ ДОЎГІЯ** *ў каго*. Гл. рукі.

*ДОЎГУЮ* • **У ДОЎГУЮ СКРЫНЮ**. Гл. скрыню.

*ДОХНУЦЬ* • **МУХІ ДОХНУЦЬ**. Гл. мухі.

*ДОШКІ* • **АД ДО́ШКІ ДА ДО́ШКІ**. *Акал. Разм.* Цалкам, поўнасцю, нічога не прапускаючы (чытаць, прачытаць, вывучыць і пад.). **Сін.**: ад коркі да коркі. *Жураўскі праглядаў толькі апошнія старонкі: спорт, фельетоны, здарэнні... Валовіч і Сініцын чыталі ўсё, як кажуць, ад дошкі да дошкі. Затым абмяркоўвалі прачытанае.* Герчык.

*ДОШКУ* • **РАЗБІВАЦЦА Ў ДОШКУ**. Гл. разбівацца.
**СВОЙ У ДОШКУ**. Гл. свой.
**СТАВІЦЬ НА АДНУ ДОШКУ** *каго з кім, што з чым, каго і каго, што і што*. Гл. ставіць.

*ДОШЦЫ* • **СТАЯЦЬ НА АДНОЙ ДОШЦЫ** *з кім, з чым*. Гл. стаяць.

*ДРАБНЕЙ* • **РАССЫПАЦЦА ДРАБНЕЙ МАКУ** *перад кім*. Гл. рассыпацца.

*ДРАЖДЖАХ* • **ЯК НА ДРАЖДЖА́Х** *расці, папраўляцца* і пад. *Акал. Разм.* Вельмі хутка і добра. **Сін.**: не па днях, а па гадзінах; як грыбы <пасля дажджу>. *А мак! а рэпа! морква, бручка! А буракі, гуркі, пятрушка, усяго, усяго, ну, проста — страх! Усё там расце як на дражджах.* Колас. *[Доктар:] Вы, Мартын Андрэевіч, гэтае, папраўляецеся як на дражджах.* Каваль. *[Ігнатовіч] успомніў словы Сасноўскага і адчуў, як уздымаецца, падыходзіць як на дражджах яго абурэнне супраць Карнача.* Шамякін. *Палажылі сілы на [гэ]тае балота, але ж затое што ні пасееш, што ні пасадзіш — расце як на дражджах.* Палтаран.

*ДРАЖНІЦЬ* • **ДРАЖНІ́ЦЬ ГУСЕ́Й**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выклікаць злосць у каго-н., злаваць каго-н. **Сін.**: выводзіць з сябе *каго*; дзейнічаць на нервы *каму*; іграць на нервах <*чыіх, каму*>; псаваць кроў *каму*. *Толькі не рабіце перад судом дэманстрацыйных выпадаў і мітынгу, не дражніце гусей, бо вашага пратэсту ніхто не пачуе.* Машара. *Я параіў бы вам не дражніць гусей. Тут варварскае насельніцтва, могуць і забіць.* Караткевіч. *Не варта з-за дробязі гусей дражніць.* Радкевіч. **РАЗДРАЖНІЦЬ ГУСЕЙ**. *Зак.*

*ДРАЗДА* • **ДАВАЦЬ ДРАЗДА**. Гл. даваць.

*ДРАЛА* • **ДАВАЦЬ ДРАЛА**. Гл. даваць.

*ДРАМАЦЬ* • **ДРАМАЦЬ У ШАПКУ**. Гл. спаць.

*ДРАПАКА* • **ДАВАЦЬ ДРАПАКА**. Гл. даваць.

*ДРАЦЬ* • **АРДУ ДРА́ЦЬ.** *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Сварыцца, спрачацца. *Брат з братам арду дзяруць за мяжу.* Барадулін. [Параўн. у *Юрчанкі*, 1, с. 46: арду ўзнімаць - 'пачынаць крык, сварку, лаянку'.]

**ДРА́ЦЬ (ДЗЕ́РЦІ) ГО́РЛА (ГЛО́ТКУ).** *Незак. Праст. Неадабр.* **1.** Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Вельмі моцна гаварыць, крычаць, спяваць і пад. **Сін.**: рваць горла. *«Вось жа дзярэ горла, — з бяскрыўднай няўхвалай падумала Саша пра пастуха. — Дзяцей пабудзіць...»* Шамякін. *На ліпе пачала драць горла варона — каб хоць не на якую бяду, устрывожана падумала Сцепаніда.* Быкаў. *[Дружок] у плаўках на ўсю разлегласць горла дзёр...* Лужанін. *— Агата! Агата! — Ну чаго глотку дзярэш? — Скора зацірка згатуецца?* Бядуля.

**2.** *каму.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Рабіцца для каго-н. нязносным, нясцерпным. **Сін.**: станавіцца поперак горла *каму. Гэты кулацкі выкармыш устроіў Апейку спектакль, нібы бацькаў кулацкі хлеб дзярэ яму горла і ён кінуў бацьку!* Мележ.

**ДРА́ЦЬ (ЗАДЗІРА́ЦЬ) НО́С.** *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі важнічаць, зазнавацца, фанабэрыцца. **Сін.**: завысока ляцець; задзіраць хвост; капыліць нос; несці сябе высока; паднімаць хвост; распускаць <павіны> хвост; хварэць на пана (у 2 знач.). *[Францішак:] Ой, хлопча, не дзяры нос, шчасце зменліва.* Гарбацэвіч. *Я не хвалько і носа не задзіраю. Калі і задзірае хто нос, дык гэта ты.* Колас. *Перад меншым я носу не драў...* Багушэвіч.

**ДРА́ЦЬ (ЗДЗІРА́ЦЬ) СКУ́РУ (ШКУ́РУ, ТРЫ СКУ́РЫ, СЕ́М СКУ́Р)** *з каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. **1.** Бязлітасна эксплуатаваць, моцна прыгнятаць каго-н. **Сін.**: вазіць ваду *на кім*; высмоктваць сок *з каго, з чаго* (у 1 знач.); выціскаць пот *з каго* (у 1 знач.); выціскаць сокі *з каго*; піць кроў *з каго, чыю* (у 1 знач.); цягнуць гізунты *з каго*; цягнуць жылы *з каго*; цягнуць кішкі *з каго*; цягнуць сок *з каго. Ой, стары парадак, як ты назаляеш! Тузаеш ты, ломіш, скуру з нас здзіраеш.* Колас. *Паслухаўшы збоку ў такі час, можна падумаць, што ён [камандзір] з кожнага гатовы садраць скуру.* Быкаў. *У кулакоў хлеб ёсць, яны яго хаваюць, каб пасля здзіраць за яго тры шкуры.* Галавач.

**2.** Браць высокую цану за што-н., абіраць каго-н. **Сін.**: лупіць скуру *з каго* (у 2 знач.). *[Сымон:] Гэта здзірства! За бутэльку дзёгцю на раз боты вымазаць ты скуру дзярэш!* Чорны. *Я падумала, што яблыкі гэтыя будуць выносіцца на рынак, нямала там ружовых, як малінаўкі, гараджанак стаяць з яблыкамі і дзяруць з галодных тры скуры.* Шамякін. *Грошай на выкуп зямлі прыгонныя, вядома, не мелі. А за пазыку царская казна драла сем шкур.* Якімовіч.

**ДРА́ЦЬ КАЗЛА́.** *Незак. Праст. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Спяваць кепска, непрыемным галасам. *Забыўшыся, што мой голас не для песень, я таксама драў казла на ўсё горла.* Сабаленка. *Сцяпан Сцяпанавіч то «драў казла» — спяваў, то на поўную моц уключаў радыёпрыёмнік, танцаваў, абшчапіўшы дубовае крэсла.* Макаёнак.

**КАЗЛЫ́ ДРА́ЦЬ (ДЗЕ́РЦІ).** *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ванітаваць (часцей пры моцным ап'яненні). **Сін.**: ездзіў у Рыгу. *Што, брат Лявон, ці не казлы ты ўжо дзярэш? Эх ты, слабейка: выпіў, як куранё, а звіўся, як вуж, глытнуўшы жабу.* Колас. *— Ге-е, голубе, — кіўнуў Мультан, — на тое яна і вёска. Ты толькі што тут чарку збярэшся хільнуць, а ў Альшанах будуць ужо казаць, што ты дзве гадзіны, як казлы дзярэш.* Караткевіч. *Сторож станавога.. бачыў і пісара з пісарыхай, і правадыра з сабакам, як каля паркана ўсёй кампаніяй, шануючы вас, казлы дзёрлі.* Ядвігін Ш.

**РЭ́ДЗЬКУ ДРА́ЦЬ** *з кім, між кім. Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Злосна сварыцца. *Дубавец стаіўся, рашыў перачакаць. Няхай пойдуць Сямёнавы сыны — тады вышмыгне. Ён не жадаў паказвацца ім. З бацькам, з Сямёнам, значыцца, рэдзьку драў, а дзяцей цураўся.* Калодзежны. *Старыя ў іхнія справы не лезуць, рэдзькі між сабой не дзяруць, як у другіх сем'ях бывае.* Вpopановіч. *Жонка не хоча мыць мяне, аднекваецца, як можа, хоць мы рэдзькі між сабой не дзяром.* Юрчанка.

*ДРОБНЫМ* • **РАССЫПАЦЦА < ДРОБНЫМ > МАКАМ** *перад кім.* Гл. рассыпацца.

*ДРОБЯЗІ* • **РАЗМЕНЬВАЦЦА НА ДРОБЯЗІ**. Гл. разменьвацца.

*ДРОВЫ* • **ЛАМАЦЬ ДРОВЫ**. Гл. ламаць.
**ХТО Ў ЛЕС ХТО ПА ДРОВЫ**. Гл. хто.

*ДРОЗДЗІКА* • **ПАСКАКАЦЬ ДРОЗДЗІКА**. Гл. паскакаць.

*ДРОЎ* • **НАЛАМАЦЬ ДРОЎ**. Гл. наламаць.
**ЯК ДРО́Ў**. *У безас. ужыв. Разм.* Вельмі многа. Пра людзей і неадуш. прадметы. **Сін.**: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй чаго; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі кім, *каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго*. *Мішка, што патроны мне даў, казаў, што іх там як дроў налажылі. А партызан усяго шэсць забілі.* Кудравец. *У мае дачкі рыбы як дроў.* Янкоўскі.

*ДРОЦЕ* • **ЦЫРК НА ДРОЦЕ**. Гл. цырк.

*ДРУГАЯ* • **АДНА НАГА ТУТ, ДРУГАЯ ТАМ**. Гл. нага.
**ДРУГАЯ МАЛАДОСЦЬ**. Гл. маладосць.
**ДРУГАЯ НАТУРА**. Гл. натура.

*ДРУГІ* • **ДРУГІ БОК МЕДАЛЯ**. Гл. бок.
**ДРУГІ КАЛЕНКОР**. Гл. каленкор.
**НА ДРУГІ ПЛАН**. Гл. план.
**ЯК <ДРУГІ РАЗ> НА СВЕТ НАРАДЗІЎСЯ**. Гл. нарадзіўся.

*ДРУГІМ* • **ДРУГІМ РАЗАМ**. Гл. разам.
**НА ДРУГІМ ПЛАНЕ**. Гл. плане.

*ДРУГІМІ* • **ГЛЯДЗЕЦЬ ДРУГІМІ ВАЧАМІ** *на каго, на што*. Гл. глядзець.

*ДРУГІХ* • **ДА ДРУГІХ ПЕЎНЯЎ**. Гл. пеўняў.

**З ДРУГІХ ВУСНАЎ**. Гл. вуснаў.
**З ДРУГІХ РУК**. Гл. рук.

*ДРУГОГА* • **ДА ДРУГОГА ПРЫШЭСЦЯ**. Гл. прышэсця.
**З ДРУГОГА БОКУ**. Гл. боку.
**З ДРУГОГА ЦЕСТА <СПЕЧАНЫ>**. Гл. спечаны.
**СВЕТ ПРАЙДЗІ, ДРУГОГА НЕ ЗНОЙДЗЕШ** *такога*. Гл. прайдзі.

*ДРУГОЕ* • **АДНО НА ДРУГОЕ** *выходзіць* і пад. Гл. адно.
**ДРУГОЕ ДЫХАННЕ**. Гл. дыханне.
**У АДНО ВУХА ЎЛЯТАЕ, А Ў ДРУГОЕ ВЫЛЯТАЕ** *<у каго, каму>*. Гл. улятае.

*ДРУГОЙ* • **З ДРУГОЙ ОПЕРЫ**. Гл. оперы.

*ДРУГУЮ* • **ІГРАЦЬ ДРУГУЮ СКРЫПКУ** *ў чым*. Гл. іграць.

*ДРЫЖАЦЬ* • **ДРЫЖА́ЦЬ НАД КО́ЖНАЙ КАПЕ́ЙКАЙ (КАПЕ́ЙЧЫНАЙ)**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць вельмі скупым, празмерна ашчадным. *Цяпер толькі Крушынскі атрымаў ад роднага бацькі Сымона Чарнюка і ад дзядзькі ў Мінску сапраўдную спадчыну — скупасць, дрыжэў над кожнай капейкай.* Бядуля. *Калі нарадзілася маленькая дачка, Міхал яшчэ больш пачаў дрыжаць над кожнай капейчынай, каб назбіраць для Славы грошай.* Шкраба.
**КАЛЕНІ ДРЫЖАЦЬ** *у каго*. Гл. калені.

*ДРЫЖЫКІ* • **ПРАДАВАЦЬ ДРЫЖЫКІ**. Гл. прадаваць.

*ДРЫЗІНУ* • **У ДРЫЗІ́НУ** *<u>п'яны, напівацца</u>* і пад. *Акал. Праст. Неадабр.* Вельмі моцна. **Сін.**: да парасячага піску; да чорцікаў (у 2 знач.); у дым (у 1 знач.); у дыміну; як гразь; як зямля; як свіння. *[Чыж:] Мы зірк у трубу, глядзім — Мухін. П'яны ў дрызіну. Адсыпаецца.* Рамановіч.

*ДРЭВАМІ* • **ЗА ДРЭВАМІ НЕ БАЧЫЦЬ ЛЕСУ**. Гл. бачыць.

*ДРЭННА* • **ДРЭННА ЛЯЖЫЦЬ**. Гл. ляжыць.
**ЯЗЫК ДРЭННА ПАДВЕШАНЫ** *ў каго*. Гл. язык.

*ДРЭННАЙ* • **ВЯСЁЛАЯ МІНА ПРЫ ДРЭННАЙ ГУЛЬНІ**. Гл. міна.
**РАБІЦЬ ВЯСЁЛУЮ МІНУ ПРЫ ДРЭННАЙ ГУЛЬНІ**. Гл. рабіць.

*ДРЭНЧАЦЬ* • **ЧЭРЦІ ДРЭНЧАЦЬ** *каго*. Гл. чэрці.

*ДРЭЎ* • **З-ЗА ДРЭЎ НЕ БАЧЫЦЬ ЛЕСУ**. Гл. бачыць.

*ДУБ* • **СМАЛО́ВЫ (СМАЛЯНЫ́) ДУ́Б** *<u>плесці</u>*. *Адз. і мн. Дап. Разм. Іран.* Небыліцы, недарэчнасць. **Сін.**: грушу на вярбе *вярзці*. *Ці не перастаў бы ты смаловага дуба плесці?* Янкоўскі. — *З зямлёй, Піліп, відаць, не адразу... Так што ты надта не радуйся... — Дык чаго ты мне тутака смаляныя дубы плеў! — разгубіўся Макуха.* Шлег.

*ДУБА* • **ВАЛАСЫ СТАНОВЯЦЦА ДУБА** *ў каго*. Гл. валасы.
**ДАВАЦЬ ДУБА**. Гл. даваць.

*ДУБІНАЙ* • **КРУПІНА ЗА КРУПІНАЙ ГАНЯЕЦЦА З ДУБІНАЙ**. Гл. крупіна.

*ДУБКА* • **ВАЛАСЫ СТАНОВЯЦЦА ДУБКА** *ў каго*. Гл. валасы.

*ДУБКІ* • **У ДУБКІ ІСЦІ** *з кім*. Гл. ісці.

*ДУБОВАЯ* • **ДУБОВАЯ ГАЛАВА**. Гл. галава.

*ДУГІ* • **ГНУЦЬ ДУГІ**. Гл. гнуць.

*ДУГОЙ* • **КАСІЦЬ ДУГОЙ**. Гл. касіць.

*ДУГУ* • **ГНУЦЦА Ў ДУГУ** <*перад кім*>. Гл. гнуцца.

**ГНУЦЬ У ДУГУ** *каго*. Гл. гнуць.

**НЕ Ў ДУГЎ** <*каму*>. *Убезас. ужыв. Праст.* Зусім немагчыма, вельмі цяжка (зрабіць што-н.). **Сін.**: не пад сілу *каму* (у 1 знач.); не па каню воз; не па сеньку шапка <*для каго*>. *Ён — вочы ў столь: — Не ў нашай сіле! Я гаварыў — дапамагу, усё зраблю, што б ні прасілі, а тут — законы... Не ў дугу...* Лужанін. *На сон глядзелі нам у вочы зоры, і ранкам уставалі мы пад зорамі. Смяяліся зняверцы: — А-а, рамантыкі! Што, не ў дугу на палявых харчах?* Лукша. *[Анархіст:] Галадоўка — не для нас. Не ў дугу... нам, так сказаць. Нашы страўнікі супраць такога гвалту.* Шлег.

**НІ Ў ДУГЎ**. *Вык. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ніяк не згаджацца, рашуча пярэчыць. **Сін.**: ні ў якую. *[Харытон:] Брат Кірыла адрокся, сястра Вера адраклася, Мяфодзій Канцавы да нячысцікаў перакінуўся... [Мацей:] Мікіта заікасты ні ў дугу.* Петрашкевіч. — *Дарэмна дзед не запрог у работу. Дроў навазіў бы, напілаваў. — Няма дурных! Хай сам і навозіць, і напілуе... Ён да мяне пад'язджаў з гэтай просьбай. А я — ні ў дугу!..* Макарэвіч. *«Хай звычайную [школу] скончыць, а тады і сам выбера, калі які толк будзе». А маці ні ў дугу: «Няхай.. мой Эйнштэйн спачатку школу з матэматычным ухілам канчае, а пасля пагаворым пра здольнасці».* Гігевіч.

*ДУДЗЕ* • **І ШАВЕЦ І ЖНЕЦ І НА ДУДЗЕ ІГРЭЦ**. Гл. шавец.

*ДУДЗЕЦЬ* • **ДУДЗЕЦЬ У АДНУ ДУДКУ** *з кім*. Гл. іграць.

*ДУДКУ* • **ЗАЙГРАЦЬ У АДНУ ДУДКУ** *з кім*. Гл. зайграць.

**ЗАЙГРАЦЬ У ДУДКУ** *чыю, каго*. Гл. зайграць.
**ЗАСКАКАЦЬ ПАД ДУДКУ** *чыю, каго*. Гл. заскакаць.
**ІГРАЦЬ У АДНУ ДУДКУ** *з кім*. Гл. іграць.
**ІГРАЦЬ У ДУДКУ** *чыю, каго, каму*. Гл. іграць.
**СКАКАЦЬ ПАД ДУДКУ** *чыю, каго*. Гл. скакаць.

*ДУДОЙ* • **ТРЫМАЦЬ ХВОСТ ДУДОЙ**. Гл. трымаць.

*ДУДУ* • **І ШАВЕЦ І ЖНЕЦ І Ў ДУДУ ІГРЭЦ**. Гл. шавец.

*ДУДЦЫ* • **І ШАВЕЦ І ЖНЕЦ І НА ДУДЦЫ ІГРЭЦ**. Гл. шавец.

*ДУДЫ* • **І ДЎДЫ ВО́БЗЕМЛЮ**. *Убезас. ужыв. Разм.* Ужыв. звычайна ў канцы скл.-злуч. ск. На гэтым усё закончана. Пра канчатковую развязку чаго-н. **Сін.**: і дзела (справа) з канцом; і канцы ў ваду (у 2 знач.); і квіта, «пане» мікіта; і не знайся; канцы з канцамі; па ўсім. *Пайшоў сёння рана ў рэдакцыю. Думаў, пакуль там нікога няма, пісаць.. аднак жа ў рэдакцыі нічога не зрабіў, бо адразу найшло людзей. І пачаўся гармідар, і ўсе мае дуды вобземлю.* Чорны. *Помніцца маміна: «Усё, канец, і дуды вобземлю...» [Гэта] нашае, з Міршчыны, [гаворыцца] у поўным адчаі ці проста малайцавата.* Брыль.

*ДУЖ* • **ЯК ДЎЖ**. *Акал. Разм.* Вельмі хутка (бегчы, кідацца, уцякаць і пад.). **Сін.**: без аглядкі (у 1 знач.); без духу *бегчы*; без душы *бегчы*; без памяці (у 1 знач.); ва ўсе лапаткі (у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.); з усіх ног; колькі <было> духу; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на адным дыханні (у 1 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўвесь мах; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у 2 знач.); на ўсе ногі; на ўсіх парах; на ўсіх парусах; на ўсю моц (у 2 знач.); чуй дух; што ёсць духу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 2

знач.); як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як мага (у 1 знач.); як на крыллях; як на пажар; як падсмалены. **Ант.**: як чарапаха. *Старац як дуж шмаргануў у сенцы.* Чорны. *Піліпчык як дуж кінуўся следам за Міронам, уражаны, захоплены незвычайнымі падзеямі.* Лынькоў. *«Прасветнік» вымушаны быў спехам скласці свае паперы і як дуж уцякаць.* Місько.

*ДУЖА* • **<ДУЖА> НЕ РАЗГОНІШСЯ**. Гл. разгонішся.
**НЕ ДУЖА РАЗГОНІШСЯ**. Гл. разгонішся.

*ДУЖКАХ* • **У ДЎЖКАХ**. *Акал. Функц. не зам. Ужыв. пры дзеясл.-вык. зак. тр.* Не звяртаючы асаблівай увагі, мімаходам (заўважыць, сказаць, дадаць і пад.). **Сін.**: між іншым (у 1 знач.). *Скажу ў дужках і пра паэта. Калі не жар-птушку, не жураўля, а тлуста падсмажанае кураня пяе ён, то.. песня яго ўжо спета.* Вярцінскі. *Валерый апынуўся ў псіхіятрычнай бальніцы. Адным словам, даў згоду сюды прыехаць. Заўважым у дужках, што мог і не даць.* «ЛіМ».

*ДУЖКІ* • **ВЫНЕСЦІ ЗА ДУЖКІ** *чаго, каго, што. Зак. да* **ВЫНОСІЦЬ ЗА ДУЖКІ** *чаго, каго, што.*
**ВЫНОСІЦЬ ЗА ДУЖКІ** *чаго, каго, што.* Гл. выносіць.
**РАСКРЫВАЦЬ ДУЖКІ**. Гл. раскрываць.

*ДУЖЫ* • **ДУЖЫ ПОЛ**. Гл. пол.

*ДУЛІ* • **ВЕРАБ'ЯМ ДУЛІ ПАКАЗВАЦЬ**. Гл. паказваць.

*ДУЛЮ* • **ДЎЛЮ (КЎКІШ, ФІ́ГУ) З МА́КАМ**. *Праст. Груб.* **1.** *Дап.* Зусім нічога не (атрымаць, даваць і пад.). **Сін.**: гула асмаленая; дулю з маслам (у 1 знач.); курыную сісю і тую не ўсю; трасцу з хваробай (у 1 знач.). *Вы за гэта грошы аграбаеце з казны. А мне... дулю з макам даяце. Знайшлі дурня...* Каваленка. *На наступны год замест траскі тут аказаўся кукіш з маслам.* Корбан. *Бацька адслужыў Радзівілу і яго падпанкам больш як дваццаць гадоў. I што выслужыў? Фігу з макам!..* С.Александровіч.
**2.** *У знач. адмоўн. слова-ск.* Не, зусім не. Выказванне катэгарычнага адмаўлення, пярэчання і пад. **Сін.**: дулю з маслам (у 2 знач.); трасцу з хваробай (у 2 знач.). *«Войскі нашага фюрэра праз тры дні будуць у Маскве...» Брахня! Дулю з макам!* Савіцкі. *А каб прылашчыць, дык фігу з макам, перасылаюць адна да адной, нібы той футбольны мяч.* Зуб.
**ДЎЛЮ (КЎКІШ, ФІ́ГУ) З МА́СЛАМ**. *Праст. Груб.* **1.** *Дап.* Зусім нічога не (атрымаць, даваць і пад.). **Сін.**: гула асмаленая; дулю з макам (у 1 знач.); курыную сісю і тую не ўсю; трасцу з хваробай (у 1 знач.). *За гэтую аперацыю ўзнагароды атрымалі і непасрэдныя выканаўцы, і шэф Герфа фон дэм Бах. А Герфу — кукіш з маслам.* Новікаў. *— Абшастаў усе кнігарні, — выціраючы насавіком жоўты.. плеш, зашаптаў мой сусед. — Знайшоў фігу з маслам.* Аношкін.
**2.** У *знач. адмоўн. слова-ск.* Не, зусім не. Выказванне катэгарычнага адмаўлення, пярэчання і пад. **Сін.**: дулю з макам (у 2 знач.); трасцу з хваробай (у 2 знач.). — *У добраахвотнікі хай запішацца!.. — Дулю з маслам, на фронце ногі можна замачыць! — адгукнуўся другі.* Лобан.
**ДЎЛЮ ПАД НО́С** *каму. У знач. вык. Праст. Груб.* Зусім нічога не даць, не атрымаць. **Сін.**: фіндос пад нос *каму. Калі «Воля» ў перадавіках, дык ім усё, а мы адстаючыя, дык нам — дулю пад нос.* Шамякін. *[Каляда:] Сцеша ўсё лета спіну ў маёнтку гнула, а прыйшоў час разлічвацца, упраўляючы дулю пад нос — усе заробкі за мінулыя даўгі пайшлі...* Васілеўскі.
**З'ЕСЦІ ДУЛЮ**. Гл. з'есці.

**ПАКАЗВАЦЬ ДУЛЮ Ў КІШЭНІ**. Гл. паказваць.

*ДУМАК* • **НЕ ВЫХОДЗІЦЬ З ДУМАК** <*чыіх, у каго*>. Гл. выходзіць.

*ДУМАЦЬ* • **ТРЭБА ДУМАЦЬ**. Гл. трэба.

*ДУМАЮЧЫ* • **ДО́ЎГА НЕ ДУ́МАЮЧЫ**; **НЕ ДО́ЎГА ДУ́МАЮЧЫ**. *Акал. Разм. Ужыв. пры дзеясл.-вык. зак. тр.* Зараз жа, адразу, неадкладна (зрабіць што-н.). **Сін.**: з месца ў кар'ер; з плеч ды ў печ (у 3 знач.). *Каб праз тры секунды не было тут вашага паху, іначай пайду ў міліцыю... І пайшла ж... Ну, мы доўга не думаючы лахі пад пахі ды ходу.* Лынькоў. *Доўга не думаючы Чубар пачаў шастаць пад дрэвамі, растапыранымі пальцамі ўзрываючы зляжалыя пласты.* Чыгрынаў. *Я раптам успомніў Дняпро, лугі прыдняпроўскія лясы і не доўга думаючы сабраў у чамадан такія-сякія пажыткі ды рушыў на чыгуначную станцыю.* Лупсякоў.

*ДУМКА* • **ЗА́ДНЯЯ ДУ́МКА**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Скрыты намер, таемная задума. **Сін.**: далёкі прыцэл. *Дырэктар жа не проста частуе. Заднюю думку, відаць, мае, хоча дапамогі на экзамене ці што іншае...* Навуменка. *Што гэта? Тонкі разлік або наіўнасць? Але колькі я ні глядзеў на гэты перакрыўлены твар, я не мог заўважыць на ім нават водбліску нейкай задняй думкі.* Караткевіч.

*ДУМКАЙ* • **РАСЦЯКАЦЦА ДУМКАЙ ПА ДРЭВЕ**. Гл. расцякацца.

*ДУМКАМІ* • **ЗБІРАЦЦА З ДУМКАМІ**. Гл. збірацца.

*ДУМКАХ* • **НА ДУ́МКАХ (НА ДУ́МЦЫ)** *у каго. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Займае, захапляе каго-н., з'яўляючыся прадметам развag, меркаванняў, намераў і пад. **Сін.**: у галаве (у 2 знач.). **Ант.**: не ў галаве *каму* (у 1 знач.); не ў галаву *каму*. *Войту трэба прасачыць і выведаць, куды прапаў дзед Талаш і што ў яго на думках.* Колас. *[Голас старшыні:] Ты што? Думаеш, нанач да цябе прыйшоў? [Паўліна:] Бог вас ведае, што ў вас на думках.* Крапіва. *Ну, пэўна ж, пра таго спытаюся, што загубіўся недзе, што быў на думцы, як толькі я выбіраўся сюды, як толькі заходзіў у гэты пакой...* Брыль.

**ПЕРАБІРАЦЬ У ДУМКАХ** *каго, што*. Гл. перабіраць.

**У ДУ́МКАХ**. *Акал. Функц. не зам.* Мысленна (называць, лічыць, хваліць, лаяць і пад.). **Сін.**: сам з сабой (у 3 знач.); сам сабе (у 4 знач.); у галаве (у 1 знач.); у душы. *Мой родны кут, як ты мне мілы!.. Забыць цябе не маю сілы!.. К табе я ў думках залятаю і там душою спачываю.* Колас. *Вось прайшоў ён [Арцём] сёння ў думках увесь свой жыццёвы шлях.* Самуйлёнак. *Я лавіў сябе на тым, што лаю ў думках шафёра.* Быкаў. *[Мірон] у думках хваліў Петрака за тое, што той не шукаў жонку далёка, а ўзяў сваю, слабадскую.* Кудравец.

*ДУМКІ* • **БЕЗ ЗА́ДНЯЙ ДУ́МКІ**. *Акал. Функц. не зам.* Шчыра, без скрытага намеру (казаць, рабіць што-н.). *Ніхто не скажа без задняй думкі, што Лазар — дрэнны гаспадар.* Гартны. *Па ўсім было відаць: Васіль Пятровіч нагаварыў у рэстаране лішняга, і Барушка не без задняй думкі ўвязаўся за ім.* Карпаў.

*ДУМКУ* • **ПРЫХОДЗІЦЬ НА ДУМКУ** *каму*. Гл. прыходзіць.

**УЗБРЫСЦІ НА ДУМКУ** *каму*. Гл. узбрысці.

*ДУМЦЫ* • **НА ДУМЦЫ** *ў каго*. Гл. думках.

*ДУНАЙ* • **ЯК ДУНА́Й**. *Разм. Адабр.* **1.** *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. адуш., канкр. і абстр. прадмета. Цудоўны, моцны. **Сін.**: як на заказ. *Цяпер гаспадарка ў нас як дунай,*

*а даўней, расказваюць людзі, дык не было за што рук зацяць.* Лёсік. *Паглядзіце: хлопец як дунай; дзе такому пару падбярэш...* Цыхун.

**2.** *Акал.* Цудоўна, надзвычайна, найлепшым чынам. **Сін.**: на поўную катушку (у 1 знач.); па ўсіх правілах; чын па чыну; чын чынаром; чэсць па чэсці; як мае быць (у 1 знач.). *І гаспадарка з часам зацвіла і загула як дунай. Цяпер, куды ні зірнеш, на што вокам ні кінеш — усё голасна сведчыць, што гэта заможная гаспода, што жыве тут старанны, працавіты гаспадар.* Лёсік. *Пшаніца як дунай вырасла, вуж не пралезе.* Цыхун.

*ДУР* • **ВЫБІВАЦЬ З ГАЛАВЫ ДУР** *у каго, чыёй.* Гл. выбіваць.
**ВЫКІДАЦЬ ДУР З ГАЛАВЫ** <*якую*>. Гл. выкідаць.

*ДУРА* • **ГУБА НЕ ДУРА** *ў каго.* Гл. губа.

*ДУРАНЬ* • **НЕ ДУ́РАНЬ**. *Часцей вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вялікі аматар, ахвотнік (выпіць, паесці і пад.). *Заглядаў сюды.. дзед-стораж з чырвоным носам — табаку зажываў ды ў гарэлцы быў не дурань.* Колас. *Марыся памятала, хто любіць піва, а хто да малака не дурань.* Карамазаў. *Трэба ж яго апрануць па апошняй модзе, ды і выпіць ён не дурань...* «Чырв. змена».

<u>Хадзіць, насіцца, цягацца</u> і пад. **ЯК ДУ́РАНЬ СА СТУ́ПАЙ (З ДЗВЯРА́МІ)**. *Акал. Праст.* Бяссэнсава, недарэчна. — *Адзін разочак цюкнула ў плячо, — засмяяўся Мікола, — а колькі марокі. Нашуся як дурань са ступай.* Брыль. *І будзеш хадзіць з клункам як дурань са ступаю па ўсім горадзе і клясці на чым свет стаіць суседзяў сваіх, што яны нагрузілі цябе, не раўнуючы, бы таго вярблюда.* Сачанка. *Мы пайшлі з самага дома пешшу. Як дурань з дзвярыма цягнулася я з ім праз усё Бярозава...* Гігевіч.

<u>Цягаць, насіць</u> **ЯК ДУ́РАНЬ СТУ́ПУ (ДЗВЕ́РЫ)**. *Акал. Праст.* Бяссэнсава, недарэчна. — *Вунь шула ад брамы засталося, бачыш. Не буду перакопваць. — Ерунда, Нілка, тваё шула... — Сам ты ерунда! — крыкнула Нілка. — Бабы будуць дубовае шула цягаць як дурань ступу...* Мыслівец. *Як толькі выхадны, цягні сам па вуліцу пяціпудовы дыван і ляпай па ім палкаю, а потым зноў цягні яго як дурань дзверы аж на пяты паверх.* Гігевіч.

<u>Насіцца</u> **ЯК (НІБЫ́) <ДУ́РАНЬ> З ПІ́САНАЙ ТО́РБАЙ**. *Акал. Праст.* Незаслужана ўдзяляючы шмат увагі каму-, чаму-н. **Сін.**: як курыца з яйкам. *Цімох.. напужаў і здзівіў маці з дачкою, што ён носіцца з гэтым гармонікам як дурань з пісанай торбай.* Казько. *Член камісіі гісторык Анучанка.. нібы дурань з пісанай торбай носіцца з пісьмом Барвашчокавай.* Навуменка. *Вось і чашуся цяпер з гэтым, па праўдзе кажучы, цікавым сакрэтам як з пісанай торбай.* Бядуля. *А мы і так ужо занадта цацкаемся з Алесем, носімся з ім як з пісанай торбай, пахіхікваем з яго дзівацтваў, розных выбрыкаў, тым самым, па сутнасці, расцвельваем, падахвочваем яго.* Прыгодзіч.

*ДУРАСЦЬ* • **ВЫБІВАЦЬ З ГАЛАВЫ ДУРАСЦЬ** *у каго, чыёй.* Гл. выбіваць.
**ВЫКІДВАЦЬ ДУРАСЦЬ З ГАЛАВЫ** <*якую*>. Гл. выкідаць.

*ДУРАТУ* • **ВЫБІВАЦЬ З ГАЛАВЫ ДУРАТУ** *ў каго, чыёй.* Гл. выбіваць.
**ВЫКІДАЦЬ ДУРАТУ З ГАЛАВЫ** <*якую*>. Гл. выкідаць.

*ДУРНЕМ* • **НЕ БУДЗЬ ДУРНЕМ**. Гл. будзь.

*ДУРНІ* • **ПАШЫЦЦА Ў ДУРНІ**. Гл. пашыцца.

*ДУРНІЦУ* • **НА ДУРНІ́ЦУ (НА ДУРНІ́ЧКУ)**. *Акал. Праст. Неадабр.* **1.** Хітруючы, нічога не робячы (жыць, пражыць і пад.). *Усё. Сказалі, каб вучыўся, на будучае.. [спатрэбіцца]. Хопіць на дурніцу хлеб есці.* А.Жук. *Ну, пра Сеньку ты ж, відаць, крыху чуў. На ўсё наша сяло вырадак. Увесь час так і цаляе, каб на дурнічку, нічога не робячы, пражыць.*

Краўчанка. — *Адкуль яны [прыезджыя] у вас?.. — Ды з усяго, можна сказаць, свету. Як выганяць каго адкуль, дык і шукае, дзе б нічога не рабіць, а грошы палучаць, жыць лёгка, на дурнічку.* Сачанка.

**2.** Бясплатна, дарэмна, нічога не плацячы (выпіваць, рабіць што-н.). **Сін.**: за дзякуй; за прыгожыя вочы; за так (у 1 знач.). *[Жора:] Усе вы добрыя піць на дурніцу!..* Петрашкевіч. *Саша рады быў, што перапала на дурніцу выпіць «белае».* А.Жук. *«Я-то не дурны, але і ты не лыкам шыты... — думаў Казік, ідучы дахаты. — Бач, які хітры, сталярку яму зрабі на дурніцу...»* Дайліда.

*ДУРНІЧКУ* • **НА ДУРНІЧКУ**. Гл. дурніцу.

*ДУРНОГА* • **ПАДВОДЗІЦЬ ПАД ДУРНОГА ХАТУ** *каго.* Гл. падводзіць.

*ДУРНЫ* • **ДУРНЫ ПОП ХРЫСЦІЎ** *каго.* Гл. поп.

**ЯК ДУРНЫ́ НА ПАМІ́НКАХ** <u>*есці, наесціся*</u> і пад. *Акал. Прост. Неадабр.* Залішне, больш, як трэба. **Сін.**: ад пуза ( у 1 знач.); да адвалу; еш не хачу *чаго*; за трох дурных; колькі душа жадае; колькі ўлезе (у 1 знач.); на поўную губу (у 1 знач.); на ўсю губу; не ў свой дух; хоць жывот расперажы; хоць расперажыся; як на дзяды (у 1 знач.); як не ў сябе; як у прорву. *Наеўшыся, паляпаў сябе па жываце: — Нажэрся як дурны на памінках, — і тут жа, пераходзячы на сур'ёзны тон, тлумачыў: — На памінках звычайна не ядуць, туды збіраюцца, каб аддаць апошнюю даніну памяці нябожчыка.* Федарэнка.

*ДУРНЫХ* • **ЗА ТРО́Х (СЕ́М) ДУРНЫ́Х** <u>*есці, з'есці*</u>. *Акал. Прост. Неадабр.* Вельмі многа, ненасытна. **Сін.**: ад пуза (у 1 знач.); да адвалу; еш не хачу *чаго*; колькі душа жадае; колькі ўлезе (у 1 знач.); на поўную губу (у 1 знач.); на ўсю губу; не ў свой дух; хоць жывот расперажы; хоць расперажыся; як дурны на памінках; як на дзяды (у 1 знач.); як не ў сябе; як у прорву. *[Цімох:] Разбегліся, а потым ужо васьмёх прыйшлі, такія во — кожны за трох дурных можа з'есці і выпіць. Аблажылі мяне, далі на сон, ледзь не задыхнуўся...* Брыль. *Я ўжо «хадзячы», і сам хаджу ў сталоўку. Але ядун з мяне яшчэ слабы. У бальніцы і шпіталях нячаста ўбачыш такіх, каб мялі за сталом за сем дурняў.* Місько.

**НЯМА ДУРНЫХ**. Гл. няма.

*ДУРНЯ* • **ВАЛЯЦЬ ДУРНЯ**. Гл. валяць.

**ЗНАЙШОЎ ДУРНЯ**. Гл. знайшоў.

**КОРЧЫЦЬ ДУРНЯ**. Гл. корчыць.

*ДУРНЯЎ* • **БЕЗ ДУ́РНЯЎ**. *Акал. Прост.* Зусім сур'ёзна, не падманваючы (рабіць, гаварыць і пад.). **Сін.**: без жартаў. *Захацеў селянін, фермер купіць трактар, камбайн, сеялку, плугі — прадай хлеб, выручы грошы і на іх купляй сабе ўсё, што трэба табе для работы і развіцця. Усё, як кажуць, па-чэснаму, без дурняў.* «Звязда». — *Дык як жа будзем будаваць камунізм?.. — Без дурняў!* Макаёнак. — *Забавы — рухавік прагрэсу... Сапраўды? — Без дурняў. Што крычаў плебас у Старажытным Рыме? Хлеба і забаў. Гэта базавыя каштоўнасці, арыенціры.* «Маладосць».

**НЯМА ДУРНЯЎ**. Гл. няма.

*ДУРНЯХ* • **У ДУ́РНЯХ** <u>*заставацца (застацца), апынуцца, пакідаць (пакінуць)*</u>. *Акал. Разм.* У недарэчным, смешным становішчы. *Васіль, астаўшыся ў дурнях, падаў выгляд, што не заўважыў гэтага, але пільна сачыў за Рыгорам, пакуль той не пакінуў зборні.* Гартны. *Давай, пакуль ёсць час, абмазгуем усё. Каб не застацца ў дурнях.* Быкаў. *Каб не апынуцца ў дурнях, не адбіць ад сябе веруючых, каб палажыць лапу на Альяшова багацце, духавенства вырашыла дзейнічаць.* Карпюк. — *Каго ты хочаш у дурнях пакінуць? — зняважліва пытае пісар.* Колас.

*ДУРЫЦЬ* • **ДУРЫ́ЦЬ (ТЛУМІ́ЦЬ, МАРО́ЧЫЦЬ, ЧМУРЫ́ЦЬ, ЧМУЦІ́ЦЬ) ГАЛАВУ́ (ГАЛО́ВЫ)** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** Знарок падманваць каго-н. **Сін.**: абводзіць вакол пальца *каго*; абуваць у лапці *каго*; бакі забіваць *каму*; браць на арапа *каго*; браць на бога *каго*; браць на вудачку *каго*; браць на пушку *каго*; вадзіць за нос *каго*; вешаць лапшу <на вушы> *каму*; віляць хвастом (у 1 знач.); выводзіць у поле *каго*; гнуць дугі; гуляць у ката і мышку; задурыць галаву *каму* (у 3 знач.); замазваць вочы *каму*; замыльваць вочы *каму*; запраўляць арапа; кампасціраваць мазгі *каму*; корчыць дурня (у 1 знач.); круціць хвастом (у 1 знач.); муціць галаву *каму*; настаўляць акуляры *каму*; прадаць *каго* і грошы палічыць; пудрыць мазгі *каму*; пускаць пыл у вочы *каму*; сляпіць вочы *каму* (у 1 знач.); травіць баланду (у 2 знач.); туманіць вочы *каму*; туманіць галаву *каму*. *— А вой, а вой, з гэтай нарыхтоўкай! Дык я ж мо ўжо здала? — Не дуры галавы!* Лобан. *Што тая Тхорыха ведае, знахарка знайшлася... От, тлуміць людзям галовы...* Сачанка. *Марочыш галаву... Няўжо ты такі пень, што не разумееш?..* Навуменка. *— Ты не чмуры мне галаву, — пачала злаваць маці. — Якая ў цябе небяспека? — Будзе небяспека — скажу.* Новікаў. *[Багатыя] чмуцяць вам галовы праз цэрквы і школы, што гэтак і павінна быць, палохаюць вас карамі ў пекле, каб вы былі паслушнымі і пакорнымі...* Колас.

**2.** Надакучваць глупствам, чапляцца да каго-н. з дробязямі. **Сін.**: адурыць галаву *каму*; азяліць галаву *каму, чыю*; надурыць галаву *каму* (у 2 знач.). *Не дзіця, а нейкая слата! Ідзі дадому! Чаго ты дурыш галаву?* Баранавых. *Пры староннім жа чалавеку ні пагаварыць, ні падрамаць нельга, а якая-небудзь старая яшчэ пачне галаву тлуміць сваімі скаргамі.* Грахоўскі. *[Андрэй:] Ат, не мароч ты мне галавы, Жэня!* Козел.

**ДУРЫ́ЦЬ (ТЛУМІ́ЦЬ) САБЕ́ ГАЛАВУ́**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Думаць, разважаць пра каго- ці што-н., турбуючыся і непакоячыся. *Многія калгасы жадаюць пераўтварыцца ў саўгасы — цалкам легчы на дзяржаву і не дурыць сабе галаву.* Шаўцоў. *Таму ў яго развагі ішла думка, што заехаць у школу, можа быць, варта хоць дзеля таго, каб не тлуміць сабе лішне галаву, вызваліцца такім чынам ад непатрэбшчыны.* Мележ. *Каруся першы раз не тлуміла сабе галавы галасамі галоднай гаспадаркі. Заціхла ля Рыгоравай галавы.* Яновіч.

*ДУХ* • **БАВІЦЬ ДУХ** <*чым*>. Гл. бавіць.

**ВЫМОТВАЦЬ ДУХ** *каму*. Гл. вымотваць.

**ДУ́Х ВО́Н** *з каго. У безас. ужыв. Праст.* Хто-н. памёр (часцей раптоўна, імгненна). **Сін.**: бог прыбраў *каго*; дух выйшаў *з каго, у каго*; душа вон *з каго* (у 1 знач.); магіла возьме *каго*; перастала біцца сэрца *каго*. *А другі, яшчэ як увойдзе ў ролю, дык таго і глядзі, што садане табе пад дыхавіцу, і дух з цябе вон.* Лынькоў. *[Сузон:] Хто яго ведае, калі тое чалавечае жыццё пачнецца. А пакуль яно пачнецца, з мяне і дух вон.* Галавач.

**ДУХ ВОН** <*з каго*> **І КІШКІ НА ТЭЛЕФОН**. Гл. душа.

**ДУ́Х ВЫ́ЙШАЎ (ВЫ́ЛЕЦЕЎ, ВЫ́СКАЧЫЎ)** *з каго, у каго. У безас. ужыв. Праст.* Хто-н. памёр (часцей раптоўна, імгненна). **Сін.**: бог прыбраў *каго*; дух вон *з каго*; душа вон *з каго* (у 1 знач.); магіла возьме *каго*; перастала біцца сэрца *каго*. *Нашто ты з немцам гаворыш? З немцам не трэба гаварыць. Яго трэба біць, пакуль дух з яго не выйдзе.* Чорны. *Ты яго адразу па мазгаўні, з яго і дух вылеціць...* Лынькоў. *Калі няма разумніка другога, пабіцца каб удвух, дык ён [Баран] разгоніцца ды ў сцену — бух! У іншага дык выскачыў бы дух, а ён — нічога.* Крапіва.

**ДУХ ВЫПУСЦІЦЬ**. Гл. выпусціць.

**ДУХ СПУСКАЦЬ**. Гл. спускаць.

**ЗАБІВАЕ ДУХ** *каму*. Гл. забівае.

**ЗАБІВАЦЬ ДУХ** *каму*. Гл. забіваць.

**ЗАЙМАЕ ДУХ** *у каго*. Гл. займае.

**<I> НА ДУ́Х** *не пераносіць, не выносіць* і пад. *Акал. Разм.* Рашуча, неаспрэчна, катэгарычна. *Мая жонка поедам есць з-за курыва. На дух не пераносіць.* Казлоў. *Усе ў доме ведалі, што Валя на дух не выносіць п'яніц, асабліва жанчын.* Рыбнік.

**НА (ВА) УВЕ́СЬ ДУ́Х** *бегчы, пабегчы, імчаца, кінуцца* і пад. *Акал. Разм.* Вельмі хутка, з вялікай скорасцю. **Сін.**: без аглядкі (у 1 знач.); без духу *бегчы*; без душы *бегчы*; без памяці (у 1 знач.); ва ўсе лапаткі (у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.); з усіх ног; колькі <было> духу; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на адным дыханні (у 1 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь мах; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у 2 знач.); на ўсе ногі; на ўсіх парах; на ўсіх парусах; на ўсю моц (у 2 знач.); чуй дух; што ёсць духу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 2 знач.); як дуж; як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як мага (у 1 знач.); як на крыллях; як на пажар; як падсмалены. **Ант.**: як чарапаха. *[Мялешка] любіў радаснае пачуццё пераможцы, калі на ўвесь дух ляціш з саду, ведаючы, што небяспека мінула, а наперадзе асалода — пазуха яблык...* Навуменка. *І адразу ўзяў разгон напрасткі хлапчына, на ўвесь дух імчыцца ён...* Вітка. *З таго канца вуліцы, адкуль ішоў дзед Талаш, бяжыць ва ўвесь дух падлетак гадоў шаснаццаці.* Колас. *Шэсць чалавек ва ўвесь дух імчацца назад па дарозе.* Чорны.

**НЕ Ў СВО́Й ДУ́Х** *есці*. *Акал. Разм.* Вельмі многа, ненасытна. **Сін.**: ад пуза (у 1 знач.); да адвалу; еш не хачу *чаго*; за трох дурных; колькі душа жадае; колькі ўлезе (у 1 знач.); на поўную губу (у 1 знач.); на ўсю губу; хоць жывот распеas pражы; хоць распяражыся; як дурны на памінках; як на дзяды (у 1 знач.); як не ў сябе; як у прорву. *[Мікола:] Пра ежу забываем — хутка з цябе косці тырчэць будуць!.. Я, калі яшчэ малады быў і бегаў за дзеўкамі, не ў свой дух еў...* Галубок.

**НЯЧЫ́СТЫ ДУ́Х**. *Мн. не ўжыв. Дзейн. ці дап.* Чорт, д'ябал. **Сін.**: нячыстая сіла. *[Зёлкін — знянацку:] Добры дзень, цёця Каця! [Цёця Каця — спалохана:] Цьфу ты, нячысты дух! Выбачайце, таварыш Зёлкін. Гэта ж вы так мяне спалохалі.* Крапіва. *Трэба сказаць ёй [сястры], каб яна ў гэтую падзею ўвяла нячыстага духа.* Чарнышэвіч.

**ПАДЦЯГВАЛА ДУХ** *каму, у каго*. Гл. падцягвала.

**ПЕРАВОДЗІЦЬ ДУХ**. Гл. пераводзіць.

**У АДЗІ́Н ДУ́Х**. *Акал. Разм.* **1**. Аднадушна, дружна, згодна (гаварыць, сцвярджаць і пад.). **Сін.**: у адзін голас (у 2 знач.); у <адно> слова. *Стаў [Прылепка] гнаць гарэлку. Зноў жа, усе гаварылі ў адзін дух, што і апарат, і гарэлка не Прылепкавы, а Выжлікавы. Ды і гнаць у Прылепкі няма з чаго.* Дуброўскі. *Затым усе трое закурылі і ў адзін дух сталі аб нечым гаварыць і смяяцца.* Масарэнка.

**2**. *Ужыв. пры дзеясл.-вык. зак. тр.* Вельмі хутка (зрабіць што-н.). **Сін.**: адным духам (у 2 знач.); адным махам; за адзін прысест; з аднаго маху. *Хрысця пераскочыла вузенькі, зацягнуты сінявататаю смугою плеўкі раўчачок і ў адзін дух узбегла на высокі, падрэзаны рэчкаю груд.* Адамчык.

**ЧУЙ ДУХ**. Гл. чуй.

**ЧУЦЬ ДУХ** *чый*. Гл. чуць.

*ДУХАМ* • **АДНЫ́М ДУ́ХАМ**. *Акал. Разм. Ужыв. пры дзеясл.-вык. зак. тр.* **1**. Адразу, за адзін прыём (выпіць; сказаць). *Адным духам усе спаражнілі посуд.* Сабаленка. — *Зёлачка, Шаляпін прыязджае! — крыкнуў адным духам [студэнт].* Цётка.

**2.** Вельмі хутка (зрабіць што-н.). **Сін.**: адным махам; за адзін прысест; з аднаго маху; у адзін дух (у 2 знач.). *Трэба было адным духам адвязаць пад вадой кошык і вынесці напаверх.* Маўр. *Да хутарка прымчалі адным духам.* Аношкін.

**ЗАНЕПАДАЦЬ ДУХАМ**. Гл. занепадаць.

**ЗБІРАЦЦА З ДУХАМ**. Гл. збірацца.

**НІ СНОМ НІ ДУХАМ**. Гл. сном.

**ПАДАЦЬ ДУХАМ**. Гл. падаць.

**СВЯТЫ́М ДУ́ХАМ**. *Акал. Разм. Жарт.-іран.* **1.** Нічога не еўшы (жыць). *А нам жа і начаваць дзесьці трэба, і есці штосьці — святым духам жыць не будзеш?* Сачанка. *Ды і пасрэднікі гэтыя не святым духам жывуць, за сваё стаpанне яны таксама сабе бяруць.* Каваленка. *Усе есці хочуць. Дай ды дай. Святым духам жыць не будзеш.* Цяжкі.

**2.** Нібы само сабой, невядома як (рабіць што-н., робіцца што-н.). *А хто яе [чуму] занёс сюды, хачу я ў вас запытаць?.. Святым духам? Не, святым духам яна не прыйшла сюды!* Лобан. *На тваю думку, Ігнат Дамінікавіч, качай цябе качкі, можа, і зусім не трэба ніякага запасу? Няхай пчолы харчуюцца святым духам!* Мяжэвіч. — *Ціха, — просіць іх Скок, — будзе лес. Усім будзе. Толькі ж не ўсё святым духам робіцца. Не ўсё адразу.* Сяркоў.

*ДУХІ* • **АДДАВАЦЬ ДУХІ**. Гл. аддаць.

**ВЫМАЦЬ ДУХІ** *з каго, каму.* Гл. вымаць.

**ВЫМОТВАЦЬ ДУХІ** *каму.* Гл. вымотваць.

*ДУХОНІНА* • **АДПРАВІЦЬ У ШТАБ ДУХОНІНА** *каго.* Гл. адпраўляць.

*ДУХУ* • **БЕЗ ДУ́ХУ**. *Разм.* **1.** *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Мёртвы. **Сін.**: без душы (у 1 знач.). *«Ох, саколік! Ох, Андрэй! Па Агату йдзі скарэй!» Пакуль той прывёў шаптуху, дык Улюта ўжо без духу.* Крапіва. *Яшчэ раз мне [стрэльба] паслужыць!.. Будзе гад [мядзведзь] без духу!* Лучына.

**2.** *Акал.* У знямозе ад хуткага бегу. *Бег [бядак], не помню куды, азірнуўся толькі тады, як без духу прыпёрся ўжо к нейкай пярэплаці.* Галубок.

**БЕЗ ДУ́ХУ** *бегчы, уцякаць* і пад. *Акал. Разм.* Вельмі хутка, як толькі можна. **Сін.**: без аглядкі (у 1 знач.); без душы *бегчы*; без памяці (у 1 знач.); ва ўсе лапаткі (у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.); з усіх ног; колькі <было> духу; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на адным дыханні (у 1 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўвесь мах; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у 2 знач.); на ўсе рукі; на ўсіх парах; на ўсіх парусах; на ўсю моц (у 2 знач.); чуй дух; што ёсць духу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 2 знач.); як дуж; як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як мага (у 1 знач.); як на крыллях; як на пажар; як падсмалены. **Ант.**: як чарапаха. *Гарачка дзядзьку так і носіць, бяжыць, тхара ён даганяе, напагатове кол трымае. За дзядзькам Костусь прэ без духу.* Колас. *Маўклівыя і суровыя, яны [плытнікі] ведалі бадай усе імклівыя перакаты дзвюх вялікіх рэк ад Турава да Чорнага мора, без духу пралятaлі сярод грозных дняпроўскіх парогаў.* Паслядовіч.

**ДУХУ НЕ ЎКАЗАЦЬ**. Гл. указаць.

*Біць* **І ДУХУ СЛУХАЦЬ**. Гл. слухаць.

**КАБ <І> ДУХУ НЕ БЫЛО** *чыйго <дзе>.* Гл. было.

**КОЛЬКІ <БЫЛО> ДУХУ**. Гл. было.

**НАБІРАЦЦА ДУХУ**. Гл. набірацца.

**НЕ Ў ДЎХУ**. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У дрэнным настроі, не ў гуморы. **Сін.**: не ў сваёй талерцы (у 1 знач.); хмара хмарай. *Старшыня валаснога выканаўчага камітэта быў сёння нешта не ў духу.* Чарот. *Не ў духу прыйшоў у праўленне Жыравінка. — Пабяжы Мікуліку скажы, каб машыну падагнаў, — сказаў Гарасю.* Лобан. *Калі Сінічкін быў не ў духу, сердаваў, то гэтыя скулы хадуном хадзілі.* Хомчанка.

**НІ СЛУХУ НІ ДУХУ**. Гл. слуху.

**ПАДДАВАЦЬ ДУХУ** *каму*. Гл. паддаваць.

**ШТО́ ЁСЦЬ (БЫЛО́) ДЎХУ**. *Акал. Разм.* **1**. Вельмі хутка (бегчы, уцякаць, ляцець і пад.). **Сін.**: без аглядкі (у 1 знач.); без душы *бегчы*; без памяці (у 1 знач.); ва ўсе лапаткі (у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.); з усіх ног; колькі <было> духу; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на адным дыханні (у 1 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўвесь мах; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у 2 знач.); на ўсе ногі; на ўсіх парах; на ўсіх парусах; на ўсю моц (у 2 знач.); чуй дух; што ёсць сілы (у 2 знач.); як дуж; як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як мага (у 1 знач.); як на крыллях; як на пажар; як падсмалены. **Ант.**: як чарапаха. *[З хаты] што ёсць духу першым выскачыў чатырнаццацігадовы Пілiпка.* Краўчанка. *Услед за Томай на двор выбягае Слаўка, і яны што ёсць духу ўцякаюць ад разгневанага Фафана.* Гардзей. *Хрысця вопрамеццю, забыўшыся ўжо пра ўсё, і пра сваю работу, і пра свой клопат, што было духу вылецела з палаты.* Адамчык.

**2**. Вельмі моцна (крычаць, гарлапаніць і пад.). **Сін.**: благім матам; з усіх жыл (у 2 знач.); колькі <было> сілы (у 3 знач.); на поўную сілу (у 3 знач.); на поўныя грудзі (у 2 знач.); на ўвесь голас (у 1 знач.); на ўвесь свет (у 1 знач.); на ўсе грудзі (у 2 знач.); на ўсе застаўкі (у 1 знач.); на ўсё горла; на ўсю глотку; на ўсю іванаўскую (у 1 знач.); на ўсю моц (у 3 знач.); немым голасам; не сваім голасам; што ёсць сілы (у 3 знач.); <як> іерыхонская труба (у 2 знач.); як недарэзаны; як рэзаны. *Якісьці Певень-басурман ускочыў з лёту на паркан; залопаў крыллямі, загарлапаніў што ёсць духу: — Ку-ка-рэ-ку-у!* Э.Валасевіч.

**ЯК НА ДУХЎ**. *Акал. Разм.* Вельмі шчыра, нічога не ўтойваючы (гаварыць, прызнавацца, расказваць, выкладваць і пад.). **Сін.**: паклаўшы руку на сэрца; як на споведзі; як перад богам. *[Старая:] Бяжы хуценька, заві сына і скажы яму, хай як на духу прызнаецца перад бацькам, хай просіць.* Макаёнак. *Міхал праводзіў яе дадому. Па дарозе расказваў пра сябе, усё як на духу выклаў перад Зінаю.* Арабей. *Прызнаюся, як на духу раскажу, што і як было...* Сачанка. *— Ну... ты мне — як на духу, — пачала насядаць старая. — Не ўвільвай. Грэх таіцца ад маткі.* Карамазаў.

*ДУША* • **ДУША́ ВО́Н** *з каго. Праст.* **1**. *У безас. ужыв.* Хто-н. адразу, раптоўна памёр. **Сін.**: бог прыбраў *каго*; дух вон *з каго*; дух выйшаў *з каго, у каго*; магіла возьме *каго*; перастала біцца сэрца *каго*. *— Багацеюць людзі — На чым?.. — На вавёрках. Гэтым ражном — каб ён у іх па плячах хадзіў — выпаруць вавёрку з дупла, стрэльбу ускінуць і... душа з яе вон.* Карамазаў.

**2**. *У знач. пабоч. сл.* Выказванне абурэння кім-н., настойлівага патрабавання зрабіць што-н., пажадання смерці каму-н. і інш. *[Дабрыян:] Ёсць такія, што за горла бяруць: давай неўміручасць, душа з цябе вон.* Крапіва.

**ДУША́ (ДЎХ) ВО́Н** <*з каго*> **І КІ́ШКІ (ЖЫ́ЛЫ) НА ТЭЛЕФО́Н**. *У безас. ужыв. Праст. Груб.* Хто-н. будзе сурова пакараны. Часцей як пагроза. *Колька, толькі бліснуў на яго знішчальным позіркам, маўляў, глядзі, лайдак, абібочына, а калі што якое, дык душа з цябе вон і кішкі на тэлефон...* Дайнека. *[Моцкін:] Ты цяпер павінен за суткі здаць*

*хлеб і вярнуць свае распіскі. [Калібераў:] Не зробіш — дух вон, жылы на тэлефон!* Макаёнак.

<u>*Што, чаго, куды*</u> і інш. **ДУША́ ЖАДА́Е (ПАЖАДА́Е).** *У безас. ужыв. Разм.* Часцей ужыв. пасля займ. *усё (усяго).* (Што і інш.) захочацца. *[Караўкін:] У вас заўсёды будзе, што душа жадае.* Крапіва. *Гукні толькі, і паявіцца на абрусе ўсё, што пажадае душа.* Асіпенка. *«Абсталяваўся б, — кажу, — дома. Во як Пятрок... Цяпер усяго, чаго душа жадае, і дома хапае...»* Паўлаў. *Не шкадуй грошай, купляй і еш усё, чаго душа пажадае. Ты ж — на курорце.* Капусцін.

**ДУША́ КІПІ́ЦЬ** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. ахоплены парывам пачуццяў, адчувае моцнае хваляванне. *[Леанарда:] Доктар! Душа ў мяне кіпіць... Я многа думаў, доктар, у час хваробы, калі душа мая на валаску вісела...* Клімковіч. *[Васіль:] Работу мне па душы... Каб душа кіпела!* Макаёнак.

**ДУША́ МО́ХАМ АБРАСЛА́** *у каго. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. стаў бяздушным, неспагадлівым, абыякавым. **Ант.**: душа крывёй абліваецца *чыя, у каго*; душа разрываецца <на часткі > *чыя, у каго*; сэрца пераварочваецца *ў каго*; сэрца рвецца з грудзей *у каго*; сэрца сціскаецца *ў каго <ад чаго>. Паглядзець трэба так, каб у яго мурашкі па спіне папаўзлі. А ці папаўзуць у такога бандыта, у якога душа, напэўна, мохам абрасла?* Шамякін. — *Гэта не мужчына, а слізняк! — з пагардай вымавіў пануры салдат. — Што б ён сказаў сваёй жонцы, каб яна першага сустрэчнага галубіла. Душа ў яго мохам абрасла...* Гурскі.

**ДУША́ НАРО́СХРЫСТ (НАРАСПА́ШКУ)** *у каго. Вык. і азн. Разм. Адабр.* Вельмі шчыры, адкрыты, чыстасардэчны. Пра чалавека. *Памятаеце па Гомелю? Партызан, душа наросхрыст. Некалькі танкаў падарваў!* Карпаў. *[Пацук:] Янкель, вядзі нас у хату... [Янкель:] Калі ласка, прашу. [Пацук:] Во, бачылі, душа нараспашку, ну хадзем, браткі.* Галубок. *Коней раздаеш направа і налева. Ты, маўляў, добры... Душа нараспашку.* Сіпакоў.

**ДУША́ НЕ ПРЫМА́Е** *чыя чаго. У безас. ужыв.* Што-н., не падабаецца каму-н., непрыемнае, непрымальнае для каго-н. *[Насця:] Я ж бы адчувала сябе [у вас], як у нялюбага свёкра. Прыйшлося ж бы рабіць тое, што мне не міла, чаго мая душа не прымае.* Крапіва. *І заўсёды ён [Андрэй] садзіцца да якога-небудзь знаёмага машыніста на пасажырскі паравоз. Інакш не можа. — Душа не прымае.* Лынькоў. *Падабаецца ваша дзелавітасць... але ў гэтай дзелавітасці шмат таго, чаго мая душа не прымае.* Ярашэвіч.

<u>*Што*</u> **ДУША́ ПРЫМА́Е (ПРЫМА́ЛА)** *<чыя>. Вык. Разм.* Часцей ужыв. пасля займ. *усё.* (Што) падабаецца каму-н. *[Юстын:] Хто толькі з паноў меў жаданне — мог прыехаць да мяне, дняваць і начаваць, піць ды есці, што ягоная душа прымае...* Дубоўка. *Там былі.. малако, мёд, яйкі і амаль усё, што душа прымала.* Кулакоўскі. *Базар. Аж гнуцца сталы ад зеляніны — садавіны і гародніны. А тых, якія купляюць, малавата. Можна выбраць — што душа прымае.* Янкоўскі.

**ДУША́ РАСКРЫВА́ЕЦЦА** *чыя. Адз. і мн. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. шчыра дзеліцца сваімі думкамі, пачуццямі, перажываннямі. *Марыя Раманаўна расказвала, як цяжка працаваць з крыўдлівымі, часам упартымі і свавольнымі дзецьмі. Як іх шкада, як на шчырую ўвагу і ласку раскрываюцца іх душы, як часам дзеці цішком плачуць, успамінаючы бацькоў і родны дом.* Грахоўскі.

**ДУША́ (СЭ́РЦА) БАЛІ́ЦЬ** *чыя, у каго, каму. У безас. ужыв. Разм.* **1**. Хто-н. моцна хвалюецца, адчувае трывогу, перажывае з-за чаго-н. **Сін.**: душа ные *чыя, каму* (у 1 знач.). **Ант.**: душа спявае *ў каго, чыя. [Ганна:] Душа баліць, таварыш Калібераў. Таму і да вас*

*прыйшла. Дабро на полі гіне, дабро.* Макаёнак. *Вы самі стары чалавек, гэта ж ваш унук, няўжо ваша сэрца не будзе балець з-за таго, што ён гадуецца ў голадзе і брудзе?* Чорны.

**2.** *за каго, за што, па кім, па чым, аб кім, аб чым.* Хто-н. моцна непакоіцца, перажывае за каго-, што-н. **Сін**.: галава баліць *чыя, у каго, каму пра што, аб чым, па кім, па чым*; галава гарыць *у каго*; душа гарыць *чыя, у каго*; душа не на месцы *ў каго*; душа ные чыя, *каму, у каго* (у 2 знач.); кошкі душу скрабуць *у каго, каму,* кошкі на душы скрабуць *у каго, чыёй*; нутро гарыць *чыё, у каго*; сэрца ёкнула *ў каго*; сэрца замірае *ў каго, чыё*; сэрца заходзіцца *ў каго*; сэрца як не выскачыць *у каго. Душа баліць за нашых людзей, якія дайшлі да Германіі і не дачакаліся перамогі.* Герцовіч. *Стары быў, відавочна, патрыёт горада, і яму балела сэрца за лес старасвецкіх забудоў.* Лужанін. *А што душа ў мяне па дому, па дзецях ды жонцы баліць, што я не сплю начамі, думаю: жывыя яны хоць там ці, можа, не — дык да гэтага анікому і дзела няма.* Брыль. *І ёй [Ганне] таксама не салодка.. Баліць ёй сэрца аб Міхасю; яна адгадвае душою, у якім ён цяпер настроі.* Колас. *— Трэба паглядзець, магчыма, Сідар ужо на печы трасту сушыць!.. — А ты бачыў? — Затое яму душа і баліць аб ільне!* Самуйлёнак.

**ДУШÁ (СЭ́РЦА) ГАРЫ́ЦЬ** *чыя, у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. вельмі ўсхваляваны, узбуджаны. **Сін**.: галава баліць *чыя, у каго, каму пра што, аб чым, па кім, па чым*; галава гарыць *у каго*; душа баліць *чыя, у каго, каму* (у 2 знач.); душа не на месцы *ў каго*; душа ные *чыя, каму, у каго* (у 2 знач.); кошкі душу скрабуць *у каго, каму*; кошкі на душы скрабуць *у каго, чыёй*; нутро гарыць *чыё, у каго*; сэрца ёкнула *ў каго*; сэрца замірае *ў каго, чыё*; сэрца заходзіцца *ў каго*; сэрца як не выскачыць *у каго. Андруш здаецца спакойным, толькі ў вачах яго — вялікіх цёмных вачах на бледным твары — бліскаюць сполахі таго агню, якім гарыць яго душа.* Палтаран. *Цябе не стрэну — сам не свой, гарыць душа юначая: ты засланіла свет сабой, адну цябе ў ім бачу я.* Непачаловіч. *Аляксандра Фёдараўна! Вы мне такіх слоў не кідайце! У мяне ў самога сэрца гарыць.* Шамякін.

**ДУШÁ (СЭ́РЦА) ЗАНЫ́ЛА** *чыя (чыё), каго, у каго. Зак. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. пачаў моцна хвалявацца, адчуваць трывогу, перажываць з-за чаго-н. *Сэрца заныла ад убоства роднага месца і ад чакання сустрэчы з родным.* Гарэцкі. *Краўцова душа заныла, і сам ён ледзьве адцягнуў голас: — Што гэта зрабілася, няшчасце на чалавечую галаву!* Чорны. *Па сцежцы, назад ад затора, галопам імчаўся Кавалеўскі, Дубовік зразумеў: па людзей. Значыць, там бяда, заныла сэрца і ў мяне.* Карпюк. *Дзяніс успомніў тую трывожную ноч, і, як тады, раптам у трывозе заныла сэрца.* Дзятлаў.

**ДУШÁ (СЭ́РЦА) КРЫВЁЙ АБЛІВÁЕЦЦА (АБЛІЛÁСЯ)** *чыя, у каго. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Хто-н. зазнае пачуццё глыбокай спагады, жалю; каму-н. невыносна цяжка, вельмі тужліва. **Сін**.: душа разрываецца <на часткі> *чыя, у каго*; сэрца кроіцца *каму, чыё, ад чаго*; сэрца пераварочваецца *ў каго*; сэрца рвецца з грудзей *у каго*; сэрца сціскаецца *ў каго <ад чаго>*. **Ант**.: душа мохам абрасла *ў каго. Душа крывёю абліваецца, калі ўспомніш, што гаспадар, бацька дзяцей, валяецца недзе на вакзалах.* Лобан. *Паглядзіш на вас, якія вы бледныя, аж сінія парабіліся, — душа крывёю абліваецца.* Сачанка. *[Якуб:] З таго самага часу я калі ўбачу яго, дык маё сэрца крывёю абліваецца.* Чорны. *Матка пакорна ківае галавой і зноў бярэцца ўздыхаць, і ад гэтых яе спагадлівых уздыханняў у дачкі крывёй абліваецца сэрца.* Зарэцкі. *А яна раптам уткнулася тварам у далоні і зарыдала. Дальбог, сэрца маё аблілося крывёю.* Караткевіч.

**ДУШÁ (СЭ́РЦА) НЕ ЛЯЖЫ́ЦЬ** *чыя, у каго, каго. У безас. ужыв. Разм.* **1.** *да каго.* У каго-н. няма ніякай сімпатыі, даверу да каго-н. *Хоня сам прызнаўся з нейкім вясёлым, адчайным шкадаваннем, што душа Хадоські не ляжыць да яго і «нічога людскага» ў іх,*

*відаць, не выйдзе.* Мележ. *Не ляжыць Сомікава сэрца да Сыча.* Лынькоў. *Непрыемны чалавек. Не ляжала і не ляжыць у мяне да яго сэрца, скажу я вам.* Няхай.

**2.** *да чаго.* Што-н. не выклікае ў каго-н. ніякай цікавасці, прыхільнасці, жадання. *Нашы ўсе збіраюцца ў машынабудаўнічы інстытут. Але ў мяне, праўду вам сказаць, душа не ляжыць да тэхнікі.* Сабаленка. *І я чую, што трэба вучыцца, але сэрца маё ніяк не ляжыць да інстытута.* Колас. **ДУША (СЭРЦА) ЛЯЖЫЦЬ** *чыя, у каго, каго да чаго.* З супрацьлеглым знач. *А можа, я хачу рабіць тое, да чаго ляжыць душа?* Гіль. *Дарэчы, да якой палітычнай партыі ляжыць тваё сэрца?* Колас. — *Вучыць дзяцей заўсёды было цяжка, але цікава. Галоўнае, каб душа ляжала да школы, — гаворыць Ніна Іванаўна.* «Настаўн. газ.»

**ДУША́ (СЭ́РЦА) НЕ НА МЕ́СЦЫ** *ў каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. адчувае сябе неспакойна, трывожна. **Сін.**: галава баліць *чыя, у каго, каму пра што, аб чым, па кім, па чым*; галава гарыць *у каго*; душа баліць *чыя, у каго, каму* (у 2 знач.); душа гарыць *чыя, у каго*; душа ные *чыя, у каго* (у 2 знач.); кошкі душу скрабуць *у каго, каму*; кошкі на душы скрабуць *у каго, чыёй*; нутро гарыць *чыё, у каго*; сэрца ёкнула *ў каго*; сэрца замірае *ў каго, чыё*; сэрца заходзіцца *ў каго*; сэрца як не выскачыць *у каго. Пазіраю на ўсё гэта хараство, а ў самой душа не на месцы: дзе цяпер хлопчык мой?* Ракітны. — *Увесь час сэрца не на месцы, трывожна неяк, — прызналася Поля.* Сачанка. **ДУША (СЭРЦА) НА МЕСЦЫ** *ў каго.* З супрацьлеглым знач. *Калі ў чалавека душа на месцы, тады яму і свет міл.* Чорны. *Пасядзіш у хаце з жонкай і дзецьмі і адчуваеш сябе быццам пасля курорта. Душа на месцы, працей здаюцца ўсе праблемы.* Супрунчук.

**ДУША́ (СЭ́РЦА) НЫ́Е (НЫ́ЛА)** *чыя, каму, у каго. Незак. У безас. ужыв. Разм.* **1.** Хто-н. моцна хвалюецца, адчувае трывогу, перажывае з-за чаго-н. **Сін.**: душа баліць *чыя, у каго, каму* (у 1 знач.). **Ант.**: душа спявае *ў каго, чыя. Сэрца ныла, бы з нуды, бы сама была не ўся, — спадабала я тады брыгадзіра Міхася.* Купала. *Сава-начніца ў кустах альховых над крыніцай гугукне так, што сэрца ные.* Колас.

**2.** *па кім.* Хто-н. моцна непакоіцца, перажывае за каго-н. **Сін.**: галава баліць *чыя, у каго, каму пра што, аб чым, па кім, па чым*; галава гарыць *у каго*; душа баліць *чыя, у каго, каму* (у 2 знач.); душа гарыць *чыя, у каго*; душа не на месцы *ў каго*; кошкі душу скрабуць *у каго, каму*; кошкі на душы скрабуць *у каго, чыёй*; нутро гарыць *чыё, у каго*; сэрца ёкнула *ў каго*; сэрца замірае *ў каго, чыё*; сэрца заходзіцца *ў каго*; сэрца як не выскачыць *у каго. [Марыся:] Ой, Грышка, Грышка! Ты штось цяпер зрабіўся вельмі лянівы. Табе, пэўна, сэрца цяпер так ужо не ные па мне...* Дунін-Марцінкевіч.

**ДУША́ (СЭ́РЦА) РАЗРЫВА́ЕЦЦА (РВЕ́ЦЦА) <НА ЧА́СТКІ (НА КУСКІ́, НА КАВА́ЛКІ)>** *чыя, у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. адчувае глыбокі смутак, шкадаванне, цяжка перажывае што-н. **Сін.**: душа крывёй абліваецца *чыя, у каго*; сэрца кроіцца *каму, чыё, ад чаго*; сэрца пераварочваецца *ў каго*; сэрца рвецца з грудзей *у каго*; сэрца сціскаецца *ў каго <ад чаго>*. **Ант.**: душа мохам абрасла *ў каго. Думаць так было балюча, пакутліва разрывалася душа на часткі.* Шамякін. *Усё гэта прайшло ў Антанініных думках, і ёй захацелася кінуцца бацьку на шыю. Душа яе рвалася на часткі.* Чорны. *А ты маўчы... І так у мяне душа разрываецца на кавалкі.* Дайліда. *Надта ж ужо цяжка, душа з гора рвецца, слёзы так і льюцца, сэрца з болю б'ецца.* Цётка. *[Марыля:] І толькі больш жалю задаеш, ажно толькі сэрца на кускі разрываецца.* Купала. *[Андрэй] нават не мог уявіць, колькі перажыў за такі нязначны час. Сэрца яго рвалася на часткі ад невядомага дасюль пачуцця.* Чарнышэвіч. *Хадзем, дзіця, хадзем да нас. Не зацінайся так. У мяне ў самой сэрца разрываецца.* Паўлаў.

**ДУША́ (СЭ́РЦА) СПЯВА́Е (РА́ДУЕЦЦА)** *у каго, чыя. У безас. ужыв. Разм.* Каго-н. ахоплівае радаснае хваляванне. **Ант.**: душа баліць *чыя, у каго, каму* (у 1 знач.); душа ные *чыя, каму* (у 1 знач.). *Гольдзін разумеў пачуцці старшыні калгаса і няшчыра ўздыхнуў, хоць душа яго ў гэты момант спявала.* Шамякін. *[Ліпская:] Часам іграе аркестр салдацкае музыкі, і душа так радуецца!* Гарэцкі. *Тады Сцяпан усёй істотай узненавідзеў багаты маёнтак пана Скірмунта: і парк, і сад, і цагляныя аборы, і дамы для парабкаў, падобныя на турмы, і гэтыя прыгожыя сажалкі..; у яго цяпер радуецца сэрца.* Чарнышэвіч.

**ДУША́ Ў ДУШУ́**. *Разм.* **1**. *Акал.* Вельмі дружна, у поўнай згодзе (жыць, пражыць, зажыць). **Сін.**: звон у звон; на адну нагу (у 1 знач.); у ладу <*з кім*>; як песню пець. **Ант.**: на нажах *з кім*; як кот з сабакам. *Мы з бацькам вашым жылі душа ў душу. Мы не сварыліся ніколі.* Чорны. *Жылі наўздзіў — душа ў душу — нявесткі маладыя.* Зуёнак. *Ну, Нюрка, пражылі мы з табой душа ў душу дваццаць гадоў, а цяпер давай развітвацца.* Карпюк. *[Анікей] ніводнага досвітка не праспаў: устане, мыліцу прывяжа папругаю, каб не падала, і рамы новыя парабіў, сенцы перасыпаў, і зажылі мы з ім душа ў душу.* Грахоўскі. **2**. *Вык. і азн. Разм.* Вельмі дружны з кім-н. *Была ў яго [Кузьмы] недзе за Нясвіжам гаспадарка невялікая, жыў на ёй брат яго малодшы; а з братам ён заўсёды быў душа ў душу.* Чорны. *Лінія іх сумеснага жыцця душа ў душу была перапынена.* Казько.

**ДУША́ Ў ПЯ́ТКАХ** *у каго, чыя. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. вельмі спалохаўся. **Сін.**: аслаблі гайкі *ў каго, чые* (у 1 знач.); валасы становяцца дыбам *у каго*; вочы на лоб лезуць *у каго* (у 2 знач.); душа ў пяткі <схавалася> *у каго*; калені дрыжаць *у каго*; кроў ледзянее *ў каго*; кроў у жылах стыне *ў каго*; мароз па скуры <прабягае> *у каго, каго, чыёй*; мурашкі бегаюць па целе *ў каго, каго, чыім*; неба з аўчынку здаецца *каму*; паджылкі трасуцца *ў каго*; скура шэрхне *на кім, у каго*; сэрца абрываецца *ў каго, чыё*; сэрца ледзянее *ў каго*; у пяткі кальнула *каму, каго* (у 1 знач.); <усе> блохі падохлі *ў каго*. *[Вера:] Правалілася ваша праца. [Чарнавус:] Дражніцеся, а ў самой душа ў пятках.* Крапіва. *Плынь цягнула лодку да супрацьлеглага берага, і яна круцілася на адным месцы. — У Ґайнай душа ў пятках, — заўважыў Пецька Кацуба, і хлопцы дружна зарагаталі..* Шамякін. *Вартавыя пазашываліся ў кусты, не дыхаючы. І мая душа ў пятках.* Карпюк.

**ДУША́ Ў ПЯ́ТКІ <СХАВА́ЛАСЯ, УСКО́ЧЫЛА>** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Каго-н. ахоплівае моцны страх. **Сін.**: аслаблі гайкі *ў каго, чые* (у 1 знач.); валасы становяцца дыбам *у каго*; вочы на лоб лезуць *у каго* (у 2 знач.); душа ў пятках *у каго, чыя*; калені дрыжаць *у каго*; кроў ледзянее *ў каго*; кроў у жылах стыне *ў каго*; мароз па скуры <прабягае> *ў каго, каго, чыёй*; мурашкі бегаюць па целе *ў каго, каго, чыім*; неба з аўчынку здаецца *каму*; паджылкі трасуцца *ў каго*; скура шэрхне *на кім, у каго*; сэрца абрываецца *ў каго, чыё*; сэрца ледзянее *ў каго*; у пяткі кальнула *каму, каго* (у 1 знач.); <усе> блохі падохлі *ў каго*. *Не, я перапалохалася вельмі. Як ён пачаў гаварыць, дык у мяне душа ў пяткі схавалася.* Асіпенка. *Табе смешна, дурніца, а ў мяне душа ў пяткі ўскочыла.* Гартны. — *Капніцель не закрыўся, — спускаючыся па сходцах з мосціка, кажа дзядзька Давыд, і Васіль з палёгкай уздыхае: «Во халера, а ў мяне душа ў пяткі...»* І.Капыловіч. *Падзывае [Андрэй Андрэевіч] сурова: «Ану, падходзь!» У таго і душа ў пяткі: кепскія з атаманам справы.* Лынькоў.

**ЗА́ЯЧАЯ (ЗАЕ́ЧАЯ) ДУША́**. *Адз. і мн. Часцей вык. Разм. Неадабр.* Вельмі баязлівы чалавек. *Калі ж ён [Кузьма], нарэшце, забраўшы зброю, развітаўся.., Саша са знявагай кіўнула брату: — Заячая твая душа.* Шамякін. *«Я ж цябе паваджу, слізняк! — падумаў Дзямбо. — Прымушу, заечая душа, некалькі разоў угару, высалапіўшы язык, плесціся».* Гурскі.

**КÓЛЬКІ ДУША́ ЖАДА́Е (ПАЖАДА́Е, ПРЫМА́Е, ПРЫ́МЕ).** *Акал. Разм.* Уволю, удосталь, без усякага абмежавання (гуляць, адпачываць, есці і пад.). **Сін.**: ад пуза (у 1 знач.); да адвалу; еш не хачу *чаго*; за трох дурных; колькі ўлезе (у 1 знач.); на поўную губу (у 1 знач.); на ўсю губу; не ў свой дух; хоць жывот расперажы; хоць расперажыся; як дурны на памінках; як на дзяды (у 1 знач.); як не ў сябе; як у прорву. *[Гудовіч:] У Кіславодску хораша ўвосень. Паветра ў гарах чыстае, сумленне ў цябе чыстае — адпачывай колькі душа жадае.* Крапіва. *Па-даўнейшаму Іван хлебасол вялікі, любіў прыняць людзей з форсам, з размахам, каб пілі, елі, гулялі колькі душа пажадае.* Навуменка. *«Якая прыгажосць, — падумаў Сяргей. — Калі б не заданне, распрануўся б і кінуўся ў гэтыя чыстыя хвалі, а потым грэўся б на пясочку колькі душа пажадае».* Дзятлаў. *Ніхто нічога аб нічым не пытаецца, ніхто нічога не пільнуе; еш колькі душа прымае.* Купала. *Ты тут і ўрач, і медсястра, і санітарка. Ехала на практыку медыцынскую? Бяры яе, гэтую практыку, нават аберуч! Чэрпай, колькі душа прымае!* Савіцкі.

**ЛЕДЗЬ (ЛЕ́ДЗЬВЕ) ДУША́ Ў ЦЕ́ЛЕ** *ў каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. вельмі слабы, чуць жывы. **Сін.**: у чым душа трымаецца *ў каго, чыя*; хоць у дамавіну кладзі *каго. У саміх ледзьве душа ў целе. Ідзі туды, дзе да нас жыў...* Броўка. *Развязаў бы хоць рукі ёй... У яе і так ледзь душа ў целе... Няўжо ты думаеш, што з гэтых лёхаў можна ўцячы?* Місько. *Спакойна прыняла [жонка] яго, калі вярнуўся з Заходняе паранены, ледзьве душа ў целе.* А.Жук.

**ПАПЯРО́ВАЯ ДУША́.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Канцылярскі чыноўнік, бяздушны фармаліст, бюракрат. **Сін.**: канторскі пацук; крапіўнае семя; чарнільная душа. *Ехаць з братам Анатоль не бачыў сэнсу: што мог бы рабіць ён там, у ваенкамаце? Перайсці на пасаду справавода, стаць папяровай душой? Занятак незайздросны.* Калеснік. *[Міраслаў:] Я думаю, бацька проста затрымаўся. Звычайная канцылярская цяганіна: папяровыя ж душы кругом, куды ні кінь вокам, а тым больш у турме.* Асташонак. *— Грамадзяне, калі ласка, па чарзе. І прыгатуйце білеты-справаздачы. — От папяровыя душы! — данеслася з платформы.* «Вожык».

**У ЧЫ́М <ТО́ЛЬКІ> ДУША́ (ДУ́Х) ТРЫМА́ЕЦЦА (ТРЫМА́ЛАСЯ)** *у каго, чыя. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. фізічна слабы, змарнелы, хваравіты на выгляд. **Сін.**: ледзь душа ў целе *ў каго*; хоць у дамавіну кладзі *каго. Было дзіўна, у чым толькі трымаецца яе душа.* Шахавец. *Верка дык і зусім змарнела, учарнела ўся. Сноўдалася па хаце, як здань, у чым душа трымалася...* Гіль. *«Няўжо гэты сам Косцік іх высачыў? — думала я. — Ноччу, сам, адзін... А глянеш на яго, дык у чым там і душа трымаецца. Косці ды скура...»* Каліна. *[Маладзіца:] Паглядзі ты на сябе. У чым дух трымаецца: скура ды косці, вочы зусім праваліліся.* Гарэцкі.

**ЧАРНІ́ЛЬНАЯ ДУША́.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Канцылярскі чыноўнік, бяздушны фармаліст, бюракрат. **Сін.**: канторскі пацук; крапіўнае семя; папяровая душа. *[Язва:] Ну, як адчувае сябе «папраўка да сістэмы размеркавання»? [Жлукта:] Чарнільная душа!* Крапіва. *Эх ты, сухар... Чалавеку, можа, цёплага слова не хапала. А ты, чарнільная твая душа, абы паперку набыць.* Асіпенка. *Вы іх яшчэ не ведаеце!.. Вось пажывяце ў нас, таксама паспытаеце гора!.. Як ёсць чарнільныя душы!* Аношкін.

*ДУШАМІ* • <u>*Клёцкі*</u> **З ДУША́МІ.** *Азн. Разм.* Начыненыя мясным ці іншым фаршам з прыправамі. *Яшчэ з цыганскіх бадай што часінаў «клёцкі з душамі» ў Вушацкіх рытуальная страва і на Дзяды, і на хаўтурах, і на памінках. Клёцкамі з душамі кормяць, калі мужчыны ідуць на цяжкую працу.* Барадулін. *Гаспадыня са старэйшаю нявесткаю падала новую страву — калдуны, ці клёцкі з душамі, як іх яшчэ называюць, і ўсе дружна ўзяліся за іх.* Дамашэвіч.

*ДУШАХ* • **ПА ДУША́Х** <u>гаварыць (пагаварыць)</u> і пад. *Акал. Разм.* Шчыра, чыстасардэчна, не таячыся. *Хочацца бліжэй пазнаёміцца з людзьмі. А то мы ўсё афіцыйна: пасяджэнні, сходы... Гэтага мала. Ды і нельга ў афіцыйнай абстаноўцы пагаварыць пра ўсё па душах...* Шамякін. *Карэспандэнту ніяк не ўдавалася пагаварыць па душах з камандзірам злучэння.* Гурскі.

*ДУШАЦЬ* • **ЧЭРЦІ ДУШАЦЬ** *каго дзе.* Гл. чэрці.

*ДУШОЙ* • **БАЛЕЦЬ ДУШОЙ** *за каго, за што, па кім, па чым.* Гл. балець.

**БОГУ ДУШОЙ** *не вінават.* Гл. богу.

**ВІСЕЦЬ НАД ДУШОЙ**. Гл. вісець.

**ДУШО́Й І ЦЕ́ЛАМ**. *Акал. Функц. не зам.* Усёй істотай, цалкам, ва ўсіх адносінах. *Паэт не толькі літаратурнай працай быў звязаны душой і целам з сучаснасцю, з рэчаіснасцю, ён актыўна працаваў у дзяржаўных арганізацыях і навучальных установах.* Шушкевіч. *Атрахім Гляк наважыў паехаць у самую далёкую вёску, адпачыць там душой і целам, прыблізіцца да жыцця.* Навуменка. *Далей тут заставацца небяспечна. Але ведайце, сябры, я душой і целам ваш і вярнуся назад.* Гамолка.

**ЗАГАВЕЦЬ ДУШОЙ**. Гл. загавець.

**З АДКРЫ́ТАЙ ДУШО́Й (СЭ́РЦАМ)**. *Акал. Функц. не зам.* Вельмі шчыра, даверліва, чыстасардэчна; без прадузятасці (рабіць што-н., адносіцца да каго-н.). **Сін**.: ад <усёй> душы; ад <усяго> сэрца; ад чыстага сэрца; ад шчырага сэрца; з глыбіні душы. *[Рыгор:] Я да цябе як да найлепшага сябра прыйшоў з адкрытай душой, а ты вунь што зрабіў!* Крапіва. *Я да людзей хацеў бы, маці, ісці з адкрытаю душой.* Аўрамчык. *За год маленькая Эстонія прымае каля двух мільёнаў гасцей. Сустракае і праводзіць іх гасцінна, з адкрытым сэрцам, як надзейных і добрых сяброў.* «Звязда».

**ЗА ДУШО́Й**. *Акал. Разм.* У наяўнасці (быць у каго-н., мець што-н.). **Сін**.: пры душы. *У Лясніцкага ўсяго за душой было нейкае старое вучнёўскае пасведчанне. Ён паказаў яго.* Зарэцкі. *[Югас] такі ж бясхлебнік, як і мы. Нічога — за душой.* Танк. *Калі маеш ты што за душой, будзь гатоў падзяліцца.* Вітка. *Гэты багаты за душой капейкі не мае.* Лобан.

**З ДАРАГО́Й (МІ́ЛАЙ) ДУШО́Й**. *Акал. Разм.* З вялікай радасцю, ахвотай (аддаць, пачаставаць, адносіцца і пад.). **Сін**.: з усёй душой (у 1 знач.). *[Альбрэхт:] Як бачыце, да вас мы з дарагой душою. І спадзяёмся, што — паслуга за паслугу — вы тым жа нам адкажаце.* Клімковіч. *Я з дарагой душой аддаў бы вам хлеб, калі б ён быў.* Сабаленка. — *А можа яшчэ трохі пасядзіш з намі?.. — Далібог, з дарагой душой, але не магу.* Крыга. — *Ну, і Андрэй Пятровіч!.. Не хоча ўжо і пускаць у кватэру. — Як не хачу?.. З мілаю душою!* Колас. — *Эх, Віктар, — уздыхнуў Іван Паўлавіч,— прыехаў бы з мілай душой, ды не магу: сэрца...* Дайліда.

**З ДУШО́Й** <u>рабіць, працаваць</u> і пад. *Акал. Функц. не зам.* Старанна, з вялікім уздымам, захапленнем. **Сін**.: з аганьком; з усёй душой (у 2 знач.). *Творчасць на ўроку — гэта калі справу робіш з душой.* «Настаўн. газ.» *[Русаковіч:] Калі ўмела і з душой узяцца за справу, дык і план будзе выкананы, і сабекошт не павысіцца.* Крапіва. *Калі наш Петрык-Страдыварыус іграў з душой і ў сорак пяць гулліва і нястомна па-юнацку, дык Рома, здаецца, яшчэ весялей.* Брыль.

**З ЛЁГКАЙ ДУШО́Й**; **З ЛЁГКІМ СЭ́РЦАМ**. *Акал. Функц. не зам.* Без трывогі і апаскі. **Сін**.: са спакойным сэрцам. **Ант**.: з цяжкай душой. *З распараджэннем у руках, з лёгкаю душою пайшоў Кляновіч да міністра.* Пестрак. *З лёгкай душою пайшоў Вялічка рыхтаваць разведгрупу.* А.Жук. *Не, не з лёгкім сэрцам пакідаў Аляксей Мінск.* Мележ. *І*

*ўсё-такі Валя адчула сябе ў роднай стыхіі і, выбраўшы патрэбны кірунак, з лёгкім сэрцам падалася ў глыб лесу.* Карпаў. *Некаторыя дзеячы ад педагогікі з лёгкім сэрцам пускаюць у хрэстаматыі творы слабыя і пасрэдныя.* Шкраба.

**З УСЁЙ ДУШО́Й**. *Акал.* **1**. *Разм.* З вялікай радасцю, ахвотай (даваць, адносіцца, частаваць і пад.). **Сін**.: з дарагой душой. *— Дык, гаворыш, кватэра патрэбна?.. Дарагі мой, — з нейкай бацькоўскай ласкавасцю паглядзеў на Віктара Чокан. — З усёй душой, як кажуць...* Гаўрылкін. *— Мы да цябе з усёй душой, а ты... — папракнула Вяснушка.* Кузьмянкоў.

**2**. *Функц. не зам.* Старанна, з вялікім уздымам, захапленнем (рабіць, працаваць, брацца і пад.). **Сін**.: з аганьком; з душой. *Новая справа кожнаму чалавеку здаецца цяжкай, пакуль ён за яе не ўзяўся з усёй душой.* Хадкевіч.

**З ЦЯ́ЖКАЙ ДУШО́Й; З ЦЯ́ЖКІМ (НЯЛЁГКІМ) СЭ́РЦАМ**. *Акал. Функц. не зам.* У прыгнечаным настроі; з неспакоем. **Ант**.: з лёгкай душой; са спакойным сэрцам. *Я заўсёды з цяжкай душой праязджаю праз Азярыны.* Навуменка. *З цяжкай душой узяліся за працу карпілаўскія і ведрыцкія мужчыны і хлопцы.* «Вожык». *З цяжкім сэрцам падыходзіў Страцім да доміка, дзе кватаравалі бацькі Тэафіліі.* Дыла. *З нялёгкім сэрцам выйшла з хаты ад Тхорыхі Параска.* Сачанка.

**З ЧЫ́СТАЙ ДУШО́Й**. *Акал. Функц. не зам.* Не адчуваючы маральнай пакуты і дакору (рабіць што-н.). **Сін**.: з чыстым сумленнем. *У тым была і бяда, што Серж не мог з чыстай душой падысці да дзяўчатак і зірнуць ім смела, па-таварыску, па-сяброўску ў вочы.* Чорны. *— Гэта вы мне раіце сваццю займець? — Сваццю не сваццю, а чалавека, які навёў бы на розум. — Дык, можа, вы і навялі б? — Бачу, жартуеш. А я з чыстай душою.* Б.Стральцоў.

**КРЫВІЦЬ ДУШОЙ** <*перад кім, перад чым, для каго*>. Гл. крывіць.

**СА СПАКОЙНАЙ ДУШОЙ**. Гл. сэрцам.

**СТАЯЦЬ НАД ДУШОЙ** *у каго*. Гл. стаяць.

**УСЁЙ ДУШО́Й**. *Акал. Функц. не зам.* **1**. Шчыра, сардэчна (любіць, кахаць, верыць і пад.). **Сін**.: усім сэрцам (у 1 знач.). *Агап'я Палікарпаўна, палюбіў я вас усёй душою. І не магу я жыць без вас.* Каваль. *Гарбачэня адчуў, што ён пакахаў не на жарты, усёй душою.* Гурскі.

**2**. Поўнасцю, цалкам (быць на баку каго-н., падтрымліваць каго-, што-н., аддавацца чаму-н. і пад.). **Сін**.: усім сэрцам (у 2 знач.). *Усёй душой падтрымліваю прапанову, выказаную ў дакладзе, аб стварэнні ў рэспубліцы спецыяльнага выдавецтва дзіцячай літаратуры.* Вітка. *[Міця] быў усёй душой аддадзены школьнаму, кніжнаму, мысліў высокімі катэгорыямі...* Навуменка.

**3**. З вялікім жаданнем, вельмі ахвотна (хацець, імкнуцца, рвацца і пад.). *Луг шырокі над ракой, долы і паляны, рвуся к вам я ўсёй душой, родныя курганы!* Колас. *[Вісарыён:] Гэта проста немагчымая для іх справа, нават каб яны гэтага ўсёй душой праглі...* Самуйлёнак. *[Лабыш:] Дачушка мая! А я зусім не супраць вяселля вашага. Наадварот, я ўсёй душой хачу гэтага.* Козел.

**ХОЦЬ ДУШОЙ ЗАГАВЕЙ**. Гл. загавей.

*ДУШУ* • **АДВОДЗІЦЬ ДУШУ**. Гл. адводзіць.

**АДДАВАЦЬ БОГУ ДУШУ**. Гл. аддаваць.

**АДДАВАЦЬ ДУШУ** *каму, чаму*. Гл. аддаваць.

**АДКРЫВАЦЬ <СВАЮ> ДУШУ** *каму, перад кім*. Гл. адкрываць.

**АДПУСЦІ ДУШУ НА ПАКАЯННЕ**. Гл. адпусці.

**АД'ЯДАЦЬ ДУШУ** *каму*. Гл. ад'ядаць.

**БРАЦЬ ГРЭХ НА <СВАЮ> ДУШУ**. Гл. браць.
**БРАЦЬ ЗА ДУШУ**. Гл. браць.
**ВЫВАРОЧВАЦЬ ДУШУ** *чыю, каму*. Гл. выварочваць.
**ВЫВАРОЧВАЦЬ <СВАЮ> ДУШУ** *перад кім*. Гл. выварочваць.
**ВЫКЛАДАЦЬ <СВАЮ> ДУШУ** *каму, перад кім*. Гл. выкладаць.
**ВЫЛІВАЦЬ ДУШУ** *каму*. Гл. выліваць.
**ВЫМАЦЬ ДУШУ** *з каго, каму*. Гл. вымаць.
**ВЫМОТВАЦЬ ДУШУ** *каму*. Гл. вымотваць.
**ВЫТРАСЦІ ДУШУ** *з каго, каму*. Гл. вытрасці.
**ВЫЯДАЦЬ ДУШУ** *каму*. Гл. выядаць.
**ВЯРЭДЗІЦЬ ДУШУ** *каму, чыю*. Гл. вярэдзіць.
**ГНАІЦЬ ДУШУ** *каму, чыю*. Гл. гнаіць.
**ДУША Ў ДУШУ**. Гл. душа.
**ДУШУ ЗАТКНУЦЬ** *чым*. Гл. заткнуць.
**ЗАГЛЯДВАЦЬ У ДУШУ** *чыю, каму, каго*. Гл. заглядваць.
**ЗАКРАДАЦЦА Ў ДУШУ** *чыю, каго*. Гл. закрадацца.
**ЗА МІ́ЛУЮ ДУШУ́**. *Акал. Разм.* **1**. З вялікім задавальненнем, вельмі ахвотна (рабіць, зрабіць што-н.). **Сін.**: з рукамі і нагамі. *Праўда, трава неважнецкая, асака, круглец, ціпец, сівец, розныя балотныя дудкі, але калі няма лепшай, то карова і гэтую за мілую душу з'есць.* Навуменка. *Ты — каваль, цябе ж у любы калгас возьмуць за мілую душу.* Рылько.
**2**. *Ужыв. пры дзеясл.-вык. зак. тр.* Без усякага сумнення, абавязкова, немінуча. **Сін.**: як бог свят (у 1 знач.); як двойчы два (у 1 знач.); як піць даць. *Нас шукалі ўвесь дзень і на захадзе сонца знайшлі заплаканых і замурзаных на купіне побач з багнай, у якую мы маглі праваліцца за мілую душу.* Корбан. *[Брытвін] пад самае вечка напхаў у бітон аманіту. — Ну во, і гатова. На сярэдзіне моста з воза вэк і пугай па кані. Пакуль паліцаі апомняцца, іртане за мілую душу.* Быкаў.
*Біць* **І ДУШУ СЛУХАЦЬ**. Гл. слухаць.
**КЛАСЦІ ДУШУ** *ў што*. Гл. класці.
**КОШКІ ДУШУ СКРАБУЦЬ** *у каго, каму*. Гл. кошкі.
**ЛЕДЗЯНІЦЬ ДУШУ** *чыю, каго*. Гл. ледзяніць.
**ЛЕЗЦІ Ў ДУШУ** *чыю, каго, каму*. Гл. лезці.
**МУЦІЦЬ ДУШУ** *каму, каго*. Гл. муціць.
**НАСТУПАЦЬ НА ДУШУ** *каму*. Гл. наступаць.
**ПЕРАВАРОЧВАЦЬ <УСЮ> ДУШУ** *чыю, каму, каго*. Гл. пераварочваць.
**ПЛЯВАЦЬ У ДУШУ** *каму*. Гл. пляваць.
**РАЗДЗІРАЦЬ ДУШУ** *каму, чыю*. Гл. раздзіраць.
**РАЗРЫВАЦЬ ДУШУ** *чыю, каму*. Гл. рваць.
**РВАЦЬ ДУШУ** *чыю, каму*. Гл. рваць.
**РВАЦЬ САБЕ ДУШУ**. Гл. рваць.
**СКРЭБЦІ ЗА ДУШУ** *каго*. Гл. скрэбці.
**ТРУЦІЦЬ ДУШУ** *каму*. Гл. труціць.
**УВАХОДЗІЦЬ У ДУШУ** *каго, чыю*. Гл. уваходзіць.
**УДЫХНУЦЬ ДУШУ** *ў што*. Гл. удыхнуць.
**УКЛАДВАЦЬ ДУШУ** *ў што*. Гл. укладваць.
**ЦЯГНУЦЬ ДУШУ** *з каго*. Гл. цягнуць.
**ЦЯГНУЦЬ ЗА ДУШУ** *каго*. Гл. цягнуць.

**ЯК БОГ НА ДУШУ ПАКЛАДЗЕ**. Гл. бог.

*ДУШЫ* • **АДЛЯГЛО АД ДУШЫ** *ў каго*. Гл. адлягло.

**АДЛЯГЛО НА ДУШЫ** *ў каго*. Гл. адлягло.

**АД <УСЁЙ, ЯЕ́> ДУШЫ́**. *Акал. Функц. не зам.* З усёй шчырасцю, адкрытасцю, сардэчна. **Сін.**: ад <усяго> сэрца; ад чыстага сэрца; ад шчырага сэрца; з адкрытай душой; з глыбіні душы. *Былі, аднак, і такія рабочыя, што і без нагляду працавалі ад усёй душы.* Брыль. *Я ад усяе душы дзякую ўсім, хто ў дзень майго юбілею ўспомніў мянė добрым словам.* Купала. *Ад душы поспеху жадаю вам.* Колас.

**АД ЧЫСТАЙ ДУШЫ**. Гл. сэрца.

**АД ШЧЫРАЙ ДУШЫ**. Гл. сэрца.

**АД'ЯДА ДУШЫ**. Гл. ад'яда.

**БЕЗ ДУШЫ́**. *Вык. ці кампанент вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Мёртвы. **Сін.**: без духу (у 1 знач.). *[Тарыел:] Я ўдарыў яго так, што ён больш не ўстаў. Ён без душы застаўся ляжаць у пыле, як сабака.* Самуйлёнак.

**2**. Вельмі спалохана. *[Французся:] Мае вы дарагія-мілыя! А я ж ужо без душы ішла дадому — дзе вы і што вы?* Гілевіч.

**БЕЗ ДУШЫ́** *бегчы, уцякаць* і пад. *Акал. Разм.* Вельмі хутка, як толькі можна. **Сін.**: без аглядкі (у 1 знач.); без духу *бегчы*; без памяці (у 1 знач.); ва ўсе лапаткі (у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.); з усіх ног; колькі <было> духу; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на адным дыханні (у 1 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўвесь мах; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у 2 знач); на ўсе ногі; на ўсіх парах; на ўсіх парусах; на ўсю моц (у 2 знач.); чуй дух; што ёсць духу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 2 знач.); як дуж; як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як мага (у 1 знач.); як на крыллях; як на пажар; як падсмалены. **Ант.**: як чарапаха. *Але ж як стрэляць блізка, то адкуль тая і сіла бярэцца — падхопішся і ляціш без душы, як заяц...* Палтаран.

**БРАЦЬ <БЛІЗКА> ДА ДУШЫ** <*што*>. Гл. браць.

**ВЫКІДАЦЬ З ДУШЫ** *каго, што*. Гл. выкідаць.

**ВЫЯДА ДУШЫ**. Гл. выяда.

**ВЯЛІКАЙ ДУШЫ**. Гл. сэрца.

**ДА ГЛЫБІНІ ДУШЫ**. Гл. глыбіні.

**ДА ДУШЫ́** *каму. Вык. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Падабаецца. **Сін.**: да густу *каму*; да смаку *каму*; да сэрца *каму*; западаць у вока *каму* (у 2 знач.); па густу *каму*; пад густ *каму*; па душы *каму*; па нутры *каму*; па сэрцы *каму*; як маслам па душы *каму*. **Ант.**: не ў смак *каму*. *[Рабіна:] Калі кахае, дык няхай, не хоча — не прымушу, хоць Машэка і да душы мне, лепшага не знойдзеш.* В.Вольскі.

**ДА ДУШЫ́** *падабацца*. *Акал. Разм.* Вельмі. *Старыя, аздобленыя сівізною, маршчынамі і пачэснымі лысінамі дзяды.. да душы падабаліся Лабановічу.* Колас.

*Прыйсціся* **ДА ДУШЫ́**. *Акал. Разм. Адабр.* Даспадобы (прыйсціся каму-н.). **Сін.**: *прыйсціся* да густу; *прыйсціся* да смаку; *прыйсціся* па густу; *прыйсціся* пад густ; *прыйсціся* пад нораў; *прыйсціся* па душы; *прыйсціся* па нутры; *прыйсціся* па сэрцы; у масць. *[Андрэю] прыйшлася да душы мясціна: драўляны з бляшаным, паедзеным іржой дахам дамок, маленькі дворык, агарод, які засаджваюць салатай, радыскай і памідорамі..* Навуменка. *Гэта мімалётная сцэна прыйшлася да душы Васілю Пятровічу.* Карпаў.

*Усе* **ДА ДУШЫ́**. *Акал. Разм.* (Усе) без выключэння, поўнасцю; абсалютна (усе). **Сін.**: ад мала да вяліка; ад малога да вялікага; да аднаго; да апошняга (у 3 знач.); як адзін (у 1 знач.); як адзін чалавек. *Быў адзін галавацяп, запісаць як больш хаця б, лозунг кінуў ён такі: «Ці калгас, ці Салаўкі». І пайшлі, прасіцца сталі ўсе з мястэчка да душы: «Дзядзя, мілы, запішы!»* Крапіва.

**ДЛЯ ДУШЫ́**. *Акал. Функц. не зам.* Для задавальнення ўнутраных, духоўных патрэб (рабіць што-н.; быць, заставацца і інш.). *А то яшчэ — пайду ў бібліятэку, вазьму кнігу — не па праграме, а так, для душы і чытаю, чытаю...* Сачанка. *Пакуль што і на калгаснай рабоце ўпраўляюся, і для душы сёе-тое майструю. Ткацтвам таксама крыху займаюся.* Тычына. *Які я, кажа, буду ляснік, калі ў мяне лясочку для душы не застанецца, калі не пакіну пасля сябе памяць у лесе?* Карамазаў.

**ДУШЫ ПАСЛУХАЮЧЫ**. Гл. паслухаючы.

**З ГЛЫБІНІ ДУШЫ**. Гл. глыбіні.

**З ДУШЫ ВЕРНЕ**. Гл. верне.

**КАМЕНЕМ ЛЯЖЫЦЬ НА ДУШЫ** *чыёй*. Гл. ляжыць.

**КОШКІ НА ДУШЫ СКРАБУЦЬ** *у каго, чыёй*. Гл. кошкі.

**МЁРТВЫЯ ДУ́ШЫ**. *Звычайна ў мн. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Неіснуючыя асобы, якія толькі фіктыўна лічацца дзе-н. **Сін.**: жывы нябожчык (у 2 знач.). *Атрымліваецца нешта незразумелае: названых у спісе брыгадзіраў з першага ліцейнага цэха.. ніхто не ведае. «Мёртвыя душы»?* «Звязда». *— Добрая дзеўка, вельмі харошы загадчык сектара.. будзе. — А Рэпкіна? — Яна не спраўляецца. «Мёртвыя душы» ёсць, узносы збірае дрэнна.* Асіпенка.

**НА ДНЕ ДУШЫ**. Гл. дне.

**НА ДУШЫ́**. *Разм.* 1. *у каго, каму як. У безас. ужыв.* Хто-н. адчувае той ці іншы душэўны стан. **Сін.**: на сэрцы *у каго, каму як. [Зося] пачала насіць па хаце дзіця, не могучы быць на адным месцы. На душы ў яе было чорна.* Чорны. *Лёгка і добра ў Цітка на душы.* Лобан. *[Якім:] Эх, Паўлінка! Ты ўсё сваё; мне і так горка на душы...* Купала.

2. *у каго. Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Хвалюе, непакоіць і пад. каго-н., з'яўляючыся прадметам скрытых намераў. *Ні то сарамяжлівасць яшчэ чыстага сэрца, ні то нейкая асцярога стрымлівала сказаць ёй усё, што было на душы.* Колас. *[Перагуд:] Наталля Мікалаеўна!.. Не дражніце мяне, а то вазьму зараз і вылажу ўсё, што ў мяне на душы.* Крапіва. *Ніколі ім не здагадацца, што на душы ў іх аднавяскоўца, бо ён не лыкам шыты: калі трэба, першы пачне праклінаць захопнікаў — сваіх цяперашніх гаспадароў.* Пальчэўскі.

**НА СПОДЗЕ ДУШЫ**. Гл. сподзе.

**НЕ ЧУЦЬ ДУШЫ** *ў кім*. Гл. чуць.

**НІ <АДНО́Й, ЖЫВО́Й> ДУШЫ́** *няма, не было. Дап. Разм.* Нікога, ні аднаго чалавека. *Ціха ў пакоях. Як бы ні душы няма.* Галавач. *На шырокай роўнай вуліцы не было ні душы.* Мурашка. *Болей у клубе не было ні душы.* Кудравец. *На дваццацігоддзе Перамогі гуляла ўся Пятроўка. Ні адной душы ў полі, хоць у разгары вясна.* Ракітны. *Нявідны не цешыў сябе ніякімі ілюзіямі. Смяротэльная маркота ахапіла яго. Адзін, ні жывой душы.* Колас.

**ПА ДУШЫ́** *каму. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Падабаецца. **Сін.**: да густу *каму*; да душы *каму*; да смаку *каму*; да сэрца *каму*; западаць у вока *каму* (у 2 знач.); па густу *каму*; пад густ *каму*; па нутры *каму*; па сэрцы *каму*; як маслам па душы *каму*. **Ант.**: не ў смак *каму*. *— А як прымаеш ты сацыялістаў-рэвалюцыянераў? Пытаюся так таму, што мне найчасцей прыходзілася сутыкац-*

*ца з імі. — І яны табе па душы?* Колас. *Ты была б рада, каб я з хаты ўсё рашыў? Мая зборлівасць табе не па душы?* Чорны. *Рыбаку болей па душы была жывая рэальная справа з усімі ўласцівымі ёй няўвязкамі і клопатамі.* Быкаў.

*Прыйсціся, рабіць* і пад. **ПА ДУШЫ́**. *Акал. Разм.* Даспадобы (прыйсціся і пад. каму-н.). **Сін.**: *прыйсціся* да густу; *прыйсціся* да душы; *прыйсціся* да смаку; *прыйсціся* па густу; *прыйсціся* пад густ; *прыйсціся* пад нораў; *прыйсціся* па нутры; *прыйсціся* па сэрцы; у масць. *Запяеш па душы, дасі ўцехі гасцям — поўны гуслі насыплю дукатаў.* Купала. *Прапанова Руневіча — вярнуцца туды пісьменнымі па-свойму — усім прыйшлася па душы.* Брыль.

**ПРЫ ДУШЫ́**. *Акал. Разм.* У наяўнасці (быць у каго-н., мець што-н.). Часцей пра грошы. **Сін.**: за душой. *[Стараста:] Валацуга і скандаліст, бадзяўся па гарадах, капейкі пры душы ніколі не меў, голы і востры, і богу нямілы, у нашым родзе гэткіх ніколі не было...* Самуйлёнак. *Зірнуўшы на яго [сына], Міхал зразумеў, што ніякага фальварка ў яго сына ў Польшчы няма і наўрад ці ёсць капейка пры душы.* Чарнышэвіч.

**У ГЛЫБІНІ ДУШЫ**. Гл. глыбіні.

**У ДУШЫ́**. *Акал. Разм.* Унутрана, мысленна (называць, дзякаваць, лаяць і пад.). **Сін.**: сам з сабой (у 3 знач.); сам сабе (у 4 знач.); у галаве (у 1 знач.); у думках. *Нейкім добрым, як бы зусім не гэтае сям'і чалавекам, здаўся тады Ніне Лявон. У душы дзякавала яму.* Галавач. *[Дырэктар] паверыў класу, паверыў, што Арэшкін у адносінах да Алёшы можа зрабіць несправядліва, і ў душы абурыўся таксама.* Шамякін. *Я пачынаю ўставаць з шыняля, у душы лаючы Лёшку за яго недарэчныя жарты з немцамі.* Быкаў. *Ірма, відаць, лічыла, што гэта — штосьці смешнае, бо нават падхіхікнула. А фрау Грубэр нават сказала ў душы «сакрамэнт».* Брыль.

**УСІМІ СІЛАМІ ДУШЫ**. Гл. сіламі.

**УСІМІ ФІБРАМІ ДУШЫ**. Гл. фібрамі.

**ЧЫТАЦЬ У ДУШЫ** *чыёй, у каго.* Гл. чытаць.

**ЯК КАМЕНЬ З ДУШЫ ЗВАЛІЎСЯ** *ў каго.* Гл. камень.

**ЯК МАСЛАМ ПА ДУШЫ**. Гл. маслам.

*ДЫБА* • **ВАЛАСЫ СТАНОВЯЦЦА ДЫБА** *ў каго.* Гл. валасы.

*ДЫБАМ* • **ВАЛАСЫ СТАНОВЯЦЦА ДЫБАМ** *у каго.* Гл. валасы.

*ДЫБАЧКАХ* • **НА ДЫ́БАЧКАХ (НА ДЫ́БКАХ)** *стаяць, ісці* і пад. *Акал. Разм.* На пальцах ног. **Сін.**: на цыпачках. *Іван устаў. Ціха развітаўся з Галяю, кіўнуў Веры і на дыбачках выйшаў з палаты.* Грахоўскі. *Саша вярнулася амаль на світанні. Яна зайшла нячутна і на дыбачках кралася да свайго ложка.* Шамякін. *Асцярожна, на дыбках, хлопец адышоўся ад палянкі.* Гамолка.

*ДЫБАЧКІ* • **НА ДЫ́БАЧКІ** *станавіцца, паднімацца* і пад. *Акал. Разм.* На пальцы ног. **Сін.**: на цыпачкі. *Стаўшы на дыбачкі, Шура спрабуе зняць вупраж з калка, але да хамута яна дастае толькі кончыкамі пальцаў.* Асіпенка. *Аляксей падняўся на дыбачкі, выцягнуўся на ўвесь свой ледзь не двухметровы рост і праз галаву зазірнуў у пакой, поўны жанчын.* Грахоўскі.

*ДЫБКАХ* • **НА ДЫБКАХ**. Гл. дыбачках.

*ДЫБКІ* • **СТАНАВІЦЦА НА ДЫБКІ**. Гл. станавіцца.

*ДЫВАН* • **НА ДЫВА́Н** *выклікаць, ісці, трапляць* і пад. *Акал. Разм.* Для сур'ёзнай размовы, адказу на якія-н. прэтэнзіі, заўвагі і пад. *Ды і самі работнікі, асабліва тыя, хто ішоў «на дыван», на праборку, стараліся з'явіцца раней, каб, крый божа, не спазніцца і не*

*даць лішні повад для крытыкі.* Шамякін. *Усіх, хто правінаваціўся, трапіў на дыван да «таты» — дырэктара саўгаса, — адсылалі да Аляксея Трафімавіча на перавыхаванне.* Тычына.

**СТАВІЦЬ НА ДЫВАН** *каго.* Гл. ставіць.

*ДЫК* • **ВОСЬ ДЫК ТАК!** Гл. вось.

**ВОСЬ ДЫК ШТУКА!** Гл. вось.

*ДЫКТОЎКУ* • **ПАД ДЫКТО́ЎКУ** *каго, чыю. Акал. Функц. не зам. Неадабр.* Па загаду, па ўказцы, пад уплывам каго-н. (рабіць што-н.). *[Дзюрвіль:] Вы супраць урада? [Леду:] Калі ўрад пад вашу дыктоўку піша законы і парушае элементарныя правы грамадзян, народ мае права супраціўляцца такому ўраду.* Макаёнак. *[Гестапаўцы] катавалі і Загарульскага, пакуль ён не страціў волю і не пачаў выступаць пад іх дыктоўку.* Новікаў.

*ДЫМ* • **ДЫ́М КАРО́МЫСЛАМ <ІДЗЕ́, ПАЙШО́Ў, СТАІ́ЦЬ, СТА́Ў>**. *Часцей у безас. ужыв. Разм. Часцей неадабр.* Дзе-н. пануе вялікае ажыўленне ці падымаецца шум, беспарадак, сумятня. *У другой [вёсцы] паліцаі вяселле гуляюць, нейкага бобіка жэняць: панаехала, на вуліцах поўна падвод, п'янка — дым каромыслам.* Быкаў. *У іх і імёны адны і тыя ж — Алікі ды Віцькі. Даўно адслужылі ў арміі, ім па трыццаць ужо, а то і за, у работу не загнаць, жаніцца не хочуць. І п'юць за мамкамі-таткамі так, што дым каромыслам.* Ракітны. *Аматары выпіць кіравалі ў суседнюю вёску, дзе спадзяваліся раздабыць самагонкі. І пайшоў дым каромыслам!* «Вожык».

**ПУСКАЦЬ ДЫМ У ВОЧЫ** *каму.* Гл. пускаць.

**У ДЫ́М**. *Акал. Разм.* **1.** *Неадабр.* Вельмі моцна (п'яны, напівацца і пад.). **Сін.**: да парасячага піску; да чорцікаў (у 2 знач.); у дрызіну; у дыміну; як гразь; як зямля; як свіння. *Старому ўспаміналася, як Крывароты, п'яны ў дым, хваліўся Яўхіму: «Ты, Глушак, не думай, што калі я п'ю, то розум прапіваю! Не страчваю розуму!»* Мележ. *[Кружліка] п'яненькім у дым падабраў на дарозе ляснік, пасадзіў на свайго каня і, каб не ўпаў, прывязаў да лукі сядла, так і даставіў у лагер.* Масарэнка.

**2.** Ушчэнт, поўнасцю, канчаткова (рабіць, разнесці і пад.). **Сін.**: у пух і прах. — *Г-гад! — выў Мікола. — Трымай, дзядзька Лаўрэн, у дым разнясе...* Самуйлёнак. *Вадзім быў невысокі, шчупленькі, як падлетак, але яго пабойваліся, нават сам Аксакал, творы якога Вадзім аднойчы разнёс у дым.* Гігевіч.

**ЯК (НІБЫ́) ДЫ́М**. *Вык. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн., выраж. словам *пагода.* Выдатная, цудоўная. — *Ах, ну і пагода, пане ты мой! — падыходзіць Варанец да Грамабоевага воза. — Проста як дым. Гэта ж свежыя пракосы разбіў я ля рэчкі, дык увачавідкі млее трава.* Крапіва. *Неба сіняе бліщчала на зямлю палахлівымі зоркамі, і гэта ўжо давала ведаць, што заўтра будзе пагода — як дым.* Ніканові́ч. *А сягоння пагода — нібы дым. Хаця яшчэ снегу не шкодзіла б крыху. Сонца, ціха, марозна — любата...* Радкевіч.

*ДЫМАВАЯ* • **ДЫМАВАЯ ЗАСЛОНА**. Гл. заслона.

*ДЫМАМ* • **ІСЦІ ДЫМАМ**. Гл. ісці.

**ІСЦІ З ДЫМАМ**. Гл. ісці.

**ПУСКАЦЬ <З> ДЫМАМ** *што, каго.* Гл. пускаць.

**ПУСКАЦЬ З ДЫМАМ ДА БОГА** *што, каго.* Гл. пускаць.

*ДЫМІНУ* • **У ДЫМІ́НУ** *п'яны, напівацца* і пад. *Акал. Праст. Неадабр.* Вельмі моцна. **Сін.**: да парасячага піску; да чорцікаў (у 2 знач.); у дрызіну; у дым (у 1 знач.); як гразь; як зямля; як свіння. *[Галіна Паўлаўна:] Доказаў прадставіць не магу. [Галубовіч:] Якія ж яшчэ доказы. П'яная ў дыміну.* Крапіва. *Позна здагадваецца Касцюшка, што незна-*

*ёмы ў дыміну п'яны і ад яго можна ўсяго чакаць.* Навуменка. *[Сымон:] Ён п'яны ў дыміну — не разбярэцца...* Махнач.

*ДЫФІРАМБЫ* • **ПЕЦЬ ДЫФІРАМБЫ** *каму, чаму*. Гл. пець.

*ДЫХ* • **БІЦЬ ПАД ДЫХ**. Гл. біць.
**УДАР ПАД ДЫХ**. Гл. удар.

*ДЫХАЕ* • *Ведаць, пераконвацца* і пад. **ЧЫМ ДЫХАЕ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. (Ведаць) што ўяўляе з сябе хто-н., які яго настрой, інтарэсы і пад. *Апынуўшыся на ціхай вуліцы, Бонч-Бруевіч успомніў словы жонкі Духоніна пра Аляксеева. «А што калі зайсці да яго? Цікава, чым ён дыхае?..»* Гурскі. *Пра гэты яго настрой Варанецкі чуў ад многіх калгаснікаў. Цяпер ён сам пераканаўся, чым дыхае Выжлік.* Дуброўскі. *Хто чым дыхае, у вайну добра праявілася, але водгаласы недаверу, насцярожанай падазронасці засталіся.* Навуменка.

*ДЫХАННЕ* • **ДРУГО́Е ДЫХА́ННЕ**. *Мн. не ўжыв. Дзейн. ці дап. Функц. не зам.* Новыя сілы, прыліў энергіі, бадзёрасці (пасля стомы, апатыі, няўдачы і пад.). *Алесь раскатурхаў мяне, пацягнуў за сабой. У мяне, як кажуць, з'явілася другое дыханне.* Карпаў. *На маё шчасце, прыйшло другое дыханне, як сказалі б зараз. Я бег напрасткі праз яры, агібаючы гарбы, на якіх мяне маглі заўважыць.* Караткевіч.
**ЗАТАІЦЬ ДЫХАННЕ**. Гл. затаіць.
**ПЕРАВОДЗІЦЬ ДЫХАННЕ**. Гл. пераводзіць.

*ДЫХАННЕМ* • **З ЗАТО́ЕНЫМ ДЫХА́ННЕМ** *слухаць*. *Акал. Функц. не зам.* Вельмі ўважліва, зацікаўлена. *Пятро распытваў пра жыццё партызанаў, з затоеным дыханнем слухаў усё, што расказваў яму Саша.* Новікаў. *З затоеным дыханнем слухалі разаноўцы паведамленні з фронту.* Жураўскі.

*ДЫХАННІ* • **НА АДНЫ́М ДЫХА́ННІ**. *Акал. Функц. не зам.* **1**. Вельмі хутка, парывіста, імкліва (бегчы, рабіць што-н.). **Сін.**: без аглядкі (у 1 знач.); без духу *бегчы*; без душы *бегчы*; без памяці (у 1 знач.); ва ўсе лапаткі (у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.); з усіх ног; колькі <было> духу; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўвесь мах; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у 2 знач.); на ўсе ногі; на ўсіх парах; на ўсіх парусах; на ўсю моц (у 2 знач.);чуй дух; што ёсць духу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 2 знач.); як дуж; як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як мага (у 1 знач.); як на крыллях; як на пажар; як падсмалены. **Ант.**: як чарапаха. *Увесь канец вуліцы лейтэнант з салдатамі прабеглі на адным дыханні, і на пачатку Міколкавага частакола напароліся на самага гаспадара.* Кудравец. *Віня аказваецца спрытнейшай: яна на адным дыханні пералятае агароджу, якая аддзяляе двор інтэрната ад новага мікрараёна...* Іпатава.
**2**. З вялікім творчым уздымам, з натхненнем (чытаць, прачытаць). *Першыя старонкі, ужо выкананыя, выпакутаваныя аж да кожнага слова, да кожнай коскі, пісаліся на адным дыханні.* Асіпенка. *Твор дасягнуў узроўню той дасканаласці, калі гавораць, што ён напісаны на адным дыханні.* Кісялёў.
**3**. З вялікай зацікаўленасцю ад пачатку да канца (чытаць, прачытаць, слухаць і пад.). *Зусім нядаўна Аляксей даў мне прачытаць новую, трэцюю сваю п'есу. Прачытаў, як кажуць, на адным дыханні.* Петрашкевіч. *Сход прайшоў на адным дыханні.* «Полымя».

*ДЫХАННЯ* • **ДА АПО́ШНЯГА ДЫХА́ННЯ (УЗДЫ́ХУ)** *біцца, змагацца, кахаць* і інш. *Акал. Функц. не зам.* Да самай смерці, да канца жыцця. **Сін.**: да веку; да канца дзён; да магілы; да скону дзён. **Ант.**: ад калыскі. *[Рыгор] зразумеў, што не здолее жыць без таго,*

*што меў дагэтуль, — без вольнай і шчаслівай радзімы. І ён гатовы быў змагацца за яе да апошняга дыхання.* Краўчанка. *[Кукушкін:] І жыццё сваё хачу ўручыць таварышу лейтэнанту. Ён яго выратаваў — ён ім няхай і распараджаецца да апошняга дыхання.* Губарэвіч. *Можа, мяне сустрэне няшчасце і жорсткі лёс разлучыць нас назаўсёды, то ведай, дарагі мой, я буду кахаць цябе да апошняга дыхання.* Гроднеў. *Прайшлі вякі, а пра гэтае арлінае гняздо і тых ваякаў, што змагаліся тут да апошняга ўздыху, бароначы сваё права, — не забылі.* Галубок.

*ДЫХАЦЬ* • **ДЫ́ХАЦЬ ВО́ЛЬНА (СВАБО́ДНА)**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адчуваць сябе незалежным, вызваліўшыся ад чаго-н. непрыемнага, гнятлівага. **Сін**.: пабачыць свет; уздыхнуць вольна; уздыхнуць на поўныя грудзі. *[Клімёнак] адчуваў сябе вінаватым у смерці таварыша. І гэта віна цяжкім каменем ляжала ў яго на сэрцы і прыгнятала і не давала вольна дыхаць...* Дамашэвіч. *Я, можа, толькі з табою і дыхаю свабодна.* Карпаў.

**ДЫ́ХАЦЬ (ДЫХНУ́ЦЬ) НЕ ДАВА́ЦЬ (НЕ ДА́ЦЬ)** *каму. Незак. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Назаляць, дакучаць каму-н., прыставаць да каго-н. **Сін**.: не даваць быту *каму*; не даваць жыць *каму*; не даваць спакою *каму. Насядае жонка. Што дзень, то заўзяцей. Дыхаць не дае.* Шынклер. *А авадні, як рой пчаліны, сляпіцай лезуць да скаціны, гудуць драпежна, тнуць балюча, бы крапіва тая пякуча, дыхнуць каровам не даюць.* Колас. **ДЫХАЦЬ (ДЫХНУЦЬ) НЕ ДАЦЬ** *каму. Зак. [Ціхон:] Цьфу, што за народ! Дыхнуць не дадуць хворай бабе!* Козел.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прыгнятаць, тыраніць каго-н. **Сін**.: вымаць душу *з каго, каму* (у 1 знач.); высмоктваць сок *з каго, з чаго* (у 2 знач.); вытрасці душу *з каго, каму* (у 1 знач.); даставаць гізунты *з каго*; напіцца крыві *чыёй*; піць кроў *з каго, чыю* (у 2 знач.). *Судзіць [Мацвея Гусака] будуць тыя, каго ён дратаваў, забіваў, рэзаў, не даваў дыхнуць ні даросламу, ні дзіцяці.* Пестрак. **ДЫХАЦЬ (ДЫХНУЦЬ) НЕ ДАЦЬ** *каму. Зак.*

**ДЫ́ХАЦЬ НА ЛА́ДАН**. *Незак. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць цяжка хворым, блізкім да смерці. **Сін**.: адной нагой стаяць у магіле; глядзець на той свет; глядзець у магілу; з кірмашу ехаць; зямлёй пахнуць; ледзь дыхаць (у 1 знач.). **Ант**.: стаяць напроці свайго веку. *Праўда, я ведаў, што медыкі заўжды суцяшаюць параненых, нават і тады, калі тыя дыхаюць на ладан.* Быкаў. *Вольгу вершы такія спачатку не кранулі, яна падумала з грубаватай гарэзлівасцю: «Бач ты, на ладан дыхае, а пра любоў думае».* Шамякін.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Даходзіць да непрыгоднасці, занепадаць. **Сін**.: ледзь дыхаць (у 2 знач.); ледзь стаяць на нагах (у 3 знач.). *Электрастанцыя дыхае на ладан.* Лынькоў. *Гэты драўляны домік на ладан дыхае.* Пянкрат. *Само памяшканне склада ўжо старое ды пахіленае... Словам, на ладан дыхае.* «Вожык».

**ДЫ́ХАЦЬ У ПАТЫ́ЛІЦУ** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць, знаходзіцца ззаду, з тыльнага боку каго-н. *[Таня:] Ты мне перашкаджаеш. [Віталь:] Я ж ціха сяджу. [Таня:] Не люблю, калі мне дыхаюць у патыліцу.* Каржанеўская. *Перад ім [асуджаным] ішоў наглядчык, у патыліцу дыхаў прапаршчык. «Узялі ў абцугі...»* Воранаў. *Мікуліч спяшаўся, разумеючы, што аднарукі ахоўнік, што дыхаў яму ў патыліцу, з задавальненнем выставіць за дзверы.* Праўдзін.

**ЛЕДЗЬ (ЛЕ́ДЗЬВЕ) ДЫ́ХАЦЬ**. *Незак. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць вельмі слабым, цяжка хворым, блізкім да смерці. **Сін**.: адной нагой стаяць у магіле; глядзець на той свет; глядзець у магілу; дыхаць на ладан (у 1 знач.); з кірмашу ехаць; зямлёй пахнуць. **Ант**.: стаяць напроці свайго веку. *[Старая:] Ледзьве ўжо ды-*

*хаю. Ногі як палкі, не ступіць.* Адамчык. *Іншы вунь ледзь дыхае, з бальніцы не вылазіць, а глядзіш — усіх пераЖыў.* «ЛіМ». *Кажу: «Няхай вінтоўку якую дадуць, як мне з голымі рукамі ехаць?» Кажа Сурвіла: «Не трусь, я са зброяй. Калі і пабяжыць [палонны]. Ды і не пабяжыць ён, ледзьве дыхае».* Быкаў.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Даходзіць да непрыгоднасці, занепадаць. **Сін**.: дыхаць на ладан (у 2 знач.); ледзь стаяць на нагах (у 3 знач.). *[Шафёр:] Ды і машынцы гэтай даўно б стаяць у музеі, яна ледзь дыхае, а ад яе хочуць яшчэ нейкага толку.* І.Капыловіч.

*ДЫХНУЦЬ* • **ДЫХНУЦЬ НЯМА КАЛІ** *каму*. Гл. няма.

*ДЫХТУ* • **ДАВАЦЬ ДЫХТУ**. Гл. даваць.

*ДЫХУ* • **НІ СЛЫХУ НІ ДЫХУ**. Гл. слуху.

*ДЫЯГАНАЛІ* • **ПА ДЫЯГАНА́ЛІ** <u>*чытаць, перачытаць.*</u> *Акал. Функц. не зам. Неадабр.* Няўважліва, павярхоўна. *І тут жа [Шура] успомніў, што даўно збіраўся зайсці ў бібліятэку, узяцца і па-сапраўднаму перачытаць класіку, не так, як студэнтам — па дыяганалі.* А.Жук. *Як намеснік галоўнага (начальнік!) чытаў ён [В.Бечык] заўсёды не партытурна, не па дыяганалі, а прыцэльна, умеючы абавязкова выйсці на слабае і спрэчнае.* «ЛіМ».

*ДЭКАРАЦЫЙ* • **ПЕРАМЕНА ДЭКАРАЦЫЙ**. Гл. перамена.

*Д'ЯБАЛ* • **<САМ> Д'ЯБАЛ ГАЛАВУ СКРУЦІЦЬ** <*дзе, у чым*>. Гл. чорт.

*Д'ЯБЛА* • **ДА Д'Я́БЛА**. *Прост.* **1**. *Акал.* Прэч (ісці, пайсці, гнаць, выганяць і пад.). Выказванне злосці на каго-, што-н., жаданне пазбавіцца ад каго-, чаго-н. **Сін**.: да чорта (у 1 знач.); з вачэй *чыіх, каго* (у 2 знач.); з вачэй далоў (у 2 знач.); к чортавай матары (у 1 знач.); к чорту (у 1 знач.); на сухі лес. *Ты гэтак служыш, о, лайдаку! Да д'ябла выганю, сабаку, каб не было тут твайго смроду!* Колас. *Мне толькі крыўдна трохі, што, здаецца, мне болей, чым яму, перапала ў гэтай бойцы, а так усе яны — і Лёшка, і Люся, і іншыя, хто заадно з ім, — няхай яны ідуць да д'ябла.* Быкаў.

**2**. *Акал.* Ушчэнт, прахам (ляцець, ісці). **Сін**.: к чортавай матары (у 2 знач.); к чорту (у 2 знач.). *Слова за слова — і пачынаўся пералік крыўд, і ўсё ляцела да д'ябла.* Шамякін. *Тое, што адбывалася ў самой канферэнц-зале, яўна сведчыла аб тым, што ўвесь папярэдні сцэнарый паляцеў да д'ябла.* «Звязда».

**3**. *Акал.* Навошта, дзеля чаго? **Сін**.: на воўка; на ліха; на халеру; на хваробу; на храна; на чорта; на які ляд; на які хрэн; на які чорт; на якога чорта; на якое ліха; на якую трасцу; на якую халеру; якога ліха (у 1 знач.); якога ражна (у 1 знач.); якога хрэна (у 1 знач.); якога чорта (у 1 знач.). *Абодвум нам, гібеўшым на вайне, да д'ябла нам вайна ізноў здалася!* Панчанка. *Можа, у гэтай стрыманасці, у гэтай загадкавасці і заключаецца прыцягальная сіла кахання? Да д'ябла такую сілу! Я ўжо не зялёны школьнік. І я хачу не толькі кахаць, але і быць каханым.* Прыгодзіч.

**4**. *У знач. пабочн. сл.* Выказванне іранічных адносін да каго-, чаго-н. **Сін**.: к чорту (у 3 знач.). *— Толькі твайму другу Кідалу хацелася «ўтапіць» мяне... — Які ён, да д'ябла, мне друг.* Шамякін. *Калі ты патураеш мане, які ж ты, да д'ябла, мастак!* Дзяргай.

**Д'ЯБЛА ЛЫСАГА**. Гл. чорта.
**НА Д'ЯБЛА**. Гл. чорта.
**НА ЯКОГА Д'ЯБЛА**. Гл. чорта.
**НІ Д'ЯБЛА**. Гл. чорта.
**ЯКОГА Д'ЯБЛА**. Гл. чорта.

# Е

*ЕВЫ* • **У КАСЦЮМЕ ЕВЫ**. Гл. касцюме.

*ЕГІПЕЦКАЯ* • **ЕГІПЕЦКАЯ КАРА**. Гл. кара.

*ЕДЗЕ* • **ЖУЛІК НА ЖУЛІКУ ЕДЗЕ І ЖУЛІКАМ ПАГАНЯЕ** *дзе*. Гл. жулік.

*ЕЗДЗІЎ* • **ЁЗДЗІЎ У РЫГУ**. *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ванітавала каго-н., звычайна пры моцным ап'яненні. **Сін.**: казлы драць. *Толькі помніцца [Хвядосу], як праз сон бачыў, што два разы ездзіў у рыгу.. і як гаспадар, выйшаўшы з-за буфета, абзываў свіннямі і хацеў выгнаць вон...* Калюга. **З'ЕЗДЗІЎ У РЫГУ**. *Зак. Потым з'ездзіў двойчы ў «рыгу», а назаўтра ўстаў з пахмелля, — праклінае Антак «зелле»...* Крапіва.

*ЕЗДЗІЦЬ* • **ЁЗДЗІЦЬ (ЁХАЦЬ) ВЯРХО́М** *на кім. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прыгнятаць, выкарыстоўваць каго-н. у сваіх інтарэсах, здзекавацца з каго-н. **Сін.**: браць верх (у 1 знач.); браць у <свае> рукі (у 1 знач.); віць вяроўкі *з каго*; выкручваць сырыцу *з каго*; ездзіць на карку *чыім*; запрагаць у аглоблі *каго*; надзяваць аброць *на каго, на што*; надзяваць хамут *на каго*; надзяваць ярмо на шыю *каму, каго*; падмінаць пад сябе *што, каго*; прыбіраць да рук (у 1 знач.); садзіцца на галаву *каму*; садзіцца на карак *каму, чый, каго* (у 1 знач.); сціскаць у кулак *каго*; убіраць у <свае> рукі (у 1 знач.). *Вучыў, вучыў яго [сына] і цяпер вучу — у адно вуха ўлятае, у другое — вылятае. Гэта ж трэба так дапусціцца, каб жонка вярхом ездзіла.* «Маладосць». *[Паўлюк:] Дзіўныя то дзіўныя, праўду ты, чалавеча, кажаш, справы божага нібыта на свеце ладу!... Як жа! Адны на другіх вярхом едуць, б'юць і плакаць не даюць.* Дыла.

**ЁЗДЗІЦЬ НА КА́РКУ** *чыім. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Здзекавацца з каго-н., прыгнятаць, выкарыстоўваць у сваіх інтарэсах. **Сін.**: браць верх (у 1 знач.); браць у <свае> рукі (у 1 знач.); віць вяроўкі *з каго*; выкручваць сырыцу *з каго*; ездзіць вярхом *на кім*; запрагаць у аглоблі *каго*; надзяваць аброць *на каго, на што*; надзяваць хамут *на каго*; надзяваць ярмо на шыю *каму*; падмінаць пад сябе *што, каго*; прыбіраць да рук (у 1 знач.); садзіцца на галаву *каму*; садзіцца на карак *каму, чый, каго* (у 1 знач.); сціскаць у кулак *каго*; убіраць у <свае> рукі (у 1 знач.). *Каб рабочыя і сяляне баяліся, што на іх наступяць з пажарамі ды забойствамі, дык яшчэ да гэтага часу фабрыкант і пан ездзілі б на нашым карку.* Бядуля. *Ты, братка мой, падумай толькі, семера баб у хаце, а я адзін, і кожная, на карку тваім во-от як ездзіць, каб змаглі ў дамавіну раней часу загналі б...* Лынькоў.

**ЁЗДЗІЦЬ ПА ЛЕ́ВЫМ БАКУ́**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Парушаць нормы літаратурнай мовы. *Аматараў ездзіць па левым баку стала менш, і ў друку за блытаніну яны не выступаюць: калі блытаюць, дык паціху, без дэкларацый.* Крапіва. *Для некаторых людзей моўная норма — не закон. Яны «ездзяць па левым баку».* «ЛіМ».

*ЕМЯ* • **НІ СЕМЯ НІ ЕМЯ**. Гл. семя.

*ЕРЫХОНСКАЯ* • **ЕРЫХОНСКАЯ ТРУБА**. Гл. труба.

**<ЯК> ЕРЫХОНСКАЯ ТРУБА**. Гл. труба.

*ЕСЦІ* • **ДАРМА́ (ДАРЭ́МНА) ЁСЦІ ХЛЕ́Б**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Жыць, нічога не робячы, не прыносячы ніякай карысці. *Я губляю пад нагамі глебу. Уяўленне такое, што я дарма ем хлеб.* Гурскі. *Шмат можна пабачыць у му-*

*зеі. Не дарма ядуць хлеб біелагі.* Навуменка. *[Балуеў:] Прызнаць, што мы — жрацы ваеннае навукі — дарэмна елі хлеб?..* Клімковіч.

**ЕСЦІ ВАЧАМІ (-ЫМА)** *каго, што. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пільна глядзець на каго-, што-н. **Сін.**: не адрываць вачэй *ад каго, ад чаго* (у 2 знач.); не зводзіць вачэй *з каго, з чаго* (у 1 знач.); не спускаць вачэй *з каго, з чаго* (у 1 знач.); не спускаць з вачэй *каго, што* (у 1 знач.). *Хто ён, той чалавек, якога гэтак уважліва слухае, ажно есць вачамі, ды яшчэ кулак сціснуўшы, Якуб Герасімовіч?* Карамазаў. *Які час мужчыны елі адзін аднаго вачыма, цяжка саплі.* Лялько. *На сцяне была такая картка: два маладыя хлопцы, праглынуўшы аршыны, сядзелі на лаўцы і елі вачыма аб'ектыў фотаапарата.* Васілёнак.

**ЕСЦІ ЛАПЦЕМ БОРШЧ**. Гл. сёрбаць.

**ЕСЦІ НЕ ПРОСІЦЬ**. Гл. просіць.

**ЕСЦІ ПОЕДАМ** *каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Беспрастанку папракаць, дакараць, зневажаць. **Сін.**: вымаць душу *з каго, каму* (у 1 знач.); высмоктваць сок *з каго, з чаго* (у 2 знач.); вытрасці душу *з каго, каму* (у 1 знач.); даставаць гізунты *з каго*; дыхаць не даваць *каму* (у 2 знач.); напіцца крыві *чыёй*; піць кроў *з каго, чыю* (у 2 знач.). *Ты ж яго грызла і грызла, поедам ела. Ды не адна, а ўдзвюх з маткаю.* Міська. *Страшыш мяне... Пайдзі ёй скажы! Поедам есць, дыхнуць спакойна не дае...* Лецка.

**ЕСЦІ ПРОСІЦЬ**. Гл. просіць.

**ЕСЦІ СВОЙ ХЛЕБ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Жыць, самому зарабляючы на сябе. *Трэба прывучаць дзяцей да самастойнага ўзлёту. І адчуваць, калі дзяцей пусціць на свой лёт. Прывучыць, як у сяле казалі, есці свой хлеб.* Грамовіч. *Прыемна адчуваць, што робіш нешта карыснае, а значыць, не дарэмна жывеш на свеце і ясі свой хлеб.* Навуменка. *Галава сям'і, з семнаццаці год свой хлеб есць... Ніколі не лайдачыў, не хітрыў...* І.Капыловіч.

**ЕСЦІ ХЛЕБ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** *з чаго.* Мець карысць, даход з якога-н. занятку. *У музычным тэхнікуме Віктар вучыўся па класу акардэона, як жа было не купіць сыну інструмента, з якога ён збіраўся есці хлеб. І Віктар еў хлеб са свайго акардэона...* Арабей. *І без працы сядзець таксама не выпадала: трэба было з нечага есці хлеб.* Сачанка. *[Мешчанчук:] Гавары, каго ты яшчэ дзе хаваеш? [Леапольд Гушка:] Шукай, ты з гэтага хлеб ясі.* Чорны.

**2.** *чый.* Жыць за чый-н. кошт, знаходзіцца на чыім-н. утрыманні. **Сін.**: вісець на шыі *ў каго, чаго, чыёй* (у 1 знач.); садзіцца на карак *каму, чый, каго* (у 2 знач.); сядзець на шыі *чыёй, у каго, каго.* **Ант.**: злазіць з карку *чыйго. [Маладзіца:] Усё бядуе, што хлеб наш есць... [Каменачос:] І колькі ўжо я прасіў яго: не думай, што наш хлеб ясі, кінь мардавацца з гэтым таргаваннем.* Гарэцкі. — *Да мяне жанчыны прыходзяць скардзіцца на вас. Не было вас, яны працавалі, выбіваліся з сіл, каб мы ў арміі ні ў чым не адчувалі патрэбы; вярнуліся вы, і зноў яны вымушаны вас карміць. Сорам. — Я чужога хлеба не ем!..* Шамякін.

**З СЯМІ ПЕЧАЎ ХЛЕБ ЕСЦІ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць у розных пераплётах і многае зведаць у жыцці. **Сін.**: прайсці <праз> агонь і ваду і медныя трубы. *Я-то што? Лічы, аджыў сваё, пяцьдзесят пяць маю, а ты яшчэ свету не бачыў... Я, лічы, усё зведаў і спазнаў, з сямі, як гаворыцца, печаў хлеб еў...* Адамчык. *Многа я бадзяўся па свеце. З сямі печаў хлеб еў... А лепшай ракі, чым наш Дняпро, не бачыў.* Лeconвановіч.

**ПАСАЛІЎШЫ МОЖНА ЕСЦІ.** *Азн. і вык. Разм. Жарт.* Ужыв. у адносінах да асобы ці канкр. прадмета. Ні дрэнны і ні добры, пасрэдны. **Сін.**: з сярэдзінкі на палавінку (у 1 знач.); не бог ведае які; ні богу свечка ні чорту качарга; ні два ні паўтара (у 1 знач.); ні рыба ні мяса; ні сыры ні печаны; ні тое ні сёе (у 1 знач.); ні ў салдаты ні ў матросы ні падмазваць калёсы; сюды-туды (у 3 знач.); сярэдзінка на палавінку; сярэдняй рукі; так сабе (у 3 знач.); чорт не чорт і два не выходзіць. — *Новых п'ес у вас не густа, чым мая вам не да густу? — Калі справа йдзе аб змесце, пасаліўшы можна есці.* Крапіва. *Нічога, бяры, пасаліўшы можна есці.* Юрчанка. *«Добрых і розных» вершаў у «Дні паэзіі» багата, іх больш, чым вершаў-сераднячкоў, пра якія звычайна гавораць «так сабе», «пасаліўшы есці можна».* Гілевіч. — *Звычайныя заводскія, фабрычныя дзяўчаты, якіх тузін на фунт сушаных. — Пасаліўшы есці можна, — ацаніў Жорка.* Казько.

**ШЫЛАМ ХЛЕБ ЕСЦІ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Жыць у нястачы, у беднасці, галадаючы. *Жонка, зрэшты, таксама ў тым Мюнхене не стала хлеб шылам есці: у палякаў — а яна з іх — усё якіясьці сваякі ў заходнім замежжы.* Яновіч. [*Лепешаў*, с. 82; *Даніловіч*, с. 209: шылам хлеб есці — 'не мець сродкаў для існавання'.]

*ЕЎ* • **МАЛА КАШЫ ЕЎ (ЕЛА, ЕЛІ; З'ЕЎ, З'ЕЛА, З'ЕЛІ; ПАЕЎ, ПАЕЛА, ПАЕЛІ).** *Разм. Часта неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Недастаткова вопытны, замалады, каб брацца за якую-н. сур'ёзную справу. **Сін.**: молада-зелена. *Тады Валера стаў падаваць дзвюма рукамі па адной цагліне. Але Толіку гэта не спадабалася, і ён сказаў: «Мала ты яшчэ кашы еў, бяжы лепш на рэчку пакупайся».* Кусянкоў. — *Гэта табе не на бандуры пілікаць, — паказваючы на віяланчэль, зласліва гаворыць хлапчук, — мала кашы ела.* Вітка. *Нас так проста з зямлі не скалупнеш, кашы вы яшчэ мала елі.* Караткевіч. *Гаворыце, што ён мала яшчэ кашы з'еў! Затое колькі выпіў віна!* Шыбут. *Дзверы былі зачынены. Пнуўся ён, пнуўся — ніяк. Тады цётка Галена сказала, што мала яшчэ кашы паеў.* Гроднеў.

*ЕЎРОПАХ* • **ГАЛОПАМ ПА ЕЎРОПАХ.** Гл. галопам.

*ЕХАЎ* • **НІ ІШОЎ <І> НІ ЕХАЎ** *каму.* Гл. ішоў.

*ЕХАЦЬ* • **ДАЛЕЙ ЕХАЦЬ НЯМА КУДЫ.** *Незак. Часцей у знач. вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Горш не можа быць. **Сін.**: далей некуды (у 2 знач.). **Ант.**: далей некуды (у 1 знач.). *Здавалася б, Лычагін так накуралесіў, так аскандаліўся, што далей ехаць няма куды. А ён — нічога...* «Звязда».

**ЕХАЦЬ ВЯРХОМ** *на кім.* Гл. ездзіць.

**ЕХАЦЬ ДА АБРАМА НА ПІВА.** Гл. адпраўляцца.

**ЕХАЦЬ НА ВАЛАХ.** *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Вельмі марудна рухацца, цягнуцца, дастаўляцца і пад. **Сін.**: маслёнку везці. *Быў нават такі момант, калі я падумаў — можа, засталося ўжо мала часу, каб адпісваць табе — ты далёка, пісьмы едуць на валах... Але ўспомніў авіяпошту.* Колас. *Хоць турэмны час, як кажуць, едзе на валах, але і на месцы не стаіць: пра «ўсыпку» даведваліся ўсё новыя і новыя людзі, сябры і знаёмыя.* Калеснік.

**З КІРМАШУ ЕХАЦЬ.** *Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Блізіцца да канца свайго жыцця. **Сін.**: адной нагой стаяць у магіле; глядзець на той свет; глядзець у магілу; дыхаць на ладан (у 1 знач.); зямлёй пахнуць; ледзь дыхаць (у 1 знач.). **Ант.**: стаяць напроці свайго веку. *Гэта ж трэба, Антось Клепча, які ўжо з кірмашу едзе, запісаўся з гэтай самай Хлёркавай Ганнай.* Скрыпка.

**НА ЧУЖЫМ ГАРБУ (КАРКУ, СПІНЕ) У РАЙ ЕХАЦЬ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Карыстаючыся плёнам чужой працы, дамагацца сваей ка-

рыслівай мэты. **Сін.**: заграбаць жар чужымі рукамі. — *Ты гэта што — мітынгаваць уздумаў?.. — А то! Хопіць на чужым гарбу ў рай ехаць, — запальчыва сказаў ён і адвярнуўся ўбок.* Быкаў. *[Ганна:] Не магу спакойна! Ён хоча перадавіком стаць! На чужым гарбу ў рай! Вунь яно што! Ах ты, гніда ты!..* Макаёнак. — *Чаго ж тады бунтаваць? — Проста некаторыя прывыклі на чужой спіне ехаць у рай. А тут мінаецца масленіца...* Мыслівец.

**НА ЧУЖЫМ ГАРБУ (КАРКУ, СПІНЕ) У РАЙ УЕХАЦЬ.** *Зак. [Сухадольскі:] Разумнікі знайшліся! Хочуць на чужым карку ў рай уехаць.* Крапіва. *[Багатыры] разам з сабою беднякоў у адну кучу згалабурдзяць, хочуць на чужым карку ў рай уехаць.* Чорны.

*ЕШ* • **ЁШ НЕ ХАЧЎ** *чаго. Толькі ў заг. л. У безас. ужыв. ці акал. Прост.* Удосталь (чаго-н., часцей прадуктаў). **Сін.**: ад пуза (у 1 знач.); да адвалу; за трох дурных; колькі душа жадае; колькі ўлезе (у 1 знач.); на поўную губу (у 1 знач.); на ўсю губу; не ў свой дух; хоць жывот расперажы; хоць расперажыся; як дурны на памінках; як на дзяды (у 1 знач.); як не ў сябе; як у прорву. *[Міхаліна:] А хлеба ў ларцы, дзякуй богу, усякага — еш не хачу, і цукар ёсць, і агуркі ў банках балгарскія з перцам, і рыбы гэтай вірлавокай невыводна...* Петрашкевіч. *А зараз цэгла на плошчы навалам ляжыць — еш не хачу.* Казько.

**ХО́ЦЬ ВО́ЎК ТРАВЎ ЁШ.** *Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм.* Абсалютна аднолькава, без розніцы, не мае значэння для каго-н., не хвалюе, не кранае каго-н. **Сін.**: абы дзень да вечара *каму* (у 2 знач.); адзін хрэн *каму*; адзін чорт <*каму, для каго*>; адна трасца <*каму*>; адна халера; адно ліха; і гора мала *каму*; і не шум баравы *каму*; ні горача ні холадна *каму ад чаго*; усё адно (у 2 знач.); усё роўна (у 4 знач.); хоць бы хны (у 3 знач.); хоць бы што (у 3 знач.); хоць патоп; хоць трава не расці <каму>; што з гусі вада *з каго, каму*; як з гусака вада *з каго.* — *Наша дзела — зрабіць вяселле, — смяяўся Міхась. — Грошай трохі ёсць, выпіць-закусіць таксама будзе — а там хоць воўк траву еш.* Кажадуб. — *Вось мы ўсё раскапаем, а там... — А там хоць воўк траву еш.* «Маладосць».

# Ё

*ЁКНУЛА* • **СЭРЦА ЁКНУЛА** *у каго.* Гл. сэрца.

*ЁЛКІ* • **ЁЛКІ ЗЯЛЁНЫЯ.** *Адз. не ўжыв. Выкл. Прост.* Вокліч захаплення, здзіўлення, прыкрасці і пад. **Сін.**: авохці мне; бляха-муха; ёлкі-маталкі; ёлкі-палкі; ё-маё; фу ты <ну ты>; халера ясная; цьфу ты, нячыстая сіла; чорт бы яго ўзяў; чорт вазьмі; чорт ведае што такое. — *Я вунь быў у Раўках, у калгасе, — гаварыў далей Змітра. — Дык там, брат, ёлкі зялёныя! У хаце — электрыка, у хляве — электрыка, малоціць — электрыка!* Брыль. *Што ты, ёлкі зялёныя, як хлапчук з далёкага хутара: не пайду, саромеюся.* Цяжкі.

**ЁЛКІ-МАТА́ЛКІ.** *Адз. не ўжыв. Выкл. Прост.* Вокліч захаплення, здзіўлення, прыкрасці і пад. **Сін.**: авохці мне; бляха-муха; ёлкі зялёныя; ёлкі-палкі; ё-маё; фу ты <ну-ты>; халера ясная; цьфу ты, нячыстая сіла; цьфу ты <чорт>; чорт бы яго ўзяў; чорт вазьмі; чорт ведае што такое. — *Ах, ёлкі-маталкі — прамовіў і ўздыхнуў настаўнік. — Не шанцуе...* Гамолка. *[Каляда:] Вось і Міхаіл Васільевіч на кані... А дэзерціраў колькі! Ёлкі-маталкі!* Васілеўскі.

**ЁЛКІ-ПА́ЛКІ.** *Адз. не ўжыв. Выкл. Прост.* Вокліч захаплення, здзіўлення, прыкрасці і пад. **Сін.**: авохці мне; бляха-муха; ёлкі зялёныя; ёлкі-маталкі; ё-маё; фу ты <ну-ты>;

халера ясная; цьфу ты <чорт>; чорт бы яго ўзяў; чорт вазьмі; чорт ведае што такое. *Пяхцер ты разанскі, ёлкі-палкі, і больш нічога, бач, усе яйкі пад шапкой патоўк, вось табе і дуля цяпер, а не яешня, пасмакуй цяпер трасцу з макам.* Лынькоў. *З самай лютай перапалкі ён [Капуста] выходзіў, як з вады. Не баўся, ёлкі-палкі, ён ніякае бяды.* Астрэйка.

*ЁН* • **ГАРЫ ЁН ГАРАМ**. Гл. гары.

**ЧУЦЬ ЗВОН ДЫ НЕ ВЕДАЦЬ ДЗЕ ЁН**. Гл. чуць.

*ЁСЦЬ* • **ЁСЦЬ БОГ НА СВЕЦЕ**. Гл. бог.

**ЁСЦЬ ПРА ШТО ГАВАРЫЦЬ!** Гл. гаварыць.

**<ЁСЦЬ> <СВАЯ> ГАЛАВА НА ПЛЯЧАХ** *у каго*. Гл. галава.

**ЁСЦЬ ЯШЧЭ ПОРАХ У ПАРАХАЎНІЦАХ** *у каго*. Гл. порах.

**ТАК <ЯНО> І ЁСЦЬ**. Гл. так.

**ТУТ ЁСЦЬ ТУТ НЯМА**. Гл. тут.

**ХТО ЁСЦЬ ХТО**. Гл. хто.

**ШТО ЁСЦЬ ДУХУ**. Гл. духу.

**ШТО ЁСЦЬ СІЛЫ**. Гл. сілы.

**ШТО́ НІ <НА> ЁСЦЬ**. *Разм. Адабр. і неадабр.* **1**. *Азн. Ужыв. перад наз.* Сапраўдны, у найвышэйшай ступені. **Сін.**: з галавы да ног (у 2 знач.); да мозгу касцей (у 3 знач.); ні даць ні узяць (у 1 знач.); чыстай вады; як ёсць (у 2 знач.); як мае быць (у 2 знач.). *Свядомасць да работы можна самай што ні на ёсць драбязой выклікаць, — у гэтым цвёрда ўпэўнены Павел Пятровіч.* Шынклер. *Генусь Барадок на ўсю ваколіцу што ні на ёсць адорва, задзірлівы, здаровы.* Радкевіч. *[Жыліч:] З такіх людзей у будучым могуць атрымацца самыя што ні на ёсць кар'ерысты.* Кацюшэнка. *А вот ты, Пракоп, самы што ні ёсць злачынец.* Цяжкі.

**2**. *Акал. Ужыв. перад прыметнікам.* Сапраўды, па-сапраўднаму. *Толькі самым што ні на ёсць адметным скарбам было каменне.* Якавенка. *Самае што ні на ёсць страхалюднае каменне — з усяго поля пасцягвалі...* Вышынскі. *Стары Кандрат самы што ні ёсць звычайны дзядок — сухі, зморшчаны, сівы, сутулы.* Дайнека. *Перад намі па сутнасці, самая што ні ёсць сучасная казка, у якой арганічна знітавалася сапраўднае і ўяўнае, рэальнае і казачнае.* «Настаўн. газ.»

**ЯК ЁСЦЬ**. *Разм.* **1**. *Акал.* Часцей ужыв. пры займ. *усе, усё.* Зусім, абсалютна. *Пот горкі вочы залівае, змачыў кашулю ўсю як ёсць.* Купала. *Я з вамі гавару, героі, што мы на варце ўсе як ёсць!* Броўка. *Ужо ў зеніце самым сонца строгае, і ўсё як ёсць адтуль яму відно.* Бураўкін. *Калі прайшоў ён паўз дзве суседнія хаты — укалола яго жудасная здагадка! Галаскокі пустыя як ёсць.* Чорны.

**2**. *Азн.* Самы сапраўдны, у найвышэйшай ступені. **Сін.**: з галавы да ног (у 2 знач.); да мозгу касцей (у 3 знач.); Ні даць ні ўзяць (у 1 знач.); чыстай вады; што ні <на> ёсць (у 1 знач.); як мае быць (у 2 знач.). *Па становішчу свайму, я так скажу, ён, безумоўна, не кулак, а па прагнасці да хутара як ёсць кулак.* Галавач. — *Неблагі хлопец. Своеасаблівы, натурысты, але паладзіць з ім можна. — Цэрбер як ёсць, — паўтарыў Янчукоў.* Хадкевіч.

<u>*Адзін*</u> **ЯК ЁСЦЬ**. *Акал. Разм.* Зусім (адзін). **Сін.**: як вока ў лобе; як палец (у 1 знач.); як перст (у 1 знач.) *Усё, здавалася яму, мела цяпер такі выгляд, як бы хацела сказаць яму: «У цябе гора, але мы ў гэтым не вінаваты», і пачынала жыць сваім клопатам, сваімі інтарэсамі, зусім для яго чужымі, а ён заставаўся адзін як ёсць.* Колас. *А ў мяне ж у Сумлічах асталася адна як ёсць малая Волечка.* Чорны.

*ЁТУ* • **НІ НА ЁТУ**. *Акал. Функц. не зам. Ужыв. у адмоўн. ск.* Нікольні, зусім (не саступаць, не пераацэньваць і пад.). **Сін.**: на волас (у 2 знач.); на <ломаны> грош; на макулінку (у 2 знач.); на мезены палец; на панюх табакі (у 2 знач.); ні сіні пазногаць (у 2 знач.); на шэлег (у 2 знач.); ні божа мой; ні грама; ні каліва; ні кроплі; ні на <адзін> шэлег (у 1 знач.); ні на волас; ні на грам (у 1 знач.); ні на гран; ні на грош; ні на каліва; ні на кроплю; ні на макава зерне; ні на макулінку. *Жыццё цвёрда крочыць наперад, не саступаючы ні на ёту перад «крамолаю».* Мурашка. *Гэта літаратары, якія добра разумеюць, што авантурыстычныя шараханні.. ні на ёту не дабавяць у набытак культурнага будаўніцтва.* Паўлаў. *Цяпер важна, не супакойваючыся на дасягнутым і ні на ёту не пераацэньваючы зробленага, ісці ўшырыню і ўглыбіню ў гэтай важнейшай справе.* «Настаўн. газ.»

# Ж

*ЖАБА* • **ГРУДНА́Я ЖА́БА**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Сардэчная хвароба з моцным болем у грудзях; стэнакардыя. *Суседзі выклікалі доктара. Участковы ўрач, пажылая кабета, вызначыла: астэна-неўратычны сіндром — пачатак стэнакардыі, або грудной жабы, як завуць гэтую хваробу ў народзе.* Леванові́ч. *У бедным пакоі на цвёрдай канапе, адкінуўшы галаву да сцяны, сядзела маці. Яе душыла грудная жаба. Дзяўчына ў белым халаце ўгаворвала яе згадзіцца на ўкол.* Шамякін.

**ЖА́БА НА ЯЗЫКУ́ НЕ СПЯЧЭ́ЦЦА** *у каго. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. вельмі балбатлівы, не ўмее трымаць сакрэты. **Сін.**: рот <ніколі> не закрываецца *у каго*; слабы на язык; язык без касцей *у каго*; язык доўгі *у каго*; язык каля вушэй матляецца *у каго*; язык меле *чый*; язык па-за вушамі ходзіць *у каго. Што бабы плешчуць, тое не для мяне. Каб я ды паверыў! Усю вайну прайшоў... Матрыха? Ды ў той жаба на языку не спячэцца!* Коўтун. *[Марыся:] Мо толькі голас у яе занадта віскліва ды сама вельмі траскатлівая — жаба ў яе на языку не спячэцца.* Карпюк. *Буфетчыца, пра якіх кажуць, — жаба на языку не спячэцца, на хаду павесялела: «Але ж я вас, хлопчыкі, недзе бачыла».* Голуб.

**ЖА́БА Ў КАЛЯІ́НЕ**. *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм. Іран.* Нікчэмнасць, асуджаная на пагібель. *На рахунку яго [К.Крапівы] нямала і даваенных сатырычных залпаў па кулаках, бюракратах, жуліках, хабарніках, па замежных жабах у каляінах.* Чавускі. *Мне стала ясна, што фашызм будзе расціснуты, як жаба ў каляіне.* Гурскі. *Я гэтай вёскаю і табою, як жаба ў каляіне, раздушаны...* А.Жук.

**ЖА́БА ЦЫ́ЦКІ ДА́СЦЬ** *каму. У безас. ужыв. Праст.* Хто-н. прападзе, загіне. *На якую трасцу ў мужыка галава на шыі? Вунь хоць бы і Лёшка Саўлюк — ніхто з яго радні не піў, а ён адбіўся ад рук, даждаўся, пакуль жаба цыцкі не дала...* І.Капыловіч. *Ляжаць зараз [фашысты] на дне з выцягнутай антэнай і па рацыі крычаць свайму Гітлеру: «Алё, фюрэр, ратуй нас!..» Выратуе, як жа. Жабы ім цыцкі дадуць, адхочацца ім нашага шнапса і сала!..* Карпюк.

**І ЖУК І ЖАБА**. Гл. жук.

<u>*Набрацца (набірацца)*</u> **ЯК (ШТО) ЖА́БА ГРАЗІ́**. *Акал. Разм. Асудж.* Бельмі моцна. Пра п'янага. *А то ж бывае, што возьме каторы ды набярэцца здуру як жаба гразі...* Брыль. *[Шыдлоўская:] Дзе ж ты, братачка мой, набраўся як жаба гразі?* Козел. — *Ужо набраўся як жаба гразі... Куды ж гэта каня вядзеш? Засляпіла ці што? — яна турзанула*

*яго за руку, каб адарваць ад конскае грывы.* Адамчык. *Адзін, дык і праўду, набіраецца што жаба гразі, а другі стрымлівацца ўмее, у меру п'е, капейку шануе, здароўе глядзіць...* Далідовіч.

*ЖАБЕ* • **ЖАБЕ ПА КАЛЕНА**. Гл. калена.

*ЖАБІН* • **НА ЖАБІН СКОК**. Гл. скок.

*ЖАБІНЫ* • **З ЖАБІНЫ ПРЫГАРШЧЫ** *чаго.* Гл. прыгаршчы.

*ЖАБРЫ* • **БРАЦЬ ЗА ЖАБРЫ** *каго.* Гл. браць.

*ЖАБУ* • **ГЛЫТАЦЬ ЖАБУ**. Гл. глытаць.
**ПРАГЛЫНУЦЬ ЖАБУ**. Гл. праглынуць.
*ЖАВАЦЬ* • **ЖАВАЦЬ ЖВАЧКУ**. Гл. жваць.

*ЖАДАЕ* • **ДУША ЖАДАЕ**. Гл. душа.
**КОЛЬКІ ДУША ЖАДАЕ**. Гл. душа.

*ЖАДАЦЬ* • **ПАКІДАЕ ЖАДАЦЬ ЛЕПШАГА**. Гл. пакідае.

*ЖАДЗЁН* • **ЖАДЗЁН (ЖАДНА́, -О́, -Ы́) НА ВО́КА**. *Вык. ці азн. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі сквапны, зайздросны. *Працаваў не вельмі ён [Грынь], а на вока быў жадзён, сена ўбачыць на гумне: — Хоць вазок падкіньце мне!* Броўка.

*ЖАЛЕЗА* • **ЯК ІРЖА ЖАЛЕЗА**. Гл. іржа.

*ЖАЛЕЗКУ* • **НА ЎСЮ́ ЖАЛЕ́ЗКУ**. *Акал. Праст.* **1**. Выкарыстоўваючы ўсе рэзервы магутнасці, хуткасці і пад. (імчацца, газаваць і пад.). **Сін**.: на поўную катушку (у 3 знач.); на поўную сілу (у 2 знач.); на ўсе застаўкі (у 4 знач.); на ўсю іванаўскую (у 2 знач.); па самае годзе (у 1 знач.); па самае нельга; па самае не хачу. *Машына, праўда, дабітая, уся ляскаціць, а як выскачыць на гравейку, чаго добрага, газане на ўсю жалезку.* Грахоўскі. *[Шафёр], які не раз пабываў пад агнём, заўважыў хваляванне свайго камандзіра і супакоіў «На хаду не так проста пацэліць...» І газануў, як кажуць, на ўсю жалезку.* Новікаў.

**2**. Вельмі строга (караць, пакараць каго-н.). **Сін**.: на поўную катушку (у 2 знач.); па самае годзе (у 2 знач.). *Я ў суд паеду. За мардабой табе, ляснічы, адваляць на ўсю жалезку.* Карамазаў.

*ЖАЛЕЗНАГА* • **ПАД'ЕСЦІ ЖАЛЕЗНАГА БОБУ**. Гл. пад'есці.

*ЖАЛЕЗНАЯ* • **ЖАЛЕЗНАЯ ЗАСЛОНА**. Гл. заслона.

*ЖАНІЦЬ* • **АДЗІ́Н РА́З МА́РКУ ЖАНІ́ЦЬ**. *Выкл. Разм.* Выказванне поўнай рашучасці перад прыняццем рашэння. Што ні будзе, што ні здарыцца. **Сін**.: будзь што будзе; было не было; дзе наша не прападала; трус у карты не гуляе; што будзе то будзе. *Зрэшты, калі пападуся — паглядзім. Адзін раз Марку жаніць — на гэта толькі і надзея.* Брыль. *Я супакоіўся, перастаў хвалявацца — адзін раз Марку жаніць!* «Полымя».

*ЖАР* • **ЗАГРАБАЦЬ ЖАР ЧУЖЫМІ РУКАМІ**. Гл. заграбаць.

*ЖАРАМ* • **З ЖА́РАМ** *гаварыць, даказваць* і пад. *Акал. Разм.* Вельмі горача, запальчыва. **Сін**.: з пенай на губах. *Каб не паддацца гэтым чарам, гаворыць ён [Барыс] аб Насці з жарам.* Колас. — *І што ж я пры сустрэчах павінна адварочвацца ад яго? Як вы скажаце?— з жарам папыталася яна [Марына].* Алешка.

*ЖАРТ* • **НЕ НА ЖАРТ**. Гл. жарты.

*ЖАРТАВАЦЬ* • **ЖАРТАВАЦЬ З АГНЁМ**. Гл. гуляць.

*ЖАРТАМІ* • **ЖАРТЫ ЖАРТАМІ**. Гл. жарты.

*ЖАРТАЎ* • **АПРО́Ч ЖА́РТАЎ**. *Узнач. пабочн. сл. Разм.* Зусім сур'ёзна, сапраўды. **Сін.**: нечага сказаць; нічога не скажаш; няма чаго казаць (у 1 знач.); слоў няма; так <яно> і ёсць; што <і> казаць; што праўда то праўда. — *Ведаеце, Вольга Віктараўна, — гаворыць Лабановіч, седзячы за сталом, — апроч жартаў, я сур'ёзна думаю над сваім вандроўніцтвам.* Колас. — *Апроч жартаў, адкуль ідзяце?.. — запытаў Сёмка.* Гартны.

**БЕЗ ЖА́РТАЎ**. *Акал. Разм.* Зусім сур'ёзна. **Сін.**: без дурняў. *[Карнейчык:] Як па-вашаму — Насця не кепская дзяўчына? [Наталля:] Калі вам падабаецца, значыць — добрая. [Карнейчык:] Без жартаў — як яна вам?* Крапіва. — *Да Гардзееўкі далёка? — Вёрст трыццаць, лічы. — А калі напрасткі? — Напрасткі? Дык напрасткі адна варона лятала, затое дома не бывала! — А калі без жартаў?* Чыгрынаў.

*ЖАРТАЧКІ* • **НЕ ЖАРТАЧКІ**. Гл. жарты.

*ЖАРТУЕ* • **ЧЫМ ЧОРТ НЕ ЖАРТУЕ!** Гл. чорт.

*ЖАРТЫ* • **ЖА́РТЫ ЖА́РТАМІ**, *а. У ролі першай часткі скл.-злуч. ск. Разм.* Ужыв. перад супраціўным злучнікам. Што ні гавары, але... **Сін.**: смех смехам. *[Вера:] Ды вось, хоць бы гэты абзац прачытайце. [Зёлкін, прачытаўшы, зморшчыўся:] Жарты жартамі, а ў нас таксама ёсць паклёпнікі.* Крапіва. *Жарты жартамі, а я такі сумую, дый здорава.* Галавач.

**ЖАРТЫ З АГНЁМ**. Гл. гульня.

**ЖА́РТЫ СКАЗА́ЦЬ**. *Узнач. пабочн. сл. Разм.* Зусім не простая справа. Ужыв. для падкрэслівання важнасці, значнасці чаго-н. *Тая навіна наконт рацыі.. нарабіла нямала клопатаў у іх атрадзе — жарты сказаць, яны будуць мець сувязь непасрэдна з самым галоўным партызанскім штабам у Маскве.* Быкаў. *Жарты сказаць — за трыццаць гадоў нашага з табой жыцця твой брат першы раз у маёй хаце.* Навуменка.

**ЖА́РТЫ ЎБО́К**. *У безас. ужыв. Разм.* Не трэба так, пакінем гэта. — *Жарты ўбок, — сказаў Віктар сур'ёзна. — Я сам ведаю, што гэта глупства. Але няўжо ж нам ні ў якім разе нельга зрабіць лук сапраўдны, як у дзікуноў?* Маўр. — *А можа, ты, Яўсеевіч, тэлепатам зрабіўся? Мо ты яшчэ на тры метры пад асфальтам бачыш? — смяюся. — Кінь, — спахмурнеў Новікаў, — жарты ўбок.* «Вожык».

**НЕ ЖА́РТЫ (НЕ ЖА́РТАЧКІ)**. *Вык. Разм.* **1**. Часцей ужыв. пры дзейн., выраж. займ. *гэта*. Вельмі важна, значна, сур'ёзна. **Сін.**: не жук на палачцы; не кот наплакаў (у 2 знач.); не фунт ізюму <*каму*>; не хаханькі *каму* (у 1 знач.). *[Арсен: ] Вось дык вайна, яшчэ свет не бачыў такое. Гэта ж не жарты — знарок паліць сёлы, людзей, забіваць дзяцей...* Пестрак. *[Наташа:] Скажы, Сярожа, а гэта вельмі сур'ёзна? [Курбатаў:] Ну, вядома, не жартачкі.* Макаёнак. *«Пайду і скажу, — вырашыў ён [Косцік] цяпер адразу. — Гэта табе не жартачкі».* Баранавых.

**2**. Ужыв. пры дзейн., выраж. колькасна-імен. спалучэннем. Вельмі многа, нямала. *[Кацярына:] Пятнаццаць тысяч — гэта не жартачкі, гэта столькі грошай, што табе, дурню, і злічыць цяжка.* Крапіва. *Начальнік участка, прыязна павітаўшыся, заклапочана кіўнуў на вялізны.. чарцёж: — Дваццаць шэсць станкоў — не жартачкі.* «Полымя».

**НЕ НА ЖА́РТЫ (НЕ НА ЖА́РТ)**. *Акал. Разм.* **1**. Вельмі моцна, грунтоўна (палохацца, трывожыцца, непакоіцца і пад.). *Трывожыліся не на жарты члены рэвізійнай камісіі, спяшаліся да кааператыва, правяралі замкі, накладвалі пячаці.* Лынькоў. *Доўгая ад-*

*сутнасць старшыны начала не на жарты трывожыць, з'явіліся розныя благія меркаванні.* Быкаў.

**2**. Па-сапраўднаму, вельмі сур'ёзна (гаварыць, рабіць што-н.). **Сін.**: на поўным сур'ёзе; не на смех. *Сам народ быў сур'ёзны, цягавіты, гартаваны бурамі вайны і рэвалюцыі і гатовы біцца не на жарты, народ, з якім не так-та лёгка змагацца ў гэтых балотах і палескіх трушчобах.* Колас. *Не на жарты, мусіць, Ціт стаў заводзіць новы быт.* Крапіва. *То я табе пра хворага і галоднага бацьку не на жарты гаварыў.* Чорны. *Кантракта надалей ён [пан] не падпісаў. Такароўцы спахмурнелі не на жарт.* Бядуля.

*ЖАРУ* • **ДАВАЦЬ ЖАРУ**. Гл. даваць.
**ПАДДАВАЦЬ ЖАРУ**. Гл. паддаваць.
**ЯК ЖАРУ ЎХАПІЎШЫ**. Гл. ухапіўшы.

*ЖАРЭБЧЫК* • **МЫШЫ́НЫ ЖАРЭ́БЧЫК**. *Адз. і мн. Устар. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Стары, які любіць заляцацца да маладых жанчын. **Сін.**: кот марцовы. *Аказваецца, «галубятнікі» перамаглі. Ды няхай не носяцца, мышыныя жарэбчыкі.* Колас. — *У-у, прыгажуня наша. Як велікодная курачка... «Бач, стараецца, — падумаў Войтаў і ўсміхнуўся, — пабачылі б цябе студэнты, мышынага жарэбчыка».* Караткевіч.

*ЖАЎТАРОТАЕ* • **ЖАЎТАРОТАЕ ПТУШАНЯ**. Гл. птушаня.

*ЖВАЦЬ* • **ЖВА́ЦЬ (ЖАВА́ЦЬ) ЖВА́ЧКУ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гаварыць нудна і бесталкова пра адно і тое ж. *І дзіву даешся, як дурні з «Кур'ера цодзённага» пляvузгаюць аб 70 прац. непісьменнасці ў БССР — жуюць жвачку 1913 года.* Купала. *Я ж не хацеў табе жвачкі жваць — бачу ж, вучаны...* Кусянкоў. *Гэй, «паўнапраўны» дзядзька Сэм, жаваць даволі жвачку! Як трэба, сплю я, п'ю і ем: неназаляй мне, дзядзька!* Правасуд. *Ты мне жвачку не жуй, гавары канкрэтна.* Кудравец.

*ЖВАЧКУ* • **ЖВАЦЬ ЖВАЧКУ**. Гл. жваць.

*ЖДАНКІ* • **<УСЕ> ЖДАНКІ ПАЕСЦІ**. Гл. паесці.

*ЖМЕНІ* • **У КОЖНАЙ КІШЭНІ ПА ЖМЕНІ** *каго*. Гл. кішэні.

*ЖМЕНЮ* • **БРАЦЬ <СВАЕ> ВОЧЫ Ў ЖМЕНЮ**. Гл. браць.

*ЖМЕНЯЙ* • **ПО́ЎНАЙ ЖМЕ́НЯЙ** <u>браць, чэрпаць</u> і пад. *Акал. Разм.* Вельмі шчодра, без абмежаванняў. *Па-мойму, дзеці павінны поўнай жменяй чэрпаць жыццё...* Чорны. *Меў ён [Васько] шчаслівы дар хутка забываць усе нягоды, радавацца жыццю, беручы з яго поўнай жменяй асалоду.* Асіпенка.

*ЖМУРКІ* • **ГУЛЬНЯ Ў ЖМУРКІ**. Гл. гульня.
**ГУЛЯЦЬ У ЖМУРКІ**. Гл. гуляць.

*ЖНЕЦ* • **І ШАВЕЦ І ЖНЕЦ І НА ДУДЗЕ ІГРЭЦ**. Гл. шавец.

*ЖОНКА* • **АПО́ШНЯЯ Ў ПАПА́ ЖО́НКА**. *Выкл. Разм. Іран.* Ужыв. як рэакцыя суразмоўніка на слова *апошні*. Не, не апошні. — *Занясі маю сукенку ў камісійны. Чорт яе бяры, нажывём пасля. — Тады ўжо лепш свой касцюм занясу... — Апошні свой? — У папа жонка... апошняя. А чым благі на мне?* Мысліівец. — *Чаго ты дачасна крыж на сабе ставіш? — надрыўна пазірала на мужа Кацярына, і яе вочы пры гэтым нібы смяяліся. — Апошняе дзіця ў яго нарадзілася... Апошняя ў папа жонка... А калі я сама захачу нарадзіць, ты што — забароніш?* І.Капыловіч.

*ЖОРСТКА* • **МЯККА СЦЕЛЕ <ДЫ ЖОРСТКА СПАЦЬ>**. Гл. сцеле.

*ЖУК* • **І (КО́ЖНЫ) ЖУ́К І ЖА́БА**. *Мн. не ўжыв. Дзейн. Разм.* Усе без выключэння; усякі, кожны чалавек. **Сін.**: кожны сабака; кожны сустрэчны; пастухова ганна; першы-лепшы (у 1 знач.); першы сустрэчны; стрэчны <і> папярэчны (у 1 знач.). *А ўсё зло ідзе ад панства. І жук і жаба хочуць панаваць.* Прокша. *Адчуваў [Янка]: ён цяпер самы няўдачлівы ў Янкавічах чалавек. І жук і жаба будуць тыцкаць у яго пальцам.* Далідовіч. *Жонка насядала: — І жук і жаба раскашуюць, а ты хіба рыжы?* Клебановіч. *Расло перакананне, што калі б у нагах не блыталася гэтая настырная баба, справы наогул ішлі б куды лепш і ніхто нават у думках не адважыўся б замахнуцца на яго аўтарытэт. «А так кожны жук і жаба пачынае паказваць сябе».* Карпаў.

**НЕ ЖУ́К НА ПА́ЛАЧЦЫ**. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Не дробязь, не пусцяковіна; справа сур'ёзная. **Сін.**: не жарты (у 1 знач.); не кот наплакаў (у 2 знач.); не фунт ізюму <*каму*>; не хаханькі (у 1 знач.). *Камсорг базы і статус афіцэра ў сяржанта — гэта табе не пісар, не пасыльны, не афарміцель які, не жук на палачцы...* Гіль.

*ЖУЛІК* • **ЖУ́ЛІК НА ЖУ́ЛІКУ Е́ДЗЕ І ЖУ́ЛІКАМ ПАГАНЯ́Е** *дзе*; **КРУЦЕ́ЛЬ НА КРУЦЯЛІ́ Е́ДЗЕ І КРУЦЯЛЁМ ПАГАНЯ́Е** *дзе. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Кругом адны махляры, жулікі. *Павінен цябе папярэдзіць, што ў нас у горадзе жулік на жуліку едзе і жулікам паганяе.* Маўр. *Кастроўскі нічога не адказаў, насупіўся, дастаў з бумажніка яшчэ некалькі паперак і сунуў жандару. «Круцель на круцялі едзе і круцялём паганяе», — падумаў Сяргей.* Гурскі.

*ЖУЛІКАМ* • **ЖУЛІК НА ЖУЛІКУ ЕДЗЕ І ЖУЛІКАМ ПАГАНЯЕ** *дзе.* Гл. жулік.

*ЖУЛІКУ* • **ЖУЛІК НА ЖУЛІКУ ЕДЗЕ І ЖУЛІКАМ ПАГАНЯЕ** *дзе.* Гл. жулік.

*ЖУРАВЕЛЬ* • **ЖУРАВЕ́ЛЬ У НЕ́БЕ**. *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм.* Аддаленая будучыня, нешта няпэўнае. **Ант.**: сініца ў руках. *Як бы, паверыўшы ў байкі тыя, пагнаўшыся за тым жураўлём у небе, не страціць і тое, што яшчэ засталося.* Мележ. *Да каго б на крыллях паляцеў, а, Хвядор? Да яе... Да яе, а не да Жэні. Журавель у небе — Жэня...* Місько. *[Генадзь] адзінока ляжаў і думаў, як нядобра ўсё выйшла, пасля, як ніколі, адчуў, што бесталкова ён жыве, гоніцца за жураўлямі ў небе.* Далідовіч.

*ЖУРБОТНАГА* • **РЫЦАР ЖУРБОТНАГА ВОБРАЗА**. Гл. рыцар.

*ЖЫВАТЫ* • **БРАЦЦА ЗА ЖЫВАТЫ**. Гл. брацца.

**НАДРЫВАЦЬ ЖЫВАТЫ <АД СМЕХУ>**. Гл. надрываць.

*ЖЫВАЦЕ* • **САЛАЎІ ПЯЮЦЬ У ЖЫВАЦЕ** *ў каго, у чыім.* Гл. салаўі.

*ЖЫВЕ* • **БОГ ЖЫВЕ** *дзе.* Гл. бог.

*ЖЫВОГА* • **ДА ЖЫВО́ГА**. *Акал. Разм.* **1**. Вельмі глыбока (крыўдзіць, праймаць, пранязь і пад.). *[Ціхон] Не годзе таго, што бацька да жывога мяне пакрыўдзіў, назваўшы не шляхціцам, дык яшчэ сынок дачку нам баламуціць.* Дунін-Марцінкевіч. *[Пауліна:] Значыць, пранялі да жывога, калі сам прызнаўся.* Крапіва. *О! Тася не змоўчыць, тая да жывога дастане, тая, яхідна ўсміхнуўшыся, закрычыць: «Га-га-га. Гаспадар у хлеў пайшоў, глядзіце, людзі, на цуд...»* Дайліда.

**2**. Вельмі моцна (біць, збіваць і пад.). **Сін.**: да паўсмерці; на горкі яблык; на порхаўку; як сідараву казу. *Праўду сказаць, і сыпалі хлопцу не раз да жывога, але Міхась неяксьці заціснуўся ў сабе, што ні піскне, ні войкне, хоць ты яго засячы да смерці.* Цётка.

**ЖЫВОГА МЕСЦА НЕ ЗАСТАЛОСЯ**. Гл. засталося.

**ЖЫВОГА МЕСЦА НЕ ПАКІНУЦЬ** *на кім.* Гл. пакінуць.

**ЖЫВОГА МЕСЦА НЯМА**. Гл. няма.

*ЖЫВОЕ* • **ЖЫВОЕ СЛОВА**. Гл. слова.

**ЗА ЖЫВОЕ БРАЦЬ** *каго*. Гл. браць.

*ЖЫВОЙ* • **НІ <ЖЫВОЙ> ДУШЫ**. Гл. душы.

*ЖЫВОМУ* • **РЭЗАЦЬ ПА ЖЫВОМУ**. Гл. рэзаць.

*ЖЫВОТ* • **ЖЫВО́Т ДА СПІ́НЫ (ДА ХРЫБЕ́ТНІКА, ДА ПАЯСНІ́ЦЫ) ПРЫРО́С (ПРЫСО́Х, ПРЫЛІ́П)** *чый, у каго. У безас. ужыв. Разм.* **1**. Хто-н. моцна прагаладаўся. **Сін**.: кішкі марш іграюць *у каго*; падцягвала жывот *каму, у каго*; салаўі пяюць у жываце *ў каго, у чым*. — *Прузына вунь абед валачэ!.. — Хутчэй, цётка Прузына! А то жывот да спіны прырос...* Якімовіч. — *Цётачка Палагеечка, — прытворна схапіўся за жывот Косця. — Ратуйце. Жывот да хрыбетніка прырос...* Курто. — *Пакуль зварыцца, перакусіце, а то перапалі саўсім. — От дзякую. І праўда, жывот да паясніцы прысох.* Грахоўскі.

**2**. Хто-н. вельмі зблажэў, схуднеў. *У яе [Проські] ужо вунь жывот да спіны прырос — так з'ехала.* Сіпакоў. *Схуднеў я ўшчэнт ад гэткіх вось дуплетаў, жывот мой да хрыбетніка прырос.* Сушко. — *Буду выпрамляць сабе паставу. Стройны стану, як дрэўка алебарды... — Куды ўжо страйней... Вунь жывот да спіны прырос.* Б.Стральцоў.

**ЖЫВОТ НА НОС ЛЕЗЕ** *ў каго*. Гл. пуза.

**НА ГАЛО́ДНЫ (ПУСТЫ́) ЖЫВО́Т**. *Акал. Разм.* Не пад'еўшы, хочучы есці. *Спаць лёг [Амелька] на галодны жывот, а перад сном яшчэ за нейкую прычэпку пакрычаў і на нявестку.* Мурашка. *Нам трэба ў першую чаргу паснедаць, а потым і пагаворым. На галодны жывот, Буянка, ні адна карысная гутарка на карысць не пойдзе.* Пянкрат. *Трэба было дняваць, і дужа не хацелася зашывацца дзе на пусты жывот.* Быкаў.

**ПАДЦЯГВАЛА ЖЫВОТ** *каму, у каго*. Гл. падцягвала.

**ПЛЯЧЫСТЫ НА ЖЫВОТ**. Гл. плячысты.

**ХОЦЬ ЖЫВОТ РАСПЕРАЖЫ**. Гл. распеража.

*ЖЫВУЮ* • **НА ЖЫВУЮ НІТКУ**. Гл. нітку.

**СЫПАНУЦЬ СОЛІ НА ЖЫВУЮ РАНУ**. Гл. сыпануць.

**СЫПАЦЬ СОЛЬ НА ЖЫВУЮ РАНУ**. Гл. сыпаць.

*ЖЫВЫ* • **ЖЫВЫ НЯБОЖЧЫК**. Гл. нябожчык.

**ЖЫВЫ ТРУП**. Гл. труп.

**НІ ЖЫВЫ́ НІ МЁРТВЫ**. *Мн. і ж., адз. і мн.* Часцей ужыв. у спалучэнні з дзеясл. *быць, сядзець, хадзіць* і пад. *Вык. і азн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы і адуш. прадмета. Страшэнна спалоханы, знямелы. *Жартуе дзед: — А пан марцовы сядзіць ні мёртвы ні жывы, цішэй вады, ніжэй травы і ўжо не ходзіць больш на ловы.* Колас. *[Броня:] Як падышлі [гестапаўцы] да ложка, дык я ні жывая ні мёртвая была.* Крапіва. *Ні жывыя ні мёртвыя госці забіваліся ў куток ды крадком мацалі сінякі...* Карпюк. *Таня Васілёк — ні жывая ні мёртвая — ідзе да дошкі. — Запішы ўмову задачы!* Васілевіч. *Прыбег ні мёртвы ні жывы, а маці пытаецца: — Што з табой, дзетачка?* Шарахоўскі. *Пазнаходзіўшы праварыны ў левым кутку, коні стаялі, ні жывыя ні мёртвыя, форскалі толькі, не могучы аддыхацца.* Пташнікаў.

**ХОЦЬ <ТЫ> ЖЫВЫ Ў ЗЯМЛЮ ЛЕЗЬ**. Гл. лезь.

*ЖЫДКІ* • **ЖЫДКІ ЛЫТКІ** *ў каго*. Гл. лыткі.

*ЖЫЛ* • **З УСІ́Х ЖЫ́Л**. *Акал. Разм.* **1**. Вельмі напружваючыся (рабіць што-н.). **Сін.**: аж пуп трашчыць; ва ўсе лапаткі (у 2 знач.); высалапіўшы язык (у 3 знач.); з апошніх сіл; з апошняга; з усёй сілы (у 1 знач.); з усіх чатырох (у 2 знач.); колькі <было> сілы (у 1 знач.); на поўную сілу (у 1 знач.); на ўсю моц (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 1 знач.). *Мне смешна глядзець, як людзі тужацца з усіх жыл, каб зберагчы лішнюю капейку.* Гартны. *[Андрэй:] Вядома, яна з усіх жыл працуе на гаспадарцы ў вольны ад школы час, а да ўрокаў рыхтуецца ноччу, калі ты ўжо ў мяккай пасцелі цудоўныя сны бачыш.* Козел.

**2**. Вельмі гучна (крычаць, гукаць і пад.). **Сін.**: благім матам; колькі <было> сілы (у 3 знач.); на поўную сілу (у 3 знач.); на поўныя грудзі (у 2 знач.); на ўвесь голас (у 1 знач.); на ўвесь свет (у 1 знач.); на ўсе грудзі (у 2 знач.); на ўсе застаўкі (у 1 знач.); на ўсё горла; на ўсю глотку; на ўсю іванаўскую (у 1 знач.); на ўсю моц (у 3 знач.); немым голасам; не сваім голасам; што ёсць духу (у 2 знач.); што ёсць сілы (у 3 знач.); <як> іерыхонская труба (у 2 знач.); як недарэзаны; як рэзаны. — *Яшчэ і хату адбяруць у цябе і самога з торбаю пусцяць, калі самому не ратавацца. — Што? — гукнуў з усіх жыл Бушмар.* Чорны.

*ЖЫЛА* • **ЗАЛАТА́Я ЖЫ́ЛА**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Вельмі багатая, невычэрпная крыніца даходаў, прыбытку і пад. **Сін.**: залатое дно. *Ляснік, які лепш за каго іншага ведаў свой абход, адкрыў «залатую жылу» за балотам, у маладым дубняку, дзе раней грыбоў не знаходзілі.* Шамякін. *Добрая ніва цяпер там. Залатою жылаю стала тое балота.* Бялевіч. — *Раней у вас быў «ЗІС»? — А цяпер «ЗІЛ», новенькі... — Што ж... Гэтакім цяглом не адну хату можна і паставіць, і прадаць, паставіць новую. Залатая жыла разваротліваму чалавеку. Ці не так?* Карамазаў.

**СТАНАВА́Я ЖЫ́ЛА (СТАНАВЫ́ ХРЫБЕ́Т)** *чаго, чыя. Мн. не ўжыв. Часцей у знач. вык. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. сукупнасці асоб, канкр. ці абстр. прадмета. Самае галоўнае, асноўнае ў чым-н. **Сін.**: альфа і амега *чаго*; краевугольны камень *чаго*; усяму галава. *Ядром гаспадаркі, яе станавой жылай з'яўляецца, вядома, адкормачны комплекс.* «Звязда». *Сёння вучні К.Саннікава — гонар купалаўскага тэатра, яго станавы хрыбет.* «ЛіМ».

*ЖЫЛАХ* • **КРОЎ ГАРЫЦЬ У ЖЫЛАХ** *чыіх.* Гл. кроў.

**КРОЎ У ЖЫЛАХ СТЫНЕ** *у каго.* Гл. кроў.

*Чыя, якая* **КРОЎ ЦЯЧЭ Ў ЖЫЛАХ** *чыіх, каго.* Гл. кроў.

**ЛЕДЗЯНІЦЬ КРОЎ У ЖЫЛАХ** *чыіх.* Гл. ледзяніць.

*ЖЫЛЕЦ* • **НЕ ЖЫЛЕ́Ц <НА БЕ́ЛЫМ (НА ГЭ́ТЫМ) СВЕ́ЦЕ>**. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Доўга не пражыве (з-за слабага здароўя, хваробы і пад.). **Сін.**: дні злічаны *чые, каго. Дый што хаваць, калі простым вокам бачыш: не жылец Іван і не выбрацца яму з гэтай раптоўнай і бязлітаснай хваробы.* Радкевіч. *Прачнуўся Іван невясёлы, пануры. Зірнеш — не жылец, адны косці ды скура.* Бажко. *Доктар аўтарытэтна заявіў, што хворы не жылец на белым свеце.* Машара. *Не жылец ты ўжо, Якаў, на гэтым свеце.* Лобан. *[Лёшка] ведае.., што маці ўжо не жылец на гэтым свеце, што трэба рыхтавацца да самага горшага.* Рыбак.

*ЖЫЛЛЕ* • **РВАЦЬ ЖЫЛЛЕ**. Гл. рваць.

*ЖЫЛЫ* • **БРАЦЬ НА ЎСЕ ЖЫЛЫ**. Гл. браць.

**ВЫМОТВАЦЬ ЖЫЛЫ**. Гл. вымотваць.

**ДУША ВОН** <*з каго*> **І ЖЫЛЫ НА ТЭЛЕФОН**. Гл. душа.

**НА ЎСЁ ЖЫЛЫ** <u>*бегчы, імчаць*</u> і пад. *Акал. Разм.* Вельмі хутка, імкліва. **Сін**.: без аглядкі (у 1 знач.); без духу *бегчы*; без душы *бегчы*; без памяці (у 1 знач.); ва ўсе лапаткі (у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.); з усіх ног; колькі <было> духу; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на адным дыханні (у 1 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўвесь мах; на ўсе застаўкі (у 2 знач.); на ўсе ногі; на ўсіх парах; на ўсіх парусах; на ўсю моц (у 2 знач.); чуй дух; што ёсць духу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 2 знач.); як дуж; як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як мага (у 1 знач.); як на крыллях; як на пажар; як падсмалены. **Ант**.: як чарапаха. *Ахоплены жахам, ён [немец] выскачыў з танка і на ўсе жылы даў ходу.* Чорны. *А мы ўсе бяжым, імчым на ўсе жылы...* Лeвановіч.

**РВАЦЬ ЖЫЛЫ**. Гл. рваць.

**ЦЯГНУЦЬ ЖЫЛЫ** *з каго.* Гл. цягнуць.

*ЖЫСЦЬ* • **НІ Ў ЖЫСЦЬ**. *Акал. Прост. Ужыв. у адмоўн. ск. (для ўзмацнення адмоўя) пры дзеясл.-вык. зак. тр.* Ні пры якіх умовах, абставінах. **Сін**.: ні за што; ні за што на свеце; ні за якія грошы; ні пры якой пагодзе; ні ў якім разе; ніякімі сіламі. — *Ні ў жысць не паверыў бы, што так анучу выбеліш!.. — заўважыў Ігнась.* Броўка. — *Не. Вы ешце, а мне яшчэ ў другі разлік, да Скварышава трэба. — Без цябе? Ні ў жысць, — ускоквае і загароджвае ёй шлях Лёшка. Ён наглавата разводзіць свае разлапістыя рукі і затрымлівае дзяўчыну. — Толькі зняць пробу. Ну хоць адну лыжачку...* Быкаў.

*ЖЫТА* • **УСЯ́КАГА ЖЫ́ТА ПА ЛАПА́ЦЕ** *дзе. Устар. Часцей у безас. ужыв. Разм.* Усяго патроху; самае рознае. *Тут табе і хахлы, і латышка, і ўсякага жыта па лапаце.* Караткевіч. *І кожная з тых гор і горак — скарбніца невычэрпная: самародныя жалеза і медзь, золата, вугаль, баксіты, фасфарыты. Увогуле, як кажуць, усякага жыта па лапаце.* Казько.

*ЖЫЎ* • **ЖЫЎ НЕ БУДУ**, *калі.* Гл. буду.

**ЖЫЎ КУРЫЛКА**. Гл. курылка.

**КАБ Я <ТАК> ЖЫЎ**. Гл. я.

*ЖЫЎЦОМ* • **ЖЫЎЦОМ З'ЕСЦІ** *каго.* Гл. з'есці.

*ЖЫЦЦЁ* • **НЕ НА ЖЫЦЦЁ, А НА СМЕ́РЦЬ**. *Функц. не зам.* **1**. *Акал.* Бязлітасна (біцца, змагацца і пад.). **Сін**.: да апошняй кроплі крыві. *Выйшлі яны змагацца з фашызмам у самыя цяжкія, чорныя дні першага перыяду вайны, выйшлі, — спаліўшы за сабой усе масты, біцца не на жыццё, а на смерць.* Брыль. *Ішла рэвалюцыя.. Змагаліся не на жыццё, а на смерць.* Вярцінскі.

**2**. *Азн.* Бязлітасны, суровы, непрымірымы, да рашучага зыходу (бой, бітва, барацьба і пад.). *Нгара.. учапіўся за край чоўна і перакуліў яго разам з Мангам... Завязалася барацьба не на жыццё, а на смерць.* Маўр. *Час быў вельмі цяжкі. Гітлераўцы намагаліся захапіць Маскву, ішла крывапралітная бітва не на жыццё, а на смерць.* Гурскі. *З панам у нас пайшоў страшэнны задзёр. Цяпер мы яму, а ён нам — ворагі не на жыццё, а на смерць.* Якімовіч.

**ПРАВОДЗІЦЬ У ЖЫЦЦЁ** *што.* Гл. праводзіць.

**ПУЦЁЎКА Ў ЖЫЦЦЁ**. Гл. пуцёўка.

*ЖЫЦЦЁМ* • **МІЖ (ПАМІ́Ж) ЖЫЦЦЁМ І СМЕ́РЦЮ** <u>*быць, знаходзіцца.*</u> *Часцей вык. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У вельмі небяспечным становішчы. **Сін**.: на божай пасцелі (у 1 знач.); на мяжы жыцця і смерці; пры смерці. *Здаецца, ён [Іваноўскі] зноў забыўся — заснуў або проста заціх на пакутлівым рубяжы між жыццём*

*і смерцю...* Быкаў. *Нешта з тыдзень ён [Клімёнак] быў паміж жыццём і смерцю, а потым стаў папраўляцца.* Дамашэвіч. *«Калі я быў паміж жыццём і смерцю, Лопес даглядаў мяне, як родная маці», — з удзячнасцю ўспамінаў пазней Арлоўскі.* «Полымя».

*ЖЫЦЦЯ* • **НА МЯЖЫ ЖЫЦЦЯ І СМЕРЦІ**. Гл. мяжы.
**НА СХІЛЕ ЖЫЦЦЯ**. Гл. схіле.
**НЕ ДАВАЦЬ ЖЫЦЦЯ** *каму*. Гл. даваць.
**ПЫТАННЕ ЖЫЦЦЯ І СМЕРЦІ**. Гл. пытанне.

*ЖЫЦЬ* • **ЖЫ́ЦЬ СВАІ́М РО́ЗУМАМ**. *Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць самастойным у сваіх дзеяннях, учынках, прытрымлівацца сваіх поглядаў. **Ант.**: жыць чужым розумам. *Чаго вы прычапіліся да хлопца!.. Дайце яму жыць сваім розумам.* Шамякін. *[Ганна:] Так яму, Мар'я! Так! Вучы сваім розумам жыць!* Макаёнак.
**ЖЫ́ЦЬ ЧУЖЫ́М РО́ЗУМАМ**. *Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не маючы самастойнай думы, прытрымлівацца чужых поглядаў. **Ант.**: жыць свім розумам. *Ці такі ён [Імполь] разважны ды разбітны, каб да чаго добрага дайшоў сам. Жыве ўсё чужым розумам.* Адамчык. *Пракопчыка ніхто не паважае ў вёсцы, і, мусіць, за тое, што ніколі не мае сваёй думкі, жыве чужым розумам.* Блакіт.
**ЗАГАДАЦЬ ДОЎГА ЖЫЦЬ** <*каму*>. Гл. загадаць.
**НЕ ДАВАЦЬ ЖЫЦЬ** *каму*. Гл. даваць.

*ЖЭНІЦЦА* • **ЧОРТ З ВЕДЗЬМАЙ ЖЭНІЦЦА** *дзе*. Гл. чорт.

*ЖЭНЯЦЦА* • **ЧЭРЦІ ЖЭНЯЦЦА**. Гл. чэрці.

# З

*ЗА* • **ЗА́ І СУ́ПРАЦЬ** узважваць, перабіраць. *Дап. Функц. не зам.* Тое, што пацвярджае, апраўдвае якое-н. рашэнне, дзеянне ў супастаўленні з тым, што адмаўляе яго. *Перад пагрозай бандытаў Васіль ліхаманкава ўзважвае ўсе «за» і «супраць», як яму летам зрабіць.* Шкраба. *Чаўр прыдзірліва перабраў усе за і супраць.* Шыцік. *Усё ж не трэба было пароць гарачку... Варта было абдумаць, узважыць усе «за» і «супраць», перш чым даваць згоду...* Блакіт.

*ЗААРАЦЬ* • **ЗААРА́ЦЬ НО́САМ** *што, у што. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Упасці ніцма куды-н. (ад удару або спатыкнуўшыся). **Сін.**: зарыць носам *у што*; з капылоў <далоў> (у 1 знач.); з капытоў <далоў>; з катушак далоў; рыць носам *што*. *А ты адыдзі! Ураз адыдзі, а то носам зямлю заарэш...* Галавач. *Іван саскочыў на дарогу, ледзь не заараўшы носам у пясок.* Кудравец. *Афіцэрык саскочыў з мяхоў і ўхапіўся за кабуру. Максім так грымнуў яму ў карак, што той носам заараў мокры пясок.* Грахоўскі.

*ЗАБАЛЕЛА* • **СЭРЦА ЗАБАЛЕЛА** *у каго па кім*. Гл. сэрца.

*ЗАБАРОНЕНЫ* • **ЗАБАРОНЕНЫ ПЛОД**. Гл. плод.

*ЗАБЕГАЛІ* • **МУРАШКІ ЗАБЕГАЛІ ПА ЦЕЛЕ** *у каго, каго, чым*. Гл. мурашкі.

*ЗАБЕГЧЫ* • **ЗАБЕГЧЫ НАПЕРАД**. *Зак. да* **ЗАБЯГАЦЬ НАПЕРАД**.

*ЗАБІ* • **ХО́ЦЬ ЗАБІ́**. *Толькі ў гэтай форме. Акал. Разм.* Выказванне немагчымасці зразумець, успомніць, зрабіць, выканаць што-н. **Сін.**: хоць зарэж. *[Скараспей:] Хоць забі,*

*не помню.* Крапіва. *Хоць забі не хочацца ісці — млявасць, лянота.* Мурашка. *От як хочаш, браце, а я хоць забі не разумею: нашто ў вас гэтыя — «бурапеніць», «карагодзіць»?.. Хоць забі не разумею!* Мележ. *А каб ты скіс, Іван. Ну і змяніўся. Голас нібыта знаёмы, а абліччa — хоць забі, першы раз бачу і толькі.* Грахоўскі.

*ЗАБІВАЕ* • **ЗАБІВА́Е (ЗАБІВА́ЛА) ДУ́Х** *каму. Убезас. ужыв. Разм.* Становіцца цяжка дыхаць (ад хвалявання, перажывання і пад.). **Сін.**: займае дух *у каго. Павел папаў яму сухой грудкай у патыліцу, і Данік заплакаў. Быццам адразу зразумеў, што ворагі — вось-вось, мама яшчэ не чуе яго, а самому ўжо забівае дух.* Брыль. *Ад невыказнага жалю падгіналіся ногі, тонкімі іголкамі калола пад сэрца, забівала дух.* Мурашка.

*ЗАБІВАННЕ* • **ЗАБІВА́ННЕ КАЗЛА́.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Праст.* Гульня ў даміно. *На жаль, нямала ў нас мужчын, якія пасля работы, у выхадны дзень аддаюць перавагу «забіванню казла» або тэлевізару.* «Звязда».

*ЗАБІВАЦЬ* • **<АДНЫ́М СТРЭ́ЛАМ> ЗАБІВА́ЦЬ ДВУ́Х ЗА́ЙЦАЎ (ЗАЙЦО́Ў).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выконваць адначасова дзве розныя справы, дасягаць дзвюх розных мэт. **Сін.**: гнацца за двума зайцамі; злавіць двух зайцаў; мачаць <свой> хлеб у дзве солі. *Так мы зразу забіваем двух зайцаў: вырашаем праблему харчавання і рэгулюем рост насельніцтва.* Крапіва. **<АДНЫМ СТРЭЛАМ> ЗАБІЦЬ ДВУХ ЗАЙЦАЎ (ЗАЙЦОЎ).** *Зак. [Карандзей:] Так можна адным стрэлам двух зайцаў забіць. І гэтаму хулігану солі падсыпаць, і справу добрую ўладкаваць.* «Полымя». *І Віця разлічваў адразу забіць двух зайцоў: увайсці ў давер к Дэбцю.. і наладзіць адносіны з айчымам.* Сіняўскі.

**БА́КІ ЗАБІВА́ЦЬ** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знарок уводзіць у зман каго-н. **Сін.**: абводзіць вакол пальца *каго*; абуваць у лапці *каго*; браць на арапа *каго*; браць на бога *каго*; браць на вудачку *каго*; браць на пушку *каго*; вадзіць за нос *каго*; вешаць лапшу <на вушы> *каму*; віляць хвастом (у 1 знач.); выводзіць ў поле *каго*; гнуць дугі; гуляць у ката і мышку; дурыць галаву *каму* (у 1 знач.); задурыць галаву (у 3 знач.); замазваць вочы *каму*; замыльваць вочы *каму*; запраўляць арапа; кампасціраваць мазгі *каму*; корчыць дурня (у 1 знач.); круціць хвастом (у 1 знач.); муціць галаву *каму*; настаўляць акуляры *каму*; прадаць *каго* і грошы палічыць; пудрыць мазгі *каму*; пускаць пыл у вочы *каму*; сляпіць вочы *каму* (у 1 знач.); травіць баланду (у 2 знач.); туманіць вочы *каму*; туманіць галаву *каму*. *[Салдат:] Не замаўляй ты мне зубоў, лісіца! Бакі мне забіваеш... Пяшчотамі хочаш мне бакі забіць, нягодная!* Гарэцкі. **БАКІ ЗАБІЦЬ** *каму. Зак. Каму ты хочаш бакі забіць, ён жа даўно больш забыў, чым ты знаеш.* Юрчанка.

**ЗАБІВА́ЦЬ ГАЛАВУ́** *каму чым. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** Абцяжарваць сябе ці каго-н. абавязкамі, клопатамі, думкамі аб кім-, чым-н. *[Алесь] часам марыў пра магчымасць уласнага выключнага подзвігу... Цяпер, пасля ўсяго перажытага, ён не забіваў галаву такімі пустымі дзіцячымі марамі.* Шамякін. **ЗАБІЦЬ ГАЛАВУ** *каму чым. Зак.*

**2.** Перагружаць памяць мноствам непатрэбных ведаў, звестак і пад. **Сін.**: набіваць галаву *каму, каго чым. — Як?! — сказаў [Васіль] нядобра, з папрокам. — Знаць вам трэба ўсё канешне! Забіваць галаву!..* Мележ. *[Маланння Адамаўна:] Мой Агей некалі забіваў мне галаву аўсом і травой...* Валасевіч. **ЗАБІЦЬ ГАЛАВУ** *каму чым. Зак.*

**ЗАБІВА́ЦЬ ДУ́Х** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прымушаць каго-н. маўчаць, не даваць гаварыць. **Сін.**: закрываць рот *каму*; замазаць рот *каму*; затыкаць горла *каму, каго* (у 1 знач.); затыкаць рот *каму*; наступаць на язык *ка-*

*му*; павесіць замок на рот *каму*; укараціць язык *каму*; язык завязаць *каму*. *[Валя:] Пакуль мы тут гаворым, там, можа, дзесяткі нашых машын стаяць з паломкамі. [Целеш:] Мы не вінаваты, няхай не ломяць. [Валя:] Чакайце, таварыш Целеш, не забівайце мне дух.* Крапіва. **ЗАБІЦЬ ДУХ** *каму. Зак.*

**ЗАБІВА́ЦЬ КАЗЛА́**. *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гуляць у даміно. *За бальнічным плотам, пад грыбком, некалькі хворых у піжамах і мультановых халатах забівалі казла.* Грахоўскі. *Зайздросціць [Шчыгол] пенсіянерам, бо, лічыць, жытуха ў іх царская: казла ў парку забіваюць, рыбку вудзяць, спяць колькі хочуць...* Масарэнка. **ЗАБІЦЬ КАЗЛА**. *Зак. — Хлопцы, даміно ёсць? — спытаў Віктар. — Ёсць? Давайце заб'ём казла...* Гаўрылкін.

**ЗАБІВА́ЦЬ (УБІВА́ЦЬ) АСІ́НАВЫ КО́Л У МАГІ́ЛУ** *каго, чаго. Незак. Разм. Пагард.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Канчаткова пазбаўляцца ад каго-, чаго-н., знішчаць каго-, што-н. **ЗАБІЦЬ (УБІЦЬ) АСІНАВЫ КОЛ У МАГІЛУ** *каго, чаго. Зак. Не, вырадкі, не вы нас знішчылі, а мы ўваб'ём асінавы кол у магілу фашыстаў!* Гурскі.

*ЗАБІТА* • **ГАЛАВА ЗАБІТА** ў *каго, чыя чым.* Гл. галава.

*ЗАБІТЫ* • <u>*Спаць (праспаць)*</u> **ЯК ЗАБІ́ТЫ (-АЯ, -АЕ, -ЫЯ)**. *Акал. Разм.* Вельмі моцна, не прачынаючыся. **Сін.**: без задніх ног; мёртвым сном; сном праведніка; хоць зубы выберы; як пшаніцу прадаўшы. **Ант.**: на адно вока. *Завёў ён [сторож] мяне ў сваю хату, недалёчка ад станцыі, гарбатаю напаіў і спаць паклаў. Спаў я да вечара як забіты.* Гарэцкі. *І тыя дзве гадзіны, што асталіся да гудка, ён праспаў як забіты.* Гартны. — *Што, крыху ўжо акрыяла? Злазь тады к нам да стала. — Як забітая праспала, дзякуй, зараз адышла.* Астрэйка. *Напрацаваўшыся за дзень, рыбакі, як добра змяркалася, клаліся адпачываць. Яны залазілі ў свае футровыя мяшкі-сеннікі і спалі там як забітыя.* Пальчэўскі.

*ЗАБІЦЬ* • **<АДНЫМ СТРЭЛАМ> ЗАБІЦЬ ДВУХ ЗАЙЦАЎ**. *Зак. да* **<АДНЫМ СТРЭЛАМ> ЗАБІВАЦЬ ДВУХ ЗАЙЦАЎ**.

**БАКІ ЗАБІЦЬ** *каму. Зак. да* **БАКІ ЗАБІВАЦЬ** *каму.*

**ЗАБІЦЬ АСІНАВЫ КОЛ**. *Зак. да* **ЗАБІВАЦЬ АСІНАВЫ КОЛ**.

**ЗАБІЦЬ ВА ЎСЕ ЗВАНЫ**. Гл. званіць.

**ЗАБІЦЬ ДУХ** *каму. Зак. да.* **ЗАБІВАЦЬ ДУХ** *каму.*

**ЗАБІЦЬ КАЗЛА**. *Зак. да.* **ЗАБІВАЦЬ КАЗЛА**.

**ЗАБІ́ЦЬ КРЫНІ́ЦАЙ**. *Зак. Функц. не зам.* Ужыв пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Пачаць бурна праходзіць, развівацца, праяўляцца. *Забіла крыніцай культурнае жыццё — пачалі ствараццa ўстановы, тэатры, газеты, часопісы, творчыя арганізацыі.* Шкраба.

**ЗАБІ́ЦЬ ТРЫВО́ГУ**. *Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачаць настойліва звяртаць усеагульную ўвагу на што-н. небяспечнае, заклікаючы на барацьбу з ім. **Сін.**: ударыць у набат. *Сяляне забілі трывогу, што патанела збожжа, асабліва жыта. Патанелі свінні, каровы, коні, нават масла, яйкі...* Пестрак. *А можна ж было намнога раней забіць трывогу, калектыўна ўзяцца за перавыхаванне бацькоў-адступнікаў!* «Звязда». *Усё ішло добра, а пазней, перад новым навучальным годам, на школьнай форме забілі трывогу: пачалі прападаць трусы.* В.Ткачоў.

**ЗАБІ́ЦЬ У ЗВАНЫ́ НЕ ПАГЛЯДЗЕ́ЎШЫ Ў СВЯ́ТЦЫ**. *Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Распачаць што-н. недарэчы, не разабраўшыся ў чым-н.

*ЗАБІЯХАМ* • **АДНЫ́М МА́ХАМ СЕМЯРЫ́Х (СЕМСО́Т, СЕ́М МУ́Х) ЗАБІЯ́ХАМ.** *Незак. і зак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** Меркаваць пра каго- ці што-н. зусім аднолькава, не ўлічваючы індывідуальных асаблівасцей. **Сін.**: мераць адной меркай *каго, што*; мераць на адзін аршын *каго, што*; мераць на адзін капыл *каго, што*; ставіць на адну дошку *каго з кім, што з чым, каго і каго, што і што*; ставіць знак роўнасці *паміж кім, паміж чым*; ставіць у адзін рад *каго з кім*; стрыгчы пад адзін грабянец *каго. Нельга на адзін аршын мераць — «адным махам семярых забіяхам» — і ўсіх рэдактараў, якія ў большасці таксама пісьменнікі, ды і ўсіх пісьменнікаў...* Сачанка. **2.** Хутка, без роздуму і не сумняваючыся, справіцца з чым-н. *Аспрэчваць падобнае «адным махам семсот забіяхам» не выпадае — няёмка. Як няёмка аспрэчваць недарэчны, неразумны жарт ці бідочную лухту, «бздуру», як палякі кажуць.* Гілевіч.

*ЗАБЛОЦКІ* • Зарабіць, выручыць, выгадаць і пад. **ЯК ЗАБЛО́ЦКІ НА МЫ́ЛЕ.** *Акал. Разм. Жарт.* Зусім нічога, нікольки ці амаль нічога, амаль нікольki не (зарабіць і пад.). *Алесь жа стаў раптам расказваць, як даўней «Лейба Міхолаў» павёз у Варшаву вагон цыбулі на продаж і пакуль завёз, дык цыбуля ўся памерзла, і ён зарабіў «як Заблоцкі на мыле».* Чорны. — *А можа, падвязеш мяне, хлопец, а то я колькі паўзці буду, а табе мінут дзесяць, не больш? Я і заплачу табе... — Э-э, заробіш, дзядзька, на табе як Заблоцкі на мыле.* А.Жук. — *Нешта, Сцяпанавіч, малавата ты ўтаргаваў сёння... — Зарабіў як Заблоцкі на мыле, — рагатнуў другі, прыкурваючы цыгарэту.* Леванович. — *Іх можна будзе выгадна прадаць... — Ой, што ты! Не магу я. Не ўмею... Сорамна мне. Ды і выручыш ты на гэтых шлейках як Заблоцкі на мыле...* Праскураў.

*ЗАБЛУДЗІЦЦА* • **ЗАБЛУДЗІЦЦА Ў ТРОХ СОСНАХ.** *Зак. да* **БЛУДЗІЦЬ У ТРОХ СОСНАХ.**

*ЗАБЛУДЗІЦЬ* • **ЗАБЛУДЗІЦЬ У ТРОХ СОСНАХ.** *Зак. да* **БЛУДЗІЦЬ У ТРОХ СОСНАХ.**

*ЗАБЛУДНАЯ* • **ЗАБЛУДНАЯ АВЕЧКА.** Гл. авечка.

*ЗАБРАЛА* • **МАГІЛА ЗАБРАЛА** *каго.* Гл. магіла.

*ЗАБРАЛАМ* • **З АДКРЫ́ТЫМ (ПАДНЯ́ТЫМ) ЗАБРА́ЛАМ.** *Кніжн.* **1.** *Акал.* Не тоячы сапраўдных намераў, адкрыта (рабіць што-н.). *У Ігара сумленныя правілы гульні. Ён ідзе на бойку з адкрытым забралам: біцца дык біцца!* Васілевіч. *[Туляга] і цяпер не спяшаецца ісці ў бой з паднятым забралам.* Сабалеўскі.

**2.** *Азн.* Шчыры, нічым не прыхаваны. *Дарагі мой Піліп Макаравіч, дык я ж тады самы заядлы кар'ерыст. Як кажуць, з адкрытым забралам. І не баюся. Паставіў сабе за кар'еру — зрабіць калгас узорным.* Дуброўскі. *Хіба не сам [Васіль Пятровіч] абураўся, калі ў барацьбе людзі карысталіся далёка не дазволенымі прыёмамі? Хіба не сам марыў аб бойках-спрэчках з адкрытым забралам?* Карпаў.

*ЗАБРАЦЬ* • **ЗА ЖЫВОЕ ЗАБРАЦЬ** *каго.* Гл. браць.

*ЗАБЫВАЦЬ* • **ЗАБЫВА́ЦЬ ДАРО́ГУ** *да каго, куды. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пераставаць бываць дзе-н., наведваць каго-н. **ЗАБЫЦЬ ДАРОГУ** *да каго, куды. Зак. [Ніна] надумала рашуча і канчаткова адмовіць Пятру, загадаць, каб болей не ездзіў і дарогу забыў да яе.* Гаўрылкін. *Вось што, Аня, я табе параю. Бяду ты сваю адразу не выправіш. Забудзь да Валянціна дарогу.* Гігевіч. *Калі ўвосень халады прыгналі яго [слесара] на сельгаспасёлак, дык пачуў: «Забудзь сюды дарогу! Каб мае вочы цябе, погань, не бачылі!..»* Гіль.

*ЗАБЫТЫ* • **БО́ГАМ ЗАБЫ́ТЫ (-АЯ, -АЕ, -ЫЯ).** *Азн. Разм.* Ужыв. пры наз. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. **1.** Занядбаны, недагледжаны. **Сін.**: богам пракляты. *Ніва.. ветрам развеяна, градам разбітая; стаіць бяздольная, богам забытая...* Лучына. *А туманы, як пялёнка, засцілаюць лес і гай. Ой ты, бедная старонка! Ой, забыты богам край!* Колас.

**2.** Глухі, аддалены (куток, вёска і пад.) *Пераліваліся яны [грошы] шчодрым.. струменем у бары, кафэ-шантаны ці да звычайных карчмарак у такіх «богам забытых» кутках.* Шынклер. *Тут ён [Антон] амаль не баяўся нікога: на гэтым богам забытым хутары наўрад ці хто мог быць староннi.* Быкаў.

*ЗАБЫЦЬ* • **ЗАБЫЦЬ ДАРОГУ** *да каго, куды. Зак. да* **ЗАБЫВАЦЬ ДАРОГУ** *да каго, куды.*

*ЗАБЯГАЦЬ* • **ЗАБЯГА́ЦЬ НАПЕ́РАД.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. **1.** Парушаючы паслядоўнасць, пачынаць рабіць што-н. заўчасна. *Я хацеў перадаць вам матэрыяльчык для «Праўды» аб нашай Рудабельскай вобласці. Можа, мы забягаем наперад, але ў нас ужо створаны як бы зародак Савецкай улады.* Гурскі. *Забягаючы наперад, скажу: мне дастаўся новенькі, з іголачкі, лётчыцкі шынель, які я і пранасіў, пакуль не выйшаў са справаздачаю ў савецкі тыл.* Карпаў. **ЗАБЕГЧЫ НАПЕРАД.** *Зак.*

**2.** Апярэджваць каго-н. у дасягненні, атрыманні чаго-н. *Шаўкун, таксама брыгадзір, кладзе дрэнаж, але не на Жоўніцкім урочышчы, а недзе на Сырых імхах. Брыгада яго часам забягае наперад Андрэевай...* Воранаў. **ЗАБЕГЧЫ НАПЕРАД.** *Зак.*

*ЗАБЯРЫ* • **ЛІХА ЯГО ЗАБЯРЫ.** Гл. ліха.
**ХАЛЕРА ЯГО ЗАБЯРЫ.** Гл. халера.
**ЧОРТ ЯГО ЗАБЯРЫ.** Гл. чорт.

*ЗАВАДЗЬ* • **ЦІ́ХАЯ ЗА́ВАДЗЬ.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм. Часцей неадабр.* Спакойнае, бяспечнае месца, без клопатаў і трывог. *Хочаце жыць у ціхай завадзі? Дзянісаў вам перашкаджае? Не, дарагі калега. Такія людзі, як Дзянісаў, вельмі нам патрэбны.* Гамолка. *[Алаізе] было лёгка і весела. Значыцца, жыве Вільня, бурліць! А яна думала, што пасля Пецярбурга трапіць у ціхую завадзь.* Арабей. *Да мясцовай прэсы перабудова, на жаль, не ўсюды дайшла. Ёсць яшчэ ціхія завадзі, застойныя куткі.* Сачанка.

*ЗАВАЛІСЯ* • **ХО́ЦЬ ЗАВАЛІ́СЯ** *чаго. Толькі ў гэтай форме. У безас ужыв. Праст.* Вельмі многа, у вялікай колькасці. **Сін.**: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе ў *каго*; з горла прэ ў *каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава про-

цьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. А як пракапаеце канавы такія-сякія, будзе вам сена хоць заваліся.* Галавач. *Заўчора мы з Валькай паехалі на калясцы ў лес назбіраць дроў. Ламачча было хоць заваліся.* Паўлаў. *Высветлілася, што тае тары, як кажуць, хоць заваліся, а не было якраз самага элементарнага — арганізаванасці ў работе.* «Вожык».

*ЗАВАРВАЕЦЦА* • **КАША ЗАВАРВАЕЦЦА**. Гл. каша.

*ЗАВАРВАЦЬ* • **ЗАВА́РВАЦЬ КА́ШУ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Распачынаць складаную, клопатную, непрыемную справу. **Сін.**: агарод гарадзіць; наварыць піва. **Ант.**: расхлёбваць кашу. *[Віктар:] На чорта яму трэба было заварваць яшчэ і гэтую кашу? У такі час, калі хапала сваіх праблем...* Шамякін. **ЗАВАРЫЦЬ КАШУ**. *Зак. Валя згадзілася толькі таму, што ведала — усю гэту кашу Віктар заварыў для таго, каб лацвей было сустракацца.* Арабей.

*ЗАВАРОТКІ* • **КАРО́ТКІ (-Я) ЗАВАРО́ТКІ** *ў каго, чые. Адз. не ўжыв. У безас. ужыв. Разм.* Няма сілы, магчымасці зрабіць што-н. **Сін.**: аслаблі гайкі *ў каго* (у 2 знач.); жыдкі лыткі *ў каго*; кішка тонкая *ў каго* (у 1 знач.); кароткі пяты *ў каго*; не адтуль растуць рукі *чые, у каго*; пораху не хапае *ў каго*; рукі кароткія *ў каго. — А навошта нам жартаваць. Мы і так будзем вас за нос вадзіць. — Кароткія вашы заваротні.* Каваль. *Пацеў, планаваў... Але, як кажуць у народзе, кароткі ў ворага-акупанта былі заваротні.* Кавалёў. *Куды табе брацца? У цябе кароткі заваротні.* Янкоўскі.

*ЗАВАРОЧВАЦЬ* • **ЗАВАРО́ЧВАЦЬ (ПАВАРО́ЧВАЦЬ) АГЛО́БЛІ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. *Часта іран.* Адыходзіць ці ад'язджаць назад. *Вось толькі што з раёна і... зноў заварочваю аглоблі...* Мурашка. *Дыспетчар, зразумела, распарадзіўся — паварочваць аглоблі. Давялося пад агнём прарывацца праз станцыю.* Карпаў. **ЗАВЯРНУЦЬ (ПАВЯРНУЦЬ) АГЛОБЛІ**. *Зак. [Дабрагост:] Ці, можа, увогуле тут недарэчы я, і самы раз аглоблі павярнуць?* Гілевіч.

**2**. Адмаўляцца ад ранейшага рашэння, абяцання. **Сін.**: біць адбой; даваць адбой; даваць задні ход. *І цвёрдае рашэнне паворачваць аглоблі раптам здалося недарэчным, неразумным, вар'яцкім. Вяртацца ў тое асінае гняздо? Не-е!* Блакіт. **ЗАВЯРНУЦЬ (ПАВЯРНУЦЬ) АГЛОБЛІ**. *Зак. Ці скора ж ты жэнішся?.. Глядзі, спяшай, а то твая Мар'янка не дачакаецца і аглоблі заверне.* Каваль.

*ЗАВАРЫЦЬ* • **ЗАВАРЫЦЬ КАШУ**. *Зак. да* **ЗАВАРВАЦЬ КАШУ**.

**ЗАВАРЫЦЬ ПІВА**. Гл. наварыць.

*ЗАВЕДЗЕНАЯ* • **ЯК ЗАВЕДЗЕНАЯ МАШЫНА**. Гл. машына.

*ЗАВЕДЗЕНЫ* • **ЯК ЗАВЕ́ДЗЕНЫ (-АЯ, -ЫЯ)**. *Акал. Разм.* Аднастайна і бесперапынна, з механічнай дакладнасцю (рабіць што-н.). **Сін.**: як заведзеная машына. *Як заведзены ён круціў адной рукой катрынку, і яна канючыла адну і тую ж сумную мелодыю...* Машара. *Рабенькі Янка Цівунок, якога за кірпаты нос празвалі Лычыкам, стаіць каля стала і як заведзены расказвае вызубраны ўрок па гісторыі Польшчы.* Брыль. *Зараз, бледная, засяроджана-маўклівая, яна [Аксана] рабіла ўсё як заведзеная, а думкамі была недзе далёка-далёка.* Рыбак.

*ЗАВЕСЦІ* • **ЗАВЕ́СЦІ <СВАЮ́> КАТРЫ́НКУ**. *Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачаць дакучліва гаварыць пра адно і тое ж. **Сін.**: завесці <сваю> шарманку. *— Ну! Ну! Завяла ўжо катрынку! — глуха загукаў Арцём са студні.* Колас. *Я ля-*

*жаў у гамаку, нядужылася. А гэты як сеў пры боку, так і прымёрз. І завёў, як вы кажаце, катрынку.* Лужанін. *[Валошка] замоўк — на душы зрабілася брыдка ад пустых спрэчак з маткаю. Але тая ўжо завяла катрынку — круціла: — Ты, Міша, не бачыш, што мяне валакушы не валакуць? Вачэй у цябе нямашака?* Карамазаў. *— Ай, Мікалай! Навошта ж ты выдумляеш абы-што? — адразу, як усё роўна і чакаў таго, каб уступіць у гаворку, пісклявым жаночым голасам завёў сваю катрынку Мірон. — Пайшоў вон.* Макарэвіч. *І раптам слова ўзяў таварыш Свістуноў, нарзану выпіў, пачакаў хвілінку ну і завёў катрынку!.. Гадзіны так на тры, пакуль не змоўк...* Э.Валасевіч.

**ЗАВЕ́СЦІ <СВАЮ> ШАРМА́НКУ**. *Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачаць дакучліва гаварыць пра адно і тое ж. **Сін.**: завесці <сваю> катрынку. *[Пранцісь — Быкоўскаму:] Собственно, пане дабрудзею, завядзі яшчэ сваю шарманку: яна ў цябе, проста, як грамафон, вось-цо-да, трубіць.* Купала. *Гэта Вінцук зноў завёў сваю шарманку: не можа сам-насам са сваімі думкамі і колькі хвілін уседзець — то да аднаго, то да другога прычэпіцца.* Бондар.

*ЗАВЕСЦІСЯ* • **ЗАВЕСЦІСЯ З ПАЎАБАРОТУ**. *Зак. да* **ЗАВОДЗІЦЦА З ПАЎАБАРОТУ**.

*ЗАВІЛЯЦЬ* • **ЗАВІЛЯ́ЦЬ ХВАСТО́М**. *Зак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачаць хітраваць, крывадушнічаць, ашукваць. *Значыць, ты да гэтага маўчаў, на партыйным сходзе падтрымліваў нашу прапанову, а прыйшло да справы, дык завіляў хвастом?* Кулакоўскі. *Максім пакорліва выйшаў на двор, а цешча ўсё бубнела: — Не, не, мая дачушка, толку не будзе. Завіляў хвастом, няхай ідзе. Ты не з апошніх. Яшчэ не такога знойдзеш.* Гроднеў.

*ЗАВОД* • **НА ЗАВО́Д**. *Акал. Разм.* Для развядзення, размнажэння (пакідаць, мець і пад.). *У вас добра сад захаваўся ад вусеня, а ў мяне дык каб, скажам, на завод яблык адзін.* Чорны.

*ЗАВОДЗІЦЦА* • **ЗАВО́ДЗІЦЦА (ЗАВЕ́СЦІСЯ) З ПАЎАБАРО́ТУ**. *Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі хутка даходзіць да ўзбуджанасці, узрушанасці, хвалявання. *[Кічкайла:] У мяне бяссонніца! Я ж нават дома, у сям'і стаў заводзіцца з паўабароту!* Матукоўскі. *Я заводжуся, як кажа наш камбайнер, з паўабароту.* Сяркоў. *Жонка завялася з паўабароту і пасыпала, пасыпала часценька...* Радкевіч.

*ЗАВОДЗІЦЬ* • **ЗАВО́ДЗІЦЬ КАТРЫ́НКУ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дакучліва гаварыць пра адно і тое ж. **Сін.**: круціць катрынку. *Няма тут што слухаць, і зноў будзе заводзіць катрынку.* «Маладосць».

*ЗАВЫЙ* • **ХОЦЬ ВОЎКАМ ЗАВЫЙ**. Гл. вый.

*ЗАВЫСОКА* • **ЗАВЫСОКА ЛЯЦЕЦЬ**. Гл. ляцець.

*ЗАВЫЦЬ* • **ВО́ЎКАМ (ВАЎКО́М) ЗАВЫ́ЦЬ**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачаць горка скардзіцца на якія-н. нягоды, пакуты. *Ты кажаш, сумна ў адзіноце... Як каму... Няма чаго рабіць, няма да чаго шчырага інтарэсу — вядома, сумна, воўкам завыеш.* Хадкевіч. *Ты ведаеш, што значыць пражыць тут, у лесе, год, другі чалавеку, які быў жанаты — а хоць бы і не быў, — без жанчыны, без дзяўчыны? Воўкам завыеш, і свет белы стане не мілы.* Дамашэвіч.

*ЗАВЯЗАНЫ* • **СВЕТ ЗАВЯЗАНЫ** *каму*. Гл. свет.

*ЗАВЯЗАНЫМІ* • **З ЗАВЯЗАНЫМІ ВАЧАМІ**. Гл. вачамі.

*ЗАВЯЗАЦЬ* • **ЗАВЯЗАЦЬ ВОЧЫ** *каму. Зак. да* **ЗАВЯЗВАЦЬ ВОЧЫ** *каму.*

**ЗАВЯЗАЦЬ ВУЗЯЛОК**. *Зак. да* **ЗАВЯЗВАЦЬ ВУЗЯЛОК**.

**ЗАВЯЗАЦЬ САБЕ СВЕТ**. *Зак. да* **ЗАВЯЗВАЦЬ САБЕ СВЕТ**.

**ЗАВЯЗАЦЬ СВЕТ** *каму. Зак. да* **ЗАВЯЗВАЦЬ СВЕТ** *каму.*

**ЯЗЫ́К (ЯЗЫКІ́) ЗАВЯЗА́ЦЬ** *каму. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прымусіць каго-н. маўчаць. **Сін.**: забіваць дух *каму*; закрываць рот *каму*; замазаць рот *каму*; затыкаць горла *каму, каго* (у 1 знач.); затыкаць рот *каму*; наступаць на язык *каму*; павесіць замок на рот *каму*; укараціць язык *каму. Людскія ж плёткі на нейкі час забываюцца. А ўрэшце — ліха іх бяры! Хіба ты язык людзям завяжаш?* Колас. *Суд потым дзяка апраўдаў, але не мог завязаць людзям языкі. Па вёсках распаўзліся неверагодныя чуткі...* Карпюк. *Вядома, язык нікаму не завяжаш. Але мая прапанова такая, Пятро Сямёнавіч...* Карпаў. *Нарэшце ён [Сяргей] махае рукой: усё адно языкі не завяжаш, схаваць тое, што між Маргарытай і ім здарылася, немагчыма...* Навуменка.

**ЯК ЗАВЯЗА́ЦЬ**. *Разм.* **1**. *Акал.* Поўнасцю, як толькі можна (насыпаць, набіцца і пад.). **Сін.**: да адказу; пад <самую> завязку (у 1 знач.); па завязку (у 1 знач.). *Каля свірна хлопцы згружалі з фурманкі мяхі з жытам і лаяліся. — Хай бы гэтыя бугаі і цягалі. — Бач ты, панасыпалі як завязаць.* Грахоўскі. *Людзей набілася як завязаць: нядзеля, перадапошні рэйс у Мінск— хто ў госці, хто з гасцей.* Дамашэвіч.

**2**. *чаго. У безас. ужыв.* Вельмі многа, звыш меры. **Сін.**: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; <па самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. Адмовіцца [ад камандзіроўкі] не магу, а тут сваёй працы як завязаць.* Шушкевіч. — *Тут во, — Надзя крывіць вусны ва ўсмешцы і кідае на хату, на Валерыка, — сваёй любові хапае. Як завязаць...* Гігевіч.

*ЗАВЯЗВАЦЬ* • **ЗАВЯ́ЗВАЦЬ ВО́ЧЫ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выклікаць у каго-н. любоў, прымушаць пакахаць каго-н. **Сін.**: завязваць свет *каму* (у 2 знач.); задурыць галаву *каму* (у 1 знач.); круціць галаву *каму* (у 1 знач.); круціць мазгі *каму* (у 1 знач.); пакараць сэрца *каго, чыё*; ускружыць галаву *каму* (у 1 знач.). **ЗАВЯЗАЦЬ ВОЧЫ** *каму. Зак. Ты, ты мне вочы завязаў, без цябе няма, няма і не будзе мне радасці.* Сачанка. *«Завязала яна мне вочы не на жарты, — думаў сам сабе Азаркевіч. — Каб хто раней мне сказаў, што ў такія гады можна так пакахаць дзяўчыну, не паверыў бы таму»*. Гурскі.

**ЗАВЯ́ЗВАЦЬ ВУЗЯЛО́К**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Цвёрда запамінаць, улічваць на будучыню. **Сін.**: запісаць на лбе; зарубіць <сабе> на носе <*што*>;

матаць <сабе> на вус *што*. **ЗАВЯЗАЦЬ ВУЗЯЛОК**. *Зак. [Гары:] Па дарозе ў лясгас да Алешкі зазірні. Скажы, што засеў Гары ў Харытонавым ручаі... Алешка трактар арганізуе. Не забудзеш, кандыдат?.. [Ягор:] Вузялок завяжу*. Лукша.

**ЗАВЯ́ЗВАЦЬ САБЕ́ СВЕ́Т**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рабіць сваё жыццё несвабодным і бязрадасным. **Ант.**: развязваць сабе рукі; развязваць сабе свет. *Чаго так рана ісці замуж? Нашто сабе свет завязваць?* Янкоўскі. **ЗАВЯЗАЦЬ САБЕ СВЕТ**. *Зак. — Ага, — залямантавала Ларыса, — абвешаюся дзецьмі і свет завяжу сабе.* І.Капыловіч. *Ты што, здурнеў... Завязаць сабе свет. Ды каб хоць дзеўка людская была, а то ж...* Арабей.

**ЗАВЯ́ЗВАЦЬ СВЕ́Т** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Станавіцца перашкодай, абузай для каго-н., пазбаўляць каго-н. свабоды дзеянняў. **Сін.**: абразаць крылы *каму, у каго*; засланяць <увесь, божы> свет *каму* (у 2 знач.); звязваць па руках і нагах каго; звязваць рукі *каму*; падразаць крылы *каму*. **Ант.**: развязваць рукі *каму. — Ты б, Пракопка, пашукаў сабе жонку... — Навошта я буду свет завязваць маладзіцы з гэтай сваёй дзеравяшкай.* Сабаленка. **ЗАВЯЗАЦЬ СВЕТ** *каму. Зак. Любіў дзед гарэлку, а як напіваўся, то лаяўся і кулакі ў ход пускаў, усё на бабку наракаў, крычаў, што завязала яму свет, каб не яна, каб не яна...* Арабей. *Што я мяшаў яму катораму абжывацца? Што я яму катораму свет завязаў?* Зарэцкі.

**2**. Выклікаць у каго-н. любоў, прымушаць пакахаць каго-н. **Сін.**: завязваць вочы *каму*; задурыць галаву *каму* (у 1 знач.); круціць галаву *каму* (у 1 знач.); круціць мазгі *каму* (у 1 знач.); пакараць сэрца *каго, чыё*; ускружыць галаву *каму* (у 1 знач.). **ЗАВЯЗАЦЬ СВЕТ** *каму. Зак. Ганна смутна і маркотна, яна думае аб ім... Эх, нядобры хлопчык дзедаў, — свет дзяўчынцы завязаў!* Колас. *Чырвона каліна дый у лузе стаяла, несуверная ты, дзяўчынка, мне свет завязала.* Крапіва.

*ЗАВЯЗКУ* • **ПАД ЗАВЯ́ЗКУ**. *Акал. Разм.* **1**. Поўнасцю, як толькі можна (набіць, запоўніць і пад.). **Сін.**: да адказу; <па самую> завязку (у 1 знач.); як завязаць (у 1 знач.). *У той дзень набілася вучняў у клас пад завязку.* Лецка. *І дзень «адпачынку», у які адбылася наша сустрэча, быў запоўнены, як кажуць, пад завязку...* Мальдзіс. *Танк глытаў і глытаў у сваё чэрава стальныя цыгаркі, начыненыя выратавальнай сілай для яго самога і для гэтых людзей. — Больш няма куды. Пад завязку...* Беразняк.

**2**. Вельмі моцна (напалохацца, нагаравацца і пад.). **Сін.**: па <самую> завязку (у 2 знач.). *І напалохаўся я, браткі, у той дзень пад завязку.* «Вожык».

**ПА <СА́МУЮ> ЗАВЯ́ЗКУ**. *Разм.* **1**. *Акал.* Поўнасцю, як толькі можна (запоўніць, накарміць і пад.). **Сін.**: да адказу; пад завязку (у 1 знач.); як завязаць (у 1 знач.). *— Ну, хапіла [гаворкі] па самую завязку? — Зінковіч паблісквае вачыма.* Лужанін. *Добра, мабыць, па завязку накарміла яго Фядора.* Міська.

**2**. *Акал.* Вельмі моцна (нагаравацца, намучыцца і пад.). **Сін.**: пад завязку (у 2 знач.). *Яўхім глядзеў на сына як на няшчасніка: «Гэты наробіцца, нагаруецца па самую завязку».* Сабаленка. *Досыць жа, нагараваліся, намэнчыліся, напекаваліся, натрэсліся людзі — па завязку!* Гіль.

**3**. *чаго. У безас. ужыв.* Вельмі многа, звыш меры. **Сін.**: адбою няма *ад каго* (у 2 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1

знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. Адменны дзед, узорны дзед — ажно па завязку заслуг!* Лужанін. *Можа, пусціш, цётка Ганна, чалавека пераначаваць, а то куды ні ткніся — дзяцей па самую завязку, а ў цябе і прасторна, і чыста, і ціха.* Грахоўскі. *Пайшлі, спраў там у мяне — па завязку...* Брыль.

*ЗАВЯРНУЦЬ* • **ЗАВЯРНУЦЬ АГЛОБЛІ**. *Зак. да* **ЗАВАРОЧВАЦЬ АГЛОБЛІ**.

*ЗАГАВАРВАЦЬ* • **ЗАГАВАРВАЦЬ ЗУБЫ** *каму*. Гл. загаворваць.

*ЗАГАВАРЫЛА* • **СУМЛЕННЕ ЗАГАВАРЫЛА** *ў каго*. Гл. сумленне.

*ЗАГАВАРЫЦЬ* • **ЗАГАВАРЫЦЬ ЗУБЫ** *каму. Зак. да* **ЗАГАВОРВАЦЬ ЗУБЫ** *каму*.

*ЗАГАВЕЙ* • **ХО́ЦЬ ДУШО́Й ЗАГАВЕ́Й**. *Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм.* Выказванне безнадзейнасці, немагчымасці зрабіць што-н., каб выйсці з вельмі цяжкага становішча. **Сін.**: хоць галавой аб сцяну біся; хоць галавой у пятлю; хоць лажыся і памірай; хоць <ты> вешайся; хоць <ты> галавой налажы; хоць <ты> жывы ў зямлю лезь; хоць <ты> у вір галавой; хоць у пятлю лезь; хоць у труну лажыся. *Калі хлеба няхват, то знасіць ўсё ж лягчэй, чымся б корму не стала прадвеснем зімным для скацінкі; тады.. хоць душой загавей.* Купала. *Божа мой, прыйшоў чалавек з лесу і нічога толкам не гаворыць, а мне ж хоць душой загавей... Ну, як ён там, хлопец мой, ці жыў хоць?* Лынькоў.

*ЗАГАВЕЦЬ* • **ЗАГАВЕ́ЦЬ ДУШО́Й**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Памерці. **Сін.**: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць на той свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць у іншы свет; адыходзіць (ісці) у лепшы свет; ажаніцца з <сырою> зямлёю; выпростваць ногі; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загадаць доўга жыць <*каму*> (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага *збірацца*; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); канькі адкідаць; лажыцца ў магілу; на паповы сані *збірацца*; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. *Макар.. палез на торп скідаць снапы, пакаўзнуўся неяк — і сам са снапамі на ток... Другі на яго месцы так ужо і загавеў бы душой, а Мурашка паляжаў трохі на саломе, пасля вытрубіў місу гароху дый зноў за цэп.* Брыль. *Але не суджана было мне душой без часу загавець...* Купала. *[Пракоп:] Добра, што мяне выпусцілі з паграба, а то душой мог загавець.* Сачанка.

*ЗАГАВОРВАЦЬ* • **ЗАГАВО́РВАЦЬ (ЗАГАВА́РВАЦЬ) ЗУ́БЫ** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Хітруючы, пабочнымі размовамі адцягваць увагу ад чаго-н. важнага. **Сін.**: адводзіць вочы *каму*, зубы замаўляць *каму*. *Я гэтаму хлюсту, Зыгмусю, буду зубы загаворваць, а ты ідзі бяры яе танцаваць.* Брыль. — *Ты не загавар-*

*вай мне, знаеш, зубоў, — з сур'ёзным тварам, але мяккім тонам сказаў Дзядзька.* Баранавых. **ЗАГАВАРЫЦЬ ЗУБЫ** *каму. Зак. Вартаўнікам Чарнецкі зубы загаворыць... А вы покуль што ўцякайце!..* Карпюк.

*ЗАГАДАЦЬ* • **ЗАГАДАЦЬ ЗАГАДКУ** *каму. Зак. да* **ЗАГАДВАЦЬ ЗАГАДКУ** *каму.*

**ЗАГАДА́ЦЬ (НАКАЗА́ЦЬ) ДО́ЎГА ЖЫ́ЦЬ** *<каму>. Зак. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Памерці. **Сін**.: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць на той свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць у іншы свет; выпростваць ногі; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага *збірацца*; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі, з капылоў далоў (у 2 знач.); лажыцца ў магілу; на паповы сані *збірацца*; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. *Каваль Андрэй, агледзеўшы графа, спакойна праказаў да ўсіх: — Стары пан загадаў усім доўга жыць...* Лынькоў. *Ехалі куды глядзяць вочы. Па дарозе бацькі загадалі дзецям доўга жыць.* Баранавых. *Неяк сярод лета яшчэ зусім на досвітку конна прымчаўся аб'ездчык Ксавэры і сказаў: — Ну, Міхале, пан ляснічы наказаў нам доўга жыць.* С.Александровіч. *Прускае агенцтва загадала доўга жыць.* «Полымя».

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Переставаць існаваць. *[Мяснікоў:] Ну, як, таварыш Ліпавец? [Ліпавец:] Парадак. Машына загадала доўга жыць.* Глебка.

*ЗАГАДВАЦЬ* • **ЗАГА́ДВАЦЬ ЗАГА́ДКУ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Ствараць для каго-н. цяжкасці, якія неабходна пераадолець. **Сін**.: задаваць задачу *каму*, загадваць загадку *каму*. **ЗАГАДАЦЬ ЗАГАДКУ** *каму. Зак. [Скіба:] Чым мацней будзем біць [ворага], тым хутчэй наша зямля і нашы заводы будуць зноў нашымі. Вось што я хацеў вам сказаць. [Міхаль:] Загадаў ты нам, таварыш, загадку.* Крапіва. *Ах, вуліца, ціхая вуліца, загадала ты мне загадку. Дзе ж, за якім парогам шукаць на яе разгадку?* Палтаран.

*ЗАГАДЗЕ* • **<НІБЫ́> ПА ШЧУПАКО́ВЫМ ЗАГА́ДЗЕ**. *Акал. Разм.* Самым нечаканым спосабам, цудам, без чыёй-н. падтрымкі, дапамогі. *І неўзабаве на круглым стале нібы па шчупаковым загадзе з'явіліся каралеўскія прысмакі...* Іпатава. *На нейкую хвілю заплюшчыў вочы і ўявіў: робіцца ўсё — нібы па шчупаковым загадзе.* «ЛіМ». *Не па шчупаков[ым] загад[зе] падніма́ліся з руін гарады і вёскі. А ў нашай беднай на лес мясцовасці пабудаваць хату — цэлая праблема. І ўсё ж вылезлі людзі з зямлянак.* Жычка. *Праект новага агрэгата. Думаеш, па шчупаковым загадзе гэта робіцца?* Чавускі.

*ЗАГАДКУ* • **ЗАГАДВАЦЬ ЗАГАДКУ** *каму*. Гл. загадваць.

*ЗАГАІЦЬ* • **ЗАГАІЦЬ РАНЫ** *чаго, каго. Зак. да* **ЗАГОЙВАЦЬ РАНЫ** *каго, чаго.*

*ЗАГАНЯЦЬ* • **ЗАГАНЯЦЬ КЛІН** *паміж кім, паміж чым*. Гл. убіваць.

**ЗАГАНЯ́ЦЬ НА ТО́Й СВЕ́Т** *каго. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даводзіць да смерці. **Сін**.: адарваць галаву *каму* (у 1 знач.); адкруціць галаву *каму* (у 1 знач.); адпраўляць на той свет *каго*; адпраўляць у магілёўскую губерню *каго*; вымаць душу *з каго, каму* (у 2 знач.); вымотваць жылы (у 3 знач.); вымотваць кішкі (у 2 знач.); выпусціць дух (у 3 знач.); выпусціць кішкі *<каму>*; вытрасці душу *з каго, каму* (у 2 знач.); гнаць у магілу *каго*; зводзіць са свету *каго* (у 1 знач.); зводзіць у магілу *каго*;

звярнуць галаву *каму*; зжываць са свету *каго*; знімаць галаву *каму* (у 1 знач.); прыбіраць з дарогі *каго*; скруціць вязы *каму*, скруціць шыю *каму*. **ЗАГНАЦЬ НА ТОЙ СВЕТ** *каго. Зак. Ты запамятаваў ужо, як Паўла загнаў на той свет?* Галавач. *Годзе табе, маладзіца, ты ж гэтак хлопца на той свет загоніш...* Сабаленка.

**ЗАГАНЯ́ЦЬ СЯБЕ́ Ў КУ́Т**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Аказвацца ў цяжкім ці бязвыхадным становішчы. **ЗАГНАЦЬ СЯБЕ Ў КУТ**. *Зак. Стары ж чалавек, увогуле заслужаны, амбіцыяй і маной загнаў сябе ў кут.* Новікаў. *— А ў Кунцэвіча колькі [грошай на рахунку]? — Я іх грошай не лічыў! — агрызнуўся ён, думаючы, як выблытацца з гэтай непрыемнай тэмы, не даць загнаць сябе ў кут.* Блакіт.

**ЗАГАНЯ́ЦЬ У КАЗІ́НЫ РО́Г** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Ставячы ў бязвыхаднае становішча, перамагаць каго-н. **Сін.**: зламаць хрыбет *каму*. **ЗАГНАЦЬ У КАЗІНЫ РОГ** *каго. Зак. Пакуль жа літоўскі князь памач прыслаў, вось горад Барысаў Усевалад забраў дай загнаў князечка ў казіны рог, — ледзьве з сваімі ў Слуцку апынуцца змог!* Дунін-Марцінкевіч. — *Што за мароз пячэ сягоння! Як прыскам, вочы проста смаліць. — У казіны рог усіх загоне.* Купала. *Страх загоніць працаўніка ў казіны рог, і нам спатрэбіцца менш крыві.* Карпюк.

**ЗАГАНЯ́ЦЬ У КУ́Т** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ставіць у бязвыхаднае становішча (звычайна ў спрэчцы). **Сін.**: прыпіраць да сценкі *каго. [Муха і Юдзін] могуць выдатна жартаваць, заганяць любога шчырага і эмацыянальнага чалавека ў кут кпінамі.* Далідовіч. *Вялікай порцыі палітыкі механізатары не пераварвалі, ды, відаць, трохі і заядае дзядзькоў, што вучань іх у кут заганяе ў спрэчцы.* Шамякін. **ЗАГНАЦЬ У КУТ** *каго. Зак. Эсэра-меншавіцкія прамоўцы баяліся ўступаць з ім [Краеўскім] у дыскусію — абавязкова загоніць у кут.* Гурскі.

**ЗАГАНЯЦЬ У МАГІЛУ** *каго.* Гл. гнаць.

**ЗАГАНЯ́ЦЬ У ТУПІ́К** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Даводзіць да разгубленасці, збянтэжанасці. **Сін.**: ставіць у тупік *каго. І як заўсёды, нягледзячы на Алесева красамоўства, Кастусь заганяў яго ў тупік.* Ваданосаў. *— А навошта вам пра мяне ўсё ведаць? — О-го, які раптам паварот!.. Першае пытанне ў тупік заганяе...* Бондар. **ЗАГНАЦЬ У ТУПІК** *каго. Зак. [Юзаф] убачыў, што загнаў дзяўчынку ў тупік, і адкрыта, без хітрыкаў, сказаў: — Ты працуеш у вайсковым шпіталі. Ты шмат чаго карыснага можаш пачуць для нас.* Прокша.

*ЗАГАРАЮЦЦА* • **УСЕ СВЕЧКІ ЗАГАРАЮЦЦА** *з каго, ад каго.* Гл. свечкі.

*ЗАГАРЭЛАСЯ* • **ВОКА ЗАГАРЭЛАСЯ** *ў каго на што.* Гл. вока.

**ЛІХА ЗАГАРЭЛАСЯ** *з каго, праз каго.* Гл. ліха.

*ЗАГАРЭЛІСЯ* • **ВОЧЫ ЗАГАРЭЛІСЯ** *ў каго на што.* Гл. вока.

*ЗАГАРЭЎСЯ* • **СЫР-БОР ЗАГАРЭЎСЯ** *з-за каго, з-за чаго, праз каго з чаго.* Гл. сыр-бор.

*ЗАГЛЯДАЦЬ* • **ЗАГЛЯДАЦЬ <ДАЛЁКА> НАПЕРАД**. Гл. глядзець.

**ЗАГЛЯДАЦЬ У БУТЭЛЬКУ**. Гл. глядзець.

*ЗАГЛЯДВАЦЬ* • **ЗАГЛЯ́ДВАЦЬ (ЗАЗІРА́ЦЬ) У ДУШУ́** *чыю, каму, каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Старацца зразумець чые-н. думкі, пачуцці і пад. **Сін.**: лезці ў душу *чыю, каго, каму. Нам, камандзірам, трэба глыбей зазіраць у душу кожнага салдата.* Дамашэвіч. **ЗАГЛЯНУЦЬ (ЗАЗІРНУЦЬ) У ДУШУ** *чыю, каму, каго. Зак. Цікава заглянуць хлопцу ў душу і даведацца, якія ў яго палітычныя погляды, што думаў аб сусветных праблемах.* Карпюк. *Калі б хто мог зазірнуць у яго [Яўхімаву] душу, то пабачыў бы, што не жыта, не веялка, іншае зусім цікавіць і трывожыць яго.* Мележ.

**ЗАГЛЯДВАЦЬ У БУТЭЛЬКУ**. Гл. глядзець.

*ЗАГЛЯНУЦЬ* • **ЗАГЛЯНУЦЬ < ДАЛЁКА > НАПЕРАД**. *Зак. да* **ГЛЯДЗЕЦЬ < ДАЛЁКА > НАПЕРАД**.

**ЗАГЛЯНУЦЬ У ДУШУ** *чыю, каму, каго. Зак. да* **ЗАГЛЯДВАЦЬ У ДУШУ** *чыю, каму, каго.*

*ЗАГНАНАСЦЬ* • **ЗАГНА́НАСЦЬ У ТУПІ́К**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Крайняя разгубленасць.

*ЗАГНАЛА* • **НЯЛЁГКАЯ ЗАГНАЛА** *каго куды.* Гл. нялёгкая.

*ЗАГНАЎ* • **ЧОРТ ЗАГНАЎ** *каго куды.* Гл. чорт.

**ЯКІ ВЕЦЕР ЗАГНАЎ** *каго куды.* Гл. вецер.

*ЗАГНАЦЬ* • **ЗАГНАЦЬ КЛІН** *паміж кім, паміж чым.* Гл. убіваць.

**ЗАГНАЦЬ НА ТОЙ СВЕТ** *каго. Зак. да* **ЗАГАНЯЦЬ НА ТОЙ СВЕТ** *каго.*

**ЗАГНАЦЬ СЯБЕ Ў КУТ** *каго. Зак. да* **ЗАГАНЯЦЬ СЯБЕ Ў КУТ** *каго.*

**ЗАГНАЦЬ У КАЗІНЫ РОГ** *каго. Зак. да* **ЗАГАНЯЦЬ У КАЗІНЫ РОГ** *каго.*

**ЗАГНАЦЬ У КУТ** *каго. Зак. да* **ЗАГАНЯЦЬ У КУТ** *каго.*

**ЗАГНАЦЬ У МАГІЛУ** *каго. Зак. да* **ГНАЦЬ У МАГІЛУ** *каго.*

**ЗАГНАЦЬ У ТУПІК** *каго. Зак. да* **ЗАГАНЯЦЬ У ТУПІК** *каго.*

*ЗАГНУЦЬ* • **НЕ ТУДЫ ЗАГНУЦЬ**. *Зак. да* **НЕ ТУДЫ ГНУЦЬ**.

*ЗАГОЙВАЦЬ* • **ЗАГО́ЙВАЦЬ (ЗАЛЕ́ЧВАЦЬ) РА́НЫ** *чаго, каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, сукупнасці асоб ці абстр. прадмета. Ліквідоўваць шкоду, страты, прычыненыя чым-н. *[Серадзібор] абласквае і загойвае раны тых, што асталіся жывыя і шукаюць уцехі ад нечуванай крыўды — ходзяць па сваёй, адваяванай у ворага зямлі з вялікім сумам у душы.* Пестрак. **ЗАГАІЦЬ (ЗАЛЯЧЫЦЬ) РАНЫ** *каго, чаго. Зак. Загоім раны, адбудуем свае сялібы зруйнаваны, сваю краіну маладую святлом асвецім нечуваным.* Купала. *Паэт славіць савецкі народ, які залячыў раны вайны, пабудаваў новыя гарады, фабрыкі і заводы і непахісна стаіць на варце міру.* Шкраба.

*ЗАГОНЕ* • **У ЗАГО́НЕ**. *У знач. вык. Функц. не зам. Неадабр.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Без належнай увагі і клопату (быць).

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. У закінутым стане, пад уціскам (быць). **Сін.**: на задворках. *Слова роднае ў загоне, няма сваіх газет, кніжак, ігрышчы, сходы ў забароне.* Колас. *Беларуская мова была ў загоне.., яе не лічылі самастойнай мовай, а прызнавалі толькі як пэўны дыялект.* Лынькоў.

*ЗАГОНІШ* • **КАЛО́М (КІ́ЕМ, ПА́ЛКАЙ) НЕ ЗАГО́НІШ** *каго куды. Зак. У абаг.-асаб. знач. Разм.* Ніякім чынам не прымусіш каго-н. аказацца дзе-н. **Сін.**: <і> на вяроўцы не зацягнеш *каго куды*; і пернікам не заманіш *каго, куды. — Ха-ха-ха! Бач ты яго, — зарагатаўшы, пачаў Ігнат, — раней першым уваходзіў у царкву і апошнім выходзіў, а цяпер і калом туды яго не загоніш...* Чарот. *Ды цябе сюды [у вёску] і калом не загоніш! — здзекліва сказаў Макар.* Блакіт. *Цяпер старую цяцеру Марцэлю кіем не загоніш у той калідор.* Дубоўка. *— У касцёл іх паслала богу маліцца? — Пашлеш у касцёл! Іх туды зараз палкай не загоніш.* Машара.

*ЗАГРАБАЙ* • **ХОЦЬ ГРАБЛЯМІ ЗАГРАБАЙ** *чаго, каго.* Гл. грабі.

*ЗАГРАБАЦЬ* • **ЗАГРАБА́ЦЬ ЖА́Р ЧУЖЫ́МІ РУКА́МІ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Карыстацца вынікамі чужой працы. **Сін.**: на чужым гарбу ў

рай ехаць. *Язэп Крушынскі любіў (і умее) заграбаць жар чужымі рукамі.* Бядуля. — *Хоча, старая ліса, заграбаць жар чужымі рукамі! — адгукнуўся Рыбакоў.* Шамякін. *[Пацієўскі:] Яны стараюцца, каб як мага больш людзей да сябе ўгарнуць, каб чужымі рукамі жар заграбаць.* Чорны. **ЗАГРАБЦІ ЖАР ЧУЖЫМІ РУКАМІ**. *Зак. Краёўцы менш думалі пра народ, пра сваю асуджаную на пагібель сталіцу. Яны хацелі заграбці жар чужымі рукамі.* Паўлаў.

**ЗАГРАБАЦЬ ЛАПАТАЙ**. Гл. грэбці.

**ЗАГРАБАЦЬ ПАД СЯБЕ** <*што*>. Гл. грэбці.

*ЗАГРАБЦІ* • **ЗАГРАБЦІ ЖАР ЧУЖЫМІ РУКАМІ**. *Зак. да* **ЗАГРАБАЦЬ ЖАР ЧУЖЫМІ РУКАМІ**.

*ЗАГРУДКІ* • **БРАЦЦА ЗАГРУДКІ** *з кім*. Гл. брацца.

*ЗАГРЫМЕЦЬ* • **ЗАГРЫМЕ́ЦЬ КАСЦЯ́МІ**. *Зак. Прает.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Загінуць. **Сін**.: злажыць <свае> косці; знайсці сабе магілу *дзе*; класці галаву *за каго, за што дзе*; легчы касцьмі (у 1 знач.); легчы трупам; ляжаць у < сырой > зямлі; навярнуць галавой; накладаць галавой; памінай як звалі (у 1 знач.); парыць зямлю; парыць косці *дзе*; парыць у зямлі косці; спаць вечным сном; спаць у сырой зямлі; яму засквары́ць. *Знаходзяцца прадажныя душы, колькі людзей ужо арыштавана. Адкуль фашыстам было ведаць, хто тыя арыштаваныя, калі б нехта са сваіх не выдаваў. Не пасцеражэшся — хутка загрыміш касцямі.* Новікаў. *Магла праваліцца яўка, і сам бы як бачыш касцямі загрымеў.* Лужанін.

**2**. Упасці, зваліцца адкуль-н. *Даніла заперхаў-закашляўся, тым часам думаючы, што з яго цяперашнім спрытам не дзіва і касцямі загрымець — ляснуцца вобзем, як тая шпакоўня...* Рубанаў.

*ЗАГУМЕННАЯ* • **ВАРОНА ЗАГУМЕННАЯ**. Гл. варона.

*ЗАД* • **ДАВАЦЬ <КАЛЕНКАМ> ПАД ЗАД** *каму*. Гл. даваць.

**СМАЖАНЫ ПЕВЕНЬ КЛЮНУЎ <У ЗАД>** *каго, каму*. Гл. певень.

*ЗАДАВАЦЬ* • **ЗАДАВАЦЬ ДРАЛА**. Гл. даваць.

**ЗАДАВАЦЬ ДРАПАКА**. Гл. даваць.

**ЗАДАВАЦЬ ДЫХТУ**. Гл. даваць.

**ЗАДАВАЦЬ ЖАРУ**. Гл. даваць.

**ЗАДАВА́ЦЬ ЗАДА́ЧУ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ставіць каго-н. у цяжкаватае становішча, ствараць цяжкасці, якія неабходна пераадолець. **Сін**.: загадваць загадку *каму*. — *Каго ты баішся? Балбатуноў? Каму яны служаць, ты думаў? За грошы яны напішуць усё, што хочаш. — Задаеш ты мне задачу, — Вікенцій Паўлавіч зноў пачаў мераць крокамі кабінет у глыбокай задуме.* Шамякін. **ЗАДАЦЬ ЗАДАЧУ** *каму. Зак. Думаю ад ранку ўжо і надумацца не магу, — такую мне задачу задалі. Раяць мне ў партыю падавацца.* Крапіва. *[Маштакоў:] Кругом нам задаў фашыст задачу. Затрымайся на Сажы фронт яшчэ на тры тыдні — хоць пра гэта галава не балела б. Са жнівом паспелі б.* Чыгрынаў.

**ЗАДАВАЦЬ ЛАТАТЫ**. Гл. даваць.

**ЗАДАВА́ЦЬ ПА́РЫ** *каму. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна сварыцца на каго-н., рэзка прабіраць каго-н. **Сін**.: браць пад абстрэл *каго, што*; браць у абарот *каго* (у 2 знач.); браць у пераплёт *каго* (у 2 знач.); браць у работу *каго* (у 2 знач.); браць у шоры *каго* (у 2 знач.); выганяць матыліцу *з каго*; выціскаць пот *з каго* (у 2 знач.); даваць гарту *каму* (у 1 знач.); даваць гонку *каму*; даваць дыхту *каму* (у 1

знач.); даваць жару *каму* (у 1 знач.); даваць перцу *каму* (у 1 знач.); даваць гаць *каму*; даваць прыкурыць *каму* (у 1 знач.); даваць пытлю *каму* (у 1 знач.); даваць у косці *каму* (у 1 знач.); даваць чапаласу *каму* (у 1 знач.); даваць чосу *каму* (у 1 знач.); здымаць стружку *з каго*; мыліць галаву *каму*; мыліць шыю *каму* (у 2 знач.); накруціць хвост *каму*; паддаваць жару *каму* (у 1 знач.); прадзіраць з пясочкам *каго*; спусціць скуру *з каго* (у 2 знач.); усыпаць перцу *каму*. **ЗАДАЦЬ ПАРЫ** *каму. Зак. [Куторга:] Ды я такой задам яму пары, што ён не згадае, дзе ўюны зімуюць.* Дунін-Марцінкевіч.

**ЗАДАВАЦЬ ПЕРЦУ** *каму*. Гл. даваць.

**ЗАДАВАЦЬ ПЫТЛЮ** *каму*. Гл. даваць.

**ЗАДАВАЦЬ СТРАКАЧА** *ад каго, адкуль, куды*. Гл. даваць.

**ЗАДАВАЦЬ ТОН** <*каму, чаму, у чым*>. Гл. даваць.

**ЗАДАВА́ЦЬ ТРУ́СА**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Баяцца, палохацца. **Сін.**: падтульваць хвост; труса святкаваць. *Толькі не трэба труса задаваць: глядзі смела, кажы адважна, рэж з-за пляча — храбрасць гарады бярэ!* Колас. **ЗАДАЦЬ ТРУСА**. *Зак.*

**ЗАДАВА́ЦЬ ФЕ́ФАРУ** *каму. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Сурова распраўляцца з кім-н., караць каго-н. **Сін.**: даваць гарту *каму* (у 2 знач.); даваць дыхту (у 2 знач.); даваць жару (у 2 знач.); даваць копаці *каму*; даваць перцу *каму* (у 2 знач.); даваць прыкурыць *каму* (у 2 знач.); даваць пытлю *каму* (у 2 знач.); даваць у косці *каму* (у 2 знач.); даваць у скуру *каму*; даваць чапаласу *каму* (у 2 знач.); даваць чосу *каму* (у 2 знач.); даць па зубах *каму*; даць па карку *каму*; мыліць шыю *каму* (у 1 знач.); намяць бакі *каму*; па сцяне размазваць *каго*; прапісаць іжыцу *каму*; спусціць скуру *з каго* (у 1 знач.); усыпаць гарачых *каму*; чартоў ганяць. **ЗАДАЦЬ ФЕФАРУ** *каму. Зак. — Гэта напэўна святы Мікалай памыліўся і замест цябе мяне пакараў. — Ён яшчэ, глядзі, і мне каб фефару не задаў.* Колас.

**ЗАДАВА́ЦЬ ХРАПАВІ́ЦКАГА**. *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна спаць. **Сін.**: даваць храпака; давіць вуха; хварэць на пана (у 1 знач.). *— Алё, здароў! — прывітаў яго Сеўка. — Ты, як звычайна, храпавіцкага задаваў?* Карпаў. **ЗАДАЦЬ ХРАПАВІЦКАГА**. *Зак. [Крыленка:] Няхай салдат пасціць... Раней тут сядзеў цар Мікалай Другі, а зараз задаў храпавіцкага салдат Сымон, Сымон Першы...* Губарэвіч.

**ЗАДАВАЦЬ ХРАПАКА**. Гл. даваць.

**ЗАДАВАЦЬ ЧОСУ** *каму*. Гл. даваць.

*ЗАДАМ* • **СВЯЦІЦЬ ГОЛЫМ ЗАДАМ**. Гл. свяціць.

*ЗАДАЦЬ* • **ЗАДАЦЬ ДРАЛА**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ ДРАЛА**.

**ЗАДАЦЬ ДРАПАКА**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ ДРАПАКА**.

**ЗАДАЦЬ ДЫХТУ**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ ДЫХТУ**.

**ЗАДАЦЬ ЖАРУ**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ ЖАРУ**.

**ЗАДАЦЬ ЗАДАЧУ**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ ЗАДАЧУ**.

**ЗАДАЦЬ ЛАТАТЫ**. *Зак. да* **ДАВАЦЬ ЛАТАТЫ**.

**ЗАДАЦЬ ПАРЫ** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ ПАРЫ** *каму*.

**ЗАДАЦЬ ПЕРЦУ** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ ПЕРЦУ** *каму*.

**ЗАДАЦЬ ПЫТЛЮ** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ ПЫТЛЮ** *каму*.

**ЗАДАЦЬ СТРАКАЧА** *ад каго, адкуль, куды. Зак. да* **ДАВАЦЬ СТРАКАЧА** *ад каго, адкуль, куды*.

**ЗАДАЦЬ ТОН** <*каму, чаму, у чым*>. *Зак. да* **ДАВАЦЬ ТОН** <*каму, чаму, у чым*>.

**ЗАДАЦЬ ТРУСА**. *Зак. да* **ЗАДАВАЦЬ ТРУСА**.

**ЗАДАЦЬ ФЕФАРУ** *каму. Зак. да* **ЗАДАВАЦЬ ФЕФАРУ** *каму.*
**ЗАДАЦЬ ХРАПАВІЦКАГА**. *Зак. да* **ЗАДАВАЦЬ ХРАПАВІЦКАГА**.
**ЗАДАЦЬ ХРАПАКА**. *Зак. да* **ЗАДАВАЦЬ ХРАПАКА**.
**ЗАДАЦЬ ЧОСУ** *каму. Зак. да* **ДАВАЦЬ ЧОСУ** *каму.*

*ЗАДАЧА* • **ЗАДА́ЧА СА ШМАТЛІ́КІМІ (МНО́ГІМІ) НЕВЯДО́МЫМІ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Даволі складаная праблема. *Другі раз цяпер вось — перад ім [Чубарам] паўставала задача са шматлікімі невядомымі, якую патрэбна была рашаць.* Чыгрынаў. *Над рашэннем «задачы са шматлікімі невядомымі» б'юцца два спецыялізаваныя саветы вучоных.* «Беларусь». *Нічога нікому не кажучы, рашаў [Гусеў] задачу з многімі невядомымі: выпадкова трапіў партызан у сяло ці не? З якой мэтай прыходзіў? Да каго?* Шамякін.

*ЗАДАЧУ* • **ЗАДАВАЦЬ ЗАДАЧУ** *каму.* Гл. задаваць.

*ЗАДВОРКАХ* • **НА ЗАДВО́РКАХ** *быць, заставацца, знаходзіцца* і пад. *Акал. Разм.* У закінутым стане, як неістотны. **Сін.**: у загоне (у 2 знач.). *Пры паказе такой рэчаіснасці [барацьбы станоўчага з адмоўным] знойдзецца пачэснае месца кожнаму жанру, у тым ліку і сатырычнаму, і ніводзін з іх не застанецца на задворках.* Крапіва. *Тая Паўднёвая Карэя яшчэ трыццаць гадоў назад была на задворках азіяцкага кантынента.* Пашкоў.

*ЗАДВОРКІ* • **НА ЗАДВО́РКІ** <*чаго*> *выцінуць, адсунуць* і пад. *Акал. Разм.* У шэраг другараднага, неістотнага, нязначнага. **Сін.**: на другі план. *Настаўніца павярнула да жыцця клас, які лічыўся безнадзейным і каціўся па нахіле на задворкі жыцця.* Якавенка.

*ЗАДЗЁРТЫМ* • **З ЗАДЗЁРТЫМ НОСАМ**. Гл. носам.

*ЗАДЗІРАЦЬ* • **ЗАДЗІРА́ЦЬ КАПЫТЫ́**. *Незак. Праст. Груб.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. адуш. прадмета. Здыхаць. Пра жывёлу. **Сін.**: адкідваць капыты (у 2 знач.); адкідваць хвост (у 3 знач.); дух выпусціць (у 2 знач.). **ЗАДРАЦЬ КАПЫТЫ**. *Зак. Нажыве [Юрка] парсюка карміць — не есць; купіць карову — прычэпіцца нейкае ліха — капыты задзярэ...* Ядвігін Ш.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паміраць. **Сін.**: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаваць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць на той свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць у іншы свет; адыходзіць (ісці) у лепшы свет; ажаніцца з <сырою> зямлёй; выпраставаць ногі; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць <*каму*> (у 1 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага *збірацца*; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у знач.); канькі адкідаць; лажыцца ў магілу; на паповы сані *збірацца*; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. *Адны кляліся, бажыліся — няма яго жывога..; другія, хітрэйшыя, круцілі галовамі, не згаджаліся, маўляў, памыляецеся, такія не хутка задзіраюць капыты, доўга жыць сумленным людзям не даюць.* Сачанка. **ЗАДРАЦЬ КАПЫТЫ**. *Зак. Цэлу ноч так [піў], але ўранні ён не вытрымаў напору: паў Хвядос на полі брані, капыты задраўшы ўгору.* Крапіва.

**ЗАДЗІРА́ЦЬ НО́ГІ**. *Незак. Праст. Груб.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паміраць. **Сін.**: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць на той свет; адыходзіць у вечнасць (у 1

знач.); адыходзіць у іншы свет; адыходзіць (ісці) у лепшы свет; ажаніцца з <сырою> зямлёй; выпростваць ногі; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць <*каму*> (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); замуж за <пана> пясоцкага *збірацца*; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); канькі адкідаць; лажыцца ў магілу; на паповы сані *збірацца*; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. **ЗАДРАЦЬ НОГІ**. *Зак. «Пудзіла гарохавае».. стрэліла другі і трэці раз. Другі цень таксама задраў ногі.* Якімовіч. *Хіба гэта чалавек?.. Мезеным пальцам карпануць, дык ён і ногі задзярэ.* Мурашка.

**ЗАДЗІРАЦЬ НОС**. Гл. драць.

**ЗАДЗІРА́ЦЬ ХВО́СТ**. *Незак. Праст. Груб.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не лічыцца ні з кім, не звяртаць увагу ні на каго. **Сін**.: задраць нос; завысока ляцець; капыліць нос; несці сябе высока; паднімаць хвост; распускаць <павіны> хвост; хварэць на пана (у 2 знач.). *Дзе ж справядлівасць? Усё атрымала [жонка], усяму навучылася ад яго, а цяпер «задзірае хвост», нават спрабуе камандаваць!* Шамякін. *Аня пачынае па-пікаць, плакаць... Я, вядомая справа, хвост задзіраю — маўляў, што такое зрабіў, чаго на мяне дзьмешся?* Радкевіч. **ЗАДРАЦЬ ХВОСТ**. *Зак.*

*ЗАДЗІРЫНКІ* • **БЕЗ СУЧКА І <БЕЗ> ЗАДЗІРЫНКІ**. Гл. сучка.

**НІ СУЧКА НІ ЗАДЗІРЫНКІ**. Гл. сучка.

*ЗАДНІ* • **АДЫХОДЗІЦЬ НА ЗАДНІ ПЛАН**. Гл. адыходзіць.

**ДАВАЦЬ ЗАДНІ ХОД**. Гл. даваць.

**НА ЗАДНІМ ПЛАНЕ**. Гл. плане.

**НА ЗАДНІ ПЛАН**. Гл. план.

*ЗАДНІМ* • **ЗАДНІМ РОЗУМАМ МОЦНЫ**. Гл. моцны.

**ЗАДНІМ ЧЫСЛОМ**. Гл. чыслом.

*ЗАДНІХ* • **БЕЗ ЗАДНІХ НОГ** *валяцца* і пад. Гл. ног.

**БЕЗ ЗАДНІХ НОГ** *спаць*. Гл. ног.

**ХАДЗІЦЬ НА ЗАДНІХ ЛАПКАХ** *перад кім*. Гл. хадзіць.

*ЗАДНІЯ* • **СТАНАВІЦЦА НА ЗАДНІЯ ЛАПКІ** *перад кім*. Гл. станавіцца.

*ЗАДНЯЙ* • **БЕЗ ЗАДНЯЙ ДУМКІ**. Гл. думкі.

*ЗАДНЯЯ* • **ЗАДНЯЯ ДУМКА**. Гл. думка.

*ЗАДРАНЫМ* • **З ЗАДРАНЫМ НОСАМ**. Гл. носам.

*ЗАДРАЦЬ* • **ЗАДРАЦЬ НОГІ**. *Зак. да* **ЗАДЗІРАЦЬ НОГІ**.

**ЗАДРА́ЦЬ НО́С**. *Зак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачаць вельмі важнічаць, зазнавацца, фанабэрыцца. **Сін**.: задраць хвост; закапыліць нос; захварэць на пана; падняць хвост; распусціць <павіны> хвост. *[Даніла (праводзіць вачыма Маргуна, які праходзіць па вуліцы):] Задраў нос і дзень добры не скажа.* Крапіва. *Перад святамі ў школу карэспандэнт прыехаў нарыс напісаць пра настаўніка Гаварушку. Другі б уга як нос задраў, а Васіль Кузьміч і віду не падаў, што нешта здарылася.* Лобан. *— Дай табе генерала, дык ты нос задзярэш. — Не задзяру. Верна служыць буду. Не задзяру.* Прокша. *Участковы абмінуў старшыню калгаса Каляду, бо той у апошні час адбіўся ад рук: задраў нос, нуль увагі на прадстаўніка ўлады.* В.Ткачоў.

**ЗАДРАЦЬ ХВОСТ**. *Зак. да* **ЗАДЗІРАЦЬ ХВОСТ**.

*ЗАДРЫЖЫЦЬ* • **РУКА НЕ ЗАДРЫЖЫЦЬ** *у каго, чыя.* Гл. рука.

*ЗАДУРВАННЕ* • **ЗАДУ́РВАННЕ ГАЛАВЫ́** *каму. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Заблытванне каго-н. глупствам, непатрэбнасцю. *Цярпець не магу анкет, апытванняў і тэстаў. Па-мойму, гэта толькі задурванне галавы добраму чалавеку.* Караткевіч.

*ЗАДУРЫЦЬ* • **ЗАДУРЫ́ЦЬ (ЗАТЛУМІ́ЦЬ, ЗАМАРО́ЧЫЦЬ, ЗАЧМУРЫ́ЦЬ) ГАЛАВУ́** *каму. Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** Прывабіць каго-н., прымусіць пакахаць сябе. **Сін.**: завязваць вочы *каму*; завязваць свет *каму* (у 2 знач.); круціць галаву *каму* (у 1 знач.); круціць мазгі *каму* (у 1 знач.); пакараць сэрца *каго, чыё*; ускружыць галаву *каму* (у 1 знач.). *Любіў ён [Сашка] вечарам пашвэндацца па пасёлку, павыскаляцца каля скверыка.., а потым, прыйшоўшы ў клуб, задурыць галаву якой-небудзь дзеўцы.* Радкевіч. *Начальнік вялікі, а з Верай згаварыцца не ўмееш. Строгая бясконца. Ніводзін хлопец не замарочыў ёй галавы.* Мысліўец. *Хітры, відаць, гэты парабчук — зачмурыў ёй галаву, а сам на бацькаў хутар аблізваецца.* Грахоўскі.

**2.** Заблытаць каго-н., пазбавіць здольнасці разумна разважаць. **Сін.**: надурыць галаву *каму* (у 1 знач.). *Баліць, Пятровіч? Га? Ты прабач, брат. Задурыў табе галаву!* Бондар. *У канцы допыту Вайцяховіч усё, што было найбольш цяжкім у злачынстве, пачаў адкрыта звальваць на Кірыльчанку. Лёшка Вогненны затлуміў яму галаву глупствам, уцягнуў у хаўрус.* Капусцін.

**3.** Знарок падмануць каго-н. **Сін.**: абводзіць вакол пальца *каго*; абуваць у лапці *каго*; бакі забіваць *каму*; браць на арапа *каго*; браць на бога *каго*; браць на вудачку *каго*; браць на пушку *каго*; вадзіць за нос *каго*; вешаць лапшу <на вушы> *каму*; віляць хвастом (у 1 знач.); выводзіць у поле *каго*; гнуць дугі; гуляць у ката і мышку; дурыць галаву *каму* (у 1 знач.); замазваць вочы *каму*; замыльваць вочы *каму*; запраўляць арапа; кампасціраваць мазгі *каму*; корчыць дурня (у 1 знач.); круціць хвастом (у 1 знач.); муціць галаву *каму*; настаўляць акуляры *каму*; прадаць *каго* і грошы палічыць; пудрыць мазгі *каму*; пускаць пыл у вочы *каму*; сляпіць вочы *каму* (у 1 знач.); травіць баланду (у 2 знач.); туманіць вочы *каму*; туманіць галаву *каму*. *А каб заступіцца ў бойцы, задурыць галаву настаўніку, калі сябар, выкліканы да дошкі, не можа адказаць цяжкі ўрок, — гэтага Слава зрабіць не мог.* Жычка.

*ЗАЕДЗЕШ* • **ДАЛЁКА НЕ ЗАЕ́ДЗЕШ (НЕ ПАЕ́ДЗЕШ)** *на чым, з чым, без чаго. Зак. У абаг.-асаб. знач. Разм. Неадабр.* Многага не даб'ешся, вялікай карысці не дасягнеш. *Нічога з гэтага ўсяго не было і не будзе. На такіх парадках далёка не заедзеш.* Чорны. — *З такімі даходамі далёка не заедзеш, — выгаворвала іншым разам Зося, надзьмуўшы тоненькія, але чырвоныя губкі.* Ядвігін Ш. *Шафёр таксама лагодна крыкнуў: — Гэй, ты! На гонары далёка не паедзеш! Садзіся. Давязу.* Шамякін.

*ЗАЕХАЦЬ* • **НЕ ТУДЫ́ ЗАЕ́ХАЦЬ**. *Зак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Зрабіць што-н. не так, як трэба. **Сін.**: не туды гнуць (у 1 знач.). *Габрусь яшчэ прабаваў так-сяк адбрыквацца, але скора сказаў, што не туды заехаў...* Бядуля. *[Пытляваны:] Далі мне ў косці і хопіць. Сам бачу, што не туды заехаў. Цяпер пачынаю па-новаму гаспадарку ладзіць.* Крапіва.

*ЗАЕЧЫ* • **НА ЗАЕЧЫ СКОК**. Гл. скок.

*ЗАЗВАНІЦЬ* • **ЗАЗВАНІ́ЦЬ ВА ЎСЕ́ ЗВАНЫ́**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачаць усім і ўсюды голасна расказваць, гаварыць (пра якія-н. весткі, чуткі і пад.). *І вось ужо неяк у канцы лета сельскія старасты ва ўсе званы зазванілі, каб людзі*

*збіраліся ў чарговую нядзелю ў мястэчка, што там адбудзецца вялікі валасны сход.* Якімовіч.

*ЗАЗІРАЦЬ* • **ЗАЗІРАЦЬ У ДУШУ** *чыю, каму, каго.* Гл. заглядваць.

*ЗАЗІРНУЦЬ* • **ЗАЗІРНУЦЬ У ДУШУ** *чыю, каму, каго. Зак. да* **ЗАЗІРАЦЬ У ДУШУ** *чыю, каму, каго.*

*ЗАЙГРАЛА* • **КРОЎ ЗАЙГРАЛА** *ў каго.* Гл. кроў.

*ЗАЙГРАЦЬ* • **ЗАЙГРА́ЦЬ У АДНУ́ ДУ́ДКУ** *з кім. Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачаць дзейнічаць заадно. *Але, як я заўважаю, то ты, Лявон, з цесцем у адну дудку зайграў.* Грамовіч.

**ЗАЙГРА́ЦЬ У ДУ́ДКУ** *чыю, каго. Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачаць дзейнічаць у чыіх-н. інтарэсах. - *Дарэмна крычыш на чалавека... Думай, што кажаш, начальнік. — І вы ў тую ж дудку зайгралі?* Калодзежны.

*ЗАЙМАЕ* • **ЗАЙМА́Е (ЗАЙМА́ЛА, ЗАНЯЛО́, ЗО́ЙМЕ) ДУ́Х** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Каму-н. становіцца цяжка дыхаць (ад хвалявання, перажывання і пад.). **Сін.**: забівае дух *каму. У кожным дрэве чую родны рух, прыемна ехаць, аж займае дух...* Куляшоў. *[Васіль:] Каб ні ранкам, ні вечарам спакою не было, каб дух займала, каб дня не хапала, каб папрасіў суткі падоўжыць!* Макаёнак. *«Паслухайце! — спыніўся чорны. — Там ёсць добры кінжал!» У хлопцаў заняло дух...* Маўр. *Дасканалы выйдзе джаз — раз — ба-бах! Два — бу-бух! У танцораў зойме дух...* Крапіва.

*ЗАЙСЦІ* • **ДАЛЁКА ЗАЙСЦІ**. *Зак. да* **ДАЛЁКА ЗАХОДЗІЦЬ**.

**ЗАЙСЦІ Ў ДУШУ** *каго, чыю. Зак. да* **ЗАХОДЗІЦЬ У ДУШУ** *каго, чыю.*

**ЗАЙСЦІ Ў ТУПІК**. Гл. заходзіць.

*ЗАЙЦА* • **ЗАЙЦА КІНУЦЬ** *дзе, каму.* Гл. кінуць.

*ЗАЙЦАМІ* • **ГНАЦЦА ЗА ДВУМА ЗАЙЦАМІ**. Гл. гнацца.

**ПАГНАЦЦА ЗА ДВУМА ЗАЙЦАМІ**. Гл. пагнацца.

*ЗАЙЦАЎ* • **<АДНЫМ СТРЭЛАМ> ЗАБІВАЦЬ ДВУХ ЗАЙЦАЎ**. Гл. забіваць.

**НА ЗАЙЦАЎ СКОК**. Гл. скок.

*ЗАЙЦУ* • **ЯК ЗАЙЦУ СТОП-СІГНАЛ**. Гл. стоп.

*ЗАЙЦЫ* • **ЗАЙЦЫ́ ПО́ЛЕ ГНО́ЯЦЬ** *у каго, каму. У безас. ужыв. Разм. Іран.* Хто-н. кепска, нядбайна вядзе сельскагаспадарчыя справы.

*ЗАЙШЛО* • **СОНЦА ЗАЙШЛО** *чыё.* Гл. сонца.

*ЗАЙШЛОСЯ* • **СЭРЦА ЗАЙШЛОСЯ** *ў каго.* Гл. сэрца.

*ЗАЙШОЎ* • **ЗУБ ЗА ЗУБ ЗАЙШОЎ** *у каго з кім.* Гл. зуб.

*ЗАКАЗ* • **ЯК НА ЗАКА́З**. *Вык. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. ці абстр. прадмета. **Сін.**: як дунай (у 1 знач.). Узорны, выдатны, такі, што адпавядае чыйму-н. патрабаванню. *Пасля паўдня ў іх было ўжо цаброў тры ўлову. А рыба як на заказ: ліны і шчупакі, ды ўсё ладныя.* Колас. *Мясціны табе тут добра вядомыя, надвор'е сёння — як на заказ.* Стаховіч. *Дзень выдаўся як на заказ.* Мележ. *Была нядзеля. Пагода — як на заказ, і ўся вёска вываліла за Марозаву лазу — схапіць і скласці ў стагі сваё сухенькае, як порах, сена.* Ракітны.

*ЗАКАЗАЦЬ* • **ДЗЕСЯ́ТАМУ ЗАКАЗА́ЦЬ**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Зарачыся ніколі больш не рабіць чаго-н. *[Даміцэля:] Я зараз манеры выганю васпану з га-*

*лавы! Дзесятаму закажаш, як чужых жонак пачачы ашукваць.* Купала. *Адно, што скажу вам: вінаватых за разгром вашага лагера па галоўцы не пагладзім. Так пакараем, што дзесятаму закажуць!..* Лынькоў. *Ну і даў лататы гэты мужычок... Цяпер дзесятаму закажы ў чужы лес хадзіць...* Дайнека.

*ЗАКАЛОЛА* • **У ПЯТКІ ЗАКАЛОЛА** *каму, каго.* Гл. кальнула.

*ЗАКАПАНЫ* • **ДЗЕ САБАКА ЗАКАПАНЫ**. Гл. сабака.

*ЗАКАПАЦЬ* • **ЗАКАПАЦЬ <СВОЙ> ТАЛЕНТ У ЗЯМЛЮ**. *Зак. да* **ЗАКОПВАЦЬ <СВОЙ> ТАЛЕНТ У ЗЯМЛЮ**.

*ЗАКАПЫЛІЦЬ* • **ЗАКАПЫЛІЦЬ ГУБУ**. *Зак. да* **КАПЫЛІЦЬ ГУБУ**.

**ЗАКАПЫ́ЛІЦЬ НО́С**. *Зак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачаў вельмі важнічаць, зазнавацца, фанабэрыцца. **Сін.**: задраць нос; задраць хвост; захварэць на пана; падняць хвост; распусціць <павіны> хвост. *Самой ісці да Антона ёй не дазваляла дзявочая гордасць. Мала чаго могуць нагаварыць людзі! Ды і Антон можа закапыліць нос. Ага, сама набіваецца ў жонкі!* Паслядовіч. *Зазнаўся Базыль-Цапільна. Нос закапыліў. Сваіх не пазнае.* Грамовіч. *Ну, няхай Віктар маўчыць, дык ён тут не першы раз, прывык, а яна нос свой закапыліла і, здаецца, акрамя сябе, нічога не бачыць.* Гаўрылкін.

*ЗАКАСАЎШЫ* • **ЗАКАСА́ЎШЫ РУКАВЫ́** працаваць, брацца за справу і пад. *Акал. Разм.* Не шкадуючы сіл, шчыра, старанна. **Сін.**: душы паслухаючы; не пакладаючы рук; у поце твару; у поце твару свайго. **Ант.**: абы дзень адбыць; абы дзень да вечара (у 1 знач.); абы з рук; з плеч ды ў печ (у 2 знач.); з пятага на дзесятае (у 2 знач.); па канец рук; пусці павалюся (у 2 знач.); праз пятае ў дзесятае (у 2 знач.); спусціўшы рукавы; сяк-так (у 2 знач.); сяк-так накасяк <абы не па-людску>; цапам-лапам; цапу-лапу; цераз пень калоду (у 1 знач.); цяп ды ляп. *Тэмпераменту і энергіі ў яго [Вольнага] — хоць пазыч каму, працаваў, што называецца, з душою, закасаўшы рукавы.* Лужанін. *— Дык ідзі, братка, прымай аддзел і бярыся за справу, як той казаў, закасаўшы рукавы... — казаў рэдактар.* Сабаленка.

*ЗАКАСАЦЬ* • **ЗАКАСАЦЬ РУКАВЫ**. Гл. закасваць.

*ЗАКАСВАЦЬ* • **ЗАКА́СВАЦЬ РУКАВЫ́**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Працаваць энергічна, старанна. *Трэба закасваць рукавы, брацца за плуг. Араць...* Грамовіч. *Што ні выдумляй, а рукавы закасваць трэба.* Лужанін. **ЗАКАСАЦЬ РУКАВЫ**. *Зак. Калі адгрымела грамадзянская вайна, новыя ўладары закасалі рукавы, каб давесці да ладу сваю маёмасць.* «Вожык». *Не любіла яна гародніх спраў, прызнавалася; маці ўсё рабіла, а тут — дзіва! — раптам выказала жаданне хутчэй закасаць рукавы. Аксён усё зразумеў.* Шамякін.

*ЗАКАЦІЛАСЯ* • **ЗОРКА ЗАКАЦІЛАСЯ** *чыя.* Гл. зорка.

*ЗАКІДАННЕ* • **ЗАКІДА́ННЕ ША́ПКАМІ** *каго. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Іран.* Лёгкая і хуткая перамога каго-н. *На нагрэтых панелях расфуфыранага Неўскага паняслісця выгукі наконт закідання шапкамі «праціўнае немчуры».* Гартны.

*ЗАКІДАЦЬ* • **ЗАКІДАЦЬ ГРАЗЗЮ** *каго.* Гл. закідваць.

**ЗАКІДА́ЦЬ ЗА ГА́ЛЬШТУК**. *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выпіваць, напівацца п'яным. **Сін.**: бачыць шклянога бога; браць у губу; вадзіць казу; глядзець у бутэльку; закідваць за каўнер; закладваць за каўнер; заліваць вочы <*чым*> (у 1 знач.); заліваць за каўнер; заліваць чарвяка; мокнуць у гарэлцы; наліць

горла; наступаць на корак; не прасыхаць; панюхаць корак; прамачыць горла. **Ант.**: не браць у рот *што, чаго* (у 2 знач.). *Відаць, хтосьці яму [сакратару] сказаў, што вы залішне пачалі закідаць за гальштук, вось ён і пацікавіўся.* Дайліда. **ЗАКІНУЦЬ ЗА ГАЛЬШТУК.** *Зак. Напарнікам быў Сураў, акружэнец. Рашучы хлопец, але трохі таго, за гальштук любіў закінуць.* Быкаў.

**ЗАКІДА́ЦЬ (ЗАКІ́ДВАЦЬ) ВУ́ДУ (ВУ́ДЫ, ВУ́ДАЧКУ).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Асцярожна намякаць на што-н., каб высветліць абставіны, выведаць што-н. **Сін.**: зандзіраваць глебу; намацваць глебу; пускаць пробны шар. *Калі вам часамі закідаюць вуду (хто? глядзіце самі, я казаць не буду), хваляць на ўсе коркі, хоць жадаюць смерці, — гэта зноў жа толькі фіга на талерцы.* Крапіва. — *Што ж ты, гэта, з двара не вылазіш да грамады? — зноў Захар закідвае вуду і смяецца.* Зуёнак. *Каля сваіх сталоў-пастоў завіхаліся сястрычкі, каля іх круціліся маладыя хлопцы, асцярожна закідвалі вуды, стараючыся не надта замінаць рабоце.* Радкевіч. **ЗАКІНУЦЬ ВУДУ (ВУДЫ, ВУДАЧКУ).** *Зак. Змяшчаючы [першы акт] у друку, я ўжыў некаторую аўтарскую хітрасць: мне хацелася закінуць вудачку і паглядзець, ці торкне на маю прыманку які-небудзь тэатральны лешч.* Колас.

**ЗАКІДА́ЦЬ ША́ПКАМІ** *каго. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Лёгка і хутка парамагчы. *Я веру ў перамогу! Але крычаць, не ведаючы ворага, што мы закідаем яго шапкамі, каму гэта патрэбна?* Шамякін. *Падумай, як і людзей зберагчы, і немцаў хутчэй вытурыць. А шапкамі закідаць не спяшайся...* Грахоўскі. *Ніхто не верыў у тое, хаця пан Дульчыц і крычаў, што шваба палякі шапкамі закідаюць.* Каліна.

*ЗАКІДВАЦЬ* • **ЗАКІ́ДВАЦЬ (АБКІДА́ЦЬ) ГРА́ЗЗЮ (ГРАЗЁЮ)** *каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Незаслужана чарніць, зневажаць. **Сін.**: абліваць граззю *каго, што*; вешаць сабак *на каго, на што*; выліваць памыі *на каго*; выліваць бруд на галаву *каго*; кідацца граззю; кідаць каменем *у каго*; кідаць цень *на каго, на што* (у 1 знач.); ліць бруд *на каго*; мазаць дзёгцем *каго, што*; мяшаць з граззю *каго, што*; мяшаць з зямлёй (у 3 знач.); наводзіць цень *на каго, на што*; падтоптваць пад ногі (у 2 знач.); таптаць у гразь *каго, што*. *Я і выступіў. Сказаў, што нельга без падстаў абкідаць усіх гразёю...* Мележ. **ЗАКІДАЦЬ (АБКІДАЦЬ) ГРАЗЗЮ (ГРАЗЁЮ)** *каго. Зак. [Васіліса:] Што рабіць? Ашукаў, абакраў. [Радзецкі:] Зняславіў, гразёю закідаў. Сорам глянуць цяпер на людзей.* А.Александровіч.

**ЗАКІДВАЦЬ ВУДУ.** Гл. закідаць.

**ЗАКІ́ДВАЦЬ ЗА КАЎНЕ́Р.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выпіваць, напівацца п'яным. **Сін.**: бачыць шклянога бога; браць у губу; вадзіць казу; глядзець у бутэльку; закідаць за гальштук; закладваць за каўнер; заліваць вочы <*чым*> (у 1 знач.); заліваць за каўнер; заліваць чарвяка; мокнуць у гарэлцы; наліць горла; наступіць на корак; не прасыхаць; панюхаць корак; прамачыць горла. **Ант.**: не браць у рот *што, чаго* (у 2 знач.). **ЗАКІНУЦЬ ЗА КАЎНЕР.** *Зак. — Толькі таго і даб'ешся, выпіўшы, — соладка пазяхае і весела адказвае шафёр. — Шафёрам цяпер забаранілі... А некалі закінеш дзвесце грам за каўнер перад снеданнем!* Мыслівец. *Вялікія людзі не дурні былі за каўнер закінуць. Вазьмі любое кіно — п'юць...* Шырко. *Я добра ведаў Рытчыну маці. Яна крыху дурнаватая і любіць закінуць за каўнер, як і бацька.* Крэйдзіч.

**ЗАКІ́ДВАЦЬ СЛО́ВА** *за каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Хадайнічаць за каго-н., аказваць яму падтрымку, намякаючы пра яго каму-н. Закінуць слова *за каго.* **ЗАКІНУЦЬ СЛОВА** *за каго. Зак. [Валя:] Пакойчык ім трэба які-небудзь... хоць невялікі... Можа б, вы закінулі слова за іх дырэктару?* Крапіва. *От, нас-*

*таўнік, ты там з кааператарамі запанібрата. Ці не закінуў бы слова, каб мне, старому, які пачак [махоркі] узычылі?* Мурашка.

**ЗАКІ́ДВАЦЬ НАПЕРАД**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рабіць які-н. прадбачлівы, апераджальны ход з надзеяй мець потым ад гэтага пэўную карысць для сябе. *Андрэй — наш. Свой. Яго грошы нам з табой яшчэ спатрэбяцца. Як казала мая маці: закідвай наперад... Мяккі кут купіў? Не. І не купіш. Без Андрэя.* Шамякін. **ЗАКІНУЦЬ НАПЕРАД**. *Зак. Як не дапамагчы суседу. Закінеш наперад, як знойдзеш.* Гурскі. *Напішы яму пісьмо [з кампраматам]. Няхай ведае нашу ўдзячнасць. Закінь, як кажуць, наперад.* «Бел. думка».

*ЗАКІНУЦЬ* • **ЗАКІНУЦЬ ВУДУ**. *Зак. да* **ЗАКІДАЦЬ ВУДУ**.

**ЗАКІНУЦЬ ЗА ГАЛЬШТУК**. *Зак. да* **ЗАКІДАЦЬ ЗА ГАЛЬШТУК**.

**ЗАКІНУЦЬ ЗА КАЎНЕР**. *Зак. да* **ЗАКІДВАЦЬ ЗА КАЎНЕР**.

**ЗАКІНУЦЬ НАПЕРАД**. *Зак. да* **ЗАКІДВАЦЬ НАПЕРАД**.

**ЗАКІНУЦЬ СЛОВА** *за каго. Зак. да* **ЗАКІДВАЦЬ СЛОВА** *за каго.*

**ЯК ЗА СЯБЕ́ ЗАКІ́НУЦЬ** *што. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Лёгка і хутка з'есці, выпіць. *Што ў сталоўцы абед? Два як за сябе закіну.* Янкоўскі. *«З'ясі, памрэш, а мне тады пад суд ісці за цябе?» — сказала яна, як зразумеў Мірон, проста для адводу вачэй, бо ведала, што ён той каўбух з'еў бы, як за сябе закінуў бы...* Макарэвіч.

*ЗАКІПЕЛА* • **КРОЎ ЗАКІПЕЛА** *чыя* <*каго*>. Гл. кроў.

*ЗАКЛАД* • **БІЦЦА АБ ЗАКЛАД**. Гл. біцца.

**Б'ЮСЯ АБ ЗАКЛАД**. Гл. б'юся.

**ГАЛАВУ Ў ЗАКЛАД АДДАВАЦЬ**. Гл. аддаваць.

**ІСЦІ Ў ЗАКЛАД**. Гл. ісці.

*ЗАКЛАДВАЕЦЦА* • **ЗАКЛАДВАЕЦЦА ФУНДАМЕНТ** *чаго.* Гл. асновы.

*ЗАКЛАДВАЙ* • **ХО́ЦЬ КАСУ́ ЗАКЛА́ДВАЙ (ЗАКЛАДА́Й)** *чаго. Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм.* Вельмі многа, у вялікай колькасці. Звычайна пра грыбы. **Сін**.: хоць вазамі вазі *чаго*; хоць граблямі грабі *чаго, каго*; хоць касой касі *чаго. От грыбоў навалок — вядро і плашч звязаў. Казаў, хоць касу закладвай.* Кузьмянкоў. *Калі мы зусім выпадкова звярнулі ў асіннік, які нешырокай паласой выступаў у поле, там было падасінавікаў — хоць закладвай касу.* Жуковіч. *Я не кажу пра тое ўжо, што ў ягадны год у Дуброве было хоць касу закладай ягад.* Васілевіч.

*ЗАКЛАДВАЦЬ* • **ЗАКЛА́ДВАЦЬ АСНО́ВЫ (ФУНДА́МЕНТ)** *чаго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Ствараць тое, што з'яўляецца зыходным, пачатковым, асноўным для чаго-н. **ЗАКЛАСЦІ АСНОВЫ (ФУНДАМЕНТ)** *чаго. Зак. Другія да дваццаці двух год многае паспявалі зрабіць. У яго [Іванавым] узросце Лабачэўскі заклаў асновы сваёй геаметрыі, а Лермантаў пісаў «Дэмана»....* Шахавец. *[Першы інтэрнацыянал] заклаў фундамент міжнароднай арганізацыі рабочых для падрыхтоўкі іх рэвалюцыйнага націску на капітал.* «Настаўн. газ.»

**ЗАКЛА́ДВАЦЬ ЗА КАЎНЕ́Р**. *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выпіваць спіртное, напівацца. **Сін**.: бачыць шклянога бога; браць у губу; вадзіць казу; глядзець у бутэльку; закідаць за гальштук; закідваць за каўнер; заліваць вочы <*чым*> (у 1 знач.); заліваць за каўнер; заліваць чарвяка; наліць горла; мокнуць у гарэлцы; наступіць на корак; не прасыхаць; панюхаць корак; прамачыць горла. **Ант**.: не браць у рот *што, чаго* (у 2 знач.). *Менавіта цяпер Лупека зразумеў, чаму дырэктар Будзянскай школы, як бы ні закладваў за каўнер, ніяк не мог вываліцца з дырэктарскага*

*крэсла.* Палітыка. **ЗАКЛАСЦІ ЗА КАЎНЕР**. *Зак. Мы лічылі, што генсек добра заклад-ваў за каўнер. Ажно не. Амаль не піў. Але не мог жыць без снатворнага.* Шамякін.

*ЗАКЛАДВАЮЦЦА* • **ЗАКЛАДВАЮЦЦА АСНОВЫ** *чаго.* Гл. асновы.

*ЗАКЛАДКА* • **ЗАКЛА́ДКА ФУНДА́МЕНТУ** *чаго. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Стварэнне таго, што з'яўляецца зыходным, пачатковым, асноўным для ча-го-н. *Дапамагаць пісьменніку трэба часам пры самой закладцы фундаменту новага твора.* Колас.

*ЗАКЛАСЦІ* • **ЗАКЛАСЦІ АСНОВЫ** *чаго. Зак. да* **ЗАКЛАДВАЦЬ АСНОВЫ** *чаго.*
**ЗАКЛАСЦІ ЗА КАЎНЕР**. *Зак. да* **ЗАКЛАДВАЦЬ ЗА КАЎНЕР**.

*ЗАКЛЮЧНЫ* • **ЗАКЛЮЧНЫ АКОРД** <*чаго, да чаго*>. Гл. акорд.

*ЗАКЛЯВАЦЬ* • **ЗАКЛЯВА́ЦЬ НО́САМ**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Па-чаць драмаць седзячы ці стоячы. *Калі ехалі назад, Сяргей, змарыўшыся, закляваў на во-зе носам.* Навуменка. *Напачатку, калі сусед нарэшце закляваў носам, я ўзрадаваўся — не будзе назаляць нікчэмнай балбатнёй, а цяпер з прыкрасцю думаў: хай бы ўжо лепей ба-лабоніў, чым выводзіць свае рулады!* Блакіт.

*ЗАКЛЯТЫ* • **ЯК ЗАКЛЯ́ТЫ**. *Акал. Разм. Часцей ужыв. пры дзеясл.-вык. незак. тр.* Не да-ючы сабе адпачынку (рабіць, працаваць). **Сін**..: як папа карла; як <чорны> вол. *Янка як закляты працаваў дні і ночы.* Дамашэвіч. *Дні ішлі, праходзілі тыдні, а яна [Хмарка] як заклятая ўсё хадзіла па свеце.* Колас.

*ЗАКОН* • **ЗАКО́Н(Ы) НЕ ПІ́САНЫ** *каму, для каго. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. не лічыцца з агульнапрынятымі нормамі паводзін. *[Старшыніха:] Усе яны ліхамысны на Васіля і стараюцца яму нашкодзіць. Чаго добрага, могуць усякае шальмаўства зра-біць: ім закон не пісаны.* Гартны. *Дырэктар меў славу рызыкоўнага чалавека, якому, як кажуць, законы не пісаны...* Скрыган. *Для Парфёна, кажуць, законы не пісаны. За ім даўно ішла слава: здавалася, чалавек праз усё жыццё, як памятаюць яго, адно рабіў, што пярэчыў не толькі аднавяскоўцам, але таксама і наезджым людзям.* Чыгрынаў.

*ЗАКОПВАЦЬ* • **ЗАКО́ПВАЦЬ <СВО́Й> ТА́ЛЕНТ У ЗЯМЛЮ́**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Губіць свае здольнасці, не даваць ім развівацца. *Ся-род пісьменнікаў многа высокаталенавітых паэтаў і празаікаў. Не трэба толькі рас-трачваць, закопваць у зямлю свае таленты.* Колас. **ЗАКАПАЦЬ <СВОЙ> ТАЛЕНТ У ЗЯМЛЮ**. *Зак. Магчыма, што я калі-небудзь буду славутым артыстам, калі зараз свой талент не закапаю ў зямлю.* Сяркоў.

*ЗАКРАДАЦЦА* • **ЗАКРАДА́ЦЦА (ЗАКРА́ДВАЦЦА) У ДУШУ́ (У СЭ́РЦА)** *чыю, каго. Не-зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Непрыкметна, міма волі ўзнікаць, з'яўляцца. Пра пачуцці, думкі. *Пачуццё адзіноты закрадаецца ў Ігнасёву ду-шу.* Чарнышэвіч. *Хоць мы цьмяна ўяўлялі небяспеку, тым не менш трывога закрадвала-ся ў сэрца кожнага чалавека...* Сабаленка. **ЗАКРАСЦІСЯ Ў ДУШУ (У СЭРЦА)** *чыю, каго. Зак. І другі ўжо раз у маю душу закралася сумненне ў адносінах Тамаша.* Мядзёл-ка.

*ЗАКРАДВАЦЦА* • **ЗАКРАДВАЦЦА Ў ДУШУ** *чыю, каго.* Гл. закрадацца.

*ЗАКРАНУЦЬ* • **ЗА ЖЫВОЕ ЗАКРАНУЦЬ** *каго. Зак. да* **ЗА ЖЫВОЕ КРАНАЦЬ** *каго.*

*ЗАКРАСЦІСЯ* • **ЗАКРАСЦІСЯ Ў ДУШУ** *чыю, каго. Зак. да* **ЗАКРАДАЦЦА Ў ДУШУ** *чыю, каго.*

*ЗАКРУЖЫЛАСЯ* • **ГАЛАВА ЗАКРУЖЫЛАСЯ** *ў каго.* Гл. галава.

**ЗАКРУЖЫЛАСЯ Ў ГАЛАВЕ** *ў каго.* Гл. закруцілася.

*ЗАКРУЖЫЦЬ* • **ЗАКРУЖЫЦЬ ГАЛАВУ** *каму. Зак. да* **КРУЖЫЦЬ ГАЛАВУ** *каму.*

*ЗАКРУЦІЛА* • **ЗАКРУЦІ́ЛА Ў ГАЛАВЕ́** *чыёй, каму, у каго. У безас. ужыв. Разм. Часцей неадабр.* Хто-н. надумаўся зрабіць нечаканы ход. *Гавару табе праўду, ты робіш памылку. Пасля шкадаваць можаш. Што на цябе ўссела, нешта ў галаве тваёй закруціла.* Чорны. — *Дома чорт лысы скарыстае [яблыкі]... Хай лепш хоць таварышы з'ядуць...— Табе толькі сёння ў галаве закруціла...* Калюга. *У Гаварушкі закруціла ў галаве... Пакуль Забайкальскі спіць, трэба абдумаць нейкі план.* Лобан.

**ЗАКРУЦІ́ЛА Ў НО́СЕ** *каму. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. закапрызнічаў, праяўляе ўпартасць. *[Сухадольскі:] Што вы, пасварыліся? [Антаніна Пятроўна:] Закруціла дзяўчыне ў носе. На завод хоча ісці. [Сухадольскі:] То няхай ідзе, чаго ты яе трымаеш?* Крапіва.

*ЗАКРУЦІЛАСЯ* • **ГАЛАВА ЗАКРУЦІЛАСЯ** *ў каго.* Гл. галава.

**ЗАКРУЦІ́ЛАСЯ (ЗАКРУЖЫ́ЛАСЯ) У ГАЛАВЕ́** *ў каго. Зак. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. пачаў адчуваць галавакружэнне (ад стомленасці, перажыванняў і пад.). **Сін.**: галава закружылася *ў каго* (у 1 знач.). *Цёмна стала ўваччу, і закруцілася ў галаве.* Пташнікаў. *У яе закружылася ў галаве, і яна была гатова паваліцца на падлогу.* Чарнышэвіч.

*ЗАКРУЦІЦЬ* • **ЗАКРУЦІЦЬ ГАЙКІ** *каму. Зак. да* **ЗАКРУЧВАЦЬ ГАЙКІ** *каму.*

**ЗАКРУЦІЦЬ ГАЛАВУ** *каму. Зак. да* **КРУЦІЦЬ ГАЛАВУ** *каму.*

**ЗАКРУЦІЦЬ МАЗГІ** *каму. Зак. да* **КРУЦІЦЬ МАЗГІ** *каму.*

*ЗАКРУЧВАННЕ* • **ЗАКРУ́ЧВАННЕ ГА́ЕК**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Часцей неадабр.* Павышэнне патрабаванняў, узмацненне строгасці. *І ў тагачасным жыцці, і ў літаратуры таксама неаднойчы сустракаліся такія псеўдарэвалюцыянеры са страшэнна гіпертрафіраванай класавай нянавісцю ды яшчэ не менш гіпертрафіраванай класавай пільнасцю, аматары закручвання гаек і іншых рызыкоўных эксперыментаў, якія аб'ектыўна толькі шкодзілі вялікай рэвалюцыйнай справе.* Бугаёў.

*ЗАКРУЧВАЦЬ* • **ЗАКРУ́ЧВАЦЬ БЫКА́М ХВАСТЫ́**. Гл. круціць.

**ЗАКРУ́ЧВАЦЬ ГА́ЙКІ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Павышаць патрабаванні да каго-н., узмацняць строгасць. **Сін.**: падкручваць гайкі *каму.* **Ант.**: адпускаць гайкі; адпускаць лейцы. *Цяпер я пачынаю разумець, што, рыхтуючы нас на камандзіраў, там даволі моцна «закручвалі гайкі».* Шамякін. **ЗАКРУЦІЦЬ ГАЙКІ** *каму. Зак. [Каліբераў:] Ну, я яму гайкі закручу. [Печкуроў:] Ды яму яшчэ трэба закручваць гайкі, а ў мяне ўжо закручаны... Далей няма куды.* Макаёнак.

*ЗАКРЫВАЕЦЦА* • **ЛАВАЧКА ЗАКРЫВАЕЦЦА**. Гл. лавачка.

**РОТ <НІКОЛІ> НЕ ЗАКРЫВАЕЦЦА** *ў каго.* Гл. рот.

*ЗАКРУЧВАЮЦЦА* • **ГАЙКІ ЗАКРУЧВАЮЦЦА** *дзе.* Гл. гайкі.

*ЗАКРЫВАННЕ* • **ЗАКРЫВА́ННЕ (ЗАПЛЮ́ШЧВАННЕ) ВАЧЭ́Й** *на што. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Утойванне, замоўчванне чаго-н. *Пад уплывам тэндэнцыйнага і аднабаковага асвятлення.. [войнаў], выпуклення гераічнага боку і наўмыснага закрывання вачэй на цёмныя бакі, у Лабановіча злажылася ўяўленне, у корані фальшывае, аб ваяцкіх здольнасцях царскай Расіі і аб яе непераможнасці ў вайне.* Колас. *За-*

*плюшчванне вачэй на недахопы, ухіленне ад аб'ектыўнай ацэнкі сходу — вельмі дрэнная паслуга.* «Звязда».

*ЗАКРЫВАЦЬ* • **ЗАКРЫВА́ЦЬ АМБРАЗУ́РУ (-Ы)**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Клапоцячыся пра іншых, не думаць пра сябе, не берагчы сябе. *[Каравай:] Спакойна! Нервы трэба берагчы... Ты — пенсіянер. І пенсія — гэта заслужаны адпачынак. А ты, без перадыху, без адпачынку ўсё жыццё. Берагчы трэба сябе. А ты ўсё — амбразуры закрываеш.* Макаёнак. *[Следчы:] Не маўчы, раскажы пра ўсё... Толькі гэта можа выратаваць цябе... Павер, мне ўсё вядома, толькі гэтага мала... Ты сам павінен расказаць. А ты закрываеш амбразуру.* Шабан.

**ЗАКРЫВА́ЦЬ ВО́ЧЫ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць побач з тым, хто паміраe, у апошнія хвіліны жыцця. **ЗАКРЫЦЬ ВОЧЫ** *каму. Зак. Маня адвярнулася. Слёзы душылі яе. Нядобра пакідаць маці ў такі час. Можа, яна, калі вернецца, і не застане яе... Чужы чалавек мусіць закрыць ёй вочы...* Якімовіч. *Чужыя людзі ёй [Марылі] закрылі вочы.* Бічэль-Загнетава.

**ЗАКРЫВА́ЦЬ (ЗАПЛЮ́ШЧВАЦЬ) ВО́ЧЫ** *на што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знарок не заўважаць чаго-н. важнага, значнага. **Сін.**: глядзець праз пальцы *на каго, на што*; прапускаць паміж пальцамі *што*; праходзіць міма *чаго. Не трэба закрываць вочы на тое, што.. гучанне грамадзянскіх матываў у творчасці многіх маладых прыглушана, што шкодзіць іх творчаму росту.* «ЛіМ». *Мы не можам заплюшчваць вочы на тое, што перад значнай часткай нашых пісьменнікаў стаіць пагроза небяспечнага адрыву ад жыцця.* Мележ. **ЗАКРЫЦЬ (ЗАПЛЮШЧЫЦЬ) ВОЧЫ** *на што. Зак. Варонінцаў высялялі, але яны вярнуліся назад. Калі фронт стабілізаваўся, начальства закрыла на гэта вочы.* Навуменка. *Адным словам, мы, жанчыны, можам вельмі лёгка заплюшчыць вочы на тое, што нам нявыгадна.* Карпюк.

**ЗАКРЫВА́ЦЬ (ЗАЦІСКА́ЦЬ) РО́Т** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прымушаць маўчаць каго-н. **Сін.**: забіваць дух *каму*; замазаць рот *каму*; затыкаць горла *каму, каго* (у 1 знач.); затыкаць рот *каму,* наступаць на язык *каму,* павесіць замок на рот *каму*; укараціць язык *каму*; язык завязаць *каму. Таварыш Гайліс!.. Вам ніхто не даў права абражаць людзей. І заціскаць ім рот.* Мележ. *Не заціскайце мне рот. Я тут вышэйшы камандзір.* Навуменка. **ЗАКРЫЦЬ (ЗАЦІСНУЦЬ) РОТ** *каму. Зак. — Прашу, таварыш Каплан, каб ты ад імя бюро ячэйкі забараніў Лейку падымаць гэтае пытанне на сходзе беднаты. — Хочаце рот закрыць? Пабачым яшчэ, каму райком рот закрыў.* Галавач. *— А як на мяне тады заявяць? — Хто? — Ці мала хто! Людзям рот не закрыеш.* Чыгрынаў.

**ЗАКРЫВА́ЦЬ ЛА́ВАЧКУ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Спыняць якую-н. справу, дзейнасць (часцей заганную). **ЗАКРЫЦЬ ЛАВАЧКУ**. *Зак. Не кватэра, а цэх, у якім і не разбярэш, што робяць, — не то сталярнічаюць, не то лапці плятуць... Кацярына Сафронаўна гэту лавачку закрыла...* Ракітны.

*ЗАКРЫВАЮЦЦА* • **ВОЧЫ ЗАКРЫВАЮЦЦА** *у каго на што.* Гл. вочы.

*ЗАКРЫТА* • **ДАРОГА ЗАКРЫТА** *каму да каго, куды.* Гл. дарога.

*ЗАКРЫТЫ* • **<УСЕ> ДАРОГІ ЗАКРЫТЫ** *каму да каго, куды.* Гл. дарога.

*ЗАКРЫЎСЯ* • **СВЕТ ЗАКРЫЎСЯ** *каму.* Гл. свет.

*ЗАКРЫЦЬ* • **ЗАКРЫЦЬ ВОЧЫ** *каму. Зак. да* **ЗАКРЫВАЦЬ ВОЧЫ** *каму.*
**ЗАКРЫЦЬ ВОЧЫ** *на што. Зак. да* **ЗАКРЫВАЦЬ ВОЧЫ** *на што.*
**ЗАКРЫЦЬ ЛАВАЧКУ**. *Зак. да* **ЗАКРЫВАЦЬ ЛАВАЧКУ**.

**ЗАКРЫЦЬ РОТ** *каму. Зак. да* **ЗАКРЫВАЦЬ РОТ** *каму.*

*ЗАКУСВАЦЬ* • **ЗАКУ́СВАЦЬ РУКАВО́М.** *Незак. Праст. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нічым не закусваць пасля выпіўкі. *Ля ларка [я] так, як некаторыя, цьфу ты, ніколі рукавом не закусваў.* Наўроцкі. **ЗАКУСІЦЬ РУКАВОМ.** *Зак. Ігар перад прыходам сюды ўпотай ад усіх каўтануў за цесцевым хлявом для храбрасці з паўпляшкі «чарніла», закусіўшы рукавом, і зараз тое «чарніла» пачало надаваць смеласці.* Блакіт.

**ЗАКУ́СВАЦЬ ЦУ́ГЛІ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Распаліўшыся, ісці напралом, дзейнічаць, ні з чым не лічачыся. **ЗАКУСІЦЬ ЦУГЛІ.** *Зак. [Іванюк:] Можа, разам настаўніцу ўрэзонім. Закусіла цуглі, я яе ведаю. З маладых ды ранняя...* Петрашкевіч. *Жэня ўжо закусіла цуглі і не магла сябе стрымаць.* Б.Стральцоў. *Дзмітрый ужо гатовы быў пашкадаваць, што неабдумана заўпарціўся, «закусіў цуглі».* Капусцін.

*ЗАКУСІЦЬ* • **ЗАКУСІЦЬ РУКАВОМ.** *Зак. да* **ЗАКУСВАЦЬ РУКАВОМ.**

**ЗАКУСІЦЬ ЦУГЛІ.** *Зак. да* **ЗАКУСВАЦЬ ЦУГЛІ.**

*ЗАКУСКУ* • **НА ЗАКУ́СКУ.** *Акал. Разм. Жарт.* Пад канец, на заканчэнне. **Сін.**: пад заслону. *— Аднак ён ужо больш за паўгадзіну гаворыць і да ячэйкі яшчэ не дабраўся... — думаў Лабада. — Мабыць, на закуску пакідае.* Бядуля. *— Ну, гэта ўжо самы кароткі расказ, — супакоіў іх брыгадзір. — На закуску, як кажуць.* Якімовіч.

*ЗАЛАЗІЦЬ* • **ЗАЛА́ЗІЦЬ У КІШЭ́НЬ** *чыю, каму, каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Незаконна карыстацца чужым дабром, абкрадваць каго-н. **Сін.**: браць у <свае> рукі (у 3 знач.); запускаць ляшча; запускаць руку *ў што, куды*; класці ў <сваю> кішэнь *што*; накладваць лапу (у 1 знач.); прыбіраць да рук (у 2 знач.); убіраць у <свае> рукі (у 2 знач.). *— Мы вельмі любім народ, — сказаў Леановіч, усміхаючыся кутком прыгожых губ. — Каб зручней залазіць яму ў кішэнь...* Караткевіч. *Нечым, значыць, не дагадзіў Курт-фармаколаг сваім босам. Напэўна, глыбока і часта залазіў у кішэнь свайго любімага рэйха.* Дайнека. **ЗАЛЕЗЦІ Ў КІШЭНЬ** *чыю, каму, каго. Зак. Як жа гэта можна — выступіць, скажам, на вялікім сходзе і гаварыць пра свайго сябра ўсё, што ты пра яго ведаеш? А можа ж, ён гультай ці бюракрат, ці як-небудзь незнарок у дзяржаўную кішэнь залез.* Крапіва.

*ЗАЛАМАЦЬ* • **ЗАЛАМА́ЦЬ АСІ́НКУ (-АЮ).** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прыняць цвёрдае рашэнне, заракаючыся рабіць што-н. *Чакала, чакала мяне Марыля ды выйшла замуж за другога... Па праўдзе кажучы, яна яшчэ б пачакала, але бацькі выдалі. Тады я і заламаў асінку: буду векаваць бабылём.* С.Александровіч. *— Што, зноў пасварыліся?! — Так, не сур'ёзна ўсё гэта, Максім Рыгоравіч. Усё ўжо. Асінку заламаў хадзіць да яе.* Лобан. *Прыйшлося мне, братка мой, на чужое дзіця васемнаццаць год хрыбніцу гнуць. І заламаў я сабе асінкаю — не распісвацца болей з ніводнай жанчынай, пакуль дзіця мне не народзіць ды буду цвёрда ведаць, што маё.* Ласкоў.

*ЗАЛАТАЦЬ* • **ЗАЛА́ТАЦЬ ДЗІ́РКУ (-І, ПРАРЭ́ХІ)** *кім, чым, у чым. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Спехам ліквідаваць няхватку, недахопы ў чым. **Сін.**: затыкаць дзірку *кім, чым, у чым, дзе. Цяпер да таго ж [у немцаў] няма цэлай роты. Кім яны залатаюць гэту дзірку? Зондэркамандай?* Лобан. *Немцы лёгка манеўравалі сіламі і паспявалі ў час залатаць дзірку ў сваёй абароне.* Гамолка. *Спецыялісты гаспадаркі падлічылі, што тут недабяруць больш за дзве тысячы тон зялёнай масы. Вось і думай, чым залатаць прарэхі.* «Звязда».

*ЗАЛАТАЯ* • **ЗАЛАТАЯ ЖЫЛА.** Гл. жыла.

**ЗАЛАТАЯ СЯРЭДЗІНА**. Гл. сярэдзіна.

*ЗАЛАТОЕ* • **ЗАЛАТОЕ ВЯСЕЛЛЕ**. Гл. вяселле.
**ЗАЛАТОЕ ДНО**. Гл. дно.

*ЗАЛАТЫ* • **ЗАЛАТЫ ДОЖДЖ**. Гл. дождж.
**ЗАЛАТЫ МЯШОК**. Гл. мяшок.
**ЗАЛАТЫ ФОНД** *чаго, чый*. Гл. фонд.

*ЗАЛАТЫМІ* • **УПІСАНА ЗАЛАТЫМІ ЛІТАРАМІ** *ў што*. Гл. упісана.

*ЗАЛАТЫЯ* • **ЗАЛАТЫЯ ГОРЫ**. Гл. горы.
**ЗАЛАТЫЯ РУКІ** *ў каго*. Гл. рукі.

*ЗАЛАЦІЦЬ* • **ЗАЛАЦІ́ЦЬ РУКУ́ (РУ́ЧКУ)** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Даваць грошы за варажбу. **ПАЗАЛАЦІЦЬ РУКУ (РУЧКУ)** *каму. Зак. Цыганка Стэфа?.. Зноў паваражыць прыйшла? На жаль, я звонкае манеты не маю, каб руку пазалаціць.* Куляшоў. *— То скажу, ці лёгкай будзе дарога, — не губляла надзеі пажывіцца ўвішная варажбітка. — Усю праўду скажу!.. Пазалаці руку!* Аношкін.
**2**. *Неадабр.* Даваць хабар. *Інтэнданцкі начальнік, з якім Кандрыян вёў гешэфт і якому не раз залаціў руку, сказаў з раздражненнем, калі той заявіўся да яго ў службовы кабінет: — Пытаешся, ці праўда, што ў Петраградзе і ў нас, у Мінску, уладу захапілі бальшавікі? Праўда!* Хацкевіч. **ПАЗАЛАЦІЦЬ РУКУ (РУЧКУ)** *каму. Зак. Бацькі пазалацілі каму трэба руку, і Міша разам з братам, які таксама падлягаў прызыву, уладкаваўся ахоўваць вайсковы кабель.* Навуменка.

*ЗАЛЕ* • **СМЕХ У ЗАЛЕ**. Гл. смех.

*ЗАЛЕГЧЫ* • **ЗАЛЕГЧЫ НА ДНО**. *Зак. да* **ЛЕГЧЫ НА ДНО**.

*ЗАЛЕЗЦІ* • **ЗАЛЕЗЦІ Ў ДУШУ** *чыю, каго, каму. Зак. да* **ЛЕЗЦІ Ў ДУШУ** *чыю, каго, каму.*
**ЗАЛЕЗЦІ Ў КІШЭНЬ** *чыю, каму, каго. Зак. да* **ЗАЛАЗІЦЬ У КІШЭНЬ** *чыю, каму, каго.*
**ЗАЛЕЗЦІ Ў НЕРАТ <НІ ЎЗАД НІ ЎПЕРАД>**. Гл. папасціся.

*ЗАЛЕЧВАЦЬ* • **ЗАЛЕЧВАЦЬ РАНЫ** *чаго, каго*. Гл. загойваць.

*ЗАЛЁТНАЯ* • **ЗАЛЁТНАЯ ПТУШКА**. Гл. птушка.

*ЗАЛІВАЦЦА* • **ЗАЛІВА́ЦЦА САЛАЎЁМ**. *Незак. Разм. Жарт.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гаварыць красамоўна, з вялікім захапленнем. *Сёння Уладак быў ужо хітрэйшы: не ляпаў крыўдлівыя словы, а заліваўся салаўём...* Далідовіч. *[Каляда:] Няхай паны там ва ўстаноўчым сходзе салаў'ямі заліваюцца, а мы тым часам сваю зямельку аралі б, сеялі, хлеб вырошчвалі.* Васілеўскі. *Дзяўчына, скажу табе, харошая. Я такім салаўём заліваўся, але дзела, бачу, ні ў зуб.* Навуменка. **ЗАЛІЦЦА САЛАЎЁМ**. *Зак.*
**ЗАЛІВАЦЦА СЛЯЗАМІ**. Гл. абліваецца.

*ЗАЛІВАЦЬ* • **ЗАЛІВА́ЦЬ ВО́ЧЫ** *<чым>. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Напівацца п'яным, многа выпіваць (гарэлкі, віна і пад.). **Сін.**: бачыць шклянога бога; браць у губу; вадзіць казу; глядзець у бутэльку; закідаць за гальштук; закідваць за каўнер; закладваць за каўнер; заліваць за каўнер; заліваць чарвяка; мокнуць у гарэлцы; наліць горла; наступіць на корак; не прасыхаць; панюхаць корак; прамачыць горла. **Ант.**: не браць у рот *што, чаго* (у 2 знач.). *Другі.. вочы штодзень залівае ды яшчэ хоча, каб жонка яму і слова супраць не сказала.* Кузьмянкоў. **ЗАЛІЦЬ**

**ВОЧЫ** <*чым*>. *Зак. [Марыля:] Хіба можна было весці машыны, заліўшы вочы?* Губарэвіч. *Столькі не быў [Дзяніс] дома. Нарэшце завітаў, як чужы. Хоць бы парадаваўся сынам, параіўся, як назваць першынца. Заліў вочы гарэлкай і пайшоў.* Гроднеў.
**2.** *каму.* Напойваць каго-н., даводзіць да стану ап'янення. **Сін.**: заліваць горла *каму, каго.* **ЗАЛІЦЬ ВОЧЫ** <*чым*> *каму. Зак. — Дзвюма бутэлькамі думаеш заліць яму вочы? — з'едліва запытала [Сцепаніда], спадылба пазіраючы на Петрыка.* Быкаў. *[Вячэра:] Ляснiку Буглацкаму.. залію тым часам вочы якою-небудзь пярцоўкаю і — як камень у возера...* Брыль. *[Аканому] трэба заліць вочы, каб лішне не прыглядаўся.* Якімовіч.
**ЗАЛІВА́ЦЬ ГО́РЛА (РО́Т)** <*чым*> *каму, каго. Незак. Прає. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Напойваць каго-н., даводзіць да стану ап'янення. **Сін.**: заліваць вочы <*чым*> (у 2 знач.). *Цяпер жа Захар рыхтуе грунт сабе ў межах воласці, шчодра заліваючы горлы прагавітых на вытуку сваіх выбаршчыкаў.* Колас. **ЗАЛІЦЬ ГОРЛА (РОТ)** <*чым*> *каму, каго. Зак. Самагоначкай рот залілі гэтаму злыдню. Самагоначка цяпер — сіла.* Быкаў.
**ЗАЛІВА́ЦЬ ЗА КАЎНЕ́Р (ЗА ГА́ЛЬШТУК).** *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выпіваць спіртнога, напівацца. **Сін.**: бачыць шклянога бога; браць у губу; вадзіць казу; глядзець у бутэльку; закідаць за гальштук; закідваць за каўнер; закладваць за каўнер; заліваць вочы <*чым*> (у 1 знач.); заліваць чарвяка; мокнуць у гарэлцы; наліць горла; наступіць на корак; не прасыхаць; панюхаць корак; прамачыць горла. **Ант.**: не браць у рот *што, чаго* (у 2 знач.). *Толькі падумаць, я тут хаджу, перажываю, а ён, відаць, недзе залівае за каўнер...* Пестрак.— *Жонкі ж дужа не любяць, калі іхнія мужы заліваюць за каўнер. — За гальштук, — зноў машынальна паправіла яго Настасся.* Васілёнак. *Іншыя бабы што робяць, калі мужык за гальштук залівае? На работу бягуць, у міліцыю.* Дайнека. **ЗАЛІЦЬ ЗА КАЎНЕР (ЗА ГАЛЬШТУК).** *Зак. Мала што можна нагаварыць. Асабліва, калі зальеш за каўнер...* Навуменка.
**ЗАЛІВА́ЦЬ КУ́ЛІ** *каму. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Бессаромна лгаць, расказваць няпраўдападобнае. **Сін.**: заліваць пушку *каму*; падпускаць турусы на калёсах *каму*; разводзіць турусы <на калёсах>. *Па-астрожнаму такіх людзей проста называлі залівакамі, ад выразу — заліваць кулі, што значыць ілгаць.* Колас. *Залівайце кулі камусь другому, паганцы! Кажыце таму, хто вас не ведае, псякрэў, а не мне.* Машара. *[Падгайскі:] Кум, пакінь кулі заліваць, я ведаю, чым ты дыхаеш.* Галубок. *Брэша твой дзядзька Яўхім. Кулі залівае...* Грахоўскі.
**ЗАЛІВА́ЦЬ ПУ́ШКУ (-І)** *каму. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Бессаромна лгаць, расказваць няпраўдападобнае. **Сін.**: заліваць кулі *каму*; падпускаць турусы на калёсах *каму*; разводзіць турусы <на калёсах>. *Табе тут лёгка дыктаваць машыністам, а там... Згубы-ы захацелі... Нішчыце народ... А нам пушку заліваеце-э...* Гартны. *[Вольга:] Вы спрытна ўмееце пушкі заліваць. А вось як праверыць сёння гэтая Насця!..* Краўчанка. *Ілжэш! Хто цяпер будзе атрады распускаць? Што ты мне пушкі заліваеш? Не залівай!* Ставер.
**ЗАЛІВА́ЦЬ СА́ЛА (КРО́Ў) ЗА СКУ́РУ (ЗА ШКУ́РУ)** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дапякаць, даймаць каго-н., рабіць каму-н. прыкрасці. **Сін.**: насыпаць солі на хвост *каму. — Не заліваў бы ўжо хоць ты крыві за скуру, дзед. Самі знаем, што трэба рабіць.* Брыль. **ЗАЛІЦЬ САЛА (КРОЎ) ЗА СКУРУ (ЗА ШКУРУ)** *каму. Зак. [Вашчыла:] Мы ім [магнатам] цікавыя толькі як паўстанем, як сала за шкуру зальём.* Караткевіч. *А я, ведаеш, што чула? Чула, як Юля Лапіцкая гаварыла Ніне Мастаўцовай, што яна збіраецца «Ларысе сала за скуру заліць».* Кадзетава.

**ЗАЛІВА́ЦЬ ЧАРВЯКА́**. *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выпіваць спіртнога. **Сін.**: бачыць шклянога бога; браць у губу; вадзіць казу; глядзець у бутэльку; закідаць за гальштук; закідваць за каўнер; закладваць за каўнер; заліваць вочы <*чым*> (у 1 знач.); заліваць за каўнер; мокнуць у гарэлцы; наліць горла; наступіць на корак; не прасыхаць; панюхаць корак; прамачыць горла. **Ант.**: не браць у рот *што, чаго* (у 2 знач.). **ЗАЛІЦЬ ЧАРВЯКА**. *Зак. Раз у Смаленску запыняе мяне абарваны чалавек інтэлігенцкага аблічча: «Дайце мне, барышня, на выпіўку». — «А колькі ж вам даць?..» — «Ну, дайце, каб можна было чарвяка заліць». — «Разуменне «заліць чарвяка» — рэч неазначаная і расцяжная: аднаму і кручка даволі, а для другога кручок — капля ў моры».* Колас.

*ЗАЛІК* • **НЕ Ў ЗАЛІ́К**. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Не прымаецца пад увагу, не лічыцца. — *Хутка мыйся, соня!— Учора ўжо памылася... — Учарашняе не ў залік...* Быкаў. *У кніжках пішуць, што дзеці за бацькоў не адказваюць. А Бязвухі назваў мяне дзянікінцам. І тое, што я вучуся добра, што ўступіў у піянеры, — усё гэта нібыта не ў залік.* Жычка.

*ЗАЛІСЯ* • **ХО́ЦЬ ЗАЛІ́СЯ** *чаго. Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм.* Вельмі многа. Часцей пра малако, ваду і пад. **Сін.**: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на valовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго*. — *Давайце, давайце, я ў ахвоту вып'ю малака, калі яно знойдзецца. — Чаму ж не знойдзецца, грамадзянін? Малака ў яго хоць заліся.* Галавач. *Вады ў полі хоць заліся.* Панчанка. *[З бацькі] смяяліся, нібыта путае пчол, каб не ляцелі пераносіць пылок на чужую грэчку: і на сваім полі мёду хоць заліся, казаў.* Лужанін.

*ЗАЛІЦЦА* • **ЗАЛІЦЦА САЛАЎЁМ**. *Зак. да* **ЗАЛІВАЦЦА САЛАЎЁМ**.

**ЗАЛІЦЦА СЛЯЗАМІ**. *Зак. да* **ЗАЛІВАЦЦА СЛЯЗАМІ**.

*ЗАЛІЦЬ* • **ЗАЛІЦЬ ВОЧЫ** <*чым*>. *Зак. да* **ЗАЛІВАЦЬ ВОЧЫ** <*чым*>.

**ЗАЛІЦЬ ГОРЛА** <*чым*> *каму, каго. Зак. да* **ЗАЛІВАЦЬ ГОРЛА** <*чым*> *каму, каго.*

**ЗАЛІЦЬ ЗА КАЎНЕР**. *Зак. да* **ЗАЛІВАЦЬ ЗА КАЎНЕР**.

**ЗАЛІ́ЦЬ КРЫВЁЮ (-Й)** *што. Зак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Збіць, знішчыць ці параніць шмат людзей (у выніку тэрору, ваенных дзеянняў і пад.). *Я раскажу калі-небудзь, як залілі крывёю няшчасны Крычаў...* Караткевіч. *Ад фронту мы адрэзаны. З горадам сувязі няма... Там арышты, пагромы. Турмы заліты крывёй. Лагеры перапоўнены. Вораг шалее.* Няхай.

**ЗАЛІЦЬ САЛА ЗА СКУРУ** *каму. Зак. да* **ЗАЛІВАЦЬ САЛА ЗА СКУРУ** *каму.*
**ЗАЛІЦЬ ЧАРВЯКА.** *Зак. да* **ЗАЛІВАЦЬ ЧАРВЯКА.**

*ЗАЛУПІЛА* • **КУПІЛА ХВОСТ ЗАЛУПІЛА** <*у каго*>. Гл. купіла.

*ЗАЛЯЧЫЦЬ* • **ЗАЛЯЧЫЦЬ РАНЫ** *чаго, каго. Зак. да* **ЗАЛЕЧВАЦЬ РАНЫ** *чаго, каго.*

*ЗАМАЗАЦЬ* • **ЗАМАЗАЦЬ ВОЧЫ** *каму. Зак. да* **ЗАМАЗВАЦЬ ВОЧЫ** *каму.*
**ЗАМА́ЗАЦЬ РО́Т** *каму. Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прымусіць каго-н. (часта подкупам, абяцаннем і пад.) маўчаць, не гаварыць пра што-н. **Сін.**: забіваць дух *каму*; закрываць рот *каму*; затыкаць горла *каму, каго* (у 1 знач.); затыкаць рот *каму*; наступаць на язык *каму*; павесіць замок на рот *каму*; укараціць язык *каму*; язык завязаць *каму*. *Непрыемна, вядома, што ён так лае ўсё дарагое яму, Яноўскаму, але рота яму не замажаш.* Караткевіч. *Што ж... Прыемнага мала. Пойдуць на некаторыя ўступкі палякам і замажуць ім рот.* «Полымя».

*ЗАМАЗВАЦЬ* • **ЗАМА́ЗВАЦЬ ВО́ЧЫ** *каму. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Уводзіць у зман, ашукваць каго-н. **Сін.**: абводзіць вакол пальца *каго*; абуваць у лапці *каго*; бакі забіваць *каму*; браць на арапа *каго*; браць на бога *каго*; браць на вудачку *каго*; браць на пушку *каго*; вадзіць за нос *каго*; вешаць лапшу <на вушы> *каму*; віляць хвастом (у 1 знач.); выводзіць у поле *каго*; гнуць дугі; гуляць у ката і мышку; дурыць галаву *каму* (у 1 знач.); задурыць галаву (у 3 знач.); замыльваць вочы *каму*; запраўляць арапа; кампасціраваць мазгі *каму*; корчыць дурня (у 1 знач.); круціць хвастом (у 1 знач.); муціць галаву *каму*; настаўляць акуляры *каму*; прадаць *каго* і грошы палічыць; пудрыць мазгі *каму*; пускаць пыл у вочы *каму*; сляпіць вочы *каму* (у 1 знач.); травіць баланду (у 2 знач.); туманіць вочы *каму*, туманіць галаву *каму*. *— Калі трэба, — заплоцім і тысячу. — Заплоцім? Разумею... Дык навошта было гаварыць, замазваць вочы?* Галавач. **ЗАМАЗАЦЬ ВОЧЫ** *каму. Зак. — Ты вочы замазаў усім, — нібыта не пачуў Зазыбавага здзіўлення Брава-Жыватоўскі, — вось я табе скажу. Асабліва верамейкаўцам.* Чыгрынаў.

*ЗАМАНІШ* • **І ПЕ́РНІКАМ (-І) НЕ ЗАМА́НІШ** *каго, куды. Зак. Часцей у 2-й ас. У абаг.-асаб. знач. Разм.* Нічым, ніякім чынам не ўгаворыш, не прывабіш каго-н. быць дзе-н. **Сін.**: і на вяроўцы не зацягнеш *каго куды*; калом не загоніш *каго, куды. А можа, і не маладая [настаўніца]? Маладых сюды і пернікам не заманіш.* Грахоўскі. *Што мяне, старую, дык і пернікам у горад не заманіш.* Кузьмянкоў. *Яны [маладзейшыя жанчыны] не адмовяцца, тут брыгадзір спакойны. З пенсіянеркамі цяжэй. Іх ужо і пернікам не заманіць на тыя буракі.* Шырко.

*ЗАМАРОЧАННЕ* • **ЗАМАРО́ЧАННЕ ГАЛАВЫ́**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Стан, пры якім хто-н. не можа разумна разважаць. *Калі [Рыбін] убачыў сваю зброю на стале, зразумеў, дзе ён. Чаму ж тут нікога няма? Пры сцяне Колеў чырвоны куток. А там, на лаўцы пры печы.. вочы спыніліся на прасніцы. Фу ты.. якое замарочанне галавы!* Пестрак.

*ЗАМАРОЧЫЦЬ* • **ЗАМАРОЧЫЦЬ ГАЛАВУ** *каму.* Гл. задурыць.

*ЗАМАРЫЦЬ* • **ЗАМАРЫ́ЦЬ ЧАРВЯКА́ (ЧАРВЯЧКА́)**. *Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Злёгку перакусіць, спехам прагнаць голад. **Сін.**: пражываць душу; узяць на зуб *што, чаго* (у 1 знач.). *Сказаць проста: «Я галодны ці «замарыць бы чарвяка», — Сымон лічыў заход нягодны, і ён не ў модзе ў рыбака.* Колас. *Наедак з таго кавалка быў*

*невялікі, і ўсё ж Ляўчук трохі замарыў чарвяка...* Быкаў. *[Даміцэля:] Ай! Ужо ж я дурная! Гэта ж і ёсць чым чарвячка замарыць!* Купала.

*ЗАМАЎЛЯЦЬ* • **ЗУ́БЫ ЗАМАЎЛЯ́ЦЬ** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Хітруючы, пабочнымі размовамі адцягваць увагу ад чаго-н. важнага. **Сін.**: адводзіць вочы *каму*; загаворваць зубы *каму. Ты мне зубоў не замаўляй, бо ўсё роўна нічога не дам за тваю балбатню.* Козел. — *Полечка, дальбог не я... — Ты мне зубоў не замаўляй... Была ў цябе ўчора Шутава Валя? Была!..* Шырко.

*ЗАМЕСЦІ* • **ЗАМЕСЦІ СЛЯДЫ**. *Зак. да* **ЗАМЯТАЦЬ СЛЯДЫ**.

*ЗАМЕТКУ* • **БРАЦЬ НА ЗАМЕТКУ** *каго, што.* Гл. браць.

*ЗАМІРАЕ* • **СЭРЦА ЗАМІРАЕ** *ў каго.* Гл. сэрца.

*ЗАМІРАННЕМ* • **З ЗАМІРА́ННЕМ СЭ́РЦА**. *Акал. Функц. не зам.* Адчуваючы моцнае хваляванне, трывогу (чакаць, сачыць, глядзець і пад.). *З заміраннем сэрца ўзяў я ў рукі знойдзены блакнот.* Кірэенка. *Лясніцкі праходзіў з заміраннем сэрца міма акон яе [Раісінага] дома і напружана чакаў сустрэчы.* Зарэцкі. *Сарочын зусім упаў духам. Хадзіў па калідоры, з заміраннем сэрца чакаў, што вось-вось пакліча яго Астахаў.* Алешка.

*ЗАМКАМІ* • **ЗА (ПАД) СЯМІ́Ю ЗАМКА́МІ**. *Функц. не зам.* **1.** *Акал.* Пад надзейнай аховай; пад строгім наглядам (трымаць, сядзець і пад.). *Афрыка... Вялікая шматпакутная краіна! Як мала мы ведам аб ёй. За сямю замкамі, хавалі яе ад усяго свету хціўыя каланізатары, якія захапілі яе землі, незлічоныя багацці, духоўныя скарбы яе народа.* Лынькоў. — *Няхай наша тайна памучае Шугачова... — Трымайце свае тайны пад сямю замкамі. Вам жа горш будзе...* Шамякін.

**1.** *Акал.* Недзе далёка і надзейна (таіць, хаваць). *Аксён Каль верыць у праўду, у тую адвечную праўду, якой так прагна чакае народ і якая за сямю замкамі хаваецца ад яго.* Колас. *[Каляда:] І твая праўда, і мая праўда, і ўсюды праўда, а нідзе яе няма! Схавалі яе багацеі ад беднага люду за сямю замкамі...* Васілеўскі.

**2.** *У знач. кампанента састаўн. імен. вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Недаступным, прыхаваным (быць, аказацца і пад.). **Сін.**: за сямю пячаткамі. *Іпалітаў і з Ахрэмам, гэтак жа як і з іншымі, заставаўся за сямю замкамі — слова не выцягнеш.* Паўлаў. *І ўсё, што калісьці ляжала на самой паверхні або на невялікай глыбіні, аказалася за сямю замкамі.* Чаркасаў.

*ЗАМКАЎ* • **БУДОЎЛЯ ПАВЕТРАНЫХ ЗАМКАЎ**. Гл. будоўля.

*ЗАМКІ* • **БУДАВАЦЬ ПАВЕТРАНЫЯ ЗАМКІ**. Гл. будаваць.

**ПАВЕ́ТРАНЫЯ ЗА́МКІ**. *Адз. не ўжыв. Часцей дап. ці вык. Функц. не зам. Іран.* Нерэальныя, фантастычныя планы, што-н. нязбытнае. — *Другая сцяна ў гэтым пакоі павінна быць чорная: спіс злачынстваў і злачынцаў, катаў і здраднікаў. Таксама падрабязны. Каб усе ведалі, каго праклінаць, з якога боку можа прыляцець іскра і куля. — Баюся за вас, — Завістовіч не хаваў усмешкі. — Паветраныя замкі.* Лужанін. *Ты і без гэтага марыш пра паветраныя замкі, а гэта ў тваім узросце не пасуе...* Караткевіч.

*ЗАМКНЁНАЕ* • **ЗАМКНЁНАЕ КОЛА**. Гл. кола.

*ЗАМКНЁНАСЦЬ* • **ЗАМКНЁНАСЦЬ САМОГА Ў САБЕ**. Гл. замыканне.

*ЗАМКНУЛАСЯ* • **КОЛА ЗАМКНУЛАСЯ**. Гл. кола.

*ЗАМКНУТАЕ* • **ЗАМКНЁНАЕ (ЗАМКНУТАЕ) КОЛА**. Гл. кола.

*ЗАМКНУЦЦА* • **ЗАМКНУЦЦА Ў САБЕ**. *Зак. да* **ЗАМЫКАЦЦА Ў САБЕ**.

**ЗАМКНУЦЦА Ў СВАЮ РАКАВІНУ**. *Зак. да* **ЗАМЫКАЦЦА Ў СВАЮ РАКАВІНУ**.

*ЗАМКОМ* • **ПАД ЗАМКО́М**. *Разм.* **1**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці канкр. прадмета. Зачынены, замкнёны. **Сін**.: на замку. *Змоўк узбураных фабрык гул, і бунтары пад замком.* Дудар. *Так гадае наш музыка, планы строячы цішком, толькі вось дзе закавыка: скрыпка ў Шлемы пад замком!* Колас. *Так я яшчэ раз кажу, што п'есы ў мяне не пад замком, каму патрэбны, яны могуць быць дадзены.* Галубок.

**2**. *Акал.* Пад аховай, у замкнёным памяшканні (сядзець, трымаць каго-н.). *Аднаго [партызана] выпусцілі, астатнія ўвесь гэты час сядзяць пад замком, ядуць нямецкі хлеб.* Навуменка. *Нас ужо не выпускалі на шпацыр, і ўсе дваццаць чатыры гадзіны прыходзілася сядзець пад замком.* «Полымя». *Ты, відаць, яго [Сяргея] пад замком трымаеш і толькі на ланцужку адпускаеш у сельсавет ды на медпункт...* Сіўцоў.

*ЗАМКУ* • **НА ЗАМКУ́**. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн.-наз. *дзверы, вароты, хата* і пад. Зачынены, замкнёны. **Сін**.: пад замком (у 1 знач.). *Дашчаныя дзверы буравой былі на замку.* Паслядовіч. *Падышлі да сцяны, а ў ёй жалезныя вароты на замку.* Якімовіч. *Сельмаг цэлы дзень на замку, бо прадаўшчыца таксама пайшла за жняяркай.* Брыль. *Мы падышлі да вясковага клуба, але ён быў на замку.* Карамазаў.

**ТРЫМАЦЬ ЯЗЫК НА ЗАМКУ**. Гл. трымаць.

*ЗАМНОГА* • **ЗАМНОГА БРАЦЬ НА СЯБЕ**. Гл. браць.

*ЗАМОК* • **БРАЦЬ РОТ НА ЗАМОК**. Гл. браць.

**ПАВЕСІЦЬ ЗАМОК НА РОТ** *каму*. Гл. павесіць.

**ПАВЕСІЦЬ <САБЕ> ЗАМОК НА РОТ**. Гл. павесіць.

**ПАД ЗАМО́К** *садзіць, пасадзіць. Акал. Разм.* Пад ахову, у зняволенне. — *Тыдзень карцэра... — Пратэстуем!.. — На столькі ж дзён пад замок астатніх, — кінуў Славінскі ўжо за парогам.* С.Александровіч. *Сёння ж пачуцці гэтыя азваліся ў ім [Маскальчуку] чамусьці больш абвострана, чым раней. Мусіць, таму, што арыштоўваў ён, садзіў пад замок юнака, які, магчыма, і не сваім розумам жыў...* Капусцін.

**ПАЦАЛАВАЦЬ У ЗАМОК**. Гл. пацалаваць.

*ЗАМУЖ* • **ЗА́МУЖ ЗА <ПА́НА> ПЯСО́ЦКАГА** *збірацца. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паміраць. **Сін**.: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаваць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць у вечнасць; адыходзіць у іншы свет; адыходзіць у лепшы свет; ажаніцца з <сырою> зямлёю; выпростваць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); канькі адкідаць; лажыцца ў магілу; на паповы сані *збірацца*; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. *[Малады бадзяжнік] тутэйшай старой удавіцы абяцае: — Далібог, цётка, я вас замуж аддам. — А ідзі ты к чорту.., п'янчуга, — злуецца старая. — Мне не сёння дык заўтра ўжо замуж за пана Пясоцкага трэба збірацца.* Камейша. [Параўн.: *Лепешаў, с. 37:* з Пясоцкім ажаніцца; *Даніловіч*, с. 21: ажаніцца з Пясэцкім.]

*ЗАМУЖАМ* • **І ДОМА І ЗАМУЖАМ**. Гл. дома.

**НЕ ПЕ́РШЫ ГО́Д ЗА́МУЖАМ**. *Вык. Разм. Жарт.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вопытны, не ўпершыню мае справу з чым-н. *Я тут, у лясгасе, не першы год замужам. Бачыў усякія абавязацельствы. Ведаю.* Карамазаў. — *Так-с, — Мікалай Макаравіч*

*моўчкі чытае паперу, а потым гаворыць: — Міша, ну ты ж, як гаворыцца, не першы год замужам. Хто ж так піша?..* Гігевіч. — *Толькі пад нагамі ў палубнай каманды не таўчыся... А то капітан заўважыць, дык галаву, як кураняці, адкруціць... — Не першы год замужам, — агрызнуўся Юрка.* Крыга.

**НІ ДОМА НІ ЗАМУЖАМ**. Гл. дома.

*ЗАМУЛЯЦЬ* • **ЗАМУЛЯЦЬ ВОЧЫ** *каму. Зак. да* **МУЛЯЦЬ ВОЧЫ** *каму.*

*ЗАМУЦІЦЬ* • **ВАДЫ́ НЕ ЗАМУ́ЦІЦЬ**. *Толькі ў 3-й ас. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі ціхі, лагодны, пакорлівы. **Сін.**: мухі не пакрыўдзіць; цішэй вады <і> ніжэй травы (у 1 знач.). *Ты чуеш, Віктар? Які сэрцаед наш Максім. Паглядзець, — здаецца, ціхі, вады не замуціць.* Машара. *Самы бяскрыўдны з усіх Качутоў, вады не замуціць, ён [Стафан] быў добры муж і добры бацька.* Караткевіч. *Пра яго [Мацяша] казалі, што ён і вады не замуціць, такі ціхман.* Васілёнак. *Ён жа такі ціхмяны, вады не замуціць.* Новікаў.

**ВАДЫ́ НЕ ЗАМУЦІ́ЦЬ** *каму. Зак. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не зрабіць ніякай шкоды, нічога кепскага каму-н. **Сін.**: вока не запарушыць *каму. Я ўжо старая, нядужая і вады вам не замучу.* Ядвігін Ш. *Сама яна [Макрэна] не замуціла вады нікому.* Асіпенка. *У каго ты ўдаўся? І бацька твой і маці былі такія спакойныя людзі. За ўсё жыццё нікому вады не замуцілі.* Шамякін. *А што вам Халадзёнак?! Вайну гэту пражыў, і, калі многія паздурнелі, ён нікому вады не замуціў...* Сіпакоў.

**ЗАМУЦІЦЬ ДУШУ** *каму, каго. Зак. да* **МУЦІЦЬ ДУШУ** *каму, каго.*

*ЗАМЫКАННЕ* • **ЗАМЫКА́ННЕ (ЗАМКНЁНАСЦЬ) ВА ЎЛА́СНАЙ (У СВАЁЙ) ШКАРЛУПІ́НЕ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Адасабленне ад усяго навакольнага і абмежаванне сваім вузкім, маленькім светам. **Сін.**: замыканне <самога> у сабе. *Яшчэ і яшчэ раз з прыемнасцю пераконваешся, што новае папаўненне [паэтаў] не папракнеш у так званым «замыканні ва ўласнай шкарлупіне», у вузкім і цесным свеце «дробных пачуццяў і ідэй».* Гілевіч.

**ЗАМЫКА́ННЕ (ЗАМКНЁНАСЦЬ) <САМО́ГА> У САБЕ́**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Адасабленне ад усяго навакольнага і абмежаванне сваім вузкім, маленькім светам. **Сін.**: замыканне ва ўласнай шкарлупіне. *Пасля пісьмы сталі яшчэ скупейшыя. Ён або апаноўваўся нейкімі новымі думкамі, або, можа, пачыналася ў яго замыканне самога ў сабе?* Чорны. *Замкнёнасць Міхала ў сабе, яго адасобленасць ад людзей можна растлумачыць непаважлівым стаўленнем улад да селяніна-працаўніка наогул.* Шкраба.

*ЗАМЫКАЦЦА* • **ЗАМЫКА́ЦЦА Ў САБЕ́**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Станавіцца нелюдзімым, маўклівым, скрытным. **Сін.**: уваходзіць у <самога> сябе (у 2 знач.). *Кулікоўскі злаваў, нерваваўся і адыходзіў ад сяброў і знаёмых і з тым, як праходзіў час, усё больш і больш замыкаўся ў сабе.* Галавач. **ЗАМКНУЦЦА У САБЕ**. *Зак. Я заняўся рознымі справамі, і пакрысе сціхаў боль майго няўдалага заляцання. Ды і Тамара замкнулася ў сабе.* Броўка.

**ЗАМЫКА́ЦЦА Ў СВАЮ́ РА́КАВІНУ (У СВАЮ ШКАРЛУПІ́НУ)**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адасабляцца ад усяго навакольнага, абмяжоўваючыся сваім вузкім, маленькім светам. *[Старшыню] непакоіць тое, што асобныя калгаснікі часам замыкаюцца, як кажуць, у сваю шкарлупіну, слаба ўдзельнічаюць у грамадскім жыцці.* «Полымя». **ЗАМКНУЦЦА Ў СВАЮ РАКАВІНУ (У СВАЮ ШКАРЛУПІНУ)**. *Зак. Колькі разоў пры няўдачы трацілася ўсякая вера ў свае здольнасці, і мне*

*хацелася стушавацца, знікнуць, замкнуцца ў сваю ракавіну, каб больш ніколі не вытыкацца са сваімі творамі.* Крапіва.

*ЗАМЫЛІЦЬ* • **ЗАМЫЛІЦЬ ВОЧЫ** *каму. Зак. да* **ЗАМЫЛЬВАЦЬ ВОЧЫ** *каму.*

*ЗАМЫЛЬВАЦЬ* • **ЗАМЫ́ЛЬВАЦЬ ВО́ЧЫ** *каму. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Уводзіць у зман, ашукваць каго-н. **Сін.**: абводзіць вакол пальца *каго*; абуваць у лапці *каго*; бакі забіваць *каму*; браць на арапа *каго*; браць на бога *каго*; браць на вудачку *каго*; браць на пушку *каго*; вадзіць за нос *каго*; вешаць лапшу <на вушы> *каму*; віляць хвастом (у 1 знач.); выводзіць у поле *каго*; гнуць дугі; гуляць у ката і мышку; дурыць галаву *каму* (у 1 знач.); задурыць галаву *каму* (у 3 знач.); замазваць вочы *каму*; запраўляць арапа; кампасціраваць мазгі *каму*; корчыць дурня (у 1 знач.); круціць хвастом (у 1 знач.); муціць галаву *каму*; настаўляць акуляры *каму*; прадаць *каго* і грошы палічыць; пудрыць мазгі *каму*; пускаць пыл у вочы *каму*; сляпіць вочы *каму* (у 1 знач.); травіць баланду (у 2 знач.); туманіць вочы *каму*; туманіць галаву *каму. Малашкін урэшце сабраўся спыніць гэтую бязглуздзіцу Чухноўскага... Але як пачаць гаварыць з гэтым харашунчыкам? Хлопец, як відаць, набраўся вопыту «замыльваць вочы».* Пестрак. **ЗАМЫЛІЦЬ ВОЧЫ** *каму. Зак. [Камісар:] Яшчэ б усім патрапіў замыліць вочы, каб не той праклятьі навочны сведка ўсіх маіх учынкаў...* Дунін-Марцінкевіч.

*ЗАМЯТАННЕ* • **ЗАМЯТА́ННЕ СЛЯДО́Ў**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Знішчэнне ці ўтойванне таго, што можа быць доказам віны. *Гэта ўжо было падобна на замятанне слядоў. А калі замятаюць сляды, тады, зразумела, пачынаюць нечага баяцца.* Лынькоў.

*ЗАМЯТАЦЬ* • **ЗАМЯТА́ЦЬ СЛЯДЫ́**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Спрытна знішчаць ці ўтойваць тое, што можа быць доказам віны. **Сін.**: хаваць канцы <у ваду>. *Цяпер усё ясна!.. Белыя замятаюць сляды перад уцёкамі.* С.Александровіч. *Ты паедзеш, а што падумае Абрамаў? Уцёк, сляды замятае. Значыць, вінаваты...* Грахоўскі. **ЗАМЕСЦІ СЛЯДЫ**. *Зак. Між людзьмі, як ніколі, развялося брыды, і лаві, шукай ветру ў полі — умеюць замесці сляды.* Колас.

*ЗАНДЗІРАВАЦЬ* • **ЗАНДЗІ́РАВАЦЬ ГЛЕ́БУ**. *Незак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Разведваць што-н., каб вызначыць шансы на поспех. **Сін.**: закідаць вуду; намацваць глебу; пускаць пробны шар. *Аджубей, будучы ў ФРГ, зандзіраваў глебу наконт магчымай паездкі Хрушчова ў ФРГ.* «Звязда». **ПРАЗАНДЗІРАВАЦЬ ГЛЕБУ**. *Зак. Будзе якая замінка, звані мне. Я тут — на тэлефоне. Сяму-таму пазваню, празандзірую глебу.* «ЛіМ».

*ЗАНЕПАДАЦЬ* • **ЗАНЕПАДА́ЦЬ ДУ́ХАМ**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Маркоціцца, адчайвацца. **Сін.**: вешаць галаву; вешаць нос; вешаць нос на квінту; падаць духам. **ЗАНЯПАСЦІ ДУХАМ**. *Зак. Герасім загутарыў: — Вось, калі мы папалі на нямецкую зямлю і немцы нас раззброілі ды парассыпалі па лагерах, я, вядома, заняпаў духам.* Гартны.

*ЗАНЕСЛА* • **ЯКІ́М ВЕ́ТРАМ <ЗАНЕ́СЛА, ПРЫНЕ́СЛА>** *каго куды. Убезас. ужыв. Разм.* Як, пры якіх абставінах аказаўся хто-н. дзе-н. Выказванне здзіўлення пры нечаканай сустрэчы. *Часцей ужыв. у пытальных ск.* **Сін.**: які вецер загнаў *каго куды*; які чорт занёс *каго куды. [Шалёхін:] А, бацька Талаш! Ды якім жа ветрам занесла вас сюды?* Колас. *Якім гэта ветрам занесла цябе? Ад сваіх, мусіць, едзеш...* Кудравец. *[Андрэй:] Ой, Роза, якім жа ветрам прынесла цябе сюды? Пойдзем адсюль, пагаворым.* Козел. — *Вася!*

*Друг! — здзіўлена гукнуў Алесь... — Штурман далёкага плавання! Якім ветрам?* Краўчанка. *Распранайся ды праходзь... Якім цябе ветрам?* Сабаленка.
**НЯЛЁГКАЯ ЗАНЕСЛА** *каго куды.* Гл. нялёгкая.

*ЗАНЕСЛІ* • **НОГІ ЗАНЕСЛІ** *каго.* Гл. ногі.

*ЗАНЁС* • **ЧОРТ ЗАНЁС** *каго куды.* Гл. чорт.
**ЯКІ ВЕЦЕР ЗАНЁС** *каго куды.* Гл. вецер.
**ЯКІ ЧОРТ ЗАНЁС** *каго куды.* Гл. чорт.

*ЗАНОСІЎ* • **КУДЫ КРУМКАЧ КАСЦЕЙ НЕ ЗАНОСІЎ**. Гл. крумкач.

*ЗАНЫЛА* • **ДУША ЗАНЫЛА** *чыя, каго, у каго.* Гл. душа.

*ЗАНЯПАСЦІ* • **ЗАНЯПАСЦІ ДУХАМ**. *Зак. да* **ЗАНЕПАДАЦЬ ДУХАМ**.

*ЗАНЯТА* • **ГАЛАВА ЗАНЯТА** *ў каго, чыя чым.* Гл. галава.

*ЗАПАВОЛЕНАГА* • **МІНА ЗАПАВОЛЕНАГА ДЗЕЯННЯ**. Гл. міна

*ЗАПАДАЦЬ* • **ЗАПАДА́ЦЬ (УПАДА́ЦЬ) У ВО́КА (У ВО́ЧЫ)** *каму. Незак. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выклікаць у каго-н. пачуццё сімпатыі да сябе. **ЗАПАСЦІ (УПАСЦІ) У ВОКА (У ВОЧЫ)** *каму. Зак. Да бацькоў Алесь на першым часе мала прыглядаўся, а вось Рэня дык адразу запала яму ў вока.* Лецка. *Другая дзяўчына-настаўніца родам з Жыровіч — Кісельнікава ці Кісялёва. Ні ён, ні Васіль ёй у вока не запалі.* Місько.
**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. адуш., канкр. ці абстр. прадмета. Падабацца, быць даспадобы. **Сін**.: да густу *каму*; да душы *каму*; да смаку *каму*; да сэрца *каму*; па густу *каму*; пад густ *каму*; па душы *каму*; па нутры *каму*; па сэрцы *каму*; як маслам па душы *каму.* **Ант**.: не ў смак *каму.* **ЗАПАСЦІ (УПАСЦІ) У ВОКА (У ВОЧЫ)** *каму. Зак. — Не, браце, ты мне дай не кабылу, а жаробку... — Што табе гэтая жаробка ў вока ўпала!* Чорны. *Можна было і адвячоркам заехаць у магазін, купіць падцяжкі, але ж вельмі яны ўпалі ў вока, так цудоўна расфарбаваны.* А.Жук. *Так хараство яму [баярыну] дзявоча ўпала ў вочы, бо нідзе яго не бачылі йшчэ вочы штось прыгажэй у прастаце.* Купала.
**3**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці канкр. прадмета. Звяртаць на сябе ўвагу, запамінацца. **ЗАПАСЦІ (УПАСЦІ) У ВОКА (У ВОЧЫ)** *каму. Зак. Нейкім чынам ён [Чубар] усё ж запомніўся жанчыне, упаў у вока ёй, і яна вось цяпер пазнала яго.* Чыгрынаў. *[Мікульскі] не мог ноччу заснуць. Чаму гэта пуня так запала ў вока? Чаму не выходзіць з галавы?* Місько.

*ЗАПАЛАК* • <u>*Загарэцца (успыхнуць)*</u> **ЯК ЗАПА́ЛАК (-ЛКА)**. *Акал. Разм. Неадабр.* Імгненна, раптоўна. Пра нечаканы парыў гарачнасці. *Рэакцыя была імгненная... Гэтак рэагаваў Андрэй Ягоравіч часта — загараўся як запалак.* Сачанка. *[Янка] малады, загарачы яшчэ. Як запалак успыхвае.* Далідовіч. [*Лепешаў*, с. 88: загарацца як запалак.]

*ЗАПАЛІ* • **<ХО́ЦЬ> ЗАПАЛІ́ НЕ ТРЭ́СНЕ** *чаго. У безас. ужыв. Разм.* Няма нічога, зусім пуста. **Сін**.: ні вала ні каня; ні кала ні двара *ў каго*; хоць шарам пакаці *дзе. Курыць, ведаеце, хочацца, а паперы — хоць запалі не трэсне.* Баранавых. *[Шыдлоўскі:] Участковы ж, вусаты наш, ва ўсім сельсавеце падпольную [самагонку] вывеў, запалі не трэсне нідзе!* Козел.

*ЗАПАРУШЫЦЬ* • **ВО́КА НЕ ЗАПАРУ́ШЫЦЬ** *каму. Зак. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не зрабіць ніякай шкоды, нічога кепскага каму-н. **Сін**.: вады не замуціць *каму. Я вось зараз век зжыву, ды нікому вока не запарушыў, а ён вельмі бярэцца замалада.* Крапіва. *У нас быў гэты самы Вялічка. Ціхі, спакойны, працавіты, партыйны,*

*нікому вока не запарушыў.* Чорны. *Я вельмі любіла і люблю Марыську. Яна і ні мне, і нікому вока не запарушыла.* Баранавых.

*ЗАПАРЫЦЦА* • **КАПЕЙКА НЕ ЗАПАРЫЦЦА** *ў каго.* Гл. капейка.

*ЗАПАС* • **ПРА ЗАПА́С** *мець, хаваць, трымаць* і пад. *Акал. Функц. не зам.* На будучае, на той выпадак, калі спатрэбіцца. *І выйшла так, што будаваў ён [Імпаліт] з бацькам родную дамоўку толькі пра запас, самому ж яму ўжо няйначай трэба было біцца ў нейкае іншае жыццё.* Чорны. *Паўночная, замужычэлая, частка шляхты.. не ганьбавала лапцямі, а наадварот — рыхтавала цэлыя вешалы скруткаў, як і сяляне, пра запас.* Пестрак. *Не драмаў і Паўлюк: ён зняў з пакінутай машыны «скрыначку» патронаў і закапаў яе на полі, пра запас.* Брыль.

*ЗАПАСЦІ* • **ЗАПАСЦІ Ў ВОКА** *каму. Зак. да* **ЗАПАДАЦЬ У ВОКА** *каму.*

*ЗАПЕЦЬ* • **ЗАПЕ́ЦЬ (ЗАСПЯВА́ЦЬ) ЛА́ЗАРА**. *Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачаць скардзіцца на свой лёс, імкнучыся выклікаць спачуванне, спагаду да сябе. *[Карнейчык:] Пакуль другіх калашмаціў, ён маўчаў ды пасміхаўся, а калі да яго самога прыйшлося, тут ён і запеў Лазара.* Крапіва. — *Але калі якая-небудзь бяздарнасць кіруе разумным чалавекам, нават топча яго, то запяеш Лазара. — Трэба трымацца.* Навуменка. — *Дык я пачаў пра Нупрэя... — Ну, заспяваў Лазара.* Э.Валасевіч. *Смаляр быў разгневаны, загадаў неадкладна выклікаць Быліча. Радзівон Іванавіч.. са злараддствам чакаў: во зараз пачнецца! Во запяе Лазара!..* Блакіт.

**ЗАПЕ́ЦЬ РЭ́ПКУ**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Загаласіць ад роспачы, адчаю. **Сін.**: выплакаць (праплакаць) <усе> вочы. *Пры новым начальніку такой вольніцы сакратарцы не будзе. Запяеш, даражэнькая, рэпку.* Аношкін.

*ЗАПІСАЦЬ* • **ЗАПІСА́ЦЬ НА ЛБЕ́**. *Зак. Часцей у заг. л. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Цвёрда запомніць. **Сін.**: завязаць вузялок; зарубіць <сабе> на носе <*што*>; матаць <сабе> на вус *што. Няхай жа гад-фюрэр крывавы, кат-Гітлер запіша на лбе: здабудзе ён толькі той славы, што знойдзе асіну сабе.* Колас. *Не, на лбе запішы, што прайшоў ужо час і цяпер ты [багач] ніколі не прыдушыш нас болей.* Крапіва.

*ЗАПЛЕЧНЫХ* • **МАЙСТАР ЗАПЛЕЧНЫХ СПРАЎ**. Гл. майстар.

*ЗАПЛЮШЧВАННЕ* • **ЗАПЛЮШЧВАННЕ ВАЧЭЙ** *на што.* Гл. закрыванне.

*ЗАПЛЮШЧВАЦЬ* • **ЗАПЛЮШЧВАЦЬ ВОЧЫ** *на што.* Гл. закрываць.

*ЗАПЛЮШЧВАЮЦЦА* • **ВОЧЫ ЗАПЛЮШЧВАЮЦЦА** *ў каго на што.* Гл. вочы.

*ЗАПЛЮШЧЫЎШЫ* • **ЗАПЛЮ́ШЧЫЎШЫ ВО́ЧЫ**. *Акал. Разм.* Без усякіх ваганняў, не раздумваючы (рабіць што-н.). **Сін.**: з бухты-барахты; з завязанымі вачамі; з кандачка; з налёту (у 3 знач.); з наскоку (у 2 знач.); на зламанне карка (у 1 знач.); на злом галавы (у 1 знач.); на скрут галавы (у 1 знач.); проста з моста. **Ант.**: з адкрытымі вачамі. *[Даміцэля:] У цяперашніх цяжкіх часах шмат паненак заплюшчыўшы вочы пайшло б за багаццем, але шчасця і дабра ад гэтага няма чаго і спадзявацца: усё жыццё ваша атруцілася б сваркамі ды калатнёй.* Дунін-Марцінкевіч. *[Нодэльман:] Цані, калі ласка, толькі не заплюшчыўшы вочы, а то можаш пераплаціць.* Крапіва.

*ЗАПЛЮШЧЫЦЬ* • **ЗАПЛЮШЧЫЦЬ ВОЧЫ** *на што. Зак. да* **ЗАПЛЮШЧВАЦЬ ВОЧЫ** *на што.*

*ЗАПЛЯТАЕЦЦА* • **ЯЗЫК ЗАПЛЯТАЕЦЦА** *ў каго, чый.* Гл. язык.

*ЗАПРАГАЙ* • **ХО́ЦЬ У ПЛУ́Г ЗАПРАГА́Й** *каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. вельмі моцны, здаровы. **Сін.**: можна ў плуг запрагаць *каго. — Доктар! Я здаровы, як бык... — Што яго глядзець?! Гэтага буйвала хоць у плуг запрагай.* «Крыніца». *І яго спісалі з маракоў у калгаснікі. Але і калгаснік з яго быў... Хаця знешне — хоць у плуг запрагай. Зайздросны, пад два метры росту, а ў сярэдзіне...* Казько.

*ЗАПРАГАЦЬ* • **ЗАПРАГА́ЦЬ У АГЛО́БЛІ (У ХАМУ́Т, У ЯРМО́)** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці зборн. знач. Беручы пад сваю ўладу, прымушаць каго-н. працаваць, эксплуатаваць каго-н. **Сін.**: браць верх (у 1 знач.); браць у <свае> рукі (у 1 знач.); віць вяроўкі *з каго*; выкручваць сырыцу *з каго*; ездзіць вярхом *на кім*; ездзіць на карку *чыім*; надзяваць аброць *на каго, на што*; надзяваць хамут *на каго*; надзяваць ярмо на шыю *каму, каго*; падмінаць пад сябе *што, каго*; прыбіраць да рук (у 1 знач.); садзіцца на галаву *каму*; садзіцца на карак *каму, чый, каго* (у 1 знач.); сціскаць у кулак *каго*; убіраць у <свае> рукі (у 1 знач.). *Чаго ж так надта выдыгацца? За што так падаць? так старацца? Затым, каб больш цябе ганяць? Часцей у аглоблі запрагаць?* Колас. **ЗАПРЭГЧЫ Ў АГЛОБЛІ (У ХАМУТ, У ЯРМО)** *каго. Зак. Цябе тут прывучаюць, каб, як прыйдзе час, у аглоблі запрэгчы. Ды ты не давайся.* Сабаленка. *[Ганна:] Чаму ў хамут вас не запрэгчы, калі яго [пана] так баіцеся і так за службу берацеся?* Колас. *[Мікола] адчуваў, што народ не будзе сядзець склаўшы рукі і чакаць, пакуль яго запрагуць у ярмо або пагоняць на катаржныя работы ў фашысцкую Германію.* Якімовіч. **МОЖНА Ў ПЛУГ ЗАПРАГАЦЬ** *каго.* Гл. можна.

*ЗАПРАЎЛЯЦЬ* • **ЗАПРАЎЛЯ́ЦЬ АРА́ПА**. *Зак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знарок уводзіць у зман, выдумваючы што-н. **Сін.**: абводзіць вакол пальца *каго*; абуваць у лапці *каго*; бай забіваць *каму*; браць на арапа *каго*; браць на бога *каго*; браць на вудачку *каго*; браць на пушку *каго*; вадзіць за нос *каго*; вешаць лапшу <на вушы> *каму*; віляць хвастом (у 1 знач.); выводзіць у поле *каго*; гнуць дугі; гуляць у ката і мышку; дурыць галаву *каму* (у 1 знач.); задурыць галаву *каму* (у 3 знач.); замазваць вочы *каму*; замыльваць вочы *каму*; кампасціраваць мазгі *каму*; корчыць дурня (у 1 знач.); круціць хвастом (у 1 знач.); муціць галаву *каму*; настаўляць акуляры *каму*; прадаць *каго* і грошы палічыць; пудрыць мазгі *каму*; пускаць пыл у вочы *каму*; сляпіць вочы *каму* (у 1 знач.); травіць баланду (у 2 знач.); туманіць вочы *каму*; туманіць галаву *каму*. *Я вушам сваім не паверыў. Няўжо ёсць людзі ў нас, якія праз гэты мур палезуць па пустыя бутэлькі. Выпадкам, ці не запраўляе арапа мой ціхманы таварыш Рабаў?* Якавенка. — *Тут разам са мной [у чарзе] адна бабулька станавілася. Па грошы пайшла. Прыйдзе — пацвердзіць. — Хопіць арапа запраўляць! — абсек мужчына. — Усё зразумела. Адыдзі, не блытайся пад нагамі.* Калодзежны.

*ЗАПРЭГЧЫ* • **ЗАПРЭГЧЫ Ў АГЛОБЛІ** *каго. Зак. да* **ЗАПРАГАЦЬ У АГЛОБЛІ** *каго.*

*ЗАПУДРЫЦЬ* • **ЗАПУ́ДРЫЦЬ МАЗГІ́** *каму. Зак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знарок нагаварыць шмат чаго няправільнага, падманваючы каго-н. **Сін.**: задурыць галаву *каму* (у 3 знач.); навешаць лапшы на вушы *каму*; павадзіць за нос *каго*; пагуляць у ката і мышку. *Пачвара прыкінулася анёлам, запудрыла мазгі, дык яны з-за лёгкіх грошай гатовы калгас кінуць.* Марчук.

*ЗАПУСКАЦЬ* • **ЗАПУСКА́ЦЬ ЛЯШЧА́**. *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Красці, прысвойваць чужое. **Сін.**: браць у <свае> рукі (у 3 знач.); залазіць у кішэнь *чыю, каму*; запускаць руку *ў што, куды*; класці ў <сваю> кішэнь *што*; накладваць лапу (у 1 знач.); прыбіраць да рук (у 2 знач.); убіраць у <свае> рукі (у 2

знач.). **ЗАПУСЦІЦЬ ЛЯШЧА**. *Зак. Былі і такія, што нічога не куплялі і не прадавалі, а прыйшлі так сабе, «на раздабыткі». Прыйдзе сабе ў краму, патупае, патупае, а як што кепска ляжыць, то і запусціць ляшча.* Колас.

**ЗАПУСКА́ЦЬ РУКУ́** *ў што, куды. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Красці, прысвойваць чужое. **Сін.**: браць у <свае> рукі (у 3 знач.); залазіць у кішэнь *чыю, каму*; запускаць ляшча; класці ў <сваю> кішэнь *што*; накладваць лапу (у 1 знач.); прыбіраць да рук (у 2 знач.); убіраць у <свае> рукі (у 2 знач.). *У свой час Якім Бронька арганізоўваў калгас, хадзілі чуткі — запускаў руку ў грамадскае дабро.* Навуменка. *[Кадачыгаў] часамі запускаў руку туды, куды толькі дзяржава права на доступ мела і распараджацца магла.* Лецка. **ЗАПУСЦІЦЬ РУКУ** *ў што, куды. Зак. Да гэтай зімы млынам загадваў Вавілаў швагер Ігнат. Не столькі загадваў, колькі п'янстваваў. А там і ў «хунты» руку запусціў.* Кудравец.

*ЗАПУСЦІЦЬ* • **ЗАПУСЦІЦЬ ЛЯШЧА**. *Зак. да* **ЗАПУСКАЦЬ ЛЯШЧА**.
**ЗАПУСЦІЦЬ РУКУ** *ў што, куды. Зак. да* **ЗАПУСКАЦЬ РУКУ** *ў што, куды.*

*ЗАПЫЛІЎСЯ* • *З'явіўся* **НЕ ЗАПЫЛІЎСЯ**. *Акал. Праст. Жарт. ці іран.* Раптоўна, нечакана ці якраз тады, калі пра каго-н. гаварылі, успаміналі. *Здароў быў, Гардзей! З'явіўся — не запыліўся. Ад'еўся, значыць, на матчыных харчах? Глянь ты, ажно шчокі блішчаць, нібы алеем намазаныя...* Б.Стральцоў. *Той [Ціхмановіч] біцца да ўсіх лез. Хацелі нават у міліцыю здаць... А вось і ён, з'явіўся не запыліўся.* Супрунчук. *Дзверы адкрыла жонка. — Ну вось. Нарэшце. З'явіўся — не запыліўся, — і з усмешкай дадала: — А мы тут цябе зачакаліся.* Вархеновіч.

*ЗАРА* • **НІ СВЕТ НІ ЗАРА**. Гл. свет.

*ЗАРАЗ* • **ВОЗ І ЗАРАЗ ТАМ**. Гл. воз.

*ЗАРАСЛА* • **СЦЕЖКА ЗАРАСЛА** *да каго, да чаго, куды.* Гл. сцежка.

*ЗАРАСЛО* • **БЫЛЛЁМ ЗАРАСЛО́ (ПАРАСЛО́)**. *Зак. Разм. Часцей ужыв. у форме пр. пры дзейн., выраж. займ.* гэта, тое, усё, яно. Даўно забыта. **Сін.**: <з> вадой сплыў; кануць у лету. *Даўно гэта было і быллём зарасло.* Пестрак. *Дуняша, мілая!.. Усё быллём парасло, а пры ўсіх тут скажу... І я твайго Паўла кахала.* Ракітны. *Жыві сабе, гадуй унукаў. А тое, што было, пачынае быллём зарастаць.* Новікаў. *Не быў я ў свеце бабылём і ты не будзеш, братка, пакуль не зарасла быллём салодкая загадка...* Вітка.

*ЗАРЖАВЕЕ* • **НЕ ЗАРЖАВЕ́Е** *за кім. У безас. ужыв. Праст.* Кім-н. будзе вернута, кампенсавана, адплачана. Пра тое, што было ўзята, патрачана і пад. **Сін.**: не прападзе *за кім*; не стане *за кім. — У мяне знойдзецца [пачастунак], Міхаіл Васільевіч. — Нялоўка гэта. Ну, але за мной не заржавее...* Радкевіч. *Таварыш электрык! У нас суседзі зверху дзень шахцёра адзначалі. Зноў люстра не вытрымала. Зазірніце на мінутку. За намі не заржавее. Усё роўна за кошт суседзяў.* «ЛіМ».

*ЗАРУБІЦЬ* • **ЗАРУБІ́ЦЬ (ЗАСЯЧЫ́) <САБЕ́> НА НО́СЕ** *<што>. Зак. Часцей у заг. л. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Цвёрда запомніць. **Сін.**: завязваць вузялок; запісаць на лбе; матаць <сабе> на вус *што. Вось што, брат Дарвідошка, слухай і зарубі сабе на носе: ты прывядзеш вартавому маладзіцу.* Колас. *Калі вернешся ў вёску, не скончыўшы інстытута, — не прыму нават і ў свінаркі, зарубі сабе гэта на носе!* Карпюк. *Падумай і запомні: калі будзеш і далей нявестку крыўдзіць... Зарубі на носе!* Якавенка. *— Ёсць — пяць сутак, таварыш палкоўнік! — І засячыце на носе, малодшы... — Ёсць — засячы на носе! — бадай, весела адказаў я...* Шамякін. *«А што, нельга?» Тады Зазыба пад-*

*ступіўся: «Засячы сабе на носе — другі раз па руках палучыш!»* Чыгрынаў. *Засячы сабе на носе: добрых сабак не бывае.* «ЛіМ».

*ЗАРЫ* • **АД (З) ЗАРЫ́ ДА ЗАРЫ́**. *Акал. Разм.* **1**. Увесь дзень, з раніцы да вечара (рабіць што-н.). **Сін**.: ад відна да цямна; ад расы да расы; ад цёмнага да цёмнага; ад цямна да цямна (у 1 знач.). **Ант**.: ад відна <і> да відна; ад зары да зары (у 2 знач.); ад цямна <і> да відна. *[Ганка:] А што гэта за жыццё ў нас будзе? Ты будзеш рыбу лавіць ад зары да зары, а мяне што чакае?* В.Вольскі. *Усіх сваіх хатніх [стары Карнач] ганяў на работу з зары да зары, наймаў, хоць і здалёку, кабет і мужчын...* Нёманскі.

**2**. Усю ноч, з вечара да раніцы (рабіць што-н.). **Сін**.: ад відна да відна; ад цямна <і> да відна. **Ант**.: ад відна да цямна; ад зары да зары (у 1 знач.); ад расы да расы; ад цёмнага да цёмнага; ад цямна да цямна (у 1 знач.). *У кожнага салаўя, ад зары да зары, песня непаўторная.* Танк. *[Дзяўчыне] цяжка было расставацца ў той ранак.. з сінявокім каханым, гулялі з якім ад зары да зары.* Ляпёшкін.

*ЗАРЫЦЦА* • **ЗАРЫЦЦА НОСАМ** *у што.* Гл. зарыць.

*ЗАРЫЦЬ* • **ЗАРЫ́ЦЬ (ЗАРЫ́ЦЦА) НО́САМ** *у што. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Упасці ніцма куды-н. (ад удару або спатыкнуўшыся). **Сін**.: заараць носам *што, у што*; з капылоў <далоў> (у 1 знач.); з капытоў <далоў>; з катушак далоў; рыць носам *што. [Грэнадзёр] штурхануў ад сябе [дворніка]. Той прабег, не ўтрымаўся і зарыў носам.* Лобан. *Бяжыць усё Мікола. Дык ён [салдат] трэці раз як намерыўся, як даў, дык Мікола носам у снег зарыў.* Крапіва. *На грэблі, ля моста, [Лявон] зачапіўся за ламачыну і ледзь носам не зарыў у гразь.* Кудравец. *Клікнуў пан служкаў, выкінулі яны Гаўрылку ў двор, аж той, бядак, у зямлю носам зарыўся.* «Маладосць».

*ЗАРЭЖ* • **ХО́ЦЬ <ТЫ́> ЗАРЭ́Ж**. *Толькі ў гэтай форме. Акал. Разм.* Выказванне немагчымасці зразумець, успомніць, зрабіць, выканаць што-н. **Сін**.: хоць забі. *Сам, нябож, я добра знаю, што з гарэлкі свет гарыць... Тфу, паскудства! Тфу, брыдота! Хоць зарэж, — не буду піць!* Колас. *Пад гарою ў селяніна конь прыстаў дарэшты: бедны змучыўся, ні з месца, хоць яго зарэж ты!* Купала.

*ЗАРЭЗАЦЬ* • **БЕЗ НАЖА ЗАРЭЗАЦЬ** *каго. Зак. да* **БЕЗ НАЖА РЭЗАЦЬ** *каго.*

*ЗАРЭЗУ* • **ДА ЗАРЭ́ЗУ** *трэба, патрэбна. Акал. Разм.* Крайне, надзвычайна (трэба хто-, што-н.). *Нам пісьменныя людзі да зарэзу патрэбны.* Машара. *Усім да зарэзу патрэбна была пераправа, каб з берага на бераг перакідваць дружыны.* Карпюк. *[Жлукта:] А якой вы дапамогі хочаце ад мяне? [1-ы кліент:] Пяць бочак цэменту. Трэба да зарэзу.* Крапіва.

*ЗАСВІСТАЦЬ* • **ЗАСВІСТАЦЬ У КУЛАК**. *Зак. да* **СВІСТАЦЬ У КУЛАК**.

*ЗАСВЯРБЕЛІ* • **РУКІ ЗАСВЯРБЕЛІ** *ў каго.* Гл. рукі.

*ЗАСВЯРБІЦЬ* • **ЯЗЫК ЗАСВЯРБІЦЬ** *у каго, каму.* Гл. язык.

*ЗАСЕСЦІ* • **ЗАСЕСЦІ <ЦВІКОМ> У ГАЛАВЕ** *ў каго, чыёй. Зак. да* **СЯДЗЕЦЬ <ЦВІКОМ> У ГАЛАВЕ** *ў каго, чыёй.*

*ЗАСЕЯНАЕ* • **НЕ ПОЛЕ ЗАСЕЯНАЕ** *каго.* Гл. насеяна.

*ЗАСКАКАЦЬ* • **ЗАСКАКА́ЦЬ (ЗАТАНЦАВА́ЦЬ) ПАД ДУ́ДКУ** *чыю, каго. Зак. Разм. Часцей неадабр. ці іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ва ўсім падпарадкоўваючыся каму-н., пачаць выконваць чыю-н. волю. *І пан, калі нам пашанцуе, пад нашу дудку за-*

*танцуе: няпраўда — згіне племя злое!* Колас. *[Янка:] Глядзі, як паны пад маю дудку заскакалі!* В.Вольскі.

*ЗАСКВАРЫЦЬ* • **ЯМУ ЗАСКВА́РЫЦЬ**. *Зак. Абл. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Загінуць, быць пахаваным. **Сін.**: загрымець касцямі (у 1 знач.); злажыць <свае> косці; знайсці сабе магілу *дзе*; класці галаву *за каго, за што дзе*; легчы касцьмі (у 1 знач.); легчы трупам; ляжаць у <сырой> зямлі; навярнуць галавой; накладаць галавой; парыць зямлю; парыць косці *дзе*; парыць у зямлі косці; спаць вечным сном; спаць у сырой зямлі. *— А ты, старая ведзьма, чаго тут растапырылася? — пагнаў другі [паліцай] старую Тэклю. — Хочаш таксама яму засквaрыць?!* Карпюк. *— Дарэчы, выпусцілі тых з Зарачан, што не выйшлі на работу?.. — Дзе ты бачыў? Мо даўно яму засквaрылі!* «Маладосць».

*ЗАСКОКВАЮЦЬ* • **ШАРЫКІ ЗА РОЛІКІ ЗАСКОКВАЮЦЬ** *у каго.* Гл. шарыкі.

*ЗАСКОЧЫЦЬ* • **РОЗУМ ЗА РОЗУМ ЗАСКОЧЫЦЬ** *у каго.* Гл. розум.

*ЗАСЛАНІЦЬ* • **ЗАСЛАНІЦЬ ВОЧЫ** *каму. Зак. да* **ЗАСЛАНЯЦЬ ВОЧЫ** *каму.*

**ЗАСЛАНІЦЬ < УВЕСЬ, БОЖЫ> СВЕТ** *каму. Зак. да* **ЗАСЛАНЯЦЬ < УВЕСЬ, БОЖЫ> СВЕТ** *каму.*

*ЗАСЛАНЯЦЬ* • **ЗАСЛАНЯ́ЦЬ ВО́ЧЫ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Пазбаўляць каго-н. здольнасці правільна разбірацца ў чым-н. **Сін.**: сляпіць вочы *каму* (у 2 знач.). **ЗАСЛАНІЦЬ ВОЧЫ** *каму. Зак. — А пісьмо ж, папера ёсць? Як закрыць паперу? — Гляджу... засланіла табе вочы папера...* Місько. *Не думай, калі ласка, што Навуменка засланіў мне вочы на больш важныя рэчы, ні ў якім разе.* Радкевіч.

**ЗАСЛАНЯ́ЦЬ <УВЕ́СЬ, БО́ЖЫ> СВЕ́Т** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. ці абстр. прадмета. Станавіцца пастаянным клопатам, мэтай і пад., прымушаючы каго-н. забываць пра ўсё іншае, не заўважаць іншага. **Сін.**: засціць свет *каму. — Я не супраць багацця, але каб яно свет не засланяла, — вёў сваё Сяргей Пятровіч.* Шахавец. **ЗАСЛАНІЦЬ<УВЕСЬ, БОЖЫ> СВЕТ** *каму. Зак. [Рыгор:] Ты мне свет засланіла. Праз цябе я нічога не бачу.* Крапіва. *Дзіця засланіла Клаўдзіі Аляксееўне ўвесь свет. Кожны ўскрык яго балюча адбіваўся ў сэрцы маці.* Карпюк. *Ты, бацька, толькі і глядзіш коней. Ужо яны табе і божы свет засланілі.* Адамчык. *[Лёня:] Грошы, грошы, грошы! Яны засланілі свет! Няўжо, тата, ты за гэта ваяваў і быў паранены?* Гіль.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Станавіцца перашкодай для каго-н. у ажыццяўленні якіх-н. намераў, планаў. **Сін.**: абразаць крылы *каму, у каго*; завязваць свет *каму* (у 1 знач.); звязваць па руках і нагах *каго*; звязваць рукі *каму;* падразаць крылы *каму.* **Ант.**: развязваць рукі *каму.* **ЗАСЛАНІЦЬ <УВЕСЬ, БОЖЫ> СВЕТ** *каму. Віктару ўвесь свет засланіла Максімава звальненне. Эгаістычна засланіла: ён толькі і думаў, што пра Зарэчны раён.* Шамякін.

*ЗАСЛОНА* • **ДЫМАВА́Я ЗАСЛО́НА**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Неадабр.* Маскіроўка, падман, наўмыснае адцягванне ўвагі ад чаго-н. **Сін.**: адвод вачэй; гульня ў ката і мышку; навешванне лапшы на вушы; пацёмкінская вёска; пусканне пылу ў вочы; пусканне туману; траянскі конь (у 1 знач.). *[Сурміла] чалавек не дурны, ведае, чым у рэшце рэшт усё можа скончыцца — бясконца нельга шукаць нейкія аб'ектыўныя прычыны. Вось і спатрэбіўся адцягваючы манеўр, дымавая заслона, якой можа*

*быць арганізацыйная перабудова...* Блакіт. *У ходзе следства і суда дымавая заслона рассеялася, і хапугі паўсталі такімі, якімі былі.* «Звязда».

**ЖАЛЁЗНАЯ ЗАСЛО́НА**. *Мн. не ўжыв. У ролі розн. чл. ск. Функц. не зам. Неадабр.* Самаізаляцыя, сур'ёзныя перашкоды ў кантактах (пераважна паміж дзяржавамі). — *Балуюць вас. Я за ўсё жыццё за мяжу ні разу не выехаў. — Бо была жалезная заслона.* Шамякін. *Жалезная заслона ў канцы васьмідзесятых гадоў была ўжо добра такі прыўзнята.* «Настаўн. газ.»

**<НІБЫ́, ЯК> ЗАСЛО́НА СПА́ЛА (УПА́ЛА) З ВАЧЭ́Й** *у каго, чыіх. У безас. ужыв. Разм.* Каму-н. стала зразумелым тое, што раней было тайным, незразумелым. *Выкладжыў ён [студэнт] мне ўсё як на далоні: адкуль і зямля ўзялася, як на ёй розныя жывёліны, а пасля і чалавек з'явіўся, і як людзі сталі выдумляць розных багоў і кланяцца ім. У мяне нібы заслона спала з вачэй.* Крапіва. *Таццяна помніць, як у яе адразу спала заслона з вачэй.., як яна імкнулася хоць і на Рыгору выказаць усю сваю ласку, увесь імпэт растаптанага даўно пачуцця.* Нёманскі. *Дык вось з кім звеў мяне лёс! Мікола Баркевіч... З вачэй маіх раптам нібы ўпала заслона, і замест пажылога капітана я на хвіліну ўбачыў кучаравага светлавалосага юнака ў форме марака Чарнаморскага флоту.* Шашкоў.

*ЗАСЛОНУ* • **ПАД ЗАСЛО́НУ**. *Акал. Функц. не зам.* У самым канцы (рабіць, зрабіць што-н.). **Сін.**: на закуску. *Няма ў вас жалю, Клаўдзія Аляксееўна. Пад заслону столькі назапасілі ўсяго.* Ліпскі. *Заключныя раздзелы манаграфіі выклікаюць такое адчуванне, нібыта яе аўтарка пад заслону аказалася ў палоне дачаснай стомленасці ці то страціла тую цікавасць, якая надавала кнізе вартасць і арыгінальнасць.* «ЛіМ».

**ПРЫЎЗНІМАЦЬ ЗАСЛОНУ** *над чым.* Гл. прыўзнімаць.

*ЗАСМЯЮЦЬ* • **КУРЫ ЗАСМЯЮЦЬ** *каго.* Гл. куры.

*ЗАСНУЦЬ* • **ЗАСНУ́ЦЬ ВЕ́ЧНЫМ СНО́М**. *Зак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Памерці. **Сін.**: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць на той свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць у іншы свет; адыходзіць (ісці) у лепшы свет; ажаніцца з <сырою> зямлёй; выпростваць ногі; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць <*каму*> (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага *збірацца*; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); канькі адкідаць; лажыцца ў магілу; на паповы сані *збірацца*; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. *Тут жа побач з камандзірам заснуў вечным сном і яго бліжэйшы памочнік Коля Харошаў.* Лынькоў. *Заснула вечным сном старая маці, патух нявыплаканых слёз агонь...* Звонак.

**ЗАСНУ́ЦЬ НАВЕ́КІ**. *Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Памерці. **Сін.**: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць на той свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць у іншы свет; адыходзіць (ісці) у лепшы свет; ажаніцца з <сырою> зямлёй; выпростваць ногі; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць <*каму*> (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага *збірацца*; заснуць вечным сном; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); канькі адкідаць; ла-

жыцца ў магілу; на паповы сані *збірацца*; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. *Апавядалі, што хворых на пранцы ў моцнай ступені адтуль ужо зусім не выпушчаюць: даюць ім «соннага» (морфію ці чаго), пакуль, бедная, спіць-спіць і так засне навекі.* Гарэцкі. *У дзесяты клас перайшла, а вучыцца ў ім ужо не змагла — той восенню і заснула навекі...* Гіль.

*ЗАСОХНУЦЬ* • **ЗАСОХНУЦЬ НА КОРАНІ**. *Зак. да* **ЗАСЫХАЦЬ НА КОРАНІ**.

*ЗАСПЯВАЦЬ* • **ЗАСПЯВАЦЬ ЛАЗАРА**. Гл. запець.

*ЗАСТАВАЦЦА* • **ЗАСТАВА́ЦЦА (АСТАВА́ЦЦА) БЕЗ НО́Г**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна стамляцца, знемагацца ад хадзьбы. **Сін.**: валіцца з ног <*ад чаго*>; выбівацца з сіл (у 1 знач.); высалапіць язык; збівацца з ног; зямлі не чуць пад сабой (у 2 знач.); ледзь ногі цягаць (у 1 знач.); ледзь стаяць на нагах (у 1 знач.); ледзь шоры цягаць; на нагах не трымацца; не чуць ні рук ні ног; не чуць ног. *Я ў вас так, дзеткі, папытаю: хто такі ў калгасе пастух? Камандзір над войскам. Яму і стратэгію трэба мець сваю, і тактыку... Ого — без стратэгіі! І сам вымерхаешся, як чорт, без ног застанешся, і бычкі-цяляткі будуць галадаць.* Міська. **ЗАСТАЦЦА (АСТАЦЦА) БЕЗ НОГ**. *Зак. [Кацярына Іванаўна:] Без ног асталася. Увесь горад абышла.* Палескі.

**ЗАСТАВА́ЦЦА (АСТАВА́ЦЦА) БЕЗ РУ́К.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна стамляцца, знемагаць ад работы. **ЗАСТАЦЦА (АСТАЦЦА) БЕЗ РУК**. *Зак. — Навошта мне важдацца з гэтай кудзеляй, — гаварыла цётка Куліна. — Трапі, чашы, прадзі — без рук застанешся. А пасля яшчэ крукам гніся над кроснамі.* Жычка. *— Не трэба, — папрасіла яна [Зося] Валю, якая, ускалыхваючы дзіця, хадзіла па пакоі, — прывыкне. Потым без рук астанешся...* Карпаў.

**ЗАСТАВА́ЦЦА ЎБАКУ́**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нічым не выяўляць сваёй зацікаўленасці ў чым-н., не мець ніякага дачынення да чаго-н. **Сін.**: заставацца ў баку *ад чаго*; стаяць убаку; стаяць у баку *ад чаго*. *Цяпер часамі трапляюць на сцэну спектаклі легкаважныя, невыразныя па творчай задуме. Пры гэтым драматургі калі-нікалі лічаць за лепшае заставацца ўбаку, не выяўляе сваёй аўтарскай пазіцыі.* «ЛіМ». **ЗАСТАЦЦА ЎБАКУ**. *Зак. Цяпер жа ў Каржакевіча намер быў адзін: застацца ўбаку, паказаць, што ён тут нічым не зацікаўлен.* Крапіва.

**ЗАСТАВА́ЦЦА Ў БАКУ́** *ад чаго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Не прымаць непасрэднага ўдзелу ў чым-н., не мець ніякага дачынення да чаго-н. **Сін.**: заставацца ўбаку; стаяць убаку; стаяць у баку *ад чаго*. *Ён не можа больш чакаць, не можа больш заставацца ў баку ад барацьбы, ён, сын пралетара, Лукаша Дроба.* Самуйлёнак. *Не можа не трывожыць і тое, што некаторыя выпускнікі школ маюць прагалы ў ведах, а прафсаюзныя арганізацыі застаюцца ў баку ад такога сур'ёзнага пытання.* «Настаўн. газ.» **ЗАСТАЦЦА Ў БАКУ** *ад чаго. Зак. Лісанскі пан не застаўся ў баку ад тае ліхаманкі.* Карамазаў.

**НЕ ЗАСТАВА́ЦЦА Ў ДАЎГУ́**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адказваць, адплачваць каму-н. тым самым (адносінамі, учынкам і пад.). **Сін.**: плаціць той жа манетай *каму*. *І калі на тым беразе хто-небудзь выкідваў фацэтнае каленца, то і на гэтым знаходзіўся штукар, які не заставаўся ў даўгу, аж са скуры вылузваўся, а свайго дамагаўся!* Макарэвіч. **НЕ ЗАСТАЦЦА Ў ДАЎГУ**. *Зак. І вось гэтыя хлопцы як убачылі, што на іх школу і на іхняга Алеся Іванавіча насеў гэты Каін з немцамі, рашылі таксама не застацца ў даўгу.* Быкаў. *Зак. [Гардзіюк:] Ну, гэта ўжо прыемны*

*кампімент. [Каліберау:] Я не для кампімента. [Гардзіюк:] Тым больш прыемна. Але і я ў даўгу не застануся. Кампімент я вам скажу праз газету.* Макаёнак.

*ЗАСТАЛАСЯ* • **АДНА НАЗВА ЗАСТАЛАСЯ** *ад чаго.* Гл. званне.

*ЗАСТАЛІСЯ* • **<АДНА> СКУРА ДЫ КОСЦІ ЗАСТАЛІСЯ** *на кім, у каго, ад каго.* Гл. скура.

**АДНЫ ЎСПАМІНЫ ЗАСТАЛІСЯ** *ад каго, ад чаго.* Гл. успаміны.

**<ТОЛЬКІ> АДНЫ ВОЧЫ ЗАСТАЛІСЯ** ў *каго.* Гл. вочы.

*ЗАСТАЛОСЯ* • **АДНО ЗВАННЕ ЗАСТАЛОСЯ** *ад чаго.* Гл. званне.

**ЖЫВО́ГА МЕ́СЦА НЕ ЗАСТАЛО́СЯ**. *У безас. ужыв. Разм.* **1**. *на кім.* Хто-н. вельмі моцна збіты, знявечаны. **Сін**.: жывога месца няма (у 1 знач.). — *Спаласуй ёй плечы, каб жывога месца не засталося! — загадаў пан.* Карпюк. *[Іван:] Усе бакі паадбіваў сабе, жывога месца не засталося. Хоць гвалт крычы.* Васілёнак.

**2**. *у чым, дзе.* Што-н. поўнасцю разбурана, знішчана. **Сін**.: жывога месца няма (у 2 знач.). *Потым бомбы сыплюцца цяжкім градам на зранены, бездапаможны горад, у якім і так ужо не засталося жывога месца.* Дамашэвіч. *Раніцай у час артналёту здавалася — жывога месца на тым баку не асталося.* Навуменка.

**СУХОГА РУБЦА НЕ ЗАСТАЛОСЯ** *на кім.* Гл. няма.

*ЗАСТАНЕЦЦА* • **МО́КРАГА МЕ́СЦА НЕ ЗАСТАНЕ́ЦЦА (НЕ ЗАСТАЛО́СЯ)** *ад каго, ад чаго. У безас. ужыв. Праст.* Хто-, што-н. будзе знішчана. Нярэдка як пагроза. **Сін**.: мокрае месца застанецца *ад каго, ад чаго. Нашы слаўныя воіны такога аганьку падкінулі пад гэты «кацёл», што ад усяе велізарнай арміі фельдмаршала Паўлюса толькі пара пайшла. Нават мокрага месца не засталося...* Крапіва. *Гэты «статыстычны аптымізм» настолькі пераканаўчы, што ад яго не застанецца і мокрага месца пры сустрэчы з жывымі фактамі польскай рэчаіснасці.* Таўлай.

**МОКРАЕ МЕСЦА ЗАСТАНЕЦЦА** *ад каго, ад чаго.* Гл. месца.

*ЗАСТАЎКІ* • **НА ЎСЕ́ ЗАСТА́ЎКІ**. *Акал. Разм.* **1**. Вельмі гучна, голасна (храпці, захрапці). **Сін**.: благім матам; з усіх жыл (у 2 знач.); колькі <было> сілы (у 3 знач.); на поўную сілу (у 3 знач.); на поўныя грудзі (у 2 знач.); на ўвесь голас (у 1 знач.); на ўвесь свет (у 1 знач.); на ўсе грудзі (у 2 знач.); на ўсё горла; на ўсю глотку; на ўсю іванаўскую (у 1 знач.); на ўсю моц (у 3 знач.); немым голасам; не сваім голасам; што ёсць духу (у 2 знач.); што ёсць сілы (у 3 знач.); <як> іерыхонская труба (у 2 знач.); як недарэзаны; як рэзаны. *Пчолкі гудуць пад вішняю, а пад яблынькаю Хвёдар Руцкі храпе на ўсе застаўкі.* Чорны. *Сафрон лёг, не запальваючы агню, і адразу захроп на ўсе застаўкі.* Чарнышэвіч. *Чаравака нічога не чуў, заліваўся храпам, як кажуць, на ўсе застаўкі.* Пестрак. — *А што Буркун і Аўдошка? Спяць? — Храпуць на ўсе застаўкі.* Савіцкі.

**2**. Вельмі хутка, імкліва (бегчы, ехаць і пад.). **Сін**.: без аглядкі (у 1 знач.); без духу *бегчы*; без душы *бегчы*; без памяці (у 1 знач.); ва ўсе лапаткі (у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.); з усіх ног; колькі <было> духу; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на адным дыханні (у 1 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўвесь мах; на ўсе жылы; на ўсе ногі; на ўсіх парах; на ўсіх парусах; на ўсю моц (у 2 знач.); чуй дух; што ёсць духу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 2 знач.); як дуж; як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як мага (у 1 знач.); як на крыллях; як на пажар; як падсмалены. **Ант**.: як чарапаха. *Панас пёр на ўсе застаўкі.* Бядуля. *Салаўёвы байцы падкідалі ў топку дровы і*

*падвясельвалі машыніста: «Круці, Гаўрыла!», «Дуй на ўсе застаўкі!» І той круціў. Цягнік імчаўся праз густую шэрую слату.* Грахоўскі.

**3**. Вельмі моцна, празмерна (хваліць, расхвальваць і пад.). **Сін**.: на ўсе лады (у 3 знач.). *Архіп Мікуць пачаў хваліць на ўсе застаўкі Свірыда Лопуха.* Сабаленка. *Калі сват яго на ўсе застаўкі расхвальваў, Казік сядзеў моўчкі і толькі моршчыўся ад гэтай пахвальбы, нібы ад болю.* Дайліда.

**4**. Як толькі можна (рабіць што-н.). **Сін**.: на поўную катушку (у 3 знач.); на поўную сілу (у 2 знач.); на ўсю жалезку (у 1 знач.); на ўсю іванаўскую (у 2 знач.); па самае годзе (у 1 знач.); па самае нельга; па самае не хачу. *Што б там ні было, а ў панядзелак трэба ехаць. Так што ты, таварыш Алесь, націсні там на ўсе застаўкі ў сельсавеце, каб да нядзелі нам разлічыцца.* Чорны. *У крайнім выпадку разумней было б спыніць спадарожнае таксі і на ўсе застаўкі газаваць і ляцець на завод.* Макарэвіч.

**5**. Шырока, прыветліва (смяяцца, усміхацца). **Сін**.: на ўвесь рот (у 2 знач.); на ўсе трыццаць два <зубы>. — *Во, ліха матары, здаравіла які! — на ўсе, як кажуць, застаўкі ўсміхнуўся Мікола, паказваючы на Свярдзёлка.* Брыль.

*ЗАСТАЦЦА* • **ЗАСТАЦЦА БЕЗ НОГ**. *Зак. да* **ЗАСТАВАЦЦА БЕЗ НОГ**.
**ЗАСТАЦЦА БЕЗ РУК**. *Зак. да* **ЗАСТАВАЦЦА БЕЗ РУК**.
**ЗАСТАЦЦА ЎБАКУ**. *Зак. да* **ЗАСТАВАЦЦА ЎБАКУ**.
**ЗАСТАЦЦА Ў БАКУ** *ад чаго. Зак. да* **ЗАСТАВАЦЦА Ў БАКУ** *ад чаго.*
**НЕ ЗАСТАЦЦА Ў ДАЎГУ**. *Зак. да* **ЗАСТАВАЦЦА Ў ДАЎГУ**.

*ЗАСТУКАЦЬ* • **ЗАСТЎКАЦЬ ВА ЎСЁ ДЗВЕ́РЫ**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачаць часта, настойліва звяртацца з просьбамі да каго-н. *Сёлета настаўнік у сваіх дамаганнях атрымаў значную дапамогу ад камсамольскай ячэйкі і ад сельсавета новага складу. Націснулі што называецца на ўсе кнопкі, застукалі ва ўсе дзверы.* Крапіва.

*ЗАСТУПАЦЬ* • **ЗАСТУПА́ЦЬ ДАРО́ГУ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Перашкаджаць дзейнасці каго-н. **Сін**.: даваць падножку *каму*; падстаўляць ножку *каму*; перабягаць дарогу *каму*; псаваць абедню *каму*; ставіць падножку *каму*; ставіць палкі ў кола *каму, чаго*; станавіцца на дарозе *чыёй, каму, чаму*; станавіцца папярок дарогі *каму, чыёй*; стаяць на дарозе *чыёй, у каго*; стаяць папярок дарогі *каму, каго*. **Ант**.: саступаць з дарогі (у 2 знач.); сыходзіць з дарогі. *Бывае так, што чалавек табе ніколі, як кажуць, не заступаў дарогу, а ты яго няўзлюбіш па нейкім прадчуванні.* Марціновіч. — *Вось і добра, мой дарагі, — сказаў палкоўнік. — Люблю разумных людзей. Наколькі гэта магчыма, стараюся такім людзям дарогі не заступаць...* Самуйлёнак.
**ЗАСТУПІЦЬ ДАРОГУ** *каму. Зак.*

*ЗАСТУПІЦЬ* • **ЗАСТУПІЦЬ ДАРОГУ** *каму. Зак. да* **ЗАСТУПАЦЬ ДАРОГУ** *каму.*

*ЗАСТЫЛА* • **КРОЎ У ЖЫЛАХ ЗАСТЫЛА** *ў каго.* Гл. кроў.

*ЗАСЦІЦЬ* • **ЗА́СЦІЦЬ ВО́ЧЫ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Пазбаўляць каго-н. здольнасці правільна разбірацца ў чым-н. **Сін**.: засланяць вочы *каму*; сляпіць вочы *каму* (у 2 знач.). — *Можа, княгіня здагадваецца? — Дзе там, гонар засціць вочы. Яна ў нас такая высакародная, такая выхаваная...* Кавалёў. *Яны пасадзілі [Яўнута] у вязніцу, на смех усяму княству. І міжволі помста засціла яму вочы, а сілы нібы прыбывалі.* Іпатава.

**ЗА́СЦІЦЬ СВЕ́Т** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Рабіць чыё-н. жыццё пакутным, бязрадасным. **Сін**.: засланяць свет *каму* (у 1

знач.). *Чалавек, які гаворыць пра тое, што яму набалела., засціла яму свет, заўсёды гаворыць горача, прачула, пераканаўча і шчыра.* Дуброўскі. *Сказаць, што палягчэла на душы, — не скажаш. Але не засталося той гнятлівай асуджанасці, якая засціла свет [Ніне Ягораўне].* Новікаў.

*ЗАСЫПКУ* • Пытанне **НА ЗАСЫПКУ**. *Азн. Разм.* Складанае (пытанне), на якое цяжка адказаць. — *Пытанне на засыпку, як кажуць студэнты, — азвалася яна ўрэшце. — Што на яго адказаць, дык я і не ведаю. Ці ты спытаўся так, не падумаўшы?* Дамашэвіч.

*ЗАСЫХАЦЬ* • **ЗАСЫХА́ЦЬ НА КО́РАНІ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Паступова пагаршаючыся, даходзіць да заняпаду. *Часцей за ўсё прычыны недахопаў не падсякаюцца, каб усё негатыўнае адразу ж засыхала на корані.* «Звязда». **ЗАСОХНУЦЬ НА КОРАНІ**. *Зак.* — *Так то яно так, — сказаў Пракаповіч, — але вам трэба на нешта рашацца. Бо засохнеце на корані.* Радкевіч.

*ЗАСЯЧЫ* • **ЗАСЯЧЫ <САБЕ> НА НОСЕ**. Гл зарубіць.

*ЗАТАІЦЬ* • **ЗАТАЇ́ЦЬ (СТАЇ́ЦЬ) ДЫХА́ННЕ**. *Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Прыціхнуць у вялікім напружанні, здзіўленні і пад. *Не, Мінск не апусцеў, як здавалася на першы погляд у пачатку акупацыі. Ён толькі затаіў дыханне.* Новікаў. *[Хірт:] У гэтыя цяжкія для нас дні свет затаіў дыханне, чакае, што будзе далей пад Масквой...* Маўзон. *Мы яшчэ доўга, затаіўшы дыханне, слухалі, што робіцца каля нас.* Няхай. *Стаіўшы дыханне, выслухалі мы словы суровай праўды.* Шамякін. *[Шура] круціў за рычажкі, а ўсе, стаіўшы дыханне, чакалі, калі пачнецца перадача.* Навуменка.

*ЗАТАНЦАВАЦЬ* • **ЗАТАНЦАВАЦЬ ПАД ДУДКУ** *чыю, каго.* Гл. заскакаць.

*ЗАТКНІ* • **ЗАТКНІ́ ГА́ЎКАЛА (ХАЙЛО́, ХАЛЯ́ВУ)**! *Зак. Праст. Груб.* Ужыв. пры (адсутным) дзейн. са знач. асобы. Замоўкні. *[Банкір:] Не прыставай. [Шусцік:] Не саромейся, тут усе свае. [Банкір:] Заткні гаўкала, кажу.* Крапіва. *[Кацярына:] Не гнявi бога, Піліп! За грахі твае ён пакараў нас! [Піліп:] Заткні хайло!.. Знайшла месца.* Шамякін. — *Маглі б, зразумела, абслужыць васпана па вышэйшай катэгорыі, але... — Ладна, заткні халяву...* Місько.

*ЗАТКНУЦЬ* • **ДУШУ́ ЗАТКНУ́ЦЬ** *чым. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Закусіць, заесці што-н. выпітае. *[Скіба:] Ну, за такіх, як ваш Даніла, [вып'ем]. [Дзед Бадыль:] Ды ўжо ж, калі так наважылі... Падай, унучка, чым душу заткнуць.* Крапіва. *Стась падышоў да стала, паставіў паўлітэрку.., папрасіў: «Пашукай, Надзя, чым душу заткнуць»...* Сіняўскі.

**ЗАТКНУЦЬ ГОРЛА** *каму, каго.* Гл. затыкаць.

**ЗАТКНУЦЬ ДЗІРКІ** *кім, чым, у чым, дзе.* Гл. затыкаць.

**ЗАТКНУ́ЦЬ ЗА ПО́ЯС** *каго. Зак. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці (рэдка) неадуш. прадмета. Перасягнуць, перавысіць у чым-н. **Сін.**: даць фору *каму*; наставіць нос *каму*; падцерці нос *каму*. *Валодзя быў хлопец такі, што адарві ды падай: ён і ў танцы, ён і ў пяшчотах, і ў гарачых, як прысак, словах — ва ўсім заткнуў за пояс ціхмянага Болеся.* Сабаленка. *Вось і жанчына, а любога хлопца за пояс заткне!* Ніканові́ч. *Багацце маючы такое, раўні не знаеш ты ў цане. На рынак выйшаўшы, за пояс Сібір Амерыку заткне.* Непачаловіч.

**ЗАТКНУЦЬ РОТ** *каму. Зак. да* **ЗАТЫКАЦЬ РОТ** *каму.*

*ЗАТЛУМІЦЬ* • **ЗАТЛУМІЦЬ ГАЛАВУ** *каму.* Гл. задурыць.

*ЗАТОЕНЫМ* • **З ЗАТОЕНЫМ ДЫХАННЕМ.** Гл. дыханнем.

*ЗАТРЭСЛІСЯ* • **ПАДЖЫЛКІ ЗАТРЭСЛІСЯ** *ў каго.* Гл. паджылкі.

*ЗАТУМАНІЦЬ* • **ЗАТУМАНІЦЬ ГАЛАВУ** *каму. Зак. да* **ТУМАНІЦЬ ГАЛАВУ** *каму.*

*ЗАТЫКАЙ* • **ХО́ЦЬ <ТЫ́> ВУ́ШЫ ЗАТЫКА́Й.** *Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм.* Немагчыма слухаць што-н. (непрыемнае, бязладнае і пад.). *[Марыля:] Пішчэць толькі на скрыпачцы, ды і ўся з цябе тут рада і парада! Як цяпер во пішчыш ды пішчыш, хоць вушы затыкай.* Купала. *Розныя гамонкі... А з усіх галасоў такая каша, што хоць ты вушы затыкай.* Калюга. *І хутка пачалася такая страляніна, што хоць ты вушы затыкай.* Лынькоў.

*ЗАТЫКАННЕ* • **ЗАТЫКА́ННЕ ДЗІ́РАК** <*у чым*>. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Ліквідаванне якіх-н. недахопаў, прагалаў у чым-н.

**ЗАТЫКА́ННЕ РО́ТА (РАТО́Ў).** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Праст. Неадабр.* Забарона свабодна выказваць свае думкі. **Сін.**: зацісканне рота.

*ЗАТЫКАЦЬ* • **ЗАТЫКА́ЦЬ ГО́РЛА (ГЛО́ТКУ)** *каму, каго. Незак. Праст. Груб.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** Прымушаць замоўкнуць каго-н., не даваць гаварыць каму-н. **Сін.**: забіваць дух *каму*; закрываць рот *каму*; замазаць рот *каму*; затыкаць рот *каму*; наступаць на язык *каму*; павесіць замок на рот *каму*; укараціць язык *каму;* язык завязаць *каму.* **ЗАТКНУЦЬ ГОРЛА (ГЛОТКУ)** *каму, каго. Зак. Журавінка не прыслухоўваўся, што баба гаварыла, ён сваё думаў: «Ну вот, адной заткнуў горла...»* Лобан. *[Жыгліцкая:] Каб на каго другога нарвалася, дык хутка навучыў бы, як шанаваць матку, сумеў бы, як заткнуць жонцы глотку.* Козел.

**2.** <*чым*>. Улагоджваць, задобрываць каго-н. **ЗАТКНУЦЬ ГОРЛА (ГЛОТКУ)** *каму, каго. Зак. Падрос крыху Дзяніс. Стаў браць яго бацька сабе на падмогу. Але і ўдвух ніяк не могуць заткнуць горла сваім «дабрадзеям».* Крапіва. *Багаты кум заткне глотку беднага кума тым, што дасць яму каня на дзень, каб гной вывозіць на поле.* Бядуля. *— То праўда гэта, што будуць забіраць зямлю? — Можа быць, што праўда. Папоўшчыну спярша забяруць. Можа, ёю горла заткнуць.* Лобан.

**ЗАТЫКА́ЦЬ ДЗІ́РКІ** *кім, чым, у чым, дзе. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Спехам ліквідоўваць няхватку, недахопы ў чым-н. **Сін.**: залатаць дзіркі *кім, чым, у чым. Старыя салдаты гавораць — не трэба ісці ў такія пісары. У час наступлення, калі не хапае людзей, імі затыкаюць дзіркі...* Навуменка. *[Шпіцу] дапамагала цэлая хеўра былых ваяк кайзера, якімі Гітлер затыкаў дзіркі, каб не браць з фронту маладзейшых.* Петрашкевіч. **ЗАТКНУЦЬ ДЗІРКІ** *кім, чым, у чым, дзе. Зак. Ніякім прачэсваннем тылу Гітлер не заткне дзірак на фронце.* Крапіва.

**ЗАТЫКА́ЦЬ РО́Т** *каму. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прымушаць замоўкнуць каго-н., не даваць гаварыць каму-н. **Сін.**: забіваць дух *каму*; закрываць рот *каму*; замазаць рот *каму*; затыкаць горла *каму, каго* (у 1 знач.); наступаць на язык *каму*; павесіць замок на рот *каму*; укараціць язык *каму*; язык завязаць *каму. Тым, хто ганьбіў, з шляху зводзіў, затыкаў хто людзям рот, заяўляем смела: — Годзе! Смецце выкінем за плот.* Астрэйка. *— Дай чалавеку сказаць! — Што ты яму рот затыкаеш?* Шамякін. **ЗАТКНУЦЬ РОТ** *каму. Зак. — Заткніце вы яму рот! — крычаў Крывёнак. — Заткніце!.. Ну!* Быкаў.

*ЗАТЫЧКА* • **<АД> ПУСТО́Й (ПАРО́ЖНЯЙ) БО́ЧКІ ЗАТЫ́ЧКА.** *Вык. Разм. Неадабр.* Няўмелы, няўдалы чалавек, з якім ніхто не лічыцца. *Быць затычкай пустой бочкі — сорам вольнай грамадзе!* Купала. *— Бачыў, як Бузука паважаюць, — махае пугаю вет-*

*фельчар, — не ад пустой бочкі затычка. Напішы [пра гэта]! Толькі праўду пішы...* Шырко.

**ЗАТЫ́ЧКА (ЗА́ТЫЧКА) ВА ЎСЕ́ ДЗІ́РКІ.** *Мн. не ўжыв. Часцей у знач. вык. Разм. Неадабр.* Той, кім часта замяняюць, падмяняюць іншых. *У кабінет, запыхаўшыся, уляцеў Дымка. — Дымка сюды, Дымка туды. Затычка ва ўсе дзіркі... — Нічога не зробіш. Людзей не хапае.* Прокша.

*ЗАЎТРА* • **НЕ СЁННЯ-ЗАЎТРА.** Гл. сёння.

*ЗАЎТРАШНІ* • **ЗАЎТРАШНІ ДЗЕНЬ.** Гл. дзень.

*ЗАХАДЗІЛІ* • **МУРАШКІ ЗАХАДЗІЛІ ПА ЦЕЛЕ** *у каго, каго, чым.* Гл. мурашкі.

*ЗАХАДЗІЦЬ* • **ЗАХАДЗІЦЬ ХОДЫРАМ.** Гл. хадзіць.

*ЗАХВАРЭЦЬ* • **ЗАХВАРЭ́ЦЬ НА ПА́НА.** *Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачаць весці сябе высакамерна, фанабэрыста, выяўляючы нечаканыя звычкі, імкненні да роскашы і пад. **Сін.**: задраць нос; задраць хвост; закапыліць нос; падняць хвост; распусціць <павіны> хвост. *Нешта ты рана захварэў на пана.* Барадулін. *Бач, захварэў на пана... Няма таго, каб аддаць дабрыдзень, з людзьмі па-людску паздароўкацца...* Аношкін. *[У гасцініцы] ёсць нават і нумары-адзіночкі, люксы, у адным з якіх на два дні пасяліўся Круглік: захварэў чалавек на пана, закарцела пажыць з выгодамі.* Масарэнка.

*ЗАХІСТАЛАСЯ* • **КРЭСЛА ЗАХІСТАЛАСЯ** *чыё, пад кім.* Гл. крэсла.

*ЗАХІСТАЎСЯ* • **ГРУНТ ЗАХІСТАЎСЯ** *пад кім.* Гл. грунт.
**ГРУНТ ЗАХІСТАЎСЯ ПАД НАГАМІ** *чыімі, у каго.* Гл. грунт.

*ЗАХОДАМ* • **ЗА АДНЫ́М ЗАХО́ДАМ.** *Акал. Разм.* Заадно, адначасова з чым-н. іншым (рабіць, зрабіць што-н.). **Сін.**: за адным махам; за адным разам; за адным швом. *— Пайшлі ў дом... — У мяне няма часу, Магдуся. — Падсілкуешся з дарогі, і пагаворым за адным заходам.* Пальчэўскі. *Гаварыў найбольш Малінец, а ён калі пачынаў гаварыць, дык за адным заходам паспяваў разграміць і польскіх магнатаў, і англійскіх кансерватараў, і рэлігію з забабонамі, і бездарожжа.* Асіпенка.

*ЗАХОДЗІЦЦА* • **СЭРЦА ЗАХОДЗІЦЦА** *у каго.* Гл. сэрца.

*ЗАХОДЗІЦЬ* • **ДАЛЁКА ЗАХО́ДЗІЦЬ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Выходзіць за межы звычайнага, пераступаць граніцы дазволенага. **ДАЛЁКА ЗАЙСЦІ.** *Зак. Залескі зразумеў, што далёка зайшоў. Ён не хацеў ад камбрыга пачуць: «Я вамі не задаволены», што азначала ў лепшым выпадку атрымаць праборку.* Гурскі. *[Ягор Максімавіч:] Цікава, як яна тлумачыць гэты свой звышсучасны ўчынак? Якімі матывамі? [Дзімка:] Не думала, што так далёка зойдзе. Недарэчны выпадак.* Матукоўскі. *Ён, Глеб, першы адчуў, што ўсё зайшло далёка, і аднойчы прапанаваў Лізе пайсці ў ЗАГС і аформіць тое, што ў іх было.* Сачанка. — *Чаму ж ты мне раней нічога не сказала? — Не думала, што так далёка зойдзе... — Што ж цяпер рабіць?* Корбан.
**ЗАХО́ДЗІЦЬ У ТУПІ́К.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Аказвацца ў цяжкім, бязвыхадным становішчы. **Сін.**: пападаць у пераплёт; папасціся ў нерат <ні ўзад ні ўперад>; трапляць у пастку; трапляць у тупік. *Рабочыя страцілі веру да лідэраў. І не ведалі, што ім рабіць. Зайшлі ў тупік...* Гарэцкі. **ЗАЙСЦІ Ў ТУПІК.** *Зак. Між тым пошукі нафты зайшлі ў тупік, і нехта павінен быў пакласці канец той няпэўнасці, што склалася ў канторы разведачнага бурэння...* Асіпенка.

**ЗАХОДЗІЦЬ У ДУШУ** *каго, чыю.* Гл. уваходзіць.
**РОЗУМ ЗА РОЗУМ ЗАХОДЗІЦЬ** *у каго.* Гл. розум.

*ЗАХОДЗЯЦЬ* • **ШАРЫКІ ЗА РОЛІКІ ЗАХОДЗЯЦЬ** *у каго.* Гл. шарыкі.

*ЗАХОЧА* • *Як* **ЗАХОЧА ЛЕВАЯ НАГА** *каго, чыя.* Гл. нага.

*ЗАЦІСКАННЕ* • **ЗАЦІСКА́ННЕ РО́ТА.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Прымушэнне не гаварыць што-н. нежаданае. **Сін.**: затыканне рота. *Не подласць, не справядлівасць, не заціскание рота, не здрада Алёнкі былі самымі жахлівымі ў гэтай гісторыі.* Караткевіч.

*ЗАЦІСКАЦЬ* • **ЗАЦІСКАЦЬ РОТ** *каму.* Гл. закрываць.

*ЗАЦІСНУЦЬ* • **ЗАЦІСНУЦЬ РОТ** *каму. Зак. да* **ЗАЦІСКАЦЬ РОТ** *каму.*

*ЗАЦЯГВАЦЬ* • **ЗАЦЯ́ГВАЦЬ (ПАДЦЯ́ГВАЦЬ) ПАЯСЫ́.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Адчуваць вострую нястачу, жыць у крайняй беднасці. **Сін.**: біцца як рыба аб лёд; свістаць у кулак. *З скаромным праца йдзе спарней, і сала з'еў бы я кусок, ды абагулілі свіней, і вось — падцягвай пасок.* Крапіва. **ЗАЦЯГНУЦЬ (ПАДЦЯГНУЦЬ) ПАЯСЫ.** *Зак.*

*ЗАЦЮКАНЫ* • **ЗАЦЮКАНЫ АПОСТАЛ.** Гл. апостал.

*ЗАЦЯГНЕШ* • **<І> НА ВЯРО́ЎЦЫ (ЛАНЦУГУ́) НЕ ЗАЦЯ́ГНЕШ** *каго куды. Зак. Часцей у 2-й ас. Часцей у абаг.-асаб. знач. Разм.* Сілай, просьбамі, перакананнем і пад. не прымусіш каго-н. аказацца дзе-н. **Сін.**: калом не загоніш *каго куды*; і пернікам не заманіш *каго, куды. [Жамейка:] А паліцаяў туды і на вяроўцы не зацягнеш. Дрыгва там.* Шушкевіч. *У такі атрад я не пайду. На вяроўцы не зацягнеце...* Навуменка. *І кляўся-прысягаўся [Плахінскі], што больш туды яго ніхто і на вяроўцы не зацягне.* Гарэцкі. *Моладзі ў клубе павінна перш за ўсё быць цікава. А калі паселіцца тут нудота, дык і на ланцугу туды нікога не зацягнеш.* «Маладосць».

*ЗАЦЯГНУЦЬ* • **ЗАЦЯГНУЦЬ ПАЯСЫ.** *Зак. да* **ЗАЦЯГВАЦЬ ПАЯСЫ.**

*ЗАЦЯЦЬ* • **ЗАЦЯ́ЦЬ РУ́КІ** *за што, дзе. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, часцей у адмоўн. ск. са словамі *няма, не было, не мець* і пад. Заняцца якой-н. карыснай працай як сродкам для існавання. **Сін.**: зачапіць рукі *за што*; прыкласці рукі *да чаго, дзе. [Сымон:] Я думаю! Гэта ж не жартачкі! — ад усяго адпрэчылі, і рук няма за што заняць. Кожны з розуму сойдзе.* Купала. *Што ж было рабіць малому? Рукі дзе яму заняць? Не йсці ж з бацькам жабраваць, здароваму, маладому.* Колас. — *Няхай яна не дажджэ, гэтая работа. Вельмі ж цяжка. — Але ж заработак, сынок, не той. Дый выўчышся, рукі можна было б за што заняць.* Мурашка. *Можа быць, што за гэтыя грошы бацька, не маючы дома за што рук заняць, рашыўся шукаць шчасця ў Сібіры.* Вітка.

*ЗАЧАПІЦЬ* • **ЗАЧАПІ́ЦЬ РУ́КІ** *за што. Разм. Зак.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Заняцца чым-н., знайсці які-н. занятак для сябе. **Сін.**: заняць рукі *за што, дзе*; прыкласці рукі *да чаго, дзе. Як яны [вопыт і ўмельства] прыйдуць, калі я от сеў за стол і не ведаю, за што зачаплю рукі.* Сабаленка. — *Каровы не хочаш збываць? — Не хачу. Пайду на пенсію, за што рукі зачаплю?* Навуменка. *[Андрэй] стаіць на двары на ветры і не ведае, за што зачапіць рукі. Чакае, пакуль з хаты выйдзе Балюта і загадае.* Пташнікаў. *Прыйшла я дамоў з могілак і не ведаю, за што рукі зачапіць.* Кудравец.
**<І> ПАЛЬЦАМ НЕ ЗАЧАПІЦЬ** *каго.* Гл. крануць.

*ЗАЧАРАВАНАЕ* • **ЗАЧАРАВАНАЕ КОЛА.** Гл. кола.

*ЗАЧМУРЫЦЬ* • **ЗАЧМУРЫЦЬ ГАЛАВУ** *каму.* Гл. задурыць.

*ЗАЧЫНЕНЫ* • **ДЗВЕРЫ ЗАЧЫНЕНЫ** *каму, перад кім.* Гл. дзверы.

*ЗАЧЫНЕНЫХ* • **ПРЫ ЗАЧЫНЕНЫХ ДЗВЯРАХ**. Гл. дзвярах.

*ЗАЧЫНІЎСЯ* • **СВЕТ ЗАЧЫНІЎСЯ** *каму, для каго.* Гл. свет.

*ЗАЧЫНІЦЬ* • **ЗАЧЫНІ́ЦЬ ДЗВЕ́РЫ З ТАГО́ БО́КУ**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пакінуць памяшканне. Як патрабаванне, каб хто-н. зараз жа выйшаў адкуль-н. *Настаўнік смела ступіў крок наперад і спакойна, але рашуча прамовіў: — Зачыніце, калі ласка, пане аб'ездчык, дзверы з таго боку!* С.Александровіч. *Я вас папрашу, як кажуць, дзверы з таго боку...* Гаўрылкін. *— Дык разумнейце ж хутчэй!.. — Зачыніце дзверы з таго боку! — раўнуў на іх брыгадзір, і яго паслухаліся.* Быкаў.

*ЗАЯВІЦЦА* • **З ЯКІ́МІ ВАЧА́МІ ЗАЯВІ́ЦЦА** *да каго, куды. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Як павесці сябе пры сустрэчы з кім-н. з-за пачуцця сораму, няёмкасці, збянтэжанасці і пад. *— Што ты надумала? — спытаў Алесь, працягваючы руку. — З якімі вачыма я заяўлюся ў ваш дом?* Новікаў.

*ЗАЯЗДЖАЮЦЬ* • **ШАРЫКІ ЗА РОЛІКІ ЗАЯЗДЖАЮЦЬ** *у каго.* Гл. шарыкі.

*ЗАЯЧАЯ* • **ЗАЯЧАЯ ДУША**. Гл. душа.

*ЗАЯЧЫ* • **НА ЗАЯЧЫ СКОК**. Гл. скок.

*ЗБАВЕННЯ* • **ЯКАР ЗБАВЕННЯ**. Гл. якар.

*ЗБАЛЕЦЬ* • **ЗБАЛЕЦЬ ДУШОЙ** *за каго, за што, па кім, па чым.* Гл. балець.
**ЗБАЛЕЦЬ СЭРЦАМ** *за каго, за што, па кім, па чым.* Гл. балець.

*ЗБАЎ* • **БОЖА ЗБАЎ**. Гл. божа.

*ЗБІВАЦЦА* • **ЗБІВА́ЦЦА З ДАРО́ГІ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачынаць весці няправільны, заганны спосаб жыцця, кепска паводзіць сябе. **Сін.**: апускацца на дно; збівацца з панталыку (у 2 знач.); збівацца з тропу (у 2 знач.); збівацца з толку (у 2 знач.); ісці па крывой сцежцы; каціцца ўніз (у 1 знач.); пакаціцца (паляцець) пад адхон (у 1 знач.); сыходзіць з рэек (у 2 знач.). *Вы ж давер нясіце ў сэрцы, не збівайцеся з дарог, для таго, каб не паперцы — людзям кожны верыць мог.* Непачаловіч. **ЗБІЦЦА З ДАРОГІ**. *Зак. [Данута:] Дзякую за шчырасць... Ведаеце, мне таксама цяжка. Я збілася з дарогі...* Валасевіч.

**ЗБІВА́ЦЦА З КАПЕ́ЙКІ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Заставацца без грошай. *Нагуляецца Ліза з Ральфам, а далей Лізін шлях — у магазін. Па грузінскае віно. Не было такога выпадку, каб яна збівалася з капейкі.* Лобач. **ЗБІЦЦА З КАПЕЙКІ**. *Зак. — Пётрык, — стаў на дарозе Сцяпан. Загаварыў рахмана: — Пазыч з паўрубля. Зусім збіўся з капейкі.. Адраблю ўвесну.* Далідовіч. *Я з капейкі збіўся, зарабіць я рад. — Ці няма работы? — «Асадзі назад!»* Колас.

**ЗБІВА́ЦЦА З НАГІ́**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даходзіць да замяшання, разгубленасці; заблытвацца. **Сін.**: губляць галаву (у 1 знач.); збівацца з панталыку (у 1 знач.); збівацца з толку (у 1 знач.); збівацца з тропу (у 1 знач.). **ЗБІЦЦА З НАГІ**. *Зак. «Ну, а факультэт, гэта што такое?» Тут і сам Сцёпка з нагі збіўся, а бацька заўважыў: — Вось пайшлі словы — і мазгі на іх скруціш!* Колас. *Кожны камсамолец вызначыў сваё месца ў барацьбе за ўраджай, і наша задача — памагчы яму не збіцца з нагі.* Кухараў.

**ЗБІВА́ЦЦА З НО́Г**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна стамляцца, змучвацца, вымотвацца (ад беганіны, клопатаў). **Сін.**: валіцца з ног <*ад чаго*>; выбівацца з сіл (у 1 знач.); высалапіць язык; заставацца без ног; зямлі не чуць пад сабой (у 2 знач.); ледзь ногі цягаць (у 1 знач.); ледзь стаяць на нагах (у 1 знач.); ледзь шоры цягаць; на нагах не трымацца; не чуць ног; не чуць ні рук ні ног. *[Поля:] Калі вы з ёй хварэеце — я з ног збіваюся.* Шамякін. **ЗБІЦЦА З НОГ**. *Зак. Паліцыя, эсэсаўцы збіліся з ног, шукаючы патаемных пуцін, па якіх разыходзіліся газеты.* Лынькоў. *Макар, там з ног збіліся, шукаючы цябе.* Сабаленка.

**ЗБІВА́ЦЦА З ПАНТАЛЫ́КУ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** Даходзіць да замяшання, разгубленасці; заблытвацца. **Сін.**: губляць галаву (у 1 знач.); збівацца з нагі; збівацца з толку (у 1 знач.); збівацца з тропу (у 1 знач.). *Стройна апрацаваныя планы ламаліся пад націскам жывое сапраўднасці. Ганна збівалася з панталыку.* Гартны. **ЗБІЦЦА З ПАНТАЛЫКУ**. *Зак. Я не меў на тое ўліку, трохі збіўся з панталыку, ды к святочнаму я дню немцам падкладу агню.* Астрэйка.

**2.** *Неадабр.* Пачынаць весці няправільны, заганны спосаб жыцця, кепска паводзіць сябе. **Сін.**: апускацца на дно; збівацца з дарогі; збівацца з толку (у 2 знач.); збівацца з тропу (у 2 знач.); ісці па крывой сцежцы; каціцца ўніз (у 1 знач.); пакаціцца (паляцець) пад адхон (у 1 знач.); сыходзіць з рэек (у 2 знач.). **ЗБІЦЦА З ПАНТАЛЫКУ**. *Зак. [Мікола:] Чорт яго ведае, як гэта здарылася... Працаднём гэтым ён [Пытляваны] мяне ашаламіў... А тут яшчэ ордэнам стаў спакушаць. Ці доўга з панталыку збіцца.* Крапіва.

**ЗБІВА́ЦЦА З ТО́ЛКУ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** Даходзіць да замяшання, разгубленасці; заблытвацца. **Сін.**: губляць галаву (у 1 знач.); збівацца з нагі; збівацца з панталыку (у 1 знач.); збівацца з тропу (у 1 знач.). *Выйдзе [Сымон] уночы. Ціш на дварэ. Раптам як закукарэкае, дык саб'е з панталыку ўсіх пеўняў. Яны пачынаюць за ім кукарэкаць не ў пару. Разам з імі збіваюцца з толку і мужыкі і панскія чаляднікі.* Бядуля. **ЗБІЦЦА З ТОЛКУ**. *Зак.*

**2.** *Неадабр.* Пачынаць весці няправільны, заганны спосаб жыцця, кепска паводзіць сябе. **Сін.**: апускацца на дно; збівацца з дарогі; збівацца з панталыку (у 2 знач.); збівацца з тропу (у 2 знач.); ісці па крывой сцежцы; каціцца ўніз (у 1 знач.); пакаціцца (паляцець) пад адхон (у 1 знач.); сыходзіць з рэек (у 2 знач.). **ЗБІЦЦА З ТРОПУ**. *Зак. Міхась начытаўся, наслухаўся пра далікацтва. Во і не ўбачыў, як жонка збілася з толку.* Асіпенка.

**ЗБІВА́ЦЦА З ТРО́ПУ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** Даходзіць да замяшання, разгубленасці; заблытвацца. **Сін.**: губляць галаву (у 1 знач.); збівацца з нагі; збівацца з панталыку (у 1 знач.); збівацца з толку (у 1 знач.). **ЗБІЦЦА З ТРОПУ**. *Зак. А хлопцы проста збілісь з тропу і ў нейкім страсе і ў захопу на дзядзьку-кухара глядзелі, як бы яны аслупянелі.* Колас. *— Га? Што? — добра яшчэ не раскурстаўся, збіўшыся з тропу, па-вясковаму пытаўся ваяка Заблоцкі.* Калюга.

**2.** *Неадабр.* Пачынаць весці няправільны, заганны спосаб жыцця, кепска паводзіць сябе. **Сін.**: апускацца на дно; збівацца з дарогі; збівацца з панталыку (у 2 знач.); збівацца з толку (у 2 знач.); ісці па крывой сцежцы; каціцца ўніз (у 1 знач.); пакаціцца (паляцець) пад адхон (у 1 знач.); сыходзіць з рэек (у 2 знач.). *— Даруйце! — прасіўся Пясецкі. — Збіўся з тропу. Выпраўлю памылку.* Гурскі. **ЗБІЦЦА З ТРОПУ**. *Зак.*

*ЗБІВАЦЬ* • **ЗБІВА́ЦЬ З ДАРО́ГІ** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Уздзейнічаць якім-н. чынам, схіляць да адыходу ад ранейшага, штурхаць на што-н. нядобрае. **Сін.**: збіваць з панталыку *каго* (у 2 знач.); збіваць

з толку *каго* (у 2 знач.); зводзіць з поля *каго*; зводзіць з тропу *каго*; зводзіць са свету *каго* (у 2 знач.); круціць галаву *каму* (у 2 знач.). *[Дабрагост:] Па мне, дык лепей бы, каб стала доктаркай, але збіваць з дарогі — не хачу.* Гілевіч. **ЗБІЦЬ З ДАРОГІ** *каго. Зак. Дзядзечка, усё скажу, што ведаю. Збілі з дарогі мяне, дурня.* Колас. *Выбралі калінінцы за старшыню Івана Клакевіча, а нейкая цётка тут жа, на сходзе, кажа: «Ну што ж, сынок, мы будзем працаваць, а ты глядзі, каб і цябе не збілі з дарогі чарачка ды Людачка, як нашага Марцуля...»* Брыль.

**ЗБІВА́ЦЬ З ПАНТАЛЫ́КУ** *каго. Незак. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Выклікаць замяшанне, разгубленасць; заблытваць. **Сін**.: збіваць з толку *каго* (у 1 знач.); збіваць з тропу *каго*; збіваць з трыбу *каго*; каламуціць ваду (у 1 знач.); кружыць галаву *каму* (у 2 знач.); круціць мазгі *каму* (у 2 знач.); ускружыць галаву *каму* (у 2 знач). *[Буйкевіч:] Пачакай, Максім! Не збівай з панталыку...* Макаёнак. **ЗБІЦЬ З ПАНТАЛЫКУ** *каго. Зак. Вядома, ксёндз не пераканаў мяне, але збіў з панталыку. Я не меў аргументаў адбівацца.* Карпюк. *Калі пераставаў дождж і трохі цяплела, збітыя з панталыку бессняговем і ручаямі, вароны дружна, з карканнем пачыналі паднаўляць свае гнёзды — відаць, думалі, што прыйшла ўжо вясна.* Сіпакоў.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Уздзейнічаючы якім-н. чынам, схіляць да адыходу ад ранейшага, штурхаць на што-н. нядобрае. **Сін**.: збіваць з дарогі *каго*; збіваць з толку *каго* (у 2 знач.); зводзіць з поля *каго*; зводзіць з тропу *каго*; зводзіць са свету *каго* (у 2 знач.); круціць галаву *каму* (у 2 знач.). *[Дзед Бадыль:] З старасцянкаю знюхаўся, а яна яго з панталыку збівае. Глядзі, сынок, каб ты праз яе сабакам не стаў!* Крапіва. **ЗБІЦЬ З ПАНТАЛЫКУ** *каго. Зак.*

**ЗБІВА́ЦЬ З ТО́ЛКУ** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Выклікаць замяшанне, разгубленасць; заблытваць. **Сін**.: збіваць з панталыку *каго* (у 1 знач.); збіваць з тропу *каго*; збіваць з трыбу *каго*; каламуціць ваду (у 1 знач.); кружыць галаву *каму* (у 2 знач.); круціць мазгі *каму* (у 2 знач); ускружыць галаву *каму* (у 2 знач.). *А ты ў сваёй злосці кажаш няпраўду. І не збівай з толку хлопца. Ды ты яго і не саб'еш.* Арабей. **ЗБІЦЬ З ТОЛКУ** *каго. Зак. Ну, цяпер я ўжо добра ведаю, што ворагу — капут... Прайграў вайну... Цяпер мяне ніхто з толку не саб'е...* Пестрак.

**2**. *Неадабр.* Уздзейнічаючы якім-н. чынам, схіляць да адыходу ад ранейшага, штурхаць на што-н. нядобрае. **Сін**.: збіваць з дарогі *каго*; збіваць з панталыку *каго* (у 2 знач.); зводзіць з поля *каго*; зводзіць з тропу *каго*; зводзіць са свету *каго* (у 2 знач.); круціць галаву *каму* (у 2 знач.). *— Толькі ты не збівай цяпер з толку Галі, не ўмешвайся ў іх жыццё, — просіць Барыс. — Няхай яны ўжо цяпер хоць жывуць шчасліва...* Скрыган. **ЗБІЦЬ З ТОЛКУ** *каго. Зак.*

**ЗБІВА́ЦЬ З ТРО́ПУ** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Выклікаць замяшанне, разгубленасць; заблытваць. **Сін**.: збіваць з панталыку *каго* (у 1 знач.); збіваць з толку *каго* (у 1 знач.); збіваць з трыбу *каго*; каламуціць ваду (у 1 знач.); кружыць галаву *каму* (у 2 знач.); круціць мазгі *каму* (у 2 знач.); ускружыць галаву *каму* (у 2 знач.). *Зіхатлівая прыгажосць гэтай дзяўчыны і незвычайная яе адвага ў гэтым іх болей чым складаным становішчы збівалі [Івана] з тропу.* Быкаў. **ЗБІЦЬ З ТРОПУ** *каго. Зак. Лукашык хацеў спачатку далажыць камбату па ўсіх правілах, але веставы сваім сыкам збіў яго з тропу.* Дамашэвіч. *Збілі з тропу Савосту росныя раніцы, змрочныя вечары.* Калюга.

**ЗБІВА́ЦЬ З ТРЫ́БУ** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Выклікаць замяшанне, разгубленасць; заблытваць. **Сін**.: збіваць з панталыку *каго* (у 1 знач.); збіваць з толку *каго* (у 1 знач.); збіваць з тропу *каго*; каламуціць

ваду (у 1 знач.); кружыць галаву *каму* (у 2 знач.); круціць мазгі *каму* (у 2 знач.); ускружыць галаву *каму* (у 2 знач.). **ЗБІЦЬ З ТРЫБУ** *каго. Зак. Накрычаць, насварыцца на сына, спагнаць сваю бацькоўскую злосць хацеў Юстап Заблоцкі, але збіў яго з трыбу Савоста сваім пагардлівым, зморклівым такім абыходжаннем.* Калюга. *Пракоп перш — не то не пазнаў сына, не то ніякава[та]сць ад раптоўнасці збілі з трыбу старога — глядзеў на Гіляра нерміргаючымі вачыма.* Баранавых.

*ЗБІРАЙ* • **ХО́ЦЬ <ТЫ> ІГО́ЛКІ ЗБІРА́Й**. *Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм.* Вельмі відно, светла (дзе-н.). **Ант.**: хоць вока выкалі (у 1 знач.); хоць <ты> на воўка лезь. — *На вуліцы хоць іголкі збірай, — гаварыў ён. — У такую ноч мне хочацца некуды ісці — хоць на край свету.* Скрыган. *Гэта жахліва! Такая светлая ноч. У стэпе хоць ты збірай іголкі, а тут, на дарозе, танкі.* Быкаў. *Каб радасць, якая гарэла ў Віктаравым сэрцы, магла свяціцца, то ў яго пакоі і далёка навокал было б цяпер — хоць іголкі збірай.* Арабей.

*ЗБІРАЦЦА* • **ЗБІРА́ЦЦА З ДУ́МКАМІ**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Засяроджвацца на чым-н., спрабуючы абдумаць, рашыць што-н. **САБРАЦЦА З ДУМКАМІ**. *Зак. Цяпер кагадзе прачытаў твой ліст і не магу ў гэты момант сабрацца з думкамі.* Чорны. *Генрых наважыўся абурыцца, запярэчыць, але Тодыеў ужо сабраўся з думкамі і спакойна прадаўжаў: — Паслухайце. Раскажу ўсё па парадку...* Гроднеў. У *мяне яшчэ ў запасе паўгадзіны, і я, ідучы ў школу, хоць з думкамі збяруся.* Палтаран.

**ЗБІРА́ЦЦА З ДУ́ХАМ**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пераадольваючы страх, няўпэўненасць і пад., адважвацца на што-н. **Сін.**: збірацца з сіламі (у 2 знач.); набірацца духу. **САБРАЦЦА З ДУХАМ**. *Зак. [Ванда:] Хочаш ведаць усю праўду? Слухай! Толькі збярыся з духам, бо [я]шчэ памрэш! Ну, гатовая?* Карпюк. *«Хто гэта?» Людміла сабралася з духам. Што ж. Яна не будзе хлусіць, скажа, як ёсць. — Муж, — прагаварыла крыху холадна, але з пачуццём уласнай годнасці.* Арабей. *Іваноўскі сабраўся з духам, пераадолеў боль, баец падаў камандзіру лыжную палку, з дапамогай якой той нарэшце пераваліўся цераз бруствер.* Быкаў.

**ЗБІРА́ЦЦА З СІ́ЛАМІ (З СІ́ЛАЙ)**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Станавіцца мацнейшым. **Сін.**: набірацца сілы (у 1 знач.); убірацца ў пер'е (у 1 знач.); убірацца ў сілу (у 1 знач.). *Збіраючыся з сіламі, не вялі баёў і партызаны.* Шахавец. **САБРАЦЦА З СІЛАМІ (З СІЛАЙ)**. *Зак. Нам толькі трэба разварушыцца, з сіламі сабрацца, падняць народную ярасць...* Гурскі. *Хутка нашы шуганунь іх [акупантаў], толькі з сіламі збяруцца.* Пальчэўскі.

**2**. Пераадольваючы страх, няўпэўненасць і пад., адважвацца на што-н. **Сін.**: збірацца з духам; набірацца духу. **САБРАЦЦА З СІЛАМІ (З СІЛАЙ)**. *Зак. Ідучы босымі нагамі па мёрзлай зямлі, часта яна [Гапка] спатыкалася і, сабраўшыся з сілаю, адыходзіла далей.* Галубок. *Трэба было супакоіцца, сабрацца з сілаю, суняць сэрца ў грудзях, каб ударыць без промаху.* Быкаў.

*ЗБІРАЦЬ* • **ЗБІРА́ЦЬ (ЗДЫМА́ЦЬ) ВЯРШКІ́**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Браць сабе лепшае, выгаднае, апярэджваючы іншых. **Сін.**: знімаць пенкі. — *Хіба яна пасаромеецца? То такая хітрая, прывыкла ўсё вяршкі збіраць... — Гэта хто прывык вяршкі збіраць? Я прывыкла?.. Ды калі б у мяне коні былі такія, як у цябе, я і гаварыць бы не стала нічога.* Мележ. *Ну, а калі тое [асушанае] балота, як і поле, знясілее, то куды вы тады паедзеце здымаць вяршкі? От я пра што!* Палтаран. **САБРАЦЬ (ЗНЯЦЬ) ВЯРШКІ**. *Зак.*

Час **ЗБІРА́ЦЬ КАМЯНІ́**. *Незак. Кампанент безас. вык. Функц. не зам.* (Час, пара) сумеснымі намаганнямі прыводзіць у пэўны парадак што-н. раней разбуранае, раскіданае, занядбанае і пад. Часцей пра мастацтва ці міждзяржаўныя адносіны. *Як апавядаюць старажылы вёскі, са стратай касцёла і царквы многія мясцовыя жыхары страцілі былыя духоўныя і гістарычныя каштоўнасці. Дык настаў час збіраць камяні.* «Звязда».

*ЗБІЦЦА* • **ЗБІЦЦА З ДАРОГІ**. *Зак. да* **ЗБІВАЦЦА З ДАРОГІ**.
**ЗБІЦЦА З КАПЕЙКІ**. *Зак. да* **ЗБІВАЦЦА З КАПЕЙКІ**.
**ЗБІЦЦА З НАГІ**. *Зак. да* **ЗБІВАЦЦА З НАГІ**.
**ЗБІЦЦА З НОГ**. *Зак. да* **ЗБІВАЦЦА З НОГ**.
**ЗБІЦЦА З ПАНТАЛЫКУ**. *Зак. да* **ЗБІВАЦЦА З ПАНТАЛЫКУ**.
**ЗБІЦЦА З ТОЛКУ**. *Зак. да* **ЗБІВАЦЦА З ТОЛКУ**.
**ЗБІЦЦА З ТРОПУ**. *Зак. да* **ЗБІВАЦЦА З ТРОПУ**.

*ЗБІЦЬ* • **ЗБІЦЬ З ДАРОГІ** *каго. Зак. да* **ЗБІВАЦЬ З ДАРОГІ** *каго.*
**ЗБІЦЬ З ПАНТАЛЫКУ** *каго. Зак. да* **ЗБІВАЦЬ З ДАРОГІ** *каго.*
**ЗБІЦЬ З ТОЛКУ** *каго. Зак. да* **ЗБІВАЦЬ З ТОЛКУ** *каго.*
**ЗБІЦЬ З ТРОПУ** *каго. Зак. да* **ЗБІВАЦЬ З ТРОПУ** *каго.*
**ЗБІЦЬ З ТРЫБУ** *каго. Зак. да* **ЗБІВАЦЬ З ТРЫБУ** *каго.*
**ЗБІЦЬ РОГІ** *каму.* Гл. абламаць.

*ЗБЛЫТАНЫ* • **<УСЕ> КАРТЫ ЗБЛЫТАНЫ** *чые, каго.* Гл. карты.

*ЗБЛЫТАЦЬ* • **ЗБЛЫТАЦЬ <УСЕ> КАРТЫ** *каму, чые, каго.* Гл. блытаць.

*ЗБОКУ* • **ЗБО́КУ ПРЫПЁКУ (ПРЫПЁКА)**. *Прост.* **1**. *Акал.* Зусім недарэчы, недарэчна (быць, аказацца, знаходзіцца дзе-н. і інш.). — *Нашы людзі ўсюды, не шкадуючы сіл і энергіі, старанна працуюць!* — *«Правільна, — згадзіўся ў думках Чысцікаў, — а ты прымазаўся збоку прыпёку».* «Вожык». *Прыедзеш з жонкай да каго-небудзь у госці, а там тосты гавораць, чаркамі чокаюцца, а ты сядзіш збоку прыпёку, нібы жыхар з іншай планеты, і глытаеш кефір ці сыракваш...* Шахавец.
**2**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Зусім непатрэбны, лішні, чужы. **Сін.**: прышый кабыле хвост; прышый-прысцягай. — *Дык ведаем, чаму нас кліча камандуючы?* — *Цімчук пацінуў плячамі. — Увогуле, ён хоча бачыць цябе. Я тут збоку прыпёку...* Левановіч. *Ведаў я гэтыя конікі: спецыяльна называюць вуліцы старымі назвамі, каб дазнацца, карэнны ты або так, збоку прыпёку...* Караткевіч. *Гісторыя гэта такая, што пачынаць гаворку пра яе давядзецца з сябе, хоць я тут, як кажуць, збоку прыпёка...* Васілёнак.
**СТАЯЦЬ ЗБОКУ**. Гл. стаяць.

*ЗБОР* • **ЗБО́Р-ДРУЖЫ́НА**. *Мн. не ўжыв. Часцей вык. Разм.* Група людзей ці прадметаў, неаднародных па якіх-н. прыметах, якасцях. **Сін.**: збор-каляда. *«Акаўцы», калі і не вывучаць нават урока, усё роўна ўмеюць адказаць настаўніку. Яны ж не тое, што гэта самая збор-дружына 5 Б, або няхай сабе нават і 5 В.* Васілевіч. *«Бельгіец... Уцёк з нямецкай часці, прыстаў да нас. Партызаніць...» І тут збор-дружына!* Карпюк. *А хто ўсе гэтыя людзі ў камеры? Збор-дружына, не ведаюць адзін аднаго...* Міська. *У другой старане гэтаксама поўна розных збор-дружыны. Там і сена, і ячмень, канюшына, віка.* Калюга.
**ЗБО́Р-КАЛЯДА́**. *Мн. не ўжыв. Часцей вык. Разм.* Група людзей ці прадметаў, неаднародных па якіх-н. прыметах, якасцях. **Сін.**: збор-дружына. *Збор-дружына — зборышча*

*розных людзей, яшчэ дакладней, — збор-каляда...* Лужанін. *Гэты слоўнік — нейкая, кажучы ідыёмай, збор-каляда, кангламерат разнародных, неаднатыпных моўных адзінак, а часта і не моўных, а маўленчых, індывідуальна-аўтарскіх.* «Настаўн. газ.»

*ЗБОРЫ* • **У ЗБО́РЫ**. *У знач. вык. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У наяўнасці (быць). Пра ўсіх, хто павінен быць, хто павінен сабрацца. *Усе госці даўно былі ў зборы.., а губернатара ўсё не было.* Нёманскі. *[Ліда] прыйшла ўвечары, калі ўся яго сям'я была ў зборы.* Шамякін. *Азірнуўшыся, Барысаў убачыў, што ўсе камбаты і іх намеснікі былі ў зборы.* Дудо.

*ЗБРОЮ* • **ВАСТРЫЦЬ ЗБРОЮ**. Гл. вастрыць.

**СКЛАДВАЦЬ ЗБРОЮ**. Гл. складаць.

*ЗБРОЯЙ* • **БРАЗГАЦЬ ЗБРОЯЙ**. Гл. бразгаць.

*ЗБЫВАЦЬ* • **ЗБЫВА́ЦЬ З РУ́К**. *Незак. Разм.* **1.** *што.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прадаваць. **ЗБЫЦЬ З РУК** *што. Зак. [Лушка:] Збуду з рук агарод свой, карову, а печ табе перадам.* Макаёнак.

**2.** *каго, што.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Вызваляцца, адкарасквацца ад каго-, чаго-н. **Сін.**: збыць з галавы *што*; звальваць з плячэй *што*. **Ант.**: узвальваць на свае плечы *што*; узвальваць сабе на плечы *што*. **ЗБЫЦЬ З РУК** *каго, што. Зак. Тую работу, якая вымагала гэтай блізкасці, яны [Міхал і Зося] стараліся як мага хутчэй скончыць, збыць з рук.* Чорны. *Васіль неяк мітусліва, стараючыся не пазіраць у вочы, памагаў апранацца, праводзіў, знайшоў на вуліцы экіпажык, усадзіў яго [Алеся] і нават сам заплаціў наперад за праезд. Як кажуць, збыў з рук.* Далідовіч.

*ЗБЫТУ* • **НЕ ДАВАЦЬ ЗБЫТУ** *каму.* Гл. даваць.

*ЗБЫЦЬ* • **АБЫ́ ЗБЫ́ЦЬ З РУ́К**. *Акал. Разм. Неадабр.* Каб толькі адкараскацца ад чаго-н. *Кляновіч насупіўся і падумаў: «Яму абы збыць з рук. За зямлю, за яе ўраджайнасць ён не турбуецца».* Пестрак. *А толькі, заўважу вам, рамантуюць яны пагана. Абы з рук збыць, а вам трэба, каб трактар увесь год бегаў.* Асіпенка.

**ЗБЫ́ЦЬ З ГАЛАВЫ́** *што. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вызваліцца, пазбавіцца ад чаго-н. непрыемнага. **Сін.**: звальваць з плячэй *што*; збываць з рук (у 2 знач.). **Ант.**: узвальваць на свае плечы *што*; узвальваць сабе на плечы *што*. *Хацеў бы збыць бяду з галавы, каб згубіць ці знарок кінуць дзе ў якую нетру-балота, дык ратунку няма — услед назад варочаецца.* Калюга. *Ляўчук, збыўшы з галавы той клопат з балотам, цяпер трохі паспакайнеў...* Быкаў. *Маці правяла іх [хлопцаў] і ўздыхнула: — Яшчэ адзін боль збыла з галавы — бульба пераарана.* Камейша.

**ЗБЫЦЬ З РУК**. *Зак. да* **ЗБЫВАЦЬ З РУК**.

*ЗБЯЖЫЦЬ* • **У ЛЕС НЕ ЗБЯЖЫЦЬ**. Гл. уцячэ.

*ЗБЯРЭ* • **<І> КАСЦЕ́Й НЕ ЗБЯРЭ́ (НЕ ЗБЯРЭ́Ш)**. *Зак. Часцей ужыв. у 2-й і 3-й ас. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Будзе знішчаны, загіне. Часцей як пагроза. **Сін.**: <і> зубоў не збярэш. — *Мартын! а бадай ты сказіўся! — радасна азваўся дзед Талаш і кінуўся да Мартына Рыля, таго самага Мартына, што пагражаў канвойніку-легіянеру піхнуць яго так, што той і касцей не збярэ.* Колас. *[Вальдэмар:] На фронце асталіся часці, яшчэ верныя Духоніну. Ён іх і пашле на Піцер. [Нікаля:] Можа скончыцца тым, што Духонін і касцей сваіх не збярэ пад Піцерам.* Губарэвіч. *Ідзі з поля! Не пойдзеш — касцей не збярэш!..* Галавач.

*ЗБЯРЭШ* • **<І> ЗУБО́Ў НЕ ЗБЯРЭ́Ш (НЕ ПАЗБІРА́ЕШ).** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Будзеш знішчаны, загінеш ці атрымаеш вельмі моцны ўдар. Часцей як пагроза. **Сін.**: <і> касцей не збярэ. *Адчапіся! Бо як трэсну, то і зубоў не пазбіраеш.* Дунін-Марцінкевіч. *Ды ён табе як бразне — зубоў не збярэш. Я ведаю гэтага Курмышкавага каня.* Кулакоўскі.

*ЗВАДЫ* • **НІ ДА РАДЫ НІ ДА ЗВАДЫ.** Гл. рады.

*ЗВАЛІ* • **ПАМІНАЙ ЯК ЗВАЛІ.** Гл. памінай.

*ЗВАЛІЛАСЯ* • **<ЯК> ГАРА З ПЛЕЧ <ЗВАЛІЛАСЯ>** *у каго, з чыіх.* Гл. гара.

*ЗВАЛІЎСЯ* • **З НЕ́БА (З МЕ́СЯЦА) ЗВАЛІ́ЎСЯ (-ЛАСЯ, -ЛІСЯ).** *Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. *Звычайна ўжыв. у пытальных ск.* Не разумееш таго, што відавочна ўсім. **Сін.**: як з месяца зваліўся. *Ты што, з неба зваліўся? Парадку не ведаеш?* Карпаў. *— А што за камітэт такі? — Гэ! Ды ты што — з неба зваліўся! Камітэт — гэта наша з табой зараз начальства.* Дайнека. *Вы што, малады чалавек, з неба зваліліся? Прагнозу не чулі? Не сёння-заўтра галашчок зямлю скуе — на бульбу ўсіх кінулі..* Кусянкоў. *Малады хлопец, ані чорта не ведае. З месяца зваліўся ці што?* Шынклер.

**ЯК З МЕ́СЯЦА ЗВАЛІ́ЎСЯ (-ЛАСЯ, -ЛІСЯ).** *Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не разумееш таго, што відавочна ўсім. **Сін.**: з неба зваліўся. *Ну і дурань, наіўны дурань... Ты як з месяца зваліўся.* Асіпенка. *— Давайце нальём у бочкі вады ды прывязём... — Ты як з месяца зваліўся, — сказаў Віталь, — хто ж так каток залівае? Трэба, каб усюды аднолькава роўна, шлангам трэба, як у горадзе.* Саламаха.

**ЯК КАМЕНЬ З ПЛЯЧЭЙ ЗВАЛІЎСЯ** *ў каго.* Гл. камень.

**ЯК КАМЕНЬ З СЭРЦА ЗВАЛІЎСЯ** *ў каго.* Гл. камень.

**ЯК (НІБЫ́) З НЕ́БА ЗВАЛІ́ЎСЯ (СПА́Ў, УПА́Ў).** *Зак. М., ж., н.*; *адз. і мн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Зусім нечакана, раптоўна з'явіўся, узнік. **Сін.**: як з-пад зямлі вырас. *Вясёлая, гаваркая, прынадная дзяўчына як з неба звалілася разам з бацькам сваім, новапрызначаным леснікам.* Мележ. *Калі пераверсці на золата гэтыя савецкія чырвонцы, дык будзе іх цэлых трыццаць рублёў — мікалаеўскім золатам. Ну, а на панскія злоты — яшчэ ў чатыры столькі больш. Як з неба гэта звалілася...* Брыль. *І ў гэты час, зусім нечакана, як з неба спаў, — прыкаціў, нарэшце, дзядуля з Сібіры...* Гарэцкі. *Юзік не ведаў, чым адказаць на такую дабрадзейнасць, якая нібы з неба ўпала і асвятліла радасцю яго надзеі, а жаданні ператварыла ў справу.* Мурашка.

*ЗВАЛІЦЦА* • **ВАРОНА З КАЛА ЗВАЛІЦЦА** *<дзе>.* Гл. варона.

**ЗВАЛІЦЦА З НОГ** *<ад чаго>. Зак. да* **ВАЛІЦЦА З НОГ** *<ад чаго>.*

**ЗВАЛІЦЦА З ПЛЯЧЭЙ** *чыіх, каго. Зак. да* **ЗВАЛЬВАЦЦА З ПЛЯЧЭЙ** *чыіх, каго.*

**ЗВАЛІЦЦА НА ГАЛАВУ** *чыю. Зак. да* **ЗВАЛЬВАЦЦА НА ГАЛАВУ** *чыю.*

**ЗВАЛІЦЦА НА ПЛЕЧЫ** *чые, каму. Зак. да* **ЗВАЛЬВАЦЦА НА ПЛЕЧЫ** *чые, каму.*

**КАРОНА НЕ ЗВАЛІЦЦА** *з каго.* Гл. карона.

*ЗВАЛІЦЬ* • **ЗВАЛІЦЬ З НОГ** *каго. Зак. да* **ВАЛІЦЬ З НОГ** *каго.*

**ЗВАЛІЦЬ З ПЛЯЧЭЙ** *што. Зак. да* **ЗВАЛЬВАЦЬ З ПЛЯЧЭЙ** *што.*

**ЗВАЛІЦЬ У АДНУ КУЧУ** *каго, што. Зак. да* **ВАЛІЦЬ У КУЧУ** *каго, што.*

*ЗВАЛЬВАЦЦА* • **ЗВА́ЛЬВАЦЦА (ВАЛІ́ЦЦА) НА ГАЛАВУ́** *чыю. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Выпадаць на чыю-н. долю, абцяжарваючы каго-н. **Сін.**: звальвацца на плечы *чые, каму.* **Ант.**: звальвацца з плячэй чыіх. *Нечаканасць адна за другой звальваюцца на галаву ўвесь дзень.* Грамовіч. *Задумалася Тамашыха. І аж-*

*но сама дзівілася, скуль можа брацца столькі бяды, столькі няшчасця, колькі ўсцяж валілася на яе галаву.* Ядвігін Ш. **ЗВАЛІЦЦА НА ГАЛАВУ** *чыю. Зак. Выжмятнік толькі цяпер скеміў, што за ліха можа зваліцца на яго галаву.* Пташнікаў.

**ЗВА́ЛЬВАЦЦА НА ПЛЕ́ЧЫ** *чые, каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Выпадаць на чыю-н. долю, абцяжарваючы каго-н. **Сін.**: звальвацца на галаву *чыю.* **Ант.**: звальвацца з плячэй *чыіх.* **ЗВАЛІЦЦА (УЗВАЛІЦЦА) НА ПЛЕЧЫ** *чые, каму. Зак. У адзін прыгожы і ласкавы вясновы дзень раптам нечакана-негадана зваліласся на Кастусёвы плечы трагічная вестка.* С.Александровіч. *З хвіліну [Васілец] сядзеў моўчкі, не могучы апаматацца. Зваліўся на плечы новы цяжар, вялікі клопат.* Далідовіч. *І здалося яму [Нікадзіму], быццам тое, што ён зрабіў і прыдбаў сваёй працай, цяпер бязлітасна ўзвалілася яму на плечы, запанавала над ім, гнетучы яго сваім невыносным цяжарам да зямлі.* Мік. Ткачоў.

**ЗВА́ЛЬВАЦЦА (СПАДА́ЦЬ) З ПЛЯЧЭ́Й (З ПЛЕ́Ч)** *чыіх, каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Пераставаць абцяжарваць каго-н. **Ант.**: звальвацца на галаву *чыю*; звальвацца на плечы *чые, каму. Жудасны цяжар прыгнечання спадае з плеч чалавека.* Чорны. **ЗВАЛІЦЦА (СПАСЦІ) З ПЛЯЧЭЙ (З ПЛЕЧ)** *чыіх, каго. Зак. Маці ж была занята з двума малодшымі братамі і на рабоце ў некалькіх канторах, дзе прыбірала памяшканні, таму радавалася, што хаця адзін сын зваліўся з яе плеч.* Радкевіч.

*ЗВАЛЬВАЦЬ* • **ЗВА́ЛЬВАЦЬ (СКІДА́ЦЬ) З ПЛЯЧЭ́Й (З ПЛЕ́Ч)** *што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вызваляцца ад чаго-н. цяжкага, непрыемнага. **Сін.**: збываць з рук (у 2 знач.); збыць з галавы *што.* **Ант.**: узвальваць на свае плечы *што*; узвальваць сабе на плечы *што.* **ЗВАЛІЦЬ (СКІНУЦЬ) З ПЛЯЧЭЙ (З ПЛЕЧ)** *што. Зак. Трэба зразумець усю гэтую музыку, гэтую хітрую машыну, каб зваліць яе са сваіх плячэй.* Колас. *Гора кідаецца ў полымя бунтаў, каб скінуць з сваіх плячэй грахі нашых продкаў.* Галавач. *З прыўзнятым настроем ад урэшце скінутага з плячэй клопату ён [Анішчык] гаварыў лёгка, шчыра верачы ў тое, што абяцаў.* Быкаў.

*ЗВАНІЦЫ* • **БАЧЫЦЬ СА СВАЁЙ ЗВАНІЦЫ** *што.* Гл. бачыць.

**ГЛЯДЗЕЦЬ СА СВАЁЙ ЗВАНІЦЫ** *на каго, на што.* Гл. глядзець.

*ЗВАНІЦЬ* • **ЗВАНІ́ЦЬ (БІ́ЦЬ) ВА ЎСЕ́ ЗВАНЫ́**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** Усім і ўсюды голасна расказваць (пра якія-н. весткі, чуткі і пад.). **Сін.**: з языка не спускаць *каго, што*; як у бубен біць; як у званы званіць. *Нездарма людзі ва ўсе званы звоняць, што ён [Мікіта] яшчэ тры гады назад, першы вярнуўшыся з бежанцаў, столькі набраў людскога дабра, што хопіць яму да смерці.* Пестрак. *І вось ужо неяк у канцы лета сельскія старасты ва ўсе званы зазванілі, каб людзі збіраліся ў чарговую нядзелю ў мястэчка, што там адбудзецца вялікі валасны сход.* Якімовіч.

2. *Неадабр.* Празмерна хваліцца чым-н. **Сін.**: біць у літаўры; трубіць у фанфары. *Летась [Сурміла] ва ўсе званы званіў, што збярэ на круг па сорак цэнтнераў збожжа. Ды лыткі тонкія, каб па сорак цэнтнераў узяць — ледзьве па дваццаць сабраў.* Блакіт. *На палетку ўрадлівым колас біў ва ўсе званы: — Я адзін, усім на дзіва, дам паўпуда збажыны!* Кляўко. *Пранырлівы, настырны, прабіўны, трубіў усім і біў ва ўсе званы, што ён не кампазітар — сіла!* Э. Валасевіч.

**ЗВАНІ́ЦЬ У < РАЗБІ́ТЫ > ЛА́ПАЦЬ**. *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Балбатаць, балабоніць. **Сін.**: араць дарогі; біць язык аб зубы (у 2 знач.); блынды правіць; гарадзіць плот <*каму*>; круціць вала <за хвост> (у 2 знач.); ліць ваду; мазоліць язык; малоць языком (у 1 знач.); малоць не падсяваючы; мянціць языком; пе-

раліваць з пустога ў парожняе (у 2 знач.); плесці кашалі <*каму, пра каго, пра што*>; плесці кашалі з лапцямі; плесці лапці; пляскаць языком; разводзіць антымоніі; разводзіць тары-бары; тары-бары <растабары> (у 2 знач.); таўчы ваду ў ступе (у 2 знач.); тачыць лясы <*з кім*>; травіць баланду (у 1 знач.); трапаць языком; часаць язык (у 1 знач.); часаць языком. *— І чаго яна, сямігалоўка гэта, у разбіты лапаць звоніць? — апраўдваўся Лаўрэн.* Сіпакоў. *Пра вас на ўсіх скрыжаваннях у лапаць звоняць.* Асіпенка.

**ЯК У ЗВАНЫ́ (ЗВО́Н) ЗВАНІ́ЦЬ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Голасна расказваць, настойліва распаўсюджваць (якія-н. весткі, чуткі і пад.). **Сін.**: званіць ва ўсе званы (у 1 знач.); з языка не спускаць *каго, што*; як у бубен біць. *Назаўтра Пятрусь Гвозд усім як у звон званіў, што бачыў чорта каля Кірылавай магілы.* Колас. *Назаўтра ўвесь Рагазін як у званы званіў, што мы з Марылькай пажаніліся, што я як бы ў прымы пайшоў, бо перабраўся на жытло да Марылькі.* Сабаленка. *А па Альхоўцы як у званы звонілі: Максім — настаўнік! Максім — настаўнік!* «Полымя».

*ЗВАНКА* • **АД ЗВАНКА́ ДА ЗВАНКА́**. *Акал. Разм.* Увесь пэўны тэрмін, ад пачатку да канца. *Я ўсё жыццё ў страі. Ды фронт яшчэ... Ад званка да званка...* Радкевіч. *— І ты... ваяваў супраць нас? — Прымусілі... — За гэта і атрымаў? — Дваццаць год. І адбухаў іх, як адзін дзень. Ад званка да званка.* Васілёнак. *Пётр Маркавіч.. сядзіць ад званка да званка на сваім рабочым месцы, як і работнікі бухгалтэрыі.* «Полымя».

*ЗВАННЕ* • **АДНО́ ЗВА́ННЕ ЗАСТАЛО́СЯ** *ад чаго*; **АДНА́ НА́ЗВА ЗАСТАЛА́СЯ** *ад чаго. У безас. ужыв. Разм.* Зусім нічога не захавалася ад чаго-н. **Сін.**: адны ўспаміны засталіся *ад каго, ад чаго. Могілак Наста ўжо не помніць, — адно званне ад іх асталося.* Пташнікаў. *Знешне машына нагадвала кучу металалому... Рама скасабочана. Капот пагнуты, лязгоча. Ад кузава адна назва засталася.* Мыслівец. *— Адна назва засталася ад нашага парку, — засмучона прамовіла Марынка.* Хадкевіч.

*ЗВАННЯ* • **І ЗВА́ННЯ** няма, не было. *Акал. Разм.* Зусім. **Сін.**: і ў паміне. *Знявагі і крыўды і звання няма там.* Крапіва. *[Сцяпан:] Раз сказаў, каб гэтага шэльмы і звання не было ў маёй хаце... Дык і не забывайся аб гэтым, каханенькая, родненькая...* Купала.

*ЗВАНЫ* • **БІЦЬ У ЗВАНЫ**. Гл. біць.

**ЗАБІЦЬ У ЗВАНЫ НЕ ПАГЛЯДЗЕЎШЫ Ў СВЯТЦЫ**. Гл. забіць.

**ЗВАНІЦЬ ВА ЎСЕ ЗВАНЫ**. Гл. званіць.

**НЕ ЗІРНУЎШЫ Ў СВЯТЦЫ БІЦЬ У ЗВАНЫ**. Гл. біць.

**ТА́К ЗВА́НЫ**. *Азн. Функц. не зам.* **1**. Які прынята называць пэўным чынам. *Так і астаўся Аляксандр Салавей камандзірам Бабруйскага караульнага батальёна. Яму адвялі так званыя чырвоныя казармы.* Грахоўскі. *Хату.. [Шарэйка] ставіў на так званыя дзве каморы, з прасторнымі сенцамі пасярэдзіне.* Чыгрынаў.

**2**. *Іран.* Які не заслугоўвае сваёй назвы. **Сін.**: у двукоссі. *У кніжачцы даваліся так званыя царскія рэформы ў зусім новым асвятленні.* Колас. *Утрох яны і будзілі штрафную, і клалі спаць, і кармілі, і вадзілі на працу, і займаліся з ёю так званай гімнастыкай.* Брыль.

**ЯК У ЗВАНЫ ЗВАНІЦЬ**. Гл. званіць.

*ЗВАРОЧВАЦЬ* • **ЗВАРО́ЧВАЦЬ З ДАРО́ГІ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Змяняць у горшы бок свае паводзіны. **ЗВЯРНУЦЬ З ДАРОГІ**. *Зак. [Кропля:] Я просты чалавек і даравацъ магу чалавеку простаму, цёмнаму, калі звярнуў той з дарогі. Ды і то... А тут, савецкі інжынер... быль начальнік...* Маўзон. *[Байкач:]*

*Галушкін старшынёю працаваў. Але калі народ даведаўся, што ён звярнуў з дарогі, дык так наламаў бакі, што доўга не ачухаецца.* Гурскі.

*ЗВАРЫЦЬ* • **ГАЛАВА ЗВАРЫЦЬ** *у каго, чыя.* Гл. галава.

**ЗВАРЫЦЬ КАШУ** *з кім.* Гл. зварыш.

*ЗВАРЫШ* • **КА́ШЫ НЕ ЗВА́РЫШ** *з кім. Зак. Часцей у 2-й ас. адз. і мн. ці ў форме інф. У абаг.-асаб. знач. ці пры дзейн. са знач. асобы. Разм. Неадабр.* Не дамовішся, не дойдзеш да згоды з кім-н. **Сін.**: піва не зварыш *з кім. [Моцкін:] Канешне, Сталярову з «Бальшавіка» пра гэта не заікайся — прынцыповы. З такім кашы не зварыш.* Макаёнак. — *Ат, кашы з табой не зварыш, — махнуў рукой Таранаў і сабраўся быў ісці, але неўзабаве перадумаў...* Пашкоў. — *Не, брат, з Аляксеем мы кашы не зварым, — падаў думку Максім. — Гультаяваты ён вельмі, ды і заробак яму не надта патрэбны.* Машара. — *Ну дык што, Франц Іосіфавіч? — запытаў Бернякові́ч, збіраючыся развітвацца — Відаць, мы з вамі кашы не зварым?* Якавенка. *Цяпер жа, прачытаўшы знаёмы подпіс пад аб'явай, Саколіч падумаў: «Відаць, не зварыць нам кашы з табой, шаноўны камандзір дывізіі, не з таго поля ты ягадка».* Лынькоў. — *Дзе ўзяла першую туфлю? — Дзе ўзяла, дзе ўзяла, — уздыхнула Зулька, зразумеўшы, што з Вовікам яна кашы не зварыць.* Казько. **ЗВАРЫЦЬ КАШУ** *з кім.* З супрацьлеглым знач. *А ці ўдасца з гэтымі летунамі зварыць кашу?* Аношкін.

**ПІ́ВА НЕ ЗВА́РЫШ** *з кім. Зак. Устар. Часцей у 2-й ас. адз. і мн. ці ў форме інф. У абаг.-асаб. знач. ці пры дзейн. са знач. асобы. Разм. Неадабр.* Не дамовішся, не дойдзеш да згоды з кім-н. **Сін.**: кашы не зварыш *з кім. Пан Зыгмусь цвёрда паставіў стаць на бок Алены, бо з Жарстаком піва не зварыш і з сялянамі яму не па дарозе.* Колас. **ЗВАРЫЦЬ ПІВА** *з кім.* З супрацьлеглым знач. *Ага, смяешся! Значыць, люб. Бадай, з табою зварым піва.* Крапіва. *Каб з кім другім, ці з ім зварыш піва... Ды і ці ахвота гаварыць з ім.* Лынькоў.

*ЗВАЦЦА* • **ЛЮДЗЬМІ́ ЗВА́ЦЦА**. *Незак. Часцей кампанент састаўн. імен. вык. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. сукупнасці асоб. Быць свабоднымі, шчаслівымі, займаць у жыцці належнае чалавеку месца. *А чаго ж, чаго захацелась ім, пагарджаным век, ім, сляпым, глухім? — Людзьмі звацца.* Купала. *Збылася мара паэта: беларусы сталі людзьмі звацца.* Чорны. *І на гэты раз В.Адамчык расказвае пра жыццё жыхароў былой Заходняй Беларусі, пра тых, хто імкнуўся «людзьмі звацца» і за гэта змагаўся.* Пашкоў. *Неўміручыя творы Крылова служылі і нашаму беларускаму народу, дапамагаючы змагацца супраць крыўды і прыгнёту, за чалавечую годнасць, за права людзьмі звацца.* Крапіва. *І мы, нашчадкі, удзячны бацькам, дзядам і прадзедам нашым, якія не скарыліся перад ворагамі, са зброяй у руках заваявалі права «людзьмі звацца».* Сачанка. *У беларускіх сатырычных казках, апавяданнях і анекдотах.. паказана барацьба сялянства за паляпшэнне свайго эканамічнага становішча, за права «людзьмі звацца», за вызваленне ад сацыяльнага прыгнёту.* Фядосік.

*ЗВЕРХУ* • **ГЛЯДЗЕЦЬ ЗВЕРХУ ЎНІЗ** *на каго, на што.* Гл. глядзець.

*ЗВЕСІЦЬ* • **ЗВЕСІЦЬ НОС**. *Зак. да* **ВЕШАЦЬ НОС**.

*ЗВЕСЦІ* • **ЗВЕ́СЦІ ВО́КАМ**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Задрамаць. **Сін.**: зводзіць вочы. *Толькі [Ксеня] вокам звяла, дзяўчаты-таварышкі прыходзяць да Чвардоўскіх.* Калюга. *Ты ідзі ў клас на заняткі, а я буду спаць. Я за ўсю ноч і вокам не звёў.* Зарэцкі.

**ЗВЕСЦІ ВОЧЫ**. *Зак. да* **ЗВОДЗІЦЬ ВОЧЫ**.

**ЗВЕСЦІ ДА НУЛЯ** *што. Зак. да* **ЗВОДЗІЦЬ ДА НУЛЯ** *што.*
**ЗВЕСЦІ З ПОЛЯ** *каго. Зак. да* **ЗВОДЗІЦЬ З ПОЛЯ** *каго.*
**ЗВЕСЦІ З РОЗУМУ** *каго. Зак. да* **ЗВОДЗІЦЬ З РОЗУМУ** *каго.*
**ЗВЕСЦІ З ТРОПУ** *каго. Зак. да* **ЗВОДЗІЦЬ З ТРОПУ** *каго.*
**ЗВЕСЦІ КАНЦЫ З КАНЦАМІ**. *Зак. да* **ЗВОДЗІЦЬ КАНЦЫ З КАНЦАМІ**.
**ЗВЕСЦІ НА НІШТО** *што. Зак. да* **ЗВОДЗІЦЬ НА НІШТО** *што.*
**ЗВЕСЦІ РАХУНКІ** *з кім. Зак. да* **ЗВОДЗІЦЬ РАХУНКІ** *з кім.*
**ЗВЕСЦІ СА СВЕТУ** *каго. Зак. да* **ЗВОДЗІЦЬ СА СВЕТУ** *каго.*
**ЗВЕСЦІ Ў МАГІЛУ** *каго. Зак. да* **ЗВОДЗІЦЬ У МАГІЛУ** *каго.*
**ЗВЕСЦІ Ў РОЖКІ** *каго з кім. Зак. да* **ЗВОДЗІЦЬ У РОЖКІ** *каго.*

*ЗВЕСЦІСЯ* • **ЗВЕСЦІСЯ НА НІШТО**. *Зак. да* **ЗВОДЗІЦЦА НА НІШТО**.

*ЗВІВАЦЦА* • **ЗВІВА́ЦЦА ВУ́ЖАМ (-О́М)**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Хітрыць, спрытна выкручвацца. *[Ворагі] лісліва шыпелі, звіваліся вужам і ўпотайкі пырскалі ядам.* Крапіва.

*ЗВІНЕЦЬ* • **ЗВІНЕ́ЦЬ У ВУША́Х** *каму, чыіх, у каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Неадчэпна чуцца, з'яўляцца ў слыхавым уяўленні. **Сін.**: гучаць у вушах *чыіх, у каго*; стаяць у вушах *чыіх, у каго*; стаяць увушшу *каго. [Навум:] А яснавяльможны пан пісар так на яго крычаў, што аж мне ў вушах і цяпер звініць.* Дунін-Марцінкевіч. *Усю дарогу ў вушах звінела: «Синенький скромный платочек...»* Грахоўскі.

*ЗВІХНУЦЦА* • **ЗВІХНУЦЦА З РОЗУМУ**. Гл. сыходзіць.

*ЗВІЦЬ* • **З ВЕТРУ ВЯРОЎКІ ЗВІЦЬ**. *Зак. да* **З ВЕТРУ ВЯРОЎКІ ВІЦЬ**.
**ЗВІЦЬ ГНЯЗДО** *каму. Зак. да* **ВІЦЬ ГНЯЗДО** *каму.*
**ЗВІЦЬ <СВАЁ> ГНЯЗДО**. *Зак. да* **ВІЦЬ <СВАЁ> ГНЯЗДО**.

*ЗВОДЗІЦЦА* • **ЗВО́ДЗІЦЦА НА НІШТО́**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Пазбаўляцца ўсякага значэння, сэнсу. **Сін.**: сыходзіць на нішто (у 2 знач.). *Тыя смеласць, размах, якія, напрыклад, закладзены ў матэрыяле нарыса «Каця Астаповіч», зніжаюцца такім стылем, а часта зводзяцца на нішто.* Чорны. *Нашы разлікі часам зводзяцца на нішто з-за паломкі станка і зацягнутага рамонту.* «Звязда». **ЗВЕСЦІСЯ НА НІШТО**. *Зак.*

*ЗВОДЗІЦЬ* • **ЗВО́ДЗІЦЬ ВО́ЧЫ (ВО́КА)**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Драмаць, засынаць. **Сін.**: звесці вокам. *[Якуб Лакота] да рання не зводзіў вока.., пазіраючы штохвіліны, ці не сівее ўжо акно марудлівым зімовым зрокам.* Зарэцкі. **ЗВЕСЦІ ВОЧЫ (ВОКА)**. *Зак. Неяк раз, толькі пачынала днець, Мірон церабіўся дамоў — паспець звесці вочы, пакуль маці пачне штурхаць пад бок.* Кудравец. *Да святла яшчэ можна вочы звесці.* Лобан.

**ЗВО́ДЗІЦЬ ДА НУЛЯ́** *што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Пазбаўляць усякага значэння, сэнсу. **Сін.**: зводзіць на нішто *што.* **ЗВЕСЦІ ДА НУЛЯ** *што. Зак. Рыгор тут жа пачаў меркаваць, што зрабіць, каб абхітрыць немцаў і звесці да нуля выгоды ад іх тактыкі.* Краўчанка.

**ЗВО́ДЗІЦЬ З ПО́ЛЯ** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Пазбаўляць здольнасці цвяроза разважаць, адмоўна ўздзейнічаць на каго-н. **Сін.**: збіваць з дарогі *каго*; збіваць з панталыку *каго* (у 2 знач.); збіваць з толку *каго* (у 2 знач.); зводзіць з тропу *каго*; зводзіць са свету *каго* (у 2 знач.); круціць галаву

*каму* (у 2 знач.). *[Альжбета:] З кім ты гэтак намурзаўся?.. [Сцяпан:] Хто з сватам, хто з сваціяй, а як Сцяпан Крыніцкі, дык з родным зяцем. [Альжбета:] Такі праўду кажуць, што гарэлка людзей з поля зводзіць. Калі ж ты ўспеў яго нажыць?.. Дачка яшчэ замуж не выйшла, а бацька ўжо зяця мае!* Купала. **ЗВЕСЦІ З ПОЛЯ** *каго. Зак.*

**ЗВО́ДЗІЦЬ З РО́ЗУМУ** *каго. Незак. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна раздражняць, злаваць, хваляваць. **ЗВЕСЦІ З РОЗУМУ** *каго. Зак. [Марыля:] Але вось што: прысягні, што гэта няпраўда, што ты сама туды не хадзіла! Прысягні! Іначай і мяне з розуму звядзеш...* Купала.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Выклікаць пачуццё захаплення, моцна зачароўваць. **ЗВЕСЦІ З РОЗУМУ** *каго. Зак. Куды там! Такая, як твая сакратарка, любога з розуму звядзе.* Шамякін.

**ЗВО́ДЗІЦЬ З ТРО́ПУ (З ПУЦІ́)** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адмоўна ўздзейнічаючы на каго-н., штурхаць на што-н. нядобрае. **Сін**.: збіваць з дарогі *каго*; збіваць з панталыку *каго* (у 2 знач.); збіваць з толку *каго* (у 2 знач.); зводзіць з поля *каго*; зводзіць са свету *каго* (у 2 знач.); круціць галаву *каму* (у 2 знач.). *[Цімок:] Зноў ідзеш жонку маю з тропу зводзіць?* Лобан. **ЗВЕСЦІ З ТРОПУ (З ПУЦІ)** *каго. Зак. [Марфа Пятроўна:] Мне цікава ведаць, хто каля майго парога швэндаецца. [Броня:] Знаёмая Паўла Андрэевіча... [Марфа Пятроўна:] Звядуць яны яго з пуці. Гэта ўжо як піць даць.* Крапіва. *Звёў ты мяне з пуці, п'яніца!.. Разарыў ты мяне.* Каваль.

**ЗВО́ДЗІЦЬ КАНЦЫ́ З КАНЦА́МІ**. *Незак. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Задавальняць жыццёвыя патрэбы, знаходзячы выйсце з цяжкага матэрыяльнага становішча. **Сін**.: сточваць канцы з канцамі (у 1 знач.). *І вось каб неяк зводзіць канцы з канцамі, прылаўчыліся мы хадзіць на чыгуначную станцыю разгружаць вагоны.* Сачанка. *Калгас наш у той час, як кажуць, ледзь-ледзь канцы з канцамі зводзіў* «Полымя». **ЗВЕСЦІ КАНЦЫ З КАНЦАМІ**. *Зак.*

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пераадольваючы якія-н. перашкоды, спраўляцца з цяжкасцямі. **Сін**.: звязваць канцы з канцамі; сточваць канцы з канцамі (у 2 знач.). *Сяргея Круцяля.. усё збіраліся замяніць кім-небудзь іншым у краме. Але столькі было розных спраў, ды і сам Сяргей заўсёды неяк спрытна зводзіў канцы з канцамі, што яго пакінулі ў спакоі, і ён прагандляваў да самай вайны.* Лынькоў. **ЗВЕСЦІ КАНЦЫ З КАНЦАМІ**. *Зак. [Сцяпан] навучыўся самаўпраўнічаць. Прыпісваць каму-нікаму з даярак малако, а каб звесці канцы з канцамі — спісваць гэтае малако на кармленне цялят.* Палтаран.

**ЗВО́ДЗІЦЬ НА НІШТО́** *што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Пазбаўляць усякага значэння, сэнсу. **Сін**.: зводзіць да нуля *што*. *[Антэк:] Вось-вось, такія, як ты, зводзяць на нішто ўсе нашы намаганні.* Зуб. **ЗВЕСЦІ НА НІШТО** *што. Зак. Цяпер усіх нас аб'яднала адна вялікая мэта, якая на нішто звяла розніцу ў нашых характарах, думках, манерах і прывычках.* Жураўскі.

**ЗВО́ДЗІЦЬ РАХУ́НКІ** *з кім. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Помсціць каму-н., расквітвацца з кім-н. **Сін**.: адпякаць пірагі *каму*; даваць адлуп *каму*; даваць здачы *каму*. *Не будзем зводзіць рахункі, капітан... Я рады, што мы сталі з вамі таварышамі.* Гамолка. **ЗВЕСЦІ РАХУНКІ** *з кім. Зак. Гітлераўскія прыхвасні — стараста з паліцэйскімі — звялі свае даўнія рахункі і з маім бацькам — закатавалі ў гестапаўскай турме.* Вітка. *Праз сорак год рахункі звесці са мной спрабуе паліцай!* «ЛіМ».

**ЗВО́ДЗІЦЬ СА СВЕ́ТУ** *каго. Незак. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даводзіць да смерці, гібелі; знішчаць каго-н. **Сін**.: адарваць галаву *каму* (у 1 знач.); адкруціць галаву *каму* (у 1 знач.); адпраўляць на той свет *каго*; адпраўляць у магілёўскую

губерню *каго*; вымаць душу з *каго, каму* (у 2 знач.); вымотваць жылы (у 3 знач.); вымотваць кішкі (у 2 знач.); выпусціць дух (у 3 знач.); выпусціць кішкі <*каму*>; вытрасці душу *з каго, каму* (у 2 знач.); гнаць у магілу *каго*; заганяць на той свет *каго*; зводзіць у магілу *каго*; звярнуць галаву *каму*; зжываць са свету *каго*; знімаць галаву *каму* (у 1 знач.); прыбіраць з дарогі *каго*; скруціць вязы *каму*; скруціць шыю *каму*. *Рыгорка мой прапаў. Мала што могуць зрабіць з ім? Ці ж навіна, калі зводзяць са свету, у каменных мяшках гнояць, а то і губяць жывасілам...* Гартны. **ЗВЕСЦІ СА СВЕТУ** *каго. Зак. Аставайся тут і чакай наказу, каго тут звесці са свету. Толькі пасля гэтага цябе або я, або хто іншы праўдзе туды пацалаваць Хурса ў руку за падараваны хутар.* Чорны. *Князь Георгій, унук таго самага князя, які майго бацьку са свету звёў, ездзіць сабе на багатым кані, упіраючыся ў бокі...* Самуйлёнак.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Адмоўна ўздзейнічаючы на каго-н., штурхаць на што-н. нядобрае. **Сін**.: збіваць з дарогі *каго*; збіваць з панталыку *каго* (у 2 знач.); збіваць з толку *каго* (у 2 знач.); зводзіць з поля *каго*; зводзіць з тропу *каго*; круціць галаву *каму* (у 2 знач.). *Ты мая жонка... І на развод з табою я не падаваў. А калі цябе гэты злодзей са свету зводзіць, то ідзі на яго малако...* Лобан. **ЗВЕСЦІ СА СВЕТУ** *каго. Зак. Адумаецца і мой [сын] пасля арміі. Жадом зажадае вучыцца далей... Каб толькі гарэлка са свету не звяла... Во дзе бяда... Ці мода, ці пошасць — каб выпіць! Адзін не п'е, няма яшчэ такое звычкі, а ў кампаніі — атлёт...* Місько.

**ЗВО́ДЗІЦЬ У МАГІ́ЛУ (У ДАМАВІ́НУ)** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Даводзіць да смерці, гібелі каго-н. **Сін**.: адарваць галаву *каму* (у 1 знач.); адкруціць галаву *каму* (у 1 знач.); адпраўляць на той свет *каго*; адпраўляць у магілёўскую губерню *каго*; вымаць душу *з каго, каму* (у 2 знач.); вымотваць жылы (у 3 знач.); вымотваць кішкі (у 2 знач.); выпусціць дух (у 3 знач.); выпусціць кішкі <*каму*>; вытрасці душу *з каго, каму* (у 2 знач.); гнаць у магілу *каго*; заганяць на той свет *каго*; зводзіць са свету *каго* (у 1 знач.); звярнуць галаву *каму*; зжываць са свету *каго*; знімаць галаву *каму* (у 1 знач.); прыбіраць з дарогі *каго*; скруціць вязы *каму*; скруціць шыю *каму*. **ЗВЕСЦІ Ў МАГІЛУ (У ДАМАВІНУ)** *каго. Зак. Вечныя турботы без пары звялі ў магілу бацьку.* Чорны. *Меў дзетак — вось сына забрала вайна; другога машына ў магілу звяла.* Галубок. *Унадзіўся на Зялёную вуліцу стратны тыфус, шмат людзей звёў у магілу.* Ваданосаў. *На другім годзе пачалася Марыля першым дзіцем. Але і гэта не ратавала яе ад здзеку. На восьмым месяцы сталася тая бяда, што звяла яе ў дамавіну.* Брыль.

**ЗВО́ДЗІЦЬ У РО́ЖКІ** *каго з кім. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выклікаць сутычку каго-н. з кім-н. **ЗВЕСЦІ Ў РОЖКІ** *каго з кім. Зак. Відаць было, што.. Грамабой хоча перацягнуць на свой бок «небеднату» і звесці ў рожкі з Тодарам і з усёю бядняцкаю часткаю вёскі.* Крапіва.

**НЕ ЗВО́ДЗІЦЬ ВАЧЭ́Й** *з каго, з чаго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Пільна, уважліва, не адрываючыся глядзець на каго-, што-н. **Сін**.: есці вачамі *каго, што*; не адрываць вачэй *ад каго, ад чаго* (у 2 знач.); не спускаць вачэй *з каго, з чаго* (у 1 знач.); не спускаць з вачэй *каго, што* (у 1 знач.). *Непадалёку стаяла стройная бландынка і, як зачараваная, слухала музыку і не зводзіла вачэй з музыканта.* Колас. *Чаго ты на мяне глядзіш? Вачэй не зводзіш?* Чорны. *Віктар сядзеў нерухома, не зводзячы вачэй з агню.* Маўр.

**2**. Пільна сачыць, назіраць за кім-, чым-н. **Сін**.: не спускаць вачэй *з каго, з чаго* (у 2 знач.); не спускаць з вачэй *каго, што* (у 2 знач.). *Да нас у госці май прыходзіць і аглядае рубяжы, дзе пагранічнік наш не зводзіць вачэй з варожае мяжы.* Купала. *Цэлыя суткі*

*пасля аперацыі Іван Нічыпаравіч не зводзіў вачэй з хворага.* Якімовіч. *Я да болі сціскаў ручку паваротнага механізма, не зводзячы вачэй са стрэлкі азімута.* Шамякін.

*ЗВОДЗЯЦЦА* • **КАНЦЫ З КАНЦАМІ НЕ ЗВОДЗЯЦЦА** *у каго, дзе.* Гл. канцы.

*ЗВОН* • **ЗВО́Н У ЗВО́Н** *жыць (пражыць). Акал. Разм.* Вельмі дружна, у поўнай згодзе. **Сін.**: душа ў душу (у 1 знач.); на адну нагу (у 1 знач.); у ладу <*з кім*>; як песню пець. **Ант.**: на нажах *з кім*; як кот з сабакам. *Сем'і — іхняя і цётчына — жылі душа ў душу, звон у звон; Амброж, бывала, заходзячы да Ясевых у двор ці ў хату, каб слова сказаць ці пачуць або з патрэбаю якою, любіў пахваліцца: «Добра, як сусед блізка і пералаз нізка!»* Янкоўскі.

**ЧУЦЬ ЗВОН ДЫ НЕ ВЕДАЦЬ ДЗЕ ЁН**. Гл. чуць.

**ЯК ЗВО́Н**. *Азн. і вык. Разм. Адабр.* Новы, нядаўна пабудаваны і добры. Пра хату, дом. **Сін.**: як шклянка. *З крадзенага лесу [Сенька] хату адгрукаў як звон.* Краўчанка. *Пад вечар і дах накрыты. Стаіць хата як звон.* Грахоўскі. *Сам Цімчук зажыў так, што дай бог кожнаму чалавеку. Пяцісценка ў яго — як звон.* Рылько. *— Скажы, Гэля, як там Маня? — Жыве. Хату зрабілі новую. Як звон. І ў хаце хораша.* Янкоўскі.

*ЗВЯДЗЕННЕ* • **ЗВЯДЗЕ́ННЕ КАНЦО́Ў З КАНЦА́МІ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Пераадольванне якіх-н. перашкод, узгадненне розных бакоў чаго-н.

**ЗВЯДЗЕ́ННЕ РАХУ́НКАЎ (РАЗЛІ́КАЎ)** <*з кім*>. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Помста каму-н. за абразу, знявагу і пад. *Матывы такіх фальшывых выклікаў [тушыць пажар]? Розныя. Нават звядзенне асабістых рахункаў.* «ЛіМ». *Занятыя звядзеннем разлікаў, людзі зусім забыліся, што ўрад пілсудчыкаў не дрэмле.* Карпюк. *Сваю дзейнасць на пасадзе старшыні кантралёраў Асадчы накіраваў на звядзенне рахункаў з брыгадзірам.* «Звязда».

*ЗВЯЗАНА* • **ГАЛАВА ЗВЯЗАНА** *у каго, чыя.* Гл. галава.

*ЗВЯЗАНЫ* • **АДНО́Й ВЯРО́ВАЧКАЙ (ВЯРО́ЎКАЙ) ЗВЯ́ЗАНЫ** *з кім. Зак. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Аб'яднаны чым-н. агульным, непарыўным. *Не палохай, Віктар Васільевіч, адной мы з табой вяровачкай звязаны. І наконт таго, што ты прагаварыўся, — не турбуйся. Магіла...* Асіпенка. *І за адну ноч, як простыя фурманы, завязём усё гэта ў мой Крыжыцкі лес, у схованку. Там надзейна. Людзі ў леснічоўках адной вяроўкай са мною звязаны. Схаваем — і ўсё.* Караткевіч.

**РУКІ ЗВЯЗАНЫ** *у каго.* Гл. рукі.

*ЗВЯЗАЎ* • **ЗВЯЗАЎ ЧОРТ ВЯРОВАЧКАЙ** *каго.* Гл. чорт.

<u>Сказаў</u> **ЯК ЗВЯЗА́Ў**. *М., ж., н.; адз. і мн. Акал. Разм.* Катэгарычна, як канчаткова вырашанае. **Сін.**: як <нажом> адрэзаў (у 1 знач.); як <сякерай> адсек. *Лётчык сказаў гэта так непасрэдна, што я расчуліўся ў думках: «Сказаў як звязаў, ды й недоўга думаў».* Калеснік. *У цябе, Баёк, усё не так, як у людзей, і днём і ноччу... — Сказаў як звязаў, — засмяяўся Баёк.* Кудравец.

*ЗВЯЗАЦЦА* • **ЗВЯЗАЦЦА ВУЗАМІ ГІМЕНЕЯ**. Гл. звязваць.

*ЗВЯЗАЦЬ* • **ДВУ́Х СЛО́Ў НЕ ЗВЯЗА́ЦЬ**. *Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не ўмець звязна, прыгожа выказаць свае думкі. *Ты вот пісаць не ўмееш, двух слоў не звяжаш, а колькі ў газеце трубіш? Гадоў пятнаццаць.* Навуменка. *Ты ў разумнай бяседзе і двух слоў не звяжаш, асляк.* Караткевіч.

<u>Не магчы, не ўмець</u> **ЗВЯЗА́ЦЬ ДВУ́Х СЛО́Ў**. *Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. (Не магчы) звязна выказаць свае думкі. *[Лявон:] Які з цябе дэпутат? Ты*

*ж умееш толькі масажыраваць вымя ў каровы. Ты ж двух слоў звязаць не можаш. Там жа выступаць трэба. Там жа разумныя людзі трэба.* Макаёнак. *Гарасім у той час у размове з любой дзяўчынай не мог звязаць двух слоў, заікаўся, бляднеў і пацеў.* Шамякін. *— Таксама мне пісьменнік знайшоўся! — узлавана крычаў рэдактар. — Не ўмееш звязаць двух слоў, дык не бярыся.* Сабаленка.

**ЗВЯЗАЦЬ КАНЦЫ З КАНЦАМІ**. *Зак. да* **ЗВЯЗВАЦЬ КАНЦЫ З КАНЦАМІ**.

**ЗВЯЗАЦЬ ПА РУКАХ І НАГАХ** *каго. Зак. да* **ЗВЯЗВАЦЬ ПА РУКАХ І НАГАХ** *каго.*

**ЗВЯЗАЦЬ РУКІ** *каму. Зак. да* **ЗВЯЗВАЦЬ РУКІ** *каму.*

**ЗВЯЗАЦЬ САБЕ РУКІ**. *Зак. да* **ЗВЯЗВАЦЬ САБЕ РУКІ**.

**ЗВЯЗАЦЬ СЯБЕ ВУЗАМІ ГІМЕНЕЯ**. *Зак. да* **ЗВЯЗВАЦЬ СЯБЕ ВУЗАМІ ГІМЕНЕЯ**.

**ХАХЛЫ ЗВЯЗАЦЬ** *у каго, каму. Зак. да* **ХАХЛЫ ЗВЯЗВАЦЬ** *у каго, каму.*

*ЗВЯЗВАЦЦА* • **ЗВЯЗВАЦЦА ВУЗАМІ ГІМЕНЕЯ**. Гл. звязваць.

*ЗВЯЗВАЦЬ* • **ЗВЯ́ЗВАЦЬ КАНЦЫ́ З КАНЦА́МІ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пераадольваючы якія-н. перашкоды, спраўляцца з цяжкасцямі. **Сін**.: зводзіць канцы з канцамі (у 2 знач.); сточваць канцы з канцамі (у 2 знач.). **ЗВЯЗАЦЬ КАНЦЫ З КАНЦАМІ**. *Зак. Каб абагнаць дамашнія выдаткі, прыйшлося прадаваць адну карову; залаталі дзве-тры дзіркі, але на іх месца вылазіла пяць-шэсць дзірак. Звязаць канцы з канцамі ўжо не ўдавалася.* Ядвігін Ш.

**ЗВЯ́ЗВАЦЬ ПА РУКА́Х І НАГА́Х** *каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Пазбаўляць магчымасці свабодна дзейнічаць. **Сін**.: абразаць крылы *каму, у каго*; завязваць свет *каму* (у 1 знач.); засланяць <увесь, божы> свет *каму* (у 2 знач.); звязваць рукі *каму*; падразаць крылы *каму.* **Ант**.: развязваць рукі *каму. Звязвала па руках і нагах адсутнасць радыёперадатчыка, адсутнасць сувязі...* Лынькоў. **ЗВЯЗАЦЬ ПА РУКАХ І НАГАХ** *каго. Зак. [Шуст] лічыў, што абком і штаб звязалі яго па нагах і руках, і ніяк не мог з гэтым прымірыцца.* Шчарбатаў. *[Ворагі] нам тут спакою не дадуць. Звяжуць па руках і нагах. Трэба абавязкова разграміць... Не чакаць...* Пестрак.

**ЗВЯ́ЗВАЦЬ РУ́КІ** *каму. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Пазбаўляць каго-н. магчымасці свабодна дзейнічаць. **Сін**.: абразаць крылы *каму, у каго*; завязваць свет *каму* (у 1 знач.); засланяць <увесь, божы> свет *каму* (у 2 знач.); звязваць па руках і нагах *каго*; падразаць крылы *каму.* **Ант**.: развязваць рукі *каму. Справа ў тым, Аляксандр Нічыпаравіч, што нам да гэтага часу, яшчэ звязвае рукі каменне. Кожны гектар расчышчаем...* Якавенка. **ЗВЯЗАЦЬ РУКІ** *каму. Зак. [Князь:] Ён думае, што клятвай рукі мне звязаў? [Манах:] Бог табе даруе, бо клятва пад прымусам несапраўдна!* В.Вольскі.

**ЗВЯ́ЗВАЦЬ САБЕ́ РУ́КІ**. *Незак.* **1**. *Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рабіць сваё жыццё несвабодным і бязрадасным (звычайна з-за няўдалай жаніцьбы, замужжа). *— А раптам назаўтра ж пасля твайго «шлюбу» Алёна закахаецца або ты сустрэнеш жанчыну, без якой не ўявіш свайго жыцця. Разыграць пачуццё дзеля выгоды! Ну, ведаеш... — Па-першае, выгода для Алёны... Я наадварот — звязваю сабе рукі...* Баравікова. **ЗВЯЗАЦЬ САБЕ РУКІ**. *Зак. Нават майму бацьку злыя языкі ўвялі ў вушы, быццам я ўблытаўся ў любоўную гісторыю са старэйшай жанчынай, закінуў вучобу і неўзабаве змарную жыццё, ці «звяжу сабе рукі», як гэта тады яшчэ гаварылася ў вясковым асяроддзі.* Калеснік. *— У цябе што, глуздаў няма? — з ходу накінулася яна. — Паду-*

*маць толькі: звязаць сабе рукі, загубіць маладосць! А яна, дарэчы, толькі раз даецца. А ты што? — пакруціла пальцам ля скронкі.* Блакіт.

2. *Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Пазбаўляць сябе магчымасці свабодна дзейнічаць. **ЗВЯЗАЦЬ САБЕ РУКІ**. *Зак. Пакінуць [людзей у грамадзянскім лагеры] без моцнай аховы на расправу гітлераўцам нельга, і ўзяць з сабой — звязаць сабе рукі.* Няхай.

**ЗВЯ́ЗВАЦЬ СЯБЕ́ (ЗВЯ́ЗВАЦЦА) ВУ́ЗАМІ ГІМЕНЕ́Я**. *Незак. Кніжн. Часам жарт.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Уступаць у шлюб. **ЗВЯЗАЦЬ СЯБЕ (ЗВЯЗАЦЦА) ВУЗАМІ ГІМЕНЕЯ**. *Зак. Аньюмба тут жа стаў падшукваць кандыдатуру са сваіх прыхільніц, якая б добраахвотна звязала сябе вузамі Гіменея па меркаваннях высокай палітыкі.* «Звязда». *Нечаканую вестку, што [Андрэй] намерыўся ажаніцца, прытым звязацца вузамі Гіменея не з Лірыкай, а з мінчанкай Палінай, з якой нядаўна выпадкова пазнаёміўся, хлопцы ўспрынялі глуха і нема.* Блакіт.

**ХАХЛЫ ЗВЯЗВАЦЬ** *у каго, каму.* Гл. вязаць.

*ЗВЯРНУЦЬ* • **ЗВЯРНУ́ЦЬ ГАЛАВУ́ (ШЫ́Ю)** *каму. Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знішчыць каго-н. **Сін**.: адарваць галаву *каму* (у 1 знач.); адкруціць галаву *каму* (у 1 знач.); адпраўляць на той свет *каго*; адпраўляць у магілёўскую губерню *каго*; вымаць душу *з каго, каму* (у 2 знач.); вымотваць жылы (у 3 знач.); вымотваць кішкі (у 2 знач.); выпусціць дух (у 3 знач.); выпусціць кішкі <*каму*>; вытрасці душу *з каго, каму (у 2* знач.); гнаць у магілу *каго*; заганяць на той свет *каго*; зводзіць са свету *каго* (у 1 знач.); зводзіць у магілу *каго*; зжываць са свету *каго*; знімаць галаву *каму* (у 1 знач.); прыбіраць з дарогі *каго*; скруціць вязы *каму*; скруціць шыю *каму. Мішка.. цяпер мог паказаць, як аблізваецца Антанта, гледзячы на савецкую зямлю... Як паны мужыкоў бізунамі частуюць. Як рабочы пану галаву звярнуў.* Лынькоў. — *Ты хочаш з галавой разлучыцца ці не? — заявіў Пруткевіч. — Глядзі, а то шыю звярну!* Чорны.

**ЗВЯРНУЦЬ ГОРЫ** *<з кім, з чым>. Зак. да* **ВАРОЧАЦЬ ГОРЫ** *<з кім, з чым>.*

**ЗВЯРНУЦЬ З ДАРОГІ**. *Зак. да* **ЗВАРОЧВАЦЬ З ДАРОГІ**.

**ЗВЯРНУЦЬ НА СЯБЕ ЎВАГУ**. *Зак. да* **ЗВЯРТАЦЬ НА СЯБЕ ЎВАГУ**.

**ЗВЯРНУ́ЦЬ <САБЕ́> ГАЛАВУ́ (ШЫ́Ю)**. *Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. 1. Скалечыцца, загінуць. **Сін**.: зламаць <сабе> галаву (у 1 знач.); скруціць сабе вязы; скруціць <сабе> галаву. *Чуў пасля, як кратаюцца ў зямлі слупы, не памагаюць і падпоры.., як зноў пачала на яго, Алёшу, крычаць маці, што ён зверне галаву.* Пташнікаў. *[Сцяпан] не паспеў першы раз пераступіць парог, як ужо ляпнуў: — Якія ў вас дзверы нізкія — чуць шыю не звярнуў.* Кудравец.

2. Пацярпець поўную няўдачу ў чым-н. **Сін**.: выпадаць у асадак (у 2 знач.); зламаць <сабе> галаву (у 2 знач.); ісці на дно. *Рагмед сарамаціць Мялешку: — Звернеш галаву, Багдан. Нарвешся. — Што я такое раблю? — Не блазнуй. Людзей бунтуеш.* Навуменка.

**ЗВЯРНУЦЬ УВАГУ** *на каго, на што. Зак. да* **ЗВЯРТАЦЬ УВАГУ** *на каго, што.*

*ЗВЯРТАЦЬ* • **ЗВЯРТА́ЦЬ НА СЯБЕ́ ЎВА́ГУ**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. ці абстр. прадмета. Вызначацца чым-н., зацікаўліваць сабой. *Я паслухмяна сеў на нізкаватую пры высокім стале табурэтку, стараючыся як найменш звяртаць на сябе ўвагу.* Быкаў. **ЗВЯРНУЦЬ НА СЯБЕ ЎВАГУ**. *Зак. Саўка і не агледзеўся, як яго схапілі жалезныя рукі і павалаклі да той страшнай прылады, якая яшчэ спачатку звярнула на сябе яго ўвагу.* Колас.

**ЗВЯРТА́ЦЬ УВА́ГУ** *на каго, на што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Заўважаць каго-, што-н., цікавіцца кім-, чым-н., улічваць

што-н. *Мірон, не звяртаючы ўвагі на Віктара, прамовіў нібы сам сабе: — Сёння пачаліся ў нас заняткі... Сёння пачнуць нас усюды шукаць, толькі не тут...* Маўр. *[Лютынскі:] Хто цвёрдакаменным хоча быць, той на такія дробязі ўвагі не звяртае.* Крапіва. **ЗВЯРНУЦЬ УВАГУ** *на каго, на што. Зак. Хацелася кудысь пайсці, нешта зрабіць, адным словам, паказаць, што на свеце ёсць Сцёпка, каб гэты свет звярнуў на яго ўвагу.* Колас.

*ЗГАРАЦЬ* • **ЗГАРА́ЦЬ АД СО́РАМУ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Зведваць пачуццё вялікага сораму. *Да таго ж [Пятро] не ўмеў гуляць у валейбол. Упершыню гэты недахоп здаўся яму страшэнна ганебным. Пятро згараў ад сораму.* Шамякін. **ЗГАРЭЦЬ АД СОРАМУ**. *Зак. [Мікола:] Вы ў сватах як загнулі героя, дык мне чорт ведае што і казаць. Я ледзь не згарэў ад сораму.* Крапіва.

*ЗГАРНУЦЬ* • **ЗГАРНУ́ЦЬ РУ́КІ**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Памерці. **Сін.**: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць на той свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць у іншы свет; адыходзіць (ісці) у лепшы свет; ажаніцца з <сырою> зямлёй; выпростваць ногі; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць <каму> (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага *збірацца*; заснуць вечным сном; заснуць навекі; з капылоў далоў (у 2 знач.); канькі адкідаць; лажыцца ў магілу; на паповы сані *збірацца*; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. *Вось леташняй вясной малады яшчэ чалавек і — рукі згарнуў... Нейкі бежанец з-пад Гародні.* Якімовіч. *Матка ж, вядома, кабета, затужыла і запала, гадкоў з тры пацягнула, у марцы й ручанькі згарнула.* Багушэвіч. *Перапалоханая маці пракрычала ёй у тэлефонную трубку: «Дачушка, я выклічу табе зараз «хуткую дапамогу». Пакуль тая прыбыла, жанчына, якой не было і пяцідзесяці гадоў, рукі загарнула.* Лобач.

*ЗГАРЭЦЬ* • **ЗГАРЭЦЬ АД СОРАМУ**. *Зак. да* **ЗГАРАЦЬ АД СОРАМУ**.

*ЗГІНАЦЦА* • **ЗГІНАЦЦА Ў ТРЫ ПАГІБЕЛІ** *перад кім.* Гл. гнуцца.

*ЗГЛАДЖВАЦЬ* • **ЗГЛА́ДЖВАЦЬ ВО́СТРЫЯ ВУГЛЫ́**. *Незак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Змякчаць рэзкія бакі чаго-н., вастрыню рознагалоссяў і супярэчнасцей. *Сабалеўскі толькі для адводу вачэй задаваў яму [Максіму] і Сяргею павярхоўныя пытанні, а потым прыслужна тлумачыў гэтым панам іх адказы, згладжваючы вострыя вуглы, не дбаючы аб аб'ектыўнасці і дакладнасці перакладу.* Машара. **ЗГЛАДЗІЦЬ ВОСТРЫЯ ВУГЛЫ**. *Зак. Валя ўжо заўважыла: Лочмень заўсёды стараецца згладзіць вострыя вуглы, прымірыць тых, хто спрачаецца.* Карпаў.

*ЗГЛАДЗІЦЬ* • **ЗГЛАДЗІЦЬ ВОСТРЫЯ ВУГЛЫ**. *Зак. да* **ЗГЛАДЖВАЦЬ ВОСТРЫЯ ВУГЛЫ**.

*ЗГЛЕДЗЕЦЬ* • **ЯК ВО́КАМ ЗГЛЕ́ДЗЕЦЬ**. *Акал. Разм.* **1**. Часцей ужыв. пры дзеясл.-вык. зак. тр. Адразу ж, вельмі хутка, імгненна (зрабіць што-н.). **Сін.**: у адзін мах; у адзін міг; у <адзін> момант; у <адну> мінуту; у імгненне вока; у міг вока; у момант вока; як бач; як бачыш (у 1 знач.); як га; як слова сказаць; як стой. *Хлопцы-малайцы як вокам згледзець схаваліся ў рог.* Якімовіч. *Тады Зазыба і рашыўся на подзвіг: як згледзець вокам выхапіў у канвойнага шаблю і пачаў секчы ёю з усяго пляча махноўцаў...* Чыгрынаў. *Нізка і шыбка як згледзець вокам над трапяткім растопленым серабром вады шмыгалі цёмна-карычневыя ластаўкі.* Адамчык.

2. На вялікай прасторы ў наваколлі. **Сін.**: наколькі хапае вока; як вокам кінуць. *Толькі надоечы, вось, прайшло каля дзесяці палкоў стральцоў. Укрылі дарогу — канца няма і меры. Скро-а-зь, як вокам зглёдзець — людзі-ы, людзі-ы, людзі-ы...* Гартны.

*ЗГУБІЦЬ* • **ЗГУБІЦЬ ГАЛАВУ**. *Зак. да* **ГУБЛЯЦЬ ГАЛАВУ**.

**ЗГУБІЦЬ ГРУНТ ПАД НАГАМІ**. *Зак. да* **ГУБЛЯЦЬ ГРУНТ ПАД НАГАМІ**.

**ЗГУБІЦЬ З ВАЧЭЙ** *каго. Зак. да* **ГУБЛЯЦЬ З ВАЧЭЙ** *каго.*

**ЗГУБІЦЬ СЯБЕ**. *Зак. да* **ГУБЛЯЦЬ СЯБЕ**.

*ЗГУЛЯЦЬ* • **ЗГУЛЯ́ЦЬ У ПАДДАЎКІ́**. *Зак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Часова пайсці на ўступкі, хітравата згаджаючыся з кім-н. *Ты паслухай мяне. Калі мы іх не падманем, не схітрым, яны нас закатуюць. Трэба трохі і ў паддаўкі згуляць. Не ірваць цераз сілу.* Быкаў.

*ЗГУСЦІЦЬ* • **ЗГУСЦІЦЬ ФАРБЫ**. *Зак. да* **ЗГУШЧАЦЬ ФАРБЫ**.

*ЗГУШЧАЕЦЦА* • **АТМАСФЕРА ЗГУШЧАЕЦЦА** <*дзе*>. Гл. атмасфера.

*ЗГУШЧАЦЬ* • **ЗГУШЧА́ЦЬ ФА́РБЫ**. *Незак. Функц не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Празмерна перабольшваць. **Сін.**: рабіць з мухі слана; узводзіць у квадрат *што. Ананімшчык (ужывём сучаснае слова) някепска ведаў сямейныя акалічнасці Дуніна-Марцінкевіча, хоць і, магчыма, свядома згушчаў фарбы.* Кісялёў. *Не адразу ўдалося зразумець, навошта аўтару пісьма спатрэбілася гэтак згушчаць фарбы.* «Настаўн. газ.» **ЗГУСЦІЦЬ ФАРБЫ**. *Зак. — Гэта ўзор красамоўства, — сказаў адвакат. — На жаль, толькі пракурор згусціў фарбы.* Колас.

**2**. Драматызаваць што-н., падаючы яго горш, чым было на самай справе. *— Амбец бы мне тут, каб не ты. — Не згушчай фарбы.* Масарэнка. **ЗГУСЦІЦЬ ФАРБЫ**. *Зак. Нэла Іванаўна зноў жа вельмі тактоўна давяла Сяргею Сяргеевічу, што ён, бадай, згусціў фарбы, паддаўся свайму прыгнечанаму настрою...* Асіпенка.

*ЗГУШЧАЮЦЦА* • **ХМАРЫ ЗГУШЧАЮЦЦА** *над кім, над чым.* Гл. хмары.

**ФАРБЫ ЗГУШЧАЮЦЦА**. Гл. фарбы.

**ХМАРЫ ЗГУШЧАЮЦЦА НАД ГАЛАВОЙ** *чыёй, каго.* Гл. хмары.

*ЗГУШЧЭННЕ* • **ЗГУШЧЭ́ННЕ ФА́РБАЎ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Празмернае перабольшанне. *[Касцюшка], вядома, пісаў і наскрозь крытычныя матэрыялы, якія без згушчэння фарбаў наогул немагчыма напісаць.* Навуменка. *У лістах, напісаных нават у цяжкія гады вайны, М.Лынькоў шчасліва пазбягаў штучнай драматызацыі, згушчэння фарбаў.* Мушынскі. *Артыкул надзвычай характэрны. Падазраваць эндэцкі орган у згушчэнні фарбаў не прыходзіцца.* Таўлай.

*ЗДАВАЦЦА* • **ЗДАВА́ЦЦА Ў АРХІ́Ў**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Забывацца з-за ўстарэласці, непрыгоднасці. *Мяняліся правіцелі, грамадскія фармацыі; праляталі над зямлёй войны, рэвалюцыі; раствараліся модныя тэорыі; здаваліся ў архіў рэцэпты алхімікаў; абвяргаліся адкрыцці...* Асіпенка.

*ЗДАВАЦЬ* • **ЗДАВА́ЦЬ <СВАЕ́> ПАЗІ́ЦЫІ**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Прызнаваць сябе пераможаным, паддавацца. **Сін.**: піць папрасіць *у каго*; стаяць на каленях *перад кім. Сашку вельмі захацелася, каб гэты інжынер, Сурын, узяў над ім [Клімцом] верх у спрэчцы і ў нейкім сэнсе разлічыўся б і за яго, Сашку. Але Клімец і не думаў здаваць пазіцыі.* Радкевіч. *Між тым зіма здавала свае пазіцыі.* Дайліда. **ЗДАЦЬ <СВАЕ> ПАЗІЦЫІ**. *Зак. Мастацкая літаратура нават не-*

*калькі здала пазіцыі, саступіўшы месца падручнікам, рознай навукова-пазнавальнай літаратуры.* «Звязда».

**ЗДАВА́ЦЬ У АРХІ́Ў**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** *што.* Прызнаваць застарэлым, забываць. **Сін.**: выкідаць з галавы *каго, што*; выкрэсліваць з памяці *каго, што*; спісваць з рахунку (у 1 знач.); спісваць у архіў *што. Зноў не спадабалася вокладка нашым начальнікам. — Лапці пара ўжо ў архіў здаваць, а не на вокладках маляваць, — сказалі яны нам.* Якімовіч. **ЗДАЦЬ У АРХІЎ** *што. Зак. Я не пісьменнік рамантычнага складу. Хто хоча, каб я яго паважаў, — хай здасць гэта азначэнне, гэты ярлык у архіў.* Караткевіч.

**2.** *каго.* Адхіляць, лічачы непрыдатным да якой-н. дзейнасці. **Сін.**: спісваць з рахунку (у 2 знач.); спісваць у тыраж *каго.* **ЗДАЦЬ У АРХІЎ** *каго. Зак. Ды што гэта? Працягвае сваю ласкава-здзеклівую руку пенсія... Мяне ў запас?! Мяне здаюць у архіў?! Ды вы з глузду з'ехалі.* Блакіт.

*ЗДАВЁН* • **ЗДАВЁН-ДАЎНА́**. *Акал. Разм.* З далёкіх часоў, спрадвеку. **Сін.**: ад адама (у 1 знач.); ад веку да веку; век вечны; век-вяком (у 1 знач.); з веку ў век; спакон вякоў; як свет светам (у 1 знач.). *Здавён-даўна ўсе звалі яго: дуб-дзядуля.* Ядвігін Ш. *[Вандроўку] здавён-даўна звычайна рабілі пехатою, каб больш свету пабачыць.* Гарэцкі.

*ЗДАЕЦЦА* • **НЕБА З АЎЧЫНКУ ЗДАЕЦЦА** *каму.* Гл. неба.

*ЗДАРОВУЮ* • **З ХВОРАЙ ГАЛАВЫ НА ЗДАРОВУЮ**. Гл. галавы.

*ЗДАРОЎ* • **БУДЗЬ ЗДАРОЎ**. Гл. будзь.
**БЫВАЙ ЗДАРОЎ**. Гл. бывай.
**ЗА БУДЗЬ ЗДАРОЎ**. Гл. будзь.

*ЗДАРОЎЕ* • **НА ЗДАРО́ЎЕ**. *Акал. Разм.* Колькі хочацца каму-н. і без пярэчанняў з боку таго, хто гаворыць. *[Адамейка:] Значыць, мы можам лічыць сябе неўміручымі? [Дабрыян:] Лічыце на здароўе.* Крапіва. *Аказваецца, і ў дзень перамогі не ўсе пілі-елі... Некаторыя займаліся іншымі справамі. Але хай, на здароўе.* Быкаў. *— Я кахаю Ганчара... — Ну й кахай сабе на здароўе.* Багданава. *Дзякуй богу, гэтага Жырковіча не расстралялі. Вызвалены. Няхай жыве на здароўе. Можам памагчы ўладзіцца на працу.* Шамякін.

*ЗДАРОЎЯ* • *Пытаць* **У ХВОРАГА ЗДАРОЎЯ**. Гл. хворага.

*ЗДАЦЬ* • **ЗДАЦЬ <СВАЕ> ПАЗІЦЫІ**. *Зак. да* **ЗДАВАЦЬ <СВАЕ> ПАЗІЦЫІ**.
**ЗДАЦЬ У АРХІЎ**. *Зак. да* **ЗДАВАЦЬ У АРХІЎ**.

*ЗДАЧЫ* • **ДАВАЦЬ ЗДАЧЫ** *каму.* Гл. даваць.

*ЗДЗЕЛКА* • **ЗДЗЕ́ЛКА З СУМЛЕ́ННЕМ**. *Адз. і мн. Часцей дап. Функц. не зам.* Адыход ад сваіх прынцыпаў, учынак супраць сваіх перакананняў. *Часта такія людзі могуць для ўласнага дабрабыту пайсці на здзелку з сумленнем, прыняць дарагі «падарунак», «не заўважыць», як пад носам арудуюць мацёрыя жулікі.* «Полымя». *Я, Кузьма Савельевіч, маю цвёрдыя прынцыпы. Ні на якія здзелкі з сумленнем не іду.* Жалязоўскі.

*ЗДЗІРАЦЬ* • **ЗДЗІРАЦЬ СКУРУ** *з каго.* Гл. драць.

*ЗДЗЬМУЛА* • **ЯК (НІБЫ́) ВЕ́ТРАМ ЗДЗЬМУ́ЛА (ЗМЯЛО́)**. *Убезас. ужыв. Разм.* **1.** *каго.* Хто-н. бясследна, імгненна знік, схаваўся. **Сін.**: <і> след прастыў *чый, каго*; толькі і бачылі *каго*; як вадой змыла (у 1 знач.); як <і> не было (у 1 знач.); як маланкай спаліла *каго. Ды тут на плоце з'явіўся рабы кот. Вераб'я як ветрам здзьмула.* Цяжкі. *Жанчын з кошыкамі, якія вандравалі вакол парку, нібы ветрам здзьмула.* Навуменка. *Ас-*

*татніх дзяўчат і хлопцаў як ветрам змяло.* Адамчык. *Альяш нядобра яе агледзеў і кінуў: «Памый лупы вунь у той лужыне!» Жанчыну нібы ветрам змяло.* Карпюк.

**2.** *што.* Што-н. раптоўна знікла. **Сін.**: як вадой змыла (у 2 знач.); як <і> не было (у 2 знач.); як карова языком злізала *каго, што. Вось чаму, пачуўшы кананаду савецкіх пушак, адразу павесялелі партызаны. Як ветрам здзьмула прыгнечанасць, пахмурную маўклівасць некаторых і незвычайную стомленасць кожнага.* Лынькоў. *Адразу сярод сялян смех як ветрам здзьмула.* Зарэцкі.

*ЗДОХ* • **ВОЎК У ЛЕСЕ ЗДОХ**. Гл. воўк.

*ЗДОХЛА* • **НЕШТА Ў ЛЕСЕ ЗДОХЛА**. Гл. нешта.

*ЗДРЫГАНЕЦЦА* • **РУКА НЕ ЗДРЫГАНЕЦЦА** *у каго, чыя.* Гл. рука.

*ЗДЫМАЦЬ* • **ЗДЫМАЦЬ ВЯРШКІ**. Гл. збіраць.

**ЗДЫМАЦЬ ГАЛАВУ** *каму.* Гл. знімаць.

**ЗДЫМА́ЦЬ (ЗНІМА́ЦЬ) СТРУ́ЖКУ** *з каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна прабіраць каго-н. **Сін.**: браць пад абстрэл *каго* (у 2 знач.); браць у абарот *каго* (у 2 знач.); браць у пераплёт *каго* (у 2 знач.); браць у работу *каго* (у 2 знач.); браць у шоры *каго* (у 2 знач.); выганяць матыліцу *з каго*; выціскаць пот *з каго* (у 2 знач.); даваць гарту *каму* (у 1 знач.); даваць гонку *каму*; даваць дыхту *каму* (у 1 знач.); даваць жару *каму* (у 1 знач.); даваць перцу *каму* (у 1 знач.); даваць піць *каму*; даваць прыкурыць *каму* (у 1 знач.); даваць пытлю *каму* (у 1 знач.); даваць у косці *каму* (у 1 знач.); даваць чапаласу *каму* (у 1 знач.); даваць чосу *каму* (у 1 знач.); задаваць пары *каму*; мыліць галаву *каму*; мыліць шыю *каму* (у 2 знач.); накруціць хвост *каму*; паддаваць жару *каму* (у 1 знач.); прадзіраць з пясочкам *каго*; спусціць скуру *з каго* (у 2 знач.); усыпаць перцу *каму. Я ўжо маўчу аб плане. Асабліва аб тых днях, калі ён зусім гарыць і начальнік цэха з усіх стружку здымае.* Кацюшэнка. **ЗНЯЦЬ СТРУЖКУ** *з каго. Зак. З гэтага твайго Барадкіна няма каму зняць стружку!..* Аношкін.

**ЗДЫМА́ЦЬ (ЗНІМА́ЦЬ) ША́ПКУ** *перад кім. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адносіцца да каго-, чаго-н. з глыбокай павагай. **Сін.**: глядзець знізу ўверх *на каго, на што*; схіляць галаву (у 2 знач.). **Ант.**: глядзець зверху ўніз *на каго, на што. Часам мы проста не пазнавалі свайго даўняга сябра, няўрымслівага, настойлівага, свабодалюбівага, які ні перад кім не здымаў шапкі.* Шамякін. *Драпежнік — увесь падводны свет ад страху дрыжыць, а сапраўдныя рыбакі перад ім [Міронам] шапкі здымаюць. Зловяць, надзівяцца і пускаюць назад у раку, у яго стыхію.* Ракітны. **ЗНЯЦЬ ШАПКУ** *перад кім. Зак. Калі танкіст — я яму прызнаюся ва ўсім і папрашу прабачэння. Перад танкістам я зніму шапку.* Быкаў. *Мекку адну наведаць спяшаўся — далёкую шахту, каб з пашанай зняць шапку.* Барадулін.

*З'ЕЗДЗІЎ* • **З'ЕЗДЗІЎ У РЫГУ**. *Зак. да* **ЕЗДЗІЎ У РЫГУ**.

*ЗЕЛЛЕ* • **ЧО́РТАВА ЗЕ́ЛЛЕ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Гарэлка. **Сін.**: божая сляза; зладзейка з наклейкай; зялёны змей (у 1 знач.); малако ад шалёнай каровы; царскія слёзы, шкляны бог. *Адзін Юрка канец з канцом чуць-чуць звяжа. І каб то сям'ёй праз лад ужо абсыпаўся ці там гультаём такім ужо ўдаўся, або, не тут кажучы, да чортавага зелля ласым быў, — ані думаць!* Ядвігін Ш. *Па яго міне, па голасу, і па Міколавай няўстойлівасці на нагах Марта зразу дагадалася, што яе муж не без граху, што ён не абмінуў сёння чортавага зелля.* Гартны. *Калі ён [Атрахімка] сталаваўся ў той хаце, дзе была бяседа, дык увечары яго не абносілі чаркаю. Праўда, ён не дужа ганяўся за «чортавым зеллем».* Сабаленка.

*ЗЕЛЯНЕЕ* • **ЗЕЛЯНЕЕ Ў ВАЧАХ** *у каго, каго.* Гл. цямнее.

*ЗЕРНЕ* • **АДВЕЙВАЦЬ ЗЕРНЕ АД ПАЛОВЫ**. Гл. адвейваць.

**З МА́КАВА (-Е) ЗЕ́РНЕ**. *Акал. Разм.* Ледзь-ледзь, зусім мала. **Сін.**: з вераб'ёў нос (у 1 знач.); з жабіны прыгаршчы *чаго*; на заячы скок; з камароў нос (у 1 знач.); кропля ў моры <*чаго*>; курам на смех (у 3 знач.); на жабін скок (у 2 знач.); на капейку; на макава зерне; на пальцах можна пералічыць *каго, што*; на панюх табакі (у 1 знач.); на шэлег (у 1 знач.); не поле насеяна *каго*; раз-два і ўсё *каго, чаго*; як кату; <як> кот наплакаў *каго, чаго*; як старой бабе сесці *чаго. Суха было ў роце, хацелася піць*; *здаецца, глынуць бы чаго, хоць бы з макавае зерне.* Пташнікаў. *Каб ні вам, ні вашым дзецям не давялося перажыць і з макава зерне таго, што мы перажылі.* А.Жук. *Ядок з мяне такоўскі. Клюну з макава зерне і — сытая.* Калодзежны.

**НА МА́КАВА ЗЕ́РНЕ**. *У безас. ужыв. Разм.* Вельмі мала. Пра нязначнасць чаго-н. **Сін.**: з вераб'ёў нос (у 1 знач.); з жабіны прыгаршчы *чаго*; з камароў нос (у 1 знач.); з макава зерне; кропля ў моры <*чаго*>; курам на смех (у 3 знач.); на жабін скок (у 2 знач.); на заячы скок; на капейку; на пальцах можна пералічыць *каго, што*; на панюх табакі (у 1 знач.); на шэлег (у 1 знач.); не поле насеяна *каго*; раз-два і ўсё *каго, чаго*; як кату; <як> кот наплакаў *каго, чаго*; як старой бабе сесці *чаго. Што нам значыць гуртам памагчы ёй [салдатцы] — тут жа работы на макава зерне, а беднай заўтра зноў прыйдзецца цягнуцца сюды...* Скрыган.

**НІ (АНІ́) НА МА́КАВА ЗЕ́РНЕ**. *Акал. Разм. Ужыв. у адмоўн. ск.* Ніколькі, ні ў якой меры. **Сін.**: на волас (у 2 знач.); на <ломаны> грош; на макулінку (у 2 знач.); на мезены палец; на панюх табакі (у 2 знач.); на сіні пазногаць (у 2 знач.); на шэлег (у 2 знач.); ні божа мой; ні грама; ні каліва; ні кроплі; ні на <адзін> шэлег (у 1 знач.); ні на волас; ні на грам (у 1 знач.); ні на гран; ні на грош; ні на ёту; ні на каліва; ні на кроплю; ні на макулінку. *Бач, мне непатрэбна было жаднага спачування, я незалежны ад нікога чалавек, ну, і ў яго [Петруся] людскасці не хапіла ні на макава зерне.* Гартны. *Антось нават не павітаўся. Але Мысліцкі не крыўдаваў на яго ані на макава зерне.* Мурашка.

*ЗЕРНЯ* • **МАКАВАГА ЗЕРНЯ Ў РОЦЕ НЕ БЫЛО** *ў каго.* Гл. было.

*З'ЕСЦІ* • **ЖЫЎЦО́М З'Е́СЦІ (ПРАГЛЫНУ́ЦЬ)** *каго. Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Замучыць, загубіць нападкамі, ганеннем. **Сін.**: з'есці з трыбухамі *каго. Ёсць адзін там, Антось Драчык, дык гатоў жыўцом мяне з'есці.* Бядуля. *Можа, вы мяне, братцы, аслабанілі б як... Ізноў жа... жыўцом мяне жонка з'есць, бо й так я забавіўся...* Лынькоў. *[Засцянкоўцы] цяпер праходзяць унурыўшыся і нібыта не пазнаюць ні бацькоў, ні Марыльку, ні мачаху. Здаецца, жыўцом праглынулі б.* Грахоўскі.

**З'Е́СЦІ З ТРЫБУХА́МІ (З ВАНТРО́БАМІ)** *каго. Зак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Замучыць, загубіць нападкамі, ганеннем. **Сін.**: жыўцом з'есці *каго. [Раман:] Як заўважыць гаспадар, з трыбухамі з'есць. «Узрадаваўся, скажа, сукін сын, што мяне спляжылі».* Крапіва. *[Бабка:] Бач, што выдумляе? Не хапала, каб да Язэпа дайшло! Ён жа з'есць Яніну з усімі вантробамі.* Каліна.

**З'Е́СЦІ КУ́КІШ (ДУ́ЛЮ, ФІ́ГУ)**. *Зак. Праст. Груб.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нічога не атрымаць. *Машыніст даў працяглы развітальны гудок. А памочнік высунуўся з акна і пагразіў некаму кулаком. — Што, з'еў кукіш, пане д'ябал!..* Васілёнак. *Думаў, ого, будуць яму горы накладзены, ажно з'еў дулю.* Юрчанка.

**З'Е́СЦІ ПАВУКА́**. *Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Зацяжарыць. *Каханне дзецюкоў з дзяўчатамі ў асноўным патаемнае, выходзіла наверх то вяселлем, то га-*

*воркаю пра самадзейны няўдалы аборт.., а то і проста цяжарнасцю ашуканай дзяўчыны, з якое тады за вочы і ў вочы кпілі: «Што, з'ела павука?..»* Брыль.

**З'ЕСЦІ ПУД ЖАЛЕЗНАГА БОБУ**. Гл. пад'есці.

**З'ЁСЦІ ПУ́Д (НЕ АДЗІ́Н ПУ́Д, МНО́ГА) СО́ЛІ** *з кім. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пражыць доўгі час разам, сябраваць. *Разам працуем, можна сказаць, пуд солі з'елі, а сем'ямі, лічы, незнаёмыя.* Асіпенка. *Тукала на момант асекся. Шыковіч глядзеў на яго цяпер так, быццам не пазнаваў старога сябра, з якім з'еў не адзін пуд солі.* Шамякін. *[Каравай:] Во, брат! Колькі год поруч з табой, не адзін пуд солі з'елі, а не знаў, што ты жывеш з гэткім размахам!* Макаёнак. *Многа давядзецца з'есці партызанскай солі, пакуль гэтыя людзі пачнуць лічыць мяне сваім!* Карпюк.

*ЗЕЎ* • **ЛЬВІ́НЫ ЗЕ́Ў**. *Мн. не ўжыв. Часцей дзейн. і дап. Функц. не зам.* Травяністая расліна з кветкамі, якія нагадваюць адкрытую пашчу льва (antirrhinum L.). *На схілах дарогі раслі рамонкі, чырвоныя пеўнікі, львіны зеў, і яны пачалі ажываць, пасвяжэлі ад прахалоды.* Арабей. *Апрача настурцый і вяргінь, яны з мамай насеяць яшчэ, як на Мілешаве ў пані Юлі, цыній і львінага зеву.* Васілевіч.

*З'ЕЎ* • **ЗУ́БЫ З'Е́Ў (-ЛА, -ЛІ)** *на чым, у чым. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. 1. *Адабр.* Мае, набыў вялікі вопыт, навыкі ў чым-н.; майстар на што-н. **Сін.**: сабаку з'еў *у чым, на чым. Нічога не тлумачце. Я сам... Я, малады чалавек, зубы з'еў на гэтых планіроўках.* Шамякін. *А Пуся — як калабок... Старэй за Эдуарда гадоў на дзесяць, а рухавы, што ртуць... Зубы з'еў на здымках... Загатоўкі ўсё робіць, фатаграфуе без сцэнарыя...* Місько. *[Стэфка] налаўчылася «граць» не горш за сталую «красуню», якая зубы з'ела ў фліртах.* Бядуля. *План жа зрабілі людзі, што зубы з'елі на гэтай справе, якія знарок вучыліся, рыхтаваліся да адказнай сваёй працы.* Шынклер.

2. *Неадабр.* Састарэць, дажыць да старых гадоў на адным месцы, на адной пасадзе. *Вельмі ўжо ты душу сваю ў крук гнеш. Так і з'ясі зубы на пабягушках, пісарчуком.* Чорны.

**МАЛА КАШЫ З'ЕЎ**. Гл. еў.

**САБА́КУ З'Е́Ў (-ЛА, -ЛІ)** *на чым, у чым. Зак. Разм. Часцей адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Набыў вялікі вопыт, навык у якой-н. справе. **Сін.**: зубы з'еў *на чым, у чым. [Караўкін:] Нашто вам браць якога-небудзь сапляка, калі ёсць вопытны работнік, які на гэтай справе сабаку з'еў.* Крапіва. *Я, Ланкевіч, у палітыцы сабаку з'еў. Мне, па маёй галаве, наркомам быць, няйначай.* Асіпенка. *Урачы ведаюць, што і як. Сабаку з'елі...* Рыбак.

**У БОГА ЦЯЛЯ З'ЕЎ**. Гл. украў.

**ЯК МЫЛА З'ЕЎ**. Гл. з'еўшы.

*З'ЕЎШЫ* • **ЯК МЫ́ЛА З'Е́ЎШЫ (З'Е́Ў)**. *Акал. і вык. Разм.* З незадаволеным, кіслым выглядам, у дрэнным настроі (пайсці, сядзець, быць і пад.). **Сін.**: як апошняе ў печ усыпаўшы; як на памінках. — *Што сядзіш як мыла з'еўшы?— спытаў Казік, калі яны засталіся адны.* Машара. *Сваты пайшлі як мыла з'еўшы, хоць Акілініна маці і супакойвала іх: «Чаго спяшацца, суседзі?»* Вітка. *Дзед Гарох замоўк як мыла з'еўшы.* Карамазаў. *Толькі гэтаму вось дзядзьку належыць быць, наколькі я ведаю яго, весялейшым, а ён у цябе — як мыла з'еў...* Брыль. — *Што ты, Андрэй, як мыла з'еў, га-га-га! — жартаваў Юзік Гром. — Мабыць, Ганна цябе зусім адшыла?* Чарнышэвіч.

*З'ЕХАЦЬ* • **З'ЕХАЦЬ З ГЛУЗДУ**. *Зак. да* **З'ЯЗДЖАЦЬ З ГЛУЗДУ**.

**З'Е́ХАЦЬ НА БЗІ́К (ПШЫ́К)**. *Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Страціць вартасць, сілу, значэнне; заняпасці. **Сін.**: з'ехаць на няма нічога.

*Мікола Зязюльскі быў калісь багаты чалавек, задаваў форсу і прагульваў цэлыя сотні рублёў. Аб ім гаварылі з пашанаю. Але непрыкметна з'ехаў на бзік, адышоў на задні план...* Колас. *Во так: з-за аднаго дурнога візіту можна закрэсліць усё, без дай прычыны з'ехаць на бзік...* Блакіт. *Пакінь ты гаспадарку без дагляду — яна табе ў два дні на пшык з'едзе.* Чорны.

**З'ЕХАЦЬ НА МЫЛА**. *Зак. Прасm.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна схуднець. *Адзеты [Карапет] быў сапраўды ў казённае — плісавы касцюмчык з пацёртымі каленкамі, картузік, нават парусінавыя туфлі на нагах меў, але з твару, як кажуць, з'ехаў на мыла і стаў.. больш ахлялы, чым нават некалі ў вёсцы.* Чыгрынаў.

**З'ЕХАЦЬ НА НЯМА НІЧОГА**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш. ці абстр. прадмета. Страціць вартасць, сілу, значэнне; заняпасці. **Сін**.: з'ехаць на бзік. *Бывала, які воз ні налажы, гара не гара — ідзе Буланы, а гэта зусім на няма нічога з'ехаў.* Чорны.

*ЗЖЫВАЦЬ* • **ЗЖЫВАЦЬ СА СВЕТУ** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ствараючы невыносныя ўмовы, даводзіць каго-н. да смерці; губіць, знішчаць. **Сін**.: адарваць галаву *каму* (у 1 знач.); адкруціць галаву *каму* (у 1 знач.); адпраўляць на той свет *каго*; адпраўляць у магілёўскую губерню *каго*; вымаць душу *з каго, каму* (у 2 знач.); вымотваць жылы (у 3 знач.); вымотваць кішкі (у 2 знач.); выпусціць дух (у 3 знач.); выпусціць кішкі <*каму*>; вытрасці душу *з каго, каму* (у 2 знач.); гнаць у магілу *каго*; заганяць на той свет *каго*; зводзіць са свету *каго* (у 1 знач); зводзіць у магілу *каго*; звярнуць галаву *каму*; знімаць галаву *каму* (у 1 знач.); прыбіраць з дарогі *каго*; скруціць вязы *каму*; скруціць шыю *каму*. **ЗЖЫЦЬ СА СВЕТУ** *каго. Зак. [Наташа:] Не падбухторваю, каб вы падсыпалі мыш'яку Марыне Сяргееўне ці зжылі яе са свету якім-небудзь іншым спосабам.* Крапіва. *[Маці:] Ад пана ды войта жыцця няма. Няйнакш, са свету нас хочуць зжыць, каб на іх ліха.* В.Вольскі.

**ЗЖЫВАЦЬ СЯБЕ**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Станавіцца нежыццёвым, непатрэбным, састарэлым. **Сін**.: выходзіць у тыраж (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 2 знач.). **ЗЖЫЦЬ СЯБЕ**. *Зак. Я чуў, што ў сучасным мастацтве пейзаж зжыў сябе. Што ён не патрэбен. Анахранізм.* Мележ. *Там [у прыродзе], калі смерць не гвалтоўная, памірае тое, што зжыло сябе, і само паволі ператвараецца ў нішто.* Карпаў.

*ЗЖЫЎШЫ* • **ЗЖЫЎШЫ ЛЕТА ДЫ Ў МАЛІНЫ**. *Выкл. Разм. Іран.* Выказванне нязгоды з чым-н. запозненым намерам зрабіць што-н. — *Хоча ён князя Усяслава з поруба вызваліць. — Зжыўшы лета ды ў маліны, — аж прысвіснуў баярын. — Вызваліць Усяслава хоча. Ды Усяслава ўся кіеўская раць пільнуе.* Дайнека. [*Мяцельская*, с. 106: зжыўшы лета ды ў маліны — 'што-небудзь позна рабіць, рабіць не ў пару'.]

*ЗЖЫЦЬ* • **ЗЖЫЦЬ СА СВЕТУ** *каго. Зак. да* **ЗЖЫВАЦЬ СА СВЕТУ** *каго.*
**ЗЖЫЦЬ СЯБЕ**. *Зак. да* **ЗЖЫВАЦЬ СЯБЕ**.

*ЗЗАДУ* • **ПАКІДАЦЬ ЗЗАДУ** *каго, што.* Гл. пакідаць.

*ЗІМ* • **КОЛЬКІ ЛЕТ КОЛЬКІ ЗІМ!** Гл. колькі.

*ЗІМОЙ* • **ЗІМОЙ І ЛЕТАМ АДНЫМ ЦВЕТАМ**. Гл. цветам.
**ЗІМОЙ СНЕГУ НЕ ВЫПРАСІШ** *у каго.* Гл. выпрасіш.

*ЗІМУ* • **НІ ЗІМУ НІ ЛЕТА** гаварыць, гарадзіць і пад. *Акал. Разм. Неадабр.* Зусім недарэчна, неўпапад, абы-што. **Сін**.: ні з пушчы ні з поля; ні к сялу ні к гораду (у 1 знач.); ні ў пяць ні ў дзесяць. *Гаворыш ты ні зіму ні лета: зрываць людзей з цаліны! Як гэта зры-*

*ваць? А калі сям'я? Калі яна разламалася: адно тут, другое там?* Чарнышэвіч. — *Можа, хіба дзіванны напарыць ды даць яму. Кажуць, памагае ад шаленства. — Ты ўжо гародзіш ні зіму ні лета, — незалюбіў Ікон Жыток.* Адамчык.

*ЗІМУЮЦЬ* • **ДЗЕ РАКІ ЗІМУЮЦЬ**. Гл. ракі.
**ПАКАЗАЦЬ ДЗЕ РАКІ ЗІМУЮЦЬ** *каму.* Гл. паказаць.

*ЗІРНУЎШЫ* • **НЕ ЗІРНУЎШЫ Ў СВЯТЦЫ БІЦЬ У ЗВАНЫ**. Гл. біць.

*ЗІРНУЦЬ* • **ЗІРНУЦЬ ІНШЫМІ ВАЧАМІ** *на каго, на што.* Гл. глядзець.
**ЗІРНУЦЬ ПРАЗ ПАЛЬЦЫ** *на каго, на што.* Гл. глядзець.

*ЗЛАВІЦЬ* • **ЗЛАВІ́ЦЬ ДВЎХ ЗА́ЙЦАЎ (ЗАЙЦО́Ў)**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адначасова дасягнуць дзвюх мэт. **Сін.**: <адным стрэлам> забіваць двух зайцаў; гнацца за двума зайцамі; мачаць <свой хлеб> у дзве солі. *У некага з дзяўчат дзень нараджэння, і яны нагатавалі чаю, п'юць з тортам — купілі ў буфеце сталоўкі. Двух зайцоў злавілі: быццам і на рабоце, але і дзень нараджэння не забыты.* Місько. *Зрабіце заключны допыт. Калі ён не адкрыецца, адпусціце яго пад спецыяльны нагляд. Яму скажыце, хай дзякуе Аксане. Такім чынам, мы зловім, як кажуць, двух зайцоў.* Гамолка.
**ЗЛАВІЦЬ ЗА РУКУ** *каго. Зак. да* **ЛАВІЦЬ ЗА РУКУ** *каго.*
**ЗЛАВІЦЬ НА КРУЧОК** *каго.* Гл. падчапіць.
**ЗЛАВІЦЬ НА ЛЯТУ** *што. Зак. да* **ЛАВІЦЬ НА ЛЯТУ** *што.*
**ЗЛАВІЦЬ НА СЛОВЕ** *каго. Зак. да* **ЛАВІЦЬ НА СЛОВЕ** *каго.*
**ЗЛАВІ́ЦЬ (СПАЙМА́ЦЬ) ЛІСЎ (ЛІСІ́ЦУ, ЛІ́СА)**. *Зак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач асобы. Неасцярожна прапаліць вопратку пры агні. *Касцы аглядалі свае апранахі. Нехта ўмудрыўся злавіць лісу, прапаліць у крысе кухвайкі дзірку.* Макарэвіч. *Чаго толькі [на начлезе] не вырабляюць! А як засне каторы пры агні, падымецца, аж качаюцца: «Што? Ліса злавіў!»* Янкоўскі. *Сон дзе папала; куцавейкаю ля вогнішчаў, [Хілінскі] пяцьсот разоў лісіцу спаймаў.* Караткевіч.
**ЗЛАВІЦЬ СЯБЕ** *на чым. Зак. да* **ЛАВІЦЬ СЯБЕ** *на чым.*

*ЗЛАДЗЕЙКА* • **ЗЛАДЗЕ́ЙКА З НАКЛЕ́ЙКАЙ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Гарэлка. **Сін.**: божая сляза; зялёны змей (у 1 знач.); малако ад шалёнай каровы; царскія слёзы; чортава зелле; шкляны бог. *Ёсць і такія механізатары, хто жыве па прынцыпу: абы дзень да вечара, а там хоць трава не расці. Адзін клопат: знайсці зладзейку з наклейкай.* «Звязда». *Зладзейка з наклейкай бярэ сваё, спакушае слабыя душы.* «Вожык».

*ЗЛАЖЫЎШЫ* • **ЗЛАЖЫЎШЫ РУКІ**. Гл. склаўшы.
**СЯДЗЕЦЬ ЗЛАЖЫЎШЫ РУКІ**. Гл. сядзець.

*ЗЛАЖЫЦЬ* • **ЗЛАЖЫЦЬ ГАЛАВУ** *за каго, за што, дзе.* Гл. класці.
**ЗЛАЖЫЦЬ ЗБРОЮ**. *Зак. да* **СКЛАДАЦЬ ЗБРОЮ**.
**ЗЛАЖЫЦЬ РУКІ**. *Зак. да* **СКЛАДВАЦЬ РУКІ**.
**ЗЛАЖЫ́ЦЬ <СВАЕ́> КО́СЦІ** *дзе. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Загінуць у баі. **Сін.**: загрымець касцямі (у 1 знач.); знайсці сабе магілу *дзе*; класці галаву *за каго, за што дзе*; легчы касцьмі (у 1 знач.); легчы трупам; ляжаць у < сырой > зямлі; навярнуць галавой; накладаць галавой; памінай як звалі (у 1 знач.); парыць зямлю; парыць косці *дзе*; парыць у зямлі косці; спаць вечным сном; спаць у сырой зямлі; яму засквaрыць. *На вайне загінуў мой сярэдні сын, Юрка. Як і дзе ён злажыў свае косці, мне нічога невядома.* Колас. *Да нас прыходзіць май у госці і ўспамінае ў свята свят герояў,*

*што злажылі косці ў бітвах за савецкі лад.* Купала. *Не ўцячы ім ад расплаты, косці зложаць гады ўсе. Смерць нямецкім супастатам наша Армія нясе.* Крапіва.

*ЗЛАЗІЦЬ* • **ЗЛА́ЗІЦЬ З КА́РКУ (З ШЫ́І)** *чыйго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пераставаць абцяжарваць каго-н., будучы на яго ўтрыманні. **Ант.**: вісець на шыі *ў каго, чаго, чыёй* ( у 1 знач.); есці хлеб (у 2 знач.); садзіцца на карак *каму, чый каго* (у 2 знач.); сядзець на шыі *чыёй, у каго, каго. Ну, Захарка, злазь з жончынага карку! Паедзеш на курсы камбайнёраў. Вось спіс. Праўленне калгаса і цябе рэкамендуе.* Дуброўскі. **ЗЛЕЗЦІ З КАРКУ (З ШЫІ)** *чыйго. Зак.*

**ЗЛА́ЗІЦЬ СА СВАЙГО́ КАНЬКА́**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пераставаць гаварыць на любімую тэму. **Ант.**: садзіцца на свайго канька. **ЗЛЕЗЦІ СА СВАЙГО КАНЬКА**. *Зак. Ленін адразу адзначыў, што Бухарын раптам злез са свайго канька — ні слова пра тое, што ў адказ на нямецкае наступленне трэба тут жа ўзняць на «рэвалюцыйную вайну» сялянства.* Шамякін.

**НЕ ЗЛА́ЗІЦЬ З КА́РКА** *чыйго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пастаянна прыдзірацца, дамагаючыся чаго-н. *І ты такая самая «ўгодніца», ліханька на цябе, з карка майго не злазіш, усё грызеш за гэты кірмаш...* Чарот. *А тут яшчэназаляла, жонка. Яна не злазіла з Янкавага карка.* Дамашэвіч. **НЕ ЗЛЕЗЦІ З КАРКА** *чыйго. Зак. [2-я калгасніца:] Я гэтаму свайму дурню быту не дам. Усяду — з карка не злезу: буду грызці, аж пакуль не выпішацца.* Крапіва.

*ЗЛАМАННЕ* • **НА ЗЛАМА́ННЕ КА́РКА (-У, ШЫ́І)**. *Акал. Разм.* **1**. Не думаючы, безразважна, неабачліва (рабіць што-н.). **Сін.**: заплюшчыўшы вочы; з бухты-барахты; з завязанымі вачамі; з кандачка; з налёту (у 3 знач.); з наскоку (у 2 знач.); на злом галавы (у 1 знач.); на скрут галавы (у 1 знач.); проста з моста. **Ант.**: з адкрытымі вачамі. *Мусіць, добра яму жывецца з табой, калі чалавек на зламанне карка кінуўся ў студню.* Колас. *Заходзіў я яшчэ да дваіх — і там не лепш. І пайшоў я куды вочы глядзяць, на зламанне шыі...* Дубоўка. *Варварын голас гучаў спакойна, як і заўсёды. «Ты не можаш мяне пакінуць на зламанне шыі».* Лужанін.

**2**. Вельмі хутка, імкліва, стрымгалоў (ляцець, імчацца і пад.). **Сін.**: без аглядкі (у 1 знач.); без духу *бегчы*; без душы *бегчы*; без памяці (у 1 знач.); ва ўсе лапаткі (у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.); з усіх ног; колькі <было> духу; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на адным дыханні (у 1 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўвесь мах; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у 2 знач.); на ўсе ногі; на ўсіх парах; на ўсіх парусах; на ўсю моц (у 2 знач.); чуй дух; што ёсць духу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 2 знач.); як дуж; як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як мага (у 1 знач.); як на крыллях; як на пажар; як падсмалены. **Ант.**: як чарапаха. *З кустоў ляцеў на зламанне карку Дземух!* Колас.

*ЗЛАМАЦЬ* • **ЗЛАМАЦЬ САБЕ ВЯЗЫ**. Гл. скруціць.

**ЗЛАМА́ЦЬ <САБЕ́> ГАЛАВУ́ (ШЫ́Ю)**. *Зак. Прост.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Скалечыцца, загінуць. **Сін.**: звярнуць <сабе> галаву (у 1 знач.); скруціць сабе вязы; скруціць <сабе> галаву. *Вось толькі сяду ў каляіну, плячом пад кола таркану і к чорту воз перавярну. Тады — капут, і ты мяне не зловіш, бо галаву, напэўна, зломіш.* Крапіва. — *Чорт яго бяры! — прабурчаў [Радзевіч] сярдзіта. — Хай скажа дзякуй, што шыю не зламаў і пад суд не трапіў. Такіх шафёраў да руля і падпускаць нельга.* В.Вольскі.

**2**. *<на чым>*. Пацярпець поўную няўдачу ў чым-н. **Сін.**: выпадаць у асадак (у 2 знач.); звярнуць <сабе> галаву (у 2 знач.); ісці на дно. *Гэта глупства, Тарэнта. Супроць нас*

*ісці табе, значыць, супроць сябе ісці. Галаву на гэтым ураз зломіш.* Галавач. *Трэба мне ўсё гэта ўзважыць. Вы мне такую задачу задалі, на якой галаву можна зламаць.* Сабаленка. *[Каліберау:] Ты глядзі, Моцкін, зломіш сабе шыю.* Макаёнак.

**ЗЛАМАЦЬ ХРЫБЕТ** *каму. Разм. Зак. да* **ЛАМАЦЬ ХРЫБЕТ** *каму.*

**МОЖНА ЯЗЫК ЗЛАМАЦЬ**. Гл. можна.

*ЗЛАЧЫНСТВА* • **НА МЕСЦЫ ЗЛАЧЫНСТВА**. Гл. месцы.

*ЗЛЕЗЕШ* • *На каго* **ДЗЕ СЯДЗЕШ, ТАМ І ЗЛЕЗЕШ**. Гл. сядзеш.

*ЗЛЕЗЦІ* • **ЗЛЕЗЦІ З КАРКУ** *чыйго. Зак. да* **ЗЛАЗІЦЬ З КАРКА** *чыйго.*

**ЗЛЕЗЦІ СА СВАЙГО КАНЬКА**. *Зак. да* **ЗЛАЗІЦЬ СА СВАЙГО КАНЬКА**.

**НЕ ЗЛЕЗЦІ З КАРКА** *чыйго. Зак. да* **НЕ ЗЛАЗІЦЬ З КАРКА** *чыйго.*

*ЗЛІЗАЛА* • **ЯК КАРОВА ЯЗЫКОМ ЗЛІЗАЛА** *каго, што.* Гл. карова.

*ЗЛІПАЮЦЦА* • **ВОЧЫ ЗЛІПАЮЦЦА** *ў каго, чые.* Гл. вочы.

*ЗЛІЧАНЫ* • **ДНІ ЗЛІЧАНЫ** *чые, каго.* Гл. дні.

*ЗЛО* • **НА ЗЛО** *каму.* Гл. злосць.

**ЯК НА ЗЛО**. Гл. злосць.

*ЗЛОБА* • **ЗЛО́БА ДНЯ́**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Тое, што прыцягвае ўвагу, займае, цікавіць усіх у дадзены момант. *Паўлюк Трус працаваў у штодзённай прэсе, актыўна жыў «злобай дня».* Чорны.

*ЗЛОБУ* • **НА ЗЛО́БУ ДНЯ́**. *Часцей дап. Функц. не зам.* Пра што-н. надзённае, якое хвалюе, займае, цікавіць усіх (гаварыць, пісаць і пад.). *Ласкі нашы звычайна перапыняліся гутаркамі і спакойнымі разважаннямі на злобу дня.* Гарэцкі. *Для сябе і для сваіх блізкіх сяброў я пісаў, часамі, вершы жартаўлівыя, на злобу дня.* Крапіва. *Ты накшталт таго капеечнага крытыка, якаму падавай творы толькі на злобу дня. А для гэтага газеты ёсць.* Караткевіч.

*ЗЛОГА* • **ВЫПУСКАЦЬ ЗЛОГА ДЖЫНА**. Гл. выпускаць.

*ЗЛОМ* • **НА ЗЛО́М ГАЛАВЫ́**. *Акал. Разм.* **1**. Не думаючы, безразважна, неабачліва (рабіць што-н.). **Сін.**: заплюшчыўшы вочы; з бухты-барахты; з завязанымі вачамі; з кандачка; з налёту (у 3 знач.); з наскоку (у 2 знач.); на зламанне карка (у 1 знач.); на скрут галавы (у 1 знач.); проста з моста. **Ант.**: з адкрытымі вачамі *[Вісарыён:] Іш ты, чорт! Як вёў, дык ледзь не плакаў, а тут кідаецца на злом галавы! Мусіць, хацеў медаль зарабіць, паршывец!* Самуйлёнак. *А ў маім лёсе ўсё наадварот. Некалі на злом галавы вырваўся з вёскі, а пад старасць усё часцей і часцей стаў думаць, што зрабіў глупства.* Асіпенка.

**2**. Вельмі хутка, імгненна, стрымгалоў (імчацца, уцякаць і пад.). **Сін.**: без аглядкі (у 1 знач.); без духу *бегчы*; без душы *бегчы*; без памяці (у 1 знач.); ва ўсе лапаткі (у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.); з усіх ног; колькі <было> духу; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на адным дыханні (у 1 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўвесь мах; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у 2 знач.); на ўсе ногі; на ўсіх парах; на ўсіх парусах; на ўсю моц (у 2 знач.); чуй дух; што ёсць духу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 2 знач.); як дуж; як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як мага (у 1 знач.); як на крыллях; як на пажар; як падсмалены. **Ант.**: як чарапаха. *Сам Напалеон каля нашага Барысава ў Студзянцы затросся і перасеў з імперскага каня на сані і памчаўся на злом галавы.* Чорны. *Чубар ско-*

*чыў цераз ваўка і рынуўся на злом галавы па дарозе да бальшака.* Чыгрынаў. *Андрэй убачыў: на лузе ўрассыпную, на злом галавы ўцякае белагвардзейскі раз'езд.* Праскураў.

*ЗЛОМІЦЬ* • **<САМ> ЧОРТ ГАЛАВУ ЗЛОМІЦЬ** <*дзе, у чым*>. Гл. чорт.
**<САМ> ЧОРТ НАГУ ЗЛОМІЦЬ** <*дзе, у чым*>. Гл. чорт.

*ЗЛОМІШ* • **ЯЗЫ́К ЗЛО́МІШ**. *Зак. У абаг.-асаб. знач. Разм.* Цяжка вымавіць што-н. (слова, фразу і пад.). **Сін.**: можна язык зламаць. *[Галя:] Ці бачыш ты хоць аднаго студэнта ці абі-ту-ры-ента... божа, язык зломіш! — якія б нешта вучылі на моры, ды яшчэ на Мінскім?* Шамякін. *У зямлю была ўторкнута лучынка, і на ёй напісана: «традысканцыя». «Ого, якая назва! Язык зломіш», — усміхнуўся сам сабе Сяргей.* Левановіч.

*ЗЛОСНУЮ* • **ПАД ЗЛОСНУЮ РУКУ**. Гл. руку.

*ЗЛОСЦЬ* • **НА ЗЛО́СЦЬ (НА ЗЛО́)** *каму. Акал. Разм.* З намерам даняць, раззлаваць каго-н., зрабіць непрыемнасць каму-н. **Сін.**: у піку *каму. Толя перш плача ад болю, пасля ад жаласці да самога сябе, пасля тату на злосць...* Брыль. *Яго [Пятра] калаціла, як у ліхаманцы, і ён наіўна думаў, што добра было б сапраўды захварэць — на злосць ёй [Сашы]...* Шамякін. *[Анісся] на зло брату.. пайшла за Сяргея.* Лынькоў.
**ЯК НА ЗЛО́СЦЬ (НА ЗЛО́)**. *У знач. пабочн. сл. Разм.* Быццам кімсьці падстроена. Выказванне шкадавання ў сувязі з чым-н. **Сін.**: як на бяду; як на грэх; як на ліха; як на тое; як на тое ліха. *Рыба, як на злосць, не лавілася.* Гарэцкі. *[Сотнікаў], як на злосць, хістка тупаў наводдалек, нібы ўжо не могучы прабегчы якіх сотню крокаў да вяршыні пагорка.* Быкаў. *Як на зло, валасы [у Параскі] разбэрсаліся.* Лобан.

*ЗЛУПІЦЬ* • **ЗЛУПІЦЬ СКУРУ** *з каго. Зак. да* **ЛУПІЦЬ СКУРУ** *з каго.*

*ЗЛУЮ* • **ПАД ЗЛУЮ РУКУ**. Гл. руку.

*ЗЛЫ* • **ЗЛЫ ГЕНІЙ** *чый.* Гл. геній.

*ЗЛЫЯ* • **ЗЛЫЯ ЯЗЫКІ**. Гл. языкі.

*ЗЛЯТАЦЬ* • **ЗЛЯТАЦЬ З ВУСНАЎ** *чыіх, каго.* Гл. зрывацца.
**ЗЛЯТАЦЬ З ЯЗЫКА** *чыйго, у каго.* Гл. зрывацца.

*ЗЛЯЦЕЦЬ* • **ЗЛЯЦЕЦЬ З ВУСНАЎ** *чыіх, каго.* Гл. зрывацца.
**ЗЛЯЦЕЦЬ З ЯЗЫКА** *чыйго, у каго.* Гл. зрывацца.

*ЗМАГАННЕ* • **ЗМАГАННЕ З ВЕТРАКАМІ**. Гл. вайна.

*ЗМАГАЦЦА* • **ЗМАГАЦЦА З ВЕТРАКАМІ**. Гл. ваяваць.
**ЗМАГА́ЦЦА <САМО́МУ> З САБО́Й**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Заглушаць у сабе якія-н. пачуцці, жаданні і пад. *З таго дня, як убачыў ён [Ваця] на вуліцы Маню, прайшло некалькі тыдняў, а ён усё змагаўся з сабою — прыглушыць у сабе свае пачуцці да яе ці паддацца іх бурнаму наплыву.* Чорны. *[Таня] баялася, каб зноў не падступіла тое аблічча, і ад таго, што змагалася сама з сабою, сон не прыходзіў...* Арабей. *З кожным днём Тамара рабілася ўсё болей і болей раздражнёнай, ёй усё цяжэй і цяжэй станавілася змагацца з сабой.* Гаўрылкін.

*ЗМАРГНУЎ* • **<І> ВОКАМ НЕ ЗМАРГНУЎ**. Гл. маргнуў.

*ЗМАТАЦЬ* • **ЗМАТАЦЬ ВУДАЧКІ**. *Зак. да* **ЗМОТВАЦЬ ВУДАЧКІ**.

*ЗМАЯВАЎ* • **ЯК МАЙ ЗМАЯВАЎ** *каго, што.* Гл. май.

*ЗМЕЙ* • **ЗМЕЙ ПАДКАЛОДНЫ**. Гл. гад.

**ЗЯЛЁНЫ ЗМЕ́Й**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Праст. Іран.* **1**. Гарэлка. **Сін**.: божая сляза; зладзейка з наклейкай; малако ад шалёнай каровы; царскія слёзы; чортава зелле; шкляны бог. *Сотні пажараў адбываюцца кожны год у нашай рэспубліцы па віне людзей, якія нераўнадушныя да «зялёнага змея».* «Звязда». *Цягу да зялёнага змея за майстрам заўважалі даўно, як і тое, што ён сябруе з ім у рабочы час.* «Вожык».
**2**. П'янства. *«Зялёны змей» губіць сем'і не толькі са здзіўляючай метадычнасцю, але і ва ўсё больш узрастаючых маштабах.* «Настаўн. газ.» *Як вядома, у барацьбе з зялёным змеем нельга ўвесь цяжар барацьбы перакладваць на міліцыю.* «Вожык».

*ЗМЕНА* • **ЗМЕНА ДЭКАРАЦЫЙ**. Гл. перамена.

*ЗМЕРАЦЬ* • **ЗМЕРАЦЬ ВОКАМ** *каго. Зак. да* **МЕРАЦЬ ВОКАМ**.

*ЗМЕСЦІ* • **ЗМЕСЦІ НА СМЕТНІК ГІСТОРЫІ** *каго, што.* Гл. выкідаць.

*ЗМЕШАНЫ* • **<УСЕ> КАРТЫ ЗМЕШАНЫ** *чые, каго.* Гл. карты.

*ЗМЕШВАЦЬ* • **ЗМЕШВАЦЬ З ГРАЗЗЮ** *каго, што.* Гл. мяшаць.

*ЗМІРГНУЎ* • **<І> ВОКАМ НЕ ЗМІРГНУЎ**. Гл. маргнуў.

*ЗМІРГНУЎШЫ* • **НЕ ЗМІРГНУЎШЫ ВОКАМ**. Гл. маргнуўшы.

*ЗМОГІ* • **КОЛЬКІ <БЫЛО> ЗМОГІ**. Гл. было.

*ЗМОРАМ* • **БРАЦЬ ЗМОРАМ**. Гл. браць.

*ЗМОТВАЦЬ* • **ЗМО́ТВАЦЬ ВУ́ДАЧКІ (ВУ́ДЫ)**. *Незак. Праст. Часта іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паспешна адыходзіць, адступаць, знікаць. **Сін**.: аддаваць канцы (у 2 знач.); вастрыць лыжы *куды, адкуль* (у 2 знач.); выносіць ногі *<адкуль, ад каго>*; даваць дзёру; даваць драла; даваць драпака; даваць лататы; даваць махні-драла; даваць маху (у 2 знач.); даваць стракача *ад каго, адкуль, куды*; даваць у ногі; даваць ходу *адкуль, куды*; даваць цягу; зрабіць ногі (у 1 знач.); падмазваць пяты; паказваць пяткі; паказваць спіну (у 2 знач.); рваць кіпці. — *Выходзіць, немцы змотваюць вудачкі? — Няўжо ж.* Гурскі. *Пеленгуюць, гады, перахопліваюць. Толькі паспееш адстукаць радыёграму і змотвай вуды...* Няхай. **ЗМАТАЦЬ ВУДАЧКІ (ВУДЫ)**. *Зак. Нам толькі б машыны з гразі вытурзаць, зматаем вуды, і наўрад ці хто патрапіць сюды зноў.* Масарэнка.

*ЗМЫВАЦЬ* • **ЗМЫВА́ЦЬ КРЫВЁЙ (КРО́ЎЮ)** *што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пазбаўляцца ад чаго-н. ганебнага цаной жыцця. **ЗМЫЦЬ КРЫВЁЙ (КРОЎЮ)** *што. Зак. [Васіліса:] Віну крывёю змыў ён... Ранен ён, Васіль. Не шкадаваў ні сіл ён, ні жыцця...* Даруй. Клімковіч. *Выклікала падазрэнне ў падрыўнікоў і тое, як Корзун афішыраваў нянавісць да немцаў, быў залішне шчодры ў абяцаннях змыць крывёю сваю ганьбу — палон.* «Полымя».

*ЗМЫКАЦЬ* • **НЕ ЗМЫКА́ЦЬ ВАЧЭ́Й (ВО́ЧЫ)**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Зусім не спаць. **НЕ САМКНУЦЬ ВАЧЭЙ (ВОЧЫ)**. *Зак. Былі ночы — нават не самкнуў вачэй. Кідаўся [Ялавіцкі] на пасцелі ў знямозе.* Баранавых. *Рана сёння на дойку падымалася. Я і вачэй яшчэ не самкнула — траву потым каровам давала.* Даніленка. *І калі лягу я цёмнай ночанькай, ніяк вочы не самкну...* Лынькоў.

*ЗМЫЛА* • **ЯК ВАДО́Й ЗМЫ́ЛА**. *Убезас. ужыв. Разм.* **1**. *каго.* Хто-н. бясследна, імгненна знік, схаваўся. **Сін**.: <і> след прастыў *чый, каго*; толькі і бачылі *каго*; як ветрам здзьмула (у 1 знач.); як <і>не было (у 1 знач.); як маланкай спаліла *каго. Жука і Барадатага як вадой змыла — уцяклі ў кусты ад пчол.* Лынькоў. *Заводчыка Хукмана да гэ-*

*тага часу як вадою змыла.* Чорны. *Толькі цяпер неяк усе звярнулі ўвагу, што каля агню з Дубалекавага атрада не было ні душы. Як вадою змыла.* Лобан.

**2.** *што.* Што-н. раптоўна знікла. **Сін.**: як ветрам здзьмула (у 2 знач.); як <і> не было (у 2 знач.); як карова языком злізала *каго, што. Галіне Уладзіміраўне здалося, што ён падскочыў і тут жа змяніўся — як вадой змыла яго збянтэжанасць, і адразу, у адзін міг, вылезла нахабнасць пераможцы...* Шамякін. *Корзунаву непрыязь як вадой змыла. Перад ім была ўжо не разбэшчаная Вера, якая прыдумала сабе Ксаверыю, а неўладкаваны, напэўна, некалі моцна пакрыўджаны чалавек.* Шыцік.

*ЗМЫЦЬ* • **ЗМЫЦЬ КРЫВЁЙ** *што. Зак. да* **ЗМЫВАЦЬ КРЫВЁЙ** *што.*

*ЗМЯЛО* • **ЯК ВЕТРАМ ЗМЯЛО**. Гл. здзьмула.

*ЗМЯНІЦЬ* • **ЗМЯНІЦЬ БЫКА НА ІНДЫКА**. *Зак. да* **МЯНЯЦЬ БЫКА НА ІНДЫКА**.
**ЗМЯНІЦЬ ГНЕЎ НА МІЛАСЦЬ**. *Зак. да* **ЗМЯНЯЦЬ ГНЕЎ НА МІЛАСЦЬ**.
**ЗМЯНІЦЬ ПЛАСЦІНКУ**. *Зак. да* **МЯНЯЦЬ ПЛАСЦІНКУ**.

*ЗМЯНЯЦЬ* • **ЗМЯНЯЦЬ БЫКА НА ІНДЫКА**. Гл. мяняць.
**ЗМЯНЯЦЬ ГАРШКІ НА ГЛІНУ**. Гл. мяняць.
**ЗМЯНЯ́ЦЬ ГНЕ́Ў НА МІ́ЛАСЦЬ (НА ЛІ́ТАСЦЬ)**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пераставаць злавацца на каго-н. **Сін.**: гнаць гнеў у хлеў. **ЗМЯНІЦЬ ГНЕЎ НА МІЛАСЦЬ (НА ЛІТАСЦЬ)**. *Зак. Перш яму [Шпаку] здавалася, што справы яго пайшлі на лад: капітан Кеніц урэшце змяніў гнеў на міласць.* Ваданосаў. *Ужо і паддобрывацца пачаў, каб гаспадыня змяніла гнеў на літасць, — усё роўна нічога не дабіўся.* Пестрак. *Калі б яна [Тася] у магазіне была, калі б мяне бачыла! Можа б... Можа б, і яна падабрэла, гнеў змяніла на літасць...* Сачанка.
**ЗМЯНЯЦЬ ШЫЛА НА МЫЛА**. *Зак. да* **МЯНЯЦЬ ШЫЛА НА МЫЛА**.

*ЗМЯТАЦЬ* • **ЗМЯТАЦЬ НА СМЕТНІК ГІСТОРЫІ** *каго, што.* Гл. выкідаць.

*ЗМЯШАЦЬ* • **ЗМЯШАЦЬ З ГРАЗЗЮ** *каго, што. Зак. да* **МЯШАЦЬ З ГРАЗЗЮ** *каго, што.*
**ЗМЯШАЦЬ З ЗЯМЛЁЙ**. *Зак. да* **МЯШАЦЬ З ЗЯМЛЁЮ** *каго, што.*

*ЗМЯЮ* • **ГРЭЦЬ ЗМЯЮ НА СВАІХ ГРУДЗЯХ**. Гл. грэць.

*ЗМЯЯ* • **ЗМЯЯ ПАДКАЛОДНАЯ**. Гл. гадзіна.

*ЗНАЁМСТВА* • **З ПЕ́РШАГА ЗНАЁМСТВА**. *Акал. Функц. не зам.* Адразу ж, пры першай сустрэчы. *Яны спадабаліся адзін аднаму з першага знаёмства, і Васілю без асаблівай цяжкасці ўдалося сагітаваць Шышкова пасяліцца ў яго калгасе.* Шамякін. *Наступны раз яны сустрэліся ўжо ў дваццаць другім годзе, пасля смерці Машынага бацькі, і Фаляб'еў прапанаваў ёй [Машы] руку і сэрца, таму што з першага знаёмства думаў толькі аб ёй.* Кацюшэнка.

*ЗНАЙ* • **ЗНАЙ НАШЫХ**! Гл. ведай.
**ЗНА́Й САБЕ́**. *Акал. Разм.* Бесперастанку, няспынна (займацца чым-н., не зважаючы на што-н.). *Аж у пот кідае бабку Арыну, а яна знай сабе падлівае ў сподак ды пацягвае чай.* Лынькоў. *Вар'ят са звязанымі рукамі ўюном круціўся між іх, брыкаўся, а яны знай сабе рагаталі ды зноў тыцкалі ў яго цела цыгаркі.* Быкаў.
**НЕ ЗНА́Й НЕ ВЕ́ДАЙ**. *Акал. Разм.* Невядома чаму, без якіх-н. падстаў. **Сін.**: без дай рады; без нічога ніякага (у 3 знач.); без усякага-якага; за будзь здароў (у 1 знач.); за пусты мех <а ў мяху смех>; за так (у 2 знач.); з ласкі на пацеху; ні з таго ні з сяго; ні з чаго ні з якага; ні села ні пала; так сабе (у 1 знач.). *[Зоська:] Незвычайны чалавек! Не*

*знай не ведай — сястрой мяне называў! Чаму ён мяне так называў?* Купала. *Гэты хлопец не так сабе... Або вельмі разумны, або вельмі малады... Ніхто не знай не ведай не паядзе чалавека да партызан.* Баранавых.

*ЗНАЙСЦІ* • **ЗНАЙСЦІ АГУЛЬНУЮ МОВУ** *з кім. Зак. да* **ЗНАХОДЗІЦЬ АГУЛЬНУЮ МОВУ** *з кім.*

**ЗНАЙСЦІ́ САБЕ́ МАГІ́ЛУ** *дзе. Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Загінуць, быць забітым. **Сін.**: загрымець касцямі (у 1 знач.); злажыць <свае> косці; класці галаву *за каго, за што дзе*; легчы касцьмі (у 1 знач.); легчы трупам; ляжаць у <сырой> зямлі; навярнуць галавой; накладаць галавой; памінай як звалі (у 1 знач.); парыць зямлю; парыць косці *дзе*; парыць у зямлі косці; спаць вечным сном; спаць у сырой зямлі; яму заскварыць. *На подступах да Сталінграда знайшлі ўжо сабе магілу шмат тысяч нямецкіх, італьянскіх, румынскіх і венгерскіх солдат.* Крапіва. *Усіх, хто здольны трымаць аўтамат, Гітлер гоніць на ўсходні фронт. Назад вяртаюцца адтуль толькі калекі. А астатнія? Астатнія знайшлі сабе магілу на палях Расіі.* Леванові́ч.

**ЗНАЙСЦІ́ СЯБЕ́**. *Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** Правільна вызначыць сваё прызванне ў жыцці. *Кожнае дзіця, асабліва падлетак, імкнецца стаць незалежным, самастойным, знайсці сябе.* «Настаўн. газ.» *Ну, а ты як жа? Знайшоў сябе ці яшчэ не? Я для сябе гэта пытанне проста вырашыў: людзям патрэбна мая дапамога, я дапамагаю...* Галавач. *Хацелася думаць, што ён [Лявон Кузьміч] знайшоў сябе тут, на роднай зямлі, у глыбі Палесся. І як чалавек, і як мастак.* Пашкоў.

**2.** *дзе, у чым.* З поўнай сілай выявіць свае схільнасці. **Сін.**: даваць дразда; паказваць свае; паказваць сябе. *Я цяпер зусім упэўнены, што, будучы інжынерам, я буду адчуваць сябе на сваім месцы. Я ўпэўнены, што я знайду тут сябе.* Чорны. *Ніколі не трэба супакойвацца, калі знойдзеш сябе ў якойсьці справе, а ўвесь час, усё жыццё неабходна.. удасканальваць свой прафесіяналізм.* Ліпскі.

**КАНЦО́Ў НЕ ЗНАЙСЦІ́**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не магчы разабрацца ў чым-н., даведацца пра што-н., дакапацца да чаго-н. — *Сына во арыштавалі, — уздыхнуў мужчына. — І канцоў нідзе не знойдзеш.* Адамчык. *Вы ж глядзіце, не пераблытайце [кнігі ў кузаве аўтамашыны], а то потым я і канцоў не знайду.* Новікаў.

**НЕ МАГЧЫ ЗНАЙСЦІ САБЕ МЕСЦА**. Гл. магчы.

*ЗНАЙСЯ* • **І НЕ ЗНА́ЙСЯ**. *У безас. ужыв. Праст. Ужыв. у канцы ск.* **1.** На гэтым усё скончана. **Сін.**: і дзела з канцом; дуды вобземлю; <і> канцы ў ваду (у 2 знач.); і квіта <пане> Мікіта; канцы з канцамі; па ўсім. *У дырэкцыі народных вучылішчаў цырымонія кароткая: дадуць воўчы білет у зубы — і не знайся!* С.Александровіч. *Цеснавата ў нас... Але нічога: усё ж не ў гаспадыні на кватэры. Тут табе і бялізну памыць ёсць дзе, і згатаваць есці — ніхто не глядзіць, колькі ты пліту паліш. А кватплата? Заплаціў два сорак у месяц — і не знайся...* Палтаран.

**2.** Нічога не робіцца з кім-н., нічога не дзейнічае на каго-н. **Сін.**: хоць бы дзічкі *каму*; хоць бы хны (у 2 знач.); хоць бы цвік <*каму*>; хоць бы што (у 2 знач.). *Шчупак — жывучая, брат, юха! Такі жывучы — дзяржы вуха! Ён пяць кручкоў глыне — й не знайся!* Колас.

*ЗНАЙШЛАСЯ* • **ЗНАЙШЛАСЯ АГУЛЬНАЯ МОВА** *у каго з кім.* Гл. мова.

*ЗНАЙШОЎ* • **ЗНАЙШО́Ў (-ЛА́, -ЛО́, -ЛІ́) ДУ́РНЯ**. *Выкл. Разм. Іран.* Выказванне нязгоды з кім-н., адмаўлення рабіць што-н. **Сін.**: нічога падобнага; няма дурных (у 1 знач.); скулу ў бок *каму*; трымай кішэнь шырэй; чорта з два (у 1 знач.); чорта лысага (у 1 знач.). *Патрабуюць [гітлераўцы] Мароза, іначай, сказалі, хлопцаў павесяць. Мароз ім*

*патрэбны. «Ты чуеш? — крычыць камандзір. — І яна з гэтым прымчала ў лагер! Так ім Мароз і пабяжыць. Знайшлі дурня!»* Быкаў. *[Лютар:] Яго ў дом не пускай. Скажы, няма гаспадара, з'ехаў. І сцеражыся яго, бо ён чараўнік і езуіт. [Слуга, убок:] Знайшоў дурня, сам уцякае, а мне заставайся.* «Полымя». *Крахмалаў, які і не думаў працаваць з моладдзю (... знайшлі дурня), смяяўся.* Шамякін.

**ЗНАЙШО́Ў ТАПО́Р (СЯКЕ́РУ) ПАД ЛА́ЎКАЙ**. *Выкл. Разм.* Выказванне іранічных адносін да каго-н., яго дзеянняў, слоў. Прыдумаў што-н. недарэчнае. — *Грошы дзе? — Ляжаць унь на тэлевізары. — Знайшла тапор пад лаўкай. То — не нашы, то — бацькавы. Мы беднякі, дочачка!* Калодзежны. *Бач ты, знайшлі тапор под лаўкай! На чужы мёд рот разявілі. Я колькі гадоў гадую гэтых пчол, а яны ласы на чужое.* Мяжэвіч. *Як на тое, паказалася Клябаніха, убачыла, што робіць яе прымак, і ледзь не з кулакамі накінулася на яго: «Во знайшоў сякеру пад лаўкаю! Аддасі, а потым што — сваю карову за рогі ды на бойню?»* І. Капыловіч.

*ЗНАК* • **ДАВАЦЦА Ў ЗНАК** *каму.* Гл. давацца.

**СТА́ВІЦЦА ЗНА́К РО́ЎНАСЦІ** *паміж кім, паміж чым. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Хто-н. ці што-н. лічыцца зусім аднолькавым, раўнацэнным, падобным да каго-, чаго-н. *Супастаўленне Шаблонскага з Барзовым мяне здзівіла. Барзоў — буйная фігура, валюнтарыст... Між імі, тым не менш, ставіцца знак роўнасці.* Дуброўскі.

**СТАВІЦЬ ЗНАК РОЎНАСЦІ** *паміж кім, паміж чым.* Гл. ставіць.

**У ЗНА́К** *чаго. Акал. Функц. не зам.* **1**. У якасці сведчання, доказу, выяўлення чаго-н. *Заказырыцца і ў знак пратэсту не ставіць і другую п'есу, польскую, Алесь не захацеў.* Брыль. *Чэсь апусціў галаву ў знак свае віны і стаяў панурыўшыся.* Колас. — *Ты хвор? — спытаўся доктар. Сымон у знак таго кіўнуў галавой.* Галубок.

**2**. Як сведчанне павагі да каго-, чаго-н., прызнання і пад. **Сін**.: у гонар *каго, чаго, чый. Ну, а гэта фота, Сцяпанаў, табе. У знак перамогі над асам.* Алешка. *Яшчэ не позна што-небудзь зрабіць у знак прыезду брата. Толькі што іменна?..* Жуковіч.

*ЗНАКАМ* • **ЗНА́КАМ ТЫМ**. *Устар. У знач. пабочн. сл. Разм.* Значыць, значыцца, выходзіць. **Сін**.: такім чынам. *[Сцяпан:] Калі ўжо табе, каханенькая, родненькая, так хочацца, дык скажу. Знакам тым, гэты паніч з далікатнасцяй і ўсякім такім — мой зяць. [Паўлінка:] Зяць?! [Сцяпан:] Знакам тым, ён не саўсім яшчэ зяць, але скора на яго выкіруецца.* Купала. *Але што рабіць? Не скарыстаць запросінаў, не пайсці? Нельга. Як жа гэта будзе выглядаць! Значыцца, баіцца, знакам тым, нешта круціць, тоіцца...* Ф. Аляхновіч.

**ПАД ЗНА́КАМ** *чаго. Акал. Кніжн.* Характарызуючыся чым-н., знаходзячыся пад уздзеяннем чаго-н., кіруючыся якім-н. імкненнем (развівацца, ісці і пад.). *Пад знакам грамадзянскай актыўнасці, удумлівага аналізу, настойлівых пошукаў новых калізій і характараў развіваецца і сучасная беларуская драматургія.* Танк. *Прыезд новага валаснога старшыні змяніў усё Алесева жыццё: пазней і яго маленства, і юнацтва ішлі пад знакам Кацярынінага пасталення і хараства.* Далідовіч. *Падрыхтоўка да цяперашняга навучальнага года вялася пад знакам усеагульнай увагі да школ.* «Настаўн. газ.»

*ЗНАКІ* • **ДАВАЦЦА Ў ЗНАКІ** *каму.* Гл. давацца.

*ЗНАКУ* • **НЕ ПАДАВАЦЬ ЗНАКУ**. Гл. падаваць.

*ЗНАСІЦЬ* • **ЗНАСІ́ЦЬ ГАЛАВУ́**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Застацца жывым, уцалець, мінуць пакаранне. — *Порсткі вельмі ж, — не то з пахвалой, не то з дакорам сказаў Раман. — Ой, ці зносіць ён галаву?* Грахоўскі. *Калі хочаш галаву знасіць,*

*дык уцякай, хлопча, куды вочы глядзяць.* Сабаленка. *Мо самі не зносім галовы, то хай хоць дзеці помняць, мо ўцалеюць ды людзям скажуць.*Міська.

**НЕ ЗНАСІЦЬ ГАЛАВЫ** *каму. Зак. Убезас. ужыв. Разм.* Не мінуць пакарання, не ўцалець; загінуць. *Едзь і больш сюды не варочайся. Не знасіць табе галавы, калі ты яшчэ раз паспрабуеш ступіць на нашы землі.* Самуйлёнак. *— Не, не знасіць Аляксею галавы, не знасіць, — казалі вясковыя міраеды... — Размова з ім адна... Не мы яго, дык ён нас...* «ЛіМ».

*ЗНАХОДЗІЦЦА* • **НЕ ВЕДАЦЬ НА ЯКІМ СВЕЦЕ ЗНАХОДЗІЦЦА**. Гл. ведаць.

*ЗНАХОДЗІЦЬ* • **ЗНАХО́ДЗІЦЬ АГУ́ЛЬНУЮ МО́ВУ** *з кім. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дабівацца, дасягаць поўнага паразумення; дамаўляцца. *З салдатамі, якія вядуць героя апавядання ў штаб белых, ён знаходзіць агульную мову.* Шкраба. *Калі, магчыма, агульную мову я знаходжу з дзецьмі, з малымі, дык універсітэцкая кафедра не зусім на мой рост.* Вітка. **ЗНАЙСЦІ АГУЛЬНУЮ МОВУ** з *кім. Зак. Скажу адкрыта: нам ніколі агульнай мовы не знайсці, я не магу таго дазволіць, што дазваляеш ты ў жыцці.* Непачаловіч.

**НЕ ЗНАЙСЦІ́ <САБЕ́> МЕ́СЦА**. *Зак. Закруціла мяне любоў з гэтай Лёлькай, месца сабе не знайду.* Быкаў.

**НЕ ЗНАХО́ДЗІЦЬ <САБЕ́> МЕ́СЦА**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі хвалявацца, непакоіцца. **Сін.**: выходзіць з сябе; лезці на сцяну; не магчы знайсці <сабе> месца; не помніць сябе *<ад чаго>*. *Хлопчык не знаходзіў сабе месца. Не еў, не спаў. Схуднеў.* Шамякін. *Леанід Андрэевіч не знаходзіў сабе месца, што нічым не можа памагчы людзям.* Грахоўскі. *Перадавалі, што нямецкі атрад пацярпеў няўдачу, камандзір цяпер месца не знаходзіць ад злосці, і невядома, чым усё гэта скончыцца* Лынькоў. *Дзед хадзіў змрочны, дый Алесь месца не знаходзіў.* Караткевіч.

*ЗНАЦЬ* • **ДАВАЦЬ АБ САБЕ ЗНАЦЬ**. Гл. даваць.

**ДАВАЦЬ ЗНАЦЬ** *каму.* Гл. даваць.

**ДАВАЦЬ СЯБЕ ЗНАЦЬ**. Гл. даваць.

**ЗНАЦЬ МЕРУ**. Гл. ведаць.

**ЗНАЦЬ САБЕ ЦАНУ**. Гл. ведаць.

**ЗНАЦЬ СВАЁ МЕСЦА**. Гл. ведаць.

**ЗНАЦЬ ТОЛК** *у кім, у чым.* Гл. ведаць.

**ЗНАЦЬ ЦАНУ** *каму, чаму.* Гл. ведаць.

*Пара* **<І> ЧЭ́СЦЬ ЗНА́ЦЬ (ВЕ́ДАЦЬ)** *каму. Зак. Кампанент безас. вык. Разм.* **1.** (Пара) спыніць, скончыць што-н., перастаць рабіць што-н. *— Дзяўчаты, хопіць [угаворваць],— сказаў Сідор. — Пара чэсць знаць.* Алешка.

**2.** (Пара) ісці, пайсці адкуль-н., пакінуць каго-н. *[Адзін з гасцей:] Пара нам і чэсць знаць! Пэўна, ужо каля поўначы матаецца. [Колькі галасоў:] Так, так, час рухацца дамоў!* Купала. *Насця знарок шырока пазяхнула і сказала: — Пілі, елі, маладую бачылі? Пара і чэсць ведаць...* Мележ. *Дзень пагасцявалі і яшчэ дзянёк... Ну, пара ўжо, як гаворыцца, і чэсць знаць, мне, ва ўсякім разе.* Ракітны.

*ЗНАЮЦЬ* • **ВЯТРЫ ЯГО ЗНАЮЦЬ**. Гл. вятры.

*ЗНІЗУ* • **ГЛЯДЗЕЦЬ ЗНІЗУ ЎВЕРХ** *на каго, на што.* Гл. глядзець.

*ЗНІКАЦЬ* • **ЗНІКА́ЦЬ З ВАЧЭ́Й (З ВО́Ч)**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш. ці канкр. прадмета. Пераставаць быць бачным. **Сін**: прападаць з вачэй. *Шэсць чалавек ныраюць у лес і зараз жа знікаюць з вачэй...* Колас. **ЗНІКНУЦЬ З**

**ВАЧЭЙ (З ВОЧ)**. *Зак. Кандрат Назарэўскі бачыў праз акно, як жанчына адчыніла брамку, як пайшла кудысьці за сляпок. Там яна і знікла з вачэй.* Чорны. *Гарнастай тым часам знік з вачэй.* Маўр. *Два танкі.. сунуліся адзін воддаль другога, неяк бачком.., пасля па той бок шашы зусім зніклі з воч.* Пташнікаў.

*ЗНІКНУЦЬ* • **ЗНІКНУЦЬ З ВАЧЭЙ**. *Зак. да* **ЗНІКАЦЬ З ВАЧЭЙ**.

*ЗНІМАЦЦА* • **ЗНІМА́ЦЦА З Я́КАРА**. *Незак. Разм. Жарт.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адпраўляцца, ад'язджаць. **Ант.**: віць <сваё> гняздо (у 1 знач.); кідаць якар *дзе*; пускаць карэнне (у 1 знач.). **ЗНЯЦЦА З ЯКАРА**. *Зак. Амаль што разам з трактарыстам зняўся з якара і дзядзька на падводзе, нават шлеганўў лейчынаю каню па баку, азірнуўся.* А.Жук. *Ну, я, таварышы, забягу на хвіліну дахаты. А вы тут вячэрайце. У дванаццаць гадзін знімемся з якара, як кажуць маракі. Нам цяпер дарага кожная хвіліна.* Паслядовіч.

*ЗНІМАЦЬ* • **ЗНІМА́ЦЬ (ЗДЫМА́ЦЬ) ГАЛАВУ́** *каму. Незак. Разм. Незадав.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Забіваць, знішчаць каго-н. **Сін.**: адарваць галаву *каму* (у 1 знач.); адкруціць галаву *каму* (у 1 знач.); адпраўляць на той свет *каго*; адпраўляць у магілёўскую губерню *каго*; вымаць душу *з каго, каму* (у 2 знач.); вымотваць жылы (у 3 знач.); вымотваць кішкі (у 2 знач.); выпусціць дух (у 3 знач.); выпусціць кішкі <*каму*>; вытрасці душу *з каго, каму* (у 2 знач.); гнаць у магілу *каго*; заганяць на той свет *каго*; зводзіць са свету *каго* (у 1 знач.); зводзіць у магілу *каго*; звярнуць галаву *каму*; зжываць са свету *каго*; прыбіраць з дарогі *каго*; скруціць вязы *каму*; скруціць шыю *каму*. *«Ай, куды ты, ай, куды ты? — раскрычаўся цар сярдзіта. — Мы ўсе едзем па цябе — галаву знімаць табе!»* Якімовіч. **ЗНЯЦЬ ГАЛАВУ** *каму. Зак. Сілен, княжа, караць, галаву сілен зняць, — не скуеш толькі дум ланцугамі.* Купала. *Цяпер душыцелю свабоды і кату Карнілаву галаву здымем.* Шамякін.

**2**. Сурова караць. Звычайна як пагроза. **Сін.**: адарваць галаву *каму* (у 2 знач.); адкруціць галаву *каму* (у 2 знач.). **ЗНЯЦЬ ГАЛАВУ** *каму, як. Зак. Цяпер лячу на работу — спазнюся, шэф галаву здыме...* Гігевіч.

**ЗНІМА́ЦЬ ПЕ́НКІ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Браць, прысвойваць сабе самае лепшае, выгаднае. **Сін.**: збіраць вяршкі. *На мяне два райаддзелы і адзін раённы пракурор горбіліся. Мне было толькі пенкі знімаць.* Шыцік. **ЗНЯЦЬ ПЕНКІ**. *Зак.*

**ЗНІМАЦЬ СТРУЖКУ** *з каго.* Гл. здымаць.

**ЗНІМАЦЬ ШАПКУ** *перад кім.* Гл. здымаць.

*ЗНОЙДЗЕШ* • **СВЕТ ПРАЙДЗІ, ДРУГОГА НЕ ЗНОЙДЗЕШ** *такога.* Гл. прайдзі.

**ЯК ЗНО́ЙДЗЕШ (-ЕЦЕ)** *калі. Зак. Разм. Часцей ужыв. у 3-й ас.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Будзеш з задавальненнем успамінаць пра што-н. зробленае раней. *«Вучыся, — бывала, кажа [паненка], — Васілёк, вучыся — пад старасць як знойдзеш».* Ядвігін Ш. *Пайдзі ты, Галя, другую дзяружку вазьмі. Пойдзем, яшчэ разок прынясём [канюшыны]. Зімой лішні ахапак як знойдзеш.* Брыль. *От, якраз меў вольны час і схадзіў у Плянты да каваля, узяў аж тры [матыгі] за пуд жыта. Восенню — як знайду!* Карпюк. *— Дайце мне адзін канверт з маркой... — Ой, што — вы адно пісьмо хіба будзеце пісаць? — шчыра здзіўляецца Наташа. — Бярыце больш. Пасля як знойдзеце.* Паўлаў.

*ЗНОС* • **НА ЗНО́С**. *Разм.* **1**. *Акал.* Звыш магчымага, не шкадуючы сябе (працаваць). *Таццяна працуе з 8 раніцы да 8 вечара. Што называецца, на знос. Вернецца вечарам, тое-сёе зробіць дома, перакінецца некалькімі словамі з сынам, дапаможа зрабіць урокі —*

*і ў ложак.* Дзелянкоўскі. *Дзед працаваў на знос у асноўным на рабоце цяжкай і малааплатнай.* Вераб'ёў.

**2.** *Азн.* Вельмі цяжкая, з поўнай аддачай сіл, да знямогі (праца). *У гэтых маладых людзей прафесія бязлітасная, што вымагае жорсткай дысцыпліны, працы на знос...* «ЛіМ».

*ЗНОСУ* • **ЗНОСУ НЯМА** *каму.* Гл. няма.

*ЗНОЎ* • **ЗНОЎ ЗА РЫБУ ГРОШЫ**. Гл. грошы.

**ЯК <ЗНОЎ> НА СВЕТ НАРАДЗІЎСЯ**. Гл. нарадзіўся.

*ЗНЯЛО* • **ЯК РУКО́Й ЗНЯЛО́ (ЗНІМА́Е, ЗНІМА́ЛА, ЗНІ́МЕ; ЗДЫМА́Е, ЗДЫМА́ЛА, ЗДЫ́МЕ)** *што. У безас. ужыв. Разм.* Што-н. зусім знікла, прапала, прайшло. Пра хваробу, сон, пачуцці, перажыванні. *Стары Мікола паціраў рукі з радасці: гэта ён настроіў знахараў, гэта ён нараіў, — і вось бачыце, што выйшла? — зразу як рукой усё зняло.* Ядвігін Ш. *Іванаву злосць як рукой знімае.* Кудравец. *Пайсці ў грыбы ці ў тую рыбу або паехаць у сялібу ці ў млын малоць на хлеб збажынку — ўсё гэта вабіла хлапчынку, цягнула крэпенька, бывала, і як рукою злосць знімала.* Колас. *Ступіш колькі крокаў, і ўвесь сон як рукой зніме.* Лынькоў. *Прападала санлівасць, як рукой здымала стому і абыякавасць.* Цяжкі. *І праз пяць мінут — як рукой здымае маркоту ўсю.* Радкевіч. *Ды мне варта прыйсці ды пад'есці добра, дык усе хваробы як рукой здыме.* Галавач.

*ЗНЯТЫ* • **ЯК З КРЫ́ЖА ЗНЯ́ТЫ (-АЯ, -АЕ, -ЫЯ)**. *Вык. ці азн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі слабы, даведзены да знямогі. *З карцэра ледзь вылезлі, як цені, як з крыжа знятыя, — аж цёмна ўваччу.* Хведаровіч. *Папраўляйся, ты такі худы, як з крыжа зняты. Няўжо і твае таварышы такія?* Дамашэвіч. *Клаўдзя неяк раптам здала, пастарэла, хадзіла як з крыжа знятая — не пазнаць.* Блакіт.

*ЗНЯЦЦА* • **ЗНЯЦЦА З ЯКАРА**. *Зак. да* **ЗНІМАЦЦА З ЯКАРА**.

*ЗНЯЦЬ* • **ЗНЯЦЬ ВЯРШКІ**. Гл. збіраць.

**ЗНЯЦЬ ГАЛАВУ** *каму. Зак. да* **ЗНІМАЦЬ ГАЛАВУ** *каму.*

**ЗНЯЦЬ ПЕНКІ**. *Зак. да* **ЗНІМАЦЬ ПЕНКІ**.

**ЗНЯЦЬ СКУРУ** *з каго.* Гл. спусціць.

**ЗНЯЦЬ СТРУЖКУ** *з каго. Зак. да* **ЗДЫМАЦЬ СТРУЖКУ** *з каго.*

**ЗНЯЦЬ ШАПКУ** *перад кім. Зак. да* **ЗДЫМАЦЬ ШАПКУ** *перад кім.*

*ЗОЛАК* • **ЧУ́ЦЬ (ЛЕ́ДЗЬ) ЗО́ЛАК**. *Устар. Акал. Разм.* Вельмі рана, перад світаннем, досвіткам. **Сін.**: ні свет ні зара; чуць свет; чым свет; <яшчэ> чэрці на кулачкі не выходзілі. *[Грышка:] Выбачай, мілая Марыся, — чуць золак я з'ездзіў ужо да места...* Дунін-Марцінкевіч. *Што гэта? Яшчэ чуць золак, а ты ўжо ўскруціўся? Здурнеў, стары, ці што?* Чарот. *[Розін:] Мы адступілі знарок: заўтра, чуць золак, уранку штаб развінае скрозь націск на правым флангу.* Глебка.

*ЗОЛАТА* • **НА ВАГУ ЗОЛАТА**. Гл. вагу.

**ЧО́РНАЕ ЗО́ЛАТА**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Нафта. *Палеская зямля, галоўным багаццем якой яшчэ нядаўна лічыўся торф, дае цяпер «чорнае золата».* Мележ. *Неўзабаве я і сустрэўся з сапраўднымі шукальнікамі залатых скарбаў... Нават неяк і не верыцца, што менавіта яны зазірнулі ў глыбіню зямных нетраў і знайшлі на Палессі найбагацейшы скарб — чорнае золата.* Кірэйчык.

*ЗОЛАТАМ* • **АБСЫПАЦЦА ЗОЛАТАМ**. Гл. абсыпацца.

*ЗОЛАЦЕ* • **КУПАЦЦА Ў ЗОЛАЦЕ**. Гл. купацца.

*ЗОРАК* • **ЗОРАК З НЕБА НЕ ХАПАЕ**. Гл. хапае.

*ЗОРКА* • **ЗО́РКА ЗАКАЦІ́ЛАСЯ (ПАТУ́ХЛА)** *чыя. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Скончылася чыё-н. шчасце, поспехі, кар'ера і пад. **Сін.**: песенька спета *чыя, каго* (у 2 знач.); сонца зайшло *чыё.* **Ант.**: зорка ўзыходзіць *чыя*; сонца ўзыходзіць <*каму, для каго*>. *Картэра секанула думка: яго зорка закацілася!* «Звязда». *[Троцкі] паспрабаваў узначаліць «бунт» супраць дэспатызму настаўнікаў: першым свіснуў на ўроку. За гэта яго выключылі. Але бацькавы грошы хутка аднавілі яго вучобу ў вучылішчы. Пасля гэтага зорка лідэрства яго патухла.* Шамякін.

**ЗО́РКА ПЕ́РШАЙ ВЕЛІЧЫНІ́**. *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Адабр.* Вельмі славуты ў якой-н. сферы дзейнасці чалавек. *Акрамя самога гаспадара, там ужо былі Якуб Колас, Кандрат Крапіва, Пятро Глебка, Максім Лужанін. Зоркі першай велічыні, паважаныя людзі.* Шамякін. *Яна [Андрэева], актрыса з зорак першай велічыні, усё аддала для рэвалюцыі.* Лужанін.

**ЗО́РКА ЎЗЫХО́ДЗІЦЬ** *чыя. У безас. ужыв. Функц. не зам. Узнёсл.* Для каго-н. наступае што-н. новае, вельмі значнае ў жыцці. **Сін.**: сонца ўзыходзіць <*каму, для каго*>. **Ант.**: зорка закацілася *чыя*; песенька спета *чыя, каго* (у 2 знач.); сонца зайшло *чыё. Калі «міністры» з народнага сакратарыята і іх сябры не толькі засмуціліся, але нават палі духам, што з імі гэтак двудушна і жорстка абышліся нямецкія генералы, дык Скураны ажыў, душою адчуў: здаецца, зноў узыходзіць яго зорка...* Далідовіч.

**ПУЦЯВО́ДНАЯ ЗО́РКА**. *Мн. не ўжыв. Часцей вык. Кніжн.* **1**. Тое, што накіроўвае, вызначае чыю-н. дзейнасць, жыццё. *[Памяць роднай зямлі] стала пуцяводнай зоркай у жыцці і Ягора Захаравіча.* «Полымя». *Маральныя каштоўнасці, выхаваныя ў школе, надоўга будуць пуцяводнай зоркай выпускніка.* «Настаўн. газ.»
**2**. Чалавек, які вызначае чыё-н. жыццё, дзейнасць. *У жыцці ты будзь мне зоркай пуцяводнай.* Журба. *[Бязродны:] Пакуль будзе біцца сэрца ў ма[іх] грудз[ях], ты будзеш маёй адвагай, ты будзеш маёй пуцяводнай зоркай на вайне, змагайся і жыві.* Галубок.

**УЗЫХО́ДЗЯЧАЯ ЗО́РКА** <*чаго, на чым*>. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Адабр.* Чалавек, які пачынае набываць шырокую вядомасць, вялікую славу ў якой-н. галіне дзейнасці. *Арнольд з'явіўся на свет тады, калі бацька яшчэ не быў узыходзячай зоркай на варшаўскім фінансавым небе.* Мехаў. *Праз нейкі час настаўнік з Мікалаеўшчыны чытаў свае вершы. Па словах Аляксандра Мікітавіча, усе зразумелі, што перад намі ўзыходзячая зорка беларускай паэзіі.* «ЛіМ».

*ЗОРКАЙ* • **НАРАДЗІЦЦА ПАД ШЧАСЛІВАЙ ЗОРКАЙ**. Гл. нарадзіцца.

*ЗОРКІ* • **ДА ПЕ́РШАЙ ЗО́РКІ**. *Акал. Разм. Іран.* Ненадзейна, з малой верагоднасцю на здзяйсненне чаго-н. *Шулька згаджаецца, ківае галавой, абяцае, але — толькі да першай зоркі, як зараз кажуць.* Гіль.

**ХАПАЦЬ ЗОРКІ З НЕБА**. Гл. хапаць.

*ЗОРНАЯ* • **ЗОРНАЯ ГАДЗІНА** *чыя, для каго.* Гл. гадзіна.

*ЗРАБІ* • **ЗРАБІ́ (-ЦЕ) ЛА́СКУ**. *Часцей у знач. пабочн. сл. Разм.* Зварот для выказвання ветлівай просьбы, пабуджэння. Прашу вас. **Сін.**: будзь добры; будзь ласкаў; калі ласка (у 1 знач.). *[Ціхон:] Добра, пане Куторга, — бяры сабе дачку, і пасаг дам, толькі зрабі ласку: выцягні з бяды.* Дунін-Марцінкевіч. *Ты ўжо, братка Алесь, зрабі ласку, напішаш ёй, што я жывы, што і я, скажы, хутка прыйду.* Брыль. *[1-ы кліент:] Мы ведаем, што вы гэтымі справамі не займаецеся, але зрабіце ўжо такую ласку.* Крапіва.

*ЗРАБІЛІСЯ* • **ВОЧЫ ВЯЛІКІЯ ЗРАБІЛІСЯ** *ў каго.* Гл. вочы.

*ЗРАБІЦЬ* • **ЗРАБІ́ЦЬ БЛІ́Н** *з каго. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Жорстка расправіцца з кім-н., моцна пакараць каго-н. Часцей як пагроза. **Сін.**: грызці горла *каму*; мяшаць з зямлёй (у 2 знач.); накладваць рукі *на каго*; сцерці ў парашок *каго*; сціраць з твару зямлі (у 1 знач.). *[Каліберау:] Ды я цябе ў парашок сатру! Я з цябе блін зраблю! [Моцкін:] За што? Квітанцыі я не выпісваў, распіскі не даваў, на старшынь не націскаў і па радыё таксама не выступаў.* Макаёнак. *[Васіль:] І калі ты не пакінеш ашукваць праваслаўны народ, я з цябе блін зраблю.* Козел. *[Фірага:] Я яшчэ з цябе зраблю блін. Паспею.* Пташнікаў.

**ЗРАБІЦЬ ВЫГЛЯД**. *Зак. да* **РАБІЦЬ ВЫГЛЯД**.

**ЗРАБІЦЬ ВЯЛІКІЯ ВОЧЫ**. *Зак. да* **РАБІЦЬ ВЯЛІКІЯ ВОЧЫ**.

**ЗРАБІЦЬ ВЯСЁЛУЮ МІНУ ПРЫ ДРЭННАЙ ГУЛЬНІ**. *Зак. да* **РАБІЦЬ ВЯСЁЛУЮ МІНУ ПРЫ ДРЭННАЙ ГУЛЬНІ**.

**ЗРАБІЦЬ З БЕЛАГА ЧОРНАЕ**. *Зак. да* **РАБІЦЬ З БЕЛАГА ЧОРНАЕ**.

**ЗРАБІЦЬ З МУХІ СЛАНА**. *Зак. да* **РАБІЦЬ З МУХІ СЛАНА**.

**ЗРАБІ́ЦЬ НО́ГІ**. *Зак. Праст. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Кінуцца наўцёкі, імкліва ўцячы. **Сін.**: аддаваць канцы (у 2 знач.); вастрыць лыжы *куды, адкуль* (у 2 знач.); выносіць ногі <*адкуль, ад каго*>; даваць дзёру; даваць драла; даваць драпака; даваць лататы; даваць махні-драла; даваць маху (у 2 знач.); даваць стракача *ад каго, адкуль, куды*; даваць у ногі; даваць ходу *адкуль, куды*; даваць цягу; змотваць вудачкі; падмазваць пяткі; паказваць пяткі; паказваць спіну (у 2 знач.); рваць кіпці. *«Геолагі» толькі і мараць знайсці золата і, ні з кім не дзелячыся, зрабіць ногі за мяжу.* Федарэнка. *Невядомы хацеў зрабіць ногі, але чатыры папераджальныя стрэлы сяржанта Пешкура яго спынілі.* «Звязда». *Калі і заявіцца які — дык хутка ўцякае. Мусіць, і гэты, прымак, рашыў ногі зрабіць...* Давыдаў.

**2**. *каму, чаму.* Украсці што-н. *Ля цырка яна [Рыфма] спыніла «мерседэс» і выйшла, пакінуўшы ключы ад запальвання ў замку. Яна напэўна ведала, што да раніцы машыне «зробяць ногі» тыя ж «азеры» ці яшчэ хто.* Станкевіч.

**ЗРАБІЦЬ ПАГОДУ** <*у чым, дзе*>. *Зак. да* **РАБІЦЬ ПАГОДУ** <*у чым, дзе*>.

**ЗРАБІЦЬ ПРАПАНОВУ** *каму. Зак. да* **РАБІЦЬ ПРАПАНОВУ** *каму.*

*ЗРАЗУМЕЛА* • **САМО САБОЙ <ЗРАЗУМЕЛА>**. Гл. само.

*ЗРАЎНЯЦЬ* • **ЗРАЎНЯ́ЦЬ З ЗЯМЛЁЙ** *што. Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Поўнасцю разбурыць, знішчыць дашчэнту. **Сін.**: вырываць з коранем *што*; мяшаць з зямлёй (у 1 знач.); не пакідаць каменя на камені (у 1 знач.); сціраць з твару зямлі (у 2 знач.). *Менавіта на Асвейшчыне эсэсаўцы перад адступленнем нямецка-фашысцкай арміі зраўнялі з зямлёй усё, не пакінуўшы ні хаты, ні хлеўчука, ні жывёліны, ні курыцы.* Хадкевіч. *Пачалі бамбіць, не засталося і таго дома. Усё было зраўнягна з зямлёй.* Гроднеў.

*ЗРОБІШ* • **НІЧО́ГА НЕ ЗРО́БІШ (НЕ ПАРО́БІШ)**. *У абаг.-асаб. знач. Разм.* Мусіш пагадзіцца, бо іншага выхаду няма. **Сін.**: дзе <ты> дзенешся; недзе дзенешся; нідзе не дзенешся; нічога не папішаш; нічога не парадзіш; што зробіш. — *Абавязак даволі не ганаровы. — Нічога не зробіш. На ганаровыя абавязкі і без нас прэтэндэнтаў хапае.* Галавач. *Ведама, баец з гэтага настаўніка не надта зайздросны, але нічога не зробіш.* Быкаў. *Колькі добрых людзей знайшло, ды яшчэ і знойдзе, сабе магілу. Вайна, нічога не паробіш!* Сабаленка. *Але нічога не паробіш. Не мы смерць выбіраем, а смерць нас выбірае — во якое права.* Кудравец.

**ШТО́ ЗРО́БІШ (ПАРО́БІШ).** *Зак. У абаг.-асаб. знач. Разм.* Мусіш пагадзіцца, бо іншага выхаду няма. **Сін.**: дзе <ты> дзенешся; недзе дзенешся; нідзе не дзенешся; нічога не зробіш; нічога не папішаш; нічога не парадзіш. *[Аўдоцця:] Харошую ж і аддаваць шкода. [Пытляваны:] Што зробіш. Такая ўжо доля матчына: чым лепшая дачка, тым хутчэй яе забіраюць.* Крапіва. *Не вельмі Максіма ўзрадавала такая «перамога». Але — што зробіш...* Шамякін. *Разварочвацца з мехам было тут не надта зручна, асабліва калі трэба было размінуцца дваім, мала прасторы, але што зробіш.* Кудравец.

*ЗРОБЛЕНЫ* • **ЗРО́БЛЕНЫ (ПАРО́БЛЕНЫ) НА АДЗІ́Н КАПЫ́Л.** *Вык. Разм. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці канкр. прадмета. Вельмі падобныя адзін на другога, аднолькавыя. **Сін.**: абое рабое; аднаго крою; аднаго поля ягада; адным лыкам шытыя; адным мірам мазаны; два боты пара; <з> аднаго балота чэрці; з аднаго цеста <спечаны>; на адзін капыл (у 1 знач.); на адзін лад; на адзін манер (у 1 знач.). **Ант.**: з іншага цеста <спечаны>; не з такога цеста зроблены. *Так я вам і паверыла! Усе вы мужчыны зроблены на адзін капыл!* Гурскі. *Гэты аўтар піша і дасылае нам вельмі шмат вершаў — і ўсе яны зроблены на адзін капыл.* Вітка. *Атрутны тыл, паганы тыл. Усе на адзін пароблены капыл.* Колас.

**НЕ З ТАКО́ГА ЦЕ́СТА ЗРО́БЛЕНЫ.** *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не такі, як хто-н. іншы, характарам, паводзінамі і пад. **Сін.**: з іншага цеста <спечаны>. **Ант.**: абое рабое; аднаго крою; аднаго поля ягада; адным лыкам шытыя; адным мірам мазаны; два боты пара; <з> аднаго балота чэрці; з аднаго цеста <спечаны>; зроблены на адзін капыл; на адзін капыл (у 1 знач.); на адзін лад; на адзін манер (у 1 знач.). *Непрывычнаму чалавеку тут рабілася страшна. Але Поль не з такога цеста зроблены, каб замаруджваць крок і нечаму здзіўляцца.* Гамолка.

*ЗРОКУ* • **ПОЛЕ ЗРОКУ.** Гл. поле.

*ЗРУХ* • **ЗРУ́Х ПА ФА́ЗЕ** *ў каго. У безас. ужыв. Праст. Неадабр.* Хто-н. дзейнічае неразумна, робіць глупства. **Сін.**: дах паехаў *у каго*; дурны поп хрысціў *каго*; клёпкі не хапае <у галаве> *у каго*; мазгі адсохлі *ў каго* (у 2 знач.); мазгі набакір *у каго*; мазгі не на месцы *ў каго*; мякіна ў галаве *ў каго*; не ўсе дома *ў каго*; салома ў галаве *ў каго, чыёй*; шарыкі за ролікі заходзяць *у каго*. **Ант.**: галава варыць *у каго*; <ёсць> <свая> галава на плячах *у каго*; кацялок варыць *у каго*; мазгі вараць *у каго*; не галава, а дом саветаў *у каго*; светлая галава *ў каго*. *Назаўтра ў аддзяленні Жоўцік доўга і ўважліва, крыху здзіўлена паглядзеў на Гарноську, пакруціў пальцам ля скроні: — У цябе што, зрух па фазе?.. Не ўмееш жартаваць — не лезь!* Блакіт. — *Ты што, ашалеў ці... — пакруціў Янка ля скроні. — Зрух па фазе?! Асёл.* «Маладосць».

*ЗРУШЫЦЦА* • **ЗРУ́ШЫЦЦА З МЕ́СЦА.** *Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Атрымаць далейшае развіццё. Пра пытанне, праблему, справу і пад. *[Туміловіч:] Не ведаю, можа, мы тут і прайграем, але прапанова, па-мойму, справядлівая... [Насця:] Я... Я згодна... [Пытляваны:] Ну, дзякуй богу, як той казаў, зрушылася з месца.* Крапіва. *А вось справа з ацяпленнем настаўніцкага дома за тры гады так і не зрушылася з месца.* «Настаўн. газ.»

*ЗРУШЫЦЬ* • **ЗРУШЫЦЬ ГОРЫ** *<з кім, з чым>*. Гл. варочаць.

**ЗРУ́ШЫЦЬ З МЕ́СЦА** *што. Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Паспрыяць ажыццяўленню чаго-н., прасунуць наперад (справу, праблему і пад.). **Сін.**: даваць ход (у 2 знач.). **Ант.**: класці пад сукно *што*. *[Якуб] даў простыя, ясныя довады таго, што ўтварэнне сівалапаўскага калгаса зрушыць з месца*

*ўсю справу не толькі ў Сіўцы, а і ва ўсім сельсавеце.* Зарэцкі. *[Языкевіч] спрытна ўмее застрахоўваць сябе ад памылак. Старанны, акуратны, але ніводнага пытання не зрушыць з месца, пакуль не даведаецца яго, Ігнатовіча, думку.* Шамякін.

*ЗРЫВАННЕ* • **ЗРЫВА́ННЕ МА́САК** *з каго, з чаго. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Выяўленне сапраўднай сутнасці, выкрыццё каго-, чаго-н. *Зрыванне масак з буржуазнага свету і расчараванне ў самой ідэі гістарычнага прагрэсу складана пераплятаюцца адно з другім у літаратуры «страчанага пакалення».* Адамовіч.

*ЗРЫВАЦЦА* • **ЗРЫВА́ЦЦА (ЗЛЯТА́ЦЬ) З ВУ́СНАЎ** *чыіх, каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн., выраж. наз. *слова, выраз* і пад. Міжвольна, нечакана вымаўляцца. **Сін.**: зрывацца з языка *чыйго, у каго*; лезці на язык *каму*; не сходзіць з вуснаў *чыіх, каго*; не сходзіць з языка *чыйго, у каго*; прыходзіць на язык *каму* (у 1 знач.); узбрысці на язык *каму. Ніводнага лішняга слова не зрывалася з яго вуснаў.* Новікаў. — *Усё мы самі зрабілі, — з несхаваным гонарам сказаў Кадлубовіч. Дарэчы, гэтае «мы самі» злятала з яго вуснаў неаднойчы.* «ЛіМ». **САРВАЦЦА (ЗЛЯЦЕЦЬ) З ВУСНАЎ** *чыіх, каго. Зак. Бабейка нерваваўся — сківіцы ў яго ўздрыгвалі, з вуснаў вось-вось павінны былі сарвацца словы.* Хадкевіч. *З таго часу, як першая прыказка зляцела з вуснаў чалавека, яна, як і кожная ідэйна-мастацкая з'ява, прайшла пэўны шлях развіцця.* Шкраба.

**ЗРЫВА́ЦЦА (ЗЛЯТА́ЦЬ) З ЯЗЫКА́** *чыйго, у каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн., выраж. наз. *слова, выраз* і пад. Міжвольна, нечакана вымаўляцца. **Сін.**: зрывацца з вуснаў *чыіх, каго*; лезці на язык *каму*, не сходзіць з вуснаў *чыіх, каго*; не сходзіць з языка *чыйго, у каго*; прыходзіць на язык *каму* (у 1 знач.); узбрысці на язык *каму. — Цётка Уліта жывая?..— нечакана зрываецца ў мяне з языка, і, адчуўшы, што спытаў не да месца, ніякавею ўжо сам перад Міцяем.* Карамазаў. **САРВАЦЦА (ЗЛЯЦЕЦЬ) З ЯЗЫКА** *чыйго, у каго. Зак. [Падарожны:] Ці ж мы такія людзі? Жартуеш хіба, дабрадзей? [Незнаемы:] О не, крый божа! Ось зняўцёку зляцела слоўца з языка...* Купала. *Андрэй хацеў сказаць, чуць не зляцела з языка, што ў чорта на рагах начальнік, можа, і быў, толькі гэта на дабро яму не пайшло, калі так гаворыць.* Пташнікаў. *Зноў недарэчнае пытанне ледзь не сарвалася з Віцевага языка, але ён цяпер быў зацікаўлены гэтым дзіўным хлопчыкам.* Чарнышэвіч. *У мяне ўжо гатоў быў сарвацца з языка жарт.* Палтаран. *Іншы раз, бывае, спахопішся, калі з языка гатова сарвацца не надта ласкавае слова.* Радкевіч.

*ЗРЫВАЦЬ* • **ЗРЫВА́ЦЬ МА́СКУ** *з каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выкрываць каго-н., паказваць чыю-н. сапраўдную сутнасць. **Сін.**: выварочваць навыварат *каго, што*; выводзіць на белы свет *каго, што*; выводзіць на чыстую ваду *каго, што*; за вушка ды на сонейка *каго. Сатырык не ілюструе жыццё, не павучае, як дрэнна быць падхалімам або плеткаром. Ён зрывае з іх маску, паказвае чытачу ўсю іх смешную сутнасць, іх недарэчныя прэтэнзіі і злачынныя намеры.* Шкраба. **САРВАЦЬ МАСКУ** *з каго. Зак. [Гарлахвацкі:] Грозная рука адплаты ўжо ўзнята над ім. Вось-вось сарве маску і выставіць яго на суд, на ганьбу, на ўсеагульную зняважу.* Крапіва.

**ЗРЫВА́ЦЬ НО́С.** *Незак. Часцей у 3-й ас. цяп. ці ў пр. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Востра, рэзка пахнуць, выклікаючы адмоўную рэакцыю. **Сін.**: біць у нос; даваць у нос. *Але і дым: аж з ног скідае! Ну, проста нос табе зрывае!* Колас. *Душыць горла дым махоркі, самагон зрывае нос.* Крапіва. *Было ўжо чуваць, як трашчыць трава, калі падымалася полымя. Ад дыму зрывала нос.* Пташнікаў.

*ЗРЭНКУ* • <u>Берагчы, аберагаць</u> і пад. **ЯК ЗРЭ́НКУ ВО́КА.** *Акал. Функц. не зам.* Вельмі старанна, клапатліва. **Сін.**: як вока ў ілбе; як <сваё> вока. *Лёнька бярог свайго новага «козліка» як зрэнку вока і ганарыўся ім.* Дайліда. *Не думаў, не гадаў пакупнік, перасяка-*

*ючы з новымі чаравікамі ўсю краіну, што як зрэнку вока трэба берагчы чэк на выраб са «Знакам якасці».* «Звязда». *Традыцыі вопытных настаўнікаў мы беражом як зрэнку вока, імкнёмся перадаць іх маладому папаўненню.* «Настаўн. газ.» *Глебу трэба берагчы як зрэнку вока, нанава яе стварыць немагчыма. Гэта бясцэнны дар прыроды.* «ЛіМ». *Разведчыкі як зрэнку вока аберагалі чатырнаццацігадовага падлетка ад удзелу ў сваіх вылазках супраць немцаў.* «Вожык».

*ЗУБ* • **АНІ́ Ў ЗУ́Б**. *Разм.* **1**. *<чаго>. У знач. дзеясл. вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. чалавека ці жывёлы. Зусім не ўжываць чаго-н. (ежы, пітва). *Годзе, жонка! Ну, не лайся: больш гарэлкі ані ў зуб.* Колас. — *Дык [медзвездзяня] не есць, кажаце? — Ані ў зуб... Акрамя вады, нічога ў рот не бярэ!* Лынькоў.

**2**. *каму. У безас. ужыв.* Зусім няма чаго есці. *І скаціне корму мала, і самому — ані ў зуб.* «*Вясна гола перапала...*» — *Чаму яно так на свеце? — разважаў часцяком [Анісь], — аднаму аж па горла, а другому ані ў зуб?* Баранавых.

**ВОКА ЗА ВОКА <ЗУБ ЗА ЗУБ>**. Гл. вока.

**ЗУБ ГАРЫЦЬ** *у каго на што.* Гл. зубы.

**ЗУ́Б ЗА ЗУ́Б**. *Часцей у знач. ск. Функц. не зам.* Адплата злом за прычыненае зло. **Сін**.: вока за вока <зуб за зуб>. *[Вера:] Можа, у каго ёсць іншая прапанова? [Люба:] У мяне ёсць! Падняць тарыф на халтурныя работы. [Надзея:] Да тысячы тугрыкаў за аб'ект. [Вера:] З нас дзяруць, і мы драць будзем... [Надзея:] Зуб за зуб!* Петрашкевіч. *Меч уздыме брат на брата, стане брат горш ката... Зуб — за зуб...* Купала.

**ЗУ́Б ЗА ЗУ́Б ЗАЙШО́Ў (ПО́ЙДЗЕ)** *у каго з кім. У безас. ужыв. Разм.* Склаліся непрыемныя адносіны, пры якіх адзін не саступае другому. **Сін**.: найшла каса на камень *<у каго>*. *А ў Грышы зуб за зуб зайшоў з Мірошнікавым амаль на самым пачатку...* Рубанаў. — *Кажуць, ты не паладзіў са сваёй?.. — Разводжуся яшчэ.. збіраюся разводзіцца. — Зуб за зуб зайшоў? — Ліха яе ведае.* Калодзежны. *Але ўжо калі пойдзе зуб за зуб, як кажуць, то тады не пападайся...* Васілевіч.

**ЗУ́Б НА ЗУ́Б НЕ ПАПАДА́Е (НЕ ПАПАДА́Ў, НЕ ПАПАДЗЕ́)** *у каго*; **ЗУ́Б НА ЗУ́Б НЕ ТРАПЛЯ́Е (НЕ ТРАПЛЯ́Ў, НЕ ПАТРА́ПІЦЬ)** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. дрыжыць ад холаду ці страху. **Сін**.: прадаваць дрыжыкі. *Бягу, а зуб на зуб не пападае. Хутчэй бы ў цёплую хату ды на печ патрапіць!* Каваль. *«Буржуй» сядзеў і пікнуць не смеў. У яго не пападаў зуб на зуб — і ад страху, і ад здзіўлення.* Лынькоў. *Абмёр пад коўдраю хлапчына, пабеглі па плячах мурашкі, і сталі валасы дубка ў небаракі Янука, аж зуб на зуб не пападзе.* Крапіва. *Пад вечар пахаладала. Сяргей адчуў, як у яго зуб на зуб не трапляе.* Даніленка. *Здавалася, не толькі вопратка — цела ўсё прамокла навылёт. Зуб на зуб не трапляў.* Сабаленка. *Як затросся ўвесь зайчына, не патрапіць зуб на зуб.* Вітка.

**МЕЦЬ ЗУБ** *на каго.* Гл. мець.

**НА АДЗІ́Н ЗУ́Б (ГА́М)** *каму. У знач. імен. вык. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, сукупнасці асоб ці адуш. прадмета. Хто-н. такі мізэрны, нязначны, што з ім вельмі лёгка справіцца, расправіцца. *На нашым беразе толькі ў вялікіх сёлах, што ўцалелі ад пажараў, былі пакінуты гарнізоны. Яны там грунтоўна ўмацоўваліся: капалі акопы, будавалі дзоты. — Дробязь. Гэта нам на адзін зуб, — гаварылі партызаны — Як часанём, толькі пыл курэць будзе...* Няхай. *Барбос ля варот стаіць такі, што яму гэтага сабачаняці на адзін зуб, а яно вышчарыцца і да барбоса лезе.* Крапіва. — *Антаніна, га-га! Ён табе на адзін гам! — Ну! Паклала б на яго руку — не вылузаўся б! — не гублялася сакратарка-развядзёха.* Місько.

**НА ЗУ́Б**. *Часцей у знач. дап. Праст.* Есці, перакусіць. *А заўтра ты дасі на зуб свайму дзіцяці!* Лобан. — *Дай чаго на зуб: з учарашняга дня макавай расінкі ў роце не было, —*

*сказала Ядвіся, знімаючы мокрую, як выкруціць, спадніцу.* Асіпенка. *Хоць і непарадак, што свінні ходзяць па вуліцы, але Пракапенку гэта радавала: будзе чым людзям разлічыцца з харчовым агентам і сабе нешта на зуб застанецца.* Левановіч.

**НІ (АНІ́) У ЗУ́Б < НАГО́Й >** <u>не ведаць, не разумець</u> і пад. *Акал. ці ў знач. вык. (пры апушчаным дзеясл.). Праст.* Зусім нічога. **Сін.**: ні а ні бэ; ні бельмеса; ні бум-бум; ні бэ ні мэ <ні кукарэку>; ні бэ ні мя; ні вуха ні рыла; ні цэ ні бэ. *Аднойчы прыйшлі [у школу] два дзецюкі, здаровыя хлопцы, не тут кажучы, кавалеры, на губах пушок прабіваецца, а задачкі ні ў зуб нагой.* С.Александровіч. *Я ж па-нямецку ні ў зуб нагой. І па-французску слаба кумекаю.* Левановіч. *Бэкаем [па-англійску], чытаючы збольшага, а каб перакласці з прачытанага ці самому што якое сказаць па-іхняму — ні ў зуб нагой.* Васілёнак. *[Селянін:] Дзе мая грамата, адну тую літару ўсяго і ведаю, што на абаранак падобна, як яна... Вось пахваліўся — і ўспомніць не магу, а больш граматы ані ў зуб.* Галубок.

**ПАКЛАСЦІ НА ЗУБ** *няма чаго.* Гл. пакласці.

**ПАПАДАЦЬ НА ЗУБ** *каму, каго, чаго.* Гл. пападаць.

**УЗЯЦЬ НА ЗУБ** *што, чаго.* Гл. узяць.

*ЗУБАМІ* • **І РУКАМІ І ЗУБАМІ**. Гл. рукамі.

**ЛЯСКАЦЬ ЗУБАМІ**. Гл. ляскаць.

**НЕ З** *чыімі* **ЗУБА́МІ**. *У безас. ужыв. Праст.* Каму-н. не хапае ўмення, здольнасцей і пад. на што-н. **Сін.**: не *з чыім* носам. *[Каравай:] Ну і трыбун!.. А ведаем, дзед, ты залез не ў свой агарод. Так, так! Не з тваімі зубамі туды...* Макаёнак.

**СКРЫГАТАЦЬ ЗУБАМІ**. Гл. скрыгатаць.

*ЗУБАХ* • **ДАЦЬ ПА ЗУБАХ** *каму.* Гл. даць.

**НАВЯЗНУЦЬ У ЗУБАХ** *каму.* Гл. навязнуць.

**НЕ ПА ЗУБА́Х** *каму, чыіх. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Не адпавядае чыім-н. магчымасцям, здольнасцям і пад. **Сін.**: не на *чые* зубы; не пад сілу (у 2 знач.); не па сіле *каму. Мы прыдбаем стрэльбы самі. Скажам, магілёўскія склады зброі нам не па зубах. Астаюцца два арсеналы, узяўшы якія мы ўзброім сябе і абяззброім ворага.* Караткевіч. *Валік для прыліку пачаў перабіраць кніжкі на верхняй паліцы. То былі ўсё юрыдычныя падручнікі. — Такія раманы не па маіх зубах, — азваўся Валік.* Б.Стральцоў. *Другія бацькі цяпер сваіх дзетак гадоў з трох да мора возяць, а яна дасюль ні разу не звазіла, кепская матка. Але пра мора можна было толькі марыць — не па зубах.* Арабей.

**У ЧО́РТАВЫХ ЗУБА́Х**. *Акал. Разм.* Вельмі далёка, у аддаленых ці глухіх мясцінах (быць, жыць, знаходзіцца і пад.). **Сін.**: блізкі свет; за дзесятай гарой; за светам; за трыдзевяць зямель; на краі свету; у віру на калу; у чорта на кулічках; у чорта на рагах; у чорта ў зубах. *[Сапляк:] Зямлю ўсю пад сябе падабраў, а мне вунь аж у чортавых зубах пустэчы нейкай даў, што зроду не аралася.* Крапіва. *Мала ж Савоста ў чужым баку палюдскаваўся. І туды, следам за ім, даняла ягоная нядоля... Усё тое немаведама дзе, у чортавых зубах, было.* Калюга.

**У ЧОРТА Ў ЗУБАХ**. Гл. чорта.

*ЗУБОЎ* • **АЖ АДСКОКВАЕ АД ЗУБОЎ**. Гл. адскоквае.

**ВЫРЫВАЦЬ З ЗУБОЎ** *што ў каго, з чыіх.* Гл. вырываць.

**ДА ЗУБО́Ў** <u>узброіць, узброіцца</u>. *Акал. Функц. не зам.* Вельмі добра, вельмі моцна. *Германскае камандаванне трымае перад нашымі варотамі пяцьдзесят дзве да зубоў узброеныя дывізіі, і вы гасцінна адчынілі перад імі гэтыя вароты.* Губарэвіч. *«Дадому» [хлопцы]*

*вярталіся ўзброеныя да зубоў. З аднаго боку — рэвальвер, з другога — рэвальвер, ды яшчэ кінжал у дадатак.* Маўр.

**<І> ЗУБОЎ НЕ ЗБЯРЭШ**. Гл. збярэш.

**ЯЗЫК ДА ЗУБОЎ ПРЫМЁРЗ** *у каго.* Гл. язык.

**ЯЗЫК ПРЫСОХ <ДА ЗУБОЎ >** *у каго, каму.* Гл. язык.

*ЗУБЫ* • **АБЛАМАЦЬ ЗУБЫ** *на чым, дзе.* Гл. абламаць.

**БІЦЬ ЯЗЫК АБ ЗУБЫ**. Гл. біць.

**ВАСТРЫЦЬ ЗУБЫ**. Гл. вастрыць.

**ВЫСКАЛЯЦЬ ЗУБЫ**. Гл. выскаляць.

**ГАЎ ДЫЙ ЗУБЫ СЦЯЎ**. Гл. гаў.

**ГЛЯДЗЕЦЬ У ЗУБЫ** *каму.* Гл. глядзець.

**ЗАГАВОРВАЦЬ ЗУБЫ** *каму.* Гл. загаворваць.

**ЗУ́БЫ ГАРА́ЦЬ (ГАРЭ́ЛІ)** *у каго на што*; **ЗУ́Б ГАРЫ́ЦЬ (ГАРЭ́Ў)** *у каго на што. Убезас. ужыв.* Каму-н. моцна захацелася мець што-н. **Сін.**: вока гарыць *у каго на што. У мястэчку гэтым — паліцэйскі гарнізон, на які ў нас даўно гарэлі зубы.* Шамякін. *Ох, і гарыць у мяне зуб на ваша ведамства. Каб мяне папрасілі, як бы я спланаваў новую забудову ў гэтым натуральным парку!* «Полымя». *[На балотах] ніколі ніхто не касіў. Шмат у каго, праўда, гарэў на іх зуб, ды толькі ніхто не наважваўся падступіцца да іх.* Казько.

**ЗУБЫ ГРЭЦЬ НА СОНЦЫ**. Гл. грэць.

**ЗУБЫ ЗАМАЎЛЯЦЬ** *каму.* Гл. замаўляць.

**ЗУБЫ З'ЕЎ** *на чым, у чым.* Гл. з'еў.

**КЛАСЦІ ЗУБЫ НА ПАЛІЦУ**. Гл. класці.

**ЛЕЗЦІ ЧОРТУ Ў ЗУБЫ**. Гл. лезці.

**ЛІЧЫЦЬ ЗУБЫ** *каму, у каго.* Гл. лічыць.

**НА ЎСЁ ТРЫ́ЦЦАЦЬ ДВА́ <ЗУБЫ́>**. *Разм.* **1.** *Акал.* Шырока, прыветліва (смяяцца, усміхацца і пад.). **Сін.**: на ўвесь рот (у 2 знач.); на ўсе застаўкі (у 5 знач.). *Ігар Камараў зграбае даўжэзнымі рукамі іх [двух школьнікаў] у ахапак і выскаляецца на ўсе трыццаць два: — Лухта ўсё гэта, хлопцы.* Радкевіч. *Пецька падштурхнуў мяне пад бок, і я зразумеў: трэба ісці знаёміцца. Я заўсміхаўся на ўсе трыццаць два і ступіў да дзяўчат.* Кузьмянкоў.

**2.** *Азн.* Шырокая, прыветлівая (усмешка). *[Пятроў:] Пачынаю зачытваць яму данос. Слухае, і ўсё тая ж усмешка на ўсе трыццаць два зубы.* Петрашкевіч.

**НЕ НА** *чые* **ЗУ́БЫ**. *Вык. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Не па чыіх-н. магчымасцях, здольнасцях і пад. **Сін.**: не пад сілу *каму* (у 2 знач.); не па зубах *каму, чыіх*; не па сіле *каму. [Мандрыкін:] Дзяўчына як суніца... [Лютынскі:] Не на нашы старэчыя зубы.* Крапіва. *Кажу табе, то паслухай. Не на твае ён зубы. З ім загрудкі не табе брацца, не табе з ім у рожкі стыкацца.* Янкоўскі.

**ПАКАЗВАЦЬ ЗУБЫ** *каму.* Гл. паказваць.

**ПАСКАЛІЦЬ ЗУБЫ**. Гл. паскаліць.

**ПАСУШЫЦЬ ЗУБЫ**. Гл. сушыць.

**ПРАДАВАЦЬ ЗУБЫ**. Гл. прадаваць.

**ПРАЗ (СКРОЗЬ) ЗУБЫ**. *Акал. Разм.* **1.** Невыразна, неразборліва або ледзь чутна (гаварыць, мармытаць і пад.). *Мікола правёў па «сівых» валасах малога, намацаў гуз ад кія і, заплюшчыўшы вочы, праз зубы ціха вылаяўся.* Брыль. *— Добра, — скрозь зубы адказала Зося, як бы не чуючы, аб чым маці просіць.* Гартны. *Андрэй нешта прамармытаў скрозь зубы...* Каваль.

2. З пагардай, злосцю, незадавальненнем і пад. (гаварыць, цадзіць, працадзіць і пад.). *[Каліберау — праз зубы:] Моцкін! Калі ты яшчэ хоць раз заікнешся, май на ўвазе — усе твае камбінатарскія махінацыі я выкрыю на бюро райкома.* Макаёнак. *— Я ведаю, што ты хочаш уцячы ад мяне, — працадзіў ён [Лукашык] праз зубы.* Дамашэвіч. *— А калі глыбей сказаць, ён лічыць вас за бунтароў. — За бунтароў? — працадзіў праз зубы Арон.* Мурашка. *Андрэй прабурчаў скрозь зубы: — Багатыр.* Зарэцкі.

**СКАЛІЦЬ ЗУБЫ**. Гл. скаліць.

**СУШЫЦЬ ЗУБЫ**. Гл. сушыць.

**СЦЯЎШЫ ЗУБЫ**. Гл. сцяўшы.

**ТЫЦКАЦЬ У ЗУБЫ** *каму што.* Гл. тыцкаць.

**ХОЦЬ ЗУБЫ ВЫБЕРЫ**. Гл. выберы.

**ХОЦЬ ЗУБЫ НА ПАЛІЦУ КЛАДЗІ** *калі, пры якой умове.* Гл. кладзі.

**ЧОРТУ Ў ЗУБЫ**. Гл. чорту.

*ЗУХ* • **ЗУ́Х З КО́ЛАМ (КАЛО́М) ДА МУ́Х**. *Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Смелы, самаўпэўнены толькі сярод слабых. **Сін.**: зух супроць мух. *— Пайшлі, Арсень, — рашуча рыкнуў Шлык, — абыдземся без гэтага салапёкі, каб ён на хлеб спяваў. — А ты таксама зух — з колам да мух, — адгыркаўся начальнік.* Караткевіч. *Сяляне сталі частаваць спадара прыстава кухталямі. Каб не месачкоўцы, натоўкалі б прыставу пысу да нясхочу. — Га! Зух з колам да мух! — атурзвалі мяшчане зламыснага шляхцюка.* Навары́ч. *Зірнуць хаця б вокам на жывёльны і раслінны свет Афрыкі і Паўднёвай Амерыкі. «Зух з калом да мух», — з'едліва думаю пра сябе. Ты ўжо фізічна не можаш гэта здзейсніць.* Лобач.

**ЗУ́Х СУПРО́ЦЬ (СУ́ПРАЦЬ) МУ́Х**. *Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Смелы, самаўпэўнены толькі сярод слабых. **Сін.**: зух з колам да мух. *[Федзя:] Не бядуй ты па мне, матка... [Жыгліцкая:] Ты зух супроць мух, а супроць жонкі не даў бог сілёнкі.* Козел. *— Добра, што Міндоўга за князя ўзялі — зух! — Гэта як малады быў... А цяперака зух супраць мух.* Іпатава.

*ЗЫРЫ* • **НА ЗЫРЫ́**. *Акал. Разм.* На адкрытым узвышаным месцы. *Мы гуртам спыніліся на зыры...* Калачынскі. *Будынкі райкома і райвыканкома стаялі на зыры...* Б.Стральцоў.

*ЗЫХЕР* • **БРАЦЬ НА ЗЫХЕР** *каго.* Гл. браць.

*ЗЫХОД* • **ЗЫХОД У ІНШЫ СВЕТ**. Гл. адыход.

*З'ЯВІЦЦА* • **З'ЯВІЦЦА НА СВЕТ**. Гл. з'яўляцца.

*З'ЯЗДЖАЦЬ* • **З'ЯЗДЖА́ЦЬ З ГЛУ́ЗДУ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.
1. Вар'яцець, станавіцца псіхічна хворым. **Сін.**: крануцца з розуму; сесці на каня; сыходзіць з катушак; сыходзіць з кругоў; сыходзіць з поля (у 1 знач.); сыходзіць з розуму (у 1 знач.). **З'ЕХАЦЬ З ГЛУЗДУ**. *Зак. Ты, бабка, пазірала на мяне і думала: «Калі гэты паніч яшчэ не з'ехаў з глузду, то з'едзе».* Колас. *— Барташэвічава наймічка па сяле пляце, што за цябе замуж выходзіць. Ты ёй што-небудзь сказаў? — Я яшчэ з глузду не з'ехаў.* Лобан.

2. *Неадабр.* Дзейнічаць неразумна, рабіць глупства. **Сін.**: з быка ўпасці; сыходзіць з поля (у 2 знач.). *Ты не глядзі, што ён сорак восем гадоў мае. Старэйшыя за твайго Андрэя з глузду з'язджаюць... А тут абое працуюць.. ды такі выйгрыш...* Пальчэўскі. **З'ЕХАЦЬ З ГЛУЗДУ**. *Зак. Ты з'ехала з глузду, Стасюня! Што скажуць людзі. Хлопчык захварэў у мяне, павінен у мяне і паправіцца...* Чарнышэвіч.

*ЗЯЗЮЛЬЧЫН* • **ЗЯЗЮЛЬЧЫН ЛЁН**. Гл. лён.

*ЗЯЗЮЛЬЧЫНЫ* • **ЗЯЗЮЛЬЧЫНЫ СЛЁЗЫ**. Гл. слёзы.

*ЗЯЗЮЛЯ* • **НАЧНА́Я ЗЯЗЮ́ЛЯ**. *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм.* Жонка. **Сін.**: дарагая палавіна. *Спытала пасля ў свайго начная зязюля: «Пра што вы там гаварылі?» А ён па-чужому неяк адсек: «Спі лепш, а то старою будзеш без пары».* Брыль. *«Начная зязюля» перакукавала. Згадзіўся Іван Іванавіч на вячэру, хоць і ўздыхнуў: «Наробім сораму...»* Місько.

*ЗЯЛЁНАЕ* • **ЗЯЛЁНАЕ ПОЛЕ**. Гл. поле.
**ЗЯЛЁНАЕ СВЯТЛО**. Гл. святло.

*ЗЯЛЁНАЯ* • **ЗЯЛЁНАЯ ВУЛІЦА**[1]. Гл. вуліца.
**ЗЯЛЁНАЯ ВУЛІЦА**[2] . Гл. вуліца.

*ЗЯЛЁНЫ* • **ЗЯЛЁНЫ ЗМЕЙ**. Гл. змей.

*ЗЯЛЁНЫЯ* • **ЁЛКІ ЗЯЛЁНЫЯ**. Гл. ёлкі.
**ЗЯЛЁНЫЯ БЕРЭТЫ**. Гл. берэты.

*ЗЯМЕЛЬ* • **ЗА ТРЫ́ДЗЕВЯЦЬ ЗЯМЕ́ЛЬ**. *Акал. Функц. не зам.* Вельмі далёка (быць, жыць, знаходзіцца, ехаць, трапіць і інш.). **Сін.**: блізкі свет; за дзесятай гарой; за светам; на краі свету; у віру на калу; у чортавых зубах; у чорта на кулічках; у чорта на рагах; у чорта ў зубах. *«Скарылася...» А хіба я не «скарылася», калі пасмела ў такім выглядзе ў вёску заявіцца? Магла ж і за трыдзевяць зямель з'ехаць...* Місько. *Некаторыя скептыкі былі, шчыра скажам, здзіўлены, што не за трыдзевяць зямель, а зусім побач з Мінскам можна пабачыць столькі цікавых помнікаў мінулага.* Мальдзіс.

*ЗЯМЕЛЬКУ* • **ЛАЖЫЦЦА Ў ЗЯМЕЛЬКУ**. Гл. лажыцца.
**ПАРЫЦЬ ЗЯМЕЛЬКУ**. Гл. парыць.

*ЗЯМЕЛЬЦЫ* • **ПАРЫЦЬ У ЗЯМЕЛЬЦЫ КОСЦІ**. Гл. парыць.

*ЗЯМЛЁЙ* • **АЖАНІЦЦА З СЫРОЮ ЗЯМЛЁЙ**. Гл. ажаніцца.
**БАЧЫЦЬ НА ТРЫ САЖНІ ПАД ЗЯМЛЁЙ**. Гл. бачыць.
**ВІСЕЦЬ ПАМІЖ НЕБАМ І ЗЯМЛЁЙ**. Гл. вісець.
**ЗРАЎНЯЦЬ З ЗЯМЛЁЙ** *што*. Гл. зраўняць.
**ЗЯМЛЁЙ ПАХНУЦЬ**. Гл. пахнуць.
**МЯШАЦЬ З ЗЯМЛЁЙ**. Гл. мяшаць.
**ПАД ЗЯМЛЁЙ** *знайсці*. *Акал. Разм.* У любым выпадку, усюды, дзе б ні аказаўся хто-н., дзе б ні аказалася што-н. **Сін.**: з дна марскога; з дна мора; з-пад зямлі; на тым свеце. *Але памятай, калі ты мне зманіў, я цябе пад зямлёй знайду!* Самуйлёнак. *[Багдан:] Не ўцячэ! А калі ўцячэ — зловім. Нікуды яна ад нас не схаваецца. Пад зямлёй знойдзем.* В.Вольскі. *Але цяпер сядзі ціха і не ўздумай падглядаць за намі. Каб нікому ні слова пра нас! А то пад зямлёй знойдзем.* Новікаў.
*Хадзіць* **ЯК ПАД ЗЯМЛЁЙ**. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна ўсхваляваны, у стане разгубленасці, роспачы, адчаю. **Сін.**: не ў сабе; сам не ў сабе; як не свой; <як> сам не свой; як у ваду апушчаны; як цень (у 2 знач.). *Некалькі дзён хадзіў Яхім як пад зямлёю. Учарнеў, бы тая махнуша, пахудзеў, асунуўся, вочы ў лоб запалі. Адзервянеў, аслупянеў.* Колас. *[Радзівон] з-за гэтага райвыканкомаўца хадзіў усе гэтыя дні як пад зямлёю: ні то што яго з раскулачваннем пачалі цягаць, а нават пра высылку райвыканкомавец паспрабаваў быў заікнуцца.* Чорны. *Сыны і дачка хадзілі як пад зямлёю, сноўдаліся з кутка ў куток, праклінаючы бацьку, што пазбавіў іх спадчыны.* Гурскі.

*ЗЯМЛІ* • **АДДАЦЬ ЗЯМЛІ** *каго, што.* Гл. аддаць.

**АД ЗЯМЛІ АДАРВАЦЦА І НЕБА НЕ ДАСТАЦЬ**. Гл. адарвацца.

**АД ЗЯМЛІ НЕ АДРОС**. Гл. адрос.

**З-ПАД ЗЯМЛІ́** *<u>даставаць (дастаць)</u>. Акал. Разм.* Пры любых умовах, любым спосабам і абавязкова. **Сін.**: з дна марскога; з дна мора; на тым свеце; пад зямлёй. *[Сырадоеў:] А ну, ты, ты і ты! З-пад зямлі дастаць мне старога.* Макаёнак. *Гэты справу як бачыш абцяпае. З-пад зямлі, а дастане.* Брыль. *Другі бацька з-пад зямлі дастаў бы і для сына пуцёўку. А ты?..* Чавускі.

**ЗЯМЛІ НЕ ЧУЦЬ ПАД САБОЙ**. Гл. чуць.

**ЛЯЖАЦЬ У < СЫРОЙ > ЗЯМЛІ**. Гл. ляжаць.

**НА КРАІ ЗЯМЛІ**. Гл. краі.

**НА КРАЙ ЗЯМЛІ**. Гл. край.

**ПАРЫЦЬ У ЗЯМЛІ КОСЦІ**. Гл. парыць.

**ПУП ЗЯМЛІ**. Гл. пуп.

**СОЛЬ ЗЯМЛІ**. Гл. соль.

**СПАЦЬ У СЫРОЙ ЗЯМЛІ**. Гл. спаць.

**СЦІРАЦЬ З ТВАРУ ЗЯМЛІ**. Гл. сціраць.

**ЯК З-ПАД ЗЯМЛІ ВЫРАС**. Гл. вырас.

**ЯК НЕБА АД ЗЯМЛІ**. Гл. неба.

*ЗЯМЛЮ* • **БАЧЫЦЬ НА ТРЫ САЖНІ Ў ЗЯМЛЮ**. Гл. бачыць.

**ГНАЦЬ У ЗЯМЛЮ** *каго.* Гл. гнаць.

**ЗАКОПВАЦЬ <СВОЙ> ТАЛЕНТ У ЗЯМЛЮ**. Гл. закопваць.

**ЗЯМЛЮ ГРЫЗЦІ**. Гл. грызці.

**МЕРАЦЬ ЗЯМЛЮ**. Гл. мераць.

**НЮХАЦЬ ЗЯМЛЮ**. Гл. нюхаць.

**ПАЙСЦІ Ў ЗЯМЛЮ**. Гл. пайсці.

**ПАРЫЦЬ ЗЯМЛЮ**. Гл. парыць.

*Гатоў* і пад. **ПРАВАЛІЦЦА СКРОЗЬ ЗЯМЛЮ**. Гл. праваліцца.

**ХОЦЬ СКРОЗЬ ЗЯМЛЮ ПРАВАЛІСЯ** <*каму*>. Гл. праваліся.

**ХОЦЬ <ТЫ> ЖЫВЫ Ў ЗЯМЛЮ ЛЕЗЬ**. Гл. лезь.

**ЯК СКРОЗЬ ЗЯМЛЮ ПРАВАЛІЎСЯ**. Гл. праваліўся.

*ЗЯМЛЯ* • **АБЯЦА́НАЯ ЗЯМЛЯ́**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Месца, куды хто-н. моцна імкнецца папасці. *Славутая Запарожская Сеч.. як абяцаная зямля вабіла да сябе непакорных людзей.* Колас. *Менавіта Коласаву задуму «Новай зямлі» як паэмы біблейскага пафасу, пошуку зямлі абяцанай перакладчык вельмі выразна яшчэ і падкрэсліў.* Лойка. *І Чымган для нас з'яўляецца тым самым, чым з'яўляецца зямля абяцаная для Майсея і народа, які ён вывеў з Егіпта.* Колас.

**ЗЯМЛЯ́ ГАРЫ́ЦЬ (ГАРЭ́ЛА) ПАД НАГА́МІ** *каго, у каго, чыімі. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Хто-н. у небяспечным, пагрозлівым становішчы. *Усе людзі за мяне. Я тут у сваім куце жыву. А ў такіх, як Макуха, зямля гарыць пад нагамі.* Асіпенка. *Гарэла зямля пад нагамі фашыстаў.* Жычка. *Будзе гарэць зямля пад нагамі чужынцаў, месца сабе не знойдуць.* Сачанка. *А заміналі мы ім, «новым гаспадарам», здорава, не давалі ціхага жыцця ані ўдзень, ні ўночы. Гарэла-такі зямля пад іхнімі нагамі больш як два гады запар.* Кавалёў.

**ЗЯМЛЯ́ (ГЛЕ́БА) ВЫПЛЫВА́Е (УЦЯКА́Е) З-ПАД НО́Г** *у каго. Незак. У безас. ужыв. Функц. не зам.* У каго-н. траціцца ўпэўненасць у сваіх сілах; чыё-н. становішча аказваецца хісткім, нетрывалым. **Сін.**: грунт хістаецца *пад кім*; грунт хістаецца пад нагамі

*чыімі, у каго. Адчуў [Сурміла], што глеба канчаткова выплывае з-пад ног, і ў самы апошні момант зрабіў адчайны рывок.* Блакіт. *Вартун адчуў як у яго з-пад ног уцякае зямля: ён не зможа не тое заўтра, а нават і праз месяц перайначыць сваю працу, тое, што склалася за гады...* Далідовіч.

**ЗЯМЛЯ́ НЕНАЕ́ДНАЯ (НЕНАЕ́ЖНАЯ).** *Мн. не ўжыв. Часцей вык. і азн. Праст. Пагард.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі прагны і скупы. *Рагаталі таму, што наслухаліся пра Арынінага дзеда-скнару — «зямлю ненаедную»...* Карпаў. *Свёкар быў звер і скупеча, «зямля ненаежная».* Брыль. *Скупы і прагны, «зямля ненаежная», і — такога яго ведаюць усе, з кім сустракаецца ці сутыкаецца, — зайздросны, ён умее не паказаць нават суседзям маладзейшай за сябе жонкі.* Янкоўскі.

<u>Як (нашто, чаму)</u> **ЗЯМЛЯ́ НО́СІЦЬ** *каго. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* (Як, нашто, чаму) магчыма чыё-н. існаванне, жыццё. Пра нягодніка. — *Старарэжымнікі!* — *крыкнуў ён яшчэ раз. — Як вас зямля носіць!* Галавач. — *Во чалавек! Як цябе, такога, і зямля носіць! Здохнеш! Здохнеш! — не ўнімалася Нюрка.* Арабей. *І крыўда ў тым, мае вы людзі: і хто ж то волю даў паскудзе? Нашто зямля іх, катаў, носіць? Ой, хто ж ад іх не загалосіць?* Колас. *[Даміцэля:] А яна адплацілася: каб каго — гаспадара апошняга звабіла! Варопаўка! Чаму яшчэ зямля цябе носіць!* Купала.

**ЗЯМЛЯ́ ПАПЛЫЛА́ З-ПАД НО́Г** *у каго. Зак. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. пачынае траціць упэўненасць у сваіх сілах, у трываласці свайго службовага становішча. **Сін.**: грунт захістаўся *пад кім*; крэсла захісталася *чыё, пад кім. Неяк не ў мінулае, а яшчэ ў тое лета здарылася ў нас бяда: маланкай запаліла кароўнік... Выйшаў я з машыны — і зямля ў мяне паплыла з-пад ног: восемдзесят кароў!* Палтаран.

**ЗЯМЛЯ́ ПУ́ХАМ** *каму. Выкл. Разм.* Ужыв. у адносінах да нябожчыка як выказванне добрай памяці пра яго. **Сін.**: вечная памяць *каму.* **Ант.**: калом зямля *каму* (у 1 знач.). *Неяк не думалася пра гэта. То хату дабудоўвалі, то вас расцілі, а затым Люда памерла, бяду выплакалі. Не паспелі выплакаць, як бацька, зямля яму пухам...* Карамазаў. *Спачатку сыпанулі ў яму па жменьцы пяску. Потым зашаркалі, заляскалі рыдлёўкі. Зямля табе пухам, Зміцёрка!* Аношкін. *[Астрамілава:] Памёр, небарака. [Торгала:] Пухам яму зямля.* Крапіва.

**КАБ ЗЯМЛЯ́ НЕ НАСІ́ЛА** *каго. Выкл. Праст. Пагард.* Выказванне абурэння і пажадання смерці каму-н. **Сін.**: няхай сарочка не чапае *каго. Мне такога брата.. век бы не бачыць! Каб яго зямля не насіла!..* Мележ. *[Надзя:] Перастань, Любка. [Люба:] Дык жа вельмі Яніны шкада, што аддаюць за гэтага антыхрыста... Во ідуць, каб іх зямля не насіла.* Козел.

**КАЛО́М ЗЯМЛЯ́** *каму. Выкл. Праст.* **1**. Ужыв. у адносінах да нябожчыка як выказванне дрэннай памяці пра яго. **Ант.**: вечная памяць *каму*; зямля пухам *каму. Партызаны гэтымі днямі адправілі да магільных чарвей гітлераўскага гера фон Кубэ. Народная справа зроблена. Сабаку сабачая смерць. І калом яму зямля.* Чорны. — *Няхай ім дасць бог царства нябеснае... — Калом ім зямля! Я яшчэ не забыў, як яны мяне малацілі ланцугамі. Я помню...* Чарнышэвіч.

**2**. Ужыв. як праклён подламу, шкоднаму чалавеку, як пажаданне хутчэйшай смерці каму-н. *І так паціху ды памалу прыдбалі трохі капіталу, каб хоць пачатачак зрабіць і першы камень залажыць на грунце вольнае зямелькі, адной-адзінай збавіцелькі ад панскай ласкі і апекі, і плюнуць ім за тыя здзекі, што так уеліся ўжо ў косці, — калом зямля вам, ягамосці!* Колас. *Ці добра жыць на свеце галоднаму, босаму, голаму, калі ніколі латы з плеч не злазяць? Калі не толькі нейкі там, калом яму зямля, пан, а нават адзін аднаго ўвесь век за гнілую бульбу есць!* Чорны.

<ЯК> **НЕБА І ЗЯМЛЯ**. Гл. неба.

**ЯК (ШТО) ЗЯМЛЯ́** *п'яны, напівацца*. *Акал. Разм. Неадабр.* Вельмі моцна, празмерна. **Сін.**: да парасячага піску; да чорцікаў (у 2 знач.); у дрызіну; у дым (у 1 знач.); у дыміну; як гразь; як свіння. — *З такімі брыгадзірамі, як нашы, — азваўся я, — не вельмі заробіш. Вунь толькі што адвёў Макуху дамоў. Як зямля п'яны.* Асіпенка. — *Дык я ж іх толькі што сустрэў, — сказаў Лёня. — Абодва п'яныя як зямля.* Арабей. *Нап'ецца што зямля, тады што хочаш утворыць.* Юрчанка.

*ЗЯМНЫ* • **ЗЯМНЫ РАЙ**. Гл. рай.

*ЗЯРНЯЦІ* • **МАКАВАГА ЗЯРНЯЦІ Ў РОЦЕ НЕ БЫЛО** *ў каго*. Гл. было.

*З'ЯЎЛЕННЕ* • **З'ЯЎЛЕ́ННЕ З ТАГО́ СВЕ́ТУ**. *Мн. не ўжыв. Дзейн. і дап. Функц. не зам.* Выратаванне ад смерці, выздараўленне. *Параненыя партызаны.. адзначылі маё з'яўленне з таго свету гучнымі рэплікамі. — Галоўнае, на ногі ўстаць. — Было б на што ўстаць.* Адамовіч.

**З'ЯЎЛЕ́ННЕ НА СВЕ́Т**. *Мн. не ўжыв. Дзейн. і дап. Функц. не зам.* Нараджэнне каго-н. **Сін.**: прыход на свет *каго, чый. З гэтымі дрэвамі, мушу заўважыць, звязан адзін немалаважны гістарычны факт: бацька пасадзіў іх у год майго з'яўлення на свет.* Ракітны. *Бацька вельмі хацеў дзяцей, вельмі перажываў, калі памерлі першынцы, і на маё з'яўленне на свет ён глядзеў як на самую вялікую надзею ў сваім жыцці.* Крупенька. *Калі ўспаміналі сына, а ўспаміналі часта, як і раней, з дня з'яўлення на свет, Галя прымхліва абыходзіла тэму афганскай вайны, быццам самі словы хавалі смяротную пагрозу: скажаш іх — і яны ўзарвуцца.* Шамякін.

*З'ЯЎЛЯЦЦА* • **З'ЯЎЛЯ́ЦЦА НА СВЕ́Т**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нараджацца. **Сін.**: пайсці на свет; прыходзіць на свет. *[Аляксандр Сцяпанавіч] сустракаў кожнага новага чалавека, што з'яўляўся на свет, ён першы прыходзіў у дом, дзе было гора.* Грахоўскі. **З'ЯВІЦЦА НА СВЕТ**. *Зак. Ленка, дачушка ты мая родная! Як добра, што ты з'явілася на свет. Ты мая адзіная радасць у гэтыя чорныя дні.* Шамякін. *Нішто не пашкодзіла нарадзіцца дзвюм дзяўчаткам-блізняткам. З'явіліся на свет — моцныя, здаровыя, крыклівыя.* Арабей.



# І

*ІВАН* • **ІВА́Н БЕЗ РО́ДУ І ПЛЕ́МЕНІ (БЕЗ РО́ДУ, БЕЗ ПЛЕ́МЕНІ)**. *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Пагард.* Той, хто парваў усе сувязі з роднымі, блізкімі яму людзьмі, з асяроддзем, якое выхавала яго. *А дзе ж свае сыны і дочкі, што разляцеліся з родных гнёздаў па свеце? Колькі будзе доўжыцца іх вырай? Няўжо навек наканавана ім жыць без памяці, заставацца Іванамі без роду і племені?!* Блакіт. *Працэс асэнсавання эмігрантам самога сябе.. асабліва ўзмацняецца ў апошнія гады. Хто? Іван без роду, без племені? Амерыканец? Англічанін? Немец?* «ЛіМ».

**ІВА́Н-ДЫ-МА́Р'Я**. *Мн. не ўжыв. Часцей дзейн. і дап. Разм.* Травяністая трохколерная расліна сямейства фіялкавых; браткі (viola trikolor L.) **Сін.**: анюціны вочкі; брат-сястрыца. *Паглядваюць мілымі вочкамі кветкі іван-ды-мар'і.* Брыль. *Ля галавы калыхаліся пахучыя кветкі іван-ды-мар'і.* Стаховіч. *Не ступіўшы ўслед ні кроку марна, я пытаўся толькі: — Як, скажы, расцвітаеш ты, іван-ды-мар'я, тут, у сіняй ад ялін глушы?* Кусянкоў.

**ІВА́Н-ЧА́Й**. *Мн. не ўжыв. Часцей дзейн. і дап. Функц. не зам.* Шматгадовая травяністая расліна (лекавая, харчовая, кармавая і меданосная) сямейства скрыпневых (chamerion). *На Каралінскай пасецы пад жоўтымі бярозкамі загрукалі капыты, топчучы іван-чай і перамешваючы яго з зямлёй.* Пташнікаў. *І ты, Менычу, не ўяўляеш, якая шчаслівая, што бачыш родную бярозку, іван-чай.* Карамазаў. *Шуміць ссушэлы лісцік Іван-чая.* Пашкоў.

*ІВАНАЎСКУЮ* • **НА ЎСЮ ІВА́НАЎСКУЮ**. *Акал. Разм.* **1**. Вельмі гучна, галосна (крычаць, храпці і пад.). **Сін**.: благім матам; з усіх жыл (у 2 знач.); колькі <было> сілы (у 3 знач.); на поўную сілу (у 3 знач.); на поўныя грудзі (у 2 знач.); на ўвесь голас (у 1 знач.); на ўвесь свет (у 1 знач.); на ўсе грудзі (у 2 знач.); на ўсе застаўкі (у 1 знач.); на ўсё горла; на ўсю глотку; на ўсю моц (у 3 знач); немым голасам; не сваім голасам; што ёсць духу (у 2 знач.); што ёсць сілы (у 3 знач.); <як> іерыхонская труба (у 2 знач.); як недарэзаны; як рэзаны. *— Заснуў хлопец і зваліўся з каня.. — Ну і што, так і спаў?.. — Хроп на ўсю іванаўскую.* Гурскі. *Аляксей Сафронавіч убачыў іх [дзяцей] і пашкроб сваю зарослую патыліцу. Паклікаў Колю. Шапнуў яму: — Ідзі, зрабі так, каб матор роў на ўсю іванаўскую.* Шамякін. *Вунь каля Бярэзіны [касілка] стракочыць на ўсю іванаўскую.* Макарэвіч.

**2**. У поўную меру (рабіць што-н.). **Сін**.: на поўную катушку (у 3 знач.); на поўную сілу (у 2 знач.); на ўсе застаўкі (у 4 знач.); на ўсю жалезку (у 1 знач.); па самае годзе (у 1 знач.); па самае нельга; па самае не хачу. *Я сваім равеснікам даўно сказаў — катай, хлопцы, на ўсю іванаўскую. Я нічога не бачу, не чую...* Навуменка. *У хаце на ўсю іванаўскую круціўся вальс. Каманду падаваў кучаравы, геройскі з выгляду сяржант.* Няхай.

*ІГОЛАЧКІ* • **З ІГО́ЛАЧКІ**. *Разм. Адабр.* **1**. *Вык. і азн.* Ужыв. пры наз., які абазначае адзенне. Зусім новы, толькі што пашыты. **Сін**.: з-пад іголачкі (у 1 знач.). *Адзенне на іх з іголачкі, самі ўсе рослыя, маладыя, бы твае хлопцы.* Карпюк. *Гарнітурчык з іголачкі, аж блішчыць.* Арабей. *На Аляксандру Іванавічу блішчаў новы касцюм, як кажуць, з іголачкі.* Пестрак. *Публіка была пераважна вайсковая — афіцэры; адны ў свежым, з іголачкі, абмундзіраванні, другія ў паношаных гімнасцёрках і кіцелях.* Хадкевіч.

**2**. *Акал.* Ва ўсё новае, толькі што пашытае (апранацца, прыбірацца, адзяваць). **Сін**.: з-пад іголачкі (у 2 знач.). *Вось і прыказчык прыйшоў... Увішны такі, апрануты з іголачкі, гальштук стракаты звісае з-пад каўняра белага, а на яго абвіслі дрыготныя, залітыя тлушчам шчокі.* Лынькоў. *І нават маці, якая з іголачкі апранала яго, частавала самым смачным у хаце, часта горка плакала і наракала: — У іншых людзей дзеці як дзеці, а гэты пустадомкам расце...* «Настаўн. газ.»

**3**. *Азн. і вык.* Зусім новы, нядаўна пабудаваны (будынак і пад.). *Гарошка.. сказаў цвёрда: «Садзік будзем здаваць з іголачкі».* Крыга. *Адміністрацыйны будынак, дзе апрача іншых службаў, размясцілася і кантора калгаса, — новенькі, з іголачкі.* Гардзей. *Маіх таварышаў па дэлегацыі не так уразілі кароўнікі-палацы, новенькія, з іголачкі, катэджы для калгаснікаў, як звычайная канава, якую пры нас капаў экскаватар.* «ЛіМ».

**З-ПАД ІГО́ЛАЧКІ**. *Разм. Адабр.* **1**. *Вык. і азн.* Ужыв. пры наз., які абазначае адзенне. Зусім новы, толькі што пашыты. **Сін**.: з іголачкі (у 1 знач.). *Заходзіць у купэ малады чалавек інтэлігентнага выгляду. Сам прыгожы, касцюмчык з-пад іголачкі на ім.* «Вожык».

**2**. *Акал.* Ва ўсё новае, толькі што пашытае (апранацца, прыбірацца і пад.). **Сін**.: з іголачкі (у 2 знач.). *Штурхнуўшы Ігнася, бліщчасты малады рызыкант-панок, апрануты з-пад іголачкі, з капелюшом у руцэ, падышоў к прыгожай дзяўчыне з маткаю.* Мурашка.

*ІГОЛКА* • **НЕ ІГО́ЛКА <У СЕ́НЕ (У СТО́ЗЕ СЕ́НА)>**. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці канкр. прадмета. Тое, што не можа заставацца незаўважаным, нязнойдзеным, нявыяўленым. *Дзесяткі людзей шукаюць чалавека, які, паводле нашых меркаванняў, павінен быў жыць у тым ці іншым месцы семнаццаць— дваццаць год назад. Чалавек жа не іголка.* Новікаў. *Сасна ці асіна — не іголка, яе ад Калькі-лесніка не схаваеш...* І.Капыловіч. *Вядома, дарога — не іголка ў сене, недзе яна знойдзецца, але Антону шкада было часу, нямала якога было патрачана на гэта дурное блуканне...* Быкаў. *— Аэрадром — гэта не іголка ў сене, — першы падаў голас Ларык. — Знойдзем, нікуды не дзенецца!* Кудраўцаў. *Дакладнага месца, дзе шукаць партызанаў, ён не ведаў... Што ж, партызанскі атрад — не іголка ў стозе сена. Давядзецца пусціць у ход разведку.* Якімовіч.

**ЯК (ШТО) ІГО́ЛКА Ў СТО́ЗЕ <СЕ́НА>**. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Зусім непрыкметны, такі, што немагчыма знайсці, выявіць, адшукаць. *У горадзе — у натоўпе, дзе снуюць тысячы самых розных, і гарадскіх, і прыезджых, — ты будзеш як іголка ў стозе сена.* Мележ. *Базыль у шматгалосым тлуме як іголка ў стозе сена. Відаць, наўмысна зашыўся, не вытыркае носа.* Навуменка. *— Тут вялікі лес: чалавек у ім — што іголка ў стозе, — загаварыў Крывіцкі да незнаёмых людзей.* Лобан.

*ІГОЛКАЙ* • **ЯК НІТКА ЗА ІГОЛКАЙ**. Гл. нітка.

*ІГОЛКАХ* • Сядзець, адчуваць сябе **ЯК (НІБЫ́) НА ІГО́ЛКАХ**. *Вык. ці акал. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У стане крайняга хвалявання, неспакою, трывогі і пад. **Сін.**: як на <гарачым> вуголлі; як на шыле. *Яшчэ гадзіну якую сядзела Лена як на іголках. Усё хацела паглядзець, а што там такое ў скрутку?* Лынькоў. *Першы дзень, калі Чумічка пайшоў у камендатуру, Вера сядзела як на іголках. Падрыхтавалася да ўсяго.* Сабаленка. *За вясельным сталом прыгажуня-«нявеста» сядзела як на іголках, ні жывая ні мёртвая.* «Настаўн. газ.» *Андрэй, слухаючы выступленні, адчуваў сябе нібы на іголках.* Шахавец.

*ІГОЛКІ* • **ХОЦЬ <ТЫ> ІГОЛКІ ЗБІРАЙ**. Гл. збірай.

*ІГРА* • **ІГРА́ НА НЕ́РВАХ** <*чыіх*>. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Наўмыснае раздражненне, нерваванне каго-н. *[Радзіён:] Насустрач амерыканец на «Б-29». Ідзе ў лоб. Ігра на нервах. У каго яны мацнейшыя. Прыйшлося яму кідаць машыну ўніз.* Шамякін. *Што ж, думаюць мужчыны, можа, самалёт зрабіў разведку і не выкінуў нікога? Можа, гэта проста правакацыя чорных рук, ігра на нашых нервах...* Кавалёў.

*ІГРАЕ* • **КРОЎ ІГРАЕ** *ў каго.* Гл. кроў.

*ІГРАЦЬ* • **ІГРА́ЦЬ (ДЗЬМУ́ЦЬ) У ДУ́ДКУ** *чыю, каго, каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дзейнічаць у чыіх-н. інтарэсах. **Сін.**: глядзець вачамі *чыімі, каго на каго, на што;* спяваць з голасу *чыйго;* цягнуць руку *чыю, каго. Ёсць у мыслях праект напісаць нешта накшталт пісьма да тых людзей, што граюць у Гітлераву дудку.* Колас. *Мы чулі айца духоўнага, які, бачыце ж самі, як спрытна грае ў дудку таго, хто не хоча зямлі аддаць таму, хто на ёй робіць.* Чорны. *І такі «капітан» так іграе ў дудку галандцам, што лепш не трэба.* Маўр. *Адарка запыталася пра жонку Яўмена Матруну.. Домна адказала, што ўсё было б добра, але ў дудку Яўмена дзьме і на матку вокам не зірне.* Мрый. *[Лагута:] Погляд... Ох, і лоўка ты навучыўся гаварыць, Золін. [Золін:] Зайздросна? [Лагута:] Крыўдна. У чужую дудку дзьмеш.* Васілеўскі.

**ІГРА́ЦЬ ДРУГУ́Ю СКРЫ́ПКУ** *ў чым. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Займаць другараднае, падпарадкаванае становішча ў

чым-н. **Ант.**: весці рэй; даваць тон *<каму, чаму, у чым>;* іграць першую скрыпку *ў чым;* камандаваць парадам; правіць баль *<дзе, у чым>;* рабіць пагоду *<у чым, дзе>;* трымаць лейцы ў <сваіх> руках. *Многія выводзілі маралі наконт таго, што ў багатых заўсёды бывае няўладзіца ў гэтых справах: бо грошы ды зямля граюць першую скрыпку, а маладыя — другую.* Гартны. *У маладосці ён [Антон] прывык іграць другую скрыпку пры старэйшым браце Іване.* Калеснік.

**ІГРА́ЦЬ (ДУДЗЕ́ЦЬ, ДЗЬМУ́ЦЬ, СВІСТА́ЦЬ) У АДНУ́ ДУ́ДКУ** *з кім. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дзейнічаць заадно. *Старшынёю тады быў Макась нейкі. Пан з ім вельмі жыў добра. Ён з панам за гэта ў адну дудку іграў.* Баранавых. *Даглядчыца Красулі Мацільда, вядома, у курсе справы, але ж яна грае ў адну дудку з гэтым Сямёнам Зязюляй.* Рылько. *Як змовіліся ўсё роўна, дудзелі ўсе ў адну дудку: слаба ведаю жыццё, спрабую ісці ў літаратуру ад літаратуры...* Масарэнка. *Э-э, не-е! Ды за ноч Косця з Настасаю як хочаш згаворацца! У адну дудку будуць дудзець.* Міська. *«Ну вось, — кажуць, — разам працуеш, дык разам у адну дудку і дзьмеш».* Крапіва. *— А як ваша настаўніца? — Не кажыце! У адну дудку з імі свішча.* Галавач.

**ІГРА́ЦЬ НА НЕ́РВАХ** *<чыіх, каму>. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Наўмысна раздражняць, нерваваць каго-н. **Сін.**: выводзіць з сябе *каго;* дзейнічаць на нервы *каму;* дражніць гусей; псаваць кроў *каму. Іван, скажы, каб яна не іграла на маіх нервах.* Шамякін. *Я тады яго [Галавацкага] не перавяду. Буду ставіць яму двойкі, двойкі і двойкі. Ён мне іграць на нервах не будзе.* Ермаловіч. *А бранявік стаіць і нават сонна, тоненька сіпіць. Проста грае на нервах.* Пестрак.

**ІГРА́ЦЬ НА РУКУ́** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Сваімі дзеяннямі, учынкамі дапамагаць, садзейнічаць каму-н. **Сін.**: ліць ваду на млын *чый, каго. [Мяснікоў:] Дык вось, сябры, нас здраднікі заўсёды папракаюць, што мы іграем немцам на руку. Хлусня і фарысейства гэта...* Клімковіч. **СЫГРАЦЬ НА РУКУ** *каму. Зак. Камандаванне фалангістаў позна спахапілася, што паветраны налёт мог сыграць на руку праціўніку.* Беразняк.

**ІГРА́ЦЬ ПЕ́РШУЮ СКРЫ́ПКУ** *ў чым. Незак. Функц. не зам. Часцей адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Займаць галоўнае становішча ў чым-н. **Сін.**: весці рэй; даваць тон *<каму, чаму, у чым>;* камандаваць парадам; правіць баль *<дзе, у чым>;* рабіць пагоду *<у чым, дзе>;* трымаць лейцы ў <сваіх> руках. **Ант.**: іграць другую скрыпку *ў чым. Можа, у гэтай гасціннасці першую скрыпку іграе гаспадыня, у якой з часоў баронства засталося нямала панскай фанабэрыі і пышлівасці...* Машара. *Няма патрэбы даказваць, што першую скрыпку ў справе яе [праграмы] ажыццяўлення павінны іграць мясцовыя Саветы.* «Звязда».

**ІГРА́ЦЬ РО́ЛЮ**. *Незак. Функц. не зам.* **1**. *якую ў чым, дзе.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. ці абстр. прадмета. Мець значэнне, аказваць уздзеянне на каго-, што-н. **Сін.**: адыгрываць ролю *<якую> у чым. Тут, вядома, значную ролю грала даўняя ўзаемная варожасць паміж Сіўцом і Сівалапамі.* Зарэцкі. *Дом тут, праўда, іграў вялікую ролю.* Чорны. **СЫГРАЦЬ РОЛЮ** *якую ў чым, дзе. Зак. Ну, каб хоць прыцемак, то мо гэтыя павязкі на якую мінуту і сыгралі б сваю ролю.* Міська.

**2**. *каго.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць кім-н., выступаць у якасці каго-н. *Кейтэль цырымонна схіліў галаву, паклаў на стол жэзл і сеў. Ён хацеў, няйначай, іграць ролю гэткага бывалага ваякі, якому даводзілася за жыццё трапляць і не ў такія пераплёты і выходзіць адтуль сухім.* Дамашэвіч. *Артыст толькі іграе ролю, настаўнік не*

*можа іграць ролю настаўніка, ён проста павінен быць ім.* Ермаловіч. **СЫГРАЦЬ РОЛЮ** *каго. Зак.*

**3**. *каго* <*перад кім*>. *Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прытварацца, прыкідвацца, не быць самім сабою. **Сін**.: надзяваць <на сябе> маску (у 2 знач.); насіць маску *каго, чаго.* **Ант**.: скідаць маску. *Жанчыны весела зашумелі і Саша, схамянуўшыся, глянула на іх дзёрзка, смела і таксама засмяялася. З гэтага моманту яна пачала іграць ролю жонкі зусім натуральна.* Шамякін. *Калі перад Чарнавусам ён [Гарлахвацкі] імкнецца іграць ролю шчырага друга, які блізка да сэрца прымае яго клопаты і турботы, высока цэніць яго працу, то з Тулягам ён нахабна грубы і адкрыты.* Шкраба. *Трэба падтрымліваць свой прэстыж, правільней — іграць ролю незвычайнага, рамантычнага, трошкі з дзівацтвам хлопца.* Місько. **СЫГРАЦЬ РОЛЮ** *каго* <*перад кім*>. *Зак. Вельмі добра сыграў ролю камандзіра перад Косцікам агент дэфензівы.* Баранавых.

*ІГРАЮЦЬ* • **КІШКІ МАРШ ІГРАЮЦЬ** *у каго.* Гл. кішкі.

*ІГРЭЦ* • **І ШАВЕЦ І ЖНЕЦ І НА ДУДЗЕ ІГРЭЦ**. Гл. шавец.

*ІДЗЕ* • **ГАЛАВА ІДЗЕ КРУГАМ** *у каго, чыя.* Гл. галава.

**ДЫМ КАРОМЫСЛАМ <ІДЗЕ>**. Гл. дым.

**ІДЗЕ́ (ІШЛО́) У РУ́КІ** *каму што. Незак. Адз. і мн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. ці канкр. прадмета. Вельмі лёгка дастаецца. **Сін**.: плыве ў рукі *што;* просіцца ў рукі *што. І тут жа генерал раскіпяціўся і стаў даказваць.., што ў нас процьма сіл і здольнасцей, толькі мы іх яшчэ не навучыліся выкарыстоўваць, браць усё, што нам само ідзе ў рукі.* Дамашэвіч. *Хацелася не страціць такую ўдачу, такую важную ўдачу, якая проста сама ішла ў рукі.* Мележ. *Гэта ж само шчасце ў рукі ідзе, а ён нос адварочвае.* Далідовіч. — *Вазьмі ты гэтыя грошы ды скажы яму, хай не корчыць разумніка: грошы самі ў рукі ідуць... Хай зробіць, што прашу... — Аднаго я не разумею, дзядзька, як гэта грошы вам у рукі самі ідуць?* «*ЛіМ*». **ПРЫЙШЛО Ў РУКІ** *каму што. Зак. [Бруй:] Давай ім усё: і зямлю, і гаспадарку. А яна табе, гаспадарка, сама прыйшла ў рукі?* Колас. *[Кацярына:] Гэта шчасце тваё само прыйшло табе ў рукі.* Крапіва.

**НЕ ІДЗЕ З ГАЛАВЫ** <*чыёй, у каго*>. Гл. выходзіць.

**НЕ ІДЗЕ́ (НЕ ІШЛО́) У ГАЛАВУ́** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Не становіцца прадметам асаблівай увагі, цікавасці, інтарэсу; не даецца каму-н. (з-за нежадання ці па якой-н. іншай прычыне). **Сін**.: не лезе ў галаву *каму* (у 1 знач.). *Не ішлі ў галаву і штодзённыя літаратурныя практыкаванні.* Лынькоў. *Кастравіцкі ўзяўся за кнігу, але чытанне не ішло ў галаву. На душы было прыкра.* Навуменка.

**НЕ ІДЗЕ Ў РОТ**. Гл. лезе.

*ІДЭІ* • **ПА ІДЭ́І**. *Акал. Разм.* У адпаведнасці з чыімі-н. разлікамі; як мяркуецца. *Суседская бабка называе хваробу валасень і лечыць палец, абкладваючы руку параным жытнім калоссем. Па ідэі, калоссе павінна выцягнуць з пальца хваробу. Але не выцягвае.* Навуменка. *Канстанцін Міхайлавіч павёў госця на пясчаны свіслацкі пляж, паказаў дубы і грыбныя мясціны, дзе па ідэі павінны былі расці раннія баравікі.* С.Александровіч.

*ІЕРЫХОНСКАЯ* • **ІЕРЫХОНСКАЯ ТРУБА**. Гл. труба.

**<ЯК> ІЕРЫХОНСКАЯ ТРУБА**. Гл. труба.

*ІЖЫЦУ* • **ПРАПІСАЦЬ ІЖЫЦУ** *каму.* Гл. прапісаць.

*ІЗЮМУ* • **НЕ ФУНТ ІЗЮМУ** <*каму*>. Гл. фунт.

*ІКОНУ* • **ХОЦЬ ІКОНУ ПІШЫ** з *каго.* Гл. пішы.

*ІЛБЕ* • **ЯК ВОКА Ў ІЛБЕ**. Гл. вока.
*Адзін* **ЯК ВОКА Ў ІЛБЕ**. Гл. вока.
*Глядзець* **ЯК ВОКА Ў ІЛБЕ**. Гл. вока.

*ІЛБОМ* • **АДЧЫНЯЦЬ ІЛБОМ ДЗВЕРЫ**. Гл. адчыняць.
**ІЛБОМ СЦЯНУ ПРАБІВАЦЬ**. Гл. прабіваць.

*ІМ* • **КАДУК З ІМ**. Гл. кадук.
**ЛІХА З ІМ**. Гл. ліха.

*ІМГНЕННЕ* • **НА АДНО́ ІМГНЕ́ННЕ ВО́КА**. *Акал. Разм.* На вельмі кароткі час. **Сін.**: на <адну> мінуту (у 1 знач.); на <адну> секунду; на капельку; на міг. *Часам Ільіч на адно імгненне вока адвернецца ад паперы, ахоплівае ўвесь летні прастор паплавоў і зноў нагінаецца, і зноў лёгкі шурхат пісання...* Бядуля. *— На адно імгненне вока павярніся... — звініць.. [Салавей].* Мурашка.

**У ІМГНЕ́ННЕ ВО́КА**. *Акал. Разм.* Ужыв. пры дзеясл.-вык. зак. тр. Адразу ж, вельмі хутка, імгненна (зрабіць што-н.). **Сін.**: у адзін мах; у адзін міг; у <адзін> момант; у <адну> мінуту; у міг вока; як бач; як бачыш (у 1 знач.); як вокам згледзець (у 1 знач.); як га; як слова сказаць; як стой. *У імгненне вока ён [Алёшка] зняў Рэніну туфлю, віхрам памчаўся да кацельнай.* Лынькоў. *Сілы атрада, у параўнанні з патокам, былі задужа малыя, так што атрад, пры яго двух кулямётах і нязначным запасе патронаў, быў бы змецены ў імгненне вока.* Машара. *Сярожа зляцеў з печы і ў імгненне вока падскочыў да акна.* Місько. *Цётка Анэля, жвавая жанчына, у імгненне вока накапала нам пад дожджыкам ладны кош маладзенькай бульбачкі.* Пашкоў.

*ІМЁНАМІ* • **НАЗЫВАЦЬ РЭЧЫ СВАІМІ ІМЁНАМІ**. Гл. называць.

*ІМЯ* • **АД ІМЯ́** *каго. Кампанент дап. Функц. не зам.* Як даручэнне каго-н., выказваючы думку каго-н., спасылаючыся на каго-н. (гаварыць, вітаць, выступаць і пад.). *Значыцца, цяпер яна [Лена] гаворыць ад імя тых людзей, яны даюць яму [Алесю] баявое заданне!* Шамякін. *Пакуль мы жывыя, мы не можам судзіць ад імя тых, што загінулі.* Дамашэвіч.

**ІМЯ́** *каму, чаму* **ЛЕГІЁН**. *У безас. ужыв. Кніжн.* Каго-, чаго-н. вялікае мноства, вельмі многа. **Сін.**: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу *<чаго>;* валіцца цераз горла *ў каго;* вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго;* да гібелі *каго, чаго;* дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго;* да халеры *каго, чаго;* да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе ў *каго;* з горла прэ ў *каго;* канца-краю не відаць (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго;* не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго;* хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як

на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. А гэта, хлопцы, яшчэ адзін наш паэт, Алесь Руневіч. Імя нам, ёлкі кашлатыя, легіён.* Брыль. *Яўген стараўся не глядзець на яго, думаючы — як, мабыць, надакучыла гэтаму чалавеку вадзіць па ўчастку цікаўных людзей, імя якім — легіён.* Карпаў. *Устае, расце, мацнее хваля, шы рэй, дужэй яе разгон, імя той хвалі — легіён.* Колас.

**У ІМЯ́** *чаго. У знач. прыназоўніка. Кніжн.* Дзеля чаго-н. *[Валю] захапляла прыгажосць, створаная чалавекам, і абурала, у імя чаго гэтая прыгажосць стваралася ды якіх ахвяр каштавала.* Карпаў. *Карнейчык не стаў абараняць Лютынскага, не стаў ахвяраваць сваімі прынцыпамі ў імя захавання дружбы.* Шкраба.

*ІНАКШ* • **ТАК ЦІ ІНАКШ**. Гл. так.

*ІНАЧАЙ* • **ТАК ЦІ ІНАЧАЙ**. Гл. так.

*ІНДЫКА* • **МЯНЯЦЬ БЫКА НА ІНДЫКА**. Гл. мяняць.

*ІНЕРЦЫІ* • **ПА ІНЕ́РЦЫІ**. *Акал. Функц. не зам.* Машынальна, бессвядома, па прывычцы (рабіць што-н.). *А пакуль што дзякуй богу, што яшчэ ў нас не адкрылі спосабу бальзаміравання дрэнных твораў, і яны, як рыба, хутка пачынаюць псавацца, хоць іх яшчэ нейкі час па інерцыі цытуюць і паўтараюць.* Танк. *[Маша:] Я не спазнілася? [Траян:] Гэта ты ўжо запыталася па інерцыі.* Маўзон. *Было відаць, што расказваў ён так, па інерцыі, што ягоныя думкі луналі недзе далёка...* Карпаў.

*ІНСТАНЦЫІ* • <u>*Ісціна*</u> **Ў АПО́ШНЯЙ ІНСТА́НЦЫІ**. *Азн. Функц. не зам.* Неаспрэчная, якая не падлягае сумненню. *Ніякага плюралізму думак і поглядаў ён не дапускае.., словам, яго погляд — гэта ісціна ў апошняй інстанцыі, яна канчатковая, неабвержаная.* Сачанка. *Агульныя рысы некаторых дэструктыўных рэлігійных арганізацый: прэтэнзіі на «харызматычнае» лідэрства, прэтэнзіі на ісціну ў апошняй інстанцыі.* «Настаўн. газ.» *Раскрываючы свае адносіны да падзей рэчаіснасці, ён [І. Шамякін] не прэтэндуе на ісціну ў апошняй інстанцыі...* Бельскі.

*ІНТАРЭСАХ* • <u>*Заставацца, аказвацца*</u> **ПРЫ ПІ́КАВЫХ ІНТАРЭ́САХ (ПРЫ ПІ́КАВЫМ ІНТАРЭ́СЕ)**. *Акал. Разм. Часта іран.* Без таго, на што разлічваў, спадзяваўся хто-н., чаго дамагаўся. **Сін.**: без штаноў; з голымі рукамі (у 1 знач.); з носам; з такам; ля разбітага карыта; на бабах; ні з чым; нясолана хлябаўшы; перад разбітым карытам. *Глядзі, каб ты не асталася пры пікавых інтарэсах.* Пальчэўскі. *Пры пікавых інтарэсах народ застаўся. Куды ні зірні — усюды пачынай спачатку, а тут табе ані хамута, ані шыі...* Ракітны.

<u>*Заставацца*</u> **ПРЫ СВАІ́Х ІНТАРЭ́САХ (ПРЫ СВАІ́М ІНТАРЭ́СЕ)**. *Акал. Разм. Незадав.* У тым самым становішчы, з тым, што было. **Сін.**: пры сваіх. *Засталіся, можна сказаць, пры сваіх інтарэсах... Ну што ж, пайшлі.* Ракітны. *Сабраліся хлопцы і паехалі. А я застаўся, як кажуць, пры сваіх інтарэсах.* «Вожык». *Пакуль.. [сена] не забралі, трэба ў хлеў укінуць. Спакайней будзе. А то, пабачыце, застанемся пры сваім інтарэсе.* Асіпенка.

*ІНТЭРАС* • **ДО́БРЫ ІНТЭ́РАС**! *Мн. не ўжыв. Выкл. Разм.* Выказванне нязгоды, неадабрэння, абурэння з якой-н. прычыны. *[Язва:] Як! Аўтар камедыі не мае права паказваць інтымнае жыццё сваіх герояў? Добры інтэрас!* Крапіва. *Голда, два [куфлі] піва дарагому госцю, чаго стаіш, бы слуп солі?! Яна не чуе — добры інтэрас!..* Карпюк.

*ІНШАГА* • **З ІНШАГА ЦЕСТА <СПЕЧАНЫ>**. Гл. спечаны.

*ІНШАЕ* • **НЕ ШТО ІНШАЕ ЯК**. Гл. што.

*ІНШЫ* • **АДЫХОДЗІЦЬ У ІНШЫ СВЕТ**. Гл. адыходзіць.
**АДЫХОД У ІНШЫ СВЕТ**. Гл. адыход.
**ІНШЫ КАЛЕНКОР**. Гл. каленкор.
**ІНШЫ РАЗ**. Гл. раз.
**НЕ ХТО ІНШЫ ЯК**. Гл. хто.
**ТОЙ ЦІ ІНШЫ**. Гл. той.

*ІНШЫМ* • **ІНШЫМ РАЗАМ**. Гл. разам.
**МІЖ (ПАМІ́Ж) І́НШЫМ**. *Функц. не зам.* **1**. *Акал.* Не звяртаючы асаблівай увагі, мімаходам. **Сін.**: у дужках. *Яшчэ з вясны, у час перабору, сюды прывезлі пчол калоду, ну, так, між іншым, для заводу. Але ручыцца сталі пчолкі.* Колас. *Нешта лісты па два напісалі адзін аднаму — і на гэтым усё, нават і на канікулах сустракаліся так сабе, між іншым, як і з усімі іншымі былымі аднакласнікамі.* Шамякін.
**2**. *У знач. пабочн. сл.* Дарэчы; у сувязі са сказаным. **Сін.**: да слова < сказаць >. *[Гарлахвацкі:] Між іншым, вы цяпер мала зарабляеце. Можа, вы адчуваеце нястачу ў чым?* Крапіва. *Паміж іншым, таварыш Дубіцкі, ты вельмі смелы.* Чарнышэвіч.

*ІРВАЦЬ* • **З РУ́К ІРВА́ЦЬ (ВЫРЫВА́ЦЬ)** *што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Купляць, набываць з вялікай ахвотай, нарасхват. **Сін.**: з рукамі адарваць (у 1 знач.). *Гэта ж новая адзежына. Замежная, дэфіцытная. Яе проста з рук ірвалі.* Грамовіч. *Калі хочаш ведаць, сон-трава — лекавая расліна, яе ў аптэках з рук вырываюць.* Воранаў. **З РУК ВЫРВАЦЬ** *што. Зак.*

*ІРЖА* • *Есці, грызці* **ЯК ІРЖА́ ЖАЛЕ́ЗА**. *Акал. Разм.* Пастаянна, неадчэпна. *Дык от робім усё, стараемся, каб як найлепш, і будзе лепш, аднак жа от, скажам, сын мой ці дачка — усё роўна будуць грызці мяне як іржа жалеза...* Чорны. — *Ну проста трываць нельга за апошнія дні. Есць і есць як іржа жалеза... — паскардзілася наймічка, стараватая ўжо дзеўка Настуля.* Мурашка. *Злосць ела яго [Гарбацэвічаву] душу як іржа жалеза.* Далідовіч.

*ІРОНІЯ* • **ІРО́НІЯ ЛЁСУ**. *Часцей дзейн. Кніжн.* Недарэчная выпадковасць. *Іронія лёсу на вайне — тут стаялі гарматы, а не было каму страляць, а недзе ў другім месцы артылерысты сядзяць у акопах разам з пяхотай.* Дамашэвіч. *«Іронія лёсу,— падумаў дацэнт,— гэты юнак пачынае ведаць ужо тое, пра што я, яго настаўнік, і не маю ўяўлення».* Шахавец.

*ІСКРА* • **І́СКРА БО́ЖАЯ** <*у каго, у кім*>. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Адабр.* Талент, прыродны дар, здольнасць *[Русаковіч:] А ён жа раней не такі быў. Помню, як выкладаў у інстытуце... Іскра божая была ў ім. А тут нейкі мех жыцейскай мудрасці.* Крапіва. *Сваім абавязкам Саюз лічыць, па-першае, вызначыць прыгоднасць чалавека да газетнай працы — «знайсці ў яго божую іскру», па-другое, навучыць журналісцкаму майстэрству.* Праскураў. *Ёсць і здольныя, з глыбокім, творчым розумам, у лепшым значэнні, камандзіры, і ёсць — недалёкія, без божай іскры выканаўцы.* Мележ.

*ІСКРЫ* • **І́СКРЫ З ВАЧЭ́Й (З ВО́Ч) ПАСЫ́ПАЛІСЯ (ПАСЫ́ПЛЮЦЦА, СЫ́ПЛЮЦЦА)** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* У каго-н. замітусілася ў вачах ад моцнага ўдару. — *А я думаў, ты такі сабака, што кусае спатайка, — сказаў Васіль, заляпіўшы назад такую аплявуху, ад якой у лесніка пасыпаліся з вачэй іскры.* Колас. *Калі яшчэ раз стукнуў яе трубкай па галаве, у дзяўчыны з вачэй пасыпаліся іскры, сцены закружыліся, падлога*

*паплыла з-пад ног.* Новікаў. *Яшчэ і пляснуць цябе могуць, здаецца, далікатна, але так, што іскры з вачэй сыплюцца.* Шамякін. — *Станавіся тут і не варушыся!— І як бразне Міколку аб падлогу, у таго аж іскры пасыпаліся з воч.* Лынькоў.

*ІСУСАЎ* • **КОНЬ ІСУСАЎ**. Гл. конь.

*ІСЦІ* • **ІСЦІ́ АГНЁМ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Гарэць, знішчацца пажарам. **Сін.**: ісці дымам (у 1 знач.); ісці з дымам. **ПАЙСЦІ АГНЁМ**. *Зак. Каб яна агнём пайшла, твая хата. Якія там людзі? Старцы паганыя, на чужое дабро пагналіся.* Грахоўскі. *[Сухалета:] Каб ён [бровар] агнём пайшоў, дай божа!* Вітка.

**ІСЦІ́ ВА-БА́НК**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Дзейнічаць, рызыкуючы ўсім, што ёсць. **Сін.**: пераходзіць рубікон. *Я іду ва-банк — пан ці прапаў. Хачу рызыкаваць толькі пры той умове, што сапраўды прынясу карысць Радзіме і заслужу яе літасць.* Новікаў. *[Нуланс:] Партыйная апазіцыя ідзе ва-банк.. і яшчэ больш падлівае масла ў агонь.* Губарэвіч. *Я ішоў ва-банк... Пераскочыў бар'ер і на поўны голас сказаў: — Імем рэвалюцыйнай улады...* Мікуліч. — *Вы, таварыш сяржант, хочаце сказаць, што я не люблю жыццё і што я наогул чалавеканенавіснік! — Не трэба ісці ва-банк, Вярэніч.* Тычына.

**ІСЦІ ДА АБРАМА НА ПІВА**. Гл. адпраўляцца.

**ІСЦІ́ ДАРО́ГАЙ** *каго, чыёй. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рабіць так, як хто-н., беручы з яго прыклад. **ПАЙСЦІ ДАРОГАЙ** *каго, чыёй. Зак. А да гэтага ён [Андрэй] працаваў у паравозарамонтных майстэрнях, таксама слесарам. Пайшоў дарогай бацькі.* Гурскі.

**ІСЦІ́ ДЫ́МАМ**. *Незак. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Гарэць, знішчацца пажарам. **Сін.**: ісці агнём; ісці з дымам. **ПАЙСЦІ ДЫМАМ**. *Зак. У такую суш можна падаткнуць агню, і ўся вёска пойдзе дымам.* Пташнікаў. *Кінуў такі ахламон вогнішча ў сушняку або цыгарку затаптаць паленаваўся — і загула, і зайграла. Колькі лесу дымам пайшло!* Грахоўскі.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Цярпець крах, канчаткова разбурацца, гінуць. **Сін.**: ісці з ветрам (у 2 знач.); ісці пад адхон; ісці прахам; ісці ў пясок. *Не адна пайшла ўцякачка, а з сваім Якімам. Што багацце? Лепш батрачкай! Хай яно йдзе дымам!* Колас. **ПАЙСЦІ ДЫМАМ**. *Зак. Арцём.. усё больш пераконваўся, што яму нічога не застаецца, як згадзіцца з Сімонам. Інакш усё пойдзе дымам.* Самуйлёнак.

**ІСЦІ́ З ВЕ́ТРАМ**. *Незак. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Бясследна знікаць, прападаць. **Сін.**: памінай як звалі (у 3 знач.). **ПАЙСЦІ З ВЕТРАМ**. *Зак. Я хваць за талакно! Памінай як звалі. І ў маю кішэню яны [жулікі] заглядалі. Пайшла яда з ветрам, шчаслівa дарога! Добра, што навука каштуе нямнога...* Дунін-Марцінкевіч.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Цярпець няўдачу; канчаткова разбурацца, развальвацца. **Сін.**: ісці дымам (у 2 знач.); ісці пад адхон; ісці прахам; ісці ў пясок. **ПАЙСЦІ З ВЕТРАМ**. *Зак. У нас ёсць людзі добрыя — у сваім сяле і прыязджаюць... Каб не яны, калгас уж[о] пайшоў бы з ветрам.* Пестрак.

**ІСЦІ́ З ДЫ́МАМ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Гарэць, знішчацца пажарам. **Сін.**: ісці агнём; ісці дымам (у 1 знач.). *Усё ў той лясной старане рабілася дбайна, на вякі. І вось усё ідзе з дымам.* Асіпенка. **ПАЙСЦІ З ДЫМАМ**. *Зак. Няма, баба, Вялікае Бурдзілаўкі. Малая [ёсць], а Вялікае няма. Два месяцы таму з ды-*

*мам пайшла.* Лобан. *Ох, гэтыя газеты! Яна [старая] на іх глядзець не можа. Каб сіла, дык вырвала б з рук і кінула б у печ, каб яны ўсе з дымам пайшлі.* Крапіва.

**ІСЦІ́ МІ́МА РУ́К.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Не даставацца каму-н. *Усё ішло міма рук. Сімон.. аж схудзеў з твару.* Самуйлёнак. **ПАЙСЦІ МІМА РУК**. *Зак.*

**ІСЦІ́ НА ВУ́ДАЧКУ (-І)** *чыю, каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даваць сябе падмануць. **Сін.**: клюнуць на вудачку (у 1 знач.); паддавацца на вудачку *каго, чыю, каму;* пападаць на кручок *каму, чый, да каго. — Хіцёр ён,— трасе галавою стары Сусла,— якая-такая цяпер навука?.. Бязбожніцтва пайшло, заліваюць кулі, а дурні на вудачку ідуць.* Колас. *Але самае крыўднае, што Максім ідзе на яго вудачкі... Крыўдна і прыкра...* Шамякін. **ПАЙСЦІ НА ВУДАЧКУ (-І)** *чыю, каго. Зак.*

**ІСЦІ́ <НАГА́> У НАГУ́** *з кім, з чым. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр., абстр. ці зборн. прадмета. Дзейнічаць аднадушна, узгоднена; не адставаць у якіх-н. адносінах. *Служы, працуй на пана-ката, а сам не ўправішся, дык брата бяры ты з дому на падмогу, няхай з табою нага ў ногу ідзе па службе, памагае...* Колас. *Жыццё адкідае тых, якія не могуць ісці нага ў нагу...* Мележ. *Радуе, што слоўнік ідзе ў нагу з жыццём: у ім бачым шмат шырокаўжывальных на сённяшні дзень слоў.* «Полымя». *Час заўсёды дыктуе свае законы. І калі хочаш ісці ў нагу з часам — трэба яго слухацца.* Сачанка. *[Янук:] Пятлю то мы круцім, але як надзець нам яе на панскую шыю? [Адась:] Надзенем! Толькі трэба, каб сяляне ішлі ў нагу з рабочымі.* Козел.

**ІСЦІ́ НА ДНО́.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Цярпець няўдачу, паражэнне. **Сін.**: выпадаць у асадак (у 2 знач.); звярнуць <сабе> галаву (у 2 знач.); зламаць <сабе> галаву (у 2 знач.). *Таварыш Былінскі. Ратуйце нас. Мы гінем. Ідзём на дно.* Гурскі. *Тут іншы выходзіў з вады сухі, другі — на дно ішоў, як палена.* Барадулін. **ПАЙСЦІ НА ДНО.** *Зак. Яй-богу, хлопцы, далей правіла — забі, не ведаю. Не спыні Басаў — усё роўна б на дно пайшоў. Вучу, вучу, а ў галаву не лезе нічога.* Дзятлаў.

**ІСЦІ́ НА ПАВАДКУ́ (НА ПО́ВАДЗЕ)** *у каго, каго, чым. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Слепа падпарадкоўвацца чыёй-н. волі, дзейнічаць несамастойна. **Сін.**: хадзіць на павадку *ў каго. Пісьменнік — сапраўдны, канечне,— не павінен ісці на павадку ў чытача.* Мележ. *Нашто нам падмяняць старшыню калгаса і ісці на павадку розных крыкух.* Пестрак. *Некаторыя дабрадзеі нават вучылі яго [Яўхіма], як вымуштраваць жонку, каб яна ішла на яго павадку.* Бядуля. **ПАЙСЦІ НА ПАВАДКУ (НА ПОВАДЗЕ)** *у каго, каго, чым. Зак. У раёне ўжо загаварылі пра самаўпраўства Брагінца, які зашмат на сябе ўзяў і за гэта дорага заплаціць. «Пайшоў на повадзе ў адсталых элеметаў», — гаварылі там.* Гурскі.

**ІСЦІ́ НАПЕ́РАДЗЕ ПРАГРЭ́СУ**. *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Праяўляючы якую-н. ініцыятыву, дзейнічаць неразумна, нелагічна і пад. *Мы тут не імкнёмся ісці наперадзе прагрэсу. І не ставім гэта пытанне спантанна, пад уплывам якіх-небудзь падзей ці звестак...* Вярцінскі.

**ІСЦІ НА РАЖОН**. Гл. лезці.

**ІСЦІ́ НА СВО́Й ХЛЕ́Б**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачынаць жыць самастойна, зарабляючы на сябе. *Бацька заявіў, што на гэтым яго клопаты аба мне скончыліся і што мне пара ісці на свой хлеб.* Крапіва. **ПАЙСЦІ НА СВОЙ ХЛЕБ**. *Зак. Падросшы, пайшоў Боня на свой хлеб, — памагаў мацеры насіць кош з запалкамі, шпількамі, гузікамі і ніткамі па вёсках.* Чорны. *Але нічога, яшчэ год засталося пагара-*

*ваць, а там пайду на свой хлеб.* С.Александровіч. *Мабыць, жыццё прывычула [Альберта] да парадку і самастойнасці. Ён рана пайшоў на свой хлеб.* Пашкоў.

**ІСЦІ́ НАСУ́СТРАЧ** *каму, чаму. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Спачувальна адносячыся да каго-, чаго-н., садзейнічаць, дапамагаць каму-н. *Выручы, Завацкі. Хіба мы не ішлі табе насустрач?* Воранаў. *У галаве не ўкладвалася, як.. ісці насустрач усякім клопатам, добраахвотна браць на плечы цяжар.* Карпаў. **ПАЙСЦІ НАСУСТРАЧ** *каму, чаму. Зак. Ці не пайшлі б вы мне насустрач?.. Вазьмі ў мяне па вазе добра адкормленых дзесятак кароў і здай на мяса, а мне дай сваіх пародзістых...* Броўка.

**ІСЦІ НА ТОЙ СВЕТ**. Гл. адпраўляцца.

**ІСЦІ́ ПАД АДХО́Н**. *Незак. Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета.* Цярпець крах, няўдачу; канчаткова разбурацца, развальвацца. **Сін.**: ісці дымам (у 2 знач.); ісці з ветрам (у 2 знач.); ісці прахам; ісці ў пясок. **ПАЙСЦІ ПАД АДХОН**. *Зак. Вароніч напісаў праўду, а яна прачула, — і іхняя дружба пайшла пад адхон.* Ракітны.

**ІСЦІ́ ПА КРЫВО́Й СЦЕ́ЖЦЫ (ДАРО́ЖЦЫ)**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Жыць нядобрасумленна, дзейнічаючы хітрыкамі і падманам. **Сін.**: апускацца на дно; збівацца з дарогі; збівацца з панталыку (у 2 знач.); збівацца з толку (у 2 знач.); збівацца з тропу (у 2 знач.); каціцца ўніз (у 1 знач.); пакаціцца (палявцець) пад адхон (у 1 знач.); сыходзіць з рэек (у 2 знач.). *Уладальнік машыны недалёка адышоў ад злодзея Шылькевіча. Абодва ідуць па крывой сцежцы — толькі адзін, хаця і безматорны, вырваўся пакуль наперад...* Шыцік.

**ІСЦІ́ ПА ЛІ́НІІ НАЙМЕ́НШАГА СУПРАЦІЎЛЕ́ННЯ**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выбіраць найбольш лёгкі спосаб дзеянняў, пазбягаючы перашкод. — *Ты, брат, па лініі найменшага супраціўлення ідзеш!— закрычаў Майзель і ўскочыў.* Мурашка. **ПАЙСЦІ ПА ЛІНІІ НАЙМЕНШАГА СУПРАЦІЎЛЕННЯ**. *Зак. Не справіўшыся з намечаным, адказныя работнікі пайшлі па лініі найменшага супраціўлення: афармілі ў лютым акт на спісанне.* «Звязда».

**ІСЦІ́ ПРА́ХАМ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Цярпець крах, няўдачу; канчаткова разбурацца, развальвацца. **Сін.**: ісці дымам (у 2 знач.); ісці з ветрам (у 2 знач.); ісці на дно; ісці пад адхон; ісці ў пясок. *Цяпер, калі ўсё ішло прахам, было не да шкадавання.* Быкаў. *Гарэла і ішло прахам чалавечае жытло, марна прападаў плён працы мільёнаў людзей.* Дамашэвіч. **ПАЙСЦІ ПРАХАМ**. *Зак. — Бывала, калі нават ідзеш на работу, дык лепш прыадзенешся, а цяпер усё пайшло прахам...— сказала мілавідная Мар'я Чарняўская.* Пестрак.

**ІСЦІ́ РУКО́Й**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн., які абазначае назвы жывёл, птушак. Добра весціся, гадавацца, пладзіцца. *Доўбіку вельмі свінні ішлі рукою.* Янкоўскі.

**ІСЦІ́ СВАЁЙ ДАРО́ГАЙ**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дзейнічаць, паступаць самастойна, не падпарадкоўваючыся чыёй-н. волі. *Я буду ісці сваёй дарогай, як бы мне цяжка ні давялося. І ты мяне за гэта не папракай.* Дамашэвіч.

**ІСЦІ́ (СЫХО́ДЗІЦЬ) У ПЯСО́К**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета ці займ. *усе.* Цярпець крах, няўдачу; праходзіць упустую, безвынікова. **Сін.**: ісці з дымам (у 2 знач.); ісці з ветрам (у 2 знач.); ісці пад адхон; ісці прахам. **ПАЙСЦІ (СЫСЦІ) У ПЯСОК**. *Зак. І такіх дысертацый у пасляваенны перыяд было абаронена да тысячы! Колькі змарнавана паперы, часу і грошай! І ўсё гэта славаблуддзе, як вычварэнствы сярэднявечных схаластаў, пайшло ў пясок.* Чарняўскі.

**ІСЦІ́ ЎГО́РУ (УГАРУ́)**. *Незак. Разм.* **1**. *Адабр. і неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дабівацца больш высокага становішча ў жыцці, грамадстве. **Сін**.: выбівацца ў людзі; выходзіць на арбіту; выходзіць у людзі; ісці ў людзі; далёка пайсці; прабіваць сабе дарогу (у 1 знач.); пракладаць сабе дарогу (у 1 знач.); працярэбліваць сабе шлях *куды. Пасля смерці бацькі Паўла абралі царкоўным папячыцелем у шчаткаўскім прыходзе. Прыход багаты. Павел адразу пачаў ісці ўгору...* Галавач.
**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Паспяхова развівацца, паляпшацца. Пра справу, гаспадарку і пад. *Над усім панавала пачуццё задавальнення ад таго, што калгас ідзе ўгару.* Крапіва. *У Раманюка гаспадарка ішла ўгору. З'явілася шырокамалотка, матор, цэнтрафуга, сячкарня на чатыры разакі.* Карпюк.
**ІСЦІ́ Ў ДЗЕ́ЛА**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Знаходзіць сабе прымяненне, скарыстоўвацца. **Сін**.: ісці ў ход. — *Ну, грымнем, хлопцы, каб звінела! — І пяць цапоў ідуць у дзела. Не малацьба, а бубнаў хоры!* Колас. *Бабы заняты важнай заняткаю,— вілкі, чапёлы ў дзела ідуць,— з нейкай паважнай ходзяць аглядкаю, свята сягоння — бліны пякуць.* Купала. **ПАЙСЦІ Ў ДЗЕЛА**. *Зак.*
**ІСЦІ́ Ў ЗАКЛА́Д**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Спрачацца з абавязкам заплаціць пройгрыш; закласціся ў спрэчцы. **Сін**.: біцца аб заклад. *Ты не верыш? Эх, Марылька! Хочаш? Я іду ў заклад! Залажэмся на цікавасць: ты прайграеш, як бог свят!..* Колас. *Санька хлопец гарачы. Ён любіць ісці ў заклад. Ці канава на дарозе сустрэнецца, ці сабака загаўкае на чужым двары, Санька адразу гатоў спрачацца, што ён і канаву пераскочыць і паўз сабаку пройдзе.* Сяркоў. **ПАЙСЦІ Ў ЗАКЛАД**. *Зак. Са скалы на скалу быў перакінуты канатны мост. Я пайшоў у заклад, што скокну з яго.* Караткевіч.
**ІСЦІ Ў ІНШЫ СВЕТ**. Гл. адыходзіць.
**ІСЦІ́ Ў КАНО́СУ**. *Незак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Уніжацца перад кім-н., каяцца, станавіцца пакорлівым, прызнаючы сябе пераможаным. **ПАЙСЦІ Ў КАНОСУ**. *Зак. Што там шэпчуць, баючыся, скрытна зноў, пачуўшы крок галодных, босых? Маўчыце лепш! Пакіньце нас і спадчыну бацькоў, — за вамі мы не пойдзем у Каносу.* Танк.
**ІСЦІ Ў ЛЕПШЫ СВЕТ**. Гл. адыходзіць.
**ІСЦІ́ Ў ЛЮ́ДЗІ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дабівацца значнага становішча ў жыцці, грамадстве. **Сін**.: выбівацца ў людзі; выходзіць на арбіту; выходзіць у людзі; ісці ўгору (у 1 знач.); далёка пайсці прабіваць сабе дарогу (у 1 знач.); пракладаць сабе дарогу (у 1 знач.); працярэбліваць сабе шлях *куды. Уладзя да работы больш, чым да кніжак, меў ахвоты... Што ж? да навукі не радзіўся, а вось мо з меншых хто і будзе, няхай яны ўжо йдуць у людзі.* Колас.
**ІСЦІ́ Ў ХО́Д**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Знаходзіць сабе прымяненне, скарыстоўвацца. **Сін**.: ісці ў дзела. *Прыходзіцца часта вылазіць і дружнымі намаганнямі штурхаць машыну наперад, падкладаючы галлё пад непаслухмяныя колы. Часам і гэта не дапамагае. Тады ідуць у ход сякеры.* В.Вольскі. **ПАЙСЦІ Ў ХОД**. *Зак. Пайшлі ў ход кулакі і камяні, бутэлькі і нажы.* Сіняўскі. *«Прафесар будзе», «загадчык аддзела» — якія словы пайшлі тут у ход!* Брыль.
**НЕ ІСЦІ́ Ў РАХУ́НАК (У РАЗЛІ́К)**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. ці абстр. прадмета. Не прымацца пад увагу кім-н., не лічыцца з кім-, чым-н. *[Адзін з гасцей:] Пан Адольф толькі да маладых ды багатых лас, а старыя ў яго ў рахунак не ідуць.* Купала. — *Пан Іваноўскі, відаць, і авечак і свіней багата мае?.. — О, так! Але гэта не ідзе ў рахунак, — махнуў рукой фальварковец, — то драбніца.* Паль-

чэўскі. *Сёстры і айчым для Віктара ўразлік бадай што не ішлі: яны не былі Сердзюкамі.* Карпаў.

**У ДУБКІ́ ІСЦІ́** *з кім. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Уступаць у сутычку з кім-н., задзірацца, выяўляць нязгоду, пярэчыць каму-н. **Сін.**: брацца за чубы (у 2 знач.); брацца загрудкі *з кім* (у 2 знач.); брацца ў рожкі *з кім*; у рожкі *з кім. Кажу: выпіў, дык ідзі кладзіся, як чалавек. Ён у дубкі: давай, мауляў, яшчэ. Выпхнула неяк, пайшоў...* «Полымя». **У ДУБКІ ПАЙСЦІ** *з кім. Зак. Спаліць тое Вітольдава дзерава і то, пэўна, больш карысці было б. Але яна гэтага ніколі не зробіць. Хоць часам, зазлаваўшы, і пагражае. Не, з сынамі ў дубкі яна не пойдзе.* Сіўко. [*Лепешаў*, с. 41: ісці (пайсці) у дубкі; *Даніловіч*, с. 185: у дубкі ісці (станавіцца).]

*ІСЦІНА* • **ПРАПІСНА́Я І́СЦІНА**. *Адз. і мн. Часцей дзейн. ці дап. Функц. не зам.* Агульнавядомы, збіты выраз, неарыгінальная думка. **Сін.**: агульнае месца. — *Важна затрымаць з доказамі, Сяргей Сяргеевіч, тады будуць вырашаны галоўныя праблемы, — Дзюба разышоўся і ўжо тлумачыў начальніку прапісныя ісціны.* Шыцік. *Твор хоць і пачаты з запалам, ды, па сутнасці, беспраблемны, надта агульны, паўтарае прапісныя ісціны.* «Полымя».

*ІСЦІННЫ* • **ІСЦІННЫ БОГ**. Гл. бог.

*ІХ* • **І́Х БЯРЭ́ (УЗЯЛО́, ВО́ЗЬМЕ)**. *У знач. асаб. ск. Разм.* Яны перамагаюць; выходзіць што-н. па-іхняму. Выказванне прызнання чыёй-н. перамогі. — *Не вітаешся, — працадзіў Кашын праз зубы.. — Пахаваў ужо? Дарэмна! А што, калі я зноў вярнуся, хоць цяпер іх і ўзяло? Падумаў пра гэта? Не? Падумай.* Карпаў.

**ТАК ІХ**! Гл. так.

*ІХНІ* • **ІХНІ БРАТ**. Гл. брат.

*ІХНЯЯ* • **ІХНЯЯ СЯСТРА**. Гл. сястра.

*ІШЛО* • **КУДЫ́ НІ ІШЛО́**. *Разм.* **1**. *У знач. вык.* Ужыв. пры дзейн., выраж. займ. *гэта.* Нічога, прымальна, не выклікае пярэчання. *Не быць наватарам — гэта яшчэ куды ні ішло, але нядобра быць кансерватарам, устаўляць, як кажуць, палку ў колы навуковага прагрэсу.* Шкраба. *Усё цярпелася, пакуль было мала прыкметна: там забілі паліцэйскага, там абстралялі фуражыраў, укралі старасту — гэта яшчэ куды ні ішло, вайна ёсць вайна...* Кудравец.

**2**. *У знач. сцвярдж. часціцы.* Ладна, згодзен, няхай будзе так. **Сін.**: так дык так; так і быць. *Гэта калі ў арэнду там, дык.. куды ні ішло, адзін набытак, можна сказаць...* Лынькоў. — *Таварыш палкоўнік,— пачуўся голас капітана, — я ўжо дакладваў вам, што мы не можам карміць у нашай сталоўцы такую плойму палонных... Пяць, дзесяць чалавек — куды ні ішло! А калі больш чым паўсотні?.. Прашу разабрацца...* «Вожык».

*ІШОЎ* • **НІ ІШО́Ў <І> НІ Е́ХАЎ** *каму. М., ж. і н.; адз. і мн. Вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Абсалютна не патрэбны, такі, які не выклікае ніякай цікавасці, ніякай рэакцыі. **Сін.**: да аднаго месца *каму*; да лямпачкі *каму*; да фені *каму*; па барабану *каму*; трын-трава *для каго. Гэта яму, Хамянку, абы дзень да вечара, яму і заробак ні ішоў ні ехаў...* Кусянкоў. *Ён, Стрынадка, мокне ў гарэлцы, і ўвесь інтэрас яго ў ёй, а работа быццам яму ні ішла ні ехала.* Сабаленка. *А тое, што ў Томачкі сэрца разрываецца па дачцэ, дык яму ні ішло ні ехала.* Гаўрылкін. *[Зося] не на жарт спалохалася. Бач, Дзежка на яе замахнуўся! Лысы, фанабэрысты, п'яніца! Што ён важны чалавек, валасны пісар, дык гэта ёй ні ішло і ні ехала.* Далідовіч. *Няхай смяецца цяпер тая Каця. Мне яе ўсмешкі зараз ні ішлі і ні ехалі.* Сяркоў.

# К

*КАБ* • **КАБ ВОЧЫ МАЕ НЕ БАЧЫЛІ** *каго.* Гл. вочы.
**КАБ ЗЯМЛЯ НЕ НАСІЛА** *каго.* Гл. зямля.
**КАБ <І> ДУХУ НЕ БЫЛО** *чыйго <дзе>.* Гл. было.
**КАБ І НАГА НЕ БЫЛА** *чыя <дзе>.* Гл. нага.
**КАБ І ШНЫРУ НЕ БЫЛО** *чыйго <дзе>.* Гл. было.
**КАБ КОТ УБРЫКНУЎ** *каго.* Гл. кот.
**КАБ НА ЯГО ЛІХА**. Гл. ліха.
**КАБ ПУСТА БЫЛО** *каму.* Гл. было.
**КАБ** *чые* **СЛОВЫ ДЫ БОГУ Ў ВУШЫ**. Гл. словы.
**КАБ Я З ГЭТАГА МЕСЦА НЕ СЫШОЎ**. Гл. я.
**КАБ ЯЗЫК АДСОХ** *каму.* Гл. язык.
**КАБ Я <ТАК> ЖЫЎ**. Гл. я.

*КАБЫЛЕ* • **НА КРЫВОЙ КАБЫЛЕ НЕ АБ'ЕДЗЕШ**. Гл. аб'едзеш.
**ПРЫШЫЙ КАБЫЛЕ ХВОСТ**. Гл. прышый.
*Захацелася, зажадалася* **ЯК КАБЫ́ЛЕ ВО́ЦАТУ**. *Акал. Разм. Іран.* Вельмі моцна. — *З-за ліпы я не мог у хату тэлефонны дрот правесці... — Ды што ты пра дрот выдумляеш? Проста чалавек ты такі. Зажадалася як кабыле воцату — і спілаваў [ліпу].* Кажадуб.

*КАБЫЛЫ* • **ТРЫЗНЕННЕ СІВОЙ КАБЫЛЫ**. Гл. трызненне.

*КАВАДЛАМ* • **МІЖ МОЛАТАМ І КАВАДЛАМ**. Гл. молатам.

*КАВАЛАК* • **АДРЭЗАНЫ КАВАЛАК**. Гл. скіба.
**КАВА́ЛАК (КУСО́К) ХЛЕ́БА**. *Мн. не ўжыв. Часцей дап. Разм.* Сродкі для існавання. **Сін.**: скарынка хлеба. *Наогул нікога блізка не чапала тое, што чалавек страціў кавалак хлеба, і нікога не цікавіла, як ён страціў яго.* Колас. *Кавалак хлеба чалавеку даводзілася вырываць у яе [прыроды] з зубоў. Прырода помсцілася.* Галавач. *Драздовіч сабраўся ўслед за землякамі, якія ехалі ў пошуках працы, кавалка хлеба.* Ліс. *Бацька Канстанціна Міхайлавіча клапаціўся аб тым, каб даць сыну асвету, а разам з ёй і кусок хлеба.* Крапіва.
**ТЛУ́СТЫ КАВА́ЛАК (КУСО́К)**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Што-н. прывабнае, спакуслівае. *Э, Міхась, Міхась, я кажу праўду! Такіх птушак з высокіх дамоў многа зляцелася на нашу гаротную зямлю ў надзеі схапіць сабе тлусты кавалак!..* Шашкоў. *Не меў наш пан ахвоты раскашэльвацца, скупы быў, сам любіў тлусты кавалак, а ты яму як не прыглянуўся, дык зімою лёду ў яго не дастанеш.* Карамазаў.

*КАВАЛЕРЫЙСКІ* • **КАВАЛЕРЫЙСКІ НАСКОК**. Гл. наскок.

*КАВАЛКАМІ* • **І ПАРАНАГА І ВАРАНАГА І ТАК КАВАЛКАМІ** *было ў каго, дзе.* Гл. паранага.

*КАВАЛКІ* • **ДУША РАЗРЫВАЕЦЦА <НА КАВАЛКІ>** *чыя, у каго.* Гл. душа.
**РАЗРЫВАЦЦА НА КАВАЛКІ**. Гл. разрывацца.
**РВАЦЬ НА КАВАЛКІ** *каго.* Гл. рваць.
**ХОЦЬ НА КАВАЛКІ РАЗРЫВАЙСЯ**. Гл. разрывайся.

*КАВАЛЬСКІ* • **ЯК МЕХ КАВАЛЬСКІ**. Гл. мех.

*КАВЫ* • *Цікавы* **ЯК МАРЦІН ДА КАВЫ**. Гл. марцін.

*КАГО* • **КАГО Я БАЧУ**! Гл. я.

*КАДЗІЛА* • **РАЗДЗЬМУХВАЦЬ КАДЗІЛА**. Гл. раздзьмухваць.

*Дапаможа, патрэбны* **ЯК МЁРТВАМУ КАДЗІ́ЛА**. *Акал. Разм. Іран.* Нікольки, зусім не (дапаможа, патрэбны каму-н.). **Сін.**: як кашаль хваробе; як мёртваму прыпаркі. *О, каб я цябе злавіў у лесе, то быў бы другі рахунак. А цяпер твая споведзь паможа мне як мёртваму кадзіла.* Колас. *Ну, гэты пасол Сабалеўскі дапаможа нам як мёртваму кадзіла. Ён жа служыць не нашаму народу, а панам!* Машара. *[Гарлахвацкі:] Такая паперка мне патрэбна. А Чарнавусу яна як мёртваму кадзіла.* Крапіва.

*КАДРАМ* • *Заставацца (застацца)* **ЗА КА́ДРАМ**. *Кампанент вык. Функц. не зам.* (Заставацца) неадлюстраваным, непаказаным. *Калі ад настаўніка патрабуецца выкласці ў пэўным духу той ці іншы праграмны твор, то мастацкасць самога твора застаецца «за кадрам».* «Настаўн. газ.» *Лейтэнант Хмара суха і лаканічна дакладваў Мікулічу пра падзеі мінулага дня. Праўда, засталося за кадрам тое, як ён ледзь не трапіў у ложак да Казаковай...* Праўдзін.

*КАДУК* • **КАДУ́К З І́М (З ТАБО́Й, З ЁЙ, З ВА́МІ, З І́МІ)**. *Выкл. Праст.* Няхай будзе так, можна пакінуць без увагі. Выказванне згоды, прымірэння, уступкі і пад. **Сін.**: алах з табой; бог з табой; ліха з ім; ліха яго бяры; трасца яго бяры; халера з ім; халера яго бяры; хвароба з ім; хрэн з ім; чорт з ім; чорт яго бяры. — *Ідзі сюды, нешта скажу! — не церпіцца Фафану. Шнуроўкі не хочуць завязвацца, але кадук з імі, шнуроўкамі гэтымі, калі Фафан скажа штосьці цікавае!* Гардзей. *[Нэля:] Я пра яго ўжо і думаць забылася. [Бабуля:] І па мне кадук з ім — праз цябе болька на сэрцы...* Губарэвіч.

**КАДУ́К НА ЯГО́ (НА ЦЯБЕ́, НА І́Х, НА ВА́С)**. *Выкл. Праст.* Выказванне абурэння, злосці, гневу і пад. **Сін.**: каб на яго ліха; кадук яго вазьмі; ліха матары <*чыёй*>; ліха на яго; ліха яго галаве; трасца яго галаве; трасца яго матары; трасца яму ў бок; халера на яго; хвароба на яго; хрэн у вочы *каму*; чэмер на яго галаву. — *Бач, Ігнат, што пачалося, кадук на яго! — Не дай бог, прападзём.* А. Жук.

**КАДУ́К НЕ БЯРЭ́ (НЕ ВО́ЗЬМЕ)** *каго. Убезас. ужыв. Праст.* Нічога не здараецца, не робіцца з кім-н., не шкодзіць каму-н. **Сін.**: ліха не бярэ *каго*; ніякае ліха не бярэ *каго*; ніякая трасца не бярэ *каго*; ніякая халера не бярэ *каго*; ніякі чорт не бярэ *каго*; халера не бярэ *каго*; хвароба не бярэ *каго*; чорт не бярэ *каго*. *Бач, не падабаецца! Чаму ж, табе і так раскоша. Кадук цябе не бярэ.* Крапіва. — *Кадук яе не возьме. Яшчэ, можа, нас пераэжыве,— ціха, каб толькі ўчуў Міця, вымавіла Алеся, азіраючыся на палок.* Адамчык. *Кажу яму: «Сына ратаваць ідзі, а то кінуў-рынуў...» А ён: «Кадук яго не возьме. Прыйду вось...»* Марціновіч.

**КАДУ́К ЯГО́ (ЦЯБЕ́, ВА́С, І́Х) ВАЗЬМІ́ (БЯРЫ́)**. *Толькі ў заг. л. Выкл. Праст.* Вокліч абурэння, злосці, гневу ці здзіўлення, захаплення. **Сін.**: каб на яго ліха; кадук на яго; ліха матары <*чыёй*>; ліха на яго; ліха яго галаве; трасца яго галаве; трасца яго матары; трасца яму ў бок; халера на яго; хвароба на яго; хрэн у вочы *каму*; чэмер на яго галаву. *Ты там ездзіш паўз лес, ці не бачыў чаго? Нешта Шалястун маўчыць, не арэ папар, кадук яго вазьмі.* Каліна. — *А па-мойму,— сказаў старшыня, — ты скруціш сабе шыю, кадук цябе бяры...* Пянкрат.

**КАДУ́К ЯГО́ (ЯЕ́, І́Х, ЦЯБЕ́, ВА́С) ВЕ́ДАЕ.** *Часцей у знач. галоўн. ск. Праст.* Невядома. **Сін.**: агонь яго ведае; алах яго ведае; бог яго ведае; вятры яго ведаюць; ліха яго ведае; немач яго ведае; нячысцік яго ведае; пярун яго ведае; трасца яго ведае; халера яго ведае; хвароба яго ведае; хрэн яго ведае; чамярыца яго ведае; хто яго ведае; чорт яго ведае. — *Ну, што ж, от і па-новаму мы жыць пробуем, толькі кадук яго ведае, як яно будзе,— пачынае Герасім...* Скрыган. — *І чаго яна чэпіцца да цябе? — Кадук яе ведае. Нейкае жыта прыпляла, буракі.* Гардзей. *А кадук вас ведае, чым хто з вас дыхае!* Губарэвіч.

*КАЖУЦЬ* • **ЯК КА́ЖУЦЬ.** *У знач. пабочн. сл. Разм.* Як прынята гаварыць. **Сін.**: што называецца; як той казаў. *Трэба, як кажуць, падвесці пад сельскую гаспадарку індустрыяльную базу.* Крапіва. *У кожнага свае справы — паабедаў і хутчэй, як кажуць, на свой пост.* Пестрак. *За свой век я.. быў, як кажуць, на кані і пад канём. Больш, канечне, пад канём...* Сачанка.

*КАЖУЧЫ* • **НЕ ТУТ КАЖУЧЫ.** Гл. казана.

**НЯЎРО́КАМ КА́ЖУЧЫ.** *У знач. пабочн. сл. Разм. Адабр.* Няхай і надалей будзе гэтак жа, без змен. — *Дзяўчынка, няўрокам кажучы, як бурбалка! — засмяяўся ўдагон стары.* Брыль. *Ты цяпер, няўрокам кажучы, такі мядзведзь, што і адзін на плячах гэты камень прыпёр бы...* Арочка. *Гаварыла [даярка], што ў яе, «няўрокам кажучы», клапатлівы муж і слаўныя дзеці, што вельмі любіць сваю работу і не ўяўляе жыцця без яе.* Праскураў.

**УЛА́СНА КА́ЖУЧЫ.** *У знач. пабочн. сл. Разм.* Папраўдзе, сапраўды. **Сін.**: па сутнасці. *Таварышы! Давайце прыступім да справы, дзеля якой, уласна кажучы, мы і сабраліся тут.* Колас. *Дарогі, уласна кажучы, не было, была замеценая, злосна раскудзеленая чыстаполіца.* Брыль. *Камандаваць, уласна кажучы, не было кім — трэба было валачы каністру.* Быкаў.

*КАЖЫ* • **<І> НЕ КАЖЫ́ (-ЦЕ).** *У знач. сцвярдж. часціцы. Разм.* Так, без сумнення. Выказванне поўнай згоды з размоўнікам. *[Голас:] Такое моцнае [лякарства]? [Журавіна:] І не кажы.* Кобец. *[Наташа:] Чула, што вам і без гэтага нялёгка. [Дабрыян:] І не кажыце. Пісьмы, тэлеграмы, званкі...* Крапіва. — *От ужо сёння сохне [бялізна], хто памыў... — Не кажыце! Толькі павесіш — і гатова,— адзываецца высокая бялявая жанчына.* Палтаран.

**ШТО́ (ЯК) НІ КАЖЫ́ (ГАВАРЫ́).** *Акал. Разм.* Нягледзячы ні на што, пры любых абставінах. **Сін.**: як бы там ні было; як ні круці; як-ніяк (у 1 знач.). *Што ні кажы, а жыццё, ужо само па сабе, ёсць радасць, вялікае шчасце, бясцэнны дар.* Колас. *Што ні кажы, а напамінала аб сабе мінулая ноч.* Быкаў. *Наватар, што ні гавары! Мастак па-свойму гнуць: усё нагамі дагары гатоў перавярнуць.* Крапіва. *Героі, аднак, змізарнелі, бо ўсё-такі, як ні кажы, раней яны фабрыку мелі па той бок маньчжурскай мяжы.* Куляшоў. *Як ні кажы, які б ён ні быў разбітны, а ўсё ж урачысты, хвалюючы момант у хлопца!..* Брыль.

*КАЗАК* • **ВО́ЛЬНЫ КАЗА́К.** *Адз. і мн. Часцей у знач. вык. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Свабодны, ні ад каго не залежны чалавек. Пра мужчыну ці (радзей) жанчыну. **Сін.**: вольная птушка; вольная птаха; вольны птах. *Я і сам хацеў бы падвучыцца, але ў мяне зараз ужо дзеці, сям'я. А ты ж, браце, вольны казак.* Хведаровіч. *Я сваіх стрыжаных праз два тыдні распускаю — і да самага верасня вольны казак.* Навуменка. *Мы, выпускнікі, пасля таго як паздавалі экзамены, адчувалі сябе вольнымі казакамі, і здавалася, што нам ужо цяпер ніхто не ўказчык, не паказчык.* Сабаленка.

*КАЗАЛА* • **ЯК СОРА КАЗАЛА**. Гл. сора.

*КАЗАНА* • **НА ЛІХО́ГА (НА ЛІ́ХА) КА́ЗАНА**. *Азн. і вык. Разм.* Дрэнны, няважны. **Сін.**: адны слёзы; глядзець няма на што; з рук вон (у 2 знач.); кату пад хвост (у 2 знач.); кульгаць на абедзве нагі (у 3 знач.); курам на смех (у 1 знач.); не вытрымлівае ніякай крытыкі; не лезе ні ў якія вароты; нікуды не варты; ні к чорту (у 1 знач.); ні к чорту не варты; ні самому паглядзець ні людзям паказаць; пусці павалюся (у 1 знач.); смеху варты. *Я там хату наймаў — ат, якая там хата, на ліхога казана, кузня з крывым парогам.* Чорны. *Кіньце, маці... Вось яны памерлі — то спакайнейшымі будуць... На ліха казана гэта жыццё ў наш час...* Гартны.

**НЕ ТУ́Т КА́ЗАНА (КА́ЖУЧЫ, ГАВО́РАЧЫ)**. *Узнач. пабочн. сл. Разм.* Прабачце за неэтычнае, непрыемнае паведамленне, выказванне. *Даўней сібірскае масла на ўвесь свет славілася. Ён [Дарафей] і гроб аберуч. Але, казалі, апіўся. У самы траскунываліўся з.. [саней] і, не тут казана, карчом трухлявым замёрз.* Грахоўскі. *[Мікола:] Сымон, слухай! А можа, твая хата, не тут казана, гарыць? [Сымон:] Ціпун табе на язык!* Махнач. *Трэба было і Міхаську вывезці на сапраўдны лясны прастор: усю зіму, не тут кажучы, абсядалі яго хваробы.* С.Александровіч. *[Паланея:] Гэта мокрая серада майму мазгі закруціла, і ён, не тут гаворачы, у яе хаце начаваў.* Купала.

*КАЗАНАЯ* • **КАЗАНАЯ КАЗКА**. Гл. казка.

*КАЗАНСКАЙ* • **КАЗАНСКАЙ СІРАТОЙ** *прыкідвацца*. Гл. сіратой.

*КАЗАНСКАЯ* • **КАЗАНСКАЯ СІРАТА**. Гл. сірата.

*КАЗАЎ* • **ЯК ТОЙ КАЗАЎ**. Гл. той.

*КАЗАЦЬ* • **НЕ КАЗА́ЦЬ (НЕ ПАКА́ЗВАЦЬ) НО́СА** *куды. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не прыходзіць куды-н., не паяўляцца дзе-н. **Сін.**: на парог не ступаць <да каго>; не паказваць вачэй *куды*; не патыкаць носа *куды, да каго*. **Ант.**: высоўваць нос *куды, адкуль*. *Дык твае ж [дзеці] хоць дома, разам з табою. А мае ж... Заехалі аж на край свету. Ні да іх не дабрацца, ні яны вось каторы год носа не кажуць.* Сачанка. *Нікуды я цябе не пушчу, Маланння!.. Сядзі дома і носа на вуліцу не кажы...* Б.Стральцоў. *Яны абодва нядоўга тут пакруціліся. Ён нават і на іх разоў колькі гыркнуў так, што скора змыліся і больш не паказвалі носа.* Гарэцкі. *А немцаў баяцца нечага, яны, як пабілі іх, дык крыху супакоіліся і носа цяпер сюды не паказваюць.* Лынькоў. **НЕ ПАКАЗАЦЬ НОСА** *куды. Зак. [Дзед Бадыл:] Цяпер, калі нам крута, дык ніводзін і носа не пакажа. Няхай жа б прыехаў каторы ды сказаў, што рабіць.* Крапіва. *Гаспадар, без якога нідзе не абыходзілася, носа не паказаў праз цэлы дзень, і Іліко плёскаўся ў вадзе колькі было ахвоты.* Самуйлёнак. **ПАКАЗВАЦЬ НОС (НОСА)** *куды. Незак.* З супрацьлеглым знач. *Гэта пасля ўжо, з лета сорак другога загрымела, і яны [Каін з кампаніяй] не дужа паказвалі носа ў вёскі.* Быкаў. **ПАКАЗАЦЬ НОС (НОСА)** *куды. Зак. — У нас і немцаў не было! — як толькі мог, пераконваў нававбранец. — Партызанская зона скрозь. Яны баяліся і носа паказаць у нашу вёску.* Кулакоўскі.

**НЯМА ЧАГО КАЗАЦЬ**. Гл. няма.

**ШТО́ <І> КАЗА́ЦЬ (ГАВАРЫ́ЦЬ)**. *Узнач. пабочн. сл. Разм.* Сапраўды, няма падстаў сумнявацца. Ужыв. для пацвярджэння праўдзівасці таго, пра што паведамляецца. **Сін.**: апроч жартаў; нечага сказаць; нічога не скажаш; няма чаго казаць (у 1 знач.); так <яно> і ёсць; што праўда то праўда. *Зайграў музыка; хлопцы і дзяўчаты пад музыку пусціліся скакаць... Дрыжэлі сцены новай звонкай хаты. Было нам весела, што і казаць!*

Купала. *Усе нашы кандыдатуры добрыя, што і казаць. Але ў мяне ёсць яшчэ лепшая.* Чорны. *Баба, браток, як баба, найлепшая баба, што і гаварыць, на ўсё спрытна.* Лынькоў. *— Удача, што казаць! — узрадаваны, засмяяўся Тапурыя.* Самуйлёнак.

*КАЗЕ* • **НА КАЗЕ НЕ ПАД'ЕДЗЕШ** *да каго.* Гл. пад'едзеш.
**НА КРЫВОЙ КАЗЕ НЕ АБ'ЕДЗЕШ** *каго.* Гл. аб'едзеш.
**ПАПРАЎ КАЗЕ ХВОСТ**. Гл. папраў.

*КАЗЁННЫ* • **КАЗЁННЫ ДОМ**. Гл. дом.
**НА КАЗЁННЫ ХЛЕБ** *саджаць.* Гл. хлеб.

*КАЗЁННЫМ* • **НА КАЗЁННЫМ ХЛЕБЕ** *быць* і інш. Гл. хлебе.

*КАЗЁЛ* • **КАЗЁЛ АДПУШЧЭ́ННЯ**. *Часцей у адз. У ролі розных чл. ск. Разм.* Той, на каго звальваюць чужую віну, адказнасць за другіх. *[Целеш:] Заяўляю, што я казлом адпушчэння быць не хачу і знімаю з сябе ўсякую адказнасць.* Крапіва. *[Наталля Фадзееўна:] У вас гарыць план, і вы шукаеце казла адпушчэння.* Шамякін. *Знайшла казла адпушчэння — мяне. Лае, быццам я ў тым вінаваты, што падбіў яе на ранняе замужжа — адняў, значыць, волю ў яе, завязаў дзецьмі свет, не даў разгону ў жыцці.* Масарэнка.

*КАЗІНАЯ* • **КАЗІНАЯ НОЖКА**. Гл. ножка.

*КАЗІНЫ* • **ГНУЦЬ У КАЗІНЫ РОГ** *каго.* Гл. гнуць.
**ЗАГАНЯЦЬ У КАЗІНЫ РОГ** *каго.* Гл. заганяць.

*КАЗКА* • **КА́ЗАНАЯ КА́ЗКА**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Не раз чутае і не вартае ўвагі. *Што вы мне тут гаворыце? Я ж не з месяца зваліўся. Гэта ўжо казаная казка. Без вас ведаю.* Леванові́ч. *Абрыдала мне гэта казаная казка.* Янкоўскі.
**КА́ЗКА ПРА БЕ́ЛАГА БЫЧКА́**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Бясконцае паўтарэнне аднаго і таго з самага пачатку; вяртанне да таго самага. *У вас такая спрэчка адбылася з Вандай Адамаўнай... Гаворка гэта, ведаеце, — казка пра белага бычка.* Грамовіч. *Эх, узяў бы паважаны Іван Паўлавіч сваіх гадаванцаў за вушы — ды ў мяшок, ды паехаў бы не за край свету, а, скажам, у той жа Валожынскі раён... Стоп, гэта, здаецца, ужо казка пра белага бычка. Ці не так?* «Звязда».

*КАЗКІ* • **БАБУ́ЛІНЫ КА́ЗКІ**. *Адз. не ўжыв. Часцей дап. ці вык. Разм. Неадабр.* Беспадстаўныя чуткі, выдумкі, лухта. **Сін.**: радыё АБС. *— Ды вунь амерыканскія касманаўты сфатаграфавалі на Месяцы незнаёмых істот у скафандрах! І гэтыя плёнкі захоўваюць пакуль у найстражэйшым сакрэце. — Бабуліны казкі.* Рубанаў. *А цяпер наконт вады, наконт таго, што з-за меліярацыі абмялелі рэкі. Гэта бабуліны казкі.* «ЛіМ».

*КАЗЛА* • **ДРАЦЬ КАЗЛА**. Гл. драць.
**ЗАБІВАННЕ КАЗЛА**. Гл. забіванне.
**ПУСКАЦЬ КАЗЛА Ў АГАРОД**. Гл. пускаць.
<u>*Карысці, толку, помачы*</u> і пад. **ЯК (ШТО) АД (З) КАЗЛА́ МАЛАКА́**. *Азн. Разм. Неадабр.* Зусім ніякай (карысці і пад. ад каго-, чаго-н.). **Сін.**: як з раку смаку. *У Лянге прамільгнула думка: ад такіх у джунглях карысці як ад казла малака.* Гурскі. *На паперы пісарскія плюнь. Ад іх карысці — што з казла малака...* Галавач. *Учора да вечара я памагаў. Помачы ад мяне, ад калекі няшчаснага, як ад казла малака.* Брыль. *Карысці будзе з тваіх клопатаў як з казла малака.* Шахавец. *Стары спахмурнеў і, памаўчаўшы, дадаў:— Бацька ёсць. Ды толку з яго як з казла малака.* Левановіч.

*КАЗЛЫ* • **КАЗЛЫ ДРАЦЬ**. Гл. драць.

*КАЗУ* • **ВАДЗІЦЬ КАЗУ**. Гл. вадзіць.

Лупіць, лупцаваць і пад. **ЯК СІ́ДАРАВУ КАЗУ́ (СІ́ДАРАВЫХ КО́З).** *Акал. Разм.* Вельмі жорстка, бязлітасна (лупіць каго-н.). **Сін.**: да жывога (у 2 знач.); да паўсмерці; на горкі яблык; на порхаўку. *Не спяшаюцца нашы саюзнікі з паршывым Ромелем валаводзяцца без канца, а той лупіць іх як сідаравых коз.* Колас. *Вы спытаеце, што мяне сюды прывяло? Гора. Лупяць нашага брата, мужыка, як сідараву казу.* Гурскі. *І зноў Хрысціну ахапіла злосць на дачку. Здаецца, каб магла, адлупцавала б як сідараву казу.* Асіпенка. *Лупцавалі на той нарадзе «злоснага антыкукурузніка» як сідараву казу.* Блакіт. *Раўнівец і эгаіст трымаўся дамастроеўскіх прынцыпаў: жонка — патрэбная рэч у хаце; лупі жонку як сідараву казу, яна будзе знаць за што.* Ліпскі.

*КАЗЫ* • **АДСТАЎНОЙ КАЗЫ БАРАБАНШЧЫК**. Гл. барабаншчык.

*КАЗЫРОК* • **БРАЦЬ ПАД КАЗЫРОК**. Гл. браць.

*КАІНАВА* • **КАІНАВА ПЯЧАЦЬ**. Гл. пячаць.

*КАЙСТРУ* • **МЕХ І КАЙСТРУ** *нагаварыць*. Гл. мех.

*КАЛА* • **ВАРОНА З КАЛА ЗВАЛІЦЦА** <*дзе*>. Гл. варона.

**НІ КАЛА́ НІ ДВАРА́** *ў каго. У безас. ужыв.* Зусім нічога няма, не было. Пра крайнюю беднасць, галечу. **Сін.**: ні вала ні каня; <хоць> запалі не трэсне *чаго*; хоць шаром пакаці *дзе*. *А што ў яго? Ні кала ні двара. У бацькі — хата на два акенцы, падлога з гліны, паўморга пясочку і поўная хата дзяцей.* Грахоўскі. — *Неяк жа будзем... Галоўнае — вайна канчаецца... — А ў нас ні кала ні двара...* Місько. *Бачыць і яна [Іваніха], як не зводзіць з Толі вачэй яе сярэдняя дачка. Ды якая карысць з такога? У хлопца ні кала ні двара.* Васілевіч. *А прыедзеш — папяліішчы ж адны. Ні кала ні двара. І пераначаваць няма дзе...* Сачанка.

*КАЛАМУТНАЙ* • **ЛАВІЦЬ РЫБУ Ў КАЛАМУТНАЙ ВАДЗЕ**. Гл. лавіць.

*КАЛАМУЦІЦЬ* • **КАЛАМУЦІЦЬ ГАЛАВУ** *каму*. Гл. муціць.

**КАЛАМУ́ЦІЦЬ (МУЦІ́ЦЬ) ВАДУ́**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Свядома заблытваць якую-н. справу. **Сін.**: збіваць з панталыку *каго* (у 1 знач.); збіваць з толку *каго* (у 1 знач.); збіваць з тропу *каго*; збіваць з трыбу *каго*; кружыць галаву *каму* (у 2 знач.); круціць мазгі *каму* (у 2 знач.); ускружыць галаву *каму* (у 2 знач.). — *Усё на тое хіліцца, што немцы не аддадуць Саветам Бярэсця. — Як гэта не аддадуць?.. Берасць савецкі! Разумееш ты ці не? Савецкі! І ты тут вады не муці.* Каліна. **2**. Уносіць разлад, беспарадак у адносіны паміж кім-н. **Сін.**: наводзіць цень на плящень; наводзіць цень на светлы дзень; напускаць туману. *Бабкоў сцвярджае, што гэта ён верхаводзіць у групе і падбівае інвалідаў «каламуціць ваду».* Шамякін. *Калі Мяцельскаму падабаецца вылічальная тэхніка, калі яму хочацца працаваць у іншым месцы,— калі ласка, падавай заяву, шукай работу па густу, а тут не каламуць ваду...* Радкевіч. *Мы ведаем, хто тут муціць ваду, і дабяромся да тых паноў.* Машара.

*КАЛАНІЦА* • **КАЛАНІ́ЦА НО́СІЦЬ** *каго дзе, калі. У безас. ужыв. Праст. Неадабр.* Хто-н. недарэчы, не ў пару аказваецца, з'яўляецца дзе-н. **Сін.**: ліха носіць *каго дзе*; нялёгкая носіць *каго дзе*; нячыстая сіла носіць *каго дзе*; нячысцік носіць *каго дзе*; халера носіць *каго дзе*; хвароба носіць *каго дзе*; чорт носіць *каго дзе*; чэрці душаць *каго дзе*. *«Аэраплан! Аэраплан!» — пракінулася па радах. Задраліся галовы. «У хлябу і то каланіца яго носіць», — прабурчаў нехта.* Гарэцкі. [*Лепешаў*, с. 42: каланіца носіць *каго дзе*.]

*КАЛЕНА* • **ВЕРАБ'Ю ПА КАЛЕ́НА**. *У безас. ужыв. Разм. Жарт.* 1. Вельмі мелка, неглыбока (у рэчцы, ручаі і пад.). *Пасярод вуліцы цячэ раўчак. Летам у ім вераб'ю па калена, затое вясной раўчак разліваецца на ўсю вуліцу.* Сяркоў. *«Вунь там, за вольхачкамі, яны заўсёды купаліся, — падумала Нінка. — Там мелка, як дарослыя казалі — вераб'ю па калена».* Цяжкі.

2. Вельмі мала (вады ў рэчцы, ручаі і пад.). *[Рабіна:] Кажуць людзі, што і Дняпро наш недзе з пустога арэха выплывае. Цячэ спачатку струменьчыкам малым, тонкім, як саломінка. Вады ў ім — вераб'ю па калена, а паглядзі, які ён у нас шырокі ды глыбокі.* В.Вольскі. *Вады ў тым ручаі вераб'ю па калена. Сам убачыш.* «Полымя».

**ЖА́БЕ ПА КАЛЕ́НА**. *Вык. і азн. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі нізкага росту, зусім малы. **Сін.**: ад гаршка паўвяршка; ад зямлі не адрос; аршын з шапкай; з вузел; кату па пяту; пад стол пяшком ходзіць. **Ант.**: з каломенскую вярсту; хоць <ты> сабак вешай *на кім. Артур заліўся чырванню, здалося, аж зубы пачырванелі ад сораму, а Петрык асабліва не бедаваў. От, малое, вераб'ю па пояс, жабе па калена, а ўжо конікі выкідае.* Левановіч.

**З КАЛЕНА ВЫЛАМАЦЬ** *што.* Гл. выламаць.

**З КАЛЕНА НЕ ВЫЛАМІШ** *каго, што.* Гл. выламіш.

**ЛАМАЦЬ ПРАЗ КАЛЕНА** *што.* Гл. ламаць.

**МОРА ПА КАЛЕНА** *каму.* Гл. мора.

**НІЖЭЙ ЗА КАЛЕНА**. Гл. ніжэй.

**ХОЦЬ З КАЛЕНА ВЫЛАМІ**. Гл. вылямі.

*КАЛЕНДАЎ* • **ДА ГРЭЧАСКІХ КАЛЕНДАЎ**. Гл. каляд.

*КАЛЕНДЫ* • **НА ГРЭ́ЧАСКІЯ КАЛЕ́НДЫ**. *Акал. Функц. не зам.* Ніколі. **Сін.**: калі рак <на гары> свісне; на святое ніколі; на святыя нігды; пасля дожджыку ў чацвер. — *Пазыч сто рублёў. — А аддасі калі? На грэ[час]кія календы? — Ды сёння ж аддам, скнара ты праклятый! — ускіпеў Шахрай і грымнуў далоняй па стале.* Васілёнак.

*КАЛЕНІ* • **КАЛЕ́НІ (КАЛЕ́НКІ, ЛЫТКІ) ДРЫЖА́ЦЬ (ТРАСУ́ЦЦА)** *у каго. У безас. ужыв. Разм. Іран.* Хто-н. вельмі спалохаўся. **Сін.**: аслаблі гайкі *ў каго, чые* (у 1 знач.); валасы становяцца дыбам *у каго*; вочы на лоб лезуць *у каго* ( у 2 знач.); душа ў пятках *у каго, чыя*; душа ў пяткі <схавалася> *у каго*; кроў ледзянее *ў каго*; кроў у жылах стыне *ў каго*; мароз па скуры <прабягае> *у каго, каго, чыёй*; мурашкі бегаюць па целе ў *каго, каго, чым*; неба з аўчынку здаецца *каму*; паджылы трасуцца *ў каго*; скура шэрхне *на кім, у каго*; сэрца абрываецца *ў каго, чыё*; сэрца ледзянее *ў каго*; у пяты кальнула *каму, каго* (у 1 знач.); <усе> блохі падохлі *ў каго. [Грачанік:] Тады ўсе мы былі смелыя. А цяпер паклічуць на бюро — калені дрыжаць.* Шамякін. *Калі разыходзіліся, я чуў, як старшыня жаліўся Васілю Васільевічу: — Стаю, быццам нававбранец перад генералам, і каленкі дрыжаць.* Супрунчук. *Чаго ў цябе лыткі трасуцца?.. Ці не на воўчае логава напароліся мы?* І.Капыловіч. *А потым, гляджу, мяне выпраўляюць да Кажана ехаць канюшыну выгружаць. Ну, думаю, тут нейкая авантура. Але еду, што будзе то будзе... Вось лыткі дрыжалі...* Дайліда.

**ПАДАЦЬ НА КАЛЕНІ** *перад кім.* Гл. падаць.

**СТАНАВІЦЦА НА КАЛЕНІ** *перад кім.* Гл. станавіцца.

*КАЛЕНКАМ* • **ДАВАЦЬ <КАЛЕНКАМ> ПАД ЗАД** *каму.* Гл. даваць.

*КАЛЕНКІ* • **КАЛЕНКІ ДРЫЖАЦЬ** *у каго.* Гл. калені.

*КАЛЕНКОР* • **ДРУГІ́ (ІНШЫ) КАЛЕНКО́Р**. *Мн. не ўжыв. Вык. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета ці дзейн.-займ. *гэта.* Не тое, што было, ці не так, як было. *Давайце сетку. Паднясу... Во зусім другі каленкор. У абедзвюх руках груз. Для цэнтроўкі.* Леванoвіч. *— Як дабудзе чалавек сто рублёў, а бачыць, што можна больш, адразу і смокча яго смоўж: «А чаму не дзвесце? Чаму не трыста?» — Хай зарабляюць! — Э-э — не-е... Гэта другі каленкор, не блытайце...* Міська. *Зусім іншы каленкор, калі ў царкве спявае добры хор.* Колас.

*КАЛЕННЯ* • Даводзіць, распякаць **ДА БЕ́ЛАГА КАЛЕ́ННЯ**. *Акал. Разм.* Да поўнага адчаю, да поўнай страты самавалодання. **Сін.**: да вар'яцтва (у 2 знач.). *Першая загаварыла Люба. Старая маралістка! Зімою, калі даведалася пра нашу сувязь, давяла мяне да белага калення сваім бабскім асуджэннем, папрокамі.* Шамякін. *Даводзіце чалавека да белага калення, а потым сядай, сядай...* «ЛіМ». *А Казачка рагоча, жару паддае, да белага калення распякае: — Ну-ну, джэнтльмены, рыцары мае, хто з вас мацней, хто больш мяне кахае?* Э.Валасевіч.

*КАЛЕНЦА* • **ВЫКІДАЦЬ КАЛЕНЦА**. Гл. выкідаць.

*КАЛЕНЯЎ* • **УСТАВАЦЬ З КАЛЕНЯЎ**. Гл. уставаць.

*КАЛЕНЯХ* • **ПОЎЗАЦЬ НА КАЛЕНЯХ** *перад кім.* Гл. поўзаць.
**СТАЯЦЬ НА КАЛЕНЯХ** *перад кім.* Гл. стаяць.

*КАЛЁСАХ* • **ДЗІВОСЫ НА КАЛЁСАХ**. Гл. дзівосы.
**ПАДПУСКАЦЬ ТУРУСЫ НА КАЛЁСАХ** *каму.* Гл. падпускаць.
**РАЗВОДЗІЦЬ ТУРУСЫ <НА КАЛЁСАХ >**. Гл. разводзіць.

*КАЛЁСЫ* • **НІ Ў САЛДАТЫ НІ Ў МАТРОСЫ НІ ПАДМАЗВАЦЬ КАЛЁСЫ**. Гл. салдаты.

*КАЛІ* • **ДЫХНУЦЬ НЯМА КАЛІ** *каму.* Гл. няма.
**КАЛІ Б** *чые* **СЛОВЫ ДЫ БОГУ Ў ВУШЫ**. Гл. словы.
**КАЛІ ЛАСКА**. Гл. ласка.
**КАЛІ РАК <НА ГАРЫ> СВІСНЕ**. Гл. рак.
**НІ КАЛІ <ТОЕ> БЫЛО НІ КАЛІ БУДЗЕ**. Гл. тое.
**СКАЖЫ КАЛІ ЛАСКА**! Гл. скажы.
**ПРЫ ЦАРУ ГАРОХУ КАЛІ ЛЮДЗЕЙ БЫЛО ТРОХУ**. Гл. цару.

*КАЛІВА* • **ДА КА́ЛІВА**. *Акал. Разм.* **1**. Абсалютна (усё). **Сін.**: да макулінкі. *На вёсцы зноў іх [дэлегатаў] чакалі з турботнай нецярплівасцю, зноў па тварах убачылі, што справа дрэнь, зноў выпытвалі ўсё да каліва.* Зарэцкі. *Павыпаўзалі колішнія бандзюкі з банды Казіка Ермаліцкага і Плышэўскага.., паласавалі бізунамі і шампаламі блізкую і далёкую партызанскую радню, выграбалі з хат усё да каліва.* Грахоўскі.
**2**. Цалкам, поўнасцю (ахопліваць, праймаць, праняць і пад.). *Аслаблюся духам — запазычу ў гэтага ваякі-бландзіна, які гарыць, палае, які да каліва пранятьі рэвалюцыйным настроем.* Гартны.
**НІ КА́ЛІВА**. *Акал. Разм. Ужыв. у адмоўн. ск.* Зусім, нікольхі (не мець, не браць, не змяніцца і пад.). **Сін.**: на волас (у 2 знач.); на <ломаны> грош; на макулінку (у 2 знач.); на мезены палец; на панюх табакі (у 2 знач.); на сіні пазногаць (у 2 знач.); на шэлег (у 2 знач.); ні божа мой; ні грама; ні кроплі; ні на <адзін> шэлег (у 1 знач.); ні на волас; ні на грам (у 1 знач.); ні на гран; ні на грош; ні на ёту; ні на каліва; ні на кроп-

лю; ні на макава зерне; ні на макулінку. *Яго ні каліва не сароміла зусім незнаёмая яму Ліба.* Гартны. *Брудзянішкі за гэты час ні каліва не змяніліся.* Гарэцкі. — *Не ведаю, у мяне грошай ні каліва няма,— прызнаўся я.* Сабаленка. *Асабіста Гавака быў сумленны, арцельнага дабра не браў ні каліва.* Навуменка.

**НІ НА КА́ЛІВА**. *Акал. Разм. Ужыв. у адмоўн. ск.* Нікольк, зусім (не змяняцца, не сумецца і пад.). **Сін.**: на волас (у 2 знач.); на <ломаны> грош; на макулінку (у 2 знач.); на мезены палец; на панюх табакі (у 2 знач.); на сіні пазногаць (у 2 знач.); на шэлег (у 2 знач.); ні божа мой; ні грама; ні каліва; ні на <адзін> шэлег (у 1 знач.); ні на волас; ні на грам (у 1 знач.); ні на гран; ні на грош; ні на ёту; ні на кроплю; ні на макава зерне; ні на макулінку. *Няўдача ў сельсавеце троху здэтанавала яго [Галілея], але ні на каліва не збіла ў ім ахвоты да далейшага працягу экспедыцыі.* Зарэцкі.

*КАЛІДОРАМ* • Два (тры і інш.) класы **З КАЛІДО́РАМ**. *Недапас. азн. Разм. Часцей жарт.-іран.* Ужыв. пры спалучэнні тыпу «пяць класаў» як характарыстыка чыёй-н. невялікай адукацыі. — *Дзядзька Лыска за асвету ўзяўся, як відаць? — Ды прызнацца ўжо не сорам, пхнёмся пакрысе: сем тут класаў з калідорам... Я прайшоў усе.* Крапіва. *Хто я ёй, здаецца, — збоку прыпёку, а заўжды заўважыць, дарма што школу з нейкім там медалём скончыла, а ў мяне ўсяго тры класы, як той казаў, з калідорам.* Сіўко. *Петруся Броўку здзівіла: — Як гэта Якута настаўнікам стаў, ён жа скончыў адзін клас з калідорам? — Дык ён жа на конезаводзе настаўнікам, — кажуць землякі цалкам сур'ёзна.* Барадулін.

*КАЛІФ* • **КАЛІ́Ф (ХАЛІ́Ф) НА ЧА́С**. *Адз. і мн. Часцей вык. Кніжн. Часцей іран.* Чалавек, які займеў уладу на кароткі тэрмін. *На славу працуюць любімыя браты нашы — партызаны. Звярыны жах пасялілі яны ў.. нямецкіх каліфаў на час.* Лынькоў. *Грамабоеў каўтнуў паветра: — Мурашкі рассяліліся па ўсім свеце, але хіба яны заваявалі яго? Так і людзі. Пад гэтым небам мы — каліфы на час.* Дайнека.

*КАЛКУ* • **ЯК НА КАЛКУ**. Гл. калу.

*КАЛОДКУ* • **КЛАСЦІ ГАЛАВУ НА КАЛОДКУ**. Гл. класці.

*КАЛОДУ* • **ВАЛІЦЬ ЦЕРАЗ ПЕНЬ КАЛОДУ**. Гл. валіць.

**НА ПЕНЬ БРАХАЦЬ ДЫ НА КАЛОДУ ТУКАЦЬ** вучыць і пад. Гл. брахаць.

**ЦЕРАЗ ПЕНЬ КАЛОДУ**. Гл. пень.

*КАЛОМ* • **ЗУХ З КАЛОМ ДА МУХ**. Гл. зух.

**КАЛОМ ЗЯМЛЯ** *каму*. Гл. зямля.

**КАЛОМ НЕ ЗАГОНІШ** *каго куды*. Гл. загоніш.

**СТАНОВІЦЦА КАЛОМ У ГОРЛЕ**. Гл. становіцца.

**СТАВІЦЬ КАЛОМ ВОЧЫ**. Гл. ставіць.

*КАЛОМЕНСКАЯ* • **ВЯРСТА КАЛОМЕНСКАЯ**. Гл. вярста.

*КАЛОМЕНСКУЮ* • **З КАЛОМЕНСКУЮ ВЯРСТУ**. Гл. вярсту.

*КАЛОНА* • **ПЯ́ТАЯ КАЛО́НА**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн. Неадабр.* Варожая агентура ўнутры краіны ці ў тыле праціўніка. *А цяпер зрабілі так, каб не ведалі, дзе паварочваюцца вартавыя, няхай падпальшчык з пятай калоны ці той самы дыверсант думае, што вартавы з дубінкаю на кожным кроку.* Лобан. *Усім было вядома, што гэта — агенты гітлераўскай пятай калоны, але яны свабодна ездзілі па Польшчы і рабілі сваю*

*чорную справу.* Карпюк. *Баявыя атрады міліцыі разам з чэкістамі рабілі ўсё, каб перашкодзіць гітлераўцам заслаць у горад пятую калону.* «Полымя».

*КАЛОС* • **КАЛО́С НА ГЛІНЯ́НЫХ НАГА́Х.** *Мн. не ўжыв. Часцей у знач. вык. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Што-н. велічнае знешне, але слабае, гатовае распасціся. *Ніхто нават не падумае, што ўсё гэта — калос на гліняных нагах, які вось-вось зваліцца.* Караткевіч.

*КАЛОЦЬ* • **КАЛО́ЦЬ ВО́ЧЫ** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* **1**. *кім, чым.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна папікаць, папракаць, дакараць каго-н. **Сін**.: калоць у вочы *каму* (у 1 знач.); паказваць пальцам *на каго, на што*; пароць вочы *каму*; пароць пальцам; пароць у вочы *каму*; тыкаць пальцам *на каго, на што. [Агата:] Цябе людзі праклінаюць. Табою мне вочы колюць.* Крапіва. *Хопіць, каб мне табою калолі вочы.* Сачанка. *Ніхто яму, Вадзіку, не будзе калоць вочы былымі памылкамі.* Шамякін. *Святога жыцця быў чалавек, службы ніводнай не прапусціў. Вечна яго жыццём малому вочы калолі, як, бывала, забярэцца ў чужы гарох ці рошчыны цішком возьме і наесца.* Караткевіч.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Выклікаць зайздрасць у каго-н., быць непрыемным каму-н. **Сін**.: калоць у вочы *каму* (у 2 знач.). *А ты дык надта паразумнеў, як скінуў лапці і ўзлажыў бацькавы боты. Мусіць, мае касцяныя гузікі табе вочы колюць?* Колас. *Зразумей, Мікола, што наш дастатак коле людзям вочы, усе зайздросцяць, таму і плятуць на мяне розную недарэчнасць.* Машара. *Ім, мабыць, вочы коле, што мы з табой сышліся і добра жывём.* Сабаленка.

**3**. Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Раздражняць, злаваць каго-н. **Сін**.: лезці сляпіцай у вочы <*каму*> (у 2 знач.); лезці ў вочы *каму* (у 4 знач.). *Цівуну не спадабалася, што Пракоп упамянуў пра яго бізун. Ён добра ведае, як коле людзям вочы гэты бізун. Ведае ён і прыказку: «Бойся не цівуна, а яго бізуна».* Якімовіч. *І ён, дзевяты форт, звонку выглядаў вясёла. Акуратны. З чырвонай цэглы. Толькі калоў вочы калючы дрот, нацягнуты зверху над агароджай.* Арабей. *Калола вочы цемра, і я раз-пораз трапляў у лужы.* Асіпенка.

**КАЛО́ЦЬ У ВО́ЧЫ (У ВО́КА)** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* **1**. *чым.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна папікаць, папракаць, дакараць каго-н. **Сін**.: калоць вочы *каму* (у 1 знач.); паказваць пальцам *на каго, на што*; пароць вочы *каму*; пароць пальцам; пароць у вочы *каму*; тыкаць пальцам *на каго, на што. [Міхал] ідзе абураны, у трывозе, на жонку злосны, на самога, бо ў словах жонкі праўды многа. Але ж нашто калоць у вочы?* Колас.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Выклікаць зайздрасць у каго-н., быць непрыемным каму-н. **Сін**.: калоць вочы *каму* (у 2 знач.). *[Пан Хвалідубскі:] А ў мяне, вядома, гаспадарка — дзякаваць богу. Дык ім [засцянкоўцам] коле ў вока.* Крапіва.

*КАЛУ* • **У ВІРУ НА КАЛУ**. Гл. віру.

*Вісець, сядзець* **ЯК НА КАЛУ́ (НА КАЛКУ́)**. *Акал. Разм. Неадабр.* Вельмі нязграбна, зусім не аблягаючы цела. Пра адзенне. **Сін**.: як на карове сядло; як на свінні набэдрыкі. *Новы сіні касцюм вісеў на ім [Куліку] як на калу.* Гурскі. *Гэта быў хлапчук мо на год старэйшы за іх, але вышэйшы і танклявы настолькі, што адзенне вісела на ім як на калку.* Чарнышэвіч. *Абмундзіраванне сядзела на Клімёнку як на калу: у гімнасцёрку маглі цяпер змясціцца два такія курсанты, як ён, штаны ўвогуле не трымаліся на клубах...* Дамашэвіч.

*КАЛУМБАВА* • **КАЛУМБАВА ЯЙКА**. Гл. яйка.

*КАЛУН* • **ЯК КАЛУ́Н (СЯКЕ́РА, ТАПО́Р)** плаваць. *Акал. Разм. Іран.* Вельмі дрэнна. *Стары Вячэра, «кароль вугроў», таксама плаваў як калун.* Брыль. — *Рака тут усюды глыбокая, — зноў пачаў дзед Нупрэй, — а я плаваю як калун...* Ваданосаў. — *Ты, пане Стась, добра ўмееш плаваць?— запытаў нарэшце айцец Баніфацый.. — Як сякера, пане ойча.* Чарнышэвіч. *Я рос далёка ад вады. Таму і плаваю як сякера. А ты як? Перамахнеш наша возера?* Дамашэвіч. — *Вы, мусіць, добра плаваеце?.. — Як тапор,— смяецца Роліч.— Пражыў усё жыццё на возеры, а плаваць не навучыўся.* В.Вольскі.

*КАЛЫСКІ* • **АД (З) КАЛЫ́СКІ**. *Акал. Разм.* З самага маленства. **Сін.**: з малаком маці; з матчыным малаком; з пялёнак. **Ант.**: да магілы. *Вядома, калі чытачу бясконца дзяўбці тое, што ён сам ведае ад калыскі, байка можа хутка апрыкраць.* Казека. *Ты так гаворыш, быццам знаёмы з ёй з калыскі.* Шамякін. *[Ізабела:] Мы з калыскі павінны выхоўваць у чалавеку мастака.* Матукоўскі.

**СТАЯЦЬ ЛЯ КАЛЫСКІ** *чаго*. Гл. стаяць.

*КАЛЫША* • **ЧОРТ ДЗЯЦЕЙ КАЛЫША** *каму*. Гл. чорт.

*КАЛЬНУЛА* • **У ПЯ́ТКІ (У ПЯ́ТЫ) КАЛЬНУ́ЛА (ЗАКАЛО́ЛА)** *каму, каго. Убезас. ужыв. Разм.* **1**. Хто-н. моцна напалохаўся. **Сін.**: аслаблі гайкі *ў каго, чые* (у 1 знач.); валасы становяцца дыбам *у каго*; вочы на лоб лезуць *у каго* (у 2 знач.); душа ў пятках *у каго, чыя*; душа ў пяты <схавалася> *у каго*; калені дрыжаць *у каго*; кроў ледзянее *ў каго*; кроў у жылах стыне *ў каго*; мароз па скуры <прабягае> *у каго, каго, чыёй*; мурашкі бегаюць па целе *ў каго, каго, чыім*; неба з аўчынку здаецца *каму*; паджылкі трасуцца *ў каго*; скура шэрхне *на кім, у каго*; сэрца абрываецца *ў каго, чыё*; сэрца ледзянее *ў каго*; <усе> блохі падохлі *ў каго*. *[Уляна:] Божухна мой, ото ж напалохаў мяне, памяло гэтае. Аж у пяткі кальнула, думала, скрозь зямлю прарвалася.* Родзевіч. — *Вох, я яму дам сёння. — Ты Хвядзьку дасі? Вой-вой, ён жа цябе адной рукой цераз хату перакіне. — Не перакіне. Я яму так скажу, што аж у пяткі заколе.* Лобан.

**2**. Хто-н. моцна расхваляваўся. *[Госць:] Чымся грошы траціць на адзежу, я лепей каму пазычу. [Паўлінка:] І працэнцік добры злуплю, каб аж у пяты другому закалола.* Купала. — *Пачакай ты, баба, трохі...— адказаў ёй брыгадзір. Цётку тут кальнула ў пяткі: — Ты пра што гэта дзяўбеш? Жонку ты сваю таксама дома «бабаю» завеш?* Русак.

*КАЛЯД* • **ДА ГРЭ́ЧАСКІХ КАЛЯ́Д (КАЛЕ́НДАЎ)** адкладваць (адкласці). *Акал. Функц. не зам. Іран.* На няпэўны час, надоўга ці назаўсёды. **Сін.**: у доўгую скрыню. *[Хлопец:] Вяселле адклалі да грэ[час]кіх каляд.* Клімковіч. *Калі [афіцыйныя асобы ЗША] і гавораць аб магчымасці якіх-небудзь дагаворанасцей, то толькі па асобных, зразумела, выгадных для ЗША, пытаннях ядзерных узбраенняў, а праблему космасу трэба, маўляў, адкласці да грэчаскіх календаў.* «Звязда».

*КАЛЯІНЕ* • **ЖАБА Ў КАЛЯІНЕ**. Гл. жаба.

*КАЛЯІНУ* • **УВАХОДЗІЦЬ У <СВАЮ> КАЛЯІНУ**. Гл. уваходзіць.

*КАЛЯІНЫ* • **ВЫБІВАЦЦА З КАЛЯІНЫ**. Гл. выбівацца.

**ВЫБІВАЦЬ З КАЛЯІНЫ** *каго*. Гл. выбіваць.

*КАМАНДАВАЦЬ* • **КАМА́НДАВАЦЬ ПАРА́ДАМ**. *Незак. Разм. Жарт.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Распараджацца, быць завадатарам, верхаводзіць, аказваць уплыў на ход чаго-н. **Сін.**: весці рэй; даваць тон <*каму, чаму, у чым*>; іграць першую скрыпку ў

*чым*; правіць баль <*дзе, у чым*>; рабіць пагоду <*у чым, дзе*>; трымаць лейцы <у сваіх ру-ках >. **Ант**.: іграць другую скрыпку *ў чым. Цяпер парадам камандаваў не Бас, а фотарэпарцёр. Ён рашуча загадаў Басу адысці ў бок ад каламажкі і яшчэ раз шчоўкнуў затворам «лейкі»...* Паслядовіч. *Косця прайшоў у залу. Адразу пачаў камандаваць парадам. Дастаў чаркі.., потым паклікаў з кухні Іру.* Крыга. — *Не, Адамавіч... — Маўчаць! Я камандую парадам!* А.Жук.

*КАМАНДЗЕ* • **ЯК ПА КАМА́НДЗЕ**. *Акал. Разм. Ужыв. пры дзеясл.-вык. зак. тр.* Адначасова, разам (зрабіць што-н.). **Сін**.: у адзін голас (у 1 знач.). *Вось некалькі рамонтных рабочых, якія начуюць звычайна на станцыі, таксама як па камандзе павялі насамі і ўтаропіліся на паравоз.* Лынькоў. *Калі я выходзіў з канторы, мужчыны ўсе ўсталі як па камандзе.* Сабаленка. *Прайшло мо якой паўгадзіны, пакуль шафёр скончыў сваю работу, выцер анучкай рукі і сеў у кабіну. Як па камандзе ўсе кінуліся да аўтобуса.* Дамашэвіч.

*КАМАР* • **КАМА́Р НО́СА (-У) НЕ ПАДТО́ЧЫЦЬ (НЕ ПАДТАЧЫ́Ў, НЕ ПАДТАЧЫ́Ў БЫ)**. *У безас. ужыв. Разм. Часцей адабр.* Нельга прычапіцца да чаго-н. *Кастусь Верабей.. зробіць усё так, што і камар носа не падточыць.* Пестрак. *Бачыце, які стыль! Без перабольшання скажам: усе законы арыгінальнага адпісачнага жанру захаваны — камар носу не падточыць!* «Вожык». *Калі рабіць, дык трэба зрабіць гладка, так, каб і камар носа не падтачыў.* Колас. *Усе «паперачкі», якія ідуць з раёна, усе «дзіракцівы» [Цiток] выконваў бы. Тут у яго камар носа не падтачыў бы.* Лобан.

*КАМАРА* • **ЗРАБІЦЬ З КАМАРА КАНЯ**. *Зак. да* **РАБІЦЬ З КАМАРА КАНЯ**.

*КАМАРАМІ* • **ЯДУЦЬ МУХІ З КАМАРАМІ** *каго.* Гл. мухі.

*КАМАРОЎ* • **З КАМАРОЎ НОС**. Гл. нос.

*КАМАРЫНЫ* • **З КАМАРЫНЫ НОС**. Гл. нос.

*КАМБІНАЦЫЯ* • **КАМБІНА́ЦЫЯ З ТРО́Х ПА́ЛЬЦАЎ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Жарт.* Дуля, фіга. — *Знаеш, што такое камбінацыя з трох пальцаў? — Але мы з табой не пакажам такую камбінацыю адно аднаму. Праўда?* Шамякін. — *Дык во-о-о куды ён гне! — дайшло нарэшце да Андрэя... Во якую камбінацыю генаў захацеў! А камбінацыю з трох пальцаў ты не жадаеш?!* Блакіт. — *Такога ліха ніколі не бачыў. Перапароў усе кусты, аблазіў чароты і.. — ён [Апанас Фаміч] склаў камбінацыю з трох пальцаў.* Ракітны.

*КАМЕДЫЮ* • **ЛАМАЦЬ КАМЕДЫЮ**. Гл. ламаць.
**РАЗЫГРЫВАЦЬ КАМЕДЫЮ**. Гл. разыгрываць.

*КАМЕНЕМ* • **КАМЕНЕМ ЛЯЖЫЦЬ НА СЭРЦЫ** *чыім.* Гл. ляжыць.
**КІНУЦЬ КАМЕНЕМ** *у каго.* Гл. кідаць.

*КАМЕНІ* • **НЕ ПАКІДАЦЬ КАМЕНЯ НА КАМЕНІ**. Гл. пакідаць.

*КАМЕННАЙ* • **ЯК ЗА КАМЕННАЙ СЦЯНОЙ**. Гл. сцяной.

*КАМЕННУЮ* • **ЯК НА КАМЕННУЮ СЦЯНУ**. Гл. сцяну.

*КАМЕННЫ* • **КАМЕННЫ МЯШОК**. Гл. мяшок.

*КАМЕНЬ* • **КА́МЕНЬ ЗА ПА́ЗУХАЙ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Скрытая, затоеная злосць, нядобры намер. *Без каменя за пазухай, без злосці прыехаў*



18 — 707

*да цябе я сёння ў госці.* Панчанка. *Сваімі захапленнямі і радасцямі ён [Рэй] дзяліўся з кожным, хто ішоў да яго без каменя за пазухай.* Навуменка. *А тых, хто з каменем за пазухай збіраўся сесці за наш стол,— маўляў, хоць пабалюю раз няхай, — і сёння корміць цвёрды дол.* Гаўрусёў.

**КА́МЕНЬ НА СЭ́РЦЫ** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. адчувае душэўны цяжар. *У жыцці ўсё так складана. У самой [Полі] камень на сэрцы пасля таго, што яна даведалася пра дачку.* Шамякін. *Па яе апануранымвыглядзе Вадзім здагадаўся, які камень у яе на сэрцы, у якой яна трывозе за маці і брата, ды і за іх абодвух.* Рыбак.

**КА́МЕНЬ СПАТЫКНЕ́ННЯ**. *Мн. не ўжыв. Часцей вык. Кніжн.* Значная перашкода, з якой сутыкаецца хто-н. у якой-н. справе. *Застаецца каменем спатыкнення і ўкараненне навуковых распрацовак у вытворчасць.* «Звязда». *Каменем спатыкнення выстаўляюць ядзерныя сродкі Англіі і Францыі. Гавораць, што іх нельга абмяркоўваць на савецка-амерыканскіх перагаворах.* «Настаўн. газ.»

**КІДАЦЬ КАМЕНЬ** *у каго.* Гл. кідаць.

**КІДАЦЬ КАМЕНЬ У АГАРОД** *чый, каго.* Гл. кідаць.

**КРАЕВУГО́ЛЬНЫ КА́МЕНЬ** *чаго. Мн. не ўжыв. Часцей вык. Кніжн. Узнёсл.* Аснова, сутнасць, найважнейшая частка чаго-н. **Сін.**: альфа і амега *чаго*; станавая жыла *чаго, чыя*; усяму галава. *Краевугольны камень поспеху ў любой рабоце — кадры.* «Настаўн. газ.» *Акцёр, як пісаў польскі кіназнаўца К.Цепліц, робіцца грамадскай маёмасцю, і таму яго жыццё павінна быць вядома гледачам — гэта краевугольны камень «сістэмы кіназорак».* «ЛіМ».

**НАЙШЛА КАСА НА КАМЕНЬ** <*у каго*>. Гл. каса.

**НАСІЦЬ КАМЕНЬ ЗА ПАЗУХАЙ**. Гл. насіць.

**ПРО́БНЫ КА́МЕНЬ** *каго, чаго, для каго, для чаго. Мн. не ўжыв. Часцей вык. Функц. не зам.* Тое, што дазваляе выявіць асноўныя ўласцівасці, якасці каго-, чаго-н. *Канфлікт стаў пробным каменем дзелавітасці для многіх, хто меў да яго дачыненне.* «Звязда». *Эксперымент — гэта, як кажуць, пробны камень.* «Полымя». *[Афіцыянт:] Раю вам заказаць гуляш! Гэта пробны камень нашага новага кухара.* «Вожык».

**СКІДАЦЬ З СЭРЦА КАМЕНЬ**. Гл. скідаць.

**СЭРЦА НЕ КАМЕНЬ** *у каго, чыё.* Гл. сэрца.

**ХАВАЦЬ КАМЕНЬ ЗА ПАЗУХАЙ**. Гл. насіць.

**ЯК (ЯК БЫ, НІБЫ́, БЫ́ЦЦАМ) КА́МЕНЬ З ПЛЯЧЭ́Й (З ПЛЕ́Ч) ЗВАЛІ́ЎСЯ (СКАЦІ́ЎСЯ)** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. адчуў палёгку, пазбавіўся ад якіх-н. клопатаў, перажыванняў. **Сін.**: адлягло ад сэрца *ў каго;* адлягло на душы *ў каго;* <як> гара з плеч <звалілася> *у каго, з чыіх;* як камень зваліўся з сэрца *ў каго.* — *А што вы дасцё мне за гэта?— нарэшце запытаў ён [Саўка]. У разважлівага Бруя як бы камень з плеч скаціўся.* Колас. *Карова павесялела, у поле хоча, і ў Лёксы нібы камень з плячэй скаціўся.* Кудравец. *Сказаў так — і паехаў. А ў мяне быццам камень з плячэй зваліўся.* «Настаўн. газ.»

**ЯК (ЯК БЫ, НІБЫ́, БЫ́ЦЦАМ) КА́МЕНЬ З СЭ́РЦА (З ДУШЫ́) ЗВАЛІ́ЎСЯ (СКАЦІ́ЎСЯ, СПА́Ў)** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. адчуў палёгку, пазбавіўся ад якіх-н. клопатаў, перажыванняў. **Сін.**: адлягло ад сэрца *ў каго*; адлягло на душы *ў каго*; <як> гара з плеч < звалілася > *у каго, з чыіх*; як камень з плячэй зваліўся *ў каго. У Міхася як камень зваліўся з сэрца.* Колас. *[Данута:] Разбягуцца, як пацукі з гінучага карабля... Усе. Нават Юстын. Дарэчы, мне стала лёгка, нібы з сэрца зваліўся нейкі камень.* Э.Валасевіч. *Лемяшэвіч выцер хусцінкай лоб і ўздыхнуў, адчуўшы раптам такую палёг-*

*ку — быццам камень з сэрца скаціўся.* Шамякін. *У Сямёна як бы камень спаў з душы, адлягла злосць.* Мыслівец. *Бандыты павярнулі адразу і шпарылі дай бог ногі... Як камень з душы зваліўся ў Паўла ды, бачыў ён, і ў астатніх.* Радкевіч. *Грыпіна ўважліва выслухае старую, паспачувае ёй... І ў старой як камень з душы спадзе...* Філіповіч.

*КАМЕНЬЧЫК* • **КАМЕ́НЬЧЫК (-І) У АГАРО́Д (У ГАРО́Д)** *чый. Часцей вык. Разм.* Часцей ужыв. пасля слова *гэта.* Іранічны, крыўдны намёк на што-н. *Разумею, Васіль Іванавіч, гэта каменьчык у мой агарод. Прызнаю сваю памылку. Толькі і вы мяне зразумейце...* Дайліда. — *Каб апраўдаць усё гэта, бяруцца адзін у аднаго ўсялякі талент адкрываць. Геніі, і толькі! — Гэта і ў мой агарод каменьчыкі?* Карпаў. *Роза зразумела, што крытыка яе работы з'яўляецца адначасна каменьчыкам у Юркаў агарод.* Калеснік. *Гэта ў мой гарод каменьчык, таварыш Арэшка. Я сапраўды нічога не п'ю, акрамя ліманаду. Ні кроплі.* Пянкрат.

**КІДАЦЬ КАМЕНЬЧЫК У АГАРОД** *чый, каго.* Гл. кідаць.

*КАМЕНЯ* • **НЕ ПАКІНУЦЬ КАМЕНЯ НА КАМЕНІ**. *Зак. да* **НЕ ПАКІДАЦЬ КАМЕНЯ НА КАМЕНІ**.

*КАМІЗЭЛЬКУ* • **ПАПЛАКАЦЬ У КАМІЗЭЛЬКУ**. Гл. паплакаць.

**ПЛАКАЦЬ У КАМІЗЭЛЬКУ** <*каму*>. Гл. плакаць.

*КАМПАНІІ* • **ДЛЯ (ДЗЕ́ЛЯ) КАМПА́НІІ** <*з кім*>. *Акал. Разм.* Разам з іншымі, заадно (рабіць што-н.). **Сін.**: за кампанію *з кім. Будучы на Буку, захацелася яму [Арсёну] чагосьці з'ездзіць у Равяцічы. Для кампаніі ён падгаварыў Сяргея Парахоньку, і хлопцы паехалі туды.* Жураўскі. *Квартэт з цягам часу распаўся і застаўся дуэт — Міша і Каця. Тым, хто запрашаўся дзеля кампаніі, відаць, апрыкрала роля статыстаў.* Навуменка. *Вася Палуян не курыць, але ў курылку прыходзіць кожны раз, проста так, для кампаніі.* Кацюшэнка.

*КАМПАНІЮ* • **ЗА КАМПА́НІЮ** *з кім. Акал. Разм.* Разам з іншымі, за-адно (рабіць што-н.). **Сін.**: для кампаніі <*з кім*>. *Мы дамовіліся сустрэцца заўтра, але за кампанію з вамі схаджу сёння.* Пальчэўскі. *Мы з Цішкам таксама закурылі тады за кампанію.* Навуменка. *Павел жа хадзіў на вечары да Валі проста за кампанію з хлопцамі.* Шахавец.

*КАМПАНІЯ* • **НЕ КАМПА́НІЯ** *каму. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не падыходзіць як таварыш, прыяцель, сябра. *Вы — чалавек староннi ад нашых спраў... Я вам не кампанія...* Самуйлёнак. *Вы былі на Белым возеры ці не? Не былі? Дык не кампанія вы мне.* Панчанка. *[Зінаіда Паўлаўна:] Не радуйся! Ён табе не кампанія.* Махнач.

*КАМПАСЦІРАВАЦЬ* • **КАМПАСЦІ́РАВАЦЬ МАЗГІ́** *каму. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знарок гаварыць што-н. няправільнае, падманваючы каго-н. **Сін.**: абводзіць вакол пальца *каго*; абуваць у лапці *каго*; бакі забіваць *каму*; браць на арапа *каго*; браць на бога *каго*; браць на вудачку *каго*; браць на пушку *каго*; вадзіць за нос *каго*; вешаць лапшу <на вушы> *каму*; віляць хвастом (у 1 знач.); выводзіць у поле *каго*; гнуць дугі; гуляць у ката і мышку; дурыць галаву *каму* (у 1 знач.); задурыць галаву *каму* (у 3 знач.); замазваць вочы *каму*; замыльваць вочы *каму*; запраўляць арапа; корчыць дурня (у 1 знач.); круціць хвастом (у 1 знач.); муціць галаву *каму*; настаўляць акуляры *каму*; прадаць *каго* і грошы палічыць; пудрыць мазгі *каму*; пускаць пыл у вочы *каму*; сляпіць вочы *каму* (у 1 знач.); травіць баланду (у 2 знач.); туманіць вочы *каму*; туманіць галаву *каму*. *Вы мне, дарагі таварыш, не кампасціруйце мазгі, на ЗІЛе кампрэсар стаіць, яму тармазная вадкасць патрэбна як, скажам, рыбе*

*парасон.* «ЛіМ». — *Ты мне мазгі не кампасціруй, — ускіпае брат, і Сцёпа шчасліва ўсміхаецца: нарэшце такі завёў Прафесара.* Гігевіч. — *Канчаў бы ты, хлопец, мазгі мне кампасціраваць, — асадзіў Шумка Сінёў.* Масарэнка.

*КАМУ* • **БІЦЬ НЯМА КАМУ** *каго.* Гл. біць.

*КАМЯК* • **КАМЯ́К ПАДКАЦІ́ЎСЯ (ПАДСТУПІ́Ў) ДА ГО́РЛА** *<каму>. У безас ужыв. Разм.* У каго-н. спазма сціскае горла пры адчуванні моцнай крыўды, радасці і пад. *Я адчуў, як.. камяк падкаціўся да горла і непрыгожа задрыжэлі вейкі.* Крыга. *Мне цяжка самой расказваць. Пачынаеш успамінаць — і камяк да горла падступае.* «Звязда».

*КАМЯНІ* • *Час* **ЗБІРАЦЬ КАМЯНІ**. Гл. збіраць.

**КАМЯНІ́ КІДА́ЮЦЦА** *ў каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. асуджаецца, абвінавачваецца, ганьбіцца. *І зноў непрыемна чытаць некаторыя ўспаміны, дзе кідаюцца камяні ў яе [жонку Міхася Стральцова].* Барадулін.

**ПАДВО́ДНЫЯ КАМЯНІ́**. *Часцей у мн. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Скрытыя цяжкасці, нечаканыя перашкоды. *Увогуле, нягледзячы на падводныя камяні ў размове, на неабходнасць трымаць вуха востра, каб не спатыкнуцца на чым, настрой мой узняўся.* Шамякін. — *Хаця чалавек ён адданы, ардэнаносец яшчэ з фінскай кампаніі, інвалід, але ж ты ведаеш законы нашай канспірацыі. — Абыду падводны камень — не стукнуся.* Мік.Ткачоў. *У той жа час у франтальных апытаннях тоіцца падводны камень: яны разлічаны на нейкага «серадпячка» і тым самым нівеліруюць групы.* «Настаўн. газ.»

*КАНАПЕЛЬ* • **ЯК ПІЛІП З КАНАПЕЛЬ**. Гл. піліп.

*КАНДАЧКА* • **З КАНДАЧКА́**. *Акал. Праст. Неадабр.* Не падумаўшы, несур'ёзна, без разумення справы (рабіць што-н.). **Сін.**: заплюшчыўшы вочы; з бухты-барахты; з завязанымі вачамі; з налёту (у 3 знач.); з наскоку (у 2 знач.); на зламанне карка (у 1 знач.); на злом галавы (у 1. знач.); на скрут галавы (у 1 знач.); проста з моста. **Ант.**: з адкрытымі вачамі. *Ды інакш і быць не магло — галава ж на тое і даецца чалавеку, каб ён думаў, а не рабіў, што б там ні было, з налёту, з кандачка.* Сачанка. *Я і цяпер, як у шоку, гэтак і тады было б... З кандачка што скажаш? Толькі глупства.* Міська.

*КАНЕЦ* • **АДЗІ́Н КАНЕ́Ц**. *Мн. не ўжыв. Часцей у ролі вык. Разм.* Няма выбару, кепскі зыход непазбежны. Выказванне роспачнай рашучасці. *[Яніна:] Утаплюся, павешуся, усё роўна адзін канец...* Козел. *А мне ўсё роўна, спаляць ці павесяць: адзін канец. Ты думаеш, я вельмі баюся тваіх гітлераў?* Кулакоўскі. *А дзе я яму вазьму тых падаткаў? Няхай ідзе бярэ апошняе... Адзін канец...* Пестрак.

**З КАНЦА Ў КАНЕЦ**. Гл. канца.

**НА БЛАГІ́ КАНЕ́Ц**. *Акал. Разм.* Пры найгоршых абставінах. **Сін.**: на крайні выпадак; на ўсякі пажарны выпадак; у крайнім выпадку. *Бацька не мог нарадавацца, што сын хутка скончыць школу і мо ўжо сам стане памагаць бацькам, а на благі канец хоць не будзе цягнуць з гаспадаркі.* Дамашэвіч.

**ПА КАНЕ́Ц РУ́К** *рабіць (зрабіць), робіцца* і пад. *Акал. Разм. Неадабр.* Вельмі нядбала, абы-як, без ахвоты і старання. **Сін.**: абы дзень адбыць; абы дзень да вечара (у 1 знач.); абы з рук; з плеч ды ў печ (у 2 знач.); з пятага на дзесятае (у 2 знач.); праз пятае ў дзесятае (у 2 знач.); пусці павалюся (у 2 знач.); спусціўшы рукавы; сяк-так (у 2 знач.); сяк-так накасяк <абы не па-людску>; цапам-лапам; цапу-лапу; цяп ды ляп. **Ант.**: душы паслухаючы; з аганьком; закасаўшы рукавы; не пакладаючы рук. *[Зося:] Выбрала і выпаласкала... [Тадора:] Вось паласкала ты... Робіць па канец рук, каб табе ў грудзях*

*рабіла.* Крапіва. *Калі бацька не паглядзіць, не пакамандуе, дык яно ўсё робіцца па канец рук.* Чорны. *Рабіў, шмат чаго рабіў. І ніхто не сказаў, што я хоць калі рабіў па канец рук.* Янкоўскі.

**ПАКЛАСЦІ КАНЕЦ** *чаму.* Гл. пакласці.

**СЫХОДЗІЦЬ НА ПУСТЫ КАНЕЦ**. Гл. сыходзіць.

*КАНЁМ* • **НА КАНІ І ПАД КАНЁМ**. Гл. кані.

**ПАД КАНЁМ** *быць, аказвацца* і пад. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У непрыемнай сітуацыі, у нявыгадным становішчы (быць і пад.). **Сін.**: на шчыце. **Ант.**: на белым кані; на кані; са шчытом. *— Ты куды, Эдуард? Вязі сваіх кантралёраў — лічыльнікаў. На кожным участку — нашы. Яшчэ адзін скачок, і мы на кані. — Ці пад канём, — пасміхнуўся Вікенцій Паўлавіч.* Шамякін. *Ананімшчык мог бы быць даўно «пад канём», калі б мы часцей успаміналі, што распаўсюджванне хлуслівых выдумак караецца пазбаўленнем волі да пяці гадоў.* «Настаўн. газ.»

**ХОД КАНЁМ**. Гл. ход.

*КАНІ* • **НА БЕ́ЛЫМ КАНІ́** *быць, апынуцца, вярнуцца* і пад. *Вык. і акал. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У выгадным становішчы, як пераможца. **Сін.**: на кані; са шчытом. **Ант.**: на шчыце; пад канём. *З Кістмача сёння пыха зляціць? Зляціць. Сёння я ўжо на белым кані!* Савіцкі. *З імі [анархістамі] пайшло на той свет і трое левых эсэраў, Гаўрылавых сяброў па партыі. Так зноў апынуўся Гаўрыла Ахахонін на бе-лым кані.* Дайнека. *«Наша ніва» — Купала ж павінен быў пасля лета туды вярнуцца. З Пецярбурга, на белым кані? Не! Такое было не па ду-шы некаторым, і перш за ўсё Ласоўскаму.* Лойка. *А чаго мне сюды лезці — на голы аклад? Не, дудкі. Я сюды калі і буду перабірацца, дык на белым кані.* Гігевіч.

**НА КАНІ́** *быць, адчуваць сябе. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У прыемнай сітуацыі, у выгадным становішчы. **Сін.**: на белым кані; са шчытом. **Ант.**: на шчыце; пад канём. *— Мы яшчэ будзем на кані. — Невядома, — пачуўся п'яны голас.* Гурскі. *Васька ўвайшоў у ролю і адчуваў сябе на кані.* А.Жук. *Дубадзел адразу чула скеміў: Гайлісу — хана. Ён, Дубадзел, зноў на кані не сёння-заўтра будзе.* Мележ. *Так што цяпер Рыгор, можна сказаць, на кані. Вядома, наперадзе многа хваляванняў — дысертацыя ж яшчэ не абаронена,— але сёння, як ніколі, ён адчувае, што мэта яго блізка, што ён да яе дойдзе.* Арабей.

**НА КАНІ́ І ПАД КАНЁМ** *быць, пабываць* і пад. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У самых разнастайных, прыемных і непрыемных сітуацыях (быць і пад.). **Сін.**: і ў коле і ў мяле; на возе і пад возам. *Голаду і холаду [Амос] як досыць ужыў, быў, як кажуць, на кані і пад канём.* Галубок. *[Карацупа] быў у бітвах, у сакрэтах, на кані і пад канём.* Лужанін. *Васіль Шкірманкоў выйшаў на пенсію і прыехаў жыць у свой райцэнтр. Чалавек пражыў жыццё, быў, як кажуць, на кані і пад канём.* Санько. *Чаго ж вас баяцца? Я не з палахлівага дзесятка. Пабываў на кані і пад канём.* Няхай.

**НІ ПА КАНІ́ НІ ПА АГЛО́БЛЯХ**. *Акал. Разм.* Не так, як каму-н. хочацца; ні за аднаго і ні за другога. *[Міхаліна:] От я вам спачатку пра следства, каб па парадку, каб не збіцца. Тут жа трэба ні па кані ні па аглоблях, а па справядлівасці.* Петрашкевіч. *— Мне яно, як кажуць, ні па кані ні па аглоблях, — даводзіў Драніца.* Чыгрынаў.

**ЯК НА КАНІ ПРАЕХАЦЬ**. Гл. праехаць.

*КАНІЦЕЛЬ* • **ЦЯГНУЦЬ КАНІЦЕЛЬ**. Гл. цягнуць.

*КАНОСУ* • **ІСЦІ Ў КАНОСУ**. Гл. ісці.

*КАНТОРА* • **ШАРА́ШКІНА КАНТО́РА**. *Мн. не ўжыв. Часцей вык. Разм. Неадабр.* Несалідная, неаўтарытэтная ўстанова, арганізацыя, прадпрыемства. *Раз пастаўлен на дзела, значыць, павінен адказваць. У нас табе не шарашкіна кантора.* Чыгрынаў. *Што ні работнік — то круцель: тут і бухгалтар, і рахункавод, і кладаўшчык, і экспедытар. Шарашкіна кантора, дзе ўсё шыта-крыта...* Валасевіч. *[Вакула] усім вушы пратрубіў пра тое, што хутка развітаецца з гэтай шарашкінай канторай і сядзе за руль «Волгі».* Радкевіч.

*КАНТОРСКІ* • **КАНТОРСКІ ПАЦУК**. Гл. пацук.

*КАНТЭКСЦЕ* • **У КАНТЭ́КСЦЕ** *чаго. Акал. Функц. не зам.* 1. У цеснай сувязі з чым-н., з больш шырокім паняццем. *Доўгі час беларуская літаратура вывучалася не ў кантэксце сусветнай літаратуры, а ў адрыве ад яе.* «Бел. мова і л-ра». *Аўтар разглядае катэгорыю патрыятызму ў кантэксце дзяржаўнай незалежнасці.* «Настаўн. газ.»

2. На фоне чаго-н., у параўнанні з чым-н. *Цэзій будзе ляжаць на нашай зямлі трыста гадоў. Не так многа ў кантэксце вечнасці, але ў нашым чалавечым жыцці — вечна.* «Настаўн. газ.» *Драматызм гэтай гібелі ўспрымаецца ў кантэксце ўсіх тых страт і самотных расстанняў, якія зведваюць героі новай кнігі В.Адамчыка.* Пяткевіч.

*КАНУЎ* • **ЯК (НІБЫ, ШТО) У ВАДУ́ КА́НУЎ (-ЛА, -ЛІ)**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш. ці канкр. прадмета. Нечакана прапаў, знік. **Сін.**: як скрозь зямлю праваліўся; як у ваду ўпаў. *Аблазілі ўсё наваколле — задворкі, лес, луг. Як у ваду канула машына.* Шамякін. *Ганна з'ехала да свае радні ў Залессе, як у ваду канула і Марыля.* Грахоўскі. *Мястэчка калацілі, але трасцу выкалацілі. Вінаватыя як у ваду канулі.* Машара. *Мужык з вайны не вярнуўся, ніякіх звестак. Як пайшоў у сорак першым, як у ваду кануў.* Гаўрылкін. *І як пайшоў Вася ў Каўняны два тыдні таму назад, дык нібы ў ваду кануў...* Карпюк. *[Жэня:] І як з'ехаў з дому, дык што ў ваду кануў. Хоць бы пару слоў якіх напісаў пра сябе.* Козел.

*КАНУЦЬ* • **КА́НУЦЬ У ЛЕ́ТУ**. *Зак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Бясследна знікнуць, назаўсёды аказацца забытым. **Сін.**: быллём зарасло; <з> вадой сплыў. *Колькі ўжо такіх нашумеўшых у свой час скараспелак канула ў лету!* Танк. *Вельмі шкада, што канула ў лету такая эфектыўная форма, як Дні літаратара ў абласцях, да якіх сур'ёзна, з вялікай адказнасцю рыхтаваліся і пісьменнікі, і чытачы.* «ЛіМ». *Продкаў слава не канула ў лету!* Стрыгалёў.

*КАНЦА* • **БЕЗ КАНЦА́**. *Акал. Разм.* 1. Вельмі доўга, бясконца. *Адзін час, здавалася, колы казалі: «У-ця-кай!.. У-ця-кай!..» І так без канца ўсё адны і тыя ж словы.* Колас. *Беднота, адзіноцтва, сілы ўжо не тыя,— а рабі і рабі, працуй без канца...* Цётка.

2. Вельмі. *[Мікітка] як бяжыць у школу, без канца вясёлы, як бяжыць са школкі, весялей у тры столкі.* Крапіва.

**ДА КАНЦА́ <СВАІ́Х> ДЗЁН**. *Акал. Разм.* Да самай смерці (помніць, заставацца і пад.). **Сін.**: да апошняга дыхання; да веку; да магілы; да скону дзён. **Ант.**: ад калыскі. *Нягледзячы на цяжкія выпрабаванні, якія выпалі ў жыцці на яго долю, Андрэй Александровіч да канца дзён сваіх быў і застаўся ў нашай памяці таленавітым паэтам.. і грамадзянінам нашай Радзімы.* Лынькоў. *Да канца сваіх дзён помніць будзеце — я праўду сказала.* Якавенка.

**ДА ПУСТÓГА КАНЦÁ** *дагаварыцца, дажыць. Дап. Разм. Неадабр.* Невядома да чаго; ні да чаго станоўчага, добрага не (дагаварыцца і пад.). *І тады ўсе, убачыўшы, што дагаварыліся да пустога канца, пачалі разыходзіцца.* Чорны. *«Ну, так можна і да пустога канца дагаварыцца»,— падумаў я.* Крапіва. — *Ты што, між людзей вінаватых шукаеш? — А што шукаць? Не адзін чалавек на свеце... Станеш жыць адзін — да пустога канца дажывеш.* А.Жук.

**З КАНЦÁ Ў КАНÉЦ**. *Акал. Функц. не зам.* У розных напрамках, усюды. **Сін.**: ад краю да краю; з краю ў край; удоўж і ўпоперак (у 1 знач.). *Гукамі цэлы свет поўны не менш, чым мора — хвалямі, зямля — пяском, дрэвы — лісцем. Вялізны няведамы інструмент, які працягвае свае нябачныя струны, нібы павуцінне, па ўсім свеце з канца ў канец.* Бядуля. *Гудзела музыка — гармонікам, скрыпкамі, бубнам, несціханымі песнямі дзяўчат і хлопцаў. Усё гэта меладыйнымі хвалямі пераліваласяз канца ў канец.* Пестрак. *Сяло выдавала глухім і сонным. І быццам усё яно — з канца ў канец — было заліта сінькай.* Кудравец.

**КАНЦА-КРАЮ НЕ ВІДАЦЬ** *чаму.* Гл. відаць.

**НЕ З ТАГÓ КАНЦÁ** *пачынаць (пачаць), брацца (узяцца)* і пад. *Акал. Разм.* Не так, як трэба. **Сін.**: не з таго боку. *[Вера:] Па-мойму — ты не з таго канца пачаў разбірацца. Трэба пацікавіцца, адкуль ідуць гэтыя плёткі.* Крапіва. *«Не з таго канца ты, браце, узяўся, — падумаў Алесь, канчаючы чытаць загад.— Тут для мяне, прынамсі, усё ясна».* Шынклер. *Антон сеў на ложку, працёр кулаком вочы. — Не з таго канца жыццё пачынаеш,— спыніўся перад ім Прохар...* Дайнека.

**НІ КАНЦÁ НІ КРÁЮ**. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Бязмежны, бясконцы ўдалечыню. *Там лясы вунь якія, ні канца ні краю.* Новікаў. *А снягі наўкола — ні канца ні краю.* Вярба.

**ПАЧАТАК КАНЦА** *чаго, чый.* Гл. пачатак.

*КАНЦАМІ* • **ЗВОДЗІЦЬ КАНЦЫ З КАНЦАМІ**. Гл. зводзіць.

**ЗВЯДЗЕННЕ КАНЦОЎ З КАНЦАМІ**. Гл. звядзенне.

**ЗВЯЗВАЦЬ КАНЦЫ З КАНЦАМІ**. Гл. звязваць.

**З КАНЦÁМІ**. *Акал. Разм.* Бясследна, безвынікова (знік, прапаў і пад.). *Людзі скардзіліся, але з канцамі знікла тая скарга.* Наварыч. *Ты вось паўгадзіны таму зашморгу на дэмана [вар'ята] накінуў, а заўтра, можа, і на бабу тую накінеш,ваўчыцу, пасля таго, як яна хату прадасць. А потым зліняеш і — з канцамі.* Станкевіч.

**КАНЦЫ З КАНЦАМІ**. Гл. канцы.

**КАНЦЫ З КАНЦАМІ НЕ СЫХОДЗЯЦЦА** *у каго, дзе.* Гл. канцы.

**ПАЛКА З ДВУМА КАНЦАМІ**. Гл. палка.

**СТОЧВАЦЬ КАНЦЫ З КАНЦАМІ**. Гл. сточваць.

*КАНЦОМ* • **І ДЗЕЛА З КАНЦОМ**. Гл. дзела.

*КАНЦОЎ* • **ЗВЯДЗЕННЕ КАНЦОЎ З КАНЦАМІ**. Гл. звядзенне.

**КАНЦОЎ НЕ ЗНАЙСЦІ**. Гл. знайсці.

**У КАНЦЫ КАНЦОЎ**. Гл. канцы.

*КАНЦЫ* • **АДДАВАЦЬ КАНЦЫ**. Гл. аддаваць.

**ДВÁ КАНЦЫ́ АДНÓЙ ПÁЛКІ**. *Вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Вельмі блізкія ці аднолькавыя ў якіх-н. адносінах з'явы, (рэжымы, вучэнні і пад.). **Сін.**: два бакі аднаго медаля.

**ЗВОДЗІЦЬ КАНЦЫ З КАНЦАМІ**. Гл. зводзіць.

**ЗВЯЗВАЦЬ КАНЦЫ З КАНЦАМІ**. Гл. звязваць.

**<І> КАНЦЫ́ Ў ВАДУ́**. *У безас. ужыв. Разм.* Ужыв. у канцы складанага ск. **1**. Не засталося ніякіх слядоў, доказу (злачынства, правіннасці). *Наладзілі следства. Усім вядома было, што гэта Вінцанцюк пастараўся, але выразнага доказу не было. Усё было зроблена гладка — і канцы ў ваду.* Чорны. *Вунь сярод белага дня ўзялі хлопцы вядомага правакатора.. Кавалевіча. Некуды сунулі яго і, як кажуць, і канцы ў ваду.* Лынькоў.

**2**. На гэтым усё кончана. Пра канчатковую развязку чаго-н. **Сін**.: і дзела з канцом; і дуды вобземлю; і квіта <пане> Мікіта; і не знайся; канцы з канцамі; па ўсім. *[Навум:] Слова сказана, д[ы]й дзела звязана. Тагды гарэлка на стол, ручнікі гатовы, д[ы]й канцы ў ваду.* Дунін-Марцінкевіч. *Шалёная думка была мільганула ў Міхася — цюкнуць шаўца табурэткай па галаве — і канцы ў ваду.* Асіпенка.

**КАНЦЫ́ З КАНЦА́МІ**. *У безас. ужыв. Праст.* На гэтым усё закончана. Пра канчатковую развязку чаго-н. **Сін**.: і дзела з канцом; і дуды вобземлю; <і> канцы ў ваду (у 2 знач.); і квіта <пане> Мікіта; і не знайся; па ўсім. *І хто бачыў, што гэта ён [Юрка] скінуў збан? Чаму б не мог зрабіць гэтага самага і кот, шэры іх кот — памаўза? Ускінуў бы бяду на ката, і канцы з канцамі.* Колас. *І якое недарэчнае было тое, што сказаў, вярнуўшыся, Яўхім: — Ну, от і канцы з канцамі. Відна, што нявеста!.. Падарыў [Ганне хустку], а ўсё адно як сабе! Не з хаты, а ў хату!..* Мележ.

**КАНЦЫ́ З КАНЦА́МІ НЕ СЫХО́ДЗЯЦЦА (НЕ ЗВО́ДЗЯЦЦА)** *у каго, дзе. У безас. ужыв. Разм.* **1**. Не хапае чаго-н. для задавальнення жыццёвых патрэб на ўвесь вызначаны перыяд. *Зажынкі заўсёды ўрачыстая падзея, свята. Павялося гэта здавён-даўна, з тых часоў, калі ў многіх хатах канцы не зводзіліся з канцамі. Не хапала хлеба, каб дацягнуць да новага ўраджаю.* Дуброўскі.

**2**. Няма ўзгодненасці, адпаведнасці паміж рознымі бакамі чаго-н. (у разважаннях каго-н., доказах і пад.). *Не, хлопча, канцы з канцамі ў цябе пакуль што не сыходзяцца. Відаць, ты яшчэ не разабраўся толкам у гэтых абозах і авангардах або, як здараецца часам у маладосці, проста, даруй мне, фарсіш.* Мік.Ткачоў. *Немцы адышлі, каб сабраць сілы для новага ўдару. Хоць у гітлераўскай прапаганды ніяк не сыходзяцца канцы з канцамі: Старобінскі гарнізон абвясціў нас знішчанымі, а Лагішынскі не можа ўправіцца з намі.* Грахоўскі.

**КРУЦІЦЦА НА КАНЦЫ ЯЗЫКА** *ў каго.* Гл. круціцца.

**НА ДВА́ КАНЦЫ́**. *Вык. і азн. Разм.* Ужыв. пры наз. *хата.* Вялікая, падзеленая капітальнай сцяной на дзве часткі, пяцісценка. *Хата была ўсё тая ж, прасторная, высокая, на два канцы, і ўсё той жа круглы камень-ганак ляжаў пры сенцах.* Вышынскі. *Хату на два канцы [Міхалка з сынам] адгрукалі, прастор, як у клубе.*Вcraновіч. *Хату [Язэп] паставіў — на два канцы, як шклянку.* Адамчык.

**НА КАНЦЫ́ (НА КО́НЧЫКУ) ЯЗЫКА́**. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Пытаючыся, знойдзецца, будзе вядомая. Пра дарогу, вуліцу, хату і пад. *Пытаешся, як тую хату знайсці? А яна — на канцы языка!* Янкоўскі. — *А мы нават і дарогі добра не знаем. — Невядомая дарога на кончыку языка.* Адамчык.

**СВЯТЛО Ў КАНЦЫ ТУНЭЛЯ**. Гл. святло.

**СТОЧВАЦЬ КАНЦЫ З КАНЦАМІ**. Гл. сточваць.

**У АБО́ДВА (ДВА́) КАНЦЫ́**. *Акал. Разм.* Туды і назад (ехаць, ісці, заплаціць, браць білет і пад.). *Касірка.. паспявала забяспечыць білетамі ўсіх пасажыраў, колькі б ні было. Грыбнікі звычайна бралі ў горадзе ў абодва канцы.* Пальчэўскі. *Я паабяцаў заплаціць за дарогу ў абодва канцы.* Радкевіч. *Дзед усё непакоіцца, ці паспееш у два канцы, ці не спаз-*

нішся. Адамовіч. *Чарнявая Танька ўсё не магла супакоіцца: — Дык мо Затор вас і назад павязе? Вы ж у два канцы заплацілі.* А.Жук.

**У КАНЦЫ КАНЦО́Ў**. *Разм.* **1.** *Акал.* У канчатковым выніку, пад канец, напаследак. **Сін.**: у рэшце рэшт (у 1 знач.). *Якія б ні былі ліпавыя нашы саюзнікі, ды ў канцы канцоў і яны заварушацца.* Колас. *А ў канцы канцоў вось што: надзявайце пінжак, бярыце ногі ў рукі і бяжыце на пошту.* Корбан.

**2.** *У знач. пабочн. сл.* Нарэшце. Ужыв. для падкрэслівання чаго-н. ці паказу, што мера цярпення, чакання і пад. скончылася. **Сін.**: у рэшце рэшт (у 2 знач.). *[Радзецкі:] Ты надаела, не хачу цябе я знаць, прападаць не буду, чуеш? [Васіліса:] Не крычы, у канцы канцоў!* Александровіч. *Не ты, у канцы канцоў, сеяў, без цябе і сажнуць!* А.Жук.

**ХАВАЦЬ КАНЦЫ < У ВАДУ >**. Гл. хаваць.

*КАНЦЫЛЯРЫЯ* • **НЯБЕ́СНАЯ КАНЦЫЛЯ́РЫЯ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Жарт.* Неба як месца фарміравання надвор'я. *Можа, нябесная канцылярыя нарэшце расшчодрыцца і пашле дождж на курскую зямлю.* С.Александровіч. *Непарадак у нябеснай канцылярыі. Цяпер толькі добра нашым рыбаводам, Пракопу ды Сашку...* Ракітны. *I што за чорт такі кіраваў тым надвор'ем, стаяў на чале нябеснай канцылярыі: удзень хмары, хмары, і ўсё рваныя, чорнымі ватнымі клубкамі.* Казько. *Камбайны стаялі на прыколе, злосныя механізатары нядобрым словам хрысцілі нябесную канцылярыю.* «Звязда».

*КАНЬКА* • **ЗЛАЗІЦЬ СА СВАЙГО КАНЬКА**. Гл. злазіць.

*КАНЬКІ* • **КАНЬКІ АДКІДАЦЬ**. Гл. адкідаць.

*КАНЮ* • **НЕ ПА КАНЮ ВОЗ**. Гл. воз.

<u>*Даць, уваліць*</u> **ЯК КАНЮ́**. *Акал. Разм. Ужыв. пры названых дзеясл.-вык. зак. тр.* Не шкадуючы, вельмі моцна (пабіць, адлупцаваць каго-н.). — *Сам жа сказаў, што мне поп патрэбен. — Бізун табе патрэбен. І я табе зараз увалю як каню за гэткія словы.* «Маладосць». [*Лепешаў*, с. 87: *даць, уваліць* як каню.]

*КАНЮШНІ* • **АЎГІЕВЫ КАНЮШНІ**. Гл. стайні.

*КАНЯ* • **НЕ Ў КАНЯ КОРМ**. Гл. корм.

**НІ ВАЛА НІ КАНЯ**. Гл. вала.

**РАБІЦЬ З КАМАРА КАНЯ**. Гл. рабіць.

**СЕСЦІ НА КАНЯ**. Гл. сесці.

**СТАВІЦЬ ВОЗ НАПЕРАДЗЕ КАНЯ**. Гл. ставіць.

*КАП* • **З НОСА КАП, А Ў РОТ ХАП**. Гл. носа.

*КАПАЕ* • **ДОЖДЖ ЗА КАРАК НЕ КАПАЕ**. Гл. дождж.

**ЗА ШЫ́Ю (ЗА КАЎНЕ́Р) НЕ КА́ПАЕ**. *У безас. ужыв. Разм.* Няма прычын спяшацца; паспеецца. **Сін.**: дождж за карак не лье; не гарыць *у каго;* не капае *над кім, над чым;* не на пажар; паспееш з козамі на торг. *За шыю яшчэ не капае, і ад людзей мы ззаду не засталіся. Не столькі ў нас тае работы, каб праз яе вельмі галаву ламаць.* Чарнышэвіч. *Гэты час на пражэктары ў параўнанні з заставай — лафа лафой: за каўнер не капае, выскачыў на «прамень» — і назад у цяпло.* Блакіт.

**НЕ КА́ПАЕ** *над кім, над чым. У безас. ужыв. Разм.* Няма прычын спяшацца; паспеецца. **Сін.**: дождж за карак не лье; за шыю не капае; не гарыць *у каго;* не на пажар; паспееш з козамі на торг. *[Самасееў:] А нада мной не капае. Пакуль што магу пачакаць.*

Макаёнак. *Друкарня.. даводзіць, што ёсць больш тэрміновая работа, часопісы могуць пачакаць, над імі не капае...* Крапіва.

*КАПАННЕ* • **КА́ПАННЕ НА МАЗГІ́**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Прост.* Пастаяннае ўздзеянне на каго-н., бесперапыннае павучанне каго-н. У *такіх выпадках — Ліза ведала з шматгадовага вопыту — лабавая атака не падыходзіла. Трэба іншы манеўр — спакой, ласка, зацяжная аблога і паступовае «капанне на мазгі»*. Шамякін.

**КАПА́ННЕ Ў БРУ́ДНАЙ БЯЛІ́ЗНЕ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Праяўленне залішняй цікавасці да ценявых бакоў чыйго-н. асабістага жыцця, узаемаадносінаў, дзейнасці і пад. *Існуюць розныя інтрыгі і прыёмчыкі, знаёмыя нам па нядобрай памяці недалёкіх часінаў. Адзін з такіх езуіцкіх прыёмаў — капанне ў брудной бялізне, а няма яе, дык не грэх зрабіць яе такой.* «ЛіМ».

*КАПАЦЬ* • **ГЛЫБО́КА КАПА́ЦЬ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Грунтоўна вывучаць, даследаваць, высвятляць што-н., пранікаць у сутнасць чаго-н. — *Чаго захварэў Палавінка? — А хіба чалавек не можа захварэць? Не капай, пракурор, глыбока. Андрэю я веру, як самому сабе.* Шамякін. *Хто-ніхто тады пасяшыў пусціць чутку: галоўны канструктар так глыбока капае, каб перасесці са свайго крэсла ў дырэктарскае.* І.Капыловіч. *Цяпер — другое і асноўнае. Александровіч утаіла, што яна ўрач-тэрапеўт, і месцам працы пазначыла сумніцельную фірму. Не памылюся, калі скажу, што яна разлічвала на нашу інертнасць, што капаць глыбока не будзем.* Праўдзін.

**КАПА́ЦЬ МАГІ́ЛУ (Я́МУ, Я́МІНУ)** *каму, чаму. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Рыхтаваць пагібель. *Надыходзіў момант, калі перамогшы царскі ўрад рыхтаваў капаць магілу рэвалюцыі, мабілізуючы для гэтага карныя часці войска і суды.* Колас. *Як лёгка пражыліся тыя гадкі, мяркуйце самі. Не жарты — капаць варагу яміну, а рабіць выгляд, нібыта ты яму слуга.* Лужанін. **ВЫКАПАЦЬ МАГІЛУ (ЯМУ, ЯМІНУ)** *каму, чаму. Зак. [Міхаліна:] Святая пакутніца! Ты думала пра тое, што сваім шчасцем ты выкапала яму другому?* Чорны.

**КА́ПАЦЬ НА МАЗГІ́** *каму. Незак. Прост. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пастаянна гаварыць адно і тое ж, уздзейнічаючы на каго-н., павучаючы каго-н. **Сін.**: дзяўбці ў галаву *каму, чыю;* убіваць у галаву *каму што* (у 2 знач.); уводзіць у галаву *каму што* (у 2 знач.); укладваць у галаву *каму што* (у 2 знач.). *— А што, той Бэнсь — такі ўплывовы? — Ён ходзіць капаць на мазгі ўсім, каму не даспадобы я за характар свой «благі».* Гілевіч. — *Яны ўсе такія, фашысцкія служкі, — кажа Косця Шмыг. — Пазашываліся. І чаго ім кідацца ў гаворкі? Спакойна капаюць на мазгі працоўнаму.* Мыслівец. *[Андрэй:] На мазгі мне капала, а сама тым часам зубы вастрыла?* Капусцін.

**КАПА́ЦЬ Я́МУ** *каму, пад каго, для каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рабіць зло, шкодзіць, рыхтаваць вялікую непрыемнасць каму-н. **Сін.**: вастрыць зубы (у 1 знач.); вастрыць нож *на каго. Не будзь, пане, памаўзлівы, пільнуй, пане, грушы, слівы, другім ямы не капай, чужой жонкі не чапай.* Колас. *Мачыха пачала мне пераказваць гісторыю пра тое, як Пачосак са сваім хаўруснікам Леўкам ужо даўно капалі яму пад бацьку, бо хацелі паставіць за млынара Здрокавага Рыгора, і цяпер дамагліся свайго.* Сабаленка. **ВЫКАПАЦЬ ЯМУ** *каму, пад каго, для каго. Зак. Не так лёгка для Гунава яму выкапаць. Мы яшчэ паглядзім, хто атрымае ўзнагароду і хто вылеціць са службы.* Самуйлёнак.

*КАПЕЕЧКІ* • **ДА КАПЕЕЧКІ**. Гл. капейкі.

*КАПЕЕЧКУ* • **У КАПЕ́ЕЧКУ** abыходзіцца (абысціся), прыходзіцца (прыйсціся) і пад. *Акал. Разм.* Вельмі дорага. *У рэвалюцыю трэба каб былі ўсе роўныя, а не то што адзін дарэмна зямлі награбе, а другому яна ў капеечку прыйшлася.* Чорны. *Сяргей Сяргеевіч падумаў, што рамонт абышоўся ў капеечку.* Асіпенка. *[Прараб] ківаў: зраблю, а як жа. Зраблю, маўляў, хоць заглыбленне ўдарыць па каштарысе, абыдзецца ў капеечку.* Радкевіч. *Блізка, зручна і прыгожа; за садам — электрастанцыя, возера. Але гэта ўляціць у капеечку, як кажуць.* Шамякін.

*КАПЕЙКА* • **КАПЕ́ЙКА НЕ ЗАПА́РЫЦЦА** *ў каго. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. зусім неберажлівы, не ўмее эканомна расходаваць грошы. *У майго — капейка не запарыцца, а з гэтай [Басі] жонка, напэўна, выйдзе гаспадарлівая.* Карпюк. [*Лепешаў*, с. 40: і капейка не папарыцца *ў каго.*]

**КАПЕ́ЙКА Ў КАПЕ́ЙКУ**. *Акал. Разм.* Абсалютна дакладна. Пры падліку грошай. *Я.. выдам табе распіску, дакладу сваіх грошай, роўна столькі ж, капейка ў капейку, і тады раскажу табе, што гэта за справа.* Самуйлёнак. *Канечне, калі Пракоп сказаў «рубель», гэта не значыць, што іменна рубель, капейка ў капейку.* Баранавых.

*КАПЕЙКАЙ* • **ДРЫЖАЦЬ НАД КОЖНАЙ КАПЕЙКАЙ**. Гл. дрыжаць.

*КАПЕЙКАМІ* • **З КАПЕ́ЙКАМІ**. *Акал. Разм. Ужыв. пасля лічэбн. (пры прыблізным вызначэнні велічыні, даўжыні, колькасці чаго-н.).* З невялікім перавышэннем. **Сін.**: з гакам (у 1 знач.); з лішнім; з лішкам (у 1 знач.); з паходам; з хвосцікам. *Нам трэба паспець у эвакапункт, а праз нейкі час зноў на платформу — састаў, што на Славянск праследуе, прыбывае праз нейкую гадзіну з капейкамі.* Капыловіч.

*КАПЕЙКІ* • **ДА КАПЕ́ЙКІ (ДА КАПЕ́ЕЧКІ)**. *Акал. Разм.* Поўнасцю, цалкам (патраціць, заплаціць, атрымаць і пад.). Пра грошы. *Сам я хворы чалавек... Сілы няма. Спраўлюся — да капейкі заплачу.* Каваль. *[Кручкоў:] А ўсе [грошы]? [Альпенскі:] Да капеечкі, найяснейшая карона!* Дунін-Марцінкевіч.

**ЗБІВАЦЦА З КАПЕЙКІ**. Гл. збівацца.

**НІ КАПЕ́ЙКІ**. *Разм.* **1**. *Акал. Ужыв. у адмоўн. ск.* Зусім, ніколькі (не плаціць, не ўступаць, не мець і пад.). *Стары друг, а ні капейкі не ўступіў.* Шамякін. *Казу купіў, казу прадаў, а карысці ні капейкі.* Самуйлёнак. *Дзесяцін шэсць ляда. Ужо колькі год [гаспадар] засявае яго, а ні капейкі не плаціць.* Мяжэвіч.

**2**. *У безас. ужыв.* Зусім няма грошай. *Грошы скончыліся. Трэба яму [брату] пасланць яшчэ, а ў самой даўно ўжо ні капейкі.* Мядзёлка.

*КАПЕЙКУ* • **КАПЕЙКА Ў КАПЕЙКУ**. Гл. капейка.

**НА КАПЕ́ЙКУ**. *Акал. ці ў безас. ужыв. Разм.* Вельмі мала, зусім нямнога. **Сін.**: з вераб'ёў нос (у 1 знач.); з жабіны прыгаршчы *чаго;* з камароў нос (у 1 знач.); з макава зерне; кропля ў моры <*чаго*>; курам на смех (у 3 знач.); на жабін скок (у 2 знач.); на заячы скок; на макава зерне; на пальцах можна пералічыць *каго, што;* на панюх табакі (у 1 знач.); на шэлег (у 1 знач.); не поле насеяна *каго;* раз-два і ўсё *каго, чаго;* як кату; <як> кот наплакаў *каго, чаго;* як старой бабе сесці. *Работнікі раённай ветслужбы на шкоду якасці захапіліся колькаснымі паказчыкамі. Карысці ж ад такіх мерапрыемстваў на капейку.* «Звязда». *А то, бывае, каторы на капейку вып'е, а глупства на ўсю дзесятку наробіць, калі не больш...* Васілёнак.

**НІ ЗА КАПЕ́ЙКУ (ЗА КАПЕ́ЙЧЫНУ)** прападаць (прапасці), гінуць (загінуць) і пад. *Акал. Разм.* Зусім дарэмна, без прычыны. **Сін.**: вечным правам; за гнілую рыбу; ні за

грош; ні за панюх табакі; ні за што ні пра што; як рудая мыш. *Малкаў здзівіўся вельмі, калі пачуў, што Нэлка каторы год жыве адна, без мужа. «Прападзе жанчына, ні за капейку прападзе».* «ЛіМ». *Іван пачуў, як хлопец гаварыў: «А тады мне мой старыкан і гаворыць: за навуку бярыся, пакуль не позна, не то прападзеш ні за капейчыну...»* Гігевіч.

**НІ НА КАПЕ́ЙКУ** *чаго. У безас. ужыв. Разм.* Зусім няма. Пра поўную адсутнасць чаго-н. **Сін.**: ні на грам (у 2 знач.); ні на <адзін> шэлег (у 2 знач.); ні на ломаны грош. *Слухаю, а плюнуць хочацца. Сораму [у Раісы Кірэеўны] ні на капейку. Быццам яна адна ўсё рабіла, нікога, акрамя яе, як не было.* Новікаў. *Міцька — хлопец свой, не падвядзе. А вось Юзаф — гніда. Панскі паслугач, яму веры ні на капейку.* Жычка. *Увосень у школу пойдзеш, а розуму ні на капейку.* Левановіч.

**У <БЕЛЫ> СВЕТ ЯК У КАПЕЙКУ**. Гл. свет.

*КАПЕЛЬКІ* • **НІ КАПЕЛЬКІ**. Гл. кроплі.

*КАПЕЛЬКУ* • **НА КА́ПЕЛЬКУ (НА КА́ПЛЮ)**. *Акал. Разм.* На вельмі кароткі час, зусім ненадоўга (выйсці, зайсці, заскочыць і пад.). **Сін.**: на адно імгненне вока; на <адну> мінуту (у 1 знач.); на <адну> секунду; на міг. *Суматошлівы дзень, разарвацца можна. На капельку заскочыў, каб пабачыцца...* Грамовіч.

*КАПЛІ* • **ДА АПОШНЯЙ КАПЛІ КРЫВІ**. Гл. кроплі.

**НІ КАПЛІ**. Гл. кроплі.

*КАПЛЮ* • **НА КАПЛЮ**. Гл. капельку.

*КАПЛЯ* • **КАПЛЯ Ў МОРЫ** <*чаго*>. Гл. кропля.

*КАПНУЦЬ* • **ГЛЫБЕ́Й КАПНУ́ЦЬ**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Больш грунтоўна вывучыць, высветліць што-н., пранікнуць у сутнасць чаго-н. *Цяпер многа такіх.. як гэты ваш барадач... Знарок у аднапакаеўках жывуць, у лясных хатках, машыны не купляюць, апранаюцца бедненька... А капні глыбей — у кожнага тысячы, калі не мільёны! Даляраў, я маю на ўвазе.* Федарэнка. *— І там уладу захапіла мафія. — Во гэта правільна. Але капні глыбей. Таму класу, які захапіў уладу, не трэба было быць першым перасяленцам у Амерыку, авантурыстам, накапіцелем першапачатковага капітала.* Шамякін.

*КАПУСТУ* • **НА КАПУ́СТУ** <u>*крышыць (пакрышыць), шанкаваць (пашанкаваць)*</u> і пад. *Акал. Разм.* Ушчэнт, поўнасцю; на дробныя часткі. *На даўняй Нямізе іх [ворагаў] слалі снапамі, крышыў на капусту іх Віцебск мячамі, у Полацку варам варылі з валоў.* Броўка. *І хто-хто, а Фаміч пакрышыў бы гэтага Цыбатага на капусту.* Кусянкоў. *Скажы адно слова Князёў — ашчаціняцца супраць няпрошаных гасцей трафейнымі аўтаматамі, на капусту пашанкуюць.* Навуменка.

**ПУСКАЦЬ КАЗЛА Ў КАПУСТУ**. Гл. пускаць.

*КАПЦІЦЬ* • **КАПЦІ́ЦЬ НЕ́БА**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Жыць без мэты, без карысці для другіх, без пэўнай справы. **Сін.**: капціць свет; смуродзіць свет. *Здаецца, я нікому нічога кепскага на свеце не зрабіў... Не капціў неба, не псаваў хлеб.* Бядуля. *Праўда, не стары яшчэ (што значыць трыццаць сем год?), але ж час ужо, годзе, пара і сваю сям'ю завесці, бо нельга ж вечна неба капціць.* Лынькоў. *[Валодзя:] Трэба вучыцца... Вось табе мэта ў жыцці. А інакш навошта капціць неба?* Васілеўскі.

**КАПЦІ́ЦЬ СВЕ́Т**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Жыць без мэты, без пэўнай справы, без карысці для другіх. **Сін.**: капціць неба; смуродзіць свет. — *Што, адны жывяце? — Адны. Во з дзедам так і капцім свет, — тужліва адказала кабета.* Быкаў. *[Лыска] не капціў дарэмна свету, жыў ды не драмаў...* Крапіва.

*КАПЫЛ* • **ЗРОБЛЕНЫ НА АДЗІН КАПЫЛ**. Гл. зроблены.

**МЕРАЦЬ НА АДЗІН КАПЫЛ** *які, каго, што.* Гл. мераць.

**МЕРАЦЬ НА КАПЫЛ** *які каго, што.* Гл. мераць.

**МЕРАЦЬ НА СВОЙ КАПЫЛ** *каго, што.* Гл. мераць.

**НА АДЗІ́Н КАПЫ́Л**. *Разм. Часцей неадабр.* **1.** *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці канкр. прадмета. Вельмі падобныя, аднолькавыя. **Сін.**: абое рабое; аднаго крою; аднаго поля ягада; адным лыкам шытыя; адным мірам мазаны; два боты пара; <з> аднаго балота чэрці; з аднаго цеста <спечаны>; зроблены на адзін капыл; на адзін лад; на адзін манер (у 1 знач.). *Усе яны [паны] на адзін капыл — стараюцца дастаць з цябе ўвесь дух, пакуль ты ў іх служыш.* Дамашэвіч. *Баюся я гэтых жанчын. Баюся, каб каторая кругом спадніцы танцаваць не прымусіла. Колькі я ведаў іх — і ўсе на адзін капыл.* Кудравец. *Сталоўка месціцца ў драўляным дамку. А ўсе дамы тут на адзін капыл.* Макарэвіч. *[Гудзееў:] Тут скаргі калгаснікаў... Усе пісьмы — на адзін капыл.* Макаёнак.

**2.** *Акал.* Вельмі падобна, аднолькава (рабіць, рабіцца, выходзіць і пад.). **Сін.**: на адзін манер (у 2 знач.). *Думаў я, думаў, Васіль Іванавіч, і нічога лепшага не мог выдумаць, усё на адзін капыл выходзіць.* Лынькоў. *— Дарэчы, а ў гарадскіх клубах таксама фасады ва ўсіх аднолькавыя? — Не, чаму ж аднолькавыя? Розныя... — Вось бачыце. А чаму для вёскі вы робіце ўсё на адзін капыл?* Палтаран. *Добрую палову з іх [сцэнарыяў] напісаў сам. Іх няцяжка было напісаць, бо рабіліся яны заўсёды на адзін капыл.* Гаўрылкін.

**НА КАПЫ́Л** *які. Акал. Разм.* Якім-н. спосабам, на які-н. узор; так, як прынята, заведзена дзе-н. ці ў каго-н. **Сін.**: на манер (у 1 знач.). *Быў я ў мінулым годзе ў брата ў Харкаве. Дык у іх горадзе ўсё на другі капыл.* Лынькоў. *А некалі ён [Гельскі] гандляваў... На паўпанскі капыл выраўняцца стараўся.* Чорны.

**НА СВО́Й КАПЫ́Л**. *Акал. Разм. Неадабр.* Па-свойму, на свой узор, лад (рабіць, зрабіць што-н.). *Рыгор і дагэтуль гне на свой капыл усё ў хаце, але, апроч неладоў, нічога з гэтага няма.* Чорны. *Замуж Насту выдам у суседнюю вёску. Не хацела ж яна, дужа не хацела, ды бацька твой упарты чалавек — усё на свой капыл варочае...* Каваль. *Улады ўсялялі рымлянам усведамленне безумоўнай перавагі над усімі народамі, даводзілі, што свет трэба перарабіць на свой капыл.* Караткевіч.

*КАПЫЛІЦЬ* • **КАПЫ́ЛІЦЬ ГУБУ́ (-Ы)**. *Незак. Прост. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Крывіцца, выражаючы незадаволенасць, злосць. **Сін.**: крывіць губы. *Жанчыны дык толькі нюхалі спірт, чмыхалі, капылілі губы. Ім бы чаго салодкага.* Мыслівец. **ЗАКАПЫЛІЦЬ ГУБУ (-Ы)**. *Зак. Скіба гумару ў сітуацыі не зразумеў, ён адно чмыхнуў і, як кажуць, закапыліў губу, бо калі грыбы пачнуць расці на людской хаце — тут не да смеху.* Кажадуб.

**КАПЫ́ЛІЦЬ НО́С**. *Незак. Прост. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі важнічаць, зазнавацца, фанабэрыцца. **Сін.**: драць нос; завысока ляцець; задзіраць хвост; несці сябе высока; паднімаць хвост; распускаць <павіны> хвост; хварэць на пана (у 2 знач.). *Дзівак-чалавек, грошы яму з неба падаюць, а ён капыліць нос.* М.Стральцоў. *— На развод падаў... — Хто? Ты?.. Раней жа ўсё яна нос капыліла. Палохала...* «Маладосць».

*КАПЫЛОЎ* • **З КАПЫЛОЎ <ДАЛОЎ>**. Гл. далоў.

*КАПЫТА* • **РВАЦЬ З КАПЫТА**. Гл. рваць.

*КАПЫТОЎ* • **З КАПЫТОЎ <ДАЛОЎ>**. Гл. далоў.

**З УСІ́Х КАПЫТО́Ў** *бегчы, імчаць* і пад. *Акал. Прост.* Вельмі хутка. Звычайна пра коней. **Сін.**: з усіх чатырох (у 1 знач.). *Разгарачаны малады жарэбчык імчаў з усіх капытоў.* Леванові́ч. *Вясёлая Эмка бегла з усіх капытоў і «дабавіла» мяне ў райцэнтр гадзіны за дзве.* Пянкрат.

*КАПЫТЫ* • **АДКІДВАЦЬ КАПЫТЫ**. Гл. адкідваць.

**ЗАДЗІРАЦЬ КАПЫТЫ**. Гл. задзіраць.

*КАРА* • **ЕГІ́ПЕЦКАЯ КА́РА**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Нязносна цяжкае становішча, бяда, бядота. *[Руф:] Вы нам, як родныя, айцец. Пан доктар вывеў нас з егіпецкае кары, ад смерці нас у дарозе ратаваў, тут захаваў ад ворагаў.* Клімковіч. *[Ухватаў:] Я табе такую кару егіпецкую зараз прынясу, на ўсё жыццё табе хопіць!* Макаёнак.

*КАРАБЛІ* • **ПАЛІЦЬ СВАЕ КАРАБЛІ**. Гл. паліць.

*Разысціся, разыходзіцца* і пад. **ЯК У МО́РЫ КАРАБЛІ́**. *Акал. Разм.* Назаўсёды, канчаткова. *А далей? Ні-чо-га... Разышліся як у моры караблі... Ён паехаў вучыцца, а я паступіла ў педагагічны.* Э.Валасевіч. *Пабудуць [Валянцін з Мар'янавай дачкой] месяц разам у вёсцы і раз'едуцца, разыдуцца як у моры караблі ці, наадварот, сыдуцца.* Казько. *Вас нішто не звязвае, разыдзіцеся з ёй як у моры караблі.* Зарэмба. *Там укалвае класны кузаўшчык. Ён лішняга не возьме... Хлопец прыкіне, чым рамонт абернецца. Ты разлічыся і — раз'ехаліся як у моры караблі.* Маракоў.

*КАРАБЛЯ* • **З КАРАБЛЯ́ НА БА́ЛЬ** *трапляць, пападаць, прыязджаць* і пад. *Акал. Разм.* На нечаканы занятак адразу ж пасля прыезду адкуль-н. *Вярнуўшыся ў Мінск, артысты трапілі, што называецца, з карабля на баль: трактаразаводцы папрасілі іх выступіць у святочным канцэрце.* «ЛіМ». *Вярнуўшыся з Польшчы, Магілёўцаў папаў, як кажуць, з карабля на баль. На заводзе была інтэнсіўная падрыхтоўка да пераабсталявання, замены старых абарачальных печаў прынцыпова новымі.* Макарэвіч. *У нас доўгі час не было старшага ўрача батальёна. Вы прыехалі ў гарачую пару. Проста з карабля на баль...* Алешка.

*КАРАБОЎ* • **СЕ́М КАРАБО́Ў; ТРЫ́ КО́РАБЫ** *нагаварыць, наплесці* і пад. *Акал. Жарт.-іран.* Вельмі многа і абы-чаго. **Сін.**: бочку арыштантаў; мех з торбай; мех і кайстру; сем вёрст да нябёс і ўсё лесам. *А цяпер спі, а то я табе нагаварыла сем карабоў.* Васілевіч. *От трашчотка! Сем карабоў нагаварыла. Не, каб накарміць добрых людзей.* Калодзежны. *Чаго ты абыходзіш мяне? І табе ўжо наплялі тры корабы.* Карпаў. *«Дык малец жа нічога не ведае пра Калатушкіна: намеле.. тры корабы...» — бядую я.* Місько.

*КАРАВУЛ* • **ХОЦЬ <ТЫ> КАРАВУЛ КРЫЧЫ**. Гл. крычы.

*КАРАК* • **ДОЖДЖ ЗА КАРАК НЕ ЛЬЕ**. Гл. дождж.

**МЫЛІЦЬ КАРАК** *каму*. Гл. мыліць.

**САДЗІЦЦА НА КАРАК** *каму, чый, каго*. Гл. садзіцца.

**САДЗІЦЬ НА КАРАК** *чый, каму, каго*. Гл. садзіць.

**У КАРАК**. Гл. шыю.

*КАРАЛЮ* • **КУМ КАРАЛЮ <І СВАТ МІНІСТРУ>**. Гл. кум.

*КАРАНІ* • **ПУСКАЦЬ КАРАНІ**. Гл. пускаць.

*КАРАНДАШ* • **БРАЦЬ НА КАРАНДАШ** *каго, што.* Гл. браць.

*КАРАЧКАХ* • **НА КАРА́ЧКАХ** *паўзці, стаяць* і пад. *Акал. Разм.* Адначасова на абедзвюх руках і нагах. **Сін.**: на чацвярэньках. *Хістаючыся, як п'яны, Андрэй на карачках перапез кювет, з цяжкасцю выпрастаўся.* Караткевіч. *Штаны на каленях выцерліся, быццам Гаравы недзе доўга поўзаў на карачках.* Асіпенка.

*КАРАЧКІ* • **НА КАРА́ЧКІ**. *Акал. Разм.* **1**. Адначасова на абедзве рукі і нагі (станавіцца, паднімацца, апускацца і пад.). **Сін.**: на чацвярэнькі. *Ён [лейтэнант] зноў падняўся, спярша на карачкі, затым на калені, пасля слабым рыўком і вялізным намаганнем — на абедзве нагі.* Быкаў. *Валерык ускудлачыў валасы, стаў на карачкі, грозна засоп і пасунуўся пад паветку...* Шашкоў.

**2**. Сагнуўшы ногі ў каленях і трымаючыся на насках (сесці, прысесці). **Сін.**: на кукішкі. *Рэшта прыдворных размясцілася як хто хацеў: частка стаяла навакол, а большая частка прысела на карачкі.* Маўр. *Уладзімір прыгнуўся, а Саша прысеў на карачкі.* Хадкевіч.

*КАР'ЕР* • **З МЕСЦА Ў КАР'ЕР**. Гл. месца.

*КАРКА* • **НЕ ЗЛАЗІЦЬ З КАРКА** *чыйго.* Гл. злазіць.

*КАРКАМ* • **СТАЯЦЬ НАД КАРКАМ** *у каго.* Гл. стаяць.

*КАРКУ* • **ВІСЕЦЬ НА КАРКУ** *ў каго, чаго, чым.* Гл. вісець.
**ДАЦЬ ПА КАРКУ** *каму.* Гл. даць.
**ЕЗДЗІЦЬ НА КАРКУ** *чым.* Гл. ездзіць.
**ЗЛАЗІЦЬ З КАРКУ** *чыйго.* Гл. злазіць.
**НА ЧУЖЫМ КАРКУ Ў РАЙ ЕХАЦЬ**. Гл. ехаць.
**СЯДЗЕЦЬ НА КАРКУ** *чым, у каго, каго.* Гл. сядзець.

*КАРМІ* • **ХЛЕ́БАМ НЕ КАРМІ́** *каго. Толькі ў заг. л. У безас. ужыв. Разм.* Часцей перад словамі *толькі дай; а дай* і пад. Каму-н. нічога іншага не трэба, апрача таго, пра што гаворыцца. *Збягаліся цікаўныя да сенсацый разявакі, газетныя рэпарцёры і ўсякі іншы народ, якога хлебам не кармі, а дай рэдкае відовішча.* Лынькоў. *Цікавы народ у нас, любіць чужыя косткі перамываць. Хлебам не кармі, толькі дай папляткарыць.* Машара. *Куранёўцы слухалі яго без цікавасці, дзе-нідзе пасмейваліся; ведалі — Рудога хлебам не кармі, а дай слова сказаць.* Мележ.

*КАРМІЦЬ* • **КАРМІ́ЦЬ АБЯЦА́НКАМІ** *каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Абяцаць зрабіць што-н. у хуткім часе і не выконваць абяцанага. *Цётка ведала дабрату свайго пляменніка: толькі абяцанкамі корміць.* Лобан.

**КАРМІ́ЦЬ БЛО́Х (ВО́ШАЙ, КЛАПО́Ў)** *дзе. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знаходзіцца ў цяжкіх, антысанітарных умовах. *Больш як тры гады тут мы блох у акопах кармілі.* Кацюшэнка. *[Павел Няміра:] Са станцыі дадому цягнуся. Добры інтэрас, тут будуць зямлю дзяліць, а я каб там [на фронце] вошай карміў?* Чорны. *Добры — не тое слова. Я з ім яшчэ ў канцлагеры разам вошай карміў. Радней брата...* Місько. *У Беластоку я тры месяцы карміў клапоў на кватэры ў нейкай збяднелай ушчэнт рускай дваранкі, бабулі з вывіхамі...* Шамякін.

**ХЛЕ́БАМ КАРМІ́ЦЬ** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы і зборн. прадмета. Забяспечваць сродкамі для жыцця. — *Свішчы, свішчы! — сказаў Васіль. — Паглядзі ідзі, ці цэлыя капцы, а то дарма хлебам кормяць цябе.* Колас. — *Ідзі, — падагнала яго Ларыса. — Не трэба гнявіць начальства, яно нас хлебам корміць, — сказала яна са шпількаю.* Дамашэвіч.

*КАРОВА* • **ДО́ЙНАЯ КАРО́ВА.** *Мн. не ўжыв. Часцей вык. Разм. Неадабр.* Крыніца матэрыяльных даброт, якой можна несумленна карыстацца ў асабістых мэтах. **Сін.**: бяздонная бочка (у 1 знач.). *Гэта ненаедны чалавек ператварыў яе [яблыню] у дойную карову, гэта ён паставіў яе на мыліцы подпор, прымусіў стагнаць і крактаць пад цяжарам плоду свайго.* Лобан. *[У дваццаціпяцітысячнікаў] нешта святое за душою было. Сурмілы іншыя... Для сурміл вёска — дойная карова, трамплін для пасады ў горадзе.* Блакіт. *[Валянцін:] Мастацтва на сённяшні дзень аддадзена амаль адным прахіндзеям, якія робяць з яго дойную карову.* Гігевіч.

**ЯК З КАЗЫ́ КАРО́ВА.** *Вык. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нявартасны, нікудышны, неадпаведны назве, месцу, пасадзе і пад. **Сін.**: як з гразі куля. *Толькі закінулі [вуды], а ў мяне ўжо торгаецца жылка, чую, узяло, я раз — і падсек акуньчыка, а там другога. Я пяць, Паша аднаго, ну, а з Шуры рыбак, даруй, Шура, як з казы карова.* Шырко. [*Лепешаў*, с. 86: як з казы карова.]

**ЯК (ЯК БЫ) КАРО́ВА ЯЗЫКО́М ЗЛІЗА́ЛА** *каго, што. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. бясследна знік, перастаў існаваць ці што-н. раптоўна знікла. **Сін.**: як вадой змыла (у 2 знач.); як ветрам здзьмула (у 2 знач.); як <і> не было (у 2 знач.). *У мяне сабе будзеце і масціць, і ездзіць. І дарожніц я вам не дам. А не — прэміяльныя як карова языком зліжа...* Пташнікаў. *Жылі дружна, наладзілі такую-сякую гаспадарку, займелі чацвёра дзяцей, і на табе — усё як карова языком злізала. Пачалося з таго, што раптоўна, у адну ноч, памерла трое дзяцей — учадзелі.* Дайнека. *Усю рашучасць маю як карова языком злізала.* Радкевіч.

*КАРОВЕ* • **ЯК НА КАРОВЕ СЯДЛО**. Гл. сядло.

*КАРОВЫ* • **З-ПАД КАРО́ВЫ** <u>*малако*</u>. *Акал. Разм.* Толькі што надоенае; сырадой. *Бедныя, нават не ведаюць, што малако з-пад каровы якраз цёплае!..* Карпюк. *Андрэйка асушыў паўлітровы кубак свежага, з-пад каровы, малака.* Супрунчук.

**МАЛАКО АД ШАЛЁНАЙ КАРОВЫ**. Гл. малако.

*КАРОЛЬ* • **ГО́ЛЫ КАРО́ЛЬ**. *Мн. не ўжыв. Вык. Разм. Іран.* Пасрэдны чалавек з прэтэнзіяй на аўтарытэт ці з перабольшаным аўтарытэтам. *Уяўляеце вы сабе сімпатычнага брандахлыста, фантазёра, які проста голы кароль?* Караткевіч. *Мне думаецца, палітыка тут ясная: праглынуць Кунцэвіча з яго мільёнамі, на чужым гарбу ў рай уехаць — раз, апынуцца ў ролі голага караля, застацца, у рэшце рэшт, ля разбітага карыта — два...* Блакіт.

**КУДЫ́ І КАРО́ЛЬ ПЯШКО́М ХО́ДЗІЦЬ**. *Акал. Разм.* У туалет (ісці, бегаць і пад). *Пад Новы год я ляжаў з гарачкай амаль 39°, пульс 110—120, няроўны. І кожныя паўгадзіны і ўдзень, і ўночы мусіў хадзіць ці, лепш кажучы, бегаць куды і кароль пяшком ходзіць.* Забэйда-Суміцкі.

*КАРОМЫСЛАМ* • **ДЫМ КАРОМЫСЛАМ <ІДЗЕ>**. Гл. дым.

*КАРОНА* • **КАРО́НА З ГАЛАВЫ́ НЕ СПАДЗЕ́ (НЕ ЗВА́ЛІЦЦА)** *у каго, каму. У безас. ужыв. Разм.* Нічога асаблівага не здарыцца з кім-н., чый-н. гонар не будзе закрануты, аўтарытэт не паменшае. **Сін.**: карона не зваліцца *з каго. Пры размове будзьце ветлівымі, не хвалюйцеся, не абурайцеся з-за.. глупства, з сябе не выходзьце. Калі нават людзі абражаць стануць — карона з галавы не спадзе...* Карпюк. *Эйш, панюся знайшлася надта! Карона з галавы не звалілася б, каб цмокнула б лішні раз у панскую ручку.* С.Александровіч. *Ну няўжо было цяжка яе маці звярнуцца да мяне самой. Карона б з галавы не спала ў яе. Не адмовіў бы.* Варановіч. *А калі і пачакаем хвіліну-другую, карона з галавы не зваліцца.* «Маладосць».

**КАРО́НА НЕ ЗВА́ЛІЦЦА (НЕ СПАДЗЕ́)** *з каго. У безас. ужыв. Разм.* Нічога асаблівага не здарыцца з кім-н., чый-н. гонар не будзе закрануты, аўтарытэт не паменшае. **Сін.**: карона з галавы не спадзе *ў каго, каму. Пагавары з ім як з чалавекам, нават, калі трэба, і прабачэння папрасі... Папрасі, папрасі, карона з цябе не зваліцца...* Дамашэвіч. *Ды зразумей жа ты! Падцягнуць адстаючую брыгаду трэба! Цябе ж і так ўсе паважаюць, ты сам сабе цану ведаеш. Карона з цябе не зваліцца!* Кобец-Філімонава. — *Перастань, Ахрэм.. Павітаўся б лепш. — Павітацца можна — карона не спадзе.* Паўлаў. *Не панікаюць галавой [афіцэры], і тут карона з іх не спала, ім і ў палоне гора мала, і больш пачэсны ім канвой.* Колас.

*КАРОТКАЙ* • **НА КАРОТКАЙ НАЗЕ** *з кім.* Гл. назе.

*КАРОТКІ* • **КАРОТКІ ЗАВАРОТКІ** *ў каго, чые.* Гл. завароткі.

*КАРОТКІМІ* • **З КАРОТКІМІ ГУЖАМІ**. Гл. гужамі.

*КАРОТКІХ* • **НА КАРОТКІХ ХВАЛЯХ**. Гл. хвалях.

*КАРОТКІЯ* • **РУКІ КАРОТКІЯ** *ў каго.* Гл. рукі.

*КАРОТКУЮ* • **НА КАРОТКУЮ НАГУ**. Гл. нагу.

*КАРОЎКА* • **БО́ЖАЯ КАРО́ЎКА. 1.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Жучок чырвонай, жоўтай або белай афарбоўкі з плямкамі. *«Божая короўка, паляці на неба», — успомніла Рая, як некалі яны, дзеці, прасілі божую кароўку паляцець. І божая кароўка раптам выпрастала свае празрыстыя крылы, паляцела.* Арабей. *Растапырыўшы чырвоныя ў чорных крапінках крылкі, пераляталі з коласа на колас божыя кароўкі.* Ракітны.

**2.** *Мн. не ўжыв. Часцей у знач. вык. ці зваротка. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ціхі, бяскрыўдны чалавек, які не ўмее пастаяць за сябе. *[Чыбук:] А ты, божая короўка, не кіпі! І язык пачасаць нельга!* Мележ. *[Стась:] Сінічкін — шпіён, даю галаву на адсячэнне. [Бронюс:] Божая кароўка — шпіён? Не-е... Гэты занятак не для яго.* Зуб. — *Калі нам выдадуць пасведчанні, што мы прайшлі Арктыкай... — За твой язык наўрад ці... — Сціхні, божая кароўка, — адмахнуўся Максім.* Крыга.

*КАРТА* • **КА́РТА БІ́ТА** *чыя, каго. Часцей адз. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. пацярпеў поўную няўдачу ў чым-н. **Сін.**: козыр біты *чый, каго;* козыр выбіты з рук *каго, чыіх;* стаўка біта *чыя, каго. Скажу вам проста і адкрыта, што ваша карта будзе біта!* Колас. — *Кінь, Вацік, ламацца, гавары, што было, — умяшаўся Суслік. — Усё роўна наша карта біта.* Новікаў. *[Следчы:] Таварыш Ражноўскі, карта варожых сіл біта.* Галубок.

*КАРТАЧНЫ* • **КАРТАЧНЫ ДОМІК**. Гл. домік.

*КАРТКА* • **ВІЗІ́ТНАЯ КА́РТКА** *каго, чаго. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Індывідуальнае аблічча, знешнія прыкметы, характэрныя для каго-, чаго-н. *Цудоўная мелодыя, шчасліва знойдзеная Несцерам Сакалоўскім, можна сказаць, стала візтнай карткай кампазітара, што ўвекавечыў ў беларускай музыцы і сябе, і верш нашага вядомага паэта.* Вітка. *Візітная картка тэатра — яго рэпертуар. Зусім не новы тэзіс, праўда? Паглядзеўшы амаль увесь гастрольны рэпертуар калінінцаў, я надумала сказаць інакш: візітная картка гэтага калектыву — работа акцёраў.* «ЛіМ». *Напісаная ў пачатку 70-х гадоў, аднайменная песня Ігара Лучанка стала своеасаблівай візітнай карткай новага вакальна-харэаграфічнага ансамбля...* «Чырв. змена».

*КАРТУ* • **ПАСТАВІЦЦА НА КАРТУ**. *Зак. да* **СТАВІЦЦА НА КАРТУ**.

**РАЗЫГРЫВАЦЬ КАРТУ** *чыю.* Гл. разыгрываць.

**СТАВІЦЦА НА КАРТУ**. Гл. ставіцца.

**СТАВІЦЬ НА КАРТУ** *што.* Гл. ставіць.

*КАРТЫ* • **АДКРЫВАЦЬ <СВАЕ> КАРТЫ** *каму.* Гл. адкрываць.

**БЛЫТАЦЬ <УСЕ> КАРТЫ** *каму, чые, каго.* Гл. блытаць.

**ВЫКЛАДВАЦЬ <СВАЕ> КАРТЫ <НА СТОЛ>**. Гл. выкладваць.

**<І, УСЕ́> КА́РТЫ Ў РУ́КІ** *каму. У безас. ужыв. Разм.* У каго-н. ёсць усе падставы, магчымасці зрабіць, выканаць што-н.; хто-н. найбольш падыходзіць да чаго-н. (сваімі ведамі, вопытам і пад.). **Сін.**: <і> кнігі ў рукі *каму;* сцяг у рукі *каму. Мы на станцыі ствараем спецыяльны аддзел. Вам, як кажуць, і карты ў рукі.* Дуброўскі. *[Патап:] А як жа, як жа... Былы жывёлавод! І карты ўсе ў рукі.* Ракітны. *Тут выпадак сапраўды незвычайны. Але тут сядзіць сакратар... Яму, як кажуць, карты ў рукі.* Шамякін.

**ТРУС У КАРТЫ НЕ ГУЛЯЕ**. Гл. трус.

**<УСЕ́> КА́РТЫ ЗМЕ́ШАНЫ (ЗБЛЫ́ТАНЫ, ПЕРАБЛЫ́ТАНЫ)** *чые, каго. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Чые-н. планы, намеры, разлікі разладжаны, разбураны. *Адным словам, пан Зыгмусь быў аглушаны, а ўсе яго карты аказаліся змешанымі.* Колас. *Усе карты пераблытаны, усе прагнозы як ішак злізаў.* «Полымя».

**<УСЕ́> КА́РТЫ РАСКРЫ́ТЫ** *чые. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Чые-н. планы, намеры, дзеянні выяўлены, перасталі быць тайнай каго-н. *Пра гэта трэба было спытаць у самым канцы, калі б мы ўжо раскусілі, што за птушка пакупнік нашай солі. Але маскіравацца позна, нашы карты раскрыты...* Навуменка. *Вядома, самае галоўнае — бацька Гром. Ясна, што паблізу яго павінны быць і яго памагатыя... Ну, і тады ўсе карты будуць раскрыты. І, нарэшце, стане ціха.* Скрыган.

*КАРШЭНЬ* • **У КАРШЭНЬ**. Гл. шыю.

*КАРЫ* • **НА КАРЫ КАША** *каму.* Гл. каша.

*КАРЫСЦЬ* • **ГАВАРЫЦЬ НА КАРЫСЦЬ** *каго, чаго, чыю.* Гл. гаварыць.

*КАРЫТА* • *Заставацца, апынуцца, сядзець* **ЛЯ РАЗБІ́ТАГА КАРЫ́ТА**. *Акал. Разм.* Без нічога, страціўшы ўвесь ранейшы набытак. **Сін.**: без штаноў; з носам; з такам; на бабах; ні з чым; нясолана хлябаўшы; перад разбітым карытам; пры пікавых інтарэсах. *Не было межаў яго [Марцінаваму] натхненню і надзеям. І вось вынік: засталіся ля разбітага карыта.* Каваленка. *І нам.. ой як думаць трэба, каб зноў не астацца ля разбітага карыта.* Сачанка. *Пагонішся за шчасцем казачным нібыта і можаш апынуцца ля разбітага карыта.* Э.Валасевіч.

**РАЗБІ́ТАЕ КАРЫ́ТА**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Няспраўджаныя надзеі ў сувязі са стратай ранейшага набытку. *[Кусонскі:] Урад даўно трэба было б сфарміраваць толькі з ваенных. Каб так зрабілі ў свой час — мы сёння не бедавалі б над разбітым карытам.* Губарэвіч. *[Стараста:] Грамада, як бачыце, прывяла да разбітага карыта і нічога беларускаму народу не дала, апрача кар, ахвяраў і турмаў.* Пестрак. *Жывуць маладажоны, як у раі іх продкі, ды толькі рай куплёны занадта быў кароткі, бо цесцю не ўдалося зрабіць усё шыта-крыта... І «дзецям» засталося разбітае карыта.* Скрыпка.

*КАРЫТАМ* • Апынуцца, аказацца і пад. **ПЕ́РАД РАЗБІ́ТЫМ КАРЫ́ТАМ**. *Акал. Разм.* Без нічога, страціўшы ўвесь ранейшы набытак. **Сін.**: без штаноў; з носам; з такам; ля разбітага карыта; на бабах; ні з чым; нясолана хлябаўшы; пры пікавых інтарэсах. *І ўжо здавалася яму [Боўціку], што ён вось-вось выявіць усю падпольную арганізацыю, але ўсе спадзяванні яго праваліліся ў адзін дзень, і ён апынуўся перад разбітым карытам.* Лынькоў. *[Кусонскі:] І мы зараз апынуліся перад разбітым карытам... Дзякуючы саманадзейнасці Карнілава...* Губарэвіч.

*КАРЫЧНЕВАЯ* • **КАРЫЧНЕВАЯ ЧУМА**. Гл. чума.

*КАРЭННЕ* • **ПУСКАЦЬ КАРЭННЕ**. Гл. пускаць.

*КАРЭННЕМ* • **ВЫРЫВАЦЬ З КАРЭННЕМ** *што*. Гл. вырываць.

*КАРЭННЯ* • Чырванець (пачырванець) **ДА КАРЭ́ННЯ ВАЛАСО́Ў**. *Акал. Функц. не зам.* Вельмі моцна. *Віктар падумаў, што зараз пачырванее, і тут жа пачырванеў да карэння валасоў.* Карпаў. *Іван.. сарамлівы, ад простых ласкавых слоў чырванеў да карэння валасоў.* Дамашэвіч.

*КАРЭТЫ* • **ЯК ВОЛ ДА КАРЭТЫ**. Гл. вол.

*КАСА* • **НАЙШЛА́ (НАСКО́ЧЫЛА) КАСА́ НА КА́МЕНЬ** *<у каго>. У безас. ужыв. Разм.* Сутыкнуліся розныя непрымірымыя погляды, інтарэсы, характары і пад. **Сін.**: зуб за зуб зайшоў *у каго з кім. — Вось добра, што ўсе сабраліся, бо ў нас тут найшла каса на камень, — праказаў Якуб Гаманёк, запрашаючы ўсіх сесці.* Броўка. *Некаторыя з хлопцаў паціху смяяліся, другія мнагазначна перамігваліся — найшла каса на камень — хто каго?* Лынькоў. *Па ўсім было відаць, што наскочыла каса на камень: чым настойлівей Раман дамагаўся збіць цану, тым меней уступаў Прахор, зразумеўшы, што пакупніку кабыла вельмі патрэбна.* Макаёнак. *За сталамі прыціхлі. Якія ні былі п'яныя, пачулі — наскочыла каса на камень.* Мележ. *Ат, ды што гэта я, сват вам які, ці што!.. Найшла ў вас каса на камень, і адно аднаму дарогу саступіць не хочаце. Ды мне што!* Кірэйчык.

*КАСЕ* • **ПАКАЗВАЦЬ КАСЕ КУКІШ**. Гл. паказваць.

*КАСІ* • **ХО́ЦЬ КАСО́Й КАСІ́** *чаго. Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм.* Вельмі многа, у вялікай колькасці. Звычайна пра грыбы. **Сін.**: хоць вазамі вазі *чаго;* хоць граблямі грабі *чаго, каго;* хоць касу закладвай *чаго. І адразу вёску абляцела навіна: у Курганні баравікоў хоць касой касі.* Кірэенка. *Спачатку за Балачанкай будзе густы, непралазны хвойнік, дзе іншы раз пад восень маслякоў і варнянак хоць касой касі...* Кухараў. *А потым і грыб папаўся. Заглянула ў беразнячок, а іх там хоць касой касі.* Гаўрылкін. *Надвечар.. [Ірына і Сяргей] хадзілі па ляску, шукалі ландышы, якіх летась — сцвярджаў Сяргей — было тут хоць касой касі.* Рубанаў.

*КАСІЦЬ* • **КАСІ́ЦЬ ДУГО́Й**. *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Неназапасіўшы корму для жывёлы, выпрошваць, купляць, пазычаць яго. *Было б каму зай-*

*здросціць! Што ж, хоць і грамаці малавата, але не ён [Кунцэвіч], а вучоны Сурміла косіць дугою... А фанабэрыі колькі.* Блакіт. У *Пілipaўку дугою паедзеш касіць?* Мыслівец. *Не на той дарожцы сваіх хлопцаў-механізатараў выкарыстоўваеш. Дугой касіць — не справу рабіць. Аб кармах летам дбаць трэба.* «Вожык».

**САБА́КАМ СЕ́НА КАСІ́ЦЬ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Бадзяцца дзе-н., займаючыся пустой ці невядома якой справай. **Сін.**: абіваць бакі (у 2 знач.); адлежваць бакі (у 2 знач.); акалочваць (акалачваць) грушы <з вербаў>; біць байды; біць бібікі; біць лынды (у 1 знач.); біць тылылы; брынды біць; валяць дурня (у 2 знач.); вераб'ям дулі паказваць; ганяць сабак <*па чым*>; корчыць гультая; лічыць варон (у 2 знач.); ляжаць на баку; пляваць у столь; сачка давіць. — *А дзядзькі Лаўрэна няма ў хаце?.. — Пайшоў сабакам сена касіць твой дзядзька Лаўрэн, — адказала Тэкля. — Заеў ён маё жыццё са сваім паляваннем, от што! — На паляванне пайшоў? — А то куды ж!* Самуйлёнак. *А дзе ж маёнткі цяпер? А дзе цяпер паны? Сабакам сена косяць, як кажуць старыя.* Брыль. *Чужыя людзі ў гаспадарцы працуюць, а сын сабакам сена косіць.* Машара. *Кузьма вярнуўся з Латвіі... Памкнуўся раз пайсці да бацькі, але той сустрэў яго такімі словамі: — Чаго ты прыйшоў? Ідзі туды, дзе быў... Ідзі сабакам сена касіць. Зямлі хочаш? Не дам.* Пестрак. — *На цябе паступіў данос, — адводзячы позірк убок, паведаміў Скакун. — Вадзіў дружбу з тымі, хто зараз сабакам сена косіць. З бандытамі, якія ўцяклі ў лес.* Навуменка.

**2**. Знаходзіцца невядома дзе, хаваючыся ад сям'і. — *Ціха, ён паскардзіцца бацьку, тады будзе вам. — Бацьку... О-го-го-го!— лопаліся з рогату жываты. — Бацьку... Той недзе сабакам сена косіць! Няхай паспрабуе, знойдзе.* Мурашка. *Пра Васіліну хадзіла па вёсцы шмат плётак. Адно было вядома дакладна: трое дзяцей яе ад розных мужоў, пра якіх Васіліна казала, што яны косяць сабакам сена.* Асіпенка. — *А дзе ж твой? — Ай, маўчы ты. Сабакам сена косіць. Развяліся, Тамарачка.* Сіпакоў.

*КАСОЙ* • **ХОЦЬ КАСОЙ КАСІ** *чаго.* Гл. касі.

*КАСУ* • **ХОЦЬ КАСУ ЗАКЛАДВАЙ** *чаго.* Гл. закладвай.

*КАСЦЕЙ* • **ДА КАСЦЕ́Й**. *Акал. Разм.* Вельмі моцна, наскрозь (прамокнуць, прамерзнуць; прабірае, пранізвае, праймае і пад.). **Сін.**: да <апошняй> ніткі; да мозгу касцей (у 2 знач.); па <самыя> вушы (у 1 знач.). *Хлопцы сядзелі на нарах і моўчкі глядзелі на прамерзлага да касцей партызана, які ля печы здымаў боты.* Карпюк. *За дзесяць-пятнаццаць мінут вецер праняў да касцей.* Шамякін. *Раніцы холад прабіраў да касцей, хоць ветру не было.* Дуброўскі.

**ДА МОЗГУ КАСЦЕЙ**. Гл. мозгу.

**<I> КАСЦЕЙ НЕ ЗБЯРЭ**. Гл. збярэ.

**КУДЫ КРУМКАЧ КАСЦЕЙ НЕ ЗАНОСІЎ**. Гл. крумкач.

**ЯЗЫК БЕЗ КАСЦЕЙ** *у каго.* Гл. язык.

*КАСЦЬМІ* • **БАРАБАНІЦЬ КАСЦЬМІ**. Гл. барабаніць.

**КАСЦЬМІ КЛАСЦІСЯ**. Гл. класціся.

**ЛЕГЧЫ КАСЦЬМІ**. Гл. легчы.

*КАСЦЮМЕ* • **У КАСЦЮ́МЕ АДА́МА**. *Часцей азн. Разм. Жарт.* Без усякага адзення, голы. Пра мужчыну. **Сін.**: у чым маці нарадзіла. *А тут будзеце адпачываць ад спякоты. Можна прымаць паветраныя ванны — хі-хі — у касцюме Адама, ніхто не патрыво-*

*жыць.* Ваданосаў. *[Бажашуткава:] Няхай яны гэтай гармоніяй у музеях цешацца. Там усе статуі ў касцюмах Адама і Евы.* Матукоўскі.

**У КАСЦЮМЕ ЕВЫ**. *Часцей азн. Разм. Жарт.* Без усякага адзення, голая. Пра жанчыну. **Сін**.: у чым маці нарадзіла. *Яшчэ імгненне — дзверы расчыніліся, і на парозе з'явілася маладая стройная дзяўчына ў касцюме Евы. Убачыўшы Марыну, войкнула, бразнула цяжкімі дзвярыма.* Радкевіч. *[Клава:] Я звычайна кладуся спаць, даруйце, у касцюме Евы.* Б.Стральцоў. *Героі фільма (гераіня ж, вядома, у касцюме Евы) ляцяць на касмічным караблі, жадаючы расправіцца з жорсткім валадаром далёкай планеты.* Мальдзіс. *— Здаецца, газета ў сумачцы, — Ларыса пратэпала басаномж, у касцюме Евы, у другі пакой, вярнулася.* Левановіч.

*КАСЦЯМІ* • **ЗАГРЫМЕЦЬ КАСЦЯМІ**. Гл. загрымець.

*КАСЦЯХ* • **НА КАСЦЯХ** *каго, чаго, чыіх. Акал. Разм. Неадабр.* Цаной вялікіх ахвяр (будаваць, рабіць што-н., дасягаць чаго-н.). *Былыя каранаваныя заканадаўцы будавалі свае дзяржаўныя акты на народных касцях.* Чорны.

*КАСЫ* • **КАСЫ САЖАНЬ У ПЛЯЧАХ**. Гл. сажань.

*КАТА* • **ГУЛЬНЯ Ў КАТА І МЫШКУ**. Гл. гульня.
**ГУЛЯЦЬ У КАТА І МЫШКУ**. Гл. гуляць.
**КУПЛЯЦЬ КАТА Ў МЯШКУ**. Гл. купляць.
**ПАГУЛЯЦЬ У КАТА І МЫШКУ**. Гл. пагуляць.
**УКІНУЦЬ КАТА Ў ХАТУ** *чыю, каму.* Гл. укінуць.
**ЦЯГНУЦЬ КАТА ЗА ХВОСТ**. Гл. цягнуць.

*КАТЛЕ* • **ЯК У КАТЛЕ**. Гл. гаршку.

*КАТНІХ* • **З КАТНІХ РУК**. Гл. рук.

*КАТОРЫ* • **КУДЫ КАТОРЫ (-АЯ)**. *Акал. Разм.* У розныя бакі (разбягацца, хавацца і пад.). **Сін**.: хто куды. *Пакуль ён [Любчын бацька] быў ля нас, мы маўчалі. А калі адыходзіў, уздымалі такі лямант, крык, свіст, што хоць вушы затыкай. І тут жа разбягаліся куды каторы.* Сіняўскі. *[Мядзведзь] і коні на начлезе так напужае, што паразбягаюцца куды каторы, за тры дні людзі не пазнаходзяць.* Ермаловіч. *Пад канец гулянкі мы ўсе разам раптам заспявалі песню, ды так голасна, што ўсе птушкі паразляталіся куды каторая...* Шахавец.

*КАТОЎСКАГА* • **ПАД КАТОЎСКАГА** *стрыгчы, стрыгчыся, падстрыгчы* і пад. *Акал. Праст.* Дагала, зусім, поўнасцю. *Сядай і пішы ўсё, як было, а мы яму для прафілактыкі — пятнаццаць сутак і падстрыжом пад Катоўскага, няхай усе бачаць, што за хуліганства бывае...* Праўдзін. *Промні яшчэ ласкавага цёплага сонца поўнымі жменямі сыплюцца з тваёй стрыжанай пад Катоўскага галавы...* Казько.

*КАТРЫНКУ* • **ЗАВЕСЦІ СВАЮ КАТРЫНКУ**. Гл. завесці.
**ЗАВОДЗІЦЬ КАТРЫНКУ**. Гл. заводзіць.

*КАТУ* • **КАТУ ПАД ХВОСТ**. Гл. хвост.
**КАТУ ПА ПЯТУ**. *Вык. і азн. Разм. Жарт. ці іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі малы, невысокі, нізкарослы. **Сін**.: ад гаршка паўвяршка; ад зямлі не адрос; аршын з шапкаю; жабе па калена; з вузел; пад стол пяшком ходзіць. **Ант**.: з каломенскую вярсту; хоць <ты> сабак вешай *на кім. — Чаго ты крычыш? — абазвалася пакрыўджаная буфетчыца. — Я старая жанчына. Бач, які герой знайшоўся. Сам кату па*

*пяту, а распараджаецца.* Чорны. *Я ж і кажу: колькі таго старшыні — во, на адзін корх, кату па пяту, а глядзь ж ты, як гайкі пачаў закручваць.* Місько.

**ЯК КАТЎ**. *Акал. ці ў безас. ужыв. Разм.* Вельмі мала. **Сін.**: з вераб'ёў нос (у 1 знач.); з жабіны прыгаршчы *чаго;* з камароў нос (у 1 знач.); з макава зерне; кропля ў моры <*чаго*>; курам на смех (у 3 знач.); на жабін скок (у 2 знач.); на заячы скок; на капейку; на макава зерне; на пальцах можна пералічыць *каго, што;* на панюх табакі (у 1 знач.); на шэлег (у 1 знач.); не поле насеяна *каго;* раз-два і ўсё *каго, чаго;* <як> кот наплакаў *каго, чаго;* як старой бабе сесці. *На дне талеркі афіцыянт прынёс супу. Потым — другое, як кату...* Карпюк. *Што ты яму як кату лізнуць дала?* Мяжэвіч.

*КАТУШАК* • **З КАТУШАК ДАЛОЎ**. Гл. далоў.

**СЫХОДЗІЦЬ З КАТУШАК**. Гл. сыходзіць.

*КАТУШКУ* • **НА ПО́ЎНУЮ (НА ЎСЮ) КАТЎШКУ**. *Акал. Праст.* **1**. Па-сапраўднаму, належным чынам, як і трэба (рабіць што-н.). **Сін.**: па ўсіх правілах; чын па чыну; чын чынаром; чын чынам; чэсць па чэсці; як дунай (у 2 знач.); як мае быць (у 1 знач.). *Я на пенсію не пайду. Мне каб жыць і працаваць на поўную катушку. Я калі і кульнуся, то бегучы на ферму...* Місько. *Так яно, таварыш лейтэнант, лепшага і не прыдумаеш. Шыкоўна. А калі ўжо шыкаваць, як мне думаецца, дык на поўную катушку.* Хацкевіч. *Я, вядома, прадумана спланаваў, каб час ад цягніка да цягніка выкарыстаць разумна, на ўсю, як кажуць, катушку.* Кавалёў.

**2**. Вельмі строга (караць, штрафаваць і пад.). **Сін.**: на ўсю жалезку (у 2 знач.); па самае годзе (у 2 знач.). *З непаўналетняга зрабілі мяне дарослым. Судзіць можна ўжо. І даць на поўную катушку.* Чыгрынаў. *Накрылі начальніка, перамацалі падначаленых. Юрый атрымаў драбязу, калі мераць начальніцкай меркай: таму закаталі на ўсю катушку, далі поўную дзесятку, а яму, Юрыю, толькі год.* Навуменка. *А хіба ты ў мяне адзін? Іншым гаспадаркам таксама парасяткі трэба — і за гэта ўжо з мяне на ўсю катушку спытаюць.* «Вожык».

**3**. Спаўна, як толькі можна (рабіць што-н.). **Сін.**: на поўную сілу (у 2 знач.); на ўсе застаўкі (у 4 знач.); на ўсю жалезку (у 1 знач.); на ўсю іванаўскую (у 2 знач.); па самае годзе (у 1 знач.); па самае нельга; па самае не хачу. — *Кіньце малоць, Барысевіч, брыдка вас слухаць! — накідваюся звычайна я на земляка, калі ён ужо вось-вось гатовы распусціць свой язык «на поўную катушку».* Васілевіч. *І чалавек прачнуўся ў гэты час. Злавіў у скрынцы джаз і громкасць уключыў на ўсю катушку.* Гілевіч.

*КАТЭГОРЫЯ* • **ВАГАВА́Я КАТЭГО́РЫЯ**. *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Уплывова-ацэначная вартасць, велічыня каго- ці чаго-н. *З'езд мае быць больш прадстаўнічым, мець іншую вагавую катэгорыю, іншы рэзананс і ўплыў, чым з'езд сіл дэмакратычнага кшталту.* Якавенка. *Толькі вельмі розныя вагавыя катэгорыі маюць яны — вясковая жанчына з яе патрыярхальнымі ўяўленнямі і механічна-магутны прагматычны цывілізаваны свет, які забраў сына.* Пяткевіч. *Гугнявы заіка Заходзька, прагматык і рэаліст, як большасць тэхнароў, зразумеў, што ў яго не тая вагавая катэгорыя, і зняў сваю кандыдатуру.* Шамякін.

*КАЎБАСОЙ* • **КАЦІСЯ КАЎБАСОЙ**. Гл. каціся.

*КАЎНЕР* • **БРАЦЬ ЗА КАЎНЕР** *каго.* Гл. браць.

**ЗА КАЎНЕР НЕ КАПАЕ**. Гл. капае.

**ЗАКІДВАЦЬ ЗА КАЎНЕР**. Гл. закідваць.

**ЗАКЛАДВАЦЬ ЗА КАЎНЕР**. Гл. закладваць.

**ЗАЛІВАЦЬ ЗА КАЎНЕР**. Гл. заліваць.

*КАЎПАКОМ* • **ПАД КАЎПАКО́М** *каго, у каго. Вык. ці азн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У поўнай залежнасці ад каго-н. (знаходзіцца, быць, жыць і пад.). **Сін.**: пад абцасам *чыім, каго, у каго;* пад ботам *чыім, каго, у каго* (у 1 знач.); пад пятой *у каго, чыёй, каго;* у кіпцюрах *чыіх, каго;* у кулаку; у лапах *каго, чыіх;* у руках *чыіх, каго, у каго* (у 1 знач.). *Скора я буду браць вашага рэзідэнта, пачакаю толькі, пакуль управіцца.., а таму не ўздумайце мне перашкодзіць — вы ў мяне пад каўпаком.* Кусянкоў. *[Дзед Цыбулька:] Спрадвеку мужык пад каўпаком жыў...* Макаёнак.

*КАФТАН* • **ТРЫ́ШКАЎ КАФТА́Н (КАПТА́Н)**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Іран.* Непапраўнае становішча, сітуацыя, калі з ліквідацыяй адных недахопаў непазбежна ўзнікаюць другія. *Аднак не думай, план выконваем. Праўда, на пазычках часцей. У дзяржавы без аддачы грошы пазычаем на аплату дадатковай рабочай сілы. У прыроды — час. У рабочых пазычаем здароўе на звыштэрміновыя работы... Трышкаў каптан, адным словам.* Карпаў. *Задышка прымушае спыняцца і хапаць ротам паветра. Вось табе і малады чалавек! Зрэшты, я ведаў: гэта, лечачы лёгкія, я пасадзіў сэрца. Пракляты трышкаў каптан!.. Дранае ашмоцце, а не здароўе!* Быкаў. *Пакуль жа па скаргах жыхароў.. наязджаюць шматлікія камісіі, засядаюць у гарвыканкоме, нешта вырашаюць. Адным словам, латаюць славуты трышкаў кафтан.* «Звязда».

*КАЦІСЯ* • **КАЦІ́СЯ КАЎБАСО́Й (КІЛБАСО́Й, ЯЕ́ЧКАМ)**. *Незак. Праст.* Ужыв. пры адсутным дзейн. са знач. асобы. Выбірайся, ідзі прэч, вон адсюль. *Не ўсядзіш, саколік мой: вось дадзім табе па карку дый каціся каўбасой!* Крапіва. *[Пілін:] Ну, нацалуецца, намілуецца купчык, дзесятку якую суне ў зубы, ды каціся каўбасой.* Мрый. *[Камендант:] Вы ешчэ выць бэндзеце, не тылько плакаць!.. [Дзед Струкач:] Каціся кілбасой! Не вельмі што баімся цябе.* Козел. *— Ладна, — не слухалася гаспадыня, — ты мне тут.. язык не глытай, а забірай свайго Рахіма д[ы] каціся яечкам!* Чыгрынаў.

**ХО́ЦЬ БО́КАМ КАЦІ́СЯ**. *Толькі ў гэтай форме. Вык. ці азн. Разм.* Ужыв. пры дзейн., выраж. словамі *дарога, поле, сенажаць* і пад. Роўны, гладкі. *Улетку гэты прасёлак быў — хоць бокам каціся, і дваццаць пяць кіламетраў ад Сасновіч да райцэнтра. Данік на тым жа матацыкле, бывала, праскокваў за якіх мінут сорак.* Краўчанка. *— От некаму пашанцуе, дзялянка хоць бокам каціся, — гаманілі жанкі і мужчыны, разглядаючы біркі на тычках.* Грахоўскі. *Дарога падсінена-белая, хоць бокам каціся.* Карамазаў. *[Каса] хадзіла няроўна, клычыла траву, скакала, нягледзячы, што пожня была роўнаю, хоць бокам каціся.* Рубанаў.

*КАЦІЦЦА* • **КАЦІ́ЦЦА ПАД АДХО́Н**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Блізіцца да завяршэння. *Вайна шпарка кацілася пад адхон, днямі быў узяты Берлін, а мы ўперліся ў нямецкі абарончы рубеж за невялікім аўстрыйскім гарадком і трэці дзень стаялі на месцы.* Быкаў.

**КАЦІ́ЦЦА ЎНІ́З**. *Незак. Разм. Неадабр.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Маральна занепадаць, разбэшчвацца. **Сін.**: апускацца на дно; збівацца з дарогі; збівацца з панталыку (у 2 знач.); збівацца з толку (у 2 знач.); збівацца з тропу (у 2 знач.); ісці па крывой сцежцы; пакаціцца (паляцець) пад адхон (у 1 знач.); сыходзіць з рэек (у 2 знач.). *[Шукан] наносіў гэтым [п'янствам] вялікую шкоду ўсім: жонцы, дзецям, самому сабе, саўгасу. Усё больш і больш каціўся ўніз.* «Звязда». **СКАЦІ́ЦЦА ЎНІ́З**. *Зак. Як доб-*

*ра, што ні Рустамаў, ні Рабкоў не адштурхнулі яго, не далі скаціцца ўніз. Віктар стаў чалавекам.* Кобец-Філімонава.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Рэзка пагаршацца, развіваючыся ў неспрыяльным напрамку. **Сін**.: пакаціцца (паляцець) пад адхон (у 2 знач.). *Дысцыпліна ў цэху кульгала на абедзве нагі, вытворчыя паказчыкі, а разам з імі і зарплата, каціліся ўніз.* «Звязда». **СКАЦІЦЦА ЎНІЗ**. *Зак.*

*КАЦІЦЬ* • **КАЦІ́ЦЬ БО́ЧКУ (-І)** *на каго. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Несправядліва абвінавачваць каго-н., нагаворваць, паклёпнічаць на каго-н. *Назаўтра ў кабінеце старшыні райвыканкома Шугаева Цесля «каціў бочку» на суседа, ды спатыкнуўся.* Макаёнак. *— Вы мне даруйце, што я тады бочкі на вас каціў. — Вось дзівак! — засмяяўся Максім. — І словы якія ў цябе: «бочкі каціць».* Жалязоўскі. *Давялося бедному Міколу несці фельетон свой брыгадзіру. Той адразу ўзняўся на дыбочкі. — Гэта ж на мяне ты коціш бочкі!* Сушко.

**2**. Накідвацца на каго-н. з папрокамі, абвінавачваннем; прыдзірацца да каго-н. *[Журбіна:] Ты, Іван, дармо на старшыню бочку коціш, словамі такімі раскідваешся...* Матукоўскі. *[Адвернік:] Не кожнаму ўдаецца на свае вочы такога чалавека ўбачыць, які на самога папу рымскага бочку коціць...* Петрашкевіч.

*КАЦЯЛОК* • **КАЦЯЛО́К ВА́РЫЦЬ** *у каго. Убезас. ужыв. Праст. Адабр.* Хто-н. разумны, кемлівы, знаходлівы. **Сін**.: галава варыць *у каго;* галава не на вошы *ў каго;* <ёсць> <свая> галава на плячах *у каго;* мазгі вараць *у каго;* не галава, а дом саветаў *у каго;* светлая галава *ў каго.* **Ант**.: дурны поп хрысціў *каго;* зрух па фазе *ў каго;* клёпкі не хапае <у галаве> *у каго;* мазгі адсохлі *ў каго* (у 2 знач.); мазгі набакір *у каго;* мазгі не на месцы *ў каго;* мякіна ў галаве *ў каго;* не ўсе дома *ў каго;* салома ў галаве *ў каго;* шарыкі за ролікі заходзяць *у каго. Ты гэта здорава прыдумаў!.. Значыць, варыць у цябе кацялок! Нездарма цябе ў Савет выбралі.* Хацкевіч. *— Праўда, у мяне свая тэхналогія. — Вось у тым і справа, што свая. Кацялок у цябе варыць.* Кобец-Філімонава.

*КАЦЯНЯ* • **СЛЯПО́Е КАЦЯНЯ́**. *Адз. і мн. Часцей вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Чалавек, які не разбіраецца ў тым, што адбываецца ў наваколлі. *Потым ужо з вяршыні дасягнутага чалавек бачыць, як трэба ісці і якім сляпым кацянём ён тыцкаўся, шукаючы дарогу.* Лобан. *[Карнілаў:] Выходзіць, што толькі вы бачыце ўсё як на далоні , а ўсе астатнія — сляпыя кацяняты.* Губарэвіч. *— Што, клятва! — Язэп падняўся з зямлі, паварушыў цеснымі плячыма. — У чым мы толькі не кляліся, жаўтароцікі. Мы, Пеця, у тую пару былі сляпымі кацянятамі.* М.Капыловіч.

*КАЧАРГА* • **НІ БОГУ СВЕЧКА НІ ЧОРТУ КАЧАРГА**. Гл. свечка.

*КАЧАЎСЯ* • **КОНЬ НЕ КАЧАЎСЯ** *дзе.* Гл. конь.

*КАЧАЦЦА* • **КАЧА́ЦЦА (КЛА́СЦІСЯ, КІ́СНУЦЬ) СА (АД) СМЕ́ХУ**. *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна, да знямогі смяяцца. **Сін**.: бакі рваць; брацца за жываты; надрываць жываты <ад смеху>; паехаць ад смеху; пакаціцца са смеху; паміраць ад смеху. *«Гідра», якую паказваў сам Мішка, мела сапраўды ў гэты дзень такі сумны і смешны выгляд, што ўсе чырвонаармейцы качаліся са смеху.* Лынькоў. *Я ж яго не абзывала ніякім словам, я толькі пераказала яго словы.., яго голасам і з яго жэстамі. Што ж тут было-о — клаліся ўсе ад смеху!..* Палтаран. *А пасля ўжо і сварка ў іх (а мы кіснем са смеху), потым бачым і слёзы...* Ядвігін Ш.

**ЯК СЫР У МАСЛЕ КАЧАЦЦА**. Гл. купацца.

*КАЧКА* • **ПАДСАДНА́Я КА́ЧКА**. *Адз. і мн. Часцей вык. Разм. Неадабр.* Тайны агент, правакатар. *Паліна Галавач была ў ролі падсаднай качкі. Першы дзень прабадзялася па Старажоўцы безвынікова — ніхто не трапіў на вочы.* Новікаў. *Але каму прыйшло ў галаву зрабіць з Кузьмы падсадную качку? Звычайна ж у паліцыі з партызанскімі памочнікамі размова адна — катаванні і потым смерць.* Шыцік. *Маўчу, бо не магу згадзіцца, што Алік быў падсаднай качкай.* Васілеўская.

*КА́ША* • **БЯРО́ЗАВАЯ КА́ША**. *Мн. не ўжыв. Часцей дап. Разм. Іран.* Розгі або дубец, рэмень і пад. *На гэты раз і я, і мама даруем табе ўсё, а калі паспрабуеш браць яшчэ што-небудзь без дазволу, то пакаштуеш бярозавай кашы.* Пальчэўскі. — *На дыбкі становішся? Бярозавай кашы захацеў? — узарвала бацьку.* Калодзежны.

**КА́ША ЗАВА́РВАЕЦЦА (ЗАВАРЫ́ЛАСЯ)**. *У безас. ужыв. Разм.* Распачынаецца складаная, клопатная ці непрыемная справа. *Атрымалася гэта па той прычыне, што механізм сюжэта прымітыўны і слаба прыгнаны... І перш за ўсё не дзейнічае асноўная спружына, — тая справа, вакол якой заварваецца каша.* Крапіва. *Уся гэта каша заварылася пасля таго, як сюды прыязджаў скарбовы каморнік са сваімі інструментамі.* Колас. *Максім расказаў Казіку пра здарэнне на сходзе... — Значыць, у вас там заварылася каша, — падумаўшы крыху, сказаў Казік.* Машара.

**КА́ША Ў ГАЛАВЕ́** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. блытана разважае, не мае яснасці ў разуменні чаго-н. *[Анатоль Іванавіч:] Калі столькі чытаць, у любога здаровага будзе каша ў галаве.* Шамякін. — *Разумнікі любяць вучыць, кіраваць, камандаваць. — Ну-ну... Каша ў цябе ў галаве.* Дайнека.

**НА КАРЫ́ КА́ША** *каму. У безас. ужыв. Разм. Іран.* Хто-н. спадзяецца на вельмі лёгкае, прывольнае жыццё. *Злыдзень стары, а не Тарасавіч. Папёрся ў горад... На кары каша, думаў, ліха матары... А цяпер бярвенне аддай яму на хату.* Мыслівец. [*Насовіч*, с. 85: на кары каша.]

*КАШАЛЁК* • **КАШАЛЁК ТУГІ́**. *У ролі розных чл. ск. Разм.* Вельмі вялікі капітал. **Сін.**: кішэня вялікая (у 2 знач.); тоўстая кішэнь; тоўсты кашалёк. **Ант.**: кішэня малая (у 2 знач.). *Душы ў пустапаш пустазельную вырадзіліся. Бацькоў сваіх вось крадком пахаваўшы на могілках, бяспамяццю зарастаючых, за палеткамі пакінутых, а дзяцей у зямлю абяцаную або ў Амерыкі выправіўшы з кашалькамі тугімі, агледзеліся і самі век дажываючымі, караталючымі дзень да вечара ды над фатаграфіямі даўнімі галавой ківаючы...* Яновіч.

**НАБІВАЦЬ КАШАЛЁК**. Гл. набіваць.

**ТО́ЎСТЫ КАШАЛЁК**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Вельмі вялікі капітал, багацце. **Сін.**: кашалёк тугі; кішэня вялікая (у 2 знач.); тоўстая кішэнь. **Ант.**: кішэня малая (у 2 знач.). *[Ён] выставіў тады сваё палітычнае крэда: маўляў, вас, фінансавых тузоў, трывожыць рабочы рух у Германіі — мы.. гатовы ўтаймаваць яго, дайце нам толькі востры меч і тоўсты кашалёк.* Гроднеў. — *Бачыце, — з болем гаварыў рыбак, — зноў тыя прадпрыемцы падкормліваюць нацыстаў. А чаму ў іх такі форс? Зноў дзялкі абяцаюць ім тоўсты кашалёк.* «Полымя».

*КАШАЛЁЎ* • **НАПЛЕСЦІ КАШАЛЁЎ** *каму, пра каго.* Гл. наплесці.

*КАШАЛІ* • **ПЛЕСЦІ КАШАЛІ** <*каму, пра каго, пра што*>. Гл. плесці.

**ПЛЕСЦІ КАШАЛІ З ЛАПЦЯМІ**. Гл. плесці.

*КАШАЛЬ* • Паможа **ЯК КА́ШАЛЬ ХВАРО́БЕ**. *Акал. Разм.* Нiколькi, зусiм не (паможа каму-н.). **Сiн.**: як мёртваму прыпаркi; як мёртваму кадзiла. *[Дзед Мiкiта:] Цiха ты, чуй, дурань-браце! Разгаласiлася! Памогуць тут твае прычытаннi як кашаль хваробе.* Колас. *[Лютынскi-бацька:] Памагла мне твая пiсанiна як кашаль хваробе.* Крапiва. *Ат, хвалiўся толькi. Памаглi тыя кнiжкi яго гаспадарцы як хваробе кашаль.* Каваленка.

*КАШАЛЬКОМ* • Усе грошы **З КАШАЛЬКО́М**. *Акал. Разм. Жарт. цi iран.* Абсалютна (усе грошы, якiя былi ў наяўнасцi). *— Заплацiў усе грошы з кашальком, — горка апавядаў ён, — прыгналi мне за вароты трактар на стаянку...* Дубiнка. — *Прасi яшчэ чаго хочаш. — Апахмялi. — Бяры. Бяры, рэшту не вяртай. У правай кiшэнi. Усе грошы твае. З кашальком.* В.Ткачоў.

*КАШТАНЫ* • **ЦЯГАЦЬ КАШТАНЫ З АГНЮ** *для каго.* Гл. цягаць.

*КАШУ* • **ЗАВАРВАЦЬ КАШУ**. Гл. заварваць.
**ЗВАРЫЦЬ КАШУ** *з кiм.* Гл. зварыш.
**РАСХЛЁБВАЦЬ КАШУ**. Гл. расхлёбваць.

*КАШУЛI* • **НАРАДЗIЦЦА Ў КАШУЛI**. Гл. нарадзiцца.

*КАШЫ* • **КАШЫ НЕ ЗВАРЫШ** *з кiм.* Гл. зварыш.
**МАЛА КАШЫ ЕЎ**. Гл. еў.
**ПРОСЯЦЬ КАШЫ**. Гл. просяць.
**ХАПIЦЬ ШЫЛАМ КАШЫ**. Гл. хапiць.

*КВАДРАТ* • **УЗВОДЗIЦЦА Ў КВАДРАТ**. Гл. узводзiцца.
**УЗВОДЗIЦЬ У КВАДРАТ** *што.* Гл. узводзiць.

*КВАДРАТУРА* • **КВАДРАТУ́РА КРУ́ГА**. *Мн. не ўжыв. У ролi розных чл. ск. Кнiжн.* Невырашальная задача. *Якi нi меў бы змалку характар i натуру i як бы паднябесных ты нi прасiў багоў, - табе дасюль не выйсцi з задушнай квадратуры круга турбот нязменных i гадавых кругоў. Не вер, калi замякка табе зласлiўцы сцелюць. Прыпомнi перад Богам грахi i ўсе даўгi. У квадратуры круга праступiць праўды элiпс. А ў элiпсе ты знойдзеш ману крывой дугi.* Макарэвiч. *[Паэт] удала асвоiў новую паэтычную прастору нашай рэчаiснасцi. Прастору, што не паддаецца вымярэнню нават квадратурай круга.* Катлярoў.

*КВАДРАЦЕ* • **У КВАДРА́ЦЕ**. *Азн. Разм. Неадабр. Ужыв. пасля наз.* Найвышэйшай ступенi. *[Радаслаў:] Iзноў спрачацца, пагражаць, у чорнай здрадзе вiнавацiць?.. Ну што ж, нахабства ў квадраце, падходзь! Гатовы я прыняць любую вашу атаку!* Бачыла. *Не, ён не проста кар'ерыст, ён кар'ерыст у квадраце.* Э.Валасевiч. — *Падумайце, чым браў Свiстун! Кожнай прызнаваўся ў каханнi. I клююць! — смяяўся Мiша. — Гэта ж глупства ў квадраце: адно — што верацъ жанатаму, а другое — у каханне яшчэ верацъ!* Ярашэвiч.

*КВАС* • **З ХЛЕБА НА КВАС** *перабiвацца.* Гл. хлеба.

*КВАСАМ* • **ЧАСАМ З КВАСАМ, А ПАРОЮ З ВАДОЮ**. Гл. часам.

*КВЕТКI* • **КВЕ́ТКI З ЧУЖЫ́Х ПАЛЁЎ**. *Адз. не ўжыв. У ролi розных чл. ск. Функц. не зам. Часцей неадабр.* Запазычаныя з iншых прац матывы, вобразы, думкi i iх выражэнне. *Нi ў адным з iх [вершаў М.Танка на запазычаныя матывы] мы не заўважаем залежнасцi, наадварот — тэма, матыў змяняюць самую сваю прыроду, урастаюць у нашу глебу не кветкамi з чужых палёў, а жывымi кветкамi нашай роднай паэзii.* Вiтка. *Ёсць у нашай*

*мове фразеалагізм «кветкі з чужых палёў»... Думаецца, гэты выраз някепска стасуецца да «Слоўніка беларускіх прыказак, прымавак і крылатых выразаў».* «Настаўн. газ.»

*КВІНТУ* • **ВЕШАЦЬ НОС НА КВІНТУ**. Гл. вешаць.

*КВІТА* • **І КВІ́ТА <ПА́НЕ, ДЗЯ́ДЗЬКА> МІКІ́ТА**. *Убезас. ужыв. Разм.* На гэтым усё кончана. Пра канчатковую развязку чаго-н. **Сін.**: і дзела з канцом; і дуды вобземлю; <і> канцы у ваду (у 2 знач.); і не знайся; канцы з канцамі; па ўсім. — *Ты ўжо, панечку мой, не крычы. Яму ў войска ісці... — Як у войска? Ён жа ж быў? — Бяруць рэзервістаў. Павесткі прыслалі... — І квіта — пане Мікіта! Няхай ідзе, можа, там навучаць дурня!* Адамчык. *Чалавечае жыццё усё роўна як адзін паварот.. [кола]: спіца знізу ўзнімаецца ўгару і зноў апускаецца ўніз. І квіта дзядзька Мікіта. Было і няма...* Бядуля. *[Дзяменці:] Дзялянку на кожнага брата, — і ноччу ці днём, а ці ў будзень, ці ў свята, а каб было зроблена — й квіта Мікіта.* Клімковіч.

*КЕПСКА* • **КЕПСКА ЛЯЖЫЦЬ**. Гл. ляжыць.
**ЯЗЫК КЕПСКА ПАДВЕШАНЫ** *ў каго.* Гл. язык.

*КЕСАРАВА* • **КЕ́САРАВА КЕ́САРАВІ (КЕ́САРУ)**. *У ролі дап. ці самастойнага выказвання. Кніжн.* Кожнаму належнае, тое, чаго заслужыў хто-н. *Я хацеў бы прасіць вас, калега, пазнаёміць мяне з вашай грамадою, бо трэба ж, як кажуць, аддаць кесарава кесараві.* Колас. *Зрэшты, усё правільна, як кажуць: кесару — кесарава...* Блакіт. *Нам патрэбна і тое, і тое. Але, як той казаў, кесарава кесару...* Васілёнак.

*КЕСАРАВІ* • **КЕСАРАВА КЕСАРАВІ**. Гл. кесарава.

*КЕСАРУ* • **КЕСАРАВА КЕСАРУ**. Гл. кесарава.

*КІВАЦЬ* • **КІВА́ЦЬ НА ПЯТРА́**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Звальваць віну на іншага. *Я не ківаю на Пятра, я толькі гавару, што і мы не ў бога цялятка ўкралі...* Брыль. *Ці не падобныя мы часам на таго Івана, што ўсё ківае на Пятра? Упэўнен, мы самі вінаватыя ў тым, што ёсць такая катэгорыя людзей, як спекулянты, фарцоўшчыкі, аферысты.* «Звязда».

*КІДАЕ* • **КІ́ДА́Е (КІ́НУЛА) У ЖА́Р** *каго. Убезас. ужыв. Разм.* Хто-н. даходзіць да моцнага хвалявання, да вельмі ўзрушанага стану. **Сін.**: кідае ў <халодны> пот *каго. Стала баба.. [шукаць], і праўда: сівы волас! Аж у жар кінула бабу (а ў дзеда было многа сівых валасоў).* Колас. *[Карла:] «За гонар яшчэ палічы для сябе, што буду сядзець я ў цябе на гарбе». Ад слоў гэтых Янку аж кінула ў жар.* Крапіва.
**КІ́ДА́Е (КІ́НУЛА) У <ХАЛО́ДНЫ> ПО́Т** *каго. Разм.* Хто-н. адчувае моцны страх, узрушэнне. **Сін.**: кідае ў жар *каго. Што гаварыць пра звычайных фрыцаў, калі самога іх фюрэра ад гэтага слова [«кацёл»] кідае ў пот.* Крапіва. *[Цётку] не пашанцавала! А тут гэтыя пні ноччу, як ваўкі, стаяць, цьфу, каб ты згарэла, аж у пот кінула.* Лобан. *Чуе Мішка, зямля дрыжыць за ім — то бяжыць, даганяе матка. Аж у пот халодны кінула.* Лынькоў.

*КІДАННЕ* • **КІДА́ННЕ СЛО́Ў НА ВЕ́ЦЕР**. *Мн. не ўжыв. Дзейн. і дап. Разм. Неадабр.* Безадказнае, неабдуманае гаварэнне.

*КІДАЦЦА* • **КІДА́ЦЦА ГРА́ЗЗЮ (ГРАЗЁЮ)**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Незаслужана чарніць, зневажаць каго-н. **Сін.**: абліваць граззю *каго,*

*што;* вешаць сабак *на каго, на што;* выліваць памыі *на каго;* выліваць бруд на галаву *каго;* закідваць граззю *каго;* кідаць каменем *у каго;* кідаць цень *на каго, на што (*у 1 знач.); ліць бруд *на каго;* мазаць дзёгцем *каго, што;* мяшаць з граззю *каго, што;* падтоптваць пад ногі (у 2 знач.); таптаць у гразь *каго, што. [Ніна Ягораўна] сцярпела, слова не сказала той, што плявузгала, хоць і карцела плюнуць ёй у твар. Ды хоць бы мела маральнае права на такі дакор — сама адседзела ўсю акупацыю, як мыш пад венікам, паслужліва згіналася перад фашыстамі, а тут гразёю кідаецца...* Новікаў.

**КІДА́ЦЦА НА ШЫЮ** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Навязвацца, настойліва дамагацца прыхільнасці, сімпатыі, узаемнасці. Пра жанчыну ў адносінах да мужчыны. **Сін.**: вешацца на шыю *каму.* **КІНУЦЦА НА ШЫЮ** *каму. Зак. Выйшла тое, чаго ніхто не спадзяваўся! Гэтыя дзве красуні пакахалі аднаго маладога паніча і кінуліся яму на шыю.* Колас. *[Насця:] Ты чакаў, што я адразу на шыю табе кінуся. А як жа — герой прыехаў!* Крапіва.

**КІДА́ЦЦА РАП'ЁМ (АСО́Й) У ВО́ЧЫ** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Раптоўна накідвацца на каго-н. з папрокамі. *Варожыя языкі перамолвалі ўсю гэту бязглуздзіцу, упрыгожвалі яе не менш бязглуздымі дадаткамі, смакавалі з усіх бакоў і рап'ём у вочы кідаліся тым, хто гэтаму не даваў веры.* Крапіва. **КІНУЦЦА РАП'ЁМ (АСОЙ) У ВОЧЫ** *каму. Зак. [Бладзік:] Бывае, калі ў райкоме мне асою ў вочы кінуцца: «Ты, таварыш, памыляешся. Трэба ўлічваць становішча».* Калюга.

**КІДА́ЦЦА СЛО́ВАМІ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Бездадказна, неабдумана гаварыць што-н. **Сін.**: кідаць словы на вецер. — *Маўчы, калі хочаш, бо зараз і цябе заб'ю! — Мяне? Завошта?! — За ўсё! — Нашто ты кідаешся гэтакімі словамі?* Чорны. *Я, таварыш Варонін, словамі не кідаюся...* Брыль.

**КІДА́ЦЦА Ў АМБІ́ЦЫЮ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пакрыўдзіўшыся, бурна рэагаваць, выказваць нязгоду, незадавальненне. — *Я — актывіст, у сельсавеце працую. Маглі б мне паведаміць. І ўчастковы ў нас ёсць. — Не кідайся ў амбіцыю. Нічога страшнага не адбылося.* Шыцік. **КІНУЦЦА Ў АМБІЦЫЮ**. *Зак. Сярод металалому, у зарастках лебяды мы ледзь распазналі культыватар.., якому даўно трэба быць на полі. І не згарэў ад сораму галоўны інжынер. Наадварот, кінуўся ў амбіцыю.* «Звязда».

**КІДА́ЦЦА Ў ВО́ЧЫ** *каму. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Міжвольна запыняць на сябе чыю-н. увагу, быць асабліва прыкметным. **Сін.**: біць у вочы *ка-му;* лезці ў вочы *каму* (у 2 знач.). *За сталом сядзелі тры асобы. Адзін з іх, рыжы таўстаморды мужчына, асабліва кідаўся ў вочы сваім жорсткім абліччам і тупою халоднасцю.* Колас. *Стаўшы за старшыню, з першага ж года скінуў Дарош сваю даматканую жакетку, а пашыў пінжак з крамнага сукна, — казалі, каб ярчэй кідаўся ў вочы мужыку старшынёўскі медаль.* Мурашка. *Кідаецца ў вочы, што героі апавядання Я.Сіпакова — людзі простыя, звычайныя.* Каваленка. **КІНУЦЦА Ў ВОЧЫ** *каму. Зак. Асабліва кінулася Чубару ў вочы тое, як апрануты быў чалавек.* Чыгрынаў.

*КІДАЦЬ* • **КІДА́ЦЬ АГО́НЬ У ХА́ТУ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выклікаць сварку, спрабаваць пасварыць каго- з кім-н. *Толькі сяголета далучыў Вітаўт да Літвы вярхоўскія княствы, што на Ацэ. Дык мо апетыт і на большае мае? А мо проста палохае караля? І таму распускае плёткі, кідае агонь у хату. Дае падставы шляхце і прыдворным зласлівіць і ёрнічаць.* Бутэвіч.

**КІДА́ЦЬ ВО́КА (ВО́ЧЫ)** *на каго, на што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Глядзець зрэдку ці мелькам, імгненна. **Сін.**: акінуць вокам *каго, што;* кідаць вокам *на каго, на што, куды. На мяне кідалі вока, часам адважваліся зачапіць дзяўчаткі, якія рабілі на кухні, у садзе, на агародзе.* Шамякін. *Сымон.. дзіка кідаў вочы на пана, як зацкаваны звер.* Бядуля. **КІНУЦЬ ВОКА (ВОЧЫ)** *на каго, на што. Зак.— Скажы, паночку, як далёка зямельны банк? — Пан кінуў вока на дзядзьку скрыва так і строга: — Спытай аб тым гарадавога!* Колас. *[Зоська] бесклапотна глянула ўніз цераз парэнчу, кінула вочы на дарогу, па той бок мерзлай ручаіны...* Чорны.

**КІДА́ЦЬ ВО́КАМ** *на каго, на што, куды. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Глядзець зрэдку ці мелькам, імгненна. **Сін.**: акінуць вокам *каго, што;* кідаць вока *на каго, на што. Аўдоля.. кідала вокам на свайго новага работніка.* Якімовіч. **КІНУЦЬ ВОКАМ** *на каго, на што, куды. Зак. На хвоі кіньце вокам вы — тут што ні хвоя, то красуня.* Колас. *Кінь вокам на ўвесь абшар зямлі: вось хату шчыльна абышлі парканы з вострымі цвікамі, пасыпаныя бітым шклом.* Багдановіч. *А з прыселля глянуць, вокам кінуць вокал, — разляглося поле далёка, далёка.* Купала.

**КІДА́ЦЬ (ВЫКІДА́ЦЬ) НА ВЕ́ЦЕР** *грошы, сродкі, час. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дарэмна траціць, неашчадна расходаваць. **Сін.**: выкідаць на сметнік (у 1 знач.); пускаць на вецер *грошы* і пад.; пускаць у трубу *што. Ясна, мы не павінны, не маем права кідаць на вецер дзяржаўныя грошы.* Радкевіч. *[Малання Адамаўна:] Горад — не вёска. Тут грошы — усё. А я не прывыкла іх выкідаць на вецер.* Э.Валасевіч. **КІНУЦЬ (ВЫКІНУЦЬ) НА ВЕЦЕР** *грошы, сродкі, час. Зак. Я скупы ніколі не быў. На вецер не кіну, а чалавеку не пашкадую, калі таго бяда агорне.* Чорны. *[Крушынскі] пачаў пералічваць перад айцом Дзмітрыем, колькі лішніх сродкаў выкінуў раней на вецер.* Бядуля. *— Варона ты, варона, — лаяў я сябе, — больш чым паўгода выкінуў на вецер.* Шахавец.

**КІДА́ЦЬ КА́МЕНЕМ (КА́МЕНЬ)** *у каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Асуджаць, абвінавачваць, ганьбіць каго-н. **Сін.**: абліваць граззю *каго, што;* вешаць сабак *на каго, на што;* выліваць памыі *на каго;* выліваць бруд на галаву *каго;* закідваць граззю *каго;* кідацца граззю; кідаць цень *на каго, на што* (у 1 знач.); ліць бруд *на каго;* мазаць дзёгцем *каго, што;* мяшаць з граззю *каго, што;* мяшаць з зямлёй (у 3 знач.); наводзіць цень *на каго, на што;* падтоптваць пад ногі (у 2 знач.); таптаць у гразь *каго, што.* **КІНУЦЬ КАМЕНЕМ (КАМЕНЬ)** *у каго. Зак. Купалаўскую думку паўтарыць хачу — ніхто ў вас каменем не кінуў і не кіне.* Шушкевіч. *Зноў кланяюся родным бальшакам! Ніхто ў мяне тут каменем не кіне. Свае спяваю песні землякам, і ціха падпяваюць землякі мне.* Карызна. *Дзіця будзе мець хлеб, вопратку і, калі вырасце, то на свой розум хай робіць, як хоча. Можа, ён захоча кінуць у нас камень... І тады хай яго судзіць бог і добрыя людзі.* Самуйлёнак.

**КІДА́ЦЬ КА́МЕНЬ (КАМЕ́НЬЧЫК, КАМЕ́НЬЧЫКІ) У АГАРО́Д** *чый, каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рабіць неадабральны намёк у чый-н. адрас. *Разумею, некаторую катэгорыю чытачоў я пакрыўдзіў, хоць, вядома, не кідаю камень ва ўвесь жаночы агарод.* Навуменка. *Ён, праўда, ніколі не называў прозвішча Васько, але ў раёне ведалі, у чый агарод кідае каменьчыкі Саматугаў.* Асіпенка. **КІНУЦЬ КАМЕНЬ (КАМЕНЬЧЫК, КАМЕНЬЧЫКІ) У АГАРОД** *чый, каго. Зак. Я ведаю, Стаўроў, ты маеш права кінуць камень у мой агарод за мінулае! Не чапаючы Марыі, я скажу: я сапраўды апусціўся ў той час.* Караткевіч. *Малайчына. Толькі любіш ты кінуць камень у агарод начальства...* Гаўрылкін. *Даніла Платонавіч няспынна крытыкуе мя-*

*не... З павагі да вашай старасці я маўчу. А я мог бы кінуць каменьчык і ў ваш агародзік...* Шамякін.

**КІДА́ЦЬ ПАЛЬЧА́ТКУ** *каму, чаму. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Уступаць у барацьбу з кім-, чым-н., рабіць рашучы выклік каму-, чаму-н. *Чаго гэта Малец ад мяне хоча? Будзьце сведкамі, што яшчэ адна абраза — і я кідаю яму пальчатку.* Дамашэвіч. *Ад самага пачатку жыццё ўжо кідае пальчатку, і лёс-чаўнок — снуе, снуе...* Дзяргай. **КІНУЦЬ ПАЛЬЧАТКУ** *каму, чаму. Зак. [Быліч] ведаў адно: сёння кіне пальчатку Радзівону, дасць яму бой публічна, дасць бой, чаго б там ні каштавала.* Блакіт.

**КІДАЦЬ ПРОБНЫ ШАР**. Гл. пускаць.

**КІДА́ЦЬ (ПУСКА́ЦЬ) СЛО́ВЫ (СЛО́ВА) НА ВЕ́ЦЕР**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Безадказна, неабдумана, упустую гаварыць. **Сін.**: кідацца словамі. *[Жлукта:] Калі вы думаеце, што я кідаю словы на вецер, дык чаго вы да мяне звяртаецеся?* Крапіва. *Дзядзька Панас чалавек хмуры, не зусім каб гаманлівы. Словы на вецер не кідае.* Лынькоў. *Не выслужыцца хацеў [Раман] перад начальствам — проста баяўся, каб адліўка, крый божа, не пайшла ў брак, бо ваенныя, добра ведаў, слоў на вецер не пускаюць...* Мыслівец. **КІНУЦЬ (ПУСЦІЦЬ) СЛОВЫ (СЛОВА) НА ВЕЦЕР**. *Зак. [Чаляднік:] А што! А я не казаў, назавяце мяне сабакам, калі я сваё слова на вецер пушчу?* Калюга.

**КІДА́ЦЬ У ТВА́Р (У ВО́ЧЫ)** *каму, каго што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гаварыць рэзка і адкрыта, не ўтойваючы. — *Тады ты баязлівец! — проста ў твар мне кідае Юльян.* Хадкевіч. *Лепш бы выклікалі на допыт, білі, катавалі, — яна б [Святлана] цярпела, маўчала, хай бы сабе крычала, кідала б у твар ворага гнеўныя словы, яна б жыла. А то нейкая пустота, мёртвая невядомасць.* Шахавец. *«Далоў самадзяржаўе!», «Няхай жыве дэмакратычная Рэспубліка!», «Далоў паліцыю!» Моладзь выбягала наперад і ў вочы паліцыянтаў кідала гэтыя воклічы.* Гартны. **КІНУЦЬ У ТВАР (У ВОЧЫ)** *каму, каго што. Зак. На канцы размовы, прыцiскаючы на кожным слове, [бацька] кінуў у твар дачцэ: — Калі толькі праўду мелюць, дык глядзі, каб я больш пра гэта не чуў і табе не казаў.* Мурашка. *Учора, вунь, хлопцы, калі ішлі са сходу ячэйкі, нібыта так, жартам, кінулі ў вочы: — Яшкец! Глядзі, каб не застаўся з носам.* Лынькоў.

**КІДА́ЦЬ ЦЕ́НЬ** *на каго, на што. Незак. Функц. не зам.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Няславіць, ачарняць, выстаўляць у непрыглядным святле каго-, што-н. **Сін.**: абліваць граззю *каго, што;* вешаць сабак *на каго, на што;* выліваць памыі *на каго;* выліваць бруд на галаву *каго;* закідваць граззю *каго;* кідацца граззю; кідаць каменем *у каго;* ліць бруд *на каго;* мазаць дзёгцем *каго, што;* мяшаць з граззю *каго, што;* мяшаць з зямлёй (у 3 знач.); наводзіць цень *на каго, на што;* падтоптваць пад ногі (у 2 знач.); таптаць у гразь *каго, што. [Калібераў:] Увесь раён чэсна выконвае свае абавязацельствы перад дзяржавай, а гэты.. [ашуканец] кідае цень...* Макаёнак. *Ласкут нямецкага сукна не варты быў таго, каб псаваць настрой і самому сабе, і гаспадару гэтай хаты, а тым больш кідаць цень на Марылю.* Чыгрынаў. **КІНУЦЬ ЦЕНЬ** *на каго, на што. Зак. Чым можна будзе, памагу. Але кожная сустрэча можа кінуць цень на ваша добрае імя. Гэта ж вёска...* Грахоўскі. — *Мне не часу шкада, — не пагадзіўся Корзун, — баюся, што мая падазронасць на сумленнага чалавека цень кіне.* Шыцік.

**2.** Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Азмрочваць каго-, што-н. *Непрыемна зрабілася ад думкі, што Поля шкадуе яго... Такое шкадаванне як бы кідала цень на іх дружбу, як бы прыніжала яе.* Шамякін. **КІНУЦЬ ЦЕНЬ** *на каго, на што. Зак.*

**КІДА́ЦЬ Я́КАР** *дзе. Разм. Незак.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Спыняцца, уладкоўвацца дзе-н. на пастаяннае жыхарства. **Сін.**: віць <сваё> гняздо (у 1 знач.); пускаць карэнне (у 1 знач.). **Ант.**: знімацца з якара. **КІНУЦЬ ЯКАР** *дзе. Зак. Уладкаваўшыся на склад электраабсталявання ў вялікім горадзе, ён [Юрый] зажыў моцна... Ён нават падумаў, ці не кінуць у горадзе якар.* Навуменка. *Са мною было так: дзе служыў, там і кінуў якар, дадому не паехаў.* Кусянкоў. *Лінька я... За кратамі дзесяць год правёў. А цяпер вось якар кінуў. Хопіць! Надакучыла! Жыць хочацца па-людску...* Жалязоўскі.

*КІДАЮЦЦА* • **КАМЯНІ КІДАЮЦЦА** *ў каго.* Гл. камяні.

*КІЕМ* • **КІЕМ НЕ ЗАГОНІШ** *каго куды.* Гл. загоніш.

**КІЕМ НОСА НЕ ДАСТАЦЬ** *у каго, каму.* Гл. дастаць.

**НЕ КІ́ЕМ ДЫК (ТО) ПА́ЛКАЙ.** *Акал. Разм.* **1.** Аднолькава, тое самае. **Сін.**: ці савой аб пень ці пнём аб саву; што ў лоб што па ілбе. — *Мяне не прадалі, — сказаў Язэпка. — Мяне пан у карты прагуляў. — Ну, гэта не кіем дык палкаю...* Якімовіч. *Барыс Кананец перастаў быць зборшчыкам падаткаў, спалохаўся папярэджання камуністаў, стаў наглядчыкам на шарварках. Не кіем дык палкай.* Пестрак. — *А ведаеце, Баляслаў Сігізмундавіч, мы правядзём у вас не семінар, а пленум... А перад гэтым пакажам усяму актыву вашы ўраджаі. — Ну, не кіем то палкай... — усміхнуўся Баркоўскі.* Дайліда.

**2.** Тым ці іншым спосабам. **Сін.**: не сяк дык так; так ці інакш (у 1 знач.); хоць бокам хоць скокам; хоць так хоць сяк; ці скокам ці бокам; ці так ці сяк (у 2 знач.). *І ўсё-такі, Вяруся, у цябе муж не дурань і не такі ўжо безнадзейны дыпламат. Клянуся. Не кіем дык палкай, але па магчымасці дамагаецца свайго.* Карпаў.

*КІЛБАСОЙ* • **КАЦІСЯ КІЛБАСОЙ.** Гл. каціся

*КІНЖАЛА* • **РЫЦАР ПЛАШЧА І КІНЖАЛА.** Гл. рыцар.

*КІНУЛАСЯ* • **КРОЎ КІНУЛАСЯ Ў ТВАР** *каму, каго.* Гл. кроў.

*КІНУЦЦА* • **КІНУЦЦА НА ШЫЮ** *каму. Зак. да* **КІДАЦЦА НА ШЫЮ** *каму.*

**КІНУЦЦА РАП'ЁМ У ВОЧЫ** *каму. Зак. да* **КІДАЦЦА РАП'ЁМ У ВОЧЫ** *каму.*

**КІНУЦЦА Ў АМБІЦЫЮ.** *Зак. да* **КІДАЦЦА Ў АМБІЦЫЮ.**

**КІНУЦЦА Ў ВОЧЫ** *каму. Зак. да* **КІДАЦЦА Ў ВОЧЫ** *каму.*

*КІНУЦЬ* • **ЗА́ЙЦА КІ́НУЦЬ** *дзе, каму. Зак. Разм.* Ужыв пры дзейн. са знач. асобы. Перагарадзіць дарогу маладым на вяселлі з надзеяй атрымаць выкуп, звычайна гарэлкай. *Увечары стол адышоў, падаравалі нявесту, пагулялі — і павязлі Вусцінку. Камароўскія хлопцы зайца каля Міхасёвых закінулі. Дзве пляшкі далі ім пярэкуп.* Гарэцкі. *[Лепешаў,* с. 82: зайца драць *з каго, у каго.]*

**КІНУЦЬ ВОКА** *на каго, на што. Зак. да* **КІДАЦЬ ВОКА** *на каго, на што.*

**КІНУЦЬ ВОКАМ** *на каго, на што, куды. Зак. да* **КІДАЦЬ ВОКАМ** *на каго, на што, куды.*

**КІНУЦЬ КАМЕНЕМ** *у каго. Зак. да* **КІДАЦЬ КАМЕНЕМ** *у каго.*

**КІНУЦЬ КАМЕНЬ У АГАРОД** *чый. Зак. да* **КІДАЦЬ КАМЕНЬ У АГАРОД** *чый.*

**КІ́НУЦЬ КО́СЦЬ (КО́СТКУ)** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даць зачэпку для спрэчкі, сваркі. *[Наташа:] Кінуў людзям косць, а сам у кусты. Так выходзіць?* Крапіва. — *Бачыш... Кінулі костку, — прамовіў Паддубны. — Аказваецца,*

*газета дадумалася да цікавай рэчы, рэчы нечаканай — яна дамагалася ад урада Пілсудскага.. легалізацыі Камуністычнай партыі Польшчы.* Пестрак.

**КІНУЦЬ НА ВЕЦЕР** *грошы* і пад. *Зак. да* **КІДАЦЬ НА ВЕЦЕР** *грошы* і пад.

**КІНУЦЬ ПАЛЬЧАТКУ** *каму, чаму. Зак. да* **КІДАЦЬ ПАЛЬЧАТКУ** *каму, чаму.*

**КІНУЦЬ ПРОБНЫ ШАР**. Гл. пускаць.

**КІНУЦЬ СЛОВЫ НА ВЕЦЕР**. *Зак. да* **КІДАЦЬ СЛОВЫ НА ВЕЦЕР**.

**КІНУЦЬ У ТВАР** *каму, каго што. Зак. да* **КІДАЦЬ У ТВАР** *каму, каго што.*

**КІНУЦЬ ЦЕНЬ** *на каго, на што. Зак. да* **КІДАЦЬ ЦЕНЬ** *на каго, на што.*

**КІНУЦЬ ЯКАР** *дзе. Зак. да* **КІДАЦЬ ЯКАР** *дзе.*

**ЯК ВО́КАМ КІ́НУЦЬ (АКІ́НУЦЬ, СКІ́НУЦЬ, ГЛЯ́НУЦЬ, СЦЯ́ЦЬ)**. *Акал. Разм.* На вялікай прасторы ў наваколлі. **Сін.**: наколькі хапае вока; як вокам згледзець (у 2 знач.). *Па ўсім узбярэжжы як вокам кінуць гарэлі святочныя агні.* Карпаў. *У канцы Мсціж пад Луськім, дзе як кінуць вокам цямнеў лес чорнымі шырокімі палосамі, адна пад адной, слалася смуга, як мокры дым, хаваючы з вачэй і неба і зямлю.* Пташнікаў. *Гэта і ёсць пераезд. Яго і бліжэйшы — як вокам акінуць — участак пуцей вартуе пажылы вартаўнік Максім.* Шынклер. *А кругом, як вокам акінуць, ляжалі непраходныя балоты.* Палтаран. *Раскажуць табе петрыкоўцы пра сваю прыгожую Прыпяць, пра лугі як скінуць вокам і дубовыя гаі.* Янкоўскі. *Як скінуць вокам цягнулася роўнае рыжавата-зялёнае поле.* Дамашэвіч. *Зыкі хвалямі плылі ад прызбы за вёску, расплываліся на шырокім, як вокам глянуць, полі і гінулі ў лесе.* Пестрак. *І куды ні зірні, як вокам сцяць усюды мора, мора і мора...* Мурашка. *Цяпер могілкі параслі ўжо дзёрнам, і там зялёна кругом. Як вокам сцяць — густы лес шуміць.* Цётка.

*КІНЬ* • **АДАРВІ ДЫ КІНЬ**. Гл. адарві.

<u>*Куды ні, дзе ні*</u> **КІ́НЬ (КІ́НУ, КІ́НЕ) ВО́КАМ**. *Вык. Дадан. ск. Разм.* Паглядзі, зірні. *Тэрыторыя шклозавода.. хутчэй нагадвае велізарную звалку, чым завадскую тэрыторыю. Куды ні кінь вокам — горы запарушаных снегам бутэлек.* «Звязда». *Працы хапала мне, шукаць не трэба было, куды вокам ні кінь — усюды дзірваны старыя, непачатыя, нязрушаныя.* Лынькоў. *Цяпер яно [балота], дзе ні кінь вокам, было ўсыпана гуртамі коней і людзей.* Калюга. *Дзе ні кіне вокам сокал, рунь рунее новаўсходаў...* Купала. *І ўсё мне тут, дзе вокам я ні кіну, нагадвае аб жорсткасцях вайны.* Колас.

*КІПЕЦЬ* • **ПАД КІПЕЦЬ** *каго.* Гл. ногаць.

*КІПІЦЬ* • **ДУША КІПІЦЬ** *у каго.* Гл. душа.

**КРОЎ КІПІЦЬ** *у каго.* Гл. кроў.

*КІПНЕМ* • **ЯК АПАРАНЫ <КІПНЕМ>**. Гл. апараны.

*КІПЦІ* • **ПАКАЗВАЦЬ КІПЦІ** *каму.* Гл. паказваць.

**ПАПАДАЦЬ У КІПЦІ** *каго, чые, каму.* Гл. пападаць.

**РВАЦЬ КІПЦІ**. Гл. рваць.

*КІПЦЮРАХ* • <u>*Быць, трымаць, знаходзіцца*</u> **У КІПЦЮРА́Х** *чыіх, каго. Акал. Разм.* У поўнай залежнасці, ва ўладзе, у падпарадкаванні. **Сін.**: пад абцасам *чыім, каго, у каго;* пад ботам *чыім, каго, у каго* (у 1 знач.); пад каўпаком *каго, у каго;* пад пятой *у каго, чыёй, каго, чаго* (у 1 знач.); у кулаку; у лапах *каго, чыіх;* у руках *чыіх, каго, у каго* (у 1 знач.). *Вораг яшчэ трымае ў сваіх кіпцюрах вялікі абсяг нашай зямлі.* Колас. *Значыць, вайну вы па газетах ды па кіно ведаеце: Так? А я яе сваімі рукамі рабіў. Міклашэвіч у яе*

*кіпцюрах пабываў ды во так і не вырваўся.* Быкаў. *[Уля] нічога не памятала. Тыф доўга трымаў яе ў сваіх кіпцюрах.* Паўлаў.

*КІПЦЮРОЎ* • **З КІПЦЮРО́Ў** *чыіх, каго вырваць, вырвацца* і пад. *Акал. Праст.* З-пад чыёй-н. улады, залежнасці. **Сін.**: з лап *чыіх, каго;* з рук *чыіх, каго. [Камісар:] Мы ганарымся, што вырвалі такога чалавека з фашысцкіх кіпцюроў.* Крапіва. *Родны гарадок, які, здавалася, толькі ўчора быў вырваны з кіпцюроў ворага, цяпер зноў пакідаўся на здзекі і пакуты.* Мік.Ткачоў.

*КІПЦЮРЫ* • **ПАКАЗВАЦЬ КІПЦЮРЫ** *каму.* Гл. паказваць.
**ПАПАДАЦЬ У КІПЦЮРЫ** *каго, чые, каму.* Гл. пападаць.

*КІРМАШУ* • **З КІРМАШУ ЕХАЦЬ**. Гл. ехаць.

*КІСЕЛЬНЫМІ* • **МАЛОЧНЫЯ РЭКІ <З КІСЕЛЬНЫМІ БЕРАГАМІ>**. Гл. рэкі.

*КІСЛАРОД* • **КІСЛАРО́Д ПЕРАКРЫ́ТЫ** *каму, чаму. У безас. ужыв. Функц. не зам. Неадабр.* Створаны неспрыяльныя ўмовы для чыёй-н. дзейнасці.
**ПЕРАКРЫЦЬ КІСЛАРОД** *каму, чаму.* Гл. перакрываць.

*КІСНУЦЬ* • **КІСНУЦЬ СА СМЕХУ**. Гл. качацца.

*КІСЯЛІ* • **ДЗЕСЯТАЯ ВАДА НА КІСЯЛІ**. Гл. вада.

*КІТАЙСКАЙ* • **АДГАРОДЖВАЦЦА КІТАЙСКАЙ СЦЯНОЙ** *ад каго, ад чаго.* Гл. адгароджвацца.

*КІТАЙСКАЯ* • **КІТАЙСКАЯ ГРАМАТА**. Гл. грамата.
**КІТАЙСКАЯ СЦЯНА**. Гл. сцяна.

*КІЎНУЦЬ* • **КІЎНУ́ЦЬ ПА́ЛЬЦАМ**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** *<каму>.* Намякнуць, падаць знак. *Каб толькі ён кіўнуў пальцам, адно слова сказаў, яна тут жа, у тую ж мінуту, ігнаруючы ўсе плёткі.., перайшла б да яго ў Воўчы Лог, у заснежаную пустэчу.* Шамякін. *Так жа я любіла яго. Каб ён, здаецца, пальцам кіўнуў мне, то я б і пайшла за ім.* Лобан.
**2.** Ужыв. як пагроза таму, над кім хто-н. мае ўладу. Праявіць найменшае жаданне (для пакарання каго-н.). *[Паніч:] Ведай тое: што кіўну я толькі пальцам, і ты зараз жа зазвоніш ланцугамі за напад на маіх людзей з тапаром, калі ягамосця з хаты выпрошвалі.* Купала. *Я магу кіўнуць пальцам, і цябе павесяць вунь на той галіне.* Прокша.

*КІШАНЬКОВЫЯ* • **ХВАРЭЦЬ НА КІШАНЬКОВЫЯ СУХОТЫ**. Гл. хварэць.

*КІШКА* • **КІ́ШКА ТО́НКАЯ** *ў каго. Мн. не ўжыв. У безас. ужыв. Праст.* **1.** Не хапае сіл, умення, здольнасцей зрабіць, ажыццявіць што-н. **Сін.**: аслаблі гайкі *ў каго* (у 2 знач.); жыдкі лыткі *ў каго;* кароткі завароткі *ў каго, чые;* кароткі пяты *ў каго;* не адтуль растуць рукі *чые, у каго;* пораху не хапае *ў каго;* рукі кароткія *ў каго. — Яшчэ невядома, кім яна [вайна] прайграна... — Чаму вы лічаце, што невядома? — Таму што кішка тонкая ў вашага Гітлера.* Быкаў. *— І куды ж вы сабраліся, куды ж пойдзеце, калі... Калі, як вам верыць, немцы ўсюды ўжо? — Ну не, не ўсюды, — засмяяўся ціхенька Андрэй Макаравіч. — Кішка ў іх тонкая, каб усюды быць...* Сачанка.
**2.** Не хапае сродкаў на што-н. *— Трэба ўжо было каляровы [тэлевізар] купляць. — На каляровы кішка тонкая, — адказаў Адам.* Цяжкі.

*КІШКІ* • **АД'ЯДАЦЬ КІШКІ** *каму.* Гл. ад'ядаць.
**ВЫМОТВАЦЬ КІШКІ** *каму.* Гл. вымотваць.

**ВЫПУСЦІЦЬ КІШКІ** <*каму*>. Гл. выпусціць.

**ДУША ВОН** <*з каго*> **І КІШКІ НА ТЭЛЕФОН**. Гл. душа.

**КІ́ШКІ МА́РШ ІГРА́ЮЦЬ (МА́РША ГРА́ЮЦЬ)** *у каго. У безас. ужыв. Праст.* Хто-н. вельмі хоча есці, адчувае моцны голад. **Сін.**: жывот да спіны прырос *чый, у каго* (у 1 знач.); падцягвала жывот *каму, у каго;* салаўі пяюць у жываце ў *каго. — Прагаладаліся мы, прызнацца. Цэлы дзень без яды... — Кішкі марш іграюць — аж цярпення няма!..* Мележ. *— Добра на такое глядзець, але, брат, кішкі марш іграюць, — сказаў Вадзім на вуха Колю. — Давай зойдзем у хату, папросім есці.* Ставер. *У мяне даўно кішкі марша граюць.* Адамчык. — *За работу, дык за работу.. — азваўся Шкурдзя. — Толькі кішкі марша граюць.* Крапіва.

**РВАЦЬ КІШКІ**. Гл. рваць.

*КІШЭНІ* • **БІЦЬ ПА КІШЭНІ** *чыёй, каго.* Гл. біць.

**НЕ ПА КІШЭ́НІ** *каму. Часцей у безас. ужыв. Разм.* Занадта дорага для каго-н., не ў адпаведнасці са сродкамі. *Што, зямляк, не па кішэні магазін знайшоў?* Лынькоў. *Гэта ўжо занадта, пане падсудны, не па кішэні ні вам, ні дзяржаве.* Сачанка. *Лісанскаму пану мець дарагога ляснічага было не па кішэні — ён меў за пяцьдзесят рублёў падляснічага і леснікоў, якім плаціў па дваццаць рублёў.* Карамазаў. **ПА КІШЭНІ** *каму.* З супрацьлеглым знач. *Ці будзе, брат, нам па кішэні? Бо шчуплаваты нашы жмені...* Колас. *Абяцаю каву, тэлевізар, цікавую кнігу перад сном. Адным словам, камфорт, які па кішэні грамадзяніну з сярэднім акладам. Згода?* Дайнека.

**ПАКАЗВАЦЬ КУКІШ У КІШЭНІ**. Гл. паказваць.

**ПУСТЫ́Я КІШЭ́НІ** *ў каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. велымі бедны, зусім не мае грошай. **Сін.**: кішэня малая (у 1 знач.). **Ант.**: кішэня вялікая (у 1 знач.); тугая кішэнь *у каго. Але з чаго пачаць, мой браце? Бо невялікае багацце, і як ты знойдзеш канцы тыя, калі кішэні ў нас пустыя?* Колас. *Тут шмат тавару, што мне да твару, што мне да густу, — кішэні ж пусты...* Крапіва.

**У КІШЭ́НІ** *ў каго, чыёй. Вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У матэрыяльнай залежнасці ад каго-н. (быць). *Інспектары робяцца злыя, што сабакі, калі едуць, ведаючы, што «песенька камандзіра спетая». Молчан трымаўся гранітна. У Молчана інспектары былі ў кішэні.* Шамякін.

**У КО́ЖНАЙ КІШЭ́НІ ПА ЖМЕ́НІ** *каго. У безас. ужыв. Разм. Жарт.* Вельмі многа. **Сін.**: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла ў *каго;* вышэй вышэй *чаго;* вышэй галавы *чаго;* да гібелі *каго, чаго;* дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго;* да халеры *каго, чаго;* да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго;* з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго;* не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго;* не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго;* па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую > завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго;* хоць адбаўляй *каго, чаго;* хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым;* хоць заваліся *чаго;* хоць заліся *чаго;* <хоць> плот гарадзі *кім, каго;* хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго;* цьма цьмушчая *каго, чаго;* цэлы воз *каго, чаго;* чортава гібель *каго, чаго;* чортава процьма *каго, чаго;* чорт што *чаго;* як бобу *каго;* як гразі *каго, чаго;* як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак ня-

рэзаных *каго. Няма лепей адной. Ніякіх табе турбот. А калі захочацца прайсціся з якім хлопцам, дык такіх жаніхоў, як кажуць, у кожнай кішэні па жмені.* «ЛіМ».

**ФІГА Ў КІШЭНІ**. Гл. фіга.

*КІШЭНЬ* • **ЗАЛАЗІЦЬ У КІШЭНЬ** *чыю, каму, каго.* Гл. залазіць.

**КЛАСЦІ Ў СВАЮ КІШЭНЬ** *што.* Гл. класці.

**НАБІВАЦЬ <САБЕ> КІШЭНЬ**. Гл. набіваць.

**ТО́ЎСТАЯ (ПО́ЎНАЯ) КІШЭ́НЬ (-Я)**. *Часцей у адз. У ролі розных чл. ск. Разм.* Вельмі вялікі капітал, багацце. **Сін**.: кішэня вялікая (у 2 знач.); кашалёк тугі; тоўсты кашалёк. **Ант**.: кішэня малая (у 2 знач.). *Гэта быў местачковы кулак, які нажыў на гандлі свіннямі тоўстую кішэнь і яшчэ таўсцейшую морду.* Брыль. *Панскі дом і ўсе гаспадарчыя будынкі былі ўжо драўляныя. У барона на гэта былі свае прычыны: свой лес і ўжо не такая, відаць, тоўстая кішэнь, каб узводзіць нанава муры.* Машара. *Завод, маючы «тоўстую кішэню» на «культурныя мерапрыемствы», за 600 рублёў закупіў спектакль у сваім уласным Палацы культуры і на той вечар.* «ЛіМ». — *Ён таксама з поўнай кішэняй і, кажуць, не цураецца жанчын. — Гэтага мала, каб прывязаць яго да Дубніцкай.* Шыцік. *У вайну ён [гарадскі памешчык] узяў падрад на шынельнае сукно і нажыўся. З поўнымі кішэнямі ў першы год рэвалюцыі ён рушыў адсюль і ў часы акупацыі сюды не з'яўляўся.* Чорны.

**ТРЫМАЙ КІШЭНЬ ШЫРЭЙ!** Гл. трымай.

**ТРЭСЦІ КІШЭНЬ**. Гл. трэсці.

**ТУГА́Я КІШЭ́НЬ (-Я)** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. мае вельмі многа грошай, багацця. **Сін**.: кішэня вялікая (у 1 знач.). **Ант**.: кішэня малая (у 1 знач.). *У аднаго тысяча дзесяцін зямлі, а ў тысячы чалавек па дзесяціне, па паўтары, па дзве. І вечны голад, вечная недастача... Ды хіба толькі гэта? А здзекі над чалавекам, насмяянне над ім з боку больш моцных, з боку тых, у каго кішэнь тугая была.* Галавач.

*КІШЭНЮ* • **НЕ ЛЕЗЕ ПА СЛОВА Ў КІШЭНЮ**. Гл. лезе.

*КІШЭНЯ* • **КІШЭ́НЯ ВЯЛІ́КАЯ**. *У безас. ужыв. Разм.* **1**. *у каго.* Хто-н. вельмі багаты, мае многа грошай. **Сін**.: тугая кішэнь *у каго.* **Ант**.: кішэня малая (у 1 знач.); пустыя кішэні *ў каго. — Там, за акіянам, — гаворыць рабочы, — усё вырашае капітал. У каго кішэня вялікая, той і выбіраецца ў органы ўлады.* «Звязда».

**2**. Вельмі многа грошай. **Сін**.: кашалёк тугі; тоўстая кішэнь; тоўсты кашалёк. **Ант**.: кішэня малая (у 2 знач.). *А ехаць на Каўказ — трэба кішэня вялікая.* Ракітны.

**КІШЭ́НЯ МАЛА́Я**. *У безас. ужыв. Разм.* **1**. *у каго.* Хто-н. бедны, мала мае грошай. **Ант**.: кішэня вялікая (у 1 знач.); тугая кішэнь *у каго.*

**2**. Мала, не хапае грошай. **Ант**.: кашалёк тугі; кішэня вялікая (у 2 знач.); тоўстая кішэнь; тоўсты кашалёк. *Эге! У яго на саціну кішэня малая! Саромеўся б, Цімох, казаць такое!* Мележ.

*КІШЭНЯМІ* • **З ПУСТЫ́МІ (ПАРО́ЖНІМІ) КІШЭ́НЯМІ; З ПУСТО́Й (ПАРО́ЖНЯЙ) КІШЭ́НЯЙ (-ЯЮ)**. *Акал. Разм.* Без грошай, не маючы грошай (быць, прыходзіць, вяртацца і пад.). *Нават і на небе выбрацца з пустымі кішэнямі трудна.* Бядуля. *Чытаюць маладыя людзі пра Паўку Карчагіна, а самі лічаць, што калі яны вернуцца з Малдавіі ці Тамбова з пустымі кішэнямі, то гэта вялікая несправядлівасць.* «Полымя». *Другі з розумам ходзіць ды з пустой кішэняй. Розум, значыць, не ўсё яшчэ; трэба ўмець варочаць гэтым розумам.* Галавач. *[Гарбуз:] Не трэба жміндай быць. Ты што — прыйшоў з парожняю кішэняю?* Гілевіч.

*КІШЭНЯХ* • **ВЕЦЕР ГУЛЯЕ Ў КІШЭНЯХ** *у каго, чыіх.* Гл. вецер.

*КЛАДЗЕЦЦА* • **ЦЕНЬ КЛАДЗЕЦЦА** *на каго, на што.* Гл. цень.

*КЛАДЗІ* • **ПА́ЛЬЦА (ПА́ЛЕЦ) У РО́Т НЕ КЛАДЗІ́** *каму. Толькі ў заг. л. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. такі, што можа пастаяць за сябе, з кім трэба быць асцярожным. *Гарасім Пятровіч разгадаў тонкую хітрасць Языкевіча і гнеўна пачырванеў. Гэты хлапчына маладу ды ранні, пальца ў рот яму не кладзі.* Шамякін. *[Каравай:] Яму таксама пальца ў рот не кладзі... Мужык з характарам.* Макаёнак. *Адкуль такая пасіўнасць? Памятаю, раней жа быў — пальца ў рот не кладзі. А то як хто падмяніў.* Гаўрылкін. *Не такі ўжо ён разявака, гэты Кот, як здаецца. Яму палец у рот не кладзі.* Васілевіч.

**ХО́ЦЬ ЗУ́БЫ НА ПАЛІ́ЦУ КЛАДЗІ́ (ЛАЖЫ́)** *калі, пры якой умове. Толькі ў заг. л. У безас. ужыв. Разм.* Зусім няма чаго есці. *У сезон палявых работ яшчэ туды-сюды, а зараз хоць лажы зубы на паліцу.* Машара. *Наперадзе зіма, ды яшчэ якая зіма! Калі пры Савецкай уладзе атрымлівалі паёк мукой і сякімі-такімі прадуктамі, то цяпер хоць на паліцу кладзі зубы.* С.Александровіч. *Добра, што ў нас з Эльвірай Эрнестаўнай нейкі запасец быў. А так бы — хоць зубы кладзі на паліцу.* Сачанка. *Настала, бадай, самая цяжкая пара ў жыцці кляноўцаў — хоць зубы кладзі на паліцу.* Асіпенка. *У дзеда з харчаваннем было таксама кепска — хоць зубы на паліцу кладзі.* Дайнека.

**ХО́ЦЬ <ТЫ́> ДА РА́НЫ КЛАДЗІ́ (ПРЫКЛАДЗІ́, ПРЫЛАЖЫ́, ПРЫКЛАДА́Й)** *каго. Толькі ў заг. л. Часцей у безас. ужыв. Разм.* Хто-н. вельмі пакорлівы, памяркоўны, згаворлівы. **Сін.**: хоць у вуха кладзі *каго. Набок тут норавы і злосці! І мяккім робіцца пагany — хоць ты яго кладзі да раны.* Колас. *Са мной [Маргун] быў ветлівы, абыходлівы, хоць ты яго да раны прыкладзі.* Сабаленка. *А вы спадзяваліся, што я шаўковая, што мяне хоць да раны прылажы.* Лобан. *Сёння ён быў нейкі непадобны да сябе, ціхі, рахманы, хоць да раны яго прылажы.* Праскураў. *[Даніла:] А быў жа такі мякенькі, хоць ты яго да раны прыкладай.* Крапіва. *«Утварыў, нештачкі ўтварыў, сукін сын. Іначай не быў бы такі пакладзісты, рахманы. Бач — цішэй вады, ніжэй травы. Ціхенькі, лагодненькі — хоць ты да раны прыкладай», — пакруціў галавою, падумаў зноў пра сына Мікалай.* Сачанка.

**ХО́ЦЬ У ВУ́ХА КЛАДЗІ́ (ПАКЛАДЗІ́)** *каго. Толькі ў заг. л. Часцей у безас. ужыв. Разм.* Хто-н. вельмі спагадлівы, мяккі характарам, пакорны, памяркоўны. **Сін.**: хоць <ты> да раны кладзі *каго. — Ага, і ты злуеш. — Балазе ты не злуеш. Ты ж такі добры, хоць у вуха кладзі.* Чарнышэвіч. *Буракоў перастаў перабіваць Валю, зрабіўся зусім рахманы, хоць у вуха яго кладзі.* Ермаловіч. *[Настаўніца:] Будзе яна ваду вазіць на ім. Яго хоць у вуха пакладзі.* Макаёнак.

**ХО́ЦЬ У ДАМАВІ́НУ (У ТРУНУ́) КЛАДЗІ́** *каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. дрэнна выглядае, схуднеў, мае хваравіты, змардаваны выгляд. **Сін.**: ледзь душа ў целе *ў каго*; у чым толькі душа трымаецца *ў каго. Колішні аднакурснік з Рожана прыслаў аказію: пісаў, што ўжо ж такі ён хворы, такі хворы — хоць у дамавіну кладзі, і ўсё ж такі прасіў прыехаць на выхадны...* Кірэйчык.

*КЛАДЗІСЯ* • **ХОЦЬ КЛАДЗІСЯ І ПАМІРАЙ.** Гл. лажыся.

*КЛАНЯЦЦА* • **КЛА́НЯЦЦА Ў НО́ГІ** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Уніжана прасіць аб чым-н. **Сін.**: біць паклоны (у 2 знач.); біць чалом (у 2 знач.); падаць на калені *перад кім;* цалаваць рукі і ногі *каму. Знаем мы навуку, знаем не адну: дзедаў дзед праўнуку перадаў свайму... Абіваць парогі сыценькім людзям, кланяцца ў ногі злыдням і трутням.* Купала. *А я пану капітану ў ногі кланяцца не стану.* Крапіва.

*КЛАС* • **ПЕ́РШЫ КЛА́С**. *Мн. не ўжыв. Часцей вык. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Выдатнай вартасці, якасці, першакласны. **Сін.**: адным словам ; без сучка і <без> задзірынкі (у 2 знач.); будзь-будзь (у 2 знач.); будзь здароў (у 4 знач.); дай бог (у 2 знач.); дай бог кожнаму (у 1 знач.); дзякуй богу (у 2 знач.); за маё-маё (у 2 знач.); за маліну (у 3 знач.); з бляскам (у 2 знач.); кругом сто дваццаць; на славу (у 2 знач.); на ўсе рукі, на ўсе сто (у 3 знач.); на яць (у 2 знач.); па крайняй меры (у 2 знач.); пальчыкі абліжаш (у 2 знач.); пашукаць такога; першай гільдыі (у 1 знач.); першай рукі (у 1 знач.); першы сорт; разлюлі-маліна (у 1 знач.); рэдкай рукі; слава богу (у 2 знач.); хоць куды (у 1 знач.); хоць на выстаўку <вязі>; што трэба (у 2 знач.); як яечка. *Музыка была — першы клас...* М.Стральцоў. *Яна, па праўдзе сказаць, і нічога была: і з твару — цяпер яшчэ помніцца, — і фігурка першы клас.* Гігевіч. *Я ішоў то ўперадзе, то заходзіў назад, падчышчаў, як кажуць, паказваў і раіў тым, якія адставалі, хоць і з мяне, адчуваў я, касец быў не першага класа.* Ермаловіч.

*КЛАСЦІ* • **КЛА́СЦІ ВО́КА** *на каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Небезуважна, з сімпатыяй адносіцца да каго-н., цікавіцца кім-н. *Зайздрасць, чорная зайздрасць засцілае вочы гэтай нягодніцы. Звычайная дробязная жаночая зайздрасць да прыгожай жанчыны, на якую мужчыны часцей кладуць вока.* Новікаў. *Максім адмовіўся праводзіць дахаты дзяўчыну, якая даўно ўжо клала на яго вока, але яму не падабалася.* Рубанаў. **ПАКЛАСЦІ ВОКА** *на каго. Зак. Актывісткай яна [Хрысціна] стала таму, што вока на яе паклаў Яўхім Малінец, гаспадар той хаты-чытальні, дзе стаяў радыёпрыёмнік і па вечарах было тлумна ад людской гаманы.* Асіпенка.

**КЛА́СЦІ ГАЛАВУ́ НА КАЛО́ДКУ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Браць на сябе поўную адказнасць за што-н. **Сін.**: адказваць галавой *за каго, за што;* галаву ў заклад аддаваць; даваць галаву на адрэз *<каму>*; ручацца галавой *за ка-го, за што.* **ПАКЛАСЦІ (ПАЛАЖЫЦЬ) ГАЛАВУ НА КАЛОДКУ**. *Зак. Магу галаву палажыць на калодку: ніякі ён не адшчапенец. Ён болей любіць, паважае Айчыну, яе народы, чым вы...* Далідовіч.

**КЛА́СЦІ ДУШУ́** *ў што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Поўнасцю аддаючыся чаму-н., рабіць што-н. з захапленнем, стараннем, любоўю. **Сін.**: укладваць душу *ў што. Ніхто не мог растлумачыць, чаму ад грання музыкі так моцна білася сэрца беднякоў. Ніхто не ведаў, што музыка ўсю душу сваю клаў у ігру.* Багдановіч. **ПАКЛАСЦІ (ПАЛАЖЫЦЬ) ДУШУ** *ў што. Зак.*

**КЛА́СЦІ ЗУ́БЫ НА ПАЛІ́ЦУ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Жывучы ў нястачы, пастаянна недаядаць, галадаць. **Сін.**: ляскаць зубамі; смактаць лапу; сядзець на хлебе і <на> вадзе. *Людзі хаваюць дабро. Трэба і нам гэта зрабіць. А то каб не давялося класці зубы на паліцу.* Гурскі. *Іван падумаў: «Якія гасцінныя нашы людзі. Сам зубы на паліцу кладзе, а госцю апошні кавалак прапануе».* Новікаў. **ПАКЛАСЦІ (ПАЛАЖЫЦЬ) ЗУБЫ НА ПАЛІЦУ**. *Зак. — Скора пакладзём зубы на паліцу, — гаварыла маці. — Што будзем рабіць, як паямо ўсё?* Арабей. *Яно, канешне, і без шчасця — не саладк[а]! Але як есці не будзе чаго, як зубы на паліцу палажыць прыйдзецца, д[ы]к от будзе шчасце!* Мележ.

**КЛА́СЦІ НА <АБЕ́ДЗВЕ> ЛАПА́ТКІ** *каго, што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Перамагаць у якой-н. справе. **Сін.**: браць верх (у 3 знач.). *Ігар, яшчэ калі слухаў даклад, зразумеў, чаго дабіваецца Мамрук. Цяпер ён хуценька напісаў Івану запіску: «Дзед, трэба хутчэй класці Мамрука на лапаткі!»* Гаўрылкін. **ПАКЛАСЦІ НА <АБЕДЗВЕ> ЛАПАТКІ** *каго, што. Зак. Сапраўды, ства-*

*раецца ўражанне, што нафтавыя манаполіі задумалі пакласці на лапаткі эканоміку ўсёй краіны, каб дагадзіць сваім амбіцыям і прагным жаданням.* «Полымя». *Учора [камбайнер] Лёнька, нарэшце, паклаў Рабчанку на абедзве лапаткі, перагнаў на пяць гектараў.* Краўчанка.

**КЛА́СЦІ НА АЛТА́Р** *чаго, чый што. Незак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Аддаваць што-н. у імя чагосьці высокага, дарагога і пад. *Свабода гэтая далёка не анархісцкая, на алтар яе, як сцвярджае паэт, трэба класці і добраахвотныя ахвяры.* Навуменка. **ПАКЛАСЦІ (СКЛАСЦІ) НА АЛТАР** *чаго, чый што. Зак. Мусіць, у гісторыі не было іншага чалавека, які б паклаў на алтар беларускага асветніцтва столькі ўласных сродкаў, як Магдаліна Радзівіл.* «Настаўн. газ.» *Мастацтва робіць сваю справу, і паэт лічыць, што зусім заканамерна скласці на яго алтар усе свае сілы.* Лойка.

**КЛА́СЦІ НА БО́ЧКУ** <u>*грошы*</u>. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Плаціць тут жа, не адкладваючы. **Сін.**: на бочку. *[Бусыга:] Мы табе ўсё спаўна заплацім, калі зробіш справу. [Саўка:] Не, кладзі на бочку!* Колас. *Галоўнае, кладуць грошы.. на бочку. Прывёў чалавечка амерыканскім разведчыкам, тыя агледзелі ў яго зубы, вочы, праверылі кемлівасць на так званым «дэтэктары лжы», і атрымлівай трыста пяцьдзесят долараў за жывы тавар.* Паслядовіч. **ПАКЛАСЦІ (ПАЛАЖЫЦЬ, ВЫКЛАСЦІ, ВЫЛАЖЫЦЬ) НА БОЧКУ** *грошы. Зак. — Калгасныя маляры?.. — Дзе там! — махнуў рукой старшыня. — Наёмныя шабашнікі. 500 рублёў на бочку выклаў.* «ЛіМ».

**КЛА́СЦІ (НАКЛА́ДВАЦЬ, НАКЛАДА́ЦЬ) <СВАЮ́> ПЯЧА́ЦЬ (ПЯЧА́ТКУ, АДБІ́ТАК)** *на каго, на што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Пакідаць прыкметны след на кім-, чым-н., аказваць уздзеянне на каго-, што-н. *Класавая прырода і індывідуальная адоранасць аўтара заўсёды кладуць сваю пячатку на арсенал яго мастацкіх сродкаў і паэтычных вобразаў.* Крапіва. *[У камедыях У.Галубка] арганічна сплавіліся прафесійнае майстэрства са шчымлівай аўтарскай зацікаўленасцю. Вось гэтая зацікаўленасць і накладвала адбітак на ўсё, што б ні рабіў гэты апантаны, высакародны чалавек.* Лаўшук. *Ужо больш за два гады, як мы не бачыліся. Гады накладаюць пячатку на чалавека.* Зарэцкі. **НАКЛАСЦІ (НАЛАЖЫЦЬ, ПАКЛАСЦІ) <СВАЮ> ПЯЧАЦЬ (ПЯЧАТКУ, АДБІТАК)** *на каго, на што. Зак. Цяжка вызначыць, што наклала свой адбітак на паўднёва-ўсходнюю ўскраіну Мінска за Чэрвеньскім рынкам.* Новікаў. *Абодва падсудныя былі бледныя: доўгае знаходжанне ў астрозе да суда налажыла на іх свой адбітак.* Колас. *З момант яна [Волька] стаяла моўчкі, а пасля вочы яе пачырванелі, і яна ўсміхнулася, каб не заплакаць. Але гэты рух у яе душы паклаў пячаць на яе твар, і ўсе заўважылі гэта.* Чорны.

**КЛА́СЦІ ПАД СУКНО́** *што. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адкладваць рашэнне чаго-н. (справы, просьбы, заявы), пакідаць без увагі, без руху. **Ант.**: даваць ход (у 2 знач.); зрушыць з месца *што. Як часта бывае? Падае рацыяналізатар увогуле каштоўную ідэю. Ды яна не ўпісваецца ў вытворчы працэс. Таму і кладуць яе пад сукно.* «Звязда». **ПАКЛАСЦІ (ПАЛАЖЫЦЬ) ПАД СУКНО** *што. Зак. Відаць, паклаў тую справу Анатоль Лукіч пад сукно і забыўся пра яе.* «Вожык». *[Глуздакоў:] У нас ёсць пісьмо з вобласці аб перагібах Буйкевіча? [Цесакоў:] Першы раз чую. [Лявон:] Няўжо і там пад сукно палажылі?* Макаёнак.

**КЛА́СЦІ (СКЛАДА́ЦЬ) ГАЛАВУ́ (ГАЛО́ВЫ)** *за каго, за што, дзе. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гінуць у баі, ахвяроўваць сабой. **Сін.**: загрымець касцямі (у 1 знач.); зложыць <свае> косці; знайсці сабе магілу *дзе;* легчы касць-

мі (у 1 знач.); легчы трупам; ляжаць у <сырой> зямлі; навярнуць галавой; накладаць галавой; памінай як звалі (у 1 знач.); парыць зямлю; парыць косці *дзе;* парыць у зямлі косці; спаць вечным сном; спаць у сырой зямлі; яму засквaрыць. *Рускі салдацік на пазіцыі галаву сваю кладзе за цара ды за царыцу.* Лобан. *[Лабановіч] адчуваў радасць пазнання новай праўды, той праўды.., за якую лепшыя дзеці народа марнелі па астрогах, гібелі і чэзлі ў ссылках, на катарзе або ў росквіце жыцця складалі галовы па цёмных сутарэннях.* Колас. **СКЛАСЦІ (ЗЛАЖЫЦЬ, ПАКЛАСЦІ, ПАЛАЖЫЦЬ) ГАЛАВУ (ГАЛОВЫ)** *за каго, за што, дзе. Зак. — Дзе ж ваш Анатоль цяпер?.. — Жывога няма! Каб на вайне галавы не склаў, дык абазваўся б дагэтуль.* Чорны. *Мой таксама недзе вось так.. ваюе.. а можа, галаву злажыў...* Чыгрынаў. *Васемнаццаць год хлопцу. Возьмуць, трапіць у пяхоту, і што, думаеш? Маладое, дурное — у першым-другім баі і пакладзе галаву.* Быкаў. *[Даніла:] А ў салдаты — галаву палажыць за таўстапузых — ты не ласкаў?..* Крапіва.

**КЛА́СЦІ Ў <СВАЮ́> КІШЭ́НЬ (-Ю, -І)** *што. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прысвойваць (грошы, золата і пад.). **Сін.**: браць у <свае> рукі (у 3 знач.); залазіць у кішэнь *чыю, каму, каго;* запускаць ляшча; запускаць руку *ў што, куды;* накладваць лапу (у 1 знач.); прыбіраць да рук (у 2 знач.); убіраць у <свае> рукі (у 2 знач.). *Капіталіст мільёны золата ў свае кішэні кладзе...* Галавач. **ПАКЛАСЦІ (ПАЛАЖЫЦЬ) У <СВАЮ> КІШЭНЬ (-Ю, -І)** *што. Зак. У выніку маніпуляцый кіруючыя работнікі паклалі ў кішэнь у выглядзе прэміі больш як паўтары тысячы рублёў.* «Звязда». *За адну такую аперацыю можна пакласці ў кішэню да паўтара мільёна.* «Полымя».

**РАЗЖОЎВАЦЬ І Ў РОТ КЛАСЦІ** *каму.* Гл. разжоўваць.

*КЛАСЦІСЯ* • **КАСЦЬМІ́ КЛА́СЦІСЯ**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прыкладаць вялікія намаганні дабіцца чаго-н. *Мы... касцьмі кладзёмся, каб адбудаваць гэту лінію наноў.* Казько. *Я згаджаюся, што эканоміка павінна стаць многаўкладнай. Праверана іх практыкай. Але калі ў гэтай многаўкладнасці з'явіцца герой з вялікай літары, якому мне хочацца спець асанну?* Шамякін.

**КЛА́СЦІСЯ (ЛАЖЫ́ЦЦА) НА ПАПЕ́РУ**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Пісацца. Пра пісьмовае выказванне сваіх думак. *Я шукаў пранікнёных, узнёслых слоў, і словы такія знаходзіліся, яны клаліся на паперу прачулымі, шчырымі радкамі.* Навуменка. *Думка за думкай, сказ за сказам лажыліся на паперу.* Дамашэвіч. **ЛЕГЧЫ НА ПАПЕРУ**. *Зак. Трэба пісаць. У галаве думак — вадаспад. Але яны стануць зброяй, калі лягуць на паперу.* Шамякін.

**КЛА́СЦІСЯ (ЛАЖЫ́ЦЦА) НА ПЛЕ́ЧЫ** *чые, каго, каму. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Станавіцца прадметам клопату, сферай дзейнасці каго-н. *Выканаць норму маладыя майстры не могуць, таму і кладзецца ўвесь цяжар на плечы вопытных майстроў.* «Звязда». *А паспрабуй кожны раз папрасіць, каб табе дроў прывезлі, сена накасілі, — ды і не пералічыць усяго таго, што кладзецца на плечы жанчыне, калі ў хаце няма не першы год гаспадара.* Гаўрылкін. **ЛЕГЧЫ НА ПЛЕЧЫ** *чые, каго, каму. Зак. Пярэбары ў Смалярню перш за ўсё леглі на дзядзькавы плечы.* С.Александровіч. *Старэйшая дзяўчынка Ніна змалку прывыкла хадзіць па заработках. Гэтым памагала бацькам. Як мачыха стала, уся хатняя праца легла на плечы Ніны.* Галавач. *Слухаю ўважліва чалавека, а тады пытаю: — Аднаму цяжка на зямлі? Раптам занядужаеце, на чые плечы ляжа клопат? — Ёсць каму падмяніць!.. Маю пяцёра сыноў.* Пашкоў.

**КЛА́СЦІСЯ НА АЛТА́Р** *чаго, чаму. Незак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Аддавацца чаму-н. у імя чагосьці высокага, дарагога і пад. *Ды што змагацца з неспазнаным? На алтар яму кладзецца творчасць — ахвярапрынашэнне, калі ахвярнікам робіцца мальберт, аркуш паперы, сцэна, ахвярай — талент і дух.* Куртаніч.

**КЛА́СЦІСЯ ПАД СУКНО́**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Пакідацца без увагі, без далейшага развіцця чаго-н. (заявы, пісьмовага меркавання і пад.). *Меркаваннем рэцэнзента надаваўся ход толькі ў тым выпадку, калі яны ў галоўным супадалі з выдавецкім намерам. У адваротным выпадку закрытая рэцэнзія клалася пад сукно.* Бугаёў.

**КЛАСЦІСЯ СА СМЕХУ**. Гл. качацца.

*КЛЕЙ* • **ХОЦЬ СЦЕНЫ Ў ХАЦЕ КЛЕЙ** *чаго.* Гл. абклейвай.

*КЛЕТАЧКУ* • **НЕБА Ў КЛЕТАЧКУ**. Гл. неба.

*КЛЕТКУ* • **НЕБА Ў КЛЕТКУ**. Гл. неба.

*КЛЁПАК* • **КЛЁПАК НЕ ХАПАЕ <У ГАЛАВЕ>** *у каго.* Гл. хапае.

*КЛЁПКІ* • **БЕЗ КЛЁПКІ Ў ГАЛАВЕ́**. *Вык. і азн. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры наз. са знач. асобы. Прыдуркаваты, з дзівацтвамі. **Сін.**: без галавы; без цара ў галаве; з прыветам. **Ант.**: з галавой (у 1 знач.); з царом у галаве (у 1 знач.); у цемя не біты. *Самога Дульку калі не лічылі апошнім ёлупам і прайдзісветам, дык усе звалі дзіваком без клёпкі ў галаве.* Кірэенка.

**КЛЁПКІ НЕ ХАПАЕ <У ГАЛАВЕ >** *у каго.* Гл. хапае.

*КЛІН* • **ВЫБІВАЦЬ КЛІН КЛІНАМ**. Гл. выбіваць.

**УБІВАЦЬ КЛІН** *паміж кім, паміж чым.* Гл. убіваць.

*КЛІНА* • **ВЫБІВАННЕ КЛІНАМ КЛІНА**. Гл. выбіванне.

*КЛІНАМ* • **ВЫБІВАННЕ КЛІНАМ КЛІНА**. Гл. выбіванне.

**ВЫБІВАЦЬ КЛІН КЛІНАМ**. Гл. выбіваць.

**СВЕТ КЛІНАМ СЫШОЎСЯ** *на кім, на чым.* Гл. свет.

*КЛІНКІ* • **ПАДБІВАЦЬ КЛІНКІ** *пад каго, да каго.* Гл. падбіваць.

*КЛІННІ* • **ПАДБІВАЦЬ КЛІННІ** *пад каго, да каго.* Гл. падбіваць.

*КЛІНЫ* • **ПАДБІВАЦЬ КЛІНЫ** *пад каго, да каго.* Гл. падбіваць.

*КЛОПАТ* • **КЛО́ПАТ ВЯЛІ́КІ** <*каму*>. *У безас. ужыв. Разм.* Няважна, не мае значэння; падумаеш. **Сін.**: бяда вялікая; не <вялікая> бяда; такой бяды. — *Клопат мне вялікі, пойдзеш ты на перавыбары ці не. Хто захоча, дык пойдзе, а ты не пойдзеш, то як-небудзь абыдзецца і без цябе, — адказаў Пошта.* Крапіва. — *А гэта я зусім і не вычытала... — Клопат вялікі, вычытала — не вычытала. Абы добра складзена... — Гэта я напісала...* Васілевіч.

*КЛУБОК* • **КЛУБО́К (КЛУБО́ЧАК) РАЗБЛЫ́ТВАЕЦЦА (РАЗМО́ТВАЕЦЦА)**. *У безас. ужыв. Функц. не зам.* Высвятляецца якая-н. складанасць, заблытаная справа. **Сін.**: вузел развязваецца. *І раскажа [Віця] так упэўнена, так пераканаўча, што і бацьку не будзе спакою, пакуль не разблытаецца гэты клубок.* Чарнышэвіч. *«Клубочак паступова размотваецца, — запісаў у сваім дзённіку Архіп Іванюк. — Сёння ў палкоўніка пра ўсё пагаварым. Дэталёва. Вядзе ён нашу справу, як дзіця за ручку, з выключным умельствам».* Кавалёў.

**РАЗБЛЫТВАЦЬ КЛУБОК**. Гл. разблытваць.

*КЛУБОЧАК* • **КЛУБОЧАК РАЗБЛЫТВАЕЦЦА**. Гл. клубок.

*КЛЮНУЎ* • **СМАЖАНЫ ПЕВЕНЬ КЛЮНУЎ <У ЗАД>** *каго, каму*. Гл. певень.

*КЛЮНУЦЬ* • **КЛЮ́НУЦЬ НА ВУ́ДАЧКУ (НА ВУ́ДУ, НА КРУЧО́К)**. *Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** *чыю, каго, якую*. Паддацца на падман. **Сін**.: ісці на вудачку *чыю, каго;* паддавацца на вудачку *каго, чыю, каму;* пападаць на кручок *каму, чый, да каго. Не яна ў яго першая, не яна апошняя. Не адна ўжо клюнула на яго вудачку, асабліва першакурсніцы.* Дамашэвіч. *Только свіснулі — і ты прыбег... Я быў упэўнены, што ты клюнеш на гэтую вудачку.* Дайнека. *Сёй-той з ходу клюнуў на кручок прайдзісветаў... Хабар вылічваўся не дзесяткамі, а сотнямі рублёў.* «Вожык».
**2.** *чаго*. Аказацца пад уздзеяннем чаго-н. *Будзем рады, калі кожны з вас знойдзе дарогу ў вялікае жыццё, не збочыць, не клюне на вуду падхалімажу, фальшу, хлусні, будзе чысты сумленнем...* Мыслівец. *Пальчык, як маленькі, клюнуў на вудачку свае ўласнае фантазіі і нейкага хваравітага ўяўлення.* Дамашэвіч.

*КЛЮЧ* • **ПАД КЛЮ́Ч** <u>*здаваць, будаваць*</u>. *Акал. Разм.* У канчатковым, завершаным выглядзе (здаваць, будаваць дом і пад.). *Мы здавалі свае аб'екты лівійскай кампаніі, як кажуць, пад ключ.* «Звязда». *Вось гэтыя шабашнікі будавалі дачы з уласнага матэрыялу, як кажуць, пад ключ.* «ЛіМ». *Катэдж здалі пад ключ напярэдадні Першамая.* Масарэнка.

*КЛЮЧЫК* • **ПАДБІРАЦЬ КЛЮЧЫК** *да каго, да чаго*. Гл. падбіраць.

*КЛЮЮЦЬ* • **КУРЫ НЕ КЛЮЮЦЬ** *грошай*. Гл. куры.

*КЛЯВАЦЬ* • **КЛЯВА́ЦЬ НО́САМ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Драмаць седзячы ці стоячы. **Сін**.: вадзіць дзяды; вудзіць акунёў; табаку важыць. *Калі ехалі назад, ён [Сяргей], змарыўшыся, пачаў кляваць на возе носам.* Навуменка. *Хіліла на сон. Людзі ішлі і клявалі носам.* Дамашэвіч. *Паўлік так навесяліўся, што заснуў у бацькавай лодцы. Канешэвіч таксама клюе носам.* Пашкоў.

*КЛЯЙМА* • **КЛЯЙМА СТАВІЦЬ НЯМА ДЗЕ** *на кім*. Гл. няма.

*КЛЯМКУ* • **ПАЦАЛАВАЦЬ КЛЯМКУ**. Гл. пацалаваць.

*КНІГІ* • **І КНІ́ГІ Ў РУ́КІ** *каму. У безас. ужыв. Разм.* У каго-н. ёсць усе падставы, магчымасці зрабіць што-н.; хто-н. найбольш падыходзіць да чаго-н. (сваімі ведамі, вопытам і пад.). **Сін**.: <і> карты ў рукі *каму;* сцяг у рукі *каму. Цярэбяць дамаседа, гудуць суладна ўнукі: — Расказвай казкі, дзеда, табе ж і кнігі ў рукі...* Вітка. *А югракам з вышэйшай Лігі , як той казаў, і ў рукі кнігі!* «ЛіМ».

*КНІГУ* • **ГЛЯДЗІЦЬ У КНІГУ, А БАЧЫЦЬ ФІГУ**. Гл. глядзіць.

*КНОПКІ* • **НАЦІСНУЦЬ НА ЎСЕ КНОПКІ**. *Зак. да* **НАЦІСКАЦЬ НА ЎСЕ КНОПКІ**.

*КНЯЗІ* • **З ГРАЗІ ДЫ Ў КНЯЗІ**. Гл. гразі.

*КОЖНАЙ* • **АД КОЖНАЙ БОЧКІ ШПУНТ**. Гл. шпунт.
**ДРЫЖАЦЬ НАД КОЖНАЙ КАПЕЙКАЙ**. Гл. дрыжаць.
**У КОЖНАЙ КІШЭНІ ПА ЖМЕНІ** *каго*. Гл. кішэні.

*КОЖНАМУ* • **ДАЙ БОГ КОЖНАМУ**. Гл. бог.

*КОЖНУЮ* • **ПАД КОЖНУЮ БОЧКУ ШПУНТ**. Гл. шпунт.

*КОЖНЫ* • **І КОЖНЫ ЖУК І ЖАБА**. Гл. жук.
**КОЖНЫ САБАКА**. Гл. сабака.
**КОЖНЫ СУСТРЭЧНЫ**. Гл. сустрэчны.
**НА КОЖНЫ ВЫПАДАК**. Гл. выпадак.

*КОЖНЫМ* • **НА КОЖНЫМ КРОКУ**. Гл. кроку.
**У КОЖНЫМ ВЫПАДКУ**. Гл. выпадку.
**У КОЖНЫМ РАЗЕ**. Гл. разе.

*КОЗА* • **ПРЫЙДЗЕ (ПРЫЙШЛА́) КО́ЗА ДА ВО́ЗА (КАЗА́ ДА ВАЗА́)**. *Выкл. Разм.* Выказванне асуджэння каго-н., прадракання пакорлівасці, упэўненасці, што хто-н. адумаецца, пакаецца і звернецца з просьбай, па дапамогу. *А я кажу, паглядзіш [я]шчэ, дачакаемся — прыйдзе коза да воза...* Баранавых. *Хлопцы сарамліва апускалі галовы, і Яська з Калюнем з выглядам пераможцаў давала ім самакат: — Прыйшла коза да воза! Наце, нам не шкода!* Гіль. *Добра, хай будзе па-твойму, дзядзька Максім, але запомні: прыйдзе каза да ваза... Папросіш яшчэ, каб дроў з лесу прывёз, я табе прыпомню ўсё.* І.Капыловіч. *[Шугаеў:] Што? Раней адмовіўся ад трактарных касілак. Не хацеў лішняй натурплаты здаваць. Эканоміў. А цяпер прыйшла каза да ваза.* Макаёнак.

*КОЗАМІ* • **КОЗАМІ СЕНА ТРАВІЦЬ**. Гл. травіць.
**ПАСПЕЕШ З КОЗАМІ НА ТОРГ**. Гл. паспееш.

*КОЗЛІШЧ* • *Аддзяляць* **АВЕЦ АД КОЗЛІШЧ**. Гл. авец.

*КОЗЫ* • **ДЗЕ МАКАР КОЗЫ ПАСЕ**. Гл. макар.

*КОЗЫР* • **ДАВАЦЬ КОЗЫР У РУКІ** *каму*. Гл. даваць.
**КО́ЗЫР БІ́ТЫ** *чый, каго. Мн. не ўжыв. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н., пазбаўлены сваіх часовых пераваг, пацярпеў поўную няўдачу ў чым-н. **Сін.**: карта біта *чыя, каго;* козыр выбіты з рук *каго, чыіх;* стаўка біта *чыя, каго. [Князь:] Па плану паўстання.. мы спадзяваліся абапераціся на сялянства, але зараз мы бачым, што гэты наш козыр біты: яно не саюзнік наш, а самы заядлы вораг.* Гарбацэвіч.
**КО́ЗЫР ВЫ́БІТЫ З РУ́К** *каго, чыіх. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. пазбаўлены якіх-н. пераваг. **Сін.**: карта біта *чыя, каго;* козыр біты *чый, каго;* стаўка біта *чыя, каго. Аб'яднанне ўпершыню за сем гадоў выканала план. І не за кошт штурмаўшчыны, а шляхам лепшай арганізацыі працы. Так з рук ананімшчыкаў быў выбіты козыр.* «Звязда».

*КОЗЫРАМ* • **ХАДЗІЦЬ КОЗЫРАМ**. Гл. хадзіць.

*КОЗЫРЫ* • **ВЫБІВАЦЬ КОЗЫРЫ З РУК** *каго, у каго*. Гл. выбіваць.
**ВЫКЛАДВАЦЬ <СВАЕ> КОЗЫРЫ <НА СТОЛ>**. Гл. выкладваць.

*КОЛ* • **ЗАБІВАЦЬ АСІНАВЫ КОЛ У МАГІЛУ** *каго, чаго*. Гл. забіваць.
**НІ ЗА КО́Л НІ ЗА ЦЯ́М**. *Абл. Вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не майстар, не здатны да рамяства. «*З аднаго палена будзе малатарня, а з другага арфа», — гаварыў Цімох, намякаючы на тое, што Ёсіп быў «ні за кол ні за цям», толькі што працавіты, як вол, і без толку гарачы.* Брыль.
**ХОЦЬ КОЛ НА ГАЛАВЕ ЧАШЫ** *каму*. Гл. чашы.

*КОЛА* • **ЗАМКНЁНАЕ (ЗАМКНУ́ТАЕ) КО́ЛА**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Бязвыхаднае становішча; такі збег абставін, з якога цяжка знайсці выйсце. **Сін.**: зачараванае кола (у 1 знач.). *З зарплатай настаўніка мы апынуліся ў замкнёным коле.* «Настаўн. газ.» *Пайшоў мой паэт у аўтаінспекцыю да нашага чурылаўскага ка-*

*пітана. «Адрамантуюць — атрымаеш [для машыны] нумары!» Замкнутае кола.* Шырко. *Пастаўленая задача ўтварала замкнёнае кола: каб «злавіць» момант запуску ракеты пры дапамозе касмічнага тэлескопа, — трэба мець адпаведны тэлескоп, а каб яго пабудаваць, — трэба ведаць, што і як ён «зловіць».* «Нар. газ.»

**ЗАЧАРАВА́НАЕ (ЗАЧАРО́ВАНАЕ) КО́ЛА.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* **1.** Бязвыхаднае становішча; такі збег абставін, з якога цяжка знайсці выйсце. **Сін.**: замкнёнае кола. *І ў Шуры быць бясконца нельга, і ісці куды б там ні было — таксама быццам нельга. Нейкае зачараванае кола, ланцуг, які і парваць як?* Сачанка. *Усе ж дарогі, якія маглі б прывесці іх [сяброў] да выйсця з гэтага зачараванага кола, для іх былі няясныя...* Колас.

**2.** Бяссэнсіца, лагічная памылка, калі што-н. даказваецца праз такое палажэнне, якое само патрабуе доказу. *Атрымліваецца зачараванае кола: няма [твора] у хрэстаматыі, бо няма ў праграме, і — наадварот.* Шкраба. — *Слабы працадзень — бо слабая дысцыпліна. Слабая дысцыпліна — бо слабы працадзень. Гэта ж зачараванае кола... — умяшаўся ў размову Сяргей.* Шахавец.

**КО́ЛА ЗАМКНУ́ЛАСЯ.** *Часцей ужыв. як самастойны ск. Функц. не зам.* Склаліся блізкія да зыходных абставіны, з якіх цяжка знайсці выйсце. *Ну а гарадскі суд проста прадубліраваў рашэнне раённага. І, як заўсёды, кола замкнулася.* Шаўцоў. *Кола замкнулася. Усё вяртаецца на кругі свая. Час бязлітасны і справядлівы. Усё праходзіць на гэтым свеце.* Сцяпан.

**КРЫВО́Е КО́ЛА.** *Мн. не ўжыв. Вык. ці зваротак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Упарты, капрызны чалавек, які сваімі ўчынкамі пляміць сябе. **Сін.**: з мухамі ў носе. *Вечна ты дзярэшся няма за што, усё напроці каму, а яно ўсё на цябе. Не будзь такое крывое кола.* Янкоўскі. — *Васіль, пачакай, во нейкі малахольны, — пачуў ён услед, — нічога яму не скажы, крывое кола, не крані ты яго!* Саламаха.

**НІ Ў КО́ЛА НІ Ў МЯ́ЛА.** *Вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Няўмелы, няздатны чалавек. *Людзі і па-людску жыць хочуць. Што яны, цётачка, вінаваты, што старшыня ні ў кола ні ў мяла?..* Клебановіч. *Суседцы тваёй ты не патрэбны — ні ў кола ні ў мяла. Чайка ад цябе адвярнулася, сам вінаваты.* Пташнікаў.

**ПАВЯРНУЦЬ КОЛА ГІСТОРЫІ НАЗАД.** Гл. павярнуць.

**ПАЛКА Ў КОЛА.** Гл. палкі.

**СТАВІЦЬ ПАЛКІ Ў КОЛА** *каму, чаго.* Гл. ставіць.

**ЦЯГНУЦЬ ВАДУ НА СВАЁ КОЛА.** Гл. цягнуць.

<u>*Патрэбна, трэба*</u> **ЯК ПЯ́ТАЕ КО́ЛА Ў ВО́ЗЕ.** *Акал. Разм. Іран.* Зусім не, нікольні не (патрэбны хто-н. ці што-н. каму-н.). **Сін.**: як дзірка ў мосце; як зайцу стоп-сігнал; як леташні снег; як рыбе парасон; як сабаку пятая нага. *[Віця:] Іх бацюшка будзе вянчаць, а не ты, малеча! Патрэбны ты там як пятае кола ў возе!* Ялоўчык.

*КОЛАМ* • **ЗУХ З КОЛАМ ДА МУХ.** Гл. зух.

*КОЛАС* • **ПАД КО́ЛАС** <u>*крыць, пакрыць, крыты*</u>. *Акал. Разм.* Іржаной саломай, каласамі ўніз. *Цяпер былі толькі зямлянка, павеці, азяроды, пад колас крытыя пагрэбнікі...* Брыль. *Скончылі [хату] восенню, спяшаліся, накрылі «пад колас», печ рабілі з гліны, сяней зусім не было, прыставілі ад страхі да нізу жэрдкі, палацілі і таксама накрылі «пад колас» — так менш ішло саломы.* Дамашэвіч.

*КОЛАХ* • **НА КО́ЛАХ**. *Разм.* **1.** *Акал.* У руху, у дарозе (жыць, знаходзціца і пад.). *Пакрысе і Вольны ператварыўся ў бесхацінца. Жыў на колах, часцей за ўсё паміж Ленінградам, дзе змяшчалася наша кінастудыя, і Мінскам.* Лужанін.

**2.** *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Які характарызуецца частымі пераездамі. Пра спосаб жыцця каго-н. *[Панова:] Ты лепш не вазіся з вайскоўцамі. Нічога цікавага. Іхнія сем'і вечна на колах, як цыганы...* Карпюк.

*КОЛЕ* • **АПОШНЯЯ СПІЦА Ў КОЛЕ**. Гл. спіца.

**ДЗЕСЯТАЯ СПІЦА Ў КОЛЕ**. Гл. спіца.

**І Ў КО́ЛЕ І Ў МЯ́ЛЕ** <u>*быць, пабыць*</u> і пад. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У самых разнастайных жыццёвых сітуацыях (быць і пад.). **Сін.**: на возе і пад возам; на кані і пад канём. *Адкуль жа яму, маладзейшаму гадоў на пятнаццаць, ведаць, што гэты вучоны чалавек быў і ў коле і ў мяле, што не засталася марнай маміна навука: працы і світкі не саромейся; дай божа ўсё ўмець, ды не ўсё рабіць.* «Настаўн. газ.» *Чалавек гэты пабыў, як кажуць, і ў коле і ў мяле, але пакуль што не ўпадабаў сабе пэўнага прыстанішча.* Сіманоўскі.

**КО́ЛЕ (-ЮЦЬ) ВО́ЧЫ**. *Незак. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Што-н. асляпляе сваёй прыгажосцю, яркасцю, неадчэпна прыцягвае ўвагу. **Сін.**: адбірае вочы; рве вока. *Праходзіць тыдзень, другі — і палотны робяцца ўжо зусім белыя. — Аж вочы колюць, — радуюцца дарослыя.* Васілевіч. *Зіма. Толькі што нападаў снег. На дварэ — бела, аж вочы коле.* Сачанка.

*КОЛЕРАХ* • **МАЛЯВАЦЬ У РУЖОВЫХ КОЛЕРАХ** *каго, што*. Гл. маляваць.

*КОЛЕРЫ* • **У РУЖОВЫМ КОЛЕРЫ**. Гл. святле.

*КОЛЕЦЦА* • **<І> ХОЧАЦЦА І КОЛЕЦЦА** <*каму*>. Гл. хочацца.

*КОЛЫ* • **ПАЛКІ Ў КОЛЫ**. Гл. палкі.

*КОЛЬКІ* • **КОЛЬКІ <БЫЛО> ДУХУ**. Гл. было.

**КОЛЬКІ <БЫЛО> СІЛЫ**. Гл. было.

**КОЛЬКІ ДУША ЖАДАЕ**. Гл. душа.

**КО́ЛЬКІ ЛЕ́Т КО́ЛЬКІ ЗІ́М!** *Выкл. Разм.* Як даўно! Вокліч пры сустрэчы з кім-н., каго даўно не бачыў, з кім даўно не сустракаўся. — *Вілі? — здзівіўся ён і па-сяброўску абняў Рэндаля. — Колькі лет колькі зім...* Гамолка. — *Антаніна! — ускрыкнуў сакратар і кінуўся да жанчыны. — Колькі лет колькі зім... І так неспадзявана...* Мыслівец. *Да гэтага крыкуна падсеў пухлявы дзядок у рудым пакамечаным капелюшы і па-панібрацку паляпаў яго па плячы: — Колькі лет колькі зім! Цыпрук Клешчы! Жывы і здаровы?* Гурскі.

**КОЛЬКІ ЎЛЕЗЕ**. Гл. улезе.

**КОЛЬКІ ХОЧАШ**. Гл. хочаш.

**НЕ БОГ ВЕДАЕ КОЛЬКІ**. Гл. бог.

*КОН* • **КО́Н НА КО́Н**. *Акал. Праст.* Рэч за рэч, без даплаты (мяняць, абменьваць). **Сін.**: баш на баш; вуха на вуха; так на так (у 1 знач.). *Човен мы вам здабудзем і чалавека дадзім свайго, бо ў завадзях вы заблудзіце. Толькі кон на кон. Скажыце нам дакладна, сумленна, што робіцца на франтах?* Няхай.

**ПАСТАВІЦЦА НА КОН**. *Зак. да* **СТАВІЦЦА НА КОН**.

**СТАВІЦЦА НА КОН**. Гл. ставіцца.

**СТАВІЦЬ НА КОН** *што*. Гл. ставіць.

*КОНЕЙ* • **ЯК НА СТО КОНЕЙ СЕЎ**. Гл. сеў.

*КОНІКІ* • **ВЫКІДАЦЬ КОНІКІ**. Гл. выкідаць.

*КОНТ* • **НА ГЭ́ТЫ КО́НТ**. *Акал. Разм.* У гэтым выпадку, у гэтых адносінах. *А што да чырвоных, то Васіль Бусыга спакойны на гэты конт: паляк не адзін — за яго спінаю Францыя і Ангелька стаяць.* Колас.

*КОНЧЫКУ* • **КРУЦІЦЦА НА КОНЧЫКУ ЯЗЫКА** ў *каго.* Гл. круціцца.

**НА КОНЧЫКУ ЯЗЫКА**. Гл. канцы.

*КОНЬ* • **КО́НЬ БО́ЖЫ (ІСУ́САЎ)**. *Адз. і мн. Вык. ці зваротак. Разм. Неадабр.* Тупы, неразумны чалавек. **Сін.**: алёша з батонамі; галава <і> два вухі, галава садовая; галава яловая; дубовая галава; курыная галава; куст альховы; медны лоб; мех з саломай; пень асінавы; пустая галава. **Ант.**: светлая галава. *Конь ты божы! Ды гавары ты, нарэшце, сваімі словамі.* Брыль. *[Прануза:] Вам жартачкі, а мне гора. Мая жонка для гэтага [нарадзіць дзіця] не здатная. Не падумаў, конь божы, трохі раней, мо было б інакш.* Супрунчук. *Аднаго разу Пятро Цвіркун ускочыў у наш рэдакцыйны пакой з дзікім лямантам: — Гэй вы, ісусавы коні, хутчэй на лесвіцу! Забіраюць нашу Зоську!* Мяжэвіч.

**КО́НЬ (КО́Т) НЕ ВАЛЯ́ЎСЯ (НЕ КАЧА́ЎСЯ)** *дзе. У безас. ужыв. Разм.* Нічога не зроблена, не пачата, не падрыхтавана. *[Клёнскі] абавязкова кідаў у залу пасля прагляду адзнятага матэрыялу: «Тут штосьці ёсць, але трэба яшчэ чысціць ды чысціць, тут яшчэ конь не валяўся...»* Гігевіч. *Сярод механізатараў таксама ёсць добрыя лаўчакі — яму «пяцёрка» за якасць трэба, дык ён ля дарогі «заліжа» як мае быць, а ў сярэдзіне — конь не качаўся!* «Маладосць». *Гэта ж процьма ў полі работы: за паплавамі някопаныя картоплі, каля гасцінца і кот не валяўся пад жыта.* Жуковіч.

**ТРАЯ́НСКІ КО́НЬ**. *Часцей у адз. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Неадабр.* **1.** Ашуканства, хітры падман. **Сін.**: адвод вачэй; гульня ў ката і мышку; дымавая заслона; навешванне лапшы на вушы; пацёмкінская вёска; пусканне пылу ў вочы; пусканне туману. *У вясковай начной цішыні дагараў клуб — гэты траянскі конь графа Ельскага.* Пестрак.

**2.** Чалавек, які са здрадніцкімі намерамі дамагаецца чыйго-н. даверу, выдае сябе не за таго, кім з'яўляецца на самай справе. *[Ягадка:] Калі быў таварыскі суд, вы назвалі яго пры ўсіх траянскім.. жарабком. [Ізабела:] Даруйце, у вас недакладна запісана. Я назвала яго траянскім канём.* Матукоўскі.

*КОНЯХ* • **ПА КО́НЯХ**! *Выкл. Разм. Жарт.* Наперад; пайшлі, паехалі. Каманда рухацца куды-н. *На лузе стаялі чатыры грузавікі і легкавая машына. — Ну, па конях, партызаны, — звярнуўся да Каржа сакратар обкома.* Грахоўскі. *— Давайце збірацца! Часу ў нас сапраўды мала... — Па конях! Па конях! — далучыўся Лакуціеўскі.* Мальдзіс. *— Усё, таварышы: па конях! — выгукнуў шафёр і з ходу ўскочыў у аўтобус..* Лецка.

*КОПАЦІ* • **ДАВАЦЬ КОПАЦІ** *каму.* Гл. даваць.

*КОП'І* • **КО́П'І ЛО́МЯЦЦА (ЛАМА́ЛІСЯ)** *з-за каго, з-за чаго. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Адбываюцца гарачыя спрэчкі, рашучая барацьба. *Я стараўся не ўдзельнічаць у гэтай баталіі, адмоўчваўся, аднекваўся, рабіў выгляд, што не разумеў, з-за чаго ломяцца коп'і.* Дайнека. *Грымелі прамовы, ламаліся коп'і.* Сіманоўскі. *Што рабіць? І як? Так нарадзіўся заклік да «звышлітаратуры». Колькі тут пачало ламацца коп'яў!* «Полымя».

**ЛАМАЦЬ КОП'І** *з-за каго, за што, з якой прычыны.* Гл. ламаць.

*КОПТУРАМ* • **З КО́ПТУРАМ**; **З КАПТУРО́М**. *Акал., азн., вык. Разм.* Вышэй краёў; з верхам (насыпаць, напаўняць і пад.; поўны). *Я высыпаў ягады ў вазу з-пад графіна. Атрымалася поўная з коптурам.* Вітка. *Попельніца ўжо з коптурам была завалена акуркамі, а сон не прыходзіў.* Праскураў. *Каля «чужога» трэба ўпадаць ды ўпадаць! І напячы яму патэльню з коптурам свежыны, і наліць яго самога, як тую біклажку.* Макарэвіч. *Вядро было поўнае, з каптуром.* Дайнека.

*КОРАБЕ* • **НАРАДЗІЦЦА Ў ДЗІРАВЫМ КОРАБЕ**. Гл. нарадзіцца.

*КОРАБЫ* • **ТРЫ КОРАБЫ**. Гл. карабоў.

*КОРАК* • **НАСТУПІЦЬ НА КОРАК**. Гл. наступіць.
**ПАНЮХАЦЬ КОРАК**. Гл. панюхаць.

*КОРАНЕМ* • **ВЫРЫВАЦЬ З КОРАНЕМ** *што*. Гл. вырываць.

*КОРАНІ* • **ЗАСЫХАЦЬ НА КОРАНІ**. Гл. засыхаць.
**НА КО́РАНІ**. *Акал. Функц. не зам.* **1**. Будучы нязжатым, няскошаным. Пра траву, злакі. **Сін**.: на пні (у 2 знач.). *Сена ён прадаў военным фуражырам на корані.* Якімовіч. *Калі [лён] паспее — ільнозавод купіць яго на корані, выцерабіць, абмалоціць, рассцеле, паварушыць, падыме і прасушыць.* Дуброўскі. *Відаць, мінулагодніія горкія ўрокі, калі травы другога ўкосу так і засталіся на корані з-за непагадзі, мала чаму навучылі.* «Звязда».
**2**. Будучы нязрэзаным. Пра лес, дрэвы. **Сін**.: на пні (у 1 знач.). *— Мы спілуем, звозім на рум, — падхапіў хлопец з рассечанай шчакою, — вясною сплавім у Нямеччыну, проста нямецкаму купцу ў рукі. А за гэта пан грабяне ў два, у тры разы даражэй, чым прадаў бы на корані.* Якімовіч.
**3**. У самым зародку і канчаткова (губіць, падрываць і пад. што-н.). *Баліць душа ад таго, што ўсе твае намаганні на корані падрывае які-небудзь напарнік-шалапут.* «Звязда». *Знаходзіліся людзі, якія «на ўсякі выпадак» займалі процілеглую пазіцыю. Такія на корані губілі адказнасць за канчатковы вынік.* «ЛіМ».
**У КО́РАНІ**. *Акал. Функц. не зам.* **1**. Абсалютна, зусім (не згаджацца, адвяргаць і пад.). *Падзел работы настаўніка на «чыста навучальную» і «чыста выхаваўчую» Вольга Сысоеўна не прымае арганічна і адвяргае ў корані.* «Настаўн. газ.» *І на сённяшні дзень у тых калгасах і саўгасах, дзе ў заняпадзе раслінаводства, існуе-пануе ў корані заганная практыка: браць ад зямлі як мага больш, а ўзамен даваць ёй менш ці наогул нічога.* «Звязда».
**2**. У самой аснове, карэнным чынам (мяняць, змяняць, пераглядаць і пад.). *Жыццё змянілася ў корані — для яе [Марыі] страціла значэнне што яна есць, дзе спіць.* Карпаў. *Радыёграмы... Гэта ў корані мяняе справу.* Навуменка.

*КОРАНЬ* • **ГЛЯДЗЕЦЬ У КОРАНЬ**. Гл. глядзець.
**ПАД КО́РАНЬ**. *Акал. ці ў знач. вык. (пры апушчаным дзеясл.). Разм.* **1**. Ля самай асновы (ссякаць, зразаць, касіць). *Сёння пакрытыкуюць тых, хто праз меру траваполлем захапляецца, дык ён першы ў сябе ўсе без разбору травы — пад корань...* Палтаран. *Чуў я, што Лысы пагорак гэтыя меліяратары раўняць збіраюцца... Значыць, і дуб пад корань...* Дудараў.
**2**. Зусім, канчаткова, поўнасцю (разбураць, зводзіць і пад.). **Сін**.: пад мятлу. *Лясы і людзі — усе пад корань, абнежывее ўвесь прастор, на месцы мора стануць горы, затопіць мора пікі гор.* Лужанін. *[Лейтэнант:] Вы думаеце, мы іх [ворагаў] пад корань звядзём? Будзем старацца, але...* Караткевіч. *І ладныя яшчэ дамы — жыць у іх ды жыць, а некаму не спадабалася — і пад корань.* Радкевіч.

**СЕКЧЫ ПАД КОРАНЬ** *каго, што.* Гл. секчы.

*КОРАТКІ* • **КОРАТКІ ПЯТЫ** *чые, у каго.* Гл. пяты.

*КОРКІ* • **АД КО́РКІ ДА КО́РКІ.** *Акал. Разм.* Цалкам, поўнасцю, нічога не прапускаючы (чытаць, вывучыць і пад.). **Сін.**: ад дошкі да дошкі. *Першыя савецкія газеты чытаў [Аляксандр Іванавіч], як кажуць, ад коркі да коркі.* Кавалёў. *Прачытаў ад коркі да коркі і зараз шкадую: чаму паспяшаўся.* Лужанін.

*КОРМ* • **НЕ Ў КАНЯ́ КО́РМ.** *Вык. Разм.* **1.** Ужыв. пры дзейн., якi абазначае назвы пітва, ежы. Не ідзе на карысць каму-н. — *Можа, пойдзем? [Я]шчэ прымем па адной [чарцы] за Сямёнаву памяць... — Ды не.. знаеце. Я не таго... Не ў каня корм.* Быкаў.

**2.** Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Не падыходзіць; не можа быць ацэнена належным чынам. — *Пра Веру я памаўчу... — Што, не ў каня корм, а? — Можа, і так. Адно толькі скажу, што гэта дзеўка, якіх пашукаць...* Кудравец.

**ПАДНО́ЖНЫ КО́РМ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Сродкі існавання, здабытыя дзе прыйдзецца і як папала. **Сін.**: вераб'іны харч. *Схуднееш, калі паходзіш, як я, ды пахарчуешся на падножным корме.* Новікаў. *[Кляніс:] Дзіцячы дом амаль поўнасцю перайшоў на падножны корм.* Лукша.

*КОРМЯЦЬ* • **НОГІ КОРМЯЦЬ** *каго.* Гл. ногі.

*КОРЧЫЦЬ* • **КО́РЧЫЦЬ ГУЛЬТАЯ́ (ЛО́ДАРА).** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Лайдачыць. **Сін.**: абіваць бакі (у 2 знач.); адлежваць бакі (у 2 знач.); акалочваць (акалачваць) грушы <з вербаў>; біць байды; біць бібікі; біць лынды (у 1 знач.); біць тылылы; брынды біць; валяць дурня (у 2 знач.); вераб'ям дулі паказваць; ганяць сабак <*па чым*>; лічыць варон (у 2 знач.); ляжаць на баку; пляваць у столь; сабакам сена касіць (у 1 знач.); сачка давіць. — *Давай бярыся за працу. Неча[га] гультая корчыць, — весела кіўнуў дзед на лапнік.* Кудравец. — *Куды гэта ты нанач сабраўся? — Лес траляваць — куды ж яшчэ. І ты збірайся, хопіць лодара корчыць.* Кананові́ч.

**КО́РЧЫЦЬ ДУ́РНЯ.** *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** Знарок уводзіць у зман, падманваць каго-н. **Сін.**: абводзіць вакол пальца *каго;* абуваць у лапці *каго;* бай забіваць *каму;* браць на арапа *каго;* браць на бога *каго;* браць на вудачку *каго;* браць на пушку *каго;* вадзіць за нос *каго;* вешаць лапшу < на вушы > *каму;* віляць хвастом (у 1 знач.); выводзіць у поле *каго;* гнуць дугі; гуляць у ката і мышку; дурыць галаву (у 1 знач.); задурыць галаву *каму* (у 3 знач.); замазваць вочы *каму;* замыльваць вочы *каму;* запраўляць арапа; кампасціраваць мазгі *каму;* круціць хвастом (у 1 знач.); муціць галаву *каму;* настаўляць акуляры *каму;* прадаць *каго* і грошы палічыць; пудрыць мазгі *каму;* пускаць пыл у вочы *каму;* сляпіць вочы *каму* (у 1 знач.); травіць баланду (у 2 знач.); туманіць вочы *каму;* туманіць галаву *каму.* *Калі на лета прыехаў сам Валодзька [на канікулы] ды з сабой прывёз сябрука.., перасталі сумнявацца, зразумелі, што Валодзька корчыў дурня. — Дык чаго ж ты, сукін кот, мне мазгі марочыў?! — напаў на яго Кунцэвіч.* Блакіт.

**2.** Дурыцца, забаўляцца жартамі. **Сін.**: валяць дурня (у 3 знач.). — *Ды кіньце вы з гэтым гузікам! — абарваў Кадачыгаў яго разлагоджанае мурлыканне. — Ці вы на самай справе забыліся, чаго сюды прыйшлі, ці зноў пачынаеце з сябе дурня корчыць?.. Дык я магу яшчэ раз напомніць!* Лецка.

*КОСА* • **ГЛЯДЗЕЦЬ КОСА** *на каго, на што.* Гл. глядзець.

*КОСТАЧАК* • **ПЕРАМЫВАННЕ КОСТАЧАК** *каго, чыіх.* Гл. перамыванне.

*КОСТАЧКАХ* • **ПА КО́СТАЧКАХ** *разбіраць (разабраць). Акал. Разм.* Падрабязна, старанна, дэталёва. *[Зоя Антонаўна:] Віктар Пятровіч выступаў. Усё па костачках разабраў.* Крапіва. *I сёння яшчэ нярэдкія выпадкі, калі вучань даволі бойка ў поўнай адпаведнасці з параграфамі падручніка разбірае «па костачках» вобраз Анегіна ці Лабановіча, а потым высвятляецца, што цалкам творы Пушкіна і Коласа ён так і не знайшоў часу (ці ахвоты) прачытаць.* «Настаўн. газ.» *Усё, лейтэнант Бутоўкін, правільна, разбяры па костачках версію з машынай.* Капусцін.

**ПЕРАБІРАЦЬ ПА КОСТАЧКАХ** *каго.* Гл. перабіраць.

*КОСТАЧКІ* • **АПАЛОСКВАЦЬ КОСТАЧКІ** *чые, каго.* Гл. апалосквацъ.

**ПАПАЛАСКАЦЬ КОСТАЧКІ** *чые, каго.* Гл. папаласкаць.

**ПЕРАБІРАЦЬ <УСЕ> КОСТАЧКІ** *чые, каго, каму.* Гл. перабіраць.

**ПЕРАМЫВАЦЬ КОСТАЧКІ** *чые, каго, каму.* Гл. перамываць.

**ПЕРАЯДАЦЬ КОСТАЧКІ** *каму.* Гл. пераядаць.

*КОСТКА* • **БЕ́ЛАЯ КО́СТКА (КО́СЦЬ).** *Мн. не ўжыв. Устар. У ролі розных чл. ск. Разм.* Чалавек знатнага (часцей дваранскага) паходжання. **Сін.**: блакітная кроў. **Ант.**: чорная костка. *[Дзяменя:] Браткі мае, арлы баявыя! Разам будзем крышыць белую костку!* Колас. *Таварыш Шыянок, не забывайцеся, што вы для немцаў афіцэр белай косці, чыстай арыйскай крыві...* Сабаленка. *Белая костка не вытрымлівала нашага мужыцкага націску.* Сяргейчык.

**КО́СТКА (-АЙ) У ГО́РЛЕ** *каму, у каго, для каго, для чаго. Часцей у знач. вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Вялікая перашкода для каго-, чаго-н. **Сін.**: як костка ў горле *каму. Мы павінны высока, вышэй, як рабілі гэта раней, паставіць у жыцці сумленнага чалавека-працаўніка. Яму вельмі часта патрэбна падтрымка, бо ён не ўсім па душы, шмат каму — костка ў горле.* Карамазаў. *Але, на жаль, гэты сапраўдны рэвалюцыянер — костка ў горле ў паноў з Аддзела.* Якімовіч. *«Чырвонае», ці левае, ці як там яшчэ — рэвалюцыйнае крыло — для справы адраджэння — костка ў горле.* Куляшоў. *— Вось бачыце. А вы кажаце, што нам нецікавы ваш Рыгор. — То ж я не пра ўсіх: многім ён косткаю ў горле.* Гартны. *А я ім не патрэбны. Я ім косткай у горле...* І.Капыловіч.

**ЧО́РНАЯ КО́СТКА (КО́СЦЬ).** *Мн. не ўжыв. Устар. У ролі розных чл. ск. Разм.* Чалавек простага, нязнатнага паходжання. **Ант.**: белая костка; блакітная кроў. *[Ганна:] Ты таксама паляк, але як ты далёк ад гэтых раз'юшаных паноў... [Самусь:] Бо ёсць, Ганулля, палякі — паны і палякі — чорная костка. Я належу да апошніх...* Гарбацэвіч. *— Косім жа мы і аром. — То вы — мужыкі! Чорная косць. А ён — пан...* Якімовіч.

**ЯК (ШТО) КО́СТКА Ў ГО́РЛЕ** *каму. Вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Вялікая перашкода для каго-н., тое, што дапякае каму-н. **Сін.**: костка ў горле *каму, у каго, для каго, для чаго. Праціўнік спрабуе затрымаць вясновы націск савецкай арміі, а мы [партызаны] яму як костка ў горле.* Шчарбатаў. *Табе, Андрэй, бачу.. гэты завод як костка ў горле.* Ярашэвіч. *Чыжыку ж, вядома, усё гэта будзе як костка ў горле.* Стадольнік. *Стаяў тады ў Крайску паліцэйскі гарнізон. Быў ён нам і вілейскім партызанам што костка ў горле.* Вышынскі.

*КОСТКАЙ* • **СТАЯЦЬ КОСТКАЙ У ГОРЛЕ** *каму, у каго.* Гл. стаяць.

*КОСТКУ* • **КІНУЦЬ КОСТКУ** *каму.* Гл. кінуць.

*КОСЦІ* • **<АДНА> СКУРА ДЫ КОСЦІ**. Гл. скура.

**<АДНА> СКУРА ДЫ КОСЦІ ЗАСТАЛІСЯ** *на кім, у каго, ад каго.* Гл. скура.

**ВЕЖА СА СЛАНОВАЙ КОСЦІ**. Гл. вежа.

**ДАВАЦЬ У КОСЦІ** *каму.* Гл. даваць.

**ЗЛАЖЫЦЬ <СВАЕ> КОСЦІ** *дзе.* Гл. злажыць.

**КОСЦЬ АД КОСЦІ**. Гл. косць.

**ПАПАЛАСКАЦЬ КОСЦІ** *чые, каго.* Гл. папаласкаць.

**ПАРЫЦЬ КОСЦІ**. Гл. парыць.

**ПАРЫЦЬ У ЗЯМЛІ КОСЦІ**. Гл. парыць.

**ПЕРАБІРАЦЬ <УСЕ> КОСЦІ** *чые, каго, каму.* Гл. перабіраць.

**ПЕРАМЫВАЦЬ КОСЦІ** *чые, каго, каму.* Гл. перамываць.

**ПЕРАЯДАЦЬ КОСЦІ** *каму.* Гл. пераядаць.

*Злосці* **ПО́ЎНЫЯ КО́СЦІ**. *У безас. ужыв. Разм.* Вельмі многа (злосці ў каго-н.). Пра злога, запальчывага чалавека. *Ніна па Сымону бачыць, што злосці ў яго поўныя косці, і трохі дагадваецца аб прычыне яе.* Колас. *Ну проста не сядзіцца на возе Дарошу — злосці поўныя косці.* Мурашка. — *От жа ў чалавека злосці — поўныя косці! — папракнуў дзядзька. — Не выспаўся, ці што?* Рылько. *Не лезь да гэтай шаляніцы!.. У чалавека злосці поўныя косці!* Макарэвіч.

**УЯДАЦЦА Ў КОСЦІ** *каму.* Гл. уядацца.

**ШЫРО́КАЙ КО́СЦІ**. *Азн. Разм.* Каржакаваты, каранасты, плячысты. Пра чалавека. *Высокая, шырокай косці, постаць армейца здалася знаёмай.* Карпаў. *Усё гэта былі мужыкі і бабы шырокай косці, людзі негаваркія, непаваротлівыя, але працавітыя і на дзіва вынослівыя.* Васілевіч.

*КОСЦЬ* • **БЕЛАЯ КОСЦЬ**. Гл. костка.

**КІНУЦЬ КОСЦЬ** *каму.* Гл. кінуць.

**КО́СЦЬ АД (З) КО́СЦІ**. *Мн. не ўжыв. Вык. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** *каго, чыёй.* Роднае дзіця. Пра кроўную роднасць. **Сін.**: кроў ад крыві (у 1 знач.); плоць ад плоці (у 1 знач.); плоць і кроў (у 1 знач.). *Як можна? Шляхцянка — род панскі, косць з косці, — з мужыцкай крывёю змяшаціся хоча.* Купала.

**2.** *каго, чаго.* Спараджэнне, дзецішча каго-, чаго-н. Пра ідэйную роднасць. **Сін.**: кроў ад крыві (у 2 знач.); плоць ад плоці (у 2 знач.); плоць і кроў (у 2 знач.). *Я косць ад косці, крывінка ад крывінкі мужыка, прайшоў гарапашны шлях мужыцкі.* Хадкевіч. *[Гарэнка:] І мы, настаўнікі, цела ад цела і косць ад косці народа, павінны спытаць сябе: што ж нам рабіць? Да якога стану далучыцца нам?* Колас. *Цярэшка — косць ад косці свайго народа, ён беларускі ўсім: грамадзянскай пристойнасцю, працавітасцю, хітрынкай, сарамлівасцю ў самавыяўленні, адсутнасцю эгаістычных амбіцый...* Лаўшук.

**ЧОРНАЯ КОСЦЬ**. Гл. костка.

*КОСЫ* • **КОСЫ САЖАНЬ У ПЛЯЧАХ**. Гл. сажань.

*КОТ* • **КАБ КО́Т УБРЫКНУ́Ў** *каго. Выкл. Разм. Жарт.* Выказванне здзіўлення, захаплення. *Колька, ты? А каб цябе кот убрыкнуў! Якім ветрам цябе сюды занесла?* Шахавец.

**КО́Т МАРЦО́ВЫ**. *Часцей адз. Вык. ці зваротак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Распуснік, блуднік. Пра мужчыну. **Сін.**: мышыны жарэбчык. *Марына ўспыхнула, як порах: ці ж то не здзек? Ці ж то не глум? Жыццё згубіў ім, люты вораг, і што сабе ўзяў на адум. Ах ты, паскуднік, кот марцовы! Пастой жа ты, няшчасны дух.*

Колас. — *Дык ты, кот марцовы, да суханоўскіх дзяўчат унадзіўся, — жартаваў Андрэй.* Машара. *[Адзінота:] Марцовы кот. Нічога добрага ў галаве няма, адно каханне толькі.* Галубок.

**КОТ НЕ ВАЛЯЎСЯ** *дзе.* Гл. конь.

**КО́Т У МЯШКУ́ (У ТО́РБЕ).** *Адз. і мн. Часцей дап. Разм.* Той ці тое, пра вартасці якога загадзя не ведаеш; невядомае, няпэўнае. *Ты ў мяне возьмеш самых надзейных [падпольшчыкаў], а мне будуць прысылаць катоў у мяшку.* Новікаў. *Атрымалі не старшыню, а ката ў торбе.* Корбан. *Калі табе, паважаны чытач, спатрэбіцца набыць, скажам, звычайны пісьмовы стол альбо ложак, будзь уважлівы, інакш прыдбаеш своеасаблівага ката ў мяшку.* «Звязда». — *Хіба не ведаеш, колькі марокі з гэтымі даследчыкамі, — гаворыць інжынер. — Прыносяць ката ў мяшку і расхвальваюць на ўсе лады, як цыган каня на базары... Спыніш вытворчасць, прапішаш на ўчастку таго «ката», а эфекту нуль.* «Полымя».

**НЕ КО́Т НАПЛА́КАЎ.** *Вык. Разм. Жарт.* **1**. Ужыв. пры дзейн., выраж. колькасна-імен. спалучэннем. Многа, нямала. **Сін**.: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач,); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго;* вышэй вушэй *чаго;* вышэй галавы *чаго;* да гібелі *каго, чаго;* дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго;* да халеры *каго, чаго;* да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе ў *каго;* з горла прэ ў *каго;* імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго;* непачаты край *чаго;* не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго;* па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго;* у кожнай кішэні па жмені *каго;* хоць адбаўляй *каго, чаго;* хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым;* хоць заваліся *чаго;* хоць заліся *чаго;* <хоць> плот гарадзі *кім, каго;* хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго;* цьма цьмушчая *каго, чаго;* цэлы воз *каго, чаго;* чортава пагібель *каго, чаго;* чортава процьма *каго, чаго;* чорт што *чаго;* як бобу *ка-го;* як гразі *каго, чаго;* як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. Ты падумай, паўтары тысячы цалковых, гэта, брат, не кот наплакаў.* Лынькоў.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Не пусцяковіна; справа сур'ёзная. **Сін**.: не жарты (у 1 знач.); не жук на палачцы; не фунт ізюму <*каму*>; не хаханькі (у 1 знач.). *[Бірка:] А мы, заўваж, суседзе, па-настаяшчаму і не адсвяткавалі твайго высокага чыну. Войт — гэта не кот наплакаў.* Колас.

**СУ́КІН КО́Т**. *Часцей у адз. Часцей у ролі зваротка. Праст. Неадабр.* Часцей ужыв. як лаянкавы выраз. Гарэза ці нягоднік. **Сін**.: сукін сын. *Рады, сукін кот, што механіка абдурыў!* Шынклер. *Галузнік ты ў мяне, Захарка... Хадзі, сукін кот, падсаблю на каня.* Каваль. *Бот, кажу, ліха яго бяры, але нашто ты мне, сукін кот, нагу выкруціў?* Крапіва.

**ЧОРНЫ КОТ ПРАБЕГ** *паміж кім.* Гл. кошка.

<u>*Жыць (пражыць)*</u> **ЯК КО́Т (КО́ШКА) З САБА́КАМ; ЯК САБА́КА З КО́ШКАЙ**. *Акал. Разм.* У пастаяннай варожасці, сварцы, нядружна. **Сін**.: на нажах *з кім.* **Ант**.: душа ў душу; звон у звон; на адну нагу (у 1 знач.); у ладу <*з кім*>. *З гаспадаром жыве [Іван] як кот з сабакам. Усё наракае на гаспадара, што ён давёў Яніну да гібелі.* Машара. — *Ці ведаеш ты старых Тодараў? — Ну?.. — Усё сваё жыццё як кошка з сабакам пражылі.*

Янішчыц. — *Проста яны не патрабавальныя да сябе... Гэтым і падобныя. Каб сышліся — шчасліва жылі б. — Як сабака з кошкай...* Масарэнка.

**<ЯК> КО́Т НАПЛА́КАЎ** *каго, чаго. У безас. ужыв. Разм. Жарт.* Вельмі мала. Пра нязначную колькасць каго-, чаго-н. **Сін.**: з вераб'ёў нос (у 1 знач.); з жабіны прыгаршчы *чаго;* з камароў нос (у 1 знач.); з макава зерне; кропля ў моры <*чаго*>; курам на смех (у 3 знач.); на жабін скок (у 2 знач.); на заячы скок; на капейку; на макава зерне; на пальцах можна пералічыць *каго, што;* на панюх табакі (у 1 знач.); на шэлег (у 1 знач.); не поле насеяна *каго;* раз-два і ўсё *каго, чаго;* як кату; як старой бабе сесці *чаго. Хадзіў, хадзіў [я] месяцы два, дарэмна толькі ногі пазбіў, а карысці тае як кот наплакаў.* Лынькоў. *Паўдня працуеце, а працы як кот наплакаў.* Машара. — *Кот наплакаў тых вершаў тут, — нібы скардзіўся..* Цімох. — *Яшчэ ў Маскве напісаў. А тут захацелася выдаць.* Кулакоўскі. — *Каб артылерыя добра працавала, патрэбны боепрыпасы, — сказаў Іваноў. — А боепрыпасаў якраз — кот наплакаў.* Быкаў.

*Глядзець, паглядаць, любавацца* **ЯК КО́Т НА СА́ЛА**. *Акал. Разм.* Хціва, з прагнасцю. *Нешта ты паглядаеш на гэту дробязь як кот на сала!* Крапіва. *Любуецца як кот на сала, дужа яму па душы банька прыйшлася.* Юрчанка. — *Як яна? — Квітнее. Работа па яе характару. Аднаго баюся... — Чаго? — Наведвальнікі некаторыя вяльможныя глядзяць на яе як каты на сала.* Шамякін.

*КОЎДРУ* • **ЦЯГНУЦЬ КОЎДРУ НА СЯБЕ**. Гл. цягнуць.

*КОЎЗАННЕ* • **КО́ЎЗАННЕ (СЛІ́ЗГАННЕ) ПА ПАВЕ́РХНІ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Неадабр.* Дзеянні знешняга характару, павярхоўныя, без заглыблення ў сутнасць чаго-н. *Класіфікацыя без жыццёвай практыкі.. — гэта коўзанне па паверхні, гэта звонкая пустата.* Крапіва. *І большасці на старонках раённых газет — слізганне па паверхні, прывычны парадны тон.* «Звязда».

*КОЎЗАЦЦА* • **КО́ЎЗАЦЦА (СЛІ́ЗГАЦЬ) ПА ПАВЕ́РХНІ**. *Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Не ўнікаючы ў сутнасць чаго-н., закранаць толькі яго знешні бок. *Па ўсім адчувалася, што малады пісьменнік не мае намеру коўзацца па паверхні з'яў, хоць апісанні яму і вельмі ўдаваліся, а імкнецца зазірнуць у нутро жыцця...* Гніламёдаў. *Крытыка павінна ведаць рэчаіснасць, якую адлюстроўвае літаратура, інакш яна будзе коўзацца па паверхні ды буксаваць.* Крапіва.

*КОШКА* • **ЧО́РНАЯ КО́ШКА ПРАБЕ́ГЛА (ПЕРАБЕ́ГЛА)** *паміж кім;* **ЧО́РНЫ КО́Т ПРАБЕ́Г (ПЕРАБЕ́Г)** *паміж кім. У безас. ужыв. Разм.* Сапсаваліся адносіны паміж кім-н., хто-н. пасварыўся з кім-н. *Э-э, пачакай, нешта ты пахмурная сёння. Ці не прабегла чорная кошка паміж табой і Леанідам? Пасварыліся?* Хадкевіч. *Салавейчык не мог зразумець, чаму Быліч пайшоў супраць яго? Калі паміж імі прабегла чорная кошка?* Блакіт. *Прабегла чорная кошка паміж Юрасём і жонкай, не мірацца яны даўнавата ўжо, гадоў дванаццаць, пэўна.* Калодзежны. *Некалькі дзён таму назад паміж Шэметам і Марозам зноў перабегла чорная кошка.* Лобан. *Праўда, паміж мною і братам Сцёпам, як ён сам кажа, на нейкі час быў прабег чорны кот...* Васілевіч. *Федзя бачыў, што абедзве нейкія не ў гуморы, нібы прабег паміж імі чорны кот.* Місько.

**ЯКА́Я КО́ШКА ПРАБЕ́ГЛА** *паміж кім. У безас. ужыв. Разм.* Што было прычынай спрэчкі, сваркі паміж кім-н., чаму сапсаваліся адносіны паміж кім-н. Выказванне здзіўлення з прычыны незразумелых паводзін каго-н. *[Андрэй:] Якая кошка прабегла паміж вамі?* Козел. *[Гарасім Пятровіч] падумаў: «Якая кошка прабегла паміж імі? Няўжо не можа дараваць Карначу самаадводу?»* Шамякін. *Неабходна не толькі знайсці*

*гэтага спадарожніка, а і паспрабаваць высветліць, якая кошка паміж імі прабегла.* Шыцік.

**ЯК КОШКА З САБАКАМ**. Гл. кот.

*КОШКАЙ* • **ЯК САБАКА З КОШКАЙ**. Гл. кот.

*КОШКІ* • **ГУЛЬНЯ Ў КОШКІ-МЫШКІ**. Гл. гульня.

**ГУЛЯЦЬ У КОШКІ-МЫШКІ**. Гл. гуляць.

**КО́ШКІ ДУШУ́ СКРАБУ́ЦЬ** *у каго, каму. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. адчувае моцны неспакой, хваляванне, трывогу. **Сін.**: галава баліць *чыя, у каго, каму пра што, аб чым, па кім, па чым;* галава гарыць *у каго;* душа баліць *чыя, у каго, каму* (у 2 знач.); душа гарыць *чыя, у каго;* душа не на месцы *ў каго;* душа ные *чыя, каму, у каго* (у 2 знач.); кошкі на душы скрабуць *у каго, чыёй;* нутро гарыць *чыё, у каго;* сэрца ёкнула *ў каго;* сэрца замірае *ў каго, чыё;* сэрца заходзіцца *ў каго;* сэрца як не выскачыць *у каго. Не магу! От сягоння — як успомню, кошкі душу скрабуць!* Мележ. *А ў самой кошкі душу скрэблі: дзе ён? Чаму не прыйшоў?* Васілевіч. *Іншай жа жонцы кошкі душу скрабуць, калі муж дзе выпіў. Рэўнасць з'яўляецца: піў, значыць, да іншай жанчыны заляцаўся.* Мыслівец.

**КО́ШКІ НА ДУШЫ́ (НА СЭ́РЦЫ) СКРАБУ́ЦЬ (СКРАБЛІ́)** *у каго, чыёй. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. адчувае моцны неспакой, хваляванне, трывогу. **Сін.**: галава баліць *чыя, у каго, каму пра што, аб чым, па кім, па чым;* галава гарыць *у каго;* душа баліць *чыя, у каго, каму* (у 2 знач.); душа гарыць *чыя, у каго;* душа не на месцы *ў каго;* душа ные *чыя, каму, у каго* (у 2 знач.); кошкі душу скрабуць *у каго, каму;* нутро гарыць *чыё, у каго;* сэрца ёкнула *ў каго;* сэрца замірае *ў каго, чыё;* сэрца заходзіцца *ў каго;* сэрца як не выскачыць *у каго. Цяпер жа [Зіна] і пагаджаецца, і саступае, хоць на душы часта кошкі скрабуць.* Арабей. — *Вядома, у цябе на душы, Зазыба, кошкі [с]крабуць, — чоўп сабе Брава-Жыватоўскі.* Чыгрынаў. *І хоць у самога кошкі на сэрцы скрабуць, але задаволены хоць тым, што нікога не страцілі ў гэтай аперацыі.* Прокша. *Марыйка, хоць у яе на сэрцы кошкі скраблі, рагатала разам з ёю, нават павісквала.* Новікаў.

*КОШТ* • **ЗА КО́ШТ** *чый, каго, чаго. Акал. Функц. не зам.* Выкарыстоўваючы каго-, што-н. для якой-н. мэты. *[Нагель:] Не абавязкова пра кожную дробязь у Берлін званіць. [Кунц:] Без нас паведамяць. Ёсць прыяцелі, якія рады выслужыцца за наш кошт.* Крапіва. *Я не мог і падумаць, што вы будзеце зарабляць сабе аўтарытэт за кошт свайго абавязку... Гэта несумленна...* Мележ.

**ПРЫМАЦЬ НА СВОЙ КОШТ** *што.* Гл. прымаць.

*КРАЕВУГОЛЬНЫ* • **КРАЕВУГОЛЬНЫ КАМЕНЬ** *чаго.* Гл. камень.

*КРАЕМ* • **КРА́ЕМ ВО́КА** <u>*бачыць, глядзець*</u> і пад. *Акал. Разм.* Крыху, нядоўга, імгненна. **Сін.**: адным вокам (у 1 знач.). *Васіліха краем вока бачыла, як Алёнка на пальчыках ішла да стала.* Кузьмянкоў. *Пазняк глянуў на яго краем вока і пайшоў выконваць фельчарава даручэнне.* Мурашка. *Шафёр краем вока заўважыў яе міжвольны рух, падумаў: «Баіцца, відаць, Феакцістаўна, каб мы не зляцелі з гэтай вузкай, абгладжанай стужкі — дарогі».* Якавенка.

**КРА́ЕМ ВУ́ХА**. *Акал. Разм.* **1**. Няўважліва, урыўкамі (слухаць каго-н. пры занятасці іншай справай). **Сін.**: адным вухам (у 1 знач.); на палову вуха. *Максім лавіў шафёравы словы краем вуха, а сам думаў пра сваё.* Шамякін. *Пратасевіч Федзевы навіны лавіў краем вуха і адказваў яму коратка і неўпапад.* Васілевіч.

2. Крыху, мімаходам (чуць, пачуць). **Сін.**: адным вухам (у 2 знач.). *Хто гэта званіў? Я чула краем вуха — у госці некага запрашаў?* Гіль. *Пазней Валя краем вуха пачула, што Лукашык быў жанаты.* Дамашэвіч. *Алена краем вуха чула, як горача расказваў Аўгіннін сын маці і другой работніцы, Верцы, пра незнаёмага чалавека.* Стадольнік.

*КРАІ* • **НА КРАІ́ ГІ́БЕЛІ**. *Акал. Разм.* У непасрэднай блізкасці са смяртэльнай небяспекай (быць, знаходзіцца і пад.). **Сін.**: на краі магілы. *[Нянька:] Няўжо ж ты сэрцам адчуваеш нейкую трывогу? [Кася:] Так, нянечка, я адчуваю, што я на краі гібелі, што скончыцца ўсё няшчасцем!* Галубок. *Маша рызыкавала неаднойчы і разоў колькі была на краі гібелі.* Шамякін.

**НА КРАІ́ МАГІ́ЛЫ**. *Акал. Разм.* У блізкім да смерці становішчы (быць, адчуваць сябе і пад.). **Сін.**: на краі гібелі. *Такі вобраз вялікага пакутніка і змагара прамільгнуў яшчэ раз перад вачыма Кастуся, калі ён убачыў свайго старэйшага сябра на краі магілы.* Якімовіч. *Толькі на краі магілы яны [мужчыны] выразна ўбачылі: можна ж было распіхваць дзяцей, жанок па сваяках і знаёмых у суседнія вёскі, а самому ісці — куды хочаш.* Карпюк.

**НА КРАІ́ СВЕ́ТУ (ЗЯМЛІ́)**. *Акал. Разм.* Вельмі далёка. **Сін.**: блізкі свет; за дзесятай гарой; за светам; за трыдзевяць зямель; у віру на калу; у чортавых зубах; у чорта на рагах; у чорта ў зубах. *Мусіць, няма страшнейшага, як апынуцца ў такі час не дома. Дзе той Мінск? На краі свету.* Карпаў. *Сем гадоў кручуся, як вуж, на краі свету, па цагліне будуючы сваю рэпутацыю.* Ласкоў. *Вось дык дзіва! Вось дык сустрэча! І дзе? На краі зямлі! Пастой, а як ты тут апынуўся?* Радкевіч.

*КРАЙ* • **БІЦЬ ЦЕРАЗ КРАЙ**. Гл. біць.

**З КРАЮ Ў КРАЙ**. Гл. краю.

**КРА́Й СВЕ́ТУ** <u>чуць, ведаць</u>. *Акал. Разм.* Усюды, вельмі далёка. *Край свету чулі пра Заблоцкага. Ведаюць, што з мылам быў заняўся гэты чалавек. Ведаюць, што не заробак, а ўтрата ў яго на гэтым тавары выйшла.* Калюга. *А думка край свету на хмары ляціць.* Купала.

**НА КРА́Й СВЕ́ТУ (ЗЯМЛІ́)** <u>ісці (пайсці), ехаць (паехаць)</u> і пад. *Акал. Разм.* **1**. Куды-н. вельмі далёка. **Сін.**: дзе макар козы пасе (у 1 знач.); за блізкі свет; за дзесятую гару; за свет; за свет вочы; куды крумкач касцей не заносіў; куды макар цялят не ганяў (у 1 знач.); к чорту на рогі; у чорта на кулічках. *Думалася, што яны ўцяклі на край свету, дзе няма ні сваіх, ні немцаў, і Півавараў, аддыхаўшыся, сеў на снезе.* Быкаў. *Цяпер успомню, дык саму дзіва бярэ: адкуль у мяне стала адвагі паехаць на край зямлі.* Кудравец.

**2**. У любое месца, абы-куды. **Сін.**: на ўсе чатыры <бакі>; хоць на край свету. *Бывала, успомню жонку, дзяцей, развярэджуся, так горка стане ад невядомасці, ад журбы, што, здаецца, на край свету пабег бы...* Марціновіч. *[Ганецкі:] Дзеля вас, панна Яніна, я паехаў бы на край свету.* Козел. *[Франэса:] Што вы, што вы, што вы?.. Я гэтак рада... З вамі я на край зямлі ісці гатова...* Бачыла.

**НЕПАЧА́ТЫ КРА́Й (ВУ́ГАЛ, КУ́Т)** *чаго. Мн. не ўжыв. У безас. ужыв.* Вельмі многа, у вялікай колькасці. **Сін.**: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго;* вышэй вушэй *чаго;* вышэй галавы *чаго;* да гібелі *каго, чаго;* дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго;* да халеры *каго, чаго;* да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго;* з горла прэ *ў каго;* імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму*

(у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго;* не кот наплакаў (у 1 знач.); не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго;* па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 3 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго;* у кожнай кішэні па жмені *каго;* хоць адбаўляй *каго, чаго;* хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым;* хоць заваліся *чаго;* хоць заліся *чаго;* <хоць> плот гарадзі *кім, каго;* хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго;* цьма цьмушчая *каго, чаго;* цэлы воз *каго, чаго;* чортава гібель *каго, чаго;* чортава процьма *каго, чаго;* чорт што *чаго;* як бобу *каго;* як гразі *каго, чаго;* як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. Работы ў нас з вашым бацькам непачаты край.* Лынькоў. *[Кавальчук:] Праўда, спраў у нас непачаты край, але я веру, хлопцы, што з вамі, калі дружна возьмемся, мы так гаспадарку сваю паставім, што і фермы ў нас будуць найлепшыя, і ўраджаі будуць вялікія, і вёска стане прыгожай, з электрычнасцю.* Макаёнак. *А ў яго быў кут багаты думак розных, спеву, сноў, казак вугал непачаты...* Колас. *І, задаволена ўсміхаючыся, Базыль запэўніваў партыйны сход: — Буду старацца! Працы — кут непачаты.* Ніканові́ч.

**ПЯРЭ́ДНІ КРА́Й** *чаго. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Найважнейшы, самы адказны ўчастак чаго-н. *Крытыка — пярэдні край літаратуры.* «ЛіМ». *Пярэднім краем барацьбы стала аднаўленне разбуранай вайной народной гаспадаркі.* «Звязда».

**ХАПАЦЬ ЦЕРАЗ КРАЙ**. Гл. хапаць.

**ХО́ЦЬ НА КРА́Й СВЕ́ТУ** *ісці (пайсці), ехаць (паехаць)* і пад. *Акал. Разм.* У любое месца, абы-куды. **Сін.**: на край свету (у 2 знач.); на ўсе чатыры <бакі>. *Ці ж не бачыць яна, што не любіць Васіль сваю Маню! Пазваць, пайсці з ім хоць на край свету, к шчасцю свайму!..* Мележ. — *А ты таксама добры бадзяга,* — *накінулася на яго Аня.* — *Ты сам рад быў бы з дому збегчы хоць на край свету.* Шамякін. *Я, вядома, узгарэўся. Хоць на край свету гатоў паехаць.* Асіпенка. *Куды хочаш, любая, пайду з табой, хоць на край свету.* Сабаленка.

**ЦЕ́РАЗ КРА́Й** *чаго. У безас. ужыв. Разм.* Вельмі многа, з лішкам. Пра людзей, канкр. ці абстр. прадметы. **Сін.**: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу *<чаго>;* валіцца цераз горла ў *каго;* вышэй вушэй *чаго;* вышэй галавы *чаго;* да гібелі *каго, чаго;* дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго;* да халеры *каго, чаго;* да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе ў *каго;* з горла прэ ў *каго;* імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго;* не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго;* не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго;* па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго;* у кожнай кішэні па жмені *каго;* хоць адбаўляй *каго, чаго;* хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым;* хоць заваліся *чаго;* хоць заліся *чаго;* <хоць> плот гарадзі *кім, каго;* хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цьма цьмушчая *каго, чаго;* цэлы воз *каго, чаго;* чортава гібель *каго, чаго;* чортава процьма *каго, чаго;* чорт што *чаго;* як бобу *каго;* як гразі *каго, чаго;* як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. Галя, Галка мая, пачакай... Пачакай — адваюемся хутка... Будзе шчасця і ў нас цераз край, а цяпер дарагая й мінутка...* Звонак. *Чаго ты, маці, не цярпела: то прыбяры, то падавай! На сонцы млела, у ветры зглела, а*

*працы мела — цераз край.* Лужанін. *Дыпламаваных настаўнікаў у вёсцы не хапае. Затое ў горадзе, нават самым маленькім, іх — цераз край.* Навуменка.

*КРАЙНАСЦІ* • **ДА КРА́ЙНАСЦІ**. *Акал. Функц. не зам.* Надзвычайна, у найвышэйшай ступені (напружыць, надакучыць і інш.). *Трохі не месяц брыгада знаходзілася ў беспералынных баях і паходах, і сілы яе былі напружаны да крайнасці.* Шамякін.

*КРАЙНІ* • **НА КРАЙНІ ВЫПАДАК**. Гл. выпадак.

*КРАЙНІМ* • **У КРАЙНІМ ВЫПАДКУ**. Гл. выпадку.

*КРАЙНЯЙ* • **ПА КРАЙНЯЙ МЕРЫ**. Гл. меры.

*КРАКАДЗІЛАВЫ* • **КРАКАДЗІЛАВЫ СЛЁЗЫ**. Гл. слёзы.
**ЛІЦЬ КРАКАДЗІЛАВЫ СЛЁЗЫ**. Гл. ліць.

*КРАМКА* • **КРАМКА ЗАКРЫВАЕЦЦА**. Гл. лавачка.

*КРАНАЦЬ* • **ЗА ЖЫВОЕ КРАНАЦЬ** *каго.* Гл. браць.
**КРАНА́ЦЬ СЭ́РЦА** *чыё, каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Моцна хваляваць, расчульваць каго-н. **Сін.**: браць за душу; за жывое браць *каго* (у 1 знач.); наступаць на душу *каму. Ці то адбітае горнымі вышынямі сонца слала такія пранозлівыя прамяні, ці то хрыплаваты голас лётчыка так кранаў сэрца — у вачах лейтэнанта раптам блпіснулі слёзы.* Хадкевіч. **КРАНУЦЬ СЭРЦА** *чыё, каго. Зак. Эх, Саханюк, Саханюк! Ты і гарцы мае бярэш, ты і чэсць нашу настаўніцкую бароніш. Ты крануў мае сэрца.* Колас. *Крануў сэрца старога і падарунак Ігната.* Марчук.

*КРАНУЎСЯ* • **ЛЁД КРАНУЎСЯ**. Гл. лёд.

*КРАНУЦЦА* • **КРАНУ́ЦЦА З РО́ЗУМУ**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Стаць псіхічна ненармальным, звар'яцелым. **Сін.**: з'язджаць з глузду (у 1 знач.); сесці на каня; сыходзіць з катушак; сыходзіць з кругоў; сыходзіць з поля (у 1 знач.); сыходзіць з розуму (у 1 знач.). *Каб хто пабачыў збоку, то напэўна падумаў бы, што настаўнік крануўся з розуму.* Колас. — *Заўтра раніцай эшалоны кранацца ў дарогу. — Толькі заўтра раніцай?! Вы з розуму кранўліся? Эшалоны павінны быць адпраўлены праз гадзіну, максімум праз дзве!* Лобан.

*КРАНУЦЬ* • <І> **ПА́ЛЬЦАМ НЕ КРАНУ́ЦЬ (НЕ ЗАЧАПІ́ЦЬ)** *каго. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не прычыніць ніякай шкоды каму-н., не біць. *Я толькі раз і пасварыўся на Сідорчынага сына, а біць — ніколі і пальцам не крануў.* Крапіва. *Ідзіце. Ніхто вас і пальцам не кране.* Грахоўскі. *Можа, не паверыш, а толькі за ўсё жыццё сваё я нікога пальцам не крануў.* Асіпенка. *Дадзім дакументы — цябе ніхто не кране пальцам.* Баранавых. *Народ зноў гатоў быў рынуцца і змяшаць Бушмара з зямлёй. — Назад! — Пальцам не зачапі яго!* Чорны.
**КРАНУЦЬ СЭРЦА** *чыё, каго. Зак. да* **КРАНАЦЬ СЭРЦА** *чыё, каго.*

*КРАПІЎНАЕ* • **КРАПІЎНАЕ СЕМЯ**. Гл. семя.

*КРАТАМІ* • **ЗА КРА́ТАМІ** <u>*быць, сядзець, аказацца*</u> і пад. *Акал. Разм.* У турме. *Ёсць і за кратамі яшчэ сыны твае, і на выспах катавых, у катаржным палоне.* А.Александровіч. *[Хлопчык] разам з маці сядзеў за кратамі і памёр у турме.* Шкраба.

*КРАТАЎ* • **З-ЗА КРА́ТАЎ**. *Акал. Разм.* З турмы. *Як расказваў потым бацька, сядзець бы яму ў белапольскай турме яшчэ шмат гадоў, каб не сябры: вырвалі яны яго з-за кратаў і*

*тайком праз мяжу ў Савецкую краіну пераправілі.* Якімовіч. *Кастусь Каліноўскі з-за кратаў пісаў свае шчырыя словы-агні, змагацца ён зваў супраць катаў.* Хведаровіч.

*КРАТЫ* • **ЗА КРА́ТЫ** *садзіцца, пасадзіць* і пад. *Акал. Разм.* У турму. *[Капітан:] Паклічу канваіра, на год, на два за краты адвяду.* Куляшоў.

*КРАЮ* • **АД (З) КРА́Ю ДА КРА́Ю**. *Акал. Функц. не зам.* У розных кірунках, усюды, з аднаго канца да другога. **Сін.**: з канца ў канец; з краю ў край; удоўж і ўпоперак (у 1 знач.). *Сівыя хвалі каласістага жыта хадзілі па полі ад краю да краю, падступаючы да самых агародаў маленькай вёскі.* Самуйлёнак. *Хмары неба ўсцілалі мо тысячу раз, перуны білі з краю да краю...* Купала.

**З ГАЛОДНАГА КРАЮ <ПРЫЕХАЎ>**. Гл. прыехаў.

**З КРА́Ю Ў КРА́Й**. *Акал. Функц. не зам.* З аднаго канца ў другі, усюды, у розныя напрамкі, у розных напрамках. **Сін.**: ад краю да краю; з канца ў канец; удоўж і ўпоперак (у 1 знач.). *І па сённяшні дзень восень жару не можа пагасіць на зямлі, ходзіць з краю ў край...* Танк. *Маладосць з краю ў край мяне весела кідала...* Панчанка.

**КАНЦА І КРАЮ НЕ ВІДАЦЬ** *чаму*. Гл. відаць.

**ХАТА З КРАЮ**. Гл. хата.

*КРОІЦЬ* • **КРО́ІЦЬ СЭ́РЦА** *каму, чыё. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Выклікаць вялікі душэўны боль, пакуты. **Сін.**: вымотваць жылы (у 2 знач.); вымотваць кішкі *каму* (у 1 знач.); гнаіць душу *чыю, каму;* разануць <нажом> па сэрцы *каго;* раздзіраць душу *каму, чыю;* рваць душу *чыю, каму;* рэзаць па жывому (у 2 знач.); рэзаць сэрца *каму;* сушыць сэрца *чыё, каму;* цягнуць душу *з каго;* цягнуць за душу *каго.* — *Не крой ты майго сэрца, Анежка! — крычаў ён [Петрас], грукаючы па стале.* Броўка. *Наш запал і гарт юнацкі вам [панам] сягоння сэрца кроіць.* Крапіва. *Ганна ідзе шукаць бацьку. Паміж імі адбываецца дыялог, які рве душу, кроіць сэрца сваёй трагічнай, нявыдуманай праўдзівасцю.* Шкраба.

*КРОК* • **АДЗІ́Н КРО́К** *ад чаго да чаго. У знач. вык. Разм.* Не так далёка, вельмі блізка. **Сін.**: за два крокі *ад каго, ад чаго;* за плячамі *каго, у каго* (у 2 знач.); не за гарамі (у 1 знач.); пад бокам (у 1 знач.); пад рукамі (у 2 знач.); пад рукой (у 2 знач.); пад <самым> носам *у каго, чым, каго;* перад вачамі *<чыімі>;* перад носам *<каго, чым>;* рукой падаць *да чаго. Ад упраўлення трэста да завадской пляцоўкі быў адзін крок, і Лесавец наважыўся пайсці туды.* Хадкевіч. *Вось і атрымліваецца, што ад алкагольнай разбэшчанасці — усяго адзін крок да белай гарачкі, дзікіх галюцынацый і, як бачым, да цяжкага злачынства.* «Вожык».

**КРО́К ЗА КРО́КАМ**. *Акал. Функц. не зам. Часцей ужыв. пры дзеясл.-вык. незак. тр.* **1**. Паступова, няўхільна. **Сін.**: час ад часу (у 2 знач.). *Міхал станоўка, ненарокам ішоў да мэты крок за крокам.* Колас. *[Гарлахвацкі:] Прыведзеныя ў сістэму, гэтыя астаткі абазначаюць сабою тую цудоўную, ні з чым не параўнальную лесвіцу Дарвіна, па якой на працягу соцень мільёнаў год зямное жыццё ўзбіралася крок за крокам усё вышэй і вышэй...* Крапіва.

**2**. Паслядоўна, адно за другім. *Наша краіна крок за крокам праводзіць сваю мірную палітыку.* «Звязда». *Спасылаючыся на запісы ў дзённіку, Максім Лужанін крок за крокам узнавіў гісторыю стварэння «Адплаты».* Казека.

**КРО́К НАПЕ́РАД** *<які>. Мн. не ўжыв. Часцей вык. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Дасягненне, прагрэс у якой-н. справе. *Гэта аповесць для Сяргея Знаёмага ёсць немалы крок наперад.* Чорны. *Гэта быў ужо значны крок наперад па*

*шляху расследавання, але ж адказу на самае галоўнае пытанне яшчэ не даваў.* «Полымя». *З адной п'есай тэатр робіць крок наперад у асэнсаванні праблемы жыцця, з другой, бывае, адступае на крок у майстэрстве.* «ЛіМ».

**НІ НА КРО́К**. *Акал. Разм. Ужыв. у адмоўн. ск.* **1**. Нават на самую малую адлегласць (не адступаць, не адыходзіць і пад. ад каго-, чаго-н.). *Маленькі жвавы правадыр ні на крок не адступаў ад дзеда і штохвіліны спаглядаў на яго збялелы твар, як бы жадаючы згадаць наперад кожную думку старца.* Галубок. *Цяпер жа Казіміру трэба было глядзець дачку, якая ні на крок не адыходзіць ад яго.* Жычка. *[Ермакоў:] Дай мне слова: я складу галаву — ты будзеш стаяць, ты загінеш — я не адступлю ад сцен крэпасці ні на крок!* Губарэвіч.

**2**. Зусім, ніколькі (не адступаць ад чаго-н., не набліжацца да чаго-н.). *Акуратны службіст на рабоце, так і тут, пры Камітэце, Нестар ні на крок не адступаў ад наказаў Варшавы...* Якімовіч. *Трэба пакуль што самім прымаць нейкае рашэнне. І такое, каб ні на крок не адступаць ад дэкрэтаў рэвалюцыі.* Грахоўскі. *[Агееў] перакапаў кубаметры зямлі, але ні на крок не наблізіўся да рашэння сваёй загадкі, нічога не давёў да канца.* Быкаў.

**ПЕРШЫ КРОК** <*у чым, чаго*>. Гл. крокі.

**ШТО́ НІ КРО́К**. *Акал. Разм. Ужыв. пры дзеясл. незак. тр.* У розных мясцінах, усюды і пастаянна. **Сін**.: на кожным кроку; усю дарогу. *Скалы, лес, азёры, скалы ў непаўторным спалучэнні што ні крок мяне спынялі шматкалёрным сваім бляскам, шматгалосым сваім шумам.* Танк. *Зруйнаванняў сляды — што ні крок.* Звонак. *Глеба тут вязкая і багністая. Што ні крок — ямы, калдобіны, глыбокія лужыны. Машына спыняецца кожную хвіліну.* В.Вольскі.

*КРОКАМ* • **КРОК ЗА КРОКАМ**. Гл. крок.

*КРОКАМІ* • **СЯМІМІ́ЛЬНЫМІ КРО́КАМІ** <u>ісці, рушыць, набліжацца</u> і пад. *Акал. Функц. не зам.* Вельмі хутка. Пра развіццё чаго-н. *Кожны думаў, відаць, цяпер: «Ну, цяпер навука рушыць сямімільнымі крокамі...»* Дамашэвіч. *[Шаркун:] Ідзём наперад! Сямімільнымі крокамі ідзём наперад. Толькі паспявай!* Васілеўскі.

*КРОКАЎ* • **З ПЕ́РШЫХ КРО́КАЎ (З ПЕ́РШАГА КРО́КУ)** <*чаго*>. *Акал. Функц. не зам.* *З самага пачатку якіх-н. дзеянняў, якой-н. дзейнасці. З першых крокаў сваёй творчасці Я.Купала марыў «з цэлым народам гутарку весці», быць вестуном яго надзей і спадзяванняў.* Шкраба. *Маладых і трэба якраз з першых крокаў папраўляць.* Грахоўскі. *«Дзяўчаты, чаму [звальняецеся]?» Маўчаць. Паглядаюць адна на адну, паціскаюць плячыма. Вось табе і маеш загадку. З першага ж кроку...* Палтаран.

*КРОКІ* • **ЗА ДВА́ КРО́КІ** *ад каго, ад чаго. Акал. Разм.* Зусім блізка, амаль побач. **Сін**.: адзін крок *ад чаго да чаго;* за плячамі *каго, у каго* (у 2 знач.); не за гарамі (у 1 знач.); пад бокам (у 1 знач.); пад рукамі (у 2 знач.); пад рукой (у 2 знач.); пад <самым> носам *у каго, чым, каго;* перад вачамі <*чыімі*>*;* перад носам <*каго, чым*>*;* рукой падаць *да чаго. Саладоўні і мядоўні, тут жа, за два крокі ад карчмы, выраблялі дабрэнны напітак, які не мог тут доўга трымацца ў запасе.* Чорны. *Раптам Карпаўна ўздрыгнула ад нечаканасці, — за два крокі ад лаўкі, на якой яна сядзела, стаяў нямецкі афіцэр з вялізнай аўчаркай на ланцужку.* Краўчанка. *Бацька Ленкі толькі што быў тут, у нашым двары, за два крокі... Дзе яго шукаць цяпер? Дзе?* Шамякін.

**ПЕ́РШЫЯ КРО́КІ (ПЕ́РШЫ КРО́К)** <*у чым, чаго*>. *У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Самы пачатак якіх-н. дзеянняў, якой-н. дзейнасці. *Лепш памарудзіць, але зрабіць*

*гладка і акуратна. Цяжэй за ўсё зрабіць першыя крокі...* Колас. *Заняткі ў клубе «Каласок», удзел у самаабслугоўванні, пасільная праца на прышкольным участку — першыя крокі ў прафарыентацыі і працоўнай загартоўцы.* «Настаўн. газ.» *Моцна трымаючы дзвюма рукамі вязанку, ён закінуў яе наперад, а потым падцягнуўся да яе ўсім целам. Першы крок быў зроблены.* Маўр. *Зроблены першыя крокі самастойнага жыцця, а гэта многае значыць.* Дамашэвіч.

*КРОКУ* • **З ПЕРШАГА КРОКУ** <*чаго*>. Гл. крокаў.

**<I> КРОКУ СТУПІЦЬ** *не можа* і пад. Гл. ступіць.

**НА КО́ЖНЫМ КРО́КУ**. *Акал. Функц. не зам. Ужыв. пры дзеясл. незак. тр.* Усюды і пастаянна. **Сін.**: усю дарогу; што ні крок. *Народ ужывае прыказкі на кожным кроку...* Крапіва. *На кожным кроку мы сустракаемся з праявамі ўсенароднай цікавасці да кніг.* «Настаўн. газ.» — *Вось, каб яшчэ арэхаў знайсці!.. — Разласаваўся, — усміхнуўся Віктар. — Не на кожным кроку гэта здараецца, браток ты мой.* Маўр.

**НЕ ДАВАЦЬ КРОКУ СТУПІЦЬ** *каму*. Гл. даваць.

**НЕ СТУПІЦЬ КРОКУ**. Гл. ступіць.

**НІ КРО́КУ**. *Вык. Функц. не зам.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не рухацца ў якім-н. напрамку. Загад, каманда каму-н. **Сін.**: ні з месца (у 1 знач.). *[Ермакоў:] А вы — ні кроку назад! [Наганаў:] Ёсць!* Губарэвіч.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Быць у тым са-мым становішчы, не рухаючыся. **Сін.**: ні з месца (у 2 знач.); ні тпру ні ну (у 1 знач.). *[Конь] пхнуўся, цягнуўся, — нарэшце як стаў, далей ні кроку — трасецца. Як яго Сцёпка ні гнаў-паганяў, хоць ты забі — ані з месца!* Купала.

*КРОПЕЛЬКІ* • **<I> КРОПЕЛЬКІ ПАБРАЎ** *чые, каго, у каго, з каго.* Гл. пабраў.

**НІ КРОПЕЛЬКІ**. Гл. кроплі.

*КРОПЕЛЬКУ* • **НІ НА КРОПЕЛЬКУ**. Гл. кроплю.

*КРОПКА* • **КРО́ПКА ПАСТА́ЎЛЕНА**. *У безас. ужыв. Функц. не зам.* Завершана, скончана што-н. **Ант.**: лёд крануўся. *Калі выдавалі грошы, у мяне запыталі, ці хачу я ведаць, хто новы гаспадар машыны. Я не захацеў гэтага ведаць. Яшчэ пацягне паглядзець на яе — навошта вярэдзіць сэрца?! Пастаўлена кропка, дык няхай і стаіць!* Шахавец. *Адаслаўшы заяву ў кіраўніцтва чыгункі, Прыстром выразна адчуў: на ўсім мінулым.. пастаўлена значная, грубая кропка.* Шынклер. *Я заўтра ж паеду да мамы... Я прымушу яе апамятацца. Яна, мабыць, думае, што напісала пісьмо і на гэтым пастаўлена кропка.* Хадкевіч.

**КРО́ПКА Ў КРО́ПКУ (КРО́ПЛЯ Ў КРО́ПЛЮ)**. *Мн. не ўжыв. Акал. Разм.* **1**. Абсалютна дакладна. **Сін.**: цот у цот (у 1 знач.); цюцелька ў цюцельку (у 1 знач.). *Пераносу ў твор, ды яшчэ кропка ў кропку, усіх перыпетый і акалічнасцей у паводзінах і ў абставінах жыцця — вось гэтага якраз не даруе ні жыццё, ні мастацтва.* Лужанін. *[Чыноўнік] і цалуе, небараку, толькі ў планавым парадку, акурат, кропка ў кропку па раскладу... Ну, якую ж дасі раду? Бюракрат!* Крапіва. — *А гадзіннік, нябось, крыху кламіць?.. — Учора адвячоркам звяраўся на пошце: кропля ў кроплю з паштовым.* Гартны.

**2**. Акурат, якраз, вельмі моцна (падобны, супадае і пад.). **Сін.**: рыхтык у рыхтык; як дзве кроплі вады. *Лабановіч заўважыў, што калі Надзея дажыве да яе гадоў, дык кропка ў кропку будзе подобна да маці.* Колас. *Адным разам Рыгор увайшоў у вагон, каб ехаць у горад, як перад ім ачулася дзяўчына, ну кропка ў кропку — Ганна.* Гартны. *[Пфайфель] перад самаю той вайной памёр. А гэты, што ішоў цяпер вуліцай, кропля ў кроплю — той.*

Чорны. *Калі ўжо быць падобным на Баброва — дык да канца, кропля ў кроплю, як кажуць.* Гамолка.

*КРОПКІ* • Зрушыць, зрушыцца **З МЁРТВАЙ КРО́ПКІ**. *Акал. Функц. не зам.* Са стану нерухомасці, нязменнасці. **Ант.**: на мёртвай кропцы. *Зрушылася з мёртвай кропкі і застарэлае пытанне аб прэстыжнасці інжынернай працы.* «Звязда». *Здавалася, можна ўздыхнуць з палёгкай. Справа як быццам зрушыла з мёртвай кропкі.* «Вожык».

**КРО́ПКІ НАД «І» ПАСТА́ЎЛЕНЫ** *дзе. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Няма нічога нявысветленага, усё даведзена да лагічнага канца. *Не, Антон Платонавіч не збіраўся пісаць пра самога геніяльнага мастака. Тут ужо кропкі над «і» пастаўлены.* «ЛіМ». *Трэба яшчэ напісаць эпілог, бо [у паэме].. не пастаўлены кропкі над «і».* Колас.

**СТАВІЦЬ КРОПКІ НАД «І»**. Гл. ставіць.

*КРОПКУ* • **БІЦЬ У АДНУ КРОПКУ**. Гл. біць.

**КРОПКА Ў КРОПКУ**. Гл. кропка.

**СТАВІЦЬ КРОПКУ** *на чым, над чым, у чым.* Гл. ставіць.

*КРОПЛІ* • **ДА АПО́ШНЯЙ КРО́ПЛІ (КА́ПЛІ) КРЫВІ́** біцца, змагацца, абараняць і інш. *Акал. Функц. не зам.* Ахвяруючы ўсім, не шкадуючы свайго жыцця. **Сін.**: не на жыццё, а на смерць (у 1 знач.). *Хай ведае Доўбар-Мусніцкі і ўся яго хеўра, што мы да апошняй кроплі крыві будзем біцца за савецкую ўладу, за сваю справу.* Галавач. *Сцяпан цяпер да апошняй кропкі крыві абараняў бы гэты прыгожы куток.* Чарнышэвіч.

**НІ КРО́ПЛІ (НІ КРО́ПЕЛЬКІ, НІ КА́ПЛІ, НІ КА́ПЕЛЬКІ)**. *Акал. Разм. Ужыв. у адмоўн. ск.* Зусім, нколькі (не мець, не адчуваць, не баяцца і пад.). **Сін.**: на волас (у 2 знач.); на <ломаны> грош; на макулінку (у 2 знач.); на мезены палец; на панюх табакі (у 2 знач.); на сіні пазногаць (у 2 знач.); на шэлег (у 2 знач.); ні божа мой; ні грама; ні каліва; ні на <адзін> шэлег (у 1 знач.); ні на волас; ні на грам (у 1 знач.); ні на гран; ні на грош; ні на ёту; ні на каліва; ні на кроплю; ні на макава зерне; ні на макулінку. *[Андрэй:] Ёсць у мяне бацька й маці, а ўсё ж не люб мне дом. Калі ў войска ішоў, не адчуваў ні кроплі жалю па ім, бо ўсё там было не па майму нораву.* Галавач. *[Жаночы голас:] Ах! Ён такі няздольны! У яго няма ні кроплі таленту!* В.Вольскі. *Паддубны ціхенька смяяўся і гаварыў. — Каб мы так баяліся, як ты кажаш, то паны нас ні кропелькі не баяліся б.* Пестрак. *[Карнейчык:] Я гэту дружбу трынаццаць год насіў у сваіх грудзях, не растраціўшы ні каплі.* Крапіва. *За дзесяць гадоў нашы падапечныя ні капелькі не пастарэлі.* «Полымя».

Падобны **ЯК (НІБЫ́) ДЗВЕ́ КРО́ПЛІ ВАДЫ́ (РАСЫ́)**. *Акал. Разм.* Вельмі моцна, абсалютна. **Сін.**: кропка ў кропку (у 2 знач.); рыхтык у рыхтык. *[Туляга:] Але вы не ведаеце, што гэты палкоўнік быў падобны на мяне як дзве кроплі вады.* Крапіва. *Нехта сказаў жарт, які потым доўга паўтаралі: гэтая лялька, маўляў, як дзве кроплі вады падобная на Нэлку...* Гігевіч. *Коля ж пісаў у пісьме, што Алежка ўдаўся ў дзядулю, падобны на яго «як дзве кроплі расы».* І.Капыловіч. *Побач сядзелі нібы дзве кроплі расы падобныя дзяўчаты.* Кузьмянкоў.

**ЯК У КРО́ПЛІ ВАДЫ́**. *Акал. Функц. не зам.* Абсалютна дакладна і аднолькава (адлюстравацца, бачыць і пад.). *Вёска свету невядомая, але ў ёй як у кроплі вады адлюстраваны лёс беларускага народа, яго гераічная барацьба з фашысцкімі захопнікамі.* «Настаўн. газ.» *Для тых эпічных абагульненняў, якія вабілі, жывілі яго [К.Чорнага] замыслы, па яго ўласным прызнанні, яму хапіла б на ўсё жыццё адных Цімкавіч і цімкаўцоў, нават адной

*сям'і, у гістарычным радаслоўі якой як у кроплі вады ён бачыў цэлы акіян народнага жыцця.* Вітка.

*КРОПЛЮ* • **КРО́ПЛЮ ЗА КРО́ПЛЯЙ.** *Акал. Разм.* Паступова, патроху, павольна. *Бязлітасная хвароба сушыць дзяўчыну, кроплю за кропляй адбірае жыццё.* Кудраўцаў.

**КРОПЛЯ Ў КРОПЛЮ.** Гл. кропка.

**НІ НА КРО́ПЛЮ (НА КРО́ПЕЛЬКУ).** *Акал. Разм. Ужыв. у адмоўн. ск.* Зусім, ніколькі (не верыць, не мецъ, не адчуваць і пад.). **Сін.**: на волас (у 2 знач.); на <ломаны> грош; на макулінку (у 2 знач.); на мезены палец; на панюх табакі (у 2 знач.); на сіні пазногаць (у 2 знач.); на шэлег (у 2 знач.); ні божа мой; ні грама; ні каліва; ні кропкі; ні на <адзін> шэлег (у 1 знач.); ні на волас; ні на грам (у 1 знач.); ні на гран; ні на грош; ні на ёту; ні на каліва; ні на макава зерне; ні на макулінку. *Якой-небудзь віны або нават няёмкасці ў адносінах да гэтага Пётры Рыбак не адчуваў ні на кроплю...* Быкаў. *Толькі я.. не веру яго словам ні на кроплю.* Шашкоў. *Як пабудавалі, абсталявалі гэтую школу, у навучанні перайшлі на новыя праграмы, звыкліся крыху, дык здавалася: неўзабаве павінна палягчэць, быць больш вольнага часу. Ажно ні на кропельку не палягчэла.* Далідовіч.

*КРОПЛЯ* • **КРО́ПЛЯ (КА́ПЛЯ) У МО́РЫ** *<чаго>. Мн. не ўжыв. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Вельмі нязначная колькасць у параўнанні з чым-н. **Сін.**: з вераб'ёў нос (у 1 знач.); з жабіны прыгаршчы *чаго;* з камароў нос (у 1 знач.); з макава зерне; курам на смех (у 3 знач.); на жабін скок (у 2 знач.); на заячы скок; на капейку; на макава зерне; на пальцах можна пералічыць *каго, што;* на панюх табакі (у 1 знач.); на шэлег (у 1 знач.); не поле насеяна *каго;* раз-два і ўсё *каго, чаго;* як кату; <як> кот наплакаў *каго, чаго;* як старой бабе сесці. *Як адыходзілі вечарам з жніва — убачылі, што нажатае жыта — кропля ў моры ўсяго жытняга палетка.* Чорны. *Усё гэта можна, але што з таго? Без агульнага паўстання — гэта кропля ў моры. А паўстанне зараз ужо немагчыма.* Пестрак. *Я іменна з катэгорыі тых, для каго кручок — капля ў моры...* Колас.

**КРОПЛЯ Ў КРОПЛЮ.** Гл. кропка.

*КРОПЛЯЙ* • **КРОПЛЮ ЗА КРОПЛЯЙ.** Гл. кроплю.

*КРОПЦЫ* • **НА МЁРТВАЙ КРО́ПЦЫ** <u>*быць, заставацца*</u> і пад. *Вык. і акал.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. У ранейшым стане нерухомасці, нязменнасці. **Ант.**: з мёртвай кропкі. *Многа было падобных прапаноў. А ў майстра на ўсё свая думка. Вось і заставаліся ўсе пытанні на мёртвай кропцы.* «Звязда».

*КРОЎ* • **БЛАКІ́ТНАЯ КРО́Ў.** *Мн. не ўжыв. Устар. У ролі розных чл. ск. Разм.* Чалавек дваранскага паходжання. **Сін.**: белая костка. **Ант.**: чорная костка. *Па мордзе відаць, што блакітнай крыві. Якая-небудзь Ляхвіцкая ці Ляхавіцкая.* Лобан. — *Каго ты з сябе разыгрываеш? — Дэндзі лонданскага... Блакітную кроў.* Міська. *Я — галяк. Яна таксама бедная, але яна з ліку старэйшых родаў, блакітная кроў, гордая слава бясконцых пакаленняў за плячамі.* Караткевіч.

**ЗАЛІВАЦЬ КРОЎ ЗА СКУРУ** *каму.* Гл. заліваць.

**КРО́Ў АД КРЫВІ́.** *Мн. не ўжыв. Вык. і азн. Функц. не зам. Узнёсл.* **1.** *каго, чыёй.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Роднае дзіця. Пра кроўную роднасць. **Сін.**: косць ад косці (у 1 знач.); плоць ад плоці (у 1 знач.); плоць і кроў (у 1 знач.). *Язэпу ўпершыню да ламаты ў скронях стала шкада гэтага дзіцяці, ягонага, кроў ад крыві, плоць ад плоці.* Асіпенка.

**2.** *каго, чыёй, чаго.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Спараджэнне, дзецішча каго-, чаго-н. Пра ідэйную роднасць. **Сін.**: косць ад косці (у 2 знач.); плоць ад плоці (у 2 знач.); плоць і кроў (у 2 знач.). *Гук слова роднага... Ды гэта ж ты і ёсць пах хлеба жытняга... То ж Беларусь — Айчына, а я — твой сын, ад косці косць, кроў ад крыві тваёй, мая Айчына.* Дзяргай. *Як жа не спяваць пра іх, герояў, кроў ад крыві, косць ад косці народа, як жа не аплакваць іх лірнаю слязой?* Пестрак. *Не можа быць! Бабейка, кроў ад крыві, косць ад косці мужыцкай, як ён сам любіў гаварыць пра сябе, — каб ён падпаліў хлеб?* Хадкевіч.

**КРОЎ АДХЛЫНУЛА (АДЫШЛА́, АДЛІЛА́) АД ТВА́РУ** *чыйго, у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. збялееў, пабляднеў з якой-н. прычыны. **Ант.**: кроў кінулася ў твар *каму, каго;* кроў прылівае да твару *чыйго, каму. Кроў адхлынула ў яе [Парасkі] ад твару, і, як выбеленая вапнаю, нерухома глядзела яна проста на пана.* Нёманскі. *Калі Васіль Пятровіч перамагаў ваганні, наважваўся на нешта адно, ён бляднеў. Так і цяпер — кроў адхлынула ад яго твару.* Карпаў. *Хто там спыніўся ля яго двара? Ён [Патапчык] убачыў асядланага каня, аднаго, а потым і другога. Кроў адышла ад твару. Слабасць і млявасць пацяклі па жылах.* Чарнышэвіч. *— Ма-ма! — тоненькім голасам паўтарыў хлопчык... Кроў адліла ад Хрысцінінага твару... Яна ледзь не страціла прытомнасць, пачуўшы гэтае забытае слова.* Каліна.

**КРО́Ў ГАРЫ́ЦЬ** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. адчувае ў сабе багацце сіл, энергіі. **Сін.**: кроў кіпіць *у каго, чыя* (у 1 знач.). *А як пойдуць яны [дзяўчаты] у скокі — кроў гарыць, ну, любата!* Колас. *У мяне гарыць кроў... Я хачу, каб нешта крышыць, ламаць...* Зарэцкі.

**КРО́Ў ГАРЫ́ЦЬ У ЖЫ́ЛАХ** *чыіх. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. ахоплены парывам пачуццяў, адчувае моцнае хваляванне, захапленне і пад. **Сін.**: кроў кіпіць *у каго, чыя* (у 2 знач.). *Нярадаснае жыццё яе [Яніны] з Антосем Салаўём. Якая гэта пара, калі ў яе жылах кроў гарыць, як агонь, а ў яго лёд на душы і на сэрцы.* Мурашка.

**КРО́Ў ЗАКІПЕ́ЛА** *чыя <каго>. Зак. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. стаў вельмі ўзбуджаны, усхваляны, ахоплепны парывам пачуццяў. *Ахапіла злосць асілка, закіпела яго кроў.* Якімовіч.

**КРО́Ў ЗА КРО́Ў.** *У знач. ск. Функц. не зам.* Адплата забойствам за забойства. *Людзі слухалі паказанні, і твары іх камянелі, сухімі, калючымі рабіліся вочы. Прысуд ворагам быў кароткі: кроў за кроў!* Лынькоў. *Ёсць страшны і грозны, нібы клятва святая, нянавісці лозунг: кроў за кроў!* Панчанка.

**КРО́Ў З МАЛАКО́М.** *Мн. не ўжыв. Вык. і азн. Адабр.* **1.** Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Здаровы, моцны, у росквіце. *Антось — мужчына высокі і плячысты, пад дзевяноста кілаграмаў. Як кажуць, кроў з малаком.* Супрунчук. *У цябе вунь ужо і скроні — як зазімак, пасівелі. А памятаю, з Мінска прыехаў — кроў з малаком.* «Полымя».

**2.** Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі прыгожы. Звычайна пра жанчыну. **Сін.**: хоць вады напіся; як макаў цвет. *А, чорт... Якая прыгожая, кроў з малаком. Не ведаю, як ты, а я зразу б укахаўся ў яе.* Галавач. *— Дзяўчынка, мне, калі ласка, два кілаграмчыкі апельсіну, — ласкава папрасіў я маладзенькую, кроў з малаком, прадаўшчыцу.* Лазуркін.

**3.** Ужыв. пры дзейн., выраж. наз. *твар, шчокі* і пад. Свежы, румяны. *Бывала, выпрастаюся — дзяцюк, як жэрдка: тонкі, высокі твар — кроў з малаком.* Цётка. *Бог даў ёй дочку Тадорку, вясёленькую, маўляў, зорку, проста матчын ненагляд! Кроў з малаком яе шчочкі...* Дунін-Марцінкевіч.

**КРÓЎ З НÓСА.** *Акал. Праст. Часцей ужыв. пры дзеясл.-вык. зак. тр.* Абавязкова, нягледзячы ні на што, пры любых умовах. **Сін.**: любой цаной; <усімі> праўдамі і няпраўдамі; хоць з калена выламі; хоць <ты> лопні (у 2 знач.); што б там ні было. *[Перагуд:] Не, таварыш маёр! Кроў з носа, а загад ваш я выканаю!..* Крапіва. *І вось бацька ўзяўся будаваць хату. А нам усім сказаў, што кроў з носа, а зімаваць будзем у новай, хопіць, нажыліся ў старой.* Быкаў. *Слоў на вецер не кідайце, а калі ўжо што намечана, то кроў з носа, а каб было зроблена.* Палтаран. *За муку, за прастоі млына ты адказваеш. Кроў з носа, а... Помні!.. Ідзі...* Карамазаў.

**КРÓЎ ІГРÁЕ (ЗАЙГРÁЛА)** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. ахоплены парывам пачуццяў, вельмі ўзбуджаны. **Сін.**: кроў гарыць *у каго* (у 2 знач.); кроў кіпіць *у каго, чыя* (у 2 знач.). *Нептун з прыгожанькай наядай пайшоў упрысядку казака; нябось, і ў старога гада кроў грае, як і ў дзецюка.* «Тарас на Парнасе». *[Валя:] Што восень! Восень яшчэ далёка, а цяпер вясна, сама што кроў грае.* Крапіва. *Сталы чалавек, дачок замуж адправіў, і раптам кідае жонку, сям'ю і ідзе немаведама куды... Закруціла нешта ў мазгах, кроў зайграла. На маладое пацягнула.* Кудравец.

**КРÓЎ КÍНУЛАСЯ (ХЛЫ́НУЛА, УДÁРЫЛА) У ТВÁР** *каму, каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. пачырванеў ад збянтэжанасці, сораму і пад. **Сін.**: кроў прылівае да твару *чыйго.* **Ант.**: кроў адхлынула ад твару *чыйго, у каго. Адчуваючы, што ўся кроў кінулася яму ў твар, ён [Андрэй] падышоў да Галіны Іванаўны і зрабіў чарговае глупства: пацалаваў ёй руку.* Караткевіч. — *Кажы, кажы... Ну і што? Што далей?.. — кроў хлынула ў твар Петруся Саўчыка, і сэрца сціснулася ў грудзе...* Каваль. *Веры зрабілася горача. Кроў ударыла ў твар. Добра, што ў гэты час пагасла святло.* Шамякін.

**КРÓЎ КІПІ́ЦЬ (КІПÉЛА)** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* **1.** Хто-н. адчувае ў сабе шмат сіл, энергіі. **Сін.**: кроў гарыць *у каго. Каб вырас я настойлівым, упартым, Радзіма, нахіліўшыся над партай, цяжкаму рамяству мяне вучыла — тварыць і жыць. І кроў кіпела...* Панчанка.

**2.** Хто-н. ахоплены парывам пачуццяў, вельмі ўзбуджаны, усхваляваны і пад. **Сін.**: кроў іграе *ў каго. Раскажу цяпер я вам пра глыбокі гэты шрам, што дастаў я праз дзяўчыну. Вось цяпер, сказаць-прызнацца, кроў не так ужо кіпіць. Так, вы можаце смяяцца, калі хочаце, і кпіць.* Крапіва.

**КРÓЎ ЛЕДЗЯНÉЕ** *ў каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. адчувае моцны жах, страх. **Сін.**: аслаблі гайкі *ў каго, чые* (у 1 знач.); валасы становяцца дыбам *у каго;* вочы на лоб лезуць *у каго* (у 2 знач.); душа ў пятках *у каго, чыя;* душа ў пяткі <схавалася> *у каго;* калені дрыжаць *у каго;* кроў у жылах стыне *ў каго;* мароз па скуры <прабягае> *у каго, каго, чыёй;* мурашкі бегаюць па целе *ў каго, каго, чыім;* неба з аўчынку здаецца *каму;* паджылкі трасуцца *ў каго;* скура шэрхне *на кім, у каго;* сэрца абрываецца *ў каго, чыё;* сэрца ледзянее *ў каго;* у пяткі кальнула *каму, каго* (у 1 знач.); <усе> блохі падохлі *ў каго. Ледзянее кроў, калі я думаю, што гэтыя адборныя фашысцкія галаварэзы могуць апынуцца там, дзе жыве Саша.* Шамякін. *Ледзянее кроў, калі падумаеш, што там жа галовы людцы кладуць!..* Савіцкі.

**КРÓЎ ЛЬÉЦЦА (ЛІÉЦЦА, ЛІЛÁСЯ, ПРАЛЬÉЦЦА)** *дзе, чыя, за каго, за што. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Гінуць, паміраюць, пакутуюць людзі, абараняючы каго-, што-н. *Там кроў льецца, там за волю барцы на вісельню ідуць...* Купала. *З усёй вастрынёй устае пытанне, каму патрэбна гэта вайна, за чые інтарэсы льецца народная кроў.* Чорны. *129 год назад, якраз гэтаю парою, на пачатку восені, успомніў гісторыю Клімёнак, тут [на Барадзінскім полі] таксама лілася кроў.* Дамашэвіч. — *Нічога ў Антаніны не вый-*

*шла. — Так то яно так, але многа пральецца крыві, — задуменна вымавіў Краеўскі.* Гурскі.

**КРО́Ў ПРЫЛІВА́Е (ПРЫЛІЛА́) ДА ТВА́РУ** *чыйго, каму. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. чырванее ад збянтэжанасці, сораму і пад. **Сін.**: кроў кінулася ў твар *каму, каго.* **Ант.**: кроў адхлынула ад твару *чыйго, у каго. Кроў прылівае да Міцевага твару, перахоплівае дыханне.* Навуменка. *Матчынаму сэрцу стала так балюча-балюча, нібы хто сціснуў яго жалезнымі абцугамі. Уся кроў прыліла да твару...* Лынькоў.

**КРО́Ў УДА́РЫЛА Ў ГАЛАВУ́** *каму. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. моцна ўсхваляваўся, узрушыўся. *Максім адчуў, як кроў ударыла ў галаву, быццам звычайная гісторыя з малапрыкметным домам раптам закранула яго ўласны лёс.* Шамякін. *Кроў ударыла Міхалу ў галаву. Але, стрымаўшыся, ён як мага спакойней адказаў: — Вывад? Вывад просты — значыцца, вайна ішла не толькі на фронце.* Карпаў.

**КРО́Ў У ЖЫ́ЛАХ СТЫ́НЕ (ЗАСТЫ́ЛА)** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. адчувае моцны жах, страх. **Сін.**: аслаблі гайкі *ў каго, чые* (у 1 знач.); валасы становяцца дыбам *у каго;* вочы на лоб лезуць *у каго* (у 2 знач.); душа ў пятках *у каго, чыя;* душа ў пяткі <схавалася> *у каго;* калені дрыжаць *у каго;* кроў ледзянее *ў каго;* мароз па скуры <прабягае> *у каго, каго, чыёй;* мурашкі бегаюць па целе *ў каго, каго, чыім;* неба з аўчынку здаецца *каму;* паджылкі трасуцца *ў каго;* скура шэрхне *на кім, у каго;* сэрца абрываецца *ў каго, чыё;* сэрца ледзянее *ў каго;* у пяткі кальнула *каму, каго* (у 1 знач.); <усе> блохі падохлі *ў каго. Ён хоча жыць... Прэч, цені мроку! Там сэрцу цяжка, цёмна воку... І гэта там ён адпачне?! О, не! І кроў у жылах стыне, і сэрца ў страсе замірае, і пот халодны выступаў.* Колас. *А цяпер куды ні кіне дзед пагляд сваіх вачэй, ажно кроў у жылах стыне, боль як вуглем пячэ.* Астрэйка. *— Та-та-та-та-тра... — жартаваў недзе кулямёт. У Крушынскага кроў застыла ў жылах. Ён пачаў туліцца да дрэў маленькага скверыка.* Бядуля.

<u>Чыя, якая</u> **КРО́Ў ЦЯЧЭ́ (ПЛЫВЕ́) У ЖЫ́ЛАХ (ВЕ́НАХ)** *чыіх, каго. У безас. ужыв. Функц. не зам.* **1**. Хто-н. паходзіць з якога-н. роду, народа, часу і пад. *Полацкія баяры ўратавалі Таўцівілавага сына, у жылах якога цякла полацка-літоўская кроў, пераправілі яго ў Ноўгарад.* Далідовіч. *У жылах яго плыла кіпучая кроў слаўных лесаўчыкоў — брагінскіх і пінскіх казакоў.* Ластоўскі.

**2**. У кім-н. выяўляецца характар каго-н., схільнасць да чаго-н. *[Мікіта:] І гэтае, меджду протчым, здарэнне пераканала мяне, што кроў свабодных прафесій у маіх жылах яшчэ не цячэ і што мае праўдзівае прызванне вось у чым: паперы, паперы і паперы.* Купала. *Ганна — «небяспечная, гарачая», у яе жылах цячэ бунтарская кроў.* «ЛіМ». *Няхай жа заўсёды ў нашых жылах цячэ яе [Рагнеды] палымяная кроў...* «Маладосць».

**ЛЕДЗЯНІЦЬ КРОЎ** *чыю.* Гл. ледзяніць.

**ЛЕДЗЯНІЦЬ КРОЎ У ЖЫЛАХ** *чыіх.* Гл. ледзяніць.

**ЛІЦЬ КРОЎ**. Гл. ліць.

**ПІЦЬ КРОЎ** *з каго, чыю.* Гл. піць.

**ПЛОЦЬ І КРОЎ** *чыя, каго.* Гл. плоць.

**ПСАВАЦЬ КРОЎ** *каму.* Гл. псаваць.

**ПСАВАЦЬ КРОЎ САБЕ**. Гл. псаваць.

**СВАЯ́ КРО́Ў**. *Часцей вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Блізкі сваяк. **Ант.**: дзесятая вада на кісялі. *Які, ён [сын] там ні быў, — усё ж такі свая кроў.* Брыль. *Нічыпар не мог нарадавацца, што аб'явіўся сын. Усё ж, як ні кажы, свая кроў.* Сабаленка.

**УВАХОДЗІЦЬ У ПЛОЦЬ І КРОЎ** *каго, чаго, чыю.* Гл. уваходзіць.

*КРОЎЮ* • **АБЛІВАЦЦА КРОЎЮ**. Гл. абліВацца.
**НАЛІВАЦЦА КРОЎЮ**. Гл. налівацца.
**ПОТАМ І КРОЎЮ**. Гл. потам.
**СЦЯКАЦЬ КРОЎЮ**. Гл. сцякаць.
**УМЫВАЦЦА КРОЎЮ**. Гл. умывацца.

*КРОШАЧКІ* • **<І> КРОШАЧКІ ПАБРАЎ** *чые, каго, у каго, з каго*. Гл. пабраў.

*КРОШКІ* • **ДА КРО́ШКІ**. *Акал. Разм.* Поўнасцю, зусім (расходаваць, аддаваць, аддаць, з'есці і пад.). *Як і ў казарме, ён [Генка] паскроб скарыначку, апетытна з'еў усё да крошкі.* Рыбак. *Паміраць жа з голаду не будзеш, калі фашысты ўсё абабралі да крошкі.* Дайліда.
**<І> КРОШКІ ПАБРАЎ** *чые, каго, у каго, з каго*. Гл. пабраў.
**І КРОШКІ Ў РОЦЕ НЕ БЫЛО** *ў каго*. Гл. было.

*КРОЮ* • **АДНАГО́ КРО́Ю**. *Вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі падобныя адзін на аднаго ў якіх-н. адносінах. **Сін.**: абое рабое; аднаго поля ягада; адным лыкам шытыя; адным мірам мазаны; два боты пара; <з> аднаго балота чэрці; з аднаго цеста <спечаны>; зроблены на адзін капыл; на адзін капыл (у 1 знач.); на адзін лад; на адзін манер (у 1 знач.). *Усе вы аднаго крою, прыкідваецеся ягнятамі, каб ашукаць ды даць лататы.* Хадкевіч.

*КРУГ* • **НА КРУ́Г** *збіраць (сабраць), прыходзіцца (прыйсціся)* і пад. *Акал. Разм.* У сярэднім, без дакладнага падліку чаго-н. *Летась ва ўсе званы званіў [Сурміла], што збярэ на круг па сорак цэнтнераў збожжа.* Блакіт. *Чаму ў раёне, дзе біялагічная ўраджайнасць канюшыны перавышае два цэнтнеры з гектара, летась не сабралі нават па 100 кілаграмаў на круг?* «Звязда». *Урадзіла!.. Больш чым па сорак цэнтнераў з гектара на круг.* Капусцін.

*КРУГА* • **КВАДРАТУРА КРУГА**. Гл. квадратура.

*КРУГАМ* • **ГАЛАВА ІДЗЕ КРУГАМ** *у каго, чыя*. Гл. галава.

*КРУГІ* • **КРУГІ́ Ў ВАЧА́Х (УВАЧЧУ́) ПЛЫВУ́ЦЬ (ПЛЫЛІ́, ПЛА́ВАЛІ)** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Каму-н. становіцца кепска, блага (ад стомы, слабасці і пад.). **Сін.**: свет пераварочваецца *каму*; свет пераварочваецца у вачах *чыіх;* цямнее ў вачах *у каго, каго*. *Прабяжыш — ажно кругі ўваччу плывуць.* Шамякін. *А ў таго ногі дрыжалі, у вачах плылі кругі.* Скрыпка. *Раечка як прыйшла, так і пайшла ні з чым. У вачах плавалі кругі, яе, як ап'янелую, пахітвала ў бакі.* Лобан.
*Вяртаіца (вярнуцца), вярнуць* і пад. **НА КРУГІ́ СВАЕ́ (СВАЯ́)**. *Акал. Кніжн.* Да ранейшага, на былое, старое месца. *Вуснамі Купалы Радзіма вяртала на кругі свае таго, каго да рэвалюцыі называлі сэрцам Беларусі, сонцам Беларусі.* Лойка. *Дэмабілізаваны з войска Лявон Юркоўскі вяртаецца «на кругі свае» — да педагагічнай працы ў родную вёску.* «ЛіМ». *Будзь спакойная, Чазенія. Усё вярнулася на кругі своя. Жыві добра.* Караткевіч. *Потым аўтар зноў вяртаецца «на кругі своя».* Шкраба.

*КРУГЛЫ* • **КРУГЛЫ СТОЛ**. Гл. стол.

*КРУГЛЫМ* • **ЗА КРУГЛЫМ СТАЛОМ**. Гл. сталом.

*КРУГОМ* • **АБВОДЗІЦЬ КРУГОМ ПАЛЬЦА** *каго*. Гл. абводзіць.
**КРУГО́М СТО́ ДВА́ЦЦАЦЬ**. *Вык. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выдатны ва ўсіх адносінах. **Сін.**: адным словам; без сучка і <без> задзірынкі (у 2 знач.); будзь-будзь (у 2 знач.); будзь здароў (у 4 знач.); дай бог (у 2 знач.); дай бог кожнаму (у

1 знач.); дзякуй богу (у 2 знач.); за маё-маё (у 2 знач.); за маліну (у 3 знач.); з бляскам (у 2 знач.); на славу (у 3 знач.); на ўсе рукі; на ўсе сто (у 3 знач.); на яць (у 2 знач.); па крайняй меры (у 2 знач.); пальчыкі абліжаш (у 2 знач.); пашукаць такога; першай гільдыі (у 1 знач.); першай рукі (у 1 знач.); першы клас; першы сорт; разлюлі-маліна (у 1знач.); рэдкай рукі; слава богу (у 2 знач.); хоць куды (у 1 знач.); хоць на выстаўку <вязі>; што трэба (у 2 знач.); як яечка. *[Букрэй:] Я таксама, таварышы, стаю за бацьку Талаша... Я прыглядаўся да яго на паходзе — камандзір ён будзе кругом сто дваццаць.* Колас.

*КРУГОЎ* • **СЫХОДЗІЦЬ З КРУГОЎ**. Гл. сыходзіць.

*КРУЖЫЦЦА* • **ГАЛАВА КРУЖЫЦЦА** *ў каго, чыя.* Гл. галава.
**КРУЖЫЦЦА Ў ГАЛАВЕ** *ў каго.* Гл. круціцца.

*КРУЖЫЦЬ* • **КРУЖЫЦЬ ГАЛАВУ** *каму. Незак. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Выклікаць галавакружэнне; туманіць, п'яніць. *Кружылі мядовым водарам галаву ліпы.* Васілевіч. *Пах мёду кружыў Мішку галаву, і ён не думаў адступаць, не паспытаўшы салодкага.* Лынькоў. **ЗАКРУЖЫЦЬ ГАЛАВУ** *каму. Зак.* **2**. *Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Пазбаўляць магчымасці правільна разважаць, аб'ектыўна ацэньваць абставіны. **Сін**.: збіваць з панталыку *каго* (у 1 знач.); збіваць з толку *каго* (у 1 знач.); збіваць з тропу *каго;* збіваць з трыбу *каго;* каламуціць ваду (у 1 знач.); круціць мазгі *каму* (у 2 знач.); ускружыць галаву *каму* (у 2 знач.). *Менавіта гэтая будыніна потым столькі гадоў кружыла галаву амаль дзесяці мільёнам праваслаўных Польшчы і магнітам прыцягвала да сябе людскія душы.* Карпюк. **ЗАКРУЖЫЦЬ ГАЛАВУ** *каму. Зак. У Кулінчыка доўга не праходзіў узнёслы настрой ад перамогі, якая гэтак нялёгка яму далася. Яна не толькі не закружыла яму галавы, але нават заахвочвала да новай дзейнасці.* Дуброўскі.

*КРУК* • **ГНУЦЬ У КРУК** *каго.* Гл. гнуць.

*КРУКАМ* • **КРУКАМ ГАЛАВЫ НЕ ДАСТАЦЬ** *у каго, каму.* Гл. дастаць.
**КРУКАМ НОСА НЕ ДАСТАЦЬ** *у каго, каму.* Гл. дастаць.

*КРУМКАЧ* • **КУДЫ́ КРУМКА́Ч КАСЦЕ́Й НЕ ЗАНО́СІЎ (НЕ ЗАНЯСЕ́)**. *Акал. Разм.* Вельмі далёка, у вельмі аддаленае ці цяжкадаступнае месца (трапіць, трапляць і пад.). **Сін**.: дзе макар козы пасе (у 1 знач.); за блізкі свет; за дзесятую гару; за свет; за свет вочы; куды макар цялят не ганяў (у 1 знач.); к чорту на рогі; на край свету (у 1 знач.). *— У які сельсавет? — Гэтага разу ў Жызнеўскі.. у самую глушыню нашай зямлі, куды крумкач касцей не заносіў.* Мурашка.

*КРУПІНА* • **КРУПІ́НА ЗА КРУПІ́НАЙ ГАНЯ́ЕЦЦА З ДУБІ́НАЙ**. *Вык. і азн. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн., які абазначае назву стравы. Вельмі рэдкі. *— Што варылі, сынок? — Кашу... кашу. — Авой! Гэта ў яго каша! Крупіна за крупінай ганяецца з дубінай.* Грахоўскі. *Праз гадзіну атрымалі па чарпаку баланды. — Крупіна за крупінай ганяецца з дубінай, — сказаў Аркадзь і выліў баланду.* Ставер. *— Ды і крупнік не такі ўжо і смачны варыў ён. — Рэдкі. — Пэўне ж, крупіна за крупін[а]й ганялася з дубін[а]й.* Семашкевіч.

*КРУПІНАЙ* • **КРУПІНА ЗА КРУПІНАЙ ГАНЯЕЦЦА З ДУБІНАЙ**. Гл. крупіна.

*КРУПЫ* • **ЯК МЫШ НА КРУПЫ**. Гл. мыш.

*КРУЦЕЛЬ* • **КРУЦЕЛЬ НА КРУЦЯЛІ ЕДЗЕ І КРУЦЯЛЁМ ПАГАНЯЕ**. Гл. жулік.

*КРУЦІ* • **ЯК НІ КРУЦІ́.** *Акал. Разм.* Нягледзячы ні на што, пры любых абставінах. **Сін.**: што ні кажы; як бы там ні было; як-ніяк (у 1 знач.). *Як ні круці, а чалавекам жа яны мяне зрабілі, на дарогу паставілі.* Лынькоў. *[Начдыў:] Сягоння камісар выставіў мне такога козыра, як гэты дзед, якога ты толькі што бачыў. [Скіба:] А дзед сапраўды казырны. Як ні круці, а павінен ты гэта прызнаць.* Крапіва. *Але тут, у райцэнтры, дзе, як ні круці, больш людзей вясковых, прадаўшчыцы былі адметныя.* А.Жук.

*КРУЦІЦЦА* • **ГАЛАВА КРУЦІЦЦА** *ў каго, чыя.* Гл. галава.

**КРУ́ЦІЦЦА (ВЕ́РЦІЦЦА) НА ЯЗЫКУ́** *ў каго, каго;* **КРУЦІ́ЛАСЯ (ВЯРЦЕ́ЛАСЯ) НА ЯЗЫКУ́** *ў каго, каго. Незак.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Каму-н. вельмі хочацца сказаць, спытаць пра што-н. **Сін.**: круціцца на канцы языка *ў каго.* *[Купала:] Што гэта вы такія вясёлыя? Бачу, на языку нешта круціцца, а не гаворыце.* Вітка. *Зноў недарэчнае пытанне круцілася на языку Міці, і ён вырашыў распачаць гутарку на іншую тэму.* Чарнышэвіч. *У Сырамалота ўжо вярцелася на языку: «Гэта табе, братка, не пяром касіць, тут трэба на пуп узяць ды не збаяцца і мазаля-крываўкі».* Самуйлёнак.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Ніяк не ўспамінаецца ў момант гутаркі што-н. вядомае. *[Грышка:] Ані то, ані гэта: ціхі сабе, спакойны, рахманы і.. як гэта сказаць?.. каб ты згарэла! Круціцца на язы[ку].. ага: пяцідзесяцілетні дзяцюк.* Цётка. — *Юрыст, ці што? — Ды не, воўк яго задзяры!.. На языку круціцца. — Натарыус?! — Во-во, натарыус!* Жалязоўскі.

**КРУ́ЦІЦЦА (ВЕ́РЦІЦЦА) У ГАЛАВЕ́** *ў каго;* **КРУЦІ́ЛАСЯ (ВЯРЦЕ́ЛАСЯ) У ГАЛАВЕ́** *ў каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Пастаянна знаходзіцца ў свядомасці, у думках. *А ведаеце што, сябры мае, я вось зараз адчуваю, што многае магу зрабіць. Наконт адной рэчы ў мяне думка ўжо круціцца ў галаве...* Шахавец. *Думалася напісаць якую-небудзь казку. На мяне найшоў нейкі казачны наплыў. Сёе-тое верціцца ў галаве. Падумаўшы, вядома, зладзіць нешта можна.* Колас. *Круцілася ў галаве кола ўспамінаў: даўжэзныя, гаманлівыя, поўныя салдат і матросаў калідоры Смольнага.* Грахоўскі.

**КРУ́ЦІЦЦА (КРУ́ЖЫЦЦА) У ГАЛАВЕ́** *ў каго. Незак. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. адчувае галавакружэнне (ад стомленасці, перажыванняў і пад.). **Сін.**: галава ідзе кругам *у каго* (у 1 знач.); галава кружыцца *ў каго, чыя* (у 1 знач.); галава ходырам ходзіць *у каго* (у 1 знач.). *У галаве круціцца, здаецца, усё на свеце. Можа, гэта ад цяжкай хады...* «Полымя».

**КРУ́ЦІЦЦА (КРУЦІ́ЛАСЯ) НА КАНЦЫ́ (НА КО́НЧЫКУ) ЯЗЫКА́** *ў каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Каму-н. вельмі хочацца сказаць, спытаць пра што-н. важнае. **Сін.**: круціцца на языку *ў каго* (у 1 знач.). *Крадком зірнуў [Лазовік] на старога — і адразу ж кінулася ў вочы, што ў таго круцяцца нейкія словы на кончыку языка, аднак штосьці стрымлівае сказаць іх.* Блакіт. *Тут, у нашай школе, першы настаўнік з вашага Побліна быў. Як яго, Хведзька? Круціцца на канцы языка, а ніяк не ўспомню.* Янкоўскі. *На кончыку языка круціліся словы: «Я вам чыстую праўду. Як перад быцькам родным».* І.Капыловіч.

*КРУЦІЦЬ* • **КРУЦІ́ЦЬ БАРА́НКУ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Працаваць шафёрам. *Трэці дзесятак гадоў круціць баранку Васіль, а не захварэў на распаўсюджаную шафёрскую хваробу — ліхацтва.* Гіль. *Ён, Праташчык, не хлопчык, два гады круціць баранку без аварый.* А.Жук.

**КРУЦІ́ЦЬ ВАЛА́ <ЗА ХВО́СТ>**. *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Бязмэтна праводзіць час. **Сін**.: біць лынды (у 2 знач.); падпіраць вуглы; сядзець склаўшы рукі. *— Годзе круціць вала за хвост. Пайшлі! — Падыма-а-йся!* Крапіва. *[Захар] падышоў да стала і, утаропіўшы грозны позірк у твар старшыні, загаварыў з запалам: — Даволі вала круціць, Антон Рыгоравіч!.. Будзеце вы выконваць волю народа ці не?* Броўка.

**2**. Гаварыць што-н. недарэчнае, бязглуздае. **Сін**.: араць дарогі; біць язык аб зубы (у 2 знач.); блынды правіць; гарадзіць плот <*каму*>*;* званіць у <разбіты> лапаць; ліць ваду; мазоліць язык; малоць языком (у 1 знач.); малоць не падсяваючы; мянціць языком; пераліваць з пустога ў парожняе (у 2 знач.); плесці кашалі <*каму, пра каго, пра што*>*;* плесці кашалі з лапцямі; плесці лапці; пляскаць языком; разводзіць антымоніі; разводзіць тары-бары; тары-бары <растабары> (у 2 знач.); таўчы ваду ў ступе (у 2 знач.); тачыць лясы <*з кім*>*;* травіць баланду (у 1 знач.); трапаць языком; часаць язык (у 1 знач.); часаць языком. *[Кантарыя:] Пазыч індывідуальны пакет... [Радыст:] Так бы адразу і сказаў, а то пачынае мне тут вала круціць!* Губарэвіч.

**КРУЦІ́ЦЬ ГАЛАВУ́ (ГАЛО́ВЫ)** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Выклікаць у каго-н. пачуццё кахання, сімпатыі; прываблівацъ каго-н. **Сін**.: завязваць вочы *каму;* завязваць свет *каму* (у 2 знач.); задурыць галаву *каму* (у 1 знач.); круціць мазгі *каму* (у 1 знач.); пакараць сэрца *каго, чыё;* ускружыць галаву *каму* (у 1 знач.). *Кожны выхадны, калі Галя не магла прыехаць дадому, Васіль ехаў да яе сам. Аднак гэта зусім не перашкаджала яму весела праводзіць час дома і зусім спакойна круціць галовы іншым дзяўчатам.* Васілевіч. *[Журавіна:] Слухайце далей. Прыйшоў ён да яе раз, прыйшоў другі... Бадай, кожны вечар пачаў ёй галаву круціць.* Кобец. **ЗАКРУЦІЦЬ ГАЛАВУ (ГАЛОВЫ)** *каму. Зак. Закруціла акушэрка галаву многім хлопцам. З суседняга сельсавета прыязджалі на танцы, бойкі ўчынялі з добрынскімі.* Шамякін. *Як убачыць [Надзя] якога незнаёмага хлопца і калі ён яшчэ трохі спадабаецца ёй — зробіць усё, каб толькі закруціць яму галаву.* Прыгодзіч.

**2**. Уздзейнічаючы якім-н. чынам, схіляць да адыходу ад ранейшага, штурхаць на што-н. нядобрае. **Сін**.: збіваць з дарогі *каго;* збіваць з пан-талыку *каго* (у 2 знач.); збіваць з толку *каго* (у 2 знач.); зводзіць з поля *каго;* зводзіць з тропу *каго;* зводзіць са свету *каго* (у 2 знач.). *Ніхто народу галовы не круціў, а сам ён усю праўду ўбачыў, не захацеў больш працаваць на другіх ды ваяваць і скінуў цара...* Галавач. **ЗАКРУЦІЦЬ ГАЛАВУ (ГАЛОВЫ)** *каму. Зак. — Нешта ты вельмі заступаешся за бацькавага парабка? — жорстка запытаў у сястры Казік. — Ці не закруціў табе галаву гэты кавалёўскі злыдзень?* Грахоўскі.

**КРУЦІ́ЦЬ (ЗАКРУ́ЧВАЦЬ, НАКРУ́ЧВАЦЬ) БЫКА́М (ВАЛА́М) ХВАСТЫ́**. *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рабіць тое, што не патрабуе ўмення, кемлівасці. *— Скажы ты мне, Усцігаў, што за ён, гэты твой дружок, што ў школе [загадчыкам гаспадаркі] робіць?.. — Ог-о, ча-ла-век! — падняў вялікі палец Міхась. — Яму б дырэктарам быць, а не круціць быкам хвасты.* Грахоўскі. *Калі не пагадзіцца працаваць на цагельні, давядзецца яму ехаць дамоў, у вёску, як казаў дзядзька Цімафей, круціць быкам хвасты. А круціць хвасты быкам Кастусь не хацеў.* Шальманаў. *А што яму ў калгасе рабіць? Валам хвасты круціць? На машыны ён няздатны.* Шамякін. *Слухай! Вось ты кажаш: вайна, вайна. А ты падумай, хто ты да вайны быў? Ну хто? Радавы калгаснік! Быкам хвасты закручваў.* Быкаў. *«Некаму трэба, як кажа Чатырысорак, і валам хвасты накручваць, і памагаць маці», — суцяшаў ён сам сябе.* Кудравец.

**КРУЦІ́ЦЬ КАТРЫ́НКУ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Надакучліва гаварыць адно і тое ж. **Сін.**: круціць шарманку. *[Васіліса:] Кінь сваю круціць катрынку, будзь працейшы, не.. нудзі.* А.Александровіч.

**КРУЦІ́ЦЬ МАЗГА́МІ**. *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Сур'ёзна думаць, меркаваць, разважаць. **Сін.**: варушыць галавой; варушыць мазгамі; раскідваць розумам. *А гэты, недавярак, няхай круціць мазгамі, няхай.. шукае пасткі.* Баранавых. *[Кудравец:] Дякую за ласку. Ты круці мазгамі, а яны на гатовенькае. Няхай таксама памазгуюць.* Кучар. **ПАКРУЦІЦЬ МАЗГАМІ**. *Зак. Ганька не дае спуску Кату: ні задач, ні пісьмовых работ па мове спісваць не дазваляе. Сам рашай! Сам пакруці мазгамі...* Васілевіч. — *Бачыце, на выпрабаваннях было адно, а на працы зусім іншае выявілася. — Сур'ёзнае? — Не так каб дужа, але мазгамі пакруціць давядзецца.* Корбан.

**КРУЦІ́ЦЬ МАЗГІ́** *каму. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Выклікаць у каго-н. пачуццё кахання, сімпатыі; прываблiваць каго-н. **Сін.**: завязваць свет *каму* (у 2 знач.); задурыць галаву *каму* (у 1 знач.); замазваць вочы *каму;* круціць галаву *каму* (у 1 знач.); пакараць сэрца *каго, чыё;* ускружыць галаву *каму* (у 1 знач.). **ЗАКРУЦІЦЬ МАЗГІ** *каму. Зак. [Паланея, паказваючы на Даміцэлю:] Гэта мокрая серада майму мазгі закруціла, і ён, не тут гаворачы, у яе хаце начаваў.* Купала. *Ты глядзі, дзеўка, закруціць табе мазгі гэты рыжы.* Грахоўскі.

**2**. Выклікаць збянтэжанасць, разгубленасць; заблытваць каго-н. **Сін.**: збіваць з панталыку *каго* (у 1 знач.); збіваць з толку *каго* (у 1 знач.); збіваць з тропу *каго;* збіваць з трыбу *каго;* каламуціць ваду (у 1 знач.); кружыць галаву *каму* (у 2 знач.); ускружыць галаву *каму* (у 2 знач.). *Праскураў нечакана выгукнуў: — Што вы нам мазгі круціце?.. У вас жа ёсць разведчыкі. Звяжыце нас з Масквой.* Навуменка. **ЗАКРУЦІЦЬ МАЗГІ** *каму. Зак. Да чаго ж закруцілі немцам мазгі — не скора зведаюць, дзе прайшлі з кольца галоўныя сілы злучэння.* Місько.

**3**. Глыбока задумвацца, стараючыся разгадаць што-н. складанае. **Сін.**: ламаць <сабе> галаву *над чым;* сушыць галаву (у 1 знач.). *Нашто мне мазгі круціць, якім аршынам мераць свой верш, якім гэблем гладзіць кожнае слова сваёй песні, калі сэрца перапоўнена, калі ў жылах кроў бурна кіпіць і неяк само сабой пяецца?* Бядуля. **ЗАКРУЦІЦЬ МАЗГІ** *каму. Зак.*

**КРУЦІ́ЦЬ НО́САМ**. *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Адмаўляцца, упірацца, натурыцца. **Сін.**: адварочваць морду *<ад каго, ад чаго>* (у 2 знач.); адварочваць нос *<ад каго, ад чаго>* (у 2 знач.); вярнуць нос *ад каго, ад чаго* (у 2 знач.). *Трапляецца гэтакі чалавек, дык яна яшчэ носам круціць.* Васілевіч. *За вайну дзеўкі, як лісіцы, разгадаваліся. А да каго прыхінуцца? Так што, Верачка, не круці носам, бо і такога не дастанецца.* Грахоўскі.

**2**. Важнічаць, выказваючы незадавальненне. **Сін.**: адварочваць нос *<ад каго, ад чаго>* (у 3 знач.); вярнуць нос *ад каго, ад чаго* (у 3 знач.). *Дык не будзь, Сымоне, падобен вароне і не круці носам, слухай ты старога, не кажы пустога... Ды.. змагайся з лёсам!* Колас. *Брат, сват, дзядзька, чорт лысы хай робяць, а ён прыйдзе на гатовае, ён, бачыце, запанеў... І носам будзе круціць. «Ах, не так усё! Ах, не гэтак!»* Місько.

**КРУЦІ́ЦЬ СВЕ́ТАМ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вытвараць благія ўчынкі. *Я-а яму пака-жу! Эх, эх! І што мне рабіць з гэтым разбойнікам.. светам круціць, на яго ліха...* Гартны. *Пачалі ад тых дат круціць светам Заблоцкія... Крутам-мутам.. усяк Заблоцкія жыць прабавалі.* Калюга. *Як гэты Аляксандр светам круціў, што вытвараў? І краў, і ў людзей браў. А не спажыве дабра...* А.Жук.

**КРУЦІ́ЦЬ ХВАСТО́М**. *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Хітраваць, крывадушнічаць, ашукваць. **Сін.**: абводзіць вакол пальца *каго;* абуваць у лапці *каго;* бакі забіваць *каму;* браць на арапа *каго;* браць на бога *каго;* браць на вудачку *каго;* браць на пушку *каго;* вадзіць за нос *каго;* вешаць лапшу <на вушы> *каму;* віляць хвастом (у 1 знач.); выводзіць у поле *каго;* гнуць дугі; гуляць у ката і мышку; дурыць галаву *каму* (у 1 знач.); задурыць галаву *каму* (у 3 знач.); замазваць вочы *каму;* замыльваць вочы *каму;* запраўляць арапа; кампасціраваць мазгі *каму;* корчыць дурня (у 1 знач.); муціць галаву *каму;* настаўляць акуляры *каму;* прадаць *каго* і грошы палічыць; пудрыць мазгі *каму;* пускаць пыл у вочы *каму;* сляпіць вочы *каму* (у 1 знач.); травіць баланду (у 2 знач.); туманіць вочы *каму;* туманіць галаву *каму. Клава.. усё крычала: — Я цябе наскрозь бачу... Ты мне хвастом не круці... Ясна табе?.. Каб заўтра вугаль быў... Ясна табе?..* Асіпенка. *Ты сам быў брыгадзірам, ведаеш, як працаваць, калі работнікі так, як ты, хвастом круцяць.* Чарнышэвіч.

**2**. Шукаючы выгады, хістацца ў выбары рашэння. *[Батура:] А яна хвастом круціць. Рыгор-то ёй, відаць, даспадобы, але каб да яго твару ды Шмігельскага хутар.* Крапіва. *Мая нявеста* як *сядзела, так і сядзіць. А ззамаладу — дзе там, і яна хвастом круціла: «Таго не ха-а-чу, за гэтага не пайду!» Даперабіралася...* Грахоўскі.

**3**. Легкадумна паводзіць сябе, гуляць з многімі. Пра жанчыну. *Памагаць былой прыслужніцы легіянераў? Не дачакае яна! Няхай бы круціла менш хвастом!* Карпюк. *Тады недзе ў Чубаравай сярэдзіне зварухнулася нядобрае пачуццё да гэтай жанчыны — мусіць, круціць хвастом сама, а мужык ляжыць.. недагледжаны.* Чыгрынаў.

**КРУЦІ́ЦЬ ШАРМА́НКУ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Надакучліва гаварыць пра адно і тое ж. **Сін.**: круціць катрынку. *Гебельс круціць шарманку, значыць — у Гітлера туз.* Крапіва.

*КРУЦЬ* • **ХО́ЦЬ КРУ́ЦЬ ХО́ЦЬ ВЕ́РЦЬ (ХО́ЦЬ КРУ́ЦЬ-ВЕ́РЦЬ ХО́ЦЬ ВЕ́РЦЬ-КРУ́ЦЬ)**. *Акал. Праст.* Абавязкова, пры любых абставінах, у любым выпадку. *Эх, блазан! Каго надумаў страшыць. Хіба я не ведаў, на што іду і чым мне гэта пагражае. Хоць круць хоць верць, усё адно смерць.* Гурскі. *Ну, проста дзіва! Ай-я-яй! Куды ж ён мог падзецца? Хоць круць хоць верць — драбка няма!* Скрыпка. *Сам генерал выйшаў на ганак, смяецца, а ўсмешка яго проста як у акулы імперыялізму. Што нам рабіць? Хоць круць-верць хоць верць-круць, дык нам бал[юча] выходзіць.* Мрый. *[Гарошка:] І адкажуць. Не?.. [Ганна:] Хоць круць-верць хоць верць-круць, адкажуць!* Макаёнак.

*КРУЧОК* • **БРАЦЬ НА КРУЧОК** *каго.* Гл. браць.

**КЛЮНУЦЬ НА КРУЧОК**. Гл. клюнуць.

**ПАДЧАПІЦЬ НА КРУЧОК** *каго.* Гл. падчапіць.

**ПАПАДАЦЬ НА КРУЧОК** *каму, чый, да каго.* Гл. пападаць.

*КРЫВАВЫ* • **КРЫВАВЫ ПОТ**. Гл. пот.

*КРЫВАЯ* • **КРЫВА́Я ВЫ́ВЕЗЕ** <*каго*>. *У безас. ужыв. Разм.* Каму-н. пашанцуе, дапаможа якая-н. вападковасць. *— Відаць, Борман на нешта спадзяваўся, што паможа яму астацца ва ўладзе... — Пэўна, меркаваў, крывая вывезе, — дадаў Шміт.* Гурскі.

**КУДЫ́ КРЫВА́Я ВЫ́ВЕЗЕ (ВЫ́НЕСЕ, ЗАНЯСЕ́)** *каго. Акал. Разм.* Як атрымаецца. *— Бяры, — працягнуў Міхалу [грошы], — там спатрэбіцца. Яшчэ невядома, куды крывая нас вывезе.* Карпаў. *А вы, Хвядос Мартынавіч, даруйце, што зняславілі... Самі бачыце, куды крывая вынесла.* Пальчэўскі. *Нібыта змоўшчык, ён [Максімка] прыняўся за справу, хоць не зусім ясна ўсведамляў, куды занясе крывая.* Юрчанка.

*КРЫВЁЙ* • **ДУША КРЫВЁЙ АБЛІВАЕЦЦА** *чыя, у каго.* Гл. душа.

**ЗАЛІЦЬ КРЫВЁЮ** *што.* Гл. заліць.

**ЗМЫВАЦЬ КРЫВЁЙ** *што.* Гл. змываць.

<u>Пісаць, напісана</u> **КРЫВЁЙ (-Ю) СЭ́РЦА.** *Акал. Кніжн. З глыбокім пачуццём і перажываннем, шчыра і выпакутавана. Такія вершы [як «А хто там ідзе?» Я.Купалы] пішуцца крывёй сэрца, і яны не часта з'яўляюцца і ў жыцці нават самых выдатных паэтаў і ў гісторыі народаў.* Танк. *Міхась адчуў, зразумеў, што гэта было напісана крывёю сэрца. У гэтых палымяных словах жыла надзея, жыла вера.* Сабаленка. *Крывёю сэрца пісаліся і тыя тоненькія кніжачкі.* Васілевіч.

*КРЫВІ* • **ДА АПОШНЯЙ КРОПЛІ КРЫВІ.** Гл. крыві.

**КРОЎ АД КРЫВІ.** Гл. кроў.

**КУПАЦЦА Ў КРЫВІ** <*чыёй*>. Гл. купацца.

**НАПІЦЦА КРЫВІ** *чыёй.* Гл. напіцца.

**ПАПСАВАЦЬ КРЫВІ** *каму.* Гл. папсаваць.

**ПСАВАННЕ КРЫВІ.** Гл. псаванне.

**РУКІ <ПА ЛОКЦІ> У КРЫВІ** *ў каго.* Гл. рукі.

**У КРЫВІ́** *ў каго, чыёй. У знач. вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Арганічна ўласціва каму-н. *Здзіраць жывасілам няма чаго і менш стала з каго. А зусім не займацца гэтым зладзейскім рамяством фрыц не можа. Гэта ў яго ў крыві.* Чорны.

**УТАПІЦЬ У КРЫВІ** *што.* Гл. утапіць.

*КРЫВІНКІ* • **БЕЗ КРЫВІ́НКІ Ў (НА) ТВА́РЫ.** *Азн. Разм.* Вельмі бледны, пабляднелы. **Сін.**: і крывінкі няма *на кім;* ні крывінкі ў твары *ў каго. Некаторых нават непрытомнымі прывозяць. Без крывінкі ў твары.* Карпаў. *Недарма ўспомнілася Грышу жонка — ужо другі дзень ляжыць яна плазам, без крывінкі на твары, сама не можа ўстаць — падае.* Рубанаў. *У медсанбат яго [Мар'яна] прывезлі без крывінкі ў твары.* Казько. *Бы апантаная, выскачыла [Ліда] на падворак. За ёю, без крывінкі ў твары, пабегла Маня.* Рыбак.

**І КРЫВІНКІ НЯМА** *на кім.* Гл. няма.

**НІ КРЫВІ́НКІ (КРЫВІ́НАЧКІ) У ТВА́РЫ** *ў каго. Азн. і вык. Разм.* Вельмі бледны, пабляднелы. **Сін.**: без крывінкі ў твары; і крывінкі няма *на кім. Сяргеевіч не чуў, як увайшла ціхманая і маркотная Алена Васільеўна. У твары ні крывінкі. Абняла яго, прыціснула да грудзей.* Супрунчук. *Вырваў немец кошык з Марысьчыных рук, як стукнуў яго аб мост, дык той кошык узляцеў вышэй Марыські. Яна, бедная, спалохалася, збялела. Ні крывіначкі ў твары.* Левановіч.

*КРЫВІЦЬ* • **КРЫВІ́ЦЬ ГУ́БЫ.** *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Крывіцца, выражаючы незадаволенасць, злосць і пад. **Сін.**: капыліць губу. *Хто ахвотнік неба мераць, дык выходзь сюды наперад. Ну, а ты што крывіш губы? Ці табе лятаць не люба?* Крапіва. *Сеў перакурыць на парозе Сямён — плач чуе жаночы, жалобны. Ступіў крокаў колькі да вуліцы, выглядае з-за густога куста вішняку, хто там губы крывіць...* Мыслівец.

**КРЫВІ́ЦЬ ДУШО́Й** <*перад кім, перад чым, для каго*>. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паступаць няшчыра, супраць свайго сумлення; крывадушнічаць. **Сін.**: ламаць камедыю; разыгрываць камедыю. *[Ракітны:] Хоць бы перад святым пачуццём мацеры вы не крывілі душой.* Крапіва. *Яўхіму самому ці мала прыходзілася душой крывіць.* Мележ. **ПАКРЫВІЦЬ (СКРЫВІЦЬ) ДУШОЙ** <*перад кім, пе-*

*рад чым, для каго>. Зак. [Салавейчык:] Дапускаю, што на таварыскім судзе вы такса-ма пакрывілі душой з высакародным намерам...* Матукоўскі. *[Куторга:] То ведаеце што, пане Пратасавіцкі? Як прыйдзе к вам асэсар, то стаўляйце мяне ў сведкі; хоць я і не бачыў, але буду сведчыць, што ён цябе біў, а ты толькі бараніўся. Не жаль для Марысі скрывіць душою.* Дунін-Марцінкевіч. *[Вера Карпаўна:] Каб нават за каго хварэлі самі мы — усё адно ж душой не скрывіш ты.* Гілевіч.

*КРЫВОЕ* • **КРЫВОЕ КОЛА**. Гл. кола.

*КРЫВОЙ* • **ІСЦІ ПА КРЫВОЙ СЦЕЖЦЫ**. Гл. ісці.
**НА КРЫВОЙ КАБЫЛЕ НЕ АБ'ЕДЗЕШ** *каго.* Гл. аб'едзеш.
**ПАЙСЦІ ПА КРЫВОЙ ДАРОЖЦЫ**. Гл. пайсці.

*КРЫЕ* • **НЯХАЙ БОГ КРЫЕ**. Гл. бог.

*КРЫЖ* • **НЕСЦІ <СВОЙ> КРЫЖ**. Гл. несці.
**СТАВІЦЬ КРЫЖ** *на кім, на чым, над чым.* Гл. ставіць.

*КРЫЖА* • **КРЫЖА НЯМА** *на кім.* Гл. няма.
**ЯК З КРЫЖА ЗНЯТЫ**. Гл. зняты.
**ЯК ЧОРТ КРЫЖА**. Гл. чорт.

*КРЫЖАМ* • **ЛЕГЧЫ КРЫЖАМ**. Гл. легчы.
**ХОЦЬ ТЫ КРЫЖАМ ЛЯЖ**. Гл. ляж.

*КРЫЙ* • **КРЫЙ БОГ**. Гл. бог.

*КРЫЛАХ* • **ЛЯЦЕЦЬ НА КРЫЛАХ**. Гл. ляцець.

*КРЫЛЛЕ* • **АБРАЗАЦЬ КРЫЛЛЕ** *каму, у каго.* Гл. абразаць.
**АПУСКАЦЬ КРЫЛЛЕ**. Гл. апускаць.
**ПАДРАЗАЦЬ КРЫЛЛЕ** *каму.* Гл. падразаць.
**РАСПРАЎЛЯЦЬ КРЫЛЛЕ**. Гл. распраўляць.
**СКЛАДАЦЬ КРЫЛЛЕ**. Гл. складаць.

*КРЫЛЛЯХ* • **ЯК НА КРЫ́ЛЛЯХ** <u>насіцца, ляцець, узляцець</u> і пад. *Акал. Разм.* Вельмі хутка. **Сін.**: без аглядкі (у 1 знач.); без духу *бегчы;* без душы *бегчы;* без памяці (у 1 знач.); ва ўсе лапаткі (у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.); з усіх ног; колькі <было> духу; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на адным дыханні (у 1 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўвесь мах; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у 2 знач.); на ўсе ногі; на ўсіх парах; на ўсіх парусах; на ўсю моц (у 2 знач.); чуй дух; што ёсць духу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 2 знач.); як дуж; як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як мага (у 1 знач.); як на пажар; як падсмалены. **Ант.**: як чарапаха. *[Антон] вельмі часта, бадай што праз кожныя дзён два, пачаў з'яўляцца сюды. Ён як на крыллях насіўся.* Чорны. *Як на крыллях узляцелі мы з сябрам на трэці паверх.* Шамякін.

*КРЫЛО* • **БРАЦЬ ПАД КРЫЛО** *каго, што.* Гл. браць.
**ПАДНЯЦЬ НА КРЫЛО** *каго.* Гл. падняць.
**СТАВІЦЬ НА КРЫЛО** *каго.* Гл. ставіць.
**СТАЦЬ НА КРЫЛО**. Гл. стаць.

*КРЫЛОМ* • **ПАД КРЫЛО́М** *у каго, чым, каго. Акал. Разм.* Пад чыёй-н. апекай, пад прыглядам (жыць, знаходзіцца і пад.). **Сін.**: за галавой *чыёй;* за плячамі *каго, у каго* (у

4 знач.); за спінай *чыёй* (у 3 знач.); на руках *чыіх, у каго* (у 1 знач.); на шыі *ў каго, чыёй* (у 1 знач.). *[Пан Яндрыхоўскі:] Ну, мамуся, як ні прыемна мне ў родным доме, пад тваім крылом, але мушу ехаць.* Крапіва. *[Алесь] адчуваў сябе зусім здаровым і дужым і з кожным днём пакутаваў усё больш ад таго, што сядзіць у цеплыні, на сытых харчах, пад крылом у добрай кабеты ў той час, калі ідзе вайна...* Шамякін. — *Табе, відаць, лягчэй... Пад крылом у бацькоў. — Пятро адамкнуў кватэру, прапускаючы наперад Ірыну.* Рубанаў. *Заўсёды дысцыплінаваны, як удзень, так і ўначы, пільны вартавы моладзі, ён [Пеця] пад крылом Андрэя вырас у свядомага, адукаванага камсамольца.* Пестрак.

*КРЫЛЫ* • **АБРАЗАЦЬ КРЫЛЫ** *каму, у каго.* Гл. абразаць.
**АПУСКАЦЬ КРЫЛЫ**. Гл. апускаць.
**ПАДРАЗАЦЬ КРЫЛЫ** *каму.* Гл. падразаць.
**РАСПРАЎЛЯЦЬ КРЫЛЫ**. Гл. распраўляць.
**СКЛАДАЦЬ КРЫЛЫ**. Гл. складаць.

*КРЫНІЦАЙ* • **БІЦЬ КРЫНІЦАЙ**. Гл. біць.
**ЗАБІЦЬ КРЫНІЦАЙ**. Гл. забіць.

*КРЫСА* • **З-ПАД КРЫСА**. Гл. палы.

*КРЫТЫ* • **НЕ́БАМ КРЫ́ТЫ**. *Вык. і азн. Разм.* Ужыв. пры дзейн., які абазначае назвы будынкаў. З дзіравым дахам. *[Грыпіна:] Што ў цябе ёсць? Зямлі кавалак ды хата, небам крытая!..* Чарот. *Цячэ кароўнік навылёт, свінарнік небам крыты. І ў клубе ўжо каторы год страха як тое сіта.* Скрыпка. *Я сваіх свіней пракарміць не магу, памяшканні старэнькія, небам крытыя...* «Полымя».

*КРЫТЫКІ* • **НЕ ВЫТРЫМЛІВАЕ НІЯКАЙ КРЫТЫКІ**. Гл. вытрымлівае.

*КРЫТЫЧНАЯ* • **КРЫТЫЧНАЯ МАСА**. Гл. маса.

*КРЫЎ* • **БОГ КРЫЎ** <*каго*>. Гл. бог.

*КРЫЎДУ* • **НЕ ДАВАЦЬ У КРЫЎДУ** *каго.* Гл. даваць.

*КРЫЦЬ* • **КРЫ́ЦЬ НЯМА́ ЧЫМ (НЕ́ЧЫМ, НЕ БЫЛО́ ЧЫМ)** *каму. У безас. ужыв. Праст.* Няма чаго казаць у адказ, у апраўданне. *Маўчыць Супонька. Крыць тут нечым. Уратавацца б ад бяды. «А што, калі яшчэ і Мечык пра ўсё раскажа?.. Што тады?»* Бачыла. *А дырэктар як скажа слова — і крыць нечым, усё па-ягонаму.* Лынькоў. *[Васіль:] Малайчына! Здорава пад'ехала!.. Мне і крыць няма чым...* Козел. *Але ты лоўка прыпёр іх у куток, даказаў, што ў цывільнай вопратцы былі правакатары і шпікі. Ім і крыць не было чым.* Машара.

*КРЫЧЫ* • **ХО́ЦЬ <ТЫ́> ГВА́ЛТ (КАРАВУ́Л) КРЫЧЫ́**. *Толькі ў гэтай форме. Акал. ці ў знач. вык. Разм.* Склалася цяжкае, бязвыхаднае становішча. Выказванне адчаю, бяссілля. **Сін**.: хоць воўкам вый; хоць рэпку спявай; хоць ты макам садзіся; хоць <ты> плач. *Уставаць не хацелася, хоць гвалт крычы!.. Раніцай самы той сон.* Нікановіч. *Дынастыя майстроў так званай доўгай пугі даўно ў вёсцы перавялася, і цяпер, як надыходзіць лета, хоць гвалт крычы — ніхто не хоча ісці ў пастухі.* Ракітны. *[Вера Карпаўна:] А тут народу — валам валяць з просьбамі. Няма адбою. Хоць ты гвалт крычы.* Гілевіч. *Крышыла [знахарка] зелле на попел і ногі мне ім абсыпала. Свянцонай вадой крапіла, а ні[чога] не памагло, хоць ты каравул крычы!* Карпюк. *У саўгасе ёсць адзін «каблучок», які амаль штодня возіць бухгалтара ў банк.., і «уазік», які даўно трэба спісаць. Рабіць жа гэта не спяшаюцца. Бо тады зусім хоць каравул крычы.* «Звязда».

*КРЭДЫТ* • **У КРЭДЫ́Т**. *Акал. Функц. не зам.* З умовай вярнуць ці аплаціць пазней (даваць, браць і пад.). **Сін.**: у доўг. *Адзінае выйсце: пайсці да пана Юзафовіча і папрасіць, каб ён даў у крэдыт хлеба, цукру і пару селядцоў.* Танк. *Адны ўносілі за яе [тэхніку] грошы цяпер, другія бралі ў крэдыт.* Шахавец. *[Ульяна:] Дапытайцеся Глашку, як яна майго сыночка кожны дзень гарэлачкай частавала і за грошы, і ў крэдыт.* Петрашкевіч.

*КРЭСЛА* • **КРЭ́СЛА ЗАХІСТА́ЛАСЯ** *чыё, пад кім. Зак. У безас. ужыв. Разм.* Чыё-н. службовае становішча пачало быць нетрывалым, хісткім. **Сін.**: грунт захістаўся *пад кім;* зямля паплыла з-пад ног *у каго. Усё, што ні рабіла рэдакцыя, было або мала, або кепска. І Гушчынскі атрымліваў усё новыя кухталі. У адпачынак ён ішоў ужо з паніжаным настроем, нібы адчуваў, што яго крэсла захісталася.* Дамашэвіч.

**КРЭ́СЛА ХІСТА́ЕЦЦА** *пад кім, чыё. Незак. У безас. ужыв. Разм.* Чыё-н. службовае становішча аказваецца нетрывалым, хісткім. **Сін.**: грунт хістаецца пад нагамі *чыімі, у каго*; зямля паплыла з-пад ног *у каго.*

*КРЭСЛАХ* • **СЯДЗЕЦЬ НА ДВУХ КРЭСЛАХ**. Гл. сядзець.

*КСЁНДЗ* • <u>*Дагадзіць*</u> **ЯК КСЁНДЗ МАГДУ́СІ**. *Акал. Разм. Жарт.* Вельмі добра (дагадзіць каму-н.). *Калі наш здаравенны чырвоны певень пераможна саскочыў з курыцы, сусед, што быў якраз на нашым двары, пануры дзядзька Ёсіп, сказаў майму бацьку пры мне, шасцігадовым смаркачу, яшчэ ўсё нявопытна гарадскім: «Во дагадзіў, як ксёндз Магдусі...»* Брыль. [*Лепешаў*, с. 88: як ксёндз Магдзе (Магдусі) — 'вельмі добра'; *Даніловіч*, с. 231: як ксёндз Магдалене (Магдзе, Магдусі) — 'зусім не (дапамагчы каму-н.)' і 'зусім не (дагадзіць каму-н.)'.]

*КУДЫ* • **ДАЛЕЙ ЕХАЦЬ НЯМА КУДЫ**. Гл. ехаць.

**ДАЛЕЙ НЯМА КУДЫ**. Гл. некуды.

**КЛЯЙМА СТАВІЦЬ НЯМА КУДЫ** *на кім.* Гл. няма.

**КУДЫ ВЕЦЕР ДЗЬМЕ**. Гл. вецер.

*Ведаць* і пад. **КУДЫ ВЕЦЕР ДЗЬМЕ**. Гл. вецер.

**КУДЫ ВОЧЫ ВЯДУЦЬ**. Гл. вочы.

**КУДЫ ВОЧЫ ГЛЯДЗЯЦЬ**. Гл. вочы.

**КУДЫ ВОЧЫ ДЗЯВАЦЬ**. Гл. дзяваць.

**КУДЫ ВОЧЫ НЯСУЦЬ**. Гл. вочы.

**КУДЫ ГЭТА ВАРТА**. Гл. варта.

**КУДЫ ДЗЕЦЬ СВАЕ РУКІ**. Гл. дзець.

**КУДЫ І КАРОЛЬ ПЯШКОМ ХОДЗІЦЬ**. Гл. кароль.

**КУДЫ КАТОРЫ**. Гл. каторы.

**КУДЫ КРУМКАЧ КАСЦЕЙ НЕ ЗАНОСІЎ**. Гл. крумкач.

**КУДЫ КРЫВАЯ ВЫВЕЗЕ** *каго.* Гл. крывая.

**КУДЫ МАКАР ЦЯЛЯТ НЕ ГАНЯЎ**. Гл. макар.

**КУДЫ НІ ІШЛО**. Гл. ішло.

**КУДЫ НОГІ ВЯДУЦЬ**. Гл. ногі.

**КУДЫ НОГІ НЯСУЦЬ**. Гл. ногі.

**КУДЫ СЯБЕ ДЗЕЦЬ**. Гл. дзець.

**КУДЫ́ ТА́М!** *Выкл. Разм.* Вокліч немагчымасці, адмаўлення чаго-н., пярэчання на чужое ці сваё выказванне. **Сін.**: дзе там!; каб хоцьі! *Дзе і што Пятрусь, цяжка было рашыць. А шукаць — куды там! Не час і не месца.* Гартны. *[Антаніна Цімафееўна:] Вы га-*

*варылі са Сцяпанам Васільевічам? [Моцкін:] Гаварыў. [Антаніна Цімафееўна:] Ну і што? [Моцкін:] Куды там! I слухаць не хоча. Не дазваляе.* Макаёнак.

**КУДЫ <ТЫ> ДЗЕНЕШСЯ**. Гл. ты.

**НОСА НЕ БЫЛО КУДЫ ЎБІЦЬ**. Гл. няма.

**СТАРШЫ КУДЫ ПАШЛЮЦЬ**. Гл. старшы.

**ХО́ЦЬ КУДЫ́**. *Разм. Адабр.* **1**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. ці абстр. прадмета. Вельмі добры, такі, што заслугоўвае высокай ацэнкі. **Сін**.: адным словам; без сучка і <без> задзірынкі (у 2 знач.); будзь-будзь (у 2 знач.); будзь здароў (у 4 знач.); дай бог (у 2 знач.); дай бог кожнаму (у 1 знач.); дзякуй богу (у 2 знач.); за маё-маё (у 2 знач.); за маліну (у 3 знач.); з бляскам (у 2 знач.); крутом сто дваццаць; на славу (у 2 знач.); на ўсе рукі; на ўсе сто (у 3 знач.); на яць (у 2 знач.); па крайняй меры (у 2 знач.); пальчыкі абліжаш (у 2 знач.); пашукаць такога; першай гільдыі (у 1 знач.); першай рукі (у 1 знач.); першы клас; першы сорт; разлюлі-маліна (у 1 знач.); рэдкай рукі; слава богу (у 2 знач.); хоць на выстаўку <вязі>; што трэба (у 2 знач.); як яечка. *А што хлопец быў хоць куды, я і сам ведаў.* Каваль. *Ну і зажывём жа цяпер, хлопцы! Станцыя — хоць куды. Першага разраду проста!.. Любата працаваць!* Шынклер. *Страла была хоць куды: пярэстая, крыж-накрыж аперaная, перацягнутая ў гэтым месцы жылкай...* Караткевіч. *Паспрабуем распытацца мы пра даўнія гады. Хоць Антону год сто дваццаць, але памяць — хоць куды.* Броўка. *Пазносіў я многа ламачча, вячэрні касцёр хоць куды!* Панчанка.

**2**. *Акал.* Вельмі добра, выдатна. **Сін**.: будзь-будзь (у 1 знач.); будзь здароў (у 1 знач.); дай бог (у 1 знач.); дай бог кожнаму (у 2 знач.); дзякуй богу (у 1 знач.); за маё-маё (у 1 знач.); за маліну (у 2 знач.); з бляскам (у 1 знач.); кум каралю <і сват міністру> (у 3 знач.); люба-дарага; на дзіва (у 2 знач.); на поўнае вока; на пяць з плюсам; на славу (у 1 знач.); на ўсе сто (у 2 знач.); на яць (у 1 знач.); разлюлі-маліна (у 2 знач.); слава богу (у 1 знач.); хвала богу (у 1 знач.); што трэба (у 1 знач.); як не трэба лепш. *I хоць, праўда, скура вельмі абмулена, але нішто тое — на юхтовыя боты хоць куды.* Ядвігін Ш.

**ХТО КУДЫ**. Гл. хто.

**ХТО КУДЫ ПАШЛЕ**. Гл. хто.

*КУДЫКІНУ* • **НА КУДЫКІНУ ГАРУ**. Гл. гару.

*КУЕЦЦА* • **НЕ КУЕ́ЦЦА, А ПЛЕ́ШЧАЦЦА** *ў каго. У знач. вык. ці ў безас. ужыв. Разм.* Не ладзіцца, не выходзіць так, як хочацца каму-н. **Сін**.: ні гарыць ні тлее; ні куецца <і> ні плешчацца *ў каго, дзе. У нашай сялянскай жыццы заўсёды што-небудзь не куецца, а плешчацца. Як той казаў, адно надточыш, глядзіш — другое парвалася.* Сабаленка. *Варта было б сустрэцца з Віктарам... Яна расказала б яму, што жыццё ў яе не куецца, а плешчацца.* Паўлаў. *Спеюць аўсы, ячмяні, не сёння-заўтра папросяцца пад серп. А жыта яшчэ і паловы нязжатага. Неяк — кожны адчувае — не куецца, а плешчацца.* Мурашка. *Бадзяўся [Мікітун] без партфеля, а потым паслалі яго на эканамічныя курсы... Зноў кіруе, але не куецца, а плешчацца ў яго.* Місько. *Сапраўды, ужо каторы год у яго з Зінай, як кажуць, не куецца, а плешчацца.* Гроднеў.

**НІ КУЕ́ЦЦА <І> НІ ПЛЕ́ШЧАЦЦА** *ў каго, дзе. У знач. вык. ці ў безас. ужыв. Разм.* Не ладзіцца, не выходзіць так, як трэба. **Сін**.: не куецца, а плешчацца *ў каго;* ні гарыць ні тлее. *Мабыць, за гарою б воўк здох, каб, скажам, дырэктар канторы, дзе справа ні куецца і ні плешчацца, раптам стаў стукаць сабе ў грудзі кулаком: — Так, мы праваронілі...*

«Вожык». *Вось узяць хоць наш калгас... Мне здаецца, што ні плешчацца ў нас ні куецца.* Дзяргай. — *Ну от, кончыцца вайна — і жаніцеся. — Тут, таварыш сяржант, — сумна пачаў ён [дзяжурны], — як кажуць, ні куецца ні плешчацца.* Асіпенка.

*КУЗЬМЕ* • **АНДРЭЙ КУЗЬМЕ РОДНЫ ХВЁДАР**. Гл. андрэй.

*КУКАРЭКУ* • **НІ БЭ НІ МЭ <НІ КУКАРЭКУ>**. Гл. бэ.

*КУКІШ* • **ВЫСТАЎЛЯЦЬ КУКІШ** *каму.* Гл. выстаўляць.

**ЗА КУ́КІШ** *не купіш. Акал. Разм.* Без грошай, пры безграшоўі. **Сін**.: за пяць пальцаў. *Кажуць: «Цішэй едзеш — далей будзеш». Мо праверыць? «А за кукіш круп не купіш».* Танк. — *Апошняе зімовае паліто на работу цягаю — ніхто не бачыць. — Купіце, вам кажу. — Кукіш за кукіш?* Мыслівец.

**З'ЕСЦІ КУКІШ**. Гл. з'есці.

**КУКІШ З МАКАМ**. Гл. дулю.

**КУКІШ З МАСЛАМ**. Гл. дулю.

**КУКІШ У КІШЭНІ**. Гл. фіга.

**ПАКАЗВАЦЬ КАСЕ КУКІШ**. Гл. паказваць.

**ПАКАЗВАЦЬ КУКІШ У КІШЭНІ**. Гл. паказваць.

*КУКІШАМ* • **КУКІШАМ НОСА НЕ ДАСТАЦЬ** *у каго, каму.* Гл. дастаць.

*КУКІШКАХ* • **НА КУ́КІШКАХ** *сядзець, гойдацца* і пад. *Акал. Разм.* Сагнуўшы ногі ў каленях і трымаючыся на насках. *Доўга Мірон сядзеў на кукішках на дне выдзеўбанага чаўна — «душагубкі».* Маўр. *Хлопцы прымошчваліся ля грубкі; хто на чым — на ўслончыку, стуле, сам гаспадар сядзіць на кукішках.* Навуменка. *Ганька сядзіць на плоце — як хлапчук, узбілася між штакецін, гойдаецца на кукішках — і аж захлёбваецца, аж захлёбваецца перад малымі.* Васілевіч.

*КУКІШКІ* • **НА КУ́КІШКІ** *прысесці, стаць, апусціцца* і пад. *Акал. Разм.* Сагнуўшы ногі ў каленях і трымаючыся на насках. **Сін**.: на карачкі (у 2 знач.). *Міхась стаў на кукішкі і падставіў спіну. Іван — узяўся за плечы. Сталі падымацца.* Колас. *Алесь прысеў каля яго на кукішкі і абапёрся рукой на ягоны плячук.* Брыль. *Апусціўшыся на кукішкі, у лёгенькай сукенцы і нязменным белым банціку на галоўцы, яна [Наталька] з ціхай радасцю сочыць за пругкімі белымі струменямі, як яны б'юць аб дно і пеняцца ў ім...* Ракітны.

*КУКУ* • **КУКУ́ Ў РУКУ́** *даваць. Дап. Разм.* Хабар, звычайна грашовы. **Сін**.: у лапу. *Пасябраваў, сволач, з Мусатавым, даў яму, кажуць, куку ў руку, толькі каб той памог яму спаймаць таго збеглага мужыка, што кінуў вілы...* Караткевіч. *Ропат дае ёй [мамцы] нешта ў руку. — Ага, куку ў руку?* «Полымя». *Ігнат... падсунуў «куку ў руку», падсудку справіў баль, а віжа напаіў. І, упэўніўшы сабе ў спосаб той заруку, трах, — скаргу ў суд!* Гарун. — Што будзем рабіць, Валодзечка?.. — А што рабіць? Куку ў руку рабіць, што рабіць. Сваім і ўкраінскім. Грошы ж ёсць... Наварыч.

*КУКУЙ* • **ВО́СЬ ТУ́Т І КУКУ́Й!** *Выкл. Разм.* Вокліч адчаю, роспачы, немагчымасці знайсці выйсце з цяжкага становішча. *Злюбіліся ў сяле тым двое, ды вось бяда — няма каму звянчаць. Старыя раяць шлюб адкласці, а маладыя прагнуць шчасця, вось тут, як кажуць, і кукуй!* Крапіва.

*КУЛАК* • **СВІСТАЦЬ У КУЛАК**. Гл. свістаць.

**СЦІСКАЦЬ У КУЛАК** *каго.* Гл. сціскаць.

**У КУЛА́К** <u>сабраць</u>, <u>сабрацца</u> і пад. *Акал. Разм.* У адно цэлае, разам. *Ёсць дырэктыва з Рудабелкі ўсім атрадам сабрацца ў кулак. Зімой, па адзіночцы, не вытрымаем.* Навуменка. *Мы барацьбе вучыліся няпроста — пад хмарамі падполля і атак. З няўмельства і наіўнасці выраствалі, пакуль сабралі сілы ўсе ў кулак...* Бураўкін. *Цяпер ён [Апанас] ужо ішоў на рызыку з адкрытымі вачыма. Нервы былі сабраны ў кулак.* Новікаў.

**У КУЛА́К** <u>смяяцца, хіхікаць</u> і пад. *Акал. Разм.* Ціха і непрыкметна. **Сін.**: у бараду; у вус; у рукаў. *Тыя, што і раней яго [Лукавіцына] зналі, пасмейваюцца ў кулак і зайздросцяць яго спрыту, але маўчаць.* Крапіва. *Хітруган гэты і лаўкач, Алейнік, зваліў свой клопат на мяне і цяпер хіхікае ў кулак.* Шамякін.

*КУЛАКАМІ* • **БІЦЬ КУЛАКАМІ Ў ГРУДЗІ**. Гл. біць.

**МАХАЦЬ ПАСЛЯ БОЙКІ КУЛАКАМІ**. Гл. махаць.

*КУЛАКАХ* • **НА КУЛАКАХ ВЫНОСІЦЬ** *каго адкуль*. Гл. выносіць.

*КУЛАКІ* • **КУЛАКІ́ СВЯРБЯ́ЦЬ** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Каму-н. вельмі хочацца пабіцца з кім-н., пабіць каго-н. **Сін.**: кулакі сціскаюцца *у каго, чые;* рукі свярбяць *у каго* (у 1 знач.). *[Мікод:] Як гаворыце вы, у мяне аж кулакі свярбяць. Гэта ж такая справа, такая справа! Ну, не дажджэ ён [пан], каб гэта яму так мінулася.* Галавач. *Свярбяць у каго кулакі, як калісьці? Мінулі вякі, калі кулакі былі заканадаўцамі ісцін.* Вярцінскі. *І да падпанка Кунцэвіча хутка яшчэ не так дабяруся: кулакі свярбяць!* Аношкін.

**КУЛАКІ́ СЦІСКА́ЮЦЦА** *ў каго, чые. У безас. ужыв. Разм.* Узнікае жаданне помсціць каму-н., змагацца з кім-н. **Сін.**: кулакі свярбяць *у каго*; рукі свярбяць *у каго* (у 1 знач.). *Часам едзеш лесам, і раптам — паляна, здзічэлыя садовыя дрэвы (вёска так і не адрадзілася) і абеліск, а на ім словы, ад якіх сціскаюцца кулакі і ідзе па скуры мароз: «Тут пахаваны расстраляныя немцамі...».* Караткевіч. *І сціскаліся марна радкоў кулакі. І баялася восені лета. Палявалі ваўкі. Балявалі Ляўкі — залачоная клетка Паэта...* Барадулін. *У следчага кулакі сціскаліся, так хацелася абараніць гэтую бяскрыўдную істоту.* «Настаўн. газ.» *І што б мне захварэць як мае быць. Скончыліся б гэтыя мукі. Будзь праклята мая доля, кінуўшая мяне ў вайну... У-у! На каго сціскаюцца мае кулакі.* Гарэцкі.

*КУЛАКУ* • **ТРЫМАЦЬ НЕРВЫ Ў КУЛАКУ**. Гл. трымаць.

**У КУЛАКУ́** <u>трымаць</u>. *Акал. Разм.* У поўнай залежнасці, ва ўладзе, у падпарадкаванні. **Сін.**: пад абцасам *чыім, каго, у каго;* пад ботам *чыім, каго, у каго* (у 1 знач.); пад каўпаком *каго, у каго;* пад пятой *у каго, чыёй, каго, чаго* (у 1 знач.); у кіпцюрах *чыіх, каго; у* лапах *каго, чыіх;* у руках *чыіх, каго, у каго* (у 1 знач.). *Валя таксама засмяялася: вельмі ж непадобна было, што такога чалавека, як Пятро Аляксеевіч, трэба трымаць у кулаку.* Шамякін. *Акушэвіч трымаў у кулаку не толькі сваіх саўдзельнікаў, але і сям'ю.* «Звязда».

*КУЛАЧКІ* • **<ЯШЧЭ> ЧЭРЦІ НА КУЛАЧКІ НЕ ВЫХОДЗІЛІ**. Гл. чэрці.

*КУЛІ* • **ЗАЛІВАЦЬ КУЛІ** *каму*. Гл. заліваць.

**ПАДСТАЎЛЯЦЬ ГАЛАВУ ПАД КУЛІ**. Гл. падстаўляць.

*КУЛІСАМІ* • **ЗА КУЛІ́САМІ**. *Акал. Разм.* **1**. У тэатральным, акцёрскім асяроддзі.

**2**. Тайна, скрытна; у неафіцыйнай абстаноўцы. *Занадта ўжо шмат чытачу прыходзіцца здагадвацца, занадта шмат цьмяных намёкаў на нейкія падзеі, якія важны тут, але якія адбываюцца дзесьці за кулісамі.* Чорны. *Газеты эсэраў, меншавікоў поўныя праклёнаў немцам, а за кулісамі ідзе подлая змова.* Шамякін.

*КУЛЬГАЦЬ* • **КУЛЬГА́ЦЬ НА АБЕ́ДЗВЕ НАГІ́**. *Незак. Разм. Неадабр.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Мець значныя недахопы, хібы ў чым-н. (у ведах, падрыхтоўцы і пад.). *Лёгка сказаць — праштудзіруй. А калі Антось яшчэ ў школе па хіміі кульгаў на абедзве нагі...* «Вожык».

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Ісці дрэнна, з перабоямі, зрывамі. Пра справу, работу і пад. *Калгас меў перад дзяржавай больш як паўмільёна доўгу і ўжо адна гэта лічба сведчыць аб тым, што справы ў калгасе кульгалі на абедзве нагі.* «Звязда».

**3**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Вельмі дрэнны. Пра дысцыпліну, парадак і пад. **Сін**.: адны слёзы; глядзець няма на што; з рук вон (у 2 знач.); кату пад хвост (у 2 знач.); курам на смех (у 1 знач.); на ліхога казана; не вытрымлівае ніякай крытыкі; не лезе ні ў якія вароты; нікуды не варты; ні к чорту (у 1 знач.); ні к чорту не варты; ні самому паглядзець ні людзям паказаць; пусці павалюся (у 1 знач.); смеху варты. *Высветлілася, што на ўчастку, як кажуць, на абедзве нагі кульгала дысцыпліна, ігнараваліся правілы тэхнічнай бяспекі.* Макарэвіч. *Адначасова суд вынес прыватную пастанову, у якой гаворыцца: на аўтабазе дысцыпліна кульгае на абедзве нагі.* «Вожык».

*КУЛЬМІНАЦЫЙНЫ* • **КУЛЬМІНАЦЫЙНЫ ПУНКТ** <*чаго, у чым*>. Гл. пункт.

*КУЛЮ* • **ПУСКАЦЬ КУЛЮ Ў ЛОБ** *каму*. Гл. пускаць.

**ПУСКАЦЬ САБЕ КУЛЮ Ў ЛОБ**. Гл. пускаць.

*КУЛЯ* • **ЯК З ГРАЗІ́ КУ́ЛЯ**. *Вык. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нявартасны, нікудышны, неадпаведны назве, месцу, пасадзе і пад. **Сін**.: як з казы карова. *Кідайце, калега, сваё інтэлігенцтва. Ведайце, што з інтэлігента салдат як з гразі куля.* Гарэцкі.

*КУЛЯМЁТА* • *Сячы, смаліць, паліць* **ЯК З КУЛЯМЁТА**. *Акал. Разм. Неадабр.* Вельмі шпарка і не змаўкаючы. — Вы ведаеце, Галя трапіла ў аварыю, можна сказаць, жыццём рызыкавала. Ужо аргумент. Па-другое, член брыгады кампрацы, па... — Не палі, *калі ласка, як з кулямёта. Яшчэ не было ў цябе «папершае», а ты ўжо адразу «кампрацы».* Грахоўскі. *Стаю паблізу трыбуны, гляджу на п'янага прамоўцу і вачам, вушам не веру. А той, далі бог, не меней гадзіны як з кулямёта смаліў.* Далідовіч. *На ўсе пытанні адказвае ён. Сячэ як з кулямёта. Можа, і праўду кажа, але і брэша.* Карамазаў.

*КУМ* • **КУ́М КАРАЛЮ́ <І СВА́Т МІНІ́СТРУ>**. *Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Свабодны, ні ад каго не залежны, у выгадным становішчы. **Сін**.: сам па сабе (у 4 знач.). *Вось у цябе ёсць і п'есы, і раманы, ты кум каралю... А ў мяне амаль нічога няма, я сваё жыццё прасвістаў, прагуляў.* Сачанка. *Падабаешся ты мне, хлопец. Хочаш — уладкую цябе ў сваё сельпо? З дзесяцігодкай — глядзіш, за якія курсы зачэпішся ці тэхнікум і будзеш кум каралю.* Стадольнік. *Ды ўжо месяцы тры, як я яго [«Масквіча»] купіў. Месяц пайшоў на тое, каб мы прывыклі характарамі адзін да аднаго, другі — на тое, каб да механізацыі майго жыцця прывыкла жонка, затое апошні месяц — я кум каралю і сват міністру...* Шахавец. *Эх, каб мне пенсію! Я б тады.. была кум каралю і сват міністру.* Місько.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Багаты, заможны, забяспечаны. *Чалавек ты не дурны, а жыць не ўмееш... Колькі разоў табе казаў: слухай мяне і будзеш кум каралю.* Арочка. *Бедаваць [Ягорка] ніколі не бедаваў, жыў заўсёды роўна: і з голаду не пух, але ж і ў багацеях не хадзіў. Затое цяпер — кум каралю, жыве заможна, так яшчэ і не жыў.* Масарэнка. *— Дзе ты цяпер? — Працую?.. Гэ, цяпер я, брат, кум кара-лю! База мая —*

*«Харчавік», заводзік кансервавы. Розныя павідлы, кампоты гатуем. Прыёмшчык.* Ракітны.

3. *Акал.* Вельмі добра, цудоўна (жыць, адчуваць сябе і пад.). **Сін**.: будзь-будзь (у 1 знач.); будзь здароў (у 1 знач.); дай бог (у 1 знач.); дай бог кожнаму (у 2 знач.); дзякуй богу (у 1 знач.); за маё-маё (у 1 знач.); за маліну (у 2 знач.); з бляскам (у 1 знач.); люба-дарага; на дзіва (у 2 знач.); на поўнае вока; на пяць з плюсам; на славу (у 1 знач.); на ўсе сто (у 2 знач.); на яць (у 1 знач.); разлюлі-маліна (у 2 знач.); слава богу (у 1 знач.); хвала богу (у 1 знач.); хоць куды (у 2 знач.); што трэба (у 1 знач.); як не трэба лепш. *І жылі яны [дзеці] там, скажу вам, кум каралю, пакуль я здаровая была.* «Вожык». *Ты адчуваеш тут сябе — кум каралю.* Бічэль-Загнетава.

*КУПАНЫ* • **У ГАРА́ЧАЙ ВАДЗЕ́ КУ́ПАНЫ (-АЯ, -АЕ, -ЫЯ)**. *У ролі прэдык. азн. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі запальчывы, нястрыманы, занадта гарачы. *Падыходзіць міліцыянер. Ну, думаю, дрэнна. А Яніс ў гарачай вадзе купаны, пачынае лаяцца на латышскай мове.* Караткевіч. *Прафесар таксама, як кажуць, у гарачай вадзе купаны — не вытрымлівае, адразу ж заводзіцца, ускіпае, а Сцёпка гэтаму і рады.* Гігевіч. *За мешалку [Маланка] не бралася, бо ведала, што Адам у гарачай вадзе купаны. Пад п'яную руку ды пад злосць можа без часу на могілкі адправіць.* Сіняўскі.

*КУПАЦЦА* • **КУПА́ЦЦА Ў ЗО́ЛАЦЕ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Валодаць вялікімі капіталамі, быць надзвычай багатым. **Сін**.: грэбці лапатай *грошы*; мераць асьмінай *грошы*. *Скрыпач хадзіў па зямлі, ніколі не заходзячы ў замкі і палацы, хаця мог бы купацца ў золаце. І ніколі не мінаў ніводнай халупы, нават калі там не маглі яму падаць і скарынкі, але дужа прасілі, каб зайшоў.* Караткевіч. *Праўда, што мужыкі з голаду паміраюць, а цар і паны ў золаце купаюцца.* Якімовіч.

**КУПА́ЦЦА Ў КРЫВІ́** <*чыёй*>. *Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Учыняць масавыя забойствы, пакаранні. *Насельнікаў зямлі вячыстай, што звыкліся ў крыві купацца, сярпом і молатам агністым зруйнуеш, дыктатура працы.* Купала. **ПАКУПАЦЦА Ў КРЫВІ** <*чыёй*>. *Зак. А што выйшла з гэтай веры? Пайшоў у паўстанне, за зброю ўзяўся — у крыві пакупаўся...* Хомчанка.

**ЯК СЫ́Р У МА́СЛЕ КУПА́ЦЦА (КАЧА́ЦЦА, ПЛА́ВАЦЬ)**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Жыць прывольна, у поўным дастатку. *У нас яна [Жэнечка] будзе як сыр у масле купацца.* Арабей. *«Я цябе, — кажа, — уладкую ў адно месца. Ты будзеш як сыр у масле купацца».* Макарэвіч. *Тады я моцна ўзлаваўся на Васіля: мамчын сынок, качаўся як сыр у масле і яшчэ незадаволены, пратэстуе...* Шамякін. *Мая Сцяпанаўна ў добры дом замуж выйшла, як сыр у масле плавае, але нечага ёй не хапае, кажа: яшчэ няма ў яе шчасця...* Далідовіч.

*КУПІЛА* • **КУПІ́ЛА ПРЫТУПІ́ЛА** <*у каго*>. *У безас. ужыв. Разм.* Няма ці не хапае грошай, каб купіць што-н. **Сін**.: купіла хвост залупіла. *Дык вот, пане Лейба, [кірмаш] на носе, а выцяжак тых — дзе ты іх бачыў, яно і не дакупішся, дый, прызнацца вам, і купіла таго прытупіла...* Лынькоў. — *Годзе вам, дзядька, жарты жартаваць. Лепей купілі б што! — Купіў бы, ды купіла прытупіла...* Аношкін. — *Мам, мам, я хачу веласіпедзік, — захныкала малая. — У Эмы ёсць, ва ўсіх ёсць! У мяне толькі няма. Купі. — Купіла прытупіла.* Калодзежны.

**КУПІ́ЛА ХВО́СТ ЗАЛУПІ́ЛА** <*у каго*>. *У безас. ужыв. Прост.* Няма ці не хапае грошай, каб купіць што-н. **Сін**.: купіла прытупіла. — *То вы, дзядзька Назар, купілі б сабе другую кароўку... — Яно то чаму б не купіць, але купіла хвост залупіла.* Сабаленка. —

Мендаль, што гэта?.. — Хіба ты не бачыш бурачковы мёд... Купі ды лупі. — А калі купіла хвост залупіла! — То я *напавер дам*. «Полымя».

*КУПІЦЬ* • **КУПІЦЬ КАТА Ў МЯШКУ**. *Зак. да* **КУПЛЯЦЬ КАТА Ў МЯШКУ**.

**НЕ КУПІ́ЦЬ** *у каго чаго. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Каму-н. вельмі проста зрабіць што-н. дрэннае. *Пачынаецца сварка ізноў. У Мотузавых гэтага не купіць.* Калюга. *[Лявон:] Як кажуць, свату першая чарка. [Буйкевіч:] ... і першая палка? [Лявон:] Калі што, дык і гэтага не купіць. Але я думаю, што да гэтага не дойдзе.* Макаёнак. *А што ты думаў, — у іх не купіць, — возьме, гад, і заявіць...* Брыль. *Вось-вось замахнецца, каб даць аплявуху. У яго гэтага не купіць, асабліва калі ён п'яны.* Сабаленка.

*КУПЛЯЦЬ* • **КУПЛЯ́ЦЬ КАТА́ Ў МЯШКУ́**. *Незак. Разм. Жарт.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Набываць што-н., пра вартасці чаго загадзя не ведаеш. — *Калі ехаць, то раней трэба паслаць туды сваіх даверaных людзей. Няхай паглядзяць, упэўняцца і нам раскажуць, што і як там. Гэта ж не ката ў мяшку купляеш... — падтрымаў Яўхіма аднавясковец.* Пальчэўскі. *Вінцук захацеў убачыць хвалёных пастушкоў. — Ката ў мяшку не купляюць, — сказаў ён.* Якімовіч. **КУПІЦЬ КАТА Ў МЯШКУ**. *Зак. [Франкевіч:] Не, таварыш Коркін, кожная рацпрапанова патрабуе грунтоўнага вывучэння, разлікаў, абгрунтавання... [Коркін:] А то як жа.. інакш можна і ката ў мяшку купіць.* Зуб.

*КУПОНЫ* • **СТРЫГЧЫ КУПОНЫ**. Гл. стрыгчы.

*КУПЫ* • **ДА КУ́ПЫ**. *Акал. Разм.* У адно месца (збірацца, сабрацца, ісці і пад.). *Вось і папаўся я: заарыштавалі. А па іншых месцах і другіх такіх нацапалі. Так вось і назбіралі цэлую грамаду. Сабралі да купы і пагналі.* Колас. *Зноў да купы збіраемся! Ха-ха! Во здарава!* Карпаў. *Чакаем цяпер прыезду нашай калінінскай групы. Ізноў злучаем свае баявыя калектывы да купы.* Лынькоў.

*КУРАМ* • **КУРА́М НА СМЕ́Х**. *Разм. Неадабр.* **1**. *Вык. і азн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Вельмі дрэнны. **Сін.**: адны слёзы; глядзець няма на што; з рук вон (у 2 знач.); кату пад хвост (у 2 знач.); кульгаць на абедзве нагі (у 3 знач.); на ліхога казана; не вытрымлівае ніякай крытыкі; не лезе ні ў якія вароты; нікуды не варты; ні к чорту (у 1 знач.); ні к чорту не варты; ні самому паглядзець ні людзям паказаць; пусці павалюся (у 1 знач.); смеху варты. *Мы ж па-польску і прашэнне ці напішам? Хіба што Стась, але ж з яго курам на смех пісака...* Аношкін. *Хоць з бяды смяяцца — грэх, той домік быў — курам на смех: «аб'ект» не сходзіўся з праектам...* Крапіва. *Дый вагоны былі ў параўнанні з сучаснымі — курам на смех.* Корбан. *Работа ў іх — курам на смех, работа іх ідзе пад плот, а як пасееш — так пажнеш, такі мець будзеш умалот.* Купала. *Справы ў нас у дэпо — курам на смех. Але мы падцягнем дэпо, пане Шмульке, унясём яснасць у паравознае дышла.* Лынькоў.

**2**. *Акал.* Вельмі недарэчна, бяссэнсава, смехатворна. *Эх, нясе.. курам на смех, а сабе на шкоду. Ды папраў ты трохі мех, бо зляціць у воду.* Крапіва. *Думаю — во чаго захацелася дурніцы. Гэта ж курам на смех, каб барон ды жаніўся з ёю, баранесай захацелася стаць...* Машара.

**3**. <*чаго*>. *Акал. ці ў безас. ужыв.* Зусім мала. **Сін.**: з вераб'ёў нос (у 1 знач.); з жабіны прыгаршчы *чаго;* з камароў нос (у 1 знач.); з макава зерне; кропля ў моры <*чаго*>; на жабін скок (у 2 знач.); на заячы скок; на капейку; на макава зерне; на пальцах можна пералічыць *каго, што;* на панюх табакі (у 1 знач.); на шэлег (у 1 знач.); не поле насеяна *каго;* раз-два і ўсё *каго, чаго;* як кату; <як> кот наплакаў *каго, чаго;* як старой бабе

сесці *чаго. Пятрок рабіў як пракляты, шчыраваў удзень і ўночы, а плёну было курам на смех.* Быкаў. *Тут, як заўжды, перад сяўбой — агрэхаў поўны мех... У агранома — думак рой, а спраў — курам на смех.* «Вожык».

*КУРАМІ* • **З КУРА́МІ** класціся спаць. *Акал. Разм.* Вельмі рана, як толькі сцямнее. *Удоўгія зімовыя вечары не клаліся спаць з курамі, а заседжваліся за поўнач.* Машара. *[Ксенія Пятроўна:] Яна ў нас прыкладная. Ты ж бачыш: кладзецца спаць з курамі.* Каржанеўская.

*КУРНУ* • **ВЕСЦІ КУРНУ**. Гл. весці.

*КУРС* • **УВАХОДЗІЦЬ У КУРС** *чаго.* Гл. уваходзіць.
**УВОДЗІЦЬ У КУРС** *чаго каго.* Гл. уводзіць.

*КУРСЕ* • **ТРЫМАЦЬ У КУРСЕ** <*чаго*> *каго.* Гл. трымаць.
**У КУ́РСЕ** *чаго. У знач. вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дасведчаны ў чым-н. *[Левановіч:] Такія доследы дзе-нідзе вядуцца, наколькі мне вядома. [Гарлахвацкі:] Магчыма. Я не ў курсе справы.* Крапіва. *Адным словам, жывуць людзі поўным ходам. Аляксандр Дзям'янавіч нават у курсе іх некаторых спраў.* Лынькоў. *— Вы часам не ў курсе, што там на лесапілцы? — Чаму не ў курсе? У курсе. Усе ў курсе, — гаварыў трошкі ў нос гаспадар. — Там верхаводам Даніла, хоць старшым лічыцца Раман.* Ермаловіч.

*КУРТУ* • **КУ́РТУ З ГУ́РТУ** выбіраць (выбраць). *Дап. Разм.* (Выбіраць) каго-н. надта непрыгожага, кепскага. *Выбіраюць курту з гурту — рэжа рэпліка.* Барадулін. *— Адкуль ты выкапаў такую бабу? — Адкуль? Знайшоў! — Патраціў многа часу? — Гадоў з пяць шукаў. — Выбраў, значыць, з гурту — курту.* Галубок.

*КУРЫ* • **І КУ́РЫ НЕ ШЭ́ПЧУЦЬ** *пра каго. У безас. ужыв. Разм.* Ніхто нічога не гаворыць пра каго-н., хто-н. не з'яўляецца аб'ектам размовы. *— Гэта чаму такая непрыхільнасць раптам да мужчын?.. Але ж я тут які прычыннік? — Пра вас і куры не шэпчуць, не...* Мурашка. *І Ядзі яна жадала б такога жаніха... Але пра Ядзю яшчэ рана думаць, пра яе і куры не шэпчуць. Каб даўней, то яшчэ без штаноў яе жаніхі бегалі б...* Місько.
**КУ́РЫ БУ́ДУЦЬ СМЯЯ́ЦЦА** *з каго;* **КУ́РЫ ЗАСМЯЮ́ЦЬ** *каго. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. робіць што-н. недарэчнае, вартае кпінаў, насмешкі. *Але хоць не распісвайся з ёю, у сельсавет не ідзі. З вас жа куры будуць смяяцца: «Жаніх і нявеста!» І так дабудзеце свайго веку.* Місько. *Дзед прапанаваў бабцы пайсці на лыжах у лес. Бабка кажа: — Адчапіся, куры смяяцца будуць.* «Вожык». *Як гэта камісію ствараць на адзін чамадан бульбы? Ды мяне ж куры засмяюць.* Гроднеў. *[Мальвіна Рыгораўна:] Без пасагу!.. Тут у нас так не заведзена. Тут у нас другая завядзёнка. Без пасагу куры засмяюць...* Лукша.
Грошай **КУ́РЫ НЕ КЛЮЮ́ЦЬ (НЕ КЛЯВА́ЛІ)**. *У безас. ужыв. Разм.* Вельмі многа (грошай у каго-н.). **Сін.**: хоць сцены у хаце абклейвай *чаго. Сам ён матэматык, а збіраў мастацкую літаратуру. Грошай у яго — куры не клююць.* Сачанка. *— Што яму — грошай куры не клююць. Дасць каму трэба — і ўсё тут, — не згаджаўся дзед.* П.Ткачоў. *І так у кожнага, як кажуць, грошай куры не клююць, але сквапнасць засмоктвае: хочацца іх больш і больш.* «ЛіМ».

*КУРЫЛКА* • **ЖЫ́Ў (ЖЫВЫ́) КУРЫ́ЛКА**. *Выкл. Разм. Жарт.* Вокліч задавальнення, захаплення, здзіўлення і пад. пры ўпамінанні пра таго, хто, нягледзячы на што-н., існуе, жыве, дзейнічае. *Нарэшце [Ніна Іванаўна] пачула, як заскрыпела крэсла, як цяжка*

*ўздыхнуў абражаны муж. «Жыў курылка».* Шамякін. *Як я ні стараўся, але не здолеў, каб не ўсміхнуцца: у 2050 годзе Іван Іванавіч ды яшчэ Рэхва?! Не пажоўк, Іване, не ўчарнеў, жыў курылка!* Лобан. *Пасля бальніцы яго накіравалі ў санаторый паправіць здароўе. Там прабыў усю вясну. А ў пачатку лета вярнуўся на завод. Ціўчанка ад радасці крыкнуў: «Жыў курылка!»* Гроднеў.

*КУРЫНАЙ* • **НА КУРЫНАЙ НОЖЦЫ**. Гл. ножках.

*КУРЫНАЯ* • **КУРЫНАЯ ГАЛАВА**. Гл. галава.

**КУРЫНАЯ СЛЕПАТА**. Гл. слепата.

*КУРЫНУЮ* • **КУРЫНУЮ СІСЮ І ТУЮ НЕ ЎСЮ**. Гл. сісю.

*КУРЫНЫХ* • **НА КУРЫНЫХ НОЖКАХ**. Гл. ножках.

*КУРЫЦА* • **МО́КРАЯ КУ́РЫЦА**. *Мн. не ўжыв. Часцей вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. *Неадабр.* Чалавек, які мае ўбогі, прыгнечаны выгляд. *Піп адчуваў сябе не героем з неба, а мокрай курыцай.* Маўр. *Словам, фантазія ў Алены багатая, жанчына малюе далейшае сваё жыццё без Халімона, а калі і з Халімонам, дык які гэта будзе ўжо Халімон. Курыца мокрая, а не Халімон...* Сачанка.

**2**. *Пагард.* Слабавольны, бесхарактарны чалавек. **Сін**.: мокрая ануча. *А вы, пан турэмны начальнік.., будзьце сапраўдным начальнікам, а не мокрой курыцай! Тут вам не берлінская галантарэя!* Лынькоў. *Ды які ён ў чорта герой? Твар і вочы не свецяць гэтым. Мокрая курыца ён, а не герой.* Машара. — *Ды не нервуйцеся вы так, — сказала Сашанька. — Фу! Не мужчына, а мокрая курыца.* Караткевіч.

*<u>Насіцца</u>* **ЯК КУ́РЫЦА З Я́ЙКАМ (З ЯЙЦО́М)**. *Акал. Разм.* Незаслужана ўдзяляючы шмат увагі каму-н. ці чаму-н. **Сін**.: як <дурань> з пісанай торбай. *Эксперыментальны раён, на які Шугачоў разяўляў рот і з ідэяй якога носіцца як курыца з яйкам, патрабуе дадатковых асігнаванняў.* Шамякін. *Знішчылі мы чужое шчасце — на ўсіх яго не хапае, а аднаму аддаць — ворагам астатнім будзеш. Вось і носімся як курыца з яйкам, днямі над ім прападаем, а поле неаранае стаіць, пожні някошаны, печы халодныя.* «Маладосць».

*<u>Пісаць</u>* **ЯК КУ́РЫЦА ЛА́ПАЙ (ЛА́ПКАЙ) <ГРАБЕ́>**. *Акал. Разм.* Вельмі неразборліва і неахайна. *Даруйце, што пішу карандашом ды і то як курыца лапаю.* Колас. — *У бацьку ўдаўся, — кажа маці. — Той таксама калісьці не па зямлі хадзіў, а па платах. А піша, мусіць, як курыца лапкай грабе?* Брыль.

*КУРЫЦЬ* • **КУРЫ́ЦЬ (КАДЗІ́ЦЬ) ФІМІЯ́М** *каму. Незак. Кніжн. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Надзвычай узвялічваць, лісліва, падлізліва праслаўляць каго-н. **Сін**.: падымаць на шчыт *каго;* пець дыфірамбы *каму, чаму;* спяваць асанну *каму, чаму;* спяваць песні *каму;* узносіць да нябёс *каго, што. Не курыце, не курыце фіміяму, не свяціце юбілейнае вады, лепш скажыце, што яшчэ, маўляў, ён самы, самы-самы недавучка малады.* Кірэенка. *Хоць я не кадзіў вам фіміям у пакоях рэдакцыйных дымных, хто мне з вас не спавядаўся там у памылках і грахах інтымных.* Аўрамчык. *Стала крытыка ў пашане, фіміяму не кадзілі, сходы йшлі не да світання, а не больш як паўгадзіны.* Лужанін.

**ТОЛЬКІ ПЫЛ КУРЫЦЬ**. Гл. пыл.

*КУРЭННЕ* • **КУРЭ́ННЕ ФІМІЯ́МУ**. *Мн. не ўжыв. Кніжн. У ролі розных чл. ск.* Надзвычайнае ўзвялічванне, ліслівае праслаўленне каго-н.

*КУСАЦЬ* • **КУСА́ЦЬ <САБЕ́> ЛО́КЦІ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Горка шкадаваць аб чым-н. няздзейсненым, непапраўна страчаным. **Сін.**: кусаць сябе за локаць; ламаць <сабе> рукі; пасыпаць галаву попелам; рваць на сабе валасы. *От дзівачка! Удачы сваёй не бярэш! Ну што ж, я сказала! Дзела твае! Кусай потым локці сабе!* Мележ. *Дзядзька заглядваў у крамы гатовага адзення, да шапачнікаў, выбіраў уборы на галаву, а потым вывез усё гэта за мястэчка на шудзялаўскі гасцінец, зваліў у горбу ды спаліў. Гандляры кусалі сабе локці — не маглі даравачь, што гэтага тавару трымалі так мала!* Карпюк. *«Выгадаваў дзетак, — узняўся стары. — Чыя тут віна? Мая, іх? Відаць, сам даў маху. Кусай цяпер локці. Так табе і трэба».* Калодзежны. *Яна яшчэ адумаецца. Ох, будзе шкадаваць! Локці будзе кусаць. Пралічылася дык пралічылася...* Навуменка. **ПАКУСАЦЬ <САБЕ> ЛОКЦІ**. *Зак. Я нічога, Кандратка, не саромеюся і не баюся... Хай сабе і Ціток даведаецца, хай ён сабе ад злосці локці пакусае.* Лобан.

**КУСА́ЦЬ СЯБЕ́ ЗА ЛО́КАЦЬ (ЛО́КЦІ)**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Горка шкадаваць аб чым-н. няздзейсненым, непапраўна страчаным. **Сін.**: кусаць <сабе> локці; ламаць <сабе> рукі; пасыпаць галаву попелам; рваць на сабе валасы. *Не спытаўся, хто са мною ехаў, адкуль ён, дзе шукаць яго, як завуць. Кінуўся здаганяць — кусай сябе за локаць...* Янкоўскі. *А я потым выберу сабе дзяўчыну, якую захачу, а ты будзеш за локаць сябе кусаць.* Радкевіч. *Добрых дзядзькоў на свеце шмат — ды не заўсёды яны шчыра адгукаюцца. Памяталі б мы пра гэта раней — не кусалі б цяпер сябе за локці.* Каваленка. *Знішчаць гэтую погань трэба. І чым хутчэй гэта мы зробім, тым лепш усім нам будзе. Бо інакш... Бяды натвораць, за локці сябе кусаць потым будзеш...* Сачанка. **ПАКУСАЦЬ (УКУСІЦЬ) СЯБЕ ЗА ЛОКАЦЬ (ЛОКЦІ)**. *Зак. [Васіль] усё думаў пра тое, што будзе заўтра. Вось усе здзівяцца! І зайздросціць будуць! Асабліва гэты задавака Толік. Хай пакусае сябе за локаць.* Гіль. *Я вас дабру вучу! Успомніце некалі гэта, за локаць сябе ўкусіце...* Далідовіч.

*КУСКАМІ* • **І ПАРАНАГА І ВАРАНАГА І ТАК КУСКАМІ** *было ў каго, дзе.* Гл. паранага.

*КУСКАХ* • **ХАДЗІЦЬ ПА КУСКАХ**. Гл. хадзіць.

*КУСКІ* • **ДУША РАЗРЫВАЕЦЦА <НА КУСКІ>** *чыя, у каго.* Гл. душа.

*КУСОК* • **КУСОК ХЛЕБА**. Гл. кавалак.

**ТЛУСТЫ КУСОК**. Гл. кавалак.

*КУСТ* • **КУ́СТ АЛЬХО́ВЫ**. *Мн. не ўжыв. Вык. і зваротак. Неадабр.* Тупы, неразумны чалавек. **Сін.**: алёша з батонамі; асёл маляваны; галава <і> два вухі; галава садовая; галава яловая; дубовая галава; конь божы; курыная галава; медны лоб; мех з саломай; пень асінавы; пустая галава. **Ант.**: светлая галава. — *Чаго ты смяешся? — накінуўся на яго Янка, — куст ты альховы!* Колас.

*КУСТЫ* • **АЗІРАЦЦА НА КУСТЫ**. Гл. азірацца.

**ГЛЯДЗЕЦЬ У КУСТЫ**. Гл. глядзець.

**У КУСТЫ́**. *Часцей у знач. вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ухіляцца ад непасрэднага ўдзелу ў чым-н., ад адказнасці за што-н. *[Фёдар Мікалаевіч:] Вадзіцелі з экскаватаршчыкамі змагаюцца за перавыкананне тэхнічных норм. Тут бы ім і дапамагчы. А ты ў кусты.* Крапіва. *Вясёлы хлопец, галасісты, пуставаты. Бабнік. І трохі залішне любіць запаведзь: «Ура, ура, а сам у кусты!..»* Брыль. *Спартсмены, падумаў Маруда, морды біць, дык хапае і часу, і сілы, а вось дзверы наладзіць — дык вы ў кусты.* Казько.

*КУТ* • **ЗАГАНЯЦЬ СЯБЕ Ў КУТ**. Гл. заганяць.

**ЗАГАНЯЦЬ У КУТ** *каго*. Гл. заганяць.

**З КУТА У КУТ**. Гл. кута.

**МЯДЗВЕДЖЫ КУТ**. Гл. куток.

**НЕПАЧАТЫ КУТ** *чаго*. Гл. край.

*КУТА* • **З КУТА́ Ў КУ́Т**. *Акал. Разм.* Туды і назад, у розных кірунках (хадзіць, сланяцца, сноўдацца, бегаць і пад. у памяшканні). **Сін.**: <і> туды і сюды; сюд-туд (у 1 знач.); сюды-туды (у 1 знач.); то туды то сюды; то ўзад то ўперад; узад і ўперад. *Паўлоўскі сам сланяўся з кута ў кут, чакаючы Наталі, каб разам палуднаваць.* Чорны. *Сноўдаўся [Дарошка] з кута ў кут па хаце, выходзіў на падворак, заглядаў у хлеў.* Сачанка.

*КУТОК* • **МЯДЗВЕ́ДЖЫ КУТО́К (КУ́Т)**. *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм.* Глухая, аддаленая мясціна; глуш. *Пасмею запытаць, з якой важнай патрэбай дарагія госці адважыліся наведаць наш гэты мядзведжы куток?* Лобан. *Для людзей самых аддаленых вёсак, якія нядаўна яшчэ лічыліся «мядзведжым кутом», той дзень стаў як свята.* Макарэвіч. *Ішоў год, другі... Жыла наша вёска сваім нецікавым, шэранькім жыццём. Мядзведжы куток.* Пянкрат.

*КУЧА* • **КУ́ЧА МА́ЛА!** *Выкл. Разм.* Вокліч у дзіцячай гульні, па якім удзельнікі падаюць адзін на аднаго. *Дзверы ў сенцах грымнулі, дзеўкі ўсе як рынулі, спрытныя, нягодніцы, за Федзем гоняцца. — Куча мала! Куча мала!* Бічэль-Загнетава.

**КУ́ЧА МА́ЛА.** *Часцей дап.* Мноства дзяцей, наваленых адзін на аднаго ў гэтай гульні. *Коўзаліся адзін за адным і за чацвёртым разам Юля з'ехала да самай павеці. Аж спаднічка закасалася. Колькі было смеху, як зрабілі кучу малу!* Грамовіч. *Ганька стаіць каля акна і дрыжыць: а што, як гэтыя вялікія хлопцы раптам падбягуць ды яшчэ схопяць і яе ў гэту дурную кучу малу.* Васілевіч.

*КУЧУ* • **ВАЛІЦЦА Ў АДНУ КУЧУ**. Гл.валіцца.

**ВАЛІЦЬ У АДНУ КУЧУ** *каго, што*. Гл. валіць.

*КЫШ* • **НЕ КЫ́Ш-ВАРО́НА (НЕ ШУ́Х-ВАРО́НА)**. *Вык. Праст. Адабр. і неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Спрытны, кемлівы, не ўпусціць свайго. **Сін.**: не промах. *Ты не кыш-варона, і я, трэба думаць, таксама вучоны, нутром чую: прымак у трывозе...* Бажко. *А ты хлопец, як кажуць, не шух-варона. Кажы ўжо, каго на прымеце маеш? Калі што якое, дык, можа, і сватам запросіш.* Асіпенка.

# Л

*ЛАВАЙ* • **СЯКЕРА ПАД ЛАВАЙ**. Гл. сякера.

*ЛАВАЧКА* • **ЛА́ВАЧКА (КРА́МКА) ЗАКРЫВА́ЕЦЦА (ЗАКРЫ́ЕЦЦА, ЗАКРЫ́ЛАСЯ)**. *У безас. ужыв. Разм.* Спыняецца якая-н. справа, хто-н. перастае займацца чым-н. *Трэцім разам я атрымаў тры гранаты і «жменьку» наганных патронаў. Затым было яшчэ разоў са два «па жменьцы», пакуль Паўлюк не сказаў: «Закрываецца крамка, няма, браце, усё».* Брыль. *І ты думаеш да пенсіі дарабіць? Доўга табе яшчэ. Прыдумаюць які аўтамат — і закрылася лавачка.* А.Жук.

*ЛАВАЧКУ* • **ЗАКРЫВАЦЬ ЛАВАЧКУ**. Гл. закрываць.

*ЛАВАЧЦЫ* • **ПА П'Я́НАЙ ЛА́ВАЧЦЫ**. *Акал. Праст.* Будучы ў нецвярозым стане (рабіць што-н.). **Сін.**: з п'яных вачэй; пад п'яную руку. *Мужыкі нашы кажуць, што прызнаваўся па п'янай лавачцы — у грамадзянскую знаходзіўся ў бацькі Махно, а затым увесь час замятаў сляды.* Чыгрынаў. *Цябе ўдарыў твой таварыш. Ударыў, лічы, нізавошта, так, па п'янай лавачцы, абразіў перад усім народам...* Радкевіч. *Ну, калі так хочаш, скажу. Па п'янай лавачцы зубы мне выбілі. Мае лепшыя сябры, якіх я частаваў.* Дайнека.

*ЛАВІ* • **ЛАВІ́ БЯГУ́ЧАГА ВАЎКА́ (ВО́ЎКА) СЛЕ́Д** *калі. Толькі ў заг. л. У знач. галоўн. чл. абаг.-асаб. ск. Разм.* Назад не вернеш каго-, што-н. Пра безнадзейныя пошукі, справу і пад. **Сін.**: лаві вецер у полі; шукай ветру ў полі <*калі*>. *А як раптам зямлі не дадуць? Тады што, лаві бягучага ваўка след?* Шлег.

**ЛАВІ́ ВЕ́ЦЕР (ВЕ́ТРУ) У ПО́ЛІ**. *Толькі ў заг. л. У знач. галоўн. чл. абаг.-асаб. ск. Разм.* Назад не вернеш, не знойдзеш каго-н. Пра безна-дзейныя пошукі каго-н. **Сін.**: лаві бягучага ваўка след *калі*, шукай ветру ў полі <*калі*>. *Можа, і сапраўды мае рацыю цётка Хадора: была дзеўка і — лаві ў полі вецер?..* Ермаловіч. *Насця.. успомніла, што трэба знайсці Валошкавага Юрася, бо Пятровіч прасіў прывесці сына ў Лісань. А дзе шукаць. У школе ці дома? Можа, дзе на волі, на рацэ — лаві вецер у полі.* Карамазаў. *Сенька супакоіўся. Усё тут. Вось і пісталет. Цяпер толькі бясшумна выбрацца з-пад акна, а там па агародах, па глухіх закутках на балота, у лазу. Лаві тады ветру ў полі.* Сяркоў. *Сельскія старасты спіхвалі ўсё на партызанаў. Гэта яны страляюць! А што ім зробіш. Лаві ветру ў полі!* Якімовіч.

*ЛАВІЦЬ* • **ЛАВІЦЬ АКУНЁЎ**. Гл. вудзіць.

**ЛАВІ́ЦЬ БЛО́Х**. *Незак. Прас. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вышукваць дробязныя недахопы, хібы ў каго-н., у чым-н. *[Язва:] А недахопаў у нас досыць, каб іх высмейваць. [Праменны:] Недахопаў... Лавіць блох — гэта не задача вялікага мастацтва.* Крапіва. — *Во тут у мяне.. усё запісана. — Такую дробязь запісваеш? І не сорамна табе, партызан, блох лавіць?* Ермаловіч. *Мяне могуць папракнуць: маўляў, калупаецца ў дробязях, лове блох.* Федасеенка.

**ЛАВІ́ЦЬ ВАРО́Н**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Рассеяна глядзець на што-н. з пустой цікавасцю. **Сін.**: лавіць мух (у 1 знач.); страляць варон (у 1 знач.). *Я гатоў любавацца [зоркамі], але Юльян штурхае мяне і шэпча з затоенай злосцю: — Не лаві варон! Вастрэй вуха, Антошка... Ці мала што можа быць...* Хадкевіч. *Коннік.. злосна пакрыкваў назад: — Цягніцеся хутчэй, бандыты! А вы падганяйце там, не лавіце варон.* Лынькоў.

**2**. Быць няспрытным, непаваротлівым, прапускаць зручны момант. **Сін.**: лавіць мух (у 3 знач.); лічыць варон (у 3 знач.); страляць варон (у 2 знач.). *[Антаніна Цімафееўна:] Цяпер толькі не зявай, толькі не зявай. Не лаві варон — і ты будзеш зноў у Мінску. Мы вернемся туды* з *перамогай.* Макаёнак. *Я гандлявала спрытна, бойка і адначасова памагала Машы, бо яна лавіла варон, яе ашуквалі.* Шамякін.

**ЛАВІ́ЦЬ МУ́Х**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Рассеяна глядзець на што-н. з пустой цікавасцю. **Сін.**: лавіць варон (у 1 знач.); страляць варон (у 1 знач.). *Сіпаты паліцай налятаў на яго з канём: — Не лаві мух, паварочвайся, ды глядзі мне!* Лынькоў. — *Ты, Паўлік, не лаві мух, а хутчэй сілкуйся ды снасці разбірай! — загадвае ён сыну. — Закінем у тую старыцу. Бач, як хлюпае!* Пашкоў.

2. Выяўляць няўважлівасць, рассеянасць. **Сін.**: лічыць варон (у 1 знач.); разяўляць рот (у 4 знач.). *А ўсё з-за нейкай долі секунды. Вось што значыць секунда ў вулічным баі... Так, тут мух не лаві. Зброю трымай напагатове, патрон — у патронніку. Адзін міг праваронiў — і канец. Тут так.* Мележ. *— А астатнія [кулі] міма? — А ты думаў? Немцы ж таксама не дурні, мух лавіць не будуць.* Быкаў.

3. Марудзячы, прапускаць зручны момант. **Сін.**: лавіць варон (у 2 знач.); лічыць варон (у 3 знач.); страляць варон (у 2 знач.). *Пранусь узглядаўся на хату, з каторай выпаўзаў стужкай дым, і пры гэтым мысліў, што зараз сядуць вячэраць, то ўжо мух лавіць не будзе, а падчэпіць самую большую лыжку і ну яе туды і сюды.* Галубок. *— Давай так: я цябе прыкрыю, а ты мух не лаві — ідзі спакойна, як ні ў чым не бывала, — хуценька сказаў Радый. — Інакш з пропускам навалэндаешся, а без яго не прапусцяць — вахцёр сёння злы стаіць.* Кацюшэнка.

**ЛАВІЦЬ НА ЛЯТУ** *што. Незак. Функц. не зам. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Разумець, засвойваць адразу, лёгка і хутка. **Сін.**: хапаць на ляту *што. Наогул, Шэмет дзівакаваты чалавек. Ты да яго, бывае, як ватка, прыляжаш, а ён да цябе вожыкам, іголкі свае так і садзіць. Кожны крок, здаецца, угадваеш, слова на ляту ловіш, а яму не падабаецца.* Лобан. *Хлопец быццам не дурны, на ляту ўсё ловіць, вушлы. Але ж і басяк, якіх і ў раду іхнім не было.* Сачанка. **ЗЛАВІЦЬ НА ЛЯТУ** *што. Зак. Пранiклівы настаўнік на ляту злавіў незвычайнасць настрою вучня.* Шамякін.

**2**. Вельмі ўважліва слухаць, стараючыся нічога не прапусціць. *Ішла шумная вясёлая гутарка на розных мовах, перакладчыкі толькі круцілі галовамі, на ляту ловячы словы сваіх гаспадароў.* Дамашэвіч. *Сапраўды, у цэлым гэта быў цікавы сход, з разраду тых.., на якіх не чытаюць загадзя прызапашаных газет і часопісаў, не шушукаюцца, не дрэмлюць беспардонна, а ловяць кожнае слова на ляту.* Праскураў. **ЗЛАВІЦЬ НА ЛЯТУ** *што. Зак.*

**ЛАВІЦЬ НА СЛОВЕ** *каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Скарыстаўшы пачутае, прымушаць каго-н. выканаць абяцанае, сказанае. *— Валодзя, ты — рыцар, — крычыць Воля. — Кожная з нас вечарам падаруе табе па вальсу. — Лаўлю на слове! Каб пасля не адмаўляліся.* Арабей. **ЗЛАВІЦЬ НА СЛОВЕ** *каго. Зак. — То, можа, у дом зойдзеце... — Жанчына, відаць, думала, што на яе ветлівасць я адкажу таксама ветлівасцю і пайду сабе туды, адкуль прыйшоў. Але я злавіў яе на слове і пераступіў парог.* Карпюк.

**2**. Знаходзіць супярэчнасці ў выказванні субяседніка, скарыстаўшы яго агаворку. *— А карова, па-твойму, бескультур'е? — Ды не лаві ты мяне на слове.* Шамякін. *— А калі б кожная так? Што б тады, Волесь? — бацька, разумеў Яська, быццам лавіў дзеда на слове.* Гіль. **ЗЛАВІЦЬ НА СЛОВЕ** *каго. Зак.*

**ЛАВІЦЬ СЯБЕ** *на чым. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нечакана выяўляць, заўважаць што-н. у самім сабе. *Часам здавалася, што машына коціць занадта марудна, і я лавіў сябе на тым, што лаю ў думках шафёра.* Быкаў. *[Андрэй] доўга ляжыць, гледзячы ў акно... Пасля ловіць сябе на тым, што думае пра людзей, якіх ужо няма ў вёсцы.* Пташнікаў. **ЗЛАВІЦЬ СЯБЕ** *на чым. Зак. [Юзік] злавіў сябе на тым, што думае пра каханне.* Крапіва. *Анюта даўно ўжо злавіла сябе на тым, што прыслухоўваецца, ці спіць Марыся.* Місько.

**ЛАВІЦЬ РЫБУ**. *Незак. Прaст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выдзяляць мачу; мачыцца. *[Маці] колькі раз дакранулася да [Казікавай] галавы лапатаю і нешта шап-*

*тала. Так яна лячыла, каб ён болей у пасцелі «не лавіў рыбы». А пачаў «лавіць рыбу» ён таму, што спалохаўся паліцыянтаў.* Далідовіч.

**ЛАВІЦЬ РЫБУ Ў КАЛАМУТНАЙ (МУТНАЙ) ВАДЗЕ.** *Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. З выгадай для сябе выкарыстоўваць чые-н. цяжкасці, няўдачы і пад. *Пранырлівы ахвотнік лавіць рыбу ў каламутнай вадзе — дзіва што мог дастаць не тое што польскіх, а можа, якіх і эфіопскіх грошай.* Чорны. *Міраслаўскі ў мутнай вадзе рыбы не лавіў, але затое заўсёды гатоў быў у муці сабраць жменьку гразі, каб кінуць у вочы сваім палітычным праціўнікам.* Абуховіч.

**ЛАВІЦЬ (ХАПАЦЬ, БРАЦЬ) ЗА РУКУ** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выкрываць з доказамі злачынства. *Затое ў краме Самок налаўчыўся ашукваць пакупнікоў. Не раз яго лавілі, як кажуць, за руку, але заўсёды ён выходзіў з вады сухім.* Сіняўскі. *Захады і аперацыі зрываліся, а іх выканаўцаў знянацку гестапа забірала дома напярэдадні ці хапала за руку, падпільнаваўшы на гарачым.* Лужанін. **ЗЛАВІЦЬ (СХАПІЦЬ, УЗЯЦЬ) ЗА РУКУ** *каго. Зак. Праўленне вырашыла ўчыніць таварыскі суд над тымі, каго злавілі за руку.* Дуброўскі. *— Вунь дзесяцкі наш Нічыпар Мартыневіч. Той нават у царкве крадзе. — Зноў жа не тое, пане Халуста. За руку ніхто яго не ўзяў.* Чарнышэвіч.

**МЫШЭЙ НЕ ЛАВІЦЬ.** *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не рабіць тое, што павінен рабіць; не выконваць сваіх абавязкаў. *— Во дзе кавалер! — штурханула яна пад бок Берасневіча. — А ты сядзіш і мышэй не ловіш!* А.Жук.

*ЛАД* · **НА АДЗІН ЛАД.** *Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці канкр. прадмета. Вельмі падобныя, аднолькавыя. **Сін.**: абое рабое; аднаго крою; аднаго поля ягада; адным лыкам шытыя; адным мірам мазаны; два боты пара; <з> аднаго балота чэрці; з аднаго цеста <спечаны>; зроблены на адзін капыл; на адзін капыл (у 1 знач.); на адзін манер (у 1 знач.). **Ант.**: з іншага цеста <спечаны>; не з такога цеста зроблены. *[Лясун:] Эх, бабы, бабы! Усе вы на адзін лад.* Міровіч. *У Петрушах семнаццаць хат, а хаты пошыбу старога, будынкі рве на адзін лад, стаяць, уросшы ў дол пясчаны.* Колас. *Цікавыя кніжкі, што і казаць. Але вельмі ўсе на адзін лад.* Якімовіч.

**НА ДОБРЫ ЛАД.** *Акал. Разм.* Па-сапраўднаму, так, як павінна быць. *— На добры лад, дык і каня запрагаць не варта было б, — казаў Лабановіч, паважваючы ў руцэ чамадан.* Колас. *— Яму б на добры лад трэба было вызначыць якіх рублёў дваццатак за турбацыю, — сур'ёзна выказваўся другі.* Гартны. *Немцы і сапраўды разгаманіліся. Гэта былі ўжо, каб на добры лад, пенсіянеры, якім сядзець бы з кухлем піва пад «грыбком» або нянчыць унукаў.* Брыль.

*Ісці (пайсці)* **НА ЛАД.** *Акал. Разм.* Паспяхова, удачна, добра; без цяжкасцей. *[Скіба:] Мы вось і будзем сабе барыш піць, — няхай думаюць, што ў нас усё на лад ідзе...* Крапіва. *Новую хату паставіць захацелася. Месца выбралі звонкае, вясёлае. Над самай рэчкай. Усё ішло на лад.* Варановіч. *І калі, здавалася, усё пайшло ўжо на лад, пазванілі, што выклікае галоўны бухгалтар камбіната Пятроў.* Скрыган.

**ПРАЗ (ЦЕРАЗ) ЛАД.** *Акал. Разм.* Залішне, празмерна, вельмі ж. *Адзін Юрка канец з канцом чуць-чуць звяжа. І каб то сям'ёй праз лад абсыпаўся ці там гультаём такім ужо ўдаўся або, не тут кажучы, да чортавага зелля ласым быў, — ані думаць!* Ядвігін Ш. *Хто тут вінен, калі самакрытычна да гэтага пытання.. падысці? Мае героі. Цераз лад яны ўпартыя ўдаліся.* Калюга.

**У ЛАД.** *Акал. Разм.* 1. *чаму, з чым, з кім.* У поўнай адпаведнасці з чым-, кім-н. (рабіць што-н.). **Сін.**: у такт *чаму. Ён слухае сакратара райкома і, у лад яго словам, міжвольна*

*ківае галавой, сцвярджаючы дарагую, вялікую праўду!..* Брыль. *І салаўі запелі ў лад з баянам весела і міла.* Смагаровіч. *З ураднікам у шайцы і з пісарам у лад ён [старшына] мужыкоў як ліпак, абдзерці ва ўсім рад.* Купала.

**2**. Зладжана, стройна (гучаць, адказваць, кружыцца і пад.). *Князь некалькі хвілін быў надта задуменны. Ён нават не ў лад адказваў на запытанні сваіх гасцей.* Нёманскі. *У лад кружыліся пары. Максім Шняк кіраваў танцамі.* Асіпенка. *Галоўнае, Парасачка, каб у нас з табою усё ў лад ішло. Нашто ж мне гэта багацце аднаму душою?* Лобан. *Не спевакі мы, — ды заўсёды ў лад гучалі галасы.* А.Вольскі.

**3**. Добра, паспяхова; так, як і трэба. *Дрэнна маё жыцце, усё ідзе не ў лад, і крычаць мне ўсюды: «Асадзі назад!»* Колас. *Яго [Зеленюка], як свежага чалавека, паслухалі — прыціхлі ў падазронай цішыні, гатовыя, калі што не ў лад, даць добрага гасу і яму — дармо, што з горада прыехаў.* Зарэцкі. *Ці я ўпершыню сею, каб ты мяне вучыла? Маўчы от. Звяжашся з вамі — і потым спакою няма, усё не ў лад...* Хадкевіч.

*ЛАДАН* • **ДЫХАЦЬ НА ЛАДАН**. Гл. дыхаць.

*ЛАДАНУ* • **ЯК ЧОРТ АД ЛАДАНУ**. Гл. чорт.
**ЯК ЧОРТ ЛАДАНУ**. Гл. чорт.

*ЛАДАХ* • **НЕ Ў ЛАДА́Х**. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. *з кім.* У дрэнных, нацягнутых адносінах, у сварцы. *Бацька Уладзімер быў не ў ладах са старою, тоўстаю накшталт капы матушкаю...* Колас. *Тамаш з даўніх пор быў з братам не ў ладах.* Краўчанка.

**2**. *з чым.* У разладзе. *Не, дзеці, лепей я спяю. Хоць з граматою не ў ладах, але спяваю па складах.* Вітка.

*ЛАДУ* • **ДА ЛА́ДУ**. *Акал. Разм.* **1**. Грунтоўна, дакладна, талкова (гаварыць, сказаць, нагаварыць і пад.). — *Што ты, Саўка, бунтуеш? — строга звярнуўся да яго войт. — Кажы да ладу, калі з табой людзі гавораць.* Колас. *Даруйце ж мне, што я тут усякага глупства нагаварыла. І што да ладу і што не да ладу...* Лынькоў.

**2**. Дарэчы, якраз у патрэбны момант (рабіць, зрабіць што-н.). *Бацька не павярнуўся на яго ўваход, не падняў галавы, але пазнаў сына і зусім не да ладу цяпер запытаўся бадзёрым голасам: «Ну, як справы, малады чалавек? Адолеў марыніста?»* Быкаў.

**ДАХОДЗІЦЬ ДА ЛАДУ**. Гл. даходзіць.

**НЕ ДАБРАЦЬ ЛАДУ**. Гл. дабраць.

**НІ СКЛАДУ НІ ЛАДУ**. Гл. складу.

**У ЛАДУ́** <*з кім*>. *Акал. Разм.* Дружна, у поўнай згодзе (жыць, быць і пад.). **Сін**.: душа ў душу (у 1 знач.); звон у звон; на адну нагу (у 1 знач.); як песню пець. **Ант**.: на нажах *з кім;* як кот з сабакам. *[Нікан:] Насту аддаў замуж за добрага чалавека; жывуць, здаецца, хораша, у ладу — дай бог усяго добрага!* Каваль.

*ЛАДЫ* • **НА ЎСЁ ЛАДЫ́**. *Акал. Функц. не зам.* **1**. Вельмі падрабязна, грунтоўна, усебакова (гаварыць, разбіраць, тлумачыць і пад.). **Сін**.: на ўсе бакі. *Усё сяло гаманіла пра Максіма, разбірала яго справу на ўсе лады.* Колас. *Рыгор на ўсе лады камбінаваў розныя планы, якія б выклікалі набліжэнне жаданага моманту.* Гартны. *Грамада ўвесь час спрачалася паміж сабою, тлумачачы на ўсе лады, што гэта значыць...* Чарот. *І маладыя леснікі пачалі угаворваць, распісваючы на ўсе лады, якое гэта шчасце — адпачываць, жыць на пенсіі.* Шамякін.

**2**. Неаднолькава, па-рознаму (спяваць, свістаць і пад.). *Адзін Сымон хадзіў па пакоях ды толькі пасвістваў салаўём на ўсе лады.* Бядуля. *Зачырыкалі на ўсе лады птушкі.* Каваль. *Зашумеў лясны народ, загудзеў на ўсе лады.* Вітка. *І пяюць на ўсе лады гарыхвосткі і дразды.* Грахоўскі.

**3**. Вельмі моцна (хваліць, расхвальваць і пад.). **Сін**.: на ўсе застаўкі (у 3 знач.). *Хваліць хлопчыка малога гаспадар на ўсе лады.* Колас. *Старшыню на ўсе лады расхвальваюць.* Лобан. *Кароўку божую хваліў на ўсе лады Мядзведзь.* Э.Валасевіч.

**СКЛАНЯЦЦА НА ЎСЕ ЛАДЫ**. Гл. скланяцца.

*ЛАЖЫСЯ* • **ХО́ЦЬ ЛАЖЫ́СЯ (КЛАДЗІ́СЯ) І (ДЫ) ПАМІРА́Й**. *Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм.* Выказванне безнадзейнасці, немагчымасці зрабіць што-н., каб выйсці з крайне цяжкага становішча. **Сін**.: хоць галавой аб сцяну біся; хоць галавой у пятлю; хоць душой загавей; хоць <ты> вешайся; хоць <ты> галавой налажы; хоць <ты> жывы ў зямлю лезь; хоць <ты> у вір галавой; хоць у пятлю лезь; хоць у труну лажыся. *Вайна.., народ сам галадаць пачаў. Хоць кладзіся ды памірай.* Машара. *Што далі салдаты на дарозе — даелі. Цяпер хоць лажыся і памірай.* Асіпенка. *Хацелася піць. Так хацелася, што хоць лажыся і памірай.* Дамашэвіч.

**ХО́ЦЬ У ТРУНУ́ ЛАЖЫ́СЯ**. *Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм.* Выказванне безнадзейнасці, немагчымасці што-н. зрабіць, каб выйсці з крайне цяжкага становішча. **Сін**.: хоць галавой аб сцяну біся; хоць галавой у пятлю; хоць душой загавей; хоць лажыся і памірай; хоць <ты> вешайся; хоць <ты> галавой налажы; хоць <ты> жывы ў зямлю лезь; хоць <ты> у вір галавой; хоць у пятлю лезь. *Пры печах.. гарачынь.. жывым згарэць можна, аслепнуць... За 8 ці 10 гадзін ты прыйдзеш, дык хоць у труну лажыся...* Каваль.

**ЛАЖЫЦЦА НА ПАПЕРУ**. Гл. класціся.

**ЛАЖЫЦЦА НА ПЛЕЧЫ** *чые, каго, каму*. Гл. класціся.

*ЛАЖЫЦЦА* • **ЛАЖЫ́ЦЦА Ў МАГІ́ЛУ (У ТРУНУ́, У ДАМАВІ́НУ, У ЗЯМЕ́ЛЬКУ)**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паміраць. **Сін**.: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць на той свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць у іншы свет; адыходзіць (ісці) у лепшы свет; ажаніцца з <сырою> зямлёй; выпростваць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць <*каму*> (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага *збірацца*; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); канькі адкідаць; пайсці ў магілу; на паповы сані *збірацца*; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. **ЛЕГЧЫ Ў МАГІЛУ (У ТРУНУ, У ДАМАВІНУ, У ЗЯМЕЛЬКУ)**. *Зак. Дзве жонкі ўжо ляглі ў магілу...* Крапіва. *Кожны хацеў ведаць, хто астаўся ў яго жывы, хто не згубіўся ў ліхалецце, не лёг раней часу ў магілу, каго трэба абняць, прыгарнуць да грудзей, пацалаваць, а каго толькі ўспомніць добрым, але горкім словам...* Сачанка. *Па сэрцы разанула: яна ж праўду кажа — ёй жа чым жыць са мной, дык лепей у труну легчы.* Кусянкоў. *Пашукаў бы ты сабе, Мечык, якога занятку... А то зусім змарнееш, ды і я сама, не раўнуючы, раней часу ў дамавіну лягу.* Васілёнак. *Давай возьмем шлюб. Будзеш глядзець мяне да старасці. А лягу ў зямельку — усё тваё.* «ЛіМ».

*ЛАЗАРА* • **ЗАПЕЦЬ (ЗАСПЯВАЦЬ) ЛАЗАРА**. Гл. запець.

**ПЕЦЬ ЛАЗАРА**. Гл. пецъ.

*ЛАЗАТЫ* • **ЧОРТ ЛАЗАТЫ**. Гл. чорт.

*ЛАКМУСАВАЯ* • **ЛАКМУСАВАЯ ПАПЕРКА**. Гл. паперка.

*ЛАМАННЕ* • **ЛАМА́ННЕ ГАЛАВЫ́**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Напружаная спроба вырашыць, зразумець, разгадаць што-н. *Што датычыцца таго, як пракарміць сям'ю, то гэта сапраўды рэальнае ламанне галавы, часам сорам і ганьба, калі і жыць не хочацца.* Тармола-Мірскі.

**ЛАМА́ННЕ ХРЫБТА́** *каму, чаму. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Бязлітасная расправа з кім-н. ці чым-н.

**ЛАМА́ННЕ ША́ПАК**. *Мн. не ўжыв. Дзейн. і дап. Разм. Неадабр.* Уніжэнне, лісլівасць перад кім-н., паддобрыванне пад каго-н. *Адкуль жа пайшла гэта фраза, у чым сутнасць гэтага ламання шапак? У старыя часы рабочы ці селянін, калі звяртаўся з якой-небудзь просьбай да таго ці іншага начальніка, нават самага невялікага, павінен быў стаяць перад ім з непакрытай галавой... У гэты час мог ісці дождж, або сыпаць снег, або лютаваць мароз. Прасіцель павінен быў выстойваць без шапкі.* Лынькоў.

*ЛАМАЦЦА* • **ЛАМА́ЦЦА Ў АДЧЫ́НЕНЫЯ ДЗВЕ́РЫ**. *Функц. не зам. Незак.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Настойліва сцвярджаць, даказваць тое, што даўно ўсім вядома і не выклікае пярэчання. **Сін.**: адмыкаць адамкнёныя дзверы. *Існуе ў мастацкай творчасці пачуццё меры, такту. Калі выйсці за межы гэтай меры, можна ўпасці ў назойлівасць, калі аўтар, калі так можна сказаць, ломіцца ў адчыненыя дзверы.* Лынькоў. *Незасвоенае багацце — тое ж убоства. Брыль адчувае гэтую вельмі каварную праблему цяперашняга веку і імкнецца затрымаць наш неўтаймоўны бег, крычыць нам, што мы шукаем знойдзенае, ломімся ў адчыненыя дзверы.* «ЛіМ».

**ЛАМА́ЦЦА ЦЕ́РАЗ (ПРАЗ) КАЛЕ́НА**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Рашуча адхіляцца, адкідацца.

*ЛАМАЦЬ* • **ЛАМА́ЦЬ ДРО́ВЫ**. *Незак. Прост. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рабіць грубыя памылкі. **Сін.**: перагінаць палку <*у чым*>; хапаць цераз край. *Чым больш наша.. камісія разблытвала клубок узаемных абвінавачванняў, тым больш пераконваліся мы, што правых у канфлікце няма. Як кажуць, усе ламалі дровы.* «Настаўн. газ.» *Астаповіч падтрымлівае Кузю, хоць аграном па маладосці сваёй часам ламае дровы.* Шамякін. *Ах, крытык, крытык адмысловы, дарэмна ты ламаеш дровы!* «ЛіМ».

**ЛАМА́ЦЬ КАМЕ́ДЫЮ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прыкідвацца перад кім-н., крывадушнічаць. **Сін.**: крывіць душой <*перад кім, перад чым, для каго*>; разыгрываць камедыю. *У іншы час з такім брыдкім тыпам Вільгельм Кубэ не схацеў бы па адной вуліцы прайсці. А тут руку мусіць падаваць і ламаць камедыю, быццам прыслухоўваецца да думкі гэтай бруднай барады...* Новікаў. *Ацяжэлыя, налітыя чырванню, нейкай вар'яцкай тупасцю вочы ўставіліся на Ягора. — Кінь ламаць камедыю, — ужо і не патрабавалі, ужо, здаецца, прасілі гэтыя вочы.* Карамазаў. *Кінь камедыю ламаць, Паланейчык, кажу табе як таварыш.* Дамашэвіч.

**ЛАМА́ЦЬ КО́П'І (ШПА́ГІ)** *з-за каго, за што, з якой прычыны. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Горача спрачацца, даказваць, змагаючыся за што-н., адстойваючы чые-н. інтарэсы. **Сін.**: скрыжоўваць мячы <*з кім*>. *А тут, як мне здаецца, вы залішне, бацечка мой, ломіце коп'і.* Даніленка. *Што б ні казалі пра прыход нейкага «аўтарскага» тэатра на змену «рэжысёрскаму», як бы ні стараліся суп-*

*рацьпаставіць рэжысёра акцёру або гледачу, усё гэта — словы. Калі на пачатку стагоддзя такія дыскусіі былі натуральнымі, то сёння назіраць, як салідныя людзі ломяць коп'і з гэтай прычыны, дзіўна.* «ЛіМ». *Сёння мы з ёй [Верай Іванаўнай] паразумеемся. Сёння яна добрая, калі параіла вам мяне. Раней мы ламалі шпагі. Помніш, Юрый Іванавіч?* Шамякін.

**ЛАМА́ЦЬ ПРАЗ (ЦЕ́РАЗ) КАЛЕ́НА** *што. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рашуча адхіляць, адкідаць што-н. — *Камандзір, нельга так адразу ламаць праз калена.. — нарэшце не вытрымаў Шпакоўскі. — Табе з намі служыць, а служыць трэба дружна...* Блакіт. *Эканамічныя законы трэба захоўваць, а не ламаць цераз калена.* «Звязда».

**ЛАМА́ЦЬ <САБЕ́> ГАЛАВУ́ (ГАЛО́ВЫ)** *над чым. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Напружана думаць, задумвацца, стараючыся зразумець, разгадаць што-н. **Сін.**: круціць мазгі *каму* (у 3 знач.); сушыць галаву (у 1 знач.). *Дзянісаў бацька загадзя ламаў галаву над цяжкай геаметрычнай задачай: як гэта будзе падзяліць адну дзесяціну зямлі на чатырох сыноў, каб усім хапіла.* Крапіва. *Лепшыя работнікі нашых следчых органаў ламалі галовы над усёй гэтай справай і не маглі знайсці канцоў і пачаткаў.* Чорны. *Грышка ламаў сабе галаву і не мог здагадацца, у чым справа.* Пестрак.

**ЛАМА́ЦЬ <САБЕ́, СВАЕ́> РУ́КІ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даходзіць да адчаю, узрушэння (ад вялікага гора). **Сін.**: кусаць <сабе> локці; кусаць сябе за локці; пасыпаць галаву попелам; рваць на сабе валасы. — *Што ж гэта будзе?.. — ламала сабе рукі маладзіца.* Ніканові̇ч. *Ой, ламалі свае рукі стары са старою: — Налажылась наша донька за ўсіх галавою!* Купала. *Здохла гнедая кабыла. Ломіць рукі гаспадар, енчыць, вохкае Макар.* Трус. *Ломіць рукі арганісты, тужыць, вохкае бядак.* Колас.

**ЛАМА́ЦЬ ХРЫБЕ́Т** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Наносіць рашучы ўдар, перамагаць (праціўніка). **Сін.**: заганяць у казіны рог *каго. Лявон Васільевіч даўно ўпэўніўся, што Рэпікаў нялёгкі арэшак, а Мяжэнны біты воўк. З імі толькі счапіся. Але Данілаў не такім хрыбты ламаў.* Гроднеў. **ЗЛАМАЦЬ ХРЫБЕТ** *каму. Зак. Разгаралася вялікая бітва на Волзе. Тут наша армія зламала хрыбет фашысцкаму зверу і пагнала яго на захад.* Левановіч. *А ў вайну ці лёгенька даводзілася? Падумаць толькі — такі звер люты.., а от ўзяліся дружна і зламалі яму хрыбет.* Цяжкі.

**ЛАМА́ЦЬ ША́ПКУ** *перад кім. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Уніжацца, ліслівіць перад кім-н., паддобрывацца пад каго-н. **Сін.**: віляць хвастом (у 2 знач.); гнуцца ў дугу <перад кім>; гнуцца ў тры пагібелі *перад кім;* гнуць спіну *перад кім;* лізаць боты *каму;* падаць лістам *перад кім;* падпускаць лёстачкі *каму;* поўзаць на каленях *перад кім;* рассыпацца драбней маку *перад кім;* рассыпацца <дробным> макам *перад кім;* слацца лістам *перад кім;* станавіцца на заднія лапы *перад кім*; хадзіць на задніх лапках *перад кім;* хадзіць на пальчыках *перад кім. Броніс марыў пра іншае — каб мець свой уласны двор, сваіх кароў, свіней, багатую жонку, сваё ўласнае багацце, каб не ён зайздросціў, а каб яму зайздросцілі, каб не ён ламаў перад імі шапку, а каб перад ім ламалі.* Арабей. *Мо былі тут якія другія прычыны, мо проста пан Зыгмунт быў смелы на тых, хто пакорліва ламаў перад ім шапку.* Лынькоў.

*ЛАНЦУГА* • **ЯК З ЛАНЦУГА САРВАЎСЯ**. Гл. сарваўся.

**ЯК З ЛАНЦУГА САРВАЎШЫСЯ**. Гл. сарваўшыся.

*ЛАНЦУГУ* • **<І> НА ЛАНЦУГУ НЕ ЗАЦЯГНЕШ** *каго куды.* Гл. зацягнеш.

*ЛАП* • **З ЛА́П** *чыіх, каго вырваць, вырвацца* і пад. *Акал. Прост. З-пад чыёй-н. улады, залежнасці.* **Сін.**: з кіпцюроў *чыіх, каго;* з рук *чыіх, каго. А помніш, Самок, як лоўка вырвалі мы батальён таварыша Шалёхіна з польскіх лап і пераправілі на той бок?* Колас. *[Язва:] Знайшоўся высакародны юнак, цудоўны паэт, які сілаю свайго натхнёнага слова вырваў няшчаснае стварэнне з лап гэтага агіднага павука.* Крапіва.

*ЛАПАЙ* • **ЯК КУРЫЦА ЛАПАЙ <ГРАБЕ>**. Гл. курыца.

*ЛАПАТАЙ* • **ГРЭБЦІ ЛАПАТАЙ** *грошы.* Гл. грэбці.

*ЛАПАТКІ* • **ВА (НА) ЎСЕ́ ЛАПА́ТКІ.** *Акал. Разм.* **1.** Вельмі хутка (бегчы, імчацца і пад.). **Сін.**: без аглядкі (у 1 знач.); без духу *бегчы;* без душы *бегчы;* без памяці (у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.); з усіх ног; колькі <было> духу; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на адным дыханні (у 1 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўвесь мах; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у 2 знач.); на ўсе ногі; на ўсіх парах; на ўсіх парусах; на ўсю моц (у 2 знач.); чуй дух; што ёсць духу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 2 знач.); як дуж; як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як мага (у 1 знач.); як на крыллях; як на пажар; як падсмалены. **Ант.**: як чарапаха. *Абрыцкі прэ ва ўсе лапаткі, бяжыць, як можа, без аглядкі, але Пшавара даганяе, у ход дугу сваю пускае.* Колас. *Азірнуліся і ўбачылі Нонку, якая ва ўсе лапаткі лупіла ў бок бульвара.* Караткевіч.

**2.** З вялікім напружаннем (рабіць што-н.). **Сін.**: аж пуп трашчыць; высалапіўшы язык (у 3 знач.); з апошніх сіл; з апошняга; з усёй сілы (у 1 знач.); з усіх жыл (у 1 знач.); з усіх чатырох (у 2 знач.); колькі <было> сілы (у 1 знач.); на поўную сілу (у 1 знач.); на ўсю моц (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 1 знач.). *[Нодэльман:] Тэхнікай авалодаеш? [Карнейчык:] Бяру ва ўсе лапаткі. Хачу галоўнага інжынера дагнаць і перагнаць.* Крапіва. *[На пяцідзесяці сотках саду-агарода] аднаму работніку сям'і — работы на ўсё лета во так во!.. І то трэба на ўсе лапаткі завіхацца, каб управіцца.* Дуброўскі. *[Хлопцы] выкапалі сваю норму лёгка. Толя ж Крывецкі, хоць і стараўся на ўсе лапаткі, ледзь даплёўся да канца радка.* Прыгодзіч.

**КЛАСЦІ НА <АБЕДЗВЕ> ЛАПАТКІ** *каго, што.* Гл. класці.

*ЛАПАХ* • *Быць, знаходзіцца* і пад. **У ЛА́ПАХ** *каго, чыіх. Акал. Разм.* У поўнай залежнасці, пад пагрозай кары. **Сін.**: пад абцасам *чыім, каго, у каго;* пад ботам *чыім, каго, у каго* (у 1 знач.); пад каўпаком *каго, у каго;* пад пятой *у каго, чыёй, каго, чаго* (у 1 знач.); у кіпцюрах *чыіх, каго;* у кулаку; у руках *чыіх, каго, у каго* (у 1 знач.). *З ліку рабочых завода апынуліся ў лапах паліцыі да дваццаці чалавек.* Гартны. *[Даніла:] У лапах вашага сына знаходзяцца тры мае партызаны. Іх чакае расстрэл.* Крапіва.

*ЛАПАЦЕ* • **УСЯКАГА ЖЫТА ПА ЛАПАЦЕ** *дзе.* Гл. жыта.

*ЛАПАЦЬ* • **ЗВАНІЦЬ У <РАЗБІТЫ> ЛАПАЦЬ**. Гл. званіць.

*ЛАПКАХ* • **ХАДЗІЦЬ НА ЗАДНІХ ЛАПКАХ** *перад кім.* Гл. хадзіць.

*ЛАПКІ* • **ГУСІ́НЫЯ ЛА́ПКІ**. *Адз. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* **1.** Травяністая расліна сямейства ружакветных са складкаватымі лістамі; гусялапка (alchemilla L.). *На той частцы, што яшчэ заставалася над вадою, спяшаліся дацвісці гусіныя лапкі і жоўты падбел.* Караткевіч.

**2.** Веерападобныя маршчынкі (каля вока). *Сядзела звычайная жанчына ў гадах, і гэтыя няўмольныя гады значыліся і на руках, што, відно было, перарабілі нямала рознае ра-*

*боты, і на твары з прыкметнымі ўжо добра «гусінымі лапкамі» каля вачэй, хоць і былі яны падведзены спраўнай рукой санаторнай касметыкі.* Васілевіч.

**<І> ЛА́ПКІ ЎГО́РУ.** *Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прызнаваць сябе пераможаным, здавацца (праціўніку). **Сін.**: складваць зброю (у 1 знач.); схіляць галаву (у 1 знач.); станавіцца на калені *перад кім. Іншага гада прыціснеш — ён і лапкі ўгору... А гэты — упарты д'ябал, страляў, пакуль я з яго рук аўтамат не выбіў.* Мік. Ткачоў. *[Перагуд:] Не баішся?.. [Бондараў:] А калі баяцца, дык і ваяваць няма чаго. Тады кладзіся — і лапкі ўгору. Няхай фашыст робіць з табой, што сам хоча.* Крапіва.

**СТАНАВІЦЦА НА ЗАДНІЯ ЛАПКІ** *перад кім.* Гл. станавіцца.

*ЛАПУ* • **НАКЛАДВАЦЬ ЛАПУ**. Гл. накладваць.

**СМАКТАЦЬ ЛАПУ**. Гл. смактаць.

**У ЛА́ПУ** <u>даць, браць, атрымаць.</u> *Дап. Разм. Неадабр.* Хабар, звычайна грашовы. **Сін.**: куку ў руку. *А няхай ты праваліся! — Вось парадкі завяліся: дзе ні сунься — так і знай — ўсюды ў лапу дай ды дай.* Крапіва. *Тут не пачуеш слоў «браток», «таварыш», а толькі «дзе дастаў?» і «колькі ў лапу даў?»* Панчанка. *— Сярод інспектараў таксама людзі бываюць! — Ты маеш на ўвазе тых, што бяруць у лапу?.. — Эт, завёў! — паморшчыўся Цапок. — У лапу... У лапу!.. Думаеш, усе хапуны-лапуны!* Макарэвіч. *«Нельга, нельга!» — замахаў рукамі ён [швейцар]. Але быў не такі ўжо і горды, бо, атрымаўшы ў лапу колькі злотых, стаў ласкавейшы, нават паказаў дзверы прыёмнага пакоя.* Аношкін.

*ЛАПЦЕМ* • **СЁРБАЦЬ ЛАПЦЕМ БОРШЧ**. Гл. сёрбаць.

<u>Ляпнуць</u> **ЯК ЛА́ПЦЕМ (ЛАПЦЯ́МІ) ПА ЦЫМБА́ЛАХ.** *Акал. Разм. Неадабр.* Вельмі недарэчна і нетактоўна. **Сін.**: як лапцем па балоце. *Брахун ты!.. Менціш вот цэлы вечар попусту языком. Ляпаеш як лапцем па цымбалах!* Далідовіч. *Ціхан глянуў на сына, паківаў галавой: «Ляпнуў языком як лапцем па цымбалах... Ці так можна пры людзях?»* Воранаў. *Жонка парася смажанага падсоўвае. А нехта вазьмі дый ляпні як лапцямі па цымбалах: такому, маўляў, шампанскае толькі парасём і заядаць! І што вы думаеце? Як ветрам здзьмула...* «ЛіМ».

<u>Ляпнуць</u> **ЯК ЛА́ПЦЕМ ПА БАЛО́ЦЕ.** *Акал. Разм. Неадабр.* Вельмі недарэчна, нетактоўна (сказаць што-н.). **Сін.**: *ляпнуць* як лапцем па цымбалах. *— Ну до, дзеўкі, до! — узялася наводзіць мір Варка. — Вечна быля-што ляпнеш як лапцем па балоце, тады сядзім совамі.* Кажадуб. [*Лепешаў*, с. 88: ляпнуць як лапцем па балоце.]

*ЛАПЦІ* • **АБУВАЦЬ У ЛАПЦІ** *каго.* Гл. абуваць.

**АБУЦЬ <СВАЁ> СЭРЦА Ў ЛАПЦІ**. Гл. абуць.

**ПЛЕСЦІ ЛАПЦІ**. Гл. плесці.

*ЛАПЦЯМІ* • **ПЛЕСЦІ КАШАЛІ З ЛАПЦЯМІ**. Гл. плесці.

*ЛАПШУ* • **ВЕШАЦЬ ЛАПШУ <НА ВУШЫ>** *каму.* Гл. вешаць.

*ЛАПШЫ* • **НАВЕШВАННЕ ЛАПШЫ НА ВУШЫ** *каму.* Гл. навешванне.

*ЛАПЫ* • **ПАПАДАЦЬ У ЛАПЫ** *каго, каму, да каго.* Гл. пападаць.

*ЛАСКА* • **КАЛІ́ ЛА́СКА.** *Функц. не зам.* **1.** *У знач. пабочн. сл.* Зварот для выражэння ветлівай просьбы, пабуджэння. Прашу вас. **Сін.**: будзь добры; будзь ласкаў; зрабі ласку. *— Заходзьце ў хату, калі ласка, бо ўжо гатова і папаска, — гасцей Хадыка сустракае і на сняданне заклікае.* Колас. *Паклічце, калі ласка, вунь таго брунеціка, што без шапкі, што пазаўчора капаў бульбу ў Вінараў...* Брыль.

2. *У знач. сцвярдж. часціцы.* Ужыв. для выражэння ветлівай згоды. Так, канечне. *[Нічыпар:] Можна мне глянуць на гэту костку? [Левановіч:] Калі ласка.* Крапіва. *[Грамовіч:] Ганна Паўлаўна! Што я ў вас хацеў спытацца... [Ганна Паўлаўна:] Калі ласка, таварыш Грамовіч!* Шынклер.

**СКАЖЫ КАЛІ ЛАСКА**! Гл. скажы.

*ЛАСКАВАЕ* • **ЛАСКАВАЕ ЦЯЛЯ**. Гл. цяля.

*ЛАСКАВЫМ* • **НА ЛАСКАВЫМ ХЛЕБЕ**. Гл. хлебе.

*ЛАСКАЎ* • **БУДЗЬ ЛАСКАЎ**. Гл. будзь.

*ЛАСКІ* • **З БО́ЖАЙ ЛА́СКІ**. *У знач. прэдык. азн. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. чалавека па прафесіі. Прыроджаны, сапраўдны, таленавіты, з выключнымі здольнасцямі. **Сін.**: божай міласцю. *— Янка Купала — гэта беларускі паэт, — тлумачыў Кастусь. — Паэт з божай ласкі, талент незвычайны.* С.Александровіч. *Ці ты музыка з ласкі божай і для цябе твой дар — твой крыж, ці — дзеля сытасці і грошай людзей забаўкамі чмурыш?* Гілевіч.

**З ЛА́СКІ** *каго, чыёй. Акал. Разм.* **1**. Праз каго-н., па чыёй-н. віне (адбылося, здарылася што-н.). **Сін.**: праз ласку *чыю. Ты вось не падумаў, відаць, а з якой прычыны загінуў Стары? З чые гэта ласкі загінулі і другія людзі?* Лынькоў. *Знік пачатак маёй казкі. А з чые нядобрай ласкі?* Вітка.

**2**. Дзякуючы каму-, чаму-н. *Бедныя каласкі пільна прыглядаюцца да Хмаркі. Калі-нікалі іх ажыўляе надзея ўздужаць з ласкі шчодрай Хмаркі.* Колас. *[Шуфт:] Што вы цяпер робіце? [Гудовіч:] З ласкі пана лейтэнанта і яго фюрэра я цяпер адпачываю.* Крапіва.

**З ЛА́СКІ НА ПАЦЕ́ХУ**. *Акал. Разм.* Без усякай прычыны, без пэўнага намеру (рабіць, зрабіць што-н.). **Сін.**: без дай рады; без нічога ніякага (у 3 знач.); без усякага-якага; за будзь здароў (у 1 знач.); за пусты мех <а ў мяху смех>; за так (у 2 знач.); не знай не ведай; ні з таго ні з сяго; ні з чаго ні з якага; ні села ні пала; так сабе (у 1 знач.). *А той, маладзейшы, у сытай вясёласці ад лёгкага жыцця, сцебануў з ласкі на пацеху лапавухага па азадку ды гукнуў кпліва на Саўку: — Эй, гвардзеец!* Чорны. *Цяпер Іваніцкаму, мусіць, спатрэбілася параіцца з Няслӑўскім, з ласкі на пацеху не было б чаго марнаваць дарэмна час, а мо і яшчэ што.* Мурашка. *Дружбаку я рады даць сваю параду не для злога смеху — з ласкі на пацеху.* Сушко.

**З ЯКО́Й ЛА́СКІ**. *Акал. Разм. Незадав. Часцей ужыв. у пытальных ск.* Чаму? *— Хачу прасіць, каб вы санкцыяніравалі? — З якой ласкі? Ты што, з неба зваліўся? Парадку не ведаеш?* Карпаў. *Так і так, кажу маме: дай грошы! «А з якой гэта ласкі?» — пытаецца мама.* Якімовіч. *З якой гэта ласкі табе не дае спакою Сурміла?* Блакіт.

**НІ ГНЕВУ НІ ЛАСКІ** *ў каго.* Гл. гневу.

*ЛАСКУ* • **ДЗЯКУЙ ЗА ЛАСКУ**. Гл. дзякуй.

**ЗРАБІ ЛАСКУ**. Гл. зрабі.

**МЕЦЬ ЛАСКУ**. Гл. мець.

**ПРАЗ ЛА́СКУ** *чыю. Акал. Разм. З-за каго-н., па чыёй-н. віне (адбылося, здарылася што-н.).* **Сін.**: з ласкі *каго, чыёй* (у 1 знач.). *Думаеце, Юстын Корч не праз яго ласку ў Сібір угадзіў? Ого-о!* Гартны. *Рэдка так здараецца, каб людзі елі папоўніцы варанае, печанае, смажанае, мяса, кілбасы, пірагі ды праклінalі таго, праз чыю ласку яны гэта робяць.* Крапіва.

*ЛАСТАЎКА* • **ПЕ́РШАЯ ЛА́СТАЎКА**. *Адз. і мн. Часцей вык. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. **1.** Самы першы сярод падобных, такіх жа. *Вайна праглынула настаўнікаў, якімі некалі ганарылася Біязінская школа, эвакуіраваныя ў гэтую глушэчу не даехалі, вось і... Але ёсць і першая ластаўка...* Грахоўскі. *Першай ластаўкай была кніга «Беларускі фальклор у сучасных запісах»...* «ЛіМ».
**2.** *чаго.* Самыя ранні, самыя першыя прыкметы з'яўлення, набліжэння чаго-н. *Усюды, дзе ў першыя пасля вайны гады бываў Высоцкі, паказвалі новыя кароўнікі, цялятнікі, канюшні, свінарнікі. Гэта былі нібы першыя ластаўкі мірнага жыцця.* Навуменка. *І вось напрадвесні сорак другога года прыбітую і сумную з выгляду зняволеную зямлю і тут прарвала помстай... Людзі з палёгкай адчулі, што і тут, у Наднямонні, паказаліся, нарэшце, першыя ластаўкі роднай вясны.* Брыль.

*ЛАТАТЫ* • **ДАВАЦЬ ЛАТАТЫ**. Гл. даваць.

*ЛАЎКАЙ* • **ЗНАЙШОЎ ТАПОР ПАД ЛАЎКАЙ**. Гл. знайшоў.
**СЯКЕРА ПАД ЛАЎКАЙ**. Гл. сякера.

*ЛАЎКІ* • **І ПЕЧКІ І ЛАЎКІ**. Гл. печкі.

*ЛАЎРАХ* • **СПАЧЫВАЦЬ НА ЛАЎРАХ**. Гл. спачываць.

*ЛАЎРЫ* • **ЛА́ЎРЫ СПА́ЦЬ НЕ ДАЮ́ЦЬ** *каго, чые каму. Убезас. ужыв. Функц. не зам. Неадабр.* Хто-н. вельмі зайздросціць чыйму-н. поспеху. *Відаць, лаўры Банапарта не даюць спаць Карнілаву і чарнасоценнаму афіцэрству...* Гурскі. *— Табе што, брыгадзіравы лаўры спаць не даюць? — спыталі ў Антона аднойчы.* «Настаўн. газ.»
**ПАЖЫНАЦЬ ЛАЎРЫ**. Гл. пажынаць.

*ЛАХІ* • **ЛА́ХІ ПАД ПА́ХІ**. *У ролі дзеясл. вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, перад аднародным вык. пры перадачы хуткай змены падзей. Схапіць з сабой свае манаткі. **Сін.**: шапку ў ахапку; шаркі на баркі; шашкі ў мяшкі. *[Якім:] Ты аконца адчыніш, лахі пад пахі ды скакель з хаты ў сад, як пятух!* Купала. *Зараз лахі пад пахі і дадому — канец маёй работы тут.* Чорны. *Ну, мы, доўга не думаючы, лахі пад пахі ды ходу.* Лынькоў.
**ЛА́ХІ ПАД ПА́ХІ** <u>браць (узяць), сабраць, схапіць, прыхапіць</u> і пад. *Дап. Разм.* Свае пажыткі з сабой (браць, сабраць і пад. перад адыходам, ад'ездам, уцёкам). **Сін.**: шашкі ў мяшкі *браць. Вазьму лахі пад пахі — маёмасць мая невялікая — ды пайду шукаць шчасця на свеце.* Колас. *— Усё ж такі прыйдзецца ўзяць лахі пад пахі і дзе-небудзь схавацца ад сарок усяго свету, — сказаў Дзіда-дзед і адразу пачаў выбіраць з сваіх манаткаў самае каштоўнае, лёгкое і патрэбнае ў дарогу.* Бядуля. *Князеву што? Збярэ лахі пад пахі і ходу.* Навуменка.

*ЛБЕ* • **ЗАПІСАЦЬ НА ЛБЕ**. Гл. запісаць.
**НАБІВАЦЬ САБЕ ГУЗ НА ЛБЕ**. Гл. набіваць.
**НА ЛБЕ НЕ НАПІСАНА** *у каго.* Гл. напісана.
**СЯМІ ПЯДЗЯЎ У ЛБЕ**. Гл. пядзяў.
**ШТО Ў ЛОБ ШТО ПА ЛБЕ**. Гл. лоб.

*ЛБОМ* • **ЛБОМ СЦЯНУ ПРАБІВАЦЬ**. Гл. прабіваць.

*ЛЕБЯДЗІНАЯ* • **ЛЕБЯДЗІНАЯ ПЕСНЯ** *чыя, каго.* Гл. песня.

*ЛЕВАЙ* • **НЕ ЛЕВАЙ НАГОЙ СМАРКАЦЦА**. Гл. смаркацца.
**ПА ЛЕВАЙ РУЦЭ**. Гл. руку.
**УСТАЦЬ З ЛЕВАЙ НАГІ**. Гл. устаць.

**ЯК БОТ <З ЛЕВАЙ НАГІ>**. Гл. бот.

*ЛЕВАЯ* • **ЯК ХОЧА ЛЕВАЯ НАГА** *каго, чыя*. Гл. нага.

*ЛЕВУЮ* • **ПА ЛЕВУЮ РУКУ**. Гл. руку.

*ЛЕВЫМ* • **ЕЗДЗІЦЬ ПА ЛЕВЫМ БАКУ**. Гл. ездзіць.

*ЛЕГІЁН* • **ІМЯ** *каму, чаму* **ЛЕГІЁН**. Гл. імя.

*ЛЕГЧЫ* • **ЛЕ́ГЧЫ (ЗАЛЕ́ГЧЫ) НА ДНО́**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прытаіўшыся, не рабіць ніякіх дзеянняў. *Нам трэба на пару тыдняў легчы на дно, перачакаць, а як міліцэйскі шмон на дарогах сціхне, уцячы за мяжу.* Праўдзін. *— Мне трэба падумаць... — Канечне, падумай, толькі нядоўга, мне сёння трэба ведаць, дзе залёг на дно Гушча.* «Маладосць».

**ЛЕ́ГЧЫ КАСЦЬМІ́ (КАСЦЯ́МІ)**. *Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Загінуць у баі. **Сін**.: загрымець касцямі (у 1 знач.); злажыць <свае> косці; знайсці сабе магілу *дзе;* класці галаву *за каго, за што, дзе;* легчы трупам; ляжаць у <сырой> зямлі; навярнуць галавой; накладаць галавой; памінай як звалі (у 1 знач.); парыць зямлю; парыць косці *дзе;* парыць у зямлі косці; спаць вечным сном; спаць у сырой зямлі; яму засквары́ць. *Два атрады было ў нас. Ты знаеш сама — лёг адзін з іх касцьмі, камандзіра няма.* Куляшоў. *Счапіўся з гадам хіленькі пінчук і лёг касцьмі не прапусціўшы немца!* Лось. *Будзь ён [Каліноўскі] ад вёскі далёка-далёка, — прымчыцца суровы і смелы, як сокал: зазвоніць клінкамі, паб'е капытамі, — і ворагі лягуць на доле касцямі.* Броўка.

**2**. Старацца з усіх сіл зрабіць што-н. **Сін**.: легчы крыжам. *Горад гэты стаў блізкім і дарагім, і яму не абыякава, як ён будзе забудоўвацца.., куды будзе расці і што захавае з таго, што цяпер люба яму, галоўнаму архітэктару. Не, нават не архітэктару — проста грамадзяніну, гараджаніну. За дуброву ў Белым Беразе ён касцьмі ляжа.* Шамякін.

**ЛЕ́ГЧЫ КРЫ́ЖАМ**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Старацца з усіх сіл зрабіць што-н. **Сін**.: легчы касцьмі (у 2 знач.). *Для мяне ў яго рука не паднялася, каб.. скажам, прагрэсіўку падпісаць за скляпок... Не захацела... Каб яна яму адсохла, яго рука... Так я яму і лягу цяпер крыжам... Я чакаў прагрэсіўку, і ён хай пачакае...* Пташнікаў. *У яго самога будуць дзеці. І хопіць таго, што гатовы крыжам легчы, каб толькі не дазволіць ім вось так гібець на свеце.* Карпаў.

**ЛЕГЧЫ НА ПАПЕРУ**. *Зак. да* **КЛАСЦІСЯ НА ПАПЕРУ**.

**ЛЕГЧЫ НА ПЛЕЧЫ** *чые, каго, каму. Зак. да* **КЛАСЦІСЯ НА ПЛЕЧЫ** *чые, каго, каму.*

**ЛЕ́ГЧЫ ТРУ́ПАМ**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Загінуць. Часцей пры выказванні гатоўнасці рашуча адстойваць што-н. **Сін**.: загрымець касцямі (у 1 знач.); злажыць <свае> косці; знайсці сабе магілу *дзе;* класці галаву *за каго, за што дзе;* легчы касцьмі (у 1 знач.); ляжаць у <сырой> зямлі; навярнуць галавой; накладаць галавой; памінай як звалі (у 1 знач.); парыць зямлю; парыць *косці дзе;* парыць у зямлі косці; спаць вечным сном; спаць у сырой зямлі; яму засквары́ць. *[Аканом:] Я трупам лягу, а яна будзе маёю!..* Галубок. *[Гудовіч:] Ты, неразумная, хочаш стаць мне на дарозе ў самы адказны момант майго жыцця? [Броня:] Я не толькі стану — трупам лягу, а выратую вас.* Крапіва.

**ЛЕГЧЫ Ў МАГІЛУ**. *Зак. да* **ЛАЖЫЦЦА Ў МАГІЛУ**.

*ЛЕДЗЬ* • **ЛЕДЗЬ ДУША Ў ЦЕЛЕ** *у каго*. Гл. душа.

**ЛЕДЗЬ ДЫХАЦЬ**. Гл. дыхаць.
**ЛЕДЗЬ ЗОЛАК**. Гл. золак.
**ЛЕДЗЬ НОГІ ЦЯГАЦЬ**. Гл. цягаць.
**ЛЕДЗЬ СТАЯЦЬ НА НАГАХ**. Гл. стаяць.
**ЛЕДЗЬ ШОРЫ ЦЯГАЦЬ**. Гл. цягаць.

*ЛЕДЗЯНЕЕ* • **КРОЎ ЛЕДЗЯНЕЕ** *ў каго*. Гл. кроў.
**СЭРЦА ЛЕДЗЯНЕЕ** *ў каго*. Гл. сэрца.

*ЛЕДЗЯНІЦЬ* • **ЛЕДЗЯНІ́ЦЬ КРО́Ў** *чыю. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн са знач. абстр. прадмета. Выклікаць у каго-н. жах, здранцвенне. **Сін**.: ледзяніць кроў у жылах *чыіх*; ледзяніць сэрца *чыё, каго. Выбухі адзін за адным рызрывалі паветра. Жудасны роў матораў рэзаў сэрцы і ледзяніў кроў*. Дамашэвіч.

**ЛЕДЗЯНІ́ЦЬ КРО́Ў У ЖЫЛАХ** *чыіх. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Выклікаць у каго-н. жах, здранцвенне. **Сін**.: ледзяніць кроў *чыю*; ледзяніць сэрца *чыё, каго. Жорж Граеўскі... Адно імя ледзяніць кроў у іхніх жылах, і сціскаліся ў жудасным страху хамскія сэрцы*. Лынькоў.

**ЛЕДЗЯНІ́ЦЬ СЭ́РЦА (ДУШУ́)** *чыё, каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Выклікаць у каго-н. жах, здранцвенне. **Сін**.: ледзяніць кроў *чыю*; ледзяніць кроў у жылах *чыіх. Гэтая думка палохала, ледзяніла сэрца, страшна было думаць аб тым, што будзе пасля шлюбу*. Нёманскі. *Думкі, адна страшнейшая за другую, ледзянілі душу*. Сіняўскі.

*ЛЕЗЕ* • **З ГО́РЛА ЛЕ́ЗЕ (ЛЕ́ЗЛА, ВА́ЛІЦЦА, ВАЛІ́ЛАСЯ)** *у каго. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Празмерна многа чаго-н. у каго-н. **Сін**.: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу *<чаго>;* валіцца цераз горла *ў каго;* вышэй вушэй *чаго;* вышэй галавы *чаго;* да гібелі *каго, чаго;* дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго;* да халеры *каго, чаго;* да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла прэ *ў каго; імя каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 1 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго;* не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго;* не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго;* па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго;* у кожнай кішэні па жмені *каго;* хоць адбаўляй *каго, чаго;* хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым;* хоць заваліся *чаго;* хоць заліся *чаго;* <хоць> плот гарадзі *кім, каго;* хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго;* цьма цьмушчая *каго, чаго;* цэлы воз *каго, чаго;* чортава гібель *каго, чаго;* чортава процьма *каго, чаго;* чорт што *чаго;* як бобу *каго;* як гразі *каго, чаго;* як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. Сяды-тады тэматыка набірала класавай вастрыні: «З горла лезе.., а на чужое ўсё роўна гонішся!»*.. Брыль. *Ежы Квяткоўскі.. у пасаг за Праксэдай даў нейкую здыхляціну-цялічку, хоць у самога лезла з горла і зямлі, і гавяды, і ўсяго*. Сабаленка. *З горла мо валіцца [у Казіка] — больш чым па дзвесце рублёў у месяц зарабляе...* Місько.

**НЕ ЛЕ́ЗЕ (НЕ ІДЗЕ́) У РО́Т (У ГО́РЛА); НЕ ЛЕ́ЗЛА (НЕ ІШЛО́) У РО́Т (У ГО́РЛА)**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн., які абазначае назвы ежы. Не есца. Пра нежаданне есці ад стомы, перажывання і пад. **Сін**.: станавіцца калом у горле. *Уцяміла, нарэшце, Марыська, куды яно хіліцца. І рукі закалаціліся, і яда тая ў рот не лезе*. Крапіва. *Кава-*

*лак гэты шчыра запрацоўваў Казік і ў айчыма, пасучы яго жывёлу, але хлеб не лез у рот.* Чарнышэвіч. *[Сымон:] Яда ў горла не лезе — колам становіцца.* Купала. *[Валя:] Кавалак хлеба яму дома ў горла не лезе, смачная ежа не даспадобы. Яму поліўка мілейшая, у дзяжурцы згатаваная.* Шынклер. *Перад самым ад'ездам, пад канец, і смачнае не лезла ў рот. Гэтак дамоў хацелася...* Макарэвіч. *Васілю і яда не лезла ў горла.* Гартны. *Страва не ішла ў рот.* Каваль.

**НЕ ЛЕ́ЗЕ (НЕ ЛА́ЗІЎ, НЕ ПАЛЕ́ЗЕ) ПА СЛО́ВА Ў КІШЭ́НЮ (У КІШЭ́НЬ).** *Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ведае, што сказаць, як адказаць; знаходлівы, дасціпны ў размове. **Сін.**: бойкі на язык; востры на язык; і сячэ і паліць; слова не пазычае. *— Вам што — кепска на нашым курорце, ці, можа, доктар вам не падабаецца? — У такога доктара я лячылася б усё жыццё! — не лезе ў кішэню па слова Антаніна.* Васілевіч. *Сам [Максім] здзівіўся: каб ён не ведаў, пра што гаварыць з дзяўчынай. У студэнцкія гады не лазіў па слова ў кішэню. Усіх сяброў знаёміў з дзяўчатамі.* Шамякін. *Ды і сам Пецька Рыжыкаў — з людзей, якія, як кажуць, па слова ў кішэнь не лезуць.* «ЛіМ».

**НЕ ЛЕ́ЗЕ (НЕ ЛЕ́ЗЛА) НІ Ў Я́КІЯ ВАРО́ТЫ.** *Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета ці дзейн.-займ. *гэта.* Вельмі дрэнны, не ўкладваецца ў агульнапрынятыя нормы. **Сін.**: адны слёзы; глядзець няма на што; з рук вон (у 2 знач.); кату пад хвост (у 2 знач.); кульгаць на абедзве нагі (у 3 знач.); курам на смех (у 1 знач.); на ліхога казана; не вытрымлівае ніякай крытыкі; нікуды не варты; ні к чорту (у 1 знач.); ні к чорту не варты; ні самому паглядзець ні людзям паказаць; пусці павалюся (у 1 знач.); смеху варты. *Трэцяя.. заява, што ён [муж] напалову рускі, а напалову паляк, ужо зусім не лезла ні ў якія вароты.* Караткевіч. *Уносіць хімічныя сродкі аховы раслін пры дапамозе авіяцыі — гэта, як кажуць, не лезе ні ў якія вароты.* «ЛіМ». *Калі дапусцім, пінжак я апранаў ад гарнітура, які купіла Маруся, то штаны мусіў надзяваць ад гарнітура, які купіла Ірына або Аня, хоць такое спалучэнне часам не лезла ні ў якія вароты.* Зуб.

**НЕ ЛЕ́ЗЕ (НЕ ЛЕ́ЗЛА) У ГАЛАВУ́** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. **1.** Не становіцца прадметам асаблівай увагі, цікавасці, інтарэсу; не даецца. **Сін.**: не ідзе ў галаву *каму. Але штосьці чытанне яму не давалася, не лезла ў галаву, перабівалася наплывам іншых думак, калыханнем другога пачуцця.* Гартны. *— Дык што ты думаеш? — Не было калі думаць. Напрацавалася, то і думкі ў галаву не лезуць.* Сабаленка. **НЕ ПАЛЕЗЕ (НЕ ПАЛЕЗЛА) У ГАЛАВУ** *каму. Зак. [Паўлінка:] Задасць [бацька] такога пытлю і табе і мне, што і жаніцьба ў галаву не палезе.* Купала.
**2.** Не засвойваецца, не запамінаецца, не ўспрымаецца. *Дануся не здала толькі антычную літаратуру і якраз зубрыла Юлія Цэзара. Але вучоба ў той дзень штосьці не лезла ёй у галаву.* Карпюк. *Адна матэматыка засталася... Аніяк у галаву не лезе. Я па ёй тры разы зрэзаўся.* Каваль. **НЕ ПАЛЕЗЕ (НЕ ПАЛЕЗЛА) У ГАЛАВУ** *каму. Зак. Карней не вытрымаў-такі: адолеўшы алгебру, сам палез у грубку па прыгаркі, бо пахлі яны так, што астраномія, якую трэба было чытаць, яўна не палезла б у галаву.* Шамякін. *З пару дзён хадзіў на такія курсы, але нічога ў галаву не палезла.* Купала.

**ПУЗА НА НОС ЛЕЗЕ** *ў каго.* Гл. пуза.

*ЛЕЗУЦЬ* • **ВОЧЫ НА ЛОБ ЛЕЗУЦЬ** *у каго.* Гл. вочы.

*ЛЕЗЦІ* • **БЕЗ МЫ́ЛА ЛЕ́ЗЦІ.** *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ліслівасцю, хітрасцю і пад. дабівацца чыёй-н. прыхільнасці. *Начальству падлагодніваецца... Без мыла лезе... Го, цяпер пайшоў народ.* Гартны. *— Цёця Ануш, цёця Ануш!.. Без мяне ніколі і нічога не могуць. — Ты ж усюды без мыла лезеш, — выскаліўся Арсен.* Супрунчук. *Не вер ёй, Лідачка. Цяпер яна без мыла будзе лезці...* Шамякін.

**ЛЕ́ЗЦІ (ІСЦІ́) НА РАЖО́Н**. *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рабіць што-н. рызыкоўнае, асуджанае на няўдачу; дзейнічаць, не думаючы пра вынік. **Сін.**: перці на ражон; перці супраць ражна. *[Гудзееў:] Не трэба было лезці на ражон. Зарваўся ты, Самасееў. Сам вінаваты — агрэсіўна вёў сябе на сходзе, не ацаніўшы расстаноўку сіл. Пралічыўся.* Макаёнак. *І ён, Яўхім, баіцца, і ляснічы, мусіць, таксама не з тых, хто на ражон лезе, хто за праўду-матку гатовы хоць на той свет пайсці.* Сачанка. *Непахісны, гатовы ісці на ражон у лютасці, такі чалавек, калі злосць у яго гасне, хутка мякчэе і пачынае шкадаваць сябе.* Карпаў.

**ЛЕ́ЗЦІ НА ВО́ЧЫ** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Старацца быць на віду, імкнуцца быць заўважаным. **Сін.**: лезці ў вочы *каму* (у 1 знач.). *У нас, у разведчыкаў, ёсць свае будан́ы ў лесе. Мы не лезем на вочы не толькі вясковым, але і сваім партызанам. Чым меней знаёмых, тым лепш.* Новікаў. *«Ну і чорт іх бяры, — думаў Сымон. — Я і сустракацца ні з кім не буду. Навошта мне ім на вочы лезці...»* Чарнышэвіч.

**ЛЕ́ЗЦІ НА СЦЯНУ́**. *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Крайне ўзрушвацца, раздражняцца, злавацца. **Сін.**: выходзіць з сябе; не знаходзіць <сабе> месца; не магчы знайсці <сабе> месца; не помніць сябе. *Апейкаўская ўпартая парода!.. Знарок лезе на сцяну, каб даказаць сваю нягоршасць перад братам.* Мележ. *Іду гэта на Зарэччы, чую, у хаце адной аж на сцяну лезе народ, лямант, візг!.. Што гэта, пытаюся. Моляцца, кажа.* Брыль.

**ЛЕ́ЗЦІ НА ЯЗЫ́К** *каму. Незак. Разм.* Часцей ужыв. пры дзейн.-наз. *слова (словы).* Міжвольна вымаўляцца. **Сін.**: зрывацца з вуснаў *чыіх, каго;* зрывацца з языка *чыйго, у каго;* не сходзіць з вуснаў *чыіх, каго;* не сходзіць з языка *чыйго, у каго;* прыходзіць на язык *каму* (у 1 знач.); узбрысці на язык *каму. Алесь падбіраў аргументы, пераканальныя словы, такія, каб не фальшывіць, не фармальна выказаць агульныя ісціны. І не знаходзіў. Лезлі на язык усё не тыя словы...* Новікаў. *Так, як і Міхалка, ён [Алесь] не думаючы гаварыў усё тое, што лезла на язык.* Чорны.

**ЛЕ́ЗЦІ ПІШЧО́М** *куды, да каго. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Прыкладаючы ўсе намаганні, назойліва пранікаць куды-н., дабівацца чаго-н. *Другі ў інстытут лезе пішчом: каб толькі мець дыплом. Ну, а закончыў і.. прывет! Падаўся ў буфет.* Валасевіч. *Як вам не сорамна? Дзе ваша дзявочая сціпласць? Вы ж пішчом лезеце да яго.* Карпаў. *Чорны рынак пішчом лез і ў гэты двор. Калі яшчэ будуць тыя машыны, калі яшчэ зносіцца ці зломіцца, але некаторыя з запаслівай стрункай у характары сёе-тое куплялі.* Шахавец.

**ЛЕ́ЗЦІ РАНЕ́Й ЗА БА́ЦЬКУ Ў ПЕ́КЛА**. *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы (часцей у адмоўн. ск. — з часціцай *не).* Паспешліва і недарэчна ўмешвацца ў чые-н. справы, апярэджваючы каго-, што-н. *Куды людзі, туды і я, нашто мне канешне раней за бацьку ў пекла лезці.* Чорны. *— Не лезь у пекла раней за бацьку, — жартаўліва і ў той жа час досыць строга заўважыў Садовіч.* Колас.

**ЛЕ́ЗЦІ СА СВАІ́М СТА́ТУТАМ У ЧУЖЫ́ МАНАСТЫ́Р**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Умешвацца ў чужыя справы, навязваючы каму-н. свае рашэнні, думкі, погляды і пад. **Сін.**: соваць носа не ў сваё проса; устаўляць свае тры грошы. *Мы канкрэтныя выпадкі ў духу гуманнасці будзем заўсёды вырашаць. Але зноў-такі ў рамках нашых законаў. І вы са сваім статутам у чужы манастыр не лезьце.* **«Звязда»**. *З тых часоў помніцца Рыгору адна размова ў двары з суседам. — Прабач, што лезу са сваім статутам у чужы манастыр, — сказаў той.* «Маладосць».

**ЛЕ́ЗЦІ СЛЯПІ́ЦАЙ У ВО́ЧЫ** <*каму*>. *Незак. Праст. Неадабр.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Назойліва прыставаць, дакучаць. **Сін**.: лезці ў вочы *каму* (у 3 знач.); лезці смалой у вочы *каму, да каго. І сур'ёзны ты чалавек, здаецца, а паводзіны твае камарыныя, так і лезеш сляпіцаю ў вочы.* Лынькоў. *Чаго стаіш?.. Не бачыш, што чалавек не хоча абагульваць? Трэба лезці ў вочы сляпіцай!* Лобан. *Ён ведаў, што лезе сляпіцай ў вочы, што яна не пераможа сваю злосць, не падабрэе. Але ўсё адно спытаў: — Ты прыйдзеш?* Адамчык.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. адуш. ці абстр. прадмета. Раздражняць, злаваць каго-н. непрыемным уздзеяннем. **Сін**.: калоць вочы *каму* (у 3 знач.); лезці ў вочы *каму* (у 4 знач.). *Праз запацелыя вокны хат сям-там пазіралі агні. І снег усё ішоў, лез у вочы сляпіцай.* Брыль. *Піліп Піліпавіч.. жмурыўся ад дыму, што сляпіцай лез у вочы.* Кузьмянкоў. *І ўдзень і ўночы стаяла [машкара] над галавой, лезла сляпіцай у вочы.* М.Капыловіч.

**ЛЕ́ЗЦІ СМАЛО́Й У ВО́ЧЫ** *каму, да каго. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Назойліва прыставаць, дакучаць. **Сін**.: лезці сляпіцай у вочы *каму* (у 1 знач.); лезці ў вочы *каму* (у 3 знач.). *[Ціт:] Адчапіся, жонка, не лезь смалой у вочы.* Дунін-Марцінкевіч. *Смалайціс моцна пакрыўдзіўся, затое не лез ужо да кожнага смалою ў вочы.* Гарэцкі. *— Ды не лезь ты смалой у вочы! — злосна адмахнуўся Мажэйка.* Шахавец.

**ЛЕ́ЗЦІ Ў БУТЭ́ЛЬКУ**. *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Раздражняцца, злавацца на каго-н., звычайна беспадстаўна. **Сін**.: лезці ў пузыр. *[Люба] і Калюню даўно раскусіла, аднак жа гаворыць з ім, быццам гэта ёй цікава і патрэбна, і мне дае знаць, каб не лез у бутэльку.* Гіль. *Цярпенне, цярпенне і яшчэ раз цярпенне! Беражы свой талент і не лезь у бутэльку.* Каршукоў.

**ЛЕ́ЗЦІ Ў ВО́ЧЫ** *каму. Незак. Разм.* **1**. *Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Старацца быць на віду, імкнуцца быць заўважаным, назойліва тырчаць перад вачамі. **Сін**.: лезці на вочы *каму. Трохі [грошай] пакінулі і мне: на білет і даць старажу на станцыі, каб ён купіў мне білет і пасадзіў мяне, а сам я каб не дужа ля касы ў вочы лез.* Гарэцкі.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Выклікаць да сябе цікавасць, прыцягваць увагу; быць асабліва прыкметным. **Сін**.: біць у вочы *каму;* кідацца ў вочы *каму. [Мікуць] увесь час, пакуль хадзілі па ўсіх прамысловых, індустрыяльных і тэхнічных павільёнах выстаўкі, без плана і сістэмы азіраўся на ўсё адразу, што лезла ў вочы навокал яго.* Чорны. *Стары ўсміхнуўся. — Адна Сукліта пажала во. Д[ы]к яны [снапы] і стаяць на гародзе, як прышчыкі на лбе — усім лезуць у вочы.* Чыгрынаў.

**3**. *Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Назойліва прыставаць, дакучаць. **Сін**.: лезці сляпіцай у вочы <*каму*> (у 1 знач.); лезці смалой у вочы *каму, да каго. [Сцяпан:] Каханенькая, родненькая, не лезь у вочы. А не, то вон з хаты і цябе з гэтай дрэняй выганю.* Купала. *Ачуняла ў скорасці гаспадыня, але больш ужо не лезла ў вочы свайму мужыку, і зноў сталі яны жыць паміж сабой складна.* Ядвігін Ш. *Чаго ты, Янак, лезеш ёй у вочы? — пытаецца Яніна.* Бажко.

**4**. *Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Раздражняць каго-н., выклікаць непрыемнае ўражанне. **Сін**.: калоць вочы *каму* (у 3 знач.); лезці сляпіцай у вочы <*каму*> (у 2 знач.). *Не любіць ён [Кляновіч], калі перашкаджае нават святло. Яно лезе ў вочы неяк напорыста.* Пестрак. *Прамчаліся шляхі і вёрсты, не лезе ў вочы золь-слата.* Пушча.

**ЛЕ́ЗЦІ Ў ВЯРО́ЎКУ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Заведама рызыкаваць жыццём; ісці на смерць. **Сін**.: лезці ў пятлю. *Ведама, заўжды знойдуцца дурныя людзі, што яны гатовы самі ў вяроўку лезці.* Якімовіч. *Дзівак чалавек! Я табе раю як найлепш, а ты сам у вяроўку лезеш.* Левановіч.

**ЛЕ́ЗЦІ Ў ГАЛАВУ́** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета ці (рэдка) асобы. Неадчэпна і міжвольна ўзнікаць у свядомасці. **Сін**.: прыходзіць на думку *каму* (у 1 знач.); прыходзіць у галаву *каму* (у 1 знач.); стрэліць у галаву *каму;* стукнуць у галаву *каму* (у 1 знач.); узбрысці на розум *каму;* узбрысці ў галаву *каму* (у 1 знач.); усплываць на памяць *каму, у каго;* усплываць у памяці *каму, чыёй;* цюкнуць у галаву *каму. «І чаму ж так неэканомна стралялі? Хто гэта мусіў за гэтым сачыць? Хто вінаваты? Пэўна, Тарас», — лезлі мне ў галаву прыкрыя думкі.* Гарэцкі. *[Пніцкі] лёг спаць і доўга не мог заснуць. Думкі лезлі яму ў галаву і не давалі задрамаць.* Чорны. *Чым больш стараўся [Сымон], тым больш Зоська, як наўмысле, лезла ў галаву.* Бядуля. *Жывасілам лез у галаву Пакінька з яго дзіўным заляцаннем...* Місько.

**ЛЕ́ЗЦІ Ў ДУШУ́** *чыю, каго, каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Даведвацца пра чые-н. думы, пачуцці, намеры і пад. **Сін**.: заглядваць у душу *чыю, каму, каго. Ён, Тарас, не прыхільнік таго, каб лезці ў чужую душу.* Шамякін. *Ірыне — было відаць — карцела спытаць, што такі за клопат у Пятра, але не хапіла нахабства лезці ў душу чужому чалавеку.* Рубанаў. **ЗАЛЕЗЦІ (УЛЕЗЦІ) У ДУШУ** *чыю, каго, каму. Зак. Стражнік, соцкі, дзесяцкія і сам «сіцыліст» таксама думалі — кожны на свой лад. Але трудна залезці ў чужую душу і ведаць, хто што думае. Усе маўчалі.* Колас. *Цяжэй было з Лёвачкам: ён дзічыўся, адчуваў сябе няёмка, маўчаў... Вельмі цяжка было ўлезці ў яго душу і выклікаць прыхільнасць.* Лобан.

**2**. Умешвацца ў асабістыя справы, выведваць што-н. з асабістага, інтымнага жыцця каго-н. — *Бабылём жывеш... А чаго? Жонку даўно трэба мець. І дзяцей! — У душу ты лезеш, Пахом.* Савіцкі. **ЗАЛЕЗЦІ (УЛЕЗЦІ) У ДУШУ** *чыю, каго, каму. Зак.*

**3**. Дабівацца чыйго-н. даверу, прыхільнасці да сябе. **Сін**.: уваходзіць у давер'е *да каго, каму, к каму.* **ЗАЛЕЗЦІ (УЛЕЗЦІ) У ДУШУ** *чыю, каго, каму. Зак. [Войт:] І чым ён так улез у душу пана? [Францішак:] Без нячыстай сілы тут не абышлося.* Гарбацэвіч. *Была ў мяне калісьці цётка — ну й добрая ж! (хай лёгка ёй ікнецца), у душу гатова ўлезці, здэцца: вось так і клыпае, як тая кураводка, — схаваць гатова пад крыло.* Крапіва.

**ЛЕ́ЗЦІ Ў ПУЗЫ́Р**. *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Раздражняцца, злавацца на каго-н., звычайна беспадстаўна. **Сін**.: лезці ў бутэльку. *[Дзед Мінай:] А ты, сынку, не кідайся ў роспач... Падумай добра, узваж усё, як трэба. А галоўнае — не крыўдуй і не лезь у пузыр.* Валасевіч. *Толькі з Маруськай.. [Косця] і гаворыць ціха, ласкава, не лезе ў пузыр, калі тая пачынае што настойліва сцвярджаць.* Мыслівец.

**ЛЕ́ЗЦІ Ў ПЯТЛЮ́**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Заведама рызыкаваць жыццём; ісці на смерць. **Сін**.: лезці ў вяроўку. *Чаго ты вызверыўся? Я выказаў такую самую думку, як і іншыя, тыя, што не хочуць дарма лезці ў пятлю.* Маўр. *Помніш, ты гразіўся мне, як ехалі з мястэчка, — маўляў, сам па сваёй ахвоце лезу ў пятлю?* Чыгрынаў. *[Мігуцкі:] Вось, чуеце! Як ты яго выратуеш, калі ён сам у пятлю лезе?* Крапіва.

**ЛЕ́ЗЦІ ЧО́РТУ Ў ЗУ́БЫ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ісці на што-н. небяспечнае для жыцця. *Вядома, рызыкоўна лезці чорту ў зубы, але не менш*

*рызыкоўна ісці пехатою, дзе нас на кожным кроку чакае многа перашкод.* С.Александровіч. *Ідзі, ідзі! Толькі не лезь чорту ў зубы...* Бажко.

*ЛЕЗЬ* • **ХО́ЦЬ <ТЫ> ЖЫВЫ́ (-О́МУ, -Ы́М) У ЗЯМЛЮ́ ЛЕ́ЗЬ**. *Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм.* Выказванне безнадзейнасці, немагчымасці што-н. зрабіць, каб выйсці з крайне цяжкага становішча. **Сін.**: хоць галавой аб сцяну біся; хоць галавой у пятлю; хоць душой загавей; хоць лажыся і памірай; хоць <ты> вешайся; хоць <ты> галавой налажы; хоць <ты> у вір галавой; хоць у пятлю лезь; хоць у труну лажыся. *У кішэні ні грашынкі, хата поўная дзятвы! Ні паленца, ні лучынкі — хоць у землю лезь жывы.* Колас. *[Паўліна:] Згубіць нас наважыў гэты чалавек. [Лютынскі:] Старшыня? [Паўліна:] Не, Алеська гэты. Хоць ты жывы ў зямлю лезь ад яго.* Крапіва. *Таксама прыйшлося яму — хоць жывому ў зямлю лезь. Я то хоць з жонкаю, а ён дык з малымі дзецьмі.* Чорны. *— Вось так як хопіць, дык хоць жывым у зямлю лезь, — загаварыў ён. — Усяго б я ацураўся, нічога б я на свеце не хацеў, каб толькі ў жываце так не балела.* Галавач.

**ХО́ЦЬ У ПЯТЛЮ́ ЛЕ́ЗЬ**. *Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм.* Выказванне безнадзейнасці, немагчымасці што-н. зрабіць, каб выйсці з цяжкага становішча. **Сін.**: хоць галавой аб сцяну біся; хоць галавой у пятлю; хоць душой загавей; хоць лажыся і памірай; хоць <ты> вешайся; хоць <ты> галавой налажы; хоць <ты> жывы ў зямлю лезь; хоць <ты> у вір галавой; хоць у труну лажыся. *Не кпі! І без таго горка, хоць у пятлю лезь.* Машара. *Без каровы хоць у пятлю лезь. Што есці будзем?* Кобец-Філімонава. *І што б ён, Андрэй, ні раіў, у маладзіцы на ўсё гатовы быў адказ. Хоць у пятлю лезь, здавалася, выйсця нідзе ніякага не было.* Сачанка.

*ЛЕЙКА* • **АДНА ШАЙКА-ЛЕЙКА**. Гл. шайка.

*ЛЕЙЦЫ* • **АДПУСКАЦЬ ЛЕЙЦЫ**. Гл. адпускаць.

**БРАЦЬ ЛЕЙЦЫ Ў <СВАЕ> РУКІ**. Гл. браць.

**ВЫПУСКАЦЬ ЛЕЙЦЫ З <СВАІХ> РУК**. Гл. выпускаць.

**ДАВАЦЬ ЛЕЙЦЫ Ў РУКІ** *каму.* Гл. даваць.

**І ЛЕ́ЙЦЫ Ў РУ́КІ** *каму. У безас. ужыв. Разм.* У каго-н. ёсць усе падставы быць кіраўніком чаго-н. *— Вы гаворыце тое, што цвярдзіла мне ў свой час Сініцкая, — не хаваючы ўсмешкі, сказаў Адамчук. — Дык вам і лейцы ў рукі, Мікалай Пятровіч. У добры час...* Ваданосаў. *Неяк рэдагуючы адну з кніг Корбана, Кандрат Крапіва [тагачасны галоўны рэдактар «Вожыка»] ці то жартам, ці то ўсур'ёз заўважыў: — Што ж, дарагі Корбан, ёсць у мяне добрая замена, табе зараз і лейцы ў рукі.* Астрэйка.

*ЛЕЙЧЫНА* • **ЛЕЙЧЫНА ПАД ХВОСТ ПАПАЛА** *каму.* Гл. ляйчына.

*ЛЕНІН* • **ЯК (БЫ́ЦЦАМ, БЫ) ЛЕ́НІН НА БУРЖУАЗІ́Ю**. *Акал. Разм. Іран.* Непрыязна ці з нянавісцю, з агідай (глядзець на каго-н.). *Падышлі бліжэй, я пазіраю на Айчанаша як Ленін на буржуазію, — непрыязна, спадылба, а ён на мяне — паблажліва, з насмешкай.* Кусянкоў. *Жонка мяне не святкавала і не святкуе, дачку супраць нацкавала. І дачка быццам Ленін на буржуазію касавурыцца.* Калодзежны.

*ЛЕПЕЙ* • **ЯК НЕ ТРЭБА ЛЕПЕЙ**. Гл. трэба.

*ЛЕПЕТ* • **ДЗІЦЯ́ЧЫ ЛЕ́ПЕТ**. *Мн. не ўжыв. Вык. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Наіўныя, несур'ёзныя, павярхоўныя думкі, меркаванні і пад. *Вершы [я] пачаў пісаць, калі адолеў граматыку, а складаў іх яшчэ раней. Мабыць, гэта быў дзіцячы лепет.* Чарнышэвіч.

*ЛЕПШ* • **ЯК НЕ ТРЭБА ЛЕПШ**. Гл. трэба.

*ЛЕПШАГА* • **ПАКІДАЕ ЖАДАЦЬ ЛЕПШАГА**. Гл. пакідае.

*ЛЕПШЫ* • **АДЫХОДЗІЦЬ У ЛЕПШЫ СВЕТ**. Гл. адыходзіць.

**АДЫХОД У ЛЕПШЫ СВЕТ**. Гл. адыход.

**ПЕРШЫ-ЛЕПШЫ**. Гл. першы.

*ЛЕПШЫМ* • **У ЛЕПШЫМ ВЫПАДКУ**. Гл. выпадку.

*ЛЕС* • **ГЛЯДЗЕЦЬ У ЛЕС**. Гл. глядзець.

**НА ЛЕС ГЛЕДЗЯЧЫ**. Гл. гледзячы.

**НА СУХІ́ ЛЕ́С**. *Акал. Разм. Неадабр.* Прэч (гнаць, праганяць, ісці і пад.). Выказванне незадавальнення, злосці на каго-, што-н., жадання пазбавіцца ад каго-, чаго-н. **Сін**.: да д'ябла (у 1 знач.); да чорта (у 1 знач.); з вачэй *чыіх, каго* (у 2 знач.); з вачэй далоў (у 2 знач.); к чортавай мацеры (у 1 знач.); к чорту (у 1 знач.). — *Што ты, што ты, хлопец, пара і тэрмометры ставіць. — Закінь ты іх на сухі лес!* Лынькоў. *Ты, мая дзетачка, дабра яшчэ не бачыла. Яно нават табе і не снілася. Дык табе здаецца, што і гэта дабро. А якое ж яно дабра! На сухі лес яго.* Сабаленка. — *Гэй, куды? Нельга вам! — Чаго? — Нельга туды! «Пайшоў ты на сухі лес!» — адказала.. [Сцепаніда] яму ў думках і, пыхнуўшы нутраной злосцю, рашуча ўвайшла ў сенцы.* Быкаў. *Не, Ягор Ягоравіч, на сухі лес, як у нас кажуць, такі спакой.* Дуброўскі.

**У ЛЕС НЕ ЎЦЯЧЭ**. Гл. уцячэ.

**ХТО Ў ЛЕС, ХТО ПА ДРОВЫ**. Гл. хто.

**ЦЁМНЫ ЛЕ́С** <*для каго*>. *Мн. не ўжыв. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Абсалютна незразумелае, незнаёмае. **Сін**.: кітайская грамата; цямна вада ва облацэх. **Ант**.: простая арыфметыка. — *Для мяне гэта цёмны лес. Я пакуль на натуры не пабачу, не магу зразумець, дзе добра, а дзе дрэнна, — шчыра і проста прызнаўся Кушнер.* Шамякін. — *Пайсці і не вярнуцца — справа няхітрая, як двойчы два, — сказаў Антон. — Цяпер тут усё — цёмны лес.* Быкаў. *Чужыя думкі і намеры — цёмны лес. Хто яго ведае, што думае гэты Любачка.* Сабаленка.

*ЛЕСАМ* • **СЕМ ВЁРСТ ДА НЯБЁС І ЎСЁ ЛЕСАМ**. Гл. вёрст.

*ЛЕСЕ* • **ВОЎК У ЛЕСЕ ЗДОХ**. Гл. воўк.

**НЕШТА Ў ЛЕСЕ ЗДОХЛА**. Гл. нешта.

**У ЛЕСЕ ГАДАВАЎСЯ**. Гл. гадаваўся.

**ЯК У ЛЕ́СЕ**. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У поўным няведанні (быць). *І не дарма ж на Палессі чуў ад сталых я галоў, што ў жыцці мы як у лесе пад уладай нейкіх слоў.* Колас. *Яны ж ясна расталкавалі, а ты нешта як у лесе.* Юрчанка.

*ЛЕСУ* • **ЗА ДРЭВАМІ НЕ БАЧЫЦЬ ЛЕСУ**. Гл. бачыць.

**З-ЗА ДРЭЎ НЕ БАЧЫЦЬ ЛЕСУ**. Гл. бачыць.

*ЛЕТ* • **КОЛЬКІ ЛЕТ КОЛЬКІ ЗІМ**! Гл. колькі.

*ЛЕТА* • **БА́БІНА ЛЕ́ТА**. *Мн. не ўжыв. Часцей у ролі дзейн. і дап.* **1**. *Функц. не зам.* Ранняя восень з яснымі цёплымі днямі. *Для Івана Майсеевіча восень, асабліва бабіна лета, — чаканы і радасны час, пара вялікай і мудрай раўнавагі.* Пашкоў. *Быў ён ціхі і ясны, апошні дзень кароткага бабінага лета, зусім не па-асенняму цёплы, з такім блакітным небам, што яно здавалася эмалевым.* Праскураў.

2. *Разм.* Серабрыстае павуцінне, што плыве над зямлёй у дні бабінага лета. *«Бабіна лета» плыло даўжэзнымі пасмамі ў паветры, асядала на траву, чаплялася за дрэвы ды платы.* Мурашка. *Белаю, лёгенькаю, як бабіна лета, павучынкаю бэрсаліся мыслі і гэтак лёгка плылі ў чыстай яснасці.* Адамчык.
3. *Разм.* Астра новабельгійская (aster novi-belgii L.). *Блакітнае бабіна лета вытрымлівала першы снег і гінула толькі ў сапраўдны мароз.* Чорны. *Ад вясны і да восені цвіла купалаўская клумба, ад першых нарцысаў і цюльпанаў да апошняга бабінага лета.* Лойка.
4. *Разм.* Час прыліву новых сіл, творчай энергіі або ўзнікненне кахання ў пажылыя гады. **Сін.**: другая маладосць. *Я бачыў перад сабой жанчыну, не часта спатыканага характару. Не той позняй красы так званага бабінага лета, хоць гады і паклалі яго цені пад вачыма, а свежай сілы ад нерастрачанай маладосці ў постаці і абліччы.* Лужанін. *Ясь самому сабе яшчэ не прызнаваўся, што яго цягне да Аляксаны, быццам скінуў з сябе груз гадоў. Не, не памыліўся ў ёй, яна сапраўды падабаецца. Да яго, старога пня, прыйшло бабіна... Не, «дзедава» лета! І быццам яму якіх сорак — пяцьдзесят гадоў — не болей.* Місько. *У жыцці маім — бабіна лета, на душы маёй — квецень вясны! Мабыць, сэрца такое паэта? Можа, гэта чароўныя сны?* Пруднікаў.
**ЗЖЫЎШЫ ЛЕТА ДЫ Ў МАЛІНЫ**. Гл. зжыўшы.
**НІ ЗІМУ НІ ЛЕТА**. Гл. зіму.

*ЛЕТАМ* • **ЗІМОЙ І ЛЕТАМ АДНЫМ ЦВЕТАМ**. Гл. цветам.

*ЛЕТАПІС* • **ЖЫВЫ́ ЛЕ́ТАПІС** *чаго. Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Чалавек, які добра помніць усе сучасныя яму падзеі. *Старыя.. дзяды, жывыя летапісы цельшынскай гісторыі на працягу многіх дзесяткаў гадоў, да душы падабаліся Лабановічу.* Колас. *Такіх жанчын, як гэту, Іван Мацвеевіч знаў многа ў сваім жыцці. Яны з'яўляюцца ў пэўным асяродку людзей жывымі летапісамі,назіраюць пільна за сваімі знаёмымі...* Бядуля.

*ЛЕТАШНІ* • **ЛЕТАШНІ СНЕГ**. Гл. снег.
**ЯК ЛЕТАШНІ СНЕГ**. Гл. снег.

*ЛЕТАШНЯГА* • **СНЕГУ ЛЕТАШНЯГА НЕ ДАПРОСІШСЯ** *ў каго.* Гл. дапросішся.

*ЛЕТУ* • **КАНУЦЬ У ЛЕТУ**. Гл. кануць.

*ЛЁГКА* • **ЛЁГКА СКАЗАЦЬ**. Гл. сказаць.

*ЛЁГКАЙ* • **З ЛЁГКАЙ ДУШОЙ**. Гл. душой.
**З ЛЁГКАЙ ПАРАЙ**! Гл. парай.
**З ЛЁГКАЙ РУКІ** *чыёй, каго.* Гл. рукі.

*ЛЁГКАЯ* • **ЛЁГКАЯ РУКА** *ў каго.* Гл. рука.

*ЛЁГКІ* • **ЛЁГКІ (-АЯ, -АЕ, -ІЯ) НА НАГУ́**. *Вык. і азн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Можа хадзіць без стомы доўга і хутка. *Хударлявы, лёгкі на нагу, у галіфэ, у салдацкім бушлаціку, у ботах, ён быццам вярнуўся з тае пасляваеннае памяці — тады гэтак адзяваліся мужчыны.* А.Жук. *Ледзь сюды прыдыбала. А тады была лёгкая на нагу.* Бялевіч. *Людзі сталі лёгкія на нагу.* «Полымя». *Круглая, ружовашчокая, лёгкая на нагу, яна, здаецца, хадзіла па зямлі, як само здароўе.* Ракітны.
**ЛЁГКІ (-АЯ, -АЕ, -ІЯ) НА ПАД'ЁМ**. *Вык. і азн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. 1. Ахвотна можа пайсці, паехаць куды-н. **Ант.**: цяжкі на пад'ём (у 1 знач.). *Сенакос касой бэмкае — зноў жа яны [сыны] лёгкія на пад'ём: то той, то гэты прыскочыць.*

Цяжкі. *Дык от, падвучыўс[я] ён, значыцца, мой меншы, на трактарыста, сабраўс[я] з такімі, як сам, лёгкімі на пад'ём — і на цаліну.* Палтаран.

**2**. Ахвотна прымаецца, бярэцца за што-н. **Ант**.: цяжкі на пад'ём (у 2 знач.). *Каралькоў пахваліў мяне за тое, што я ўжо тут, лёгкі на пад'ём, памагаю, і гэтая яго пахвала, падобна, акрыліла больш Дынеку, чым мяне.* Масарэнка.

**ЛЁГКІ (-АЯ, -АЕ, -ІЯ) НА РУКЎ**. *Вык. і азн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. *Адабр.* Удачлівы пры пачынаннях чаго-н. *Глядзелі, меркавалі, мацалі пальцамі [кукурузу, вырашчаную дзетдомаўцамі:] — Не, на самай справе кукуруза, кіяхі ведалі і дзяды нашы. Садзілі кіяхі. Але каб такія выраслі. Лёгкія на руку сіроты, мо таму, што чыстыя душы, напакутаваліся...* Казько.

**2**. *Неадабр.* Мае звычку задзірацца, біцца. *— Дык чым жа я ліхі? — Тым, Андрэй, што ты на руку лёгкі. — Няпраўда, Марцін, — ледзь не крыкнуў Андрэй. — Я першы нікога не зачаплю ні словам, ні справай.* Чарнышэвіч.

**ЛЁГКІ (-АЯ, -АЕ, -ІЯ) НА СЛО́ВА**. *Вык. і азн. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Схільны да абяцанняў. *[Стась] быў лёгкі на словы і думаў гэтым улагодзіць Раманіху. Але яна была неадступнай.* Няхай. *Каця ў іх вельмі лёгкая на словы.* Янкоўскі.

**ЛЁГКІ (-АЯ, -АЕ, -ІЯ) НА ЎСПАМІ́Н (НА ПАМІ́НЕ)**. *Вык. і азн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прыходзіць якраз тады, калі пра яго гавораць, думаюць, успамінаюць. *— От ён, лёгкі на ўспамін, — зачуўшы ў сенцах крокі, адарвалася ад сваіх успамінаў Алеся.* Палтаран. *[Мікалай Сяргеевіч:] А вось і яны, лёгкія на ўспамін, перагібшчыкі.* Макаёнак. *[Святлана:] Ну, вось твой Леан тут як тут, заўсёды лёгкі на паміне.* Бачыла. *Я ўжо ўспамінаў вас, а вы і на паміне лёгкія.* Гіль.

**ЛЁГКІ (-АЯ, -АЕ, -ІЯ) НА ЯЗЫ́К**. *Вык. і азн. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Схільны да балбатлівасці, залішне гаваркі. *— Гэтакі ён сіцыліст, як ты маёй кабыле дзядзька! — адказаў яму Андрэй Падгорны, чалавек лёгкі на язык.* Колас. *Сцёпу агарнула крыўда: і сапраўды, ён лёгкі на язык. Колькі разоў яму гаварыў Фіма, і ўсё роўна.* Баранавых. *Чамусьці звычайна лёгкая на язык Панасіха пра гэты выпадак, відаць, нікому не расказала.* Супрунчук.

*ЛЁГКІМ* • **З ЛЁГКІМ ВЕТРАМ**! Гл. ветрам.

**З ЛЁГКІМ СЭРЦАМ**. Гл. душой.

*ЛЁД* • **БІЦЦА ЯК РЫБА АБ ЛЁД**. Гл. біцца.

**ЛЁД КРАНЎЎСЯ**. *У безас. ужыв. Функц. не зам.* Пачатак чаму-н. зроблены. **Ант**.: кропка пастаўлена. *З некаторага часу, як заўважыў Цайт, лёд крыху крануўся. Больш ветлівы сталі адказы на яго прывітанні.* Лынькоў. *— Лёд крануўся, таварыш камандуючы! — аб'явіў начальнік аператыўнага ўпраўлення задаволена, па-юначаму звонка.. — 26-я і 84-я гвардзейскія дывізіі ўзялі Шалашына і ў добрым тэмпе ўсцяж магістралі выходзяць на рубеж Юрцава— Бардзюкі!* Мележ.

**ЛЁД ПАЛАМА́НЫ (РАЗБІ́ТЫ)**. *У безас. ужыв. Функц. не зам.* Адносіны паміж кім-н. палепшыліся, перашкоды ліквідаваны. *Лёд у чалавечых адносінах быў паламаны, недавер'е зломана.* Шынклер.

**ЛЁД** *чаго* **РАСТАЕ́ (РАСТАВА́Ў)**. *У безас. ужыв. Функц. не зам.* Знікае пачуццё чаго-н. (недаверу, непаразумення, адчужанасці і пад.). *Мацней і шчырэй за ўсіх пляскаў ён [Мікіта] прамоўцам, і радасць яго ўсё ўзрастала, у меру таго як раставаў лёд недавер'я ў сялянскіх сэрцах.* Колас. *Робім усё, каб быў мір, каб было разуменне між краінамі і народамі, каб раставаў лёд недаверу, перамагла разрадка...* Сачанка.

**НА ВУСНАХ МЁД, НА СЭРЦЫ ЛЁД** *у каго*. Гл. мёд.
**РАЗБІЦЬ ЛЁД** <*чаго, паміж кім*>. Гл. разбіць.
**РАСТАПІЦЬ ЛЁД** <*паміж кім, чаго*>. Гл. растапіць.

*ЛЁДУ* • **ЗІМОЙ ЛЁДУ НЕ ВЫПРАСІШ** *у каго*. Гл. выпрасіш.
**ЯК ЛЁДУ**. *Акал. Разм. Ужыв. пры лічэбн.* Роўна столькі, колькі названа (рублёў, гадоў, працэнтаў і пад.). **Сін.**: мала-веля (у 2 знач.); ні больш ні менш <як> (у 1 знач.); ні мала ні многа (у 1 знач.). *Быў суд. Паўтары тысячы штрафу як лёду. А маглі б даць і турму.* Броўка. *— Колькі ты ў калгасе дзён працаваў? — Паўтары сотні як лёду.* Мурашка. *— Здаём?.. — Пяць двоек як лёду... Стрыжоў зрэзаўся!* Карпаў. *За тэлевізар пяцьсот рублёў адваліў як лёду. Мэбля нямецкая ў зале, польская ў спальні.* Карамазаў. *Мне ж, Надзёжа, восемдзесят сем гадоў як лёду.* Сіпакоў.

*ЛЁН* • **ЗЯЗЮ́ЛЬЧЫН ЛЁН**. *Мн. не ўжыв. Часцей у ролі дзейн. і дап. Разм.* Аднагадовая травяністая расліна сямейства гваздзіковых пераважна з ружовымі кветкамі і ядавітым насеннем; куколь (agrostemma L.). *А на вогнішчах астылых расцвітае сон, дзераза, густы бруснічнік ды зязюльчын лён.* Танк. *Выкінуў угору спелыя галоўкі зязюльчын лён.* Кудравец.

*ЛЁСАЎ* • **ВОЛЯЙ ЛЁСАЎ**. Гл. воляй.

*ЛЁСТАЧКІ* • **ПАДПУСКАЦЬ ЛЁСТАЧКІ** *каму*. Гл. падпускаць.

*ЛЁСУ* • **ВОЛЯЙ ЛЁСУ**. Гл. воляй.
**ІРОНІЯ ЛЁСУ**. Гл. іронія.
**НА ВОЛЮ ЛЁСУ**. Гл. волю.
**ПА ВОЛІ ЛЁСУ**. Гл. волі.

*ЛІЕЦЦА* • **КРОЎ ЛІЕЦЦА** *дзе, чыя, за каго, за што*. Гл. кроў.

*ЛІЗАЦЬ* • **ЛІЗА́ЦЬ БО́ТЫ (НО́ГІ, ПЯ́ТЫ, ПЯ́ТКІ)** *каму. Незак. Праст. Пагард.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Падлізвацца, падхалімнічаць. **Сін.**: віляць хвастом (у 2 знач.); гнуцца ў тры пагібелі *перад кім;* гнуць спіну *перад кім;* ламаць шапку *перад кім;* падаць лістам *перад кім;* падпускаць лёстачкі; поўзаць на каленях *перад кім*; рассыпацца драбней маку *перад кім;* рассыпацца <дробным> макам *перад кім;* слацца лістам *перад кім;* станавіцца на задні лапкі *перад кім;* хадзіць на задніх лапках *перад кім;* хадзіць на пальчыках *перад кім. [Фашыст] хоць прысягу прымаў свайму фюрэру, а гэты, відаць, і без прысягі лізаў немцам боты.* Лынькоў. *— Ногі ліжаце Косцю! — падступіў [Алёша] да Калашкана. — Думаеш, гэта вам так пройдзе...* Навуменка. *Не ўсе яшчэ змагаюцца за Радзіму. Адны, ратуючы сваю скуру, пабеглі лізаць пяты ворагу, другія схаваліся ў цёмныя шчыліны, знайшлі розныя прычыны, каб адседзецца ў час небяспекі, дачакацца, пакуль яе пранясе міма.* Новікаў. *А што ён цяпер нарабіў, гэты саматужнік? Пайшоў лізаць пяткі гестапаўцам!* Кулакоўскі.

*ЛІК* • **НЕ Ў ЛІ́К**. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы і абстр. прадмета. Не бярэцца пад увагу, не ўлічваецца. *Нявесткі — Юстапава Прузына і Вінцэнтава Разэля — з дзецьмі тут не ў лік...* Калюга. *Мы запрашаем вас з сабой, тым больш што хлопцаў, акрамя Мішы, — ды ён не ў лік — у нас няма, яны нас не любяць.* Хадкевіч. *Пра Міклашэвіча не будзем гаварыць — Міклашэвіч выпадкам застаўся жывы, ён не ў лік.* Быкаў. *Тое, што Кірэй паказаў сябе не найлепшым чынам, — не ў лік.* Ярашэвіч. *[Лявон:] Перш за ўсё ячэйку арганізаваў у нашым сяле, але гэтая работа не ў лік, бо яна адбывалася вечарамі,*

*а ў асноўным малаціў у багатых мужыкоў.* Чарнышэвіч. *Амара ж будзе спускацца пад ваду першы раз (тое, што нырау у дзяцінстве ў лагуне Біргуса, — не ў лік).* Місько.

*ЛІКУ* • **БЕЗ ЛІ́КУ**. *Акал. ці ў безас. ужыв. Разм.* Вельмі многа. Пра людзей, канкр. ці абстр. прадметы. **Сін.**: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго;* вышэй вушэй *чаго;* вышэй галавы *чаго;* да гібелі *каго, чаго;* дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго;* да халеры *каго, чаго;* да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго;* з горла прэ *ў каго;* імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго;* не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго;* не ханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго;* па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго;* у кожнай кішэні па жмені *каго;* хоць адбаўляй *каго, чаго;* хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым;* хоць заваліся *чаго;* хоць заліся *чаго;* <хоць> плот гарадзі *кім, каго;* хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго;* цьма цьмушчая *каго, чаго;* цэлы воз *каго, чаго;* чортава гібель *каго, чаго;* чортава процьма *каго, чаго;* чорт што *чаго;* як бобу *каго;* як гразі *каго, чаго;* як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. — Гэта Ніна Ваўчок. Яна такіх песень без ліку ведае, — сказаў Яраслаў.* Ярашэвіч. *[Паліцыянты] штрафаў налажылі без ліку.* Пестрак.

*ЛІНІІ* • **ІСЦІ ПА ЛІНІІ НАЙМЕНШАГА СУПРАЦІЎЛЕННЯ**. Гл. ісці.

*ЛІНІЮ* • **ГНУЦЬ САВАЮ ЛІНІЮ**. Гл. гнуць.

*ЛІПКУ* • *Абадраць (абдзерці), абабраць (абіраць)* **ЯК ЛІ́ПКУ**. *Акал. Разм.* Поўнасцю, начыста. **Сін.**: да <апошняй> ніткі. *Наогул Вепры абадралі яны [акупанты] як ліпку.* Колас. *Яны мяне хутка абдзяруць як ліпку...* Лынькоў. *У хаце — хоць шаром пакаці, пуста, гітлераўцы абадралі Мірона як ліпку.* Рылько. *Кінуў аднойчы Стэфана такі «брат», Юзэф Свідэрскі, у дарозе хворага. І яшчэ абабраў як ліпку.* Прокша. *[Жабрак:] Абабралі! Абабралі! Як ліпку! Апошнюю кароўку забралі!* Зуб.

*ЛІСАХ* • **ПАЗНАЦЦА НА ФАРБАВАНЫХ ЛІСАХ**. Гл. пазнацца.

*ЛІСІЦАЙ* • **ПАДШЫТЫ ЛІСІЦАЙ**. Гл. падшыты.

*ЛІСІЦУ* • **ЗЛАВІЦЬ ЛІСІЦУ**. Гл. злавіць.

*ЛІСЛІВАЕ* • **ЛІСЛІВАЕ ЦЯЛЯ**. Гл. цяля.

*ЛІСТ* • **ЯК АСІ́НАВЫ ЛІ́СТ** *калаціцца, дрыжаць, трымцець. Акал. Разм.* Вельмі моцна (калаціцца — часцей ад страху). **Сін.**: як авечы хвост; як асіна. *[Чалавек] калаціўся як асінавы ліст, і сіні рубец на яго галаве цьмяна адсвечваў на марозным паветры.* Лынькоў. *Яўхім утаропіў вочы ў жонку, якая задрыжала ад страху як асінавы ліст.* Бядуля. *Згадаў [Верасоўскі] свой першы ўрок — дзівак, ён тады так хваляваўся, дрыжаў як асінавы ліст і нічога не помніў, што трэба гаварыць вучням.* Сіпакоў. *Васіль! Не страшы. І так трымчу як ліст асінавы. Ад слоў тваіх.* Шамякін.

*ЛІСТА* • **З ЧЫСТАГА ЛІСТА**. Гл. старонкі.

*ЛІСТАМ* • **ПАДАЦЬ ЛІСТАМ** *перад кім.* Гл. падаць.

**СЛАЦЦА ЛІСТАМ** *перад кім.* Гл. слацца.

*ЛІСТОК* • **ФІ́ГАВЫ ЛІСТО́К.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Неадабр.* Крывадушная маскіроўка ганебных учынкаў, прыкрыццё чаго-н. непрыстойнага. *«Ён — незвычайны! — кажа кожны раз пасля такой сустрэчы маё сэрца. — От бы пазнаёміцца з ім бліжэй, запрасіць дадому, звесці з Косцем... — прыкрываю ўсё фігавым лістком і раблю выгляд, што нічога кепскага не адбываецца».* Карпюк. *Толькі вельмі не спадзявайся на маніфест. Маніфест — гэта фігавы лісток, якім цар хоча прыкрыць свой сорам.* Арабей.

*ЛІСУ* • **ЗЛАВІЦЬ ЛІСУ.** Гл. злавіць.

*ЛІТАРА* • **ЛІ́ТАРА Ў ЛІ́ТАРУ.** *Акал. Функц. не зам.* Абсалютна дакладна, без адхіленняў (пісаць, паўтараць, выконваць і пад.). **Сін.**: слова ў слова. *Ад яго патрабуецца толькі адно - выконваць літара ў літару тое, што яму загадалі, гэта значыць рабіць «вывераныя, узгодненыя дзеянні».* «Звязда».

*ЛІТАРАМІ* • **УПІСАНА ЗАЛАТЫМІ ЛІТАРАМІ** *ў што.* Гл. упісана.

*ЛІТАРУ* • **ЛІТАРА Ў ЛІТАРУ.** Гл. літара.

*ЛІТАРЫ* • **З ВЯЛІ́КАЙ ЛІ́ТАРЫ.** *Азн. Функц. не зам. Адабр.* Часцей ужыв. пры наз. *чалавек.* Сапраўдны, варты так называцца. *Пятрусь быў героем, чалавекам з вялікай літары, а мы — нічым.* Навуменка. *Акцёрская моладзь верыла: такі чалавек ведае, што і як трэба рабіць, каб наша сцэна была не падмосткамі для аматарскіх выступленняў, а сапраўдным тэатрам. Тэатрам з вялікай літары.* «ЛіМ».

**ПАСЫЛАЦЬ НА ТРЫ ЛІТАРЫ** *каго.* Гл. пасылаць.

*ЛІТАСЦІВЫ* • **БОЖА <МОЙ> ЛІТАСЦІВЫ.** Гл. божа.

*ЛІТАСЦЬ* • **ЗМЯНІЦЬ ГНЕЎ НА ЛІТАСЦЬ.** *Зак. да* **ЗМЯНЯЦЬ ГНЕЎ НА ЛІТАСЦЬ.**

Здавацца (здацца) **НА ЛІ́ТАСЦЬ** *каго, чыю. Акал. Функц. не зам.* Безагаворачна, без усякіх умоў (здавацца каму-н.). *— Я не думаю здавацца на літасць пераможцаў, — адказвае Каленбрун.* Самуйлёнак. *Відаць было, што перамогуць немцы, што гадзіну-другую пратрымаюцца яшчэ рабочыя і прымушаны будуць ці здавацца на нямецкую літасць, ці загінуць пад моцным кулямётным агнём.* Лынькоў. *Паўстанскі камітэт прапануе зараз жа здацца на літасць пераможцаў.* Грахоўскі.

*ЛІТАЎРЫ* • **БІЦЬ У ЛІТАЎРЫ.** Гл. біць.

**БОЙ У ЛІТАЎРЫ.** Гл. бой.

*ЛІХА* • **АДНО́ ЛІ́ХА.** *У безас. ужыв. Праст. Незадав.* Абсалютна аднолькава, без розніцы, не мае значэння для каго-н. **Сін.**: абы дзень да вечара *каму* (у 2 знач.); адзін хрэн <*каму*>; адзін чорт <*каму, для каго*>; адна трасца <*каму*>; адна халера; і гора мала *каму;* і не шум баравы *каму;* ні горача ні холадна *каму ад чаго;* усё адно (у 2 знач.); усё роўна (у 4 знач.); хоць бы хны (у 3 знач.); хоць бы што (у 3 знач.); хоць воўк траву еш; хоць патоп; хоць трава не расці <*каму*>; што з гусі вада *з каго, каму;* як з гусака вада *з каго. [Міцюку] неяк было ўсё роўна: хоць там, на пасяленні, ці хоць дзе — адно ліха!* Грамовіч. *— Але каго-небудзь жа і сам губернатар прымае? — Паноў ды тых, хто добры хабар падсуне ўсім гэтым лысым. Во каго ён прымае. Ды адно ліха! Губернатар не заступіцца за мужыка, калі гэты мужык скардзіцца на пана.* Якімовіч.

**ДА ЛІ́ХА.** *Акал. Разм. Неадабр.* **1.** Вельмі многа каго-, чаго-н. **Сін.**: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бя-

ры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго;* вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго;* да гібелі *каго, чаго;* дай бог (у 4 знач ); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго;* да халеры *каго, чаго;* да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго;* з горла прэ *ў каго;* імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго;* не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго;* не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго;* па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго;* у кожнай кішэні па жмені *каго;* хоць адбаўляй *каго, чаго;* хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым;* хоць заваліся *чаго;* хоць заліся *чаго;* <хоць> плот гарадзі *кім, каго;* хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго;* цьма цьмушчая *каго, чаго;* цэлы воз *каго, чаго;* чортава гібель *каго, чаго;* чортава процьма *каго, чаго;* чорт што *чаго;* як бобу *каго;* як гразі *каго, чаго;* як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. Хлопцы даўно замахваліся на хлебныя склады на станцыі. Немцы да ліха нарабаванага збожжа туды навезлі.* Шамякін. *Яна тут бавіцца, а тут работы да ліха.* Асіпенка.

**2**. Вельмі моцна (стаміцца, надакучыць і пад.). *Стоячы каля воза, [Ганна] бачыла так мала, ды і стаянне гэта надакучыла да ліха!* Мележ.

**КАБ НА ЯГÓ (ЦЯБÉ, ЯÉ, ВÁС, ЇХ) ЛÍХА**. *Выкл. Праст.* Выказванне прыкрасці, абурэння, злосці і пад. **Сін**.: кадук на яго; кадук яго вазьмі; ліха матары <чыёй>; ліха на яго; ліха яго галаве; трасца яго галаве; трасца яго матары; трасца яму ў бок; халера на яго; хвароба на яго; хрэн у вочы *каму;* чэмер на яго галаву. *[Кацярына:] І прусы ёсць? [Рыгор:] Ёсць, каб на іх ліха. І бураксам труціў, і што ні рабіў — не памагае.* Крапіва. — *Камера, каб на яе ліха, лопнула, — сказаў салдат і пастукаў нагой па задняму колу машыны.* Сіняўскі.

**ЛÍХА ВÉДАЕ**. *У знач. галоўн. ск. ці акал. Праст.* Невядома (што, хто, колькі, як, адкуль і інш.). **Сін**.: адзін алах ведае; адзін бог <святы> ведае; адзін чорт ведае; бог ведае; хто ведае; чорт ведае; чорт ведама. *Камандзір разведроты Беражной проста здзіўляўся — ліха ведае, што за жанчына трапіла ў яго роту!* Краўчанка. *[Максім:] Ну і хвала богу, што так выйшла. А то ліха ведае, як бы яно павярнулася...* Макаёнак. *Лёвачка ўзняў галаву, як зайчык, азірнуўся ў адзін, у другі бок і ўсміхнуўся... Ліха яго ведае, колькі круку даў, каб ускочыць у кусты.* Лобан. *Гневайся цяпер Рабы і на падрастаючую моладзь — падсвінкаў: лётаюць, пішчаць, крычаць, дурэюць, ліха ведае чаго.* Ядвгін. Ш.

**ЛÍХА ВÉДАЕ ШТÓ**. *Часцей дап. Праст. Неадабр.* Штосьці надзвычайнае. **Сін**.: алах ведае *што;* бог ведае *што;* чорт ведае *што — Не тое, што арыштуюць, але, часамі, маці... — Пакінь, пакінь выдумляць ліха ведае што, — перабіла Зося.* Гартны. *Святыя дзявіцы з апосталамі на чале з Рэгісам запіраліся ў хатах, у якіх стаялі на кватэры, адкрывалі бутэлькі гарэлкі і пачыналася ліха ведае што.* Карпюк. — *Нарэшце, ён вельмі адукаваны чалавек, несумненна, педагог. — Ну-у-у, тут вы мяне зусім здзівілі, Анатоль Паўлавіч. Невядома чаго прыбіўся сюды, а строіць з сябе ліха ведае што.* Грахоўскі.

**ЛÍХА ГАРЫ́ЦЬ (ГАРЭ́ЛА, ЗАГАРЭ́ЛАСЯ)** *з каго, праз каго. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. з'яўляецца прычынай шуму, перапалоху, беспарадку і пад. **Сін**.: свет гарыць з *каго, праз каго, з-за каго* (у 1 знач.); сыр-бор разгарэўся *з-за каго, з-за чаго, праз каго, з чаго. — Ты не думай, Волька, што Алесь заўсёды гэтакі, — нарэшце парушыла маўчанне Лена. — Усё праз Віктара ліха гарыць. Ён і ў школе, бывала, зводзіў яго.* Ва-

даносаў. *З брыгадзіра ў нас больш ліха гарыць, чым з каго.* Дуброўскі. *Усё ліха гарэла з Камінскага, а цяпер Шыслоўскі верхаводзіць.* «Маладосць». *Алесь не вінаваты — гэта з Довыда ўсё ліха загарэлася...* С.Александровіч.

**ЛІ́ХА ГО́НІЦЬ (ПРЫГО́НІЦЬ, НАГО́НІЦЬ, ПРЫГНА́ЛА, НАГНА́ЛА)** *каго. У безас. ужыв. Праст.* Хто-н. недарэчы, не ў пару прыходзіць, з'яуляецца. Выказванне незадавальнення ў сувязі з прыходам нежаданага госця, наведвальніка. **Сін.**: ліха нясе *каго;* нялёгкая гоніць *каго;* нялёгкая нясе *каго;* нячыстая <сіла> гоніць *каго;* нячыстая <сіла> нясе *каго;* нячысцік нясе *каго;* трасца нясе *каго;* халера нясе *каго;* чорт гоніць *каго;* чорт нясе *каго. Адказаўшы на прывітанне, [Адасіха] уздыхнула: — Зноў прыгнала ліха гэтых нячысцікаў!* Шушкевіч. *— Адэля Маркаўна! — Што, галубок? — Мы есці хочам. — А-я-я-яй! Вы есці хочаце? Трэба ж было [тэле]грамку адбіць, што нейкае ліха прыгоніць цябе.* Лобан. *«Я табе, злодзей, натрасу,— злаваўся дзед. — З усяго табе смех. Нагоніць ліха пана — тады пасмяеешся...» І ліха пана нагнала.* Брыль.

**ЛІ́ХА З І́М (ТАБО́Й, ЁЙ, ВА́МІ, І́МІ)**. *Выкл. Праст.* Няхай будзе так, можна пакінуць без увагі. Выказванне згоды, прымірэння, уступкі і пад. **Сін.**: алах з табой; бог з табой; кадук з ім; ліха яго бяры; трасца яго бяры; халера з ім; халера яго бяры; хвароба з ім; хрэн з ім; чорт з ім; чорт яго бяры. *Вось выганяць са школы, дык будзе зусім дрэнна і будзеш ты зусім цёмным чалавекам... А што ён, поп гэты, гаворыць там, дык ты слухай і маўчы, ліха з ім...* Лынькоў. *— А, гэта ты, Аўгінька!.. А я кудзелі яшчэ не дапрала! — Ліха з ёю, з кудзеляю!* Колас. *Давайце ляжаць і маўчаць да вечара. Маўчаць! Чаго стракочуць гэтыя сарокі? Што іх хвалюе? Пятро, паглядзі. Маўчыцё, гады? Ну, і ліха з вамі! Думаеце, я паварушуся? Таксама маўчу!* Шамякін. *[Касабуцкі:] Дык ён жа, гад, чакаць не будзе. [Зуй:] Пачакае, чорт яго не возьме. [Касабуцкі:] Ну, ліха з ім, пайшлі.* Крапіва.

**ЛІ́ХА МА́ТАРЫ** *<чыёй>. Выкл. Праст.* Выказванне незадавальнен-ня, абурэння, прыкрасці або здзіўлення, захаплення кім-, чым-н. **Сін.**: каб на яго ліха; кадук на яго; кадук яго вазьмі; ліха на яго; ліха яго галаве; трасца яго галаве; трасца яго матары; трасца яму ў бок; халера на яго; хвароба на яго; хрэн у вочы *каму;* чэмер на яго галаву. *Песні ўсе не для мас: іх чытаць — трэба час, і чытаюць іх толькі аматары. Яны скажуць падчас: «Вось дык сплёў выкрутас! Ну і штучна ж пляце, ліха матары!..»* Крапіва. *Ах, ліха матары — нібыта ўчора ўсё тое было, нібыта дні не цягнуліся і не цягнуцца тут гадамі...* Брыль. *— Вот злодзей, ліха яго матары, не мог ён абысці мой двор,— затрэсся ад злосці Цiток.* Лобан. *[Максім:] Стой! Лаві яго! Лаві! Стой, махновец! Стой, ліха тваёй матары! Лавіце яго!* Макаёнак. *То я ж адтуль родам, божа мой! Там жа мая хата стаіць, ліха матары вашай!* Чорны.

**ЛІ́ХА НА ЯГО́ (ЦЯБЕ́, ЯЕ́, І́Х, ВА́С)**. *Выкл. Праст.* Выказванне абурэння, злосці, гневу і пад. **Сін.**: каб на яго ліха; кадук на яго; кадук яго вазьмі; ліха матары *<чыёй>;* ліха яго галаве; трасца яго галаве; трасца яго матары; трасца яму ў бок; халера на яго; хвароба на яго; хрэн у вочы *каму;* чэмер на яго галаву. *Андрэй выцер хусцінкай лоб. — Фу, ліха на яго, горача.* Асіпенка. *— Слухай, трэба падскочыць... — Дык жа цёмна. А там балота, ліха на яго.* Быкаў. *Сціхні ты, ліха на цябе! Хопіць малоць бязглуздзіцу! Надакучыла...* Ялоўчык. *[Алесь:] Работы хапае. Ліха на яе. Каня ўжо задушыў: штодзень то ў лес, то па сена.* Чарнышэвіч.

**ЛІ́ХА НЕ БЯРЭ́ (НЕ ВО́ЗЬМЕ)** *каго. У безас. ужыв. Праст.* Нічога не здараецца, не робіцца з кім-н., не шкодзіць каму-н. **Сін.**: кадук не бярэ *каго;* ніякае ліха не бярэ *каго;* ніякая трасца не бярэ *каго;* ніякая хвароба не бярэ *каго;* ніякі чорт не бярэ *каго;* халера не бярэ *каго;* хвароба не бярэ *каго;* чорт не бярэ *каго. [Сцяпан:] Вось толькі каб*

*пагода была добрая, а то казаў ён, што на кірмаш не паедзе, калі будзе дождж ісці. [Паўлінка:] Ліха не возьме! Гэткі цукар не размокне.* Купала. У *цябе чатыры каровы, дык калі ты адну і прадасі, дык ліха цябе не возьме.* Чорны. *— А па-мойму, няварта, калі не хоча, — запярэчыў Максім. — Ліха яго не возьме! Такі хворы ўсіх на сто год перажыве!* Шамякін.

**ЛІ́ХА НО́СІЦЬ** *каго дзе. У безас. ужыв. Праст. Неадабр.* Хто-н. недарэчы, не ў пару ходзіць, бадзяецца дзе-н. **Сін.**: нялёгкая носіць *каго дзе;* нячыстая сіла носіць *каго дзе;* нячысцік носіць *каго дзе;* халера носіць *каго дзе;* хвароба носіць *каго дзе;* чорт носіць *каго дзе;* чэрці душаць *каго дзе. — Каго ж тут ліха носіць? — запытаўся Швед, падышоўшы да чалавека, узняўшага ўгору адну руку.* Лынькоў.

**ЛІ́ХА НЯСЕ́ (ПРЫНЕ́СЛА)** *каго. У безас. ужыв. Праст.* Хто-н. недарэчы, не ў пару прыходзіць, з'яўляецца. Выказванне незадавальнення ў сувязі з прыходам нежаданага госця, наведвальніка. **Сін.**: каланіца носіць *каго, дзе, калі;* ліха гоніць *каго;* нялёгкая гоніць *каго;* нялёгкая нясе *каго;* нячыстая <сіла> гоніць *каго;* нячыстая <сіла> нясе *каго;* нячысцік нясе *каго;* трасца нясе *каго;* халера нясе *каго;* чорт гоніць *каго;* чорт нясе *каго. [Марынка:] Дзядзька, цётачка, да вас пан з войтам ідуць. [Янка:] Бацька, навошта ім сюды ісці? [Бацька:] Ліха іх сюды нясе, сынку... Па мае, відаць, косці.* В.Вольскі. *Зорык зморшчыўся, як ад болю, і ціха сказаў: — Некага ліха прынесла.* Новікаў.

<u>Куды, адкуль</u> і інш. **ЛІ́ХА НЯСЕ́ (ПРЫНЕ́СЛА)** *каго. У безас. ужыв. Ужыв. у пытальных ск. Праст. Неадабр.* (Куды, адкуль і інш.) хто-н. ідзе (прыйшоў)? **Сін.**: бог нясе *каго;* бура нясе *каго;* вецер нясе *каго;* нячысцік гоніць *каго;* чорт нясе *каго. [Язэп] ужо збіраўся брацца за плуг, як раптам убачыў у лагчыне пад узгоркам цівуна Дракулу. "Чаго яго ліха нясе?" — падумаў Язэп.* Якімовіч.

**ЛІ́ХА ЯГО́ (ЯЕ́, І́Х) БЯРЫ́ (ЗАБЯРЫ́).** *Толькі ў заг. л. Выкл. Праст.* Няхай будзе так, можна пакінуць без увагі. Выказванне згоды, прымірэння, уступкі і пад. **Сін.**: алах з табой; бог з табой; кадук з ім; ліха з ім; трасца яго бяры; халера з ім; халера яго бяры; хвароба з ім; хрэн з ім; чорт з ім; чорт яго бяры. *Настаўнік выходзіць на больш сухое месца, прыгінаецца, знімае хадакі, падкасваецца: «Ліха яго бяры, лёду няма, а можа, ногі не паадвальваюцца, а на пераездзе абуюся», — думае.* Колас. *— Дык гэта цябе з сельсавета збакалі ўжо?.. — Ліха іх бяры! Не вельмі я ганяюся за гэтым.* Крапіва. *— Відацкая нешта пачула, калі за бесцань лес аддала. — Ліха яе забяры, з гэтай Відацкай, хай прадае. Гэтакі гаспадар, як яна, знойдзецца на яго.* Лобан.

**ЛІ́ХА ЯГО́ (ЯЕ́, І́Х, ТВАЕ́Й, ВА́ШАЙ) ГАЛАВЕ́.** *Выкл. Праст.* Выказванне прыкрасці, абурэння і пад. кім-, чым-н. **Сін.**: каб на яго ліха; кадук на яго; кадук яго вазьмі; ліха матары *<чыёй>;* ліха на яго; ліха яго галаве; трасца яго галаве; трасца яго матары; трасца яму ў бок; халера на яго; хвароба на яго; хрэн у вочы *каму;* чэмер на яго галаву. *Ух, замарыўся, ліха яго галаве.* Мурашка. *Я, брат, нават прывык вось так спяшацца кожнага ранку. Нібы мне трэба гэта, ліха іх галаве.* Брыль. *Што пачаць, Хвядос не ведаў, памаўчаў хвілінкі дзве: — Не пазналі, — кажа, — дзеда, ліха вашай галаве?* Крапіва.

**ЛІ́ХА ЯГО́ (ЯЕ́, І́Х, ЦЯБЕ́, ВА́С) ВЕ́ДАЕ.** *Часцей у знач. галоўн. ск. Праст. Неадабр.* Невядома. **Сін.**: агонь яго ведае; алах яго ведае; бог яго ведае; вятры яго ведаюць; кадук яго ведае; немач яго ведае; нячысцік яго ведае; пярун яго ведае; трасца яго ведае; халера яго ведае; хвароба яго ведае; хрэн яго ведае; хто яго ведае; чамярыца яго ведае; чорт яго ведае. *Ліха яго ведае, гэтага старасту, чаго ён ад нас хоча, чаго ён да нас чэпіцца. Ён жа ведае, што коней нашых дома няма.* Чорны. *[Гарлахвацкі:] Што яшчэ за*

*жанчына? [Анна Паўлаўна:] Ліха яе ведае, незнаёмая. Такая языкастая. Ды яна тут недзе.* Крапіва. *З-за сухіх высокіх чаротаў чалавек трыццаць казакоў на конях вылятае! І як падкраліся яны так спрытна, ліха іх ведае. Раз — і акружылі!* Колас. *Адкуль вы выкопваеце гэтае зелле, ліха вас ведае... Такіх раслін я тут не сустракаў, здаецца.* Чарнышэвіч.

**НА ЛІ́ХА.** *Акал. Прает.* Навошта. **Сін.**: да д'ябла (у 3 знач.); на воўка; на халеру; на хваробу; на храна; на чорта; на які хрэн; на які ляд; на які чорт; на якога чорта; на якое ліха; на якую трасцу; на якую халеру; якога ліха (у 1 знач.); якога ражна (у 1 знач.); якога хрэна (у 1 знач.); якога чорта (у 1 знач.). *Пра вас так многа гавораць, што мне проста захацелася з вамі быць, біцца з панамі насмерць. На ліха яны здаліся?* Колас. *На ліха я ў старасты пайшоў, паціху сядзеў бы, свой кавалак хлеба маючы.* Самуйлёнак. *«А потым,— кажа,— ты і ксяндзом, Казік, будзеш». А на ліха мне, хлопцы, быць ксяндзом!* Чарнышэвіч.

**НА ЛІХА КАЗАНА.** Гл. казана.

**НА ЯКО́Е ЛІ́ХА.** *Акал. Прает. Незадав.* Навошта. **Сін.**: да д'ябла (у 3 знач.); на воўка; на ліха; на халеру; на хваробу; на храна; на чорта; на які ляд; на які хрэн; на які чорт; на якога чорта; на якую трасцу; на якую халеру; якога ліха (у 1 знач.); якога ражна (у 1 знач.); якога хрэна (у 1 знач.); якога чорта (у 1 знач.). *— А на якое ліха той сход? — Як так на якое ліха?* Галавач. *Трэба вам у сяло перабірацца, на якое ліха вы тут будзеце гібець на гэтай пустэчы?* Лобан.

**НІЯ́КАЕ ЛІ́ХА НЕ БЯРЭ́ (НЕ ВО́ЗЬМЕ)** *каго. Убезас. ужыв. Прает.* Абсалютна нічога не здараецца, не робіцца з кім-н., не шкодзіць каму-н. **Сін.**: кадук не бярэ *каго;* ліха не бярэ *каго;* ніякая трасца не бярэ *каго;* ніякая халера не бярэ *каго;* ніякі чорт не бярэ *каго;* халера не бярэ *каго;* хвароба не бярэ *каго;* чорт не бярэ *каго. За дваццаць гадоў работы я ніводнага разу не быў на бюлетэні — ніякае ліха мяне не брала.* Шахавец. *А Лявонку бацька здаецца такім дужым і спрытным, што ніякае ліха яго не возьме.* Чарняўская.

**ПАКАЗАЦЬ ПАЧЫМ ФУНТ ЛІХА** *каму.* Гл. паказаць.

**ПАЧЫМ ФУНТ ЛІХА.** Гл. фунт.

**СУ́ПРАЦЬ (СУПРО́ЦЬ, ПРО́ЦІЎ) ЛІ́ХА НА ЎЗГО́РАЧКУ.** *Разм.* **1.** *Акал.* Вельмі далёка. Уніклівы адказ на пытанне пра месца знаходжання каго-н. *[Гудовіч:] Дзе ж ён жыве? [Юля:] А жыве ён.. супраць ліха на ўзгорачку. [Гудовіч:] Ну, гэта, відаць, далекавата.* Крапіва.

**2.** *Азн. Разм. Часцей жарт.* Не надта прыдатнае, нязручнае (пра месца знаходжання каго-н.). *Гандаль пайшоў вельмі жыва. Але месца для будкі абралі не зусім добрае, як кажуць, «проціў ліха на ўзгорачку».* Мрый.

**ШТО́ ЗА ЛІ́ХА!** *Выкл. Разм.* Вокліч незадавальнення, здзіўлення, неразумення. Што гэта значыць, як гэта разумець?! **Сін.**: што за трасца! што за хвароба! што за чартаўшчына! што за чорт! *«Што за ліха! — думае [Сцяпан]. — Каму там прыспела агонь класці? Яшчэ хлеў запаліць».* Крапіва. *Ціха стала на вуліцы. Ціха. Што за ліха?* Куляшоў. *Што, думаю, за ліха, дзе ж дзеці?* Быкаў.

**ЯК НА ЛІ́ХА.** *У знач. пабочн. сл. Разм.* Быццам кімсьці падстроена, нібы знарок. Выказванне шкадавання ў сувязі з чым-н. **Сін.**: як на бяду; як на грэх; як на злосць; як на тое; як на тое ліха. *Гэта разважанне прынесла крыху заспакаення Андрэю. Але заснуць ён не мог: як на ліха, клапы ўчулі свежага чалавека і сталі кусаць часта і моцна.* Колас.

*Як на ліха, тапчан быў нізкі, стол высокі, так што, сеўшы пісаць, Андрэйка чуць носам даставаў да стала.* Бядуля.

**ЯК НА ТО́Е ЛІ́ХА.** *Узнач. пабочн. сл. Разм.* Быццам кімсьці падстроена, нібы знарок. Выказванне шкадавання ў сувязі з чым-н. **Сін.**: як на бяду; як на грэх; як на злосць; як на ліха; як на тое. *Прайшлі яшчэ вёрстаў колькі да другога сяла. Як на тое ліха, зноў карчма стаіць.* Каваль. *[Сцёпка] пасунуўся крыху ўбок, ствол аўтамата нацэліў на вартавога. Як на тое ліха, свежаваты вецер заматляў перад тварам галінкі...* Быкаў.

**ЯКО́ГА ЛІ́ХА.** *Праст. Груб.* Выказванне абурэння чымі-н. дзеяннямі, паводзінамі. **1.** *Акал.* Чаму, для чаго, з якой мэтай (робіць хто-н. што-н.). **Сін.**: да д'ябла (у 3 знач.); на воўка; на ліха; на халеру; на хваробу; на храна; на чорта; на які ляд; на які хрэн; на які чорт; на якога чорта; на якое ліха; на якую трасцу; на якую халеру; якога ражна (у 1 знач.); якога хрэна (у 1 знач.); якога чорта (у 1 знач.). *Гэты недавер крыху абражаў Сухарэўскага. Якога ліха так доўга правяраюць яго?* Асіпенка. — *Якога ліха ты мне пра гэта гаворыш?— абурыўся Калеснікаў.* «Полымя».

**2.** *Дап.* Чаго (трэба, не хапае каму-н.). **Сін.**: якога ражна (у 2 знач.); якога хрэна (у 2 знач.); якога чорта (у 2 знач.). *Паслухайце, Ванідзе, мне абрыдлі вашы размовы. Якога ліха вам трэба?* Асіпенка.

**ЯКО́Е ЛІ́ХА.** *Часцей у знач. дзейн. Праст. Неадабр. Часцей ужыв. у пытальных ск.* Што (робіць, зробіць хто-н.). **Сін.**: якая трасца; якая халера. *А якое ліха тут выдумаеш, калі Загародная вуліца за цэлую вярсту ад гарадской водаправоднай сеткі?* Крапіва. *[Настуля:] Не сышліся ў грашах нешта ці якое ліха, дык рабочыя ўзялі дый кінулі на палове. Сам, кажуць, рабі, калі так.* Мурашка.

**ЯКО́Е ЛІ́ХА НО́СІЦЬ** *каго дзе. Убезас. ужыв. Праст. Неадабр.* Чаго хто-н. бадзяецца, не ў пару ходзіць дзе-н. — *А я ўжо дадумацца не мог — куды вудзільня падзелася... Але ж якое цябе ліха тут носіць? — Ліха чалавека не носіць, ад яго папаўзеш па зямлі. На рэчку прыйшоў паглядзець!* Лынькоў.

**ЯКО́Е ЛІ́ХА НЯСЕ́ (НЕ́СЛА)** *каго куды. У безас. ужыв. Праст. Неадабр.* Чаго хто-н. ідзе (едзе) куды-н. *І года я не пражыла замужам, як пачалося раскулачванне. От тут я і агледзелася, куды завяла мяне ліхая доля. Агледзелася і загаласіла — моцна, на чым свет стаіць: «А якое ж ліха несла мяне ў гэтую хату...»* Палтаран.

*ЛІХАМ* • **НЕ ПАМІНАЙ ЛІХАМ** *каго.* Гл. памінай.

*ЛІХВОЙ* • **З ЛІХВО́Й.** *Акал. Разм.* Больш, чым трэба (вярнуць, акупіцца і пад.). **Сін.**: з гакам (у 2 знач.); з лішкам (у 2 знач.). *Зямля непадкупна сумленная: падкармі яе, напаі, потам сваім палі — дасць, не падмане, верне з ліхвой.* Лобан. *Жыццё пылінку вечнасці сваёй пазычыць пад настрой, але адразу цярпець прымусіць крыўду і абразу, вярнуць пазыку хочучы з ліхвой.* Барадулін. *Усё гэта [сабранае сярод калгаснікаў для фермы] верне калгас увосень тым, хто дасць, з ліхвой.* Ермаловіч.

*ЛІХІ* • **ЛІХІ ПОП ХРЫСЦІЎ** *каго.* Гл. поп.

*ЛІХОГА* • **НА ЛІХОГА КАЗАНА.** Гл. казана.

*ЛІХОЙ* • **ЯК ЛІХОЙ СКУЛЕ.** Гл. скуле.

*ЛІХУ* • **АНУ́ (НУ́) ЯГО́ (ЯЕ́, І́Х) К ЛІ́ХУ.** *Выкл. Праст.* Выказванне незадавальнення, адмаўлення, прыкрасці, абурэння і пад. **Сін.**: ану яго; ану яго к чорту; ну яго к манахам. *[Паны] не бачаць далей носу і рубяжоў свае пасады... Ану іх к ліху! ну іх к ляду!* Колас. — *А кпіны слухаць там і розную брыду — ды ну іх, — кажа, — к ліху!* Крапіва.

*ЛІЦЦА* • **БЯРО́ЗАЮ ЛІ́ЦЦА**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Горка плакаць. **Сін.**: абліваццa слязамі; вачэй не асушваць; выплакаць <усе> вочы; выціскаць слязу (у 1 знач.); ліць слёзы <*па кім*>; пець рэпку; пускаць слязу; разводзіць сырасць; распускаць нюні (у 1 знач.); умывацца слязамі. *[Вярэніч:] Думаеце, у Дабрынёве адна Вулляна сёння бярозаю ліецца?* Петрашкевіч. *Мужчына,— а каб бачылі, як ён ды, бедны, бярозаю ліўся, як дзетак страцілі? Пабілі ўсю сямейку. Дык плакаў плачам.* Янкоўскі.

**ЛІ́ЦЦА РАКО́Й**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета (часцей пра віно, піва і пад.). Выкарыстоўвацца ў вялікай колькасці. *У асеннія доўгія ночы пачынаюцца балі, гульні і розныя вясёлыя забавы. Віно льецца ракой. Найлепшая яда навалена гарамі на пекна прыбраных сталах...* Бядуля. *Тады было святкаванне 300-годдзя горада. Піва, зразумела, ракой лілося.* «Маладосць». *[Сірацюк] захацеў сэканоміць — у вёсцы, палічыў, можна ў мясцовых шафёраў купіць паліва значна танней, і ён рабіў так часцяком. І на табе: калгас упершыню застаўся без паліва, якое раней лілося тут ракой.* В.Ткачоў. *Вяселле было сціплае, нявесту прывезлі на грузавіку, віно ракою лілося.* Шамякін.

*ЛІЦЬ* • **ЛІ́ЦЬ БРУ́Д (ПАМЫ́І)** *на каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Несправядліва абвінавачваць, незаслужана зневажаць каго-н. **Сін.**: абліваць граззю *каго, што;* вешаць сабак *на каго, на што;* выліваць памыі *на каго;* выліваць бруд на галаву *каго;* закідваць граззю *каго;* кідацца граззю; кідаць каменем *у каго;* кідаць цень *на каго, на што* (у 1 знач.); мазаць дзёгцем *каго, што;* мяшаць з граззю *каго, што;* мяшаць з зямлёй (у 3 знач.); наводзіць цень *на каго, на што;* падтоптваць пад ногі (у 2 знач.); таптаць у гразь *каго, што. Жывём мы з табой дружна, як сапраўдныя сябры. А яна ж [Ганна] прыбегла ў кароўнік ды перад такой камісіяй давай ліць на мяне бруд. А за што?* Дайліда. *Толькі з паўгадзіны таму, як Сымон ліў на цябе памыі і грaзіў скарпіёнамі...* Гартны. — *Я ўкраў адэкалон,— ліў на сябе памыі Пецік, не бачачы ўжо ніякага паратунку.* Навуменка.

**ЛІ́ЦЬ ВАДУ́ НА МЛЫ́Н** *чый, каго. Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Ускосным чынам дапамагаць сваімі дзеяннямі, паводзінамі, выказваннем і пад. каму-н. (супраціўнаму боку). **Сін.**: іграць на руку *каму. — А што ж, каму гэта ты спрыяеш? — На чый гэта ты млын ваду льеш?* Чорны. *[У артыкуле] крытыкаваўся сам старшыня Захар Бадытчык. Нават карыкатура была: плот валіцца на чалавека. І подпіс пад ёю: «Таварыш Бадытчык лье ваду на млын кулака»*. Лобан. *Камендант і праўда быў задаволены, што моладзь збіраецца наладзіць у Ярэмнічах пастаноўку, гэта ліло ваду на яго млын, можна было далажыць начальству, што ў мястэчку ідзе нармальное жыццё — працуе семінарыя, выступае самадзейнасць.* Арабей.

**ЛІ́ЦЬ (ПЕРАЛІВА́ЦЬ) ВАДУ́**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гаварыць пустое, пустасловіць. **Сін.**: араць дарогі; біць язык аб зубы (у 2 знач.); блынды правіць; гарадзіць плот <каму>; званіць у <разбіты> лапаць; круціць вала <за хвост> (у 2 знач.); мазоліць язык; малоць языком (у 1 знач.); малоць не падсяваючы; мянціць языком; пераліваць з пустога ў парожняе (у 2 знач.); плесці кашалі <*каму, пра каго, пра што*>; плесці кашалі з лапцямі; плесці лапці; пляскаць языком; разводзіць антымоніі; разводзіць тары-бары; тары-бары <растабары> (у 2 знач.); таўчы ваду ў ступе (у 2 знач.); тачыць лясы <*з кім*>; травіць баланду (у 1 знач.); трапаць языком; часаць язык (у 1 знач.); часаць языком. *Як шмат усё-такі мы гаворым попусту. Абы ліць ваду, абы не маўчаць.* Дайнека. *Ну, што ж? Даруем дзеду, калі што прыманіў, у*

*падарожжы следам ніхто з ім не хадзіў. Хоць ён на гэта стар быў, каб дарма ваду ліць, ды хто ж ярчэйшых фарбаў адмовіцца ўжыць!* Лужанін. *Гадзіны чатыры пераліvалі ваду... Дамовіліся назаўтра зноў сустрэцца.* Місько.

**ЛІ́ЦЬ (ПРАЛІВА́ЦЬ) КРАКАДЗІ́ЛАВЫ СЛЁЗЫ**. *Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Двудушна, прытворна або няшчыра скардзіцца. *Прадажны буржуазны друк лье кракадзілавы слёзы, нібы клапоцячыся аб простым народзе.* «ЛіМ». *— Халуста, пане Жукоўскі, праліваў кракадзілавы слёзы, калі вы гэта разумееце... — Разумею. Я чуў такую пагаворку. Жарэ сваю ахвяру, а сам плача...* Чарнышэвіч. **ПРАЛІЦЬ КРАКАДЗІЛАВЫ СЛЁЗЫ**. *Зак. Тое, што Хліпак мог праліць дзе трэба кракадзілавы слёзы, і зараз дапамагло яму выйсці сухім з бруднай вады.* Чавускі.

**ЛІ́ЦЬ (ПРАЛІВА́ЦЬ) КРО́Ў**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** *за каго, за што.* Гінуць, паміраць ці пакутаваць, абараняючы каго-, што-н. *Цары карон з сабой не падзялілі, год чатырнаццаты абліў крывёй зямлю, і беларускія сыны на прадзедаў магіле ліць кроў пайшлі за бацькаўшчыну, толькі ж.. не сваю.* Купала. *Я кроў праліваў за новае жыццё.* Быкаў. **ПРАЛІЦЬ КРОЎ** *за каго, за што. Зак. Тут вельмі важна, што ў Чырвонай Арміі ён не адбываў службу, а служыў не шкадуючы сябе!.. Быў ранены!.. За савецкую ўладу чалавек праліў кроў!..* Мележ.

**2.** *чыю, каго.* Забіваць, знішчаць каго-н. (на вайне). **ПРАЛІЦЬ КРОЎ** *чыю, каго. Зак. [Мікола:] Усё фашыст забраў, усё апаганіў... І за ўсё я павінен адпомсціць... Мала праліў я паганай іх крыві.* Крапіва.

**ЛІ́ЦЬ (ПРАЛІВА́ЦЬ) ПО́Т**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Працаваць да знясілення. **Сін.**: гнуць <сваю> спіну (у 1 знач.); грэць лоб; мазоліць рукі; не разгінаць спіны; сем патоў выліць (у 1 знач.); сем патоў сагнаць; цягнуць лямку *<каго, чаго>;* цягнуць ярмо *<каго, якое>. Кожны з нас мае права на гэту зямлю. Некалі нашы дзяды разам пот лілі, робячы на Відацкіх.* Лобан. **ПРАЛІЦЬ ПОТ**. *Зак. Нялёгкая, скажу прама, мэта. Каб выканаць яе, давядзецца праліць нямала поту, падумаць, што змяніць, удасканаліць, ад чаго пазбавіцца.* «Звязда».

**ЛІ́ЦЬ (ПРАЛІВА́ЦЬ) СВЯТЛО́** *на што. Незак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Растлумачваючы, рабіць зразумелым што-н. **Сін.**: разжоўваць і ў рот класці *каму. — Далёкая сваячка, за парабчанку была, раптам робіцца за гаспадыню? — Выходзіць так. — А хутар аставаўся ёй у спадчыну? — Здаецца, так. — Вы, як кажуць, льяце святло на гэтую справу.* Чорны. *Параўнальнае вывучэнне абрадавай паэзіі паказвае добрую захаванасць старажытных пластоў у беларускім фальклоры, даследаванне якіх пралівала святло на многія агульнаславянскія з'явы.* «Настаўн. газ.» *Зазыба паступова перабраў у галаве ўсе магчымыя варыянты, якія хоць трохі пралівалі святло на гэта.* Чыгрынаў. **ПРАЛІЦЬ СВЯТЛО** *на што. Зак. Чытаю пратаколы допытаў дзесяткаў людзей, якія маглі праліць святло на трагедыю, што адбылася на возеры.* «ЛіМ».

**ЛІ́ЦЬ (ПРАЛІВА́ЦЬ) СЛЁЗЫ** *<па кім>. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Горка плакаць. **Сін.**: абліvацца слязамі; бярозаю ліцца; вачэй не асушваць; выплакаць <усе> вочы; выпускаць слязу (у 1 знач.); пець рэпку; пускаць слязу; разводзіць сырасць; распускаць нюні (у 1 знач.); умывацца слязамі. *Няхай Анош не лье слёзы па сваяках нябожчыкаў. Ніхто з іх не натрэ мазалі, бо ніхто цяпер пехатой не ходзіць, нават на могілкі.* Шамякін. **ПРАЛІЦЬ СЛЁЗЫ** *<па кім>. Зак. [Мальвіна:] Ты*

*усё яшчэ, дурненькая, не адумалася? Слёзы праліваеш?.. Хаця так і павінна быць. Якая гэта нявеста ды не плача?* В.Вольскі.

*ЛІЧЫЦЬ* • **ЛІЧЫЦЬ ВАРО́Н**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Праяўляць няўважлівасць, рассеянасць. **Сін**.: лавіць мух (у 2 знач.); разяўляць рот (у 4 знач.). — *Яміна, ліха на яе, трапілася. — Варон не лічы. Глядзі, куды прэш.* Калодзежны. *Дасюль чую рэзкія воклічы: «Чаго зноў галаву задрала? Варон лічыш?»* Бондар.

**2**. Упустую траціць час, гультаяваць. **Сін**.: абіваць бакі (у 2 знач.); адлежваць бакі (у 2 знач.); акалочваць (акалачваць) грушы <з вербаў>; біць байды; біць бібікі; біць лынды (у 1 знач.); біць тылылы; брынды біць; валяць дурня (у 2 знач.); вераб'ям дулі паказваць; ганяць сабак *<па чым>;* корчыць гультая; ляжаць на баку; пляваць у столь; сабакам сена касіць (у 1 знач.); сачка давіць. *Уладзя, асмялеўшы, узяў Ніну за руку і хацеў тут жа прыхінуцца, абняць яе... Ніна ўстала, сказала, што няма чаго ім варон лічыць.* І.Капыловіч.

**3**. Марудзячы, прапускаць зручны момант. **Сін**.: лавіць варон (у 2 знач.); лавіць мух (у 3 знач.); страляць варон (у 2 знач.). — *Ці пад'еў? — спытаўся барадач, як выйшлі на двор. — Тут, брат, варон не лічы, а гані, як можаш, бо абмылкі пасля не паправіш.* Галубок.

**ЛІЧЫЦЬ ЗУ́БЫ (СКА́БЫ)** *каму, у каго. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна біць каго-н. **Сін**.: даваць волю рукам (у 1 знач.); лупіць скуру *з каго* (у 1 знач.); палічыць рэбры *каму;* распускаць рукі (у 1 знач.). — *Ну, шкадлівы кот!.. — задыхнуўся я ад роспачы і злосці на Колю. — Даўно табе не лічылі зубоў!..* Ягоўдзік. *Варанецкаму тады было гадоў дзесяць, і ён бегаў з піянерскім гальштукам на шыі, калі Халявік глядзеў на белы свет праз краты, а ў Бобрыка дэфензіва лічыла скабы.* Дуброўскі. **ПЕРАЛІЧЫЦЬ ЗУБЫ (СКАБЫ)** *каму, у каго. Зак. — Так што, малады чалавек, — звярнулася [Аўдоцця Піліпаўна] да Алеся, — калі не хочаш, каб ён [муж] пералічыў зубы, трымайся далей ад мяне. Мужык мой дужы, як мядзведзь, хрыбціну пераломіць і не паморшчыцца.* Новікаў.

*ЛІШКАМ* • **З ЛІ́ШКАМ**. *Акал. Разм.* **1**. Ужыв. пасля лічэбн. (пры прыблізным вызначэнні велічыні, даўжыні, колькасці чаго-н.). З невялікім перавышэннем. **Сін**.: з гакам (у 1 знач.); з лішнім; з паходам; з хвосцікам. *Дзвесце з лішкам хат у Новым Сяле, дзвесце з лішкам гаспадароў.* Галавач. *Гэта будзе адгэтуль сто з лішкам кіламетраў.* Пестрак.

**2**. Больш, чым трэба (мець, рабіць, акупіцца і пад.). **Сін**.: з гакам (у 2 знач.); з ліхвой. *Чаго з лішкам хапала мне, дык гэта непаседлівасці і нейкай нервовай узбаламучанасці.* Асіпенка. *І з цягам часу, як вядома, выдаткі манапалістаў акупіліся з лішкам, акупіліся чужым дабром, чужымі набыткамі.* Гроднеў.

*ЛІШНІ* • **ЛІШНІ РОТ**. Гл. рот.

*ЛІШНІМ* • **З ЛІ́ШНІМ**. *Акал. Разм.* Ужыв. пасля лічэбн. (пры прыблізным вызначэнні велічыні, даўжыні, колькасці чаго-н.). З невялікім перавышэннем. **Сін**.: з гакам (у 1 знач.); з капейкамі; з лішкам (у 1 знач.); з паходам; з хвосцікам. *Што рабіць [Насовічу]? А ўсяго толькі скласці слоўнік на трыццаць з лішнім тысяч слоў.* Караткевіч. *Сабор быў, відаць, паўтара з лішнім стагоддзя назад перабудаваны.* «Маладосць».

*ЛІШНІХ* • **БЕЗ ЛІШНІХ СЛОЎ**. Гл. слоў.

*ЛОБ* • **ВОЧЫ НА ЛОБ ЛЕЗУЦЬ** *у каго.* Гл. вочы.

**ЛОБ ГУЗА ШУКАЕ** *ў каго, чый.* Гл. галава.

**ЛОБ ТРАШЧЫЦЬ** *у каго.* Гл. галава.

**ЛО́Б У ЛО́Б.** *Разм.* **1.** *Акал.* Насустрач адзін аднаму (сутыкацца, сустракацца, ісці і пад.). **Сін.**: вочы ў вочы (у 1 знач.); грудзі ў грудзі; носам к носу; носам у нос; нос у нос; тварам да твару (у 1 знач.); тварам у твар (у 1 знач); твар у твар (у 1 знач.). *Ля магазіна ён [Дубіцкі] паставіў веласіпед і ўзышоў на ганак. У гэты ж момант з магазіна выйшаў чалавек. Яны амаль лоб у лоб сутыкнуліся з ім, і абодва спыніліся.* Чарнышэвіч. *Аднаго разу ён [Вышамірскі] сустрэўся з мядзведзем адзін на адзін, лоб у лоб.* Бядуля. *Даўней гэта выглядала так. Сустракаліся два варожыя станы і, стаўшы лоб у лоб на якім-небудзь гістарычным полі, выпускалі наперад асілкаў.* Брыль.

**2.** *Азн.* Зусім аднолькавыя па сіле, росту. Пра дужых і рослых мужчын. **Сін.**: адзін пад адзін (у 2 знач.); адзін у адзін; як адзін (у 3 знач.); як на падбор. *З Свістуном ехала цэлая світа: васемнаццаць хлопцаў, лоб у лоб, як адзін, усе ў скураных паліто.* Лынькоў. *Падышлі ўтраіх — высокія ды здаравякі, адзін у адзін, лоб у лоб.* Янкоўскі.

**МЕ́ДНЫ ЛО́Б.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм. Пагард.* Тупы, абмежаваны ці занадта ўпарты чалавек. **Сін.**: алёша з батонамі; асёл маляваны; галава <і> два вухі; галава садовая; галава яловая; дубовая галава; конь божы; курыная галава; куст альховы; мех з саломай; пень асінавы; пустая галава. **Ант.**: светлая галава. *Там, дзе ён робіць расцяроб, знікае ўсё жывое... На тое ж ён — і медны лоб, стварэнне ў помсце злое.* Бачыла. *Спакон вякоў жа знаюць: там, дзе ўжо ўзяўся медны лоб, удач там не збіраюць.* «Полымя».

**ПАГРЭЦЬ ЛОБ.** Гл. пагрэць.

**ПАДСТАЎЛЯЦЬ ЛОБ ПАД КУЛІ.** Гл. падстаўляць.

**ПАДСТАЎЛЯЦЬ <СВОЙ> ЛОБ.** Гл. падстаўляць.

**ПУСКАЦЬ КУЛЮ Ў ЛОБ** *каму.* Гл. пускаць.

**ПУСКАЦЬ САБЕ КУЛЮ Ў ЛОБ.** Гл. пускаць.

**У ЛО́Б.** *Разм.* **1.** *Акал.* Прама, маючы непасрэдна перад сабой (атакаваць, выступаць, браць і пад.). *— Трэба абавязкова разграміць... Не чакаць... — Але як? — спытаўся Сакач. — У лоб іх не возьмем — узброеныя да зубоў.* Пестрак. *Вышыню не абмінуць! Яе трэба — хочаш не хочаш — браць толькі ў лоб.* Дамашэвіч. *Палітыка без хітравання — гэта атака ў лоб, Лара, гэта дарэмная трата сілы...* Мурашка.

**2.** *Акал.* Адкрыта і нічога не хаваючы, прамалінейна (гаварыць, вырашаць, пытацца і пад.). **Сін.**: адкрытым тэкстам; ва ўпор (у 2 знач.); вочы ў вочы (у 2 знач.); у адкрытую; у вочы *казаць;* у твар *гаварыць.* **Ант.**: за вочы (у 1 знач.). *Публіцыстычную, газетную тэму Купала вырашае ў адкрыта публіцыстычнай форме, у лоб, як у нас часта гавораць.* Бярозкін. *Зімавец ведаў крутую натуру дзеда, загаварыць адразу ў лоб не асмеліўся — павёў разведку...* Карамазаў.

**3.** *Азн. Разм.* Прамалінейны, адкрыты, бясхітрасны. *Барыс, давай адразу пачнём з пытання ў лоб: ты задаволены тым, што табою напісана, і тым, як гэта напісанае ацэнена крытыкай і літаратурным асяроддзем?* Л.Галубовіч. *Схацелася цэлага верша, і, магчыма, не такога адкрытага, як кажуць, не ў лоб, а каб у радках чулася штосьці прытоенае, прыхаванае, але каб захлёствала цалкам.* Баравікова.

**ХОЦЬ <ТЫ> У ЛОБ СТРАЛЯЙ** *каму.* Гл. страляй.

**ШТО́ Ў ЛО́Б ШТО́ ПА ІЛБЕ́.** *Акал. Разм.* Аднолькава, тое самае. **Сін.**: не кіем дык палкай; ці савой аб пень ці пнём аб саву.

*ЛОБЕ* • **НА ЛОБЕ НЕ НАПІСАНА** *ў каго.* Гл. напісана.

**СЯМІ ПЯДЗЯЎ У ЛОБЕ**. Гл. сямі.
*Адзін* **ЯК ВОКА Ў ЛОБЕ**. Гл. вока.

*ЛОДАРА* • **КОРЧЫЦЬ ЛОДАРА**. Гл. корчыць.

*ЛОЖА* • **ПРАКРУ́СТАВА ЛО́ЖА** *чаго. Мн. не ўжыв. Кніжн. У ролі розных чл. ск.* Мерка, пад якую сілком, штучна падганяюць ці прыстасоўваюць што-н. *Што да мяне, дык я цікавіўся і цікаўлюся рознымі школамі і напрамкамі, але асцерагаюся, каб не трапіць на пракрустава ложа іх тэорый.* Танк. *Сам я не вельмі люблю дзяліцца думкамі. I не таму, што яны ганебныя. Яны не лезуць у пракрустава ложа звычнага, прынятага...* Асіпенка. *Кепска, калі канцэпцыя падмяняецца пракруставым ложам, завуаліраваным пад прынцыповасць.* «ЛіМ».
**УКЛАДАЦЬ У ПРАКРУСТАВА ЛОЖА** *чаго.* Гл. укладаць.
**УКЛАДВАЦЦА Ў ПРАКУСТАВА ЛОЖА**. Гл. укладвацца.

*ЛОКАЦЬ* • **КУСАЦЬ СЯБЕ ЗА ЛОКАЦЬ**. Гл. кусаць.

*ЛОКЦІ* • **КУСАЦЬ <САБЕ> ЛОКЦІ**. Гл. кусаць.
**РУКІ <ПА ЛОКЦІ> У КРЫВІ** *ў каго.* Гл. рукі.

*ЛОКЦЯ* • **ПАЧУЦЦЁ ЛОКЦЯ**. Гл. пачуццё.

*ЛОМАНАГА* • **ЛОМАНАГА ГРОША** *не варта.* Гл. гроша.

*ЛОМАНЫ* • **ЛОМАНЫ ГРОШ ЦАНА** *каму, чаму.* Гл. цана.
**НА <ЛОМАНЫ> ГРОШ**. Гл. грош.
**НІ НА ЛОМАНЫ ГРОШ** *чаго.* Гл. грош.

*ЛОМІЦЦА* • **СТОЛ ЛОМІЦЦА** *ад чаго.* Гл. стол.

*ЛОМЯЦЦА* • **КОП'І ЛОМЯЦЦА** *з-за каго, з-за чаго.* Гл. коп'і.

*ЛОПНІ* • **ХО́ЦЬ <ТЫ́> ЛО́ПНІ (ТРЭ́СНІ)**. *Толькі ў гэтай форме. Акал. Праст.* **1**. Нягледзячы ні на якія старанні, намаганні (не атрымліваецца што-н.). **Сін**.: хоць на кавалкі разрывайся; хоць памры; хоць разарвіся *каму* (у 2 знач.); хоць ты крыжам ляж; хоць ты што *каму. [Максім:] Трахімка слязу пусціў, і я не вытрываў, размасліўся, а там.. а там, хоць лопні, нічога не ведаю!..* Купала. — *Хоць ты тут лопні — усё роўна не заснеш!— зазлаваўся ён.* Бядуля. *Перад вечарам прыйдзецца раскапаць к хляву снег, а тады прынесці нанач каню струшанкі, бо адно сена даваць, дык гэта ж не хопіць да вясны, — дык хоць ты лопні, пакуль выганіш скаціну на папас.* Каваль. *Гэта праз масла! Біў-біў я яго, а яно не збіваецца, хоць трэсні.* Чарнышэвіч. *Усе неспакойна ўздыхалі, шасталі саломай і напэўна не адзін у адчаі паціху казаў: «Эх, сам ад сябе, халера, нікуды не ўцячэш, не схаваешся, хоць ты трэсні!..»* Карпюк.
**2**. Абавязкова, нягледзячы ні на якія цяжкасці, абставіны і пад. **Сін**.: кроў з носа, а; любой цаной; <усімі> праўдамі і няпраўдамі; хоць з калена вылämі; што б там ні было. *На простай мове гэта азначала для Дзяніса, што ён павінен хоць лопні сваімі рухамі ўкласціся ў намечаныя секунды, якія на таблічцы, як малітва, вісяць над станком.* Пестрак. *Стайню восенню да першых замаразкаў скончыць трэба хоць лопні.* Каваленка.

*ЛОПНУЎ* • *Муж* **АБ'ЕЎСЯ ГРУШ <І ЛОПНУЎ>**. Гл. аб'еўся.

*ЛОЎЛЯ* • **ЛО́ЎЛЯ РЫ́БКІ Ў МУ́ТНАЙ ВАДЗЕ́**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Неадабр.* Выгаднае выкарыстанне чыіх-н. цяжкасцей, няўдач і пад. *Мяцельскі называў гэтую тактыку лоўляй рыбкі ў мутнай вадзе, але пры Змітровічу не гаварыў*

*нічога, бо не хацеў да часу падкрэсліваць, як разыходзіцца з ім у поглядах на асноўныя пытанні вытворчасці.* Радкевіч.

*ЛУБУ* • Ліць, ліцца, лінуць **ЯК З ЛУ́БУ**. *Акал. Разм.* Вельмі моцным струменем, суцэльным патокам. Аб праліўным дажджы. **Сін.**: як з вядра; як з рэшата (у 1 знач.). *[Хлопцы] уткнуліся галовамі ў вуголле, распласталіся па зямлі. А на спіны іх ліўся дождж як з лубу.* Маўр. *У першы дзень ліў дождж як з лубу. Сумны, глядзеў у акно начальнік будоўлі.* Мыслівец. *Дождж, які перад гэтым ліў як з лубу, спачатку падрабнеў, затым перастаў зусім.* Сіняўскі.

*ЛУЖУ* • **САДЗІЦЦА Ў ЛУЖУ**. Гл. садзіцца.
**САДЗІЦЬ У ЛУЖУ** *каго.* Гл. садзіць.

*ЛУЖЫНУ* • **ПЛЯСНУЦЦА <ТВАРАМ> У ЛУЖЫНУ**. Гл. плюхнуцца.
**САДЗІЦЦА Ў ЛУЖЫНУ**. Гл. садзіцца.
**САДЗІЦЬ У ЛУЖЫНУ** *каго.* Гл. садзіць.

*ЛУЗАЦЦА* • **ЛУЗАЦЦА СА СКУРЫ**. Гл. вылузвацца.

*ЛУЗГАЦЬ* • **ЛУЗГАЦЬ ЯК АРЭШКІ** *што.* Гл. лускаць.

*ЛУНАЦЬ* • **ЛУНА́ЦЬ У ПАДНЯБЕ́ССІ (У НАДХМА́Р'І, У ЭМПІРЭ́ЯХ)**. *Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Бясплённа марыць, не заўважаючы навакольнага. **Сін.**: будаваць паветраныя замкі. *Здаецца, з настаўнікам здарылася ў жыцці нешта надта благое, на ўсё ён глядзіць насмешліва, скептычна, думкамі лунае ў паднябессі, да класа, алгебры яму няма ніякай справы.* Навуменка. *[Русаковіч:] Ці не занадта змрочную карціну вы намалявалі? [Сухадольскі:] Я стаю на грэшнай зямлі, а не луною ў надхмар'і.* Крапіва. *Магчыма, падобныя пытанні і дакоры сапраўды не датычылі Валахановіча. Ён лунаў у эмпірэях і на зямлю адно спускаўся адпачываць.* Карпаў.

*ЛУНЬ* • **ЯК (ШТО) ЛУ́НЬ** сівы, белы. *Акал. Разм.* Зусім (сівы). **Сін.**: як голуб. *Увесь белы як лунь, ён сядзеў на абгарэлым бервяне на сваім папялішчы ў старым кажушку, схаваўшы рукі ў рукавы.* Пестрак. *Гасцей сустракае начальнік штаба злучэння Багун, маленькі, мітуслівы, увесь як лунь сівы.* Навуменка. *Сярод іх вылучаліся толькі Сядура Іван.. і валасны фельчар, увесь прапахлы ёдам, сівы як лунь дзед.* Лобан. *— Вот горачка, вот горачка, — цяжка ўздыхнула.. сівая што лунь бабка Параска.* Рыбак.

*ЛУПІЦЬ* • **ЛУПІ́ЦЬ СКУ́РУ (ШКУ́РУ, ДЗВЕ́ СКУ́РЫ, ТРЫ́ СКУ́РЫ)** *з каго. Незак. Разм. Неадабр.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна біць, лупцаваць каго-н. (звычайна дзяцей). **Сін.**: даваць волю рукам (у 1 знач.); лічыць зубы *каму, у каго;* палічыць рэбры *каму;* распускаць рукі (у 1 знач.). **ЗЛУПІЦЬ СКУРУ (ШКУРУ, ДЗВЕ СКУРЫ, ТРЫ СКУРЫ)** *з каго. Зак. «Ужо зноў нешта натварыў!— напала на яго маці. — Хай толькі прыйдзе бацька, ён з цябе скуру злупіць».* Машара. *[Сцяпан:] Ды з яго скуру трэба злупіць за такую выхадку!.. Ты яму патураеш, от ён і распусціўся.* Капусцін.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Браць празмерна вялікую плату за што-н., абіраць каго-н. **Сін.**: драць скуру *з каго* (у 2 знач.). *Да рэвалюцыі тут людзі жылі бедна. Малазямелле душыла селяніна. Кожны крывічанін ненавідзеў уладу, якая лупіла з яго тры скуры.* Сергіевіч. **ЗЛУПІЦЬ СКУРУ (ШКУРУ, ДЗВЕ СКУРЫ, ТРЫ СКУРЫ)** *з каго. Зак. Заплаціш Халусту па вэксалю, бо ўсё роўна ён з цябе шкуру злупіць.*

Чарнышэвіч. *[Максім:] Дык што, пане камендант, хочаце з мяне ўжо дзве скуры злупіць: каб я і штраф заплаціў і яшчэ за штэмпель грошы аддаў?* Козел.

*ЛУСКАЦЬ* • **ЛУ́СКАЦЬ (ЛУ́ЗГАЦЬ) ЯК АРЭ́ШКІ (АРЭ́ХІ)** *што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Лёгка спраўляцца з чым-н. У *такіх [белых] кашулях заўсёды хадзіў здаваць экзамены брат Вадзім. Лускаў іх як арэшкі, нязменна прыносячы адны пяцёркі.* Навуменка. *Такія міны на вучэбных занятках сапёр Брычкоўскі лузгаў як арэхі. Ён з заплюшчанымі вачамі даставаў з іх узрывальнікі.* «Звязда». *Сідараў, рашаючы красворд, усе пытанні як арэшкі лускае.* «Вожык».

*ЛУСТА* • **АДРЭЗАНАЯ ЛУСТА**. Гл. скіба.

*ЛЫЖКА* • **ЛЫ́ЖКА ДЗЁГЦЮ <У БО́ЧЦЫ МЁДУ>**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Нязначная, але непрыемная дробязь, якая псуе што-н. добрае. *Асобныя дзялянкі далі нават па 550 цэнтнераў клубняў з гектара. Ды знайшлася лыжка дзёгцю — тыя самыя падмерзлыя 7 гектараў, з якіх сабралі.. па 160 цэнтнераў.* «Полымя». *Калі мастацкі густ здраджвае аўтару, «адзінае слова» ператвараецца ў лыжку дзёгцю.* «Настаўн. газ.» *На жаль, не абышлося без лыжкі дзёгцю. Па-першае, кніжка не зусім удала аформлена.. Па-другое, у кнізе зашмат памылак...* Левановіч. *І яшчэ адна славутая лыжка дзёгцю ў бочцы мёду. Праўда, тут вінаваты ўжо не аўтар, а работнікі кніжнага гандлю, якія цяпер вызначаюць тыражы выданняў...* Мальдзіс.

*ЛЫЖЦЫ* • **У ЛЫЖЦЫ ВАДЫ ЎТАПІЦЬ** *каго.* Гл. утапіць.

*ЛЫЖЫ* • **ВАСТРЫЦЬ ЛЫЖЫ** *куды, адкуль.* Гл. вастрыць.

*ЛЫКА* • **ВО́ЎЧАЕ ЛЫ́КА**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Ваўчаягада (daphne L.) — ядавітая кусцікавая расліна з лілова-ружовымі кветкамі. *Густыя зараснікі ляшчыны і воўчага лыка праглынулі іх [дзяцей].* Караткевіч. *Набракалі пупышкі, цвілі алешыны і арэшнік, зацвітала воўчае лыка, за ліловыя кветкі названае ласкава і дакладна — лясны бэз.* Карпаў.

**ЛЫКА НЕ ВЯЖА**. Гл. вяжа.

**ЯК ЛЫКА ПРАДАЎШЫ**. Гл. прадаўшы.

*ЛЫКАМ* • **АДНЫМ ЛЫКАМ ШЫТЫЯ**. Гл. шытыя.

**ЛЫКАМ ШЫТЫ**. Гл. шыты.

**НЕ ЛЫКАМ ШЫТЫ**. Гл. шыты.

*ЛЫНДЫ* • **БІЦЬ ЛЫНДЫ**. Гл. біць.

*ЛЫПАЦЬ* • **ЛЫ́ПАЦЬ ВАЧА́МІ (-Ы́МА)**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Бяссэнсава, тупа глядзець (ад разгубленасці, здзіўлення, страху і пад.). *— Чаго лыпаеш вачыма? Пазбаўляю цябе чына! — крыкнуў цар.* Вітка.

**2**. Маўчаць, не разумеючы, не ведаючы, што сказаць, як адказаць. *— Вось на сход у мястэчка прыйдзецца ісці ў чацвер. Выставіла ты мяне тады дэлегаткай. — Дык і пойдзеш, што там такое. — І буду, як баран, вачыма лыпаць.* Крапіва. *Вось і атрымаеш «высокі ўраджай!» Лыпай тады вачыма перад людзьмі, што не выканалі сваё абавязацельства...* Рылько.

*ЛЫПНУЦЬ* • **ЛЫ́ПНУЦЬ ВАЧА́МІ (-Ы́МА, ВО́КАМ)**. *Зак. Аднакр. да* лыпаць вачамі. *Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн са знач. асобы. **1**. Бяссэнсава, тупа глянуць (ад разгубленасці, здзіўлення, страху і пад.). *Аўстрыец ад нечаканасці лыпнуў вачыма, нешта хутка-хутка загаманіў па-нямецку, замахаў рукамі і сунуўся да хлопца.* Быкаў.

**2**. Замоўкнуць, не разумеючы ці не ведаючы, што сказаць, як адказаць. *Чыноўнік толькі лыпнуў вокам і павярнуўся к дзядзьку бокам ды водзіць пёркам па «бумазе»*... Колас.

*ЛЫС* • **<І> НЕ ЛЫ́С**. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Ніяк не рэагуе, не звяртае ніякай увагі на што-н. **Сін**.: і вокам не вядзе; і вухам не весці; <і> у вус <сабе> не дзьмуць; не шманае; хоць бы хны (у 1 знач.); хоць бы што (у 1 знач.). *Вось і гадай аб заработку — усё забраў пан і не лыс.* Колас. *А Грамабой — што ён цяпер скажа? Ён рад, што ёсць на каго скласці віну. Усё роўна як пад руку тарканув, а сам і не лыс.* Крапіва. *[Цімок:] Ён тут лесніка аднаго забіў. А ён і не лыс: жыве сабе, па сушнях ды па пільнях перахоўваецца.* Лобан.

**ЯК <І> НЕ ЛЫ́С**. *Акал. Разм.* Быццам нічога не здарылася; не зважаючы на тое, што адбылося. **Сін**.: як ні ў чым не бывала; як нічога не было. *Сашка як і не лыс зусім нечакана зноў з'явіўся да хлопцаў з другога канца вуліцы.* Машара. *Пачуў дзед, схамянуўся, хуценька бомбы схаваў за пазуху і як не лыс Міколку падміргнуў.* Лынькоў.

*ЛЫСАГА* • **ЧОРТА ЛЫСАГА**. Гл. чорта.

*ЛЫСАМУ* • **ВЫДРАЦЬ ЛЫСАМУ ВАЛОССЕ**. Гл. выдраць.

*ЛЫСЫ* • **ЧОРТ ЛЫСЫ**. Гл. чорт.

*ЛЫТКІ* • **ЖЫ́ДКІ ЛЫ́ТКІ** *ў каго. Адз. не ўжыв. У безас. ужыв. Прост.* Не хапае сіл, здольнасцей зрабіць, ажыццявіць што-н. **Сін**.: аслаблі гайкі *ў каго* (у 2 знач.); кароткі завароткі *ў каго, чые;* кішка тонкая *ў каго;* кораткі пяты *ў каго;* не адтуль растуць рукі *чые, у каго;* пораху не хапае *ў каго;* рукі кароткія *ў каго. — Прэч адсюль! Каб духу твайго не было! — Не ты мяне сюды паслаў, не ты і прагоніш... А толькі, дзед, супраць прагрэсу не папрэш. Жыдкі лыткі! І ў цябе, і ў тваіх кляч!* «Полымя».

**ЛЫТКІ ДРЫЖАЦЬ** *у каго.* Гл. калені.

*ЛЬВІНЫ* • **ЛЬВІНЫ ЗЕЎ**. Гл. зеў.

*ЛЬЕ* • **ДОЖДЖ ЗА КАРАК НЕ ЛЬЕ**. Гл. дождж.

*ЛЬЕЦЦА* • **КРОЎ ЛЬЕЦЦА** *дзе, чыя, за каго, за што.* Гл. кроў.

*ЛЮБА* • **ЛЮ́БА-ДО́РАГА**. *Акал. Разм.* Вельмі добра, вельмі прыемна. **Сін**.: будзь-будзь (у 1 знач.); будзь здароў (у 1 знач.); дай бог (у 1 знач.); дай бог кожнаму (у 2 знач.); дзякуй богу (у 1 знач.); за маё-маё (у 1 знач.); за маліну (у 2 знач.); з бляскам (у 1 знач.); кум каралю <і сват міністру> (у 3 знач.); на дзіва (у 2 знач.); на поўнае вока; на пяць з плюсам; на славу (у 1 знач.); на ўсе сто (у 2 знач.); на яць (у 1 знач.); разлюлі-маліна (у 2 знач.); слава богу (у 1 знач.); хвала богу (у 1 знач.); хоць куды (у 2 знач.); што трэба (у 1 знач.); як не трэба лепш. — *Прагуляцца ў бліжэйшы лясок.. і там правесці дзень. Люба-дорага! — Люба-дорага, але не ўсім.* Гурскі. *У цябе свая дарога, Юрок. З тваімі здольнасцямі інжынерам будзеш, што люба-дорага!* Карпюк. *На ўроках ён [Смык] не слухаў настаўнікаў, рабіў толькі разумныя вочы, каб думала што слухае, а сам увесь час пад партай «прывучаў» свае буркі быць гармоністымі. Выйшла люба-дорага паглядзець.* Сяркоў.

*ЛЮБІМАГА* • **САДЗІЦЦА НА СВАЙГО <ЛЮБІМАГА> КАНЬКА**. Гл. садзіцца.

*ЛЮБОЙ* • **ЛЮБОЙ ЦАНОЙ**. Гл. цаной.

*ЛЮДЗЕЙ* • **НА ЛЮДЗЕЙ ПАГЛЯДЗЕЦЬ І СЯБЕ ПАКАЗАЦЬ**. Гл. паглядзець.

**ПРЫ ЦАРУ ГАРОХУ КАЛІ (ЯК) ЛЮДЗЕЙ БЫЛО ТРОХУ**. Гл. цару.

*ЛЮДЗІ* • **ВЫБІВАЦЦА Ў ЛЮДЗІ**. Гл. выбівацца.

**ВЫВОДЗІЦЬ У ЛЮДЗІ** *каго.* Гл. выводзіць.

**ВЫХОДЗІЦЬ У ЛЮДЗІ**. Гл. выходзіць.

**ІСЦІ Ў ЛЮДЗІ**. Гл. ісці.

**ЛЮ́ДЗІ НО́Ч РАЗБЯРУ́ЦЬ (РАСХО́ПЯЦЬ)**. *У безас. ужыв. Разм.* Не будзе калі паспаць з-за чаго-н. — *Можна пачынаць, а то пакуль мы збяромся, дык людзі ноч разбяруць, — адказалі некалькі галасоў.* Крапіва. *[Адась:] Ну, пойдзем адсюль, бо зараз і ноч разбяруць людзі.* Козел. — *Браточкі, — гукаў Нічыпар, — гэта ж людзі ноч расхопяць, а мы ўсё спрачаемся...* Чарот.

**НА ЛЮ́ДЗІ**. *Акал. Разм.* У кампанію з іншымі, туды, дзе прысутнічаюць іншыя (ісці, выйсці, паказвацца і пад.). *Дагэтуль ён [Пятро] неяк саромеўся паказвацца на людзі, а тут смела пайшоў па вуліцах вёскі, заглядваючы ў вокны.* Шамякін. *Хадзіць [хворы] стараўся загуменнямі, каб не дужа вытыркацца на людзі.* Гіль. *[Лука:] Не магу з імі. Сорам перад калгасам. На 1 Мая нават на людзі саромеўся выйсці.* Марчук.

**ПАЙСЦІ Ў ЛЮДЗІ**. Гл. пайсці.

**У ЛЮ́ДЗІ** *аддаваць, выпраўляць, ісці* і пад. *Устар. Акал. Разм.* На работу па найму; у парабкі. *Роднай матцы сэрца ў грудзях злёгку затраслося: «Ці не хоча аддаць у людзі?» — у думках пранеслося.* Колас. *[Маці] усё адкладала, усё чакала якой перамены. А потым і сына выправіла ў людзі. Засталася ў сваёй хаце адна.* Гарэцкі. *З самага ранку сабрала Ніна свой клунак, надумалася сёння пайсці ў горад... А можа, і выйдзе што, мо лепей будзе, калі пойдзе ў людзі.* Галавач.

*ЛЮДЗЬМІ* • **ЛЮДЗЬМІ ЗВАЦЦА**. Гл. звацца.

*ЛЮДЗЯМ* • **НІ САМОМУ ПАГЛЯДЗЕЦЬ НІ ЛЮДЗЯМ ПАКАЗАЦЬ**. Гл. паглядзець.

*ЛЮДЗЯХ* • **НА ЛЮДЗЯ́Х**. *Акал. Разм.* У кампаніі з іншымі, сярод людзей (бываць, паводзіць сябе і пад.). **Сін.**: у міру. *З Славай разам яна [Зося] старалася часцей бываць на людзях — гэта была ёй разрыўка.* Чорны. *Жывучы тут калісьці, Андрэй, вядома, спрабаваў змагацца з бязладдзем, угаворваў і паказваў прыкладам, як сябе паводзіць на людзях і дома.* Брыль.

*ЛЮДСКОГА* • **ПАЎТАРА ЛЮДСКОГА**. Гл. паўтара.

*ЛЯГЧЭЙ* • **ЛЯГЧЭ́Й НА ПАВАРО́ТАХ**. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Будзь асцярожны ў выказваннях ці ўчынках. Як папярэджанне, перасцярога. — *Што ў вас асталося цяпер? — Паўтара дзесятка вось гэтых абібокаў. — Ну, ты памалу, лягчэй на паваротах! — агрызнуўся Сомік.* Лынькоў. — *Таты з папругай няма на цябе. Каб узяў галаву паміж ног ды ўсыпаў добры перабор... — Ну, ну, лягчэй на паваротах!* Брыль. *Я табе не Леначка, са мной лягчэй на паваротах...* Новікаў. — *З людзьмі табе нельга! — Ты давай лягчэй на паваротах! — павысіў голас Юзік, зараз па-сапраўднаму раззлаваўшыся.* Кажадуб.

*ЛЯД* • **НА ЯКІ́ ЛЯ́Д** *каму хто, што. Акал. Прааст.* Навошта, для чаго. **Сін.**: да д'ябла (у 3 знач.); на ліха; на халеру; на хваробу; на храна; на чорта; на які хрэн; на які чорт; на якога чорта; на якое ліха; на якую трасцу; на якую халеру; якога ліха (у 1 знач.); якога ражна (у 1 знач.); якога хрэна (у 1 знач.); якога чорта (у 1 знач.). — Спытайся спачатку, ці прымем мы цябе, — не сунімаўся Юрка. — Праўда, хлопцы? На які ляд нам чужыя патрэбны. Асіпенка. *На які ляд мне гэтая абстрактнасць? Я маю справу не з наро-*

*дам, а з Паўловічам, Сцёпкам, з самім сабой, нарэшце.* Радкевіч. — Вось бы мне такую машыну, хоць на паўмесяца. — На які ляд яна табе? — спытаўся Максім. Кудравец. — Хату хоць дарабіў? — Дарабіў... На які ляд яна мне здалася толькі. Казько. *На які ляд ёй тая работа? Што, есці не хапае?* Гіль. *А ўсё ж, хлопцы, на які ляд вам кухарка?* Масарэнка.

*ЛЯДНІ* • **ЯК ЛЯДНІ́**. *Абл. У знач. прэдык. азн. Разм.* Вельмі халодныя (рукі, ногі). *Быў дождж, сцюдзёна, я туляўся па надвор'ю. Дворнічыха ратавала. Яна ўзяла, грэла, гарбатай паіла. — Ногі як лядні... Дзеткі мае...* Гарэцкі. [Лядзень (мн. лядні) — лядзяк. *Лепешаў*, с. 89: як лядні.]

*ЛЯЖ* • **ХО́ЦЬ ТЫ́ КРЫ́ЖАМ ЛЯ́Ж**. *Толькі ў гэтай форме. Акал. Разм.* Нягледзячы ні на якія старанні, намаганні; што ні рабі (не атрымліваецца што-н.). **Сін.**: хоць на кавалкі разрывайся; хоць памры; хоць разарвіся *каму* (у 2 знач.); хоць ты лопні (у 1 знач.); хоць ты што *каму*. *Вось гэтакі быў аб'ездчык. Прычэпіцца, гад, дык хоць ты крыжам ляж, а не зліт уецца.* Лёсік.

*ЛЯЖАЧАГА* • **ЛЯЖАЧАГА НЕ Б'ЮЦЬ**. Гл. б'юць.
**НЕ БІ ЛЯЖАЧАГА**. Гл. бі.

*ЛЯЖАЦЬ* • **ЛЯЖА́ЦЬ НА БАКУ́**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нічога не рабіць, гультаяваць. **Сін.**: абіваць бакі (у 2 знач.); адлежваць бакі (у 2 знач.); акалочваць (акалачваць) грушы <з вербаў>; біць байды; біць бібікі; біць лынды (у 1 знач.); біць тылылы; брынды біць; валяць дурня (у 2 знач.); вераб'ям дулі паказваць; ганяць сабак <*па чым*>; корчыць гультая; лічыць варон (у 2 знач.); пляваць у столь; сабакам сена касіць (у 1 знач.); сачка давіць. — *Трэба чарвяка замарыць, — абазваўся і ён [Іван]. — Не ляжалі ж на баку — на цэлы стог палажылі травы...* М.Капыловіч. — *А суседзі твае там як? — Ды і суседзі на баку не ляжаць.* Ермаловіч. — *Можа, яно і лягчэй будзе.. — разважае бабка. — Але я з такім, як Сапун Якаў, не хачу рабіць у тым калгасе, бо я буду надрывацца, а ён ляжацьме на баку або ў карчме сядзецьме...* Каліна.

**ЛЯЖА́ЦЬ НА ПАВЕ́РХНІ**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. **Сін.**: на паверхні. Быць у такім стане, што няцяжка заўважыць, выкарыстаць, усвядоміць. *Пісаць пра тое, што, як кажуць, ляжыць на паверхні, што з'яўляецца вельмі ўжо відавочным, не варта. Сумны будзе такі твор.* Шамякін. *Дзіўна, але чамусьці благое само лезе ў вочы. Яно ляжыць на паверхні. Зотое добрае як бы схавана ў чалавеку.* Асіпенка. *Аўтар гатоў прапанаваць чытачам заняцца падлікамі, зыходныя дадзеныя для якіх ляжаць на паверхні.* «Звязда».

**ЛЯЖА́ЦЬ НА ПЛЯЧА́Х** *чыіх, каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Быць прадметам чыіх-н. клопатаў. **Сін.**: вісець на плячах (у 2 знач.). *Вынаходства рабілася нібы калектыўным. Але ўсё роўна асноўная частка работы ляжала на Андрэевых плячах.* Шахавец. *Яна ж нас усіх павыгадоўвала, была для нас не толькі за сястру старэйшую, але і за матку. Уся ж тады работа на яе плячах ляжала...* Чорны.

**ЛЯЖА́ЦЬ НА СЭ́РЦЫ** *ў каго, каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Быць прадметам затоеных турбот, пастаяннай трывогі, роздуму і пад. *Банадыся ж бы й не дбала, ёсць жаніх ёй ці няма, толькі іншы раз, бывала, нойдзе нейкая дума, і на твар бы клопат ляжа, цень па вочках прабяжыць, але й мацеры не скажа, што на сэрцы тым ляжыць.* Колас. *Я сам — інжынер па прафесіі.. і мне на сэрцы ляжыць, што ў павеце няма дарог.* Пестрак.

**ЛЯЖА́ЦЬ ПАД СУКНО́М**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Заставацца без увагі, без разгляду, рэалізацыі. *Затым я напісаў заяву... Але заява ляжыць пад сукном. Калі ласка, дапамажыце разабрацца.* «Звязда». *Пяць гадоў.. аблвыканком і міністэрства.. ніяк не могуць дамовіцца, якой будаўнічай арганізацыі даручыць рэканструкцыю будынкаў, і гатовая праектна-каштарысная дакументацыя ляжыць пад сукном.* «Вожык».

**ЛЯЖА́ЦЬ У <СЫРО́Й> ЗЯМЛІ́ (ЗЯМЕ́ЛЬЦЫ, ПЯСКУ́)**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць мёртвым; быць пахаваным. **Сін.**: загрымець касцямі (у 1 знач.); злажыць <свае> косці; знайсці сабе магілу *дзе;* класці галаву *за каго, за што дзе;* легчы касцьмі (у 1 знач.); легчы трупам; навярнуць галавой; накладваць галавой; памінай як звалі (у 1 знач.); парыць зямлю; парыць косці *дзе;* парыць у зямлі косці, спаць вечным сном; спаць у сырой зямлі; яму засквaрыць. — *Ах, Ігнат, Ігнат, шчаслівейшы ты за нас, ляжыш у сырой зямлі і нічога не бачыш, — гаворыць сама сабе Аўдоцця.* Пестрак. *[Ярашэвіч:] Ну, тады і я буду гаварыць з табою ад імя майго пакалення. Улічы: палова нас ляжыць у сырой зямлі і я буду гаварыць ад іх імя.* Васілеўскі. *[Агата:] Унучак мой любы! Пакутнік мой... Ляжыш ты, саколік, у сырой зямельцы...* Крапіва. *Каму ляжаць у зямлі, а каму пашэнціла нават і прыфранціцца: глядзі, які ладны, нібы дэсантнік.* Быкаў. *Калі ўжо бацьку яе [Амілі] вайна забрала, колькі ўжо гадкоў Адаська, чалавек яе, у зямлі ляжыць...* Лялько. *У купца-малайца купчанят цэлы куш. — А дзе ж ваша матка? — Ляжыць у пяску.* Бічэль-Загнетава.

*ЛЯЖЫЦЬ* • **ДРЭ́ННА (КЕ́ПСКА) ЛЯЖЫ́ЦЬ (ЛЯЖА́ЛА)**. *У знач. безас. вык. дадан. часткі. Разм.* Лёгка можна забраць, прысвоіць, украсці. — *Гадоў пад шэсцьдзесят будзе, а лазіць па яблынях, як малпа, — сказаў Сцяпан. — І ўсё з-за чаго? Каб узяць сабе тое, што дрэнна ляжыць...* Дайнека. *[Сіпак] не прапускаў зручнага выпадку, каб цягнуць з калгаса ўсё, што часам дрэнна ляжала.* Лынькоў. *Апошнія гады ён [Бугед] матаўся з месца на месца, шукаў, дзе праца лягчэй, а рубель даўжэй. Краў, што кепска ляжала.* Шыцік.

**ДУША́ НЕ ЛЯЖЫ́ЦЬ** *чыя, у каго, каго.* Гл. душа.

**КА́МЕНЕМ ЛЯЖЫ́ЦЬ (ЛЯЖА́ЛА) НА СЭ́РЦЫ (НА ДУШЫ́)** *чым. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Выклікае вялікія пакуты. *Косцік заўважыў: Карзюкоў твар у вялікім смутку. Каменем на яго сэрцы ляжала, напэўна, Марысіна гора.* Баранавых. *[Фартушнік] уздыхнуў і вельмі выразны зрабіў выгляд, што яму цяжка гаварыць пра тыя рэчы, якія каменем ляжаць на Хурсавай душы.* Чорны. *Гачык, нечакана для самога сябе выказаўшы тое, што каменем ляжала на душы, здавалася, паспакайнеў, змрочна ўзіраўся на вокны хат.* Левановіч.

**ЛЯЖЫЦЬ АДБІТАК** *чаго на чым.* Гл. пячаць.

**ЛЯЖЫЦЬ ПЯЧАЦЬ** *чаго на чым.* Гл. пячаць.

*ЛЯЗА* • **НА ВАСТРЫІ ЛЯЗА**. Гл. вастрыі.

*ЛЯЗЕ* • **ХАДЗІЦЬ ПА ЛЯЗЕ**. Гл. хадзіць.

*ЛЯЙЧЫНА* • **ЛЯЙЧЫ́НА (ЛЕ́ЙЧЫНА) ПАД ХВО́СТ ПАПА́ЛА (ПАПАДЗЕ́; ТРА́ПІЛА, ТРА́ПІЦЬ)** *каму. У безас. ужыв. Праст. Неадабр.* Хто-н. вядзе сябе вельмі неўраўнаважана, праяўляе ўпартасць, самадурства. *Ну, то што там у цябе з жонкай? Расказвай. Што там ёй ляйчына зноў пад хвост папала.* «Маладосць». *Разумны ты ды малайчына да той пары, пакуль ляйчына не пападзе табе пад хвост...* Крапіва. *Сёння такая ахвота ў вас, а заўтра, глядзіш, другая. А раптам вам лейчына якая пад хвост трапіць?* Чыгрынаў.

*ЛЯЛЬКА* • **ЧО́РТАВА ЛЯ́ЛЬКА**. *Часцей адз. Звычайна ў ролі зваротка ці прыдатка. Праст.* Часцей ужыв. як лаянкавы выраз. Гарэза, капрызнік. Звычайна пра жанчыну. *Як скончыўся вальс, Кандрат Сідаравіч адышоў убок і скрыгатнуў зубамі: пачакай жа, чортава лялька, пабачу, што ты пасля заспяваеш!* Лупсякоў. *— А як жа, тата! Мяне ж так вучаць! Дома... У школе... — Пакінь крыўляцца, чортава лялька!* Шамякін. *Яна адбеглася, і ён зразумеў, што не дагоніць яе. Тады ён раззлаваўся. Чортава лялька, нават дакрануцца да яе нельга!* Асіпенка.

**ЯК ЛЯ́ЛЬКА**. *Вык. і азн. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш. ці канкр. прадмета. Вельмі прыгожы, прывабны. *Кароўкі вашыя ідуць. Адна ў адну, няўрокам кажучы, як лялькі..* Брыль. *Дамок быў трэці ад ракі з правага боку, абмаляваны і пафарбаваны. Як лялька дамок.* Лобан. *А прыжывешся, па сваёй спецыяльнасці-кваліфікацыі рабіць пойдзеш, збяром помачы і хату табе як ляльку адгрукаем.* Грахоўскі. *Ды ў мяне, Сцяпан Міронавіч, коні будуць як лялькі!* Рылько. *Гародзік — як лялька, проста рай з яго маленькі зрабіў. Памідоры, гурочкі, сад — голле ломіцца...* Ракітны.

*ЛЯМАНТ* • **<МА́РНЫ> ЛЯ́МАНТ (ГО́ЛАС) У ПУСТЫ́НІ**. *Мн. не ўжыв. Часцей вык. Кніжн.* Дарэмныя заклікі да чаго-н., якія застаюцца без увагі. *А я нічым не магу дапамагчы вечнасці, акрамя вечнага паўтарэння аднаго і таго ж, вечнага закліку да сумлення братоў. Заклікання, якое часам бывае марным лямантам у пустыні.* Караткевіч. *Развагі і довады Янінага дзеда былі голасам у пустыні.* Ветах.

*ЛЯМКУ* • **ЦЯГНУЦЬ ЛЯМКУ** <*каго, чаго*>. Гл. цягнуць.

*ЛЯМПАЧКІ* • **ДА ЛЯ́МПАЧКІ** *каму. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Абсалютна нічога не значыць для каго-н., не заслугоўвае ніякай увагі. **Сін.**: да аднаго месца *каму*; да фені *каму*; ні ішоў <і> ні ехаў *каму;* па барабану *каму;* трын-трава *для каго, каму. Не сцерпіць малады чытач: «Расчуліўся без дай прычыны. А мне да лямпачкі, прабач, твой дзедаўскі кажух аўчынны!»* Вітка. *Гэтыя ж, як ты кажаш, жэўжыкі табе да лямпачкі.* Праскураў. *[Ганчар:] Спяшаешся ў Маскву, каб скарыстаць там усё для сваёй карысці. Дзяржаўная справа — табе да лямпачкі.* Маўзон. *[Эма] адчувае, што сваім маўчаннем Сярожа як бы хоча ёй сказаць: «А да лямпачкі мне тваё піяніна...»* Гігевіч.

*ЛЯП* • **ЦЯП ДЫ ЛЯП**. Гл. цяп.

*ЛЯСКАЦЬ* • **ЛЯ́СКАЦЬ ЗУБА́МІ**. *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адчуваць моцны голад; недаядаць, галадаць. **Сін.**: класці зубы на паліцу; смактаць лапу; сядзець на хлебе і <на> вадзе. *Напрадвесні кожнаму гаспадару карціць такі клопат. Не прапала [жыта] — будзеш з хлебам і да хлеба, сапрэла ці змерзла — будзеш ляскаць сам зубамі, будзе без вобмешкі і быдла.* Далідовіч. [Васіль:] *Век зубамі.. ляскаць будзе ды голым целам свяціць!..* Мележ.

*ЛЯСНУЦЦА* • **ЛЯСНУЦЦА <ТВАРАМ> У ЛУЖЫНУ**. Гл. пляснуцца.

*ЛЯСЫ* • **ПАТАЧЫЦЬ ЛЯСЫ** <*з кім*>. Гл. патачыць.

**ТАЧЫЦЬ ЛЯСЫ** <*з кім*>. Гл. тачыць.

*ЛЯТАЦЬ* • **ВЫСО́КА ЛЯТА́ЦЬ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Займаць значнае становішча ў жыцці, грамадстве. **Ант.**: мелка плаваць (у 2 знач.). **ВЫСОКА ЎЗЛЯЦЕЦЬ**. *Зак. Віктар глядзеў на пешчаны прыгожы твар Яцэнкі і думаў: «Яму доб-*

*ра. Усё ў яго гладка. Мусіць, толькі крыху старэйшы за мяне, а глядзі ж ты, як высока ўзляцеў — начальнік поезда!»* Кобец-Філімонава.

*ЛЯТУ* • **ЛАВІЦЬ НА ЛЯТУ** *што*. Гл. лавіць.

**НА ЛЯТЎ**. *Акал. Разм.* Тут жа, адразу. **Сін**.: з ходу (у 2 знач.); на хаду (у 2 знач.). — *Што ж, нам ці што ў партызаны ісці? — запытаў Кандрат. Разважлівы Бруй на ляту падхапіў думку: — А ты кажаш праўду. Не пашкодзіла б нам сваіх партызанаў мець.* Колас. *Вейс.. прызвычаіўся да ліслівых позіркаў увішных падначаленых, якія гатовы кожную хвіліну падхапіць на ляту тваю думку, намёк.* Лынькоў.

**ХАПАЦЬ НА ЛЯТУ** *што*. Гл. хапаць.

*ЛЯТУЧАЯ* • **ЛЯТУЧАЯ МЫШ**. Гл. мыш.

*ЛЯЦЕЦЬ* • **ЗАВЫСÓКА ЛЯЦÉЦЬ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Трымаць сябе высакамерна, фанабэрыста. **Сін**.: драць нос; задзіраць хвост; капыліць нос; несці сябе высока; паднімаць хвост; распускаць <павіны> хвост; хварэць на пана (у 2 знач.).

**ЛЯЦÉЦЬ НА КРЫ́ЛАХ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі хутка і з вялікай радасцю бегчы, ехаць куды-н. *Леанора хутка вярнулася і паведаміла з тым жа дзіўным смяшком: — Ветка ляціць на крылах.* Шамякін. *Дамоў Саша ляціць на крылах.* Навуменка. **ПАЛЯЦЕЦЬ НА КРЫЛАХ**. *Зак. — Мяне пасылаюць у Маскву... — Гэта ж каб мяне, я паляцела б на крылах...* Гурскі. *— А табе хочацца дамоў? — Каб мог, здаецца, на крылах паляцеў бы...* Левановіч.

*ЛЯЦІЦЬ* • **<ТОЛЬКІ> ПУХ ЛЯЦІЦЬ** *ад каго, з каго*. Гл. пух.

*ЛЯЦЯЦЬ* • **<УСЕ> ШЫШКІ ЛЯЦЯЦЬ** *на каго*. Гл. шышкі.

*ЛЯШЧА* • **ДАЦЬ ЛЯШЧА**. Гл. даць.

**ЗАПУСКАЦЬ ЛЯШЧА**. Гл. запускаць.

**ДАВЕДАЧНАЕ ВЫДАННЕ**

**Лепешаў Іван Якаўлевіч**

Слоўнік фразеалагізмаў

У 2 тамах

Том 1

А—Л

Рэдакцыйная падрыхтоўка выдання:

*А.М.Коршак, Г.М.Малей, І.М.Маркава, Т.Ф.Рослік, І.Л.Чэбан*

Мастак *Г.А.Касцючэнка*

Мастацкі рэдактар *І.А.Грынь*

Карэктары: *В.А.Кульбіцкая, Д.Дз.Лемехава, В.М.Чудакова*

Камп'ютэрная падрыхтоўка выдання: *Р.У.Дзявочка, Н.М.Зубкевіч, І.М.Кузьмянкова, Н.У.Мітраховіч, Т.М.Саленік, А.Л.Шалканаўцава*

Падпісана да друку 27.2.2008. Фармат 70 × 100 1/16. Гарнітура Ньютан. Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 54,6. Ум. фарб.-адб. 56,55. Ул.-выд. арк. 62,16.
Тыраж 2000 экз. Заказ 707.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0131958 ад 25.5.2007 г. Рэспубліка Беларусь. 220012, Мінск, завулак Калініна, 16.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў Адкрытым акцыянерным таварыстве «Паліграфкамбінат імя Я.Коласа». Рэспубліка Беларусь. 220600, Мінск, вул. Чырвоная, 23.

**Лепешаў, І.Я.**

**Л 48** Слоўнік фразеалагізмаў. У 2 т. Т. 1. А—Л / І.Я.Лепешаў. — Мінск: Беларус. Энцыклапедыя імя П.Броўкі, 2008. — 672 с.

ISBN 978-985-11-0403-7.

У слоўніку даецца апісанне каля 7 тысяч фразеалагізмаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Кожны з іх атрымлівае граматычную, стылістычную і семантычную характарыстыку. У апошнюю ўваходзяць тлумачэнне фразеалагізма, адлюстраванне яго мнагазначнасці, варыянтнасці, сінанімічнай і антанімічнай сувязей. Слоўнік прызначаны для спецыялістаў-мовазнаўцаў, пісьменнікаў, журналістаў, настаўнікаў, студэнтаў, усіх, хто цікавіцца беларускай мовай.

**УДК 808.26(091)(038)**
**ББК 81.2(4Беи)**